


Беларускі інстытут навукі й мастацтва




**Бібліятэка Бацькаўшчыны**

Міжнароднае грамадскае аб’яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 22

НАТАЛЛЯ ГАРДЗІЕНКА, ЛЯВОН ЮРЭВІЧ

# РАДА БНР 1947-1970

## ПАДЗЕІ.ДАКУМЕНТЫ.АСОБЫ

Мінск
«Кнігазбор»
2013

УДК 329(476)“1947/1970”(093.2)
ББК 66.68(4Беи)
Г20

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны» заснавана МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» ў 2004 годзе*

Рэцэнзент
Юры Грыбоўскі,
*доктар гістарычных навук*

Кніга выдаецца сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

Аўтары і МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» выказваюць падзяку Беларуска-амерыканскаму грамадскаму цэнтру «Полацак» (ЗША) і Згуртаванню беларусаў у Вялікай Брытаніі за дапамогу ў выданні кнігі.

**Гардзіенка, Н.**
Г20 Рада БНР (1947–1970) : Падзеі. Дакументы. Асобы / Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 648 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 22).

ISBN 978-985-7089-07-9.

Кніга «Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы» (22-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») прысвечана 110-м угодкам з дня нараджэння першага Прэзідэнта паваеннай Рады БНР Міколы Абрамчыка (1903–1970). Змест выдання складаюць матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю арганізацыі: пратаколы, дакументы, ліставанне, бібліяграфія, хроніка, біяграфічныя нарысы асобных дзеячаў. У гістарычным нарысе зроблена спроба асэнсавання асноўных напрамкаў гісторыі Рады БНР першых паваенных дзесяцігоддзяў. Кніга ўяўляе сабой першую спробу рэпрэзентацыі матэрыялаў эміграцыйнай дзейнасці Рады БНР.

**УДК 329(476)“1947/1970”(093.2)**
**ББК 66.68(4Беи)**

**ISBN 978-985-7089-07-9**

## АД АЎТАРАЎ

Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі было адной з ключавых падзеяў у айчыннай гісторыі XX ст. З часам яно набыло сімвалічны сэнс у нацыянальнай інтэлектуальнай прасторы. БНР не маглі ігнараваць нават яе ідэйныя апаненты. Тым больш дзіўна, што ад часоў нацыянальнага Адраджэння пачатку 1990-х, калі гэтая тэма стала адной з самых папулярных у даследчыкаў, і да сёння так і не было зроблена абагуленай працы па гісторыі БНР. Ёсць грунтоўнае выданне «Архівы БНР»[1], ёсць асобныя публікацыі пра падзеі і дзеячаў, з'явілася польская (а не беларуская) манаграфія[2], але далей за 1920-я гг. агляд падзеяў не сягае. Сама сучасная Рада БНР, на жаль, таксама не парупілася, каб укласці гісторыю хоць бы сваёй дзейнасці на эміграцыі.

Сёлета спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння першага паваеннага Прэзідэнта Рады Міколы Абрамчыка (1903–1970). Гэтую нагоду і скарысталі мы, каб нарэшце запачаткаваць напісанне гісторыі Рады.

Кніга складзеная найперш на падставе матэрыялаў са збораў Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк). Як трапілі дакументы Рады БНР у гэтую ўстанову, згадаў дырэктар БІНІМ Вітаўт Кіпель:

*«Апрацоўваючы Пратаколы сэсіяў і інш. матэрыялы зь дзейнасьці БНР эмігранцкага пэрыяду, трэба зазначыць, што ў БІНіМ, для перахаваньня, матэрыялы траплялі «пачкамі» з розных крыніцаў: 1) некаторыя матэрыялы (магчыма, і арыгіналы) былі ў др. В. Тумаша; 2) вельмі шмат дакумэнтаў, пераважна пратаколаў сэсіяў БНР, былі перададзеныя БІНіМу сп. В. Кажаном у часе, калі мы апрацоўвалі хрэстаматыю-бібліяграфію «Беларуская Дзяржаўнасьць — Byelorussian Statehood» (1988), хоць, праўда, бібліяграфічны й біяграфічны дадаткі ў той кнізе базуюцца ня толькі на матэрыялах БІНіМу, але ўзятыя з каталёгаў розных бібліятэк, улучна зь бібліятэкамі Гельсінкі, Жэнэвы і інш.; 3) вялікую долю бэнээраўскіх матэрыялаў перадаў БІНіМу сп. А. Каханоўскі; 4) ёсьць у БІНіМаўскіх калекцыях і матэрыялы — асобныя лісты, адозвы і пад., якія трапілі ад др. Я. Запрудніка, др. Ст. Станкевіча ды сп-роў М. Кунцэвіча і А. Шукелойця.*

*Усе названыя асобы былі сябрамі БІНіМу, хоць А. Каханоўскі ў нейкім часе перастаў лічыць сябе сябрам БІНіМу, але вельмі супрацоўнічаў, асабліва ў падрыхтоўцы да друку твораў А. Саковіч. Усе «донары» моцна жадалі, каб некалі тыя матэрыялы былі выдрукаваныя. […]*

---

1 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. I. Кн. 1–2. Вільня; Нью-Ёрк; Менск; Прага, 1998. — 1721 с.

2 Michaluk, Dorota. U podstaw białoruskiej państwowości. Toruń, 2010. — 600 s.

*Тут я ўважаю патрэбным прыпомніць некаторыя дэталі ў маіх з Каханоўскім (да эміграцыі Калубовічам) дачыненьнях і мамэнт перадачы ім дакумэнтаў БНР у БІНіМ.*

*Аўгена Калубовіча як палітычнага дзеяча мне даводзілася бачыць у Менску на розных культурных імпрэзах у часе нямецкай акупацыі, а аднойчы нас, дзесятак-два школьнікаў, на адной з урачыстасьцяў «прадстаўлялі» яму й Ю. Сабалеўскаму ў БНС.*

*Бліжэй з А. Калубовічам я сутыкнуўся ў эшалоне, калі мы выяжджалі-ўцякалі зь Менску ў 1944 годзе. Знаёмства-гутарка адбылася на мясьціне, дзе эшалон нарваўся на міну й нейкі час мы там затрымаліся. Некаторыя людзі з эшалону пайшлі ў вёску Скрыбоўцы, у тым ліку і я, каб нешта выменяць на прадукты. Варочаючыся, я сутыкнуўся з А. Калубовічам, і ён распытваў мяне, што ў вёсцы можна купіць. Вось гэткія «шапачныя» знаёмствы» зь ім адбыліся на Бацькаўшчыне.*

*Але ў далейшым супольным эміграцкім беларускім шляху-дзейнасьці сталася так, што Калубовіч выйшаў непасрэдна на блізкі кантакт са мной. Адбылося гэта ў г. Познані летам 1944 году, дзе, пасьля эвакуацыі зь Менску, меркавала атайбавацца сядзіба БЦР.*

*У Познані апынулася (прыехалі з Бэрліну) значная частка сяброў БЦР, улучна із маім бацькам (маці і я былі разам з бацькам), і сядзіба Рады мела там фармавацца. Але вельмі хутка пляны БЦР зьмяніліся, і з Познані актыву БЦР трэба было выяжджаць назад у Бэрлін. Выяжджаць то выяжджаць, але вагоны-эшалон з матэрыяламі-багажом БЦР яшчэ не прыйшоў у Познань. І вось Калубовіч, а ён, відавочна, быў у Познані «галоўны БЦР», зьвярнуўся-папрасіў мяне, каб я застаўся, дапільнаваў, калі прыйдуць вагоны БЦР, а тады перанакіраваць іх (вагоны) у Бэрлін. Дзіўна! Але Калубовіч, відаць-ткі, меў да мяне давер, хоць я там быў «ніхто». Бацька мой к таму часу з Познані ўжо быў выехаўшы, крытыкаваў Астроўскага, хадзіў сваімі сьцежкамі, а мы з маці былі «выпадковыя людзі». Просьбу Калубовіча я выканаў, застаўся ў Познані, дапільнаваў прыбыцьцё эшалону БЦР, запоўніў усе патрэбныя паперы-фармуляры і накіраваў майно БЦР у Бэрлін.*

*Наступная мая сустрэча з Калубовічам адбылася па вайне, восеньню 1945 году. Тут ужо прозьвішча яго было Аўген Каханоўскі і займаў ён пасаду ў Бел. камітэце на Merschell Strasse 5. Пры першай сустрэчы (я ў Камітэце жыў, а ён даяжджаў зь вёскі) ён шырака мне ўхмыльнуўся й сказаў: «А-а-а! Мы з табой знаёмыя! Добра, добра!» Праз пару месяцаў, калі адчынілася беларуская гімназія, атрымалася так, што Каханоўскі стаўся маім настаўнікам беларускай мовы (у 6-й клясе), а ў 7-ай і 8-ай настаўнікам і беларускай мовы і літаратуры. Не скажу, каб у мяне зь ім былі цёплыя адносіны — халаднаватыя. Ён мне больш як 4 ніколі не паставіў, але й не прыдзіраўся. Каханоўскі ў той час «вербаваў» гімназістаў у сваю партыю, а я займаўся-кіраваў вялікім аддзелам скаўтаў, дык — кожнаму сваё. Праўда, вельмі часта ён зьвяртаўся да нас, скаўцкіх кіраўнікоў, каб тое-сёе надрукаваць: праграму партыі, лістоўку і г. д. Мы гэта рабілі ахвотна.*

*Каханоўскі быў цікавым настаўнікам, ведаў літаратуру, кіраваў літаратурным гуртком. Быў я здорава «заскочаны», калі Каханоўскі прапанаваў мне пісаць перадавіцу ў часапіс «У выраі» (1947) — воргана літ-гуртка. Ясна, што перадавіцу «Шляхам Скарыны» я напісаў і падпісаўся скаўцкім псэўданімам — «В. Рысь».*

*Такое дзелавое супрацоўніцтва з Каханоўскім працягвалася й пазьней, калі мы з Зорай атайбаваліся ў ЗША. Праўда, пры першых сустрэчах, гады 1960–62, ён сказаў, што ён «парваў» адносіны з БНР дзеля «непрадрашэнства», і ён ведае, што мы з Зорай хоць і не сябры БНР, але падтрымоўваем погляды М. Абрамчыка, ён думае, што будзем супрацоўнічаць. Ясная справа!*

*І так праз гады ён, з Інай Іванаўнай, прыяжджалі ў NYPL, мы зь імі сустракаліся, раіліся, дапамагалі. Мне ён шмат дапамог, калі я апрацоўваў манаграфію аб беларускім Кліўлендзе (1982). І вось аднойчы Каханоўскі мне кажа (я чытаў даклад на 25 сакавіка ў Кліўлендзе), што ён хоча шмат якія дакумэнты перадаць у БІНіМ. Мы паехалі да яго на кватэру. Там ён зь невялічкай прамовай «Прыемна, што ёсьць БІНіМ, што маладыя, а шмат сярод іх ягоных вучняў, улучыліся ў навуковую беларускую працу», ён перадае дакумэнтацыю БНР эміграцкага пэрыяду, якая захавалася ў яго, а таксама камплект кніжак выдавецтва «Бацькаўшчына», пару нумароў газэты «Наша Ніва» і інш. Гэтак у БІНіМе апынуліся матэрыялы пра БНР з калекцыі Аўгена Каханоўскага»*[3].

Акрамя БІНіМаўскіх, у кнізе выкарыстаны дакументы і ліставанне са збораў Янкі Запрудніка, Тамары Стагановіч (Кольба), Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны (Лондан), куды яны трапілі або праз сям'ю Жук-Грышкевічаў (дакументы Рады), або ад самога Міколы Абрамчыка (ягоныя лісты). Калекцыя дакументаў і лістоў таксама захоўваецца ў беларускіх фондах Бібліятэкі і архіваў Канады (Атава).

Асноўны змест выдання складаюць дакументы, што датычаць дзейнасці Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка — 1947–1970 гг. Упершыню публікуюцца пратаколы пасяджэнняў Рады і Ураду, найважнейшыя дакументы, ліставанне — усё тое, што дапаможа беспасярэдне ўявіць, якія падзеі адбываліся ў палітычным жыцці беларускай эміграцыі на Захадзе ў паваенны час. Асаблівасці правапісу арыгіналаў пры публікацыі захаваныя.

Пры каментаванні і напісанні ўступнага гістарычнага нарысу выкарыстоўваліся не толькі дакументальныя матэрыялы, але і публікацыі з эміграцыйнага друку. Багата матэрыялаў да дзейнасці Рады БНР і Міколы Абрамчыка змяшчалася на старонках газеты «Бацькаўшчына», што ад пачатку была органам Рады[4]. Бібліяграфія артыкулаў змешчана ў адмысловым

---

3 Ліст В. Кіпеля да Л. Юрэвіча. Захоўваецца ў архіве апошняга.

4 Вядома, што менавіта Мікола Абрамчык займаўся атрыманнем ліцэнзіі на выданне газеты. Да таго ж, у архіве БІНіМа ёсць пастанова Рады БНР ад 07.04.1949 г., адным з пунктаў якой стаіць узгадненне складу рэдкалегіі газеты «Бацькаўшчына» з міністэрствам прэсы і інфармацыі БНР.

раздзеле. Таксама падзеі, звязаныя з дзейнасцю Рады БНР на эміграцыі, можна знайсці ва ўспамінах Леаніда Галяка[5], Кастуся Мерляка[6], Барыса Рагулі[7], кнізе Раісы Жук-Грышкевіч, складзенай на падставе матэрыялаў дзейнасці мужа Вінцэнта[8], і іншых.

Аўтары выказваюць падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы выдання Вітаўту Кіпелю, Янку Запрудніку, а. Аляксандру Надсану, Тамары Стагановіч, а таксама кіраўніцтву Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое дапамагло выдаць кнігу.



5 Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1–2. ЗША, 1982–1983.

6 Мерляк, К. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на Эміграцыі: Праніклівасьць і практычны падыход. Нью-Ёрк, 1992. — 476 с.

7 Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Мінск, 2006. — 188 с.

8 Жук-Грышкевіч Р. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993. — 797 с.

# *Раздзел I:*
# РАДА БНР МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА:
*гістарычны нарыс*

## ПЕРАДГІСТОРЫЯ

Не маючы на мэце выкладанне паслядоўнай гісторыі Рады БНР, пакінем тым, хто цікавіцца даваенным перыядам, самастойна разбірацца ў яго адметнасцях. Найбольш важным для нас з'яўляецца тое, што частка радных на чале з старшынёй Пётрам Крэчэўскім не прызнала самароспуск 1925 г. і працягвала дзейнічаць у Празе да смерці Васіля Захаркі ў 1943 г., якую можна ўмоўна лічыць заканчэннем даваеннага перыяду Рады БНР.

У якасці ўводзінаў у наступныя падзеі варта разабрацца, чым займаліся ў часе сканчэння дзейнасці папярэдняй Рады яе будучыя аднаўленцы і найперш галоўны ініцыятар.

Афіцыйны варыянт біяграфіі Міколы Абрамчыка, напісаны ягоным паплечнікам Лявонам Рыдлеўскім і апублікаваны ў газеце «Бацькаўшчына» ў 1952 г.[9], утрымлівае некалькі важных момантаў для разумення яго паваеннай актыўнасці ў якасці Прэзідэнта БНР. Абрамчык нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў в. Сычавічы недалёка Радашковічаў 6 жніўня 1903 г. Ад 18 гадоў браў удзел у нацыянальным руху, быў прадстаўніком Рады БНР на Вялейскую акругу, вучыўся ў Радашковіцкай беларускай гімназіі, на вышэйшых настаўніцкіх курсах у Вільні. Ад 1924 г. вучыўся ў Чэхіі: скончыў эканамічна-кааператыўны факультэт Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах з дыпломам інжынера-эканаміста[10], а таксама факультэт гісторыі і сацыялогіі Каралава ўніверсітэта. Менавіта ў гэты час, відавочна, пазнаёміўся не толькі з беларускім студэнцкім колам у Празе, але і з кіраўнікамі Рады БНР. Адсюль паходзяць і асабістыя кантакты з Васілём Захаркам.

Па сканчэнні навучання Мікола Абрамчык разам з найбліжэйшым сябрам Лявонам Рыдлеўскім апынуўся ў Парыжы, дзе заснаваў першую беларускую арганізацыю ў Францыі «Хаўрус» і пачаў выданне яе перыёдыка «Рэха»[11].

---

[9] Тэкст змешчаны ў гэтай кнізе ў раздзеле «Асобы».

[10] Українська Господарська Академія в Ч. С. Р. 1922–1935. Ню Йорк, 1959. С. 98.

[11] **«Рэха»** — часопіс, орган беларускай працоўнай эміграцыі ў Францыі, які выдаваўся ў 1938–1940 гг. пад рэдакцыяй Міколы Абрамчыка. Выйшла 8 нумароў.

Ад 1941 г. Мікола Абрамчык перабраўся ў Берлін, дзе працаваў у Беларускім камітэце самапомачы, дапамагаў у выданні газеты «Раніца». Гэтага часу датычаць невялікія ягоныя ўспаміны, выкліканыя паказаным у БССР у 1963 г. дакументальным фільмам «Людзі з чорнымі душамі», прысвечаным у тым ліку і асобе Прэзідэнта. Ягонае абвяржэнне прадстаўленых фактаў датычыла якраз берлінскага перыяду дзейнасці:

*«...Беларускі камітэт самапомачы (у скароце БКС) ніякім чынам не зьяўляўся «пранацыстаўскай» арганізацыяй, а аднэй із самых актыўных беларускіх арганізацыяў супраціву нацызму. Нягледзячы на тое, што нямецкімі ўладамі была ёй дазволена вылучна харытатыўная акцыя сярод беларусаў у Нямеччыне (узамен закрытага немцамі Беларускага Чырвонага Крыжа) кіраўніцтвам гэтага Камітэту была шырака арганізаваная, побач з матарыяльнай дапамогай, і нелегальна-культурная ды палітычна ўсьведамляльная праца, галоўным чынам сярод палонных беларускіх жаўнераў з польскай і савецкай арміяў. ... Дзейнасць Беларускага камітэту самапомачы была накіраваная супраць Гэстапа, дасьледчыкі архіву не маглі не натыкнуцца там на шэраг запратакуляваных допытаў кіраўнікоў Камітэту; яны не маглі «недабачыць» такіх дакумантаў, як, хоць-бы, напрыклад:*

*— Забарона кіраўніцтву Камітэту перапісвацца зь беларусамі на Бацькаўшчыне;.*

*— Падвойная адмова даць мне пропуск адведаць сваіх бацькоў у Беларусі;*

*— Пратакол з рэвізіі памешканьня Камітэту й прыватных кватэраў кіраўнікоў ды канфіскацыя ўсіх выданьняў Камітэту лікам каля 3000 экзэмпляраў;*

*— Пратакол допыту мяне як старшыні Камітэту і д-ра Станіслава Грынкевіча, як рэдактара «Раніцы» за «дэмаралізацыю» остарбайтэраў, за нелегальнае загранізаваньне намі ім харчовай дапамогі і за нелегальнае перахоўваньне зьбеглых зь лягераў нашых людзей.*

*Уважаю неабходным асабліва адзначыць пратакол аб маім нелегальным падарожжы ў Беларусь, пазьнейшы арышт мяне ды гэстапаўскі «суд» у кастрычніку 1943 году, пасьля якога я быў перавезены ў Францыю і трыманы пад арыштам да прыходу саюзных арміяў»*[12].

Такім чынам, на момант смерці Прэзідэнта БНР Васіля Захаркі 14 сакавіка 1943 г. Мікола Абрамчык жыў у Берліне і займаўся беларускай дзейнасцю. Як старшыня БКС ён меў магчымасці прыехаць Прагу і атрымаць тэстамент і архівы Рады, аднак афішаваць гэта ўсё перад немцамі не было мэтазгодна, улічваючы напружаныя дачыненні з гестапа, што і пацвярджае пазнейшая высылка будучага Прэзідэнта БНР пад хатні арышт у Парыж.

З увагі на спецыфічныя ваенныя абставіны дзейнасць Абрамчыка да 1945 г. па аднаўленні Рады БНР была абмежаваная. Тым не менш, дзякуючы свайму «берлінскаму» перыяду, а магчыма і падарожжу ў Беларусь, пра якое згадваў, ён меў пэўныя кантакты з нацыянальным актывам на Бацькаўшчыне,

[12] Заява Прэзыдэнта Рады БНР // Бацькаўшчына. № 4 (604). Вялікдзень 1963.

а адсюль і некаторую вядомасць, хоць і не ў шырокіх масах беларусаў. Усё гэта паспрыяла яго выхаду на палітычную арэну ўжо ў 1945 г.

Для аднаўлення Рады БНР у паваенны час Міколу Абрамчыку былі патрэбныя людзі. Тых, хто пазней стаў уполплеч з Прэзідэнтам, можна падзяліць на дзве групы. Да першай належаць дзеячы заходнебеларускага нацыянальнага руху міжваеннага часу, такія як Янка Станкевіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Аляксандр Стагановіч, Эдвард Будзька і іншыя. Яны маглі ведаць Міколу Абрамчыка яшчэ з часоў яго навучання, настаўніцкай або грамадскай працы на пачатку 1920-х гг. Да другой групы належаць дзеячы нацыянальнага беларускага руху часоў нямецкай акупацыі, такія як Антон Адамовіч, Аўген Калубовіч (Каханоўскі), Лявон Савёнак, Франц Кушаль і інш. Яны не абавязкова асабіста ведалі Міколу Абрамчыка да канца Другой сусветнай вайны, аднак ідэя аднаўлення Рады БНР у паваенны час была для іх блізкая. Згаданыя групы не былі аднародныя. Па-першае, у часе нямецкай акупацыі стаўся відавочным падзел у беларускіх колах на «заходнікаў» і «ўсходнікаў». Пэўная атмасфера адчужанасці дзеячаў з розным вопытам і абставінамі дзейнасці ў міжваенны час захоўвалася і пасля вайны, і гэта накладвала адбітак на нутраныя працэсы ў беларускіх грамадах на эміграцыі. Па-другое, як і ў любым грамадстве, сярод беларускіх дзеячаў сустракаліся і свае антаганісты, людзі, якія не толькі стаялі на розны жыццёвых пазіцыях, але і проста побытава не трывалі адзін аднаго. Прычым часта яны аказваліся ў адным палітычным лагеры. Міжасабовыя дачыненні сур'ёзна ўплывалі на абставіны і змест грамадскага жыцця эміграцыі наогул і ў паваеннай Радзе БНР у прыватнасці. Уласна і палітычнае супрацьстаянне двух цэнтраў пасля вайны (Рады БНР і БЦР) мела выразны адбітак дачыненняў іх лідараў. І выявілася гэта ад самага пачатку, ад працэсу аднаўлення Рады БНР.

## АДНАЎЛЕННЕ РАДЫ БНР

Гісторыя аднаўлення Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з Міколам Абрамчыкам мае шмат лакунаў і выклікае багата пытанняў. Нягледзячы на даволі пільную ўвагу даследчыкаў да палітычнай дзейнасці беларускіх эмігрантаў у першыя пасляваенныя гады[13], адзінства поглядаў

[13] Максімюк, Ян. Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны // Запісы БІНіМ. № 25. Нью-Ёрк — Менск, 2001. С. 41–48; Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА). Смаленск, 2009. С. 18–39; Ён жа. Праблема самаідэнтыфікацыі беларусаў у паваеннай Германіі і Аўстрыі // Европа-2009: новое соседство. Материалы международной научной конференции студентов и аспирантов (16–17 мая 2009 г.). Вильнюс, 2010. С. 116–126; Лялькоў, Ігар. Спроба аб'яднання беларускай эміграцыі ў Францыі ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг. // Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый: Матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». Мінск, 2001. Гл.: http://zbsb.org/lib/index.php?option=com_alblib&view=article&id=116; Grzybowski,

адносна таго, якім чынам афіцыйна аформілася вяртанне Рады на палітычную арэну беларускай эміграцыі, няма. Новыя звесткі, знойдзеныя цягам апошніх гадоў, дазваляюць крыху запоўніць наяўныя прагалы ў гэтай гісторыі. Не прэтэндуючы на апошняе слова ў дыскусіі, разгледзім вядомыя сёння сведчанні пра Раду БНР 1945 — пачатку 1948 гг. і дадамо свой погляд.

Імя Міколы Абрамчыка ў вядомых нам паперах паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне ці не ўпершыню згадваецца 15 жніўня 1945 г., калі ў Рэгенсбургу паўстала новая арганізацыя — Беларускі нацыянальны цэнтр. Гэтая структура павінна была стаць галоўным рэпрэзентантам беларусаў на эміграцыі. На той час яшчэ дзейны Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (якая афіцыйна прыпыніла сваю дзейнасць толькі больш як праз месяц — 23–24 верасня 1945 г.) Радаслаў Астроўскі, відавочна, разглядаў БНЦ як пераемніка БЦР. Аднак сам узначаліць новую арганізацыю не мог, бо Цэнтр павінен быў выступаць як не звязаная з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі структура, каб не выклікаць пытанняў у заходніх саюзнікаў. Такім чынам, рэпрэзентацыйную дзейнасць павінен быў узначаліць чалавек, якому нельга было закінуць супрацоўніцтва з немцамі, у ідэале — чалавек з па-за Нямеччыны. І такой прыдатнай асобай стаў менавіта Мікола Абрамчык, які ад 1930 г. амаль бесперапынна жыў у Парыжы. З увагі на наступныя падзеі, выглядае парадаксальным, што сам Радаслаў Астроўскі прапанаваў гэтую кандыдатуру на старшыню БНЦ[14]. Пры гэтым пра наяўнасць у Міколы Абрамчыка палітычнага тэстамента Васіля Захаркі і прэтэнзіяў на прэзідэнцтва яшчэ не згадвалася.

Пасля прыпынення дзейнасці БЦР, Беларускі нацыянальны цэнтр стаў выконваць функцыі адзінага беларускага прадстаўніцтва і паступова, цягам некалькіх гадоў з гэтай арганізацыі (як і з Беларускага нацыянальнага камітэта ды з Беларускага цэнтральнага дапамаговага камітэта[15]) былі выціснутыя амаль ўсе прыхільнікі Радаслава Астроўскага[16]. Дакладна невядома, паводле якога прынцыпу вызначалася «ненадзейнасць», бо сярод пазасталых было таксама багата дзеячаў папярэдняй БЦР (згадаць хаця б Аўгена Каханоўскага (Калубовіча), які ад 1944 г. быў кіраўніком аддзела культуры БЦР, а ў БНЦ быў намеснікам старшыні). Магчыма, ключавым момантам была асабістая прыхільнасць да лідара. Неўзабаве пасля прыпынення дзейнасці БЦР Радаслаў Астроўскі, баючыся выдачы СССР, перайшоў на нелегальнае становішча і на некаторы час (прыкладна да сярэдзіны 1946 г.) з’ехаў у Швейцарыю, а

---

Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956. Warszawa, 2011. S. 575–748; і інш.

14 Вініцкі, Алесь. Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг. Частка III. Арганізацыі. Лос Анжэлес, 1968. С. 31.

15 Падрабязней пра гэтыя і іншыя арганізацыі глядзі ў каментарах да пратаколаў і дакументаў.

16 Максімюк, Ян. Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны // Запісы БІНіМ. № 25. Нью-Ёрк — Менск, 2001. С. 46.

таму не браў актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці. Выціснутыя ж з БНЦ і іншых структураў яго паплечнікі Іван Касяк, Мікола Шчорс, Юрка Віцьбіч і г. д. у супрацьвагу пачалі ствараць уласныя паралельныя рэпрэзентацыйныя арганізацыі ў амерыканскай і брытанскай зонах акупацыі Нямеччыны.

Такім чынам, цягам 1945–1947 гг. Мікола Абрамчык паступова стварыў сабе арганізаванае кола прыхільнікаў, але і паслядоўнікі Радаслава Астроўскага не расцярушыліся. Да арганізацыйнага супрацьстаяння дадаліся моўны і царкоўны аспекты, у выніку чаго з'явіліся дзве мянушкі: «крывічы» (для прыхільнікаў Міколы Абрамчыка) і «зарубежнікі» (для прыхільнікаў Радаслава Астроўскага). Сутнасць згаданых супярэчнасцяў ужо даволі шмат разглядалася ў публікацыях, таму спыняцца на іх адмыслова не мае сэнсу[17]. Зазначым толькі, што можна пагадзіцца з высновай Яна Максімюка: і моўнае, і царкоўнае супрацьстаянні былі толькі фонам для супрацьстаяння палітычнага[18], на якім тут і засяродзімся.

Створаны на эміграцыі Беларускі нацыянальны цэнтр у вачах заходняй грамадскасці выглядаў звычайнай арганізацыяй уцекачоў, адной з шматлікіх, што рэпрэзентуюць пэўную грамаду, але не дзяржаву. Гэта разумеў і Мікола Абрамчык, таму даволі хутка ў эміграцыйных колах пачаліся размовы пра неабходнасць аднаўлення Рады БНР як менавіта дзяржаўнага беларускага прадстаўніцтва на Захадзе.

Барыс Рагуля згадвае, што ён пазнаёміўся з Міколам Абрамчыкам *«недзе ў 46-м годзе, калі ён пачаў арганізоўваць Рады БНР»*[19]. Пацвярджае гэта і былы пасол польскага сойму Аляксандр Стагановіч, які ў сваіх успамінах зазначае, што прапанова яму далучыцца да адноўленай Рады БНР была зробленая недзе ў 1945 ці 1946 гг. з заўвагай *«урад неабходны для вонкава-дэмакратычнага заходняга свету»*[20]. Стагановіч пагадзіўся, аднак звестак пра афіцыйнае аднаўленне дзейнасці Рады на той час няма. Праўда, у архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку ёсць адзін пазнейшы дакумент, які сведчыць пра фармальныя захады ў гэтым кірунку, зробленыя ўжо ў сакавіку 1946 г. Маецца на ўвазе «Інфармацыя № 1 прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах свету», складзеная Аўгенам Каханоўскім у жніўні 1948 г.[21] У гэтай «Інфармацыі» пазначаецца храналогія дзейнасці ўрадаў БНР, і сярод

---

[17] Пра сутнасць расколу больш падрабязна гл.: Максімюк, Ян. Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны… С. 42–45; Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі… С. 18–39; Ён жа. Праблема самаідэнтыфікацыі беларусаў у паваеннай Германіі і Аўстрыі… С. 116–126; Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939–1956… S. 587–601 і іншыя публікацыі.

[18] Максімюк, Ян. Аднаўленьне Рады БНР пасьля Другой Сусьветнай вайны… С. 47–48.

[19] Барыс Рагуля ўспамінае // Час. № 10. Студзень 2012. С. 7.

[20] Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла. Мінск, 2011. С. 125–126.

[21] Згаданая «Інфармацыя № 1» змешчана ў раздзеле «Дакументы».

іншага пададзена: *«9-ы габінэт пасьля сьмерці В. Захаркі ўзначальвае інж. М. Абрамчык; ён-жа й Старшыня Рады БНР (3.1943–3.1946); 10 габінэт (пашыраны) — інж. М. Абрамчыка — ад 3.1946 да 21.6.1948 г.»*[22] З гэтага вынікае, што ў сакавіку 1946 г. адбылося фармаванне пашыранага ўраду БНР на чале з Міколам Абрамчыкам, хоць ніякіх звестак пра яго склад не знойдзена. Паколькі далей абвяржэнняў з боку апанентаў ці прыхільнікаў Рады БНР адносна агучанай храналогіі не ўзнікала, можна меркаваць, што папярэдняя спроба фармавання арганізацыйнай структуры адноўленага палітычнага прадстаўніцтва адбылася ўжо ў сакавіку 1946 г. Магчыма, менавіта тады і быў прадэманстраваны тэстамент Васіля Захаркі як пацверджанне паўнамоцтваў Міколы Абрамчыка. Аднак паколькі палітычная дзейнасць у лагерах *DP* была забароненая, падзея гэтая, як і некаторыя наступныя, у *DP*-скай прэсе не адлюстравалася. У той самай «Інфармацыі № 1» сцвярджаецца пра *канспіратыўны* характар двух згаданых «габінэтаў» БНР[23].

З увагі на падзеі сакавіка 1946 г. робіцца зразумелым паходжанне і першага афіцыйнага дакумента, падпісанага ад імя Ураду БНР ужо ў ліпені 1946 г. Маецца на ўвазе «Пратэст Ураду БНР», пададзены ў часе мірнай канферэнцыі ў Парыжы (29 ліпеня — 15 кастрычніка 1946 г.) прадстаўнікам аб'яднаных нацый. У дакуменце гаварылася пра тое, што дэлегацыя БССР не можа афіцыйна рэпрэзентаваць інтарэсы беларускага народу, бо адзіным законным рэпрэзентантам з'яўляецца Урад БНР[24].

Згаданымі фактамі можна патлумачыць, чаму ў 1946–1947 гг. Мікола Абрамчык выступае не толькі ад імя БНЦ, але і як Прэзідэнт БНР. Праўда, робіць гэта пераважна па-за Нямеччынай.

У рэчышчы пачатку дыскусій аб праўнасці становішча Міколы Абрамчыка цікавымі выглядаюць лістоўныя развагі Аркадзя Арэхвы і Леаніда Галяка на пачатку 1947 г. Так, Арэхва 12 студзеня 1947 г. пісаў:

*«Дарагі калега!*

*Мне хочацца ведаць Вашу думку ў аднэй справе, якая сталася ў нас тут актуальнай і рознымі людзьмі па рознаму вырашаецца.*

*На I агульным зьездзе беларускага студэнства, аб якім Вы пэўна ўжо чулі, была ўнесена і прынята прывітальная тэлеграма інж. Абрамчыку, як Прэзыдэнту Беларусі. У гэтай тэлеграме называецца інж. Абрамчык праўным Прэзыдэнтам Беларусі і складваецца яму пашана і прырачэньні вернасьці, як галаве народу. Зьмест тэлеграмы перад унясеньнем нікому ня быў ведамы ды і ўнесена яна перад самым заканчэньнем сабраньня, калі ўжо ўсе былі змучаныя і трэба было сьпяшацца, каб ня прапусьціць апошні трамвай. З гэтай прычыны тэлеграма была прынятай без пратэстаў і дыскусіі. Назаўтра, аднак, калі я троху падумаў над гэтай справай, мне*

---

[22] Каханоўскі, Аўген. Інфармацыя № 1 прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету. 10.1.1949.

[23] Тамсама.

[24] Пратэст Ураду БНР // Беларускія навіны. № 1 (6). Парыж, студзень 1947. С. 3.

*выдалася, што прызнаваньне каму-небудзь прэзыдэнтуры бяз шырэйшай дыскусіі на гэту тэму немагчыма. У нашым-жа выпадку ёсьць шмат сумліваў, якія павінны быць выясьненыя — чымсь на нешта-небудзь згадзіцца, а пасьля гэта адстаіваць.*

*Першае пытаньне, пытаньне натуры праўнай, гэта ці пакойны Захарка, назавём яго Прэзыдэнтам Беларусі, меў права перадаючы пячатку беларускага ўраду інж. Абрамчыку, перанесьці на яго таксама і свой урад? З праўнага пункту гледзішча, натуральна, Захарка ня меў такога права, хаця ў гісторыі, як некаторыя калегі слушна цьвердзяць, былі падобныя выпадкі і яны ганараваліся на міжнародным груньце. Напрыклад, былы Прэзыдэнт Польшчы Масьціцкі перадаў свой урад Рачкевічу, які быў прызнаны Англіяй і Амэрыкай галавой польскай дзяржавы. У нас справа крыху камплікуецца, бо пасьля 25 Сакавіка адбыўся II Усебеларускі кангрэс, які выбраў новага прэзыдэнта.*

*Вось-жа паўстае і другое пытаньне, таксама натуры праўнай: гэта: ці ёсьць прычына, каб II кангрэс прызнаць неправамоцным? Трэба тут адмеціць, што сярод нашага грамадзтва, нават у інтэлігенцыі, дужа глыбака закараніўся дух калябаранцтва і калі абставіны змушаюць папярэдняга партнёра замяніць новым, дык, зразумела, што ўсё, што было зроблена пры папярэднім — няважна ды і шкодна. Вельмі сумнае зьявішча і сьветчачае аб нашай залежніцкай палітыцы. Канкрэтна-ж няважнасьць 2-га Усебеларускага кангрэсу абасноўваецца тым, што ў той час, калі кангрэс адбываўся, Беларусь знаходзілася пад акупацыяй нямецкіх войскаў, кангрэс ня меў свабоды ў сваёй дзейнасьці. Ён павінен быў агаласіць незалежную Беларусь, а немцам аб’явіць вайну; адным словам, кангрэс зрабіў мінімум, а не максімум. Аргумэнт, па маёй думцы, ня слушны: мінімум ня дыскваліфікуе цэласьці.*

*[...]*

*Вось-жа мая просьба да Вас як да сакратара II Усебеларускага кангрэсу і юрыстага, выказацца на гэту тэму. Ці прызнаць II кангрэс неправамоцным, а таксама ці акт перадачы ўлады Захаркай інж. Абрамчыку трэба лічыць актам правамоцным. З другой-жа стараны, гэтыя дзьве справы зусім ад сябе незалежныя: можна прызнаць і II кангрэс няважным і акт Захаркі таксама няважным, але такі выхад ня можа быць найлепшым, ён унёс бы толькі блытаніну ў нашы справы; трэба было-б здэцыдавацца на першае або на другое...»*[25]

Леанід Галяк 26 студзеня адказаў даволі прагматычна:

*«...Разважыўшы гэтую справу, я прыйшоў да пераконаньня, што ў гэтай справе пытаньне юрыдычнай важнасьці ці няважнасьці перадачы Захаркаю сваіх паўнамоцтваў інж. Абрамчыку зьяўляецца менш важным. Мне здаецца, што ў гэтым выпадку было-б больш адпаведным, не займаючыся юрыдычнымі разважаньнямі, разважыць іншае пытаньне, а іменна:*

25 Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 1 (15). С. 7–8.

*ці існуе патрэба юрыдычна абасноўваць і гэтым падмацоўваць факт перадачы ўлады Абрамчыку? У гэтым разважаньні трэба было-б кіравацца ня пытаньнем праўнасьці, а пытаньнем дамэтнасьці, патрэбнасьці ці неабходнасьці гэтага. Калі ходзіць аб юрыдычны бок справы, дык у мяне, бязумоўна, маюцца сумлівы ў праўнасьці такога акту, бо гэта занадта распараджэньне сваімі прыватнымі рэчамі, хоць, скажам, пры манархічным ладзе і гэта было-б магчыма. Цікава таксама, ці маюцца ў гэтай справе нейкія пісьмовы дакумэнты, я прынамсі аб гэтым ня чуў. Калі ідзе справа аб прызнаньні заходнімі аліянтамі факту перадачы прэзыдэнткага ўраду Місьціцкага Рачкевічу, дык бязумоўна яны (аліянты) кіраваліся ў гэтым толькі апартуністычнымі меркаваньнямі — неабходнасьцяй існаваньня праўнай рэпрэзэнтацыі Польшчы. Калі абставіны зьмяніліся, дык нягледзячы на праўную старану, эміграцкаму ўраду адмовілі ў прызнаньні, ну а юрыстыя напэўна гэта абаснавалі. Ды і наагул ў міжнародных суадносінах дзяржавы кіруюцца выключна сваімі эгаістычнымі, часта вельмі вузкімі зразумелымі інтарэсамі.*

*Калі ходзіць аб прызнаньні Абрамчыка Прэзыдэнтам, дык мне здаецца, што трэба задумацца аб тым, ці нам гэта патрэбна і карысна. Паводле вестак, якія даходзяць з Парыжу, ён шырака ўжывае гэты тытул і наагул праяўляе досыць актыўную дзейнасьць. Ходзіць па кансулятах розных дзяржаваў з рознымі справамі, ужо тым самым напамінаючы ці інфармуючы аб самым факце існаваньня Беларусі. А гэта значыць, што пагляды Захаду на гэтую справу вельмі мутныя. У такім стане рэчаў кажная прапагандовая акцыя зьяўляецца, на мой погляд, карыснай. Мне здаецца, што выступаць супраць таго, што ён тытулюе сябе Прэзыдэнтам, ня прыходзіцца, з гэтым трэба на даный мамэнт пагадзіцца, паколькі ў ягонай дзейнасьці не акажацца нейкіх шкодных мамэнтаў.*

*З другой стараны, я лічыў-бы непатрэбным публічна дэманстраваць сваё прызнаньне, ствараючы гэтым некаторыя праўныя падставы мацнейшыя нават аб перадачы яму ўлады Захаркаю, высылаючы яму нейкія вернападданчыя тэлеграмы. Мне наагул не падабаецца ў дзейнасьці Абрамчыка пэўная тэндэнцыя ня толькі карыстацца ў сучаснасьці з тытулу, але перадусім запэўніць гэта сабе і ў далейшай будучыні. З гэтай тэндэнцыяй вынікаюць спробы юрыдычнага падмацаваньня перадачы праз тварэньне асобных фактаў, прызнаючых гэты стан. Ваш выпадак з тэлеграмай гэта таксама ня прыпадак, але частка сьведамай акцыі, ведзенай некаторымі коламі…»*[26]

Надалей у эміграцыйных колах размова ішла не толькі пра сумнеўнасць самога тэстаменту Васіля Захаркі. Гэткія заўвагі рабілі праціўнікі Абрамчыка[27], аднак сёння больш-менш упэўнена можна сцвярджаць, што дакумент

[26] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 1 (15). С. 8–9.

[27] Не бачыўшы дакумента, розныя аўтары выказвалі сваё меркаванне адносна ягонай сапраўднасці і зместу. Так, Янка Завістовіч у артыкуле «Хто такі самазваны «прэзыдэнт» Мікола Абрамчык?» у перыёдыку «БІС» (№ 17. 25 чэрвеня 1948)

такі сапраўды існаваў, пра што сведчыў пазней і Станіслаў Станкевіч, які трымаў яго ў руках[28], дый пацвярджае гэта фотакопія, што захоўваецца ў архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане. Дыскусіі ў колах эмігрантаў ішлі таксама адносна правамоцнасці (ці дэмакратычнасці) самога факта перадачы дзяржаўнай улады паводле тэстаменту. Аднак Леанід Галяк, а следам і іншыя прыхільнікі Міколы Абрамчыка, вырашылі, што апошні робіць карысную працу для беларусаў на прэзідэнцкай пасадзе[29], да таго ж, з увагі на ваенныя падзеі, матывы і праўнасць складання тэстаменту можна было лагічна патлумачыць і прызнаць мэтазгоднымі.

У 1947 г. у крыніцах з’яўляюцца новыя згадкі пра афіцыйны статус Міколы Абрамчыка. Сярод іншага, ён выступаў як Прэзідэнт БНР у Лондане ў часе перамоваў з прадстаўнікамі польскіх урадавых колаў на эміграцыі ў ліпені — жніўні 1947 г.[30] На гэтых перамовах ён дамаўляўся пра прынцыпы супрацоўніцтва беларускага і польскага ўрадаў на эміграцыі, а таксама пра матэрыяльную падтрымку[31].

Статус Міколы Абрамчыка як чалавека «з па-за Нямеччыны» меў свае перавагі. Маючы французскі пашпарт, ён быў значна менш абмежаваны ў сваіх перасоўваннях, чым суайчыннікі *DP* у Нямеччыне. І геаграфія паездак Прэзідэнта тых гадоў даволі шырокая: Вялікабрытанія, Італія, Данія, Швецыя. Праблемаю былі толькі паездкі ў Нямеччыну, дзе якраз і адбываліся асноўныя беларускія палітычныя падзеі. Мікола Абрамчык доўгі час мог трапіць у заходнія акупацыйныя зоны толькі з дапамогай транзітнай візы пры паездцы ў нейкую іншую краіну. Пры гэтым затрымоўвацца надоўга ці ўдзельнічаць у афіцыйных мерапрыемствах было рызыкоўна, бо магло быць расцэнена як парушэнне візавага рэжыму. Менавіта таму прыезды дзеяча ў Нямеччыну былі нешматлікія, кароткатэрміновыя і насілі прыватны характар. Прыкладам, увосень 1947 г., калі адбываўся студэнцкі з’езд у Марбургу, Мікола Абрамчык афіцыйна на з’ездзе не прысутнічаў, а сустракаўся з некаторымі ўдзельнікамі асабіста па-за мерапрыемствам. Так, Леанід Галяк сведчыць, што акурат тады пазнаёміўся з Прэзідэнтам і зразумеў, што пра аднаўленне Рады БНР было пастаноўлена раней, *«а цяпер гэтая пастанова*

---

сцвярджаў, што Захарка перадаў Ларысе Геніюш ды Міколу Абрамчыку толькі архіў Рады БНР, а ніяк не пасаду Прэзідэнта.

[28] Ліст С. Станкевіча да А. Стагановіча ад 24.09.1972 апублікаваны ў: Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 45.

[29] Галяк, Леанід. Успаміны. Ч. 2. ЗША, 1983. С. 70.

[30] Юрэвіч, Лявон. Архіў Рады БНР // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 112–122.

[31] Грыбоўскі, Юры. Рада БНР на эміграцыі і праекты інтэграцыі ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе (1945–1956 гг.) // Гістарычны альманах. Вып. 16. 2010. С. 97.

*праводзілася ў жыцьцё»*[32]. Ускосна гэта таксама сведчыць пра факт ранейшага фармавання ўраду БНР (прыкладам, у сакавіку 1946 г.).

Афіцыйнае (паводле наяўных дакументаў) аднаўленне Рады БНР адбылося 28–29 снежня 1947 г. на з'ездзе беларускага актыву ў Остэргофене. Лагер быў утвораны ўвосені 1946 г., калі тут апынуліся каля 400 беларусаў. Ад гэтага часу ў Остэргофене стаў складвацца адзін з найбуйнейшых цэнтраў беларускага жыцця ў Нямеччыне. У лютым 1947 г. тут пачалі працаваць дзіцячы садок, пачатковая школа і гімназія. Дырэктарам апошняй быў Лявон Савёнак, а сярод выкладчыкаў Антон Адамовіч, Пётра Манькоўскі і шмат іншых прыхільнікаў аднаўлення Рады БНР. Больш за тое, менавіта сюды пераехалі і Беларускі нацыянальны цэнтр, і Беларускі нацыянальны камітэт на амерыканскую зону, і Беларускі цэнтральны дапамаговы камітэт на Нямеччыну[33]. Тут жа ад лістапада 1947 г. пачала выходзіць першая легальная беларуская газета ў Нямеччыне «Бацькаўшчына». Фактычна, пры канцы 1947 г. Остэргофен стаў лагерам з найбольшай прысутнасцю прыхільнікаў Міколы Абрамчыка, і зразумела, чаму афіцыйнае аднаўленне Рады БНР звязана менавіта з гэтым асяродкам.

Падрабязнасцяў пра мерапрыемства не захавалася ў крыніцах. Больш за тое, характар публікацыі звестак пра яго часам выклікае пытанні, ці было яно насамрэч. Паводле ці не адзінага сведчання: праекта рэарганізацыі Рады БНР 1968 г., складзенага Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, *«28 сьнежня 1947 г. адбылася інаўгурацыйная сэсія, на якой 72 кандыдаты склалі ўрачыста прысягу вернасьці БНР на рукі Прэзыдэнта БНР. Тут жа быў сфармаваны і Ўрад БНР»*[34]. Аднак можна меркаваць, што не прысутны на падзеі аўтар (Жук-Грышкевіч тады жыў у Лондане) мог не ведаць яе падрабязнасцяў.

Найперш, выклікае пытанні прысутнасць на з'ездзе Міколы Абрамчыка з увагі да візавых складанасцяў. Так, даследчык Ігар Лялькоў палічыў, што падзеі ў Остэргофене не болей як фікцыя, зробленая ў канспірацыйных мэтах, і насамрэч «рашэнне было прынята» ў Парыжы[35]. Аднак верагоднасць прыезду ў Францыю ў 1947 г. радных БНР была мінімальнаю, а без іх аднаўленне арганізацыі выключна прысутнасцю парыжскіх беларусаў (якіх было вельмі мала[36]) ці толькі на дэкларатыўным узроўні наўрад ці было б добра ўспрынятае актывам у Нямеччыне. Зноў жа, калі б сходу ў Остэргофене насамрэч не было, пра гэта стала б хутка вядома ў колах праціўнікаў Міколы Абрамчыка,

---

32 Галяк, Л. Успаміны. Ч. 2… С. 81.

33 Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне… С. 133.

34 Праект рэарганізацыі Рады БНР. 14.02.1968. Тэкст публікуецца ў раздзеле «Дакументы».

35 Лялькоў, Ігар. Спроба аб'яднання беларускай эміграцыі ў Францыі ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг…

36 На той час з будучых актыўных дзеячаў БНР у Парыжы, акрамя Прэзідэнта, жыў толькі Лявон Рыдлеўскі.

і інфармацыя пра падман абавязкова б з’явілася ў друку. Такім чынам, сам факт падзеі ставіць пад сумнеў наўрад ці выпадае. Пытанне толькі пра тое, што насамрэч адбывалася ў Остэргофене і ці прысутнічаў там Прэзідэнт.

У сваім лісце да Уладзіміра Шыманца ад 17 студзеня 1950 г. Мікола Абрамчык згадвае, што атрымаў *«са зборак беларусаў у Даніі падчас майго там перабываньня ад 3.XI.47 да 8.III.48–2.000 д. м.»*[37]. Выглядае, што ў часе аднаўлення Рады Прэзідэнт павінен быў знаходзіцца ў Капенгагене. Аднак насамрэч Абрамчык не быў у Даніі цягам усяго гэтага часу, і паездка з атрыманнем пад яе транзітнай візы перарывалася як мінімум вяртаннем у Парыж. Пра свае планы паездкі не толькі ў Капенгаген Прэзідэнт пісаў у лісце да Вінцэнта Жук-Грышкевіча ад 20 кастрычніка 1947 г., дзе паведамляў, што 27 кастрычніка 1947 г. *«выяжджаю месяцы на паўтара. Найперш еду да Шыманца, а за два тыдні вярнуся да Стася [Станкевіча?]»*[38]. Жонка Міколы Абрамчыка Ніна ў лісце ад 31 студзеня 1948 г. пісала, што муж зноў выехаў з Парыжа 24 студзеня, а таксама расказвала, як *«У Нямеччыне праф. Астроўскі зрабіў гвалт, што без яго зрабілі паседжаньне»*[39]. Адсюль вынікае, што само паседжанне ў Остэргофене сапраўды было і што, магчыма, Мікола Абрамчык на ім прысутнічаў.

Ускосныя сведчанні прыезду Абрамчыка ў Нямеччыну можна знайсці і ў пазнейшым лісце Прэзідэнта да Вінцэнта Жук-Грышкевіча: *«Адзіная мая, як табе ведама, апошняя паўлегальная паездка да 3х лягераў, якой я рызыкаваў вельмі многім, дала мне змогу ўвайсьці ў кантакт з групай Астроўскага (абед у Ігнатовіча), якой я абяцаў за месяц прыехаць і дакончыць зь імі размовы ў тым як раз напрамку згоды — але гэтага яны як раз зьлякаліся. Паведаміўшы аб гэтым др. Шчорса, а той галёпам паляцеўшы да Аст.[роўскага] на злом галавы паперліся з папулярызацыяй свае БЦР і Астроўскага як антытэзы БНР, дачапіўшыся да таго, што БНР — фікцыя, што яна перадала свае паўнамоцтвы БССР і т.п.»*[40] Згаданая ў лісце паездка храналагічна магла прыпасці на канец снежня, калі Мікола Абрамчык вяртаўся з Даніі ў Францыю праз Нямеччыну. Магчыма, менавіта пад яе і быў зладжаны той сход актыву Остэргофена, на якім прысутнічалі радныя, што злажылі прысягу Прэзідэнту.

Паводле афіцыйнай інфармацыі, на згаданым мерапрыемстве 28 снежня быў прыняты таксама Статут Рады БНР і Дэкларацыя. Аднак, калі Статут пазначаны менавіта днём 28 снежня, то да Дэкларацыі ёсць пытанні датавання. Афіцыйна друкаваны тэкст, які распаўсюджваўся ў Нямеччыне

---

[37] Ліст М. Абрамчыка да У. Шыманца ад 17.01.1950. Архіў БІНіМ.

[38] Ліст М. Абрамчыка да В. Жук-Грышкевіча ад 20.10.1947. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

[39] Ліст Н. Абрамчык да В. Жук-Грышкевіча ад 31.01.1948. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

[40] Ліст М. Абрамчыка да В. Жук-Грышкевіча ад 26.04.1948. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

ў выглядзе ўлёткі, пазначаны 31 снежня 1947 г. А ў газеце «Бацькаўшчына» — 22 лютага 1947 г. Дэкларацыя пададзеная як прынятая на сходзе 29 снежня 1947 г. Пры гэтым у суправаджальным артыкуле даволі позняя (амаль праз месяц) публікацыя Дэкларацыі тлумачыцца тым, што яе тэкст прыйшоў з затрымкаю ад Сакратарыята Рады БНР «праз Швайцарыю»[41]. Вось тут паўстае непаразуменне. Калі з'езд адбыўся 28–29 снежня 1947 г. у Остэргофене, і на ім была прынятая Дэкларацыя, то яе тэксту не магло не быць ва ўдзельнікаў, таксама як сярод удзельнікаў не магло не быць адказных за выданне газеты «Бацькаўшчына», што выходзіла ў тым самым лагеры і была органам прыхільнікаў Рады БНР. З іншага боку, святочная акадэмія, прысвечаная 30-м угодкам Першага Усебеларускага кангрэса, насамрэч адбылася ў Остэргофене 31 снежня 1947 г.[42]

Разбежнасці ў датах з'яўлення Дэкларацыі і позняя яе публікацыя маглі быць выкліканыя пэўнымі тактычнымі меркаваннямі. Улічваючы абмежаваныя магчымасці знаходжання Міколы Абрамчыка ў Нямеччыне, канчатковы тэкст Дэкларацыі на з'ездзе ў Остэргофене маглі не паспець прыняць, і ёсць верагоднасць, што дакумент быў агучаны на ўрачыстай Акадэміі 31 снежня. Аднак неўзабаве стала вядома, што тады ж, 31 снежня, выдаў свой зварот да беларускай эміграцыі і Радаслаў Астроўскі. У гэтым дакуменце быў зроблены заклік аб стварэнні новага сапраўднага рэпрэзентацыйнага цэнтра беларускай эміграцыі ў выглядзе Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва, якое павінна было паўстаць шляхам выбараў у беларускіх эміграцыйных асяродках. Хоць БЦР афіцыйна на той час прыпыніла сваю дзейнасць, зварот быў падпісаны ад імя яе Прэзідэнта[43]. Такім чынам выдадзеная тым самым днём Дэкларацыя Рады БНР магла выглядаць як рэакцыя на зварот Радаслава Астроўскага, а для Абрамчыка гэта, відавочна, было не надта выгадна. Аднаўленне Рады павінна было стацца самастойнай падзеяй. Магчыма, таму дата прыняцця Дэкларацыі пры публікацыі ў «Бацькаўшчыне» была змененая на 29 снежня. І менавіта гэтае пытанне магло патрабаваць узгаднення з Прэзідэнтам перад публікацыяй дакумента. Адсюль і ягоны заблытаны шлях «праз Швайцарыю».

Варта адзначыць таксама, што пры публікацыі Дэкларацыі Рады БНР у тэксце была зроблена і іншая змена: з яго было прыбрана імя Міколы Абрамчыка. Больш за тое, гэтае імя не з'яўлялася на старонках «Бацькаўшчыны» да 25 сакавіка 1948 г.[44], нягледзячы на тое, што тэксты ў падтрымку «Прэзідэнта БНР» пачалі публікавацца ў газеце ад лютага 1948 г. У прынятым на остэргофенскім з'ездзе Статуце Рады БНР імя Міколы Абрамчыка згадвалася, аднак сам тэкст у «Бацькаўшчыне» не публікаваўся. Праблема нязгадкі імя

[41] БНР жыве — жыве БНР! // Бацькаўшчына. № 5 (8). 22.02.1948.

[42] Пра святочную акадэмію згадваецца ў нататцы: Адзначэньне ўгодкаў // Бацькаўшчына. № 2 (5). 31.01.1948.

[43] Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі… С. 24–26.

[44] Максімюк, Ян… С. 46.

Прэзідэнта БНР, на наш погляд, была актуальная найбольш і найперш менавіта для Нямеччыны з прычынаў канспірацыі. Абмежаваныя магчымасці афіцыйных перамяшчэнняў Міколы Абрамчыка па Нямеччыне сведчаць на карысць гэтай думкі. Для эліты беларускіх эмігрантаў у лагерах *DP* імя Прэзідэнта БНР і без таго было вядомае, а вось для акупацыйных уладаў яго прыезды ў Нямеччыну з палітычнымі мэтамі маглі выглядаць непажаданымі, таму імя і не згадвалася лішні раз да пэўнага часу. Час гэты надышоў, калі Мікола Абрамчык атрымаў магчымасць прыязджаць у Нямеччыну па лініі *IRO* для вярбоўкі беларусаў на працу ў Францыю. У студзені-сакавіку 1948 г. з гэткай місіяй ён быў у Даніі[45] і пасля таго, відавочна, атрымаў адпаведныя ўпаўнаважанні для Нямеччыны, бо ўжо ўлетку 1948 г. актыўна і афіцыйна ездзіў па беларускіх лагерах *DP*[46].

Вяртаючыся да аднаўленчага з'езду ў Остэргофене, можна паставіць пад сумненне не толькі факт прыняцця на ім канчатковага тэксту Дэкларацыі, але і фармавання Ураду. Калі браць пад увагу ўжо згаданую «Інфармацыю № 1» Аўгена Каханоўскага, то да сесіі Рады БНР 20–21 чэрвеня 1948 г. дзейнічаў «пашыраны» склад Ураду на чале з Міколам Абрамчыкам, вызначаны ў сакавіку 1946 г. І існаваў гэты Урад «канспірацыйна». Таму ў снежні 1947 г. ніякіх прынцыповых зменаў у склад Ураду прынята не было, інакш яны б мусілі прысутнічаць у згаданай «Інфармацыі».

Падпольны характар дзейнасці Ураду пацвярджаецца і ў тэксце, які суправаджаў публікацыю Дэкларацыі Рады БНР у газеце «Бацькаўшчына». Тут зазначалася: *«…будучы апошнім у часе дакумэнтам існаваньня, дзеяньня й волі найвышэйшага органу Беларускае Народнае Рэспублікі, Дэклярацыя адначасна становіць і першае публічнае выступленне гэтага органу пасьля даўжэйшага часу ягонае дзейнасьці, хоць і навонкі, дзеля пэўных абставінаў, невыяўлянае, але ўнутры безупыннае, упорыстае працы ўсё ў тым-жа духу й кірунку ўжыцьцёўленьня запраўднае, бязумоўнае гаспадарстваўскае незалежнасьці Бацькаўшчыны»*[47].

Можна меркаваць, што рэальна і пры канцы 1947 г., і на пачатку 1948 г. працягваў дзейнічаць той самы «пашыраны» Урад БНР, які быў створаны ў сакавіку 1946 г. Праўда, хто ўваходзіў у ягоны склад, акрамя Міколы Абрамчыка, невядома. А вось што апошні дзейнічаў і як кіраўнік Ураду, пацвярджаецца дакументальна. 19 студзеня 1948 г. быў выдадзены «Дэкрэт» аб стварэнні Фонду Рады БНР, падпісаны «старшынёй Ураду БНР» Міколам Абрамчыкам[48].

Остэргофенскі з'езд быў толькі пачатковым этапам афіцыйнага аднаўлення Рады БНР. Далей пачалася праца па інфармацыйнай падтрымцы гэтай

---

[45] Ліст М. Абрамчыка да В. Жук-Грышкевіча ад 29.01.1948. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

[46] Тур, Ігнат. Агент Абрамчык падарожнічае // БІС. № 18. 10 ліпеня 1948 г.

[47] БНР жыве — жыве БНР! // Бацькаўшчына. № 5 (8). 22.02.1948.

[48] Гл.: Kipel Z., Kipel V. Belarusian publishing in the West: A Bibliography… P. 85.

ідэі, пашырэнні яе па асяродках і супрацьстаянне з прыхільнікамі Радаслава Астроўскага. Апошнія працягвалі прасоўваць план правядзення выбараў у беларускіх асяродках, а прадстаўнікі БНР пайшлі ў наступ. Першым і ці не самым адчувальным ударам па бэцээраўцах стаў артыкул «Антыбальшавізм і антыфашызм», апублікаваны ў газеце «Бацькаўшчына» яшчэ да з'яўлення Дэкларацыі Рады БНР. Пасля працяглых развагаў пра ролю бальшавізму і фашызму ў сусветнай і беларускай гісторыі, аўтар (паводле Леаніда Галяка, ім быў Антон Адамовіч, хоць сам артыкул не падпісаны) сцвярджаў: *«...акупацыі нашага краю чужымі фашызмамі — і расейскім бальшавізмам, і нямецкім нацызмам — не абыйшліся й не абыходзяцца, на жаль, без пакіданьня пэўных сьлядоў і ўплываў у выглядзе вытварэньня варожых агентураў у нашым грамадзтве, аж да «квісьлінгаў»*[49] *улучна — як у бальшавіцкі, так і ў нацыстаўскі бок. І сусьветнае цяпер, дый нашае заўсёднае антыбальшавіцкае настаўленьне не дае нам права забывацца на настаўленьне антыфашыстаўскае і ўжо рэабілітаваць нашых айчынных «квісьлінгаў» — пакліканых фашыстымі «правадыроў» і «прэзыдэнтаў» твораных імі марыянэткавых «урадаў» і «радаў», а тым балей дапушчаць іх сяньня да выяўленьня нацыянальнае ініцыятывы (дый яшчэ на пярэднім пляне), ці аж выпіраць іх на чало нацыянальнае рэпрэзэнтацыі»*[50]. Гэткі закід, зроблены чалавекам, які сам працаваў на нямецкія структуры ў часе вайны, быў абвяшчэннем сапраўднай вайны. Артыкулам была ўзнятая праблема, агучвання якой навонкі старанна пазбягалі дзеячы часоў нямецкай акупацыі, бо фармальна «квіслінгоўства» льга было закінуць усім, хто раней уваходзіў у БЦР, нават калі яны потым і перайшлі ў стан прыхільнікаў Міколы Абрамчыка. Тым не менш, знак «квіслінга» надалей стасаваўся выключна да прыхільнікаў Радаслава Астроўскага ўжо на эміграцыі, і гэтае абвінавачанне ў вачах акупацыйнай адміністрацыі магло быць вельмі небяспечным. Такія напады нават у колах Міколы Абрамчыка ўспрымаліся неадназначна. Шмат хто не жадаў палемікі на падобным узроўні і спадзяваўся на мірнае вырашэнне палітычнага канфлікту вярхоў[51].

Ад наступнага нумару «Бацькаўшчыны» на яе старонках у рэдакцыйных артыкулах абавязкова закраналася тэма БНР і палітычнага супрацьстаяння з БЦР, а таксама пачалі з'яўляцца рэпартажы з падзеяў, вынікам якіх было прызнанне адзіным прадстаўніцтвам беларусаў на эміграцыі Рады БНР. Першы такі рэпартаж з'явіўся яшчэ да публікацыі Дэкларацыі Рады БНР. Так, у падтрымку Прэзідэнта БНР выступілі беларусы французскай зоны на

---

[49] **Квіслінг** — здраднік, чалавек, які супрацоўнічае з нацыянальным ворагам. Паняцце паходзіць ад імя нарвежскага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча Відкуна Квіслінга, які садзейнічаў захопу Нарвегіі нацысцкай Нямеччынай.

[50] Антыбальшавізм і антыфашызм // Бацькаўшчына. № 3 (6). 08.02.1948.

[51] Гл.: Ліст М. Абрамчыка да В. Жук-Грышкевіча ад 26.04.1948. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

з’ездзе 4–5 лютага ў Існы[52], актыў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі на сходзе 1 лютага[53], Задзіночанне беларускіх ветэранаў на другім з’ездзе 29 лютага[54] і іншыя. 25 сакавіка 1948 г. з нагоды 30-гадовага юбілею абвяшчэння незалежнасці БНР на старонках «Бацькаўшчыны» быў апублікаваны «Маніфэст Рады Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР)», які выкладаў гістарычную канцэпцыю пераемнасці ўлады па лініі БНР і згадваў нарэшце імя самога Міколы Абрамчыка як спадкаемцы Васіля Захаркі. «Маніфэст» стаў чарговым этапам легалізацыі адноўленай Рады. Праўда, яго выданне па часе супала з абвяшчэннем пра аднаўленне дзейнасці БЦР Радаславам Астроўскім[55]. Цяпер працягвалі сваё змаганне ўжо афіцыйна абвешчаныя два палітычныя цэнтры беларускай эміграцыі.

Далейшае супрацьстаянне палітычных сілаў шырока адлюстравалася ў эміграцыйным друку. Палеміка з ідэалагічнымі канцэпцыямі і асабістымі закідамі не прамінула амаль ніводзін тагачасны перыёдык, паглыбляючы раскол у асяроддзі эмігрантаў. Аднак барацьба БНР—БЦР у вялікай ступені была канфліктам лідараў. Для Міколы Абрамчыка, які пры канцы красавіка 1948 г. яшчэ далёка не быў пэўны ў сваёй перамозе, немагчымасць пагаднення з Радаславам Астроўскім, да якога штурхалі яго шматлікія прыхільнікі, мела прынцыповы характар. Ён пісаў:

*«…Пішуць мне аб памылках, нятактах па адношаньні Астр.[оўскага] А той, пасьміхіваючыся сабе ў вус, адно й знае сыстэматычна і ўпорыста праводзіць дэструктыўную працу, дакаціўшыся да таго, што, сабраўшы навокал сябе самы чорны з гледзішча бел. нац. элемэнцік, зьбірае цяпер подпісы між беларусаў і маскалёў аб закрыцьці «Бацькаўшчыны» як газэты, выклікаючай закалот і абурэньне сярод беларускай эміграцыі. А тут лісты: З Астр[оўскім]. нетактоўна паступілі… трэба было да яго паехаць, дагаварыцца… можа-б ён гэтага і не рабіў… Астроўскі адыграў пазітыўную ролю на Бацькаўшчыне, як гэта яго падтрымлівае Вашая перадавіца «Б[еларусе] на чужыне». Дык якое ж ліха гэты тады Абрамчык так прымаецца свайго таго «прэзыдэнцкага» крэсла — як мае ў такім разе рацыю Астроўскі…*

*Вось жа, даражэнькія, мая сытуацыя такая, што калі ня змусіць цяпер аддаць «тога прэзыдэнскага крэсла» Астр. (чаго я ніколі не зраблю) дык могуць быць пэўныя (усе тыя, што мяркуюць справу палагоджаньня з Астр. магчымай) — мець «гэта Прэзыд. крэсла» ў кожную ад мяне хвіліну. Гэта я зраблю зь вялікай прыемнасьцю, або толькі знайшоўся чэсны чалавек ды згадзіўся гэта на сябе ўсё пераняць. Тое-ж, што я не спаткаўся і ня*

[52] Дэлегат. Зьезд беларусаў у францускай зоне // Бацькаўшчына. № 4 (7). 15.02.1948.

[53] Рэзалюцыя актыву Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі // Бацькаўшчына. № 5 (8). 22.02.1948.

[54] Другі зьезд Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Нямеччыне // Бацькаўшчына. № 7 (10). 07.03.1948.

[55] Адпаведны дакумент Радаслаў Астроўскі падпісаў таксама 25 сакавіка 1948 г.

*гутарыў з Астроўскім, ніколі ня каюся, а цяпер тым больш задаволены, бо пераканаўся ў 100 %, што гэта агэнт, калі не бальшавікоў дык прынамся белых маскалёў. А потым зрабіў бы вялікую памылку, калі б дагаварыўся нат да якойсь спаўпрацы з гэным так амаральным і бяздушым чалавекам. У Штокгольме мне ягоны калішні вучань (Лукашык), разповядаючы, як ён выцягваў з-за лавы вучняў і перадаваў у рукі польскай паліцыі, выклікаў да мяне такую агіду, што зь ім бы проста не хацеў гутарыць так, як з чалавекам, наогул. Дый як жа чалавек, рука якога ня дрыгнула аддаваць ў польскія вастрогі бел. дзяцей, чалавек, які сяньня мотам свае прапаганды выбраў тое, што паўнамоцтвы БНР былі перададзены БССР у 1935 г. (залатыя слоўцы Масквы), а сяньня зьбірае подпісы з зарубежнікамі і ўсякай свалотай спасярод маскалёў, каб зачыніць адзіную бел. газэту — можна б было быць пэўным у супрацоўніцтве з чалавекам такой маралі? Можна б было паверыць таму чалавеку якуюсь адказную, сягоньня асабліва, акцыю? Вось жа таму я сёньня цалком і падзяляю думку тых, што такіх гадзюкаў толькі біць і біць з усёй энэргіяй. Адно з двух: або мы стаім на нашым традыцыйным становішчы, на якім стаялі ўсе ў сьвеце, што як бы там ня было, ідэйны рух можна ўтрымаць на кадрах ідэйна ахвярных людзёх, або расчынім дзьверы да гэтых кадраў, для ўсялякага каналіі і будзем, заплюшчыўшы вочы, корчыцца да кутка, покуль уся тая каналія не перабярэ ўсё кіраўніцтва ў свае рукі. Такім та шляхам мы бязумоўна ўніклі б барацьбы, але што б выйшла? Вось жа я покуль буду жыць, на такі шлях не пайду ніколі. Калі б навет і быў пераконаны, што кумпанію прайграю. Гісторыя тады хай судзіць. Астроўскі сягоньня, падобна, мае шансы выйграць (у Нямеччыне) такую купманію сярод масаў. І калі яе выйграе, дык толькі дзякуючы жыткацеласьці тае нашае інтэлігенцыі, якая ўсё яшчэ шукае згоду з Астроўскім, а той кпіць і лупіць нам усім ускуру, даўно ўжо згаварыўшыся з розным чорным і варожым нам элемэнтам. Адабраць ад Астр. масы можна толькі безкампрамісовым зь ім змаганьнем, усякія ж палавінчатыя зь ім флірты толькі яму на руку. Астроўскага палітыка бэс[?]яльскай. Ён, згаварыўшыся з бальшавікамі, безумоўна хочыць забіць двух зайцоў, і — уратаваць сваю скуру за супрацоўніцтва з немцамі, і пры помачы бальшавікоў і паўбальшавікоў-зарубежнікаў ускараскацца на верх палітычнага кіраўніцтва жыцьця беларусаў…»*[56]

Відавочна, што фактар асабістых супярэчнасцяў лідараў зрабіў найбольшы ўплыў на далейшую палітычную гісторыю эміграцыі. Праўда, ёсць сведчанні, што ў аднаўленні БЦР былі зацікаўленыя таксама і знешнія (пазабеларускія) чыннікі. Барыс Рагуля згадвае, што зяць Радаслава Астроўскага распавядаў пра гэткую цікавасць з боку брытанскіх колаў (відавочна, спецслужбаў): *«Пэўныя ангельскія колы зацікаўлены ў захаваньні БЦР як палітычнага прадстаўніцтва. Яны былі ў кантакце з Астроўскім. Я ня ве-*

[56] Ліст М. Абрамчыка да В. Жук-Грышкевіча ад 26.04.1948. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

*даю дэталяў, але, магчыма, альянты маюць намер супрацьстаяць савецкай экспансіі, і нам трэба быць гатовымі да такога павароту падзей»*[57]. Пра кантакты прыхільнікаў Прэзідэнта БЦР з брытанскімі спецслужбамі ёсць і іншыя звесткі[58]. Наогул жа, барацьба за ўвагу знешніх сілаў надалей стала яшчэ адным аспектам супрацьстаяння БНР — БЦР.

Арганізацыйнае ж афармленне аднаўлення Рады БНР можна лічыць завершаным толькі пасля яе сесіі, што адбылася 20–21 чэрвеня 1948 г. у тым самым Остэргофене. Менавіта на ёй былі канчаткова і ўжо цалкам легальна аформленыя органы кіравання БНР: Прэзідыум і камісіі Рады, а таксама Рада міністраў. Тады ж былі сфармуляваныя канцэпцыі нутранай і знешняй палітыкі БНР[59]. Ад гэтага часу Прэзідэнт БНР перастаў сумяшчаць функцыі кіраўніка Ураду.

Такім чынам, аднаўленне Рады БНР прайшло ў некалькі этапаў. Першы з іх меў своеасаблівы «падпольны» характар, калі ад сакавіка 1946 г. да канца 1947 г. Урад на чале з Міколам Абрамчыкам дзейнічаў неафіцыйна, падрыхтоўваючы фармальнае аднаўленне Рады. Другі (канец 1947 — чэрвень 1948 гг.) быў звязаны з рэалізацыяй працэсу легальнага аднаўлення Рады БНР, які пачаўся прысягай радных і прыняццем Статута, а скончыўся фармаваннем новых кіраўнічых органаў. Абодва этапы праходзілі ва ўмовах супрацьстаяння з прыхільнікамі БЦР, што мела тэндэнцыю да нарастання і вынікам якога стала афармленне вяртання БЦР. Такім чынам, у чэрвені 1948 г. на палітычнай арэне беларускай эміграцыі канчаткова зацвердзіліся два цэнтры, змаганне якіх перадвызначыла асаблівасці паваеннай гісторыі беларусаў на Захадзе.

У самой жа дзейнасці Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка можна вылучыць два перыяды, звязаныя з лакалізацыяй кіраўнічых структураў: *нямецкі* (1948 — пачатак 1950 г.), калі Рада і Урад збіраліся і дзейнічалі ў Нямеччыне, і *амерыканскі* (ад сярэдзіны 1950 г.), калі кіраўнічыя структуры (за выключэннем Прэзідэнта) перамясціліся ў ЗША. Згаданыя перыяды адрозніваліся паміж сабою не толькі геаграфічным аспектам, але і самім характарам дзейнасці Рады.

---

57 Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне… С. 31.

58 Гардзіенка, Натальля. Людвік Галубовіч (Зарэчны) і Дзьмітры Касмовіч у лістах 1951–1953 гг. // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 271–301.

59 Сэсія Рады БНР: Паведамленне беларускага прэсбюро // Бацькаўшчына. 04.07.1948.

# НЯМЕЦКІ ПЕРЫЯД ДЗЕЙНАСЦІ РАДЫ БНР
# *(1948 — пачатак 1950 г.)*

## Арганізацыйная структура

Прыняты ў снежні 1947 г. Статут Рады БНР, які перадвызначыў яе арганізацыйную структуру, уяўляе сабой адносна невялікі дакумент, які складаецца з 7 раздзелаў і 39 артыкулаў[60]. Параўнанне фармулёвак артыкулаў дае магчымасць меркаваць, што асновай для стварэння Статута БНР быў Статут БЦР узору 14 студзеня 1945 г.[61] У БНР-аўскі, што праўда, былі ўнесеныя

[60] Тэкст Статута змешчаны ў раздзеле «Дакументы» гэтай кнігі.

[61] У абодвух статутах падобная структура. У Статуце БЦР толькі менш раздзелаў (6) і менш артыкулаў (38). Аднак характар і паслядоўнасць фармулёвак асабліва ў першых раздзелах вельмі падобныя. Параўнай: Статут БЦР (14.01.1945):

*«1. Паўнамоцтвы, мэты і заданьні БЦР*

*Арт. 1. Беларуская Цэнтральная Рада выяўляецца адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу […]*

*Арт. 2. Палітычныя заданьні Беларускай Цэнтральнай Рады вызначаны пастановамі 2-га Усебеларускага Кангрэсу:*

*Галоўным палітычным заданьнем БЦР ёсьць арганізацыя ўсіх сілаў беларускага народу для змаганьня за вызваленьне Беларусі і здабыцьцё ейнае незалежнасьці.[…]*

*Арт. 6. Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта БЦР належаць:*

*а) рэпрэзэнтацыя БЦР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаваў і народаў;*

*б) мабілізацыя ў беларускае войска, вызначэньне ягонага галоўнага кіраўніцтва, надаваньне і пазбаўленьне афіцэрскіх рангаў;*

*в) вызначэньне наступнікаў Прэзыдэнта БЦР, згодна з арт. 17 б Статуту;*

*г) пакліканьне і адкліканьне радных БЦР згодна з арт. 17-мр Статуту;*

*д) вызначэньне і прыймо дымісіі Шэфа Калегіі БЦР, згодна з арт. 30 Статуту;*

*е) зацьверджаньне на прапанову Шэфа Калегіі БЦР складу Калегіі […]»*

Статут Рады БНР (28.12.1947):

*«I. Паўнамоцтвы, мэты й заданьні.*

*§1. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на чале з Прэзыдэнтам БНР зьяўляецца адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу […]*

*§3. Аснаўным палітычным заданьнем Рады БНР зьяўляецца зьдзейсьненьне волі Беларускага Народу, выражанай у Акце 25 сакавіка 1918 г., гэта значыць адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасьці на ўсіх землях, якія ў 1917–1918 гг. належылі да беларускага этнаграфічнага абшару […]*

*§8. Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта БНР належыць:*

*а. Рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў.*

*б. Пакліканьне сяброў Рады БНР.*

адмысловыя праўкі і прынцыповыя артыкулы, якія істотна змянілі характар папярэдняга (БЦР-аўскага) варыянта. Па-за дэкляраваннем ролі Рады БНР як адзінага прадстаўніка інтарэсаў беларускага народу, пераемнасці паўнамоцтваў Прэзідэнта ад Васіля Захаркі і этнаграфічных тэрыторый як абшару беларускай дзяржаўнасці, ключавым момантам у Статуце стала стварэнне значна больш арыентаванай на асобу кіраўніка структуры. Так, калі Прэзідэнт БЦР абіраўся Пленумам на 5 гадоў і іншых пасадаў не меў, то Прэзідэнт БНР адначасова быў і Старшынёй Рады і Прэзідыума. Акрамя таго, ён аднаасобна вызначаў прэм'ер-міністра і зацвярджаў прадстаўлены апошнім склад Ураду (паводле Статута БЦР, зацвярджэнне складу Калегіі (аналаг Ураду) БЦР уваходзіла ў кампетэнцыю Пленума (заканадаўчага органа))[62]. Менавіта Прэзідэнт не толькі вызначаў радных, але і склікаў сесіі Рады (афіцыйна не радзей як раз на 6 месяцаў, але рэальна так ніколі не было), зацвярджаў Суд, а таксама вызначаў свайго пераемніка. «Тэстаментавы» прынцып перадачы ўлады быў адмыслова ўнесены ў Статут Рады БНР, што замацоўвала неабмежаваныя ў тэрміне паўнамоцтвы Прэзідэнта, у адрозненне ад выбарнай сістэмы ў БЦР.

Статут Рады БНР вызначаў паўнамоцтвы Прэзідэнта, Рады, Прэзідыума, Ураду і Суду Рады БНР, аднак агулам арганізацыйная частка лепей была распрацавана ў Статуце БЦР. У варыянце ж, прынятым з ініцыятывы Міколы Абрамчыка, відавочна, з увагі на першапачаткова канспірацыйны характар дзейнасці, адметнае месца займаюць артыкулы, якія датычаць таямніцы дзейнасці Рады (з 39 артыкулаў таямніца інфармацыі згадваецца ў чатырох, у тым ліку і ў тэксце прысягі раднага[63]). Больш падставаў, чым у БЦР, вызначаны ў Статуце Рады БНР і для адклікання радных. Тут не толькі дзейнасць насуперак пастановам ці Акту 25 сакавіка, але і тое ж раскрыццё таямніцы, грамадская бяздзейнасць ды праяўленне *«іншых маральных ці нацыянальных заганаў»*[64].

Можна меркаваць, што асноўны дакумент пасляваеннай Рады БНР шмат у чым ствараўся непасрэдна з улікам асобы Міколы Абрамчыка, дзеля зручнасці найперш яго дзейнасці. У Прэзідэнта было дастаткова паўнамоцтваў, каб працаваць ад імя новастворанай структуры пры адсутнасці кантролю ці выразных абмежаванняў для ўласнай актыўнасці. Цікава, што Статут не вызначаў кворуму для пасяджэнняў Рады, агаворваючы іх правамоцнасць пры

---

*в. Прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і нацыянальных прадстаўніцтвах іншых народаў.*

*г. Прызначэньне і адкліканьне прэм'ер-міністра БНР.*

*д. Зацьверджаньне складу Рады Міністраў БНР. […]»* і г.д. Тэкст Статута Рады БНР змешчаны ў раздзеле «Дакументы».

[62] Гл. Статут БЦР 14.01.1945 г. арт. 17-з.

[63] У Статуце БЦР такога паняцця як таямніца наогул няма.

[64] Гл. артыкул 12 Статута Рады БНР.

ўмове, што *«Рада праўна скліканая й сябры своечасова паведамленыя»*[65]. У сітуацыі раскіданасці радных гэта стварала пэўныя складанасці з папярэднім іх паведамленнем, але дазваляла Радзе збірацца ў любым рэальна магчымым на дадзены момант колькасным складзе і прымаць патрэбныя пастановы.

Шырокія паўнамоцтвы Прэзідэнта і адсутнасць фармальнага кантролю за ягонымі дзеяннямі надалей паўплывала на характар нутраных дачыненняў у Радзе. Хоць на нямецкім этапе яе дзейнасці гэтая акалічнасць яшчэ не адыграла вялікай ролі.

Як ужо згадвалася вышэй, асноўныя кіруючыя органы паводле Статута Рады БНР былі сфармаваныя толькі на сесіі Рады 20–21 чэрвеня 1948 г.

Тут трэба зрабіць невялікае адступленне, звязанае з пытаннем колькасці ці чарговасці сесіяў Рады. Паводле афіцыйных дакументаў (найперш, апублікаванага ў 1948 г. Пратакола), сесія 20–21 чэрвеня 1948 г. называецца Трэцяй сесіяй Рады БНР. Адсюль паўстае пытанне пра тое, калі адбыліся першыя дзве. Паміж аднаўленчай сесіяй канца 1947 г. і чэрвеньскай 1948 г. ніякіх сесіяў Рады не было. Такім чынам, другой сесіяй варта лічыць тую самую аднаўленчую снежаньскую, хоць ні ў адным дакуменце яна так не называецца, дый наогул фігуруе як з'езд беларускага актыву. Цалкам магчыма, што чарговасць сесіяў пасляваеннае Рады нейкім чынам працягвала гісторыю Рады даваеннай. Аднак гэтае пытанне яшчэ патрабуе дадатковага вывучэння. Тут жа зазначым толькі, што надалей будзем карыстацца пазначанай у дакументах нумарацыяй і будзем лічыць сесію 20–21 чэрвеня 1948 г. — трэцяй.

На згаданай сесіі ў склад Прэзідыума Рады ўвайшлі Ігнат Гагалінскі як першы заступнік Старшыні Рады БНР, былы пасол польскага сойму Аляксандр Стагановіч як другі заступнік Старшыні ды Станіслаў Станкевіч як сакратар[66]. Акрамя таго, у Радзе былі абраныя адмысловыя камісіі: камісія вонкавых справаў пад старшынствам Віктара Войтанкі; камісія нутраных справаў пад старшынствам Вацлава Папуцэвіча; камісія вайсковых справаў пад старшынствам Міколы Дзямідава; фінансавая камісія пад старшынствам Мечыслава Рагажэцкага; камісія праўная пад старшынствам Міколы Кунцэвіча; культурна-асветная камісія пад старшынствам Міхася Міцкевіча; інфармацыйная камісія пад старшынствам Міколы Панькова і Пётры Манькоўскага. Праўда, пра дзейнасць гэтых камісій звестак не знойдзена.

Рада БНР збіралася ў Нямеччыне пасля чэрвеня 1948 г. толькі аднойчы — 8–9 кастрычніка 1949 г., калі адбылася Чацвёртая сесія Рады БНР (у прамежку паміж сесіямі ў сакавіку 1949 г. збіраўся Прэзідыум). Асноўная праца ў нямецкі перыяд дзейнасці Рады належала, зразумела, Прэзідэнту, а таксама новаму Ураду, першапачатковы склад якога быў вызначаны так: Вітаўт Тумаш — прэм'ер-міністр і міністр аховы здароўя; Аўген Каханоўс-

---

[65] Гл. артыкул 25 Статута Рады БНР.

[66] Пратакол № 2 паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР 21 чэрвеня 1948 г. у Остэргофене. Гэты і наступныя пратаколы ў спасылках гэтага нарысу публікуюцца ў раздзеле «Пратаколы».

кі — першы віцэ-прэм’ер і міністр замежных справаў; Мікола Гарошка — другі віцэ-прэм’ер і міністр народнае гаспадаркі; Станіслаў Грынкевіч — міністр нутраных справаў; Францішак Кушаль — міністр вайсковых справаў; Аляксандр Орса — міністр культуры і веравызнанняў; Антон Адамовіч — міністр прэсы і інфармацыі; Лявон Галяк — міністр юстыцыі; Лявон Рыдлеўскі — міністр працы і сацыяльнага забеспячэння; Гіпаліт Паланевіч — Дзяржаўны сакратар[67].

Ужо да жніўня 1948 г. ва Урадзе адбыліся змены. Вітаўт Тумаш адмовіўся ад прапанаваных яму пасадаў, таму кіраванне перайшло да Аўгена Каханоўскага. Функцыю кіраўніка Ураду ён спачатку выконваў дэ-факта, і толькі ў сакавіку 1949 г. быў зацверджаны на пасадзе прэм’ер-міністра афіцыйна. Першапачаткова адмовіўся ад пасады міністра прэсы і інфармацыі таксама Антон Адамовіч. Аднак прыкладна праз год ён адклікаў сваю рэзігнацыю і вярнуўся да працы ў міністэрстве, якое праз увесь гэты час не працавала. Зрэшты, цягам першага года амаль не дзейнічалі і некаторыя іншыя міністэрствы: міністэрства нутраных справаў, міністэрства культуры і веравызнанняў (пачало актывізавацца толькі ў 1949 г.). Ніякіх звестак пра працу да кастрычніка 1949 г. няма пра міністэрствы народнай гаспадаркі, юстыцыі, працы і сацыяльнага забеспячэння.

Пасяджэнні Ураду адбываліся досыць рэгулярна ў розных лагерах: Остэргофене, Міхельсдорфе, Віндышбергердорфе, Розенгайме. Аднак цягам 1948–1949 гг. больш-менш заўважную актыўнасць выяўлялі толькі міністэрства фінансаў, на чале якога ад жніўня 1948 г. стаў Сымон Кабыш (Кандыбовіч), міністэрства вайсковых справаў ды міністэрства замежных справаў. Апошняе пад кіраўніцтвам прэм’ер-міністра цягам першых гадоў дзейнасці аднаўленай Рады БНР працавала найбольш актыўна, аднак агульная эфектыўнасць працы Ураду была невялікая. Аўген Каханоўскі мусіў у траўні 1949 г. даслаць ультыматум міністэрствам з патрабаваннем разгарнуць працу; праўда, сітуацыя не змянілася. У выніку на Чацвёртай сесіі Рады БНР прэм’ер-міністр разам з Урадам падаў у адстаўку, аднак на просьбу Міколы Абрамчыка той жа Аўген Каханоўскі ўсё ж пагадзіўся сфармаваць новы склад Ураду. Цяпер сюды ўваходзілі: прэм’ер-міністр і міністр замежных справаў Аўген Каханоўскі, віцэ-прэм’ер і міністр нутраных справаў Мікола Кунцэвіч, міністр прэсы і інфармацыі Антон Адамовіч, міністр культуры і веравызнанняў Аляксей Вініцкі, міністр планавання Сымон Кабыш, выконваючы абавязкі міністра фінансаў Віталь Кажан (на пасаду міністра фінансаў планаваўся Уладзімір Шыманец), Дзяржаўны сакратар Гіпаліт Паланевіч[68]. Разгарнуць актыўную працу гэты кабінет міністраў у Нямеччыне не паспеў, бо цягам 1950 г. большасць яго сябраў перабралася ў ЗША.

---

[67] Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 20.8.1948 г., Міхельсдорф.

[68] Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 14–15.10.1949, Розэнгайм — Нямеччына.

Эфектыўнай працы ўраду ў нямецкі перыяд найбольш заміналі некалькі акалічнасцяў. Па-першае, стан падрыхтоўкі да эміграцыі ў іншыя краіны, у якім знаходзілася большасць радных. Працэс выезду вымагаў не толькі афармлення дакументаў, але і праходжання розных камісіяў, перасяленне ў транзітныя лагеры і г. д., што істотна замінала грамадскай і палітычнай дзейнасці. Па-другое, уласна міністэрствы звычайна (як пераважна ў эміграцыйных арганізацыях) складаліся толькі з асобы кіраўніка. Ніякага дадатковага апарату па-за самімі міністрамі не было. У той жа час, дзеячы Ураду, як правіла, займаліся і дадатковай грамадскай працай: удзельнічалі ў кіраўніцтве іншых арганізацый, выданні перыёдыкаў і г. д. Прыкладам, Аляксандр Орса адначасова кіраваў Беларускай гімназіяй імя Я. Купалы, Антон Адамовіч быў рэдактарам газеты «Бацькаўшчына»… Аднолькава эфектыўна выконваць розныя абавязкі было немагчыма, тым больш, што праца ў Радзе ці Урадзе БНР часта ўспрымалася як другасная, якая не ішла на першым месцы. І гэтая праблема захавалася ў кіраўніцтве БНР цягам бадай усёй паваеннай гісторыі.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы працы, Урад БНР меў даволі амбіцыйныя планы працы і хаця б часткова намагаўся іх рэалізоўваць.

## Унутраная палітыка Рады БНР

Адным з найважнейшых напрамкаў нутранай дзейнасці Рады БНР першых гадоў пасля аднаўлення стала гуртаванне беларусаў вакол адноўленай БНР і змаганне з «зарубежнікамі». Нездарма ў першай апублікаванай у прэсе Пастанове сесіі Рады БНР адносна нутранай палітыкі палова тэксту была прысвечаная змаганню з палітычнымі апанентамі. У дакуменце сцвярджалася, што *«трэба перайсьці ад абароны перад зарубежніцтвам да станаўкога канцэнтрычнага наступу, пераймаючы ініцыятыву змаганьня з варожай агентурай у свае собскія рукі»*. Змагацца прапаноўвалася шляхам *«выясьненьня й дэмаскаваньня перад беларускім грамадзтвам шкодных для беларускага народу мэтаў зарубежніцтва й недапушчальнасьці ўжываных ім спосабаў у змаганьні»*. Пры гэтым самі радныя мусяць *«ні ў якім выпадку не паслугоўвацца мэтадамі пашквіляў і лаянкі, а захоўваць поўную этыку й нацыянальную годнасьць»*[69].

Змаганне з палітычнымі апанентамі працягвалася, як і раней, на арганізацыйным узроўні: шляхам стварэння новых або вызнавання Рады БНР ва ўжо існуючых арганізацыях. У выніку грамадскі абшар беларусаў паступова і няўхільна падзяляўся паводле палітычнай прыкметы, і нейтральных арганізацыяў амаль не заставалася.

Як ужо згадвалася, прыхільнікі Рады БНР працавалі ў цэнтральных арганізацыях у Нямеччыне: Беларускім нацыянальным камітэце ў амерыканскай зоне, Беларускім нацыянальным цэнтры, Беларускім цэнтральным

[69] Пастанова Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў справе беларускае нутраное палітыкі // Бацькаўшчына. № 24 (27). 11.07.1948.

дапамаговым камітэце ў Нямеччыне. Гэты апошні яшчэ на з’ездзе 24–25 красавіка 1948 г. не толькі выказаўся ў падтрымку Рады БНР, але і адмыслова змяніў сваю назву на Беларускі нацыянальны камітэт. Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускай эміграцыі ў Нямеччыне[70]. Відавочна, гэты крок быў зроблены як супрацьпастаўленне правядзенню выбараў у Беларускае цэнтральнае прадстаўніцтва, ініцыяваных яшчэ пры канцы снежня 1947 г. Радаславам Астроўскім.

У рэчышчы арганізацыйнага супрацьстаяння і гуртавання сваіх прыхільнікаў у планах дзеячаў БНР было стварэнне розных галіновых арганізацый: ветэранскіх, навуковых, мастацкіх, моладзевых. Менавіта праз іх пры адсутнасці спецыяльнага ўласнага апарату меркавалася праводзіць патрэбную палітыку. То бок Рада БНР меркавалася як своеасаблівы палітычны каардынацыйны цэнтр.

Аднак не ўсе арганізацыі станоўча ставіліся да неабходнасці вызначыць свае палітычныя прыхільнасці. Ідэя захавання нейтральнасці дзеля стрымлівання расколу ў беларускай грамадзе прысутнічала і часам мела спробы рэалізацыі. Прыкладам, можна назваць студэнцтва. Барыс Рагуля згадваў: *«Студэнты Марбургу ня прытрымліваліся выразна акрэсьленай палітычнай лініі, але больш хіліліся да бэнээраўцаў. «Аднак мы, — удакладняе Язэп Сажыч, — у гэтай крытычнай для беларускага адзінства сытуацыі намагаліся заняць нэйтральную пазыцыю, лічачы, што палітычны раскол ня меў сур’ёзных падстаў і толькі спрыяў воляй-няволяй нашым ворагам — камуністам, якія імкнуліся падарваць і зьнішчыць наш нацыянальна-вызваленчы рух». У 1947 мы вырашылі паспрабаваць аб’яднаць дзьве палітычныя групы і склікалі зьезд актыву абедзьвюх палітычных груповак у Марбургу. Унівэрсытэт адвёў прыгожую залю, і думалася, што ўжо адно гэта дапаможа ахаладзіць гарачыя галовы і дайсьці да нейкай згоды ці кампрамісу. Два дні дыскутавалі, здавалася, былі блізкія да паяднаньня, але на гэтым толькі і засталося. Разьехаліся дый надалей абкідалі адны адных балотам. Шкада, бо й там і тут былі шчырыя патрыёты, але ня мелі дасьведчаньня ў прынцыпах дэмакратыі, ня ўмелі шанаваць думкі апанентаў і падпарадкавацца выбранай бальшынёй управе аж да наступных выбараў»*[71]. Значная колькасць прыхільнікаў Рады БНР сярод студэнтаў была звязаная з тымі актыўнымі захадамі ў атрыманні стыпендыяў, якія рабіліся менавіта па лініі Рады.

Для яднання прыхільных арганізацый у розных краінах, а таксама каб дапамагчы Радзе ў каардынацыі іх дзейнасці, ужо ў 1948 г. у Міколы Абрамчыка нарадзілася ідэя стварэння адмысловай структуры — Сусветнага аб’яднання беларускай эміграцыі (САБЭ). Прэзідэнт агучыў ініцыятыву па скліканні агульнаэміграцыйнага з’езду яшчэ ў сваім лісце да Вінцэнта Жук-Грышкевіча 22 траўня 1948 г., калі пісаў: *«…дзесь пад канец ліпня ці пачатку жніўня хочым зрабіць у Парыжу зьезд прадстаўнікоў усіх эмігранцкіх арга-*

[70] Зьезд прадстаўнікоў эміграцыі // Бацькаўшчына. № 14 (17). 2.05.1948.

[71] Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне… С. 35.

*нізацыяў (рэальна прыедзе асоб 5–7 зь Нямеччыны, 1–2 з Бэльгіі, ну і ад вас з Англіі; з Амэрыкі і Канады хіба будзем мецъ мандаты). Укантытуявалі-б Цэнтралю эміграцкага прадстаўніцтва. Гэта справа ўжо дагаворана ў Нямеччыне, французы згаджаюцца даць візы. Вось, думаю, тады ўсе, спаткаўшыся разам, і пагаворым»*[72].

Рэальнае спатканне адбылося крыху пазней — ад 28 лістапада 1948 г. цягам пяці дзён трываў у Парыжы Сусветны з’езд беларускай эміграцыі. Паводле афіцыйнай інфармацыі, на ім былі прадстаўлены 22 дэлегаты ад 10 краінаў беларускай эміграцыі: Францыя — 9 дэлегатаў, Англія — 4 дэлегаты, Нямеччына — 2 дэлегаты, Бельгія, Італія, Данія, Швецыя, Аргенціна, Аўстралія і Канада — па адным дэлегаце[73]. Рэальных жа прадстаўнікоў было відавочна меней, бо ўявіць прыезд беларускіх кантрактных працаўнікоў пры канцы 1948 г. з Аргенціны, Аўстраліі ці Канады ў Францыю за ўласны кошт немагчыма. Складанасці мелі і беларусы з Нямеччыны. Тым не менш, сваёй прысутнасцю або праз дэлегаваныя паўнамоцтвы на з’ездзе былі прадстаўленыя цэнтральныя беларускія арганізацыі ў згаданых краінах, якія падтрымлівалі Раду БНР. Вынікам з’езду стала стварэнне Сусветнага аб’яднання беларускай эміграцыі «дзеля гуртаваньня ўсіх нацыянальных сілаў беларускае эміграцыі й каардынацыі яе арганізацыйна-творчай працы»[74]. Усім беларускім арганізацыям раілася тэрмінова навязаць сувязь з САБЭ, а дэталізаваныя заданні новай структуры вельмі нагадвалі планы дзейнасці міністэрства нутраных спраў Ураду БНР:

*«1. Узмоцніць акцыю ўсьведамленьня, гуртаваньня й арганізаваньня беларусаў.*

*2. Зьвязаць і здысцыплінаваць грамадзкія актывы пры помачы канкрэтнай праграмы дзеяньня і тактыкі, дастасаваных да мясцовых патрэбаў і ўмоваў так, каб праца вялася рацыянальна, плянава і сыстэматычна бяз ніякіх перарываў.*

*3. Старацца стварыць сталыя матар’яльныя базы для беларускай грамадзкай працы, выкарыстоўваючы для гэтага мясцовыя ўмовы й магчымасьці.*

*4. Стварыць адзінае ўсебеларускае кіраўніцтва ўсёй беларускай работы на эміграцыі і ўсестароньняй апекі над беларускімі эмігрантамі ўва ўсіх краінах, дзе-б яны ня былі, з прадстаўніцтвамі ад усебеларускага кіраўніцтва.*

*5. Сканцэнтраваць і скаардынаваць усе высілкі ў справе беларускай прэсы і выдавецтва наагул.*

---

[72] Ліст М. Абрамчыка да В. Жук-Грышкевіча ад 22.05.1948. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

[73] Прысутны. 1-шы Сусьветны Зьезд Беларускае Эміграцыі // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948.

[74] Зварот 1-га Сусьветнага Зьезду Беларускае Эміграцыі да беларусаў і беларусак ва ўсім сьвеце // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948.

*6. Стварыць Цэнтральную Беларускую Інфармацыйную Службу і архіў дакумантаў.*

*7. Правесьці рэгістрацыю беларускіх эмігрантаў ўва ўсіх краінах.*

*8. Дзеля аб'яднаньня і скансалідаваньня ўсей беларускай эміграцыі — праводзіць сталае, пляновае і сыстэматычнае змаганьне з усякага роду дэструкцыйнай работай і дывэрсыяй, скіраваных на разьбіцьцё беларускага жыцьця — з асаблівай увагай на зарубежніцтва й астроўшчыну.*

*9. У грамадзкай рабоце праводзіць рацыянальны падзел працы, не дапускаючы, каб кіруючы актыў, які перагружаны арганізацыйнай работай, займаўся яшчэ тэхнічнай працай, не вымагаючай спэцыяльных кваліфікацыяў.*

*10. У парадку грамадзкай дысцыпліны забавязаць да актыўнай працы ўсе інтэлігенцкія кваліфікаваныя адзінкі, якія дагэтуль адзначаюцца бязьдзейнасьцяй.*

*11. Узмоцніць высілкі дзеля павялічэньня колькасьці студыюючых беларусаў з мэтай запэўненьня росту кадраў беларускай інтэлігенцыі і арганізацыі беларускіх школаў і навуковых установаў.*

*12. Зьвярнуць увагу на арганізацыйна-грамадзкую і ўзгадаваўчую работу беларускіх жанчын-матак беларускіх пакаленьняў.*

*13. Ува ўсёй рабоце прыслухоўвацца да голасу масаў беларускай эміграцыі і ўзгадняць зь імі і іх патрэбамі бягучую штодзённую дзейнасьць.*

*14. Стварыць цэнтралю беларускіх камбатантаў-вайскавікоў у сусьветным значэньні дзеля кансалідаваньня і каардынаваньня іх арганізацыйнай работы.*

*15. Сабраць усе паданыя на Зьезьдзе справаздачы на пісьме, адбіваючыя абраз жыцьця і працы беларускай эміграцыі і выдаць іх друкам»*[75].

Сапраўды, заданні САБЭ як грамадскай арганізацыі шмат у чым паўтаралі задачы дзейнасці Рады БНР па каардынацыі нацыянальнай дзейнасці. Магчыма, грамадская арганізацыя павінна была падмацаваць актыўнасць структуры палітычнай. Аднак была і яшчэ адна істотная акалічнасць. Пры складанасцях выезду беларускіх дзеячаў, што ўваходзілі ва Урад БНР, з Нямеччыны, Прэзідэнту патрэбная была побач (а цэнтрам САБЭ быў Парыж) больш дзейная і мабільная структура, якая б фармальна магла выступаць таксама ад імя ўсёй беларускай эміграцыі. Менавіта таму ў кіраўніцтве Аб'яднання былі прадстаўленыя найперш парыжскія беларусы, а кіраўніком стаў найбліжэйшы калега Міколы Абрамчыка, чалавек, з якім разам ён з Прагі пешкі ішоў да Францыі, Лявон Рыдлеўскі[76]. Такім чынам, САБЭ

---

[75] Рэзалюцыя ў сувязі з дакладамі з месцаў // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948.

[76] У склад Ураду САБЭ ўвайшлі: старшыня — Лявон Рыдлеўскі (Францыя), заступнікі старшыні — Вінцэнт Жук-Грышкевіч (Вялікабрытанія), Уладзімір Тамашчык (Нямеччына), Уладзімір Шыманец (Францыя), сакратар — Янка Сурвіла (Францыя), рэферэнты духоўнай апекі епіскап Сяргей (Нямеччына) і а. Францішак Чарняўскі (Францыя), рэферэнт сацыяльнай апекі — а. Леў Гарошка (Францыя),

павінна была стаць дадатковай рэпрэзентацыйнай структурай беларусаў на Захадзе, якая мусіла дзейнічаць паралельна і больш зладжана, чым грувасткі раскіданы па лагерах у чаканні эміграцыі апарат БНР.

Аднак праблема дублявання паўнамоцтваў дзвюх структураў выявілася даволі хутка. Некаторыя беларускія суполкі не маглі зразумець іерархію САБЭ — Рада БНР, што вымагала адмысловых тлумачэнняў[77]. Адно з найбольш яскравых непаразуменняў было звязана з фінансавай дзейнасцю, паколькі САБЭ таксама пачало збіраць сродкі ў асобны Фонд БНР. Канфлікт быў урэгуляваны, а дзейнасць Аб'яднання першыя гады выглядала даволі эфектыўнай у параўнанні з складанасцямі ў працы Ураду БНР.

За даволі кароткі час САБЭ сапраўды наладзіла сувязі з беларускімі арганізацыямі ў розных краінах свету. Ад траўня 1949 г. пачаў выдавацца адмысловы «Інфармацыйны бюлетэнь САБЭ», дзе публікаваліся звесткі пра падзеі ў беларускіх суполках. Сціплы штомесячнік выходзіў да ліпеня 1950 г., пасля чаго выданне спынілася, і пра дзейнасць САБЭ звестак з'яўлялася ўсё меней. Асноўныя падзеі палітычнага жыцця беларусаў паступова перамяшчаліся за акіян, да таго ж, сур'ёзна захварэў кіраўнік САБЭ Лявон Рыдлеўскі. У выніку ў 1952 г. было прынята рашэнне перамясціць цэнтр Аб'яднання ў Бельгію, дзе на той час быў больш актыўны беларускі асяродак. Паўнамоцтвы старшыні перадаваліся а. Аўгену Смаршчку[78], аднак пасля гэтага дзейнасць арганізацыі спынілася. А Урад БНР застаўся зноў адзінай структурай, на якую ўскладаліся надзеі каардынацыі дзейнасці беларускіх арганізацыяў у свеце.

Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што працуючы паралельна з САБЭ, Урад БНР на чале з Аўгенам Каханоўскім паспеў стварыць пэўную структуру для каардынавання нацыянальнай дзейнасці. Маецца на ўвазе сістэма прадстаўніцтваў БНР у розных краінах. Ужо ў лютым 1949 г. былі прызначаны прадстаўнікі БНР у сямі краінах: ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Канадзе, Аргенціне, Аўстраліі, Швецыі[79]. Для прадстаўніцтваў былі распрацаваныя адмысловыя інструкцыі дзейнасці з даволі шырокім абсягам. Паводле задумы, прадстаўніцтвы павінны былі стаць своеасаблівымі амбасадамі БНР, якія б у паразуменні з цэнтральным урадам выконвалі прадстаўнічыя функцыі перад мясцовымі ўладамі, кантралявалі і накіроўвалі б дзейнасць беларускіх суполак, па магчымасці супрацьдзейнічалі «варожым» арганізацыям, а таксама вялі дакладны ўлік беларусаў, структураў,

---

рэферэнт архіваў і дакументацыі — Мікола Нікан (Вялікабрытанія), рэферэнт культуры і асветы — Вінцэнт Жук-Грышкевіч (Вялікабрытанія), рэферэнт прэсы і інфармацыі — Пётр Манькоўскі (Нямеччына), фінансавы рэферэнт — Уладзімір Шыманец (Францыя). (Прысутны. 1-шы Сусьветны Зьезд Беларускае Эміграцыі // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948).

[77] Prajekt suadnosinaŭ i supracoŭnictva: BNR — SABE. Paryž, 1949. — 1 s.

[78] Kamunikat Susvietnaha Abjednannia Bielaruskaj Emihracyi. Louvain. 25.07.1952.

[79] Гл. Пратакол паседжаньня Ўраду БНР ад 26.02.1949.

мерапрыемстваў, выданняў і г. д. ды дасылалі рэгулярныя справаздачы ў цэнтр[80]. Рэальнае жыццё на месцах даволі істотна скарэктавала дзейнасць прадстаўніцтваў, якія часта ўспрымаліся як арганізацыі другасныя ў параўнанні з цэнтральнымі грамадскімі структурамі, якія і займаліся рэальнай рэпрэзентацыйнай ды арганізацыйнай беларускай працай.

Тым не менш, яшчэ ў 1949 г. Урад БНР здолеў атрымаць ад сваіх прадстаўнікоў на месцах прыкладнае апісанне стану беларускай прысутнасці ў розных краінах свету, якое было пакладзена ў аснову далейшай працы[81].

Арганізацыйная дзейнасць Рады і Ураду БНР была важная не толькі сама па сабе, але і для вырашэння надзённых задач. Так, найважнейшай у нямецкі перыяд стала дапамога ва ўладкаванні беларусаў на сталае жыццё ў розных краінах, апека, працаўладкаванне, вырашэнне візавых пытанняў.

Гэтай дзейнасцю Мікола Абрамчык, кантактуючы з рознымі міжнароднымі арганізацыямі, займаўся яшчэ да афіцыйнага аднаўлення Рады БНР. Прыкладам, узімку 1947–1948 гг. дапамагаў выезду з Даніі ў Францыю групе беларусаў. Сутнасць праблемы ён выклаў у адным са сваіх лістоў да Вінцэнта Жук-Грышкевіча:

*«Вось ужо хутка тыдзень, як я зноў у Капенгазе.*

*... разам жа са мной прыехала францускfinit камісія, ці як магу сказаць «мая» камісія, як вынік майго папярэдняга прыезду. Гэта франц. камісія бярэ сямейных зь дзяцьмі, робіць выклікі нат для старых непрацаздатных. Камісія францускfinit мае тут заставацца тры месяцы, Рыдлеўскі падшукаў вельмі выгадных кантрактаў каля Парыжу. На жаль з гэтых кантрактаў скарыстаць ня можам, бо каб яны прайшлі праз міністэрства працы патрэбна месяцы 2, а нам тут нашы «апякуны» так топчыць па пятах, што ўчора мы дагаварыліся з тутэйшымі ўладамі выехаць у першую чаргу. Г.зн. каля 20.1. пакуль нашыя «апекуны» не агледзеліся. Справа ў тым, што на некалькі асобаў яны склалі «дамаганьне выдачы» (а ў тым ліку і на Ш.) Робім таму падгатоўку свайго ад'езду паціхеньку. Але запэўнілі нас Д. што нам ня толькі не перашкодзяць, але й дапамогуць. Вось таму я вырашыў застацца пры францускай камісіі да адпраўкі першай групы і дагаварыўся, што ў гэтую групу ўвайдуць бел., а я іх буду праводзіць да Франц. Паездка таму адгэтуль у Нямеччыну, як меркаваў раней, адпадае. Паеду туды ўжо павярнуўшыся дадому — з Парыжу. Аб тутэйшых труднасьцях нікому не кажыце і не пішыце, бо найбольш далікатная справа з хлопцамі, асабліва з Ш.»*[82]

[80] Гл. Інструкцыі Прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету, змешчаныя ў раздзеле «Дакументы».

[81] Гл. Фактычныя дадзеныя аб стане беларускае эміграцыі, змешчаныя ў раздзеле «Дакументы».

[82] Ліст М. Абрамчыка да В. Жук-Грышкевіча ад 29.01.1948. Library and Archives of Canada. Raisa Zuk-Hryskievic Fonds. Vol. 3. F. 9.

Мікола Абрамчык сапраўды перавёз вялікую групу беларусаў з Даніі на сталае жыццё ў Францыю, а пазней прыязджаў з працоўнай місіяй і ў Нямеччыну. Аднак Францыя не была вельмі прывабнай краінай эміграцыі. Найбольш ахвотных імкнулася трапіць у ЗША ці Канаду. І тут БНР намагалася дапамагаць, праз наладжванне сувязяў з амерыканскімі арганізацыямі і суайчыннікамі, каб тыя дасылалі «ашурансы» ды «афідавіты» суродзічам у Нямеччыне. Праблема неабходнасці такой дапамогі даволі рэгулярна абмяркоўвалася на пасяджэннях Ураду БНР. Да таго ж, у палітычных мэтах вызначаліся больш карысныя для нацыянальнай арганізацыі краіны эміграцыі: ЗША, Канада, Аргенціна і Францыя — дзе ўжо была на той час ладная колькасць беларусаў і пэўныя асяродкі[83]. Складана сказаць, наколькі менавіта Рада прычынілася да выезду беларусаў у тую ці іншую краіну, але пэўную дзейнасць БНР у гэтым кірунку немагчыма не заўважыць.

Таксама нельга абмінуць і падтрымку з боку Рады беларускага студэнцтва. Паводле сведчання Барыса Рагулі, менавіта Мікола Абрамчык даў яму інфармацыю, што можна паспрабаваць уладкавацца ў Лювенскі ўніверсітэт[84]. І пазней Прэзідэнт БНР рэгулярна адведваў студэнтаў, сустракаўся з універсітэцкім кіраўніцтвам, дамаўляўся пра новыя стыпендыі, шукаў магчымасці ўладкавання студэнтаў не толькі ў Лювене, але і ў Мадрыдзе ды іншых месцах. На пасяджэннях Ураду і Прэзідыума Рады БНР неаднаразова падкрэслівалася важнасць дапамогі моладзі ў атрыманні вышэйшай адукацыі.

Рабіліся захады і па прафесійным уладкаванні беларускай інтэлігенцыі. У 1949 г. у Парыжы была арганізавана Міжнародная Акадэмія навук — грамадская арганізацыя, што мелася гуртаваць навукоўцаў. Сюды, дзякуючы намаганням Міколы Абрамчыка, уладкоўвалі і беларускіх інтэлектуалаў, хоць рэальная дзейнасць установы і яе карысць для даследчыкаў мала вядомыя. Беларускі аддзел тут быў адзін з найменшых, аднак сам Прэзідэнт БНР увайшоў у кіраўніцтва Акадэміі і, магчыма, атрымоўваў праз яе нейкія сродкі для беларускай дзейнасці. Падтрымку беларускіх навукоўцаў БНР намагалася ажыццяўляць у нямецкі перыяд праз дапамогу Беларускаму навуковаму таварыству імя Ф. Скарыны. Наогул Рада, прэтэндуючы на ролю каардынатара беларускай дзейнасці на эміграцыі, выказвалася за падтрыманне працы ўсіх арганізацый, якія б вызнавалі яе палітычны аўтарытэт. Аднак найбольш рэальная арганізацыйная ды фінансавая дапамога ішла для студэнцкіх, ветэранскіх і рэлігійных структураў.

Аднаўленне і падтрымка Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы стала неад'емнай часткай нутранай палітыкі Рады БНР у нямецкі перыяд.

Як вядома, пасля пераходу ў 1946 г. беларускага епіскапату ў юрысдыкцыю Расійскай зарубежнай праваслаўнай царквы для грамадска-палітычнай эліты востра паўстала пытанне не толькі стаўлення да гэтага кроку іерархаў, але і далейшых перспектыў духоўнай апекі вернікаў. Ідэя аднаўлення БАПЦ

[83] Гл. Пратакол пасяджэння Ўраду БНР ад 9.04.1949.
[84] Барыс Рагуля ўспамінае… С. 10.

стала натуральным вынікам калярэлігійных дыскусіяў, а яе ажыццяўленне выявілася своеасаблівай перамогай Рады БНР, якая актыўна ўдзельнічала ў працэсе аднаўлення і адбудовы нацыянальнай царквы. Выглядае, што Рада БНР мела непасрэднае дачыненне да самой арганізацыі аднаўленцкага саборыку БАПЦ у Канстанцы (французская зона акупацыі Нямеччыны) 5 чэрвеня 1948 г., бо тады ж было заключана пагадненне адноўленай БАПЦ з Радай аб узгадненні пасвячэння царкоўных іерархаў[85]. Пра гэта ж гаварылася на Трэцяй сесіі Рады БНР 20–21 чэрвеня 1948 г., дзе была прынятая пастанова пра неафіцыйную падтрымку БАПЦ.

Надалей у дакументах Рады і Ураду БНР зафіксавана багата сведчанняў пра непасрэдны ўдзел ў адбудове БАПЦ, тым больш, што гэта стала часткай крывіцка-зарубежніцкага супрацьстаяння. Сярод іншага згадваюцца перамовы з Уладзімірам Тамашчыкам як кандыдатам на епіскапства і зацвярджэнне яго кандыдатуры пастановай Рады БНР[86], кантакты з коламі УАПЦ па арганізацыі пасвячэння, фінансавая дапамога новастворанай царкве і яе іерархам. У красавіку 1949 г. Урад БНР даслаў усім сваім прадстаўніцтвам інструкцыю, дзе падкрэслівалася неабходнасць падтрымкі БАПЦ на месцах. У адным з пратаколаў 1949 г. згадваецца, што сродкі на БАПЦ ідуць непасрэдна з касы Ураду БНР. У сувязі з гэтым зразумелая і радасць з нагоды пасвячэння раднага БНР Васіля (Тамашчыка) на пасаду епіскапа БАПЦ, што адбылося 19 снежня 1949 г. у Розенгайме. Ад гэтага часу, калі царква атрымала свой Сабор епіскапаў, а ўладыка Сергій ужо меў адпускную грамату ад УАПЦ, аднаўленне БАПЦ прыйшло да пэўнага заканчэння ў вачах Рады БНР. Яна справядліва залічыла сабе гэта ў актыў дзейнасці нямецкага перыяду.

А вось выдавецкая дзейнасць Рады ў нямецкі перыяд не была асабліва актыўнай. Маюцца на ўвазе ўласныя выданні Рады, пра неабходнасць якіх рэгулярна сцвярджалася на пасяджэннях ураду. Так, Бюлетэнь Рады БНР выйшаў у 1947–1948 г. толькі двойчы, і планы стварэння сталага выдання так і не былі рэалізаваныя. Некаторыя выдавецкія праблемы раскрывае ліст старшыні Урада Аўгена Каханоўскага да Міколы Панькова:

*«У вадказ на Ваш ліст ад 4.7.1949 г. паведамляю:*

*1. Аб хутчэйшым аднаўленьні выданьня «Бюлетэню Рады й Ураду БНР» 9.4.1949 г. Урадам была прынятая пастанова, за выкананьне якое адказны сп. А. Адамовіч. На пакрыцьцё выдавецкіх коштаў яму-ж былі дэкляраваныя сродкі. Цяпер выяўляецца, што гэтую справу сп. А. Адамовіч даручыў Вам. Я поўнасьцю павітаў-бы Вашую ў гэтым гатовасьць і неадкладна выслаў-бы Вам грошы, калі-б не адна дзіўная акалічнасьць ува ўсёй гэтай справе.*

---

[85] Ліст Рады БНР да архіепіскапа Сяргея Ахатэнкі ад 5 кастрычніка 1967 г. // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. С. 77.

[86] Выпіска з Пратаколу Паседжаньня Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 14 сакавіка 1949 г. // Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы… С. 157.

*Вось-жа «Бюлетэнь» мае быць афіцыйным органам Рады й Ураду БНР. У ім павінны друкавацца пераважна афіцыйныя матар'ялы. Зусім зразумела таму, што ўся адказнасьць за зьмешчаны ў «Бюлетэні» матар'ял будуць несьці Прэзыдыюм Рады й Урад. Бяз іхнага ведама й згоды рэдкалегія «Бюлетэню» нічога ў ім ня можа зьмяшчаць. Дзеля таго мяне ня можа ня цікавіць, хто-ж падбіраў матар'ял для таго нумару «Бюлетэню», які пераслаў Вам сп. А. Адамовіч? У мяне матар'ялу ніхто ня браў, хоць я й заявіў сп. А. Адамовічу, што матар'ял маю. Сакратар Прэзыдыюму Рады інж. М. Рагуля аб гэтым таксама нічога ня ведае. Таму я не магу згадзіцца на тое, каб афіцыйны «Бюлетэнь» выдаваўся прыватна, а адказныя за яго нат ня ведалі аб ягоным зьмесьце.*

*2. Вашае прыпушчэньне аб тым, што з мае веды й згоды 29.6.1949 г выйшаў лісток «Інфармацыйная служба БНР» — памылковае. З фармальнага гледзішча гэта такі-ж самы факт, калі-б выйшаў «Бюлетэнь Рады й Ураду БНР» бяз ведама й Рады і Ураду.*

*3. Што да Пратаколу 3-яе Сэсіі Рады, якога я ўжо амаль год як дамагаюся ад Прэзыдыюму, то, атрымаўшы яго ад др. І. Гагалінскага, я выказаў яму свае ўвагі. Агульна яны палягалі на тым, што: а) у ім зашмат няістотных і зусім непатрэбных дробязяў, а разам з тым выпушчаныя некаторыя важныя справы (справа апрабаваньня Сэсіяй Ураду, тэксты дакладаў і г.д.). Гэтыя справы мусяць быць у самім пратаколе, а не ў дадатках да яго, тым балей, што гэтыя дадаткі пры пратаколе адсутнічаюць; б) пратакол, як важны гістарычны дакумэнт, мусіць быць добра стылістычна апрацаваны. У ім ня могуць быць таксама такія статутовыя супярэчнасьці, як «Сябра Прэзыдыюму Рады — Прэм'ер-Міністрар Ураду» і г.д. Вельмі цяжка ў лісьце аб гэтым пісаць падрабязьней, тым балей, што гэтага пратаколу я ўжо даўно ня маю пад рукамі: на просьбу др. І. Гагалінскага ад 16.2.1949 г. я яго неадкладна пераслаў б. Сакратару Прэзыдыюму Рады др. С. Станкевічу. Ад Вас-жа ў справе пратаколу я ніколі не атрымліваў лістоў: гэты ліст ёсьць першы…»*[87]

У выніку звестак пра новыя нумары Бюлетэня так і не з'явілася. А самымі перыядычнымі выданнямі БНР у нямецкі перыяд можна лічыць «Інструкцыі Прадстаўніком Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету», якіх цягам 1948–1949 гг. выйшла ажно пяць.

Што ж датычыць паасобных выданняў, дык і іх не было асабліва багата. Па-за публікацыяй афіцыйных дакументаў (Статута, Дэкларацыі, пратаколаў і г.д.), можна згадаць хіба аўтарскія выданні Міколы Абрамчыка «Аб прыродных багаццях Беларусі» (Лондан, 1948), ды два варыянты брашуры *La Biélorussie*, аўтарства Прэзідэнта ды Лявона Рыдлеўскага[88].

---

[87] Ліст ад імя Ураду БНР да М. Панькова падпісаны Каханоўскім ад 11.07.1949 (№ 651/49) // Летапіс беларускай эміграцыі. № 76. Красавік 1991.

[88] Гл. Бібліяграфію паасобных выданняў Рады БНР, змешчаную ў раздзеле «Бібліяграфія».

Асноўная ж публіцыстычная актыўнасць Рады БНР знайшла рэалізацыю на старонках разнастайных эміграцыйных перыёдыкаў «крывіцкага» кірунку. Яны ствараліся ў розных краінах, але найбольш уплывовай стала, безумоўна, створаная намаганнямі ў тым ліку і Міколы Абрамчыка «Бацькаўшчына». Менавіта Прэзідэнт БНР паспрыяў атрыманню афіцыйнай ліцэнзіі на выданне газеты, а далей актыўна шукаў (і знаходзіў) сродкі на яе друк[89]. І «Бацькаўшчына» публікавала на сваіх старонках палітычна заангажаваныя матэрыялы, асвятляючы, наколькі гэта было магчыма, дзейнасць Рады і Ураду БНР. І гэтую ролю яна працягнула таксама ў амерыканскім перыядзе гісторыі Рады.

Сярод цікавых выдавецкіх праектаў Рады БНР нямецкага перыяду варта назваць выданне марак. Першая серыя марак БНР выйшла ўжо ў 1949 г.: тры наміналы — 50 грошаў, 1 талер, 3 талеры. А ў наступным 1950 г. была яшчэ адна — 8 марак. Адказнымі за друк выступалі Віталь Кажан і Уладзімір Шыманец[90]. Апошні рабіў эскізы. Маркі былі патрэбныя не столькі з пункту гледжання рэпрэзентацыйнага, колькі з фінансавага — дзякуючы іх продажу меркавалася папоўніць касу Рады БНР. Аднак гэтае папаўненне, выглядае, не было паспяховым, бо надалей да ідэі выдання марак пад шыльдай БНР ніхто не звяртаўся.

Важным праектам, які меў пачатак яшчэ ў Нямеччыне, стала распрацоўка праекта Канстытуцыі БНР. Яе аўтар Леанід Галяк яшчэ на пачатку 1949 г. падаў да ведама радных дакумент з 12 раздзелаў і 170 артыкулаў. І Мікола Абрамчык вельмі прыхільна паставіўся да самой ідэі:

*«…Вельмі Вам удзячны за прысланы праект канстытуцыі. З вялікім захопленьнем я яго прачытаў, на жаль, так моцна цяпер абмежаваны часам, што не магу, на разе, аддацца ўважнейшаму яго прастудыяваньню. Але як толькі трохі павальнею, разгледжу яго больш і напішу Вам свае заўвагі.*

*Я зусім не падзяляю думкі тых спадароў, якія ўважаюць, як пішаце, працу гэтую за перадчасную. Наадварот, калі-б такія праекты распрацоўваліся і ў іншых дзялянках, скажам, адміністрацыі, асьветы, земляробства і г.д., было-б вельмі і вельмі добра.*

*Што-ж датычыць праекту канстытуцыі, дык калі яго аканчальна давесьці да такога стану, што можна-б яго было (прадыскутаваўшы Радай) прыняць і апублікаваць, хоць-бы нат як і ПРАЕКТ, дык гэта-б вельмі добра прычынілася да ідэялёгічнага падмацаваньня нашага нацыянальнага вызваленчага руху сягоньня, не гаворачы ўжо аб тым, што выігралі-б шмат часу ў будучыні, бо хто ведае, якія ўкладуцца абставіны, сколькі будзем мець часу і СІЛАЎ, зрэшты, «не тады сабак карміць, як на паляваньне ісьці».*

*Вітаю таму Вас з гэтай шчасьлівай ініцыятывай і моцна дзякую за ўжо праробленую Вамі цэнную працу.*

---

[89] Барыс Рагуля ўспамінае… С. 9.

[90] Юрэвіч, Лявон. Made in BNR: Да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 505–506.

*Пастараюся як найхутчэй і змагу прычыніцца сваімі хоць скромнымі вельмі ведамі ў гэтай дзялянцы. Шкадую вельмі, што не магу гэтага зрабіць адразу. Цяпер мяне вельмі перагрузілі з усіх бакоў…»*[91].

На жаль, не захавалася звестак пра тое, якія менавіта заўвагі рабіліся да праекта Канстытуцыі, хоць і вядома, што ён сапраўды абмяркоўваўся, але так і не быў прыняты ні ў Нямеччыне, ні пазней у ЗША. Магчыма, адбілася на гэтым спецыфіка перасяленчага часу, калі дзеячам трэба было вырашаць больш пільныя праблемы. Не спрыяў сур'ёзным крокам у галіне будучага дзяржаўнага ладу БНР і сам «выязны» стан з яго няпэўнасцю ў будучыні.

Адным з напрамкаў дзейнасці Рады БНР, які не асабліва афішаваўся, была падтрымка, а нават і арганізацыя антысавецкага падполля. Праўда, апошняе было звязана не толькі з нутранай, але і са знешняй палітыкай Рады, яе кантактамі з заходнімі спецслужбамі, і гэты напрамак дзейнасці Міколы Абрамчыка патрабуе дадатковага вывучэння. Згадкі пра сувязі з падпольшчыкамі ў БССР час ад часу з'яўляліся ў дакументах Рады, ліставанні, а нават на старонках «Бацькаўшчыны»[92].

Тут згадаем толькі дзве крыніцы. Першай з іх будзе дакумент, які захоўваецца ў архіве БІНіМа і паходзіць з Канцылярыі Прэзідэнта Рады БНР. Гэта дэкрэт ад 7 чэрвеня 1950 г. Працытуем адзін з пунктаў Дэкрэта, асноўны змест якога — узнагароджанне за *«гер/ ізм у змаганьні з акупантам за Волю Бацькаўшчыны»*. Дакумент гаворыць:

*«II. Усе Камандзіры партызанаў, узнагароджаныя «Ордэнам Пагоні», паклікаюцца ў склад сяброў Рады БНР.*

*III. Генерал Ноч прызначаецца віцэ-старшынёй Ураду БНР із спецыяльным заданьнем кіраваць Вызвольным змаганьнем у Бацькаўшчыне»*[93].

Такім чынам, кіраўніцтва Рады БНР не толькі выказвала салідарнасць з антысавецкай дзейнасцю ў БССР, але і прадстаўляла гэтую дзейнасць як змаганне ўласна сябраў Рады, што магло мець істотнае значэнне ў будучыні пры станоўчым выніку гэтага змагання і вырашэнні пытання ўлады ў незалежнай Беларусі. І хоць поспех канкрэтных акцыяў быў невялікі, сама пазіцыя Рады БНР у дачыненні да антысавецкай партызанкі была прынцыповаю.

Больш за тое, Рада мела непасрэднае дачыненне да арганізацыі парашутных дэсантаў на тэрыторыю БССР на пачатку 1950-х гг. Вось як пра гэта згадвае Барыс Рагуля ў адным сваім інтэрв'ю:

***«Парашутысты 50-х гадоў і ўдзел Абрамчыка: Філістовіча, напрыклад, нават з мандатам БНР за подпісам Абрамчыка закінулі. Абрамчык для гэтай справы амерыканцаў знайшоў ці яны Абрамчыка?***

---

91 Ліст М. Абрамчыка да Л. Галяка ад 14.01.1949 // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 23. Сьнежань 1984.

92 Юрэвіч, Лявон. БІНіМаўская Купаліяна // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 432–438.

93 Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Дэкрэт. 07.06.1950. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*Я думаю, яны шукалі. Я думаю, яны знайшлі Абрамчыка. Праблему амерыканцы паставілі. Яны прапанавалі арганізаваць дэсантны батальён.*

***Яны выйшлі на вас у Мюнхене ці ў Парыжы?***

*У 1951–52-м годзе ў Мюнхене. І тады, значыць, дагавор быў, што ніякіх дэсантаў не будзе, пакуль не будзе вайны. Бо няма сэнсу. Бо я знаў сітуацыю там, што няма магчымасці, каб нейкая нелегальная работа праводзілася. Тады знайшоўся Філістовіч, які сказаў, што «калі не паможаце — я пайду сам». Ён настояў. Ён без вялікай падгатоўкі. Абрамчык згадзіўся даць яму ўпаўнаважанне і так ён паляцеў туды. І после гэтага вестак ад яго не было.*

***Дзе ён праходзіў падрыхтоўку перад заброскай?***

*У Мюнхене. І калі нарэшце пачалі другія кандыдаты збірацца, то пагадзіліся што будуць падрыхтоўвацца батальёны, і тады дэмабілізуюцца, і будуць гатовыя, калі б вайна была. Тады знайшліся сярод гэтых ахвотнікаў такія, як Філістовіч, якія лічылі сваім абавязкам быць дома.*

***І колькі знайшлося такіх?***

*Было чатырох.*

***Чаму Філістовіч быў закінуты ў СССР адзін?***

*Ён быў індывідуаліст. Ён не хацеў ні з кім вязацца. Ён быў цікавы тып. Вельмі моцны характар. Я прайшоў следства там, і як я думаю, яшчэ б месяц, і я б падпісаў на родную матку. Ён да канца не зламаўся. Даволі рэдкі выпадак.*

***Як адрэагавалі амерыканцы на правал Філістовіча?***

*Ніякая рэакцыі не было. Далей рыхтаваліся. Але ў чым праблема была? У тым, што яны, як я паглядзеў, што зкааптавалі гэтых людзей без майго ведама, без маёй згоды. Гэтыя згадзіліся. Я кажу: «Вы не мусіце так ляцець. Мы падрыхтуем батальён». — «Не, мы так хочам».*

*Савецкая разведка там была як у сябе дома. У амерыканцаў савецкая разведка абсалютна свабодна дзейнічала. Я пераконаны ў тым, і як я пазней дазнаўся, што на іх чакалі. І Вострыкаў... Ён чуўся вельмі незадаволены пасля, ён і на мяне крыўдзіўся, як быў у Нью-Ёрку. Я кажу: «Мы ж не зналі гэтага, так?» Але разведка савецкая чулася там вельмі добра. І мы зрабілі дагавор з Вострыкам, каб мець спецыяльны сігнал, каб я знаў, якая сітуацыя там, ці будуць амерыканцы даваць якія інфармацыі фальшывыя. Скора дазналіся, што злавілі іх і знішчылі. Мы не знаалі, што Вострыкаў жывы. Узналі пазней. І тады я сказаў амерыканцам, што я ... «адмаўляюся з Вамі працаваць».*

***У якім годзе?***

*Гэта быў 1952 год. [...]*

***А як асабіста Абрамчык успрыняў правал гэтых груп?***

*Ён выказваўся, і раз мне асабіста сказаў, што ён чуе, што мае гэта на сваім сумленні, што нас, ён сказаў, абманулі. Бо, кажа, адна рэч падгатаваць акцыю на выпадак вайны... У вайне як хто гіне — гэта другая рэч. Але ў гэтым выпадку было пасыланне на пэўную смерць»[94].*

---

[94] Барыс Рагуля ўспамінае... С. 11.

І хаця падзеі, пра якія ўспамінае Рагуля, адбываліся фармальна ўжо ў амерыканскі перыяд дзейнасці Рады, але звязаныя яны былі і запачаткаваныя ў Нямеччыне.

Такім чынам, Рада БНР паставіла перад сабою ў Нямеччыне амбітныя задачы, аднак, дзейнічала ў даволі неспрыяльных умовах. Няпэўнасць становішча *DP*, якімі была большасць сябраў ураду, іх занятасць працай на іншых дзялянках, дэмаралізуючы канфлікт з БЦР — усё гэта адмоўна паўплывала на выніковасці нутранай дзейнасці. І разам з тым, можна казаць пра пэўныя дасягненні, сярод якіх было і стварэнне сеткі прадстаўніцтваў, і аднаўленне БАПЦ, і гуртаванне інтэлектуальнай эліты вакол самой ідэі БНР. Праца пачалася…

## Знешняя палітыка Рады БНР

Знешняя палітыка Рады БНР, за якую адказвалі і Прэзідэнт, і міністр замежных спраў Аўген Каханоўскі, была адным з найважнейшых кірункаў дзейнасці адноўленае структуры. Шмат у чым яна спрыяла і вырашэнню нутраных задачаў. Нездарма адны з першых вядомых крокаў Міколы Абрамчыка былі звязаныя менавіта з вонкавай дзейнасцю: мемарыял для ААН у ліпені 1947 г., перамовы з польскім эміграцыйным урадам…

Першы важны вектар знешняй палітыкі быў сфармуляваны яшчэ ў Статуце Рады БНР, дзе згадвалася, што менавіта гэтая структура да часу правядзення выбараў у незалежнай Беларускай Народнай Рэспубліцы *«з'яўляецца адзіным праўным прадстаўніцтвам суверэнных правоў беларускага народу, выяўленных у праватворчым Акце 25 Сакавіка 1918 г.»*[95]. У развіццё думкі ў Дэкларацыі сцвярджалася, што Рада БНР *«не прызнае і ніколі не прызнае БССР за форму беларускага незалежнага гаспадарства, уважаючы яе за расійска-камуністычную фікцыю беларускай дзяржаўнасці, накінутую Масквой, як сродак паняволення беларускага народу, ягонага нацыянальнага, матэрыяльнага, а нават і фізічнага вынішчэння»*[96]. Такім чынам, супрацьдзеянне вызнанню на Захадзе БССР як афіцыйнага беларускага прадстаўніцтва стала адной з першых актуальных задач Рады БНР, бо непасрэдна было звязана з вызнаннем рэпрэзентацыйных паўнамоцтваў самой Рады.

На Трэцяй сесіі Рады БНР 20–21 чэрвеня 1948 г. была прынятая адмысловая пастанова «У справе беларускае вонкавае палітыкі», дзе фармуляваліся асноўныя заданні, якія, абагуліўшы, можна акрэсліць наступным чынам:

1. Апора на традыцыі знешнепалітычнай дзейнасці БНР і ўлік сучасных патрэбаў беларускага народу.

2. Афіцыйнае аднаўленне незалежнай БНР у этнаграфічных межах з дадаткам выхаду да мора праз Усходнюю Прусію. Апошняя павінна была

[95] Гл. Статут Рады БНР, змешчаны ў раздзеле «Дакументы».
[96] Гл. тэкст Дэкларацыі, змешчаны ў раздзеле «Дакументы».

перайсці да Беларусі ў якасці кампенсацыі за страты, панесеныя ў часе Другой сусветнай вайны.

3. Дыпламатычнае прызнанне іншымі народамі суверэнных правоў беларусаў.

4. Знішчэнне бальшавізму і падзел Расіі.

5. Супольнае з іншымі паняволенымі народамі змаганне з бальшавізмам і імперыялізмам.

6. Выпрацоўка канцэпцыі будучага міждзяржаўнага блоку (прыкладам, беларуска-балтыйска-скандынаўскага).

7. Усталяванне ў будучыні добрых адносінаў з усімі суседнімі краінамі, у тым ліку з этнічнай Расіяй[97].

За рэалізацыю згаданых заданняў і ўзяўся актыў Рады БНР. Пасля афіцыйнага фармавання Ураду БНР міністэрства замежных спраў стала найбольш дзейнай адзінкай у яго структуры. У асобе Аўгена Кахаsucc Мікола Абрамчык знайшоў сапраўды актыўнага памочніка ў вонкавай рэпрэзентацыі беларускіх інтарэсаў, тым больш, што прэм'ер-міністр займаўся гэтай дзейнасцю яшчэ ў БНЦ і меў добрыя напрацоўкі. Менавіта дзякуючы ім ужо цягам першага года працы міністэрства замежных спраў магло рабіць справаздачу пра актыўны ўдзел беларусаў у 18 міжнародных арганізацыях і наяўнасць сувязяў з прадстаўнікамі 27 народаў[98]. Удзел у міжнародных арганізацыях, найперш аб'яднаўшых паняволеныя народы, дапамагаў не толькі рэпрэзентаваць уласна беларускія інтарэсы, але і супольна выступаць перад «вялікімі» арганізацыямі і дзяржавамі. Так, ад імя Антыбальшавіцкай лігі аслабанення народаў (АЛАН), Праметэя, Антыбальшавіцкага блоку народаў (АБН) з удзелам беларусаў выходзілі супольныя мемарандумы па праблемах Усходняй Еўропы. Прыкладам, 17 кастрычніка 1949 г. на імя Генеральнага сакратара Асамблеі ААН Тругве Лі быў пададзены «Мемарыял паняволеных народаў Еўропы», падпісаны эміграцыйнымі ўрадавымі структурамі 11 краін, у тым ліку ад імя Беларусі Міколам Абрамчыкам і Лявонам Рыдлеўскім[99]. Такім чынам, стварэнне агульнага фронту антыкамуністычнага змагання паняволеных народаў і агучванне імі сваіх патрабаванняў на ўзроўні міжнароднай супольнасці было актуальнай задачай нямецкага перыяду Рады БНР.

Не менш важным стала наладжванне дыпламатычных адносінаў з эміграцыйнымі ўрадавымі арганізацыямі суседніх краінаў. Ужо ў лістападзе 1948 г. былі праведзеныя афіцыйныя міжурадавыя сустрэчы з прадстаўнікамі Украіны, Літвы і Латвіі. Найбольш спрыяльнымі аказаліся адносіны з апошняй, паколькі не паўстала пытання спрэчных тэрыторыяў. А вось адносіны з

[97] Гл.: Пастанова Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў справе беларускае вонкавае палітыкі // Бацькаўшчына. № 23 (26). 04.07.1948.

[98] Гл. Інфармацыю № 1 Прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету, змешчаную ў раздзеле «Дакументы».

[99] Мэмарыял паняволеных народаў Эўропы // Бацькаўшчына. № 1 (61). 01.01.1950.

суседняй Літвой ад самага пачатку сутыкнуліся з невырашальнай праблемай статусу Вільні і Віленшчыны. Адмова літоўскага боку нават абмяркоўваць віленскае пытанне зрабіла бесперспектыўнымі ўсе наступныя міжурадавыя сустрэчы, якіх цягам толькі лістапада 1948 — студзеня 1949 гг. было тры. Аднак ніякіх вынікаў гэта не прынесла. Дыпламатычнае вызнанне літоўскім бокам БНР было пастаўлена ў залежнасць ад адмаўлення беларусаў ад правоў на Вільню, што для актыву Рады было на той час непрымальным.

Небяззмрочнымі аказаліся і дачыненні БНР з УНРадай. Пасля першых спатканняў, дзе былі агучаныя палітычныя прынцыпы кожнага з бакоў, у дачыненні ўмяшаўся «зарубежніцкі» фактар. БЦР таксама актыўна шукала кантактаў з украінскімі арганізацыямі і знаходзіла іх. Прыкладам, цэнтральная газета прыхільнікаў Радаслава Астроўскага «Беларускае слова» ў снежні 1948 г. пачала выходзіць пры дапамозе менавіта газеты «Украпнські вісті», што выклікала пратэст з боку Ураду БНР. Надалей у дачыненнях узнікалі пытанні і стаўлення ўкраінцаў да праблемы Вільні, і іх супрацоўніцтва з прадстаўнікамі БЦР[100].

У дачыненнях з польскімі эміграцыйнымі коламі невырашальнай праблемай стала пытанне Заходняй Беларусі[101]. Гэтая сітуацыя істотна перашкаджала міжурадавым кантактам, затое напаўняла старонкі перыядычных выданняў палемічнымі артыкуламі на тэму беларуска-польскіх дачыненняў.

Акрамя суседніх краін, спробы наладжвання дыпламатычных кантактаў былі зробленыя ўрадам БНР з эміграцыйнымі структурамі Эстоніі, Грузіі, Славакіі, казакоў. Інфармацыя пра падзеі ў нацыянальных асяродках прадстаўнікоў згаданых краінаў увесь час з'яўляліся на старонках «Бацькаўшчыны».

У галіне двухбаковых дачыненняў Рады БНР поспехам выглядала заключэнне 22 красавіка 1950 г. у нямецкім Розенгайме Дамовы і Пратакола паміж Урадам БНР і Вярхоўным казацкім прадстаўніцтвам[102]. Гэтыя дакументы былі ратыфікаваныя на Пятай сесіі Рады БНР 23 верасня 1950 г. ужо ў Нью-Ёрку.

Варта зазначыць, што за практычнай рэалізацыяй канкрэтных знешнепалітычных крокаў стаяла даволі выразная канцэпцыя, якую міністр замежных спраў выклаў на старонках газеты «Бацькаўшчына». У тэксце «Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі», падпісаным псеўданімам А. Дзіда, у агульных рысах былі сфармуляваны мэты знешняй палітыкі БНР, яе прынцыпы, канцэпцыя і актуальныя заданні. Так, выводзячы мэты паваеннай Рады БНР з тых самых мэтаў даваеннай, аўтар канкрэтызаваў іх згодна з сучасным момантам:

---

[100] Падрабязней пра спатканні прадстаўнікоў БНР з урадавымі коламі Латвіі, Літвы і Украіны гл. у пратаколах, змешчаных у адпаведным раздзеле.

[101] Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą … C. 697–709.

[102] Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Ратыфікацыйная грамата. № 201. Ад 03.10.1950. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*«Дыплёматычнымі сродкамі дамагчыся: 1) поўнага прызнаньня беларускаму народу іншымі народамі ягонага законнага права на свабоду й дзяржаўную незалежнасьць 2) у этнаграфічных межах, 3) загарантаваньня імі на аснове ўзаемных забавязаньняў дзейнае падтрымкі нас у здабыцьці гэтае дзяржаўнае незалежнасьці, 4) а потым калектыўнае на аснове супольных інтарэсаў канструкцыі такога ўкладу міждзяржаўных сілаў і сувязяў у Эўропе, які-б забясьпечыў нашаму народу ўтрыманьне свайго сувэрэннага права перад магчымымі наступнымі спробамі агрэсіі расейскага ці якогась іншага імпэрыялізму, гарантаваў-бы нам дзяржаўную незалежнасьць, тэрытарыяльную цэласнасьць і гаспадарчую самавыстарчальнасьць»*[103].

У якасці галоўных прынцыпаў вонкавай палітыкі Аўген Каханоўскі вызначаў:

1. *«Волялюбнасьць беларускага народу і ягонае імкненьне быць поўным гаспадаром у сваім Краі, самому парадкаваць сваё жыцьцё»*.

2. *«Міралюбнасьць беларускага народу, ягонае імкненьне жыць у міры й згодзе з сваімі суседзямі і з усімі іншымі народамі сьвету; аднак пад умоваю, што й іншыя народы таксама ня будуць парушаць мірнага сужыцьця з намі й адмовяцца ад сваіх імпэрыялістычных агрэсіяў на нашую тэрыторыю»*.

3. *«Рэалістычнасьць у падходзе да плянаваньня свае вонкавае палітыкі»*, якую аўтар раскрываў як *«нязломнае датрымоўваньне аксыёмы, згодна якое ў васнове вонкавае палітыкі павінен ляжаць прынцып найпільнейшага сьцеражэньня дзяржаўных, нацыянальных, эканамічных, культурных і ўсялякіх іншых інтарэсаў, што й павінна вызначыць нашае становішча ў розных міжнародных паразуменьнях і сувязях»*.

4. *«Далёкасяжнасьць ў плянаваньні свае вонкавае палітыкі. Г. зн., што ейнае плянаваньне мы ня можам абмяжоўваць толькі да якойсьці канкрэтна ўзятае міжнародна-палітычнае каньюнктуры»*.

5. *«Шырокае міжнароднае супрацоўніцтва, якое мае спрыяць утрыманьню ўсеагульнага міру й справядлівасьць, а таксама эканамічнага й культурнага прагрэсу»*, але на прынцыпах роўнасці партнёраў[104].

Для фармулявання далёкасяжнай канцэпцыі беларускай вонкавай палітыкі Аўген Каханоўскі прааналізаваў гістарычны вопыт і міжнародную сітуацыю і прыйшоў да высновы, што беларусы павінны будаваць сваю знешнюю палітыку на падставе пабудовы сістэмы міжнародна-рэгіянальнай бяспекі абароннага кшталту, у якой шляхам добраахвотнага аб’яднання дзяржавы забяспечваюць лепшую абарону сваіх дзяржаўна-нацыянальных інтарэсаў.

Разгледзеўшы актуальную канцэпцыю Аб’яднанай Еўропы, міністр замежных спраў БНР сцвердзіў, што для беларусаў яна пакуль яшчэ не зусім актуальная, хоць сітуацыя можа змяніцца ў будучыні. Таксама непрыдатнай

[103] Дзіда, А. Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі // Бацькаўшчына. № 33 (36). 24.10.1948.

[104] Дзіда, А. Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі // Бацькаўшчына. № 33 (36). 24.10.1948.

выглядала і папулярная канцэпцыя Міжмор'я, паводле якой для ўраўнаважання сілаў Нямеччыны і Расіі павінен быў паўстаць саюз дзяржаваў ад Міжземнага да Балтыйскага мора, куды меліся ўвайсці Албанія, Сербія, Харватыя, Славенія, Грэцыя, Балгарыя, Вугоршчына, Румынія, Чэхія, Славаччына, Польшча, Эстонія, Латвія, Літва, Беларусь і Украіна. Аднак Аўген Каханоўскі заўважаў, што ў такім саюзе захоўвалася небяспека беларусам, таксама як і ўкраінцам ды балтыйскім народам стаць разменнай картай у змаганні іншых дзяржаў з Расіяй. Непрымальнай для беларусаў з'яўляецца і рэанімаваная расійскімі эміграцыйнымі коламі ў часе Другой сусветнай вайны канцэпцыя Саюза вольных народаў Расіі, што мае на мэце ўтрыманне нацыянальных рухаў пад імперскай апекай[105].

Такім чынам, з актуальных канцэпцый ніводная не выглядала адпаведнай для беларускай дзяржавы, і міністр замежных спраў БНР агучыў новую канцэпцыю, якую можна лічыць дапрацаваным варыянтам ідэі Міжмор'я. Меркавалася стварыць блок дзяржаў Цэнтральнай, Паўднёвай і Усходняй Еўропы, куды б увайшлі Албанія, Сербія, Харватыя, Славенія, Грэцыя, Балгарыя, Румынія, Вугоршчына, Чэхія, Славакія, Польшча, Прыбалтыка, Беларусь, Украіна, Вольная Казацкая Дзяржава, Паўночны Каўказ, Грузія, Арменія і Азербайджан. Больш шырокая кааліцыя павінна грунтавацца на раздзеле Расіі, каб лепш забяспечыць перспектывы беларускай незалежнасці[106].

Варта адзначыць, што да прапанаванай Аўгенам Каханоўскім канцэпцыі ўзніклі пэўныя заўвагі з боку рэдактара «Бацькаўшчыны» Станіслава Станкевіча, які ў сваім артыкуле «За іншую канцэпцыю беларускае вонкавае палітыкі» выказаўся за больш шырокае разуменне заданняў будучага міждзяржаўнага будаўніцтва і супраць падтрымання толькі адной прапанаванай канцэпцыі блоку краінаў Цэнтральнай, Паўднёвай і Усходняй Еўропы[107]. Аднак, разам з тым, Станкевіч пацвердзіў тыя самыя прынцыпы і задачы антыбальшавіцкага і антырасійскага змагання, якія сфармуляваў і Каханоўскі — «*устанавіць і загарантаваць усім народам мір, свабоду, эканамічны й культурны прагрэс у сучасных умовах грамадзкага разьвіцьця магчыма толькі на аснове шырокага міжнароднага супрацоўніцтва*»[108]. Нягледзячы на персанальны антаганізм некаторых дзеячаў БНР (пра асабістую непрыязь Каханоўскага і Станкевіча згадваў, сярод іншага, Барыс Рагуля[109]), канцэп-

---

[105] Дзіда, А. Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі // Бацькаўшчына. № 34 (37). 31.10.1948.

[106] Дзіда, А. Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі // Бацькаўшчына. № 35 (38). 07.11.1948; № 36 (39). 14.11.1948.

[107] Каранеўскі, Язэп. За іншую канцэпцыю беларускае вонкавае палітыкі (Да артыкулу А. Дзіды «Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі») // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948.

[108] Інтэрв'ю прэм'ер-міністра Ураду БНР // Бацькаўшчына. № 40 (43). 19.12.1948.

[109] Барыс Рагуля ўспамінае… С. 8.

туальныя асновы знешняй палітыкі Рады БНР, сфармуляваныя ў 1948 г., арыентацыя на міждзяржаўнае супрацоўніцтва для забеспячэння беларускіх інтарэсаў у будучыні — былі адпаведныя паваеннай рэчаіснасці.

Не варта забывацца, што вонкавай дзейнасцю займаўся таксама Прэзідэнт Рады БНР. Больш вольны ў сваіх перамяшчэннях, ён кантактаваў не толькі з эміграцыйнымі структурамі ў Нямеччыне, але і з рознымі нацыянальнымі прадстаўніцтвамі ў Францыі, Вялікабрытаніі, Бельгіі ды іншых краінах, а таксама навязваў кантакты з урадавымі коламі «вялікіх» дзяржаў з мэтай агучвання ім беларускіх інтарэсаў. Так, ужо ў 1949 г. адбылася першая паездка Міколы Абрамчыка ў Вашынгтон для ўсталявання кантактаў з амерыканскімі зацікаўленымі палітычнымі коламі. Праўда, плён гэтыя кантакты прынеслі толькі ў наступным, амерыканскім перыядзе дзейнасці Рады БНР.

1948–1949 гг. для знешняй палітыкі Рады БНР можна ахарактарызаваць як час яе канцэптуальнага і практычнага станаўлення. Выкарыстоўваючы вопыт даваеннай Рады, працу БНЦ і іншых беларускіх паваенных арганізацый, а таксама наладжваючы кантакты з іншанацыянальнымі эміграцыйнымі коламі, міністэрства знешніх спраў на чале з Аўгенам Каханоўскім выпрацоўвала сваю канцэпцыю. У гэты час паўсталі першыя супярэчнасці ва ўсталяванні дыпламатычных дачыненняў з суседнімі краінамі. Аказалася, што канцэпцыя датрымання этнічных межаў беларускай дзяржаўнасці стварае праблемы ў дачыненнях з суседзямі, і гэтыя праблемы выглядалі на той час невырашальнымі. Разам з тым, знешнепалітычнае ведамства БНР выпрацавала своеасаблівую сістэму прыярытэтаў у кантактах з іншымі эміграцыйнымі ўрадамі, найперш з тымі, у якіх да беларусаў не было тэрытарыяльных прэтэнзіяў. І гэтая сістэма мела шанцы спрацаваць для стварэння агульнага антыкамуністычнага фронту ў будучыні.

## АМЕРЫКАНСКІ ПЕРЫЯД ДЗЕЙНАСЦІ РАДЫ БНР
## *(1950–1970 гг.)*

### Пераезд у Амерыку і першыя арганізацыйныя праблемы

1950 год стаў пераломным для БНР у арганізацыйным плане. Дзякуючы рэалізацыі перасяленчых ініцыятываў *IRO*, а таксама руплівасці саміх беларускіх *DP*, значная частка сябраў Рады БНР апынулася ў ЗША. Адным з тых, хто актыўна спрыяў прыезду суайчыннікаў у гэтую краіну, быў радны Янка Станкевіч, які, апынуўшыся тут раней, арганізоўваў дасылку ў Нямеччыну запросінаў, ашурансаў і іншых патрэбных папераў.

Пераезд радных у ЗША адбываўся даволі імкліва. 31 траўня 1950 г. прыехаў Леанід Галяк. На гэты час У Нью-Ёрку і ваколіцах ужо жылі, акрамя згаданага Янкі Станкевіча, Янка Ніхаёнак, Станіслаў Грынкевіч, Аляксандр Стагановіч і некаторыя іншыя. 10 жніўня 1950 г. прыехалі Антон Адамовіч і Антон Шукелойць, 30 верасня — Васіль Кендыш, 24 лістапада — Вітаўт

Тумаш… Паступова актыў Рады БНР перабраўся ў ЗША. І нездарма менавіта ў Нью-Ёрк перанесліся пасяджэнні Рады і Ураду БНР.

Амаль увесь 1950 г. у ЗША правёў і Мікола Абрамчык. Ён адведваў беларускія асяродкі ў Чыкага, Кліўлендзе, Нью-Ёрку, каля месяцу ўлетку правёў у Таронта. Паўсюль выступаў з дакладамі, сустракаўся з актывам. 5 лютага 1950 г. Абрамчык звярнуўся да беларускай эміграцыі праз радыёстанцыю ў Чыкага, на якой працаваў Язэп Варонка.

У верасні 1950 г. у Нью-Ёрку адбылася першая амерыканская, а ў агульным пераліку Пятая сесія Рады БНР. На ёй быў створаны новы Урад на чале з тым самым Аўгенам Кахаоўскім. Праўда, шмат якія сябры, у сувязі з незавершанай яшчэ справай пераезду, былі пакліканыя ва Урад завочна: Вітаўт Тумаш на міністра замежных спраў, Мікола Кунцэвіч — на міністра нутраных спраў, Пётра Манькоўскі на Дзяржаўнага сакратара. Пасля паступовага ўзгаднення пазіцыяў і ўладкавання міністраў Урад пачаў сваю дзейнасць.

Ужо праз паўгода ў красавіку 1951 г. у Радзе БНР наспеў першы амерыканскі крызіс. Вось як пра гэта згадваў Леанід Галяк:

*«8-га красавіка 1951 году адбылося паседжаньне сэктару Рады БНР. Называлася, што гэта сэктар, але асабовы склад удзельнікаў быў такі самы, як і на пленуме паседжаньня Рады БНР.*

*Прэм'ер міністар Рады БНР Аўген Кахаоўскі падаў на паседжаньні наступную справу: у выніку няўтомных стараньняў Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, летувіскі эгзыльны ўрад згадзіўся заключыць з Радаю БНР дагавор аб супольным прызнаньні, прыязьні й узаемнай падтрымцы. Заключэньне такога дагавору летувісы абумовілі тым, што Рада БНР павінна фармальна выказаць сваю згоду на тое, каб у выпадку вызваленьня нашых краёў ад расейскай акупацыі, Вільня й Віленшчына, да часу аканчальнага ўстанаўленьня граніцаў між Беларусяй і Летувай, знаходзілася пад летувісцкай адміністрацыяй, а справа прыналежнасьці вышэйадзначанай тэрыторыі будзе вырашана пазьней.*

*Вывязалася бурная дыскусія. Асабліва горача выступалі за прыняцьце летувіскай прапановы А. Адамовіч, Я. Станкевіч, М. Гарошка, В. Тумаш і П. Манькоўскі. Гарачыя прыхільнікі заключэньня на такіх умовах паразуменьня даводзілі, што па сутнасьці дагавор нас да нічога не забавязвае й мае той дадатні бок, што мы атрымліваем на пісьме довад, што летувісы прызнаюць беларусам нейкія правы да Вільні.*

*Супраць гэтай урадавай прапановы выступілі: М. Рагуля, Б. Данілюк, Я. Юхнавец, Л. Савёнак і Л. Галяк.*

*Прапанова Абрамчыка — Кахаоўскага была большасьцю галасоў прынятая. Супраць галасавала 7 асобаў»*[110].

Дыскусіі адносна прапановы літоўскіх эміграцыйных колаў зразумелыя, бо заўважаўся відавочны прагрэс. Яшчэ год таму Аўген Кахаоўскі ў лісце да Прэзідэнта згадваў пра агрэсіўныя антыбеларускія настроі літоўскай

[110] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 117–118.

эміграцыйнай эліты, варожыя артыкулы ў літоўскім друку[111], а цяпер Урад быў згодны да дыялогу. Калі раней літоўцы наогул адмаўляліся абмяркоўваць пытанне Вільні і магчымасцяў яе беларускай будучыні, то цяпер тактыка змянілася, і гэта спрабавалі скарыстаць прэм’ер і Прэзідэнт. Прызнанне літоўцамі БНР, усталяванне афіцыйных адносінаў паміж урадамі было б станоўчым фактам у міжнародным статусе беларускага прадстаўніцтва. Аднак сітуацыя «гандлю тэрыторыяй», якой бачылася гэткая прапанова большасці беларускага актыву, выходзіла па-за межы выключна палітычных ацэнак на ўзровень ацэнак этычнасці, правамоцнасці і мэтазгоднасці.

Актыўную працу па супрацьдзеянні прынятай пастанове развіў той самы Леанід Галяк, які разаслаў лісты адсутным на пасяджэнні сектара, а таксама актыўным радным у іншых рэгіёнах і краінах. Водгукі на пастанову сектара былі пераважна негатыўнымі. Прывядзем адзін з іх, аўтарам якога быў Мікола Кунцэвіч:

*«…Ты пішаш, што гэту справу разглядаў сэктар. Я сабе прадстаўляю ўсю гульню наступна: Каханоўскі, каб умыць рукі, перадаў [справу] на сэктар. На зборцы была бальшыня, якая Віленшчыны ніколі ня нюхала. На зборцы, як і ўсюды, пераважная бальшыня людзей, якія стараліся быць як найдалей ад палітычнай працы, аднак галасаваць заўсёды можна. Людзі проста не здаюць сабе спраў, за што бяруцца. У нас заўсёды так, калі даходзіць да абсады адказных становішчаў. Людзі грамадзка вырабленыя стараюцца ўлізнуць ад тэкаў і задаволеныя, калі нехта іх возьме, а пасьля і выходзіць ірунда. Гэта амаль усе дзеячы аказаліся ў Н.Ё., а абсадзіць ураду ня было кім. Ведаю, бо Ках. чакаў тры месяцы, каб запрапанаваць мне нутраныя справы, бо ніхто не захацеў. Гэта-ж чорт ведае што! …*

*Згодна майго пагляду, дык з летувісамі наагул ня трэба было ўступаць у гутарку. Колькі разоў прабавалі ў Нямеччыне і стойка абаранялі Вільню, а тут аддаюць цэлую Віленшчыну, а да таго, хто аддае?! Наагул мне гульня ў палітыку недасьпелых дамаросаў не падабаецца і ў будучыні, калі прыйдзецца прыймаць чынны ўдзел, дык перадусім буду ўважаць, з кім маю супрацоўнічаць…»*[112]

Лісты з асуджэннем даслалі Вінцэнт Жук-Грышкевіч, епіскап Васіль, Аляксандр Стагановіч, Мікола Панькоў. Пастановы супраць прыняцця прапановы па Вільні прынялі Чыкагскі і Канадскі сектары Рады БНР[113]. Гэтая сітуацыя вымусіла старшыню сектара ў Нью-Ёрку Аляксандра Орсу 22 красавіка 1951 г. склікаць новае пасяджэнне, на якім, у выніку новых

---

[111] Гл. Ліст А. Каханоўскага да М. Абрамчыка ад 20.05.1950, змешчаны ў адпаведным раздзеле кнігі.

[112] Ліст М. Кунцэвіча да Л. Галяка ад 27.04.1951 // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 3/17. Сьнежань 1983.

[113] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 3/17. Сьнежань 1983.

дыскусіяў і галасавання, папярэдняя пастанова была адклікана[114]. Дамова з літоўцамі так і не была ніколі заключана.

Цалкам верагодна, што гэтая няўдача Аўгена Каханоўскага, а таксама кадравыя праблемы ў кабінеце міністраў, неактыўнасць дзеячаў на адказных пасадах, на якую наракаў прэм’ер яшчэ ў Нямеччыне — усё гэта стала падставай дэмісіі кіраўніка Ураду. З кіруючай пасады Аўген Каханоўскі сышоў не пазней за травень 1951 г.[115], аднак, яшчэ застаўся актыўным удзельнікам сектара Рады БНР у Кліўлендзе. Сам прэм’ер тлумачыў сваю дэмісію арганізацыйнымі праблемамі Рады, якія не дазвалялі ёй эфектыўна працаваць[116].

Відавочна, Мікола Абрамчык усведамляў структурныя праблемы ў арганізацыі, бо ўжо на Шостай сесіі Рады БНР, што пачалася 28 кастрычніка 1951 г. ініцыяваў некаторыя пераўтварэнні. Праблемы з фармаваннем новага ўраду былі звязаныя з нежаданнем дзеячаў браць на сябе ўладную адказнасць. І тым не менш, у выніку дыскусіяў апарат Рады быў не скарочаны, а яшчэ больш разбудаваны. Прэзідыум Рады склалі: Мікола Абрамчык — старшыня, Аляксандр Махноўскі — намеснік старшыні, а. Аўген Смаршчок — сябра Прэзідыума, Леанід Рыдлеўскі — сябра Прэзідыума. Суд Рады: Філарэт Родзька — старшыня, Баляслаў Грабінскі — сябра Суду, Петра Манькоўскі — сябра Суду, Лявон Галяк — дзяржаўны абвінаваўца. Выканаўчы орган: Аляксандр Махноўскі — старшыня (без партфеля), Вітаўт Тумаш — рэсорт вонкавых спраў, Янка Ліманоўскі — заступнік у вонкавых справах, Францішак Кушаль — рэсорт вайсковых спраў, Мікола Гарошка — рэсорт нутраных спраў, Аляксандр Орса — рэсорт асветы, Яўхім Скурат — заступнік рэсорту асветы, Гіпаліт Паланевіч — рэсорт інфармацыі, Станіслаў Станкевіч — 1-ы заступнік па рэсорту інфармацыі, Мікола Панькоў — 2-і заступнік па рэсорту інфармацыі, Альберт Курляндзкі — рэсорт нацыянальных меншасцяў, Віталі Кажан — скарбнік Рады, Аляксандр Лашук — заступнік скарбніка. Сакратарыят: Пётра Манькоўскі — першы пісар, Міхась Тулейка — 2 пісар, Янка Ніхаёнак — 3 пісар. Было прапанавана абраць таксама Дзяржаўны кантроль і камісію экспертаў. Праўда, не ўсе асобы пагадзіліся ўзяць на сябе прапанаваныя абавязкі. Так, адсутны на сесіі Аўген Каханоўскі выступіў рэзка супраць сваёй пасады старшыні Дзяржаўнага кантролю. Зрэшты, праблемы фармавання ўраду наўрад ці можна назваць найважнейшымі на Шостай сесіі Рады. На першае месца ад самага пераезду Рады ў Нью-Ёрк сталі знешнепалітычныя праблемы, галоўным вектарам якіх было дачыненне з амерыканцамі.

---

[114] Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 2… С. 119–120.

[115] Ліст А. Махноўскага ад 3.06.1951 // Летапіс беларускай эміграцыі. № 54. Лістапад 1987.

[116] Гл. Ліст А. Каханоўскага да В. Кажана ад 08.07.1952, змешчаны ў адпаведным раздзеле кнігі.

## Амерыканскі камітэт і стварэнне адзінага фронту антыбальшавіцкай барацьбы

Пры канцы 1940-х гг. з фармаваннем біпалярнага светуі пачаткам «халоднай вайны» палітычным сілам у Еўропе, у тым ліку і эміграцыйным, стала відавочна, што рэальнае супрацьстаянне Савецкаму Саюзу залежыць найперш і найбольш ад стаўлення ЗША. Таму на пазіцыю ўладаў менавіта гэтай краіны звярнуў сваю ўвагу Мікола Абрамчык і ўжо ў 1949 г. на цэлых адзінаццаць месяцаў прыехаў у Амерыку для наладжвання кантактаў у каляўрадавых колах у Вашынгтоне. Ад адносінаў Дзяржэпартамента ЗША да паняволеных народаў наогул і да беларускага пытання ў прыватнасці залежала і меркаваная будучыня падсавецкіх тэрыторыяў, і падтрымка канкрэтных эміграцыйных арганізацый.

У тагачаснай амерыканскай палітыцы панавала канцэпцыя стрымлівання савецкага наступу. У выпадку ж ваеннага канфлікту і перамогі над Савецкім Саюзам бачылася адбудова ранейшай расійскай дзяржавы, але на дэмакратычных прынцыпах. У гэтую канцэпцыю не ўпісваліся нацыянальныя прадстаўніцтвы народаў СССР з іх дзяржаўнымі інтарэсамі. І таму асноўнай задачай экзільных урадаў беларусаў, украінцаў, грузінаў і іншых стала звяртанне ўвагі амерыканскіх палітыкаў да сваіх інтарэсаў, што ішло аднačасова з тлумачэннем небяспекі рэстаўрацыі старой Расійскай імперыі.

У гэтым кантэксце кантакты Рады БНР з амерыканскімі палітыкамі ад канца 1949 г. пачалі набываць асаблівую важнасць. Гэтым жа тлумачацца шматмесячныя камандзіроўкі Міколы Абрамчыка ў ЗША і нават узніклае ў пэўны момант рашэнне аб магчымым пераездзе яго ў Вашынгтон на сталае жыццё.

І сама міжнародна-палітычная сітуацыя, і рэпрэзентацыйная дзейнасць прадстаўнікоў паняволеных народаў далі пэўны плён ужо на пачатку 1950-х гг. Так, 22 студзеня 1951 г. былы кандыдат у Прэзідэнты ад рэспубліканскай партыі Гаральд Стасен прапанаваў новую палітычную праграму ў дачыненнях ЗША да СССР. У першым пункце гэтай праграмы было пазначана: *«Незалежнасьць Украіны, Эстоніі, Летувы, Туркестану, Беларусі, Польшчы, Чэхаславаччыны, Румыніі, Баўгарыі й Мадзяршчыны»*[117]. Далей 17 красавіка 1951 г. кангрэсмен ад штата Вісконсін Чарльз Керстэн унёс у Палату прадстаўнікоў Кангрэса рэзалюцыю, якая прадугледжвала амерыканскую дапамогу ў вызвольным змаганні паняволеных бальшавізмам народаў. Сярод розных выказванняў падтрымкі амерыканцаў у дачыненні да беларусаў у ліку іншых паняволеных народаў найважнейшым пунктам рэзалюцыі быў трэці, які прадугледжваў, каб Кангрэс ЗША *«...выказаў непахіснае становішча амерыканскага народу, што нерасейскія народы ў Савецкім Саюзе маюць права на самавызначэньне, уключна з правам кожнай нацыі ўстанаўляць собскія формы ўраду»*[118]. Такім чынам, увага да нацыянальнага пытання ў СССР і

[117] Крыга, А. Пачатак новага курсу ў ЗША // Бацькаўшчына. № 66. 06.05.1951.
[118] Яшчэ адзін зычлівы голас // Бацькаўшчына. № 67. 24.06.1951.

магчымасцяў выкарыстання яго ў змаганні з савецкай дзяржавай паступова выходзіла на парадак дня амерыканскай палітыкі і ўкаранялася ў свядомасці дзеячаў. У выніку, 10 кастрычніка 1951 г. Кангрэс ЗША прыняў «Закон аб узаемнай бяспецы», які прадугледжваў выдзяленне 100 мільёнаў даляраў на арганізацыю вайсковых адзінак з палітычных уцекачоў для барацьбы з камунізмам. Ініцыятарам закона выступіў той самы Чарльз Керстэн. Ідэя палягала ў інспіраванні рэвалюцыйных падзеяў у савецкім блоку і на тэрыторыі самога СССР[119]. Такім чынам, ЗША паступова ад палітыкі «ўстрымання бальшавіцкага наступу» пераходзілі да палітыкі супрацьнаступу, арганізацыі актыўнай антысавецкай дзейнасці на тэрыторыі самога СССР.

Акрамя ідэі арганізацыі вайсковых адзінак з прадстаўнікоў паняволеных народаў (да чаго, у пэўным сэнсе, далучылася і Рада БНР) і нават цэлай Арміі Вызвалення, паўстала і ідэя актыўнай прапагандысцкай працы, скіраванай на насельніцтва за «жалезнай заслонай». Для эфектыўнай арганізацыі такой прапаганды неабходна было стварыць супольны антыкамуністычны фронт з прадстаўнікоў паняволеных народаў на эміграцыі, які б, з аднаго боку, дэманстраваў замежнай і савецкай грамадскасці наяўнасць моцнага антыбальшавіцкага руху, а з іншага — займаўся б непасрэднай прапагандысцкай дзейнасцю, скіраванай на суайчыннікаў, для падрыву савецкага рэжыму.

Менавіта стварэннем такога супольнага фронту для далейшай антыкамуністычнай прапагандысцкай дзейнасці і заняўся заснаваны ў 1949 г. у штаце Дэлавэр — як грамадская арганізацыя — Амерыканскі камітэт барацьбы за вызваленне народаў Расіі (далей — Амерыканскі камітэт). Насамрэч гэтая арганізацыя была створаная з ініцыятывы ЦРУ і падтрымлівалася з сакрэтных штогадовых выдаткаў Кангрэса ЗША. Аднак да 1971 г. гэтая інфармацыя была вядомая вельмі вузкаму колу асобаў, і ні эміграцыйныя арганізацыі, ні большасць сенатараў не ведалі пра сапраўднае кіраванне Амерыканскім камітэтам[120]. Праўда, пра тое, што гэта далёка не прыватная арганізацыя і што яна абараняе дзяржаўныя інтарэсы ЗША, гаварылася нават на пасяджэннях Рады БНР.

У афіцыйным кіраўніцтве Амерыканскага камітэта знаходзіліся людзі, што былі дастаткова абазнаныя ў савецкай праблематыцы. Так, добра ведаў, што такое СССР, першы старшыня Камітэта журналіст і пісьменнік, актыўны антыкамуніст Юджын Лаянс (1898–1985), таксама, як і другі старшыня — амбасадар ЗША ў СССР у 1946–1949 гг. Алан Гудрыч Керк (1888–1963). Арганізацыйнай працай у палітычным кірунку ў Еўропе ад імя Камітэта займаўся нараджэнец Мазыра журналіст і пісьменнік Іцхак (Айзек) Дон Левін (1892–1981).

---

[119] (-іч). За падтрыманьне супрацьбальшавіцкіх рухаў // Бацькаўшчына. № 4 (83). 27.01.1952.

[120] Сосин, Джин. Искры Свободы. Воспоминания ветерана радио / Пер. с англ. 2008. С. 33.

Асноўнай задачай Амерыканскага камітэта было стварэнне арганізацыі, якая б магла выступаць як прадстаўнік інтарэсаў народаў СССР у антыкамуністычным змаганні. А паколькі для амерыканцаў, як і для ўсяго заходняга свету, Савецкі Саюз асацыяваўся найперш з рускай нацыяй, то менавіта на гуртаванне найбольш уплывовых расійскіх эміграцыйных структураў быў зроблены асноўны акцэнт. Пры гэтым Амерыканскі камітэт дзейнічаў як своеасаблівы шэры кардынал, рыхтуючы глебу для перамоваў арганізацый, не асабліва афішуючы сваю ролю і зацікаўленасць.

У выніку 16–23 студзеня 1951 г. у Фюсене адбылася рэжысіраваная амерыканцамі канферэнцыя расійскіх эміграцыйных групаў, галоўнай ідэяй якой было стварэнне агульнага «дэмакратычнага» цэнтра антыкамуністычнай барацьбы. Аднак абмеркаванне нацыянальнага пытання выклікала пратэст Народна-працоўнага саюза (НТС), прадстаўнікі якога пакінулі мерапрыемства, і канферэнцыя скончылася безвынікова.

Пасля гэтага прадстаўнікі Саюза барацьбы за вызваленне народаў Расіі (СБОНР) і Лігі змагання за народную свабоду пад кіраўніцтвам Аляксандра Керанскага выпусцілі «Дэкларацыю ў нацыянальным пытанні», якую падтрымаў таксама Саюз воінаў вызвольнага руху (СВОД). Дэкларацыя меркавала будучую Расію як федэратыўную дзяржаву, у якой кожная нацыя будзе мець права на самавызначэнне, у тым ліку і ў выглядзе самастойнай дзяржаўнасці. Адзіным шляхам самавызначэння, паводле «Дэкларацыі», з’яўлялася ўсенароднае галасаванне пад наглядам ААН. У сувязі з гэтым *«усе прыхільнікі дзяржаўнага аддзялення ад Расеі павінны адмовіцца ад самачынных дзеяньняў, што маглі-б перахіліць на іх бок вынікі народнага галасаваньня, як і ўсялякіх спробаў непадпарадкавацца ім або зьмяніць іх сілай»*[121]. Усе народы ў «Дэкларацыі» называліся агульна «народамі Расіі», ужо агучаныя раней і ўвасобленыя ў эміграцыйных урадах прэтэнзіі на дзяржаўнасць не ўлічваліся.

Згаданая «Дэкларацыя» з’явілася адным з першых ідэалагічных дакументаў меркаванага антыбальшавіцкага фронту, і сфармулявала прынцыпы т. зв. канцэпцыі «непрадрашэнства», якой прытрымліваліся не толькі расійскія эміграцыйныя арганізацыі, але і, следам за імі, Амерыканскі камітэт. Пра гэтую канцэпцыю шмат пісалася на старонках эміграцыйнай прэсы, у тым ліку газеты «Бацькаўшчына». Прыкладам, *«Амерыканскі камітэт вызваленьня народаў Расеі, які арыентуецца на афіцыяльную палітычную лінію міністэрства замежных спраў ЗША, у сваіх плянах перабудовы падбальшавіцкага Ўсходу фанатычна трымаецца г.зв. палітыкі «непрадрашэнства» (ня вырашаньня наперад). Коратка прыпомнім, як Амэрыканскі камітэт, а за ім ці перад ім і расейскія эмігранты, гэтае «непрадрашэнства» разумеюць. Вось-жа яны ўважаюць, што пасьля зьнішчэньня бальшавізму мае аўтаматычна заіснаваць на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюзу адзін*

---

[121] Каранеўскі, Язэп. Што нам суляць расейцы? // Бацькаўшчына. № 68. 15.08.1951.

*дзяржаўны арганізм, як часовая й, магчыма, пераходная форма, і толькі потым жыхаром паасобных нерасейскіх рэспублікаў будзе дадзенае права шляхам агульнага галасаваньня-плебісцыту вырашыць свой будучы лёс: ці астацца ў рамах адзінае непадзельнае Расеі, ці «самавызначыцца» й ад яе аддзяліцца»*[122].

На падставе згаданай канцэпцыі працягваліся перамовы расійскіх партый пра стварэнне супольнага антыбальшавіцкага цэнтра. 17 жніўня 1951 г. адбылася канферэнцыя ў Мюнхене з удзелам пяці расійскіх палітычных арганізацый: Лігі змагання за народную свабоду, Нацыянальна-працоўнага саюза (НТС), Саюза змагання за свабоду Расіі (СБСР), Расійскага народнага руху і СБОНР. На канферэнцыю адмыслова прыехаў Аляксандр Керанскі, які выконваў ролю лідара ў меркаваным аб'яднанні. 20 жніўня 1951 г. у Штутгарце ў выніку пагаднення згаданых пяці расійскіх эміграцыйных арганізацый паўстаў Савет вызвалення народаў Расіі (СОНР) на чале з Керанскім. Гэты Савет прэтэндаваў на тое, каб выступаць ад імя і «нярускіх» народаў. «New York Times» паведамляла, што СОНР мае фінансавацца Амерыканскім камітэтам[123].

Нацыянальнае пытанне было даволі балючым для расійскіх арганізацый, значную частку якіх складалі прадстаўнікі яшчэ паслярэвалюцыйнай эміграцыі. Канцэпцыя адзінай непадзельнай Расіі была падмуркам іх ідэалогіі. Нездарма ў 1945 г. Аляксандр Керанскі сказаў: *«Лепей дрэнны дыктатар (Сталін — рэд.), чым рваць на кавалкі жывое цела Расіі»*[124]. Таму дасягнутае ў Мюнхене пагадненне было своеасаблівым кампрамісам, інспіраваным зацікаўленымі ў ім амерыканцамі, а «Дэкларацыя» ўспрымалася досыць умоўна. Нягледзячы на яе, на старонках сваіх перыёдыкаў расійскія палітычныя сілы намагаліся даказаць, што нацыянальнага пытання ў СССР наогул не існуе[125]. Адначасова высоўваліся іншыя прапановы па вырашэнні лёсу «нерасійскіх народаў», прыкладам, СБСР Мельгунова сцвярджаў пра вызваленне толькі ў тым выпадку, калі гэта палічаць мэтазгодным цэнтральныя агульнарасійскія кіруючыя органы[126].

Тым не менш, Амерыканскі камітэт працягваў сваю працу далей, і 2–7 лістапада ў Вісбадэне была праведзена канферэнцыя СОНР з прадстаўнікамі нерасійскіх эміграцыйных арганізацый, на якой была прынятая дэкларацыя аб супрацоўніцтве. Вытрыманы ў рэчышчы ранейшай «Дэкларацыі» і канцэпцыі «непрадрашэнства», новы дакумент абвяшчаў ужо пра стварэнне супольнага цэнтра расійскіх і «нерасійскіх» народаў. Нягледзячы на тое,

---

122 Каранеўскі, Язэп. Дык дзе-ж тады выхад? // Бацькаўшчына. № 41 (120). 12.10.1952

123 Расейскія эмігранты актывізуюцца // Бацькаўшчына. № 69. 31.08.1951.

124 Алесь Крыга. Прычыны й вынікі развалу СОНРу // Бацькаўшчына. № 4 (83). 27.01.1952.

125 Пануючая й паняволеныя нацыі СССР // Бацькаўшчына. № 73. 31.10.1951.

126 Алесь Крыга. Некалькі слоў перасьцярогі // Бацькаўшчына. № 74. 04.11.1951

што прадстаўнік Рады БНР Барыс Рагуля прысутнічаў на Вісбадэнскай канферэнцыі і нават паставіў свой подпіс[127] пад яе Рэзалюцыяй, Рада БНР афіцыйна адмежавалася ад гэтага дакумента. Тым не менш, Шостая сесія Рады БНР у сваёй адмысловай пастанове выказалася аб магчымасці ўдзелу ў перамовах для выпрацоўкі іншай платформы антыбальшавіцкага змагання. А ў прынагодных выясненнях было пазначана, што Рада БНР дашле сваіх назіральнікаў на запланаваную канферэнцыю расійскіх партый з удзелам народаў СССР[128].

Для Рады БНР удзел у СОНРы на прапанаваных расійскімі арганізацыямі і Амерыканскім камітэтам умовах быў немагчымы, аднак парываць праз гэта кантакты з амерыканцамі і адмаўляцца ад перамоваў з расійскімі арганізацыямі было немэтазгодна. Сама па сабе ідэя стварэння супольнага антыкамуністычнага фронту пры падтрымцы палітычных колаў ЗША давала яго ўдзельнікам добрыя, у тым ліку арганізацыйныя і фінансавыя, магчымасці для дзейнасці. Падобную да беларускай пазіцыю занялі і іншыя нацыянальныя эміграцыйныя арганізацыі народаў СССР. Як і беларусы, украінцы, грузіны, каўказцы не прызналі СОНР. Гэтая пазіцыя была тым больш дальнабачнай, што створаная на даволі хісткім кампрамісе структура вельмі хутка засведчыла сваю нежыццяздольнасць.

30 лістапада 1951 г. у Мюнхене адбылася канферэнцыя прадстаўнікоў нацыянальных арганізацый паняволеных СССР народаў, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі Азербайджана, Беларусі, Грузіі, казакоў, Ідэль-Урала, Крыма, Паўночнага Каўказа, Туркестана і Украіны. *«Прадстаўнікі гэтых арганізацыяў у сваіх прамовах і прынятай рэзалюцыі зьвярнуліся з заклікам да публічнай апініі й палітычных колаў вольных народаў сьвету прыйсьці з помаччу іхным народам у змаганьні супраць расейскага чырвонага й белага імпэрыялізму»*[129]. Тут былі і прадстаўнікі іншых народаў: палякаў, чэхаў, эстонцаў і інш., а таксама заходняй прэсы. Першая частка рэзалюцыі датычыла неабходнасці забеспячэння права на самавызначэнне народаў у будучыні і прыняцця іх прадстаўнікоў ужо зараз у існуючыя міжнародныя арганізацыі. Другая частка датычыла СОНРа і ўтрымлівала крытыку яго дзеянняў і пазіцый у дачыненні да народаў СССР.

Ужо ў студзені 1952 г. у амерыканскай прэсе з'явіліся паведамленні пра развал СОНРа, з якога выйшлі групы Керанскага і Мельгунова. Следам пакінуў арганізацыю і НТС. А Амерыканскі камітэт абвясціў пра спыненне фінансавання СОНРа[130].

Такім чынам, першая спроба стварэння агульнага антыкамуністычнага цэнтра змагання народаў СССР правалілася. Ідэалагічная аснова гэтай струк-

---

[127] Пад дакументам значыўся подпіс *«Брагулія»*.

[128] Выясьненьні ў справе Вісбадэнскай канфэрэнцыі // Бацькаўшчына. № 77. 16.12.1951.

[129] Супраць расейскага імпэрыялізму // Бацькаўшчына. № 77. 16.12.1951.

[130] СОНР разваліўся «Савецкія эмігранты дзеляцца з прычыны нацыянальных меншасьцяў» // Бацькаўшчына. № 3 (82). 20.01.1952.

туры з дамінаваннем расійскіх арганізацый была непрымальнай для большасці нацыянальных арганізацый. Дый сярод саміх расійскіх эмігрантаў не было адзінства ў поглядах на нацыянальныя праблемы. Для Амерыканскага камітэта гэта паставіла праблему стварэння новага цэнтра, куды б увайшлі і расійскія арганізацыі, і нацыянальныя.

Для Рады БНР жа паўстала пытанне, які менавіта варыянт такой агульнай структуры найлепш адпавядаў бы беларускім інтарэсам. Існуючыя на той час канцэпцыі Міжмор'я з дамінаваннем Польшчы і Антыбальшавіцкага блоку народаў, што аб'ядноўваў 24 нацыі, але быў вельмі неаднародны і дзе мелі перавагу ўкраінцы, не выглядалі стоадсоткава прыдатнымі для забеспячэння ў будучыні незалежнай беларускай дзяржаўнасці. На парадак дня выходзіла ідэя стварэння новай шырокай супольнасці менавіта з прадстаўнікоў народаў СССР. Пра гэта казаў у сваім інтэрв'ю газеце «Украпнські вісті» Мікола Абрамчык ужо на пачатку 1952 г.[131]

Ідэя стварэння адмысловай арганізацыі нацыянальных прадстаўніцтваў паняволеных народаў СССР нараджалася адначасова з новай спробай стварэння антыбальшавіцкага цэнтра пад эгідай Амерыканскага камітэта. 19–21 чэрвеня 1952 г. у Штарнбергу адбылася новая канферэнцыя расійскіх і нацыянальных арганізацый, арганізаваная Амерыканскім камітэтам. У ёй узялі ўдзел: Азербайджанскі камітэт нацыянальнага адзінства, Грузінскі нацыянальны саюз, Ліга змагання за народную свабоду, Задзіночанне армянскіх змагароў за свабоду, Расійскі народны рух, Паўночнакаўказскае нацыянальнае задзіночанне «Скано», Саюз змагання за вызваленне народаў Расіі, Туркестанскі нацыянальны камітэт «Туркелі» ды Беларускі антыбальшавіцкі фронт (БАФ — арганізацыя, створаная Радай БНР для ўдзелу ў перамовах па лініі Амерыканскага камітэта). На канферэнцыі сярод іншага разглядаліся пытанні стварэння адзінага каардынацыйнага цэнтра барацьбы паняволеных народаў, а таксама арганізацыі нацыянальных радыёперадачаў. Былі створаныя дзве камісіі: 1) часовая міжнацыянальная падгатаваўчая камісія і 2) часовая падгатаваўчая радыёкамісія (для падрыхтоўкі дзейнасці радыё «Вызваленне»). Паводле камуніката канферэнцыі, яна паказала *«поўную магчымасьць стварэньня адзінага фронту расейскіх і нацыянальных палітычных арганізацыяў на прынцыпах парытэтнасьці й раўнапраўнасьці яе ўдзельнікаў»*[132]. Афіцыйна Рада БНР ад канферэнцыі дыстанцыянавалася, але БАФ удзельнічаў у паразуменні з Міколам Абрамчыкам, ідавочна, каб быць у курсе новай ініцыятывы і рэалізоўваць «эфект прысутнасці», за які выступаў Прэзідэнт БНР.

Вынікам падрыхтоўчай дзейнасці стала канферэнцыя ў Мюнхене, якая адбывалася 10–18 кастрычніка 1952 г. з удзелам тых жа арганізацый, што

[131] Інтэрв'ю з Прэзыдэнтам М. Абрамчыкам // Бацькаўшчына. № 13 (92). 30.03.1952.

[132] Новыя спробы тварэньня супрацьбальшавіцкага фронту // Бацькаўшчына. № 27 (106). 05.07.1952.

і ў Штарнбергу. Тут быў прыняты статут Каардынацыйнага цэнтра антыбальшавіцкай барацьбы (КЦАБ), які падпісалі: Ліга змагання за народную свабоду, СБОНР, Расійскі народны рух, СБСР, Грузінская нацыянальная рада, Камітэт азербайджанскага нацыянальнага аб'яднання, Аб'яднанне армянскіх змагароў за свабоду, Паўночнакаўказскае нацыянальнае аб'яднанне «Скано», Туркестанскі нацыянальна-вызвольны камітэт «Туркелі»[133]. На чале Цэнтра стаў лідар Саюза змагання за свабоду Расіі Сяргей Мельгуноў, чые погляды на нацыянальнае пытанне ў СССР былі даволі кансерватыўныя. Федэрацыю ў будучай Расіі паводле нацыянальнай прыкметы ён называў *«всероссийской катавасией»*[134]. Менавіта таму, нягледзячы на пэўныя карэкціроўкі пазіцыяў, асноўная канцэпцыя КЦАБа мала адрознівалася ад прынцыпаў СОНРа. Цэнтр ствараўся не як палітычны, а як каардынацыйны, фармулёўка «народы Расіі», што была моцным раздражняльнікам для нацыянальных арганізацый, у дакументах больш не згадвалася. Аднак прынцыпы «непрадрашэнства» захоўваліся, хоць канцэпцыя плебісцыту была дапоўненая варыянтам пастановы Нацыянальнага ўстаноўчага сходу або Агульнарасійскага ўстаноўчага сходу. Больш за тое, адмысловы пункт Статута КЦАБ сцвярджаў, што ні расійскія арганізацыі, ні нацыянальныя *«не разглядаюць сябе ў якасьці прадстаўнікоў нацыянальных дзяржаўных фармацыяў»*[135]. Для дзеючых на эміграцыі нацыянальных урадаў гэта было непрымальна.

Створаная на аналагічных СОНРу прынцыпах новая структура даволі хутка сутыкнулася з тымі ж складанасцямі. Ужо ў снежні 1952 г. грузінскія і азербайджанскія прадстаўнікі абвясцілі пра свой выхад з КЦАБа. У якасці кампенсацыі расійскія групы пачалі шукаць менш уплывовыя нацыянальныя арганізацыі, якія б пагадзіліся ўвайсці ў Цэнтр. Сярод іншых, была прапанова прыняць у яго Беларускі вызвольны рух Людвіка Зарэчнага (з кола прыхільнікаў БЦР).

Важным фактарам, які рабіў уплыў на дзейнасць КЦАБа, было тое, што, паводле ідэі Амерыканскага камітэта, менавіта пад эгідай Цэнтра ў сакавіку 1953 г. пачала дзейнічаць радыёстанцыя «Вызваленне» ў Мюнхене, дзе меркавалася стварэнне нацыянальных рэдакцый.

Разумеючы неабходнасць стварэння ўплывовай арганізацыі нацыянальных прадстаўніцтваў народаў СССР, Мікола Абрамчык выступіў з уласнай ініцыятывай. 14–16 лютага 1953 г. у Карлсруэ была склікана канферэнцыя экзільных урадаў БНР, Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Украінскай Народнай Рэспублікі. На ёй былі абмеркаваныя пытанні супрацоўніцтва ўрадаў, а таксама іх стаўленне да спробаў стварэння каардынацыйнага цэнтра антыкамуністычнага змагання Амерыканскім камітэтам. У выніку была

---

[133] Язэп Каранеўскі. Старая песьня на новы лад // Бацькаўшчына. № 44 (123). 02.11.1952.

[134] Емельянов, Ю. С.П. Мельгунов: в России и эмиграции. Москва, 2012. С. 95.

[135] Язэп Каранеўскі. Старая песьня на новы лад // Бацькаўшчына. № 44 (123). 02.11.1952.

выпрацаваная ўзгодненая пазіцыя па ўсіх пытаннях. А ўжо 22 сакавіка — 2 красавіка 1953 г. у Парыжы праходзіла больш шырокая канферэнцыя, на якой прысутнічалі дэлегаты нацыянальных прадстаўніцтваў на эміграцыі Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Беларусі, Паўночнага Каўказа і Украіны. Канферэнцыя выпрацавала супольны мемарандум да Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму, а таксама план супольных дзеянняў у змаганні за вызваленне народаў СССР. Так была заснавана арганізацыя, якая стала вядомай як Парыжскі блок.

Ад імя Парыжскай канферэнцыі Мікола Абрамчык скіраваўся ў Вашынгтон, каб дамовіцца з Амерыканскім камітэтам пра перамовы аб супрацоўніцтве з КЦАБ, але ўжо на сваіх умовах. Вынікам стала канферэнцыя ў Тэрнзее, якая адбывалася 31 траўня — 1 чэрвеня 1953 г. Яна аб'яднала ўдзельнікаў папярэдняй Парыжскай канферэнцыі і КЦАБа для выпрацоўкі прынцыпаў стварэння новага супольнага цэнтра антыбальшавіцкай барацьбы. У выніку канферэнцыі ў КЦАБе адбыўся раскол, частка расійскіх групаў на чале з Керанскім выказала пратэст супраць паразумення з Парыжскай групай і заснавала КЦАБ-2. Толькі кіраўнік Лігі змагання за народную свабоду Нікалаеўскі выказаўся за супрацоўніцтва з Парыжскай групай і, падтрыманы іншымі нацыянальнымі групамі КЦАБа, працягнуў перамовы. 17 ліпеня 1953 г. у Мюнхене паўстала новая, ужо трэцяя структура — Міжнацыянальны антыбальшавіцкі каардынацыйны цэнтр, статут якога падпісалі ўдзельнікі Парыжскай групы і часткі ранейшага КЦАБа. І гэты статут меў кампрамісны характар, але быў пазбаўлены найбольш адыёзных момантаў папярэдніх дакументаў. Тут таксама былі водгукі непрадрашэнскай канцэпцыі, і ўрэшце сама арганізацыя канчаткова не была падтрыманая Амерыканскім камітэтам, бо ў ёй не бралі ўдзел асноўныя расійскія групы.

Апошняя спроба стварэння супольнай антыбальшавіцкай арганізацыі была наладжаная Амерыканскім камітэтам у красавіку 1954 г. Гэта была ідэя «Делового союза». У адрозненне ад папярэдніх структур (СОНР, КЦАБ), тое мусіла быць не самастойная арганізацыя, а падпарадкаваная непасрэдна Амерыканскаму камітэту. У склад гэтай «Дзейнай Рады» (як яна фігуравала ў беларускай прэсе), павінны былі ўвайсці па 3 прадстаўнікі ад КЦАБ-2 (Керанскага-Мельгунова) і МАКЦ. Аднак і гэтая ініцыятыва скончылася правалам, пасля чаго Амерыканскі камітэт адмовіўся ад ідэі стварэння агульнай палітычнай арганізацыі, засяродзіўшыся на рэалізацыі больш практыкаарыентаваных праектаў, найперш радыйнага.

Аднак найбольш важным у тагачаснай сітуацыі было тое, што нарэшце з'явілася ўплывовая структура ў выглядзе Парыжскага блоку, якая выступала на міжнароднай арэне як прадстаўнік інтарэсаў паняволеных СССР народаў (праз некаторы час яна канчаткова аформілася ў Лігу вызвалення народаў СССР). Гэтая арганізацыя ўжо наладжвала свае ўласныя дачыненні з Амерыканскім камітэтам, а яе прадстаўнікі маглі ўдзельнічаць у рэалізаваных ім ініцыятывах. І кіруючую пазіцыю ў Парыжскім блоку ад 1954 г. займаў Мікола Абрамчык.

Такім чынам, Рада БНР намаганнямі найбольш свайго Прэзідэнта (супольна з іншымі нацыянальнымі арганізацыямі) змагла пераламіць палітыку Амерыканскага камітэта, арыентаваную на дамінаванне расійскіх арганізацый у стварэнні антыкамуністычнага цэнтра, заснаваць спецыяльнае прадстаўніцтва «нерасійскіх» народаў, якое мела свой значны голас у міжнацыянальных дачыненнях, і дамагчыся, такім чынам, увагі да беларускіх нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў з боку заходніх палітыкаў, і найперш амерыканскіх.

Ацэньваючы плён знешнепалітычнай дзейнасці Рады БНР, Мікола Абрамчык яшчэ ў 1952 г. адзначаў: *«Кардынальным для нас заўсёды было пытаньне, як гэты заходня-дэмакратычны сьвет, галоўна Амэрыка, расцэньвае нашую праблему й як яна да яе аднясецца. Мушу з прыемнасьцю сьцьвердзіць, што праца нашай палітычнай эміграцыі за доўгія часы яе прабываньня на Захадзе, пачынаючы ад Прэзыдэнта П. Крэчэўскага й Прэзыдэнта В. Захаркі да сяньняшніх дзён не прайшла марна»*. І далей: *«...усе намаганьні й заклікі Крэчэўскага-Захаркі ад 1922 году да Лігі Нацыяў і вялікіх дзяржаваў не засталіся бяз рэха. Калі ў той час гэтыя дзяржавы былі глухімі на нашыя справядлівыя патрабаваньні, дык сяньня галоўныя пункты нашае аргумэнтацыі можна пачуць з вуснаў палітыкаў і дзяржаўных мужоў Захаду ў іхных выступленьнях і афіцыяльных заявах. Гэта зьяўляецца найлепшым доказам правільнасьці нашае палітычнае прагнозы адносна бальшавіцкай небясьпекі для цэлага сьвету, а з другога боку доказам нашага непахіснага на працягу дзясяткаў гадоў змаганьня з бальшавізмам»*[136].

Аднак згаданыя поспехі ў знешняй палітыцы Рады БНР выклікалі сур’ёзны нутраны крызіс у арганізацыі, які значна паўплываў на эфектыўнасць яе працы і ўспрыманне сярод суродзічаў.

## Нутраныя праблемы ў Радзе БНР у 1950-х гг.

Згаданы ўжо адыход з кіруючай пасады Аўгена Каханоўскага ды традыцыйныя для эміграцыі «кадравыя» праблемы ў грамадскіх арганізацыях былі толькі пачаткам сур’ёзнага крызісу, які стаў заўважны ў Радзе ўжо ў 1951 г. Непасрэднай падставай яго з’явіліся кантакты Міколы Абрамчыка з Амерыканскім камітэтам, а таксама ўдзел прадстаўніка Рады БНР Барыса Рагулі ў інспіраванай апошнім Вісбадэнскай канферэнцыі Савета вызвалення народаў Расіі. І нягледзячы на тое, што Рада БНР афіцыйна абвясціла пра свой няўдзел у СОНРы, частка яе сябраў вырашыла стварыць апазіцыйную фракцыю.

22 лістапада 1951 г. у Нью-Ёрку ў памяшканні Беларускага навуковага таварыства імя Ф. Скарыны ў Брукліне адбылося арганізацыйнае пасяджэнне Нацыянальнага блоку абароны незалежнасці і непадзельнасці Беларусі. На зборцы прысутнічалі Янка Станкевіч, Антон Адамовіч, Янка Шакун, Антон Шукелойць, Янка Юхнавец і Мікола Панькоў. У пратаколе пасяджэння

---

[136] Інтэрв’ю Прэзыдэнта БНР // Бацькаўшчына. № 23 (102). 08.06.1952.

пазначана, што *«пасьля ўсебаковага абгаварэньня і абмеркаваньня цяперашняга міжнароднага становішча і беларускае справы былі канстатаваныя сфармуляваныя і прынятыя аднагалосна выяўленыя і сьцьверджаныя на паседжаньнях 6-ае сэсіі Рады БНР факты палітыкі праводжаньня і абароны гатовых фактаў і дэклярацыя закладзінаў Нацыянальнага блёку абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі»*[137]. Сутнасць «палітыкі гатовых фактаў» была выкладзеная ў адмысловым дакуменце НБАНіНБ, прынятым на тым самым пасяджэнні:

*«1. Дэлегат Прэзыдэнта БНР падспісаў Вісбадэнскую дэклярацыю, хоць было яму засьцярожана Прэзыдэнтам, згодна заявы апошняга на сэсіі Рады, не падпісваць ніякіх пастановаў, а толькі прыняць удзел у дыскусіі.*

*2. Перад Вісбадэнскай нарадай СОНР прызнаў (яшчэ ў Штутгарце), што ўсе захопленыя СССР землі ў часе ІІ-ой Сусьветнай вайны павінны быць зьвернены назад, а тым самым прызнаў Заходнюю Беларусь за Польшчаю.*

*3. На паседжаньні сэсіі Рады БНР 11 лістапада 1951 году хоць і была аднагалосна прынята рэзалюцыя, што Рада БНР не згаджаецца з 2-ім пунктам Вісбадэнскай дэклярацыі, то, аднак, не зазначана, што дэлегат Прэзыдэнта ня меў права яе падпісываць, і гэткім парадкам Рада задняй датай прыняла ўдзел у нарадзе і заахвоце безадказныя элементы рабіць тое самае і нават болей таго.*

*4. У часе дыскусіі на VI-ай сэсіі Рады Прэзыдэнт і сп. П. Манькоўскі баранілі пункт 2-гі Вісбадэнскай дэклярацыі, як «туманова сфармуляваны.*

*5. Апрача таго, на апошнім паседжаньні сэсіі Рады БНР (11 лістапада 1951 г.) Прэзыдэнт заявіў, што справа незалежнасьці Беларусі залежыць толькі ад становішча Краю па ўпадку бальшавізму»*[138].

Такім чынам, інтэрпрэтаваныя падзеі выклікалі занепакоенасць радных, што вырашылі пра наяўнасць пагрозы *«справе незалежнасці і непадзельнасці нашага Краю»*[139]. І Блок абвясціў пра стварэнне сваёй фракцыі ў Радзе, што выклікала недаўменне і нават было ўспрынята як абраза некаторымі іншымі раднымі, улучна з Прэзідэнтам.

Варта адзначыць, што сябры Блоку выступалі не толькі супраць дачыненняў Рады БНР з СОНРам. Ініцыятараў стварэння фракцыі не задавальняла, што пэўныя падзеі ў Радзе адбываюцца без узгаднення з раднымі, а ўжо абмяркоўваюцца і абгрунтоўваюцца post factum, як гэта адбылося ў выпадку з Вісбадэнскай канферэнцыяй.

---

137 Пратакол арганізацыйнае зборкі Нацыянальнага Блёку абароны Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі 22-га лістапада 1951 году // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 22. Лістапад 1984. С. 7.

138 Факты праводжаньня й абароны палітыкі гатовых фактаў // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 22. Лістапад 1984. С. 8.

139 Дэклярацыя Нацыянальнага Блёку Абароны Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 22. Лістапад 1984. С. 8.

Публікацыя Дэкларацыі Блоку нарадзіла дыскусіі вакол СОНРа і самой канцэпцыі «непрадрашэнства» ў беларускіх нацыянальных колах. І калі праціўнікі Рады БНР адразу ж абвінавацілі яе ў здрадзе нацыянальным ідэалам і гандлі беларускай тэрыторыяй, то ў шэрагах саміх радных спрэчкі набылі даволі прынцыповы характар падтрымкі дзейнасці кіраўніцтва. Пачалі з'яўляцца абгрунтаванні важнасці кантактаў з Амерыканскім камітэтам і ўдзелу ў яго мерапрыемствах. Так, 28 лютага 1952 г. у канадскім «Беларускім эмігранце» з'явілася заметка Кастуся Акулы «Развал СОНР'у», дзе падкрэслівалася заслуга Рады БНР і яе Прэзідэнта, а ўдзел беларускага прадстаўніка ў Вісбадэне падаваўся як «скрозь пазітыўны». Выснова ў артыкуле была адназначная: *«Няпрысутныя ніколі ня маюць рацыі. Ня было б прадстаўніка Ураду БНР у Вісбадэне, за нас гаварылі-б іншыя. За нас, а не ў абароне нашых інтарэсаў. Калі-ж СОНР разваліўся, а на яго месца паўстане іншая агульнарэпрэзэнтатыўная арганізацыя, дзе ўсе будуць роўнымі партнэрамі, дык гэта ў вялікай меры трэба заўдзячваць разумнай палітыцы Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, а ня тым, што шумелі й пратэставалі па заўгольлях, а сяньня спэкулююць на перамозе»*[140].

У працягу дыскусіі ў ліпені 1952 г. на старонках тае ж газеты з'явіўся артыкул Вінцэнта Жук-Грышкевіча «Байкот Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі, ці ўдзел у ім?». У адказ на пастаўленае ў назве пытанне аўтар даводзіў: *«...справа ўдзелу ці байкоту Амэрыканскага камітэту ня ёсьць такой простай. Мы ня можам зачыняць вачэй на тое, што ў самым Амэрыканскім камітэце далёка ня ўсё ў парадку — пачынаючы ад самога назову з азначэньнем «народы Расеі», русафільствам кіраўнікоў і канчаючы на ўпрывілеяваным становішчы расейскага партнэра. Сьцьвярджае гэта прэсавы камунікат канфэрэнцыі Камітэту ў Штарнбэргу. Аднак зьмена ўсяго гэтага на правільнае й слушнае сама сабой ня прыйдзе. За гэта трэба змагацца і то не шляхам байкоту, які мог бы быць толькі карысным для расейцаў, а шляхам актыўных выступленьняў у самым Камітэце, шляхам пераконваньня амэрыканцаў і ўсяго дэмакратычнага сьвету. Трэба выкарыстаць Камітэт і эвэнтуальныя радыёперадачы як трыбуну для прапаганды слушнасьці нашай справы. Трэба падкрэсьліваць усюды й заўсёды наша сапраўднае становішча адносна СОНР'у, зьмешчанае ў пастановах апошняй Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, а адначасна гаварыць аб той крыўдзе ня толькі для нашай справы, але й адносна элемэнтарных прынцыпаў вольнасьці народаў і дэмакрацыі, якую робіць нам Амэрыканскі камітэт тым, што ігнаруе гэтыя слушныя пастуляты. Няхай вольны сьвет даведаецца аб праўдзе, няхай скажа сваё слова.*

*Толькі такі актыўны ўдзел беларускіх прадстаўнікоў у Камітэце мае рацыю быту. Нельга ім забывацца аб пастановах Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. Абавязкам іх ёсьць прапагаваць гэтыя пастановы з трыбуны створанага антыбальшавіцкага камітэту і змагацца за правядзеньне іх у*

---

[140] Акула, К. Развал СОНР'у // Беларускі эмігрант. № 2 (40). 28.02.1952.

*жыцьцё. Як кажны народ, мы маем права вольнага голасу на міжнароднай трыбуне. Калі-ж сільныя гэтага сьвету абмяжоўваюць наш голас, мы выкарыстоўваем яго ў гэтай абмежаванай форме дзеля змаганьня за нашы поўныя правы»*[141].

Нягледзячы на гэткія спробы абгрунтавання неабходнасці супрацоўніцтва Рады з Амерыканскім камітэтам, стаўленне радных да яго заставалася далёка неадназначным. Далейшы бег падзеяў па стварэнні агульнага антыбальшавіцкага руху толькі паглыбіў супярэчнасці. Амаль праз год пасля з'яўлення Нацыянальнага блоку абароны незалежнасці і непадзельнасці Беларусі, 28 верасня 1952 г., з'явілася «Асьветчаньне» Замежнага сектара Беларускага нацыянальнага цэнтра, дзе сярод іншага сцвярджалася, што гэты сектар з'яўляецца адзіным палітычным прадстаўніком беларускай эміграцыі і ён не даваў санкцыяў на ўдзел якой бы то ні было беларускай арганізацыі ў канферэнцыях у Вісбадэне і Штэрнбергу. У дакуменце падкрэслівалася:

*«Замежны Сэктар БНЦ, прааналізаваўшы дзейнасьць Амэрыканскага камітэту, які ў форме т. зв. «СОНР'у» намагаўся стварыць супольны фронт народаў СССР для змаганьня з сучасным дзяржаўна-палітычным ладам Масквы — бальшавізмам, прыйшоў да выснаву, што ўдзел у гэтым фроньце беларускае палітычнае эміграцыі ня ёсьць пазытыўным, бо йшоў бы насуперак інтарэсам Беларускага Народу.*

*Платформа Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі, як і ўсіх эміграцкіх расейскіх груповак, што бяруць удзел у СОНР'у, ня вызнае права беларускага ды іншых народаў, акупаваных сяньня бальшавіцкай Масквой, на нацыянальную волю і на аднаўленьне іхняе дзяржаўнае незалежнасьці. З гэтага вынікае, што дадзеныя арганізацыі маюць пляны захаваньня «единой и неделимой» і пасьля ліквідацыі сяньняшняга дзяржаўна-палітычнага ладу Масквы.*

*Такое стаўленьне да падбітых Масквою народаў БНЦ ня можа назваць дэмакратычным, бо яно супярэчыць законным імкненьням народаў да свабоды, да сапраўднага вызваленьня»*[142].

У згаданым дакуменце, падпісаным раднымі БНР Лявонам Савёнкам (старшыня Сектара), Антонам Адамовічам, Леанідам Галяком, Антонам Шукелойцем, Міколам Паньковым, Вітаўтам Тумашам, Міхасём Рагулем і Гіпалітам Паланевічам, цікавая не толькі рэакцыя на чарговую ініцыятыву Камітэта. Варта адзначыць, што ў «Асьветчаньні» дзейная Рада БНР наогул не згадваецца і пра яе функцыі палітычнага прадстаўніцтва проста «забываюцца». І гэта пры ўдзеле саміх жа радных.

Узначалены Лявонам Савёнкам Замежны сектар БНЦ надалей намагаўся рэагаваць на ўсе ініцыятывы па стварэнні антыбальшавіцкага фронту з

[141] Цыт. паводле: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча… С. 147.

[142] Асьветчаньне Замежнага Сэктару Беларускага Нацыянальнага Цэнтру // Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 22. Лістапад 1984. С. 9.

боку Амерыканскага камітэта з пазіцый адстойвання тых самых інтарэсаў незалежнасці і непадзельнасці Беларусі, што і ранейшы Нацыянальны блок.

Стварыць канструктыўную апазіцыю Радзе БНР, вызнаючы яе пры гэтым адзіным палітычным прадстаўніцтвам беларусаў, паспрабаваў і былы прэм’ер-міністр Аўген Каханоўскі. Афіцыйна выйшаўшы з Рады, ён аднавіў дзейнасць Беларускай нацыянал-дэмакратычнай партыі пад назвай Аб’яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Краёвы з’езд арганізацыі адбыўся ў Нью-Ёрку 21–22 лютага 1953 г. АБНД абвясціла пра вызнанне і Рады БНР, і БНЦ, такім чынам палагодзіўшы гэты новы наспеўшы раскол у беларускай палітычнай эліце, аднак, засведчыла, што пакідае за сабою *«права займаць самастойную пазыцыю ў канкрэтных пытаньнях палітыкі Рады, стварыць у Радзе і ейных сэктарах свае фракцыі»*[143]. Скарыстаўшы з гэтага права, АБНД выказалася рэзка супраць удзелу прадстаўнікоў Рады БНР у новаствораным з ініцыятывы Амерыканскага камітэта МАКЦ. У выніку, паміж Аб’еднаннем Каханоўскага ды перыёдыкамі, прыхільнымі Радзе (найперш «Бацькаўшчынай» і «Беларусам»), пачалася своеасаблівая інфармацыйная вайна[144].

Да абумоўленага розніцай поглядаў на знешнюю палітыку Рады БНР супрацьстаяння ў 1953 г. дадалося яшчэ і іншае, заснаванае на асабістых дачыненнях. Паўстаў канфлікт паміж Леанідам Галяком і Францам Кушалем на глебе рэдагавання і фінансавання газеты «Беларус». Леанід Галяк не быў належным чынам запрошаны Кушалем, старшынёй БАЗА, на працяг рэдактарскай працы ў газеце, што вылілася ў асабістае супрацьстаянне дзеячаў. Да яго далучыліся абвінавачанні Кушаля ў фінансавых злоўжываннях у газеце, а Міколы Абрамчыка — у свядомым расколе Рады, стварэнні кола «набліжаных», прасоўванні патрэбных рашэнняў[145]. Урэшце адмыслова скліканая ў Радзе БНР камісія мусіла правесці расследаванне справы. І хаця фактаў фінансавых злоўжыванняў выяўлена не было, вынікамі дзейнасці камісіі апазіцыя засталася незадаволеная. Так, з’явілася абвінавачвальная брашура Янкі Станкевіча[146], і канфлікт выйшаў далёка за межы Рады БНР.

Урэшце, становішча радных стала вызначацца лаяльнасцю не столькі да знешнепалітычнага курсу, колькі асабіста да Міколы Абрамчыка і яго дзейнасці. Шырокія паўнамоцтвы і няўзгодненая з Радай актыўнасць у кулуарах

---

[143] Пратакол з’езду АБНД. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[144] Дадатак да пастановы пленуму ЦК АБНД ад 1–2-га студзеня 1954 году ў справе нутраное палітыкі Рады БНР. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[145] Прыкладам, Аўген Каханоўскі ад імя АБНД заўважаў, што ўхвальная рэзалюцыя ў дачыненні да знешняй палітыкі Рады БНР на сёмай сесіі 27 снежня 1953 г. была прынятая толькі 19 галасамі з 30 прысутных, тады як агульная колькасць сябраў Рады складала каля 120 чалавек. (Ліст Старшыні ЦК АБНД А. Каханоўскага да М. Абрамчыка ад 08.01.1954. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.)

[146] Станкевіч, Янка. Толькі сябром Рады БНР. Нью-Ёрк, 1953. — 15 с.

амерыканскай і міжнароднай палітыкі пачалі ўспрымацца як навязванне радным сваёй лініі ці нават як дыктатура.

Ці не апошняй спробай паўплываць на сітуацыю з’явілася ініцыятыва апазіцыйных радных правесці рэферэндум па пытаннях знешняй палітыкі, пераабраць Прэзідыум і Прэзідэнта. Аднак гэтая ініцыятыва ў Радзе не прайшла, таму нязгодныя з існуючым становішчам справаў, нутранай і знешняй палітыкай Рады проста пакінулі яе шэрагі. Так, зусім адышоў ад палітычных спраў Аўген Каханоўскі. Сышлі Лявон Савёнак, Аляксандр Махноўскі, Леанід Галяк, Міхась Рагуля і некаторыя іншыя. Янка Станкевіч быў выключаны з Рады за публікацыю брашуры. Канфлікты паўплывалі на актыўнасць і іншых сябраў арганізацыі. Да сярэдзіны 1950-х гадоў можна казаць пра сур’ёзны крызіс нутранай палітыкі ў Радзе.

Сітуацыю добра ілюструе ліст Алеся Змагара з Кліўленда, напісаны ў 1956 г. у адказ на запросіны прыехаць на сесію Рады БНР.

*«Прыехаць на сесію Рады БНР я не змагу, бо ад нас, наагул, ніхто ня едзе. Гэтак мне сказаў інж. Калоша, які з’яўляецца больш-менш прыхільнікам Абрамчыка і якому было даручана Мерляком сарганізаваць у Кліўлендзе падсэктар Рады. Ня ведаю, ці ён яго зарганізаваў. Пэўне, што ня змог. Бо радныя ў Кліўлендзе ня лічаць сябе раднымі. Пералічу іх:*

*Сп. Каханоўскі ня лічыць сябе радным, аб чым афіцыйна падаў заяву. Ён ня хоча пляміць свайго імя, будучы ў Радзе БНР, старшынёю якой з’яўляецца сп. Абрамчык, які вядзе палітыку, як нутры беларускую, гэтак і вонкавую, вельмі шкодную вызвольнай барацьбе беларускага народу за яго незалежнасьць.*

*Сп. Лазар поўнасьцю згодны з вышэй азначаным і таму ня лічыць сябе сябрам Рады БНР, але заявы аб гэтым не падаваў, бо лічыць гэта непатрэбным, каб яго прозьвішча ўспаміналася ў гэтакай арганізацыі, дзе прэзыдэнт горшы за дыктатара, перавыбараў не дапускае, а з думкамі радных ня лічыцца, ды нават радных сам набірае або выкідае, карыстаючыся галасамі аднаго якога-нб. сэктара, а ня ўсіх радных.*

*Сп. Кабяка сказаў, што ня лічыць сябе радным, бо Рада БНР пабудована не дэмакратычна. Заміж прадстаўнікоў ад беларускіх арганізацыяў і партыяў, Абрамчык паклікае таго ці іншага, абы толькі падтрымліваў Абрамчыка. Інакш кажучы, каб быў падхалімам.*

*Сп. Калоша, як нац-дэм, падтрымлівае сп. Каханоўскага, бо я, калі запытаўся ў яго, ці хто ёсьць ў Кліўлендзе з радных, адказаў, што нікога няма. Усе выбылі механічна.*

*Сп. Лук’янчык. З ім я не гаварыў, але думаю, што ён адзін нічога рабіць ня будзе.*

*Сп. Вярбіцкі лічыцца сябрам падсэктару ў Кліўлендзе, але я яго толькі раз выпадкова бачыў. Гэта, калі ён з Эўропы ехаў у Амэрыку і заехаў да нас, каб пахваліцца дзейнасьцю Абрамчыка. Але калі я паглядзеў перадачы на радыё за сакавік месяц, дык нічога актуальнага аб барацьбе беларускага народу супроць бальшавізму за сваю незалежнасьць не знайшоў. Некалькі*

*тэмаў было беларускіх, але тэмы гэтыя агульныя, аб чым можа пісаць любая іншанацыянальная газета. Сюды ўлучаецца і Акт 25 Сакавіка, аб якім ўпамінаюць і іншанацыянальныя газеты, як аб адбыўшымся факце, але паўтараю, нічога аб вызвольнай барацьбе беларускага народу за незалежнасьць няма. Адносна іншае палітыкі таксама Абрамчык не пасунуўся наперад ні на крок і стаіць на тым самым непрадрашэнстве, як і стаяў. Для яго самае галоўнае — гэта даляры, а справа беларуская толькі як шыльд.*

*Што тычыцца мяне, дык я тут не лічуся за раднага, бо тут няма ніякага сэктара.*

*Вось як справа стаіць з падсэктарам Рады БНР у Кліўлендзе»*[147].

Праблемы з актыўнасцю радных абмяркоўваліся ў Радзе ўжо ў 1954 г. Тады ж паўстала ідэя перанясення кіруючых органаў Рады зноў у Еўропу, дзе дзейнічалі актыўныя беларусы, асабліва з шэрагу выпускнікоў Лювенскага ўніверсітэта. Аднак рэальна ў сувязі з другой хваляй эміграцыі з Нямеччыны ў ЗША беларусаў у другой палове 1950-х перанос кіруючых органаў так і не адбыўся.

Тады ж, у 1954 г., упершыню сур’ёзна абмяркоўвалася ў Радзе БНР ідэя супрацоўніцтва з Беларускай Цэнтральнай Радай ці яе прыхільнікамі ў справе ладжання супольных мерапрыемстваў. Аднак да афіцыйнага супрацоўніцтва справа не дайшла. Больш за тое, пазней адзін з актыўных ініцыятараў наладжвання супрацы двух палітычных цэнтраў Кастусь Мерляк шмат у чым менавіта праз гэткія свае ініцыятывы быў выключаны з шэрагаў радных.

Нутраныя складанасці ў арганізацыі працы, прынцыповыя і асабістыя канфлікты — усё гэта ў другой палове 1950-х гг. шмат хто з нядобразычліўцаў ставіў у віну Міколу Абрамчыку. Аднак гучалі і галасы ў абарону. Так а. Леў Гарошка, што добра ведаў Абрамчыка па жыцці ў Парыжы, пісаў у адказ на ліст Міколы Панькова:

*«...закіды адносна Абрамчыка залішне агульныя, бо міма таго, што ён мае некаторыя мінусы і часам робіць памылкі, але на жаль, у нас да гэтага часу няма большага дыплямата, і вялікая шкода, што ён мае замала падтрымкі ў сваіх-жа людзей, занятых па вушы асабістымі справамі. З ягоным фахам ён мог-бы сабе так-жа як гэта робіць шмат хто сёньня, спакойна зарабляць на пражыцьцё, а не валачыцца па ўсіх кутках сьвету і наражаць сваё жыцьцё дзеля беларускае справы. На мой пагляд: бачучы ягоныя нястачы, ня трэба заплюшчваць вочаў і на ягоныя вялікія плюсы і асягненьні...»*[148].

І яшчэ:

*«...Адносна палітыкі Абрамчыка гэтым разам лепш нічога казаць ня буду, бо ўжо вам шмат пісаў на гэтую тэму, толькі зазначу, што іншая*

---

[147] Ліст А. Яцэвіча ад 21 верасня 1956 г. (арыгінал лацінкаю) // Летапіс беларускай эміграцыі. № 56. Люты 1988.

[148] Ліст Л. Гарошкі да М. Панькова ад 08.11.1955 // Летапіс беларускай эміграцыі. № 62. Сьнежань 1988.

*справа засьцярогі (якіх я маю, здаецца, больш за вас) і зусім іншая справа ацэна вынікаў. Што шмат калішніх дзеячаў адышло, няма нічога дзіўнага — на гэта ёсьць шмат прычын. Думаю, што тыя людзі адышлі-б ад кожнага іншага чалавека. Эміграцыйныя ўмовы жыцьця, паганыя ўмовы, выматваюць страшэнна нэрвы, даюць грунт да розных непаразуменьняў з зусім дробных падзеяў, а да ўсяго гэтага ўладжаньне асабістага жыцьця так-жа ўплывае і бадай ці не найбольш на ўсякія апраўданыя і неапраўданыя непаразуменьні…»*[149].

Сапраўды, дыскусіі адносна таго, на якіх умовах і ці патрэбна наогул супрацоўнічаць з Амерыканскім камітэтам, не спыняліся ў беларускім асяроддзі яшчэ доўгі час. У прыняцці палітыкі «непрадрашэнства» абвінавачвалі Раду БНР апаненты, нягледзячы на афіцыйныя яе заявы пра непадтрымку такіх пазіцыяў. А гісторыя засведчыла, што стаўка на супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам была слушнаю. Гэтая супраца прынесла рэальную карысць беларусам у выглядзе стварэння беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне / Свабода», беларускага аддзела ў Мюнхенскім інстытуце вывучэння гісторыі і культуры СССР, выданні з дапамогай Камітэта розных беларускіх кніг і перыёдыкаў і г.д.

## Беларуская рэдакцыя радыё «Вызваленне / Свабода»

Створанае Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі праз супрацу з КЦАБам радыё «Вызваленне» пачало сваю працу ў Мюнхене 1 сакавіка 1953 г. Спачатку працавала толькі адна руская рэдакцыя. Але неўзабаве да яе далучыліся азербайджанская, грузінская, татарская, туркестанская і паўночнакаўказская. Яны прадстаўлялі тыя арганізацыі, што ўваходзілі ў КЦАБ. Па стане на сакавік 1953 г. на радыё працавалі шэсць рэдакцыяў. Спробы наладжвання канструктыўнага дыялогу паміж рознымі эміграцыйнымі групамі і Амерыканскім камітэтам, у якіх бралі ўдзел прадстаўнікі Рады БНР і найперш сам Мікола Абрамчык, забяспечылі беларусам, нават не ўваходзячы ў КЦАБ, магчымасць таксама стварыць сваю рэдакцыю на радыё «Вызваленне». Спрыяльным момантам было якраз стварэнне Парыжскага блоку, які пачаў праводзіць самастойную палітыку дачыненняў з Амерыканскім камітэтам, у тым ліку і па пытаннях радыё. Пры гэтым Прэзідэнт БНР асабіста займаўся падборам кандыдатураў у беларускую рэдакцыю, вёў з імі перамовы і тады ўжо ўзгадняў з амерыканскім кіраўніцтвам.

Першымі працаўнікамі рэдакцыі сталі Пётра Сыч і запрошаны спецыяльна з Канады на пасаду кіраўніка Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Менавіта яны ўдвух пачыналі пілотныя перадачы яшчэ без выхаду ў эфір. Пазней да іх далучыліся Янка Ліманоўскі, Леанід Карась, Галіна Ганчарэнка, Янка Запруднік, Уладзімір Цвірка. У якасці аўтараў супрацоўнічалі з радыё Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Сымон Кабыш-Кандыбовіч і іншыя. Цікавыя

---

[149] Ліст Л. Гарошкі да М. Панькова ад 13.10.1956 // Летапіс беларускай эміграцыі. № 56. Люты 1988.

ўспаміны пра працу на радыё напісала Галіна Ганчарэнка[150], шмат увагі беларускай рэдакцыі аддадзена ў ліставанні Вінцэнта Жук-Грышкевіча[151], Янкі Запрудніка і Міколы Абрамчыка[152], таму тут не будзем падрабязна выкладаць гісторыю беларускай прысутнасці на радыё, а абмяжуемся толькі найбольш істотнымі, на наш погляд, момантамі.

Афіцыйнае вяшчанне беларуская рэдакцыя пачала 20 траўня 1954 г., на тры месяцы раней за ўкраінскую. Першыя перадачы мелі працягласць у 15 хвілінаў і перадаваліся па восем разоў на дзень. Пазней час эфіру павялічыўся да 30 хвілінаў. Перадачы трансляваліся мэтанакіравана на тэрыторыю БССР, і суродзічы ў вольным свеце іх чуць не маглі. Тым не менш, пачатак дзейнасці беларускай рэдакцыі радыё быў сустрэты на эміграцыі даволі ўзнёсла. Газета «Бацькаўшчына» змясціла адпаведны рэпартаж, адбылося прыняцце ў самім радыё «Вызваленне»[153]. З прапагандысцкімі магчымасцямі радыё былі звязаныя вялікія надзеі. Тэхнічна праца радыё паступова развівалася. У 1958 г. была створаная беларуская рэдакцыя ў Нью-Ёрку, беларускія перадачы перасылаліся для трансляцыі з розных перадатчыкаў, у Лісабоне, на Тайвані. Аднак першапачатковыя спадзяванні на развіццё беларускай радыёслужбы з часам пачалі змяншацца.

Праца ў рэдакцыі мела сваю спецыфіку, якая выяўлялася паступова. Па-першае, яна аказалася небяспечнаю для жыцця. Ужо на пачатку верасня 1954 г. таямніча загінуў супрацоўнік беларускай службы Леанід Карась. Гэтую смерць супрацоўнікі звязалі з дзейнасцю савецкіх спецслужбаў, і далейшая праца радыё праходзіла ў даволі напружанай атмасферы[154]. Тым больш, што розныя інцыдэнты перыядычна адбываліся і з супрацоўнікамі іншых рэдакцыяў.

Другая спецыфічная рыса была звязаная з арганізацыяй працы на радыё. Агульную палітыку тут вызначала амерыканскае кіраўніцтва. Практычна ў кожнай рэдакцыі быў свой амерыканскі шэф (цэнзар), які кантраляваў змест перадачаў. Ці не галоўнаю вымогаю была забарона на адкрытыя антырасійскія і антысавецкія выказванні. Адзін з амерыканскіх супрацоўнікаў радыё Джын Сосін згадваў: *«Мы лічылі, апроч іншага, што ў радыяперадачах варта пазбягаць палемікі з савецкім рэжымам. Лепей паведамляць болей фактаў і іншых звестак, вітаючы ўсё станоўчае, што адбываецца ў краіне для паляпшэння жыцця народу. [...] Ад самага пачатку нашага існавання мы разумелі, што недальнабачна і контрпрадукцыйна рабіць*

---

150 Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 192 с.

151 Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча…

152 Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, Старшынём Рады БНР (1953–1969) // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 217–340.

153 Інаўгурацыйная беларуская перадача цераз радыястанцыю «Вызваленьне» // Бацькаўшчына. № 20–21 (202–203). 30.05.1954.

154 Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя… С. 112–115.

*перадачы агрэсіўнымі і падбухторвальнымі, што радыё само па сабе не зрыне камуністычную дыктатуру, яго задача — садзейнічаць эвалюцыйным зменам у савецкай сістэме, у адпаведнасці з законнымі памкненнямі народаў Савецкага Саюзу. Зразумела, што не ўсе супрацоўнікі-эмігранты былі згодныя з такім памяркоўным падыходам, і, як я ўжо казаў, з гэтай прычыны адбываліся парушэнне палітыкі вяшчання, асабліва ў неславянскіх рэдакцыях. Так было да таго часу, пакуль амерыканскае кіраўніцтва не дамаглося сталага кантролю ў гэтых службах»*[155].

Цэнзура зместу перадачаў з боку амерыканцаў паступова ўзмацнялася, а ў беларускай эміграцыйнай грамадзе, для якой часам наладжвалі адмысловыя праслухоўванні запісаных беларускіх перадачаў, паступова раслі недаўменне і раздражненне адносна працы нацыянальнай рэдакцыі. Наракалі і самі супрацоўнікі. У лістах Янкі Запрудніка да Міколы Абрамчыка з 1950-х гг. можна знайсці багата такіх момантаў. Прыкладам:

*«На радыястанцыіі пакуль што ўсё йдзе добра, калі ня лічыць некаторых зьмен у «генэральнай лініі», якія даволі выразна заўважваюцца пасьля Жэнэвы. Зьмены гэтыя далёка не на нашую карысьць, ад іх церпяць некаторыя зусім беззаганныя й добрыя скрыпты, гэта ўносіць у агульную атмасфэру крыху нэрвознасьці й канстэрнацыі, але гэта ўжо пытаньне агульнага фронту «нацыяналаў»*[156].

Асабліва востра паўстала праблема цэнзуры ў 1956 г. у часе падзеяў у Вугоршчыне і Польшчы:

*«Атмасфэра ў нас тут, у сувязі з апошнімі падзеямі, вельмі напружаная. Праграму мяняем па чатыры разы на дзень. Часамі даводзілася працаваць уначы. Цяпер крыху супакойваецца. Ува ўсім гэтым ёсьць, аднак, адна вельмі няпрыемная рэч. Гэта тое, што ў насьвятляньні ўсіх падзеяў, якія адбываюцца цяпер ува Ўсходняй Эўропе, мы ня можам мець ніякага свайго абліччa. Праграмы нашага радыё складаюцца цяпер выключна з навінаў дня і некаторых фрагмэнтаў выказваньняў заходняе прэсы. А ўва ўсім гэтым столькі ж цікавых для нашага слухача мамэнтаў, аналёгіяў! Вугорская рэвалюцыя — гэта перш за ўсё нацыянальная рэвалюцыя, гэта таксама антырасейская рэвалюцыя. Аб гэтым ведае цэлы вольны сьвет, толькі мы ня можам сказаць нашым слухачом.*

*Учора было сказана (але пасьля й адклікана), што камэнтаваць усё гэта можна, але раней трэба пасылаць на зацьверджаньне ў Нью-Ёрк (значыцца, не давяраюць нават тым дараднікам, якія сядзяць тут). Келі, быццам, збунтаваўся супраць такое дурноты, але факт застаецца фактам, што мы вельмі зьвязаныя ўва ўсім гэтым. Трэба дзесьці рабіць адпаведныя дэмаршы і дамагацца права на собскае насьветліваньне вугорскіх і польскіх падзеяў.*

---

[155] Джин Сосин. Искры Свободы. Воспоминания ветерана радио / Пер. с англ. 2008. С. 53.

[156] Ліст Я. Запрудніка да М. Абрамчыка ад 03.09.1955 // Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам… С. 227.

*У іншым выпадку, мы трацім перад нашымі слухачамі ўсякае беларускае аблічча ў гэтым напружаным часе»*[157].

Не маючы магчымасці самім вызначаць рэдакцыйную палітыку, супрацоўнікі-беларусы, як і прадстаўнікі іншых нацыянальных структураў, мусілі падпарадкоўвацца амерыканскім вымогам, разам з тым падпадаючы пад крытыку суродзічаў. Расчараванне справамі на радыё, якое ад 1959 г. змяніла назву на радыё «Свабода», стаў выказваць і Мікола Абрамчык. У тым самым годзе ён пісаў, што «*наша «Свабода» — якая зусім зыходзіць на «псы»*[158], а потым называў яе не інакш як *«здэгенераванай»*[159].

Да незадавальнення зместам праграмаў дадаліся і кадравыя праблемы. Першапачаткова амерыканскае кіраўніцтва прапаноўвала шукаць супрацоўнікаў пераважна ў Еўропе, а мясцовыя беларускія інтэлектуальныя сілы былі абмежаваныя. Часам Міколу Абрамчыку ўдавалася ўгаварыць амерыканцаў на запрашэнне супрацоўнікаў з-за акіяну. Так было ў выпадку з Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, Галінай Ганчарэнкай, Янкам Ліманоўскім, Уладзімірам Дудзіцкім… Аднак рэдакцыю перыядычна бударажылі канфлікты. З незадавальненнем з'ехаў Янка Ліманоўскі. Вельмі спецыфічным кіраўніком рэдакцыі аказаўся Уладзімір Дудзіцкі, якога Мікола Абрамчык, запрасіўшы з Венесуэлы, з часам не ведаў, як пазбыцца[160].

Праблемы 1950-х толькі абвастрыліся ў 1960-х. Найгоршым было тое, што з часам і ў падборы кадраў амерыканскае кіраўніцтва ўсё болей брала справу ў свае рукі. Найбуйнейшы канфлікт з гэтай нагоды разгарэўся, калі амерыканскі дарадчык прызначыў у беларускую рэдакцыю беларуса па паходжанні, які заўсёды ўдаваў сябе за латыша і быў далёкі ад беларускіх інтарэсаў, нейкага Блажэвіча. І зрабіў гэта без узгаднення з Міколам Абрамчыкам. Беларусы заявілі пратэст і змагаліся за прыбранне Блажэвіча з сваёй рэдакцыі. Прэзідэнт БНР нават пагражаў, што пойдзе на закрыццё беларускай рэдакцыі радыё. Вось што ён пісаў:

«*5–6 і 7 красавіка ў нас адбудзецца г. з. «Сэсыя» кантактнай камісіі. Першым пунктам парадку дня пастаўлена: «Аб кампэтэнцыях адвайзэраў [дараднікаў] і правох нац. рэдакцыяў» без скобак «аб хуліганстве Гэруса і правох нац. рэд.» У склад кантактнай камісіі ад Пар. блёку ўваходзяць: Цындзадзе, Лівіцкі і я. З боку амэрыканцаў: Сосін*[161]*, Клумп [Кламп] і Вандэр-*

---

[157] Ліст Я. Запрудніка да М. Абрамчыка ад 31.10.1956 // Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам… С. 238.

[158] Ліст М. Абрамчыка да Я. Запрудніка ад 22.08.1959 // Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам… С. 270.

[159] Ліст М. Абрамчыка да Я. Запрудніка ад 08.09.1959 // Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам… С. 272.

[160] Варты ўвагі ўспамін Яніны Каханоўскай пра Уладзіміра Дудзіцкага ў: Юрэвіч, Лявон. Прадмова // Дудзіцкі, Уладзімір. Творы. Мінск, 2010. С. 10.

[161] **Джын Сосін** (*Gene Sosin*), саветолаг, які працаваў у праграмным аддзеле радыё «Свабода». Аўтар кнігі ўспамінаў *Sparks of Liberty. An Insider's Memoir of*

*рор*[162]*. Еду на гэту «Сэсыю» ўсё ж і я, хоць не без рызыкі, бо тэрмін майго «канвалесанса» [выздараўленьня] далёка ня скончыўся. Як будзе вырашана на «сэсыі» справа наогул, да чаго там дагаворымся ці не дагаворымся, вам тады напішу. Цяпер жа прасіў бы вас усіх мець наўвеце адно і не выпускаць гэта з-пад увагі: што калі б наша тут, у Мюнхэне, дырэкцыя радыя пайшла па лініі — Гэруса-Дзякоўскага і Со, г. з. як казаў вышэй, пазбаўленьне нас усіх ранейшых правоў — буду тады пісаць Сарджэнту. Мала таго, што я буду пісаць — бээнэраўскія грамадзкія і палітычныя арганізацыі павінны будуць (у выпадку супраціву Сарджанта) зьвярнуцца да яго з пратэстам, што па 13-гадовым нашым супрацоўніцтве нам прапануюцца дыскрымінуючыя, зьневажаючыя формы «спаўпрацы», што спаўпрацу з Амэрыканскім камітэтам мы разглядаем не як заработкі для 10-ка людзей, падпарадкаваньне іх чыноўнікам Ам. кам., а як прадстаўнікамі бел. грамадзка-палітычных установаў, ад імя якой (гэтай грамадзкасьці) Р. С. і выступае, а ў сваіх заўсёды да нас (нат і не даўным, месяц таму) лістох Сарджант запэўнівае, што без нас (Пар. бл.) як саюзьнікаў і партнэраў існаваньне Ам. Кам. было б бессэнсоўным.*

*Канчаю. У нас няма іншага выхаду, як стоячы на тым грунце, на якім мы распачалі супрацоўніцтва з А. К., адстойваць свае правы. Эвэнтуальна скаардынавана дзеяць, не даць ні маленькай падставы ім зразумець, што пры маленькім на нас нат націску мы капітулюем»*[163].

І яшчэ: *«…справа пастаўлена так: або нам (Радзе БНР) застаюцца ўсе (хоць і так куртатыя) правы ў справах радыяперадачаў, якімі мы карысталіся працягам 13 год на падставе нашае вербальнае ўмовы з Ам. К-м пры заснаваньні бел сэкцыі, або ўсе гэныя паўнамоцтвы, уключна зь вярбоўкай супрацоўнікаў у бел. сэкцыю, перадаюцца Гэрусу, а мы г. з. Рада БНР павінны толькі быць памочнікамі Гэруса»*[164].

Беларуская рэдакцыя не зачынілася. Аднак справу змагання з свавольствам амерыканскага дарадцы ў кадравых пытаннях Мікола Абрамчык так і не здолеў давесці да канца праз сваю нечаканую хваробу. Больш за тое, новапрызначаны кіраўнік беларускай рэдакцыі Масей Сяднёў (які, між іншага, нават не належаў да прыхільнікаў Рады БНР) паспрабаваў вырашаць тыя пытанні самастойна наўпрост праз амерыканцаў і таксама без узгаднення з Радай БНР. Справу змагання за правы Рады БНР тут ужо пераняў Вінцэнт Жук-Грышкевіч:

---

*Radio Libery. The Pennsylvania State Univerity Press, University Park, Pennsylvania, 1999. — 313 p.* У 2008 г. кніга выйшла ў перакладзе на рускую мову.

[162] **Эдвард Ван Дэр Рор** (*Edward Van Der Rhoer*), дырэктар палітычнага аддзела радыё «Свабода».

[163] Ліст М. Абрамчыка да Я. Запрудніка ад 02.04.1967 // Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам… С. 320–321.

[164] Ліст М. Абрамчыка да Я. Запрудніка ад 02.04.1967 // Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам… С. 318.

*«…дайшлі дадзеныя, як Сяднёў стараўся ўцягнуць у лік супрацоўнікаў нашай сэкцыі зарубежнікаў: Касяка, Галяка, Кавыля й інш., якіх намаўляў да згоды Лапіцкі. На шчасьце, Касяк і Галяк адмовіліся, а іншым не хапала кваліфікацыяў. Мы прышлі да выснаву, што гэтыя факты ёсьць доказам, што Гэрус з Сяднёвым стараюцца адапхнуць ад супрацоўніцтва з А.К. Раду БНР, а на яе месца ўцягнуць групу зарубежнікаў, якая заўсёды была супраць супрацоўніцтва з А.К. ды абвінавачвала ў непрадрашэнстве тых, што з ім супрацоўнічалі. Тое-ж, што Касяк і Галяк адкінулі запросіны Геруса да супрацоўніцтва, паставіла яго яшчэ ў горшую сытуацыю, бо ён ведаў, што яны варожыя да А.К. і супрацоўніцтва з ім, і ўсё-ж зьвярнуўся, чым скампраметаваў і сябе, і А.К., ад імя якога да іх зьвяртаўся. Гэтыя аргумэнты куды важнейшыя, чымся недацягненьні з лістом Нікшы і таму мы былі адназгодны, што пры маёй гутарцы з Сарджантам трэба біць перадусім на гэтыя аргумэнты. Я так і зрабіў, калі быў у С-та два дні пазьней. Прыняў ён мяне в. добра, гаварылі паўгадзіны, галоўным чынам пра Гэруса й ягонай дзейнасьці з націскам на апошнія факты. С-т, зразумела, нічога канкрэтнага ў справе Гэруса не абяцаў, але заявіў, што супрацоўніцтва з радай БНР было вельмі пазытыўным, ён перакананы, што яно будзе пазытыўным і на далей і што ўсякія перашкоды да гэтага супрацоўніцтва будуць усунены…»*[165]

Нягледзячы на ўсе тыя наяўныя складанасці ў працы рэдакцыі, цэнзуру і ціск амерыканскага кіраўніцтва, дзейнасць беларускага радыё была сама па сабе з'явай пазітыўнай і значнай. Акрамя важнасці вольнага голасу суайчынніка з-за мяжы, беларускае радыё з'яўлялася прапагандай беларушчыны, рэпрэзентантам Беларусі для замежных палітыкаў. Больш за тое, выкарыстоўваючы супрацу з Амерыканскім камітэтам, супрацоўнікі радыё рабілі з яго дапамогай шмат іншых карысных для грамады спраў. Янка Запруднік пісаў: *«…пры Камітэце ў Нью-Ёрку робіцца куды больш, чымся беларускія радыёвыя праграмы. Мы выкарыстоўваем тут — неафіцыйна — і час, і некаторыя матар'яльныя магчымасьці дзеля шырэйшае беларускае працы — выдаваньня газэты «Беларус», друкаваньня розных матар'ялаў і камунікатаў, інстытуцкага* [БІНіМа] *«Абежніка», рэзалюцыяў, пашырэньня інфармацыі пра Беларусь у палітычных колах ЗША, нават рассыланьня магнітафонных істужак на розныя сьвяткаваньні і ўрачыстасьці па беларускіх асяродках»*[166]. Гэта яшчэ раз сведчыць пра тое, наколькі карыснаю аказалася для беларусаў супраца з Амерыканскім камітэтам.

Такім чынам, нават абмежаваная ў магчымасцях, падпарадкаваная амерыканскай цэнзуры, беларуская рэдакцыя радыё «Вызваленне / Свабода» была і своеасаблівым дасягненнем беларусаў на эміграцыі, і добрай магчымасцю для рэалізацыі некаторых іншых грамадска значных спраў. Яна давала

[165] Ліст В. Жук-Грышкевіча да М. Абрамчыка ад 14.05.1969. Захоўваецца ў архіве Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

[166] Ліст Я. Запрудніка да М. Абрамчыка ад 07.04.1967 // Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам… С. 322.

магчымасці занятасці беларускім інтэлектуалам, дазваляла папулярызаваць беларускую культуру, а таксама, больш ці менш эфектыўна, намагалася стварыць на Бацькаўшчыне глебу для сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў.

## Беларусы ў Інстытуце вывучэння гісторыі і культуры СССР

Пры фінансавай падтрымцы Амерыканскага камітэта, які ад 1953 г. падкарэктаваў назву і цяпер называўся Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму, дзейнічала яшчэ адна значная ўстанова — Інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР у Мюнхене.

Дзейнасць гэтай установы на сёння даследаваная мала. Ёсць асобныя артыкулы, пераважна расійскіх аўтараў (А. Папова, Д. Канстанцінава[167]), ды абароненая ў 1990 г. у Пітсбургскім універсітэце дысертацыя амерыканскага даследчыка Чарлза О'Конэла «Мюнхенскі інстытут вывучэння СССР. Паходжанне і сацыяльны склад»[168], прысвечаная, праўда, выключна часу стварэння гэтай установы. Пры гэтым варта адзначыць прынцыповую розніцу ў поглядах на паўстанне цэнтра з боку расійскіх і амерыканскага аўтараў. Першыя даводзілі, што Інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР быў арганізаваны выключна з ініцыятывы расійскіх навукоўцаў, а амерыканскія спонсары, што з'явіліся пазней, з часам падпарадкавалі сабе дзейсную ўстанову ды ўрэшце вырашылі яе лёс. Амерыканскі ж даследчык, выкарыстоўваючы сярод іншага і архівы *CIA* (*Central Inteligence Agency*), якая мела непасрэднае дачыненне да дзейнасці Амерыканскага камітэта, даводзіць, што стварэнне інстытута ініцыявалі самі амерыканцы, найперш, каб падтрымаць праект Цэнтра расійскіх даследаванняў Гарвардскага ўніверсітэта дзеля збірання сведчанняў уцекачоў з СССР[169].

Інстытут быў заснаваны 8 ліпеня 1950 г. Адзін з яго стваральнікаў Абдурахман Аўтарханаў (у той час Кунта, 1908–1997), наступным чынам апісваў ажыццяўленне гэтай ініцыятывы:

*«Калі да мяне ў Рэгенсбург прыехаў з Мюнхену Барыс Аляксандравіч Якаўлеў (Троіцкі), тагачасны кіраўнік Власаўскай арганізацыі, з прапановай стварыць супольна эміграцыйны Інстытут вывучэння СССР, я адразу даў згоду быць адным з яго заснавальнікаў.*

*Устаноўчы сход адбыўся ў 1950 г. у Богенгаўзэне ў расійскай бібліятэцы. Нас было некалькі былых савецкіх навуковых працаўнікоў — Якаўлеў, праф.*

---

[167] Попов, А. Мюнхенский институт по изучению истории и культуры СССР и вторая волна эмиграции // Новый исторический вестник. № 1 (10). Москва, 2004. С. 54–70; Константинов, Д. Мюнхенский институт (Из истории второй российской политической эмиграции) // Константинов, Д. Через туннель ХХ-го столетия. / Под ред. А. В. Попова, В. С. Карпова. Москва, 1997. С. 537–559.

[168] O'Connel, Charles T. The Munich Institute for the Study of the USSR. Pitsburg, 1990. — 46 p.

[169] O'Connel, Charles T. The Munich Institute for the Study of the USSR… P. 3–10.

*К. Штэпа, праф. А. Філіпаў, праф. К. Крыптан, праф. Німан, палкоўнік Генеральнага штабу Савецкай арміі Няранін і аўтар гэтых радкоў. Мы ўзнёсла абвясцілі сябе «Інстытутам вывучэння гісторыі і культуры СССР». Абралі дырэктарам Б. А. Якаўлева, намеснікам дырэктара А. Аўтарханава і вучоным сакратаром В. Марчанка. Пазней да нас далучыліся праф. Мілер, праф. Каванкоўскі, праф. Буданаў, праф. Іваноў, праф. Даўлетшын, доктар Шульц. Зразумела, не было ў нас ні памяшкання для Інстытуту, ні капейкі грошай, ні высокага апекуна ці багатага мецэната. Было толькі невымернае і шчырае жаданне распавесці Захаду пра тэорыю і практыку савецкай сістэмы, якую Захад дасюль ведаў толькі паводле савецкіх кніг, часопісаў ды газетаў. Была ў нас і непрыхаваная надзея, што калі мы ўласнымі намаганнямі пачнем рабіць нешта карыснае і патрэбнае для разумення савецкага мінулага і сучаснасьці, то з'явіцца і мецэнат. Сапраўды, так сталася, што стварэнне Інстытуту супала з прыездам у Мюнхен гэтак званай «Гарвардскай экспедыцыі» ў справе вывучэння савецкага грамадства. «Экспедыцыя» прапанавала Інстытуту супрацу, і мы яе з энтузіязмам прынялі»*[170].

Такім чынам, інстытут ствараўся як карпарацыя навукоўцаў, што займаліся вывучэннем СССР. Асноўнымі кірункамі працы Рады (ці дырэкцыі) былі арганізацыя канферэнцыяў, выдавецкая дзейнасць, стварэнне бібліятэкі і архіву, усталяванне навуковых сувязяў. У кіраўніцтва ўваходзілі пераважна рускія (за выключэннем чэчэнца Аўтарханава і ўкраінца Штэпы)[171], большай часткай удзельнікі нацыянальных расійскіх арганізацыяў на эміграцыі. З гэтага зразумела, чаму з 1951 г. фінансавую падтрымку інстытут пачаў атрымліваць ад Амерыканскага камітэта вызвалення народаў Расіі.

Установа знайшла сабе асобнае памяшканне на *Augustenstrasse 46*, паступова павялічваўся штат працаўнікоў. Ад 1951 г. ладзіліся навуковыя канферэнцыі, што збіралі сотні даследнікаў, наладзілася выданне «Вестника института». Да 1953 г. кола карэспандэнтаў дасягнула тысячы асобаў з 48 краінаў свету[172]. І тым не менш, гэтая ўстанова заставалася менавіта расійскай паводле свайго зместу. А гэта было не надта даспадобы нерасійскім эміграцыйным арганізацыям народаў СССР, што намагаліся наладзіць супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам. Сярод зацікаўленых была і Рада БНР. Паводле дамовы з Камітэтам менавіта Рада займалася падборам супрацоўнікаў беларускай секцыі інстытута.

---

[170] Авторханов, А. Мемуары. Frankfurt/Main, 1983. Цытата паводле электроннага выдання, змешчанага на сайце http://www.moreandr.narod.ru/.

[171] Варта ўзгадаць, што некалькі сябраў дырэкцыі папярэдне мелі некаторае дачыненне да Беларусі. Гэтак, Барыс Якаўлеў у часы вайны быў у лагеры ваеннапалонных на тэрыторыі Беларусі, адкуль трапіў у Віцебск, дзе ўваходзіў у рэдкалегію акупацыйнага перыёдыка «За Родину». Іншы з дырэктараў — былы савецкі вайсковы дзеяч Андрэй Няранін (ён жа Міхал Алдан) — у 1930-х служыў у Мазырскім умацаваным раёне.

[172] Попов, А. Мюнхенский институт по изучению истории и культуры СССР и вторая волна эмиграции…

Мікола Абрамчык у кантактах з кіраўніцтвам Амерыканскага камітэта падымаў пытанне пашырэння нацыянальнага прадстаўніцтва ў інстытуце, і ў прыватнасці беларускага. Пра гэта ж багата пісала і газета «Бацькаўшчына». Сваю ролю ў гуртаванні беларускіх навуковых кадраў адыграў таксама створаны пры падтрымцы Рады БНР Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Ён наладжваў супрацоўніцтва з Мюнхенскім інстытутам у беларускіх справах менавіта як навуковая ўстанова.

Першыя прыкметы зацікаўлення былі выказаныя яшчэ ў сакавіку—красавіку 1953 г. Сябра дырэкцыі БІНіМа Вітаўт Тумаш у лістах да Станіслава Станкевіча, які ў той час жыў у Мюнхене і выдаваў газету «Бацькаўшчына», пісаў:

*«17 сакавіка 1953 г.*

*Дарагі Стась!*

*Паколькі мне ведама, Амэрыканскі камітэт мае створаны ў Мюнхэне «Інстітют фюр Эрфоршунг дэр Гешыхтэ унд Культур дэр УССР», кіраўніком якога ёсьць расеец праф. Яковлев (адрыс: Аугустінстр. 46–1). Інстытут гэты дагэтуль быў чыста расейскаю арганізацыяю, у ягоных публікацыях друкаваліся працы амаль вылучна расейскія ды расейцаў. Цяпер Амэрыканскі камітэт мае быццам намер яго прынамся фармальна «дэрусіфікаваць» дарогаю пастаўленьня на чале яго на месца расейца аднаго прафэсара Вашынгтонскага Ўнівэрсытэту, амэрыканца (прозьвішча забыўся). Гэты прафэсар мае гэтымі днямі ехаць у Мюнхэн ды правясьці рэарганізацыю Інстытуту ў такім кірунку, каб ён быў даступны й для ўсіх іншых нацыянальнасьцяў СССР. У сувязі з гэтым Амэрыканскі камітэт прасіў падаць нас адрысы сяброў Інстытуту ў Мюнхэне, зь якімі гэты прафэсар мог бы ў патрэбе скамунікавацца. Безумоўна, мы падалі ў першую чаргу твой адрыс (побач двох другіх сяброў — Тваёй жонкі*[173] *ды С. Кабыша). Зь сяброў Інстытуту ў Нямеччыне яшчэ, як табе ведама, дац. Карповіч*[174] *(адрыс хіба маеш) ды ў перапісцы (карэспандэнт-супрацоўнік) мастак Чайкоўскі*[175]*.*

*Паведамляючы аб гэтым, адначасна ад Управы Інстытуту перадаю просьбу, каб у выпадку зьвярнуліся ад Інстытуту Амэрыканскага да Цябе ў справах навуковых належна рэпрэзэнтаваў і БІНіМ і ў першую чаргу нашых сяброў у Нямеччыне. Безумоўна, што да Тваёй дэцызіі застаецца справа, ці супрацоўнічаць ці не ад імені Інстытуту з Інстытутам СССР адкрыта пасьля яго пераарганізацыі (бо цяпер справа выключаная). На месцы лепш Табе будзе ў гэтых справах арыентавацца. У важнейшых справах, безумоўна, лепш паведаміць аб усім Управу Інстытуту. Асабліва важна было б дагледзець і выясьніць справу магчымасьці друку ў выданьнях гэтага Інстытуту працаў нашых сяброў. Напр., ці не маглі б яны надрукаваць «Культурныя страты Беларусі» — больш 560 імёнаў зьнішчаных бальшавікамі*

[173] Маецца на ўвазе таксама сябра БІНіМа Зіна Станкевіч.

[174] Маецца на ўвазе кампазітар Алесь Карповіч (1908–1992).

[175] Маецца на ўвазе Зміцер Чайкоўскі (1912–2002).

*з кароткімі біяграфічнымі ды бібліяграфічнымі дапіскамі (4–5 аркушаў друку). Знайшліся б і іншыя працы. Усё, зразумела, залежыць ад таго, ці наагул зь імі можна будзе супрацоўнічаць.*

*Адну рэч мог бы зрабіць не чакаючы рэарганізацыі: ЗАПІСЫ для Інстытуту СССР у Мюнхэн высланы пару месяцаў таму, але на замен яны да гэтай пары яшчэ нічога ня выслалі з сваіх выданьняў. Ці ня мог бы зрабіць тэлефанічную інтэрвэнцыю ў гэтай да іх справе?*

*Разам шлю тэкст клепсыдры па М. Равенскім. Калі лічыш магчыма памясьціць у «Бацькаўшчыне» — падай.*

*Прывітаньні,*

*Твой В. Тумаш».*

Відавочна, Станіслаў Станкевіч зацікавіўся атрыманай інфармацыяй, аднак, напэўна, яшчэ не маючы кантактаў з прадстаўніком Амерыканскага камітэта, вырашыў больш дэталёва высветліць справу магчымых дачыненняў БІНіМа і Мюнхенскага інстытута.

*«12 траўня 1953 г.*

*Дарагі Стась!*

*Справы зь Мюнхэнскім інстытутам СССР у нас такія: 4 месяцы таму Амэрыканскі камітэт зьвяртаўся да Інстытуту* [БІНіМ], *каб прыняць афіцыяльны ўдзел у навуковай канфэрэнцыі, якую ад імені гэтага Інстытуту арганізавалі ў Нью Ёрку. Паколькі Камітэт тады насіў яшчэ назоў «народаў Расеі», ды меў такога «гадунца», як КАЦАБ*[176]*, ды выразна вёў прарасейскую палітыку, дык мы адмовіліся ад гэтага, як адмовіліся й украінская Вольная Акадэмія ды Навуковае Т-ва Шэўчэнкі. Гэтым хацелі рабіць і націск, каб Камітэт быў мякчэйшы пры перамовах палітычных. Таму ніхто з украінцаў на канфэрэнцыю не пайшоў, а з нашых выламаліся з-пад агульнаграмадзкай дысцыпліны толькі Адамовіч ды Сядура ды пайшлі туды пільнаваць свайго «хлеба куса» — баяліся, што могуць згубіць стыпэндыі. Украінскія і стыпэндыяты не пайшлі, і нічога ім ня сталася, як не пайшоў і наш Акіншэвіч. Дык малайцы «танчылі на двох лапках» за «пайку з маслам» безь ніякой нават і асабістай неабходнасьці. За гэта ты іх і выслаўляеш цяпер у «Бацькаўшчыне».*

*Нягледзячы на такую «ўводную ўвэрцюру», калі Амэрыканскі камітэт лічыў змушаным мяняць кіраўніка свайго Інстытуту з расейца Яковлева на амэрыканца Баліса*[177] *(ягоны адрыс цяпер у Мюнхэне: 46 Аўгустэнстр.), дык папрасіў даць нам адрыс свайго прадстаўніка нашага Аддзелу ў Нямеччыне. Тады я й напісаў Табе ліст з просьбаю рэпрэзэнтаваць там нас і наш аддзел. Ці замену старшынаў ужо правялі афіцыяльна ці не — мне няведама, але Вільямс з Камітэту пару месяцаў таму мне казаў, што такую зьмену яны*

---

[176] Маецца на ўвазе КЦАБ.

[177] У іншым месцы Тумаш называе прозвішча Бэйліс.

зробяць, каб даць дарогу туды іншым нацыянальнасьцям ды каб ставячы на чало амэрыканца, адсунуць гэтым рывалізацыю за кіраўніцтва.

Твая думка правільная, што, не чакаючы на іхныя «запросіны», трэба самім туды стукаць ды дамагацца свайго. Гэтымі днямі з боку Амэрыканскага камітэту быў і намёк на тое, што празь Мюнхэн зусім магчыма можна будзе атрымліваць і некаторую дапамогу на навуковую працу й нам, ды што ў гэтай справе трэба гаварыць з праф. Балісам. Дык, па-мойму, Ты зусім маеш магчымасьці цяпер даказаць тут свой дыпляматычны спрыт ды нешта ад іх раздабыць на выдавецкія справы. Хаця пытаньне, ці яны будуць гатовыя даваць на старану, хутчэй запрапануюць друкавацца ў сваіх выдавецтвах. Нам, па-мойму, трэба дамагацца й аднаго, і другога: і месца ў іхных выдавецтвах і дапамогі на нашую навуковую працу, на Інстытут. Калі б такая дапамога была, можна было б у Мюнхэне разгарнуць і выдавецкую працу Інстытуту (БІНіМ).

Тут перамовы фронту «нацыяналаў» тым часам знайшлі завяршэньне ў афіцыяльным адказе адм. Стівэнса, у якім ён прапануе ў гэтых справах гаварыць з КаЦАБам! Але, выглядае, гэта болей для захаваньня «віду», бо назаўтра ж яны самі неафіцыяльна паведамілі, што Камітэт наладзіць сам перагаворы (значыцца КаЦАБ ня будзе гаспадаром), ды каб у Эўропе чакалі на такую канфэрэнцыю.

З гэтага выглядае, што перабудоўваць свой КаЦАБ усё ж думаюць, і гэта неблагі знак і для справы, якую ты маеш падымаць з Інстытутам СССР. Можаш афіцыяльна выступаць як прадстаўнік нашага Інстытуту, але пільнуйся, каб Цябе ня ўпуталі ў нейкую палітычную справу, за якую мусіў бы тады адказваць Інстытут. [...]

«17 траўня 1953 г.

Дарагі Стась!

Учора мы мелі паседжаньне ўправы Інстытуту, і на ім была абмеркаваная, між іншым, справа нашых адносінаў да Мюнхэнскага Інстытуту СССР. Мне даручана паведаміць аб прынятай лініі паступаньня Цябе, каб Ты мог адпаведна на месцы ў патрэбе дзеіць.

Агульна беручы, справа з гэтым Інстытутам стаіць сяньня так:

Адгэтуль высланы ўжо 6 тыдняў таму праф. Бэйліс (з стэйту Вашынгтон над Ціхім Акіянам, а не з сталіцы Вашынгтону) з мэтаю быццам абняць кіраўніцтва Інстытуту па праф. Яковлеве ды яго рэарганізаваць у кірунку ўцягненьня туды й прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, ня толькі расейцаў (нават у кіраўніцтва). Ці гэтую рэарганізацыю ён ужо распачаў, ці яшчэ не, нам няведама. У сувязі з тым, што Амэрыканскі камітэт выкінуў з свайго назову абразьлівы для нас зварот «расейскіх народаў» і галоўна ў сувязі з тым, што цяпер не бяз згоды й некаторай нават дапамогі гэтага камітэту мантуецца фронт «нацыяналаў», сяньня няма ўжо паважнейшых прынцыповых перашкодаў у браньні ўдзелу ў працы Інстытуту СССР і нам,

*пад умоваю, ясна, правядзеньня ягонай рэарганізацыі ў духу раўнапраўнасьці ў ім усіх народаў зацікаўленых і пашаны іхных памкненьняў да волі.*

*Дык цяпер хіба час не чакаць на «запросіны», але дабівацца й самым перааргнізацыі, зьменаў, помачы ў нашай навуковай працы ды дбаньня пра тое, каб беларуская дзялянка гэтай працы была належна дагледжаная ды ў меру магчымасьці пад нашаю калі не кантролю, дык прынамсі пад нашым уплывам.*

*У гэтай справе ўжо некаторыя перамовы рабіліся нашым Інстытутам з Амэрыканскім камітэтам, аб якіх тут і перадаю інфармацыю для толькі Тваіх, строга тайных, патрэбаў. З боку Інстытуту была выражаная просьба матар'яльнай дапамогі на ЗАПІСЫ ды на выданьне літаратурнага часапісу, паколькі аснаўная ідэалягічная лінія гэтых выданьняў ляжыць у плошчы антыбальшавіцкага змаганьня — мэты, для якой існуе і Амэрыканскі камітэт. З боку Камітэту была выказаная прынцыповая на гэта згода пад двума ўмовамі: падтрымаць працу Інстытуту СССР у Мюнхэне, магчыма нават, увайсьці каму-небудзь з нашых Мюнхэнскіх сяброў у кіраўніцтва гэтага Інстытуту ў патрэбе, і, другое: магчымая помач можа быць толькі ў Эўропе, а не ў ЗГА (гэта статутовае правіла Амэрыканскага камітэту).*

*Гаварылася й канкрэтна з нашай стараны аб разьмерах канкрэтнай помачы. На пачатках мы прасілі субсыдыяваць 4 нумары ЗАПІСАЎ і 2 нумары літаратурнага часапісу (па 6 аркушаў друку), на то трэба мець суму крыху больш 3 тысячаў даляраў. Усе матар'ялы ў сувязі з гэтымі перамовамі ці не пасланыя ўжо праф. Бэйлісу ў Мюнхэн.*

*З гэтай сытуацыі й выплывае лягічна для нас спосаб тактычнага паступаньня: для Амэрыканскага камітэту патрэбнае нашае супрацоўніцтва, для нас іхная матар'яльная помач ды па магчымасьці ўплыў на працу Інстытуту СССР у беларускай дзялянцы. Таму з нашага боку й трэба ставіць як умоўную кампэнсату за супрацоўніцтва: дапамога на навуковыя ЗАПІСЫ ды на літаратурны часапіс. У далейшым таксама дапамога на паасобныя выданьні. Твая думка, каб празь іх выдаць аповесьць, ня ведаю, ці пройдзе, паколькі Інстытут, здаецца, пакуль што займаецца толькі канкрэтна навуковаю працаю, а не выдаваньнем літаратурных тэкстаў. Ды дзеля нашай жа карысьці ня трэба спачатку ціснуць на паасобныя кніжкі, а на дапамогу галоўнаму: ЗАПІСЫ ды літаратурны часапіс. Здабыўшы гэта, дамагацца далейшага: паасобныя кніжкі-працы ці нават і літаратурныя творы (хоць гэтым хіба будзе займацца нехта іншы). Як «плату» за гэта, апрача магчымага дзейнага ўчасьця з працы Інстытуту СССР, можам даваць і матар'ялы ў іхны «Вестнік» ці паасобныя працы для асобнага выданьня (пасьля адыходу Яковлева, аднак, ды перааргнізацыі Інстытуту на прынцыпах роўнага трактаваньня пытаньняў кажнага народу). Ясна, што вельмі было б важна мець уплыў на справы Інстытуту. Хоць у патрэбе нашыя працы могуць друкавацца й па-расейску (як цяпер друкуецца вестнік), але, па-мойму, нам трэба націскаць на тое, каб па магчымасьці ў публікацыях Інстытуту СССР карысталіся болей моваю ангельскаю, паколькі яе*

*куды больш знае ўвесь заходні сьвет, і працы тады мелі б куды большае значэньне й пашырэньне (чаго не заўсёды хочуць расейцы). З другой стараны, нашага прадстаўніка справаю было б дагледзець, каб у публікацыях інстытуту больш тарнавалася ў чужых мовах тэрміналёгія «Уайтрутэнія» чым русыфікацыйная «Белорашэ». Чаму — мой погляд на гэта знаеш з дасланага ў папярэднім лісьце артыкулу. Вось прыклад пару справаў, якія для нас важныя ды якіх трэба было б пільнаваць у Інстытуце СССР, побач агульнай абароны ды рэпрэзэнтацыі нашых навуковых патрэбаў.*

*Інстытут СССР мае апірацца перадусім на сілы Эўропы, дзеля гэтага тут падаю інфармацыю Табе, якімі навуковымі ці інтэлектуальнымі кадрамі распараджаецца цяпер Інстытут у Эўропе. Гэтымі тыднямі мы закладаем у Эўропе тры лякальныя аддзелы Інстытуту: у Нямеччыне, у Бэльгіі і ў Францыі. На кіраўніка нямецкага аддзелу просім згадзіцца быць Табе. Сябры Табе ведамыя: апрача Тваёй сям'і, Кандыбовіч, Карповіч, Чайкоўскі (як мастак). Гэтымі днямі запішацца хіба Вініцкі ды мог бы запісацца ў літаратурную сэкцыю хіба і Сыч. Хоць колькасьць немалая, але, сам знаеш, практычна сіла гэта не такая вялікая. Апрача Цябе й Карповіча, мне сяньня няясна, ці шмат могуць навуковага зрабіць іншыя. Аднак для рэпрэзэнтацыі ў патрэбе, гэтага зусім дастаткова. Бэльгійскі аддзел мае «ачоліць», здаецца, айцец Робэрт[178] (хоць гэта яшчэ канчаткова не дагаворана). Там афіцыйна сябрамі бэльгійскага аддзелу Інстытуту ёсьць ужо а. Смаршчок, др. Рагуля й др. Набагез. Зусім магчыма хутка туды пераедзе ад Вас Карповіч. У Францыі хіба кіраўніком аддзелу будзе а. Леў, сябры там мастак Наўмовіч, інж. Абрамчык, інж. Рыдлеўскі (здаецца, цяпер выехаў у Англію) ды кс. Чарняўскі. Сілы, як бачыш, даволі вялікія колькасна, але слабыя якасна. Але трэба гаспадарыць тым матар'ялам, які нам гісторыя дала ды выцягнуць максымум зь яго магчымага. Дык у патрэбе можаш казырыць гэтымі аддзеламі ды іхнымі аўтарытэтамі. Апрача гэтага, існуюць паадзіночныя сябры ў Англіі, Італіі. Аддзелы Інстытуту па-за Эўропаю арганізуюцца ў Канадзе ды Аўстраліі.*

*З працаў для эвэнтуальнага друку (аб СССР) апрача «Ахвяраў» Панькова, якая цяпер разраслася на болей як дзесяць аркушоў друку, існуе агляд прамысловасьці БССР. Але гэта ўсё не зусім дакончаныя рэчы. Няма часу за працаю, і таму нейкі аванс на іх заканчэньне таксама ня шкодзіў бы, тады праца пайшла б куды жывей.*

*З гэтага хіба будзеш добра зар'ентаваны, у чым справа, аб што ходзіць, ды будзеш ведаць, як у патрэбе паступіць. У выпадку патрэбы можаш выступаць як кіраўнік Аддзелу БІНіМ у Нямеччыне й рэпрэзэнтант Нью-ёркскай Цэнтралі на Эўропу. Аднак пільнуйся, каб Цябе ня ўпуталі ў нейкія КЦАБы, ды наагул у важнейшых справах лепш, каб перш узгодніваў з Управаю Інстытуту. Ліманоўскі гэтымі днямі мае выслаць Табе ў гэтых*

[178] Маецца на ўвазе а. Роберт ван Кавэлярт дэ Уілс (Бельгія).

*справах афіцыяльны ліст па-ангельску да праф. Бэйліса, каб зь ім мог зручней зладзіць яму візыту ды справу выясьніць...»*[179]

Такім чынам, БІНіМ выказаў выразную зацікаўленасць у супрацы з рэфармаваным Мюнхенскім інстытутам. Аднак гісторыя пайшла, пэўна, не зусім так, як хацелася б Вітаўту Тумашу. Рэарганізацыя Інстытута вывучэння гісторыі і культуры СССР заняла болей за год. Толькі 13 ліпеня 1954 г. у Мюнхене адбылася генеральная асамблея сябраў Інстытута, прыняты новы Статут і новы склад Навуковай Рады, дзе сярод сямі чалавек быў і адзін беларус — Станіслаў Станкевіч. Рэарганізацыя інстытута адбывалася за кошт увядзення новых «нярускіх» супрацоўнікаў. У выніку колькасць «нацыяналаў» у праектах інстытута істотна павялічылася.

Інстытут даваў магчымасці эміграцыйным інтэлектуалам зарабляць пэўныя грошы на навуковых праектах. Газета «Бацькаўшчына» ў 1954 г. паведамляла: *«Важнай галінай дзейнасьці Інстытуту з'яўляецца выдаваньне стыпэндыяў на навуковыя працы на савецкія й падсавецкія тэмы. Мы ўжо адзначалі той непажаданы факт, што раней параўнальна мала Беларусаў старалася атрымаць гэтыя стыпэндыі і тым самым пасьвяціцца навуковай дзейнасьці. Гэтак на 64 стыпэндыі, што былі прызнаныя яшчэ перад успомненай асамблеяй, было толькі пяць беларускіх кандыдатаў і ўсе яны былі Інстытутам закваліфікаваныя на стыпэндыі, а толькі адзін зь іх потым ня быў зацьверджаны амэрыканскім дараднікам інстытуту. У вапошні мамэнт зьявілася вялікая колькасьць новых кандыдатаў на стыпэндыі, пераважна зь нерасейскіх асяродзьдзяў, у тым ліку й некалькі Беларусаў. Як даведваемся, тром Беларусам зь іх стыпэндыі ўжо прызначаныя, а заявы іншых кандыдатаў яшчэ чакаюць на разгляд Стыпэндыяльнай Калегіі Навуковай Рады. Для арыентацыі, падаём пры гэтай нагодзе аб вышыні стыпэндыяў: для ЗША і Канады — 200 амэр. даляраў у месяц, для іншых краінаў Амэрыкі і Аўстраліі — 150 дал., для Эўропы, Азіі й Афрыкі — 100 амэрыканскіх даляраў. Першы раз стыпэндыі выдаюцца толькі на тры месяцы. Але калі стыпэндысты за гэты час добра вывяжыцца з узятага на сябе заданьня, дык у далейшым стыпэндыя можа быць яму прызнаная на даўжэйшы пэрыяд часу, але не даўжэй як на адзін год»*[180].

Акрамя атрымання стыпендыі, былі і іншыя магчымасці зарабляць інтэлектуальнай працай. Так, істотна пашыралася выдавецкая дзейнасць інстытута, планавалася выданне перыёдыкаў на нацыянальных мовах, а таксама навуковых манаграфіяў. Паведамлялася: *«...для беларускіх навукоўцаў адкрываюцца шырокія магчымасьці друкаваньня іхных навуковых працаў, і гэта тым болей, што за надрукаваныя працы выплачваецца ганарар у*

---

[179] Лісты В. Тумаша да С. Станкевіча захоўваюцца ў архіве БІНіМа.

[180] Р. С. У Інстытуце для Вывучэньня СССР // Бацькаўшчына. № 35 (217). 26.09.1954.

*разьмеры 200 ням. марак за друкаваны аркуш, а для пражываючых у Амэрыцы — 300 марак»*[181].

Як бачым, са зменаю статута пашырылася і фінансаванне дзейнасці Інстытута з боку Амерыканскага камітэта. У 1956 г. Інстытут перайшоў у новае, большае, памяшканне на *Mannhardstrasse 6*[182]. Адначасова павялічыўся і кантроль. Усё большую ролю адыгрывалі амерыканскія дарадцы інстытута. Праўда, афіцыйнае кіраўніцтва засталося расійскім. Барыс Якаўлеў ачольваў установу да Шостай канферэнцыі, што адбылася ў 1955 г. На пасадзе кіраўніка, якая цяпер была хутчэй прадстаўнічай, яго замяніў В. Мярцалаў, а праз два гады Г. Шульц, які і працаваў да спынення дзейнасці інстытута[183]. Аднак гэтыя людзі ўжо мала што вырашалі самастойна.

Беларусы, як і прадстаўнікі іншых «нацыяналаў», ад рэарганізацыі інстытута толькі выйгралі. Ужо да канца 1954 г. пры актыўным спрыянні Міколы Абрамчыка і Антона Адамовіча быў створаны Беларускі аддзел, які заняўся падрыхтоўкай уласных навуковых выданняў. Узначаліў яго той самы кіраўнік аддзела БІНіМа ў Нямеччыне радны БНР Станіслаў Станкевіч. Сталымі работнікамі Беларускага аддзела былі выпускнікі Лювенскага ўніверсітэта Аляксандр Марговіч і Павал Урбан ды Сымон Кабыш-Кандыбовіч. Пазаштатна супрацоўнічалі з Мюнхенскім інстытутам, друкаваліся ў ягоных беларускіх выданнях Антон Адамовіч, Мікола Куліковіч, Вацлаў Пануцэвіч, а. Леў Гарошка, Янка Станкевіч, Алесь Карповіч, Уладзімер Глыбінны, Гіпаліт Паланевіч, Ізідар Гуткоўскі, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель і іншыя беларусы[184]. Амаль што ўсе яны былі адначасова і сябрамі БІНіМа, а большасць яшчэ і раднымі БНР.

Пад шыльдай Мюнхенскага інстытута пачалі выходзіць два навуковыя перыёдыкі: англамоўны *Belorussian Review* ды пераважна беларускамоўны «Беларускі зборнік». У апошнім даволі часта публікаваліся беларускамоўныя варыянты англамоўных публікацый з першага. Аднак нельга сцвярджаць, што гэта былі цалкам ідэнтычныя паводле зместу выданні[185].

Акрамя таго, пад шыльдаю інстытута выходзілі і паасобныя выданні. Ці не першым з іх было даследаванне Антона Адамовіча (падпісанае псеўданімам Н. Недасек), прысвечанае ўсталяванню бальшавіцкай улады ў Беларусі,

---

[181] Р. С. У Інстытуце для Вывучэньня СССР…

[182] Дзесяцігодзьдзе Інстытуту Вывучэньня СССР // Беларускі зборнік. № 12. Мюнхэн, 1960. С. 5–8.

[183] Константинов, Д. Мюнхенский институт. (Из истории второй российской политической эмиграции)… С. 546–547.

[184] Паводле сведчання Я. Запрудніка ў лісце да Н. Гардзіенкі ад 25.07.2011. Захоўваецца ў архіве Н. Гардзіенкі.

[185] Падрабязней пра змест перыёдыкаў гл.: Бібліяграфія беларускіх пэрыёдыкаў Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 439–455.

што пабачыла свет ужо ў 1954 г.[186] Потым былі выдадзеныя іншыя працы Антона Адамовіча, у тым ліку такія ведамыя, як «Супраціў саветызацыі»[187], а таксама Вацлава Пануцэвіча, Міколы Куліковіча, Уладзіміра Сядуры-Глыбіннага, Янкі Станкевіча, Гіпаліта Паланевіча, Паўлы Урбана і іншых беларускіх навукоўцаў[188].

Даследаванні, складанне беларускіх бібліяграфій, клопат пра выданні, побач з удзелам у канферэнцыях, былі асноўнымі кірункамі працы Беларускага аддзела Мюнхенскага інстытута[189]. Можна сцвярджаць, што 1955–1960 гг., калі выходзілі згаданыя беларускія перыёдыкі інстытута ды багата выдавалася беларускіх даследаванняў паасобнымі выданнямі, былі значнымі і плённымі для беларускай навукі на эміграцыі. Так, цягам колькіх гадоў на пачатку 1960-х старшынёй генеральнай асамблеі тут быў Антон Адамовіч[190]. Але ад пачатку 1960-х праца Беларускага аддзела Інстытута вывучэння гісторыі і культуры СССР пайшла на спад. Немалую ролю тут адыграў фактар змены вонкавапалітычнай дактрыны ЗША, пэўнага скарачэння фінансавання інстытута. У 1963 г. выехаў у ЗША старшыня аддзела Станіслаў Станкевіч. У гэты час ягоны калега з інстытута Сымон Кабыш-Кандыбовіч меў 72 гады. У 1967 г. пасля цяжкай хваробы памёр Алесь Марговіч. У 1960-х адышлі ці перабраліся ў ЗША розныя беларусы, што супрацоўнічалі з установаю. Беларускі аддзел фактычна спыніў існаванне. З яго супрацоўнікаў да канца дзейнасці Інстытута заставаўся толькі Паўла Урбан. Аднак і ён ужо працаваў у іншай структуры — у Біяграфічным аддзеле.

Пасля росквіту дзейнасці Мюнхенскага інстытута другой паловы 1950-х прыйшла пэўная стагнацыя 1960-х. А ў 1972 г. паводле пагаднення амерыканскага ўраду з СССР установа ўвогуле спыніла сваё існаванне. Паўла Урбан пайшоў працаваць у Беларускую рэдакцыю радыё «Свабода».

Падсумоўваючы, можна адзначыць, што Беларускі аддзел установы, які дзейнічаў каля 1954–1962 гг., паспеў выдаць 8 нумароў *Belorussian Review* і 12 нумароў «Беларускага зборніка», а таксама дзясяткі манаграфічных даследаванняў, прысвечаных гісторыі і культуры БССР. Супрацоўнікі аддзела бралі ўдзел у распрацоўцы і агульнаінстытуцкіх, найперш бібліяграфічных, выданняў, выступалі на шматлікіх ладжаных інстытутам канферэнцыях.

---

[186] Недасек, Н. Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией. Очерки истории большевизма в Белоруссии. Мюнхен,1954. — 68 с.

[187] Adamovich, A. Opposition to the Sovietization in Belorussian Literature (1917–1957). München, 1958. — 204 p.

[188] Гл.: Kipel, Vitaut, Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

[189] Юрэвіч, Лявон. З архіўных тэчак БІНіМу // Запісы БІНіМ. № 29. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 27–28.

[190] Супрацавень. XV Канфэрэнцыя й Асамблея Інстытуту вывучэньня СССР // Бацькаўшчына. № 9 (609). 01.08.1963.

Аддзел пашыраў інфармацыю пра Беларусь у Заходніх навуковых колах на зразумелых тамтэйшым навукоўцам мовах, дапамагаў беларускім навукоўцам навязваць кантакты з калегамі.

Пры гэтым варта адцеміць, калі б у беларусаў (і ў прыватнасці ў Рады БНР) не было добрых дачыненняў з Амерыканскім камітэтам, дзейнасць у Інстытуце наўрад ці была магчымай. Такім чынам, і гэтую дзялянку Мікола Абрамчык мог залічыць сабе ў актыў.

## Рада БНР і Парыжскі блок

Праца і Беларускай рэдакцыі радыё Вызваленне / Свабода, і Беларускага аддзела ў Інстытуце вывучэння гісторыі і культуры СССР знаходзілася пад пэўным кантролем з боку Рады БНР, найперш дзякуючы яе ўдзелу ў Лізе вызвалення народаў СССР (Парыжскім блоку)[191].

Як ужо згадвалася, Парыжскі блок паўстаў у 1953 г. як вынік намаганняў самога Міколы Абрамчыка і меў на мэце згуртаваць прадстаўнікоў эміграцыйных урадаў «нерасійскіх» народаў для супольнага змагання з СССР, а найперш для кансалідаванага выступу ў перамовах з Амерыканскім камітэтам і расійскай эміграцыяй. Да трох першых удзельнікаў блоку (беларусаў, грузінаў і ўкраінцаў) вельмі хутка сталі далучацца іншыя. І ўжо ў тым самым годзе дакументы прымаліся ад імя прадстаўнікоў Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Беларусі, Паўночнага Каўказа і Украіны. Да сярэдзіны 1960-х у арганізацыю ўваходзілі таксама ўдзельнікі ад Крыма, Ідэль-Урала і Туркестана[192].

Рада БНР, дзякуючы свайму Прэзідэнту, які ўжо ў 1954 г. быў Старшынёй Парыжскага блоку, адыгрывала ў арганізацыі вядучую ролю. Мікола Абрамчык актыўна ўзяўся за працу па наладжванні перамоваў з Амерыканскім камітэтам ды разбудове Лігі вызвалення народаў СССР. Аднак была гэтая праца няпростая. Вось як апісваў асаблівасці сваёй дзейнасці Мікола Абрамчык у лісце да Аляксандра Стагановіча ў 1955 г.:

*«Villepinte 14.4.55*

*Вельміпаважаны й дарагі Спадар Стагановіч,*

*Ваш ліст з 15.12.54 і 70 дал. атрымаў. Шчыра Вам усім дзякую і прашу ветліва мне выбачыць, што сабраўся толькі цяпер Вам адказаць, Я пераконаны, што ніхто так лепі, як Вы, разумееце маю сытуацыю, таму гневацца на мяне ня будзеце.*

*Але тым ня менш хочу Вам шчыра прызнацца, што ніколі шчэ я працягам апошніх 12 гадоў маёй палітычнай дзейнасьці ня быў у так цяжкай сытуацыі, як працягам апошняга году (а пакуль, што і цяпер).*

*Як Вам ведама па сьмерці Прэзыдэнта Грузіі — Гэгэчкоры я, у сілу склаўшыхся абставінаў, узяў на сябе функцыі старшыні Парыжскага блёку. Узяў на сябе я гэтыя абавязкі пад націскам з 3-х бакоў.*

---

[191] Афіцыйна Парыжскі блок атрымаў назву Ліга вызвалення народаў СССР у 1955 г, калі быў прыняты і статут арганізацыі.

[192] Паведамленне // Бацькаўшчына. № 3 (636). Кастрычнік 1966.

*1) Амэрыканцы выказалі жаданьне, каб пасярэднікам у перагаворах між эміграцыяй наогул і амэрыканцамі быў я.*

*2) Сябры Парыжскага блёку (асабліва каўказскія і цюркскія народы) не хацелі ў даных абставінах бачыць каго іншага Старшынёй блёку.*

*і 3) Сябры Рады БНР Мюнхэнскага сэктару настаівалі на тым, каб я згадзіўся, бо як найбліжэй стоячыя да ўсіх тутэйшых справаў, бачылі ў гэтым карысьць для нашай беларускай справы, асабліва нашага прэстыжу. Дык вось узяўся і закапаўся па вушы. Перагаворы з амэрыканцамі набіралі штораз то інтэнсіўнейшых формаў. Усім абрыдзела амаль 4-гадовая валакіта, і ва ўсіх быў настрой дайсьці якось да канца ў перагаворах з амэрыканцамі. Прыйшлось таму амаль цэлы вось год вярцецца сьвярдзелкам на ўсе бакі. Пры такім напружаным настроі, як з боку амэрыканцаў, так і сяброў Парыжскага блёку асабліва, праца аказалася в. цяжкай, бо з усіх бакоў напружаньне, а ў Парыжскім блёку склалася атмасфэра досыць нэрвовая, давялося перажыць некалькі нутраных крызаў у блёку, дый цяпер стаім перад досыць цяжкай крызай.*

*Парыжскі блёк, які навонкі набраў аўтарытэту, стымуляваў новы даплыў сябраў. Цяпер маем у блёку 8 народаў як афармленых сяброў і 2 кандыдаты (Цэнтр крымскіх татар і казакаў) яшчэ не афармленыя.*

*Нягледзячы на тое, што ўсе в. даражаць і прыдаюць в. вялікае значэньне існаваньню блёка, узгодніваць у ім лінію надзвычай цяжка. У блёку скрысталізаваліся 3 напрамкі. Пара нацыянальных цэнтраў, што матэр'яльна чуюцца моцна (а толькі пара ёсьць такіх: армяне і да пэўнай ступені ўкраінцы) не спяшаюцца з давядзеннем да канца перагавораў з амэрыканцамі, а налягаюць галоўным чынам на разгорненьне працы блёку па нутраной (блёкавай) лініі — дзеля ўмацаваньня блёку як арганізацыі як такой. Іх тактыка такая: кансалідацыя ўнутры і зацягваньне перагавораў з амэрыканцамі так доўга, аж пакуль яны (амэр.) ня згодзяцца прыняць для нас найвыгаднейшай пазыцыі. Другая частка: грузіны і азербайджанцы — матэр'яльна якія стаяць найслабей за ўсіх — рвуцца дагаварыцца з Ам. камітэтам як найхутчэй абы за якую цану, абы пры якіх умовах. 3-я — гэта мы, беларусы, паўночныя каўказцы, туркестанцы і ідэль-уральцы (усіх матэр'яльная сытуацыя прыблізна роўна нашай (беларускай)), стаім на такіх пазыцыях ніколі не ўступіць з нашых нацыянальных прынцыпаў, але цягнуць без канца перагаворы з Ам. Кам. — ня вытрымаем матэр'яльна. Усе, праўда, згодны ў вадным — гэта выкарыстоўваць пляцоўкі практычнай працы, як Радыё, інстытут, але адгэтуль матэр'яльна для палітычных цэнтраў не лягчэе, пасьля тога, як Амэрыканскі камітэт (у жніўні 1953 г.), разьвязаўшы Кацаб заявіў, што ніякія палітычныя арганізацыі, ані канфэрэнцыі больш фінансаваць ня будзе — у Парыжскім блёку прынялі пастанову, што ніхто із сяброў П. блёку ні ў якім выпадку зьвяртацца да Ам. Кам. за фінансавай помаччу ня будзе.*

*Нашы таму канфэрэнцыі напрост руйнуюць некаторых нашых сяброў блёку. А канфэрэнцыі ў зьвязку з абставінамі прыходзіцца рабіць досыць часта.*

*Ёсьць яшчэ іншыя цяжкасьці, якія каштуюць мне асабіста ня толькі шмат часу, але і здароўя. Гэта рознага роду канфлікты як між нацыянальнымі групамі, так і ўнутры груп. Між грузінамі, напрыклад, і паўночна-каўказцамі вельмі непрыемныя часамі бываюць схваткі. Часамі ўсіх каўказцаў з украінцамі — маем нямала і вельмі нястрыманых (непараўнаўча горшых як найгоршыя ў нас у Радзе) людзей. На канфэрэнцыях і нарадах рэдка калі абыходзіцца без «спэктакляў».*

*Пры такім стане рэчаў я абсалютна пазбаўлены фізычнай магчымасьці штось рабіць па нашай нутранай лініі па лініі Рады.*

*Амаль цэлы сакавік месяц я быў у Мюнхэне і радзіўся з нашым сэктарам, ці ня лепі мне пакінуць старшыноўства блёку, каб заняцца больш нашымі нутранымі справамі. Праф. Грышкевіч быў за тое, каб пакінуць. Рэшта сяброў сэктару (іх усіх цяпер там 9) былі каб прынамсі я давёў да канца перагаворы з амэрыканцамі.*

*Перагаворы з ам. падыходзяць запраўды да канца. Пры апошнім сваім побыце ў Мюнхэне я пераканаў іх, што няма іншага выхада, як аперціся на 2 цэнтры (цэнтр нярускіх народаў — Парыжскі блёк і цэнтр расейскіх партыяў), а каардынаваць між імі працу канфэрэнцыямі адзін раз на месяц для ўзгодненьня вылучна тых спраў, якія канечне вымагаюць праводжаньня нейкіх супольных акцыяў (як пратэсты супраць бальшавіцкага тэрору і г.д.). Амэрыканцы пагадзіліся, пагадзіліся і пяць драбнейшых расейскіх групаў, і нашы сябры П. блёку былі ў захопленьні ад такіх вынікаў, бо то-б ніяк не вязала нас палітычна з расейцамі.*

*У Парыжу, аднак, з боку грузінаў, якімі цяпер кіруе Цэнцадзе (асабісты сябра Нікалаеўскага), зарыентаваўшыся, што пры такой камбінацыі Нікалаеўскі ня будзе мець доступу да акцыі (бо амэрыканцы лічуць, што тых 5 груп дастаткова для рэпрэзэнтацыі расейцаў, а Нікалаеўскі ў прынцыпе проці двух цэнтраў) — Цэнцадзе гэты спрацівіўся майму праекту і павёў шалёную акцыю за стварэньне аднаго цэнтру. Украінцы фанатычна абараняюць мой праект — але дзякуючы звыклым ім нятактам часамі больш шкодзяць, чым памагаюць. Дайшло да таго, што дашнакі занялі нейтральную пазыцыю, а азербайджанцы разьбіліся на дзьве часьці. Вось два тыдні ўжо ў нас бурліць усё ў Парыжы і разьвязкі шчэ ня маем. Штодня пасяджэньні і ўвесь час нэрвы і нэрвы. З крызысу спадзяюся неяк выйдзем, але часу трэба страціць шчэ нямала. […]»*[193]

Тым не менш, дзейнасць па каардынацыі інтарэсаў розных народаў давала плён. Паміж Парыжскім блокам і Амерыканскім камітэтам сапраўды было заключана пагадненне аб супрацоўніцтве ці нават саюзніцтве, што мела канкрэтныя практычныя вынікі ў працы радыё «Вызваленне» і Інстытута вывучэння СССР. Менавіта пад уплывам дзейнасці Блоку Амерыканскі камітэт паступова адмовіўся ад аднабаковай арыентацыі на расійскую эміграцыю.

[193] Ліст М. Абрамчыка да А. Стагановіча ад 14.04.1955. Гэты і іншыя лісты да А. Стагановіча захоўваюцца ў сямейным архіве Тамары Стагановіч (Кольба).

Цікавы эпізод: кіраўніцтва Амерыканскага камітэта пад уплывам расійскай эміграцыі ад пачатку негатыўна паставілася да прыняцця Кангрэсам ЗША рэзалюцыі аб паняволеных народах і выданні Прэзідэнтам Эйзенхаўэрам адпаведнай дэкларацыі ў 1959 г. Намаганнямі сябраў Парыжскага блоку інфармацыя пра гэтыя дакументы ўсё ж была пададзеная праз радыё «Вызваленне»[194].

Для рэпрэзентацыі сваіх інтарэсаў навонкі сябры Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) наладзілі выданне свайго часопіса *«Problems of the Peoples of the USSR»*. Першы нумар яго пабачыў свет у Мюнхене ў 1958 г. і меў наклад каля 5 тысяч асобнікаў. Выходзіў часопіс як квартальнік памерам каля 70 старонак і да 1962 г. наклад павялічыўся да 10 тысяч[195]. Рассылаўся ў розныя краіны свету і выконваў важную рэпрэзентацыйную функцыю. Рэдактарам часопіса быў украінец Спірыдон Доўгаль, знаёмы з Міколам Абрамчыкам яшчэ па часе навучання ва Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах. Праўда, матэрыялы пра Беларусь і беларусаў з’яўляліся на старонках не вельмі рэгулярна. Была ідэя выдаваць і франкамоўны варыянт часопіса, але яна не рэалізавалася.

У 1963 г. у Мюнхене пабачыў свет адмысловы зборнік «*Captive Nations in the USSR*», які змяшчаў інфармацыю па гісторыі, культуры, палітычным развіцці народаў, што ўваходзілі ў Парыжскі блок.

Праца ў Парыжскім блоку вымагала значных высілкаў і фізічных, і эмацыйных, і фінансавых. Менавіта таму ў лістах Міколы Абрамчыка даволі хутка сталі з’яўляцца сумненні, ці заставацца яму на пасадзе кіраўніка гэтай арганізацыі. У 1959 г. ён пісаў: *«Між іншага ад старшынства Парыжскага блёку і ў гэтым годзе мне не ўдалося адкарапкацца. Я ведаю, што многім нашым радным гэта не спадабаецца, але, узважываючы ўсё «за» і «проці», я ўсё-ж такі вырашыў быў згадзіцца, праўда, з абумоўленьнем, што ў сярэдзіне году, калі абставіны мяне змусяць, змагу камітэту П. блёку скласьці дэмісію»*[196]. Аналагічныя сумневы можна прачытаць і ў лістах з наступных гадоў. Складана казаць, наколькі шчырымі былі гэтыя нараканні, улічваючы, што якраз такая вонкавая, міжнародная дзейнасць заўсёды прыцягвала Прэзідэнта БНР значна болей, як нутраная. Аднак выглядала, што і выразнай альтэрнатывы Абрамчыку ў Парыжскім блоку не было. Таму ён, нягледзячы на тыя сумневы, заставаўся на пасадзе амаль да сваёй смерці.

---

[194] У лісце да Аляксандра Стагановіча ад 16.8.1959 Мікола Абрамчык пісаў: *«У Мюнхэне мы правялі вялікі бой супроць закаранелых «непрадрашэнцаў» у Амэрыканскім камітэце, якія паставіліся супроць праклямацыі Прэзыдэнта Айзэнгаўвэра і Рэзалюцыі Кангрэсу аб тыдні ўпалоненых народаў. Тым часам бой мы выгралі і змусілі іх Рэзалюцыю Кангрэса падаць праз Радыё, якую яны (Ам. Камітэт) быў, уявіце сабе, сканфіскаваў»*.

[195] Прысутны. X Канфэрэнцыя Парыскага Блёку // Бацькаўшчына. № 11 (595). 22.07.1962.

[196] Ліст М. Абрамчыка да А. Стагановіча ад 16.8.1959.

Праца была складаная яшчэ і таму, што рэальных працаўнікоў было вобмаль. У выніку Старшыня мусіў звяртацца да радных БНР па дапамогу ў ажыццяўленні менавіта блокаўскіх праектаў. Вельмі паказальным у гэтым сэнсе выглядае ліст да Янкі Запрудніка ад 1960 г.

*«Paris 15.9.60*

*Дарагі Янка,*

*Пасылаю тут Вам тэкст «Апэлю» Лігі (П. блёку) да дэлегацыяў А. Н. і прашу Вас зрабіць мне наступныя:*

*1. Адпячатаваць яго ў экзэмплярах 200.*

*2. Узяць адрэсы ў Амэрыканскім камітэце (лепш кажучы) назовы дэлегацыяў у А. Н. — асабліва новапрынятыя Афро-Азыяцкія народы і выслаць кожнай з дэлегацыяў (за выключэньнем савец. і сатэліцкіх дэлегац.) па аднаму экзампляру гэтага Апэлю. Рэшту выслаць у галаўнейшыя ам. газэты. Частку дасьцё Мерляку, каб ён іх пашыраў ад Кантактнай Камісіі Пар. Блёку.*

*3. Надрукаваць — папрасіце ад майго імя Тэрпака (на іх ратагары), калі ж бы з Камітэтам нічога ня выйшла, то тагды надрукуйце ў украінскай ці амэрыканскай якойсь друкарні (звычайным друкам). Вазьміце ад іх рахунак, і рахунак пачтовых выдаткаў, прышліце мне і яго Вам аплачу (так мы тут умовіліся з Цэнцадзэ). Лепш зразумела ўладзіцца неяк у Ам. камітэту.*

*Вы пэўна на мяне будзеце гневацца, што марную Вас лішняй працай, але я выхаду інакшага ня маю. Меўся ўсё гэта зрабіць у Парыжу, але нічога ня выйшла. Пасылаць жа Мерляку, гэтаму «Люмумбу», самі ведаеце, ня варта. Я ўжо раз так зрабіў быў і ён мне толькі папсуў.*

*Прашу Вас зрабіць усё гэта безадкладна, каб Апэль наш папаў прынамсі не пазьней серады дзесь у разгар дыскусіі па выступленьні Хрушчова»*[197].

І вонкавых справаў па рэпрэзентацыі інтарэсаў сябраў Блоку, і перамоваў з Амерыканскім камітэтам, і развязання нутраных канфліктаў у арганізацыі было дастаткова. У 1963 г. кардынальна змяніў назву, а разам і характар дзейнасці Амерыканскі камітэт, які пертварыўся ў Камітэт радыё «Свабода», і Парыжскаму блоку давялося выстройваць адносіны з гэтай абноўленай структурай. Тым не менш, пры жыцці Міколы Абрамчыка Парыжскаму блоку наогул і Радзе БНР у ягоным складзе ўдавалася захоўваць партнёрскія адносіны з амерыканцамі ды ўплыў на сітуацыю ў радыё і Інстытуце.

Больш за тое, у 1966 г. Парыжскаму блоку ўдалося нават прыцягнуць да супрацоўніцтва расійскую эміграцыйную «Кранштацкую групу» на чале з Пятровым-Скітальцам[198]. Было дасягнутае пагадненне аб стварэнні *«су-*

---

[197] Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 287–288.

[198] У газеце «Бацькаўшчына» новы саюзнік Парыжскага блоку характарызаваўся так: *«Як мы паінфармаваныя, іхная арганізацыя налічвае каля паўсотні сяброў. У сэньсе інтэлектуальных сілаў яна непараўнальна мацнейшая за былую арганізацыю Керанскага падчас ягоных перамоваў з Парыскім блёкам (сёньня група Керанскага*

*польнага антыкамуністычнага фронту»*[199]. Гэта было знакавае дасягненне шматгадовай працы. Але бадай апошняе для Міколы Абрамчыка.

З сыходам Міколы Абрамчыка ў 1969 г. з Парыжскага блоку, арганізацыя шмат страціла ў сваёй дзейнасці. Спынілася выданне часопіса, паступова сталі губляцца пазіцыі ў дачыненнях з амерыканскім кіраўніцтвам радыё «Свабода» і Інстытута вывучэння СССР…

Аднак праца Міколы Абрамчыка ў Парыжскім блоку мела для Рады БНР, акрамя відавочных плюсаў у міжнародным статусе, і выразныя мінусы, найбольшым з якіх было тое, што Прэзідэнт значна менш увагі надаваў уласна праблемам Рады. Магчыма, менавіта таму да канца 1960-х Рада БНР падышла ў стане выразнага крызісу.

1950-я гады ў дзейнасці Рады БНР былі багатымі на падзеі. Намаганнямі найперш Прэзідэнта яна стала актыўнай удзельніцай антыкамуністычнага змагання, своеасаблівым этапным вынікам якога было ўключэнне беларусаў у спіс Паняволеных народаў, абвешчаны разам з адпаведнай Дэкларацыяй амерыканскім Прэзідэнтам Дуайтам Эйзенхаўэрам у 1959 г. Такім чынам, беларускае пытанне паступова заняло сваё месца ў амерыканскай палітыцы. Штогод на 25 сакавіка амерыканскія кангрэсмэны лічылі неабходным выказацца ў сувязі з праблемай беларускай незалежнасці. Ім ужо не трэба было тлумачыць, што такое Беларусь. Разам з тым, падзеі 1950-х гг. засведчылі наяўнасць сур'ёзных праблемаў у Радзе БНР. Частка з іх была традыцыйнай для ўсіх эміграцыйных арганізацый: нізкая актыўнасць сяброў, міжасабовыя канфлікты, складанасці кіравання структурай. Былі і спецыфічныя — асоба і дзейнасць кіраўніка, што перадвызначала характар і шматлікіх поспехаў арганізацыі, і яе праблемаў. У наступнае дзесяцігоддзе наяўныя праблемы толькі пашырыліся.

## Дзейнасць Рады ў 1960-х гг.

На мяжы 1950-х — 1960-х гг. у Рады БНР і асабіста Міколы Абрамчыка з'явіўся новы клопат: у снежні 1958 г. распачалі працу штодзённыя беларускія радыёперадачы на Іспанскім радыё. Займаліся імі два беларускія студэнты Янка Сурвіла і Віктар Сянкевіч[200]. Умовы для стварэння перадачаў

---

*самазьліквідавалася, а тады налічвала 40 чалавек). «Кр. Гр.» мацнейшая ў гэтым сэньсе і за групу Расейскай Сацыял-дэмакратычнай партыі, якая пасьля сьмерці Абрамовіч, Зензікава, Нікалаеўскага трымаецца амаль на адным Шварцы (праўда, выдатным журналістым) і пары дзесяткаў звычайных сяброў. Сярод дэмакратычнага, калі можна так назваць, сэктару расейскай эміграцыі «Кр. Гр.» зьяўляецца найбольш рэпрэзэнтатыўнай, каб не сказаць адзінаў рэпрэзэнтатыўнай».* (Інтэрв'ю з Прэзыдэнтам Рады БНР // Бацькаўшчына. № 3 (636). Кастрычнік 1966).

[199] Інтэрв'ю з Прэзыдэнтам Рады БНР // Бацькаўшчына. № 3 (636). Кастрычнік 1966.

[200] Пазней падпрацоўваць у рэдакцыі стала і жонка Янкі Сурвілы Івонка.

былі наступныя: Іспанскае радыё дае эфір і магчымасці для запісу, не мяшаецца ў змест перадаванага, але працаўнікоў не аплачвае, таму, каб гэты праект дзейнічаў, неабходна было знайсці сродкі на ўтрыманне працаўнікоў. Гэтай справай і заняўся Мікола Абрамчык. Ён паспрабаваў знайсці грошы на непадцэнзурныя беларускія перадачы ў амерыканцаў, аднак тыя не зацікавіліся. Таму хаця б мінімальнае ўтрыманне двух працаўнікоў рэдакцыі мусілі забяспечыць самі беларускія эмігранты. Палову неабходнай сумы ў эквіваленце 100 ам. даляраў на месяц згадзіліся дасылаць у Мадрыд беларусы Мюнхена і акуратна датрымоўвалі сваё абяцанне. У атрыманні другой паловы Мікола Абрамчык вельмі спадзяваўся на амерыканскіх беларусаў, і найперш на структуры Рады БНР у ЗША. Аднак тут паўсталі праблемы. Амерыканскія беларусы скептычна паставіліся да неабходнасці штомесячных выдаткаў на далёкае Мадрыдскае беларускае радыё, і Урад БНР нават прыняў адпаведную адмоўную пастанову.

Прэзідэнт Абрамчык пісаў у адказ: *«…Я абсалютна не магу пагадзіцца з пастановай Ураду ў гэтай частцы (у справе Мадрыду) […] Было б гэта найбольшай плямай для нас перад гісторыяй аб нашай эміграцыйнай дзейнасьці, калі гісторык знойдзе, што эміграцыя ў Амэрыцы на аднэй сходцы сабрала 750 дал. для ўладжаньня цэнтральнага атаплення, купляе могілкі, а закрываецца радыёперадача, як адзіная з пляцовак БНР, ад якой бальшавікі ня могуць спакойна спаць, таму што бел. эм. у Амэрыцы ня можа, ці лепш адмаўляе, помач прынамсі 100 дал. на месяц. Буду Вам пісаць афіцыяльнага ліста, каб абавязкова пераглядзелі гэтую справу…»*[201] У выніку, пэўныя грошы на беларускія перадачы з ЗША ўсё ж сталі прыходзіць, але было гэта даволі нерэгулярна, і часта Міколу Абрамчыку даводзілася браць для гэтай справы грошы з касы Рады ці ад прыватных асобаў пад асабістую адказнасць.

Балючае пытанне беларускіх радыёперадачаў з Мадрыда стала своеасаблівай праверкай згуртаванасці Рады БНР. Да 1965 г. дзейнасць працаўнікоў усё ж удавалася аплочваць, хоць і на зусім мінімальным узроўні. А пасля перадачы зачыніліся паводле рашэння самога Іспанскага радыё, і аднаўленнем ніхто займацца не пажадаў праз тыя ж непазбежныя фінансавыя праблемы[202].

Іншы еўрапейскі праект Рады БНР, які так і не адбыўся на пачатку 1960-х, — ідэя запрашэння беларускіх студэнтаў з Беласточчыны для навучання ў еўрапейскіх вышэйшых навучальных установах. Пытанне арганізацыі такога навучання, і найперш яго фінансавання, агаворвалася раднымі ў 1960 г. Былі зробленыя канкрэтныя захады ў Лювенскім універсітэце і ў Боне. Была нават дамова пра запрашэнне для пачатку двух беларусаў з Беласточчыны на навучанне, аднак нечаканая смерць прафесара Мендэ, які быў адказным за справу стыпендыяў, цалкам спыніла рэалізацыю гэтага праекта[203].

[201] Ліст М. Абрамчыка да А. Стагановіча ад 31.10.59.

[202] Пратакол паседжаньня Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады БНР з дня 24-га красавіка 1966 г.

[203] Гл. Лісты М. Абрамчыка да А. Стагановіча ад 23.10.60. і 9.9.1964.

На мяжы 1950-х — 1960-х гг. у Радзе БНР наспеў і чарговы нутраны канфлікт. У ім былі задзейнічаны кіраўнік БАПЦ уладыка Васіль ды сябра Ураду БНР, а таксама старшыня БАЗА Канстанцін Мерляк. Апошні вельмі актыўна ўзяўся за наладжванне сувязяў з БЦР з ідэяй супрацы, а ў ідэале і стварэння супольнага кіраўнічага цэнтра беларускай эміграцыі. У гэтай справе Мерляк непазбежна сутыкнуўся з супрацьдзеяннем у самой Радзе, у БАЗА, ды яшчэ і на царкоўнай дзялянцы. У Радзе наспяваў новы падзел. Мікола Абрамчык у 1959 г. з гэтай нагоды пісаў:

*«Што да нашых нутраных канфліктаў — то шчыра кажучы — я ня думаю, каб мой прыезд памог нешта ў гэтым. З доўгагадовай маёй практыкі я пераканаўся, што ніколі мая інтэрвенцыя ў падобных выпадках не давала пажаданых вынікаў. Людзі, што выклікаюць рознага роду непаразуменьні, настолькі лічуць сябе аўтарытэтнымі і безаглядным ў сваёй упартасьці, што безь якой будзь экзэкутыўнай сілы ўплываць на іх немагчыма. Я ведаю, дарагі спадар Старшыня, што Вам баліць душа, баліць і мне, як пэўне-ж баліць яна і кожнаму грамадзкаму дзеячу, які прывык у сваёй дзейнасьці кіравацца і ўважаць сабе за закон адно маральна-этычныя нормы, кіравацца і падпарадкоўваць ім усе свае амбіцыі. Але на вялікі жаль у нас заўсёды выскаківаюць людзі, амбіцыі і капрызы якіх ніяк не ўкладаюцца ў такія нормы, нормы адзінае і выключнае перадумовы ў грамадзка-палітычным жыцці эміграцыі.*

*Не хачу гэтым сказаць, што ўсё трэба пусьціць самацёкам. Будзем нешта прабаваць! Але прызнаюся шчыра, што часамі проста апускаюцца рукі і галава ня ведае, як і зь якога боку падысьці. Вось для прыкладу ляжаць на маім бюро 2 лісты, два клясычныя прыклады: ліст ад уладыкі Васіля, у якім ён мне пішыць, што ўрад БНР — пры маім удзеле — разбурае БАПЦаркву, што я, моў, распусьціў і настроіў Мерляка і каталікоў — і тыя ўсё вернуць… А Мерляк у сваім лісьце пішыць: што я распусьціў «царкоўнікаў» сваім ім патураньнем, будучы ў Амэрыцы (ня змог іх абсадзіць), дык тыя цяпер руйнуюць усё грамадзкае жыцьцё. Не паслухалі, кажа, мяне (яго, Мерляка, значыць), дык вось цяпер і маеш, расхлёбвай, моў, сам…*

*Вось і арбітруйце цяпер, пры такім пастаўленьні, пры такой лёгіцы…»*[204]

На Дзявятай сесіі Рады БНР у траўні–чэрвені 1960 г. Мікола Абрамчык паспрабаваў замірыць бакі, аднак самастойная дзейнасць Кастуся Мерляка стала хутка зноў замінаць самому Прэзідэнту. Ужо ў 1961 г. ён пачаў звяртацца да Ураду з патрабаваннем спыніць самастойную дзейнасць у дачыненні да Амерыканскага камітэта, якая супярэчыла працы Міколы Абрамчыка ў Парыжскім блоку. Справа ў тым, што Мерляк ад імя БАЗА і Амерыканскага сектара Рады БНР распачаў складаць пратэсты ў Амерыканскі камітэт з прычыны яго палітыкі з арыентацыяй на расійскую эміграцыю. Мікола Абрамчык, які ўжо колькі гадоў займаўся наладжваннем супрацоўніцтва з Камітэтам, навязваючы яму свае ўмовы, спрабаваў тлумачыць беларуска-

---

[204] Ліст М. Абрамчыка да А. Стагановіча ад 16.8.1959.

му актыву ў ЗША, што Камітэт не з'яўляецца самастойнай арганізацыяй, а выконвае распараджэнні Дзяржаўнага дэпартамента ЗША, і менавіта ад гэтай установы залежыць уся «русафільская» палітыка[205]. Ранейшая дыскусія адносна патрэбы супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам пры ўдзеле Мерляка аднавілася. Гэта, а таксама захады дзеяча па супрацоўніцтве з БЦР, новая сітуацыя закалоту ў амерыканскім асяродку выклікала патрабаванне Міколы Абрамчыка ў 1965 г. правесці «чыстку шэрагаў» радных. Прэзідэнт пісаў: *«Затым аб правядзеньні Судом рады БНР выключэння тых адзінак, якія з радоў Рады БНР адкрыта перайшлі на бок БЦР, ці арганізовываць супольна з рэномэванымі ворагамі Рады БНР, як інстытуцыі, супольныя акцыі. Паводзіны такіх адзінак, ніякім чынам нельга разглядаць я нутраную апазыцыю ў Радзе БНР, а іх дзейнасьць у зблакаваньні з такімі ворагамі Рады БНР, як Касяк і яму падобных яму нельга начы разглядаць як за адкрытую здраду Радзе БНР. Канстатаваньне Судам Рады БНР гэтых наяўных фактаў і перасланьне мне свае пастановы для зацьверджаньня пазбавіць магчымасьці такіх адзінак спэкуляваць іменем раднага, як «апазыцыянэра» Рады БНР»*[206].

Нягледзячы на тое, што планаваная тады сесія Рады не адбылася, Кастусь Мерляк і ягоныя прыхільнікі ўсё ж пакінулі і яе, і БАЗА, і прыход БАПЦ, стварыўшы ў выніку ўласныя структуры.

Нутраныя канфлікты, як і занятасць Прэзідэнта справамі Парыжскага блоку, не асабліва спрыялі дзейнасці Рады БНР. Тым не менш, у 1960 г. адбылася падзея, якая зрабіла пэўны ўплыў на беларускае жыццё ў ЗША: 1 ліпеня 1960 г. было падпісана пагадненне паміж Радай БНР і створанай з яе ж ініцыятывы раней Фундацыяй Пётры Крэчэўскага.

*Умова*

*Паміж Радай дырэктароў Фундацыі Крэчэўскага і Прэзідыюмам Рады БНР*

*Мы, ніжэй падпісаныя, Рада дырэктароў Фундацыі Крэчэскага й сябры Рады БНР, гэтым пацьвярджаем, што:*

*1. На сяньняшнім паседжаньні ў прысутнасьці ўсіх ніжэй падпісаных Фундацыі Крэчэўскага былі перададзеныя сп. Прэзыдэнтам М. Абрамчыкам два чэкі на суму трыццаць дзьвёх тысячаў пяцьсот сарака васьмёх даляраў 51 цэнта.*

*2. Мы прыймаем да ведама заяву сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка, што на жаданьне ахвярадаўцаў яны (ахвярадаўцы) застаюцца ананімнымі на неазначаны час.*

*3. Вышэй названая сума прызначаецца вылучна й толькі на арганізацыю беларускага архіву-музэю, але на ніякія іншыя, не зьвязаныя з архівам-музэ-*

[205] Ліст М. Абрамчыка да А. Стагановіча ад 23.1.1961.

[206] Ліст М. Абрамчыка да Ф. Кушаля ад 27.4.1965 захоўваецца ў сямейным архіве Тамары Стагановіч (Кольба).

*ем справы ня можа быць выдаткаваная. Паза гэтымі ўмовамі ў справе прызначэньня ніякіх іншых палітычных ці праўных вымаганьняў Фундацыі ахвярадаўцы ня ставяць.*

*4. Уся маемасьць архіву-музэю Фундацыі Крэчэўскага будзе намі ўважацца за маемасьць Ураду й Прэзідыюму Рады БНР. Таму на ўсіх паседжаньнях дырэктароў Фундацыі Крэчэўскага, датычных маемасьці Фундацыі (рухомай і нярохомай), сябры Ўраду й Прэзыдыюму Рады, што не ўваходзяць фармальна ў склад дырэктароў Фундацыі, маюць раўнапраўныя з дырэктарамі галасы, а прынятыя пастановы, датычныя да распададжэньня маемасьцяй Фундацыі, падлягаюць зацьверджаньню Прэзыдэнтам Рады БНР згодна прыналежных яму, як Прэзыдэнту Рады БНР, прэрэгатываў, азначаных Статутам Рады БНР у разьдзеле III §27.*

*Нью-Ёрк, 1 ліпеня 1960 г.*

*М. Абрамчык*
*А. Стагановіч*

*В. Тумаш*
*А. Адамовіч*
*Н.Арсеньнева-Кушаль*
*А. Шукелайць*
*К. Мерляк*
*В. Кажан*
*Я. Запруднік*[207]

Гэтыя грошы былі некалі атрыманыя Міколам Абрамчыкам ад амерыканскіх спецслужбаў за падрыхтаваных і скінутых на беларускую тэрыторыю беларускіх дэсантнікаў (Янку Філістовіча, Цімоха Вострыкава і інш.) Частка грошай, паводле сведчання Янкі Запрудніка[208], пайшла раней на беларускія выдавецкія праекты, у тым ліку і на падтрымку газеты «Бацькаўшчына», а астатнія вырашылі ўкласці ў Фундацыю. З выкарыстаннем гэтага ахвяравання ўжо ў лістападзе 1964 г. за 180 тысяч даляраў былі набытыя два трохпавярховыя дамы *«для беларускіх грамадзкіх патрэбаў»*. Паведамлялася, што *«ўвесь ніжні паверх аднаго з дамоў мае быць адведзены для Беларускага архіву й бібліятэкі, Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, навуковага выдавецтва й іншых беларускіх арганізацыяў і ўстановаў. Там-жа будзе й невялікая заля для ладжаньня нацыянальных і культурных імпрэзаў. Усе-ж іншыя памешканьні будуць наймацца для жыльлёвых мэтаў. Чысты даход ад гэтых будынкаў будзе прызначаны на беларускія нацыянальныя патрэбы»*[209]. Такім чынам, Рада БНР спрычынілася да разбудовы беларускай маёмасці дый наогул грамадскага жыцця ў ЗША.

---

[207] Умова паміж Радай дырэктароў Фундацыі Крэчэўскага і Прэзідыюмам Рады БНР ад 01.07.1960. Копія захоўваецца ў архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны.

[208] Паводле вуснага сведчання Я. Запрудніка для Н. Гардзіенка ў Мінску 31.07.2013.

[209] Важнае грамадзкае дасягненьне // Бацькаўшчына. № 1 (628). Студзень — люты 1965.

Тым не менш, фінансавыя праблемы ў Радзе заставаліся вострымі, як і праблемы пасіўнасці сябраў і адносна невялікіх дасягненняў. Пра ўзаемасувязь гэтых пытанняў згадваў сакратарыят фінансаў Рады БНР у адмысловым звароце да беларускай грамадскасці ў 1963 г.:

*«У васноўным бюджэт Рады БНР базуецца на ахвярах беларускае эміграцыі. Вызваленьне бацькаўшчыны Беларусі належыць да нашага найважнейшага абавязку, хоць канчатковая рэалізацыя будзе залежыць ад наважанасьці бескампраміснага змаганьня Беларускага народу на Бацькаўшчыне. У рэалізацыі нашага змаганьня можам разьлічваць толькі на ўласныя сілы. Выходзячы з такога залажэньня, органы БНР плянуюць праграму свайго дзеяньня.*

*Кажны Беларус усьведамляе сабе, што ўсякая пазытыўная дзейнасьць вымагае матарыяльных сродкаў. Пэрсанальная ахвярнасьць ня можа пакрыць усіх выдаткаў нашае грамадзка-палітычнае дзейнасьці. Для прыкладу: калі-б нам давялося аплаціць пагадзінна ўсіх працаўнікоў па лініі БНР, дык на гэта спатрэбілася-б гадавая сума ў некалькі дзясяткаў тысяч даляраў. Але ніхто гэтае аплаты не дамагаецца, працуючы ахвярна.*

*Выдаткоўваюцца сабраныя ахвяры на БНР паводля бюджэтных асыгнаваньняў на: 1. Палітычныя кантакты і зьвязаныя з гэтым кошты падарожжаў — 50 %.*

*2. Інфармацыя — 44 %. Сюды ўваходзіць аплата працаўнікоў Беларускае Сэкцыі Гішпанскага радыя ў Мадрыдзе й кошты выданьня «Бюлетэню Рады БНР».*

*3. Канцылярыйныя й паштовыя выдаткі — 6 %.*

*На шырэйшую дзейнасьць здабудземся толькі тады, калі кажны беларускі эмігрант будзе пачувацца да нацыянальнае адказнасьці, ды рэгулярна складаціме сваю ахвяру на БНР. Ахвяры зьбіраюцца сэктарамі Рады БНР у кажнай краіне расьсяленьня беларускае эміграцыі, на падпісныя лісты ў большых згуртаваньнях або індывідуальныя перасылкі тых, што жывуць паасобна»*[210].

Наўрад ці можна казаць пра тое, што заклікі сакратара фінансаў былі пачутыя. Пра свае фінансавыя складанасці, што накладваліся на занятасць у Парыжскім блоку і адсутнасць сталай заробкавай працы, усё часцей паведамляў і Мікола Абрамчык. Пра тое, што Прэзідэнт жыў даволі сціпла, займаючыся толькі грамадска-палітычнай працай, казалі многія беларусы, што бывалі ў яго ў гасцях. Да таго ж, было незразумела, як, пры адсутнасці сталага заробку і непрацуючай жонкі, сям’я Абрамчыкаў жыла столькі гадоў. Вядома, што Прэзідэнт браў багата пазыкаў яшчэ ад 1940-х гг. Асаблівасці свайго матэрыяльнага стану ён тлумачыў старшыні Ураду БНР у 1965 г.:

*«…справа ў тым, што прыблізна ад 2-х гадоў таму я быў змушаны заняцца будаўнічымі заработкамі, каб, з аднаго боку, вылезці з-за запазыкаў папярэдніх гадоў, з другога, каб хоць трохі неяк унезалежніцца ад памогаў*

[210] Нацыянальная ахвярнасць // Бацькаўшчына. № 11 (611). Лістапад 1963.

*збоку. Разьлік мой, як паказвала практыка, падаваў рэальныя надзеі, адзін домік ужо быў нат запраданы вясной, другі амаль выканчаны. З запраданага дому меўся я разьлічыцца з галаўнейшымі даўгамі. Па кантракту я меў атрымаць грошы ў канцы жніўня. На жаль, мой пакупнік ня змог атрымаць абяцанай яму банкам пазыкі, адсрочыў яму быў я тэрмін яшчэ на месяц, а цяпер змушаны быў яму ануляваць купчу ды шукаю цяпер новых кліентаў. Гэта разьбіла ўсе мае пляны розных падарожжаў ды паставіла мяне ў прыкрае становішча ў адношаньні маіх крэдытораў, якім я заабавязаўся сплаціць пазычкі да пэўнага тэрміну. Прыкра было-б мне паказацца і ў Амэрыцы і Канадзе, дзе я вінен каля 10000 долараў і зь якімі я меўся разьлічыцца, прыехаўшы.*

*Як бачыце, цяжкавата спалучаць вядзеньне якогась прадпрыемства з грамадзка-палітычнай працай, асабліва з працай звыклых маіх «тэмпаў». Цяжка гэта асабліва ў Эўропе. Шкадую часам, што не пераехаў у Амэрыку, дзе мог-бы з гэтым справіцца шмат лягчэй (тут вельмі цяжка здабыць пазычкі, а калі здабываюцца, то ня менш з 15 %-мі.*

*З Канады мне прыпаміналі некулькі разоў, што мой некулькіразовы адклад прыезду падрывае аўтарытэт Прэзыдэнта. Што зацягненьне з скліканьнем Сэсіі Рады в. шкодна адбіваецца на нашым агульнаарганізацыйным і палітычным жыцьці.*

*У прынцыпе, нельга мне з гэтым не згадзіцца. Але думаю аднак, што кожны з тых сябраў Рады, які рабіў-бы мне падобныя закіды — павінен-бы быў разважыць на прыплодзе сваім собскім, свайго ўдзелу ў грамадзка-палітычным жыцьці, у нашых агульнаэміграцкіх умовах.*

*Мая бяда ў тым, што нашае грамадзтва звыкла мяне асабіста вылучаць ад тых аканамічна-эміграцкіх умоваў, у якіх жыве кожны з нас. Здаецца шмат каму ненармальным, калі Абрамчык у першых паваенных гадох бальшыню часу пражываў у падарожжах, прылятаючы часам нат' двойчы ў год у Амэрыку — цяпер раптам 4-ты год не паказваецца ў Амэрыцы — дзесь зьнікшы-абсеўшы.*

*Прасіў я тут (у Парыжу) сп. Адамовіча, які бачыў тут на мейсцы маю сытуацыю, даваць пры такіх выпадках нараканьняў на мяне належныя (па магчымасьці ў канфідэнцыяльнай форме) тлумачэньні аб маёй «пасыўнасьці». Раблю я адылі ўсё ад мяне належна магчымае. На эўропэйскім тэрэне спраўляюся так-сяк з заданьнямі, у Мюнхэне, дзе ўсё-ж такі важная наша пляцоўка — даяжджаю амаль рэгулярна штодвамесяцы на пару тыдняў — ды ўтрымліваюцца кантакты з рознымі іншымі эўропэйскімі цэнтрамі на мяйсцох, ці праежджымі праз Парыж палітычнымі дзейнікамі. Робіцца нямала таксама і карэспандэнцыйна…»*[211]

Безумоўна, прычынай праблемаў Рады была не толькі занятасць Прэзідэнта іншымі справамі. У 1960-х гг. змяншэнне актыўнасці было характэрнае для ўсіх, бадай, беларускіх арганізацыяў на Захадзе. Стаміўшыся ад чакання

[211] Ліст М. Абрамчыка да А. Стагановіча ад 10.10.1965.

вайны з СССР і магчымасці вярнуцца на Радзіму, шмат хто яшчэ ад другой паловы 1950-х пачаў «распакоўвацца», наладжваць уласнае жыццё на новым месцы, пакідаючы грамадскія патрэбы на другім плане. У выніку ў 1960-х гг. колькасць удзельнікаў беларускіх арганізацый у Брытаніі, Канадзе, ЗША, Аўстраліі заўважна зменшала.

Паказнікам праблемаў у Радзе БНР у 1960-х гг. з'явілася нерэгулярнасць склікання сесіяў. Іх адбылося толькі дзве: Дзявятая — у 1960 г. і Дзясятая — у 1968 г. Таксама маладзейнымі сталі сектары Рады. Асабліва багата праблемаў выявілася ў Нью-Ёрку. Напярэдадні Дзясятай сесіі Рады Вінцэнт Жук-Грышкевіч пісаў да Прэзідэнта: *«Але гэта добра, што ты спачатку едзеш у Нью-Ёрк. Там усё-ж найбольш нашых людзей, і там найбольш усё-ж супярэчнасьцяў. Трэба добра запазнацца з абставінамі, сытуацыяй і настроямі. Трэба пабачыцца й пагаварыць з людзьмі. За тыя гады, што ты ня быў, страшэнна много ўсё зьмянілася. Я пэўны, што, як ты азнаёмішся з сытуацыяй, і твае пляны й тактыка могуць зьмяніцца. Шмат хто ўважае, што Рада даўна ўжо ня існуе і часткова яны маюць рацыю. А хто ў гэтым вінават? — І абставіны, і час, і людзі. З другога боку — шмат хто ня ведае й не разумее тваіх абставін, бо падыходзяць да іх з сваёй меркай. […]*

*Іншыя асяродкі: Кліўлянд — за выняткам малой групы — процібээнэраўскі. Ён можа навярнуцца, але на гэта трэба час і праца. Дэтройт — там наагул мала людзей. Пэўныя нашы гэта Сажыч і хіба што Арцюх, а рэшта калі не праціўнікі (Пляскач), дык абыякавыя. Добрым пунктам ёсьць Нью-Брансвік, але й там сэктар, здаецца, трэба ажывіць. Гэты пункт добрае месца й для сэсіі, толькі нам крыху задалёка. Адным словам Раду трэба будзе рэарганізаваць чуць што не нанава. Варта ўзяць пад увагу й Чыкага, але як і што зрабіць я ня ведаю»*[212].

Крызіс дзейнасці быў відавочны. Праўда, менавіта з Канадскага сектара і пайшоў урэшце імпульс на абнаўленне Рады. Рухавіком пераменаў выступіў акурат Вінцэнт Жук-Грышкевіч, што ініцыяваў змены ў працы сектара, які меркавалася далей нават зрабіць асновай рэарганізацыі ўсёй Рады[213].

У выніку на Дзясятай сесіі Рады БНР у год так званага «залатога юбілею БНР» быў агучаны праект сур'ёзнага рэфармавання Рады праз стварэнне Лігі БНР. Ва ўступе свайго праекта аўтар — той самы Вінцэнт Жук-Грышкевіч — тлумачыў неабходнасць рэарганізацыі Рады заняпадам яе дзейнасці. *«Зьмена курсу ў міжнароднай палітыцы Амэрыкі — ад «сьцюдзёнай вайны» да каагзыстэнцыі й разьвіцьцё нуклеарнае зброі — стварыла псыхоз стабілізацыі. На людзей, якія свой удзел у нашым вызвольным руху ўзаляжнялі ад міжнароднай кан'юнктуры, гэта моцна падзеіла. Пэрспэктыва вызваленьня Беларусі здавалася ім занадта далёкай, калі не безнадзейнай. Каля*

---

212 Ліст В. Жук-Грышкевіча да М. Абрамчыка ад 4.12.1967. Захоўваецца ў архіве Бібліятэкі імя Ф. Скарыны.

213 Выказвалася думка 10-ю сесію Рады праводзіць у Таронта. Аднак ідэя не рэалізавалася.

*чвэрці сяброў Рады сталіся абыякавымі, пасыўнымі — улучна з выпадкамі выразнага дэзэртырства. 12 высокавартасных сяброў адыйшло на вечны супакой»*[214].

У сувязі з гэтым Вінцэнт Жук-Грышкевіч прапаноўваў, па-першае, стварыць шырокую грамадска-палітычную арганізацыю, якая б стала, побач з існуючымі прабээнэраўскімі арганізацыямі, апорай Рады. Гэтая Ліга БНР дазволіла б, на думку аўтара праекта *«ўзмоцніць палітычную дзейнасьць, якой дагэтуль мы займаліся толькі выпадкова. Было-б тады каму заняцца рознымі палітычнымі праявамі, навет масавымі (прыкладам, дэманстрацыямі), якія канечне патрэбныя ў нашым палітычным жыцьці, у змаганьні, а якімі з розных прычынаў ня могуць займацца грамадзкія арганізацыі»*[215]…

Па-другое, прапаноўвалася змяніць спосаб фармавання Рады БНР, зрабіўшы яе больш блізкай да парламенцкага варыянта, куды эміграцыйныя грамадскія арганізацыі абіраюць сваіх прадстаўнікоў. Склад Рады мае быць абмежаваны 40–50 дзейнымі, здольнымі асобамі і пяцігадовай кадэнцыяй. І яшчэ адна істотная змена: прапаноўвалася адысці ад «тэстаментавага» варыянта прэзідэнцва і ўвесці выбарнасць гэтай пасады тэрмінам на 5 гадоў[216]. Такім чынам, тое, што намагаўся захоўваць у Радзе Мікола Абрамчык — дакументальную пацверджанасць пераемнасці пасады Прэзідэнта БНР ад даваеннага часу — прапаноўвалася не падтрымліваць болей, ператварыўшы Раду ў орган прадстаўніцтва найперш менавіта інтарэсаў эміграцыі. Дзеля таго каб ажывіць дзейнасць арганізацыі, мабілізаваць яе падтрымку ў эміграцыйных суполках, патрэбныя былі змены.

Праўда, пакуль да ўнясення зменаў у Статут было вырашана пачаць з арганізацыі ўласна Лігі БНР. І сам Вінцэнт Жук-Грышкевіч, атрымаўшы паўнамоцтвы віцэ-прэзідэнта, актыўна ўзяўся за рэалізацыю гэтага праекта. Зрэшты, прыцягваць шырокія масы да палітычнай дзейнасці пасля шматгадовай фактычнай аўтаноміі іх ад справаў Рады было даволі складана. Вось як характарызаваў сітуацыю аўтар праекта ўжо ў 1969 г.:

*«…27.4. былі мы з Раісай у Нью-Брансвіку. Пасьля багаслужбы я меў гутарку з мясцовымі раднымі й пару людзей з актыву. […] Гаварылі мы аб заняпадзе актыўнасьці ў нашых людзей і арганізацыях. Я зьвярнуў увагу на брак грамадзкай дысцыпліны й што арганізаваньне Лігі БНР магло-б паправіць сытуацыю. Пазнаёміў з мэтамі й заданьнямі Лігі… Рэакцыя ў дыскусіі была мяшаная, але прыхільная. Маю ўражаньне, што, апрача маладога Стагановіча й Стомы, уступяць у Лігу й іншыя. Русак абяцаў, што ў паразуменьні з іншымі вызначыць прадстаўніка ў Арг. камітэт Лігі ў Нью-Ёрку. […]*

*У Н.Ё. згадзіліся ўступіць у Лігу З-к, Ш-ць, Гарошка, Бартуль. Стась кажа, што гэта патрэбная справа, але пры настроях заняпаду безнадзей-*

---

214 Праект рэарганізацыі Рады БНР змешчаны ў раздзеле «Дакументы».

215 Праект рэарганізацыі Рады БНР.

216 Праект рэарганізацыі Рады БНР.

*ная. З іншымі каго бачыў, ня меў магчымасьці гутарыць, але даў ім ідэёвыя вытычныя. У арг. мясцовы камітэт Лігі згадзіўся ўступіць Ш-ць і Бартуль, а трэці дойдзе з Н.Б-к. Агульнае ўражаньне з Н.Ё. цяжкое. Добра, што варажнеча С-іч Гар-ка ўляглася й адчуваецца падрыхтоўка да кангрэсу БАЗы, як нешта жывое, але паза гэтым — зьнеахвочаньне й абыякавасьць у шмат каго. Вычуваецца брак душы ў гэтым асяродку, цэнтру, каля якога ўсё групавалася бы. Калі-б удалося паставіць на ногі Лігу — я пэўны, што жыцьцё ажыло-б. Пытаньне толькі ці знойдуцца актывісты да Лігі. А калі пакінуць як ёсьць будзе адміраньне, якое Стась ужо бачыць…»*[217]

І тым не менш з актывізацыяй дзейнасці Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў Радзе БНР зрабілася відавочна, што ў арганізацыі з’явіўся новы лідар, здольны пераняць працу свайго папярэдніка. Цяпер клопат пра ажыўленне арганізацыі клаўся на іншыя, таксама немаладыя, але трывалыя плечы. Прычым функцыі кіраўніка Жук-Грышкевіч мусіў фактычна пераняць яшчэ пры жыцці Міколы Абрамчыка, у 1969 г., у сувязі з хваробай Прэзідэнта.

Такім чынам, 1960-я гг. у дзейнасці Рады адзначаліся традыцыйнымі нутранымі міжасабовымі канфліктамі, фінансавымі складанасцямі, значнай занятасцю Прэзідэнта вонкавымі справамі ды няздольнасцю ўплываць на сітуацыю ў самой арганізацыі. У выніку Рада БНР усё больш адрывалася ад шараговых сяброў беларускіх грамадаў, не маючы ад іх істотнай падтрымкі ды не валодаючы магчымасцямі ўплыву на іх жыццё. Можна сказаць, што Рада пачала выконваць хутчэй сімвалічную функцыю. Разам з тым, на хвалі крызісу ў шэрагах самой Рады паўстала памкненне зрабіць яе дзейнасць больш рэальнай, што вымагала найперш змены лідара. І гэтая змена адбылася натуральным шляхам, але пакінула багата нявырашаных праблемаў.

## Смерць Міколы Абрамчыка і справа архіву Рады БНР

Увосень 1968 г. Мікола Абрамчык трапіў у шпіталь праз траўму, атрыманую на будоўлі хаты. Была зробленая аперацыя, пераломы нібыта зрасліся, аднак у хуткім часе пачаліся іншыя праблемы. У 1969 г. была зроблена новая аперацыя, курс рэабілітацыі, аднак перамагчы цяжкую хваробу ўжо не ўдалося. 29 траўня 1970 г. Мікола Абрамчык памёр у шпіталі Анэ-су-Буа.

Хвароба Прэзідэнта абвастрыла фінансавыя праблемы, і яму перад смерцю зноў давялося звяртацца да сяброў па грошы. Аднак са збіраннем паўсталі праблемы. Вінцэнт Жук-Грышкевіч так тлумачыў іх а. Аўгену Смаршчку:

*«…Мы сьведамы сытуацыі, у якой апынуўся Прэз. Абрамчык і ягоная сям’я й робім што можам, каб ім дапамагчы. Але мусім паінфармаваць Вас прыватна, што справа гэтай дапамогі цягнецца гадамі й дзеля гэтага трапляе на грунт ня надта спрыяльны. Справа ў тым, што некалькі год таму Прэз. Абрамчык прасіў бліжэйшых сяброў аб пазыку на сваю будову добрых пару тысяч дал. і ня ўсім гэту пазыку зьвярнуў. У мінулым годзе на*

[217] Ліст В. Жук-Грышкевіча да М. Абрамчыка ад 14.05.1969. Захоўваецца ў архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

*сэсіі Рады БНР у Нью-Ёрку зноў асабіста зьвярнуўся за пазыкай і атрымаў некалькі тысяч. Пасьля выпадку з нагой бліжэйшыя да яго людзі зразумелі цяжкасьць сытуацыі, іншыя ўзялі пад увагу Ваш лістоўны зварот і прышлі з дапамогай. Толькі сп. Валодзя Русак сабраў і выслаў па-над тысячу дал. Цяпер зноў трагічная сытуацыя, зноў трэба дапамагчы. Не зразумейце мяне блага, я зраблю, што змагу, каб людзі адклікнуліся на няшчасьце й гэтым разам, хачу толькі, каб Вы зразумелі, што, бяручы пад увагу ўсё папярэдняе — спрыятлівага грунту для зьбіраньня ахвяр няма. Тыя-ж самыя, ня так лічныя, людзі даюць на ўсякія патрэбы й нашага грамадзкага, царкоўнага й палітычнага жыцьця. Таму чым далей тым цяжэй зьбіраць, а ахвярадаўцаў ня большае, а меншае. Патрэбны-ж грошы й на справу, калі мы хочам, каб яна не заняпала. У такой сытуацыі я прышоў да выснаву, што ў справе дапамогі Прэз. Абрамчыку й ягонай сям'і мы не павінны абмежыцца толькі вузкім колам сяброў яго і знаёмых, а зьвярнуцца да шырэйшых колаў грамадзтва. Я напісаў сяброў Прэзыдыюму Рады БНР у Нью-Ёрк, каб яны пусьцілі падпісныя лісты да грамадзтва на дапамогу цяжка хвораму Прэз. Абрамчыку й ягонай сям'і…»*[218]

Акрамя нявырашаных фінансавых праблемаў уласнай сям'і, была і яшчэ адна — грамадскага значэння — справа архіваў Рады БНР. Як вядома, разам з тэстаментам на прэзідэнцтва, паводле аповеду Ларысы Геніюш, Мікола Абрамчык атрымаў ад Васіля Захаркі і частку архіву даваеннай Рады. Два чамаданы папераў новы кіраўнік праз Берлін вывез у Парыж і перахоўваў ва ўласнай хаце. Ніна Абрамчык сведчыла, што ў часе працяглых ад'ездаў мужа дакументы захоўваліся ў ячэйцы аднаго з парыжскіх банкаў. Пры гэтым Мікола Абрамчык вельмі сур'ёзна ахоўваў гэтыя паперы ад чужых вачэй. Лічаныя людзі маглі пахваліцца, што іх бачылі: асобныя дакументы змог апублікаваць пазней брытанскі беларусіст Гай Пікарда[219], ды невялікі стосік сшыткаў (16 дакументаў) атрымаў ад Прэзідэнта ў 1960-х гг. Янка Запруднік[220].

Што менавіта ўтрымліваў перададзены Захаркам архіў, ніхто дакладна ацаніць не змог. Антон Адамовіч сцвярджаў: *«Аснаўны архіў БНР быў перададзены ў 1925 г. Урадам БНР у БССР, калі Урад туды пераехаў. Прэзыдыюм Рады БНР, які застаўся за мяжой, на жаль, важных дакумантаў ня меў. Архіў Прэзыдэнта ёсьць у аснаўным архівам эміграцыйным. Архіў гэты находзіўся ў свой час у др. Ст. Грынкевіча й ён яго пераглядаў. Нягледзячы, аднак, на значаньне архіву, ён павінен быць забясьпечаны»*[221]. Сумневы

[218] Ліст В. Жук-Грышкевіча да А. Смаршчка ад 08.07.1969. Захоўваецца ў архіве Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

[219] Picarda G. Diplomatic Missions of The Belarusian National Republic in London (1919–1922) // Belarusian Chronicle. № 15. 2001. P. 9–14.

[220] Запруднік, Янка. Да загадкі дзяржаўнага архіву БНР у Міколы Абрамчыка // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 450–476.

[221] Пратакол № 3 паседжаньня Рады БНР ад 20.06.1970.

адносна значнасці дакументаў выказваў і Янка Запруднік[222]. І тым не менш, радныя яшчэ пры жыцці Міколы Абрамчыка рабілі намаганні, каб архіў быў або перададзены некуды на захаванне, або хаця б скапіяваны. Ні тое, ні другое зрабіць не ўдалося. Праўда, з Прэзідэнтам дамовіліся, што пасля ягонай смерці архіў будзе перададзены ў Беларускую бібліятэку ў Лондане. Паклапаціцца пра перадачу архіву мелася жонка Прэзідэнта.

З увагі на сімвалічную важнасць архіву для Рады, пытанне пра яго перадачу было ўзнятае ўжо ў дзень пахавання Прэзідэнта. Прыбылыя ў Парыж радныя прынялі зварот да Ніны Абрамчык і стварылі адмысловую Архіўную камісію ў складзе айцоў Аўгена Смаршчка ды Льва Гарошкі і Аляксандра Лашука, якая мелася ажыццявіць і аформіць акт перадачы[223]. Разам з архівам новаму кіраўніцтву павінна была перайсці і пячатка Рады БНР. Апошнюю і сапраўды Ніна Абрамчык праз уладыку Часлава Сіповіча перадала новаму Прэзідэнту Вінцэнту Жук-Грышкевічу ўжо ўлетку 1970 г. А вось з архівам узніклі складанасці.

Бадай апошнім, хто бачыў дакументы, быў Янка Запруднік, які згадваў: *«Адведваючы ў Вільпінце пад Парыжам удаву нябожчыка, Ніну Абрамчык, я ня вытрываў, каб не папытацца ў яе пра архіў. Ён на падстрэшшы, сказала яна. Я папрасіў дазволу заглянуць туды. Яна, вагаючыся, згадзілася. Там я пабачыў, думаю, адзін з тых двух чамаданаў, пра якія пісала Ларыса Геніюш (другога ня бачыў). Ён быў да палавіны напоўнены старымі паперамі. Ніякіх сшытых ці зьвязаных папак у ім не заўважыў. Патрымаў у руках сёе-тое. Нічога каштоўнага, як мне здалося, там не было. Часу на дэтальны разгляд я ня меў. Адчуваючы, што сп-ня Абрамчык нэрвуецца з прычыны мае дапытлівасьці, я пасьля пяці-сямі хвілінаў спусьціўся па драбіне ўніз»*[224]. Гэта адбылося якраз у тыя дні, калі радныя прыехалі ў Парыж на пахаванне Прэзідэнта. А ўжо на паховінах з'явілася інфармацыя, што архіў захоўваецца недзе ў банку, да гэтага хутка стала апеляваць і Ніна Абрамчык, зацягваючы кантакты з Архіўнай камісіяй і справу перадачы архіву.

Зважаючы на матэрыяльныя складанасці, жонка Прэзідэнта нагадала радным пра неабходнасць забяспечыць будучыню сына, і ў выніку Альгерд Абрамчык ужо ўвосень 1970 г. быў прыняты ў лонданскі Беларускі інтэрнат для хлопцаў імя Кірылы Тураўскага пад апеку і ўтрыманне айцоў марыянаў. Тым не менш, справа перадачы дакументаў зацягвалася. Ніна адмаўлялася размаўляць то з адным, то з другім сябрам камісіі або радным на гэтую тэму. На першую гадавіну з дня смерці Прэзідэнта айцец Аўген Смаршчок адмыслова паехаў з некалькімі раднымі да Ніны Абрамчык і пасля памінальных мерапрыемстваў падняў пытанне архіву. На гэта пачуў прыблізна наступнае:

---

[222] Запруднік, Янка. Да загадкі дзяржаўнага архіву БНР у Міколы Абрамчыка… С. 458.

[223] Пратакол № 3 паседжаньня Рады БНР ад 20.06.1970.

[224] Запруднік, Янка. Да загадкі дзяржаўнага архіву БНР у Міколы Абрамчыка… С. 455.

*«Архіў БНР знаходзіцца забясьпечаны. Публікаваць яго ня можна. У выніку нашага Камунікату Прэзыдыюму стала ведама Саветам аб існаваньні архіву, таму ёсьць ужо «заказы» на дакумэнты архіву БНР праз чужынецкія бібліятэкі. Ніводная эміграцыя падсавецкая яшчэ не публікуе архіваў, таму й БНР ня мае права публікаваць!*

*Коратка, ня трэба праймацца архівам, архіў добра забясьпечаны, ёсьць людзі, якія дбаюць пра гэта, г.зн. «Арх. Камісыя», архіў трэба захаваць для «сапраўдных гісторыкаў», якія ёсьць толькі на Бацькаўшчыне, а няма такіх на эміграцыі…»*[225]

Такім чынам, Ніна Абрамчык стала казаць пра тое, што нібыта была нейкая іншая архіўная камісія, яшчэ ад Захаркі, якая мелася паклапаціцца пра лёс архіву. Вядома, што жанчына збіралася пісаць у справе архіву да Ларысы Геніюш, але ці сапраўды пісала і які адказ атрымала — невядома. Пасля таго як Ніна Абрамчык, пасварыўшыся з кіраўніцтвам Беларускага інтэрната ў Лондане, ужо ў 1971 г. забрала адтуль Альгерда, для Рады БНР стала відавочна, што атрымаць архіў будзе надзвычай складана.

Увосень 1971 г. была агучана ідэя распачаць судовую справу супраць Ніны Абрамчык для атрымання архіву[226]. Юрыст Гай Пікарда нават падрыхтаваў неабходныя паперы, аднак далей за гэта не пайшло. Супраць выступіў, у прыватнасці, а. Леў Гарошка, які ўважаў, што працэс можа пашкодзіць Ларысе Геніюш, і спадзяваўся ўсё яшчэ залагодзіць справу мірным шляхам.

У снежні 1971 г. Архіўная камісія Рады БНР была распушчаная[227], і зробленая бадай апошняя спроба ўздзеяння на жонку Прэзідэнта:

*«У сьнежні 1971 г. ад імя прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР, з подпісам сакратара Рады БНР Антона Шукелойця, быў высланы ліст сп-ні Ніне Абрамчык аб пастанове «прызнаць Альгерду Абрамчыку стыпэндыю на здабыцьцё асьветы згодна зь ягонымі жаданьнямі й здольнасьцямі да навукі». Пры гэтым ставілася ўмова: «пераданьне архіву Рады БНР яе праўнаму ўласьніку — Радзе БНР». У лісьце было сказана:*

*«Калі Вы згодны на такое заладжаньне справы, просім скантактавацца на працягу аднаго месяца, у часе ад 15 студзеня да 15 лютага 1972 г., са старшынёю Камісіі па пераняцьцю архіву Рады БНР а. Аўгенам Смаршчком. Архіў можа быць пераняты ад Вас а. Аўгенам Смаршчком у прысутнасьці яшчэ аднаго сябры Камісіі з адпаведным запратаколаваньнем перадачы»*[228].

Аднак ніякага адказу на гэта не было, і справа з атрыманнем архіву на пэўны час спынілася. Ніна Абрамчык амаль што перарвала кантакты з бе-

[225] Ліст а. А. Смаршчка да В. Жук-Грышкевіча ад 24.06.1971. Захоўваецца ў архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

[226] Некаторыя дакументы ў справе архіву Міколы Абрамчыка // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 477–481.

[227] Пратакол № 8 8.12.1972. Копія захоўваецца ў архіве Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лондане.

[228] Запруднік, Янка. Да загадкі дзяржаўнага архіву БНР у Міколы Абрамчыка… С. 455.

ларускай эміграцыяй, пакінуўшы справу архіву своеасаблівай таямніцай. Ніхто так і не зразумеў, чаму менавіта архіў не быў перададзены Радзе, як таго жадаў Мікола Абрамчык. Былі розныя версіі, ад продажу яго нейкаму зацікаўленаму боку, напрыклад, спецслужбам СССР да пахавання разам з Прэзідэнтам.

Ніна Абрамчык, чыё жыццё ў якасці жонкі Прэзідэнта не было такім ужо лёгкім, мела вялікую крыўду на беларускую эміграцыю, якая нібыта недаацаніла, недастаткова шанавала яе мужа. Справа стыпендыі для Альгерда так і засталася нявырашанай, яе саму не змаглі ўладкаваць на абяцаную працу на радыё «Свабода». Пасварыўшыся з усімі, яна засталася сам-насам са сваімі праблемамі і крыўдамі. Мусіла знайсці працу (пры жыцці Міколы Абрамчыка Ніна не працавала) — уладкавалася ў парыжскі Музей чалавека, дзе і служыла доўгія гады. Сама арганізоўвала навучанне сына, які стаў інжынерам медыцынскага абсталявання ў буйной кампаніі.

Пасля яе смерці ў 2002 г. Рада БНР звярнулася да Альгерда Абрамчыка з пытаннем пра архіў і атрымала адказ, што ні пра які архіў ён не ведае. У часе падрыхтоўкі гэтага выдання мы таксама сустракаліся з сынам Міколы Абрамчыка — не толькі ў справе архіву даваеннай Рады, але і з пытаннем пра паперы і дакументы самога Прэзідэнта з часоў яго паваеннай дзейнасці. Паводле Альгерда, у яго амаль не засталося нават сямейных здымкаў, а ўсе паперы, нібыта, былі высланыя ў Канаду Жук-Грышкевічам. Пры гэтым паказаць бацькоўскую хату ён наадрэз адмовіўся. Архіў і па сёння застаецца неразгаданай таямніцай.

Праблемы з архівам прымусілі кіраўніцтва Рады БНР задумацца над неабходнасцю ўпарадкаваць хаця б сучасныя ёй паваенныя дакументы. Справа ў тым, што яны сістэматычна не збіраліся, часта заставаліся ў асобаў, што выконвалі ў Радзе тыя ці іншыя функцыі: частка была ў Аўгена Каханоўскага, частка ў Віталя Кажана, частка ў Кастуся Мерляка і г. д. Ужо ў 1972 г. абмяркоўвалася пытанне збірання і арганізацыі архіву, для якога было знойдзена месца ў Фундацыі Крэчэўскага ў Нью-Ёрку[229]. Трэба сказаць, што за часамі Вінцэнта Жук-Грышкевіча паперы Рады былі сапраўды сістэматычна збіраныя, капіяваныя, і сёння іх можна знайсці амаль цалкам, у ідэальным для даследавання стане, у архівах Лондану, Атавы і Нью-Ёрка. У адрозненне ад архіваў Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка, фрагменты якіх яшчэ можна адшукваць сярод розных эміграцыйных збораў.

Праз нявырашанасць справы архіву шмат для каго ў Радзе БНР і ў беларускай грамадзе на Захадзе асоба Міколы Абрамчыка значна згубіла аўтарытэт. Так, яму аддавалі належнае за аднаўленне Рады і тую міжнародную працу, якую ён рабіў, аднак згуба для грамадства папераў даваеннай БНР уважалася за асабістую віну Прэзідэнта.

---

[229] Ліст В. Тумаша да В. Жук-Грышкевіча ад 26.11.1972. Захоўваецца ў архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

Рада БНР часоў Міколы Абрамчыка адыгрывала надзвычай значную, часам нават вырашальную, ролю ў лёсе паваеннай беларускай эміграцыі на Захадзе. Адноўленая як працяг даваеннай традыцыі беларускай дзяржаўнасці, яна выконвала важную рэпрэзентацыйную функцыю на міжнароднай арэне. Магчыма, менавіта дзякуючы гэткай працы па агучванні нацыянальных беларускіх інтарэсаў на пачатку 1990-х гг. так хутка адбылося міжнароднае прызнанне незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Разам з тым, народжаная ў палітычным змаганні, паваенная Рада паспрыяла расколу эміграцыйнага грамадства, існаванню нутранай барацьбы, якая працягвалася бадай да канца XX ст. Відавочна, што не апошнім фактарам зацятасці гэтага змагання ў першыя дзесяцігоддзі быў сам Мікола Абрамчык, што часам даволі жорстка ставіўся да праяваў апазіцыі не толькі з боку палітычных апанентаў, але і ў самой Радзе.

З’яўляючыся структурай эміграцыйнай, Рада БНР дзеяла ў тых самых умовах, што і іншыя беларускія арганізацыі на Захадзе. Тут заўважныя аднолькавыя праблемы і працэсы, што адбываліся і паўсюль. Рада задумвалася як палітычны цэнтр, які будзе каардынаваць і кантраляваць дзейнасць іншых прыхільных арганізацый, аднак да канца 1960-х гг. стала відавочна, што з гэтай роляй яна не спраўляецца, ператвараючыся хутчэй у сімвал незалежнай беларускай дзяржаўнасці на эміграцыі.

У гісторыі паваеннай Рады БНР застаецца яшчэ багата невядомага і незразумелага. І гэтая кніга — толькі першы прыступак як да стварэння поўнага летапісу ейнай дзейнасці, гэтак і да збору архіву Рады БНР.

## *Раздзел II:*
## ПРАТАКОЛЫ

*Пратаколы пасяджэнняў з'яўляюцца важнымі, але даволі спецыфічнымі гістарычнымі крыніцамі. З аднаго боку, яны фіксуюць сам факт той ці іншай падзеі, колькасць удзельнікаў, разгляданыя пытанні ды прынятыя пастановы. З іншага боку, дакладнасць натавання ходу саміх пасяджэнняў у пратаколах можа адрозніваецца ў залежнасці ад асобы сакратара, характару падзеі, мэты выкарыстання дакумента. Прыкладам, пры публікацыі пратаколаў Рады БНР, як у выпадку з пратаколамі Восьмай сесіі*[230]*, дэталі абмеркавання пытанняў скарачаліся, падрабязнасці апускаліся. Часам і ў звычайных шараговых пратаколах словы ўдзельнікаў не фіксаваліся дакладна, але падаваўся агульны сэнс.*

*Прадстаўленыя тут пратаколы, за выключэннем некалькіх адмыслова пазначаных, узятыя са збораў Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Выбарка далёка не вычарпальная, у ёй адсутнічаюць дакументы некаторых сесіяў, пасяджэнняў Ураду ці Прэзідыума, якія тым часам не ўдалося выявіць. Тым не менш, дзякуючы змешчаным тут матэрыялам, найпаўнейшаму на сёння збору, можна зразумець, што ўяўляла сабою і чым жыла Рада БНР часоў Міколы Абрамчыка, прасачыць, якія ідэі і планы мелі стваральнікі і якая частка гэтых ідэяў была рэалізаваная, убачыць сутнасць нутраных супярэчнасцяў арганізацыі, пачуць сапраўдныя галасы ўдзельнікаў.*

*Для лепшага разумення зместу падзеяў і характару асобаў, што фігуруюць у пратаколах, былі зробленыя каментары. Біяграфічныя каментары да імёнаў беларускіх дзеячаў у большасці выпадкаў акрэсліваюць дзейнасць асобы да часу згадкі ў дакуменце. Правапіс арыгіналаў захаваны, за выняткам памылак друку, ды праведзеная ўніфікацыя напісання ўласных імёнаў.*

---

[230] Гэтыя пратаколы былі апублікаваныя ў «Бюлетэні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі» (№ 1. 1957).

# ПРАТАКОЛ № 2 ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР 21 ЧЭРВЕНЯ 1948 Г. У ОСТЭРГОФЭНЕ[231]

Прысутнічалі:

Старшыня Рады БНР Прэз. інж. М. Абрамчык, др. І. Гагалінскі[232], пасол А. Стагановіч[233], др. Станіслаў Станкевіч[234], палкоўнік М. Дзямідаў[235], др.

---

[231] **Остэргофен** (ням. *Osterhofen*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Баварыя, на чыгуначнай лініі Рэгенсбург — Пасаў. У 1946 г. тут быў створаны беларускі *DP*-лагер, насельніцтва якога складала больш за 400 чалавек.

[232] **Ігнат Гагалінскі** — грамадска-палітычны дзеяч, медык. У 1920-х гг. вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Ад 1928 г. быў старшынёй Беларускага студэнцкага саюза і ЦК Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Галоўны рэдактар часопіса «Студэнцкая думка» (1928–1930?).

[233] **Аляксандр Стагановіч** (25.01.1890, в. Нясутычы (сёння Навагрsucceedsдскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.12.1988, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. У Першую сусветную вайну знаходзіўся ў складзе Расійскага экспедыцыйнага корпуса ў Францыі. У 1920 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. У 1925 г. уступіў у БСРГ. У 1928 г. вылучаны дэпутатам ад Наваградскай акругі ў польскі сойм па спісе «Змагання», але за два дні да выбараў арыштаваны і зняволены. Пасля абрання ў сойм пастановаю маршалка быў вызвалены. У чэрвені 1928 г. быў зноў зняволены, але суд не даказаў удзелу Стагановіча ў камуністычнай дзейнасці. У 1929 г. адмовіўся ад дэпутацкага мандата. Праз некаторы час быў арыштаваны і асуджаны на шэсць гадоў турмы. Падчас нямецкай акупацыі — кіраўнік БНС на Наваградскую акругу. Пакінуў падрабязныя ўспаміны, выдадзеныя ў Мінску асобнай кнігай (2011 г.).

[234] **Станіслаў Станкевіч** (23.02.1907, в. Арляняты, Ашмянскі пав. Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл. — 06.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. скончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1936 г. абараніў доктарскую дысертацыю «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі». Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюза, рэдагаваў часопіс «Студэнцкая думка». У 1937–1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі і Балгарыі. У 1939–1941 гг. выкладчык у Наваградскай педагагічнай вучэльні. Падчас нямецкай акупацыі — бурмістр Барысава (1941–1943), намеснік Прэзідэнта БЦР на Баранавіцкую акругу (1944). Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 гг. у Нямеччыне рэдагаваў берлінскую газету «Раніца». Ад 1947 г. — радны БНР. У 1948–1962 гг. — рэдактар газеты «Бацькаўшчына» (Мюнхен).

[235] **Мікола Дзямідаў** (10.12.1888–23.06.1967, Чыкага, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, публіцыст. Удзельнік Першай сусветнай вайны, у 1918 г. займаўся ў Вільні арганізацыяй беларускіх вайсковых адзінак. Улетку 1920 г. уступіў у армію С. Булак-Балаховіча, арганізаваў асобны беларускі батальён, які ўдзельнічаў у паходзе 1920 г. Ад 1923 г. у Латвіі на чале таварыстваў «Беларуская хатка» і «Рунь». У 1940 г. арыштаваны і этапаваны ў Маскву, але неўзабаве вызвалены. У 1941 г. кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў

В. Войтанка[236], М. Рагажэцкі[237], М. Міцкевіч[238], М. Панькоў[239], В. Папуцэвіч[240], П. Манькоўскі[241], М. Кунцэвіч[242].

інспектарам Генеральнага камісарыята, потым рэферэнтам па школьных справах. Удзельнічаў у фармаванні лідскага батальёна БКА.

[236] **Віктар Войтанка** (на эміграцыі **Васілеўскі**, 06.11.1912, фальв. Мачульня Наваградскага пав. — 25.04.1972, Самерсэт, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч, лекар, сын Сцяпана Войтанкі. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага царкоўнага сабора. Ад 1943 г. — акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. — доктар-інспектар Беларускай Краёвай Абароны. У 1945–1949 гг. жыў у паўднёва-заходняй Нямеччыне (Бадэн-Вюртэмбэрг, французская зона акупацыі).

[237] **Мечыслаў Рагажэцкі** (сапр. Мікалай Перагуд-Пагарэльскі, 1894, Случчына — 18.12.1964, Нью-Ёрк), грамадскі дзеяч, педагог. Скончыў матэматычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам. У часе нямецкай акупацыі нядоўгі час працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Гандлёвай школе ў Баранавічах. У Нямеччыне выкладаў матэматыку ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы.

[238] **Міхась Міцкевіч** (псеўданім Антось Галіна, 13.07.1897, в. Мікалаеўшчына Менскага пав. (цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскае вобл.) — 25.10.1991, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч, пісьменнік, педагог, наймалодшы брат Якуба Коласа. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Удзельнічаў у І Усебеларускім кангрэсе. Працаваў школьным інспектарам, арганізоўваў беларускае школьніцтва. Ад верасня 1939 г. быў настаўнікам, потым дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне. Адзін з арганізатараў беларускага лагера *DP* у Рэгенсбургу. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Нямеччыне, а таксама Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, дзе працаваў настаўнікам.

[239] **Мікола Панькоў** (псеўданім **Мікола Вольны** і інш., 12.06.1911, Люцын (сёння Лудза, Латвія) — 07.01.1995, ЗША), грамадскі дзеяч, бібліёграф, публіцыст. (Больш падрабязную біяграфічную інфармацыю глядзі ў раздзеле «Асобы».)

[240] **Вацлаў Пануцэвіч** (да эміграцыі **Папуцэвіч**, псеўданім **Мікола Волаціч**, 1910, в. Малая Альшанка Гарадзенскага пав. (сёння Гарадзенскі р-н) — 25.08.1991, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог. У 1936–1939 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Уваходзіў у склад Беларускага інстытута навукі і гаспадаркі, быў сябрам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939–1941 гг. настаўнічаў у Гародні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1946 г. кіраваў Згуртаваннем крывіцкіх скаўтаў на чужыне.

[241] **Пётра Манькоўскі** (1916, г. Таропец (сёння Цвярская вобл. Расіі) — 2002, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, публіцыст. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўніверсітэтах Вільні, Мюнхена, Нью-Ёрка. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША.

[242] **Мікола Кунцэвіч** (02.01.1907–28.09.1985, Санкт-Пецярбург, Фларыда), грамадскі дзеяч. У Нямеччыне быў старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта. Выкладаў англійскую мову ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы.

Парадак дня:
1. Уканстытуяваньне Прэзыдыюму Рады БНР;
2. Пакліканьне паасобных камісіяў;
3. Справа апублікаваньня матэрыялаў Сэсіі Рады БНР;
4. Царкоўныя справы;
5. Рознае.

Да пункту 1: Першым заступнікам Старшыні Рады БНР, выбранага папярэдняй Сэсіяй Рады БНР, заакцэптавана сп. др. І. Гагалінскага, на другога заступніка Старшыні Рады БНР выбраны сп. пасол А. Стагановіч, на сакратара Прэзыдыюму Рады БНР выбраны др. С. Станкевіч.

Да п. 2: Пастаноўлена арганізаваць наступныя Камісіі Рады БНР і вызначана наступных ейных старшыняў: 1. Камісія вонкавых справаў пад старшынствам др. В. Войтанкі; 2. Камісія нутраных справаў пад старшынствам В. Папуцэвіча; 3. Камісія вайсковых справаў пад старшынствам пал. М. Дзямідава; 4. Фінансавая Камісія пад старшынствам М. Рагажэцкага; 5. Камісія праўная пад старшынствам М. Кунцэвіча; 6. Культурна-асьветная камісія пад старшынствам М. Міцкевіча; 7. Інфармацыйная камісія пад старшынствам М. Панькова й П. Манькоўскага.

Да п. 3: Пастаноўлена арганізаваць выдаваньне Інфармацыйнай камісіяй «Беларускага Прэсавага Бюра»[243] дзеля апублікаваньня матэрыялаў і пастановаў органаў БНР і іншых палітычных і грамадзкіх арганізацыяў. Важнейшыя з гэтых матэрыялаў выдаваць у спэцыяльных выданьнях «БелПрэсБюра» ў чужых мовах. Пастановы аб вонкавай і нутраной палітыцы, прынятыя Сэсіяй Рады БНР 21.06.48, выдрукаваць у «БелПрэсБюры», скуль перадрукуе іх «Бацькаўшчына»[244], а пастанову аб вонкавай палітыцы зьмясьціць таксама ў іншамоўных выданьнях «БелПрэсСлужбы»[245].

Да п. 4: Не афіцыяльна, але фактычна Рада БНР павінна падтрымліваць акцыю аднаўленьня Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы і ў гэтым кірунку а) праводзіць адпаведную прапаганду сярод праваслаўных беларусаў; б) старацца аб прыезьдзе з Францыі сьвятара Фінькоўскага[246] й

---

[243] Верагодна, мелася ідэя аднаўлення практыкі выдання Бюлетэняў Прэс-Бюро БНР, на ўзор тых, што выходзілі ў Рызе (1919–1921), Данцыгу (1921), Празе (1926). Аднак насамрэч наладзіць выданне такіх бюлетэняў не ўдалося. Выдрукаваныя ў газеце «Бацькаўшчына» пастановы Сесіі Рады БНР былі падпісаныя «Беларускае Прэсбюро (Парыж — Лёндан)».

[244] Інфармацыя пра пастановы Сесіі Рады БНР была надрукавана ў газеце «Бацькаўшчына» № 23 (26) за 04.07.1948 і № 24 (27) за 11.07.1948.

[245] 21 ліпеня 1948 г. выйшаў Бюлетэнь БНР, выдадзены ад імя *Whiteruthenian Press Service.* Аднак пра далейшыя такога кшталту друкі, у тым ліку і іншамоўныя, інфармацыі не захавалася.

[246] **Уладзімір Фінькоўскі** (13.02.1906, в. Гальшаны (сёння Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл.) — ?), рэлігійны дзеяч. У 1927 г. пасвечаны ў святара. За супрацiў паланізацыі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы пераследаваўся ўладамі.

высьвячэньне яго на япіскапа; в) высьвячэньне на япіскапа У. Тамашчыка[247] й М. Дзямідава[248], высьвячэньне сьвятароў для Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы; д) выдаваць беларускі царкоўны аўтакефальны орган. Арганізацыйнае праводжаньне гэтае акцыі даручаецца др. В. Войтанку й палкоўніку М. Дзямідаву.

Да п. 5: Даручана сп. В. Папуцэвічу арганізаваць кантролю беларускага нутранога арганізацыйнага жыцьця. Пастаноўлена выдаць сэрыю беларускіх паштовых марак й даручана выкананьне гэтае пастановы Фінансавай камісіі[249].

*Старшыня Рады БНР / Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык*

*Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР др. Ст. Станкевіч*

---

У 1930-х гг. працаваў у Пінску і Пружанах. Першы святар, што прыехаў у Мінск пасля пачатку нямецкай акупацыі. Заснаваў царкоўна-будаўнічы камітэт, які рамантаваў ацалелыя ў беларускай сталіцы цэрквы. Наведваў іншыя гарады і мястэчкі Усходняй Беларусі, дзе стварыў некалькі аналагічных камітэтаў. У 1942 г. праз канфлікт з беларускімі дзеячамі выдалены ў Варшаву. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны жыў у Заходняй Нямеччыне, Францыі.

[247] **Васіль (Уладзімір Тамашчык,** (15.06.1900, в. Вялікія Азяраны Гарадзенскага пав. (сёння Сакольскі пав. Падляшскага ваяв., Польшча) — 09.06.1970, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійна-грамадскі дзеяч, архіепіскап БАПЦ. У 1915 г. разам з сям'ёю як бежанец трапіў у Омск (Сібір), дзе скончыў сярэднюю школу. У 1921 сям'я вярнулася ў Дубляны. Ад гэтага часу далучыўся да беларускага руху, належаў да КПЗБ. У 1927 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на тры гады турмы. Ад 1930 г. жыў у Чэхаславаччыне. Скончыў агранамічны факультэт пражскай Палітэхнікі, працаваў асістэнтам у Пражскім інстытуце заалогіі. Браў удзел у грамадскім беларускім жыцці. Некаторы час быў сакратаром Старшыні Рады БНР Васіля Захаркі. З пачаткам Другой сусветнай вайны пераехаў у Беласток. Быў намеснікам рэдактара газеты «Новая дарога», працаваў у Беларускім камітэце. Ад 1944 г. — у Нямеччыне. Быў абраны старшынёй Беларускага цэнтральнага камітэта.

[248] Планаванае пасвячэнне Міколы Дзямідава на епіскапа было немагчымае з тае прычыны, што ён быў жанаты.

[249] Вынікам гэтай пастановы стала з'яўленне да канца 1950-х гг. двух серый марак БНР. На першай — Старшыні Рады БНР Пётра Крэчэўскі (марка фіялетавага колеру вартасцю ў тры талеры) і Васіль Захарка (марка чырвонага колеру вартасцю адзін талер), а таксама Дом Рады БНР (марка зялёнага колеру вартасцю 50 грошай); на другой — Пагоня (марка чырвонага колеру вартасцю 25 грошай) і мапа Беларусі (марка сіняга колеру вартасцю 10 грошай). Эскізы апошніх трох марак зрабіў Уладзімір Шыманец.

# ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 20.8.1948 Г., МІХЕЛЬСДОРФ[250] — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні:

І-шы віцэ-прэм'ер і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі[251], 2-гі віцэ-прэм'ер і міністар народнае гаспадаркі інж. Мікалай Гарошка[252], міністар вайсковых справаў палкоўнік Францішак Кушаль[253], міністар культуры і веравызнаньняў др. Аляксандар Орса[254],

---

[250] **Міхельсдорф** (ням. *Michelsdorf*) — вёска за 2 км ад горада Кам (Cham) у Ніжняй Баварыі (Нямеччына), дзе ў бараках былога вайсковага лётнішча ўлетку 1946 г. былі паселеныя беларусы, вывезеныя з Рэгенсбурга. Беларускі *DP*-лагер у Міхельсдорфе быў адным з найбуйнейшых у Нямеччыне.

[251] **Аўген Каханоўскі** (да эмігр.**Калубовіч**, 05.03.1912, в. Ціхінічы Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (сёння Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл.) — 25.05.1987, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч, пісьменнік, гісторык. (Больш падрабязную біяграфічную інфармацыю глядзі ў раздзеле «Асобы».)

[252] **Гарошка Мікола** (05.05.1902, в. Трашчыцы Наваградскага пав. Мінскай губ. (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 11.02.1979, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, бацька Расціслава Гарошкі. Вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе.

[253] **Францішак Кушаль** (16.02.1895, Пяршаі (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.) — 25.05.1968, Рочэстар, штат Нью-Ёрк, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, муж Наталлі Арсенневай. У 1915–1917 гг. служыў у царскім войску. У 1919–1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася стварэннем беларускіх вайсковых адзінак у складзе польскага войска. У 1924–1939 гг. кадравы афіцэр польскага войска. Увосень 1939 г. трапіў у савецкі палон, у красавіку 1941 г. выпушчаны пад нагляд НКВД. У 1941–1943 гг. займаў розныя вайсковыя пасады ў Мінску: быў кіраўніком афіцэрскіх курсаў, начальнікам штаба Самаахковы. У лютым 1944 г. стаў камандзірам Беларускай Краёвай Абароны.

[254] **Аляксандр Орса** (24.07.1896, Нягневічы (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 02.11.1959, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, педагог. У 1913 г. скончыў наваградскае гарадское вучылішча, потым — двухгадовыя настаўніцкія курсы. Мабілізаваны ў царскае войска, скончыў школу прапаршчыкаў і быў накіраваны на фронт. У 1918 г. вярнуўся на радзіму, настаўнічаў. У 1923–1929 гг. вучыўся ў Празе ва Украінскім педагагічным інстытуце, потым у Карлавым універсітэце. Доктар прыродазнаўчых навук. У 1929–1934 гг. выкладаў прыродазнаўства ў наваградскай беларускай гімназіі. У 1938 г. разам з сям'ёю прымусова выселены ў этнічную Польшчу, аднак з пачаткам Другой сусветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў, працаваў школьным інспектарам у Наваградскай акрузе. Ад 1944 г. — у Нямеччыне. Быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу, Міхельсдорфе.

міністар фінансаў сп. Сымон Кабыш[255], Дзяржаўны сакратар сп. Гіпаліт Паланевіч[256].

Адчыняючы першае паседжаньне новага габінэту Рады міністраў БНР, віцэ-прэм'ер мгр. А. Каханоўскі адзначыў наступнае:

*«Наш габінэт пачынае сваю працу ў дзвюх неспрыяльных акалічнасьцях: міжнароднай і нутраной. У міжнароднай дзеля таго, што Беларусь знаходзіцца пад цяжкой маскоўска-бальшавіцкай акупацыяй, а нутраной — дзеля таго, што побач Ураду БНР існуе г. зв. Урад БССР із сваімі прадстаўнікамі ў ЗН[257], а цэлы сьвет і дагэтуль яшчэ глухі на нашу нацыянальную праблему. Гэта нутраная трагэдыя з прычыны аднаўленьня БЦР яшчэ больш паглыбляе разьбіцьцё нашага народу, што падважвае аўтарытэт Ураду БНР і ўтрудняе ягоную працу.*

*Нашыя праціўнікі закідаюць нам няпраўнасьць нашага мандату. Таму я ўважаю за канечна патрэбнае прыгадаць тут некаторыя дадзеныя з гісторыі Урадаў БНР, заўсёды пакліканых Радаю БНР, якая мае мандат ад І-га Усебеларускага кангрэсу 1917 г.*

*Наш габінэт ёсьць ужо 11-ы з чаргі.*

*І-шы габінэт Я. Варонкі — Народны Сакратарыят — дзеяў ад 19.2.1918 да V.1918.*

*2-гі габінэт — Часовая Рада Пяцёх — ад V.1918 да V.1918 г.*

*3-ці габінэт — Рамана Скірмунта — ад V.1918 да V.1918 г.*

*4-ці габінэт — д-ра Серады — ад VI.1918 да VI.1918 г.*

*5-ты габінэт — Антона Луцкевіча — ад VI.1918 да 13.12.1919 г.*

*6-ты габінэт — В. Ластоўскага — ад 13.12.1919 г. да 23.8.1923 г.*

*7-ы габінэт — д-ра Цьвікевіча — ад 23.8.1923 да 10.1925 г.*[258]

---

[255] **Сымон Кабыш** (да эмігр. **Кандыбовіч** 20.07.1890, в. Старыца Слуцкага пав. Мінскай губ. (сёння Капыльскі р-н Мінскай вобл.) — 17.09.1971, Мюнхен, Нямеччына), грамадскі дзеяч, гісторык. Ад 1926 г. — сябра ЦК КП(б)Б, у 1931–1933 гг. — кіраўнік справаў СНК БССР, у 1935 г. — начальнік Наркамхарчпраму СССР пры СНК БССР. Падчас Другой сусветнай вайны — сябра Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, Беларускай Цэнтральнай Рады (кіраўнік фінансавага аддзела). Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. У Нямеччыне быў у Беларускім нацыянальным камітэце.

[256] **Гіпаліт Паланевіч** (псеўданім **Няміга,** 23.07.1907, Міншчына — 24.10.1997, Нью-Ёрк, ЗША), грамадска-культурны дзеяч, педагог, гісторык. (Больш падрабязную біяграфічную інфармацыю глядзі ў раздзеле «Асобы».)

[257] **ЗН** — **Злучаныя Нацыі** (ад анг. *United Nations*) — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

[258] Паводле звестак Анатоля Сідарэвіча, паслядоўнасць урадаў БНР выглядала па-іншаму: першы ўрад (Язэпа Варонкі) — 20 лютага — 9 ліпеня 1918 г.; другі ўрад (Рамана Скірмунта) — 9 ліпеня — 22 ліпеня 1918 г.; трэці ўрад (Янкі Серады) — 22 ліпеня — 11 лістапада 1918 г.; чацвёрты ўрад (Антона Луцкевіча) — 11 лістапада 1918 г. — 28 лютага 1920 г.; пяты ўрад (Вацлава Ластоўскага) — 13 снежня 1919 г. — 20 траўня 1922 г.; шосты ўрад (Пётры Крэчэўскага) — 11 кастрычніка 1922 г. —

*8-ы габінэт — В. Захаркі — ад 10.1925 г. да 3.1943 г.*[259]

*9-ы габінэт пасьля сьмерці В. Захаркі ўзначальвае інж. М. Абрамчык; ён-жа й Старшыня Рады БНР (3.1943 — 3.1946)*[260]*.*

*10 габінэт (пашыраны) — інж. М. Абрамчыка — ад 3.1946 да 21.6.1948 г.*

*Урэшце, наш 11-ы габінэт, зацьверджаны апошняй Сэсіяй Рады БНР 21.6.1948 г. у складзе:*

*Др. Вітаўт Тумаш*[261] *— Прэм'ер і міністар аховы здароўя.*
*Мгр. Аўген Каханоўскі — 1-шы віцэпрэм'ер і міністар замежных справаў.*
*Інж. Мікола Гарошка — 2-гі віцэпрэм'ер і міністар народнае гаспадаркі.*
*Др. Станіслаў Грынкевіч*[262] *— міністар нутраных справаў.*
*Палкоўнік Францішак Кушаль — міністар вайсковых справаў.*
*Др. Аляксандар Орса — міністар культуры й веравызнаньняў.*
*Антон Адамовіч*[263] *— міністар прэсы й інфармацыі.*
*Мгр. Лявон Галяк*[264] *— міністар юстыцыі.*

---

23 жніўня 1923 г.; сёмы ўрад (Аляксандра Цвікевіча) — 23 жніўня 1923 г. — 15 кастрычніка 1925 г. (Гл.: Сідарэвіч, Анатоль. Урады БНР і кабінэт Рамана Скірмунта // Arche. № 4 (67). 2008. С. 124.)

259 Пасля самароспуску ўраду Цвікевіча працягнула дзейнасць Рада БНР на чале з Пётрам Крэчэўскім. Старшынёй Рады міністраў БНР стаў Васіль Захарка, які ад 1928 г. да 1943 гг. спалучаў гэтую пасаду з пасадай Старшыні Рады БНР.

260 У тэстаменце Васіля Захаркі сцвярджалася, што Мікола Абрамчык пераймаў становішча Старшыні Рады БНР і ўсе абавязкі, якія раней выконваў Захарка (паводле копіі тэстамента, захаванай у архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане).

261 **Вітаўт Тумаш** (20.12.1910, в. Спягліца, Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёння в. Свяцілавічы Смаргонскі р-н Гарадзенская вобл.) — 27.04.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца). (Больш падрабязную біяграфічную інфармацыю глядзі ў раздзеле «Асобы».)

262 **Станіслаў Грынкевіч** (1912–18.04.1966, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч. Выпускнік Віленскага ўніверсітэта, сябра Беларускага студэнцкага саюза. Сябра рэдкалегіі часопіса «Калоссе». У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Ад восені 1941 г. да восені 1943 г. сакратар Беларускага камітэта самапомачы ў Берліне, выкладчык на настаўніцкіх курсах пры камітэце. Пазней рэдактар перыёдыкаў «Раніца» і «Беларускі работнік».

263 **Антон Адамовіч** (26.06.1909, Мінск — 12.06.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. (Больш падрабязную біяграфічную інфармацыі глядзі ў раздзеле «Асобы».)

264 **Леанід Галяк** (31.10.1910, Вільня — 03.04.1980, Стэмфард, ЗША), грамадскі дзеяч, юрыст. У 1930–1935 гг. вучыўся на хімічным, а пазней юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Мінскай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944–1945 гг. — супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх журналістаў на чужыне і выдання «Летапіс беларускай эміграцыі».

*Інж. Лявон Рыдлеўскі*[265] *— міністар працы й сацыяльнага забясьпечаньня.*

*Сп. Гіпаліт Паланевіч — Дзяржаўны сакратар.*

*З гэтага агляду гісторыі габінэтаў Ураду БНР выцякае, што:*

*а. Рада і Урад БНР маюць мандат ад самога Беларускага Народу; гэты мандат з гледзішча міжнароднага права захоўвае сваю поўную праўнасьць аж да наступных вольных выбараў у Беларусі, што можа быць толькі па вызваленьні яе з-пад усякае акупацыі;*

*б. гэтага мандату Рада і Урад БНР нікому й ніколі не перадавалі;*

*в. свайго існаваньня й дзейнасьці ў працягу 30-х год Рада й Урад БНР не перарывалі, робячы ўсё, што было магчымым;*

*г. Рада і Урад годна захавалі чысьціню незалежніцкіх прынцыпаў, ня спляміўшы іх ніякімі ўгодамі акупантам;*

*Што-ж да БЦР, то гэтая інстытуцыя ніколі ня была раўназначнай Радзе БНР; яна была вышэйшым беларускім адміністрацыйным органам, узалежненым ад нямецкіх акупацыйных уладаў.*

*Сувэрэнам Беларусі і тое ня ўсяе ейнае тэрыторыі быў г. зв. Гэнэральны Камісар Беларусі, а БЦР:*

*а. паўстала ня з волі самога народу, а акупацыйных уладаў;*

*б. Прэзыдэнт БЦР назначаны й мог быць адкліканы, згодна статуту, дадзенага Гэнэральным Камісарам, ім-жа; сябры БЦР на прапазыцыю Прэзыдэнта таксама зацьверджаны Гэнэральным Камісарам Беларусі, таму ён-жа іх мог пры жаданьні й звольніць;*

*в. БЦР поўнасьцю залежала ад акупацыйных уладаў, а не народу, нат бяз згоды немцаў яна не магла вызначаць сваіх намесьнікаў на акругі;*

*г. БЦР мела вузкія, абмежаваныя правы й функцыі, вызначаныя й кантраляваныя акупацыйнымі ўладамі;*

*д. урэшце, сваю дзейнасьць спыніла з капітуляцыяй Нямеччыны, разьвязаўшыся сама 24.9.1945 г.»*[266]

Пасьля гэтага віцэ-прэм’ер прыпомніў, што 1-ае неафіцыйнае паседжаньне габінэту адбылося адразу пасьля Сэсіі Рады БНР 21.6.1948 г., на якім прысутнічалі: прэм’ер-міністар др. Тумаш В., міністар прэсы і інфармацыі

[265] **Лявон Рыдлеўскі** (02.10.1903, в. Ульянавічы Магілёўскай губ. (сёння Сенненскі р-н Віцебскай вобл.) — 24.10.1953, Лондан, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. Каля 1908 г. пераехаў з бацькамі ў Слуцк. Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі. У 1920 г. далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Пасля раззбраення паўстанцаў на польскай тэрыторыі, у 1921 г., жыў у Вільні, дзе вучыўся на настаўніцкіх курсах. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1923 г. пераехаў у Прагу. Скончыў Політэхнічны інстытут (1928) з дыпломам інжынера. У 1929 г. разам з М. Абрамчыкам выехаў у Францыю. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусветнай вайны быў у шэрагах французскага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Аб’яднання беларускіх работнікаў у Францыі, выданні «Беларускіх навінаў».

[266] Маецца на ўвазе пастанова пасяджэння БЦР 23–24 верасня 1945 г. у Эшэрсбэкене пра часовае спыненне дзейнасці арганізацыі.

рэд. Адамовіч А., міністар фінансаў сп. Кабыш С., міністар працы й сацыяльнага забясьпечаньня інж. Рыдлеўскі Л. і Дзяржаўны сакратар сп. Паланевіч Г. На тым паседжаньні было ўмоўлена апрацаваць па кажнаму міністэрству пляны працы, умоўна ўсталена дата й мейсца наступнага ўжо афіцыйнага паседжаньня Рады міністраў (каля 15.7.1948 г. у Рэгенсбургу[267]), выказана патрэба неадкладна кажнаму міністру пачаць працу ў сваім рэсорце.

*У міжчасе быў высланы ліст д-ру В. Тумашу, якога павінен быў, апрача таго, паінфармаваць аб пастановах Сэсіі Рады з даручэньня Прэзыдэнта др. Гагалінскі і абмеркаваць супольныя зь ім пытаньні, зьвязаныя з прэм'ерствам д-ра Тумаша.*

*15.7.1948 г. паседжаньне не адбылося, бо не магла зьявіцца большыня сяброў Ураду, апрача гэтага ня было ніякага адказу на лісты ад прэм'ера д-ра Тумаша. Ліст ад д-ра Тумаша быў атрыманы толькі 2.8.1948 г., у якім ён заявіў аб сваёй адмове ад прэм'ерства й прапанаваў узяць гэтую функцыю 1-му віцэпрэм'еру; гэткая-ж прапанова паступіла і ад Прэзыдэнта БНР на выпадак, калі др. Тумаш станоўка адмовіцца.*

*Забавязаны да ініцыятывы*, кажа віцэ-прэм'ер сп. А. Каханоўскі, *я выслаў новыя запросіны на паседжаньне ў Рэгенсбургу на 14.8.1948 г. з просьбай пісьмова падцьвердзіць атрыманьне запросінаў. Аднак і на гэты раз ад д-ра С. Грынкевіча прыйшло паведамленьне, што ён ня зможа прыехаць, а ад сп. А. Адамовіча і інж. М. Гарошкі ня было ніякага адказу.*

*Такім чынам, паўстала сытуацыя: др. В. Тумаш ад прэм'ерства адмовіўся, што канчальна мае разьвязаць Прэзыдэнт і Рада, інж. Л. Рыдлеўскі прыехаць із Францыі ня можа, мгр. Л. Галяк мае дазвол гэтым разам адсутнічаць, др. С. Грынкевіч ня будзе, інж. М. Гарошка й рэд. Адамовіч — няведама. З гэтае прычыны паседжаньне Ураду было зноў адклікана, а я выехаў у Рэгенсбург, дзе адбыў нараду із прыехаўшым туды інж. М. Гарошка[м].*

*Сёньня мною атрыманы афіцыйны ліст ад рэд. сп. Ант. Адамовіча, у якім ён паведамляе, што з прычыны дрэннага стану здароўя зракаецца свайго становішча міністра прэсы і інфармацыі. З гэтае прычыны я прапаную зьвярнуцца да яго пісьмова з просьбаю выясьніць, ці ягоная адмова ёсьць канчатковая*.

(Прапазыцыя мгр. А. Каханоўскага прыймаецца).

*Сёньняшнее паседжаньне я вырашыў склікаць, не чакаючы на канчатковае разьвязваньне справы з прэм'ерствам, каб рабіць, што магчыма. Пратаколы паседжаньняў і ўсе пастановы мы будзем высылаць усім да ведама й выкананьня. Пры гэтым я прыйшоў да выснаву, што прынамся да часу, пакуль мы не здабудземся на фінансавыя сродкі, мы змушаны будзем прыняць новы мэтад працы: працы на месцах з максымальным выкарыстаньнем*

267 **Рэгенсбург** (ням. *Regensburg*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Баварыя. У першыя пасляваенныя гады ў яго ваколіцах размяшчаўся адзін з найбуйнейшых лагераў для перамешчаных асобаў. Тут жа ў чэрвені 1945 г. быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт.

*пошты як асноўнага ці бадай адзінага сродку сувязі між намі й нашымі супрацоўнікамі. Выезды могуць быць у выключных выпадках — толькі дзеля канечных сустрэчаў із прадстаўнікамі іншых народаў.*

*На жаль, практыка апошніх 2-х месяцаў паказала неакуратнасьць некаторых нашых адказных асобаў, якія, добра ведаючы сытуацыю, ня лічаць за свой абавязак адказваць на лісты й прысылаць патрэбныя інфармацыі. Дагэтуль мы не атрымалі ад Сакратарыяту Рады БНР пратаколу Сэсіі Рады ад 20.6.1948 г., а пратакол гэты нам вельмі патрэбны, бо ў ім запісаны пастановы, якія мы абавязаны выканаць.*

У канцы сваёй уступнай прамовы віцэ-прэм’ер запрапанаваў наступны парадак дня 1-га афіцыйнага паседжаньня габінэту:

1. Інфармацыя ўсіх міністраў аб дасюлешняй працы Ураду БНР.
2. Абмеркаваньне й зацьверджаньне пляну працы Ураду ўва ўсіх рэсортах.
3. Бягучыя справы.

Парадак дня быў прыняты бязь зьменаў, пасьля чаго Рада міністраў прыступіла да абмеркаваньня пытаньняў, якія былі пастаўленыя на паседжаньне.

Слухалі:

1. Інфармацыя міністраў аб дасюлешняй працы ў іхных рэсортах.

*Міністэрства Замежных Спраў — мгр. А. Каханоўскі*

Перш чым прыступіць да інфармацыі аб працы ў рэсорце вонкавае палітыкі, гаворыць міністар А. Каханоўскі, я павінен зацеміць, што з прычыны абставінаў, якія зложыліся, мы, на жаль, ня можам абмяркоўваць плянаў працы й выслухаць інфармацыі аб праробленай працы такіх вельмі важных міністэрстваў, як нутраной палітыкі, прэсы і інфармацыі.

Пасьля гэтага ён пачаў сваю інфармацыю, у якой зацеміў, што ў галіне беларускае вонкавае палітыкі ён вядзе працу ўжо 4-ы год па лініі БНЦ[268]. Агульна кажучы, праца гэта была скіраваная на навязваньне кантактаў і ўстанаўленьне супрацоўніцва з тымі народамі, якія апынуліся тут, на эміграцыі.

За гэты час нам удалося ўвайсьці ў 12 міжнародных арганізацыяў: АЛАН (Антыбальшавіцкая ліга аслабаненьня народаў)[269], ІС (Інтэрнацыянал свабо-

---

[268] **Беларускі нацыянальны цэнтр** (БНЦ) — арганізацыя, створаная 15 жніўня 1945 г. у Рэгенсбургу як пераемніца БЦР для прадстаўніцтва інтарэсаў беларускай эміграцыі на Захадзе. Старшынёй арганізацыі быў абраны Мікола Абрамчык, а яго намеснікам — Аўген Каханоўскі.

[269] **Антыбальшавіцкая ліга аслабанення народаў (АЛАН)** была створана ў 1948 г. на аснове пагаднення трох арганізацый: «Інтэрнацыяналу Свабоды», Праметэеўскай Лігі Атлантычнай Хартыі і Антыбальшавіцкага блоку народаў (АБН) для каардынацыі дзейнасці эміграцыйных арганізацый розных народаў супраць СССР. «Камунікат аб стварэньні АЛАН» і «Дэклярацыя АЛАН» былі апублікаваныя ў газеце «Бацькаўшчына» № 2 (5) ад 31.01.1948.

ды)[270], АБН (Антыбальшавіцкі блёк народаў)[271], Фэдэральныя клюбы народаў Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы ў Парыжы й Лёндане[272], Антыкамуністычная ліга паняволеных народаў Эўропы ў Аргентыне[273], Міжнародны камітэт ДП і

---

[270] Відаць, маецца на ўвазе арганізацыя **«Інтэрнацыянал Свабоды»**, створаная пасля Другой сусветнай вайны з удзелам прадстаўнікоў Албаніі, балтыйскіх краінаў, Беларусі, Вугоршчыны, казакаў, Каўказа, Польшчы, Румыніі, Сербіі, Славаччыны, Славеніі, татараў, Туркестана, Украіны, Харватыі, Чэхіі. У 1947 г. арганізацыя выдала ў Брусэлі нумар часопіса «Інтэрнацыянал свабоды» на розных мовах, у тым ліку і на беларускай, а ў 1948 г. злучылася з Антыбальшавіцкім блокам народаў. Ва ўспамінах Аляксандра Стагановіча гэтая арганізацыя згадваецца наступным чынам: *«Паўстала думка стварыць на дэмакратычных падставах палітычную арганізацыю-процівагу АБН, што ў нядоўгім часе было зьдзейсьнена пад назовам «Інтэрнацыянальная Свабода».*

*На арганізацыйным сходзе ад украінцаў былі генэрал (прозьвішча ня памятаю), Сабачынскі, др. Майнік, ад казакоў інж. Глоскаў, ад беларусаў я, Гарошка і Тулейка, ад паўночных каўказцаў якісь князь, ад армянаў і грузінаў — прозьвішчаў ня памятаю. У далейшым этапе да «Інтэрнацыянальнай Свабоды» прыйшлі славакі й румыны.*

*Напачатку здавалася, што арганізацыя будзе сапраўды інтэрнацыянальнаю, аднак у далейшай працы ўкраінцы выявілі сябе як самыя крайнія шавіністы-вялікадзяржаўнікі, што марылі пра Ўкраіну ад Балтыйскага да Чорнага й Касьпійскага мораў з Паўночным Каўказам і Кракавам, Славакіяй, Малдавіяй і часткаю Румыніі. На гэта ніхто зь сяброў арганізацыі ня мог пагадзіцца. Акрамя гэтага, украінцы друкавалі мапы й распаўсюджвалі па ўсім сьвеце. Да ўсяго гэтага ўкраінская газэта «Неділя» зьмясьціла фота казакаў, якія з Варшавы пасьля бунту палякаў давалі ў падарунак нямецкаму генэралу казацкую папаху. Усе гэтыя правакацыйныя дзеяньні з боку ўкраінцаў зьнеахвоцілі сяброў «Інтэрнацыянальнай Свабоды» да канструктыўнай працы. Штомесяц на паседжаньнях вяліся зацятыя спрэчкі з украінцамі, асабліва з Сабачынскім, які зацята бараніў хваравітыя імкненьні вялікадзяржаўніцкай нацыі. Дзякуючы ўсяму гэтаму за два гады «Інтэрнацыянальная Свабода» выдала толькі адзін нумар журналу».* (Стагановіч, Аляксандр. Успаміны пасла. Мінск, 2011. С. 128)

[271] **Антыбальшавіцкі блок народаў (АБН)** (укр. *Антибільшовицький блок народів*, англ. *Anti-Bolshevik Bloc of Nations)* — створаная ўкраінскімі нацыяналістамі ў 1943 г. і структурна аформленая ў Мюнхене ў 1946 г. арганізацыя, што стала каардынацыйным цэнтрам антыкамуністычнай дзейнасці эмігрантаў на Захадзе.

[272] Маюцца на ўвазе **Цэнтральнаеўрапейскія федэральныя клубы** (*Central European Federal Club)*. Першы з такіх клубаў быў арганізаваны ў Лондане ў 1940 г. і рэарганізаваны ў 1945 г. На ўзор яго пазней адчыніліся клубы ў Рыме, Парыжы і Брусэлі.

[273] Маецца на ўвазе **Антыкамуністычная ліга паняволеных народаў Еўропы**, заснаваная ў Буэнас-Айрэсе ў 1948 г. з удзелам прадстаўнікоў Беларусі, Балгарыі, Харватыі, Славаччыны, Славеніі, Эстоніі, Вугоршчыны, Латвіі, Літвы, Чарнагорыі, Румыніі і Украіны. Інфармацыя пра гэтую арганізацыю і яе дэкларацыя былі надрукаваныя ў газеце «Бацькаўшчына» № 22 (25) ад 27.06.1948.

палітычных эмігрантаў у Нямеччыне[274], Цэнтральны каардынацыйны камітэт дапамаговых установаў для работнікаў і эмігрантаў усіх нацыянальнасьцяў у Ангельшчыне[275], Жаночая ліга на эміграцыі ў Францыі[276] і інш.

Апошнім часам распачатая праца ў кірунку сталых дыплёматычных сувязяў з тымі ўрадамі, зь якімі Урад БНР меў гэтыя сувязі ў мінулым. Зробленыя першыя крокі ў дачыненьні эміграцыйных Урадаў Летувы[277], Лацьвіі[278] і УНР[279].

Вялікай першакодай у працы зьяўляецца адсутнасьць грашовых сродкаў і высокападрыхтаваных кадраў з практыкай дзяржаўнае і дыплёматычнае працы.

*

*Інфармацыя аб працы Міністэрства вайсковых справаў — міністар палкоўнік Ф. Кушаль*

Галоўнай мэтай працы Вайсковага міністэрства было й застаецца надалей зарганізаваньне ўсіх вайсковых на эміграцыі. Дагэтуль арганізаваньне гэта прыняло форму Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў. Аднак акцыя гэтая

274 Маецца на ўвазе **Міжнацыянальны камітэт *DP* і палітычных уцекачоў у Нямеччыне** (або Міжнацыянальнае бюро паразумення) — грамадская арганізацыя, што была заснавана 30 студзеня 1946 г. у Ганаў (Нямеччына) з ініцыятывы беларусаў, украінцаў і літоўцаў. Мела на мэце каардынацыю працы асобных нацыянальных камітэтаў. У склад Камітэта ў 1948 г. уваходзілі прадстаўнікі ўкраінцаў, беларусаў, палякаў, балтыйскіх народаў, славакаў, «югаславаў», грузінаў, «туркестанцаў», казакоў, народаў Паўночнага Каўказа. Камітэт меў свае аддзелы ў Рэгенсбургу, Мюнхене, Франкфурце, Аўгсбургу, Штутгарце. Беларусы былі актыўнымі пры заснаванні Рэгенсбургскага аддзела арганізацыі.

275 Маецца на ўвазе **Цэнтральны каардынацыйны камітэт дапамаговых арганізацый уцекачоў** (*Central Coordinating Committee of Refugee Welfare Organizations)*, які дзейнічаў у Вялікабрытаніі ад другой паловы 1940-х гг.

276 Маецца на ўвазе **Ліга жанчын на эміграцыі**, заснаваная ў лютым 1947 г. Пасля з’езду жанчын эміграцыі, што адбыўся ў траўні 1947 г., у яе склад увайшлі прадстаўніцы беларускіх, украінскіх, эстонскіх, літоўскіх, польскіх, латышскіх, югаслаўскіх і каўказскіх арганізацый, што дзейнічалі ў Францыі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, ЗША і Канадзе.

277 Прадстаўніцтвам Літвы на эміграцыі ў пасляваенны час займаліся некалькі структураў. Тут, відавочна, маецца на ўвазе **Найвышэйшы камітэт вызвалення Літвы**, створаны яшчэ ў 1943 г. У 1945–1955 г. яго Прэзідэнтам быў Мікалас Крупавічус (1885–1970).

278 Тут маецца на ўвазе найперш латвійскі палітычны дзеяч біскуп Язэпс Ранцанс, які ад 1945 г. выступаў як кіраўнік латвійскага эміграцыйнага Ураду.

279 **Украінская Народная Рэспубліка** — украінская дзяржава ў 1917–1920 гг. Пасля 1920 г. урад УНР знаходзіўся ў выгнанні спачатку ў Польшчы, а ад 1939 г. — у Францыі. Дзяржаўным цэнтрам УНР у выгнанні кіраваў у той час Андрэй Лівіцкі (1879–1954).

не прыняла яшчэ шырокага размаху. Прычына: зарубежніцкая дывэрсія й недастатковасьць дзейных, ініцыятыўных людзей ды слабая нацыянальная сьведамасьць сярод часткі нашых вайскоўцаў.

Найлепш справа йдзе ў амэрыканскай зоне Нямеччыны, тут якраз і запачаткавалася арганізацыя Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў, якая мае некалькі аддзелаў. 5-га ліпеня 1947 г. у Рэгенсбургу адбыўся Зьезд дэлегатаў ад ініцыятыўных групаў зь беларускіх лягераў ДП і беларускіх групаў пры іншанацыянальных лягерах. На гэтым зьезьдзе быў выбраны часовы ўрад Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў[280]. Гэты ўрад правёў арганізацыйную працу, утварыўшы 8 аддзелаў ЗБВ. 29-га лютага 1948 г. у Віндзішбэргердорфе[281] адбыўся другі дэлегацкі зьезд ад ужо арганізаваных аддзелаў ЗБВ, на якім быў выбраны сталы ўрад ЗБВ на амэрыканскую зону.

Цяпер добра справа пайшла і ў францускай зоне, дзе выявілі вялікую актыўнасьць надлейтэнант Чыжык[282] і капітан Дзямідаў. Маецца цесная лучнасьць з Ангельшчынай — там цяпер справа йдзе досыць добра — рыхтуецца вайсковы зьезд[283]. У Бэльгіі цяпер залегалізаваны Міністэрствам юстыцыі Саюз беларусаў[284], а пры ім мае быць сэкцыя вэтэранаў і камбатантаў[285]. Калі там паўстане сэкцыя, то тады ў Эўропе будзе 3 беларускія вайсковыя арганізацыі, якія дадуць магчымасьць зрабіць больш-менш дакладны ўлік вайскоўцаў.

Тым часам афіцэрскі склад у нас вельмі слабы колькасна, мала ёсьць беларусаў з вышэйшай вайсковай кваліфікацыяй, дзеля чаго маем вялікія цяжкасьці з утварэньнем Гэнэральнага Штабу.

2. Зацьвержаньне пляну працы Ураду

---

280 **Задзіночанне беларускіх ветэранаў** (ЗБВ) — арганізацыя беларускіх вайскоўцаў, створаная 16.08.1947 г. у Міхельсдорфе пад кіраўніцтвам Ф. Кушаля.

281 **Віндышбергердорф** (ням. *Windischbergerdorf*) — вёска за 5–6 км ад горада Кам у Баварыі, дзе ў 1947 г. быў створаны беларускі *DP*-лагер з насельніцтвам каля 500 чалавек.

282 **Янка Чыжык** (29.08.1902, в. Новая вёска каля Гарадзеі — 06.06.1968, Спрынгфілд, штат Масачусэтс, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч. Меў святарскую асвету, але да вайны працаваў настаўнікам у Заходняй Беларусі. У часе Другой сусветнай быў афіцэрам у беларускім войску. Па вайне быў у Заходняй Нямеччыне, адкуль у 1949 г. пераехаў у ЗША. Браў актыўны ўдзел у аднаўленні БАПЦ. У ЗША быў сябрам БАЗА, парафіянінам БАПЦ.

283 З'езд вайскоўцаў адбыўся ў Лондане 21 лістапада 1948 г. На ім афіцыйна быў зацверджаны статут **Згуртавання беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі**.

284 Саюз беларусаў Бельгіі быў легалізаваны ў студзені 1947 г.

285 Значна пазней, 8 кастрычніка 1950 г. у Лювене адбыўся Першы агульны з'езд Згуртавання беларускіх камбатантаў. Аднак яшчэ да гэтага часу былі створаны аддзелы гэтай арганізацыі ў Лювене, Льежы, Шарлеруа і Аршоце. (Гл. Грыбоўскі, Юры. Беларускі камбатанцкі рух на Захадзе пасьля Другой сусьветнай вайны // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 404–431).

Абмеркавалі пляны працы Міністэрства замежных справаў (мгр. А. Кахаnоўскі), Міністэрства вайсковых справаў (палкоўнік Ф. Кушаль), Міністэрства культуры й веравызнаньняў (др. А. Орса), Міністэрства Фінансаў (сп. С. Кабыш).

Пастанавілі:

1. Усе гэтыя пляны працы з унесенымі ў іх папраўкамі й дадаткамі зацьвердзіць (пляны працы й Спэцыяльная пастанова аб стварэньні Беларускага нацыянальнага фонду далучаюцца да пратаколу).

2. Запрасіць для разгляду й зацьверджаньня пляны працы Міністэрстваў: нутраных справаў, прэсы і інфармацыі, народнае гаспадаркі, юстыцыі, працы й сацыяльнага забясьпячэньня.

3. Бягучыя справы

Слухалі: Справа апрацаваньня рэгуляміну Ураду БНР

Пастанавілі: Даручыць віцэпрэм’еру мгр. А. Каханоўскаму й Дзяржаўнаму сакратару сп. Г. Паланевічу апрацаваць праект рэгуляміну Ураду БНР і падаць яго на зацьверджаньне Ураду.

У канцы паседжаньня віцэпрэм’ер мгр. А. Каханоўскі сказаў наступнае:

*«Пляны працы — гэта толькі праграма дзеяньня. Яны прыняты дзеля рэалізацыі. Кажны з міністраў за гэта адказны. Дзеля рэалізацыі гэтых плянаў кажны міністар павінен як найхутчэй дабраць сабе кадры, даць кажнаму супрацоўніку канкрэтныя заданьні і інструкцыі, вымагаць ад іх рэгулярных інфармацыяў і справаздачаў, кантраляваць, бо бяз сталага кантролю нармальнае працы ня будзе. Трэба дакладна весьці ўлік працы й дакумэнтаваць.*

*Заклікаю ўсіх да адказнасьці, ініцыятыўнасьці, вынаходлівасьці й самастойнасьці ў працы, каб нам ня было сорамна перад нашай гісторыяй».*

Пратакол падпісалі: А. Каханоўскі, Ф. Кушаль, А. Орса, др. С. Грынкевіч, Л. Галяк.

*

*Плян працы Міністэрства культуры і веравызнаньня БНР*

Заданьні Міністэрства культуры й веравызнаньня распадаюцца на: а. плянаваньне сыстэмы культурнага й маральна-рэлігійнага жыцьця ў вызваленай БНР і б. актуальна-практычную працу ў гэтым рэсорце на эміграцыі.

Структура Міністэрства культуры і веравызнаньня на эміграцыі.

Пры Міністэрстве мусіць быць:

Аддзел асьветы.

Аддзел мастацтва.

Аддзел прапаганды беларускае культуры.

Аддзел асьветы сваю працу вядзе праз: а. аддзелы асьветы цэнтральных эміграцыйных камітэтаў[286]; б. Беларускае настаўніцкае згуртаваньне на эміг-

[286] Магчыма, маюцца на ўвазе Беларускі нацыянальны камітэт на амерыканскую зону і Беларускі дапамаговы камітэт на брытанскую зону акупацыі Нямеччыны, якія дзейнічалі на той час.

рацыі[287]; в. Навуковае таварыства імя Ф. Скарыны[288]; г. Цэнтралю беларускіх студэнцкіх арганізацыяў на эміграцыі[289].

Аддзел мастацтва вядзе сваю працу праз Згуртаваньне беларускіх мастакоў на эміграцыі[290] з усімі мастацкімі сэкцыямі. З гэтым згуртаваньнем знаходзяцца ў лучнасьці аддзелы мастацтваў цэнтральных эміграцыйных камітэтаў. У сваю чаргу гэтыя аддзелы дзеляцца ў залежнасьці ад умоваў на меншыя адзінкі аж да паасобных мастацкіх гурткоў.

Апрача таго, да цэнтральнага Згуртаваньня беспасярэдня належаць фаховыя мастацкія аб'еднаньні, напр., «Беларускі тэатар эстрады»[291].

Аддзел прапаганды беларускае культуры зьяўляецца лучнікам паміж аддзелам асьветы і аддзелам мастацтва. У ягоныя заданьні ўваходзіць укладаньне плянаў прапаганды беларускае культуры і іхная рэалізацыя праз аддзел асьветы і мастацтва.

Заданьні аддзелу асьветы на эміграцыі:

1. Імкнуцца вучыць беларускую моладзь у школах і пашыраць роднае слова сярод старэйшага грамадзтва праз курсы, часапісы і газэты.

2. Пашыраць адчыненьне сярэдніх і пачатковых беларускіх школаў. Дапамагаць беларускай моладзі здабываць асьвету ў чужынецкіх вышэйшых школах.

3. Утварыць кантралюючыя школьніцтва школьныя ўлады.

Апрацаваць аднолькавыя праграмы для школаў.

Зрабіць дакладны ўлік настаўнікаў.

Заданьні аддзелу мастацтва:

Стварыць Цэнтральнае згуртаваньне беларускіх мастакоў на эміграцыі.

Каардынаваць і дапамагаць у выяўленьні дзейнасьці як мастацкіх аб'еднаньняў, гэтак і асобных творчых працаўнікоў.

---

[287] **Згуртаванне беларускіх настаўнікаў на чужыне** было створана на сходзе 2 ліпеня 1947 г.

[288] Маецца на ўвазе **Крывіцкае (беларускае) навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны**, заснаванае ў 1946 г. у Рэгенсбургу з мэтай аб'яднання вучоных-беларусаў для навуковай працы ў галіне беларусазнаўства.

[289] **Цэнтраля беларускіх студэнцкіх арганізацый на чужыне** (ЦБСА) была заснавана 16 кастрычніка 1946 г. з мэтамі абароны правоў беларускіх студэнтаў, фінансавай дапамогі пры паступленні ва ўніверсітэты, каардынацыі студэнцкага руху. Старшынёй арганізацыі быў абраны Барыс Рагуля.

[290] Пра дзейнасць Згуртавання беларускіх мастакоў на эміграцыі дакладнай інфармацыі няма. Больш за тое, у ліставанні мастака Аляксандра Раманоўскага з Міколам Сільвановічам ад кастрычніка 1948 г. сцвярджаецца, што ніякага аб'яднання мастакоў не існуе. Гл.: Гардзіенка, Наталля. Яшчэ адзін мастак з Віцебска // Асоба і час. Вып. 5. Мінск, 2013. С. 120–126.

[291] Магчыма, маецца на ўвазе трупа **«Беларускі тэатр эстрады»** пад кіраўніцтвам Міколы Шчаглова-Куліковіча, створаная ў другой палове 1940-х гг. Трупа актыўна гастралявала ў 1948 г. па беларускіх лагерах *DP* і асяродках у Нямеччыне.

Арганізаваць выдавецкую працу: кніжкі, брашуры і мастацкія балонкі ў часапісах і газэтах.

Арганізаваць мастацкія гурткі.

Арганізаваць штогодныя абходы Дня беларускае культуры з выставамі творчае працы ў розных галінах беларускага мастацтва.

*

*Плян працы Міністэрства замежных справаў Ураду БНР*

Агульныя высновы, прынцыпы й заданьні беларускае вонкавае палітыкі абмеркаваныя й прынятыя Сэсіяй Рады БНР 20–21 чэрвеня 1948 г. (Гл. даклад, дыскусію й пастанову Сэсіі).

Зыходзячы зь іх, Міністэрства замежных справаў Ураду БНР мусіць весьці вонкавую палітыку трыма скаардынаванымі дарогамі: а. беспасярэдня — із урадамі іншых народаў, ЗН і інш. міждзяржаўнымі арганізацыямі; б. пасярэдня праз Рэфэрат вонкавае палітыкі БНЦ — із міжнацыянальнымі і іншанацыянальнымі палітычнымі інстытуцыямі; в. пасярэдня праз Цэнтральныя беларускія эміграцыйныя прадстаўніцтвы ў Нямеччыне, Францыі, Бэльгіі, Ангельшчыне й г. д.[292] — із міжнацыянальнымі і іншанацыянальнымі грамадзкімі й прафэсійнымі арганізацыямі.

За галоўныя вонкава-палітычныя заданьні на бліжэйшы неакрэслены час Міністэрства замежных справаў ставіць сабе наступныя:

I. У галіне нутраное міністэрыяльнае працы —

1. Выдаць брашуру «Асновы беларускае вонкавае палітыкі» й розныя інш. інструкцыі для ўсіх беларускіх дыплёматычных працаўнікоў[293].

2. Вясьці далейшую распрацоўку нашых канцэпцыяў для актуальных вонкава-палітычных заданьняў (уклад узаемадачыненьняў із кожным паа-

[292] Тут маюцца на ўвазе галоўныя арганізацыі беларускай эміграцыі ў адпаведных краінах: Беларускі нацыянальны камітэт у Нямеччыне, Саюз беларусаў Бельгіі, Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі і г. д.

[293] Пра выданне брашуры «Асновы беларускае вонкавае палітыкі» звестак няма. Праўда, яшчэ 1947 г. ад імя Беларускага нацыянальнага цэнтра былі надрукаваныя тэзы «Асновы беларускае дыплёматычнае палітыкі» на 8 старонках накладам 10 асобнікаў. Цягам 1948 г. на старонках газеты «Бацькаўшчына» (№ 33 (36). 24.10.1948 — № 36 (39). 14.11.1948) публікаваўся нарыс А. Дзіды «Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі», які выклікаў пэўную палеміку. У 1952 г. у Нью-Ёрку пад шыльдай БНР выйшла брашура на 17 старонках «Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі», магчымым аўтарам якой быў Аўген Кахgalоўскі. Аднак вядомы наклад яе толькі 6 асобнікаў. Тады ж, у 1952 г., пры запаўненні анкеты сябра БІНіМ Мікола Абрамчык пазначыў, што мае падрыхтаванае да друку выданне: *«Арганізацыя консульскай і дыплёматычнай службы. 120 бач. машынапісу. Мае быць падручнікам для пачынаючых практыку кадраў консульскай і дыплёматычнай службы»*. Пра выданне гэтага дапаможніка таксама сёння невядома, як і пра тое, ці захаваўся недзе машынапіс.

собным народам і міжнацыянальнымі арганізацыямі, выходныя прынцыпы да кожнае дыплёматычнае акцыі і г. д).

3. Улажыць этнаграфічную карту БНР із калідорам да Балтыцкага мора[294].

4. Зьмяшчаць у нашай прэсе артыкулы аб беларускай вонкавай палітыцы.

5. Улажыць поўны сьпіс усіх міжнацыянальных і іншанацыянльных арганізацыяў — дзяржаўных, палітычных, грамадзкіх і прафэсійных, зь якімі мы маем або імкнемся мець сталае супрацоўніцтва.

6. Завяршыць арганізацыю сеткі нашых дыплёматынных прадстаўнікоў у дзяржаўных, палітычных і грамадзкіх міжнацыянальных і іншанацыянльных установах і інстытуцыях.

7. Сачыць за прэсай і радыё зь Беларусі, натуючы ўсё найбольш цікавячае зь іх дзеля нашых дыплёматычных акцыяў.

8. Вясьці сталую дакумэнтацыю працы Міністэрства, асабліва перахоўваючы найбольш важныя дакумэнты (дыплёматычныя ўмовы, мэмарыялы і г. д).

II. У галіне двубаковых міжнародных сувязяў —

1. Імкнуцца да аднаўленьня дыплёматычных сувязяў із эміграцыйнымі ўрадамі УНР, Летувы, Лацьвіі, Эстоніі[295] й Грузіі[296], абмяняўшыся зь імі дыплёматычнымі прадстаўнікамі.

2. Імкнуцца да ўстанаўленьня дыплёматычных сувязяў із эміграцыйнымі ўрадамі Польшчы[297], Туркестану[298] і ўрадамі інш. краёў, абмяняўшыся зь імі дыплёматычнымі прадстаўнікамі.

3. Старацца заключыць двубаковыя ўмовы аб дзяржаўных межах із урадамі УНР, Польшчы, Летувы й Лацьвіі.

4. Заключыць двубаковыя ўмовы прыязьні й супрацоўніцтва із кіраўнічымі нацыянальна-вызвольнымі цэнтрамі УНР, Летувы, Лацьвіі, Польшчы,

---

[294] Відавочна, карта павінна была адпавядаць ідэі далучэння да Беларусі тэрыторыі Усходняй Прусіі як справядлівай кампенсацыі за знішчэнне беларускага народу гітлераўцамі ў часы Другой сусветнай вайны. У сваю чаргу, гэта б дало Беларусі і такі неабходны выхад да мора. Ідэя была агучана якраз на Сесіі Рады БНР у чэрвені 1948 г. Гл.: Сэсія Рады БНР // Бацькаўшчына. № 23 (26). 04.07.1948. С. 2.

[295] **Эміграцыйны ўрад Эстоніі** ў 1945–1963 г. узначальваў палітык і дыпламат, Дзяржаўны старэйшына Эстоніі (1928–1929), міністр замежных спраў у незалежным урадзе Ота Ційфа 1944 г. **Аўгуст Рэй** (1886–1963). На эміграцыі жыў у Швецыі.

[296] У гэты час грузінскую эміграцыю прадстаўляў Урад у выгнанні на чале з Прэзідэнтам Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі (1918–1921) **Ноем Жарданія** (1868–1953), які жыў у Парыжы.

[297] **Эміграцыйны ўрад Польшчы** ў 1947–1949 гг. узначальваў генерал **Тадэвуш Бур-Камароўскі** (1895–1966).

[298] Маецца на ўвазе **Камітэт нацыянальнага адзінства Туркестана**, адроджаны ў 1947 г. узбекскім дзеячам на эміграцыі **Валі Каюм-Ханам** (1904–1993). Камітэт меў на мэце стварэнне адзінага і незалежнага Туркестана.

Славаччыны[299], Грузіі, Туркестану і інш. заняволеных і загрожаных Расеяй народаў.

III. <u>У галіне міжнацыянальных арганізацыяў</u> —

1. Надалей належаць: а. да ІС[300], АБН і АЛАНу; б. да Фэдэральных клюбаў народаў цэнтральнае і ўсходняе Эўропы ў Парыжы і Лёндане; в. да Антыкамуністычнае лігі падняволеных народаў Эўропы; г. да Міжнацыянальнага камітэта ДП і палітычных уцекачоў; д. да Цэнтральнага каардынацыйнага камітэта дапамаговых установаў для бежанцаў і работнікаў усіх нацыянальнасьцяў; е. да Лігі жанчынаў на эміграцыі; ж. да Сусьветнага задзіночаньня скаўтаў[301]; з. да Міжнароднай лігі студэнцкіх згуртаваньняў[302]; і. да Міжнацыянальнага саюзу ДП-прэсы[303] і г. д., утрымліваючы там сваіх прадстаўнікоў.

2. Дзеіць у кірунку поўнага зьліцьця АБН, ІС і Прамэтэя[304] ў АЛАН, а АЛАНу з Фэдэральнымі клюбамі і іншымі міжнацыянальнымі палітычнымі арганізацыямі.

---

[299] Славацкая эміграцыя на Захадзе была прадстаўлена Славацкай Лігай у Амерыцы, а таксама створанай у 1943 г. у Лондане Славацкай Нацыянальнай Радай. Пры гэтым славацкія эміграцыйныя колы вялі прынцыповую барацьбу з структурамі «чэхаславацкімі». У Нямеччыне славакаў рэпрэзентаваў **Славацкі нацыянальны камітэт**. Гл.: У Славакаў. Ад Славацкага Нацыянальнага Камітэту на Нямеччыну // Бацькаўшчына. № 12 (15) ад 18.04.1948.

[300] Маецца на ўвазе Міжнародны рух за свабоду.

[301] Маецца на ўвазе **Сусветная арганізацыя скаўцкага руху** (анг. *World Organization of the Scout Movement*), заснаваная ў 1920 г. Яна аб'ядноўвае нацыянальныя скаўцкія арганізацыі.

[302] Магчыма, маецца на ўвазе **Міжнародная асацыяцыя студэнтаў у галіне эканомікі і кіравання**, створаная студэнтамі 9 універсітэтаў у 1946 г. у Бельгіі і арганізацыйна аформленая ў 1949 г. у Стакгольме як *AIESEC* (фр. *Association internationale des étudiants en sciences économiques et commerciales*). Яна стала найбуйнейшай міжнароднай студэнцкай арганізацыяй.

[303] Магчыма, вядзецца пра т.зв. **Саюз ліцэнзаванае DP-прэсы**, які дзейнічаў у паваеннай Нямеччыне і аб'ядноўваў беларусаў, калмыкаў, літоўцаў, латышоў, вугорцаў, палякаў, украінцаў, рускіх, эстонцаў і югаславаў. Чарговы з'езд Саюза адбыўся ў верасні 1948 г. у Бад-Кісінгене. Гл.: Зьезд Д.П. — журналістых // Бацькаўшчына. 19.09.1948.

[304] **«Праметэй»** (польс. *Prometeusz*) — арганізацыя, заснаваная ў 1926 г. у Парыжы прадстаўнікамі Азербайджана, данскіх казакоў, Грузіі, Ідэль-Урала, Інгрыі, Карэліі, Комі, Крыма, Кубані, Паўночнага Каўказа, Туркестана і Украіны. Ініцыятарам стварэння руху «праметэізму» быў Юзаф Пілсудскі. Асноўная ідэя палягала ў падтрымцы незалежніцкіх памкненняў прадстаўнікоў «нярускіх» народаў, што ўваходзілі ў склад СССР. Пасля Другой сусветнай вайны арганізацыя дзейнічала пад назвай Праметэеўская ліга Атлантычнай хартыі.

3. У органах міжнацыянальных арганізацыяў — «Набат»[305], «Інтэрнацыянальнае Свабоды»[306] і г. д. узмацніць сваю прэсава-інфармацыйную службу.

4. Выдаць для народаў міжнацыянальных палітычных арганізацыяў брашуры: а. Беларусь і беларусы[307]; б. 30 год Беларусі пад расейска-бальшавіцкай акупацыяй[308]; в. За што змагаецца беларускі народ[309].

5. Абмяняцца із саюзнымі нам народамі календарыкамі важнейшых нацыянальных датаў з мэтаю ўзаемнага віншаваньня й надрукаваньня адпаведных сьвяточных артыкулаў у нашай прэсе.

6. Стала сачыць за прэсаю й палітыкай саюзных нам і несаюзных народаў; каб своечасова рэагаваць на акцыі, зьвязаныя із інтарэсамі беларускага народу.

7. Увесьці беларускіх прадстаўнікоў у тыя міжнацыянальныя арганізацыі народаў Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы, дзе іх дагэтуль няма (ЗША, Канада і г. д.).

IV. У галіне сувязяў із заходнімі народамі —

1. Імкнуцца да ўстанаўленьня й паглыбленьня сталых кантактаў із дзяржаўна-палітычнымі й грамадзкімі ўстановамі і інстытуцыямі заходніх народаў.

2. Рыхтаваць і высылаць мэмарыялы ў розных беларускіх пытаньнях урадам заходніх народаў, ЗН і інш. міжнародным арганізацыям безпасярэдня ад Ураду БНР і пасярэдня праз розныя міжнацыянальныя арганізацыі.

3. Арганізаваць сталую прэсава-інфармацыйную службу ў прэсе заходніх народаў, дзеля чаго праз сваіх людзей у ЗША, Ангельшчыне, Францыі, Бэльгіі й г. д. наладзіць кантакты із журналістамі гэтых краёў, рэгулярна забясьпечваючы іх адпаведнымі артыкуламі і інфармацыяй.

---

305 **«Набат»** — часопіс, друкаваны орган Антыбальшавіцкага блоку народаў. Агляды яго нумароў перыядычна друкаваліся на старонках газеты «Бацькаўшчына» ў 1948–1949 гг.

306 Наколькі вядома, у 1947 г. выйшаў адзін нумар перыёдыка «Інтэрнацыянальная свабода» на розных мовах.

307 Пры канцы 1948 г. у Парыжы на французскай мове сапраўды выйшла брашура на 40 старонках *Biélorussie. Aperçu sommaire de l'Histoire de la Nation biélorussienne et du Mouvement de Libération Nationale*. Аўтар Лявон Рыдлеўскі. У зацемцы газеты «Бацькаўшчына» так апісваўся змест выдання: *«Брашура выдадзена старанна і прыгожа й зьмяшчае ў сабе кароткія нарысы зь геаграфіі Беларусі, гісторыі Беларусі, але найбольш прысьвячае ўвагі гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху й палітычнай дзейнасьці ўраду БНР»*. Дадаткам да тэксту змешчаныя пяць мапаў Беларусі, апрацаваныя Уладзімірам Шыманцом. (Аб Беларусі ў францускай мове // Бацькаўшчына. № 41(44). 26.12.1948.)

308 У 1949 г. у Лондане на сродкі Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі была выдадзеная брашура (5 старонак) *Byelorussia (Whiteruthenia) under Russian occupation*, аўтарам якой быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Ці мелася на ўвазе на паседжанні Ураду БНР менавіта гэтая брашура, дакладна невядома.

309 Выдання з такой назвай не было знойдзена.

4. Выдаць у ангельскай і францускай мове кароткія й папулярныя брашуры: а. Беларусь; б. 30 год Беларусі пад расейска-бальшавіцкай акупацыяй і в. За што змагаецца беларускі народ.

*20.8.1948*

*А. Каханоўскі*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ
## РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
## 27.11.1948 Г., ВІНДЗІШБЭРГЕРДОРФ — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі, міністар вайсковых справаў палк. Ф. Кушэль, міністар нутраных справаў др. С. Грынкевіч, міністар культуры й веравызнаньняў др. А. Орса, міністар фінансаў сп. С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар сп. Г. Паланевіч.

Парадак дня:

1. Справаздача аб перамовах Ураду БНР із урадамі Украінскае Народнае Рэспублікі, Лятувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі й Лацьвійскае Дэмакратычнае Рэспублікі (мгр. А. Каханоўскі).

2. Інфармацыі Міністраў аб працы за верасень — лістапад месяцы 1948 г. (др. С. Грынкевіч, палк. Ф. Кушэль, др. А. Орса, сп. С. Кабыш).

3. Прыняцьце пляну працы Міністэрства нутраных справаў (др. С. Грынкевіч).

4. Справа пакліканьня Прадстаўніцтваў Ураду БНР у ЗША, Ангельшчыне, Францыі, Бэльгіі, Канадзе, Аргентыне, Швэдыі, Італіі, Аўстрыі і Аўстраліі (мгр. А. Каханоўскі).

5. Рознае.

Слухалі:

1. Справаздачу аб перамовах Ураду БНР із урадамі Украіны, Летувы й Лацьвіі —міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі.

*«Амаль да апошняга часу мы мелі сувязі зь іншымі народамі толькі па лініі палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, а па ўрадавай лініі іх ня было. На працягу апошніх трох месяцаў Міністэрству замежных справаў Ураду БНР удалося аднавіць сувязі з трыма Урадамі на эміграцыі: Выканаўчым органам Украінскае Нацыянальнае Рады, Урадам Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі і прадстаўнікамі Ураду Лацьвійскае Дэмакратычнае Рэспублікі.*

*Як вам ведама, сёлета ўлетку ў украінцаў утварыўся найвышэйшы дзяржаўна-палітычны цэнтр — Украінская Нацыянальная Рада зь ейным Выканаўчым органам*[310]*. Міністэрства замежных справаў адразу-ж пачало*

[310] **Украінская Нацыянальная Рада** ўяўляла сабою своеасаблівы перадпарламент УНР на выгнанні. Першая сесія УНРады прайшла ў Аўгсбургу 16 ліпеня 1948 г. Тады ж быў створаны і яе выканаўчы орган.

*студыяваць, ці гэтыя інстытуцыі адпаведныя Радзе і Ураду БНР, якія іх праўныя падставы і канстытуцыя, а таксама як да іх ставіцца шырэйшае ўкраінскае грамадзянства. Міністэрствам было ўстаноўлена, што УНРада ўканстытуявалася на аснове партыйнае кааліцыі з прадстаўнікоў існуючых украінскіх партыяў — Украінскае сацыял-дэмакратычнае партыі, Украінскае партыі сацыялістых-рэвалюцыянэраў, Украінскага нацыянал-дэмакратычнага аб'еднаньня, Украінскага нацыянал-дзяржаўніцкага саюзу, Украінскае рэвалюцыйна-дэмакратычнае партыі, Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістых і Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістых (рэвалюцыянэраў). Не ўвайшлі ў УНРаду ўкраінскія манархістыя — гэтманцы*[311]*. На чале Прэзыдыюму УНРады стаў праф. Барыс Іваніцкі*[312]*, а Выканаўчага камітэту — праф. Ісак Мазэпа*[313]*. Як відаць з украінскае прэсы, украінскае грамадзянства вітае факт утварэньня УНРады, хоць і ставіць да яе засьцярогі ў тым, што яна паводле спосабу свайго ўканстытуяваньня не рэпрэзэнтуе ня толькі цэлы ўкраінскі народ, але нават і цэлае эміграцыі, бо ў УНРаду ўваходзяць прадстаўнікі толькі тых украінцаў, якія ахоплены тымі ці іншымі ўкраінскімі партыямі. Аднак нягледзячы на гэта Міністэрства замежных справаў прыйшло да пераканаciv, што Ўраду БНР неабходна навязаць кантакт з УНРадай, тым балей, што, як нам сталася ведама, зь ёю ўжо прабавала навязвацца г. зв. БЦР*[314]*.*

*У міжчасе Міністэрства даведалася аб тым, што Старшыня Выканаўчага органу УНРады праф. І. Мазэпа праз Сябру УНРады ў Францыі праф. Шульгіна*[315] *шукаў сувязяў з Урадам БНР у Парыжы, і апошні меў гутарку ў гэтай справе з Прэзыдэнтам М. Абрамчыкам, які запрапанаваў ім*

[311] **Гетманцы** — прадстаўнікі ўкраінскага манархічнага руху на эміграцыі, якія выступалі за аднаўленне ва Украіне гетманскай улады. Першапачаткова былі аб'яднаныя вакол асобы гетмана Паўла Скарападскага (1873–1945). Потым прэтэндэнтам на гетманскую ўладу быў яго сын Даніла Скарападскі (1904–1957), які пасля Другой сусветнай вайны жыў у Лондане. Гетманскі рух ва ўкраінскай эміграцыі адыгрываў даволі значную ролю і часам паспяхова канкураваў са структурамі УНР за прадстаўніцтва ўкраінскіх інтарэсаў.

[312] **Барыс Іваніцкі** (1878–1953), украінскі грамадскі дзеяч, лесазнаўца, журналіст, рэдактар, педагог. Дырэктар дэпартамента лясоў у УНР (1917–1918), потым міністр сельскай гаспадаркі УНР. Арганізатар і прафесар Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах (Чэхія). Ад 1948 г. — кіраўнік Украінскай Нацыянальнай Рады.

[313] **Ісак Мазепа** (1884–1952), украінскі палітычны дзеяч, кіраўнік Ураду УНР у 1919–1920 гг. На эміграцыі жыў у Празе, потым у Нямеччыне. Кіраўнік выканаўчага органу УНРады ў 1948–1950 гг.

[314] Беларуская Цэнтральная Рада афіцыйна была адноўленая 9 траўня 1948 г. на Пленуме ў Эльвангене.

[315] **Аляксандр Шульгін** (1889–1960), украінскі палітычны дзеяч, гісторык і сацыёлаг. Першы кіраўнік знешнепалітычнага ведамства УНР. Заснавальнік і кіраўнік Украінскага акадэмічнага таварыства ў Парыжы (1946–1960). У 1948–1952 гг. быў прадстаўніком украінцаў пры Міжнароднай арганізацыі ўцекачоў (IRO).

*спатканьне з прадстаўнікамі нашага Ураду ў Нямеччыне. Аб наладжаньні такога спатканьня вяліся гутаркі паміж нашым прадстаўніком у Інтэрнацыянале Свабоды інж. М. Гарошка і старшынёю Украінскае дэлегацыі ў ІС рэд. Забачынскім*[316] *у Нямеччыне. Урэшце, 14.10.1948 г. намі былі атрыманы пісьмовыя запросіны ад праф. І. Мазэпы, на якія быў дадзены пацьвярджальны адказ. Такім чынам, у падрыхтове першага афіцыйнага спатканьня Ураду БНР з Выканаўчым органам УНРады была выказана двубаковая ініцыятыва.*

*Першае спатканьне адбылося 13.11.1948 г. у гор. Аўгсбургу*[317]*. З нашага боку ў ім узялі ўдзел міністар замежных справаў і сябра Рады БНР сп. У. Бортнік*[318]*, а з боку Выканаўчага органу Рады УНРады — Старшыня Выканаўчага органу і міністар замежных справаў праф. І. Мазэпа і міністар без партфэлю праф. П. Фэдэнка*[319]*. Парадак перамоваў быў наступны: а. узаемапаінфармаваньне, у якім украінская старана паінфармавала нас аб ужо ведамых нам справах свайго нутранога палітычнага жыцьця і ўтварэньня УНРады зь ейным Выканаўчым органам, а мы — высьветлілі ім праўныя асновы БНР, мандату Рады, ейнага Прэзыдэнта і Ураду, а таксама і спосаб уканстытуяваньня нашых дзяржаўных органаў, неперарыўнасьць іхнага дзеяньня ад 1918 году; б. абмен агульнымі паглядамі на праблемы вызваленьня нашых Бацькаўшчынаў спад расейска-бальшавіцкае акупацыі ў пэрспэктыве перабудовы Усходняе Эўропы (у гэтай частцы перамоваў амаль ня выяўлена ніякіх разьбежнасьцяў у пазыцыях абодвых Урадаў); в. выражэньне двубаковага жаданьня сувязі й супрацоўніцтва, дзеля чаго было ўмоўлена, што ў будучыні пэрыядычна між намі маюць адбывацца падобныя спатканьні з мэтаю ўзгадненьня супольнага дзеяньня, а ў міжчасе — пісьмовая сувязь. Дзеля ўстанаўленьня цясьнейшага супрацоўніцтва паміж беларускімі й украінскімі палітычнымі й грамдзкімі арганізацыямі была прынятая пастанова абмяняцца сьпісамі і адрысамі нашых арганізацыяў з адначасным высланьнем ім адпаведных інструкцыяў у гэтай справе. Перад нашым ад'ездам з Аўгсбургу праф. І. Мазэпа наведаў нас у гатэлі і на разьвітаньне даручыў афіцыйны ліст ад імя свайго Ураду, якім Выканаўчы орган УНРады фактычна вызнае Урад БНР. Такім чынам, сувязь між Урадам БНР і Выканаўчым органам УНРады ўстаноўлена. Між іншага,*

[316] **Арэст Зыбачынскі** (1912–1993), украінскі палітычны дзеяч, публіцыст, рэдактар. Ад 1949 г. уваходзіў у склад камісіі замежных спраў УНРады.

[317] **Аўгсбург** (ням. *Augsburg*) — універсітэцкі горад у паўднёва-заходняй Баварыі, сталіца Швабіі.

[318] **Уладзімір Бортнік** (18.01.1910, фальв. Мікалаёва каля Шаркаўшчыны — 16.06.1988, Мюнхен (Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст. Працаваў у Чырвоным Крыжы. Пазней — выдавец газеты «Бацькаўшчына», нязменны старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Нямеччыне.

[319] **Панас Федэнка** (1893–1981), украінскі палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, прафесар Украінскага вольнага ўніверсітэта, доктар філасофіі, аўтар шматлікіх прац па гісторыі ўкраінскага нацыянальнага руху. Сябра УНРады.

*у часе нашага прабываньня ў гор. Аўгсбургу мною было дадзена інтэрв'ю галоўнаму рэдактару летувіскае газэты «Жыбурай»[320], якое хутка будзе апублікавана ў прэсе.*

*Першае афіцыйнае спатканьне прадстаўнікоў нашага Ураду з прадстаўнікамі Ураду Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі наступіла з ініцыятывы летувіскае стараны. Наш прадстаўнік у францускай зоне Нямеччыны Радны др. В. Войтанка пры спатканьнях з кіруючымі асобамі летувіскага грамадзкага жыцьця й сябрамі летувіскага Ураду высьвятліў, што летувіскі Урад хацеў-бы спаткацца з прадстаўнікамі Ураду БНР. Гэта адказвала і плянам нашага Міністэрства замежных справаў. Таму яно й пачало падрыхтоўку да гэтае магчымае сустрэчы. З увагі на тое, што зь летувісамі мы маем спрэчныя пытаньні ў справе дзяржаўных межаў, ад нас вымагалася салідная падрыхтова да перамоваў. Мы сабралі таксама розныя летувіскія выданьні картаў Летувы, некаторыя дакумэнты беларуска-летувіскіх дачыненьняў у пэрыяд 1918–1920 гг. і пазьней, а на ўсялякі выпадак нат распрацавалі праект умовы БНР зь Летувою. Праект апрабаваны на папярэднім неафіцыйным паседжаньні Ураду. Пасьля гэтага наступіў абмен лістамі з прэм'ер-міністрам і міністрам замежных справаў Летувы сп. В. Сідзікаўскаса[321], і першае спатканьне было прызначанае на 18.10.1948 г. у Мюнхэне. Аднак яно было адкліканае тэлеграмаю В. Сідзікаўскаса, які нечакана вымушаны быў выехаць у Парыж для перадачы мэмарыялу летувіскага ўраду Сэсіі Задзіночаных Нацыяў. Там, між іншага, ён наведаў Прэзыдэнта М. Абрамчыка і меў зь ім даўжэйшую гутарку. Па звароце В. Сідзікаўскаса з Парыжу мы атрымалі ад яго новую тэлеграму, у якой ён прапанаваў нам новую дату спатканьня на 19.11.1948 г. у гор. Мюнхэне. На гэты раз спатканьне адбылося. У склад нашае дэлегацыі ўваходзілі: міністар замежных справаў, міністар вайсковых справаў і сябра Рады БНР сп. У. Бортнік. Зь летувіскага боку былі: прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў В. Сідзікаўскас, міністар інфармацыі праф. Бразайціс[322] і консуль Кальвайціс[323]. Парадак перамоваў быў наступны: а. уступныя прамовы, зь якіх вынікала, што летувіская старана пагаджалася з намі ў тым, што адзіны шлях да вызваленьня нашых Бацькаўшчынаў — гэта*

---

[320] Літоўская газета **«Žiburiai»** («Агні») выходзіла ў Аўгсбургу (Нямеччына) у 1945–1949 гг.

[321] **Вацлавас Сідзікаўскас** (1893–1973), вядомы літоўскі дыпламат, юрыст, актыўны дзеяч Найвышэйшага літоўскага камітэта вызвалення. Пазней, у 1964–1966 г. — яго Прэзідэнт.

[322] **Юозас Амбразявічус** (ад 1944 г. **Бразайціс**, 1903–1974), літоўскі палітычны дзеяч, літаратуразнаўца. У 1941 г. быў прэм'ер-міністрам Часовага Ураду Літвы. Ад 1943 г. — старшыня палітычнай камісіі Найвышэйшага літоўскага камітэта вызвалення. У 1946–1951 гг. быў замежным прадстаўніком сілаў антысавецкага супраціву ў Літве.

[323] Магчыма, маецца на ўвазе **Юргіс Кальвайціс**, першы абаронца дзяржавы ў Найвышэйшым Трыбунале Літвы ў 1921 г.

*нашы собскія вызвольныя сілы й супольнасьць скаардынавага дзеяньня ўсіх народаў, зьняволеных расейскім бальшавізмам; б. узаемаінфармацыя, якая прайшла падобна, як і з украінцамі; в. агульны абмен думак аб праблеме ўсходняе Эўропы. На нашу прапазыцыю працягваць гутаркі далей, перайшоўшы да абмеркаваньня пытаньняў нашых узаемадачыненьняў, Прэм'ер В. Сідзікаўскас запрапанаваў адкласьці гэта да наступнага спатканьня, бо ён яшчэ дастаткова не падрыхтаваны да гэтага. Дзеля таго было ўмоўлена аб часе (4.12.1948 г.) і месцы (гор. Мюнхен) наступнага спатканьня і ўзгоднены парадак дня нарадаў. У сваёй разьвітальнай прамове В. Сідзікаўскас даў нам да разуменьня, што калі між нашымі ўрадамі будзе дасягнута ўзаемная згода, то летувіская старана будзе гатовая да поўнага вызнаньня Ураду БНР. Такім чынам, і зь Летувіскім Урадам сувязь устаноўлена.*

*Перамовы з прадстаўнікамі Лацьвіі адбыліся зь ініцыятывы нашага Ураду. Падрыхтаваў іх на даручэньне Ураду сябра Рады БНР сп. А. Махноўскі*[324]*. Пры падрыхтоўцы да спатканьня высьвятлілася, што латышы ня маюць адзінага дзяржаўна-парлямэнтарнага органу й цэлага Ураду. У іх ёсьць Латыская Цэнтральная Рада*[325]*, зложаная на аснове міжпартыйнае кааліцыі, і Лацьвійская Цэнтральная Рада, зложаная з паслоў іхных парлямэнтаў у Краі. Паводля верагодных вестак, гэнэрал Бангерскі*[326] *творыць трэцюю Раду і шукае кантактаў з намі. Аднак яны маюць аднаго канстытуцыйнага Прэзыдэнта — біскупа Ранцаса*[327]*, а вонкавую палітыку ў іх вядзе стары*

---

[324] **Аляксандр Махноўскі** (24.09.1902, Дзвінск (сёння Даўгаўпілс, Латвія) — 19.10.1967, ЗША), грамадскі дзеяч, педагог. Нарадзіўся ў сям'і настаўніка. У часе Першай сусветнай вайны разам з бацькамі быў у бежанстве ў Курску, дзе і вучыўся. Пасля вайны вярнуўся ў Дзвінск, дзе скончыў Беларускія настаўніцкія курсы і ў 1923 г. атрымаў атэстат першага выпуску Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. Працаваў настаўнікам у Пустынскай 6-класавай школе, а пазней у Прыдруйшчыне. У 1940–1941 гг. займаў пасаду дырэктара школы ў Ілукшчыне. Адначасова быў прадстаўніком беларускага настаўніцтва ў Дзвінскай павятовай управе. У 1942–1944 гг. Быў інспектарам беларускіх школаў у Дзвінскім, Луцынскім і Ілукштанскім паветах. У 1944 г. разам з сям'ёй выехаў на Захад. У 1949 г. пасяліўся ў ЗША.

[325] **Латвійская Цэнтральная Рада** была створана ў жніўні 1943 г. прадстаўнікамі найбуйнейшых даваенных палітычных партый Латвіі на чале з выкладчыкам Латвійскага ўніверсітэта Канстанцінам Цакстэ. ЛЦР выступала да аднаўленне незалежнай Латвіі на падставе Канстытуцыі 1922 г.

[326] **Рудольф Бангерскіс** (1878–1958), латышскі вайсковы і палітычны дзеяч, міністр абароны Латвіі ў 1926–1928, у часе нямецкай акупацыі генерал войск СС. У 1945 г. у Патсдаме абраны Прэзідэнтам Латвійскага нацыянальнага камітэта.

[327] **Язэпс Ранцанс** (1886–1969), латышскі рэлігійны і грамадскі дзеяч, Рыжскі біскуп. У 1922–1934 гг. — дэпутат Сойма Латвіі. У Сойме чацвёртага склікання быў памочнікам старшыні. Удзельнік Латвійскай Цэнтральнай Рады. Пасля Другой сусветнай вайны — на эміграцыі. У 1945–1969 гг. выступаў як кіраўнік ураду Латвіі на выгнанні.

*міністар замежных справаў Лепінш*[328]*. Апошні ў Парыжы таксама нядаўна адведаў Прэзыдэнта М. Абрамчыка й меў зь ім гутарку. Спатканьне з прадстаўнікамі Лацьвійскага Ураду адбылося 20.11.1948 у гор. Эсьлінген*[329]*. У склад нашае дэлегацыі ўваходзілі: міністар замежных справаў, міністар вайсковых справаў і сябра Рады БНР А. Махноўскі. З латыскага боку былі: міністар замежных справаў Лепінш і лідэр найбольшае латыскае партыі (С.-Д.)*[330] *і былы міністар у розных габінэтах лацьвійскага ўраду Басціяніс*[331]*. Прабег перамоваў быў аналёгічны перамовам з украінцамі. З інфармацыі прадстаўнікоў латыскага ўраду мы даведаліся, што цяпер яны сталі на шлях кансалідацыі сваіх палітычных сілаў і з двух існуючых Радаў твораць адну Лацьвійскую Нацыянальную Раду. Гэты працэс яшчэ не закончаны, а калі закончыцца, тады яны будуць мець поўны і адзіны Урад. Латыскія прадстаўнікі выказалі нам сваё жаданьне супрацоўніцтва, дзеля чаго радны сп. А. Махноўскі быў прызнаны імі і на будучыню за пасярэдніка паміж нашымі ўрадамі. Такім чынам, і з прадстаўнікамі латыскіх дзяржаўных органаў сувязь устаноўлена, а для паглыбленьня яе мы маем чакаць на заканчэньне іхнае нутраное кансалідацыі.*

*З усяго вышэйсказанага можна зрабіць наступны выснаў: некалі перарваныя сувязі Ураду БНР з урадамі УНР, Летувіскае і Лацьвійскае Дэмакратычных Рэспублік зноў адноўленыя; цяпер іх трэба ўтрымаць, замацаваць і паглыбляць, каб давесьці да афіцыйнага ўзаемавызнаньня ды тварэньня блёку дзяржаваў нашага геапалітычнага прастору дзеля супольнага змаганьня за вызваленьне нашых Бацькаўшчынаў спад расейска-бальшавіцкае акупацыі.*

Пастанавілі:

Апрабаваць і зацьвердзіць як самую ініцыятыву, гэтак і ход перамоваў і аднаўленьне ў выніку іх перарваных у мінулым сувязаў Ураду БНР з урадамі УНР, Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі і Лацьвійскае Дэмакратычнае Рэспублікі. Імкнуцца ў будучыні пашыраць і паглыбляць гэтыя сувязі, давёўшы іх да ўстанаўленьня нармальных і афіцыйных дыплёматычных узаемадачыненьняў.

---

[328] Магчыма тут нейкая недакладнасць у напісанні імені. У якасці дыпламатычнага прадстаўніка і міністра замежных спраў Латвіі на Захадзе на той час выступаў **Карліс Рэйнгальдс Зарыньш** (1879–1963). Ён быў міністрам замежных спраў Латвіі ў 1931–1933 гг, а пазней кіраўніком дыпламатычнага прадстаўніцтва ў Лондане. У 1940 г. атрымаў выключныя паўнамоцтвы па прадстаўленні латышскіх інтарэсаў у Заходняй Еўропе. Менавіта ён быў і на канферэнцыі ў Парыжы ад латышскага боку.

[329] **Эслінген** (ням. *Eßlingen*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Рэйнланд-Пфальц.

[330] Напэўна, маецца на ўвазе **Латвійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя**, што дзейнічала на тэрыторыі Латвіі ў 1903–1940 гг, а пасля Другой сусветнай вайны частка яе сябраў апынуліся на эміграцыі.

[331] **Эрнэст Вальдэмарс Басціяніс** (1884–1975), латышскі палітычны дзеяч, у 1926–1927 гг. міністр фінансаў Латвіі.

Слухалі:

2. Інфармацыі міністраў аб працы за верасень — лістапад месяц 1948 г.

*а. Міністэрства вайсковых справаў — палк. Ф. Кушэль*

Паводля прынятага пляну працы Міністэрства вайсковых справаў належала ў першую чаргу арганізаваць Гэнэральны Штаб, але гэта яшчэ дагэтуль ня выканана з прычыны цяжкасьцяў у падборы адпаведных вайсковых кадраў. Арганізацыя беларускіх вэтэранаў і камбатантаў пашыраецца апошнім часам па-за межамі Нямеччыны. Апрача Бэльгіі, 21.11.1948 г. яна паўстала і ў Ангельшчыне. Улік афіцэрскага, падафіцэрскага і стралецкага складу сярод беларусаў на эміграцыі працягваецца. Ужо падрыхтавана ч. І Статуту Нутраное вайсковае службы.

б. Міністэрства нутраных справаў — др. С. Грынкевіч.

Плянавая й канкрэтная праца Міністэрства яшчэ не распачатая.

в. Міністэрства культуры й веравызнаньняў — др. А. Орса

Канкрэтная праца, згодна прынятага пляну, Міністэрствам яшчэ не разгорнутая.

г. Міністэрства фінансаў — сп. С. Кабыш

Праца нашага Ураду была пачатая пры поўнай адсутнасьці фінансавых сродкаў. Дзеля таго-ж, каб здабыць хоць-бы мінімальны грашовы Фонд Міністэрствам фінансаў на пастанову Ураду БНР было праведзена аднаразовае самаабкладаньне сяброў Рады. Гэтым нам удалося здабыць невялікую суму грошай для фінансаваньня канцылярыйных выдаткаў і канечна неабходных камандыровак. Аднак трэба адзначыць, што ня ўсе сябры Рады адгукнуліся на заклік Міністэрства й зложылі свае сяброўскія складкі. Цяпер Міністэрства мае зьвярнуцца да сяброў Рады й нашых арганізацыяй па-за межамі Нямеччыны з просьбаю іх падтрымаць фінансава Урад.

Пастанавілі:

Інфармацыі аб стане працы міністэрстваў прыняць да ведама й прапанаваць усім Міністрам зактывізаваць пляновую й канкрэтную працу, выяўляючы ў ёй больш ініцыятыўнасьці, каб выканаць тыя заданьні, якія стаяць перад кожным Міністэрствам упаасобку і Урада БНР у цэлым.

Слухалі:

3. Прыняцьце пляну працы Міністэрства нутраных справаў — др. С. Грынкевіч.

Пастанавілі:

Разгляд пляну працы Міністэрства нутраных справаў перанесьці на наступнае паседжаньне Ураду.

Слухалі:

4. Справу пакліканьня прадстаўнікоў Ураду БНР у ЗША, Ангельшчыне, Францыі, Бэльгіі, Канадзе, Аргентыне, Швэдыі, Італіі, Аўстрыі і Аўстраліі — мгр. А. Каханоўскі.

*Актывізацыя нашае працы вымагае, каб у тых дзяржавах, дзе ёсьць беларуская эміграцыя, мець свае Прадстаўніцтвы Ураду БНР, якія-б ста-*

*ялі на чале й каардынавалі ўсёй нацыянальна-беларускай працай у гэтых дзяржавах. На такіх прадстаўнікоў прапануецца паклікаць:*

*у Францыі Міністра Ураду інж. Л. Рыдлеўскага*

*у ЗША віцэ-прэм'ера Ураду інж. М. Гарошку*

*у Ангельшчыне сябру Рады БНР праф. В. Ж.-Грышкевіча*[332]

*у Бэльгіі сябру Рады БНР маёра Б. Рагулю*[333]

*у Канадзе сябру Рады БНР сп. К. Акулу*[334]

*у Аргентыне сябру Рады БНР сп. К. Мерляка*[335]

---

[332] **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (23.02.1903, м. Будслаў (сёння Мядзельскі р-н Мінскай вобл.) — 14.02.1989, Беры, Канада), грамадскі дзеяч, педагог. Скончыў факультэт славянскай філалогіі і гісторыі Карлава ўніверсітэта ў Празе. Выкладаў беларускую мову і гісторыю ў Віленскай беларускай гімназіі, беларускую мову ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі і Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні. У 1939–1942 гг. быў у савецкай высылцы, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Служыў на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Італіі. У 1945–1948 гг. выкладаў гісторыю і псіхалогію ў вайсковых польскіх школах у Італіі і Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, першы старшыня арганізацыі (1947–1948).

[333] **Барыс Рагуля** (01.01.1920, в. Турэц Навагрудскага пав. (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 21.04.2005, Лондан, Канада), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч, медык. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у нямецкі палон. Уцёкшы з палону, працаваў настаўнікам у Навагрудку. Арыштаваны органамі НКВД, але з пачаткам нямецка-савецкай вайны ўцёк з-пад варты. У часе нямецкай акупацыі працаваў выкладчыкам у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі, перакладчыкам акружнога камісара. Адзін з акружных кіраўнікоў СБМ і БНС, намеснік БЦР і камендант БКА. Арганізаваў і ўзначаліў паліцэйскі батальён № 68, вядомы як Наваградскі эскадрон. Адзін з кіраўнікоў разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы, маёр 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку быў у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, ад 1949 г. — у Бельгіі. Займаўся справамі беларускіх студэнтаў у Заходняй Еўропе.

[334] **Кастусь Акула** (да эміграцыі **Аляксандр Качан**; 16.11.1925, в. Верацеі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв. (сёння Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 29.01.2008, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч, пісьменнік. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, ад вясны 1944 г. — курсант Мінскай афіцэрскай школы БКА. Ваяваў у складзе Арміі Андэрса. У 1946–1947 гг. жыў у Англіі. Сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У чэрвені 1947 г. пераехаў у Канаду. Адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Канады і першы яго старшыня. Рэдагаваў газету «Беларускі эмігрант» (1948–1954).

[335] **Кастусь Мерляк** (25.12.1919, в. Дзетамля (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 25.11.2006, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч. Скончыў курсы крэдытных інспектараў Дзяржбанка СССР у Беластоку, працаваў бухгалтарам, старшым крэдытным інспектарам на Наваградчыне. Падчас нямецкай акупацыі — у беларускай адміністрацыі, Самапомачы. У 1944 г. быў інтэндантам у Наваградскім беларускім швадроне Б. Рагулі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Знаходзіўся ў Італіі, дзе быў інтэрнаваны амерыканскімі войскамі. У 1947 г. выехаў у Аргенціну, дзе стварыў і ўзначаліў Згуртаванне беларусаў.

*у Швэдыі сябру Рады БНР інж. А. Асоўскага*[336]
*у Італіі (паразумецца з Прэзыдэнтам)*
*у Аўстрыі сябру Рады БНР сп. А. Яцэвіча*[337]
*у Аўстраліі сябру Рады БНР мгр. А. Калодку*[338].
Пастанавілі:
Прадстаўніцтвы Ураду БНР у вышэй пералічаных дзяржавах зарганізаваць, паклікаўшы на іхнае чало запрапанаваных кандыдатаў, атрымаўшы папярэдня ад іх згоду прыняць на сябе абавязкі прадстаўнікоў.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 25.12.1948 Г. ВІНДЗІШБЭРГЕРДОРФ — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. А Каханоўскі, міністар вайсковых справаў палк. Ф. Кушэль, міністар культуры й веравызнаньняў др. А. Орса, міністар фінансаў сп. С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар сп. Г. Паланевіч.
Парадак дня:
1. Справа далейшых перамоваў зь Летувіскім Эміграцыйным Урадам (мгр. А. Каханоўскі).
2. Рознае.

---

[336] **Альберт Асоўскі** (24.12.1920–20.08.2004, Фултан, Джорджыя, ЗША), грамадскі дзеяч, архітэктар. У 1941 г. удзельнік Першага беларускага штурмовага звязу. Пасля сканчэння Другой сусветнай вайны апынуўся ў Нарвегіі, адкуль трапіў у Швецыю. У 1948–1949 гг. быў кіраўніком Беларускай грамады ў Скандынавіі.

[337] **Аляксандар Яцэвіч** (псеўданім **Алесь Змагар,** 01.03.1903, в. Цароўцы Слуцкага пав. — ?), грамадскі дзеяч, пісьменнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстанні і антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам. Быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. жыў у Нямеччыне, потым у Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі.

[338] **Аляксандр Калодка** (14.12.1911, в. Церабостынь Стаўпецкага пав. (цяпер Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 15.11.1985, Мельбурн, Аўстралія), грамадскі дзеяч. У 1938 г. скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, атрымаўшы ступень магістра права. Працаваў у юрыдычным аддзеле грамадскага забеспячэння. У 1940–1941 гг. настаўнічаў у Вільні. Ад верасня 1941 г. працаваў надзвычайным ўпаўнаважаным гэбітскамісара ў Вялейцы, дзе займаўся беларусізацыяй адміністрацыі. У 1943 г. арыштаваны вялейскім гестапа. Быў вязнем канцэнтрацыйных лагераў у Асвенціме, Біркенаў, Бухенвальдзе і інш. Па сканчэнні вайны працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце, супрацоўнічаў з беларускай прэсай, арганізацыяйбылых вязняў нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў. У траўні 1948 г. прыехаў у Аўстралію, працаваў на цукровых плантацыях у Квінслэндзе, а пазней — рабочым ў Мельбурнскім порце.

Слухалі:

1. Інфармацыю міністра замежных справаў мгр. А. Каханоўскага аб далейшых перамовах зь Летувіскім эміграцыйным Урадам.

Сп. Міністар паінфармаваў, што 4.12.1948 г. у гор. Мюнхэне адбылося другое спатканьне Ураду БНР з Урадам Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі. У гэтым спатканьні прыймалі ўдзел зь беларускага боку: міністар замежных справаў, міністар нутраных справаў і сябра Рады БНР сп. У. Бортнік; зь летувіскага боку — прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў сп. В. Сідзікаўскас, віцэ-прэм’ер і міністар народнай гаспадаркі др. І. Камінскас[339] і міністар фінансаў праф. П. Карвэліус[340].

У часе перамоваў высьветлілася, што найважнейшым пытаньнем, якое стаіць на перашкодзе да прыязных, беларуска-летувіскіх дачыненьняў, ёсьць справа Вільні. Прэм’ер В. Сідзікаўскас зазначыў, што пытаньне Вільні як сталіцы Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі для летувіскага Ураду зьяўляецца пытаньнем недыплёматычным і недыскусійным і прасіў наш Урад прыняць гэта да ведама, робячы пры гэтым алюзію да таго, што Летувіскі Урад мог-бы ў гэтым выпадку фармальна прызнаць Урад БНР і ўстанавіць зь ім нармальныя дыплёматычныя зносіны, дапамагчы яму разьвязаць праблему выхаду БНР у Балцкае мора і актыўна падтрымліваць яго на міжнародным груньце. Пагадзіцца з гэтым вымаганьнем летувіскага ўраду ці прыняць да ведама падобнае асьветчаньне беларуская дэлегацыя не магла. Урад БНР ня можа парушаць прынятага Радаю БНР этнаграфічнага прынцыпу дзяржаўных межаў Беларускае Народнае Рэспублікі і рабіць якія-колечы тэрытарыяльныя ўступкі суседу. З увагі на разьбежнасьць паглядаў у справе Вільні й трактаваньня гістарычнае спадчыннасьці Вялікага Княства Літоўскага між беларускай дэлегацыяй і дэлегацыяй летувіскага ўраду вывязалася дыскусія, у якой беларуская старана, паклікаўшыся на аргумэнты гістарычнае аб’ектыўнасьці і этнаграфічныя дасьледваньні шматлікіх бесстароньніх навукоўцаў-чужынцаў, пазбавіла летувіскую старану аргумэнтаў. Не жадаючы, аднак, разрыву зь летувіскім урадам, беларуская старана запрапанавала адкласьці пытаньне абмеркаваньня межаў і Вільні на пазьнейшы час і перайсьці да абгаварэньня праблемаў, якія самім лёсам гісторыі лучаць беларусаў зь летувісамі. Пры гэтым было падкрэсьлена, што абодва народы маюць непараўнальна болей таго, што іх міжнародна-палітычная сытуацыя й супольнае геапалітычнае палажэньне лучыць, загадваючы цесна супрацоўнічаць і каардынаваць высілкі сваіх нацыянальна-вызвольных змаганьняў; што было-б дзеля таго

---

339 Магчыма, маецца на ўвазе **Стэпонас Кайрыс** (ад 1944 г. **Юозас Камінскас**, 1879–1964), літоўскі палітычны дзеяч, сацыял-дэмакрат, інжынер, адзін з падпісантаў Акта аб незалежнасці Літвы 1918 г. У 1943–1945 гг. узначальваў Найвышэйшы літоўскі камітэт вызвалення. Стэпонас Кайрыс быў мужам Алаізы Пашкевіч (Цёткі).

340 **Петрас Карвеліс** (1897–1976), літоўскі палітычны дзеяч, эканаміст, у 1923–1926 гг. старшыня Хрысціянска-дэмакратычнай партыі. Пасля Другой сусветнай вайны ўваходзіў у кіраўніцтва Найвышэйшага літоўскага камітэта вызвалення.

некарысным для двух бакоў паступіцца гэтай найвышэйшай і канечнай для двух народаў карысьцяй у імя пытаньня, якое магло-б неяк у будучыні быць разьвязанае. Летувіскі ўрад гэтае прапазыцыі не прыняў. Тады беларуская дэлегацыя запрапанавала стварыць аўтарытэтную двубаковую камісію, якая-б шырэй прадыскутавала ўсе спрэчныя пытаньні, падрыхтаваўшы для разьвязаньня іх канкрэтныя прапазыцыі. Але гэтую прапазыцыю летувіскі ўрад таксама не прыняў. Пасьля гэтага летувіскі ўрад быў запытаны, ці згадзіўся-б ён на разьвязаньне тэрытарыяльных спрэчак практыкаванымі ў міжнародным жыцьці спосабамі народнага плебісцыту або міжнароднага арбітражу. На гэта быў атрыманы адмоўны адказ. Летувіскі ўрад зрабіў пры гэтым заўвагу, што пытаньне Вільні для Летувы ёсьць ня толькі пытаньнем эканамічным ці тэрытарыяльным, колькі пытаньнем іхнага нацыянальнага прэстыжу й гістарычных падставаў дзяржаўнасьці. Ён яшчэ раз прасіў Урад БНР знайсьці магчымым прыняць да ведама іхную заяву ў справе Вільні, выказаўшы ахвоту да працягу дыскусіі ў гэтай справе на наступным спатканьні ўрадаў, да якога абодва бакі змогуць дадаткова падрыхтавацца. Прэм'ер В. Сідзікаўскас прасіў адно, каб гэтае наступнае спатканьне адбылося ў недалёкай будучыні, бо ў студзені 1949 г. ён выяжджае на два месяцы ў ЗША. Затым міністар А. Каханоўскі заявіў, што, на ягоную думку, якая пакрываецца й з думкаю шматлікіх сяброў Рады БНР, зь якімі ён дыскутаваў праблему далейшых перамоваў зь летувіскім урадам, Урад БНР павінен імкнуцца зацягваць перамовы, не даводзячы іх да зрыву, а пры наступным спатканьні: а. паспрабаваць яшчэ раз пераканаць летувіскі ўрад адкласьці пытаньне Вільні й дзяржаўных межаў паміж БНР і Летувіскай Дэмакратычнай Рэспублікай на пазьнейшае разьвязаньне, падабраўшы да гэтага адпаведныя аргумэнты; б. калі летувіскі ўрад на гэта ўсё-ж ня згодзіцца, прыняць да ведама іхную заяву ў справе Вільні пад умоваю, што й летувіскі ўрад прыйме да ведама аналёгічную заяву Ураду БНР; в. калі-ж і гэтая прапазыцыя будзе адкінутая, тады запрапанаваць беларуска-летувіскую фэдэрацыю без нутраною беларуска-летувіскае мяжы, дзе пытаньне Вільні перастала-б быць актуальным. Дзеля таго, аднак, што апошняе больш выгоднае для БНР, чымся для Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі, трэба спадзявацца, што летувіскі ўрад гэтую прапазыцыю ня прыйме, але мы ёю падкрэсьлім летувіскаму ўраду сваё жаданьне прыязьні да летувісаў і імкненьне знайсьці магчымую разьвязку спрэчных між намі пытаньняў.

Пастанавілі:

Поўнасьцю адобрыць пазыцыю Міністэрства замежных справаў у перамовах зь Летувіскім Урадам.

Слухалі:

2. Бягучыя справы:

Рэалізацыя пастановы Ураду БНР у справе арганізацыі Прадстаўніцтваў Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету.

Прэм'ер А. Каханоўскі падаў да ведама, што ўжо пасланыя прапановы прыняць на сябе абавязкі прадстаўнікоў Ураду БНР у Аргентыне сябру Рады

БНР сп. К. Мерляку, у Канадзе — сябру Рады БНР сп. К. Акуле, у Аўстраліі — сябру Рады БНР мгр. А. Калодку, у Ангельшчыне — сябру Рады БНР праф. В. Жуку-Грышкевічу, у Швэдыі — сябру Рады БНР інж. А. Асоўскаму.

Па гэтым быў запрапанаваны праект агульнае інструкцыі прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету.

Пастанавілі:

Агульную Інструкцыю Прадстаўнікам Ураду БНР зацьвердзіць[341].

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 26.2.1949 Г. ВІНДЗІШБЭРГЕРДОРФ — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі, міністар вайсковых справаў палк. Ф. Кушэль, міністар культуры й веравызнаньняў др. А. Орса, міністар фінансаў сп. С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар сп. Г. Паланевіч.

Парадак дня:

1. Інфармацыя аб працы міністэрстваў.

2. Абмеркаваньне справаў, зьвязаных з паседжаньнем Прэзыдыюму Рады 14.3.1949 г.

Слухалі:

1. Інфармацыю аб працы міністэрстваў за час ад 25.12.1948 г.

Адчыняючы паседжаньне Ураду, прэм’ер-міністар мгр. А. Каханоўскі зацеміў, што час ад папярэдняга паседжаньня Ураду быў няспрыяльным для працы Ураду, бо сябры Ураду былі зашмат адрываныя на грамадзкія справы.

Па агульна-урадавай лініі за гэты час найбольшай працай было зарганізаваньне Прадстаўніцтва Ураду БНР у розных дзяржавах.

ЗША — сябра Рады БНР Я. Ніхаёнак[342].

Ангельшчына — сябра Рады БНР праф. В.Ж.-Грышкевіч.

Францыя — міністар Ураду БНР інж. Л. Рыдлеўскі.

Аргентына — сябра Рады БНР К. Мерляк.

---

341 Тэкст інструкцыі публікуецца ў раздзеле «Дакументы».

342 **Янка Ніхаёнак** (06.03.1920, Вермонт — 04.01.1986, Нью-Ёрк), грамадскі дзеяч. Бацькі, беларускія эмігранты ў ЗША, на пачатку 1920-х гг. вярнуліся ў в. Лебедзева Маладзечанскага пав. Віленскае губ. (сёння Маладзечанскі р-н Мінскае вобл.). У часе Другой сусветнай вайны настаўнічаў. У 1944 г. апынуўся ў Францыі. У чэрвені 1947 г. як амерыканскі грамадзянін меў магчымасьць адным з першых прыехаць у ЗША. Спачатку вярнуўся ў Вермонт, потым пераехаў у Чыкага, дзе скантактаваўся з дзеячамі Рады БНР Язэпам Варонкам і Янкам Чарапуком-Змагаром. У 1948 г. перабраўся ў Саўт-Рывер (Нью-Джэрсі), дзе выдаваў першы паваенны беларускі перыёдык у ЗША — «Беларус у Амэрыцы». Адзін з заснавальнікаў БАЗА, першы сакратар Галоўнай управы арганізацыі.

Канада — сябра Рады БНР К. Акула.

Швэдыя — сябра Рады БНР інж. А. Асоўскі.

Аўстралія — сябра Рады БНР мгр. А. Калодка.

Усім прадстаўніком высланыя інструкцыі, у якіх акрэсьлены іхныя абавязкі й заданьні, а таксама шырэйшую інфармацыю аб становішчы Ураду БНР у нутраной і вонкавай палітыцы. Ад прадстаўнікоў-жа запатрабаваныя інфармацыі аб стане беларускае эміграцыі ў кожнай дзяржаве й дадзены дырэктывы аб запачаткаваньні традыцыі шырокага штогадовага абходу Дня Незалежнасьці — угодкаў Акту 25-га Сакавіка — цэлай беларускай эміграцыяй.

Сп. Прэм’ер адчытаў высланыя прадстаўнікам інструкцыі № 1, 2, 3 і 4 і інфармацыю № 1, якія Урадам бязь зьменаў апрабуюцца.

У галіне вонкавае палітыкі:

*а. далейшыя перамовы з Урадам Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі*:

15.1.1949 г. у гор. Мюнхэне адбылося наступнае спатканьне з прадстаўнікамі Ураду Летувы. З нашага боку ў гэтым спатканьні апрача міністра замежных справаў прымаў удзел сябра Рады БНР інж. Тамашчык; зь летувіскага боку — прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў В. Сідзікаўскас і віцэ-прэм’ер і міністар народнае гаспадаркі др. Я. Камінскас[343].

Пазыцыя нашага Ураду на гэтым спатканьні была прынятая на папярэднім паседжаньні Рады міністраў. Згодна з гэтай пазыцыяй, нашая старана й запрапанавала дэлегацыі Летувіскага Ураду адкласьці справу Вільні на пазьнейшае вырашэньне й перайсьці да гутаркі аб супрацоўніцтве нашых Урадаў. Летувіская старана на гэта адказала, што паводля даўно ўстаноўленых прынцыпаў летувіскае вонкавае палітыкі яны бяз вырашэньня справы Вільні ня могуць пачынаць гутарак аб іншых справах. Што-ж да запрапанаванае намі да абгаварэньня канцэпцыі шырокае беларуска-летувіскае фэдэрацыі бяз нутраной беларуска-летувіскай мяжы, дзе пытаньне Вільні перастала-б быць актуальным, яны заявілі, што для стварэньня фэдэрацыі нам найперш трэба разьмежавацца ўва ўсіх спрэчных пытаньнях. Зноў-жа, з той пазыцыі, што пытаньне Вільні зьяўляецца для іх пытаньнем недыплёматычным і недыскусійным, яны зыйсьці ня могуць, бо гэта кампрамітавала-б усю дасюлешнюю палітыку Летувіскага Ураду. Яны заявілі пры гэтым аб сваёй згодзе на мяшаную двубаковую камісію, якая-б занялася глыбейшай студыяй спрэчных між намі пытаньняў, пры ўмове аднак, што гэтая камісія ня будзе разглядаць пытаньня Вільні.

Такім чынам, поўнасьцю высьветлілася, што без разьвязаньня справы Вільні ўстанаўленьне нармальных дыплёматычных дачыненьняў і прыязнага супрацоўніцтва з Урадам Летувы немагчымае. Дзеля таго-ж, каб зь ім канчальна не зрываць, было ўмоўлена не разглядаць гэтае пытаньне за апошняе.

Ажыўленая дыскусія ў пытаньні беларуска-летувіскіх дачыненьняў у нашай прэсе й цьвёрдая пастава Ураду БНР што да этнаграфічнага прынцыпу

---

343 Маецца на ўвазе, відаць, той самы Юозас Камінскас (Стэпонас Кайрыс).

дзяржаўных межаў выклікала занепакаеньне Летувіскага Ураду. У сувязі з гэтым ня выключаецца неспрыяльныя для нас закулісныя ходы летувіскае палітыкі.

Цяпер, калі пасьля заканчэньня нашых перамоваў з Урадам Летувы высьветліліся пазыцыі адбовых урадаў, належала-б перанесьці дыскусію ў гэтай справе ў Раду БНР, каб атрымаць ад яе наказ, як мае пастпаць Урад БНР у дачыненьні да Ураду Летувы ў далейшым.

*б. дачыненьні з украінцамі*:

З тае прычыны, што зарубежніцкае «Беларускае Слова»[344] пачало выходзіць з дапамогаю выдавецтва блізкае да УНРады газэты «Украінскія Вісты»[345], Міністэрства замежных справаў палічыла за адпаведнае ўстрымацца ад далейшых спатканьняў з прадстаўнікамі Выканаўчага органу УНРады аж да мамэнту здавальняючага разьвязаньня пасталага канфлікту. На пісьмовы пратэст Ураду БНР ад 21.12.1948 г. Старшыня Выканаўчага органу УНРады праф. І. Мазепа прыслаў нам два лісты-адказы (ад 3.1.1949 г. і 6.1.1949 г.), у якіх паведаміў аб тым, што справай выданьня «Беларускага Слова» заняўся Выканаўчы орган, і газэта пасьля № 3 перастане выходзіць. Тут-жа ім прапанавалася наступнае спатканьне нашых Урадаў. Аднак пасьля гэтага запэўненьня выйшаў № 4 «Беларускага Слова» на тую-ж самую субліцэнзію газэту «Украінскія Вісты», дзеля чаго Міністэрства замежных справаў устрымалася ад адказу на прапазыцыю Выканаўчага органу УНРады, каб гэтым самым даць яму да зразуменьня, што ён перад намі не ў парадку.

Цяпер, калі ўжо маюцца дакумэнтальныя дадзеныя аб адабраньні выдавецтвам «Украінскія Вісты» субліцэнзіі на выданьне «Беларускага Слова»[346], Міністэрства замежных справаў уважае, што ўжо няма патрэбы ўстрымоўвацца ад уплянаванага спатканьня, і таму праф. І. Мазэпе 23.2.1949 г. высланы ліст з пацьверджаньнем нашае згоды.

в. Іншыя мерапрыемствы Міністэрства замежных справаў:

У часе нядаўнае парыскае сэсіі ЗН[347] ад імя АЛАНу, АБНу і Фэдэральнага клюбу ў Парыжы было пададзена 6 супольных мэмарыялаў усім дэлегацыям

---

[344] **«Беларускае слова»** — беларуская газета, якая выдавалася прыхільнікамі БЦР ад 17 снежня 1948 г. да чэрвеня 1958 г. Спачатку выходзіла ў Нямеччыне, а ад 1956 г. — у ЗША. Рэдактарамі былі: Аляксандр Русак, Юрка Віцьбіч, Юры Сабалеўскі).

[345] **«Українські вісті»** — украінская штотыднёвая газета, якая выходзіла ад 1945 г. у Нямеччыне (потым ад 1978 г. — у ЗША), орган Украінскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай партыі. Ад 1948 г. рэдактарам быў літаратуразнаўца Юры Лаўрыненка (1905–1987). У 1940–1960-х гг. газета сапраўды падтрымлівала УНРаду.

[346] Першыя чатыры нумары «Беларускага слова» сапраўды выдаваліся як дадатак да ўкраінскай газеты «Українські вісті», а далей ад № 4 (5) 25 сакавіка 1949 г. газета стала самастойным выданнем.

[347] **Парыжская сесія ААН** праходзіла ад верасня 1948 г. да траўня 1949 г. Найбольш вядомы дакумент, які на ёй быў прыняты, — Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

заходніх дзяржаваў і старшыні сэсіі ЗН, дзе вычарпальна былі прадстаўлены агульныя праблемы Ўсходняе Эўропы й паасобных народаў, а ў тым ліку й беларускага народу. У міжчасе дадзена заданьне інж. У. Тамашчыку навязаць кантакт із новаарганізаванай Славацкай Нацыянальнай Радай[348]. У пачатку лютага месяца паўстаў на нашыя стараньні ў Бэльгіі Беларуска-бэльгійскі камітэт[349] на чале з праф. В. Дэні[350], маёрам Б. Рагуляю і сакратаром др. Ковэлертам[351] (сынам старшыні бэльгійскага парлямэнту). Беларуска-бэльгійскі камітэт будзе займацца прапагаваньнем беларускае праблемы і апекавацца беларусамі ў Бэльгіі, а ў першую чаргу беларускімі студэнтамі.

Пастанавілі:

Справу ўзаемадачыненьняў зь Летувіскім Урадам перанесьці на разгляд паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР, якое адбудзецца 14.3.1949 г.

Слухалі:

Інфармацыю міністра вайсковых справаў — палк. Ф. Кушэля

Апошнім часам ажывілася вайсковая справа ў Францыі, дзе знайшоўся вельмі энэргічны афіцэр Я. Філістовіч[352], які ўзяўся за справу арганізацыі вайскоўцаў-беларусаў у Францыі. 25-га сакавіка сёлета ў Парыжы адбудзецца зьезд беларускае моладзі ў Францыі, на якім будзе заснаваная беларуская вайсковая арганізацыя[353].

Пастанавілі:

---

[348] **Славацкая Нацыянальная Рада за мяжой** была заснавана пры канцы 1948 г. На чале яе стаў былы міністар і славацкі пасол у Ватыкане Караль Сідар. Генеральным сакратаром — Петэр Прыдавак, былы старшыня Славацкай нацыянальнай рады ў Лондане, якая іператварылася фактычна ў Славацкую Нацыянальную Раду за мяжой.

[349] **Беларуска-бельгійскі камітэт** — арганізацыя для апекі над беларускімі студэнтамі, заснаваная ў Лювене 1 лютага 1949 г. Асноўную працу ў камітэце рабіў а. Роберт ван Кавэлярт.

[350] **Праф. В. Дэні** — прафесар Лювенскага ўніверсітэта, які афіцыйна займаў пасаду кіраўніка Беларуска-бельгійскага камітэта.

[351] **Роберт ван Кавэлярт дэ Уілс** (1906–?), каталіцкі святар візантыйскага абраду, які апекаваўся беларускімі студэнтамі ў Лювене (Бельгія).

[352] **Янка Філістовіч** (14.01.1926, в. Паняцічы (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 1953, Беларусь), грамадскі дзеяч, публіцыст. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Францыі, дзе выдаваў часопіс «Моладзь», быў адным з лідараў Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі. Пазней — удзельнік арганізаванага амерыканцамі дэсанту на беларускую тэрыторыю для ажыццяўлення падпольнай антысавецкай дзейнасці.

[353] 26 сакавіка 1949 г. у Парыжы сапраўды адбыўся з'езд, на якім была заснавана Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі (БНАМ) на чале з Янкам Філістовічам. Аднак ніякае менавіта вайсковай арганізацыі на з'ездзе заснавана не было, і пытанне гэтае не абмяркоўвалася. (Гл.: Пратакол Першага зьезду беларускае моладзі ў Францыі, які адбыўся 26 сакавіка 1949 году ў Парыжы // Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954). Мінск, 2004. С. 350–356).

Даручыць Міністру вайсковых справаў палк. Ф. Кушэлю: а. паразумецца з Прэзыдэнтам БНР што да кандыдатуры на Старшыню беларускае вайсковае арганізацыі ў Францыі; б. «Беларускі вайсковы статут» (ч. 1)[354] выдаць ратытарным спосабам; в. ажывіць працу Згуртаваньня беларускіх вэтэранаў у Нямеччыне й г. разважыць магчымасьці рэгулярнае сувязі з Бацькаўшчынай.

Слухалі:

Інфармацыю міністра культуры й веравызнаньняў — др. А. Орса

У галіне асьветы ў Нямеччыне справа йдзе згодна пляну. Міністэрства ўстанавіла сувязь із школьнымі інспэктарамі Цэнтральнага і акруговага камітэтаў і празь іх мае нагляд за беларускім школьніцтвам. У іншых галінах яшчэ нічога ня зроблена.

Пастанавілі:

Міністэрству культуры й веравызнаньняў зрушыць працу з месца, як найхутчэй зарганізаваўшы Беларускае культурнае згуртаваньне[355].

Слухалі:

Інфармацыю міністра фінансаў — сп. С. Кабыша

Наш габінэт пачаў сваю працу бяз ніякіх фінансавых сродкаў. Дзеля стварэньня хоць мінімальнай фінансавай базы для вядзеньня працы Ураду было праведзена самападаткаваньне сяброў Рады БНР. За прайшоўшы час у касу Міністэрства фінансаў паступіла 988-60 н. м., зь якіх на канцылярыйныя выдаткі й самыя неабходныя выезды сяброў Ураду выдаткавана 441 н. м. Дагэтуль яшчэ ня ўсе сябры Рады БНР ўнесьлі самападтакаваньне. Да замежнай беларускай эміграцыі па-за Нямеччынай Міністэрства фінансаў у гэтай справе яшчэ не зьвярталася.

Пастанавілі:

Дзеля таго, што ўсе рэсорты працы Ураду ў вялікшай меры залежаць ад фінансавых магчымасьцяў, Міністэрству фінансаў у найкарацейшы тэрмін сабраць поўнасьцю ад сяброў Рады самападаткаваньне й зьвярнуцца за фінансавай дапамогай да прадстаўнікоў Ураду БНР ува ўсіх дзяржавах.

Слухалі:

2. Справы, зьвязаныя з паседжаньнем Прэзыдыюму Рады БНР 14.3.1949 г.—прэм’ер-міністар мгр. А. Каханоўскі

На паседжаньні Прэзыдыэму Рады БНР 14.3.1949 г. Урад БНР будзе рабіць справаздачу аб сваёй працы за час ад Сэсіі Рады БНР 20–21 чэрвеня 1948 г. Дзеля гэтага ўсе Міністэрствы павінны падрыхтаваць да 10.3.1949 г. пісьмовыя справаздачы аб працы ў сваіх рэсортах. У зьвязку із справаздачай Ураду прапануецца паставіць перад Прэзыдыюмам Рады наступныя пытаньні:

а. Упарадкаваць пэрсанальныя справы Ураду (справа прэм’ерства ў сувязі із адмоваю др. В. Тумаша й міністра прэсы і інфармацыі сп. А. Адамовіча);

б. Разважыць дачыненьні зь Летувіскім Урадам і

[354] У 1949 г. быў выдадзены толькі «Статут беларускай вайсковай арганізацыі» (лацінкаю, 2 старонкі).

[355] Выглядае, менавіта такой арганізацыі так і не было створана.

в. Заапэляваць да ўсіх сяброў Рады, заклікаўшы іх да большае актыўнасьці ў падтрыманьні Ураду ў ягонай цяжкой працы.

Пастанавілі:

Даручыць прэм'ер-міністру мгр. А. Каханоўскаму пры справаздачы Ураду перад Прэзыдыюмам Рады БНР паставіць усе гэтыя пытаньні.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 9.4.1949 Г. ВІНДЗІШБЭРГЕРДОРФ — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі, міністар вайсковых справаў палк. Ф. Кушэль, міністар нутраных справаў др. С. Грынкевіч, міністар прэсы і інфармацыі сп. А. Адамовіч, міністар культуры й веравызнаньняў др. А. Орса, міністар фінансаў сп. С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар сп. Г. Паланевіч.

Парадак дня:

1. Справы, зьвязаныя з пастановамі Прэзыдыюму Рады БНР ад 14–15.3.1949 г. (А. Каханоўскі).
2. Азнаямленьне зь інфармацыяй прадстаўнікоў Ураду БНР у ЗША, Аргентыне, Канадзе, Ангельшчыне, Бэльгіі, Швэдыі і Аўстраліі (А. Каханоўскі).
3. Інфармацыя аб далейшых перамовах Ураду БНР з Выканаўчым органам УНРады (А. Каханоўскі).
4. Абмеркаваньне ліста Славацкае Нацыянальнае Рады (А. Каханоўскі).
5. Абмеркаваньне й зацьверджаньне пляну працы Міністэрства нутраных справаў (С. Грынкевіч).
6. Абмеркаваньне й зацьверджаньне пляну працы Міністэрства прэсы і інфармацыі (А. Адамовіч).
7. Справа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (А. Орса).
8. Справа «фонду 25-га Сакавіка» (С. Кабыш).
9. Бягучыя справы.

Слухалі:

1. Інфармацыю аб пастановах Прэзыдыюму Рады БНР ад 14–15.3.1949 г.

Прэм'ер-міністар мгр. А. Каханоўскі зацеміў, што на паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР ад 14–15.3.1949 г. Урад БНР зложыў справаздачу аб сваёй працы за час ад 21.6.1948 г., у якой высунуў на разьвязаньне Рады БНР наступныя пытаньні: а. статутовае афармленьне пэрсанальных зьменаў ува Урадзе БНР у сувязі із адмоваю др. В. Тумаша ад абавязкаў прэм'ер-міністра й заяваю сп. А. Адамовіча аб ягоным выхадзе з Ураду; б. справу нашых далейшых дачыненьняў з Урадам Летувы й в. патрэбу звароту Прэзыдыюму Рады БНР да ўсіх сяброў Рады із заклікам іх да актыўнага падтрыманьня Ураду БНР і ягонай працы.

Першае пытаньне было разьвязанае так, што Прэзыдыюм Рады апрабаваў першага віцэ-прэм'ера мгр. А. Каханоўскага на становішчы прэм'ер-

міністра, а сп. А. Адамовіч адклікаў сваю заяву аб выхадзе із складу Ураду БНР. Дыскусія над другім пытаньнем выявіла, што Урад БНР у дачыненьні да Ураду Летувы займаў зусім правільную пазыцыю. Апрабаваўшы яе, Прэзыдыюм Рады БНР прапанаваў Ураду БНР імкнуцца й надалей ня зрываць сувязяў з Урадам Летувы, не дапушчаючы яго да зьбліжэньня з украінцамі і ўмацаваньня сьцісьлейшых сувязяў з латышамі і эстонцамі. Зварот да сяброў Рады БНР будзе выдадзены ў самы бліжэйшы час. Апрача таго, Прэзыдыюм Рады даў наказ Ураду зактывізаваць сваю працу ў нутраных рэсортах. На сваіх паседжаньнях Урад БНР ужо таксама прымаў аб гэтым пастановы, аднак шырокае й сыстэматычнае працы міністэрствы яшчэ дагэтуль не разгарнулі. Цяпер Прэзыдыюм Рады арганізуе пры сабе камісіі розных рэсортаў працы, дзеля чаго ўсе міністэрствы мусяць навязаць зь імі супрацоўніцтва, скантактаваўшыся наўперад із Старшынямі гэтых камісіяў, адпаведна свайму рэсорту працы.

Пастанавілі:

1. Прыняць да ведама й выкананьня пастановы Прэзыдыюму Рады БНР (гл. Пратакол паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР ад 14–15.3.1949 г.)[356].

2. Узмацніць працу Урада, асабліва ўва ўсіх нутраных рэсортах — Міністэрстве нутраных справаў, Міністэрстве прэсы і інфармацыі, Міністэрстве культуры і веравызнаньняў, Міністэрстве вайсковых справаў і Міністэрстве фінансаў, выявіўшы як найболей ініцыятывы, настойлівасьці і сыстэматычнасьці.

3. Павязаць працу міністэрстваў і скаардынаваць яе з адпаведнымі камісіямі Рады БНР.

Слухалі:

2. Інфармацыю прадстаўнікоў Ураду БНР у розных краёх сьвету

Прэм’ер Міністар мгр. А. Каханоўскі адчытаў пісьмовыя справаздачы Прадстаўнікоў Ураду БНР у ЗША, Аргентыне, Канадзе, Ангельшчыне, Бэльгіі, Швэдыі і Аўстраліі (гл. Справу перапіскі з прадстаўнікамі Ураду БНР), зь якіх вынікае, што ў 11 краёх Эўропы, Амэрыкі і Аўстраліі сёньня знаходзіцца каля 700 тысячаў беларускіх эмігрантаў, якія стварылі каля 100 розных беларускіх арганізацыяў. Нацыянальная самасьведамасьць старое эміграцыі не стаіць на высокім узроўні. Аднак новыя эмігранты зактывізавалі нацыянальную беларускую працу ў сьвеце, і сёньня голас беларуса ўжо чуваць усюды[357].

Пастанавілі:

---

[356] Гэты пратакол сярод дакументаў у калекцыі БІНіМа не захаваўся. Вытрымкі з пратакола адносна справы БАПЦ публікаваліся ў: Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. С. 154.

[357] Інфармацыя прадстаўнікоў БНР у розных краінах была апублікавана ў: Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 273–284, а таксама змяшчаецца ў гэтай кнізе ў раздзеле «Дакументы».

Прыняць да ведама інфармацыі прадстаўнікоў Ураду БНР, а ўсім міністрам навязаць цясьнейшую лучнасьць у сваёй працы з прадстаўнікамі Ураду, даючы ім розныя інструкцыі й дапамогу.

Слухалі:

3. Інфармацыю аб далейшых перамовах Ураду БНР із Выканаўчым органам УНРады.

Міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі паінфармаваў, што пасьля палагоджаньня канфлікту з украінцамі з прычыны іхнага субліцэнзіяваньня зарубежніцкае газэты «Беларускае Слова», 23.2.1949 г. Міністэрства замежных справаў дало адказ Выканаўчаму органу УНРады, што яно згаджаецца на наступнае зь ім спатканьне, вызначыўшы за месца спатканьня г. Рэгенсбург. 10.3.1949 г. Міністэрства замежных справаў атрымала адказ, у якім Старшыня Выканаўчага органу УНРады праф. І. Мазэпа згадзіўся на прапанаванае намі месца спатканьня й з свайго боку запрапанаваў дату спатканьня 29.3.1949 г. Якраз у гэтым часе з Парыжу прыехаў на паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык, які зажадаў асабіста спаткацца з із сябрамі Украінскага Ураду. У сувязі з гэтым 10.3.1949 г. Міністэрства замежных справаў скіравала праф. І. Мазэпу пасьпешны ліст з прапановай заміж спатканьня 29.3.1949 г. у Рэгенсбургу адбыць спатканьне 17.3.1949 г. у г. Аўгсбургу. На другі дзень ад праф. І. Мазэпы была атрымана тэлеграма з пазытыўным адказам. Пасьля паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР Прэзыдэнт М. Абрамчык і міністар замежных справаў выехалі ў Аўгсбург. Там з украінскага боку ў спатканьні ўдзел бралі Старшыня Выканаўчага органу УНРады праф. І. Мазэпа, ягоны заступнік праф. В. Мудры[358], сябры Выканаўчага органу праф. П. Фэдэнка й др. Л. Макарушка[359], а таксама заступнік Старшыні Прэзыдыюму УНРады др. С. Вітвіцкі[360]. Прэзыдэнт УНР А. Левіцкі[361] з прычыны дрэннага стану здароўя ў спатканьні ўдзелу ня браў.

На пачатку спатканьня адбыўся абмен інфармацыямі ў справе некаторых нутраных пытаньняў беларускага і ўкраінскага нацыянальна-вызвольных рухаў, а потым — абмен паглядамі на розныя канцэпцыі перабудовы Ўсходняе

[358] **Васіль Мудры** (1893–1966), украінскі палітычны дзеяч, журналіст. Адзін з заснавальнікаў Украінскага нацыянальна-дэмакратычнага аб'яднання. У другой палове 1940-х гг. быў намеснікам старшыні Выканаўчага органа УНРады.

[359] **Любамір Макарушка** (1899–1986), украінскі палітычны і вайсковы дзеяч. У часе Другой сусветнай вайны ўдзельнічаў у стварэнні дывізіі СС «Галічына». У 1948–1951 гг. — сябра Выканаўчага органа УНРады.

[360] **Сцяпан Вітвіцкі** (1884–1965), украінскі палітычны дзеяч, журналіст, сябра Украінскай нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Ад 1949 г. быў намеснікам старшыні Выканаўчага органа УНРады. У 1954–1965 гг. — Прэзідэнт Украінскай Народнай Рэспублікі на выгнанні.

[361] **Андрэй Лівіцкі** (1879–1954), украінскі палітычны дзеяч. У 1926–1948 гг. — кіраўнік Дырэкторыі УНР. У 1948–1954 гг. — першы Прэзідэнт Украінскай Народнай Рэспублікі ў выгнанні.

Эўропы. Пасьля гэтага Прэзыдэнт выехаў у Парыж, а міністар замежных справаў 18.3.1949 г. працягваў далей абмеркаваньне канкрэтных справаў беларуска-ўкраінскага супрацоўніцтва. Між іншага, намі была высунута прапазыцыя аб падпісаньні пратаколу ў справе дзяржаўных межаў паміж БНР і УНР. Нашая прапазыцыя была так сфармуляваная, што яна магла-б быць прыемлемай для абодвых зацікаўленых бакоў. Пытаньне межаў, паводля яе, разьвязвалася-б толькі прынцыпова й часова. Асноўныя тэзы гэтае прапазыцыі наступныя: 1. Не разглядаць да часу вызваленьня спад чужое акупацыі тэрыторыяў БНР і УНР пытаньне канчальнага ўстанаўленьня дзяржаўных межаў за справу першачарговае актуальнасьці; 2. За часовую дэмаркацыйную лінію паміж БНР і УНР уважаць адміністрацыйную лінію паміж БССР і УССР. Гэтая дэмаркацыйная лінія абавязвае абедзьве дзяржавы да мамэнту падпісаньня імі Умовы аб дзяржаўных межах паміж БНР і УНР; 3. Падпісаньне Умовы аб дзяржаўных межах паміж БНР і УНР маюць учыніць па вызваленьні тэрыторыяў БНР і УНР спад расейска-бальшавіцкае і ўсялякае іншае акупацыі новапаўсталыя ўрады абодвых дзяржаваў, пакліканыя выбранымі ў вызваленых краёх парлямэнтамі; прычым за прынцып вызначэньня дзяржаўных межаў мае быць узяты этнаграфічны прынцып. У далейшых размовах была даведзена да канца справа хутчэйшага скантактаваньня й супрацоўніцтва прадстаўнікоў Рады БНР у розных дзяржавах сьвету з прадстаўнікамі УНРады.

Пастанавілі:

Апрабаваць пазыцыю Міністэрства замежных справаў у справе перамоваў з Выканаўчым органам УНРады.

Слухалі:

4. Ліст Славацкае Нацыянальнае Рады

Славацкая Нацыянальная Рада імем свайго Прэзыдыюму, які знаходзіцца ў Лёндане, зьвярнулася да Ураду БНР з прапазыцыяй аб паразуменьні й супрацоўніцтве.

Пастанавілі:

Распачаць із Славацкай Нацыянальнай Радай перамовы, даручыўшы Прадстаўніку Ураду БНР у Лёндане праф. В. Жук-Грышкевічу навязаць зь ейнымі кіраўнікамі асабісты кантакт.

Слухалі:

5. Плян працы Міністэрства нутраных справаў Ураду БНР

Дзеля таго, што гэты плян яшчэ не гатовы, перанесьці гэты пункт парадку дня на наступнае паседжаньне Рады міністраў, а цяпер абмеркаваць актуальныя пытаньні нутранога жыцьця беларускае эміграцыі ў Нямеччыне.

*а. Справу перавыбараў Беларускага нацыянальнага камітэту*[362]

---

[362] **Беларускі нацыянальны камітэт** быў заснаваны ў Рэгенсбургу ў 1945 г. для прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны.

Міністар А. Адамовіч заявіў, што ў сувязі із заканчэньнем кадэнцыі БНК і адыходам ягонага Старшыні інж. У. Тамашчыка на рэлігійнае поле дзейнасьці, Прэзыдыюм БНК мае замер абвесьціць новыя перавыбары БНК.

Выказаўшыя ў гэтай справе свае спасьцярогі спсп. міністры А. Каханоўскі, С. Грынкевіч і Ф. Кушэль прыйшлі да адназгоднага выснаву, што ў сучасных умовах у Нямеччыне, калі завастрылася дывэрсійная дзейнасьць зарубежніцтва, без належнае папярэдняе падрыхтоўкі абвяшчаць перавыбары БНК было-б рызыкоўным і неразважным крокам, тым балей, што якраз цяпер, паводля пляну IPO[363], прадбачыцца ліквідацыя й развоз цэлага шэрагу лягероў ДП у амэрыканскай зоне Нямеччыны.

Пастанавілі:

Прыймаючы пад увагу неадпаведнасьць часу дзеля правядзеньня перавыбараў БНК у Нямеччыне, парадзіць Прэзыдыюму БНК часова ўстрымацца ад гэтага, а адначасна расьпісаць лісты ўва ўсе беларускія лягеры ДП і зарганізаваныя нацыянальныя групы ў іншанацыянальных лягерох з просьбаю падаць БНК інфармацыі аб дакладнай нутраной сытуацыі ў іх. І толькі пасьля гэтага прыняць адпаведную пастанову ў справе перавыбараў БНК.

*б. Справу эміграцыі беларусаў-ДП зь Нямеччыны ў іншыя краі*

Міністар А. Каханоўскі заўважыў, што ў сувязі з тым, што цяпер пачаўся найбольш шпаркі тэмп эміграцыі ДП зь Нямеччыны, Міністэрства нутраных справаў Ураду БНР у кантакце зь Беларускім нацыянальным камітэтам у Нямеччыне мусіць зактывізаваць свае высілкі ў кірунку выдатнейшае дапамогі беларусам у іхнай хутчэйшай эміграцыі зь Нямеччыны і ўрэгуляваньні ў тым, куды з гледзішча нацыянальнае карысьці яны павінны выяжджаць. Дзеля таго сп. А. Каханоўскі запрапанаваў: а. арыентаваць беларусаў у Нямеччыне на эміграцыю галоўным чынам у такія краі, як ЗША, Канада, Аргентына й Францыя, бо ў гэтых краёх ужо ёсьць паважнейшая колькасьць зарганізаваных беларускіх эмігрантаў, і гэтыя краі, разам з Ангельшчынай і Бэльгіяй, куды эміграцыя ўжо амаль зачыненая, маюць стацца галоўнымі асяродкамі беларускае эміграцыі і ейнае нацыянальна-палітычнае працы; б. Беларускаму нацыянальнаму камітэту ў Нямеччыне трэба бліжэй супрацоўнічаць з рознымі рэлігійнымі місіямі, якія разьмяркоўваюць ананімныя афідавіты на эміграцыю ў ЗША, каб мець магчымасьць як найболей дастаць іх для беларусаў; в. абавязаць Прадстаўніцтва Ураду БНР у ЗША выявіць найбольшую ініцыятыву, вынаходлівасьць і энэргічнасьць у здабыцьці ім пэрсанальных афідавітаў для беларусаў зь Нямеччыны; г. Міністэрству нутраных справаў арганізаваць сваечасовае перасыланьне адпаведным прадстаўнікам Ураду БНР сьпісаў (а ў ЗША і адрысоў) усіх эміграваўшых

---

[363] ***IRO*** (*International Refugee Organization*) — **Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў** — заснаваная ААН 20 красавіка 1946 г.для дапамогі ўцекачам, якія з’явіліся ў выніку Другой сусветнай вайны. *IRO* стала пераемніцай *UNRRA* і апекавалася выездам *DP* на сталае месца жыхарства з Нямеччыны і Аўстрыі ў іншыя краіны.

зь Нямеччыны беларусаў, каб апошнія маглі як найхутчэй па прыезьдзе ў новы край скантактавацца з сваімі беларускімі арганізацыямі і ўстановамі; кожны-ж выяжджаючы зь Нямеччыны беларус мусіць атрымаць на рукі адрыс беларускае арганізацыі таго краю, у які ён эмігруе.

Пастанавілі:

Прапазыцыю Міністра А. Каханоўскага прыняць, а Міністэрству нутраных справаў забясьпечыць ейнае выкананьне.

Слухалі:

6. Плян працы Міністэрства прэсы і інфармацыі.

Міністар А. Адамовіч паведаміў, што ён яшчэ ня мае дэталёва распрацаванага пляну працы на пісьме, бо перад тым хацеў бы пачуць увагі Рады міністраў на ягоны праект. Паводля праекту міністра А. Адамовіча, праца Міністэрства прэсы і інфармацыі павінна мець наступныя асноўныя галіны: 1. Кіраваньне беларускай эміграцыйнай прэсай (газэты, часапісы, брашуры й г. д.), дзеля чаго мае быць як найхутчэй зарганізаваная Беларуская прэсавая агенцыя[364] і зактывізаваны Саюз беларускіх журналістых[365] з найшырэйшаю сеткаю карэспандэнтаў ува ўсіх беларускіх асяродках сьвету. 2. Арганізацыя сыстэматычнае інфармацыі чужынцаў аб беларускай нацыянальнай праблеме (выданьне ў ангельскай, францускай і інш. мовах брашураў аб Беларусі і беларускім нацыянальна-вызвольным руху й распаўсюджаньне іх сярод чужынцаў, а таксама падрыхтоўка артыкулаў і інфармацыяў для чужынецкае прэсы й г. д.). 3. Аднаўленьне «Бюлетэню Рады БНР»[366].

Пастанавілі:

Апрабаваць агульныя нарысы пляну працы Міністэрства прэсы і інфармацыі, а на наступнае паседжаньне Рады міністраў падаць здэталізаваны плян у пісьмовай форме.

Слухалі:

7. Справу Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Міністар культуры й веравызнаньняў др. А. Орса прыгадаў аб тым, што пасьля таго, як былы япіскапат Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы перайшоў у Расейскую Праваслаўную Зарубежную Царкву[367],

[364] Звестак пра Беларускую прэсавую агенцыю не знойдзена.

[365] **Саюз беларускіх журналістых** — арганізацыя, якая дзейнічала ў паваеннай Нямеччыне і аб’ядноўвала беларускіх журналістаў у Еўропе.

[366] Паводле звестак «Бібліяграфіі беларускага і беларусаведнага друку на Захадзе» Вітаўта і Зоры Кіпеляў, **«Бюлетэнь Рады БНР»** быў адноўлены ў Нямеччыне ў 1947 г. як працяг ранейшага пражскага выдання, аднак у ліпені 1948 г. выйшаў ягоны апошні вядомы нумар. Таму ў 1949 г. была актуальнай праблема яго аднаўлення, якое рэальна адбылося толькі ў 1957 г. у ЗША.

[367] Руская зарубежная праваслаўная царква (Руская праваслаўная царква за мяжой) створана ў 1921 г. прадстаўнікамі расійскай царкоўнай эміграцыі. Узначальвалася мітрапалітам з рэзідэнцыяй у амерыканскім горадзе Джорданвіль, афіцыйна не прызнавалася аўтакефальнымі праваслаўнымі цэрквамі. У траўні 2007 г. аб’ядналася з Рускай праваслаўнай царквой, але захавала самакіраванне. У 1946 г. епіскапы Беларускай праваслаўнай царквы перайшлі ў юрысдыкцыю РЗПЦ, што

беларуская эміграцыя засталася без свайго нацыянальнага праваслаўнага духавенства. Але летась, дзякуючы ініцыятыве беларусаў праваслаўных-аўтакефалістых, быў скліканы ў г. Канстанцы зьезд Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, на якім было выбранае Часовае Кіраўніцтва БАПЦ на чале із запрапанаваўшым сваю дапамогу ўкраінскім япіскапам Сергіем[368]. Гэты крок выклікаў варожую акцыю з боку зарубежнікаў, ад якіх пасыпаліся розныя інсынуацыі й скаргі галаве Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы мітрапаліту Палікарпу[369] на япіскапа Сергія, які знаходзіцца ў ягонай юрысдыкцыі. У сувязі з гэтым мітрапаліт Палікарп патрабаваў ад япіскапа Сергія апекавацца ўсімі праваслаўнымі францускае зоны Нямеччыны, незалежна ад нацыянальнасьці, але не займацца спэцыяльна беларускімі царкоўнымі справамі. Аднак япіскап Сергій стаў станоўка на тым становішчы, што беларусы павінны мець сваю самастойную (аўтакефальную) праваслаўную царкву, і ён ім у гэтым наважыўся дапамагчы. Цяпер япіскап просіць нас падаць яму адпаведных кандыдатаў-беларусаў на высьвячэньне іх у сьвятары і япіскапы. Дзеля таго, што Прэзыдыюм Рады БНР на сваім паседжаньні 14–15.03.1949 г. пастанавіў актыўна падтрымаць акцыю беларусаў праваслаўных-аўтакефалістых і япіскапа Сергія ў справе далейшае разбудовы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Урад БНР мусіць цяпер актыўней дапамагаць ім у гэтым.

Пастанавілі:

1. Паслаць япіскапу Сергію ад імя Ураду БНР ліст з падзякаю за ягоную дасюлешнюю працу ў БАПЦ.

2. Міністру культуры й веравызнаньняў др. А. Орсу зьвязацца зь япіскапам Сергіем з мэтаю больш дзейнае дапамогі яму ў падрыхтаваньні кандыдатаў на высьвячэньне беларускіх духоўнікаў-аўтакефалістых[370] і арганізацыі беларускіх праваслаўных прыходаў на эміграцыі.

---

было расцэнена значнай часткай беларускіх эміграцыйных дзеячаў, асабліва прыхільнікаў Рады БНР, як здрада.

[368] **Сергій** (**Ягор Ахатэнка**, 1890–1971), праваслаўны дзеяч, іерарх БАПЦ. У гады Другой сусветнай вайны дзейнічаў ва Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. У 1944 г. эміграваў у Нямеччыну. У 1948 г. узначаліў Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву. У 1950 г. выехаў у Аўстралію.

[369] **Палікарп** (**Пётр Сікорскі**, 1875–1953), украінскі праваслаўны іерарх. Скончыў Кіеўскую духоўную семінарыю. У 1919–1921 гг. быў віцэ-дырэктарам Дэпартамента агульных справаў ва ўрадзе Пятлюры. З 1921 г. жыў у Польшчы, з 1922 г. — епіскап Луцкі. 2 жніўня 1941 г. прызначаны на пасаду архіепіскапа Луцкага і Ковельскага, а 24 снежня 1941 г. — адміністратара аўтакефальнай Украінскай праваслаўнай царквы. Ад мая 1942 г. — мітрапаліт Кіеўскі. Ад 1944 г. — жыў у Нямеччыне, потым — у Францыі, кіраваў Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквой за мяжой.

[370] Галоўным кандыдатам на пасвячэнне стаў Уладзімір Тамашчык. 23 красавіка 1949 г. ён прыняў манаскі пострыг з імем Васіль, 25 красавіка быў пасвечаны ў іерадыякана, а 5 чэрвеня 1949 г. у Цюбінгене быў рукапаложаны ў сан іераманаха.

3. Даць распараджэньне ўсім прадстаўнікам Ураду БНР аб падтрыманьні імі БАПЦ пад зьверхніцтвам япіскапа Сергія.

Слухалі:

8. Справу стварэньня «Фонду 25-га Сакавіка»

Міністар фінансаў сп. С. Кабыш паведаміў, што фінансавыя справы Ураду знаходзяцца ў вельмі цяжкім стане. Тыя фонды, якія ўдалося сабраць раней, ужо вычэрпваюцца на самыя неабходныя патрэбы, а крыніцаў новага прыплыву грошай не прадбачыцца. Частковым выйсьцем з гэтага становішча было-б увядзеньне % адлічэньня ад заробку працуючых беларусаў-эмігрантаў і выданьне «Маркі БНР». Мо найлепшым выйсьцем было-б увядзеньне адзінага падатку на фінансаваньне працы Ураду БНР і ўсіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў на эміграцыі.

Прэм'ер-міністар А. Каханоўскі заўважыў, што сцэнтралізаваць справу ападаткаваньня беларусаў нейкім адзіным нацыянальным фондам на фінансаваньне працы Ураду БНР і ўсіх іншых беларускіх грамадзкіх арганізацыяў нельга, бо Урад БНР гэтым займацца ня можа, а САБЭ[371] як грамадзкая ўстанова, калі-б і занялася ёю, то была-б ня ў стане з праўна-фармальнага гледзішча перадаваць грошы Ураду, сабраныя на грамадзкія патрэбы. Таму нашыя фінансавыя справы мусяць быць аддзеленыя ад грамадзкіх. Прэзыдыюм Рады БНР 14.3.1949 г. згадзіўся із маім праектам стварэньня асобнага «Фонду 25-га Сакавіка» на фінансаваньне працы органаў БНР. Дзеля гэтага Урад павінен сёньня прыняць пастанову аб стварэньні спэцыяльнага «Фонду 25-га Сакавіка». Гэты фонд складаўся-б із трох прыбытковых пазыцыяў: 1. штомесячнага 2 % падатку ад заробку кожнага працуючага сябры Рады БНР; 2. дабраахвотных ахвяраў грамадзянства ў форме набыцьця ім «Марак БНР» і 3. ахвяраваньняў большымі сумамі із запісам такіх ахвярадаўцаў у «Залатую Кнігу БНР».

Пастанавілі:

1. Стварыць асобны фінансавы «Фонд 25-га Сакавіка» на фінансаваньне працы органаў БНР;

2. Міністэрству фінансаў у як найхутчэйшым часе: а. разаслаць усім прадстаўніком Ураду БНР дакладнейшую інструкцыю ў справе збору імі ад 1.5.1949 г. сродкаў у гэты фонд; б. як найхутчэй выдаць «Марку БНР»[372] і в.

---

[371] **Сусветнае аб'яднанне беларускай эміграцыі** (САБЭ) было створана на Першым сусветным з'ездзе беларускай эміграцыі ў Парыжы ў снежні 1948 г. для каардынацыі дзейнасці беларускіх асяродкаў у свеце. Стварэнне арганізацыі было ініцыятывай М. Абрамчыка.

[372] У 1949 г. пабачыла свет першая серыя марак БНР. Маркі мелі тры наміналы: 50 грошаў (з выявай Дома Рады БНР зялёнага колеру), 1 талер (з выявай Васіля Захаркі чырвонага колеру), 3 талеры (з выявай Пётры Крэчэўскага фіялетавага колеру). У 1950 г. былі выдадзеныя яшчэ 8 марак: варыянты першых трох у іншых колерах, а таксама два новыя наміналы: 25 грошай (з выявай Пагоні) і 10 грошай (з выявай мапы Беларусі). Быў падрыхтаваны праект і маркі з выявай

сьцягнуць да 15.5.1949 г. ад сяброў Рады ўсю запазычанасьць з аднаразовага самаападаткаваньня.

Слухалі:

9. Бягучыя справы.

У бягучых справах разважалася пытаньне як найбольшае падрыхтоўкі беларусаў-матурыстых для студыяў у Лювэнскім[373] (Бэльгія) і інш. унівэрсытэтах Заходняе Эўропы.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 3.10.1949 Г. РОЗЭНГАЙМ[374] — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў — мгр. Аўген Каханоўскі, міністар вайсковых справаў — палк. Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі — сп. Антон Адамовіч, міністар фінансаў — сп. Сымон Кабыш і Дзяржаўны сакратар — сп. Гіпаліт Паланевіч.

Парадак дня:

1. Інфармацыя аб працы міністэрстваў.

2. Справа дэмісіі Ураду.

Слухалі:

1. Інфармацыю аб працы міністэрстваў.

Інфармацыю пачаў прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі, які зазначыў, што ад 9.4.1949 паседжаньняў Рады міністраў ня было з прычыны адсутнасьці патрэбнага кворуму сяброў Ураду: спсп. міністры др. А. Орса, др. С. Грынкевіч і С. Кабыш выехалі ў транзытны лягер на камісію ў сувязі зь іхнай эміграцыяй у ЗША. Азначаны час быў вельмі няспрыяльны для працы Ураду, бо апрача канчальнага выключэньня з працы спсп. міністраў з эміграцыйных прычынаў, рэшта сяброў Ураду адрывала-

---

Прэзідэнта Міколы Абрамчыка, аднак апошні выказаўся супраць, і марка не была выдадзена. Аўтарам марак быў Уладзімір Шыманец.

373 Увосень 1948 г. намаганнямі Барыса Рагулі пры дапамозе а. Роберта ван Кавэлярта ўдалося атрымаць магчымасць для навучання беларускіх студэнтаў у каталіцкім універсітэце ў Лювене. Увосень 1949 г. паўстала пытання прыняцця яшчэ часткі беларускіх студэнтаў ва ўніверсітэт. Намаганнямі а. Роберта Барыс Рагуля атрымаў аўдыенцыю ў Рымскага Папы, вынікам якой стала выдзяленне грошай для стыпендый яшчэ групе беларускіх студэнтаў. Разам цягам 1948–1963 гг. у Лювене вучыліся 57 беларусаў. Гл.: Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Выданне другое. Мінск, 2006. — 188 с.

374 **Розенгайм** (ням. *Rosenheim*) — горад у Баварыі, на паўднёвы захад ад Мюнхена, дзе ў чэрвені 1949 г. — жніўні 1950 г. дзейнічаў беларускі лагер *DP*.

ся ад сваёй беспасярэдняй працы рознымі грамадзкімі справамі. Адмоўна адбіўся на працы Ураду ўпадак актыўнасьці сярод нашага нацыянальнага актыву ў Нямеччыне, дзякуючы эміграцыйным клопатам, і цяжкі фінансавы стан. Усё гэта спрычынілася да таго, што Урад працаваў ненармальна й не зрабіў усяго таго, што мог-бы зрабіць пры іншых абставінах.

Найбольшая ўвага Ураду за гэты час была зьвернута на разгортваньне працы Прадстаўніцтваў Ураду ў розных краёх эміграцыі. Так, прыкладам, 27.4.49 Прадстаўніцтву Ураду БНР у ЗША былі скіраваныя інструкцыі ў справе арганізацыі там Задзіночаньня беларусаў у ЗША[375] і дапамогі ДП ашурансамі[376] для эміграцыі ў ЗША. Прадстаўніцтва Ураду БНР у Аўстраліі правяла энэргічную акцыю ў травені месяцы перад аўстралійскім міністэрствам іміграцыі ў справе дапушчэньня ў Аўстралію сямейных беларусаў зь Нямеччыны[377]. Дзеля пэрсанальнага павялічэньня грамадзкіх арганізацыяў у ЗША, Канадзе і Аўстраліі туды былі высланыя сьпісы выэміграваўшых у гэтыя краі беларусаў.

У працэсе разгортваньня працы прадстаўніцтваў і актывізацыі САБЭ ў Ангельшчыне дзеля недастатковага разуменьня кампэтэнцыяў і функцыяў гэтых інстытуцыяў пачалі ўзьнікаць між імі некаторыя непаразуменьні[378]. Урад змушаны быў весьці даўжэйшую перапіску із Галоўнай Управай САБЭ і сваімі прадстаўнікамі, каб урэгуляваць нармальныя дачыненьні й

---

[375] 31 ліпеня 1949 г. у Брукліне адбыўся першы (устаноўчы) сход Беларускага задзіночання ў Задзіночаных Гаспадарствах Амерыкі, пазней перайменаванага ў **Беларуска-амерыканскае задзіночанне** (БАЗА).

[376] Для эміграцыі ў ЗША акрамя запрашэння (афідэвіта) патрэбнае было своеасаблівае паручыцельства (ашуранс), якое ўключала страхоўку запрошанай асобы ды гарантыю наяўнасці месца працы.

[377] 28 траўня 1949 г. у Канберы адбывалася шматнацыянальная выстава, што знаёміла мясцовае насельніцтва з культурай прыбылых з Нямеччыны *DP*. У выставе бралі ўдзел і мясцовыя беларусы, якія скарысталі з цікавасці да свайго стэнда з боку міністра эміграцыі А. Калуэла, каб папрасіць яго дазволіць прыезд у Аўстралію сямейных беларусаў. І гэты дазвол быў атрыманы. Падрабязней гл.: Сямейныя беларусы могуць эміграваць у Аўстралію // Бацькаўшчына. № 14(58). 30.06.1949.

[378] Прадстаўнікамі ад беларусаў Вялікабрытаніі на з’ездзе пры стварэнні САБЭ былі лонданскія сябры Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Аляксандр Лашук, Мікола Нікан і Часлаў Кукель. Кіраўніцтва ЗБВБ вырашыла не праводзіць выбары дэлегатаў па асяродках, а таму шараговыя ўдзельнікі арганізацыі з рэгіёнаў даведаліся пра Сусветны з’езд і дэлегацыю з Вялікабрытаніі на ім толькі з публікацыі ў газеце «Бацькаўшчына» ўжо пасля падзеі. Сам характар САБЭ ды сітуацыя неінфармаванасці сябраў ЗБВБ і стала галоўнай прычынай узніклага пратэсту з боку беларусаў у Ёркшыры. Незадавальненне лягло ў добрую глебу ўнутрыбрытанскіх супярэчнасцяў беларускага жыцця, узаемных абвінавачанняў на старонках лонданскіх перыёдыкаў. Падрабязней пра гэта: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 153.

гарманійнае супрацоўніцтва паміж Прадстаўніцтвамі Ураду і грамадзкімі арганізацыямі. У гэтым-жа часе былі ўпарадкаваныя дакумэнты й матэрыялы маскоўска-бальшавіцкага тэрору ў Беларусі.

У галіне прэсы і інфармацыі ў чэрвені месяцы Урад зарганізаваў Беларускае інфармацыйнае бюро (БІБ) і паклікаў дзеля гэтае мэты спэцыяльных інфармацыйных рэфэрэнтаў пры Прадстаўніцтвах. Ад іх Урад атрымоўвае інфармацыі аб беларускай нацыянальнай працы й працы арганізацыяў іншых народаў, празь іх вядзе інфармацыю навонкі аб беларускім вызвольным руху. Найбольш актыўнымі ў гэтай справе выказаліся рэфэрэнты Аргентыны (Юзэфовіч[379]), Ангельшчыны (Скрыньнік[380]) і Канады (Грыцук[381]), якія ўжо апублікавалі па некалькі артыкулаў у мясцовай аргентынскай, украінскай, летувіскай і інш. прэсе. Нутраная інфармацыя праводзіцца нашай прэсай і вуснымі рэфэратамі сярод беларусаў.

У галіне царкоўных справаў Урад пачаў актыўна дапамагаць БАПЦ. 12.4.1949 была выслана ад імя Ураду падзяка япіскапу Сергію за ягоную апеку над БАПЦ і лісты прадстаўніком Ураду аб падтрыманьні БАПЦ і ейнага апякуна. За гэты час зарганізаваны два аўтакефальныя праваслаўныя прыходы, некалькі грамадаў Беларускага Царкоўнага Брацтва Сьвятога Абраза Жыровіцкае Божае Маці, высьвячана некалькі сьвятароў і ідзе падрыхтоўка да хіратоніі а. Васіля ў япіскапы БАПЦ[382]. Каса Ураду фінансавала працу БАПЦ.

У галіне фінансавай зроблена вельмі мала з прычыны адсутнасьці міністра фінансаў: 25.5.1949 сп. С. Кабыш мусіў здаць усе справы ў сувязі із

---

[379] **Генрык Юзэфовіч** (?–?), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі, а ў 1946 г. — у Рымскім універсітэце. З Італіі перабраўся ў Вялікабрытанію. Ад 24.12.1946 належаў да ЗБВБ. У 1949 г. выехаў у Аргенціну, дзе належаў да беларускіх нацыянальных арганізацый. Адтуль пазней, у 1952 г., выехаў на навучанне ў Гішпанію.

[380] **Міхась Скрыннік** (08.05.1908, в. Рубяжэвічы (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — ?), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лондане. Ад 02.06.1948 быў сябрам ЗБВБ, быў радным БНР. У 1951–1953 гг. быў кіраўнікам Беларускага выдавецкага фонду ў Вялікабрытаніі.

[381] **Аляксей Грыцук** (03.07.1910, в. Міхнаўка (сёння Падляшскае ваяводства Польшчы — 30.05.1976, Кінгстан, Антарыа, Канада), грамадскі дзеяч, літаратуразнаўца. Завочна скончыў Варшаўскі ўніверсітэт са ступенню магістра гісторыі. Удзельнік абароны Варшавы ў верасні 1939 г. Трапіў у палон. У часе нямецкай акупацыі кіраваў школьным інспектаратам на Беласточчыне. У 1944 г. — асветны афіцэр у БКА. Чытаў лекцыі па гісторыі ў 1-ым кадравым батальёне БКА ў Берліне. У паваенны час быў адным са стваральнікаў Беларускага камітэта ў Аўстрыі. У 1948 г. пераехаў у Канаду. Жыў у Таронта. Браў актыўны ўдзел у грамадскім і царкоўным жыцці беларусаў Канады.

[382] 19 снежня 1949 г. у Розенгайме Васіль быў хіратанісаны ў епіскапа Віленскага БАПЦ.

сваім ад'ездам; 21.6.1949 пераняў іх сп. В. Кендыш[383], які пасьпеў за гэты час выдрукаваць і разаслаць Падатковыя пасьветчаньні сябром Рады. Па кароткім часе сп. В. Кендыш таксама выехаў, і цяпер справы пераняў зноў сп. Кабыш[384]. Дзякуючы артыкулу ў «Бацькаўшчыне» аб стварэньні адзінага фінансавага фонду ў розных краёх[385] паўстала блытаніна ў разуменьні «Фонду 25-га Сакавіка», што выклікала даўжэйшую перапіску із сп. Прэзыдэнтам і старшынём САБЭ.

У галіне вонкавае палітыкі праца разьвівалася ў духу прынятых Радаю БНР пастановаў. Было паглыблена супрацоўніцтва з Выканаўчым органам УНРады і Лацьвійскім Урадам, а таксама ўстаноўлена сувязь із Эстонскім Урадам, Славацкай Нацыянальнай Радай і Чэскім вызвольным камітэтам ген. Прхалі[386]. З розных прычынаў 3-я канфэрэнцыя з Выканаўчым органам УНРады не адбылася. Зь Летувіскім Урадам новых спатканьняў ня было, бо ня маем ніякіх новых формулаў разьвязваньня спрэчак аб Вільні. 25.7.1949 Прэм'ер Летувы Сідзікаўскас па дарозе із ЗША быў у Парыжы прыняты ў Прэзыдэнта, але нічога новага яму не запрапанаваў. 25.7.1949 у гор. Эсьлінгене адбылася 2-ая канфэрэнцыя з прадстаўнікамі Лацьвійскага Ураду (падрабязная інфармацыя аб канфэрэнцыі ў дакладзе Прэзыдэнту ад 2.8.1949).

Пастанавілі:

Інфармацыю прыняць да ведама.

Слухалі:

2. Справу дэмісіі Ураду.

---

[383] **Васіль Кендыш** (16.03.1908, в. Чарапы, Нясвіжскі пав. — 01.10.2003, Спрынгфілд, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч. У 1929 г. скончыў Клецкую беларускую гімназію. Вучыўся ў Найвышэйшай тэхнічнай школе ў Вільні. Працаваў меліяратарам, арганізоўваў беларускія драматычныя гурткі. У 1939–1941 гг. настаўнічаў. Скончыў Настаўніцкі інстытут у Беластоку. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі ў Баранавічах, Нясвіжы, Клецку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лагерах *DP* у Нямеччыне. Быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта на амерыканскую зону акупацыі. Актыўны ўдзельнік аднаўлення БАПЦ. Увесну 1949 г. выехаў у ЗША, жыў у Спрынгфілдзе. Сябра БАЗА.

[384] Відавочна, у Сымона Кабыша (Кандыбовіча) узніклі праблемы з пераездам у ЗША і ён застаўся да канца жыцця на сталае жыхарства ў Нямеччыне.

[385] Маецца на ўвазе артыкул Язэпа Каранеўскага (Станіслава Станкевіча) «Собскімі сіламі» (Бацькаўшчына. № 6 (50). 23.02.1949), дзе фармулявалася ідэя стварэння адзінага Беларускага нацыянальнага фонду, які б акумуляваў усе сродкі беларускай эміграцыі і размяркоўваў іх паміж арганізацыямі.

[386] **Леў Прхаля** (1892–1963), чэшскі вайсковец і палітычны дзеяч на эміграцыі, генерал. Пакінуў Чэхаславаччыну пасля яе захопу нацыстамі ў 1939 г. і ад таго часу жыў на эміграцыі: спачатку ў Францыі, потым — у Вялікабрытаніі, дзе стварыў Чэшскі нацыянальны камітэт.

У сувязі з тым, што хутка мае адбыцца 4-ая Сэсія Рады БНР[387], прэм’ер прапануе абмеркаваць справу дэмісіі[388] Ураду БНР з наступных матываў: а. Урад можа добра працаваць толькі тады, калі ўсе Міністэрствы будуць актыўна дзеіць, а гэтага, на жаль, у нас няма; 20.5.1949 да ўсіх міністраў Ураду быў скіраваны ліст ультыматыўнага характару з патрабаваньнем разгарнуць працу, але пасьля гэтага ліста стан працы не зьмяніўся; б. Урад БНР ня мае належнае падтрымкі з боку сяброў Рады БНР, а некаторыя зь іх нават ня ўносяць сваіх сяброўскіх складак; в. нутраныя рэсорты працы (Міністэрства нутраных справаў, прэсы і інфармацыі, культуры і веравызнаньняў) зусім бязьдзейнічалі. З гэткім станам працы мірыцца нельга, і таму прэм’ер прапануе паставіць на Сэсіі Рады пытаньне аб дэмісіі Ураду.

Дыскусія. Міністар А. Адамовіч не пагаджаецца з прэм’ерам аб тым, што праца Ураду была недастатковай. Ён зазначае, што пры існуючых абставінах было зроблена нават болей, чымся гэта было магчыма зрабіць. Шкада толькі, што амаль усё гэта праца была зроблена самім прэм’ерам. Палк. Кушэль і сп. Кабыш падтрымалі думку сп. А. Адамовіча.

Пастанавілі.

На Сэсіі Рады БНР усяму габінэту падацца да дэмісіі.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 14–15.10.1949 Г. РОЗЭНГАЙМ-НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі, віцэ-прэм’ер і міністар нутраных справаў мгр. Мікола Кунцэвіч, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, міністар культуры і веравызнаньняў сп. Аляксей Вініцкі[389], міністар плянаваньня сп.

---

[387] Чацвёртая Сесія Рады БНР адбылася 9–10 кастрычніка 1949 г.

[388] **Дэмісія** (ад ням. *demission*) — адстаўка, звальненне. Тут, магчыма, маецца на ўвазе самароспуск.

[389] **Аляксей Вініцкі** (26.12.1891, в. Малева Слуцкага пав. Менскае губ. (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.) — 23.11.1972, Каліфорнія), грамадскі дзеяч, педагог. Пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі працаваў выкладчыкам.ў. У часе Першай сусветнай вайны ваяваў у царскім войску, даслужыўшыся да звання капітана. Пасля вайны вярнуўся ў родную вёску, дзе арганізаваў беларускую школу, якую неўзабаве зачынілі польскія ўлады. Настаўнічаў у польскіх школах, а з прыходам Саветаў стаў дырэктарам дзесяцігодкі. За немцамі ствараў беларускія школы і аднавіў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Пасля Другой сусветнай вайны спрыяў стварэнню беларускіх лагераў *DP*. Ад 1949 г. дырэктар Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, выкладаў геаграфію.

Сымон Кабыш, выконваючы абавязкі міністра фінансаў сп. Віталі Кажан[390], Дзяржаўны сакратар сп. Гіпаліт Паланевіч.

Парадак дня:

1. Інфармацыя прэм’ер-міністра аб паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР ад 12.10.1949 г. у справе дакамплектаваньня габінэту Ураду БНР.

2. Дыскусія над беларускай нутраной і вонкавай сытуацыяй.

3. Агульны плян працы Ураду й першачарговыя заданьні міністэрстваў.

4. Бягучыя справы.

Слухалі:

1. Інфармацыю аб паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР ад 12.10.1949 г. у справе дакамплектаваньня габінэту Ураду БНР — прэм’ер-міністар А. Каханоўскі.

Прэм’ер Ураду мгр. А. Каханоўскі заявіў, што дзеля таго, што пасьля справаздачы Ураду на 4-й Сэсіі Рады БНР 8.10.1949 г. 11-ы габінэт Ураду БНР пайшоў у дымісію, Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык зьвярнуўся да яго з прапазыцыяй утварыць новы габінэт. Ад прапазыцыі гэтае ён сьпярша адмовіўся. Аднак пасьля другое настойлівае прапазыцыі, якая наступіла пасьля перамоваў сп. Прэзыдэнта із шэрагам радных, ён падпарадкаваўся нацыянальнаму абавязку й прапазыцыю Сп. Прэзыдэнта прыняў. Справа камплектаваньня новага габінэту Ураду была надзвычайна цяжкою, таму на зацьверджаньне Сэсіі быў пададзены няпоўны склад габінэту: ня былі абсаджаныя становішчы віцэ-прэм’ера, міністра нутраных справаў і канчальна міністра фінансаў. Падаючы на зацьверджаньне Сэсіі склад габінэту, на становішча міністра фінансаў ён уставіў кандыдатуру адсутнага на Сэсіі раднага сп. Васіля Кендыша без папярэдняга зь ім паразуменьня, спадзяючыся, што ён не зрачэцца гэтага становішча, бо дагэтуль быў віцэ-міністрам фінансаў, хоць і поўнае пэўнасьці ў гэтым у прэм’ера ня было. Дзеля гэтага 12.10.1949 г. ён зьявіўся на паседжаньне Прэзыдыюму Рады, каб канчальна завяршыць там справу дакамплектаваньня габінэту. Прэзыдыюм Рады запрапанаваў свайму сябру М. Кунцэвічу абняць становішча віцэ-прэм’ера й міністра нутраных справаў, а на міністра фінансаў вырашыў паклікаць

---

[390] **Віталь Кажан** (09.10.1916, в. Балбекі Дзісенскага пав. Віленскай губ. (сёння Шаркаўшчынскі р-н Віцебскае вобл.) — 17.01.2004, Стамфард, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч. Скончыў польскую гімназію ў Дзісне, вучыўся ў афіцэрскай школе. Ад 1939 г. працаваў настаўнікам. У жніўні 1942 г. скончыў першыя курсы афіцэраў у Мінску. Працаваў у Камітэце БНС у Глыбокім, ад сакавіка 1943 г. быў загадчыкам беларускай канцылярыі пры нямецкай установе ў Вялейцы. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Берліне займаўся навучаннем беларускіх афіцэраў. Ад лістапада 1944 г. быў ад’ютантам Ф. Кушаля. Пасля капітуляцыі Нямеччыны служыў у паліцыі лагераў *DP*. Ад 1948 г. — адміністратар газеты «Бацькаўшчына», сакратар Беларускага нацыянальнага камітэта на амерыканскую зону акупацыі Нямеччыны. Ад 1949 г. у лагеры ў Розенгайме працаваў бухгалтарам і выкладаў нямецкую і англійскую мовы ў беларускай школе. У 1950 г. прыехаў у ЗША.

інж. Уладзімера Шыманца[391], вызваліўшы папярэдня ад працы ў САБЭ[392]. Выконваць тым часам абавязкі міністра фінансаў даў згоду сп. Віталі Кажан.

Пастанавілі:

Прыняць да ведама інфармацыю прэм'ер-міністра.

Слухалі:

2. Дыскусію над беларускай нутраной і вонкавай сытуацыяй.

Дыскусію адчыніў прэм'ер А. Каханоўскі, які заўважыў, што ў апошнія часы наступілі пэўныя зьмены ў палітыцы ЗША ў дачыненьні да вызвольных рухаў народаў Усходняе Эўропы. Калі раней ЗША практычна не цікавіліся гэтымі праблемамі, то цяпер, пасьля некаторых няўдачаў і расчараваньняў у сваёй вонкавай палітыцы, гэтае зацікаўленьне ў іх зьявілася. Ведама аб спэцыяльнай амэрыканскай камісіі, якая глыбока вывучае праблемы ўсходня-эўрапэйскіх народаў, а ў тым і нашу беларускую праблему. Таму нам цяпер трэба напружыць усе сілы, каб асягнуць найбольшы вынік. У галіне нутранога жыцьця неабходна ўзмацніць палітычную працу сярод эміграцыі.

Сп. сп. міністры А. Адамовіч, А. Вініцкі, С. Кабыш зьвярнулі ўвагу ў дыскусіі на неабходнасьць хутчэйшага ўпарадкаваньня нутранога жыцьця беларускае эміграцыі, каб поўнасьцю пакончыць із кампрамітуючым нас зарубежніцтвам.

Усе выказаныя пажаданьні прэм'ер-міністар пагадзіўся ўняць у канкрэтны плян працы Ураду, які быў заслуханы й зацьверджаны на наступны дзень 15.10.1949 г.

Пастанавілі:

Зацьвердзіць ніжэйнаступны плян працы Ураду БНР:

1. У галіне вонкавае палітыкі:

Далей разьвіваць працу ў кірунку Пастановы Сэсіі Рады БНР ад 20–21.6.1948 г. у галіне беларускае вонкавае палітыкі й пляну працы Міністэрства замежных справаў, прынятага Урадам 20.8.1948 г., зьвярнуўшы большую ўвагу на кансалідацыю сілаў усіх паняволеных маскоўска-камуністычным імпэрыялізмам народаў супроць акцыі расейскіх імпэрыялістычных арганізацыяў на эміграцыі. Дзеля чаго: 1. Далей шукаць кантакты й пашыраць іх з урадамі і ўрадавымі дзейнікамі вольных дзяржаваў Захаду. 2. Інфармаваць іх аб заданьнях беларускага нацыянальна-вызвольнага руху й небясьпецы для заходняга сьвету з боку расейскага імпэрыялізму ў любой ягонай форме. 3. Высылаць АЗН[393], урадам заходніх дзяржаваў і розным міжнародным арганізацыям мэмарыялы ў справе абароны інтарэсаў беларускага народу. 4. Інтэнсіўней інфармаваць публічнасьць Захаду аб лёсе беларускага народу і ягонага краю, выдаючы карты Беларусі, брашуры, зьмяшчаючы ў замежнай

---

[391] **Уладзімір Шыманец** (15.05.1911, Рыга (Латвія) — 27.08.1977, Сартрувіль, Францыя), грамадскі дзеяч. Скончыў Віленскую тэхнічную школу (1932). Працаваў у Стоўбцах. З лета 1944 г. разам з сям'ёй — на эміграцыі. Спачатку жыў у Капенгагене, дзе арганізаваў Згуртаванне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю.

[392] Уладзімір Шыманец выконваў у САБЭ функцыі кіраўніка рэферату фінансаў.

[393] Тут маецца на ўвазе ААН.

прэсе артыкулы й г. д. 5. Пашыраць і паглыбляць сувязі й супрацоўніцтва з эміграцыйнымі ўрадамі. 6. Утрымоўваць сваіх прадстаўнікоў у міжнародных палітычных арганізацыях і кіраваць іхнай працай ува ўсіх краёх эміграцыі. 7. Далей трымаць у поўнай ізаляцыі зарубежнікаў ад вонкавых кантактаў. 8. Павялічыць кадры беларускіх дыплёматычных прадстаўнікоў.

2. У галіне нутраное палітыкі:

1. Трымаючы сталую сувязь із САБЭ, апекавацца і інсьпіраваць грамадзкае жыцьцё эміграцыі: узмацніць і законтывізаваць дзейнасьць існуючых арганізацыяў паводля інфармацыяў прадстаўнікоў Ураду БНР; кантраляваць высыланьне сьпісаў эмігруючых зь Нямеччыны беларусаў у іншыя краіны эміграцыі і забясьпечаньне эмігруючых адрасамі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў таго краю, куды эмігруючы выяжджае; заініцыяваць стварэньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Бразыліі, Марокка[394] і інш. краёх.

2. Інструктаваць прадстаўнікоў Ураду БНР у мерапрыемствах беларускае нутраное палітыкі і іхнага нагляду за працаю грамадзкіх арганізацыяў, рэгулярна патрабуючы ад іх інфармацыяў аб нутраным грамадзкім і палітычным жыцьці эміграцыі.

3. Садзеіць эміграцыі беларусаў зь Нямеччыны ў іншыя краі (арганізаваць выпрабленьне ашурансаў у ЗША, арыентаваць у выбары іншых краёў эміграцыі).

4. Весьці далейшае змаганьне із зарубежніцтвам, зьбіраць дакумэнты зарубежніцкае дэструкцыі, улажыць сьпіс зарубежніцкіх кіраўнікоў у розных краёх, рэгістраваць факты зарубежніцкіх акцыяў, перацягваць няшкодных беларусаў із зарубежжа ў незалежніцкія грамадзкія арганізацыі.

5. Упарадкаваць архівы беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў.

6. Весьці плянаваньне на будучыню: зрабіць адміністрацыйны падзел Беларусі, правесьці ўлік праз грамадзкія арганізацыі САБЭ ўсіх нацыянальных кадраў, бяручы на ўвагу й кадры ў краі, распрацаваць плян адміністрацыйнае абсады Беларусі на выпадак вайны.

3. У галіне прэсы і інфармацыі:

1. Разбудаваць Беларускае інфармацыйнае бюро: інструктаваць прэсава-інфармацыйных рэфэрэнтаў Прадстаўніцтваў Ураду БНР, рэгулярна патрабаваць ад іх інфармацыяў зь беларускага жыцьця й жыцьця іншых народаў, забясьпечыць прэсава-інфармацыйных рэфэрэнтаў афіцыйнымі інфармацыямі й камунікатамі; інсьпіраваць прэсава-інфармацыйных рэфэрэнтаў на публікацыі аб беларускім нацыянальна-вызвольным руху ў чужынецкай прэсе й на вусную інфармацыю чужынцаў.

2. Ідэалёгічна апекавацца беларускай эміграцыйнай прэсай — газэтамі, часопісамі й г. д. (імкнуцца да шырэйшае інфармацыі ў прэсе нашае нутраное й вонкавае палітыкі, а таксама й грамадзкае працы, да друкаваньня артыкулаў зь гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху апошніх дзесяцігодзьдзяў, высоўваць перад прэсай актуальныя лёзунгі нашага нутранога жыцьця й вонкавае працы).

---

[394] Дзейных беларускіх арганізацый ні ў Бразіліі, ні ў Марока створана не было.

3. Пашырыць і актывізаваць Саюз беларускіх журналістых.
4. Аднавіць выданьне «Бюлетэню Рады і Ураду БНР».
5. Улажыць карту БНР у этнаграфічных межах.
6. Падрыхтаваць артыкулы аб беларускім нацыянальна-вызвольным руху ў чужынецкую прэсу й вышукоўваць спосабы для надрукаваньня іх.
7. Выдаць кароценькую брашуру аб беларускім нацыянальна-вызвольным руху па-ангельску.
8. Падрыхтаваць да друку й выдаць папулярны нарыс зь гісторыі Беларусі па-беларуску.
9. Арганізоўваць абходы беларускіх нацыянальных сьвятаў, дзеля чаго ўлажыць і разаслаць ува ўсе Прадстаўніцтвы Ураду БНР календарыкі сьвятаў.
4. У вайсковай галіне:
1. Ажывіць існуючыя вайсковыя арганізацыі, падпарадкаваўшы іх арганізацыйна аднаму вайсковаму цэнтру[395].
2. Залажыць новыя вайсковыя арганізацыі ў Канадзе, ЗША, Аўстраліі і іншых краёх.
3. Правесьці дакладнейшы ўлік афіцэрскага, падафіцэрскага й шэраговага складу.
4. Упарадкаваць вайсковыя статуты, тэрміналёгію й г. д.
5. Зарганізаваць вайсковы штаб.
5. У галіне культуры й веравызнаньняў:
1. Праз САБЭ й культурных рэфэрэнтаў грамадзкіх згуртаваньняў апекавацца грамадзкай і культурнай працай на эміграцыі і інсьпіраваць ейнае пашырэньне і актывізацыю: правесьці поўны ўлік усіх працоўнікаў навукі, культуры й мастацтва на эміграцыі, зарганізаваць Беларускае культурнае згуртаваньне на эміграцыі, ажывіць працу Беларускага навуковага таварыства імя Ф. Скарыны й Беларускага настаўніцкага згуртаваньня на чужыне, патраніраваць Беларускае акадэмічнае згуртаваньне на чужыне[396], а асабліва студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, арганізаваць Беларускі вольны ўнівэрсытэт у Нью-Ёрку[397], залажыць, дзе магчыма, беларускія гімназіі, народныя й вячэрнія школы, школы беларусаведы, розныя курсы, лекторыі й г. д., арганізаваць харавыя, балетныя, драматычныя і іншыя гурткі, бібліятэкі,

[395] Магчыма, менавіта як рэалізацыя гэтай пастановы 8 кастрычніка 1950 г. у Лювене адбыўся Першы агульны з’езд Згуртавання беларускіх камбатантаў — арганізацыі, што павінна была аб’яднаць усіх вайскоўцаў з шэрагаў прыхільнікаў Рады БНР у розных краінах.

[396] Дакладна незразумела, якая менавіта арганізацыя маецца на ўвазе. Гэта магло быць **Беларускае акадэмічнае каталіцкае аб’яднанне «Рунь»**, якое паўстала 21 кастрычніка 1949 г. у Лювене на сходзе прадстаўнікоў беларускай каталіцкай інтэлігенцыі з Англіі, Бельгіі, Нямеччыны і Францыі. Або **Цэнтраля беларускіх акадэміцкіх арганізацый на чужыне**, якая паўстала ў верасні 1949 г. у Лювене на трэцім Агульным з’ездзе Цэнтралі беларускіх студэнцкіх арганізацый (апошняя ў выніку проста змяніла сваю назву).

[397] Беларускі вольны ўніверсітэт на эміграцыі ніколі не быў створаны.

чытальні, сьвятліцы, спартовыя арганізацыі, узмацніць выдавецтва падручнікаў, сьпеўнікаў, дэкляматараў, зборнікаў п’есаў, мастацкае літаратуры, арганізоўваць абходы культурных юбілеяў, дзеля чаго ўлажыць і разасланць ува ўсе Прадстаўніцтвы Ураду БНР адпаведныя каляндарыкі і інструкцыі.

2. Праз Беларускае навуковае таварыства імя Ф. Скарыны прадставіць у Акадэмію навук у Парыжы кандыдатаў на акадэмікаў і сяброў-карэспандэнтаў, быць у курсе навуковае дзейнасьці беларускае сэкцыі Акадэміі[398].

3. Плянаваць на будучыню: распрацаваць поўную сыстэму народнае асьветы й культурнага жыцьця ў вызваленым краі.

4. У справе далейшае разбудовы БАПЦ: даканаць хіратонію а. Васіля, аформіць поўны пераход у БАПЦ а. Сергія[399], пасьля чаго зарганізаваць Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў БАПЦ, спрыяць праз Прадстаўніцтва Ураду БНР разгортваньню Беларускага Жыровіцкага Брацтва.

5. Пакласьці пачаткі ў варганізацыі Беларускае каталіцкае царквы.

6. Садзеіць арганізацыі беларускае сэкцыі баптыстых, дапамагаючы З. Ясько[400] ў пераводзе службы ў беларускую мову й выданьні беларускае царкоўнае літаратуры для беларусаў-баптыстых[401].

<u>6. У галіне фінансаў</u>:

1. Унесьці папраўкі ў Інструкцыю нр. 5 аб Фондзе 25-га Сакавіка, згодна пастанове 4-ай Сэсіі Рады БНР і разаслаць усім прадстаўнікам Ураду БНР.

---

398 Цягам 1949 г. кіраўніцтва САБЭ намагалася знайсці магчымасці прафесійнага працаўладкавання беларускай інтэлігенцыі ў Еўропе. У сакавіку 1949 г. на старонках газеты «Бацькаўшчына» (№ 8 (52). 25.03.1949) была апублікаваная абвестка «Да інтэлектуалістых і асобаў вольных прафэсіяў», дзе сцвярджалася, што Мікола Абрамчык у Жэневе прадставіў Цэнтралі IRO праблемы беларускай інтэлігенцыі, і да САБЭ звярнуліся розныя ўстановы з просьбамі падаць інфармацыю пра канкрэтных беларускіх інтэлектуалаў, зацікаўленых у працы. У выніку, у 1951 г. у Парыжы афіцыйна была зарэгістравана Міжнародная вольная акадэмія навукаў і літаратуры. Сябрам Навуковай рады Акадэміі стаў Мікола Абрамчык. Беларусы ў выніку склалі адну з найменшых з 13 нацыянальных групаў арганізацыі (цягам 10 гадоў тут было каля 10 беларусаў). Гл.: Міжнародная Вольная Акадэмія Навукаў і Літаратуры // Бацькаўшчына. № 1–2 (615–616). Студзень — люты 1964.

399 4 лістапада 1949 г. архіепіскап Сергій (Ахатэнка) атрымаў адпускную грамату ад мітрапаліта УАПЦ Палікарпа і на рэкамендацыю Кансісторыі БАПЦ намінальна ўзяў пад апеку Брэсцка-Пінскую епархію. Такім чынам, БАПЦ стала афіцыйна незалежнай ад УАПЦ.

400 Маецца на ўвазе **Даніла Ясько** (?–?), пратэстанцкі прапаведнік. У другой палове 1940-х гг. жыў у Нямеччыне, пазней выехаў у ЗША.

401 Даніла Ясько займаўся справай перакладу і выдання беларускай пратэстанцкай літаратуры. Пры канцы 1948 г. з яго ўдзелам Брытанскае біблійнае замежнае таварыства выдала Новы Запавет па-беларуску. Падрабязней пра гэта гл.: Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 423–475.

2. Дамовіцца із САБЭ аб удзеле грамадзкіх арганізацыяў у зборы ўсеагульнага абавязковага падатку ад беларускае эміграцыі й продажы Марак БНР, прапанаваўшы САБЭ за гэта 25 % ад усіх збораў у Фонд 25-га Сакавіка.

3. Распрацаваць і ўзгадніць із САБЭ інструкцыю аб парадку збору абавязковага падатку й продажы Марак БНР, а таксама формах справаздачнасьці, разаслаўшы гэтыя інструкцыі фінансавым рэфэрэнтам Прадстаўніцтваў Ураду БНР і праз САБЭ ў згуртаваньні беларускае эміграцыі.

4. Як найхутчэй выдаць Маркі БНР.

5. Арганізаваць акуратны збор 2 % падатку ад сяброў Рады.

6. Інструктаваць фінансавых рэфэрэнтаў Прадстаўніцтваў Ураду БНР і фінансавых агентаў САБЭ ў справах збору сродкаў у Фонд 25-га Сакавіка й парадку перахоўваньня й карыстаньня Фондам.

7. Улажыць фінансавы бюджэт на 1950 год і прапанаваць яго Прэзыдыюму Рады на зацьверджаньне.

7. <u>У галіне плянаваньня</u>:

1. Вясьці падрыхтоўку плянаў і праектаў законаў на будучыню, паводля сэктараў: а. сельскае гаспадаркі; б. прамысловасьці й гандлю; в. камунікацыі — чыгункі, шасовыя дарогі, водны й паветраны шлях, пошта, тэлеграф і радыё; г. аховы здароўя. д. сацыяльнага заканадаўства.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ
## РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
## 30.11.1949 Г. РОЗЭНГАЙМ — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі, віцэ-прэм'ер і міністар нутраных справаў мгр. Мікалай Кунцэвіч, міністар вайсковых справаў ген. Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, міністар культуры й веравызнаньняў сп. Аляксей Вініцкі, міністар плянаваньня сп. Сымон Кабыш, заступнік міністра фінансаў сп. Віталі Кажан, Дзяржаўны сакратар сп. Гіпаліт Паланевіч, сябры Прэзыдыюму Рады БНР сп. сп. Пётра Манькоўскі, інж. Чэслаў Ханяўка[402] й Міхаіл Міцкевіч.

<u>Парадак дня:</u>

1. Пазыцыя Ураду БНР у справе абраньня Галавы БАПЦ.

<u>Слухалі</u>:

---

[402] **Часлаў Ханяўка** (26.05.1909, Рыга, Латвія — 02.07.1988, Саўт-Рывер, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі і на агранамічным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Браў актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Берліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-х выехаў у ЗША.

Сп. прэм’ер-міністар мгр. А. Каханоўскі затрымаўся коратка на гісторыі й тых цяжкасьцях, зь якімі давялося спаткацца пры аднаўленьні найвышэйшай гіерархіі БАПЦ. Асабліва была адзначаная тая напружаная праца Ураду ў вапошнім часе ў сувязі із падрыхтоўкаю да хіратоніі ў япіскапы а. Васіля (Тамашчыка) (выезд дэлегацыі Ураду 1.11.1949 у Дылінген[403] на Сабор япіскапаў УАПЦ[404], адшуканьне матэрыяльных сродкаў на правядзеньне хіратоніі, нэўтралізацыя зарубежніцкае акцыі і г. д.). Урад БНР уключыўся ў гэтую працу згодна з пастановамі 4-й Сэсіі Рады БНР. Пасьля таго-ж, як БАПЦ здабыла двух япіскапаў, зарганізавала свой самастойны Сабор, Урад БНР ня можа гэтую так важную справу для нашага нацыянальнага руху пакінуць бяз свайго дагляду. Урад павінен заняць адпаведную пазыцыю ў справе абраньня Галавы БАПЦ і сваё меркаваньне выказаць Сабору япіскапаў БАПЦ у форме рэкамэндацыі.

Па вымене думак у дыскусіі, у якой бралі ўдзел сп. сп. міністры А. Вініцкі, А. Адамовіч, ген. Ф. Кушэль, В. Кажан і сябры Прэзыдыюму Рады сп. сп. П. Манькоўскі і М. Міцкевіч, была прынята пастанова.

Пастанавілі:

Урад БНР у справе далейшае адміністрацыі БАПЦ на эміграцыі пастанавіў:

рэкамэндаваць Сабору япіскапаў БАПЦ —

1. Узнагародзіць Яго Прэасьвяшчэнства Япіскапа Сергія за праробленую ім вялікую працу ў справе разбудовы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і ў сувязі зь ягоным поўным пераходам у БАПЦ тытулам Архіяпіскапа.

2. Выбраць Архіяпіскапа Сергія Галавою Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на эміграцыі.

3. Архімандрыта Васіля (Тамашчыка) пасьля ягонае хіратоніі ў япіскапы выбраць заступнікам Галавы БАПЦ.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 27.12.1949 Г. РОЗЭНГАЙМ — НЯМЕЧЧЫНА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі, віцэ-прэм’ер і міністар нутраных справаў мгр. Мікалай Кунцэвіч, міністар вайсковых справаў ген. Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, міністар культуры й

[403] Магчыма, маецца на ўвазе **Дылінген на Дунаі** (ням. *Dillingen an der Donau*) — горад у Баварыі.

[404] Маецца на ўвазе той Сабор епіскапаў УАПЦ, на якім Сергій (Ахатэнка) атрымаў адпускную грамату ад мітрапаліта УАПЦ Палікарпа (Сікорскага) і афіцыйна перайшоў у БАПЦ.

веравызнаньняў сп. Аляксей Вініцкі, міністар плянаваньня сп. Сымон Кабыш, заступнік міністра фінансаў сп. Віталі Кажан, Дзяржаўны сакратар сп. Гіпаліт Паланевіч.

Парадак дня:

1. Справа падпісаньня Дэклярацыі для стварэньня Рады Сярэдняй і Усходняй Эўропы.

Слухалі:

Міністар замежных справаў мгр. А. Каханоўскі пазнаёміў Раду міністраў із Дэклярацыяй, якую прапануецца падпісаць вярхоўным органам 12-ці паняволеных маскоўскім бальшавізмам народаў. Адначасна з гэтым міністар А. Каханоўскі выказаў некаторыя засьцярогі да праекту Статуту Рады Сярэдняе і Ўсходняе Эўропы, а менавіта: абшар дзейнасьці Рады абмяжоўваецца толькі да 12 народаў (абшар г. зв. Міжмор’я), хоць у праекце і маецца артыкул, які дае магчымасьць у будучыні прыняць у Раду прадстаўнікоў органаў іншых народаў; Югаславія ўваходзіць у Раду як адно прадстаўніцтва без рэпрэзэнтацыі ў ёй асобна сэрбаў, харватаў і славэнаў. Аднак сама ідэя ўтварэньня Рады зьяўляецца патрэбнай і на часе, дзеля чаго гэтая Дэклярацыя й ставіцца на апрабату Ураду БНР.

Пасьля дыскусіі, якая ня выказала адмоўнага становішча міністраў да Дэклярацыі, Рада міністраў пастанавіла:

Даручыць міністру замежных справаў у паразуменьні з Прэзыдэнтам БНР і ў кантакце зь іншымі вярхоўнымі органамі прыязных нам народаў Дэклярацыю ад імя Ураду БНР падпісаць.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 1 КАСТРЫЧНІКА 1950 Г. НЬЮ ЁРК, ЗГА[405]

Прысутнічалі на паседжаньні: Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык, прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі, міністар вайсковых справаў гэнэрал-маёр Францішак Кушаль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, Дзяржаўны сакратар сп. Міхась Тулейка[406].

---

[405] **ЗГА** — Задзіночаныя Гаспадарствы Амерыкі — ЗША. У Сувязі з пераездам большай часткі радных у ЗША, менавіта тут сталі ад гэтага часу адбывацца пасяджэнні Рады і Ураду.

[406] **Міхась Тулейка** (08.09.1915, Нясвіж Слуцкага пав. Менскай губ. (сёння Мінская вобл.) — 06.03.1998, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1936 г. скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, адкуль адразу быў забраны ў польскае войска на падрыхтоўчыя афіцэрскія курсы. Працаваць настаўнікам пачаў у 1937 г. у Нясвіжы, пазней — у Снове. У 1939 г. быў зноў мабілізаваны, пад Варшаваю паранены. Працаваў у Нясвіжы — спачатку настаўнікам, пасля заступнікам дырэктара настаўніцкай семінарыі. Пазней працаваў у Баранавіцкай

Парадак дня:
1. Інфармацыя Сп. Прэзыдэнта аб паездцы ў Вашынгтон.
2. Арганізацыйныя справы.
3. Справа фінансавага агента ў ЗГА.
4. Плян працы Ураду да канца 1950 г.
5. Актуальныя пытаньні.

Слухалі:
1. Інфармацыю Сп. Прэзыдэнта аб паездцы ў Вашынгтон.

Мэтай паездкі Сп. Прэзыдэнта ў Вашынгтон дня 25 і 26 верасьня 1950 г. было: паўторна падняць пытаньні ў Міністэрстве замежных справаў аб удзеле беларусаў у перадачах радыё «Войс оф Амерыка»[407], аб маральнай і матэрыяльнай падтрымцы беларускіх нацыянальна-палітычных арганізацыяў і прэсы ў ЗГА ды аб іншых актуальных справах.

У размовах із кіраўнікам усходня-эўрапейскага аддзелу Міністэрства замежных справаў[408] сп. Фрэдэрыкам Райнгадтам[409], кіраўнікам аддзелу СССР сп. Давідам Генрі[410] і памочнікам кіраўніка ўсходня-эўрапейскага аддзелу сп. Ріхардам Дэвісам[411] выявілася, што расейцы, якія маюць уплывы ў радыё «Войс оф Амерыка», усялякімі спосабамі даводзяць, што огул беларускай эміграцыі не выяўляе жаданьня слухаць перадач у беларускай

---

настаўніцкай семінарыі. Кіраваў камітэтам БНС на Баранавіцкую акругу. Быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Берліне ў 1944 г. у рангу афіцэра быў далучаны да кадравага батальёна, што фармаваўся ў школе на *Lychenerstrasse*. У сфармаваны ў пачатку 1945 г. у Баварыі батальён, аднак, яго не паслалі. Замест таго займаўся вярбоўкай добраахвотнікаў у беларускае войска. Вучыўся ў Мюнхенскім універсітэце *UNRRA* і Украінскім вольным універсітэце ў Рэгенсбургу. Заснавальнік Беларускага студэнцкага згуртавання. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў абраны першым старшынёй Згуртавання беларуска-амерыканскай моладзі. Уваходзіў у рэдакцыйную калегію часопіса «Віці». Арганізаваў першы беларускі скаўтынгавы атрад у Амерыцы.

[407] **Радыё «Голас Амерыкі»** (анг. *Voice of America*) — радыёстанцыя з цэнтрам у Вашынгтоне, створаная ў 1942 г. У 1947 г. было арганізавана вяшчанне на рускай мове, у 1949 г. — на ўкраінскай мове, у 1951 г. — на літоўскай, латышскай, эстонскай, грузінскай, армянскай, азербайджанскай мовах. Сёння вяшчанне вядзецца на 46 мовах.

[408] У ЗША функцыі міністэрства замежных спраў выконвае **Дзяржаўны дэпартамент** (*Department of State*), які далей у тэкстах пратаколаў фігуруе таксама як «Дэпартмэнт оф стэйт».

[409] **Джордж Фрэдэрык Рэйнхард** (*George Frederick Reinhardt*, 1911–1971), дыпламат, у 1945–1948 гг. — амерыканскі консул у Маскве, у 1948–1951 гг. быў дырэктарам аддзела ўсходнееўрапейскіх справаў Дзярждэпартамента ЗША.

[410] **Дэвід Генры** (*David Henry*), кіраўнік аддзела СССР Дзярждэпартамента ў 1950–1960-х гг.

[411] Маецца на ўвазе **Рычард Дэвіс** (*Richard H. Davis*), дыпламат, пры канцы 1950-х стаў дарадцам Дзяржсакратара па еўрапейскіх справах.

мове. Беларусы, на іх думку, ахвотна чытаюць расейскую прэсу, добра разумеюць расейскую мову і што дазволіць беларусам браць удзел у радыё «Войс оф Амерыка» ня ёсьць патрэбны. Сп. Прэзыдэнт пераканаў прадстаўнікоў Міністэрства замежных справаў аб ілжывасьці такога падыходу да справы, выясьніў, што расейцы займаюцца інтрыгамі толькі таму, каб шкодзіць і ўстрымліваць беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Сп. Прэзыдэнт на гэты раз выказаў думку, што заўважаецца недаацэньваньне і абмінаньне беларускай вызвольнай справы з боку амэрыканскіх палітычных дзейнікаў, якія ўводзяцца ў блуд фальшывымі расейскімі інфармацыямі. Прадстаўнікі Міністэрства замежных справаў поўнасьцю згадзіліся са сп. Прэзыдэнтам што да ацэнкі расейскіх інтрыгаў у некарысьць беларусаў, а таксама стараліся запэўніць Сп. Прэзыдэнта аб тым, што справаў беларускіх яны не абмінаюць, адносяцца да іх прыхільна, бяруць пад увагу ўсе беларускія рэвіндыкацыі[412] і ў далейшым будуць палагоджваць беларускія справы больш пазытыўна.

У Вашынгтоне Сп. Прэзыдэнт сустрэўся із польскім гэнэралам Андэрсам[413] на банкеце, які ладзілі гэнэралу польскія арганізацыі. Сп. Прэзыдэнт абмяняўся із гэнэралам Андэрсам думкамі аб сучаснай палітычнай сытуацыі і некаторымі інфармацыямі. На гэтым-жа банкеце Сп. Прэзыдэнт навязаў кантакт із старшынёю Румынскага эміграцыйнага Ураду[414] сп. Крэцьяны[415]. У канцы справаздачы з апошняй паездкі ў Вашынгтон Сп. Прэзыдэнт заўважыў, што дзякуючы нясупынным стараньням за час прабываньня ў ЗГА навязаў ён кантакты з паважнымі амэрыканскімі палітычнымі і харытатыўнымі дзейнікамі ды з арганізацыямі іншых народаў у ЗГА. Тут высказаў Сп. Прэзыдэнт сваё жаданьне, каб навязаныя кантакты ўтрымаць і нясупынна працаваць для зрэалізаваньня плянаў беларускага вызвольнага руху.

Пастанавілі:

Інфармацыю Сп. Прэзыдэнта прыняць да ведама і выкананьня.

Слухалі:

2. Арганізацыйныя справы.

Сп. прэм'ер А. Каханоўскі, бяручы на ўвагу факт, што тымчасовы габінэт Ураду 5-ай сэсіяй Рады БНР[416] камплектаваўся завочна, бяз згоды кандыдатаў ва Урад др. В. Тумаша (міністар замежных справаў), інж. У. Шыманца

---

412 **Рэвіндыкацыя** (фр. *revendication*) — тут: абгрунтаваная прэтэнзія, пажаданне.

413 **Уладыслаў Андэрс** (1892–1970), польскі вайсковы і палітычны дзеяч, у часе Другой сусветнай вайны кіраўнік польскіх узброеных фармаванняў, дзе было багата беларусаў. Пасля вайны жыў у Лондане, дзе ўдзельнічаў у польскім экзільным урадзе.

414 Маецца на ўвазе **Румынскі Нацыянальны Камітэт**, створаны ў ЗША ў 1947 г. з ініцыятывы апошняга дакамуністычнага прэм'ер-міністра Румыніі Нікалае Радэску (1874–1953).

415 **Аляксандру Крэціяну** (рум. *Alexandru Cretzianu*), румынскі палітычны дзеяч, дыпламат, адзін са стваральнікаў Румынскага нацыянальнага камітэта і яго кіраўнікоў.

416 Пятая сесія Рады БНР адбывалася ў Нью-Ёрку ў верасні 1950 г.

(міністар фінансаў), мгр. М. Кунцэвіча (міністар нутраных справаў), мгр. П. Манькоўскага (Дзяржаўны сакратар), паставіў Сп. Прэзыдэнту пытаньне, як мае быць далей канчальна аформлены тымчасовы габінэт Ураду.

Сп. Прэзыдэнт у адказе на гэтае пытаньне даў сваю згоду на тое, каб прэм'ер, згодна пастановы 5-ай Сэсіі Рады БНР, асабіста запрапанаваў вышэймянаваным радным функцыі ва Урадзе БНР.

Далей сп. Каханоўскі выказаў наступныя дзьве ўвагі: 1. Дзеля таго, каб сябры Ураду поўнасьцю аддаліся працы Ураду БНР, яны, згодна пастановы Чацьвёртай Сэсіі Рады БНР, вызваляюцца ад усялякіх грамадзкіх абавязкаў. 2. Бяручы пад увагу жыцьцёвыя абставіны сяброў Ураду (іхнае занятасьць на фізычнай працы), Дзяржаўны сакратар мае быць вольны ад фізычнай працы. Ягоным заданьнем мае быць ня толькі вядзеньне канцылярыі і Ураду, але і ўтрымліваньне сталых кантактаў з іншанацыянальнымі арганізацыямі і інстытуцыямі, наведваньне ўрадавых установаў, здабываньне інфармацыяў і г. д. Поўнае ўтрыманьне Сакратара павінна забясьпечыць каса Ураду.

Пастанавілі:

Прапазыцыі сп. прэм'ера прыняць да ведама.

Слухалі:

3. Справу фінансавага агэнта ў ЗГА.

У сувязі з тым, што праца Ураду БНР павінна фінансавацца сродкамі з Фонду 25 Сакавіка, сабранымі вылучна ад беларускай эміграцыі ў ЗГА (сродкі, сабраныя ў іншых краёх эміграцыі, пойдуць на фінансаваньне органу БНР — канцылярыі Сп. Прэзыдэнта, Прэзыдыюма Рады БНР і прадстаўніцтваў Ураду БНР) і ў сувязі з павялічэньнем выдаткаў, сп. прэм'ер паставіў пад развагу наступныя справы: а. ці дасюлешні фінансавы агэнт Фонду 25 Сакавіка ў ЗГА сп. Русак Уладзімер[417] здолее вывязацца із сваей функцыяй і б. заснаваць касу Ураду БНР у ЗГА; в. сьцягнуць ад сяброў радных усе залегласьці ў падатку на Фонд 25 Сакавіка; г. устанавіць пэнсію сакратару Ураду БНР.

Пастанавілі:

а. даручыць сп. прэм'еру ў выпадку патрэбы і ў паразуменьні із САБЭ знайсьці новага кандыдата на фінансавага агэнта ў ЗГА.

б. даручыць сп. прэм'еру знайсьці кандыдата на касіра касы БНР;

в. забавязаць фінансавага агэнта САБЭ сп. Русака Уладзімера ў як найхутчэйшм часе сьцягнуць усю залегласьць у падатках ад радных.

г. вызначыць пэрсанальную пэнсію Дзяржаўнаму сакратару ў вышыні 100 даляраў у месяц.

Слухалі:

---

[417] **Уладзімір Русак** (19.11.1913, в. Свяцілавічы Наваградскага пав. Менскае губ. (сёньня ў межах г. Баранавічы) — 06.02.2009, Нью-Ёрк), грамадскі дзеяч. У 1935 г. скончыў Віленскую тэхнічную школу, потым школу падхаружых у Зэмбраве. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у французскай зоне акупацыі, у лагеры *DP* Шляйсгайм. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Сябра БАЗА.

4. Плян працы Ураду да канца 1950 г.

Што да пляну працы Ураду, сп. прэм’ер выказаў дзьве думкі: а. весьці працу паводле згары ўстаноўленага пляну; б. весьці працу паводле актуальных патрэбаў — апэрацыйным мэтадам.

Пастанавілі:

З узгляду на адсутнасьць у ЗГА трох міністраў Ураду БНР, якія яшчэ ня прыбылі зь Нямеччыны, весьці працу паводле актуальных вымогаў жыцьця.

Слухалі:

5. Актуальныя справы.

Сп. прэм’ер парушыў наступныя пытаньні, якія павінны быць Урадам хутка разьвязаныя: а. Інфармацыя радных БНР аб 5-ай Сэсіі; б. Аб прадоўжаньні важнасьці мандатаў прадстаўнікоў Ураду БНР; в. Выясьніць і ўнармаваць сытуацыю арганізаванасьці беларускай эміграцыі ў Аўстраліі, дзе зарубежнікі выявілі значную актыўнасьць, а радныя БНР аказаліся пасіўнымі ў адносінах да акцыі зарубежжа і навогул у арганізацыйным жыцьці[418]; г. Упарадкаваць справу прадстаўніцтва БНР у Швэдыі[419]; д. Вырашыць справу аб далейшай патрэбе прадстаўніцтва Ураду БНР у ЗГА; е. Стварыць прадстаўніцтва Ураду БНР у Нямеччыне; ж. Распаўсюджваньне брашуры Сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка «Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу»[420].

Пастанавілі:

а. Шырэйшую інфармацыю для сяброў Рады вышле сакратарыят Прэзыдыюма Рады БНР із Парыжа, а інфармацыю аб Сэсіі ў прэсу дасьць Міністэрства інфармацыі[421]; б. Сп. Прэзыдэнт зьвернецца да радных у Аўстраліі із заклікам іх да акывізацыі ў нацыянальна-палітычным жыцьці, а прэм’ер запатрабуе ад прадстаўніка Ураду БНР у Аўстраліі мгр. А. Калодкі дакладнейшых інфармацыяў аб стане нацыянальна-палітычнай працы ў Аўстраліі і, у выпадку патрэбы, зробіць пэрсанальныя зьмены ў прадстаўніцтве; в. З тае прычыны, што мандаты прадстаўнікоў Ураду БНР выгасьлі з днём 30 чырвеня 1950 г., выслаць ім новыя мандаты; г. Справу ўпарадкаваньня Прадстаўніцтва Ураду БНР у Швэдыі на асабістую згоду даручыць Сп. Прэзыдэнту; д. З той

[418] У Аўстраліі першапачаткова было створана надпалітычнае Беларускае аб’яднанне ў Аўстраліі, якое праз год сваёй дзейнасці падзялілася на арганізацыі прыхільнікаў Рады БНР (Беларускае аб’яднанне ў Новай Паўднёвай Валіі) і прыхільнікаў БЦР (Беларускае аб’яднанне ў Аўстраліі (з аддзеламі ў Сіднеі і Мельбурне)). Групы прыхільнікаў БЦР у Аўстраліі на пачатку 1950-х гг. былі сапраўды вельмі актыўнымі ў грамадскім жыцці.

[419] Праблема з прадстаўніцтвам у Швецыі ўзнікла ў сувязі з выездам адтуль былога прадстаўніка БНР Альберта Асоўскага.

[420] Брашура Міколы Абрамчыка *I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military Prosecutors and N.K.V.D. of the U.S.S.R* (36 старонак) была выдадзена ў Таронта на сродкі Згуртавання беларусаў Канады ў 1950 г.

[421] Інфармацыя пра Пятую сесію Рады БНР так і не з’явілася ў эміграцыйных перыёдыках.

прычыны, што ў ЗГА знаходзіцца Урад БНР, Прадстаўніцтва Ураду зачыніць е. Устрымацца ад заснаваньня Прадстаўніцтва Ураду БНР у Нямеччыне да часу канчальнага выясьненьня эміграцыйнага руху, даручыўшы выконваць функцыі прадстаўніцтва Беларускаму нацыянальнаму камітэту ў Нямеччыне; ж. Разаслаць брашуру ўсім палітычным дзейнікам — мужам стану, амбасадарам, дэлегатам Задзіночаных Нацыяў, рэдакцыям газэтаў, радыёстанцыям у ЗГА і ў іншыя краіны вольнага сьвету. Апрача вонкавай акцыі праводзіць акцыю нутраную — абмяркоўваць на сходах матэрыялы брашуры, выносіць адпаведныя рэзалюцыі і зьмяшчаць у прэсе.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 22 КАСТРЫЧНІКА 1950 Г. НЬЮ ЁРК, ЗГА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі, міністар вайсковых справаў гэнэрал-маёр Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, Дзяржаўны сакратар сп. Міхась Тулейка.

Парадак дня:

1. Інфармацыя ад прэм’ер-міністра аб працы Ураду БНР.
2. Удзел беларусаў у перадачах радыё «Войс оф Амэрыка»
3. Справа беларускай прэсы ў ЗГА

Слухалі:

1. Інфармацыю сп. прэм’ера аб працы Ураду БНР.

Сп. прэм’ер адзначыў, што пасьля ўкамплектаваньня новага Ураду БНР на 5-ай Сэсіі Рады БНР зроблена было наступнае: а. упарадкаваны дакуманты папярэдніх Урадаў БНР, што былі перавезены зь Нямеччыны ў ЗГА; б. заведзены справы новага Ураду БНР; в. адноўлены мандаты прадстаўнікам Ураду БНР у Канадзе, Аргэнтыне, Францыі, Англіі, Бэльгіі; г. дадзены інфармацыі фінансаваму агэнту САБЭ сп. У. Русаку аб ягонай далейшай дзейнасьці; д разасланы брашуры Сп. Прэзыдэнта «Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу» згодна пляну, устаноўленага на папярэднім паседжаньні Ураду БНР; е. распрацаваны і разасланы інструкцыі для беларускіх вайсковых арганізацыяў; ж. 21.10.1950 г. адбылося спатканьне сп. прэм’ера з прадстаўніком Вярхоўнага казацкага прадстаўніцтва ў ЗГА сп. Г. Ерэменко[422] з мэтаю паінфармаваньня сп. Ерэменко аб ратыфікацыі 5-ай Сэсіі Рады БНР

---

[422] Магчыма, маецца на ўвазе казацкі дзеяч на эміграцыі **Георгі Яроменка**, будучы старшыня Казацка-амерыканскага народнага саюза ў ЗША. Георгі Яроменка таксама выступаў пазней ад імя Казацкага нацыянальнага вызваленчага руху за мяжой.

дагавору аб узаемных дачыненьнях між Урадам БНР і Вярхоўным казацкім прадстаўніцтвам[423].

Пастанавілі:

Інфармацыю сп. прэм'ера прыняць да ведама.

Слухалі:

2. Інфармацыю ў справе ўдзелу беларусаў у перадачах радыё «Войс оф Амэрыка».

Дзеля таго, што дасюль не ўзгляданы просьбы беларускіх арганізацыяў аб беларускіх перадачах у радыё «Войс оф Амэрыка», сп. прэм'ер запрапанаваў узнавіць акцыю дзеля здабыцьця месца ў вышэйменаваных радыёперадачах.

Абмеркаваўшы гэтае пытаньне, пастанавілі: выслаць лісты ад Міністэрства інфармацыі да ўсіх беларускіх арганізацыяў у дэмакратычным сьвеце, каб тыя яшчэ раз зьвярнуліся да кіраўніцтва радыё «Войс оф Амэрыка» з адпаведнымі мэмарыяламі і просьбамі аб дапушчэньні беларускіх перадач у радыё «Войс оф Амэрыка».

Слухалі:

3. Справу беларускай прэсы ў ЗГА.

Сп. прэм'ер адзначыў, што газэта «Беларус»[424], якую выдае БАЗА, ёсьць вельмі важным нацыянальным і палітычным фактарам беларускай эміграцыі ў ЗГА. Газэту неабходна ўтрымаць, а таксама імкнуцца рэгулярна яе выдаваць. Сп. прэм'ер бачыць два дзейнікі, пры якіх газэта «Беларус» можа выходзіць, а менавіта: а. руплівая і належная праца рэдакцыйнай калегіі; б. стварэньне матэрыяльнай базы для газэты.

Што да брашуры сп. Прэзыдэнта «Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу», то сп. прэм'ер лічыць неабходным і далей яе распаўсюджваць сярод амэрыканскіх палітычных і грамадзкіх дзейнікаў ды сярод аўтарытэтных чужынецкіх дзейнікаў у ЗГА.

Пастанавілі:

а. Сп. А. Адамовіч мае сачыць за тым, каб праца рэдакцыйнай калегіі належна вялася ды каб газэта «Беларус» рэгулярна выходзіла раз у месяц.

б. для абмеркаваньня матэрыяльнай базы для газэты «Беларус» запрапанавана супольная сходка Ураду БНР, Ураду БВФ[425], Рэдакцыйнай калегіі.

в. інфармацыю адносна распаўсюджваньня брашуры сп. Прэзыдэнта прыняць да ведама і выкананьня.

---

[423] Дамова і Пратакол паміж Урадам БНР і Вярхоўным казацкім прадстаўніцтвам былі падпісаныя 22 красавіка 1950 г. у Розенгайме.

[424] **«Беларус»** — беларуская газета ў ЗША, першы нумар якой пабачыў свет 20 верасня 1950 г. пад рэдакцыяй Леаніда Галяка. Выданне Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА). Газета з перапынкамі выдаецца да сёння.

[425] Маецца на ўвазе **Беларускі выдавецкі фонд**.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 3 СЬНЕЖНЯ 1950 Г. НЬЮ ЁРК, ЗГА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі, міністар вайсковых справаў гэнэрал-маёр Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, Дзяржаўны сакратар сп. Міхась Тулейка.

Парадак дня:

1. Абмеркаваньне ліста заступніка міністра замежных справаў УНРады сп. Дм. Андрыеўскага[426] да прэм’ера Ураду БНР сп. Аўгена Каханоўскага.

Слухалі:

Сп. прэм’ер прачытаў ліст, у якім сп. Андрыеўскі выказвае думку аб цесным супрацоўніцтве між дзяржаўнымі цэнтрамі беларускім і ўкраінскім ды аб патрэбе заснаваньня Беларускага камітэту для аб’яднаньня Эўропы[427].

Пастанавілі: Заснаваць Беларускі камітэт для аб’яднаньня Эўропы як асобную палітычную арганізацыю, які ўвайшоў-бы ў Эўрапейскую Раду Аб’еднанае Эўропы.

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕРЭСПУБЛІКІ 1 СТУДЗЕНЯ 1951 Г. НЬЮ ЁРК, ЗГА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі, міністар вайсковых справаў гэнэрал-маёр Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, Дзяржаўны сакратар мгр. Пётра Манькоўскі.

Парадак дня:

1. Справа дакамплектаваньня габінэту міністраў.
2. Справа нашых дачыненьняў з летувісамі і ўкраінцамі.
3. Справа беларускіх перадачаў у «Голасе Амэрыкі».
4. Справа беларускае рыма-каталіцкае царквы.
5. Справа т. зв. трэцьцяе сілы.

Да п. 1:

Слухалі: Інфармацыю сп. прэм’ера аб сучаснай нутраной сытуацыі Ураду БНР.

---

[426] **Змітро Андрыеўскі** (1892–1976), украінскі палітычны дзеяч, адзін з лідараў Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Ад 1948 г. — сябра УНРады.

[427] У выніку на пачатку 1950-х гг. у Нямеччыне быў створаны **Беларускі антыбальшавіцкі фронт** (БАФ) на чале з Янкам Жыткам.

Др. В. Тумаш адмовіўся прыняць рэсорт вонкавых дачыненьняў, што прымушае сп. прэм’ера і надалей спалучаць сваю функцыю із функцыяй міністра замежных спраў. Сп. П. Манькоўскі падпарадкаваўся пастанове Сэсіі Рады БНР і прыняў функцыю Дзяржаўнага сакратара на запрапанаваных яму ўмовах. Таксама сп. М. Кунцэвіч згадзіўся прыняць функцыю міністра нутраных спраў. Пэрсанальныя і іншыя перашкоды ў працы Ураду маюць прадстаўлены на разгляд сэктару Рады БНР, паседжаньне якога склікаецца на 14.01.51.

Пастанавілі: Прыняць інфармацыю сп. прэм’ера да ведама.

Да п. 2.

Слухалі: Сп. Прэм’ер прачытаў ліст ад сп. Прэзыдэнта ад 10.12.50, у якім, між іншым, ёсьць мова аб тайнай угодзе між лет. урадам і калішнім правадыром ОУН[428]палк. Е. Канавальцам[429] аб падзеле Беларусі. Дзеля запачаткаваньня контракцыі сп. Прэзыдэнт прапануе аднаўленьне і як найхутчэйшае працягваньне перамоваў з летувіскімі афіцыйнымі дзейнікамі, прапануючы ім эвэнтуальна падзел Вільні, Віленшчыны і калідоры з Кенігсбергам або білятэрную згоду на азначэньне спрэчнае тэрыторыі і адлажэньне вырашэньня справы да лепшых часоў. Абедзьве канцэпцыі былі падрабязна разгледжаны і першая зь іх адкінута як для нас некарысная і бадай небясьпечная.

Пастанавілі: а. Аднавіць перамовы зь летувісамі, бяручы за аснову адну з наступных канцэпцыяў: 1. Вызначэньне спрэчнае тэрыторыі, пытаньне аб якой мела-б быць вырашана ў будучыні двохбаковымі перамовамі. 2. Стварэньне супольнае дзяржавы з тэрыторыяй, ахопліваючай беларускія і летувіскія этнічныя абшары. Адпаведна інфармаваць аб гэтых перамовах і пазыцыі нашага Ураду іншыя ўрады і, у меру патрэбы, сваё грамадзтва.

б. Зьвярнуцца да Выканаўчага органу УНРады і да УГВР[430] (праз БНЦ) з мэтай выяўленьня іхняга становішча ў справе Вільні і Віленшчыны. Дзеіць далей залежна ад атрыманых адказаў.

Да п. 3:

Слухалі: Сп. прэм’ер паведаміў, што паўторныя просьбы ў «Голас Амэрыкі» пададзены ўжо амаль ад усіх беларускіх арганізацыяў, за выключэньнем, на жаль, тых, што знаходзяцца ў ЗГА.

---

[428] **Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў** (укр. ОУН) — украінскі грамадска-палітычны рух, які меў на мэце аднаўленне ўкраінскай самастойнай дзяржавы. Заснаваны ў 1929 г. У 1940 г. падзяліўся на дзве плыні-структуры: АУН (М) — Андрэя Мельніка і АУН (Б) — Сцяпана Бандэры.

[429] **Яўген Канавалец** (1891–1938), украінскі палітычны і вайсковы дзеяч, палкоўнік Арміі УНР, камандант УВА, стваральнік і кіраўнік Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў.

[430] **Украінская галоўная вызвольная рада** — орган палітычнага кіраўніцтва ўкраінскім вызвольным рухам, створаны ў 1944 г. Замежнае прадстаўніцтва УГВР у 1950 г. узначаліў Іван Грынёх (1907–1994). Зварот да УГВР праз БНЦ мог быць матываваны тым, што кіраўнік украінскай арганізацыі жыў у Мюнхене.

Пастанавілі: Патрабаваць высланьня такіх просьбаў ад Цэнтралі БАЗА, яе аддзелаў, жаночае сэкцыі, студэнцкае сэкцыі, камбатантаў і Беларускае нацыянальнае рады ў Чыкага[431]. Наведаць Дэпартмэнт оф Стэйт у гэтай справе.

Да п. 4:

Слухалі: Сп. прэм'ер рэфэраваў прапанову сп. Прэзыдэнта аб арганізацыі інтэрнату-сэмінару для каталіцкіх сьвятароў у ЗГА.

Пастанавілі: З прычыны неадпаведных для гэтага ў ЗГА ўмоваў прапанаваць сп. Прэзыдэнту запачаткаваньне гэтае акцыі ў Эўропе.

Пры Міністэрстве нутраных спраў менаваць рэфэрэнта рэлігійных справаў.

Да п. 5:

Аб нядаўных падзеях у Канадзе (выданьне «Пугі»[432], нр. 1–2) рэфэраваў сп. прэм'ер[433].

Пастанавілі: Прасіць сп. Прэзыдэнта, каб зьвярнуўся да сп. сп. Хмары[434], Камароўскага[435] і Грыцука з патрабаваньнем выконваньня пастановаў Рады БНР і датрымоўваньня грамадзкае дысцыпліны або, у выпадку негатыўнага выніку яго інтэрвэнцыі, каб выключылі іх з Рады БНР.

---

[431] Маецца на ўвазе **Беларуска-амерыканская нацыянальная рада** ў Чыкага, створаная 27 кастрычніка 1941 г. на чале з а. Янам Тарасевічам.

[432] **«Пуга»** («Puha») — гумарыстычны беларускі перыёдык, першы нумар якога пабачыў свет у лістападзе 1951 г. у Таронта (Канада). Ініцыятарам і выдаўцом выступаў Сяргей Хмара.

[433] На старонках першага нумару часопіса «Пуга» крытыкавалася дзейнасць Рады БНР. У выніку, у снежні 1950 г. пабачыў свет ініцыяваны Кастусём Акулам і Валерам Навіцкім падробны другі нумар часопіса з сатырай, скіраванай супраць самой рэдакцыі. У беларускай канадскай грамадзе паўстаў канфлікт.

[434] **Сяргей Хмара** (сапраўднае **Сіняк**, на эміграцыі **Марыян Зіняк**, 25.05.1905, в. Казлоўшчына Слонімскага пав. (сёння Дзятлаўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 04.09.1992, Таронта, Канада), паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч, выдавец. У час польскай акупацыі Заходняй Беларусі працаваў настаўнікам. Арыштоўваўся дэфензівай (1927, 1939). У часе нямецкай акупацыі працаваў у БНС у Слоніме. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Берліне заснаваў палітычную суполку пад назвай «Двупагоня». У 1948 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта.

[435] **Васіль Камароўскі** (1914, Менская губ. — 28 верасня 1953, Таронта, Канада) — беларускі грамадскі дзеяч, журналіст. Ад 1941 г. быў сакратаром Беларускага камітэта самапомачы ў Берліне. Ад 1950 г. жыў у Таронта.

# ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 7 СТУДЗЕНЯ 1951 Г. НЬЮ ЁРК, ЗГА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі, міністар вайсковых справаў гэнэрал-маёр Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, Дзяржаўны сакратар мгр. Пётра Манькоўскі.

Парадак дня:

Абгаварэньне справаў, якія Урад мае прадставіць на разгляд сэктару Рады БНР дня 14.1.51 ў Нью Ёрку.

Слухалі: сп. Прэм'ер, які падаў да ведама прысутных зьмест прапанаванае ім заявы Ураду на прадбачанае паседжаньне сэктару ў наступным пляне:

I. Кароткая інфармацыя аб працы Ураду за час 5.10.50 да 14.01.51 г.

II. Ахарактарызаваньне перашкодаў у працы Ураду:

а) неўкамплектаваньне габінэту: неабсаджаны становішчы МЗС і МНО[436], становішча Д. сакратара стаіць пад загрозай;

б) поўная адсутнасьць касы Ураду пры зусім недастатковай сплаце 2 % падатку і адсутнасьці збору ўсеагульнага падатку;

в) адсутнасьць памешканьня для канцылярыі, паседжаньняў, спатканьняў і для архіву;

г) фізычная праца ўсіх сяброў Рады;

III. Актуальныя заданьні, што стаяць перад Урадам:

а) праца із Прадстаўніцтвамі Ураду ў розных краёх;

б) па лініі МЗС

1. Заснаваньне Бел. камітэту для задзіночаньня Эўропы: падшуканьне кандыдатаў, апрацаваньне статуту, навязаньне сувязяў, падрыхтоўка да кангрэсу, які мае адбыцца ў красавіку;

2. Заснаваньне Таварыства прыяцеляў АБН — зарганізаваньне беларускай сэкцыі;

3. Кантынуаваньня перамоваў зь летувісамі;

4. Сьцьверджаньне адносін УНРады і УГВР да пытаньня дагавору між Канавальцам і летувіскім урадам у справе Вільні. Пазьней — упарадкаваньне дачыненьняў зь імі;

5. Адсьвяжэньне і ўтрыманьне сталага супрацоўніцтва з усімі палітычнымі арганізацыямі народаў Сярэдняе і Усходняе Эўропы.

6. Аднаўленьне кантактаў з Вашынгтонам і яго прыбочкамі (асабл. Дэпарт. оф Стэйт у справе «Голасу Амэрыкі»).

7. Кантакт із Кам. вольнае Эўропы[437] (Сакр. Дольбэр) — пры магчымасьці яго рэарганізацыі, увайсьці ў яго.

---

[436] Магчыма, маецца на ўвазе міністэрства нутраных спраў.

[437] Магчыма, маецца на ўвазе амерыканская антыкамуністычная арганізацыя **Нацыянальны камітэт свабоднай Еўропы** (*National Committee for a Free Europe*),

8. Праца ў розных міжнародных арганізацыях, як АБН, ФК і інш.

9. Паслаць мэмарыял у Сэнацкую камісію генацыду[438] і ў Камісію чал. правоў ЗН[439] (побач із брашуркай сп. Прэзыдэнта).

10. Тварэньне Камітэту экзыльных урадаў.

11. Выданьне этнаграфічнае карты Беларусі.

в) <u>па лініі МНС</u>:

1. Праблема г. зв. «3-й сілы», якая дае сябе адчуваць у Канадзе і часткова ў Аўстраліі[440]. Патрэбна шырэйшая разьясьніцельная акцыя.

2. Справа развалу арганізацыйнага жыцьця ў Аўстраліі.

3. Збор інфармацыяў аб варожай дзейнасьці расейцаў, палякаў, зарубежнікаў, летувісаў і інш.

4. Справа нашага нутранога аслабленьня праз розныя канфлікты з раднымі і між раднымі, недысцыплінаванасьць і г. д.

5. Справа стрыманае эміграцыі некаторых асобаў: Кабыш, Станкевіч, Дубоўскі, Рагажэцкі, Гладкі, Вініцкі, Арцюх, Стома, Уладыка Васіль, Брэчка, Карповіч, Лазар, Семянчукі, Захаркевіч, Данілюк і г. д.[441]

6. Пільнаваньне за належным ходам грамадзкіх справаў: БАЗА, САБЭ, Згуртаваньне беларусаў у Канадзе[442], Акадэміі навук і мастацтва[443], царкоўныя справы, культурная праца і г. д.

---

створаны ў 1949 г. у Нью-Ёрку Аленам Далесам. Арганізацыя стала заснавальніцай радыё «Вольная Еўропа» (радыё «Свабода»).

[438] Маецца на ўвазе заснаваны на брашуры Міколы Абрамчыка *I accuse the Kremlin* мемарыял аб бальшавіцкім генацыдзе беларускага народу, пададзены адмысловай Камісіі Кангрэса ЗША.

[439] Па выніках сесіі Рады БНР Мікола Абрамчык скіраваў Генеральнаму Сакратару ААН тэлеграму з патрабаваннем стварэння адмысловай Міжнароднай камісіі з прычыны генацыду беларускага насельніцтва ў Савецкім Саюзе. Тэкст тэлеграмы быў надрукаваны ў газеце «Бацькаўшчына» (№ 1–2 (80–81). 07.01.1952).

[440] Маецца на ўвазе дзейнасць Сяргея Хмары ў Канадзе, які выступаў супраць і Рады БНР, і БЦР на старонках сваёй газеты «Беларускі голас». Прыхільнікам Хмары ў Аўстраліі быў Уладзімір Клуніцкі (1912–1974), які спрабаваў стварыць надпартыйную арганізацыю Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі, а пасля яго расколу заснаваў Беларуска-аўстралійскае незалежнае аб'яднанне.

[441] Сымон Кабыш, Станіслаў Станкевіч, Васіль Дубоўскі, Мечыслаў Рагажэцкі, Язэп Гладкі, Алесь Вініцкі, Язэп Арцюх, Васіль Стома, уладыка Васіль, Юзэфа Брэчка, Алесь Карповіч і іншыя згаданыя беларусы мелі розныя складанасці з выездам з Нямеччыны, адны ў сувязі са здароўем, іншыя ў сувязі з пытаннямі пра дзейнасць у часе нямецкай акупацыі.

[442] **Згуртаванне беларусаў Канады** — першая і найбольш уплывовая арганізацыя беларусаў у гэтай краіне — было створана 28 лістапада 1948 г.

[443] Пад канец 1950 г. у Нью-Ёрку сабралася даволі значная грамада беларускай інтэлігенцыі, прадстаўнікі якой ладзілі літаратурныя вечарыны, чыталі даклады з гісторыі, запрашалі даследчыкаў ад іншых нацыянальнасцяў на дыскусійныя вечары. У шэрагах гэтай яшчэ не арганізаванай інтэлігенцыі і пачала фармулявацца думка пра

7. Справа моладзі, якой трэба даць арганізацыйныя рамы, бо інакш можа выйсьці з-пад нашага ўплыву. Патрэбен рэфэрэнт моладзі.

8. Далейшае разьвіцьцё БАПЦ: лёс уладыкаў Сергія, Васіля, арганізацыя прыходаў, збор грашовых сродкаў.

9. Арганізацыя Беларускай каталіцкай царквы[444].

Памінаю тут плянуючую працу на будучыню, аб якой таксама нельга забывацца.

г) па лініі МПІ[445]:

1. Далейшыя стараньні аб беларускіх перадачах у «Голасе Амэрыкі» — неабходны паўторныя просьбы, візыты ў Вашынгтон і г. д

2. Разьясьніцельная праца цераз нашу прэсу: праблемы «3-яе сілы», адносіны летувісаў, украінцаў. Неабходная інфармацыя пра нашы акцыі навонкі і дзейнасьць унутры.

3. Публікацыі аб беларускай справе ў чужаземнай прэсе — выдаваньне брашураў у іншых мовах.

4. Выдаваньне брашуры сп. Прэзыдэнта «Я абвінавачваю..» па-беларуску[446].

5. Выдаваньне Інфармацыйнага бюлетэню Рады і Ураду БНР[447].

6. Арганізацыя Беларускай інфармацыйнай службы.

д) па лініі МВС[448]:

1. Зарганізаваньне нашых вэтэранаў.

2. Улік ахвіцэраў і шэраговага складу.

3. Сувязь з краем.

4. Пляны на выпадак вайны і кантакты з адпаведнымі дзейнікамі.

5. Вайсковыя статуты.

е) па лініі Дзярж. Скарбу:

1. Наладжаньне бесперабойнага збору 2 % падатку.

2. Наладжаньне бесперабойнага збору ўсеагульнага падатку.

3. Вырашэньне справы фінансавага агэнта САБЭ ў ЗША і касіра Ураду БНР. Дасюлешні касір сп. Ул. Русак адмаўляецца ад працы.

Гэта далёка ня ўсе заданьні, што стаяць перад Урадам — у працы яны ўсьцяж павялічваюцца.

---

стварэнне адмысловай «акадэмічнай» арганізацыі, якая знайшла сваё ўвасабленне ў стварэнні Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў снежні 1951 г.

[444] Ідэя стварэння на эміграцыі адмысловай беларускай каталіцкай царквы з гэткай жа разгалінаванай структурай парафіяў, як у БАПЦ, так і не была рэалізаваная.

[445] Маецца на ўвазе міністэрства прэсы і інфармацыі.

[446] Беларуская версія брашуры Міколы Абрамчыка *I accuse the Kremlin of genocide of my Nation* (Таронта, 1950) асобным выданнем не выходзіла. Тэкст жа пад назвай «Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу» друкаваўся на старонках газет «Беларускі Эмігрант» (№ 31–34. 1950–1951) і «Беларус» (№ 2. 1950).

[447] «Бюлетэнь Рады БНР» аднавіў свой выхад толькі ў сакавіку 1957 г.

[448] Маецца на ўвазе міністэрства вайсковых спраў.

IV. Асьведчаньне Ураду:

У сяньняшней сытуацыі Урад ня ў сілах выканаць усе вышэй пералічаныя заданьні — прычыны прыведзеныя вышэй. Дасюль Урад радзіўся із некаторымі адказнымі сябрамі Рады (19.11.50 із сп. Махноўскім, др. Орсам, інж. Гарошкам. Некалькі разоў із сп. У. Русаком). Сяньня прадстаўляем справу найбольшаму сэктару Рады БНР (52 радных), ад якога больш чым напалову залежыць праца Ураду. Ад гэтага сэктару залежыць таксама, ці наш тымчасовы габінэт астанецца надалей ці, калі сэктар адмовіцца фінансава й маральна падтрымаць працу Ураду, заўтра-ж зложыць сваю дымісію сп. Прэзыдэнту. Затым нашыя, ніжэй сфармуляваныя, патрабаваньні кваліфікуем як «вотум даверу» і паставім іх пад галасаваньне:

V. Патрабаваньні тымчасовага Ураду БНР:

а. Акуратная штомесячная сплата 2 % падатку раднымі Сэктару, каб загварантаваць Ураду найменш 130 дал. у месяц на ўтрыманьне вольнага Дз. сакратара й пакрыцьцё выдаткаў канцылярыі, разьездаў і выдаваньне Інфарм. бюлетэню. Выдаваньне карты Беларусі, брашуры сп. Прэзыдэнта і інш. выдаткі могуць быць пры лепш зарганізаваным зборы із усеаг. падатку САБЭ. Усе радныя маюць да 1.2.51 пагасіць усю задоўжанасьць у 2 % падатку. Мае быць зьменены фінансавы агэнт САБЭ і касір Ураду (кандыдат — сп. В. Кажан).

б. Узмацненьне і ўспраўненьне БАЗА — управа павінна зактывізавацца. Сябры Ураду не павінны займацца грамадзкімі справамі, бо бальшыня радных ёсьць бяз функцыяў (28 із 52-х). Радныя бяз функцыяў ня маюць права адмаўляцца ад абавязку грамадзкіх, ані ўхіляцца ад аплаты падатку.

в. Утрыманьне газэты «Беларус», забясьпечыўшы ёй акуратны выхад, лепшы зьмест. Разбудаваць Беларускі выдавецкі фонд, у які неабходна ўцягнуць усіх радных. Добра зарганізаваць кальпатраж.

г. Заснаваньне Беларускай вольнай акадэміі навук і мастацтва для рэпрэзэнтацыі навонкі нашых культурных дасягненьняў, для навуковае працы ў шырэйшым маштабе і распрацаваньне матэрыялаў для нашага вызвольнага руху (карты, статыстыка, гістарычныя пытаньні, праекты і г. д.).

д. Заснаваньне ў Нью Ёрку хаця-б па адным праваслаўным і каталіцкім беларускім прыходзе. Прызначэньне рэфэрэнта царкоўных спраў пры Урадзе.

Усе вышэй пералічаныя вымогі прадстаўляюць сабою рэальны і дасягальны ў нашых абставінах мінімум, бяз якога, аднак, праца Ураду ёсьць немагчымая. Усе яны, як і арганізацыйная здысцыплінаванасьць, залежаць толькі й вылучна ад пачуцьця адказнасьці, актыўнасьці і ахвярнасьці радных. Бяз іх, на наш пагляд, праца канчаткова разваліцца.

Пастанавілі: Акцэптаваць прапанаваную сп. прэм’ерам заяву і даручыць яму падаць яе да ведама радных на паседжаньні сэктару Рады БНР дня 14.01.51.

# ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ 28 СТУДЗЕНЯ 1951 Г. НЬЮ ЁРК, ЗГА

Прысутнічалі на паседжаньні: прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў мгр. Аўген Каханоўскі, міністар вайсковых справаў гэнэрал-маёр Францішак Кушэль, міністар прэсы і інфармацыі сп. Антон Адамовіч, Дзяржаўны сакратар мгр. Пётра Манькоўскі.

Парадак дня:

1. Вынікі сходу сэктару Рады дня 14.01.51
2. Адказ прэм’ера Мазэпы на наш ліст ад 10.01.51.
3. Стан перамоваў зь летувісамі.
4. Канфэрэнцыя з віцэ-дырэктарам Камітэту вольнае Эўропы сп. Дольбэрам.
5. Просьба Гарвардзкага ўнівэрсытэту.
6. Аднаўленьне Бюлетэню Рады і Ураду БНР.
7. Вольныя прапановы.

Да п. 1:

Слухалі: сп. прэм’ера, які паведаміў, што ўсе дамаганьні Ураду сходам сэктару былі прынятыя. Аб датрыманьні пакажа будучыня.

Да п. 2:

Слухалі: сп. прэм’ера, які паведаміў, што ад Старшыні Выканаўчага органу УНРады праф. І. Мазэпы атрыманы адказ на нашае запытаньне аб летувіска-ўкраінскім тайным дагаворы. Адказ на гэты фармальна зусім здавальняючы і можа быць дакумэнтальнай падставай для палітычных дачыненьняў у будучыні. Ад УГВР адказу пакуль-што яшчэ няма.

Да п. 3:

Слухалі: паведамленьне сп. прэм’ера аб тым, што 1-ае спатканьне зь летувіскімі прадстаўнікамі з прычыны тэхнічнае няўвязкі не адбылося. Мы хочам прапанаваць новае спатканьне на 10-га лютага.

Да п. 4:

Слухалі: інфармацыю сп. прэм’ера аб адбытай ім поспаль із сп. П. Манькоўскім канфэрэнцыі з віцэ-дырэктарам Камітэту вольнае Эўропы сп. Дольбэрам. У часе 4-х гадзіннай канфэрэнцыі былі дадзены сп. Дольбэру шырокія палітычныя і гістарычныя інфармацыі аб Беларусі і беларускай справе. На заканчэньне канфэрэнцыі былі пададзены тры просьбы: 1. Прыняць беларусаў у Камітэт вольнае Эўропы, цераз яго рэарганізацыю на прынцыпе нацыянальным, а не дзяржаўным, як гэта ёсьць сяньня; 2. Дапамагчы нам у дамаганьнях беларускіх перадачаў «Голасу Амэрыкі»; 3. Дапамагчы матэрыяльна ў разбудаваньні беларускае прэсы ў Амэрыцы.

Да п. 5:

Слухалі: інфармацыю сп. прэм’ера аб просьбе Гарвардзкага ўнівэрсытэту да Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня аб дапамозе пры апытаньні

розных нашых людзей, жыўшых у падсавецкай Беларусі да 1939 г., якое праводзіцца з мэтай вывучэньня савецкае запраўднасьці[449].

Пастанавілі: даручыць сп. П. Манькоўскаму ўлажыць сьпісак адпаведных людзей і перагаварыць зь імі ў гэтай справе.

Да п. 6:

Слухалі: сп. прэм'ера аб неабходнасьці аднаўленьня выдаванага калісьці Бюлетэню Рады і Ураду БНР. Матарыялам да яго выдаваньня маюць паслужыць: пратаколы Сэсіяў Рады БНР і сходаў яе сэктараў, матарыялы ад Прэзыдыюму Рады (напр., зварот сп. Прэзыдэнта да радных) і пратаколы паседжаньняў Ураду ды інш.

Пастанавілі: выдаваньне Бюлетэню даручыць міністру прэсы і інфармацыі сп. А. Адамовічу.

Да п. 7:

Слухалі: сп. прэм'ера, які падаў да ведама прысутных, што з канцылярыі Прэзыдыюму Рады БНР атрымана інфармацыя аб прызнаньні адной амэрыканскай школай журналістых 2-х стыпэндыяў для беларусаў. Па прычыне сьпешнасьці справы Прэзыдыюм само падало кандыдатаў аднаго із ЗША (сп. П. Манькоўскага) і другога з Францыі.

Пастанавілі: даручыць сп. Манькоўскаму выслаць як найхутчэй патрабаваныя ад яго дадзеныя і разьведаць у Камітэце вольнае Эўропы, калі стыпэндыі адтуль паходзяць, аб магчымасьці паданьня сп. А. Адамовіча (перавышаны век) у якасьці далейшага кандыдата.

Слухалі: сп. прэм'ера аб цяжкасьцях, якія мае Я. П. Уладыка Васіль пры афармленьні свае эміграцыі ў ЗША.

Пастанавілі: даручыць Царкоўнаму камітэту ўлажыць адпаведную пэтыцыю і сабраць па-магчымасьці як найбольшую колькасьць подпісаў.

---

449 **Праект Гарвардскага ўніверсітэта** па вывучэнні савецкага грамадства пачаўся каля 1950 г. Ён меў на мэце аналіз сацыяльных і псіхалагічных асаблівасцяў савецкай сістэмы шляхам запісу інтэрв'ю з былымі савецкімі грамадзянамі, якія апынуліся на Захадзе пасля вайны.

# ПРАТАКОЛЫ ШОСТАЙ СЭСІІ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ, ШТО АДБЫЛАСЯ ДНЯ 28 КАСТРЫЧНІКА, 11 ЛІСТАПАДА, 25 ЛІСТАПАДА 1951 ГОДУ, 3 ЛЮТАГА, 16 САКАВІКА 1952 ГОДУ Ў ПАМЕШКАНЬНІ «БЕЛАРУСКАЙ ХАТКІ» 461 АШФОРД СТРЫТ, БРУКЛІН, НЬЮ ЁРК, ЗША

Паседжаньні VI Сэсіі Рады БНР папярэдзіў урачысты малебен, які адслужыў сябра Рады БНР протоерэй айцец Фёдар Данілюк[450] у прысутнасьці Прэзыдэнта інж. М. Абрамчыка і радных БНР.

## Пратакол першага паседжаньня VI Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылося 28 кастрычніка 1951 году ў Нью Ёрку (Амэрыка)

Прысутнічалі: сп. Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 41 радных. Старшыня паседжаньня сп. А. Махноўскі, заступнік Прэзыдэнта БНР. Сакратары: Васіль Кендыш і Антон Шукелойць.

Парадак дня Сэсіі:

1. Адкрыцьцё VI Сэсіі Рады БНР.
2. Даклад Прэзыдэнта М. Абрамчыка.
3. Справаздача Прэзыдэнта Рады БНР зь дзейнасьці за мінулы год.
4. Дыскусія па справаздачы.
5. Справаздача Ураду БНР.
6. Справаздача Дзяржаўнай кантрольнай камісіі.
7. Дыскусіі па справаздачах Ураду і Дзяржаўнай кантрольнай камісіі.
8. Выбары Прэзыдыюму Рады БНР.
9. Уканстытуаваньне новага Ураду БНР.
10. Справа прапазыцыі пяці расейскіх партыяў Союзу освобождения народов России[451], зробленай Радзе БНР адносна супольнага фронту барацьбы супраць бальшавізму.

---

[450] **Хведар Данілюк** (12.08.1887, в. Сурынка Слонімскага пав. — 29.07.1960, Нью-Ёрк), рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, бацька Б. Данілюка. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У 1919–1920 гг. служыў у войску Літоўскай рэспублікі, Беларускай вайсковай камісіі. Браў удзел у Слуцкім паўстанні 1920 г. Прыняў святарскае пасвячэнне ў 1921 г. У часе нямецкай акупацыі ў 1942 г. браў удзел у саборы Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, выконваў абавязкі ад'ютанта камандзіра 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. У жніўні 1950 г. пераехаў у ЗША.

[451] Маецца на ўвазе **Савет вызвалення народаў Расіі,** створаны ў жніўні 1951 г. у Штутгарце з удзелам пяці расійскіх эміграцыйных арганізацый: Лігі барацьбы за народную свабоду, Саюза барацьбы за вызваленне народаў Расіі (СОНР), Народна-працоўнага саюза (НТС), Саюза барацьбы за свабоду Расіі і Расійскага народнага

11. Бягучыя справы.

12. Закрыцьцё Сэсіі.

Да п. 1:

Адкрыў VI Сэсію Рады БНР заступнік Прэзыдэнта БНР А. Махноўскі, які прывітаў прыбыўшага на VI Сэсію Рады БНР з Эўропы сп. Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка і радных, жадаючы плоднае працы.

Наступна быў прачытаны прапанаваны парадак дня працаў Сэсіі, які быў прыняты з дадаткам пункту «2а. Дыскусія па дакладу Прэзыдэнта М. Абрамчыка».

Сакратарамі Сэсіі былі выбраныя: Васіль Кендыш і Антон Шукелойць[452].

Да п. 2:

На пачатку свайго дакладу сп. Прэзыдэнт прааналізаваў пяцігадовы пэрыяд працы Рады БНР, зьвяртаючы ўвагу на зацікаўленьне ёю народамі Захаду як рэпрэзэнтацыйным органам Беларускага Народу. Прыняўшы прынцып «прысутнасьці» ў першым пэрыядзе працы, мы стараліся ўваходзіць і прымаць удзел у розных міжнародных зьездах і арганізацыях. Зацікавілася намі таксама ЗША, якая прыступіла праз адпаведныя інстытуцыі да дакладнага вывучэньня нашае мінуўшчыны і сучаснасьці, да студыяў нашай палітычнай праблемы. Гэтыя студыі разьвязваюцца для нас карысна. Беларускі народ атрымае свае правы, а ў мамэнт барацьбы за аднаўленьне сваёй дзяржаўнасьці найдалей ідучую падтрымку і помач. На бэльгійскім тэрэне пачалі нас трактаваць паўафіцыйна, як запраўднае прадстаўніцтва беларускага народу.

---

руху (РНД) пад кіраўніцтвам Аляксандра Керанскага. Гэты Савет вырашыў правесці перамовы з нацыянальнымі арганізацыямі для стварэння супольнага антыкамуністычнага руху.

[452] **Антон Шукелойць** (нар. 19.07.1915, хут. Якелеўшчына Ашмянскага пав. Віленскае губ. (сёння Ашмянскі р-н Гарадзенскае вобл.), грамадска-культурны дзеяч. У 1935–1939 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце на спецыяльнасці «этнаграфія і філалогія». Належаў да Беларускага студэнцкага саюза, старшыняваў у Таварыстве прыяцеляў беларусаведы, спяваў у беларускім студэнцкім хоры Рыгора Шырмы. Уваходзіў у Польскую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Ад 1939 г. працаваў у сістэме адукацыі, у т. л. інспектарам-метадыстам Ашмянскага р-на, займаўся адкрыццём беларускіх школ. Ад 1940 г. быў дэпутатам Ашмянскага гарадскога савета. 23 чэрвеня 1941 г. арыштаваны НКВД і пасаджаны ў мінскую турму. Пры пераводзе ў турму ў м. Крупкі змог вызваліцца. Працаваў у гарадской адміністрацыі Мінска, адказваў за захаванне гістарычных і архітэктурных помнікаў. Ад канца жніўня 1941 г. прызначаны дырэктарам Мінскага гістарычнага музея, пазней таксама загадваў аддзелам Беларускага культурнага згуртавання. Ад лютага 1944 г. працаваў у аддзеле краязнаўства і музеяў пры БЦР. Ад ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне працаваў у гаспадарцы баварскага баўэра. Па вайне два гады вывучаў археалогію ва ўніверсітэце *UNRRA* і Вольным украінскім універсітэце ў Мюнхене. У 1952 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку.

Шырака абгаварыў сп. Прэзыдэнт сваю візыту ў Ватыкане[453], якая мела для нашае справы асаблівае значаньне. Ватыкан запэўніў, што пасьля развалу бальшавізму і адбудовы беларускай дзяржавы гістарычныя беларускія дыяцэзіі каталіцкія будуць адноўленыя з беларускімі япіскапамі. Дзеля апекі над беларусамі-каталікамі на эміграцыі будзе незадоўга менаваны апостальскі візытатар. Асобай гэтай мае быць япіскап Балеслаў Слосканс[454].

Адведаньне на просьбу Беларусаў быўшых жаўнераў арміі Андэрса[455] могілак на Монтэ Касіна і складаньне кветак на магілах Беларусаў[456] выклікала зацікаўленьне з боку італьянцаў і спачуваньне нашай нацыянальнай трагэдыі.

Наступна падаў дакладную інфармацыю аб гутарках, праведзеных у Эўропе з А. Дон-Левінам[457], прадстаўніком Амэрыканскага камітэту освобождения народов России[458] на Эўропу, а таксама з А. Керанскім[459] ад імя пяцёх расейскіх партыяў, аб'яднаных у блёк, дзеля ўтвbooрэньня супольнага фронту барацьбы з бальшавізмам у форме запраектаванага СОНР'у.

У першай размове з Дон Левінам, які паінфармаваўшы сп. Прэзыдэнта аб ягонай сямімесячнай працы над стварэньнем расейскага дэмакратычнага прадстаўніцтва, складзенага з пяцёх партыяў, ды вялікіх цяжкасьцей, якія

---

[453] Аўдыенцыя Міколы Абрамчыка ў Рымскага Папы Пія XII адбылася ў траўні 1951 г.

[454] **Баляслаў Слосканс** (19.08.1893–18.04.1981), каталіцкі іерарх. Паходзіў з латышскай каталіцкай сям'і. У 1926 г. прызначаны Папам Рымскім апостальскім адміністратарам Мінскім і Магілёўскім, біскупам Мінскай і Магілёўскай архідыяцэзій. За рэлігійную дзейнасць пераследаваўся савецкімі ўладамі. Адседзеў шэсць гадоў у сталінскіх лагерах. У 1933 г. паводле абмену палітвязнямі выехаў у Латвію. Ад восені 1944 г. — на эміграцыі. У 1952 г. прызначаны Ватыканам апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў у Еўропе.

[455] Маюцца на ўвазе створаныя ў часе Другой сусветнай вайны польскім ваенным дзеячам генералам Уладзіславам Андэрсам (1892–1970) узброеныя фармаванні з рэпрэсаваных у СССР былых польскіх грамадзян, якія мелі назву Другі польскі корпус, або **Армія Андэрса**. У шэрагах гэтага войска было багата беларусаў.

[456] У зацемцы з нагоды адведвання Міколам Абрамчыкам могілак Монтэ Касіна ў парыжскай газеце «За волю» падаваўся спіс з 262 беларусаў, палеглых у змаганні за гэты манастыр у траўні 1944 г.

[457] Маецца на ўвазе **Іцхак (Айзек) Дон Левін** (1892–1981), амерыканскі журналіст і пісьменнік паходжаннем з Мазыра. У 1946–1950 гг. ён быў рэдактарам антыкамуністычнага перыёдыка, а пасля пераехаў у Заходнюю Нямеччыну для працы ў Радыё «Свабода».

[458] **Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі** быў створаны з ініцыятывы Дзярждэпартамента ЗША як прыватная ўстанова ў штаце Дэлавэр. Галоўнай задачай арганізацыі было стварэнне каардынацыйнага цэнтра змагання народаў Расіі і СССР супраць бальшавікоў.

[459] **Аляксандр Керанскі** (1881–1970), расійскі палітычны і грамадскі дзеяч, старшыня Часовага ўраду Расіі ў 1917 г., адзін з лідараў расійскай эміграцыі на Захадзе.

прыйшлося перамагчы пры гэтым, запытаў, ці Рада БНР магла-б прыняць удзел у супрацы з расейцамі ды іншымі народамі СССР у арганізацыі, якую ён мае стварыць дзеля аб'еднанай барацьбы з бальшавізмам. У адказе сваім сп. Прэзыдэнт заявіў, што калі расейцы прызнаюць у прынцыпе сувэрэнныя правы беларускага народу на незалежнасьць, мы ня маем нічога супраць супрацы. Дон Левін быў задаволены нашым становішчам.

Пры спатканьні з А. Керанскім, які быў упаўнаважаным весьці перагаворы з намі ад блёку пяці расейскіх партыяў[460], ён паінфармаваў аб утварэньні расейскай дэмакратычнай рэпрэзэнтацыі з пяцёх расейскіх партыяў. Пасьля інфармацыі ён з свайго боку паставіў пытаньне, ці ня маем мы ўмовы з палякамі, якая-б зьвязвала нам рукі весьці зь імі, расейцамі, перагаворы. Атрымаўшы выясьненьне, што ўмова з палякамі не перашкаджае нам весьці перагаворы зь іншымі народамі, Керанскі прачытаў некаторыя пункты з дэклярацыі пяцёх расейскіх партыяў, якія дазволена яму падаваць пры перагаворах зь іншымі. (Далей былі зачытаны ўспомненыя пункты). У адказ сп. Прэзыдэнт зазначыў, што на пункты аб супольнай акцыі і каардынацыі змаганьня супраць бальшавізму Рада БНР можа згадзіцца, але адносна пункту аб волявыяўленьні, які Керанскі разумее як плебісцыт пасьля зьнішчэньня бальшавізму, дык Прэзыдэнт уважаў, што воля беларускага народу ўжо была выяўлена ў 1918 годзе.

Керанскі запрапанаваў прыняць беларусам удзел у зьезьдзе, які мае адбыцца ў Нямеччыне. Сп. Прэзыдэнт згадзіўся паслаць на зьезд абсэрватара, які аднак ня будзе забіраць голасу ў дыскусіях, пакуль Рада БНР ня прыме адпаведных пастановаў.

Пры наступным спатканьні з Дон Левінам апошні выказаў незадавальненьне з удзелу прадстаўніка беларусаў як абсэрватара і беларуска-расейскіх перагавораў наагул. Пры гэтым ён зазначыў, што Керанскі пераступіў свае кампэтэнцыі ў гутарцы з Прэзыдэнтам, што можа спрычыніцца да развалу расейскага прадстаўніцтва, якое з такімі цяжкасьцямі было створанае і якое вельмі слаба спаянае. Жаданьне амэрыканцаў — каардынацыя сілаў у супольнай акцыі барацьбы супраць бальшавізму. Дон Левін пры гэтым паінфармаваў сп. Прэзыдэнта аб дадатным адношаньні да справы грузінаў і аб нявыясьненым адношаньні ўкраінцаў.

У канцы дакладу сп. Прэзыдэнт паінфармаваў аб выніках падарожжа ў Вашынгтон. З адбытых спатканьняў і праведзеных размоваў Прэзыдэнт робіць высnaў, што акцыя Амэрыканскага камітэту хаця і носіць прыватны характар, аднак мае ўрадовую падтрымку. Пры гэтым адчувалася, што амэрыканцы прызнаюць нас за адзіную нацыянальную рэпрэзэнтацыю беларускага народу. Гэтымі сымпатыямі і адносінамі амэрыканцаў да нас мы павінны даражыць, і таму трэба прыняць удзел у праектуемай канфэрэнцыі, але не адыходзіць ад прынцыпаў незалежнасьці.

Пытаньні:

---

460 Маецца на ўвазе Савет вызвалення народаў Расіі (СОНР).

Радны А. Адамовіч: Якая грузінская група паставілася дадатна да прапановы Дон Левіна і ці кантынуue традыцыі 1918 году?

Сп. Прэзыдэнт адказвае, што дакладна ня ведае, апрача таго, што грузіны склікаюць кангрэс у Парыжы дзеля стварэньня агульнанацыянальнага прадстаўніцтва, якое ўступіць у перагаворы з расейцамі[461].

Радны М. Гарошка: Ці ў размовах з Керанскім парушалася справа назову арганізацыі[462]?

Сп. Прэзыдэнт — засьцярога была зроблена, і Керанскі згадзіўся гэтую справу прадыскутаваць, зазначыўшы, што назоў гэты пададзены прадстаўніком Амэрыканскага камітэту.

Радны Я. Ніхаёнак: Ці амэрыканцы стаяць на пляцформе роўнасьці народаў СССР ці падтрымоўваюць расейцаў?

Сп. Прэзыдэнт — амэрыканцы прызнаюць справу роўнасьці народаў СССР, але шмат залежыць і ад таго, як самі народы паставяць гэтае пытаньне.

Радны Б. Данілюк[463]: Якія-б мы мелі карысьці палітычныя і маральныя, калі-б дайшло да паразуменьня?

Сп. Прэзыдэнт — уважае, што дачыненьні нашыя з амэрыканцамі былі-б папраўныя, мелі-б сваё радыо ў Мюнхэне і падтрымку вызвольнай акцыі.

---

[461] Згаданая канферэнцыя грузінскай эміграцыі адбылася ў Парыжы 19–20 кастрычніка 1951 г. На канферэнцыі быў створаны Грузінскі нацыянальны камітэт пры ўдзеле кіраўніка грузінскага ўраду ў выгнанні Ноя Жарданія. Менавіта ад імя гэтага камітэта на наступнай канферэнцыі СОНР прысутнічаў Ной Цынцадзэ.

[462] Прынцыповым пытаннем было, каб у назве арганізацыі гучала не толькі Расія, а была адлюстраваная самастойнасць народаў, паняволеных СССР.

[463] **Барыс Данілюк** (05.03.1923, в. Старыя Дзявяткавічы на Слонімшчыне — 28.01.2011, ЗША), грамадскі дзеяч, сын Х. Данілюка. У 1935–1939 гг. вучыўся ў польскіх гімназіях у Слоніме і Баранавічах. У часы нямецкай акупацыі працаваў сакратаром і школьным інспектарам у Слоніме, таксама ў структуры БКС, кіраваў самадзейнасцю, быў стартовым інструктарам СБМ, служыў перакладчыкам пры 48-м Беларускім батальёне. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Апынуўся ў французскай зоне акупацыі Нямеччыны. Вучыўся на інжынера-будаўніка ва ўніверсітэце ў Мюнхене. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім студэнцкім жыцці, сябра Беларускага студэнцкага згуртавання і рэдкалегіі часопіса «Студэнцкая думка» (пазней — «Крывіцкі светач»). У 1950 г. пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Джэрсі.

Радны Я. Станкевіч[464] — Як Керанскі заглядаецца на Рыскі мір[465]?

Сп. Прэзыдэнт — гэткае пытаньне спэцыяльна Керанскаму ня ставілася, але калі вынікла з гутаркі, Керанскі заявіў, што ён ніколі не паставіць пытаньне аб падзеле Беларусі. Пытаньне гэтае будуць заўсёды падымаць палякі, і таму мы павінны пераканаць амэрыканцаў, каб была ўтрымана найменш лінія Керзона[466].

Радны М. Гарошка — Ці было пастаўлена пытаньне Смаленшчыны ды іншых нашых земляў?

Сп. Прэзыдэнт выясьняе, што пытаньняў гэтакіх часова не парушалася.

Радны М. Цэлеш[467] — Хто будзе рэпрэзэнтаваць нацыі, уваходзячыя ў СОНР?

Сп. Прэзыдэнт — уважае, што СОНР складалі-б прадстаўнікі ад паняволеных народаў СССР, а старшыні СОНР'у зьмяняліся-б па чарзе.

[464] **Янка Станкевіч** (26.11.1891, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 16.07.1976, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, але быў выключаны за беларускія погляды. У пачатку 1914 г. працаваў у «Нашай ніве», але з пачаткам Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў царскае войска. У 1917 г. апынуўся ў аўстрыйскім палоне. У 1918–1920 гг. сябра Рады БНР. Скончыў пражскі Карлаў універсітэт (1926) са ступенню «доктар славянскага мовазнаўства і гісторыі». Выкладаў беларускую мову ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Вільні і Варшавы. У 1928–1930 гг. — пасол польскага сойму. Выдаваў часопіс «Родная мова» (1930–1931). У жніўні 1939 г. пасаджаны польскімі ўладамі ў турму. Пазней, ратуючыся ад бальшавікоў, выехаў у Літву, а затым у Нямеччыну. Падчас нямецкай акупацыі вярнуўся ў Беларусь. Уваходзіў у склад Цэнтралі БНС, займаўся адукацыйнымі праектамі (школьніцтва, выдавецтва). У 1944 г. перабраўся да сям'і ў Прагу. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў у беларускіх лагерах, выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Стварыў Крывіцкае навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, пазней у Нью-Джэрсі. Адзін з заснавальнікаў БАЗА. Выдаваў часопіс «Веда». Уваходзіў у першы склад рэдкалегіі газеты «Беларус», друкаваўся ў газеце «Бацькаўшчына».

[465] Маецца на ўвазе **Рыжская мірная дамова** 1921 г. паміж РСФСР і Польшчай, паводле якой Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна адыходзілі да польскай дзяржавы.

[466] **«Лінія Керзана»** — прапанаваная брытанскім міністрам замежных спраў лордам Джорджам Керзанам на Парыжскай мірнай канферэнцыі ў 1919 г. рыса, якая вызначала ўсходнюю мяжу Польшчы. У 1945 г. на Ялцінскай мірнай канферэнцыі было вырашана, што мяжа СССР і Польшчы будзе прыблізна адпавядаць «лініі Керзана».

[467] **Мікола Целеш** (25.06.1900, в. Зазер'е Барысаўскага пав. (сёння в. Заазер'е Лепельскага р-на Віцебскай вобл.) — пасля 1976), літаратар, перакладчык. Вучыўся ў Бялыніцкай народнай вучэльні. Ад 1916 г. жыў на поўдні Расіі, працаваў на Данбасе. У 1919 г. уступіў у Чырвоную Армію, адкуль дэмабілізаваўся ў 1924 г. Ад 1929 г. пачаў друкавацца ў перыёдыках. Перад вайной працаваў у часопісе «Паляўнічы Беларусі», выдаў чатыры кнігі прозы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку.

Да п. 2а:

Перад дыскусіяй сп. Махноўскі прачытаў поўны тэкст «Постановления о создании Совета Освобождения Народов России»[468], а сп. Прэзыдэнт адначасна паясьніў некаторыя месцы чытанага.

Радны Ст. Грынкевіч уважае, што дыскусія павінна пайсьці па лініі дадатняга стаўленьня да прапановы Амэрыканскага камітэту дзеля таго, што наш удзел у хаўрусе з народамі СССР адсякае лапы польскага імпэрыялізму.

Радны Г. Паланевіч, схарактарызаваўшы погляд амэрыканскіх колаў на парушаныя пытаньні і пытаньні нацыянальнасьцяў СССР у «Новым Рускім Слове», «Россіі» і інш. газэтах, прыходзіць да выснаву, што прапанову прыняць варта, дамагаючыся замяніць назоў «Народаў Расеі» на іншы, ды роўнага права голасу ўсіх народаў, а не як прапануюць яны: 2/3 расейцаў і 1/3 іншых. Незалежна ад гэтага трэба зацікавіцца акцыяй О. Конара[469], аб якой цяпер многа пішацца ў амэрыканскай прэсе.

Радны В. Кабыш — разглядаючы справу з пункту гледжаньня прэстыжу Рады БНР, уважаем прапанаваную плятформу за паніжаючую, бо з расейскага боку 5 палітычных партыяў ня твораць дзяржаўнага цэнтру, якім ёсьць Рада БНР. Што-ж тычыцца «Постановления», дык 2 пункты яго ёсьць магчымыя, але пункт аб плебісцыце пярэчыць акту 25-га Сакавіка. Гаварыць мы павінны, аднак плятформа 5 расейскіх партыяў не да прыняцьця.

Радны М. Гарошка ўважае, што амэрыканская грамадзкая думка падзеленая: ёсьць прыхільнікі «адзінае, недзялімае», але маюцца і сымпатыкі падзелу расейскае імпэрыі. Што тычыцца «Постановления», дык ня можа быць мовы аб плебісцыце і нельга згадзіцца на назоў «Народов России». Варта таксама гутарыць з «зарубежнікамі», бо яны ўжо моцна зьмяніліся, а разгляданыя справы вельмі важныя.

Радны М. Панькоў — паддаўшы крытыцы расейскі зьлепак з пяцёх партыяў, зь якіх чатыры ёсьць фікцыйнымі і толькі НТС (салідарыстыя)[470] прадс-

[468] Тэкст прыведзены ў раздзеле «Дакументы».

[469] **Герберт О'Конар** (*Herbert O`Conor*, 1896–1960), амерыканскі палітык, сенатар-дэмакрат у Кангрэсе ЗША ад Мэрыленда ў 1947–1953 гг. У газеце «Бацькаўшчына» ён згадваўся як адзін з тых сенатараў, што выступаў у падтрымку нацыянальных памкненняў паняволеных СССР народаў (гл.: Каранеўскі, Язэп. Лёд памалу праломваецца // Бацькаўшчына. № 4 (83). 27.01.1952).

[470] Маецца на ўвазе **Народна-працоўны саюз расійскіх салідарыстаў** (НТС) — арганізацыя, што брала свой пачатак ад Нацыянальнага саюза расійскай моладзі, створанага ў Бялградзе ў 1930 г. Яна арыентавалася на падрыхтоўку народнай рэвалюцыі ў СССР, займалася адпраўкай агентаў для дэструктыўнай працы на савецкай тэрыторыі. Пасля Другой сусветнай вайны гэтая арганізацыя была адной з найбольш колькасных сярод расійскіх эміграцыйных структураў. Да пачатку 1950-х гг. у шэрагах НТС знаходзілася каля 1500 актыўных сябраў і 5–10 тысячаў «спачуваючых» (гл.: Лунева, И.А. Деятельность русских антикоммунистических организаций в Германии после Второй мировой войны (на примере НТС и СБОНР, 1945–1957 гг.) // Наука, культура и политика русской эмиграции. СПб, 2004. С. 69.)

таўляюць больш-менш нейкую сілу, уважае, што наш дзяржаўны орган ня можа зь імі супрацоўнічаць, а трэба стварыць таксама арганізацыю з нашых партыяў, у якую ўключыць і зарубежнікаў (4 незалежнікі + 1 зарубежнік).

Радны М. Рагуля[471] — уважае, што палітыка ЗША мяняецца, і калі сяньня ставяць на Керанскага, дык ня выключана магчымасьць, што заўтра перахіліцца на бок «сепаратыстых». Лічыць, што калі да супрацоўніцтва з расейцамі ня прыступаюць украінцы, дык і нам няма чаго туды ўваходзіць. Мы толькі страцім гэтым хаўрусьнікаў. Перагаворы калі й весьці, дык толькі для таго, каб не дагаварыцца, але каб дайшло да зрыву. Палітыка робіць зыгзагі, але нельга іх на 180°, бо мы ў адваротным парадку станемся зарубежнікамі.

Радны Я. Станкевіч — у сваім выступленьні стаіць на становішчы, што гутарыць з расейцамі можна, але ня трэба гадзіцца на ніякія плебісцыты, бо да іх маскалі ўжо цяпер будуць рыхтавацца, нішчачы наш народ на Бацькаўшчыне праз НКВД. Ня можна належыць да СОНР'у, бо гэта абазначала-б самаліквідацыю. У канцы інфармуе аб спробах тварэньня Канфэдэрацыі народаў падняволеных Расеяй і аб акцыі О'Конара.

Радны А. Адамовіч — прыпамінае з гісторыі нашага народу падобныя падзеі ад уніі да ўласаўшчыны[472], зьвяртае ўвагу на важнасьць разгляданае справы. Уважае, што хаця мы й павінны кіравацца іншай тактыкай, як украінцы, грузіны ці то казакі, дык аднак ня трэба ўваходзіць у СОНР, але старацца як найдаўжэй цягнуць размовы і прадстаўляць розныя прапановы, якія-б, аднак, не пярэчылі Акту 25-га Сакавіка. Што-ж да становішча амэрыканцаў, дык уважае, што яны могуць згадзіцца і на існаваньне адначасна дзьвёх канцэпцыяў: Амэрыканскага камітэту і О'Конара. Як гэта ўжо было ў

---

[471] **Міхась Рагуля** (06.08.1914, в. Ачукевічы Наваградскага пав. (сёння Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.) — 06.07.2002, ЗША), грамадскі дзеяч, сын Васіля Рагулі. У 1933 г. скончыў Навагрудскую беларускую гімназію. Вучыўся ў Варшаўскай палітэхніцы, уваходзіў у кіраўніцтва Асветнага таварыства беларусаў. У 1940–1941 гг. вучыўся ў Львоўскай палітэхніцы. Летам 1941 г. вярнуўся ў Беларусь, працаваў загадчыкам аддзела культуры і асветы Віцебскай гарадской управы. Сябра ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, рэдактар падпольнага «Бюлетэня БНП». У жніўні–кастрычніку 1944 г. выкладаў у вайсковай школе «Дальвіц». У канцы 1940-х скончыў Мюнхенскую палітэхніку. Ад 1950 г. жыў у ЗША.

[472] Маецца на ўвазе **Камітэт вызвалення народаў Расіі** (КОНР) на чале з Андрэем Уласавым (1901–1946), створаны пры падтрымцы нацыстаў у 1944 г. у Празе. Палітычнай праграмай арганізацыі стаў Маніфест вызваленчага руху народаў Расіі. У склад Камітэта ўваходзілі прадстаўнікі ад Рускага нацыянальнага савета, Украінскай нацыянальнай рады, Нацыянальнай рады народаў Каўказа, Нацыянальнай рады народаў Туркестана, Галоўнага кіраўніцтва казацкіх войскаў, Калмыцкага нацыянальнага камітэта і Беларускай Цэнтральнай Рады. Быў створаны Беларускі камітэт КОНР на чале з Мікалаем Будзіловічам (?–1945), які, праўда, спыніў дзейнасць у 1945 г.

Нямеччыне гітлераўскіх часоў, калі ўласаўшчына існавала побач Беларускае Цэнтральнае Рады[473] й падобных арганізацыяў народаў СССР.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што гутарыць з расейцамі можна і варта, што праз гэта ўзрастае й прэстыж Рады БНР, трэба аднак заўсёды моцна акцэнтаваць нашыя правы, здабытыя ў 1918 годзе, а за матэрыяльныя і нематэрыяльныя шкоды, нанесеныя бальшавіцкай няволяй і войнамі, патрабаваць рэпарацыі. Наш погляд на справу заўсёды прадстаўляюць амэрыканскім чыньнікам.

Сп. Прэзыдэнт — высьвятляючы некаторыя пункты дыскусіі, зьвяртае ўвагу, што амэрыканцы ня пойдуць на перабудовы Усходняе Эўропы бяз удзелу расейцаў, якіх сяньня нацыянальнай рэпрэзэнтацыяй і лічыцца амэрыканцамі створаны з 5-ёх партыяў блёк. Перайшоўшы да канкрэтнай разьвязкі справы, прапануе выбраць камісію, якая-б прастудыяваўшы добра дэклярацыю расейцаў, выпрацавала-б тэкст контр-прапазыцыі.

Радны М. Тулейка — уважае, што расейцы ня згодзяцца на нашыя дамаганьні і ня пойдуць на ніякія кампрамісы. Падтрымоўвае прапанову стварыць новы орган дзеля вядзеньня далейшых перагавораў з расейцамі.

Радны П. Манькоўскі — лічыць акцыю О’Конара яшчэ неакрэсьленай і мала выявіўшайся. Падтрымоўвае прапанову сп. Прэзыдэнта выбраць камісію па апрацоўцы нашае плятформы пры перагаворах з расейцамі.

У камісію дзеля апрацаваньня тэксту контр-прапановы выстаўленыя наступныя кандыдаты, якія пры галасаваньні атрымалі паданы лік галасоў:

А. Адамовіч — 30 галасоў.

П. Манькоўскі — 30 галасоў.

Я. Станкевіч — 23 галасы.

М. Рагуля — 15 галасоў.

Пасьля падліку вынікаў галасаваньня пастаноўлена ў склад камісіі паклікаць усіх вышэйпаданых радных.

На гэтым І-ае паседжаньне VI Сэсіі Рады БНР зачынена.

## Пратакол другога паседжаньня VI Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылося 11 лістапада 1951 году ў Нью Ёрку (Бруклін), ЗША

Прысутнічалі: сп. Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 35 радных.

Старшыня паседжаньня — сп. А. Махноўскі, сакратары — А. Шукелойць і П. Кулеш.

Працяг VI Сэсіі, II паседжаньне.

Паседжаньне адчыняе старшыня А. Махноўскі.

Сп. Я. Стаськевіч[474] складае прысягу раднага Рады БНР.

---

[473] Беларуская Цэнтральная Рада афіцыйна не падтрымала ўласаўскі Камітэт вызвалення народаў Расіі і пасля дыскусіяў нават афіцыйна дыстанцыявалася ад яго.

[474] Магчыма, маецца на ўвазе **Сцяпан Стаськевіч**, інжынер, колішні сябра Беларускай Цэнтральнай Рады, кіраўнік яе рэферату прафесійных справаў, удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса.

Сп. Прэзыдэнт — рэфэруе аб працы камісіі, якая мела заданьне апрацаваць контр-прапанову на дэклярацыю СОНР'у.

Далей сп. Прэзыдэнт паведамляе, што ён пасьля першага паседжаньня Рады даў раднаму Б. Рагулі наказ, каб ён толькі прысутнічаў на Вісбадэнскай канфэрэнцыі[475], але ня выступаў і ня прымаў удзелу ў працах канфэрэнцыі. Аднак радны Б. Рагуля выклікаў яго тэлефанічна з Эўропы і даводзіў, што там мае быць зусім не канфэрэнцыя СОНР'у, але скліканая Дон Левінам нарада паняволеных бальшавікамі народаў і расейцаў аб магчымасьцях стварэньня агульнага супрацьбальшавіцкага фронту, і ў ёй маюць прыняць удзел украінцы (Андрыеўскі — УНРада) і грузыны, зь якімі ён перад гэтым меў гутаркі. Тады Прэзыдэнт даў Б. Рагулі дазвол на выступленьне, але толькі не рабіць ніякіх забавязваньняў. Цяпер нашае становішча зьмянілася, і рэзалюцыя мусіць мець іншую рэдакцыю, адпаведную занятаму становішчу.

Далей сп. Прэзыдэнт паведаміў, што ён мае весткі, быццам бы некаторыя сябры Рады не згаджаюцца з занятым Б. Рагуляй становішчам у Вісбадэне[476] і маняцца выступіць з Рады. Гэта было-б шкодным для нашае нацыянальнае справы. *«З пункту гледжаньня лёгікі выступленьне Б. Рагулі я не ўважаю за памылку, бо ён цэлы час быў у кантакце з Радаю».* Рада можа не апрабаваць выступленьне Б. Рагулі, *хаця «я ня бачу нічога ў ім кампрамітуючага. Нацыяналізм ёсьць шкодным, гаварыць трэба так-жа з ворагам. У гэтым гістарычным мамэнце прашу аднесьціся з пакоем і павагай. Мы ў палажэньні жаўнера, які прыняў першы бой».* У канцы сп. Прэзыдэнт запрапанаваў заслухаць ягоны праект рэзалюцыі.

Радны Я. Станкевіч — паведамляе, што выбраная на папярэднім паседжаньні Рады камісія зьбіралася двойчы і пастанавіла, каб наш дэлегат ня браў удзелу ў канфэрэнцыі наагул. Гутарачы з грузынамі, ён даведаўся, што група Цынцадзе[477], якая бярэ такі актыўны ўдзел у Вісбадэне, ёсьць русафільскай і не належыць да цэнтральнага грузынскага дзяржаўнага прадстаўніцтва, падобная да нашых зарубежнікаў.

---

[475] Маецца на ўвазе канферэнцыя Саюза вызвалення народаў Расіі, якая адбылася 7 лістапада 1951 г. у Вісбадэне і дзе была падпісана адмысловая дэкларацыя аб супрацоўніцтве паміж пяццю расійскімі арганізацыямі і некаторымі нацыянальнымі групамі паняволеных народаў.

[476] Подпіс Барыса Рагулі стаяў пад прынятым на канферэнцыі дакументам, што дало падставы лічыць, што Рада БНР, разам з Азербайджанскай народнай радай, Грузінскай нацыянальнай радай, Туркестанскім нацыянальным камітэтам, Саюзам за свабоду Арменіі, Паўночнакаўказскім антыбальшавіцкім нацыянальным рухам ды пяццю расійскімі эміграцыйнымі арганізацыямі прымае Дэкларацыю Саюза вызвалення народаў Расіі.

[477] Грузінскі палітычны дзеяч **Ной Цынцадзэ** быў адным з дэлегатаў на Вісбадэнскую канферэнцыю ад Грузінскага нацыянальнага камітэта, створанага ў 1951 г. для барацьбы за аднаўленне незалежнасці Грузінскай Рэспублікі.

Далей зачытвае з газэты «Новое Русское Слово»[478] дэклярацыю Вісбадэнскае канфэрэнцыі. Пасьля зьвяртае ўвагу, што пры параўнаньні расейскага тэксту з ангельскім другі пункт дэклярацыі гэтае выразна кажа аб плебесцыце. Прапануе заняць становішча ў справе дэклярацыі незалежна ад выступленьня й дзейнасьці Б. Рагулі. Рада не зьвязаная ягоным выступленьнем.

Радны Ю. Старасельскі[479] — пытаецца, ці адзначаная пад подпісам Б. Рагулі пад Вісбадэнскай дэклярацыяй арганізацыя зьяўляецца Радаю БНР. Ён уважае, што Рада можа не адобрыць выступленьне Б. Рагулі, але прымаць удзел трэба.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што ў даным выпадку трэба разьмежаваць пытаньне: 1. заняць нашае становішча наагул; 2. заняць становішча ў адносінах да сп. Б. Рагулі.

Радны А. Шукелойць — пытае, ці нашая подпіс пад Вісбадэнскай дэклярацыяй не пярэчыць прынцыпам Акту 25 Сакавіка.

Сп. Прэзыдэнт адказвае, што Вісбадэнскую дэклярацыю не ўважае за забавязваючы дакумэнт. Не ўважае таксама, што пункт другі дэклярацыі пярэчыць Акту 25 Сакавіка, бо рэдакцыя яго ёсьць мутнай і розна можа быць камэнтаваная.

Радны Ф. Кушэль — гаворыць, што фармуліроўкі дэклярацыяй мусяць быць ясныя, а не дапускаючымі рознай інтэрпрэтацыі. Рада, стоячы на пазыцыях Акту 25 Сакавіка, ня можа пайсьці на ніякія няясныя фармуліроўкі. З нашага боку можа быць толькі тады супрацоўніцтва, калі расейцы выступяць з рэзалюцыяй, што прызнаюць БНР як незалежную дзяржаву. Мы мусім прыняць такую рэзалюцыяю й выслаць яе ў Вашынгтон, каб ведалі, пры якіх умовах мы можам гаварыць з расейцамі. Выступленьне-ж раднага Б. Рагулі нас не забавязвае, бо ён паўнамоцтваў ад Рады ня меў.

Сп. Прэзыдэнт — зачытвае свой праект рэзалюцыі, пасьля чаго робіць выясьненьне некаторых яе пунктаў. У адносінах раднага Б. Рагулі, пакуль ня будзе атрымана справаздача, ня можна заняць становішча, бо гэта было-б для яго крыўдным, тым больш, што і прозьвішча пад дэклярацыяй «Брагулія».

Радны Уладыка Васіль — прыпамінае розныя цяжкасьці пры тварэньні міжнародных арганізацыяў у Нямеччыне на працягу апошніх пяці гадоў эміграцыі. Лічыць, што новая арганізацыя з удзелам амэрыканцаў здолее перамагчы ўспомненыя цяжкасьці, якія мелі папярэднія спробы. Што да раднага Б. Рагулі, дык уважае, што ён можа прымаць удзел у нарадах і выступаць і нават падпісваць аб супрацоўніцтве, а вынікі будуць відаць з далейшага ходу падзей.

Радны Ф. Кушэль — пытае, ці радны Б. Рагуля меў паўнамоцтвы прыймаць удзел і падпісваць пастановы.

---

[478] **«Новое русское слово»** — рускамоўная газета, што выходзіла ў Нью-Ёрку ў 1910–2010 гг.

[479] **Юліян Старасельскі** (07.07.1919–25.06.1965, Канэктыкут), грамадскі дзеяч.

Сп. Прэзыдэнт — адказвае, што радны Б. Рагуля ня мог падпісваць ніякіх дэклярацыяў без адпаведнае пастановы Рады. Зьмешчаную ў прэсе дэклярацыю трэба разумець як прэсавае камюніке канфэрэнцыі, а не падпісаны дакумэнт.

Радны М. Панькоў — зазначае, што бачыў дэклярацыю, зьмешчаную ў прэсе за подпісамі, і яе лічылі ў рэдакцыі «Нового Русского Слова» дакумэнтам. А копію дэклярацыі для друку падаў салідарысты Раманаў[480]. Ён разглядае і характарызуе ўсе арганізацыі, якія падпісалі дэклярацыю, і падкрэсьлівае паніжаючае Раду БНР як дзяржаўны й паважны орган беларускага народу супрацай з адзначанымі арганізацыямі. Прапануе Радзе ўдзелу ня браць, а стварыць нейкую іншую ўстанову.

Радны А. Махноўскі — перакладае артыкул з латыскае газэты «Лайкс»[481], які характарызуе Керанскага й расейскія партыі, якія ўдзельнічалі ў стварэньні СОНР'у як маскоўскіх імпэрыялістых.

Радны А. Орса — уважае, што з інфармацыі сп. Прэзыдэнта аб падрыхтоўцы Вісбадэнскай канфэрэнцыі выглядае, што гэта рабілі не расейцы, а народы СССР. Тым часам, судзячы аб пяці партыяў расейскіх і прадстаўнікоў народаў, яскрава бачна, што гэта работа расейцаў, і яны ўжо колькі разоў зьмяняюць назовы сваіх арганізацыяў, каб толькі як-небудзь стварыць блёк з народамі нерасейскімі. У справе дзейнасьці Б. Рагулі мы сяньня ня можам заняць становішча, бо нават ня маем ягонае справаздачы.

Радны Я. Станкевіч — адзначае, што сп. Прэзыдэнт і Уладыка Васіль прабавалі плаваць у тумане другога пункту Вісбадэнскай. Туман гэты шкодны і ня ясны толькі для некаторых. Для «Ню Ёрк Таймсу» і расейцам ён ясны — плебісцыт. І ўсе гэтак яго разумеюць. Прапануе разгледзіць праект рэзалюцыі Прэзыдэнта на пунктах.

Радны М. Цэлеш — уважае, што з расейскага боку гэта была толькі спроба сілаў нацыянальных рухаў, каб пераканаць амэрыканцаў, што ніякіх нацыянальных рухаў няма. Лічыць, што ніякага супрацоўніцтва ня можа быць, пакуль не прызнаюць правоў на незалежнасьць. Наш удзел у Вісбадэнскай канфэрэнцыі шкодны і падразае сук, на якім мы самі сядзім. Неабходна пераконываць амэрыканцаў, што ў выпадку вайны іхнымі запраўднымі й шчырымі хаўрусьнікамі будуць не расейцы, а народы, паняволеныя маскоўскім бальшавізмам, якія імкнуцца да незалежнасьці, як беларусы, украінцы і інш.

Радны П. Манькоўскі — лічыць, што мы ня можам выбраць тае дарогі, якою ідуць украінцы, бо нашыя сілы слабейшыя за іх. Мы мусім ісьці на перагаворы з расейцамі, але лепш было-б не дагаварыцца і мець апінію ў амэрыканцаў, што ў гэтым вінаваты расейцы.

---

480 **Аўген Раманаў** (Астроўскі, 1914–2001), расійскі эміграцыйны дзеяч другой хвалі, адзін з кіраўнікоў Народна-працоўнага саюза (НТС), заснавальнік часопіса «*Грани*», аўтар успамінаў «В борьбе за Россию» (Масква, 1999).

481 **Латышская газета «Laiks»** была заснавана ў Нью-Ёрку ў 1949 г. Гэта адно з найбольш значных латышскіх замежных выданняў.

Радны А. Орса — у фармальнай справе прапануе не займацца разгаворамі, але разгледзіць праект рэзалюцыі па пунктах.

Радны В. Русак[482] — уважае, што перад прыступленьнем да разгляду праекту рэзалюцыі па пунктах неабходна прыняць пастанову, ці мы маем гаварыць з расейскімі партыямі, ці не.

Радны А. Попка[483] — уважае, што з расейцамі трэба весьці перагаворы, бо ўжо адказ на іхную прапанову аб супрацы зьяўляецца перагаворамі.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што перагаворы весьці трэба, бо гэта падыймае наш прэстыж. Але супраць прадстаўнікоў у перагаворах трэба будзе прыймаць мацнейшыя меры. Затым падае свой праект рэзалюцыі.

Радная Н. Арсеньнева[484] — прапануе праект рэзалюцыі раднага Я. Станкевіча ўнесьці як дадатак да праекту рэзалюцыі Прэзыдэнта.

Сп. Прэзыдэнт — выясьняе, чаму беларусы маюць трымацца гэтакай тактыкі ў сваіх палітычных дзеяньнях, а ня тактыкі, якую праводзяць украінцы або палякі. Мы мусім паказваць, што ня мы былі тымі, зь якімі ня можна гаварыць і дагаварвацца, але якраз яны, расейцы. Аб гэтым мы павінны таксама інфармаваць і амэрыканцаў.

Радны Б. Данілюк — уважае, таксама, што мы павінны нашу тактыку палітычнай дзейнасьці наблізіць да чэскай. У часе гандлю можам і адступіць штось ня важнае, каб паказаць, што мы гутарым і можам пайсьці на кампраміс.

Радны М. Міцкевіч — адзначае, што нашая сытуацыя падобная да сваечасна сытуацыі Чан-Кай-Шы[485], і ўваходзячы ў перамовы, можна папасца ў пастку[486].

---

[482] Як сведчаць наступныя пратаколы, Васіль Русак стаў Радным БНР пазней. Таму тут, магчыма, памылка, і павінен быць пазначаны Уладзімір Русак.

[483] **Андрэй Попка** (1893, в. Пашкоўцы Слуцкага пав. Менскай губ. (сёння Ляхавіцкі р-н Берасцейскае вобл.) — 09.10.1965, Джэрсі-Сіці), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Ляхавічах, потым у Варшаве ў арганнай школе. Пасля Першай сусветнай вайны жыў у Ляхавічах, дзе займаўся гародніцтвам і служыў арганістам пры мясцовым касцёле. Быў актывістам хрысціянска-дэмакрычнага руху, належаў да мясцовага гуртка Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У 1939 г. пачаў настаўнічаць. За часамі нямецкай акупацыі стаў афіцэрам БКА, затым уваходзіў у склад дывізіі «Беларусь». Пасля Другой сусветнай вайны быў камендантам лагера *DP* у Вільдфлекене, вёў культурніцкую працу ў беларускім лагеры ў Віндзішбергердорфе. Пазней пераехаў у ЗША.

[484] **Наталля Арсеннева** (20.09.1903, Баку, Азербайджан — 25.07.1997, Рочэстар, ЗША), паэтка, грамадская дзяячка. (Больш поўную біяграфічную інфармацыю глядзі ў раздзеле «Асобы».)

[485] **Чан Кайшы** (1887–1975), кітайскі палітычны і вайсковы дзеяч, кіраўнік партыі Гаміньдан, стваральнік Кітайскай рэспублікі на Тайвані.

[486] Магчыма, маюцца на ўвазе няўдалыя перамовы Чана Кайшы з кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Кітая аб стварэнні кааліцыйнага ўраду пасля Другой сусветнай вайны.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што Рада БНР як дзяржаўны орган не павінна выступаць дзеля таго, што яна тады становіцца роўназначнай партыі, якіх толькі з расейскага боку бярэ ўдзел аж пяць.

Сп. Прэзыдэнт — даводзіць да ведама радных, што амэрыканцы хочуць стварыць антыбальшавіцкі цэнтар з найбольш рэпрэзэнтатыўных арганізацый, дык неабходна, каб Рада і вяла перамовы.

Радны Я. Станкевіч — заяўляе, што ён мо і памыляецца, але ад папярэдняга сказанага ім адмаўляецца.

Сп. Прэзыдэнт зачытвае праект рэзалюцыі. Радныя выказваюцца, што пастанова мусіць быць разглядана й прыймана па пунктах.

Сп. Прэзыдэнт зачытвае рэзалюцыі сэктараў Рады БНР з іншых краінаў у справе Вісбадэнскай дэклярацыі, прысланыя ў Прэзыдыюм Рады БНР (дакуманты знаходзяцца ў справах Прэзыдыюма Рады).

Пастанова ставіцца на галасаваньне па пунтах з наступным вынікам:

Пункт I прыймаецца большасьцю галасоў пры 1 устрымаўшымся.

Пункт II прыймаецца аднагалосна.

Пункт III прыймаецца аднагалосна.

Пункт IV прыймаецца аднагалосна.

Пункт V прыймаецца аднагалосна.

Пункт VI прыймаецца аднагалосна.

Пункт VII прыймаецца аднагалосна.

Пасьля прыняцьця пастановы (па праекту, зачытанаму сп. Прэзыдэнтам і ўнесенымі ў часе дыскусіі папраўкамі) быў разгледжаны дадатак да яе раднага Я. Станкевіча, які пасьля грунтоўнага разгляду і дакладнага пераапрацаваньня быў прыняты аднагалосна ў наступнай рэдакцыі:

*«Адносна дэклярацыі Вісбадэнскай нарады з дня 7.XI.1951 г. VI Сэсія Рады БНР, выходзячы із становішча, што беларускі народ ужо выявіў сваю волю да поўнай дзяржаўнай незалежнасьці Актам 25 сакавіка 1918 г., як і зазначана ў III пункце гэтай пастановы, Сэсія не пагаджаецца з пунктам II Вісбадэнскай дэклярацыі, інсьпіруючым паўторнае выяўленьне волі Беларускага Народу на самаазначэньне.*

*Адносна пазыцыі, занятай дэлегатам выканаўчага органу Рады на Вісбадэнскай нарадзе народаў СССР 7.XI. 1951 г., якому было даручана толькі прыняць удзел у дыскусіі і выказаць становішча Рады, VI Сэсія Рады БНР разгледзіць гэтую справу на наступным паседжаньні пасьля атрыманьня ад яго справаздачы»*[487].

Радны Я. Станкевіч — уносіў да II-й часткі вышэйпаданай рэзалюцыі наступнае: *«...дыскусіі, а не падпісываць дэклярацыю»*, што дало пастаўленае на галасаваньне наступны вынік: супраць — 15, за — 4, устрымаліся — 5.

---

[487] «Выясьненьні ў справе Вісбадэнскай канфэрэнцыі» ад імя Сакратарыята Прэзідыума Рады БНР былі апублікаваныя ў газеце «Бацькаўшчына» (№ 77. 16.12.1951).

## Пратакол трэцяга паседжаньня VI Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылося 25-га лістапада 1951 году ў Нью Ёрку (Бруклін), ЗША

Прысутнічалі: сп. Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 36 радных.

Старшыня паседжаньня — сп. А. Махноўскі, сакратары: А. Шукелойць і П. Кулеш[488].

Працяг VI Сэсіі, III паседжаньне.

Адчыніў паседжаньне старшыня Сэсіі А. Махноўскі, даючы слова сп. Прэзыдэнту дзеля інфармацыі аб ягонай дзейнасьці між паседжаньнямі Рады.

Сп. Прэзыдэнт — Напачатку дае інфармацыю аб ходзе Вісбадэнскай канфэрэнцыі на падставе атрыманых лістоў ад др. др. Б. Рагулі і Ст. Станкевіча і міністра в. о. УНРады праф. С. Даўгаля[489]. З атрыманых лістоў вынікае, што прадстаўнікі пяцёх расейскіх партыяў і нацыянальных прадстаўніцтваў на Вісбадэнскай канфэрэнцыі не змаглі дайсьці да паразуменьня ні ў аднэй разгляданай там справе, і цэлая канфэрэнцыя практычна зьвялася да дыскусіі па пытаньню, як глядзяць расейцы на справу незалежнасьці народаў СССР. Вісбадэнская дэклярацыя была прынята ў канцы канфэрэнцыі толькі як прэсавае камюніке для загадзя замоўленай прэсканфэрэнцыі. Др. Б. Рагуля зазначыў, што ён выступае на Вісбадэнскай канфэрэнцыі ў паразуменьні з Радаю БНР.

Наступна сп. Прэзыдэнт падае інфармацыю аб яго спатканьні з др. Вітвіцкім, міністрам в. о. УНРады і сп. Галычыным[490], заступнікам старшыні Украінскага кангрэсовага камітэту[491]. Украінцы зазначылі, што прыкра сталася з прычыны страты кантакту паміж беларусамі і ўкраінцамі, чым і тлумачацца выступленьні паасобку. Добра было-б усе беларуска-ўкраінскія справы ўзгодніць і ў будучыне выступаць у паразуменьні ці супольна. Пазытыўным для Беларусаў ёсьць тое, што на Вісбадэнскую канфэрэнцыю не

---

[488] **Павел Кулеш** (15.07.1913, в. Скалбішча Вялейскага пав. Віленскае губ. (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 29.11.1998, г. Рычманд, ЗША), грамадскі дзеяч. Паводле адукацыі аграном. У часе Другой сусветнай вайны трапіў у палон, дзе дапамагаў шмат каму з суродзічаў, бо працаваў польска-нямецкім перакладчыкам. У 1950 г. пасяліўся ў ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы. Сябра ўправы Нью-джэрсійскага аддзела БАЗА.

[489] **Спірыдон Доўгаль** (1896–1975), украінскі палітычны дзеяч, навуковец, эканаміст, дацэнт Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах. Сябра ЦК Украінскай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, удзельнік ураду УНР у выгнанні (у 1954 і 1969–1972 гг. — кіраўнік гэтага ўраду), у 1966–1967 і 1972–1975 гг. — Старшыня УНРады. С. Доўгаль вучыўся ва Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах адначасова з Міколам Абрамчыкам (скончыў на год пазней).

[490] **Змітро Галычын**, украінскі палітычны дзеяч, у 1955–1961 гг. быў Прэзідэнтам Украінскага кангрэсавага камітэта Амерыкі.

[491] **Украінскі кангрэсавы камітэт Амерыкі** — грамадская арганізацыя ўкраінцаў у ЗША, створаная ў 1940 г. у Вашынгтоне на Першым кангрэсе амерыканскіх украінцаў.

дапусьцілі фіктыўнага прадстаўніцтва. Др. Вітвіцкі хацеў-бы, каб на наступных канфэрэнцыях прадстаўнік беларусаў выступіў таксама і ад украінцаў (УНРады) з аднэй супольнай плятформай або зачытаў ад УНРады асобную дэклярацыю. Незалежна ад гэтага трэба прыступіць да тварэньня блёку нерасейскіх народаў СССР. Прыезд Дон-Левіна з Эўропы ў ЗША выкліканы крызісам сярод палітычных партыяў СОНР'у, якія ня могуць згадзіцца на супольную плятформу.

Радны А. Адамовіч пытае, ці сп. Прэзыдэнт у сваіх гутарках з міністрам в. о. УНРады др. Вітвіцкім закранаў пытаньне граніцаў 1939 г.

Сп. Прэзыдэнт адказвае, што гэтага пытаньня ў гутарках не закранаў, але А. Керанскі выказваўся супраць адданьня Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны палякам. Што-ж да ўмовы паміж расейцамі а палякамі аб Рыскай мяжы, дык маглі яны і быць, але гэта толькі абяцаньні і безадказныя дэклярацыі, разьлічаныя на шантаж.

Радны др. Я. Станкевіч зьвяртае ўвагу, што перад Вісбадэнскай канфэрэнцыяй пяць расейскіх партый на зьезьдзе ў Штутгарце[492] ў прынятай імі Штутгартскай дэклярацыі[493] заяўляюць, што землі, занятыя СССР пасьля 1939 г., павінны дзяржаваў, якім яны належылі перад гэтым. Дзеля гэтага пры перамовах з расейцамі трэба дамагацца адклікаеньня гэтае пастановы.

Радны А. Адамовіч — зачытвае вестку ў «Ню Ёрк Таймс» аб Вісбадэнскай нарадзе. Пасьля зачытаньня весткі ён зьвяртае ўвагу, што справа Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны ня ёсьць толькі абяцаньні, але сапраўднасьць. Доказам гэтага ёсьць і выступленьне Эчэсона[494], супраць якога ўкраінцы пратэставалі, і маўчаньне польскае прэсы.

Радны С. Грынкевіч — зачытвае артыкул з газэты «Украіньскі Самостийнік»[495].

Радны Я. Станкевіч — звяртае ўвагу, што выступленьне Рады БНР самастойна ад украінскіх дзяржаўных рэпрэзэнтацый трэба ўважаць за зьявішча пазытыўнае для нас, як пазытыўным таксама трэба ўважаць і тое, што ўкраінцы хочуць праз нашага прадстаўніка навязываць кантакты з дзейнікамі Амэрыканскага камітэту і расейскай эміграцыі ў Эўропе. Тое аднак, што наш дэлегат на Вісбадэнскай канфэрэнцыі зыйшоў з пазыцыяў Акту 25 Сакавіка, падпісаўшы дэклярацыю Вісбадэну, ёсьць адʼёмным зьявішчам.

Радны Уладыка Васіль — спыніўшыся шырэй на ўкраінска-беларускіх адносінах пасьля развалу гітлераўскай Нямеччыны, лічыць, што ўдзел наш у Вісбадэне ня ёсьць ганьбай, але якраз гонарам. Выступленьне-ж нашага

---

[492] Згаданы зʼезд адбыўся ў Штутгарце ў жніўні 1951 г.

[493] Тэкст Штутгарцкай дэкларацыі змешчаны ў раздзеле «Дакументы».

[494] Маецца на ўвазе **Дзін Ачэсан** (*Dean Gooderham Acheson,* 1893–1971), амерыканскі палітычны дзеяч, у 1949–1953 гг. займаў пасаду Дзяржсакратара ЗША.

[495] **«Український Самостійник»** — палітычна-інфармацыйны тыднёвік, які выходзіў у Мюнхене ў 1950–1957 гг. Выдаваўся коламі Замежных аддзелаў АУН.

прадстаўніка і ад імя ўкраінцаў, як гэтага яны хочаць — трэба таксама лічыць для нас карысным.

Радны А. Махноўскі — падсумаваўшы вынікі дыскусіі разгляданае справы, сьцьвярджае аднадумнасьць Рады і прапануе перайсьці да канкрэтных пастановаў.

Сп. Прэзыдэнт — прапануе выбраць камісію для апрацаваньня тэзаў і інструкцыяў, якіх мае трымацца дэлегат Рады БНР пры далейшых нарадах з прадстаўнікамі Амэрыканскага камітэту, расейскіх дэмакратычных партыяў і народаў СССР.

Прапанова прыймаецца, і вынікам галасаваньня з выстаўленых кандыдатаў выбіраецца камісія з 5 асобаў:

Кандыдаты й вынікі галасаваньня:

Манькоўскі — 19 галасоў (4);
Я. Станкевіч — 21 голас (2);
М. Дарашэвіч[496] — 20 галасоў (3);
А. Махноўскі — 12 галасоў;
Фр. Кушэль — 6 галасоў;
А. Адамовіч — 23 галасы (1);
М. Гарошка — 2 галасы;
Уладыка Васіль — 19 галасоў (5).

У склад камісіі згодна выніку галасаваньня выбраныя: А. Адамовіч, Я. Станкевіч, М. Дарашэвіч, Уладыка Васіль і П. Манькоўскі.

Да п. 3: Справаздача Прэзыдэнта Рады БНР зь дзейнасьці за мінулы год.

У справаздачы зь дзейнасьці за мінулы год сп. Прэзыдэнт дакладна абгаварыў падарожжы ў Англію, Бэльгію і Італію.

Здаючы грашовую справаздачу, зьвярнуў увагу Рады на матэрыяльныя цяжкасьці, якія не дазваляюць выканаць тое, што ёсьць неабходным. Канцылярыя Прэзыдэнта ня можа працаваць адпаведна; многіх лістоў ня робіцца копіяў.

У канцы сваёй справаздачы сп. Прэзыдэнт адказаў на закіды, робленыя некаторымі раднымі ў сувязі з паездкай у Італію, асабліва падкрэсьліваючы ягоную візыту ў Ватыкане і адведзіны могілак Монтэ Касіно, дзе быў складзены вянок на магілы беларускіх жаўнераў, палёгшых у шэрагах польскай арміі У. Андэрса.

Радны Ф. Кушэль — уважае дзейнасьць Прэзыдэнта за годную найвялікшай падзякі, улічваючы нашыя скромныя эміграцкія магчымасьці. Навязаньне супрацы з Ватыканам ёсьць здабыткам нашае дыплёматыі. З Ватыканам супрацоўнічала і царская Расія, кантакт з Ватыканам і цяпер лічуць гонарам усе краіны некаталіцкія і нават нехрысьціянскія. Апошнім часам і ЗША, краіна, у якой рэлігія аддзелена ад дзяржавы і дзе каталікі ёсьць у вялікай меншасьці, імкнецца навязаць кантакт з Ватыканам. Трэба

[496] **Мікола Дарашэвіч** (08.07.1898–06.02.1974, Мангасет, Нью-Ёрк), грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў БАЗА, першы скарбнік арганізацыі. Сябра БІНіМ.

папулярызаваць геройства нашых жаўнераў, што адзначаліся ў многіх баёх у гісторыі, хаця часта і пад чужымі сьцягамі, а ў тым ліку і пад Монтэ Касіно.

Радны М. Панькоў — прапануе на аснове дакладу-справаздачы сп. Прэзыдэнта з дзейнасьці за мінулы год выказаць падзяку.

Радны В. Кажан — пасьля вострага выступленьня супраць крытыкаў дзейнасьці сп. Прэзыдэнта, якія хочуць падарваць ягоную працу, зачытвае вытрымкі з лістоў знаёмых з Францыі, дзе пішацца аб цяжкім матэрыяльным становішчы Прэзыдэнта і ягонай адданай ідэёвай працы на карысьць Бацькаўшыны.

Радны Ст. Грынкевіч — прапануе, каб пры пераклічцы герояў у часе нацыянальных сьвяткаваньняў успаміналіся таксама й героі, палеглыя пад Монтэ Касіно.

Радны Ю. Старасельскі — падмацоўвае ўдзел беларусаў пад Монтэ Касіно, падаючы вестку, што і ягоны сваяк загінуў у гэтым змаганьні.

Радны Уладыка Васіль — выступіў супраць крытыкі дзейнасьці сп. Прэзыдэнта, якая [крытыка] ёсьць шкоднай і беларускай справе наагул, і ня выключана, што гэта адна з праяваў дзейнасьці ворага праз радных. Прапануе пазыцыю сп. Прэзыдэнта, занятую ў Ватыкане, а таксама ягоныя адведзіны могілак пад Монтэ Касіно адобрыць і падзякаваць.

Радны Я. Станкевіч — прапануе зрабіць заклік да ўсіх беларусаў, каб зьбіралі і па магчымасьці друкавалі матэрыялы аб геройстве беларусаў у розных войнах, у тым ліку і аб Монтэ Касіно. Неабходна стварыць адумысловую камісію, якая-б выясьніла ўдзел беларусаў пад Монтэ Касіно.

Радны А. Адамовіч — уважае нетактычным выступленьне М. Рагулі з вострай крытыкай дзейнасьці Прэзыдэнта апошніх часоў, бо гэта было зроблена на прыватным памешканьні. Свой погляд на нашыя адносіны да Ватыкану, да расейцаў у Вісбадэне, а таксама на справу з Монтэ Касіно — павінен быў выказаць тут, на паседжаньні Рады і разгледзіць справу ўсебакова і ўсімі раднымі. Погляды на закранутыя справы радныя могуць мець розныя, і не ўважае зводзіць іх да аднадумнасьці.

Радны М. Панькоў — зачытвае наступную прапанову па разгляданаму пытаньню:

*«Дзейнасьць Прэзыдыюму Рады БНР у асобе сп. Прэзыдэнта інж. Міколы Абрамчыка і ягоную візыту ў Ватыкан, а таксама і складаньне вянка на могілках палеглых пад Монтэ Касіно беларусаў-герояў лічыць посьпехам працы беларускае дзяржаўнае дыплёматыі і апрабуецца VI Сэсіяй Рады БНР з падзякаю сп. Прэзыдэнту».*

Прапанова раднага М. Панькова прымаецца аднагалосна.

Да п. 5: Справаздача Ураду БНР.

Сп. Прэзыдэнт — адзначае, што пасьля дэмісіі прэм’ера А. Каханоўскага, які згадзіўся стварыць новы ўрад восеньню 1950 г. і зрабіць гэтага ня здолеў, Ураду да гэтага часу ня было. Пробы стварыць Урад пасьля дэмісіі прэм’ера Каханоўскага ня далі пазытыўных вынікаў, бо ніхто не згаджаўся заняць становішча прэм’ера. На сяньняшні дзень адзінай асобай, якая згадзілася

прыняць міністэрскі партфэль нацыянальных мяншыняў, зьяўляецца Альбэрт Курлядзкі[497], былы пасол БНР у Данцыгу, які цяпер пражывае ў Капэнгазе.

Сп. А. Махноўскі — падае да ведама свае спробы стварэньня ўраду пасьля дэмісіі прэм'ера Каханоўскага, якія таксама ня далі належных вынікаў. Лічыць, што справу ўраду неабходна разгледзіць дакладна на гэтай Сэсіі Рады і вырашыць яе. Ня выключана, што мо прыйдзецца і на нейкі час і адмовіцца ад стварэньня ўраду.

Радны Уладыка Васіль — лічыць неабходным стварэньне новага ўраду і прапануе на прэм'ераў М. Дарашэвіча і Л. Савёнка.

Радны М. Панькоў — прапануе на прэм'ерства сп. сп. А. Махноўскага і Л. Галяка.

Выстаўленыя кандыдаты адмаўляюцца прыняць функцыі міністраў.

Да п. 6: Справаздача Дзяржаўнай кантрольнай камісіі:

Радны А. Махноўскі — пасьля дэмісіі прэм'ера Каханоўскага і ягонага намеру выехаць з Ню Ёрку, была вызначаная Кантрольная камісія ў складзе: радны старшыня — В. Тумаш і сябры — Л. Галяк і А. Шукелойць, якая мела зрабіць рэвізію справаў адышоўшага ўраду і пераняць канцылярыю. Як паведаміў па нейкім часе старшыня камісіі В. Тумаш, камісія не змагла сабрацца з прычыны адлеглага жыхарства сяброў камісіі. Рэвізію правёў і канцылярыю пераняў сам радны А. Махноўскі. Пры рэвізіі выясьнілася, што канцылярыя была ведзена ў добрым парадку. Зьвяртае ўвагу на неакуратнае аплачываньне або і поўную ігнарацыю сяброўскіх складак, а ласьне: Чыкагскім падсэктарам Рады БНР, а таксама раднымі: Кірылік С.[498], Чыгіровіч Я.[499], Яўневіч Я. і інш.

Радны В. Кажан — падае дакладную справаздачу грашовага стану за час выкананьня ім абавязкаў скарбніка.

Да п. 7: Дыскусія.

Радны Я. Падгайскі[500] — зьвяртае ўвагу на неабходнасьць улічэньня сямейнага стану пры ападаткаваньні радных складкамі.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што сэктары Рады, улічваючы мясцовыя абставіны, могуць індывідуальна зьнізіць аплату складак. Інструкцыю, якая-б ахватывала ўсе сэктары Рады, апрацаваць немагчыма, бо ў кажнай краіне іншыя ўмовы жыцьця і працы.

---

497 **Альберт Курляндскі**, грамадскі дзеяч, ад 1923 г. быў кіраўніком Беларускага прэс-бюро ў Гданьску.

498 **Сцяпан Кірылік**, грамадскі дзеяч. У беларускай гімназіі ў Остэргофене выкладаў фізічнае выхаванне. Адзін з лідараў беларускіх скаўтаў у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1950-х гг. жыў у ЗША.

499 **Янка Чыгіровіч**, грамадскі дзеяч, прыхаджанін сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

500 **Іван Падгайскі** (15.03.1908, в. Жарава Пастаўскага пав. — 1957, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў ЗША, жыў у Нью-Ёрку. Сябра БАЗА, Згуртавання беларускіх ветэранаў.

Радны Ф. Кушэль — прапануе пры прыйме сяброўскіх складак адлічваць зь іх выдаткі радных на грамадзкія справы. Даручыць Прэзыдыюму выясьніць, чаму некаторыя сябры зусім ня плоцяць складак.

Радны Я. Ніхаёнак — прапануе завесьці сыстэму, прынятую пры ападаткаваньні ў ЗША.

Радны П. Кулеш — зьвяртае ўвагу на патрэбу маральнай адказнасьці радных, але прапануе кантраляваць кажнага ў канцы году па заработнай плаце.

Радны В. Русак — лічыць, найлепшым кантролем будзе даведка з месца працы аб заработку раднага ў канцы году.

Радны М. Гарошка — лічыць патрэбным, каб была апрацаваная адпаведная інструкцыя, якая-б брала на ўлік умовы працы і жыцьця кажнага, вышыню заработку, сямейны стан і стан здароўя, час беспрацоўя і інш. Толькі тады вызначаная радным складка будзе справядлівай.

Радны М. Дарашэвіч — уважае, што апрацаваная дакладная інструкцыя будзе прыкладам і для скарбніка БАЗы. Падтрымлівае прапанову раднага Русака.

У выніку дыскусіі на галасаваньне ставіцца аб'еднаная прапанова радных П. Манькоўскага і В. Русака:

Абавязкам раднага ёсьць плаціць складкі ў памеры 2 % ад заробку. Розныя індывідуальныя выпадкі платаздольнасьці радных разглядае сэктар Рады. Кантроля вышыні заработку кажнага раднага праводзіцца ў канцы году на аснове даведак, выданых з месца працы.

Прапанова прымаецца 26 галасамі пры 1 устрымаўшымся.

## Пратакол чацьвёртага паседжаньня VI Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылося 3-га лютага 1952 году

Прысутнічалі: сп. Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 35 радных.

Старшыня паседжаньня сп. А. Махноўскі.

Сакратары: Б. Дубоўскі і А. Шукелойць.

Працяг VI Сэсіі, IV паседжаньне пачалося інфармацыяй сп. Прэзыдэнта.

Сп. Прэзыдэнт інфармуе аб развале СОНР'у з прычыны нязгоды пяцёх расейскіх партыяў, уваходзіўшых у яго, выкліканай розьніцай поглядаў у нацыянальным пытаньні. Замест СОНР'у мае паўстаць новая арганізацыя, якая будзе створана на ўзор «Вольнай Эўропы». Пры яе тварэньні будуць звяртацца, праўдападобна, да паасобных дзеячоў, а не да арганізацыяў. Калі-ж паклічуць паасобных людзей з нашых колаў, дык яны мусяць паўафіцыйна інфармавацца Радай БНР. Таму Рада павінна быць прыгатаванай і загадзя выбраць адпаведную камісію ды апрацаваць інструкцыі, якімі мае кіравацца наш прадстаўнік.

Гутаркі, праведзеныя пры спатканьнях у Вашынгтоне з прадстаўнікамі іншых народаў (балтаў, румынаў, палякаў і інш.), акрэсьліваюць нашае становішча, занятае ў Вісбадэне, карысьнейшае для нашае нацыянальнае справы, чым становішча, занятае ў гэтым-жа пытаньні ўкраінцамі. Дэманстрацыямі на вуліцах і байкотам, зазначаюць іншыя, амэрыканцаў не пераканаеш.

Адзначаецца, што амэрыканцы правоў, здабытых у 1918 годзе, не прызнаюць, і нават балтаў, якія мелі незалежнасьць у часе між I і II сусьветнымі войнамі, прызнаюць таксама не выразна. У гэткіх выпадках шлях «непрадрашэнства» і няясных фармуліровак дае большыя магчымасьці дзейнасьці. У пасьля гэтага адбытай гутарцы з амэрыканцамі сп. Прэзыдэнт яшчэ раз меў магчымасьць пачуць, што пазыцыі «непрадрашэнства», якія займаюць некаторыя народы, ня ёсьць для іх выгоднай. Хаця гэта й не перашкаджае выказываць свае жаданьні да незалежнасьці. Амэрыканцы жадалі-б мець супольны фронт усіх народаў у барацьбе з бальшавізмам. Сп. Прэзыдэнт пераконваў амэрыканскіх чыньнікаў, што якраз расейцы стаяць на пазыцыях «прадрашэнства» ды імкнуцца да аднаўленьня «адзінае, недзялімае» пасьля скіданьня бальшавіцкага панаваньня.

Пры спатканьні з Лаенсам[501] у Нью Ёрку сп. Прэзыдэнт даведаўся, што сам Лаенс і Амэрыканскі камітэт ня трацяць надзеі і бачаць магчымасьці працягваць працы Вісбадэну.

У сувязі Вісбадэнам зарубежніцкія колы вядуць супраць БНР акцыю, якая кампрамітуе Раду сярод эміграцыі. Аднак Вісбадэн ня быў палітычнай памылкай, але палітычным сукцэсам. Магчыма, што ў выбары тактыкі можа й дапушчаныя памылкі, але ні Керанскаму, ні Мільгунову[502] не закідваецца здрада, як гэта робіцца ў нас.

У канцы прамовы сп. Прэзыдэнт падае ў форме камунікату паведамленьня аб адбыўшыхся ў Лёндане канфэрэнцыі Фэдэральнага руху Эўропы[503] і нашых да яго дачыненьнях. Таксама паінфармаваў аб распачатых перагаворах з міністрам замежных спраў УНРады др. Вітвіцкім аб беларуска-ўкраінскіх дачыненьнях (зачытаў тэкст праекту дагавору між БНР і УНР ды пратакол у справе граніцаў між Беларусьсю і Украінай).

Дыскусія.

Радны Я. Станкевіч — адзначае, што ў Вісбадэне ня былі прадстаўнікі цэнтральных арганізацыяў іншых народаў, а таму ўдзел Рады ў ёй зьяўляецца паніжаючым яе. У надрукаванай у прэсе Рэзалюцыі VI Сэсіі Рады БНР адносна агульнага антыбальшавіцкага фронту нічога не сказана аб Барысу

[501] **Юджын Лаянс** (*Eugene Lyons*, 1898–1985), амерыканскі журналіст і пісьменнік, актыўны антыкамуніст, у 1951–1952 гг. быў першым старшынёй Амерыканскага камітэта вызвалення народаў Расіі.

[502] **Сяргей Мельгуноў** (1879–1956), расійскі палітычны дзеяч, гісторык. У 1950–1954 гг. рэдагаваў часопіс «*Возрождение*», ад 1951 г. быў старшынёй Каардынацыйнага цэнтра антыбальшавіцкай барацьбы (КЦАБ).

[503] Маецца на ўвазе канферэнцыя Еўрапейскага руху, якая адбывалася 21–22 студзеня 1952 г. у Лондане і была арганізавана Камісіяй Сярэдняй і Усходняй Еўропы. У канферэнцыі ўзялі ўдзел 150 прадстаўнікоў паліцыйных арганізацый эміграцыі ды еўрапейскіх палітыкаў. Беларусы і ўкраінцы не былі запрошаныя на канферэнцыю. Пра вынікі мерапрыемства ў газеце «Бацькаўшчына» быў змешчаны вельмі скептычны артыкул. (Гл.: пс. Прарэклямаваная імпрэза // Бацькаўшчына. № 6 (85). 10.02.1952).

Рагуле, што трэба лічыць як сьцьверджаньне Радаю прыняцьця ўдзелу ў нарадах Вісбадэну задняй датай. Б. Рагуля застаўся прадстаўніком Рады ў СОНР'у і надалей, аб чым піша ў лістох да Прэзыдэнта ды пашырае інфармацыю ў падарожжах па краінах Заходняй Эўропы. Калі гэта яшчэ і ня зрада, дык зусім блізка да зрады.

Радны А. Адамовіч — адзначае, што ў лісьце да Прэзыдэнта Б. Рагуля адзначае, што калі Рада не ратыфікуе яго ўдзелу ў Вісбадэне, дык ён гатовы далей выступаць ад імя Беларускага рэспубліканскага дэмакратычнага савету, сьведама няправідлова запісанага пад подпісам Вісбадэнскай дэкларацыі замест Рады БНР.

Сп. Прэзыдэнт — у адказ падае, што ад грузынаў[504] і азербайджанцаў[505] удзел у Вісбадэне прыймалі прадстаўнікі цэнтральных арганізацыяў[506]. Ён уважае, Барыса Рагулю ня трэба адклікаць, бо СОНР, як відаць з дыскусіі Керанскага з Дон Левінам на бачынах «Нового Русского Слова», не стварыўся і ня існуе. Ліст Б. Рагулі ёсьць, але радны Адамовіч яго няправільна з'інтэрпрэтаваў.

Пасьля кароткае палемікі адносна ліста Б. Рагулі пастаноўлена, што сп. Прэзыдэнт прачытае ліст Б. Рагулі на наступным паседжаньні Рады БНР.

Радны М. Панькоў — падкрэсьлівае, што СОНР не ня паўстаў, але быў проста разагнаны амэрыканцамі ў Мюнхэне як непрацаздольны, аб чым маюцца дакладныя весткі ў мельгуноўскім часапісе «Российский Демократ»[507]. У сувязі з рознай недакладнай інфармацыяй аб нашым вызвольным русе, калі яго кожны тлумачыць па свайму жаданьню, неабходна, каб унікнуць гэтага, стварыць сталапрацуючае Інфармацыйнае Бюро. У сувязі з удзелам Б. Рагулі ў Вісбадэнскіх нарадах пытаецца: ці сьведамы чын лічыцца памылкаю?

Радны Б. Данілюк — уважае, што Б. Рагуля не зрабіў памылкі сваім удзелам і подпісам Вісбадэнскай дэкларацыі. Пратэстуе супраць рэплікі, кінутай радным Адамовічам аб Гітлеры.

---

[504] Прадстаўніком грузінаў на Вісбадэнскай канферэнцыі Савета вызвалення народаў Расіі быў сацыял-дэмакрат Ной Цынцадзэ, які выступаў ад імя Грузінскай нацыянальнай Рады.

[505] Азербайджанцаў на канферэнцыі ў Вісбадэне прадстаўляў «Азербайджанскі савет нацыянальнай еднасці», або Азербайджанскі нацыянальны камітэт на чале з Абдурахманам Алі аглы Фаталібейлі-Дудэнгінскім (1908–1954).

[506] Абрамчык не зусім мае рацыю. Пасля Вісбадэнскай канферэнцыі цэнтральныя арганізацыі грузінскай эміграцыі (Грузінскі нацыянальны цэнтр за мяжой) ды азербайджанскай (палітычная арганізацыя «Мусават») афіцыйна адмежаваліся ад СОНРа, і падтрымлівалі яго толькі асобныя групы: грузінскія сацыял-дэмакраты Ноя Цынцадзэ ды Азербайджанскі нацыянальны камітэт А. Фаталібэйлі (гл.: Каранеўскі, Язэп. Незалежнасьць з рук расейскіх імперыялістых // Бацькаўшчына. № 78–79. 25.12.1951).

[507] **«Российский демократ»** — эміграцыйны часопіс, які выходзіў у Парыжы ў 1948–1957 гг. Галоўным рэдактарам яго быў Сяргей Мельгуноў.

Радны Ф. Кушэль — лічыць, што прынятая VI Сэсіяй Рады рэзалюцыя ў гэтай справе анулюе подпіс, калі-б ён нават далучыў Беларусь да Расеі.

Радны М. Гарошка — прапануе спыніць дыскусію ў справе Б. Рагулі.

Прапанова раднага М. Гарошкі прымаецца 32 галасамі пры 1 устрымаўшымся.

Сп. Прэзыдэнт — пасьля абедзенага перапынку зьвяртаецца да радных з заклікам паважна ставіцца да стаячай на парадку разгледжаньня справы Канадыйскага сэктару Рады БНР.

Радны Ф. Родзька — як старшыня Суду Рады БНР паведамляе аб разглядзе Судам справы супраць радных К. Акулы і А. Навіцкага[508] ды перадае голас сакратару суду П. Манькоўскаму.

Радны П. Манькоўскі — зачытвае пастанову-прысуд Суду Рады БНР у справе К. Акулы і А. Навіцкага ды зачытвае таксама лісты ад сэктару Рады ў Канадзе і ад В. Грышкевіча, якія ўзьнімаюць справу супраць радных С. Хмары і В. Камароўскага. Паведамляе, што суд Рады ня мог вынесьці прысуду ў справе С. Хмары і В. Камароўскага ды перадае справу на разгляд Сэсіі Рады.

Сп. Прэзыдэнт — інфармуе аб нутраным жыцьці Беларусаў у Канадзе ды шкоднай дзейнасьці там радных С. Хмары і В. Камароўскага[509].

Радны Л. Галяк — прапануе перадаць справу сэктара Рады ў Канадзе ў Суд Рады дзеля таго, што паводле статуту Рады Сэсія Рады ня мае кампэтэнцыі судзіць.

Радны Ф. Кушэль — ставіць пытаньне — ці Суд Рады мае права выключаць радных із складу Рады? І атрымаўшы адказ, што Суд ня мае выключаць із складу (П. Манькоўскі), прапануе справу гэтую павярнуць у Суд дзеля захаваньня фармальнасьцяў.

Радны П. Манькоўскі — судовай працэдуры ў нас ня было і няма, суд наш гэта — камітэт. Суд дайшоў да таго, што гэтыя людзі шкодныя нашай справе на падставе матэрыяльных дадзеных.

Радны М. Панькоў — падтрымлівае прапанову радных Л. Галяка і Ф. Кушэля, дадаючы, што Сэсія павінна абмежаваць час дзеля разгляду гэтае справы Судом, каб ня было заганяньня справы, як папярэдне. Скарга сэктару Рады ў Канадзе зьяўляецца аднабаковай, бо, як нам ведама, у Канадзе існуе два сэктары Рады[510], і гэта таксама трэба разгледзіць.

---

[508] Маецца на ўвазе **Валер Навіцкі** (12.11.1920, в. Дубейкі (сёння Капыльскі р-н Мінскай вобл.) — 15.06.2001, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч у Канадзе, сябра рэдкалегіі газеты «Беларускі эмігрант». Супраць яго, а таксама і супраць Кастуся Акулы як рэдактара той самай газеты, быў скіраваны пазоў Сяргея Хмары і Васіля Камароўскага.

[509] Сяргей Хмара і Васіль Камароўскі выступалі як апазіцыя ў Згуртаванні беларусаў Канады ды Беларускім выдавецкім фондзе ў Канадзе, патрабуючы захавання нейтральнага «надпартыйнага» статуса гэтых арганізацый, г.зн. недалучэння ні да Рады БНР, ні да БЦР. Так і паўстала канцэпцыя «трэцяй сілы».

[510] У выніку нутранага падзелу беларускай грамады ў Таронта ў 1951 г. Сяргей Хмара і Васіль Камароўскі абвясцілі пра стварэнне асобнага сектара Рады БНР, ад імя якога і дзейнічалі некаторы час.

Радны А. Попка — іранізуе, што справа ня будзе мець канца, бо Сэсія передасьць справу ў Суд, а Суд — у Сэсію.

Радны Ф. Родзька — дзівіцца, што дыскусія ідзе ў кірунку павароту справы ў Суд, і радны М. Панькоў мае нават аўтэнтычныя дакуманты справы. Заяўляе пры гэтым, што ён гатовы адмовіцца ад старшынства ў Судзе Рады.

Радны Ст. Грынкевіч — заяўляе, што В. Камароўскага знае з даўніх часоў, і думаў, што той паправіцца. Дзейнасьць С. Хмары ўважае таксама за дэструкцыйную, і таму прапаноўвае абодвых выключыць з ліку сяброў Рады.

Радны Б. Данілюк — прапануе выключыць абодвых з Рады, асуджваючы іхную шкодную дзейнасьць.

Радны А. Махноўскі — Старшыня Сэсіі ставіць прапанову Ст. Грынкевіча на галасаваньне.

Радны Л. Галяк — пратэстуе супраць абыходу ягонае прапановы, якая ёсьць першай.

Радны Ф. Кушэль — адклікае сваю прапанову аб перадачы справы ў суд Рады, якую ён падаў раней.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што вынікі пасьпешнага выкіданьня з сяброў Рады горшыя, чым пасьпешнае прыймо ў сябры Рады. Вінаваты С. Хмара, але і другі бок ня без віны. Дзейнасьць С. Хмары, які мае ў Таронта сваіх прыхільнікаў (Пітушка[511], Пашкевіч[512] і інш.) ня ёсьць здрадай Бацькаўшчыны і Рады БНР, і за такія чыны ня выкідаюць з парлямэнту.

Радны В. Русак — прапануе выдаліць з сяброў Рады абодвых радных у Канадзе і спыніць дыскусію.

Прапановы радных Л. Галяка і Ст. Грынкевіча ставяцца на галасаваньне, якое дае наступныя вынікі:

Прапанова раднага Л. Галяка — за 10 галасоў;

Прапанова раднага Ст. Грынкевіча — за 19 галасоў.

Устрымаліся 5.

Галасаваньне адменена.

Радны М. Тулейка — лічыць справядлівым разгледзіць на гэтым паседжаньні справу дакладна. Прапануе выкінуць абодвых з сяброў Рады.

Радны М. Міцкевіч — уважае, што справу трэба адлажыць, каб суд мог разгледзіць і высьветліць справу дакладней.

Радны Ю. Старасельскі — прапануе неадкладна ставіць на галасаваньне.

Радны Я. Станкевіч — прапануе справу адкласьці і даручыць некаму з Рады паспрабаваць улагодзіць справу ў Канадзе прыватна.

---

[511] **Язэп Пітушка** (07.04.1912–25.02.1984), грамадскі і вайсковы дзеяч. Браў удзел у стварэнні Згуртавання беларусаў Канады, затым разам з прыхільнікамі Сяргея Хмары стварыў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне.

[512] **Міхась Пашкевіч** (10.03.1915, Ашмяны, Гарадзенская вобл. — ?), грамадскі дзеяч. Адзін з першых прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі ў Канадзе і заснавальнікаў Згуртавання беларусаў Канады.

Радны Б. Даніловіч[513] — адзначае, што дзейнасьць С. Хмары нельга судзіць на аснове апошняга нумару (№ 1/39) «Беларускага Эміграту», бо ў складзе рэдакцыйнае калегіі газэты не знаходзіцца прозьвішча С. Хмары[514].

Радны П. Манькоўскі — выказвае задавальненьне з таго, што Рада адхіліла передачу справы на разгляд Суду і пастанавіла разгледзіць яе цяпер. Дзейнасьць В. Камароўскага і С. Хмары ўважае шкоднай і патрабуе іхнага выдаленьня.

Радны Ч. Ханяўка — прыступіць да галасаваньня і спыніць дыскусію. У справе-ж С. Хмары прапануе згадзіцца з пастановай Суду і сэктару Рады ў Канадзе.

Радны М. Панькоў — просіць сп. Прэзыдэнта падаць бліжэй весткі, ці мае Хмара ў Канадзе прыхільнікаў.

Сп. Прэзыдэнт падае кароткія весткі з жыцьця беларусаў у Канадзе, выказваючы сваё ўражаньне, што ўплывы С. Хмары і В. Камароўскага ня шырокія.

Радны А. Адамовіч — прапануе адкласьці справу да наступнага паседжаньня Рады і за гэты час даручыць раднаму Панькову сьпісацца з Канадаю і паспрабаваць залагодзіць канфлікт.

Радны Я. Станкевіч — зьнімае сваю прапанову.

Радны М. Панькоў — на зварот аб характарыстыцы С. Хмары падае каротка яго прабег жыцьця, адзначаючы праведзеныя ў польскіх турмах 11

---

[513] **Браніслаў Даніловіч** (20.11.1908, Ашмяншчына — 29.09.2003, Нью-Брансвік), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў 1930-х гг. у Барунскай настаўніцкай семінарыі (улады адчынілі польскую замест зачыненай беларускай). У гады навучання далучыўся да беларускага руху, быў сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У пошуках працы пераехаў у Латвію, адкуль перабраўся ў Нямеччыну. Як перакладчык удзельнічаў у вызваленні ваеннапалонных беларусаў (былых жаўнераў польскага войска) з нямецкіх лагераў. Служыў у 1-м Беларускім штурмовым звязе, пазней — у цывільнай адміністрацыі на Смаленшчыне, адкуль у 1943 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну. Адзін з актыўных удзельнікаў аднаўлення Рады БНР. Ад канца 1940-х гг. жыў у ЗША. Адзін з стваральнікаў Нью-джэрсійскага аддзела БАЗА, сябра рэдкалегіі і шматгадовы распаўсюднік газеты «Беларус».

[514] Размова ідзе пра газету **«Беларускі эмігрант» (Таронта), № 1 (39) за 18 студзеня 1952 г.** якой выйшаў намаганнямі «альтэрнатыўнай» рэдкалегіі на чале з Язэпам Пітушкам. Акрамя таго, што ў нумары было больш за 700 граматычных ды іншых памылак, ён яшчэ і ўтрымліваў рэзкую крытыку папярэдняй рэдкалегіі і асобных беларусаў ды абвяшчаў пра свой «надпартыйны» характар і неабходнасць ліквідацыі і Рады БНР, і БЦР. Беларускі Выдавецкі Фонд у Канадзе, выданнем якога быў «Беларускі эмігрант», пасля выхаду згаданага нумару выключыла яго рэдкалегію з арганізацыі. Імя Сяргея Хмары як аўтара ці рэдактара ў нумары не пазначана, аднак беларусы Таронта былі перакананыя, што нумар выйшаў з яго непасрэдным удзелам. Гэта пацвярджаецца яшчэ і тым, што ў сакавіку 1952 г. выйшаў першы нумар газеты «Беларускі голас» Сяргея Хмары, дзе наўпрост пазначалася, што ён працягвае ідэі № 1 (39) «Беларускага эміграната».

гадоў і пазьнейшы яго арышт бальшавікамі, каротка характарызуючы — усё жыцьцё Хмары было барацьбой.

Радныя Я. Ніхаёнак, П. Манькоўскі, Ст. Грынкевіч і М. Гарошка дамагаюцца разгледзіць справу сяньня і пакараць.

Радны А. Попка — прапануе ўсё-ж такі справу адкласьці да наступнага паседжаньня.

Старшыня Сэсіі ставіць на галасаваньне дзьве ўнесеныя прапановы:

1. Прапанова радных Ст. Грынкевіча і Ч. Ханяўкі: прыхіліцца да прапановы Суду і сэктару Рады ў Канадзе, якая атрымала наступныя вынікі:

за — 19, супраць — 2, устрымалася — 14 і

2. Прапанова раднага А. Адамовіча: адлажыць справу да наступнага паседжаньня, якая атрымала вынікі:

за — 5, супраць — 20, устрымалася — 9.

Згодна выніку галасаваньня, прыймаецца прапанова радных Ст. Грынкевіча і Ч. Ханяўкі аб выключэньні С. Хмары і В. Камароўскага з ліку радных.

Радны П. Манькоўскі (ад Суду Рады БНР) прапануе прыняць апрацаваны ім Рэгулямін Суду Рады, бо да гэтага часу Суд ня меў, чым кіравацца пры разгляданьні справаў.

Старшыня Сэсіі А. Махноўскі адзначае, што паднятая радным П. Манькоўскім справа не прадугледжаная ў парадку дня, і ставіць на галасаваньне паступіўшую прапанову адкласьці справу да наступнага паседжаньня.

Вынікі галасаваньня: за адкладзеньне — 32, супраць — 2, устрымаліся — 2.

Справа адкладаецца.

Сп. Прэзыдэнт — паведамляе радных аб паступіўшых у Прэзыдыюм Рады Камунікаце аб утварэньні Нацыянальнага блёку абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі[515] і яго фракцыі ў Радзе ды зачытвае атрыманую дэклярацыю Блёку.

Уладыка Васіль — усякія рэчы, якія робяцца ўнутры Рады, публікуюцца з ведама Рады, дык чаму-ж гэта зроблена бяз ведама Рады?

Радны Я. Станкевіч — Гэта паведамленьне можа даць любы чалавек, які аб гэтым даведаўся. Напісаў сакратарыят.

Радны Ч. Ханяўка — Я жадаю, каб сябры гэтае арганізацыі высьвятлілі нам аб усім раней, чым прыступаць да дыскусіі.

Сп. Прэзыдэнт — Я атрымаў Дэклярацыю ад Нацыянальнага блёку абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі[516]. І я лічу, што арганізацыя фракцый нават ёсьць пазытыўнай справай, але тут мне паказалася ненармальным тое, што як быццам у Радзе паўстала такая сытуацыя, што апрача

---

[515] Нацыянальны блок абароны незалежнасці і непадзельнасці Беларусі быў заснаваны на знак пратэсту супраць удзелу прадстаўніка Рады БНР у Вісбадэнскай канферэнцыі. Ініцыятарам стварэння фракцыі стаў Аўген Каханоўскі, які сышоў з пасады кіраўніка ўраду БНР.

[516] Тэкст Дэкларацыі змешчаны ў раздзеле «Дакументы».

гэтае фракцыі наогул Рада як быццам сыходзіць з плятформы незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі. Гэта аналягічна, напр., таму, каб у Польшчы паўстала фракцыя «Польская». Калі толькі гэта была-б стылістыка, то тады рэч простая. Але зьмест гаворыць за абвінавачваньне Рады або пэўных асобаў. Тады гэтыя асобы мусяць быць выменаванымі.

Уладыка Васіль — Я разумею гэты Блёк як арганізацыю, якая працягвае тое, што ўжо пачалі. Урад развалілі, царкву развальваюць і хочуць разваліць Раду.

Радны М. Панькоў — Гэта партыя, якая дае ў Раду фракцыю.

Радны С. Стаськевіч — Я доўга прыглядаўся да сп. Станкевіча Я., і пераканаўся, што сп. Станкевіч вядзе шкодную працу. Ваша акцыя з Крывіяй[517] адкінула ад нас людзей. Цяпер новы факт. Гэтага мы ня можам дапусьціць.

Радны Ф. Кушэль — Што паўстаў Блёк, то добра. Няхай сабе. Чаму толькі там у камунікаце супраць толькі расейцаў. А дзе палякі і іншыя? Але ў вашай арганізацыі ёсьць сябры, якія хочуць дзяліць Беларусь. Гэта сп. Я. Станкевіч. Калі гэта творыцца ўнутры Рады, то досыць сьмешна выглядае. Дайце прозьвішчы людзей, якія (з радных) не стаяць на груньце незалежнасьці. А калі вы не дасьцё, то вы інтрыганты!!!

Радны В. Тумаш — Фракцыя можа быць. Забараніць фракцыю мы ня можам. Але мусім разгледзіць, якую гэта дасьць карысьць. У 1948 г. Янка Станкевіч гаварыў, што Віленшчыну трэба аддаць, каб мець ліцьвіноў прыяцелямі. У 1946 г. ён мне пісаў, што пры спатканьні з палякамі трэба прапанаваць палякам унію. Як-бы гэта выглядала-б, каб праграма была апублікаваная? Мы стаялі даўно на незалежным груньце, а цяпер і фракцыянэры становяцца на гэты грунт. Дык вітаю цяпер эвалюцыю ў бок незалежнасьці сп. Станкевіча!

Радны Г. Паланевіч — Гэта выглядае трагікамічна. Я ішоў разам з Шукелойцам, які мне сказаў, што гэта не партыя (Шукелойць, рэпліка: Не партыя!). Тут ужо пачалі прыпісваць разбуральную працу. Яна яшчэ толькі арганізавалася, так што нічога не маглі зрабіць. Зьвяртаюся, фракцыянэры, да вас, што гэта такое: блёк ці партыя?

Радны П. Манькоўскі — Сп. др. Тумаш заявіў, што з фармальнага боку ўсё ў парадку. Паглядзім. У нейкай газэце публікуецца аб'ява, што паўстаў Блёк абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі і мае фракцыю ў Радзе БНР. Тут бягуць зарубежнікі і крычаць: *«Нарэшце ў Радзе БНР паўстаў незалежніцкі блёк!»*. Паўстаньне фракцыі мае свой парадак. Вось камуністам у Нямеччыне ня далі фракцыі. Мусім ведаць, што гэта за плынь. Бо яна толькі што паўстала і сваёю абвесткаю ў «Беларускім Эміграньце»[518] нас

[517] Маецца на ўвазе ідэя замены этноніма «беларус» і назвы краіны «Беларусь» на «крывіч» і «Крывія» для спынення атаясамлення беларусаў з рускімі. Гэтую ідэю ў пасляваенны час актыўна прасоўваў Янка Станкевіч.

[518] Камунікат Нацыянальнага блоку абароны незалежнасці і непадзельнасці ад 21 лістапада 1951 г. быў апублікаваны якраз у № 1 (39) (ад 18.01.1952) газеты «Беларускі эмігрант».

скампрамітавала. Тут проста: *«Нешта па-нешта трэба было зрабіць»*. Не падцьвердзіць Рада фракцыі, дык ёсьць тады аб чым гаварыць. Зразумейце, што ўжо зроблена! Паявіліся белыя й чорныя ў Радзе.

Радны Ст. Грынкевіч — Я вітаў-бы, калі-б паўстаў блёк пад якім другім назовам. Бо хоць мы стаім на груньце незалежнасьці ўжо больш трыццаці гадоў, а тут на табе, бліснула сонца, і толькі цяпер паявіліся незалежнікі. Гэта проста нацыянальны скандал.

Радны М. Гарошка — Паўстаньне такой фікцыйнай фракцыі гэта проста правакацыя. Гэта работа сп. Станкевіча. Аднэю рукою аддае цэлыя правінцыі Беларусі, другою ён будуе незалежніцкія фракцыі. Усё гэта трэба разумець наадварот, і на гэтым трэба застанавіцца.

Радны Я. Станкевіч — Тут пыталі, што за арганізацыя. Яна мае свае карэньні ня ў нас, а недзе ў другім месцы. Што гэта? Гэта блёк палітычных арганізацыяў. (Адамовіч падмагае: Блёк палітычных адзінак). Мы не ўзурпуем Раду. Не! Тое, што ўладыка напаў, што мы руйнуем. На справе відаць, хто будуе, хто руйнуе. Пры арганізаваньні Навуковага інстытута сп. Адамовіч выступаў не ад імя Крывіцкага навуковага таварыства, а асабіста. Дык яго выступленьне зразумелі як супраць цэркваў. Тут казалі: Блёк назваў сябе блёкам незалежнасьці й непадзельнасьці, а аддаюць суседзям нашыя землі. Мы яшчэ ня выступілі супраць таго, што ў Ліцьве й Лацьвіі нашыя землі. Дзяліць ня можна, але калі трэба, то трэба і ўступіць. Зь Вільняй мы мусім дзеля дабра агульнага штось і ўступіць ліцьвіном. Нам сказалі, што мы толькі супраць расейцаў. Але гэта вынікала з вялікай расейскай акцыі. Гэта Блёк ёсьць наагул «Незалежнасьці й непадзельнасьці Беларусі» адносіцца таксама і да іншых суседзяў. Калі ёсьць беларускія незалежніцкія партыі, дык гэта ня значыць, што другія партыі залежныя. Мітынговыя выступленьні былі тут, каб загітаваць Раду супраць некаторых асобаў. Наша добрая воля, што мы даём выясьненьні, а маглі-б і ня даць.

Сп. Прэзыдэнт — Калі такі блёк паўстае недзе ўбаку ад Рады, то мы ніякага зацьверджаньня ня мусім рабіць. Калі паўстае на фоне таго цела, якое ўжо само мае гэту фірму, то тут ужо ёсьць прысвойваньне чужога тавару. Фракцыя мусіць адрозьнівацца сваім назовам ад Рады. Калі гэта накіравана супраць паасобных людзей, то яшчэ раз прашу паказаць гэтых людзей.

Радны Б. Данілюк — Ад каго на форуме Рады ваш Блёк будзе бараніць незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі?

Радны Я. Станкевіч — Ад таго, ад каго будзе небясьпека.

Радны М. Панькоў — Сваім часам выйдзе ў друку, адкуль вы даведаецеся канкрэтна пра паўстаньне нашае арганізацыі.

Радны Ф. Кушэль — Першыя крокі ў працы гэтага Блёку — падрыў Рады. Я. Станкевіч гаворыць: *«Калі я буду дзяліць Беларусь, дык гэта справа высокай палітыкі, а калі вы — гэта здрада»*.

Радны Г. Паланевіч — Я думаў, што сп. Станкевіч адкажа на мае пытаньні, але ён ня даў адказу. Але я яго ня бачу. Вынікла, што кажны з блёкаўцаў па рознаму разумее, што гэта ёсьць, партыя ці што другое. Гэта не палітычная

падкладка, а бугайскае інтрыганства. Дзіўлюся, што туды папалі некаторыя іншыя.

Радны М. Гарошка — Паўстаньне гэтай арганізацыі навонкі дае зразумець іншым народам: Але, у Беларусаў расклад! Але праўных падстаў яны ня могуць мець для арганізацыі тэй фракцыі пры Радзе.

Радны Д. Клінцэвіч[519] — Ад др. Станкевіча ня дзіва мець такія крокі. Дзякуючы Станкевічу, мы страцілі шмат беларусаў, бо, будучы старшынёй лягеру, адкідаў людзей за тое, што ён не па-крывіцку гаворыць. Ведаючы, што разваліў, ён астаецца на прыватцы. Тады прыехаў сп. Адамовіч з Віндзішбергердорф са сваёй Крывіяй[520]. Разваліл Міхельсдорф і другія лягеры. Вось дзякуючы вам, сп. Станкевіч, мы маем мала цяпер за сабою людзей.

Радны В. Кажан — Нашто тварыць новыя партыі, калі досыць старых. А аб гэтым Блёку баюся гаварыць. Я падтрымліваю Клінцэвіча, што ў Рэгенсбурзе вы развалілі Камітэт[521]. Да вас прыяжджалі прадстаўнікі ад ста беларусаў і, атрымаўшы ад вас крывіцкую школу, больш не паказваліся.

Радны А. Адамовіч — Я ня буду спыняцца на дэмагагічных выступах, таму скажу, што выступленьне Клінцэвіча было бессаромным. Пачаліся біцца ў адчыненыя дзьверы: Блёк? Партыя? Блёк — г. ё злучэньне некалькіх адзінак. Фракцыя дапусьціма, па-маему. Бо Блёк ёсьць на сьвеце і ў Радзе. Што прывяло да паўстаньня гэтага Блёку? Расейская небясьпека. СОНР. І ўваход нашых прадстаўнікоў. Расейцы аддаюць палавіну нас палякам. Сымптомы? Сымптомы заіснавалі і ў Радзе. Але я прозьвішчаў называць ня буду. Я чуў ад сяброў Рады настроі задавальненьня з расейцаў. Незалежнасьць і непадзельнасьць? Др. Тумаш сказаў добра, але трохі ў канцы схібіў. Абсалютнай незалежнасьці ня можа быць. Калі рэжуць частку расейцам, а частку палякам, няма Беларусі.

Пытаньне: Што, хіба расейцы толькі цяпер пасягаюць на нашыя землі?

Адказ Адамовіча: Але, гэтае пытаньне цяпер абвастрылася ў сувязі з СОНР'ам.

Радны П. Манькоўскі — Блёкаўцы нічога новага нам не сказалі. Але Раду абразілі тым, што яны кажуць, што будуць бараніць у Радзе незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі. У нас былі і ёсьць шмат палітычных партыяў, але ніводная не дадумалася арганізаваць фракцыі. Навошта арганізоўваць фракцыю з назовам, кампрамітуючым Раду?

---

[519] **Даніла Клінцэвіч** (22.12.1905, в. Макуці Ашмянскага пав. Віленскае губ. (сёння Іўеўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.10.1967, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, пляменнік М. Абрамчыка. Да беларускага руху далучыўся ў міжваенны час. У часе нямецкай акупацыі служыў у 13-м батальёне СД. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Сябра БАЗА. Адзін з ініцыятараў выдання газеты «Беларус».

[520] Першапачаткова Антон Адамовіч актыўна падтрымліваў ідэю замены этноніма «беларус» на «крывіч». Паводле стаўлення да гэтай прапановы паўстаў раскол у розных беларускіх лагерах Нямеччыны.

[521] Маецца на ўвазе Беларускі нацыянальны камітэт на амерыканскую зону.

Радны Б. Дубоўскі — Калі я ехаў у Амэрыку[522], то думаў, што спаткаю тут спаяную сям'ю, усільля каторай будуць скіраваны на карысьць нашай агульнай справы. Але знайшоў зусім іншае. Тое, што паўстаў Блёк пад такім назовам, я не дзіўлюся, бо я сам быў вельмі зьдзіўлены і абражаны тым, што было зроблена сп. Б. Рагулей, думаю, што з ведама сп. Прэзыдэнта, у Вісбадэне. Даведаўся аб гэтым постфактум я ад сп. Бортніка, які, да слова, быў такога-ж зданьня аб гэтым, як і я. Б. Рагуля быў у мяне за пару дзён перад выездам у Вісбадэн і ні слова аб гэтым ні мне, ні каму іншаму з радных не сказаў. Я лічу, што мы, радныя, маем права ведаць, і ў будучыне раіў-бы ў такі спосаб асобам, стаячым у гары нашага Ураду, раіцца на месцы з раднымі перад тым, як вырашаць які-небудзь паважны палітычны крок. Гэта адно. Другое цяпер, калі мы маем праз газэту адваланьне таго, што зроблена Б. Рагуляю, і таму я лічу, што цяпер фракцыя пад такім назовам была-б абразаю для ўсіх радных, бо Рада паказала, што яна стаіць непахісна на груньце незалежнасьці.

Уладыка Васіль — Уносіць прапанову аб выразе даверу Прэзыдэнту сп. Абрамчыку.

Галасаваньне паказала, што давер быў выражаны ўсімі прысутнымі апрача аднаго голасу (Сп. Станкевіч Я.), які ўстрымаўся.

Радны М. Тулейка — прапануе не прынімаць у справе Блёку адпаведнай пастановы да наступнага паседжаньня.

Радны П. Орса[523] — Калі-б тут прыйшоў сюды чужы наглядач, то ён заўважыў-бы, што ўся Рада просіць пяць чалавек, каб яны далі выясьненьні. Яны сьмяюцца з нас. Відаць, яны сябе лічаць навучонымі, а нас невукамі. Гэта ясная дывэрсія з боку двох чалавек. Яны абражаюць Прэзыдэнта і нас. Я падтрымоўваю прапанову Тулейкі, каб прыняць рэзалюцыю на наступным паседжаньні Рады. Гэты Блёк ёсьць утварэньнем другога зарубежжа крывіцкага.

Прапанова раднага Тулейкі была пастаўлена на галасаваньне і дала наступныя вынікі: за — 15, супраць — 11, устрымаўшыхся — 6.

Пастаноўлена адкласьці прыняцьцё рэзалюцыі ў справе Блёку да наступнага паседжаньня Рады.

---

[522] Базыль Дубоўскі прыехаў у ЗША з Францыі.

[523] Хутчэй за ўсё, тут памылка, і маецца на ўвазе не Пётра Орса (1898–1990), грамадскі дзеяч, актыўны прыхільнік БЦР, а радны БНР Аляксандр Орса.

## Пратакол пятага паседжаньня VI Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылося 16 сакавіка 1952 году ў Нью Ёрку (Бруклін), ЗША

Прысутнічалі: сп. Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 39 радных.

Старшыня паседжаньня — сп. А. Махноўскі, сакратары: А. Шукелойць і Б. Дубоўскі.

Працяг VI Сэсіі, V паседжаньне з наступным парадкам дня:

Прысяга новых радных.

Камунікат Прэзыдэнта М. Абрамчыка.

Прадстаўленьне Ураду БНР.

Рэвізія сьпісу сяброў Рады і ўстанаўленьне нормы мінімальнай дысцыпліны.

Справа кадэнцыі Рады.

Фінансавыя справы.

Бягучыя справы: а. справа фракцыі БАНіНБ; б. заява сп. інж. М. Рагулі.

Да п. 1:

Сп. Прэзыдэнт прапануе прыняць у сябры Рады спадароў Аўгена Протаса[524] і Васіля Русака[525].

Радны Л. Галяк — пытаецца, якія адносіны сп. В. Русака да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы?

Радны Я. Станкевіч — Я лічу рысу павялічэньня Рады рысай хвараблівай. Трэба, каб засталося крыху людзёў па-за Радай.

Радны Ч. Ханяўка — А я лічу, што Рада не павялічваецца, а паменшуецца, бо ў нас частка сяброў выбыла, а частка ёсьць мёртвых.

Прэзыдэнт — У нас цяпер якраз неабходнасьць папаўненьня Рады новым актыўным маладым элемэнтам.

Радны Ю. Старасельскі — сп. В. Русак заўсёды дапамагаў ува ўсім беларускім грамадзкім жыцьці і нават у арганізацыі Беларускай Аўтакефальнай Царквы.

---

[524] **Аўген Протас** (28.08.1915, Забалоцце Дзісенскага пав. Віленскай губ. (сёння Міёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 02.06.1995, Стэмфард, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1937 г. скончыў гімназію ў Дзісне, пасля чаго адбыў тэрміновую службу ў польскім войску, кароткі час працаваў у мясцовай адміністрацыі, перад самай нямецка-польскай вайной зноў мабілізаваны. Трапіўшы ў нямецкі палон, працаваў у баўэраў ва Усходняй Прусіі. У часе нямецка-савецкай вайны вярнуўся дамоў. Па вайне апынуўся ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Стэмфардзе. Сябра БАЗА, старшыня ўправы Стэмфардскага аддзела арганізацыі.

[525] **Васіль Русак** (14.11.1923, Наваградскае ваяв. — 20.10.2000, Сомерсэт, Нью-Джэрсі), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў французскай зоне акупацыі Нямеччыны, у польскім лагеры *DP* у Равенсбургу. Вучыўся ва ўніверсітэце *UNRRA* ў Мюнхене, універсітэце Філіпа ў Марбургу. Пры канцы 1940-х гг. прыехаў у ЗША.

Радны А. Махноўскі — Мы ня можам забавязваць чалавека мець той ці іншы рэлігійны пагляд.

Радны В. Стома[526] — У сп. Русака зусім пазытыўныя адносіны да нашай царквы. А па-другое, кажны мае свае пагляды ў справе рэлігіі.

Вынікі галасаваньня: В. Русак: за — 25, устрымалася — 3; А. Протас: за — 23, супраць — 2, устрымалася — 3.

Пасьля галасаваньня В. Русак склаў прысягу раднага.

Да п. 2:

*«Паважаныя спадары радныя, так што гэта апошняе паседжаньне VI сэсіі Рады БНР. Я хачу далажыць Вам аб выніках мае працы тут. Ужо 4,5 месяцы як я ў ЗША. За гэты час я быў тры разы ў Вашынгтоне, Таронта, аб'езьдзіў нашы асяродкі. На сягоньня ў Амэрыцы нам у барацьбе супраць камуністых можна чакаць зьменаў як тактычнага, так і другога парадку. Як пераканаліся (амэрыканцы), што расейцы ня могуць згадзіцца нават з прынцыпамі Вісбадэну. За кулісамі гавораць (амэрыканцы), што яны адыходзяць ад прынцыпу стварэньня агульнага цела, а думаюць зрабіць нешта другое. Кажуць, што Керк[527] — асоба дасьведчаная ў справах Цэнтральнае Эўропы і як чалавек не благі. Як быццам, ён пойдзе на спатканьне нацыянальнасьцям падсавецкай дзяржавы. (Прыклад ягоны камунікат). Але ён ня ведае эміграцыі, і дзеля гэтага нам трэба навязаць зь ім поўны кантакт, бо расейцы будуць імкнуцца зрабіць свае ўплывы. Украінцы настаўлены больш-менш прыхільна да Керка. Я не хачу быць аптымістым што да Керка, бо ня ведаю яшчэ дакладна, якія ён зойме пазыцыі.*

*Керстон[528] і Армстронг[529] не зьяўляюцца ўплывовымі асобамі ў рэспубліканцаў, і дзеля гэтага я не прыдаю іх акцыі асаблівага значаньня, бо яны на гэтай канфэрэнцыі (у Вашынгтоне) скампрамітаваліся ў вачох ня толькі амэрыканскіх дзеячоў, але і ў вачох многіх кіраўнікоў эміграцыі з паняволеных народаў. Сама пабудова праграмы канфэрэнцыі (даклады*

[526] **Васіль Стома** (04.03.1911, м. Лужкі Дзісенскага пав. Віленскай губ. (сёння Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.) — 31.05.1992, Нью-Джэрсі), грамадскі дзеяч, літаратар. Вучыўся ў школе ў Лужках. У часе нямецкай акупацыі працаваў у раённай адміністрацыі ў Дзісне. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Сябра БАЗА, адзін з заснавальнікаў Нью-джэрсійскага аддзела арганізацыі.

[527] **Алан Гудрыч Керк** (*Alan Goodrich Kirk,* 1888–1963), амерыканскі адмірал, антыкамуніст, амбасадар ЗША ў СССР у 1946–1949 гг. У 1952–1954 гг. быў старшынёй Амерыканскага камітэта вызвалення народаў Расіі.

[528] **Чарльз Керстан** (*Charles Joseph Kersten*, 1902–1972), амерыканскі палітык, кангрэсмен-рэспубліканец. У 1951 г. ён унёс у Палату прадстаўнікоў Кангрэса рэзалюцыю, якая прадугледжвала палітычную і матэрыяльную дапамогу для паняволеных СССР народаў у іх змаганні за незалежнасць. Потым узначальваў кангрэсавую Камісію па справах бальшавіцкага тэрору ў дачыненні да «нярускіх» народаў.

[529] Маецца на ўвазе **Арланда Кэй Армстронг** (*Orlando Kay Armstrong*, 1893–1987), амерыканскі палітык, кангрэсмен-рэспубліканец у 1951–1953 гг.

*расейцаў пераважалі). Балдыроў[530] граў галоўную скрыпку. Гэта вызвала амаль абурэньне сярод прысутных прадстаўнікоў паняволеных народаў. Там выглядала так, што ня можна было дабрацца да слова, бо расейцы былі там у вялікай перавазе. Падаваліся запіскі на атрыманьне слова, але Балдыроў перакладаў запіскі, як хацеў, так што мы чуць дабіліся голасу ў канцы афіцыйнае часткі. У другі дзень прамоваю Манькоўскага закончылася афіцыяльная частка канфэрэнцыі. Рэзалюцыя прынята аднагалосна. У рэзалюцыі сказана, што будзе пакліканы камітэт з 12 асобаў з прысутных, а каго, няведама, бо яны будуць падабраныя Керстанам і Армстронгам. Як я быў пасьля ў іншых колах, дык амэрыканцы незадаволеныя гэтай канфэрэнцыяй. (Далей сп. Адамовіч прачытаў пераклад тэксту рэзалюцыі з гэтай канфэрэнцыі). Я пасьля гаварыў з некаторымі амэрыканскімі дзеячамі і выклаў свае пагляды, што ў амэрыканскіх арганізацыях засільле расейцаў, і я нічога пазытыўнага не магу сказаць сваім людзям. Мы-б не вымагалі ад вас ніякай помачы, калі-б вы не выдавалі яе другім народам. Мы гэтым выглядаем прыгнечанымі. І людзі нашы гэта абразай успрымаюць. Яны абяцалі падтрымаць. Махровіч[531] і Армстронг абяцалі падтрымаць нас (асабліва Махровіч) у справе ўвядзеньня нас у «Голас Амэрыкі». Так што нашым арганізацыям тут трэба будзе трымаць зь імі сувязь.*

*Мне ўдалося даведацца, што на Палесьсі ёсьць вялікія людзкія масы — уцекачоў з Савецкага Саюзу. Амэрыканцы дапушчаюць, што пэўная колькасьць гэтых людзей там ёсьць і што яны думаюць падтрымаць іх эканамічна. Другое тое, што думаюць арганізаваць нацыянальныя батальёны гэтым летам. Цяпер нам трэба было-б мець у Вашынгтоне чалавека, бо інакш мы шмат у чым можам быць абмінутымі. Нам трэба даваць артыкулы ў прэсу ў ангельскай мове.*

---

530 **Сяргей Болдыраў** (1890–1957), данскі казак, герой Першай сусветнай вайны, журналіст. У паваенны час выступаў як прадстаўнік расійскай вайсковай эміграцыі, друкаваўся ў штомесячным часопісе «Часовой», што выходзіў у Бруселі. Ад 1950 г. жыў у ЗША.

531 **Тадэвуш Махровіч** (*Thaddeus Michael Machrowicz*, 1899–1970), амерыканскі палітычны дзеяч, кангрэсмэн-дэмакрат ад штата Мічыган у 1951–1961 гг. Улетку 1951 г. Махровіч унёс у Кангрэс праект анулявання Ялцінскіх і Тэгеранскіх пастановаў.

*Нашы зарубежнікі прысутнічалі на гэтай канфэрэнцыі (а. М. Лапіцкі[532], С. Коўш[533] і Чабатарэвіч[534]). Яны там трымаліся зьбянтэжана. Нават калі пачыналі мы з кім з амэрыканцаў гутарыць, дык яны беспардонна ўлазілі ў гутарку. Людзі яны не салідныя, але актыўныя, і могуць скампрамітаваць нашу справу, калі мы ў Вашынгтоне не дапільнуем.*

*Я спатыкаўся з сп. міністрам Вітвіцкім, які паведаміў, што ў іх перафарміроўка ўраду. Ён перадаў мне ўмову, перадрукаваны наш дагавор на ўкраінскую мову. Аб граніцах ён сказаў, што пратакол аб граніцах будзе абцяжваць дагавор. Я патрабаваў, каб пратакол быў па галоўных пытаньнях граніцы прыняты. Ён прасіў, каб мы зрэдагавалі. Прапанаваў мне ўвайсьці ў шырокі саюз: Каўказ — казакі — украінцы — беларусы — балты. А я сказаў, што калі Вітвіцкаму ўдасца дагаварыцца з балтамі аб уваходзе ў такі шырокі саюз, дык мы адклалі-б пытаньне межаў з балтамі на пазьней.*

---

[532] **Мікалай Лапіцкі** (31.12.1907, в. Грэлікі (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 08.08.1976, Глэн-Спэй, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійна-грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, педагог. Скончыў тэалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, абараніў магістарскую дысертацыю «Праваслаўе ў ВКЛ у часы вялікага князя Ягайлы». Працаваў у прыходах у Ашмянах, Стэфанпалі Дзісенскага павета. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, быў актыўным прыхільнікам БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Настаяцель царквы Св. Ефрасінні Полацкай у Рэгенсбургу — першай беларускай царквы на Захадзе. Выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Арганізаваў парафію ў Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы і быў яе настаяцелем у 1950–1976 гг.

[533] **Святаслаў Коўш** (07.01.1917, Вільня (паводле іншых звестак — мястэчка Ілья (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 05.11.1997, Саўт-Рывер, ЗША), рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, сын А. Каўша. Скончыў факультэт права Віленскага ўніверсітэта, сябра Беларускага студэнцкага саюза. У 1938 г. пасвечаны ў дыякана. У 1938–1939 гг. — псаломшчык у Засуллі (Стаўпецкі р-н), у 1939–1941 гг. працаваў тамсама настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам Клецкага павета. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў камендантам беларускага лагера ў Ватэнштэце. У 1949 г. выехаў у ЗША. Адзін з ініцыятараў стварэння беларускай праваслаўнай парафіі ў Саўт-Рыверы. У 1951–1957 гг. быў віцэ-старшынёй Галоўнай управы БККА.

[534] **Віктар Чабатарэвіч** (1907, Новы Свержань Менскага пав. (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 07.10.1963, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і вайсковы дзеяч, настаўнік. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, школу падхарунжых. Настаўнічаў на Віленшчыне, у заходняй Польшчы. У 1939–1941 гг. працаваў настаўнікам у Стоўпцах. У 1941–1942 гг. працаваў у Галоўным школьным інспектараце, сакратаром Цэнтралі БНС. У сакавіку 1944 г. узначаліў афіцэрскія курсы БКА, затым — Афіцэрскую школу БКА. Ад лета 1944 г — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Падтрымліваў прыхільнікаў Беларускай цэнтральнай рады, уваходзіў у склад Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі (быў яго віцэ-старшынёй). Быў карэктарам газеты «Беларуская трыбуна».

*Цяпер адносна Шчорса*[535] *і гутаркі зь ім. Шчорс хацеў прыйсьці з трыма прадстаўнікамі, але я не згадзіўся на гэта. Я пагадзіўся на прыватныя перагаворы, але сказаў, што калі яны будуць ставіць пытаньне аб разьвязваньні Рады БНР, дык тады можна не гаварыць. Яго пункты: 1. Дзяржаўная рэпрэзэнтацыя; 2. Палітычныя і 3. грамадзкія справы.*

*Выясьнілася, што Шчорс разумее, што рада БНР і БЦР мусяць перапыніць сваю дзейнасьць. Палітычны, новаствораны, будзе кіраваць працай (Абрамчык і Астроўскі ня будуць нічога рабіць). Апалітычным цэнтрам будзе Рада БНР зь яе граматамі. І я яму высьвятліў, што гэты мандат наш з Бацькаўшчыны для нас вельмі важны.*

*Ну, мы прынцыпова дагаварыліся: Рада застаецца, яны ўваходзяць у склад Рады, а тады я перадаю мандат, калі мне выставяць кандыдата. Ён сказаў, што праз др. Грынкевіча паведаміць нас. Далей прачытвае ліст Шчорса — Астроўскага, у якім сп. Шчорс зусім перакручвае ход нашых перагавораў. Зь яго выходзіць, я зьвярнуўся да Астроўскага, чаго на самой справе ня было».*

Да п. 3:

З Эўропы і Аўстраліі пытаюцца, як стаіць справа з стварэньнем ураду. *«Я найбольш перажываў і перажываю справу складу новага ўраду БНР»*, — кажа Прэзыдэнт. *«Я працаваў у гэтым кірунку, але на становішча прэм'ера і міністра вонкавых спраў ніхто не згаджаецца. Я разумею, што цяжка здабываць сродкі для жыцьця, і таму баяцца, што ня здолеюць апраўдаць давер на даных становішчах. Я адзін таксама нічога зрабіць не магу. На гэта патрэбна некалькі чалавек, каб трымаць руку на пульсе палітычных падзеяў і не ўпусьціць нічога, што карыснае для нашае справы. Я лічу, што калі я паеду з паваротам у Эўропу, не пакінуўшы Ураду БНР, дык гэта будзе вельмі катастрафальна для нутраного і вонкавага нашага палітычнага жыцьця. Гэтым мы згубілі-б наш аўтарытэт, якім карыстаемся цяпер».*

---

535 **Мікалай Шчорс** (1913, Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 22.12.1995, Даўнт-Мора, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта, займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю.У 1935–1937 гг. — старшыня Беларускага студэнцкага саюза. У 1939 г. выехаў у Варшаву. Ад 1940 г. — старшыня Беларускага камітэта ў Варшаве. Кіраўнік г. зв. «групоўкі Шчорса», якая цесна супрацоўнічала з нямецкім абвэрам і разглядала падзеі будучай акупацыі як магчымасць стварыць беларускую дзяржаву пад нямецкім пратэктаратам. На пасяджэнні беларускага актыву ў Берліне 19 чэрвеня 1941 г. быў выбраны старшынёй Беларускага нацыянальнага цэнтра, які разглядаўся як урад будучай Беларусі. Аднак праз тры тыдні, пасля наведання Беларусі, адмовіўся ад палітычнай дзейнасці. Вярнуўся ў Варшаву, дзе цягам пяці гадоў узначальваў Беларускі камітэт. Ад восені 1944 г. — у Нямеччыне. У 1946–1947 гг. узначальваў Беларускае праваслаўнае аб'яднанне, падтрымаў аднаўленне БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. У 1950–1951 гг. узначальваў ЗБАДК. Ініцыятар стварэння Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, яго першы старшыня (1951–1955).

Сп. Прэзыдэнт прапануе наступны склад органаў Рады БНР:
Прэзыдыюм Рады:
Мікола Абрамчык — старшыня.
Аляксандр Махноўскі — намесьнік старшыні.
а. Аўген Смаршчок[536] — сябра Прэзыдыюму.
Лявон Рыдлеўскі — сябра Прэзыдыюму.
Суд Рады:
Філярэт Родзька[537] — старшыня.
Балеслаў Грабінскі[538] — сябра Суду.
Петра Манькоўскі — сябра Суду.
Лявон Галяк — дзяржаўны абвінавачальнік.
Выконны орган:
Аляксандр Махноўскі — старшыня (без партфэлю).
Вітаўт Тумаш — рэсорт вонкавых спраў.
Янка Ліманоўскі — заступнік у вонкавых справах.

[536] **Аўген Смаршчок** (25.09.1914, м. Зэльва Слонімскага пав. Гарадзенскай губ. (сёння райцэнтар Гродзенскай вобл.) — 05.10.1984), святар, педагог, перакладчык. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю (1934), настаўнічаў. У 1939 г. мабілізаваны ў войска, браў удзел у абароне Варшавы, трапіў у палон. У 1940 г. вызвалены. Працаваў на фабрыцы ў Берліне, вучыўся ў Берлінскім універсітэце (псіхалогія). У 1950 г. скончыў факультэт псіхалогіі і філасофіі Філіпс-універсітэта ў Марбургу. 3 верасня 1950 г. рукапаложаны ў іерэя БАПЦ ды пераехаў у Лювен (Бельгія) для абслугоўвання рэлігійных патрэбаў мясцовых беларусаў, заклаў парафію БАПЦ. Абслугоўваў не толькі беларусаў, але і праваслаўных украінцаў, грэкаў, сербаў, расейцаў, праваслаўныя парафіі ў вугальных шахтах у Лімбургу, выязджаў у Францыю.

[537] **Філарэт Родзька** (27.01.1890, в. Вераскава Наваградскага пав. — 05.03.1977, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, педагог. Удзельнік Першай сусветнай вайны. У часе нямецкай акупацыі выкладаў у Наваградскай настаўніцкай семінарыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Спачатку пасяліўся ў Саўт-Рыверы, потым перабраўся ў Сомерсэт, дзе гуртаваў прыхільнікаў Рады БНР. Сябра БАЗА, быў старшынёй аддзела арганізацыі ў Нью-Джэрсі.

[538] **Баляслаў Грабінскі** (03.08.1899, в. Урачыншчына Раманаўскае вол. Сакольскага пав. Гарадзенскае губ. (сёння Падляскае ваяв., Польшча) — 20.08.1991, Лонгвуд, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар. У 1920-х атрымаў спецыяльнасць лекара-дантыста. У 1930-х — пачатку 1940-х гг. жыў у Вільні. Быў старшынёй Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта ў Заходняй Беларусі, намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства. Працаваў на кафедры анатоміі медыцынскага факультэта Віленскага ўніверсітэта. У 1942–1944 гг. быў старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. У 1943 г. ледзь не расстраляны літоўскай адміністрацыяй. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне. Сябра Аб’яднання беларускіх лекараў на чужыне, аўтар артыкулаў у часопісе «Медычная думка». У 1950-х прыбыў у ЗША. Сябра БАЗА, удзельнік кіраўніцтва яго Чыкагскага аддзела арганізацыі.

Францішак Кушэль — рэсорт вайсковых спраў.
Мікола Гарошка — рэсорт нутраных спраў.
Аляксандр Орса — рэсорт асьветы.
Яўхім Скурат[539] — заступнік рэсорту асьветы.
Гіпаліт Паланевіч — рэсорт інфармацыі.
Станіслаў Станкевіч — 1-ы заступнік па рэсорту інфармацыі.
Мікола Панькоў — 2-і заступнік па рэсорту інфармацыі.
Альбэрт Курляндзкі — рэсорт нацыянальных меншасьцяў.
Віталі Кажан — скарбнік Рады.
Аляксандр Лашук[540] — заступнік скарбніка.
Сакратарыят:
Пётра Манькоўскі — 1 пісар.
Міхась Тулейка — 2 пісар.
Янка Ніхаёнак — 3 пісар.
Дзяржаўны кантроль:
Аўген Каханоўскі — старшыня.
Язэп Гладкі[541] — сябра.

---

539 **Яўхім Скурат** (29.12.1906–1992), грамадскі дзеяч. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, аддзел французскай філалогіі (1939), у 1939 г. — аддзяленне Сарбоны. Абараніў дысертацыю «Сімвалізм у раманах Ж. Радэнбаха» (на французскай мове). Падчас нямецкай акупацыі займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Быў акруговым школьным інспектарам у Глыбоцкай акрузе. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. З канца 1940-х — у Канадзе. Скончыў Тэхнічны інстытут электронікі. Сябра ЗБК.

540 **Аляксандр Лашук** (11.11.1909, в. Паграбішча каля Ільі (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 03.03.1997, Лондан), грамадскі дзеяч. Скончыў польскую сямігодку ў Ільі, працаваў у гміннай адміністрацыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гаспадарчым аддзеле раённай адміністрацыі. У 1944 г. выехаў на эміграцыю. Трапіў у 2-гі Польскі корпус. Ад 1946 г. — у Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Лондане. Шмат гадоў быў старшынёй сектара Рады БНР у Вялікабрытаніі.

541 **Язэп Гладкі** (псеўданім **Адам Варлыга,** 04.10.1890, в. Міхалкавічы Барысаўскага пав. Менскай губ. (сёння Лагойскі р-н Мінскай вобл.) — 28.07.1972, Нью-Ёрк), грамадскі дзеяч, педагог, выдавец, этнограф, мовазнаўца. У 1912 г. быў мабілізаваны ў царскае войска. Па сканчэнні фельчарскай школы браў удзел у ваенных дзеяннях часоў Першай сусветнай вайны. Кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў. Браў удзел у Першым з’ездзе беларускіх вайскоўцаў і Першым Усебеларускім кангрэсе. Ад 1921 г. актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі беларускага школьніцтва на Лагойшчыне, дзе настаўнічаў да 1930 г, калі быў звольнены з працы. Каб пазбегнуць рэпрэсіяў, перабраўся ў Менск, дзе ў 1936 г. скончыў Вышэйшы педагагічны інстытут і працаваў у Інстытуце школьнай педагогікі пры Наркамаце асветы. У 1941 г. вярнуўся настаўнічаць у родную вёску, аднак, у 1943 г., ратуючыся ад партызанаў, зноў прыехаў у Менск, дзе працаваў у выдавецтве школьных падручнікаў. Ад 1944 г. — у Нямеччыне. У лагерах ДП настаўнічаў ды займаўся выданнем падручнікаў (каля 10 кніг), для чаго на ўласныя грошы заклаў выдавецтва «Заранка». Пазней перабраўся ў ЗША, дзе працягваў выдавецкую дзейнасць, аднавіўшы выдавецтва «Заранка».

Станіслаў Грынкевіч — сябра.
Камісія экспэртаў у гранічных справах:
Янка Станкевіч і
Антон Адамовіч.

Вынікі галасаваньня ў справе асабістага складу Ураду (падаюцца галасы, каторыя былі супраць) наступныя:

А. Махноўскі — [542], В. Тумаш — 1, Ліманоўскі — 1?[543], Кушэль — 1, Гарошка — 4, Ворса — 1, Скурат — 5, Паланевіч — 1, Ст. Станкевіч — не галасаваўся, М. Панькоў — 2, Курляндзкі, Кажан, Лашук і Манькоўскі — не галасаваліся, Тулейка — 1, Ніхаёнак — 1, Я. Станкевіч — 5, А. Адамовіч — 1.

Склад Дзяржаўнага кантролю прыняты аднагалосна.

Дыскусія.

Радны Станкевіч — інфармуе аб стаўленьні ўкраінцаў, грузінаў і інш. народаў СССР да творанага СОНР'у і супрацоўніцтва з расейцамі. Навязваючы да перагавораў з «зарубежнікамі» сп. Прэзыдэнта, адзначае пашыраныя чуткі, што быццам для аб'яднаньня Рады БНР і БЦР гутарылася, што з БЦР павінны быць выдаленыя спсп. Сабалеўскі[544] і Касяк[545], а з Рады БНР будуць наўзаем выдаленыя Я. Станкевіч і А. Адамовіч. У канцы зьвяртае ўвагу на неабходнасьць моцнай нацыянальнай арганізацыі ў ЗША, бо Амэрыка ў вялікай меры будзе вырашаць лёсы народаў, паняволеных бальшавікамі. Лічыць, што ў склад Ураду трэба паклікаць як вялікшую колькасьць людзей, бо тады праца будзе спраўнейшай і спарнейшай. Яшчэ адзначае, што неабходна мець сталую кантролю дзейнасьці радных.

---

[542] Так у арыгінале.

[543] Так у арыгінале.

[544] **Юры Сабалеўскі** (24.04.1889, Стоўпцы (сёння Мінская вобл.) — 30.12.1957, Кірхэн унтэр Тэк, Нямеччына), грамадскі дзеяч. У 1922–1926 гг. — пасол польскага сойму, у 1924–1926 гг. — сябра і адзін з кіраўнікоў БСРГ. Некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бурмістра Баранавічаў. Ад лета 1943 г. да студзеня 1944 г. — старшыня Беларускай самапомачы. У студзені 1944 г. стаў віцэ-прэзідэнтам БЦР. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, ЗША, ад 1955 г. зноў у Нямеччыне. Рэдагаваў газету «Беларускае слова». Браў актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці. Быў актывістам БЦР.

[545] **Іван Касяк** (01.11.1909, в. Гіры (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 13.03.1989, Рывер-Форэст, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1941 г. скончыў політэхнічны факультэт Львоўскага ўніверсітэта са спецыяльнасцю інжынера. Падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Цэнтралі БНС, актыўны прыхільнік абвяшчэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, адзін з арганізатараў Царкоўнага сабора БПЦ у 1942 г. У 1944 г. намеснік Прэзідэнта БЦР на Глыбоцкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне адзін з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб'яднання. Не прызнаў аднаўлення БАПЦ пад кіраўніцтвам Сергія (Ахатэнкі) і аднаўлення Рады БНР пад кіраўніцтвам М. Абрамчыка. У траўні 1948 г. узяў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР, у 1948–1951 гг. узначальваў Сакратарыят БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Першы час жыў у Нью-Ёрку.

У справе дзейнасьці і складу Ураду БНР прамаўлялі радныя Кажан, Ханяўка, Грынкевіч, Дубоўскі, Русак, Кушэль, Гарошка, Паланевіч, Шукелойць.

Абвяшчаецца перапынак дзеля абеду на адну гадзіну.

Пасьля абедзенага перапынку дзеля эканоміі часу прыступілі да разгляду пунктаў 4 і 5 парадку дня разам.

Да пунктаў 4 і 5:

Сп. Прэзыдэнт — Адны закідаюць, што Рада малаактыўная, што мае доўгую кадэнцыю. Я стаўлюся да гэтага так: што тут перавыбараў праводзіць няможна, бо Радаператворыцца тады ў эміграцыйную арганізацыю, а мы маем паўнамоцтвы з краю. Што да закіду сп. Станкевіча ў падборы сяброў, дык мы падбор рабілі з прынцыпу палітычна-грамадзка-нацыянальных заслуг у мінулым або цяпер. Некаторыя, праўда, выкалеіліся, а другія наадварот, падняліся на вышыню. Прыклад у Канадзе якраз яскрава паказвае, што два радных былі супраць прынцыпу БНР, а не радныя баранілі пазыцыі БНР. Зараз я прачытаю лісту (сьпіс) сяброў Рады, якая мае быць даведзеная да 150 чалавек. У гэтым сьпісе ёсьць радныя, каторыя самі выключыліся. Апрача гэтага трэба ўвесьці мінімум нацыянальнае дысцыпліны для радных. Адначасна трэба зрабіць і рэарганізацыю Рады. (Зачытвае сьпіс радных). У сьпісу яшчэ лічуцца былыя радныя, якія або самавыключыліся, ня выконваючы абавязкаў радных, або выключаныя: Войтэнка Віктар[546], Сіняк Мар’ян

[546] **Віктар Войтанка** (на эміграцыі **Васілеўскі**, 06.11.1912, фальв. Мачульня Наваградскага пав. — 25.04.1972, Самерсэт, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч, лекар, сын Сцяпана Войтанкі. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага царкоўнага сабора. Ад 1943 г. — акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. — доктар-інспектар Беларускай Краёвай Абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944–1945 гг. — супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх журналістаў на чужыне і выдання «Летапіс беларускай эміграцыі».

(Хмара), Камароўскі Васіль, Пашкевіч Валянціна[547], Рагуля Міхась[548], Ромар Вітаўт, Яўневіч Янка.

Да п. 6:

У фінансавым пытаньні былі разгледжаны наступныя справы і прынятыя пастановы:

а. Радны Кажан, скарбнік Рады, коратка зрэфэраваўшы становішча грашовае, падаў, што Чыкагскі падсэктар Рады ня плоціць сяброўскія складкі і прапануе заняць у гэтым пэўнае становішча.

Радны М. Гарошка — зьвяртае ўвагу, што беларусы ў Чыкага паклікаюцца на сваю Беларуска-амэрыканскую нацыянальную раду, статут якой сваім сябром не дазваляе належаць да іншых арганізацыяў падобнага характару і адмаўляюцца таму ад платы сваіх сяброўскіх складак у Раду БНР.

Сп. Прэзыдэнт — радзіць Прэзыдыюму Рады зьвярнуцца яшчэ раз з адпаведным лістом да падсэктару ў Чыкаго.

б. Сп. Прэзыдэнт інфармуе аб прапанове беларусаў з Англіі, каб Фонд 25 Сакавіка пераназваць у Фонд БНР з забавязваньнем вышыні складкі 1 % для ўсіх Беларусаў і 2 % для радных ад сумы заробкаў.

Пасьля кароткае дыскусіі, у якой голас забіралі Паланевіч, Манькоўскі, Кажан і Родзька, пастанавілі:

Зьмяніць назоў Фонду 25 Сакавіка на Фонд БНР з наступнай большасьцю галасоў: за зьмену — 21; супраць — 12.

в. Сп. Прэзыдэнт прапануе не зьвязваць рукі Ураду ў праводжаньні фінансавае палітыкі; дазволіць Ураду эвентуальна правесьці пазыку.

Прапанова праходзіць з наступным вынікам галасаваньня: за — 34, супраць — 1, устрымалася — 3.

Да пункту 7:

Радны Я. Станкевіч — паведамляе, што Блёк абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі пастанавіў не самаліквідаваць свае фракцыі ў Радзе.

Радны Я. Ніхаёнак — зазначае і прапануе паставіць на галасаваньне, што фракцыя пад такім назовам існаваць у Радзе ня можа.

---

547 **Валянціна Пашкевіч** (дзяв. **Жукоўская**; 05.02.1916, Казельск (сёння Калужская вобл., Расія) — 25.03.2004, Канада), грамадская дзеячка, педагог, сястра Раісы Жук-Грышкевіч. Скончыла польскую гімназію імя Адама Міцкевіча ў Пружанах (1935), паступіла на класічны факультэт Віленскага ўніверсітэта, праз два гады перавялася на фізіка-матэматычны факультэт. Брала актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусветнай вайны жыла ў Берліне, працавала ў перакладчыцкім бюро «Вінэта». Па капітуляцыі Нямеччыны апынулася ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), апекавалася беларускім скаўтынгам. У ліпені 1949 г. пераехала ў Таронта, дзе ўзяла шлюб з грамадскім дзеячам Міхасём Пашкевічам. Брала актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці, арганізавала танцавальны гурток і кіравала ім. Будучы жонкай прыхільніка БЦР, відаць, выйшла з Рады БНР.

548 Міхась Рагуля выйшаў з Рады БНР на знак пратэсту супраць удзелу прадстаўніка Рады ў Вісбадэнскай канферэнцыі.

Прапанова пастаўленая на галасаваньне, дае наступныя вынікі: за прапанову — 26, супраць — 4, устрымалася — 6.

Радны Л. Галяк — прапануе перадаць справу ўтварэньня фракцыі ў Суд Рады.

Радны А. Шукелойць — адзначае староннасьць папярэдне выступаўшых прамоўцаў, быццам справа паўстаньня фракцыі падлягае перадачы ў Суд дзеля адчыненьня тайніцы структуры Рады. З бачынаў беларускае і іншамоўнае прэсы можна больш даведацца аб структуры Рады, аб існаваньні сэктараў і нават аб дакладнай колькасьці сяброў Рады.

Радны М. Гарошка — зачытвае Камунікат аб стварэньні фракцыі з прэсы і гавора, што справа судовая, бо абражае Урад, правакацыйная і нават здраджваючая нашае справы.

Радны Уладыка Васіль — падтрымлівае раднага Гарошку, але калі фракцыя прызнае, што яна зрабіла памылку і падасьць аб гэтым у прэсе, дык тады справа ліквідуецца.

Сп. Прэзыдэнт — адказваючы раднаму Шукелойцу, адзначае, што мы ня можам абыйсьціся бяз друкаваньня ў некаторых выпадках вестак аб структуры Рады, прозьвішчаў нашых грамадзка-палітычных дзеячаў. Адносна таго, што тут называць здрадай, дык я тут здрады ня бачу, а магла быць нанесена абраза прадстаўнікам Рады.

Радны Б. Данілюк — разглядае справу ўтварэньня фракцыі як недысцыплінаванасьць і мана радных.

Радны Я. Станкевіч — паведамляе, што калі створаную фракцыю не прымаюць, дык мы падпарадкуемся пастанове, хоць і нязгодныя з гэтым.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што справа фракцыі ўжо дастаткова разгледжана і асуджана, а таму разглядаць яе далей няварта, і спыніць без уселякіх судоў. У выпадку падобнае акцыі з іх боку трэба будзе апублікаваць з боку Рады ўсё тое, што разьбіралася тут адносна іх.

Радны М. Гарошка — мне вельмі прыемна, што радныя аднадушна недапусьцілі ўтварэньня гэтага блёку. Значыць, трэба, каб у прэсе было надрукавана адкліканьне тымі, хто выслаў туды, дзе апублікавалі, як яны самі сказалі, што апублікавана бяз іх ведама.

Радны М. Панькоў — падае аб тым, што ведае практыку дзейнасьці і працы латыскага парлямэнту, дзе кажная група дэпутатаў магла стварыць і стварала фракцыі, не патрабуючы ніякай апрабаты. Таксама зазначае, што шмат у якіх краінах радныя атрымалі і камунікат і дэклярацыю Блёку абароны незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі і шмат хто зь іх далучыўся да фракцыі і да блёку.

Сп. Прэзыдэнт — прапануе апублікаваць у прэсе, што фракцыі ў Радзе не існуе.

Радны Б. Дубоўскі — Я прапаную, каб апублікаваць адваланьне Сакратарыят фракцыі, таму што было надрукавана, як яны самі казалі, бяз іх ведама. Так што якраз правільным будзе ім-жа і падпісацца пад адваланьнем, а не каму іншаму.

Галасаваньне прапановаў у справе фракцыі дало наступныя вынікі:

Прапанова раднага Л. Галяка — перадаць справу фракцыі ў Суд Рады: за — 2, супраць — 8, устрымалася — 19.

Прапанова радных Гарошка-Дубоўскі — VI Сэсія прапануе Блёку агаласіць у прэсе, што камунікат быў надрукаваны бяз іхнае згоды: за — 11, супраць — 12, устрымалася — рэшта.

Прапанова сп. Прэзыдэнта апублікаваць у прэсе, што фракцыя ў Радзе не існуе: за — 18, супраць — 9, устрымалася — рэшта.

Да пункту 7а:

Радны Ю. Старасельскі — наш радны др. Я. Станкевіч зрабіў данос на Г. Ганчарэнку[549] ў каледж, і другое, у іх-жа былі ўзяты самавольна грошы, а пасьля залічаныя за кватэру.

Радны Я. Станкевіч — Грашэй мы ад яе ня бралі, і ў нас наагул не прапала нічога апрача пары бутэлек малака. Наконт заявы, то была яна пададзена правільна ці няправільна, а я яе не рабіў. А што касаецца суду, то я перадаю ў Суд Рады.

Радны П. Орса — лічыць, што Суд Рады ня можа разглядаць гэтую справу, а яе трэба перадаць у амэрыканскі суд.

Радны Уладыка — лічыць наадварот, што Суд мусіць разгледзіць гэту справу, а не кампраміtаваць сябе перад амэрыканцамі.

Сп. Прэзыдэнт — зазначае, што ўсялякія непаразуменьні ўнутры Рады мусяць разглядацца ўнутры сябе (па статуту).

Радны В. Тумаш — падкрэсьлівае, што дзеля яго дзіўная рэч, што Г. Ганчарэнка жалілася перад сп. Старасельскім. Гэтую справу трэба перадаць у Суд Задзіночаньня[550].

Радны Ю. Старасельскі — Я паведаміў на паседжаньні Рады, што мне заявіла Г. Ганчарэнка, а я асабіста не сьцьвярджаю ні тое, ні супраць.

Радны Уладыка — лічыць, што Старасельскі толькі інфармаваў, а Прэзыдыюм мусіць заняцца гэтай справай.

Радны Г. Паланевіч — я таксама гэта чуў, але я гэтага не магу цьвердзіць, што ніто ён (Станкевіч), а жонка падала данос у каледж.

Радны М. Гарошка — мяне выступленьне сп. Старасельскага зьдзівіла. Радным ня можа быць такая амаральная асоба. Гэта, што мы тут чулі, гаворыць не за высокую мараль Я. Станкевіча, калі толькі падцьвердзіцца. Гэта ня можа прайсьці міма вушэй. Ён мяне таксама абзываў. Ён пабіраў 96 даляраў за кватэру, і гэта таксама трэба разгледзіць. Ці можа др. Я. Станкевіч быць у нас радным. Дасьледзіць праз Суд.

---

[549] **Галіна Ганчарэнка** (Грыбава, Руднік; нар. 1931, Бабруйск), грамадска-культурная дзячка, журналістка, перакладчыца. Бацька быў рэпрэсаваны і ў 1937 г. расстраляны, а маці праз год выслана ў Сібір. У 1944 г. выехала на эміграцыю разам са сваёй апякункай, вядомай спявачкай Барбарай Вержбаловіч. Вучылася ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехала ў ЗША.

[550] Маецца на ўвазе Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА).

Радны П. Орса — У справе грашовай мы ня можам нічога зрабіць. Гэта справа паліцыі. З даносам другая справа. Ці можам мы даведацца, быў данос? Хто нам яго пакажа? Вы дададзіце справу ў Суд, а Ганчарэнка прыдзе ды скажа, што я нічога ня знаю. Дык няхай Ганчарэнка падасьць у Раду, калі яна гэта хоча, і будзем разглядаць.

## ПРАТАКОЛ ПАШЫРАНАГА ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗІДЫЮМУ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ 26 КАСТРЫЧНІКА 1952 Г. У НЬЮ-ЁРКУ[551]

Прысутныя: А. Адамовіч, В. Кажан, Ян Станкевіч, В. Дубоўскі, Л. Галяк, М. Гарошка, Г. Паланевіч, Л. Савёнак, А. Орса, М. Дарашэвіч, А. Шукелойць, А. Махноўскі, П. Манькоўскі і М. Панькоў.

Старшынствуе — А. Махноўскі, сакратар — М. Панькоў.

Парадак дня:

1. Даклад Старшыні Ураду БНР аб стане перагавораў у справе г. зв. СОНРу і

2. Бягучыя справы.

Старшынствуючы А. Махноўскі зачытвае ліст Сп. Прэзыдэнта Рады БНР М. Абрамчыка аб ходзе перагавораў, якія адбыліся ў Штарнбэргу[552] (гл. дадатак № 1 і дапіску ў НРС[553] за 2.IX.1952)[554].

Радны Ян Станкевіч зазначае, што наш Прэзыдэнт захоўваецца нетактоўна і падобна яму паводзяць сябе і Старшыня Ураду на сяньняшнім паседжаньні.

А. Махноўскі паведамляе, што быў хворы і перанёс складаную апэрацыю ў бальніцы, а таму ня мог склікаць паседжаньне раней. Як ведама, ён працуе дзеля пакрыцьця сваіх штодзённых патрэбаў, ніякай пенсіі з боку не атрымоўвае, дзеля гэтага нельга нічога ад яго вымагаць.

---

[551] Пратакол публікуецца на падставе тэксту, змешчанага ў: Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 23. Сьнежань 1984. С. 4–5.

[552] Маецца на ўвазе канферэнцыя, арганізаваная Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі ў нямецкім горадзе **Штарнбергу** 19–21 чэрвеня 1952 г. У ёй ўзялі ўдзел арганізацыі: Азербайджанскі камітэт нацыянальнага адзінства, Грузінскі нацыянальны саюз, Ліга змагання за народную свабоду, Задзіночанне армянскіх змагароў за свабоду, Расійскі народны рух, Паўночнакаўказскае нацыянальнае задзіночанне «Скано», Саюз змагання за вызваленне народаў Расіі, Туркестанскі нацыянальны камітэт «Туркелі» ды Беларускі антыбальшавіцкі фронт. На канферэнцыі сярод іншага разглядаліся пытанні стварэння адзінага каардынацыйнага цэнтра барацьбы паняволеных народаў, а таксама арганізацыі нацыянальных радыёперадачаў. Рада БНР ад канферэнцыі дыстанцыянавалася, але БАФ дзейнічаў у паразуменні з Міколам Абрамчыкам.

[553] Маецца на ўвазе газета «Новае рускае слова».

[554] Згаданыя тут і далей дадаткі да пратакола ў часопісе не былі апублікаваныя.

Радны Л. Савёнак пытаецца, чаму гэты статут палітычнага цэнтру трапіў да нас гэтак запозьнена, што аб ім нават НРС паведамляла два месяцы раней.

А. Махноўскі тлумача, што так сталася дзеля ягонае хваробы і па некаторых іншых прычынах, не падаючы іх.

Радны А. Адамовіч зачытывае з газэты НРС «Статут палітычнага цэнтру» і пратаколы 1-3 прабегу Штарнбэргскае канфэрэнцыі (гл. дадатак № 2 і НРС).

Радны У. Дубоўскі лічыць, што нам даўно пара пакінуць гэты зброд палітычнага сьмецьця і ніякага дачыненьня зь імі ня мець, бо ўдзелам у таргавішчах мы ліквідуем самі сябе як нацыянальны актыў, як самастойную нацыю. Супрацай у гэткіх арганізацыях мы толькі паніжаем сваю дастойнасьць і гатуем здраду, ліквідуем Акт 25 Сакавіка і мусім ліквідаваць гэту нашую Раду.

Радны М. Панькоў згаджаецца з духам папярэдняга прамоўцы і дадае, што гэткім паступаньнем мы страцім нашых прыяцеляў, як сярод чужынцаў, гэтак і сярод суродзічаў, ды апынемся ў маскоўскім балоце мельгуновых і керанскіх.

Радны В. Кажан падае да ведама, што гэты камітэт ствараюць амэрыканцы, а не расейцы, Дзеля таго лепш, хаця Жытка[555] там прысутнічае, але не ад Рады БНР.

Радны Ян Станкевіч інфармацыйна зазначае, што гэна Амэрыканскі камітэт ды мусім ведаць таксама, што сёньня падпісаныя паперкі будуць мець вялікае значаньне, а таму мусім адносіцца да гэтых крокаў вельмі асьцярожна. Маем памятаць, што палітыка Дэпартаменту оф Штэйт зусім не нязьменная.

Радны М. Гарошка цьвердзіць, што палітыка Амэрыканскага камітэту да нас і іншых народаў, апрача расейцаў, адмоўная. Нашае адношаньне да Амэрыканскага камітэту зусім дакладна паданае ў пастанове VI сэсіі Рады БНР. Як рэальныя палітыкі мы мусім адтуль выйсьці, але захаваць нейкую сувязь. Дапусьціць туды Астроўскага нельга, бо тады ўжо будзе поўнае зьліцьцё з расейцамі. Украінцы сяньня вядуць падвойную гульню.

---

[555] **Янка Жытка** (?, Ляхавіччына — ?, Канада), грамадскі дзеяч. Вучыўся на хімічным факультэце Львоўскай палітэхнікі. У часе нямецкай акупацыі працаваў у беларускіх установах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. Вывучаў хімію ў Марбургу, потым у Лювене, дзе атрымаў дыплом інжынера-хіміка. Актыўна ўдзельнічаў у студэнцкім грамадскім жыцці і працы Саюза беларусаў Бельгіі, быў некаторы час яго старшынёй. Быў старшынёй Беларускага антыбальшавіцкага фронту. Па сканчэнні навучання некаторы час жыў у Мюнхене, а потым выехаў на сталае жыццё ў Канаду. Жыў у Манрэалі, працаваў у шпіталі. У сярэдзіне 1990-х гг. парваў сувязі з беларусамі.

Радны А. Адамовіч падае, што ў БАФ уваходзяць А. Вініцкі, Кабыш, Чайкоўскі[556] і Кабычкін[557], якія працуюць там толькі дзеля грошаў. Жытка, хоць грошы бярэ, але не прадаецца і яму трэба гэта залічыць у плюс.

Радны А. Шукелойць уважае, што прапануемы цэнтр дае нам толькі падобныя да правоў, якія мы мелі пад Польшчай. Артыкулы ў «Нью Лідэр»[558] (рэдактар Далін[559]) стала аблівае балотам усе нацыянальныя рухі, адказам на што з’яўляюцца балонкі выданьняў АБН, сацыялістычных украінскіх, польскіх ды іншых выданьняў. Усё ў Амэрыканскім камітэце пастаўлена на куплю людзей, простай куплі грашыма. Палохацца ўваходу туды Астроўскага — няма чаго палохацца.

Радны Л. Савёнак сьцьвярджае, што думкі і адношаньне нашае да Амэрыканскага камітэту ўжо выказаныя ў пастановах 6-ае сэсіі і сходах сэктараў Рады БНР, дзе ўсё таксама ясна выказана і таму сяньня зусім непатрэбна паўтарацца. Пытаньне стаіць проста: Ці Рада пойдзе за Прэзыдэнтам Рады,

---

556 Маецца на ўвазе **Зміцер Чайкоўскі** (26.11.1912, Клецк — 2002, Мюнхен, Нямеччына), мастак, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Клецкай беларускай гімназіі. У 1937–1939 гг. — у Кракаўскай мастацкай акадэміі, але навучанне не скончыў. У 1942–1943 гг. быў камандзірам роты беларускага чыгуначнага батальёну ў Менску. Пэўны час быў ад’ютантам Ф. Кушаля. У 1944 г. у Берліне ў Першым кадравым батальёне быў у складзе афіцэрскай школы. У 1945 г. камандаваў 2-ім стралковым батальёнам 1-ай грэнадзёрскай дывізіі «Беларусь», разам з якой у красавіку 1945 г. перайшоў на бок амерыканцаў. Пасля вайны жыў у Мюнхене. Браў некаторы ўдзел у беларускім грамадскім жыцці. Вядомы як мастак-партрэтыст. Маляваў таксама краявіды і абразы. Яго палотны выстаўляліся на розных выставах у Еўропе і Амерыцы.

557 **Аляксей Кабычкін** (16.03.1891, Случчына — 25.03.1958, Кан, Францыя), грамадскі дзеяч. Скончыў гімназію ў Слуцку і юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Удзельнік Слуцкага паўстання. Пасля яго жыў у Вільні. Удзельнічаў у выданні розных беларускіх перыёдыкаў, прыкладам, «Наша думка». У часе нямецкай акупацыі працаваў суддзёй у Лідзе. Па сканчэнні Другой сусветнай вайны апынуўся ў лагеры DP у Куфштайне (Аўстрыя). У 1956 г. перабраўся ў Францыю.

558 ***«New Leader»*** — палітычны і культурніцкі часопіс, які выходзіў у ЗША ў 1924–2006 гг. Меў ліберальную, антыкамуністычную скіраванасць. На яго старонках публікаваліся вядомыя палітолагі, філосафы, культуролагі, такія як Ганс Моргентаў, Бертран Расэл, Артур Шлезінгер, Джордж Оруэл і іншыя.

559 Маецца на ўвазе **Давід Далін** (1889–1962), грамадскі дзеяч, меншавік, навуковец, пісьменнік. Нарадзіўся ў Рагачове. У 1907–1909 гг. вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, адкуль быў выключаны за палітычную дзейнасць і на два гады пасаджаны ў турму. Па вызваленні з’ехаў у Нямеччыну, дзе ў 1913 г. атрымаў ступень доктара эканомікі ў Гейдэльберскім універсітэце. У 1917 г. вярнуўся ў Расію, дзе быў прадстаўніком меншавікоў у Маскоўскім гарадскім савеце ў 1918–1921 гг. Арыштоўваўся бальшавікамі ў 1920 і 1922 гг., пасля чаго вярнуўся ў Нямеччыну. У 1935–1939 гг. жыў у Польшчы, адкуль з пачаткам вайны выехаў у ЗША. Тут амаль 20 гадоў працаваў у рэдакцыі часопіса *New Leader*.

які ўвязаўся ў акцыю Амэрыканскага камітэту, ці будзе шукаць нейкі іншы шлях? Апрача таго, маецца пастанова БНЦ у гэтай справе.

Радны М. Панькоў зачытывае «Асьветчаньне БНЦ» (гл. «Летапіс» № 22).

Радны П. Манькоўскі падкрэсьлівае, што Б. Рагуля гаварыў і падпісываў у Вісбадэне пагадненьне ня прыватна, але з ведама Прэзыдэнта і ад імя Рады, а Рада гэтага не адклікала. Асьветчаньне трэба разглядаць як дывэрсыю і шкодную дзейнасьць.

Радны У. Дубоўскі дамагаецца трымацца пастановы 6-ае сэсіі Рады БНР, дзе выяўлены нашыя адносіны да Амэрыканскага камітэту і СОНРу, патрабаваць, каб сп. Прэзыдэнт не працягваў супрацу з расейцамі.

Радны Г. Паланевіч кажа, што Рада нікога не пасылала на ніякія канфэрэнцыі — не пасылала і значыцца ня можа адклікаць.

Радны Ян Станкевіч лічыць, што Прэзыдэнт памылкова думае, што ад Амэрыканскага камітэту залежыць менш, чым ад Мюнхэну, дзе болей гавораць і рухаюцца. Прапаную прыняць наступную прапанову:

*«Зборка ньюёрскіх сяброў Рады БНР, запрошаных заступнікам Старшыні 26.X.1952 г. уважае, што Рада БНР з увагі на праект Статуту Палітычнага Цэнтру з 29 жніўня гг. не павінна і ня можа ані сама ўвайсьці ў склад гэтага Цэнтру, ані ўпаўнаважыць дзеля гэтага ніякай беларускай арганізацыі»*.

Пужыла Астроўскага зноў высоўваецца, калі Прэзыдэнт сам цьвердзіў, што Вашынгтон яго запэўніў — з Астроўскім справы мець не жадае.

Радны М. Гарошка прапануе рэзалюцыю наступнага зьместу:

*«Частка сяброў Рады БНР сабраўшыся на нараду па пытаньню супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам пастанавіла: кіравацца пастановай 6-ае сэсіі Рады БНР».*

Вынікі галасаваньня за абедзьве рэзалюцыі наступныя:

За прапанову Я. Станкевіча — 2 галасы,
Супраць — 11,
Устрымаўся — 1;
За прапанову М. Гарошкі — 11 галасоў,
Супраць — 2 і
Устрымаўся — 1.

Прыймаецца прапанова М. Гарошкі большасьцю.

Паседжаньне закончана а гадз. 6,45.

Старшыня А. Махноўскі
Сакратар М. Панькоў.

# ПРАТАКОЛЫ СЁМАЙ СЭСІІ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## Пратакол Першага паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 10-га траўня 1953 году; 2 п. п. у Брукліне

Прысутнічалі: спадар Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 36 радных.

Парадак працоўнай Сэсіі:

1. Адкрыцьцё Сэсіі — слова нам. Прэзыдэнта ў ЗША А. Махноўскага.

б. выбары сакратароў Сэсіі;

в. прывітаньні;

г. аб правамоцнасьці Сэсіі;

д. ушанаваньне памяці памерлых сяброў Рады: кампазытара М. Равенскага і раднага, кіраўніка партызанскага аддзелу, забітага на Бацькаўшчыне ў лютым б. г.;

2. Даклад Прэзыдэнта М. Абрамчыка — Агульная сітуацыя і нашая вонкавая палітыка за мінулы год:

а. агульны агляд;

б. дачыненьні да Амэрыканскага камітэту і

в. дачыненьні з суседнімі народамі.

3. Дыскусія па дакладу.

4. Нутраныя справы:

— Справаздача Ураду.

5. Дыскусія па дакладу.

6. Даклады з жыцьця сэктараў Рады БНР.

6а. Разгляд дзейнасьці беларускіх грамадзкіх арганізацыяў з заслуханьнем інфармацыі ад радных — прадстаўнікоў арганізацыяў.

7. Прыняцьцё новых радных.

8. Перагляд Статуту Рады БНР.

9. Фінансавыя справы.

10. Уканстытуяваньне новага Ураду.

11. Бягучыя справы.

12. Закрыцьцё Сэсіі.

Першае паседжаньне VII Сэсіі Рады БНР адчыніў заступнік Прэзыдэнта ў ЗША сп. А. Махноўскі прывітаньнем прыбылага з Эўропы сп. Прэзыдэнта і спадароў радных.

Сакратарамі VII Сэсіі адчыненым галасаваньнем абіраюцца:

Радны М. Панькоў: за — 24, супраць — 3, устрымаліся — 0.

Радны В. Русак: за — 19, супраць — 5, устрымаліся — 0.

Радная А. Савёнак: а — 14, супраць — 5, устрымаліся — 0.

Агалашаюцца прывітаньні і пажаданьні плоднае працы Сэсіі ад сэктараў Рады БНР у Аўстраліі, Аргэнтыне, Нямеччыне, Францыі, Бэльгіі і Англіі.

Старшыня паседжаньня прэм'ер Ураду БНР А. Махноўскі паведамляе аб сьмерці раднага кампазытара Міколы Равенскага ў Бэльгіі[560] і раднага, кіраўніка аддзелу беларускага партызанцкага руху, забітага акупантамі на Бацькаўшчыне ў лютым месяцы бягучага году[561]. Сэсія ўшаноўвае іх памяць уставаньнем і хвілінай маўчаньня.

Пункт 2:

Даклад Прэзыдэнта Рады БНР інж. М. Абрамчыка аб агульнай сітуацыі і нашай вонкавай палітыцы за мінулы год.

Уважаючы дзейнасьць у галіне вонкавае палітыкі першараднай справай, сп. Прэзыдэнт і скіраваў сваю працу пераважна на гэтай галіне, супрацоўнічаючы з народамі, сяньня дзяржаўнымі і падняволенымі. Уся дзейнасьць канцэнтравалася галоўным чынам у Эўропе, таму засьцерагае, што магчыма ў зьбегу абставінаў крыху перавысіў свае правы. Беларускае пытаньне набыло шырокае актуальнасьці дзякуючы дзейнасьці Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі (які зусім не зьяўляецца прыватнай установай) выйшла на міжнародную арэну.

Прэзыдэнт адзначае, што дзейнасьць яго адбывалася ў вельмі цяжкіх абставінах: няма сродкаў, няма працаўнікоў, няма і тэхнічнага пэрсаналу, што так неабходнае ў дзейнасьці. Аднак неяк выдзяляўся час і на ўдзел у нарадах Фэдэратыўнага клюбу ў Парыжы, у Міжнароднай Акадэміі навук[562] і інш., зь якімі неабходна падтрымліваць сувязь, і на падарожжы. Амэрыканскі камітэт вызваленьня народаў Расеі — выявіцель палітыкі ЗША па ўсходняму пытаньню і таму за яго дзейнасьцю трэба пільна сачыць і зь ім супрацоўнічаць.

Каб выясьніць запраўднае становішча ў Англіі, адбыў паездку ў Лёндан, дзе сустрэўся з 4-ма дэпутатамі, і адведаў нацыянальныя прадстаўніцтвы. Мр. Філіпс высьвятліў, што беларускае пытаньне цікавіць ангельцаў пакуль акадэмічна, і ў іх працуе толькі клюб студыяў усходняга пытаньня, ды радзіў

[560] **Мікола Равенскі** (05.12.1886, в. Капланцы Ігуменскага пав. (сёння Бярэзінскі р-н Мінскай вобл.) — 09.03.1953, Лювен, Бельгія), кампазітар, хормайстар. У 1903–1914 гг. — кіраўнік хору пры мужчынскім манастыры ў Мінску. У 1915 г. скончыў рэгенцкія курсы ў Маскве, у 1930 г. — Маскоўскую кансерваторыю (1930). У 1930-х выкладаў у Мінскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансерваторыі. У 1938 г. быў выключаны з Саюза кампазітараў. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў рознарабочым на тартаку пад Мюнхенам. У канцы 1940-х пераехаў у Лювен (Бельгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювенскім універсітэце. Аўтар гімна-малітвы «Магутны Божа» (словы Н. Арсенневай).

[561] Магчыма, маецца на ўвазе Янка Філістовіч, скінуты ў 1951 г. з адмысловым дэсантам на беларускую тэрыторыю для арганізацыі антысавецкага партызанскага руху і схоплены ўвосень 1952 г. Хоць ёсць звесткі, што расстраляны Філістовіч быў толькі ў лістападзе 1953 г.

[562] У Міжнароднай вольнай акадэміі навук і літаратуры, заснаванай у Парыжы ў 1951 г. Мікола Абрамчык быў доўгагадовым сябрам Навуковай рады.

супрацоўнічаць з амэрыканцамі, бо ў Англіі пакуль няма ніякіх пэрспэктываў для нашае справы.

Адведзіны Рыму і праробленыя там захады далі ўжо сяньня пазытыўныя вынікі, што выявілася назначэньнем для беларусаў-каталікоў апостальскага візытатара ў асобе біскупа Слосканса[563].

У Бэльгіі беларуская справа набрала шырокага розгаласу, у чым асаблівыя заслугі мае а. Робэрт[564], што з беларускага боку трэба было-б неяк адзначыць.

Дзейнасьць Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі адбывалася ў Эўропе і датычыла вельмі важнае для нас справы радыёперадачаў ды інш. Ад беларусаў таму было паслана 2-ох дэлегатаў: Жытко — ад БАФ'у і др. Б. Рагуля — ад Рады БНР, але дзякуючы зьмену плянаў аб дзейнасьці Штарнбэргскай канфэрэнцыі др. Рагуля ўдзелу ў нарадах ня браў. БАФ прыймаў удзел толькі ў агульных нарадах, але не ўваходзіў у працаваўшую палітычную камісію. Пры тагачаснай невыразнай сытуацыі (мэмарандумы і ходаньні астроўшчыкаў за ўдзел у канфэрэнцыях, нявыразнае адношаньне да Амэрыканскага камітэту ўкраінцаў) змушала не рызыкаваць разрывам з АмКамітэтам, і тады было створана БАФ. Аднак расейцы націскалі на дэлегата БАФ'у Жытко, а АмКамітэт непасрэдна на Прэзыдэнта, каб яны далі станоўкі адказ. Але ніякіх забавязваньняў БАФ ня ўзяў. У гэты час падыйшоў ведамы зьезд КЦАБ'у[565], які прыняў таксама ўжо ведамы статут КЦАБ'у, пасьля чаго БАФ выступіў з КЦАБ'у.

Сувязь з Камітэтам, аднак, поўнасьцю перарваная ня была, чаго не пазвалялі зрабіць той ціск з боку іншых народаў і шуканьні іншага выхаду з паўстаўшае сітуацыі. Прэзыдэнт адзначае ціск з боку туркаў, ангельцаў, француз аў і немцаў на нацыянальныя эміграцыйныя ўстановы, каб тыя ўваходзілі ў КЦАБ і працавалі ў напрамку выробленьня амэрыканскае грамадзкае думкі і палітыкі ў пажаданым кірунку (пры гэтым ведама, што ангельцы і французы пагадзіліся, каб палітыку з эміграцыйнымі прадстаўніцтвамі праводзіць будуць амэрыканцы). Сярод эміграцыі панаваў разлом. Адныя былі за разрыў, іншыя шукалі разьвязкі шляхам быццам-бы супрацы. Апошні пагляд меў нейкія пэрспэктывы, і сп. Прэзыдэнт узяў на сябе ініцыятыву. Вынікі дыплёматычнае дзейнасьці ў гэтым кірунку прывялі

---

563 Баляслаў Слосканс быў прызначаны Ватыканам апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў у Еўропе ў 1952 г.

564 Маецца на ўвазе а. Роберт ван Кавэлярт.

565 10–18 кастрычніка 1952 г. у Мюнхене адбылася ініцыяваная Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі канферэнцыя з удзелам тых самых, што і ў Штэрнбергу, арганізацый. На канферэнцыі быў створаны **Каардынацыйны цэнтр антыбальшавіцкай барацьбы** (КЦАБ). Аднак Беларускі антыфашысцкі фронт не падпісаў Статут гэтай арганізацыі і афіцыйна дыстанцыяваўся ад яе. (гл. Камунікат Галоўнай Управы Беларускага Антыбальшавіцкага Фронту // Бацькаўшчына. № 42 (121). 19.10.1952).

да канфэрэнцыі ў Карслруэ[566], на якой аб’ядналіся беларусы, украінцы і грузыны ды далучылася армянская група Дашнак-Цюцюн[567]. Далучэньне дашнакоў зрабіла вялікае ўражаньне на каўкаскія народы і на міжнародным антыбальшавіцкім фроньце.

Парыская канфэрэнцыя[568], якая прыняла да аб’еднаньня 6 народаў (сяньня далучаецца сёмы — айзэрбайджанцы), стварыла прадумовы супрацы з Амэрыканскім камітэтам, які скліча новую канфэрэнцыю для апрацаваньня новага статуту. (Зачытваецца пратакол Парыскай канфэрэнцыі і рэзалюцыі яе). Парыскі блёк мае галоўнай мэтай каардынацыю палітыкі аб’еднаных ім народаў. Блёк здабыў павагу і зьмяніў адносіны да яго Амэрыканскага камітэту, асабліва пасьля размоваў з адм. Стывэнсам Лесьлі ў Парыжы[569]. Цяпер сп. Прэзыдэнт вядзе размовы з Амэрыканскім камітэтам па ўпаўнаважаньні блёку, і адбыў ужо некалькі спатканьняў, адно зь якіх было прысьвечана дыскусіі над адказам АмКамітэту на мэмарыял Парыскага блёку. (Зачытваецца мэмарыял). Пакуль усё гэта не дало пазытыўных вынікаў, але згадзіліся, што мр. Кунікгольм[570] неафіцыйна скліча канфэрэнцыю дзеля апрацоўкі новага статуту. Аднак ясна з усяго, што АмКамітэт супраць стварэньня 2-х цэнтраў, бо, па-першае, цэнтр іншых нацыяў будзе салідны й дзейны, а па-другое, расейскі цэнтр збанкрутуе.

Прэстыж беларусаў сярод іншых народаў і ў амэрыканцаў вельмі ўзрос, хоць становішча яшчэ дужа небясьпечнае і цікавае. Беларускі пункт гледжаньня быў правільны, а становішча вымагае асцьярожнасьці. Прэзы-

[566] Маецца на ўвазе **канферэнцыя экзільных урадаў** БНР, Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Украінскай Народнай Рэспублікі, што адбылася **ў Карлсруэ** 14–16 лютага 1953 г. На канферэнцыі былі абмеркаваныя пытанні супрацоўніцтва ўрадаў, а таксама іх стаўленне да спробаў стварэння каардынацыйнага цэнтра антыкамуністычнага змагання Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі. Была выпрацаваная ўзгодненая пазіцыя па ўсіх пытаннях.

[567] **Армянская рэвалюцыйная федэрацыя Дашнакцуцюн** — адна з найстарэйшых армянскіх палітычных партыяў, заснаваная яшчэ ў 1890 г. У 1918–1920 гг. была кіруючай партыяй у незалежнай Рэспубліцы Арменія. Ад 1921 г. партыя дзейнічала ў эміграцыі, аб’ядноўваючы армянаў у 200 краінах свету.

[568] 22 сакавіка — 2 красавіка 1953 г. у Парыжы праходзіла **канферэнцыя дэлегатаў нацыянальных прадстаўніцтваў на эміграцыі** Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Беларусі, Паўночнага Каўказа і Украіны. Канферэнцыя выпрацавала супольны мемарандум да Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму, а таксама план супольных дзеянняў у змаганні за вызваленне народаў СССР.

[569] 22 сакавіка 1953 г. дэлегацыя прадстаўнікоў нацыянальных урадаў на эміграцыі была прынятая старшынёй Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму адміралам **Лэслі Стывенсам** (*Leslie Stevens*).

[570] **Эрык Кунігольм** (*Eric Kuniholm*), колішні амерыканскі консул у Ісландыі, у 1950-х гг. — палітычны дырэктар штаб-кватэры Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму ў Нью-Ёрку. Кунігольм адказваў у Камітэце за вырашэнне нацыянальных пытанняў.

дэнт адзначае, што зьбег абставінаў змушаў яго часам узурпаваць прэрагатывы Ураду БНР, але момант вымагае кансалідацыі нацыянальнага актыву і тактыкі гібкасьці.

У заканчэньне сп. Прэзыдэнт зьвяртаецца да спадароў радных выказацца ў дыскусіі ўсебакова й шчыра, крытыкаваць яго дзейнасьць, дзе гэта патрэбна, ды ён прызнае і адкажа, калі дзе нейкія памылкі зрабіў. Зазначае толькі, што кажны з нас мусіць сумленна мець наўвеце тыя заданьні беларускага вызвольнага руху, якія стаяць перад намі і сяньня і дбаць аб утрыманьні нашага прэстыжу й надалей.

Пункт 3. Дыскусія па дакладу

Старшыня паседжаньня А. Махноўскі: дзякуе сп. Прэзыдэнту за даклад і адчыняе дыскусію, зазначаючы, што ня бачыць у дзейнасьці Прэзыдэнта ўзурпацыі правоў Ураду БНР.

Радны Я. Гладкі — пытаецца, чаму ў Парыскім блёку не бяруць удзелу казакі?

Радны М. Дарашэвіч — просіць выясьненьня, якія супярэчнасьці ў адказе адм. Стывэнса на мэмарыял блёку знаходзіць сп. Прэзыдэнт.

Радны А. Шукелойць — зьвяртаецца з пытаньнем, ці беларускія каталіцкія дзеячы рэагавалі на папскую энцыкліку да народаў Расеі[571]?

Радны В. Тумаш — просіць удакладніць, хто бярэ ўдзел у радыёперадачах Амэрыканскага камітэту ў Мюнхэне.

Радны Я. Ліманоўскі — запытваецца, ці праектаваная ўмова з украінцамі падпісана?

Сп. Прэзыдэнт адказвае на пастаўленыя пытаньні:

Удзел казакаў у Парыскім блёку застаецца адчыненай справай дзеля тактычных меркаваньняў і на просьбу ўкраінцаў у сувязі з разладам у казацкім руху (падзел паміж Гласковым[572] і Білым[573]).

---

[571] Маецца на ўвазе **«Апостальскі ліст да ўсіх народаў Расіі»** (*Sacro vergente anno*) рымскага папы Пія XII, які быў апублікаваны 5 ліпеня 1952 г. У гэтым звароце Папа пасвяціў усе «народы Расіі» бязвіннаму сэрцу Марыі, Маці Божай. Фармулёўка «народы Расіі» фактычна адмаўляла ў вызнанні беларусаў і ўкраінцаў асобнымі нацыямі. Гэты дакумент быў шокам для беларускіх і ўкраінскіх эміграцыйных свецкіх і рэлігійных дзеячаў. (Падрабязней гл.: Надсан, Аляксандр. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Мінск, 2004. С. 98–107).

[572] Маецца на ўвазе **Васіль Глазкоў** (1908–1987), казацкі палітычны дзеяч, у часе Другой сусветнай вайны быў кіраўніком Казацкага нацыянальнага вызваленчага руху (КНОД), які арыентаваўся на Нямеччыну. У паваенны час працягваў дзейнасць у казацкім руху, удзельнічаў у Антыбальшавіцкім блоку народаў. Нягледзячы на рознагалоссі з атаманам Ігнатам Білым, пасля смерці апошняга ў 1973 г. Глазкоў заняў пасаду Вярхоўнага атамана. У 1972 г. у Нью-Ёрку выйшла яго кніга *History of Cossacks*.

[573] **Ігнат Білый** (1887–1973), казацкі палітычны дзеяч, інжынер, рэдактар часопіса «Вольнае казацтва» і газеты «Казак». На агульнаказачым коле ў Мюнхене ў 1948 г. ён быў абраны Вярхоўным атаманам Казацкага нацыянальнага вызваленчага

Супярэчнасьці ў адказе Амэрыканскаму камітэту пазьней выясьненыя ў непасрэднай дыскусіі.

Беларускае сьвятарства не абыйшло моўчкі папскае энцыклікі, і акцыя ў Ватыкане была праведзеная, хаця ня вельмі імпазантная.

Радыё КЦАБ'у працуе ў Мюнхэне, і беларускае мейсца заўсёды можа быць занятае, але толькі пасьля палагоджаньня прынцыповых пытаньняў; цяпер там працуюць толькі прадстаўнікі 4-х народаў[574]: расейцы — 30 мінут, і па 10 мінут іншыя.

Атрыманьне перадачаў праз радыё «Голас Амэрыкі» цяпер напэўна будзе цяжка, бо будуць адсылаць да радыё КЦАБ'у, але інтэрвэнцыю ў гэтай справе трэба зрабіць.

Умовы з украінцамі пакуль яшчэ не падпісалі, і аб гэтым пазьней будзе разгледжана і абмеркавана шырэй.

Радны Уладыка Васіль — адзначае прыемнасьць і гонар, зь якім слухаеш аб актуальнасьць нашае справы ўва ўсіх сталіцах сьвету і вялікі дыплёматычны поступ у параўнаньні да становішча нашае справы ў 1918 г. Затым гаворыць аб слабеючым уплыве расейцаў у КЦАБ'е, жадае стварэньне адзінага антыбальшавіцкага цэнтру ці ўваходзе ў КЦАБ толькі ў выпадку прызнаньня поўнага парытэту. Калі-ж ня будзе адзінага цэнтру, дык заставацца ў Парыскім блёку, які будзе паважным і здабудзе сабе адпаведныя пазыцыі.

Радны Я. Ліманоўскі — адзначае, што большасьць нашых працаўнікоў — людзі для нутраногa ўжытку, і прапануе пашырыць лісту прафэсыйных вонкавых палітыкаў. Прынцып непрадрашэнства[575] — палітыка і дэмакратаў, і рэспубліканцаў — зьяўляецца дзяржаўным і відавочна ня зьменіцца. Зьмена назову Амэрыканскага камітэту[576] — нічога не зьмяняе. Змантаваньне Парыскага блёку — справа вельмі пазытыўная, але нашая роля тамака не вялікшая ад ролі пасрэдніка або чэснага маклера. Заставацца ў гэтым блёку супраць жаданьня амэрыканцаў азначае апынуцца ў тупіку, а таму неабходна

руху (КНОД). У 1952 г. быў пераабраны на гэтую пасаду, аднак быў падтрыманы не ўсімі казацкімі арганізацыямі. Да 1958 г. жыў у Парыжы. Пазней перабраўся ў ЗША.

574 Маюцца на ўвазе тыя народы, якія на той час уваходзілі ў КЦАБ: рускія, азербайджанцы, армяне, грузіны і прадстаўнікі Паўночнага Каўказа.

575 **Прынцып непрадрашэнства**, прапанаваны расійскімі эміграцыйнымі сіламі, прадугледжваў адкладанне вырашэння пытання лёсу нацыянальных утварэнняў у СССР да часу, калі камунізм будзе пераможаны і можна будзе правесці плебісцыты ў адпаведных рэгіёнах. БНР выступала з пазіцый, што сваю волю адносна дзяржаўнай незалежнасці беларусы выказалі яшчэ ў 1917 г. на Першым Усебеларускім кангрэсе і наступным стварэннем БНР, таму ніякага паўторнага вырашэння беларускага пытання ў будучыні непатрэбна. Гэтае прынцыповае пытанне, якое было абумоўлена непрызнаннем нацыянальна-дзяржаўных правоў беларусаў (як і іншых народаў СССР) з боку расійскіх, а за імі і амерыканскіх дзеячаў на Захадзе, было галоўнай праблемай у дачыненнях з Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі.

576 Пры канцы сакавіка 1953 г. Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі афіцыйна змяніў назву на **Амерыканскі камітэт вызвалення ад бальшавізму**.

знайсьці формулу супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам. Падцьверджаньне гэтага відаць і з адказу АмКамітэту на мэмарыял шасьцікутніка. Дзейнасьць — лепшая форма змаганьня, і калі абставіны вымагаюць, дык пайсьці і ў КЦАБ ды *«змагацца тамака з расейцамі загрудкі»*.

Радны Я. Ніхаёнак — лічыць ня зусім правідловым, што ў адносінах да амэрыканцаў націск робіцца толькі на афіцыйныя колы, калі трэба часам ісьці «заднім ходам». На палітыку ЗША моцна ўплываюць розныя групы (юніі, фэдэрацыі, бізнэсмэны). Захады трэба рабіць ня толькі ў Вашынгтоне, бо адміністрацыя тамака мяняецца. Трэба шукаць бізнэсмэнаў, гатовых рабіць інвэстыцыі на Беларусі, каторыя змогуць адпаведна ўзьдзейнічаць на палітыку. Таксама неабходна мець кантакт з арганізаваным грамадзянствам.

Радны Я. Арцюх — запытваецца па інфармацыю аб канфэрэнцыі БАФ у Лёндане[577], ці БССР прызнаная Вашынгтонам дэ юрэ і якія дачыненьні амэрыканскага ўраду да Болэна[578]?

Сп. Прэзыдэнт — адказвае, што канфэрэнцыя БАФ'у ў Лёндане прыняла рэзалюцыі ў духу створанага Парыскага блёку, і БАФ проста захоўваецца як аднойчы створаная арганізацыя.

Амэрыканскія ўлады не прызнаюць БССР самастойнай дзяржавай, а проста фікцыяй, і амэрыканскія дзейнікі ня раз зазначалі, каб рыхтаваліся да пераняцьця ўлады, але афіцыйна і адкрыта гэтага ніхто не даб'ецца.

Болэн пасылаецца паслом у Маскву проста з куртуазнасьці, як больш прыймальны ў дзяржаве прызначэньня. Кэнан[579] сваёй дзейнасьцю проста прайграў.

Радны М. Панькоў — адзначае, што на яго думку цьверджаньне раднага Ліманоўскага аб нязьменнасьці амэрыканскае палітыкі памылковае, і мы можам прычакаць шмат спрыяльнейшых абставінаў. Ня лічыць таксама правідловым цьверджаньне, што калі мы ня пойдзем на ўступкі АмКамітэту, дык апынемся ў тупіку. Адзначае ўзрастаючае кола прыхільнікаў у гэтым кірунку, які бароніць палітык і дзеяч Джэмс Бэргэм[580]. Зазначае недастат-

[577] Надзвычайны з'езд дэлегатаў і ўпаўнаважаных Беларускага антыбальшавіцкага фронту адбыўся ў Лондане 7–8 сакавіка 1953 г. Прысутнічалі прадстаўнікі арганізацыі ў Вялікабрытаніі, Бельгіі, Нямеччыне і Францыі. На з'ездзе былі разгледжаны дачыненні з Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі і Каардынацыйным цэнтрам антыбальшавіцкай барацьбы.

[578] **Чарльз Болен** (*Charles Eustis Bohlen,* 1904–1974), амерыканскі дыпламат, у 1953–1957 гг. амбасадар ЗША ў СССР.

[579] **Джордж Фрост Кенан** (*George Frost Kennan,* 1904–2005), амерыканскі дыпламат, палітолаг, гісторык, адзін з ідэолагаў «палітыкі стрымлівання» ў дачыненні да СССР у часы «халоднай вайны». У траўні–верасні 1952 г. ён быў амерыканскім амбасадарам у СССР. Абвінавачаны савецкім бокам у антысавецкіх выказваннях, быў абвешчаны ворагам і персонай *non grata* у СССР.

[580] Маецца на ўвазе **Джэймс Бэрнгэм** (*James Burnham,* 1905–1987), амерыканскі палітычны дзеяч і філосаф. У 1953 г. ён з'яўляўся спецыяльным дарадцам Дзярждэпартамента ЗША па савецкіх пытаннях і выдаў кнігу *Containment or*

ковую інфармацыйную дзейнасьць нашых арганізацыяў, асабліва ў галіне эканомікі Беларусі навонкі.

Радны Уладыка Васіль — пытаецца, ці сп. Прэзыдэнт наважа лучнасьць з Дж. Бэргэмам.

Радны Я. Станкевіч — адзначае, што БАФ — арганізацыя слабая, і на справы трэба глядзець рэальна, а не праз ружовыя акуляры, што ў нас усё ўжо асягнута. Замежная палітыка — толькі адна галіна дзейнасьці, ёсьць іншыя галіны дзейнасьці, і Прэзыдэнт павінен сказаць аб іншых справах. Гэта калі ня будзе нутраной дзейнасьці, дык і вонкавая дзялянка будзе надарэмнай. Патрэбны часапіс у ангельскай мове, патрэбна інфармацыйная служба для інфармацыі чужых аб нашых справах. Падчырквае, што прапаганда не праводзіцца. Прайграная таксама і акцыя зь няўдалым папескім лістом. Таксама нічога ня зроблена для ўсьведамленьня беларусаў-каталікоў у Амэрыцы, і дагэтуль няма часапісу друкаванага лацінкай.

Радны Б. Даніловіч — адзначае, што ня варта выдаваць часапіс лацінкай, бо нават «Бацькаўшчына» і тая ня мае ў Амэрыцы 100 падпішчыкаў[581].

Радны Я. Арцюх — падае, што інфармацыя робіцца, агляд беларускае прэсы, які ён робіць штодва тыдні, пасылаецца ў Вашынгтон на ангельскай мове.

Радны В. Тумаш — лічыць, што аканчальнай ацэны дзейнасьці АмКамітэту часова зрабіць цяжка. Непаінфармаванасьць на конта бягучай дзейнасьці працаўнікоў Рады выклікае часам непаразуменьні сярод нашай эміграцыі, чаго неабходна ўнікаць. Але нашыя справы ў ЗША падняліся. Шантаж з боку расейцаў змушае амэрыканцаў трымацца палітыкі непрадрашэнства, але падчырквае, што нашая дзейнасьць не павінна скіроўвацца і патрабаваць не падзелу Расеі, але права волі кажнаму народу. *«Мы зусім не такія слабыя, дывізіі ў нас будуць»*.

---

*liberation? An inquiry into the aims of United States foreign policy* (*New York: John Day Co., 1953*), дзе абгрунтоўваў неабходнасць падтрымання памкненняў паняволеных СССР народаў да незалежнасці. Кніга, як і сама канцэпцыя, была з ухвалай спаткана эміграцыйнымі коламі паняволеных народаў, у тым ліку і беларусамі (гл.: Крыга, А. Вызвольная канцэпцыя Джэмса Бэрнгэма // Бацькаўшчына. № 23 (154). 07.06.1953).

[581] Агульны наклад газеты «Бацькаўшчына», найбуйнейшага на той час эміграцыйнага выдання, складаў 1700 асобнікаў. Падпіска пакрывала толькі 10 % кошту газеты. Найбольш яна распаўсюджвалася праз адмысловых кальпартэраў. У ЗША разыходзілася найбольш асобнікаў газеты, каля 300, з іх па падпісцы каля 20. (Падрабязней гл.: Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага. Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» і «Беларус» (1947–2000). Мінск, 2006. С. 54–55).

Радны Уладыка Васіль — адзначае заслугі для нашае нацыянальнае справы ангельскіх палітычных дзеячоў Філера[582], Сьцюарта[583], арганізацыі Лігі маральнага адраджэньня, а ў ЗША гэтак-жа заслужоным робіцца Бэргэм.

Радны М. Гарошка — лічыць неабходнасьць збольшаньня інфармацыйнае працы навонкі і цясьнейшую супрацу з іншымі паняволенымі СССР народамі. Стварэньне Парыскага блёку для беларускае справы вельмі карыснае.

Радны Я. Станкевіч — прапануе вынесьці рэзалюцыю падзякі за дзейнасьць на карысьць беларускага вызвольнага руху а. Робэрт Ковалеру[584].

Прапанова прыймаецца аднагалосна.

Сп. Прэзыдэнт — у заключным слове шкадуе, што дыскусія адбывалася пераважна аб амэрыканскай, а не беларускай палітыцы, ня чуў ніякае крытыцы аб ягонай дзейнасьці і не атрымаў вытычынаў для далейшае. Зазначаны рыск шасьцікутніку быў, але ў кажным разе было гэта лепш таго становішча, у якім тады знаходзіліся. З замацаваньнем Парыскага Блёку ўмацуецца й нашае становішча. У гэтай дзейнасьці часам прыходзіцца пагаджацца на шматзначныя фармуліроўкі, якія і мы можам тлумачыць па-рознаму. Прызнае, што БАФ быў слабы, але захаваўся да канца вытрымана і належна, хоць удзельнікам яго гэта каштавала шмат нэрваў і здароўя, вывязаўся із свайго заданьня.

Нязьменнасьць палітыкі непрадрашэнства і змусіла стварыць Парыскі блёк, які ня выключае і дыплёматычнае вайны з насіцелямі палітыкі ўва амэрыканскім урадзе, калі ня будуць прынятыя прынцыповыя пункты блёку. Сп. Прэзыдэнт адзначае, што мы павінны разумець абставіны, матывы палітыкі амэрыканцаў, і ў выпадку, калі нельга перамагчы, трэба датарновывацца да абставінаў, але працаваць і быць у сталым руху. Нэгацыя да ўкраінскіх дзейнікаў за іхнюю вострую пастаноўку пытаньня ўсім ведамая. Зрабіць уплыў на зьмену апініі можна праз кантакт, супрацоўніцтва. Гэта зазначылі й прыхільныя нашай справе аўтарытэты, як праф. дэ Гонці, на якога і абапіраецца ў сваёй дзейнасьці Бэргэм.

---

582 Маецца на ўвазе **Джон Фрэдэрык Чарльз Фулер** (*John Frederick Charles Fuller,* 1878–1966), брытанскі генерал, вайсковы гісторык і тэарэтык, пазнейшы аўтар трохтомнай «Ваеннай гісторыі Заходняга свету» (*The Decisive Battles of the Western World and their Influence upon History. London, 1954–1956).* У 1953 г. ён быў аўтарам прадмовы да выдання Шатландскай лігі за еўрапейскую свабоду *National Problems in the U.S.S.R.* Міколы Куліцкага.

583 **Джон Сцюарт** (*John F. Stewart*), брытанскі грамадскі дзеяч, старшыня Шатландскай лігі за еўрапейскую свабоду, прыхільнік канцэпцыі падтрымкі незалежнасці паняволеных СССР народаў. У 1952 г. ён скіраваў у Ватыкан пратэст супраць «Апостальскага ліста да ўсіх народаў Расіі» папы Пія XII. У 1953 г. быў аўтарам уводзінаў да кнігі *National Problems in the U.S.S.R.* украінца Міколы Куліцкага.

584 Маецца на ўвазе а. Роберт ван Кавэлярт.

Прэзыдэнт таксама паведамляе, што партызанка на Беларусі падхапіла нашыя лёзунгі, але наколькі яна шырокая, дзеля абмежаванай магчымасьці сувязі з Бацькаўшчынай сёньня дакладна падаць ня можа.

Сп. Прэзыдэнт спадзяецца да наступнага паседжаньня Рады скончыць акрэсьленьне справы блёку і прадставіць на Радзе аканчальныя вынікі.

Першае паседжаньне VII Сэсіі Рады БНР скончана а гадзіне 9:00.

## Пратакол другога паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 7-га лістапада 1953 году; а гадзіне 12

Прысутнічалі: спадар Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 37 радных.

На пачатку паседжаньня зьнечаргі заслухалі сумную вестку аб сьмерці раднага сьв. п. інж. Лявона Рыдлеўскага[585], памяць якога ўшанавана ўставаньнем і хвілінай маўчаньня.

Прэзыдэнт коратка падаў да агульнага ведама жыцьцёвы шлях сьв. п. інж. Л. Рыдлеўскага, а таксама паведаміў аб матэрыяльных цяжкасьцях у сувязі з паховінамі раднага[586].

Па нязначнай дыскусіі й паданьні некалькіх прапановаў прынята аб’еднаная пастанова: Кошты паховінаў пакрыць з касы Рады БНР у памеры 200 даляраў, а сярод радных і шырэйшага грамадзянства сабраць грошы на помнік на магіле сьв. пам. інж. Л. Рыдлеўскага[587].

У парадку дзённым старшыня Сэсіі сп. А. Махноўскі паведамляе аб новым парадку працаў Сэсіі, які па некаторай дыскусіі застаецца нязьменным.

1. Даклад Прэзыдэнта Абрамчыка на тэму аб вонкавай сытуацыі і нашай вонкавай палітыцы за апошні час.

а. Дыскусіі па дакладу.

б. Пастановы па дакладу.

2. Нутраныя справы.

а. Справаздача Прэзыдыюму Рады;

б. Справаздача Ураду;

в. Дыскусіі па справаздачам.

3. Уканстытуяваньне Прэзыдыюму Рад і Ураду БНР.

4. Фінансавыя справы.

5. Бягучыя справы.

6. Закрыцьцё Сэсіі.

Радны М. Панькоў — падае думку, што пункт першы парадку дня ўжо быў разгляданы на першым паседжаньні Сэсіі, і прапануе перайсьці да разгляду другога пункту парадку дня.

---

585 Радны БНР Лявон Рыдлеўскі памёр у Лондане 24 кастрычніка 1953 г.

586 Лявон Рыдлеўскі на эміграцыі не меў сям’і і зберажэнняў. Апошнія гады сур’ёзна хварэў і пераехаў з Парыжа ў Лондан пад апеку айцоў марыянаў, бо не меў сродкаў.

587 Помнік на магіле Лявона Рыдлеўскага быў пастаўлены сіламі Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі.

Прэзыдэнт — падае, што за час ад першага да цяперашняга паседжаньня мінула больш шасьцёх месяцаў, і таму неабходна зрабіць агляд і прадыскутаваць шэраг вельмі важных падзеяў, якія шмат зьмянілі ў вонкавай сітуацыі нашае становішча.

Старшыня Сэсіі А. Махноўскі — адзначае, што прымаючы пад увагу адказ і довады сп. Прэзыдэнта, лічыць аднак, патрэбным спачатку разгледзіць 2-і пункт парадку працаў Сэсіі, каб потым аднадумна выступаць у пытаньнях вонкавае палітыкі.

Радны В. Тумаш — паведамляе аб няпрыезьдзе раднага А. Каханоўскага і ягонай просьбе не прыймаць ніякіх важных пастановаў у ягонай адсутнасьці, бо ён мае пэўныя засьцярогі.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што спачатку трэба разглядаць прынцыповыя, г. зн. вонкавыя справы, каб выступаць кампактна. Лічыць, што на нутраныя справы будуць страчаныя 2 дні працаў Сэсіі, і нічога ня зробіцца.

Радны А. Махноўскі — зазначае, што ад палагоджаньня ненармальнага нутранога становішча залежаць і пастановы па справах вонкавых.

Радны Л. Галяк — прапануе кампрамісную пастанову аб выбары арбітражнае камісіі, якая будзе працаваць незалежна ад працаў Сэсіі і пазьней падасьць Сэсіі свае пастановы на зацьверджаньне.

Радны А. Махноўскі — катэгарычна ставіць справу разгляду спачатку нутраных справаў, або ў кажным разе патрабуе ад Прэзыдэнта заняць у справе канфлікту між раднымі становішча. У выпадку ні таго, ні другога паведамляе, што будзе змушаны пакінуць працы Сэсіі.

Радны Ст. Грынкевіч — апэлюе да сумленьня радных і заклікае пакінуць і забыцца на асабістыя абразы ды прыступіць да разгляду вонкавых спраў.

Радны А. Орса — падтрымлівае прапанову раднага А. Махноўскага і зазначае, што не залагодзіўшы нутраных справаў і прыняўшы рэзалюцыі па вонкавых, пры няпэўнасьці побыту тут Прэзыдэнт, які зноў можа выехаць у Эўропы, і тады апынемся перад становішчам, што прынятыя пастановы ня будзе каму выконваць, як гэта было пасьля першага паседжаньня. Нарэшце ён пытаецца, ці могуць на паседжаньні Рады прысутнічаць асобы, публічна абвешчаныя правакатарамі і агентамі?

Прэзыдэнт — зазначае, што ён доўга думаў і радзіўся, чуў розныя прапановы, але ня бачыць магчымасьці заняцца цяпер нутранымі справамі, бо гэта змусіла-б яго адыйсьці ад міжнароднае, вонкавае арэны, чаго зрабіць нельга. Вось і цяпер ён мае выклік у Вашынгтон, на нараду з адм. Стывэнсам і паседжаньні з Амэрыканскім аддзелам Парыскага блёку. Вынесьці некаму кары для яго вельмі цяжка, і ён ня лічыць сябе нагэтулькі аўтарытэтным. Думае калі-б радныя выслухалі ягоны даклад, абдумалі яго й вынесьлі свае пастановы, дык шмат чаго адкінулі-б з свайго цяперашняга станаўленьня ў нутраных справах. Яму неабходна ведаць і мець пастановы Рады дзеля дзейнасьці на прадстаячых яму канфэрэнцыях. Не дапускае нават, каб дайшло да таго, што паседжаньні скончацца без пастановаў, быццам вон-

кавыя справы нас зусім не цікавяць. Ён лічыць, што так думалі і ўдзельнікі нядаўняй нарады.

Радны А. Махноўскі — лічыць, што разгляд агульнага нутранога комплексу спраў і непаразуменьняў толькі паможа ўсім быць пэўнымі ў пытаньнях вонкавае палітыкі.

Радны А. Адамовіч — зазначае, што абедзьве лініі, нутраная і вонкавая, важныя, і разгляд іх толькі паможа ў працах Сэсіі. Сьцьвярджае свой удзел у нядаўняй нарадзе апазыцыі з Прэзыдэнтам і прыпамінае Прэзыдэнту ўзятыя там забавязаньні: 1. дасьць асуджэньне тым, што абражалі радных; 2. будзе выбраная камісія дзеля разгляду справаў канфлікту.

Прэзыдэнт — лічыць, што ён ня здолее паўтарыць выказаныя на той нарадзе чатыры погляды закідаў у вядзеньні ім вонкавае палітыкі, сьцьвярджае, што яму цяжка разабрацца, дзе праўда, а дзе няпраўда. Асуджэньне ён зрабіў, хоць іншымі словамі, каб унікнуць рэзкасьцей, але выносіць караў і пастановаў ня можа, што мусіць зрабіць камісія.

Радны Ул. Русак — уважае, што нутраныя справы ўзьніклі з вонкавых, і таму, на яго думку, лепей спачатку разгледзіць вонкавыя справы, пасьля чаго згладзяцца рэзкасьці ў нутраных пытаньнях.

Радны Уладыка Васіль — лічыць, што трэба разглядаць вонкавыя справы, каб даць магчымасьць далейшае дзейнасьці сп. Прэзыдэнту. Нутраныя-ж справы — гэта нашыя нутраныя справы, і могуць быць адкладзеныя на пазьней. Выбраць камісію, якая-б разгледзіла пытаньні і дала-б свае прапановы ўзгодненьня з сп. Прэзыдэнтам.

Радны П. Манькоўскі — уносіць прапанову: 1. Хто за тое, каб разглядаць справы вонкавыя перад нутранымі? 2. Ці выбіраць камісію для разгляду нутраных спраў? 3. Калі № 2 вырашаны пазытыўна: выбраць камісію сяньня ці выбраць яе тады, калі прыступіцца да разгляду нутраных спраў?

Старшыня А. Махноўскі — лічыць аднак неабходным разгляд нутраных справаў насамперад.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць лёгічным працягнуць і скончыць даклад сп. Прэзыдэнта, каб ведаць, дзе мы знаходзімся. Камісія-ж выбраная працавала-б у часе між паседжаньнямі Сэсіі і падала-б свае прапановы на адным з апошніх паседжаньняў.

Радны Я. Станкевіч — адзначае, што і вонкавая, і нутраная справы павязаныя між сабою і зьяўляюцца справай змаганьня беларускага народу за свае правы. Кажная вонкавая справа праводзіцца нейкім нутром, і калі нутро гнілое, непрацаздольнае, дык ня можа быць і ніякае вонкавае справы. Прапануе кампраміс: выбраць камісію дзеля разгляду нутраных непарадкаў і перайсьці да разгляду вонкавых справаў. Уважае, што кіданыя абразы нікому шкоды не зрабілі апрача самага кідаўшага гэтыя абразы.

Радны Б. Данілюк — канстатуе бесталач і бясплоднасьць спрэчак ды прапануе скончыць іх і выбраць адразу камісію.

Радны М. Цэлеш — адзначае, што спрэчкі вядуцца па справах канфлікту многім зусім няведамага. Просіць выказаць справу ясна, каб не гаварыць бясконца, а потым выбраць камісію, і хай яна над гэтым працуе.

Галасаваньне за паступіўшыя тры прапановы:

Прапанова раднага Л. Галяка: за — 29, супраць — 0, устрымаліся — 3.

Прапанова раднага П. Манькоўскага: за — 7, супраць — 0, устрымаліся — 0.

Прапанова раднага Б. Данілюка — прапаноўца далучае сваю прапанову да прапановы раднага Л. Галяка.

Большасьцю прыймаецца прапанова раднага Л. Галяка.

Старшыня А. Махноўскі — прапануе адразу выбраць камісію.

Радны Л. Галяк — удакладняе сваю прапанову, прайшоўшую галасаваньне: камісія складаецца з 3-ох асобаў: па аднэй з зацікаўленых старонаў і адзін нэўтральны (калі гэткі знойдзецца); староны вызначаюць сваіх прадстаўнікоў, а нэўтральны выбіраецца на паседжаньні Рады. Камісія праводзіць апытаньне абражаных сяброў і потым робіць свае прапановы Сэсіі. Галасаваньні на камісіі адбываюцца паіменна дзеля дакладнасьці. Усе матэрыялы поўнасьцю мусяць быць паданыя зацікаўленым за пакрыцьцё коштаў перапіскі іх. Камісія працуе на працягу аднаго месяца і свае прапановы падае на вырашэньне Сэсіі Рады.

Радны А. Орса — пытаецца, ці камісія мае права ўнікаць ува ўсе дакумэнты?

Радны Я. Станкевіч — жадае, каб камісія разгледзіла ўсю шкодную дзейнасьць і шкодную бязьдзейнасьць.

Радны П. Манькоўскі — думае, што камісія мае права разглядаць толькі пададзеныя ёй зацікаўленымі пытаньні, але ня можа мець аніякіх экстра правоў.

Радны М. Тулейка — лічыць, што камісія трох будзе поўнасьцю працаздольнай, але прапануе, каб усе тры асобы ў камісію былі выбраныя непасрэдна Радаю, давераных асобаў без узгляду на іхную прыналежнасьць да тэй ці іншай зацікаўленай стараны.

Радны Я. Станкевіч — у справе складу камісіі падтрымлівае прапанову раднага Л. Галяка.

Радны Ф. Кушэль — настайвае, што камісія мусіць складацца толькі з аб’ектыўных асобаў, стаячых зусім далёка ад разгляданае справы. Судзьдзёй можа быць толькі аб’ектыўны чалавек, каб прыймаць поўнасьцю бесстаронныя пастановы.

Радны Я. Станкевіч — папраўляе раднага Ф. Кушэля, падчырківаючы, што гэта будзе толькі камісія, а ня суд.

Радны С. Кірылік — прапануе выбраць у камісію трох сумленных людзей.

Радны Л. Галяк — абгрунтоўвае правы і абавязкі камісіі, спасылаючыся на працу пашыраных у ЗША арбітражных камісіяў.

Радны М. Тулейка — прапануе канкрэтна вызначыць асобаў і выбраць камісію.

Радны Н. Краўцэвіч[588] — зазначае, што прапанова раднага Л. Галяка прынята вялікай большасьцю і лічыць, што вяртацца да яе разгляду няма патрэбы.

Радны Г. Паланевіч — падае кандыдатамі ў камісію трох радных: Л. Галяка, П. Манькоўскага і М. Тулейку.

Радны А. Шукелойць — падтрымлівае прапанову раднага Л. Галяка.

Радны П. Манькоўскі — настайваець на выбары камісіі з поўнасьцю нэўтральных асобаў.

Радны Я. Ліманоўскі — згаджаецца з думкаю раднага П. Манькоўскага і лічыць, што камісія мусіць мець сваім абавязкам толькі згладзіць рэзкасьці.

Радныя У. Русак і Я. Станкевіч — лічуць нэўтральную камісію фікцыяй.

Радны С. Кірылік — прапануе прыступіць да выбараў камісіі.

Радны Ю. Старасельскі — прапануе пашырыць склад камісіі да пяцёх асобаў.

Галасаваньне за паступіўшыя прапановы:

Прапанова Галяк-Станкевіч — 3 асобы: за — 13, супраць — 3, устрымалася — 10.

Прапанова Кушэль-Манькоўскі — 3 асобы нэўтральныя: за — 8, супраць — 8, устрымалася — 11.

Большасьцю прыймаецца прапанова Галяка-Станкевіча.

Прэзыдэнт — абгрунтоўвае свае думкі і прапануе выбраць камісію з трох нэўтральных асобаў, калі гэткія знойдуцца.

Галасаваньне за нэўтральных асобаў у камісію:

Радны Ст. Грынкевіч — адмовіўся.

Радны Н. Краўцэвіч — за 6 галасоў.

Радны А. Стагановіч — за 22 галасы.

Нэўтральнай асобай у камісію выбіраецца большасьцю радны А. Стагановіч.

Старшыня А. Махноўскі абвяшчае абедзенны перапынак на 1 гадзіну.

А гадзіне 3:45 вечара працягваецца праца Сэсіі па абедзеным перапынку.

Старшыня А. Махноўскі — паведамляе, што адна старана выставіла сваім прадстаўніком у камісію раднага А. Адамовіча, а выстаўлены кандыдат другой стараны П. Манькоўскі — адмовіўся.

Радны М. Панькоў — прапануе ў камісію раднага М. Гарошку.

Радны Г. Паланевіч — падтрымлівае кандыдатуру М. Гарошкі.

Радны М. Гарошка — спрабуе адмаўляцца, спасылаецца на тое, што можа быць неаб’ектыўным.

Радны А. Орса — зазначае, што справы тут не асабістыя, як увесь час імкнецца іх насьвятляць адна са старонаў, каб унікнуць адказнасьці, але дзяржаўныя, і патрабуюць станоўкага вырашэньня.

Радны А. Адамовіч — лічыць справы годнымі ўвагі й працы, ахвяруецца дзеля гэтага й заклікае раднага Гарошку зрабіць тое самае.

[588] **Ніл Краўцэвіч** (25.09.1900–23.04.1967, ЗША), грамадскі дзеяч. Удзельнік Сабора ў Канстанцы ў 1948 г., дзе была адноўлена БАПЦ.

Радны Я. Станкевіч — адзначае, што радны Гарошка зусім слушна можа рэпрэзэнтаваць у камісіі другую старану, бо належыў да яе і дзеяў у складзе «Фінансавага ці Палітычнага бюро».

Прэзыдэнт — запрашае скончыць спрэчкі і лічыць, што адмаўляцца ад удзелу ў працах камісіі ня трэба і няма чаго гэтага палохацца.

Радны М. Гарошка — згаджаецца ўвайсьці ў склад камісіі, калі яго да гэтага выбярэ паседжаньне.

Галасаваньне за кандыдатуру раднага М. Гарошкі ў камісію: за — 14, супраць — 0, устрымалася — 6.

Радны А. Орса — прапануе вызначыць тэрмін дзеля працаў камісіі, каб не расьцягваць справу ў бязьмежнасьць.

Радны М. Міцкевіч — выказвае пажаданьне, каб камісія скончыла працу на працягу гэтай Сэсіі Рады.

Галасаваньне: камісія мае скончыць сваю працу на працягу 6-ёх тыдняў: за — 18, супраць — 0, устрымалася — 4.

Прэзыдэнт — катэгарычна патрабуе, каб пратаколы працаў камісіі рабіліся толькі ў адным паасобніку і па заканчэньні працаў камісія павінна перадаць усе матэрыялы выканаўчаму органу Рады, каб яны не маглі набыць шырэйшага разгалосу.

Зачытваецца зварот Канадзкага сэктару Рады БНР да ўдзельнікаў Сэсіі Рады.

Да пункту 1: Даклад Прэзыдэнта на тэму аб вонкавай сытуацыі і нашай вонкавай палітыцы за апошні час.

Прэзыдэнт прызнае, што ўсё рабіў, выходзячы з свае палітычнае канцэпцыі і перакананьняў, выробленых ягонай палітычнай школай.З вывучэньня гісторыі змаганьня за сваю незалежнасьць іншых народаў, з чаго зрабіў выснаў, што ўсё залежыць ад спрыяльных вонкавых абставінаў для паўстаньня незалежнасьці паняволеных народаў пры наяўнасьці, зразумела, нутраных дадзеных дзеля гэтага. Пераконаны, што так было і так будзе. Вось таму ён усё рабіў, кіруючыся гэтым вымаганьнем, і ўсе свае сілы за апошні час аддаў вонкавай палітыцы, здабываючы прыхільныя вонкавыя абставіны для нашае справы. Лічыць, што кіруючым дзейнікам у фармаваньні ўсходняе палітыкі зьяўляюцца ЗША, якія стаяць на прынцыпе непрадрашэнства ў арганізацыі эміграцыі народаў Усходняе Эўропы. Таму думае, што да амэрыканскіх поглядаў схіляюцца і падтрымліваюць іх Англія і Турэччына. Палітыка Францыі, якая пад сталымі пагрозамі з боку Нямеччыны, прыхільная да вялікае Расеі, вымагала падзелу Нямеччыны на дробныя краіны — правалілася.

Пры гэткай вонкавай сытуацыі стане зразумелай устаноўка Прэзыдэнта ўдзельнічаць у гэтай палітыцы Амэрыканскага камітэту, рабіць уплывы. Сьцьвярджае правільнасьць гэтае ўстаноўкі і перамена арыентацыі палітыкі ўкраінцаў, якія спачатку адмоўна расцэньвалі дзейнасьць БНР. УКК[589] на

[589] Маецца на ўвазе Украінскі кангрэсавы камітэт Амерыкі.

чале з праф. Дабраньскім[590] зьмяніў сваю пазыцыю на 180є, і на мітынгу ў Мюнхэне агітуе за ўваход у КЦАБ пры ўмове зьмены назову Амэрыканскага камітэту вызваленьня народаў Расеі на АмКамітэт вызваленьня народаў СССР.

Штурхом да кансалідацыі дзейнасьці паняволеных бальшавікамі народаў былі закіды і цьверджаньне расейцаў, што ў выпадку падзелу СССР былі-б створаны другія Балканы ды немагчымасьць згавору нават паміж гэтых народаў, а таксама значны ціск з боку Вашынгтону. Прыйшлося гадзіцца на тых асновах, якія былі да прыняцьця, якія былі супольнымі для ўсіх, каб тыя, на якія нельга было згадзіцца, маглі быць часова адсунутымі, а пазьней з ходам падзей дыскутаваць над імі зноў. Гэтак паўстаў Парыскі Блёк. Пачатак яго ў нарадах у Карлсруэ. Затым ведамая Парыская канфэрэнцыя блёку, дзе іншыя народы прынялі пазыцыі беларусаў.

Затым прыезд у ЗША з даручэньнем весьці гутаркі з АмКамітэтам аб наладжаньні спэцыяльнае канфэрэнцыі. Згода АмКамітэту была-б раўназначная рэвізіі і перакрэсьліваньню датыхчасовае палітыкі. АмКамітэт спачатку адмовіўся на адрэз і радзіў уступаць у КЦАБ, каб перабудоўваць яго з сярэдзіны. Парыскі блёк паставіўся супраць уваходу ў КЦАБ, і тады АмКамітэт згадзіўся на скліканьне канфэрэнцыі, што і змусіла Прэзыдэнта сьпешна пакінуць тады ЗША і выехаць у Эўропу. Там яго спаткалі дакорам, што тым часам ніякай канфэрэнцыі ня склікана. Аказалася, што ў міжчасе Керанскі і амэрыканец Пэч[591] спрабавалі адцягнуць з Парыскага блёку паўночных каўказцаў і армянаў з абяцаньнем ім розных прывіляеў улучна да прызнаньня іхнае незалежнасьці. З прыездам у Мюнхэн гісторыя выкліканьня расколу паўтараецца, і робяцца спробы адцягнуць усіх ад украінцаў. Але ўрэшце амэрыканцы пагаджаюцца на канфэрэнцыю, але даюць зразумець, што без расейцаў канфэрэнцыя немагчымая. Расейцы зразумелі сваё далікатнае становішча і хацелі зрыву канфэрэнцыі пры першай нагодзе, але гэткім парадкам, каб адказнасьць за гэта падала на Парыскі блёк. Розныя правакацыйныя захады расейцаў былі, аднак, Парыскім блёкам дыпляматычна адсуненыя, і дзейнічаць прыходзілася вельмі асьцярожна. На канфэрэнцыі Прэзыдэнт як першы прамоўца і ўкраінцы гаварылі спакойна і абдумана, затое Керанскі прамаўляў незраўнаважана і стала агрэсіўна, што скампра-

---

[590] **Леў Дабраньскі** (1918–2008), амерыканскі палітычны і грамадскі дзеяч украінскага паходжання, прафесар Джорджтаўнскага ўніверсітэта, аўтар шматлікіх прац па міжнароднай эканоміцы і палітыцы. У 1949–1954 і 1962–1983 гг. — Прэзідэнт Украінскага кангрэсавага камітэту ў ЗША.

[591] **Айзек Пэтч** (*Isaac Patch*), амерыканскі дыпламат, які працаваў у Маскве і Празе. На пачатку 1950-х стаў палітычным каардынатара Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму. Ягонай задачай было наладзіць супрацу расійскіх і нерасійскіх прадстаўнікоў у Камітэце.

мітавала яго. Ад Парыскага блёку як апошні прамоўца адказаў Керанскаму Навасардзян[592], востра, але лёгічна.

Гэтак дайшло да стварэньня камісіі па 7 чалавек з кажнага боку. Керанскі набірае сабе прыхільнікаў (Гулай[593] і інш.). Пэч шукае выхаду і, каб абмежаваць вярбоўку прыхільнікаў Керанскага, згаджаецца на прызначэньне камісіі па 3 чалавекі з кажнага боку. Гэтак дайшло да канфэрэнцыі ў Тэгернзэе[594], дзе Парыскі блёк імкнецца зьмяніць дэфініцыі непрадрашэнства. Складаюцца 2 мэмарыялы. Спрэчнасьці, аднак, набываюць шырокі ход, і ў выніку ўсяго Керанскі, Мельгуноў і інш. пакідаюць канфэрэнцыю[595]. На дамаганьне расейцаў АмКамітэт прысылаець Кунікгольма і Келі[596]. Затым наступае поўны развал КЦАБ'у, і гэта прыводзіць да сяньняшняга становішча.

Як устаноўлена, АмКамітэт ня хочыць апіраць працы на статутовае формы і маюць намер весьці ўсё пры дапамозе кантактнае камісіі, ажыцьцяўляючы некаторыя канкрэтныя мерапрыемствы: радыё, інстытут. Супрацоўніцтва ў Мюнхэнскім Інстытуце[597] цяпер на парадку дзённым і дыскутуецца, і на працягу бліжэйшага часу ў гэтай справе будуць выкліканыя ў Мюнхэн сп.

---

592 **Ваан Навасардзян** (1888–1956), армянскі палітычны дзеяч, адзін з лідараў Дашнакцуцюн, рэдактар газеты «Усабер» (Каір, Егіпет).

593 **Дзямід Гулай**, колішні ўкраінскі казацкі дзеяч у Балгарыі. У паваенны час адзін са стваральнікаў Украінскага вызвольнага руху (УВР), у 1950-х гг. — старшыня Выканаўчага камітэта УВР. У некаторых украінскіх колах меў рэпутацыю авантурыста.

594 **Тэгернзэе** — горад на беразе аднайменнага возера ў Баварыі, дзе 31 траўня — 1 чэрвеня 1953 г. адбылася канферэнцыя ўдзельнікаў папярэдняй Парыжскай канферэнцыі і КЦАБа, мэтай якой была выпрацоўка прынцыпаў стварэння новага супольнага цэнтра антыбальшавіцкай барацьбы. У выніку канферэнцыі ў КЦАБе адбыўся раскол, частка расійскіх групаў на чале з Керанскім выказала пратэст супраць паразумення з Парыжскай групай і заснавала КЦАБ-2.

595 Падрабязна пра падзеі на канферэнцыі паведамляла газета «Бацькаўшчына». Гл.: (-іч). За праўдную каардынацыю. Спробы стварэньня запраўднага цэнтру. — Развал у цяперашнім КЦАБе // Бацькаўшчына. № 24 (155). 14.06.1953; (-іч). Канчальны развал КЦАБу // Бацькаўшчына. № 25 (156). 21.06. 1953; (-іч). Цэнтр будзе створаны? // Бацькаўшчына. № 26 (157). 28.06.1953.

596 **Роберт Келі** (*Robert F. Kelley*, 1894–1976), амерыканскі палітычны дзеяч, колішні кіраўнік Усходнееўрапейскага аддзела ў Дзярждэпартаменце ЗША. У 1950–1970-х гг. — кіраўнік Мюнхенскага аддзела Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму.

597 Маецца на ўвазе **Інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР**, заснаваны ў Мюнхене прадстаўнікамі расійскай эміграцыі і ад 1951 г. фінансаваны Амерыканскім камітэтам вызвалення народаў Расіі. Ад 1953 г. апошні ўзяў курс на пашырэнне прадстаўніцтва «нярускіх» у Інстытуце. Падрабязней пра гэтую ўстанову можна прачытаць: Гардзіенка, Наталля. Да гісторыі беларусаў у Мюнхенскім інстытуце вывучэньня СССР // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 422–438.

Абрамчык і Нікалаевскі[598]. Думаецца, што жаданьне стварыць каардынацыйны палітычны цэнтр змаганьня амэрыканцы зрэзыгнуюць. Магчыма, аднак, што будуць зробленыя нейкія пастановы і палітычнага зьместу.

Прэзыдэнт характарызуе партнэраў Парыскага блёку: Армяне — Дашнак-Цюцюн — запраўдная дзяржава на выгнаньні. Багатыя матэрыяльна і людзкім складам. Паўночныя каўказцы (чаркесы)[599], што выдаюць часапіс «Паўночны Каўказ» — вельмі салідны лічбова — і маюць свае цэлыя калёніі ў Турцыі, пераважна вайскавікоў, лікам да 2000000. Ідэл-Уральцы[600] — маловедамыя, але маюць свае вялікія калёніі пераважна ў Фінляндыі і Японіі (да 2000).

Прэзыдэнт дадае, што на ўсіх канфэрэнцыях [прысутнічалі] амэрыканцы і прадстаўнікі розных зацікаўленых дзяржаваў, хаця яны не выступалі афіцыйна.

На заканчэньне зьвяртаецца да радных, каб падалі свае крытычныя заўвагі адносна дзейнасьці і канцэпцыі, падалі свае прапазыцыі і далі пэўныя дырэктывы для далейшае дзейнасьці. Прызнаець, што часам можа і перараступаў свае прэрэгатывы, бо часта быў зьвязаны і змушаны паступаць так ці інакш разам з усім блёкам.

Радны Ст. Грынкевіч — просіць вестак аб групе Рэпіна[601] і яго прыняцьці ў КЦАБ.

Прэзыдэнт — пад той час у КЦАБ былі пададзеныя тры заявы: ад Астроўскага, Зарэчнага[602] і Рэпіна. Беларусаў доўга не прыймалі, што было ў

598 **Барыс Нікалаеўскі** (1887–1966), расійскі гісторык, палітычны дзеяч на эміграцыі. Ад 1940 г. жыў у ЗША. Выдаваў часопіс *За рубежом*. У 1948 г. стварыў Лігу барацьбы за народную свабоду, ад імя якой і дзейнічаў у Каардынацыйным цэнтры антыкамуністычнай барацьбы.

599 Паўночнакаўказскія народы ў Парыжскім блоку былі прадстаўлены **Цэнтральным камітэтам народаў Паўночнага Каўказа** на чале з яго генеральным сакратаром, унукам знакамітага Імама Шаміля Саідам Шамілем (1900–1981).

600 **Ідэль-уральцы** — прадстаўнікі народаў цюрка-татарскага паходжання, што жылі ў басейне ракі Волга (Ідэль) і на схілах Уральскіх гор. Геаграфічная назва «Ідэль-Урал» была прынятая пастановаю Нацыянальнага Схода 1917 г. ва Уфе. На эміграцыі ад імя ідэль-уральцаў выступаў **Цюрка-татарскі нацыянальны камітэт** на чале з палітыкам, пісьменнікам і журналістам Гаязам Ісхакі (1878–1954).

601 Маецца на ўвазе **інжынер Рэпін**, старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, якое паўстала ў Мюнхене 1 сакавіка 1953 г. Гэтая арганізацыі, складзеная з беларусаў, *«якія не стаяць на вузка нацыяналістычных пазіцыях»*, ад самага свайго заснавання цалкам падтрымала КЦАБ.

602 **Людвік Зарэчны** (сапр. **Галубовіч**, 17.05.1915, Ратамка пад Мінскам — 15.09.1964, Мюнхен-Гладбах, Нямеччына), вайсковы і грамадскі дзеяч. Праз хваробу бацькі мусіў кінуць школу і ў 16 гадоў пайсці працаваць. Уладкаваўся на сакратарскую працу ў трэсце «ЛесБел». Пазней, магчыма, працаваў у іншых установах цягам чатырох гадоў. Атрымаць вышэйшую адукацыю не паспеў. У 1935 г. быў асуджаны на шэсць гадоў зняволення, аднак, праз пяць гадоў вызвалены

связі з ведамым ужо даносам на Прэзыдэнта БНР[603]. Магчыма, Керанскаму радзілі ўстрымацца з прыняцьцём Астроўскага, каб не скампрамітаваць КЦАБ. Пасьля-ж застаўся толькі адзін кандыдат да прыняцьця — Рэпін.

Радны Б. Данілюк — пытаецца аб справе з радыёперадачамі.

Прэзыдэнт — адзначае, што каб заняць пэўныя пазыцыі ў праектаваных радыёперадачах, і быў створаны сваім часам БАФ, але расейцы зьвязывалі з гэтым палітычныя пытаньні, і БАФ, як ведама, пакінуў КЦАБ. Цяпер справа радыёперадачаў незалежна ні ад каго. Сьпіс беларускіх кандыдатаў паданы (Жук-Грышкевіч, Я. Ліманоўскі і Я. Гуткоўскі[604], апошні тым часам адмовіўся); агулам патрэбны 5 чалавек. Рэшта будзе супрацоўнічаць «скрыптамі»[605], дзеля чаго думаецца арганізаваць «экіпу»[606]. Аднак гэта справа яшчэ нясьпешная, бо будзе актуальнай не раней пары месяцаў.

Радны А. Адамовіч — просіць шырэй падаць справы з «скрыптамі».

Прэзыдэнт — прапануе аднесьці гэта лепей да разгляду нутраных справаў. Для радыёперадачаў даюць толькі 15 мінутаў штодзённа, а ён патрабуе 30 мінутаў, бо мы іншых перадачаў пакуль ня маем.

Радны А. Адамовіч — пытаецца, як абстаіць справа з статутам МАКЦ[607] і ягонай ратыфікацыяй.

---

і працаваў у Хабараўску. У Беларусь вярнуўся ў 1941 г. і хутка быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Трапіў у нямецкі палон, з якога быў вызвалены ўвесну 1942 г. Працаваў у структуры Вермахту. Займаў становішча інспектара пры 9-й арміі па наглядзе за дзейнасцю мясцовых аддзелаў паліцыі, а таксама працаваў на іншых пасадах. Пасля капітуляцыі Нямеччыны больш за два гады знаходзіўся пад арыштам. Аднак па вызваленні навязаў кантакты з Брытанскай адміністрацыяй у Нямеччыне і ў 1949–1953 гг. працаваў у сістэме Брытанскай кантрольнай камісіі на Нямеччыну на становішчы дарадчыка па пытаннях савецкай сістэмы і яе органаў. Здолеў зацікавіць Брытанскую выведку справай арганізацыі беларускага збройнага супраціву ў БССР, ладзіў навучанне дыверсійных групаў. У 1952 г. пры падтрымцы Р. Астроўскага заснаваў арганізацыю беларускіх вайскоўцаў на эміграцыі Беларускі вызвольны рух, які дэклараваў сваю цесную сувязь з антысавецкім падполлем у Беларусі.

[603] Маецца на ўвазе пададзены ў ліпені 1952 г. ад імя Беларускага вызвольнага руху (арганізацыі прыхільнікаў БЦР) мемарыял у Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі, дзе сцвярджалася, што адзіным законным прадстаўніцтвам беларусаў на эміграцыі з'яўляецца *«не авантурыстычная група інж. Абрамчыка»*, а Беларуская Цэнтральная Рада. (Гл.: Каранеўскі, Язэп. Перастараліся, гаспадарове // Бацькаўшчына. № 39 (118). 28.08.1952).

[604] **Язэп Гуткоўскі** (сапр. **Ізідар Плашчынскі**, 24.06.1908, в. Каралішчавічы Менскага пав. (сёння Мінскі р-н) — 25.02.1986, Нью-Ёрк), грамадскі дзеяч, публіцыст. (Больш падрабязную біяграфічную інфармацыю глядзі ў раздзеле «Асобы».)

[605] **«Скрыпт»** (ад анг. *script*) — тут маецца на ўвазе сцэнар для радыёперадачы.

[606] **«Экіпа»** (магчыма, ад франц. *equipage*) — у значэнні: суправаджэнне.

[607] **Міжнацыянальны антыбальшавіцкі каардынацыйны цэнтр** (МАКЦ) паўстаў 17 чэрвеня 1953 г. на канферэнцыі ў Мюнхене ў выніку пагаднення

Прэзыдэнт — адзначае, што статут МАКЦу сяньня неактуальны; статут ня быў падпісаны і ніхто яго не ратыфікаваў, бо зьмянілася сытуацыя. Аднак, гэта трэба разгледзіць, каб у будучыне ведаць, як паступаць.

Радны А. Адамовіч — пытаецца, як разумець вестку, пададзеную ў газэце «Українські Вісті» (№ 64 (735) за 9.VIII.53) аб «Палітычным Цэнтры Беларускай Народнай Рэспублікі»?

Прэзыдэнт — сьцьвярджае, што нічога падобнага ня было, і весткам украінскай прэсы нельга даваць веры. Існавалі розныя праекты назову, ад каго падпісваць статут. Радны Ст. Станкевіч прапанаваў Вызвольную Раду ці Раду Вызваленьня, але пазьней гэта сталася неактуальным. Як недакладнасьць з прыкладу ўкраінскае прэсы зачытвае інтэрв'ю Вітвіцкага ў «Свабодзе»[608].

Радны А. Шукелойць — пытаецца, як стаіць справа ў Радзе УНР пасьля выхаду зь яе Выканаўчага органу мельнікаўцаў[609]?

Прэзыдэнт — адзначае, што ўкраінскія справы нам амаль заўсёды стаялі на перашкодзе, а сяньня сярод іх пануе мітусьня і неразьбярыха. Мельнікаўцы выйшлі з Ураду УНР, але ня з Рады. Каб утрымаць раўнавагу, да Рады цяпер прыймаюць новую, шостую партыю, здаецца, таго самага Даленко[610], які падаваў аб гэтым просьбу ўжо раней.

Да пункту 1а. Дыскусія па дакладу

Радны Я. Станкевіч — зазначае, што дзеля таго, што ў статуце МАКЦ ёсьць пункт, які гаворыць аб тым, што падпісаўшыя яго ня лічуць сябе за зародкі будучых дзяржаваў[611], а таму падпісаўшы яго Рада самазьліквідавалася-б. Ні Урад, ні Рада БНР ня могуць яго падпісаць. Зноў-жа, арганізацыя, якая-б падпісвала падобныя статуты, мусіць быць паважнай. Да такой арганізацыі могуць належаць і радныя, але там яны не павінны выступаць як гэткія.

Радны П. Манькоўскі — прапануе зачытаць статут МАКЦу.

Радны А. Адамовіч — падтрымлівае прапанову.

Прэзыдэнт — згаджаецца з думкамі раднага Я. Станкевіча і зачытвае статут МАКЦу ў арыгінале (на расейскай мове), даючы да кажнага пункту гісторыю спрэчак па ім і свае камэнтары.

прадстаўнікоў экзільных урадаў Парыжскага пагаднення, нерасійскіх народаў КЦАБа, а таксама расійскіх Лігі змагання за народную свабоду Барыса Нікалаеўскага і Саюза барацьбы за вызваленне народаў Расіі (СБОНР). Паведамленне пра заснаванне арганізацыі і яе Статут былі апублікаваныя ў газеце «Бацькаўшчына» (№ 29 (160). 19.07.1953)

608 **«Свабода»** — украінская газета ў ЗША. Выходзіць ад 1893 г.

609 Маецца на ўвазе група АУН (м), створаная з прыхільнікаў украінскага палітычнага і вайсковага дзеяча Андрэя Мельніка (1890–1964).

610 **Уладзімір Даленка** (1889–1961), украінскі палітычны дзеяч.

611 Маецца на ўвазе п. 5 «Агульных асноваў» Статута МАКЦ, дзе ёсць словы: *«...Арганізацыі, уваходзячыя ў гэты Цэнтр, не разглядаюць сябе ў якасьці зародкаў будучых дзяржаўных ворганаў...»* (Гл.: Статут Міжнацыянальнага Антыбальшавіцкага Каардынацыйнага Цэнтру (МАКЦ) // Бацькаўшчына. № 29 (160). 19.07.1953).

Радны Л. Галяк — просіць зачытаць паўторна пункт 2 статуту[612] і прапануе паправіць яго дадаткам, што ў яго ўваходзяць толькі тыя народы, якія маюць прэтэнзіі да незалежнасьці. Просіць выказацца па пунктах усіх радных, асабліва аб пункце, дзе гаворыцца аб агрэсіі СССР.

Радны Я. Ліманоўскі — параўноўвае статуты КЦАБ'у і МАКЦ'у ды выказваецца на карысьць статуту МАКЦ.

Радны П. Манькоўскі — прапануе ўнесьці дадаць у пункце 11 словы *«шкодных актаў савецкай палітыкі»*[613].

Радны Уладыка Васіль — думае, што ліквідаваць акты тэрору будзе можна ўстанаўляць тэрмін выпраўленьня насьледкаў акупацыі некарысна для нас самых. Нічога страшнага ня бачыць у ліквідацыі актаў агрэсіі бальшавіцкай дыктатуры.

Радны Л. Савёнак — лічыць, што статут МАКЦ'у гэта той самы статут КЦАБ'у, толькі больш запутаны. Да кажнага пытаньня, закранутага ў статуце, трэба падыходзіць вельмі асьцярожна. Калі ўдзельнікі ня лічаць сабе зародкамі будучых урадаў, дык нашай Радзе ў гэткай арганізацыі быць ня можна.

Радны А. Шукелойць — адзначае, што не знаходзіць вялікай розьніцы паміж статутамі МАКЦ'у і КЦАБ'у, адно толькі першы інтэрпрэтуе ўсе тыя самыя пытаньні ў больш затуманенай форме.

Радны Л. Галяк — адзначае пункт 8 статуту[614], дзе гаворыцца аб недапушчэньні пасьля ліквідацыі дыктатуры палітыкі помсты. Шырэй спыняецца на разуменьні гэтага паняцьця.

Радны Б. Данілюк — лічыць, што дзейнасьцю Прэзыдэнта нельга быць незадаволенымі, але ніяк немагчыма задаволіцца палітыкай АмКамітэту, і Сэсія мусіць вызначыць рубеж, дакуль мы можам ісьці ў сваім супрацоўніцтве пры сяньняшняй непрадрашэнчаскай палітыцы АмКамітэту. Зазначае, што пункты статуту МАКЦ'у можна тлумачыць як каму спадабаецца, і іх будуць тлумачыць кажны партнэр па свайму жаданьню.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што ствараецца арганізацыя не беларуская, а міжнацыянальная, і незалежная ад нашых жаданьняў. Палітыка АмКамітэту да нас яшчэ варожая, і таму задаволіцца ёй нельга. Але ўдзел у гэткай арганізацыі лічыць неабходнасьцю, хоць гэта нам нічога не дае.

Радны Я. Станкевіч — прапануе вынесьці рэзалюцыю, у якой сьцьвердзіць, што Рада статуту не падпісала.

---

[612] П. 2. Статута МАКЦ гаворыць: *« МАКЦ будуецца на шырокай палітычнай базе: дэмакратычныя эміграцыі ўсіх народаў Савецкага Саюзу павінны быць, па магчымасьці, прадстаўленыя ў гэтым Цэнтры»*. (Гл.: Статут Міжнацыянальнага Антыбальшавіцкага Каардынацыйнага Цэнтру (МАКЦ) …).

[613] Маецца на ўвазе п. 11 «Палітычнай пляцформы» Статута МАКЦ: *«Ліквідацыя насільных актаў агрэсыўнай вонкавай палітыкі савецкай дыктатуры»*. (Гл.: Статут Міжнацыянальнага Антыбальшавіцкага Каардынацыйнага Цэнтру (МАКЦ) …).

[614] Маецца на ўвазе п. 8 «Палітычнай пляцформы» Статута МАКЦ: *«Недапушчэньне пасьля зьнішчэньня дыктатуры палітыкі помсты»*. (Гл.: Статут Міжнацыянальнага Антыбальшавіцкага Каардынацыйнага Цэнтру (МАКЦ) …).

Працы II паседжаньня VII Сэсіі Рады БНР спыняюцца а гадзіне 9:15 вечара.

## Пратакол трэцяга паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 8-га лістапада 1953 году; Бруклін

Прысутнічалі: спадар Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык і 39 радных.
Старшыня Сэсіі А. Махноўскі, сакратары В. Русак і М. Панькоў.
Паседжаньне распачало працу а гадзіне 10:15 рана.

Радны В. Тумаш — прапануе ўкласьці дэтальны плян разгляду нашых адношаньняў з іншымі народамі, ня толькі з тымі, якія ўваходзяць у Парыскі блёк. Таксама варта спыніцца на поглядах розных украінскіх групаў. Лічыць неабходным таксама разгледзіць нашыя дачыненьні з г. зв. «зарубежнікамі».

Прэзыдэнт — згаджаецца з прапановаю раднага Тумаша, але просіць, каб на ўсім затрымліваліся па-магчымасьці коратка, бо на сяньняшнім паседжаньні неабходна скончыць разгляд пытаньняў вонкавае палітыкі і прыняць нейкія пастановы.

Радны В. Русак — падчырквае правільнасьць канцэпцыяў сп. Прэзыдэнта і ягоную рэальную ацэнку нашых собскіх сілаў. Адзначае ня зусім удачлівы пункт статуту МАКЦ аб агрэсіі. Думае, што ў Парыскім блёку мусяць быць прыкладзеныя ўсе высілкі, каб не дапусьціць да дамінацыі ўкраінцаў, як гэта сталася ў АБН.

Радны М. Міцкевіч — зазначае, што згодна з тым статутам, які сяньня мае МАКЦ, Рада туды ні ў якім выпадку ўваходзіць ня можа

Радны Я. Станкевіч — прапануе не затрымлівацца на тых пытаньнях, у каторых усё ясна, каб не зацягваць дэбатаў.

Радны А. Адамовіч — спыняецца на разглядзе нашых суадносінаў з іншымі народамі. Падкрэсьлівае няшчырасьць украінцаў у нашых узаемадачыненьнях, якія ня раз займалі няспрыяльнае становішча. Прыводзіць прыклады з гісторыі, калі часам нашыя саюзьнікі абяртаюцца ў лютых ворагаў, як гэта было ў мінулым у нашых дачыненьнях з палякамі на пэўных этапах, а ў будучыне перасьцерагае ад магчымых падобных выпадкаў і з боку ўкраінцаў. Сяньня нашым прыяцелем № 1 трэба лічыць амэрыканцаў, у якіх пануе засільле традыцыйнага культурнага і нават псыхолёгічнага русафільства. Таму амэрыканцы, наш прыяцель № 1, адначасна зьяўляюцца і прыяцелямі нашага ворага № 1 — расейцаў. Гэта змушае нас змагацца з нашым ворагам № 1 за нашага прыяцеля № 1 — амэрыканцаў, памагаючы апошнім звольніцца ад русафільства. Неабходна ў змаганьні даводзіць, што бальшавікі ёсьць тымі самымі расейцамі. Незалежна ад статуту, хоць лепш, каб ён быў сфармуляваны для нас прыхільна, уважае МАКЦ толькі полем, даючым магчымасьць змаганьня. Тут якраз і даецца магчымасьць змагацца з ворагам загрудкі, а не страляць у паветра ў кірунку ворага, адарваўшыся ад яго. Дэталі зусім ня гэтак важныя, каб над імі траціць шмат часу. Радзе ангажавацца там не выпадае, як і наагул там, дзе яе становішча маглі-б разглядаць двузначна. Партнэры сяньня маем непараўнальна лепшыя, як

год раней. Склад нашае Рады вельмі разначынны, але выкідаць некага зь яе ня трэба, аднак ставіць людзей трэба на адпаведныя іхняй сіле і сымпатыям мейсцы, а на сяньняшніх саюзьнікаў трэба добра аглядацца. З задавальненьнем адзначае, што добра было, калі Рада на папярэдняе Сэсіі згамавала[615] жаданьне Прэзыдэнта ўвасьці ў КЦАБ, і гэта сяньня дало дадатныя вынікі. Гэтае гамаваньне, аднак, штурхнула Прэзыдэнта на цясьнейшую супрацу з пэўнай групай людзей, якая верная й паслухмяная яму ў кажным выпадку, што ў свой чарод прывяло да ведамага апазыцыйнага руху ў самой Радзе. Усё-ж трэба сьцьвердзіць, што Прэзыдэнт пайшоў шляхам, паказаным апазыцыяй, аб чым найлепей сьветча стварэньне БАФу і далейшы шлях даволі правільнай нацыянальна-вытрыманай лініяй.

Далей прамоўца гаворыць аб сваёй супрацы ў Інстытуце дасьледваньня СССР (*Pro doma sua*[616]) і аб ягоным змаганьні там за беларускасьць. Пэўнай частцы радных гэта не падабаецца, і яго перапыняюць, але большасьць пастанаўляе даць права выступу і па асабістаму пытаньню.

Радны П. Манькоўскі — закідае раднаму А. Адамовічу ягоны выступ на паседжаньнях Мюнхэнскага інстытуту ў Нью Ёрку.

Радны А. Адамовіч — паясьняе, што там ён выступаў толькі адказваючы на атаку Нікалаевскага на яго, а агульна выступіць яму ня даў голасу старшынстваваўшы ў той раз Карповіч[617].

Радны В. Русак — закідае А. Адамовічу ягоны выступ на Купалаўскіх урачыстасьцях у 1951 годзе.

Радны Б. Данілюк — прапануе выбраць камісію дзеля апрацоўкі рэзалюцыі.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць, што дзейнасьць у МАКЦы падняла прэстыж Рады БНР і беларусаў наагул. Уважае ўкраінцаў за натуральных саюзьнікаў беларусаў, і палітыка Прэзыдэнта ў адношаньні ўкраінцаў правільная. Паправіліся суадносіны і з АмКамітэтам, у якім хоць і пануюць прарусафільскія тэндэнцыі, але ёсьць таксама і нашыя прыяцелі. Трэба больш уплываць на амэрыканскае грамадзтва, з думкай якога АмКамітэт моцна лічыцца. Лічыць, што мы павінны забясьпечыць сабе права дзейнасьці па-за статутамі арганізацыяў.

Радны М. Тулейка — лічыць непатрэбным гаварыць і напамінаць тут аб падзеле людзей на слабых і моцных, што ёсьць нармальнай рэчай. Гіранічныя заўвагі раднага Я. Станкевіча — шкодныя. Сп. Адамовіч, заяўляючы, што Рада добра зрабіла, гамуючы жаданьні Прэзыдэнта (згода ісьці на плебісцыт і *«моцна жадаў ісьці ў КЦАБ»*) няправільна зрабіў выснаўку, бо Прэзыдэнт дасканала вывязаўся з сваіх заданьняў. Гэта сталася часткава і таму, што

[615] **Згамавала** (ад польск. *hamować*) — стрымала.

[616] ***Pro doma sua*** (лац.) — пра сябе, пра свой інтарэс, па асабістым пытанні.

[617] Маецца на ўвазе **Міхаіл Карповіч** (1888–1959), расійскі гісторык, шматгадовы рэдактар нью-ёркскага «Нового журнала», у 1949–1954 гг. — кіраўнік факультэта славянскіх моваў і літаратураў Гарвардскага ўніверсітэта.

Прэзыдэнт стала быў у кантакце з Радаю, зь яе сэктарамі. Цяжкасьць была і ў тым, што Прэзыдэнт ня меў да супрацоўніцтва працаздольнага Ураду.

Радны Я. Арцюх — канстатуе, што кажны камэнтуе падзеі згодна сваім асабістым поглядам. Мы павінны граць на канцэпцыі балянсу сілаў у Эўропе, якой трымаюцца амэрыканцы, і даводзіць, што раўнавагу сілаў у Эўропе можна захаваць толькі падзелам СССР. Тады палітыка амэрыканцаў будзе больш прыхільнай да нашае вызвольнае справы. Лічыць што статут можа быць абы-які, бо ўкладаем яго ня мы адныя, а потым можна будзе папраўляць. Сяньня-ж гумовасьць статуту МАКЦ мае тую выгаду, што яго могуць прыймаць розныя групы. Здаровая апазыцыя ёсьць неабходнасьцю, і мы маем вельмі дрэнны пагляд у гэтым адношаньні. З апазыцыяй трэба лічыцца і яе трэба шанаваць.

Радны В. Тумаш — уважае, што статут МАКЦу мы зусім можам не прыймаць, бо магчыма, што гэткай арганізацыі зусім ня будзе. Зазначае, што Адамовіч падыйшоў неаб’ектыўна да ацэны дзейнасьці Рады, меў розныя меркі для аднае па сутнасьці справы супрацоўніцтва. Памылкі рабілі і пазыцыянэры, і апазыцыянэры. Канстатуе, што Беларускі інстытут навукі й мастацтва не пайшоў на супрацоўніцтва[618] з КЦАБаўскай установай Мюнхэнскага інстытуту, а сп. Адамовіч выступаў там, далёка адышоўшы ад нацыянальнага пытаньня. Сядура[619], калі й чытаў рэфэрат, дык чытаў яго аб беларускім пытаньні і пранёс туды беларускую справу кантрабандай, хоць ён ня выступаў там ад БІНІМ, а, магчыма, ад Крывіцкага таварыства[620]. Таму сп. Адамовіч ня выканаў свайго абавязку. У ацэне чалавека трэба быць аб’ектыўным, асабліва ў ацэне маральнасьці, і таму ня можа быць розьніцы ў адказнасьці за вядзеньне справы асобай ці арганізацыяй. Адказнасьць мусіць быць аднолькавая, і суд мусіць быць аднолькавы.

Радны А. Шукелойць — думае, што калі беларускаму вучонаму даецца трыбуна, дык ён мае выкарыстаць яе для справы, хоць можа выступаць і на

---

[618] Пра асаблівасці дачыненняў БІНіМа і Мюнхенскага інстытута гл.: Гардзіенка, Натальля. Да гісторыі беларусаў у Мюнхенскім інстытуце вывучэньня СССР // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 422–438.

[619] **Уладзімір Сядура** (псеўданім **Глыбінны,** 24.12.1910, Мінск — 14.03.1995, Трой, Нью-Ёрк, ЗША), пісьменнік, літаратуразнаўца, культуролаг. Уваходзіў у літаратурнае аб’яднанне «Маладняк». Ад 1931 г. сябра Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), узначальваў яе маладзёжнае крыло (разам з Б. Мікулічам і С. Ліхадзіеўскім). Арыштаваны ў 1933 г. у Маскве, высланы на тры гады ў Сібір, у 1935 г. датэрмінова вызвалены. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «Максім Горкі як гісторык рускай літаратуры». У 1942–1944 гг. галоўны рэдактар часопіса «Новы шлях» (Рыга). Друкаваўся ў «Беларускай газеце». Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Узначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнселерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (штат Нью-Ёрк).

[620] Маецца на ўвазе Крывіцкае навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны.

агульныя акадэмічныя тэмы. Паведамляе, што мае засьцярогі да выступаў на канфэрэнцыі Мюнхэнскага інстытуту ў Нью Ёрку Сядуры і Адамовіча.

Радны А. Адамовіч — адказвае, што канфэрэнцыя была ладжаная як акадэмічная канфэрэнцыя, і ён прысутнічаў на ёй проста як абсэрватар, таксама, як і сп. Акіншэвіч[621] і шмат іншых. Дакладаў ён на канфэрэнцыі не рабіў, як Сядура, карыстаючыся яго матэрыяламі, але забіраў голас у дыскусіі па чыста акадэмічнаму пытаньню. Бароніць права выступаць па ўсялякім пытаньням.

Радны Б. Данілюк — пратэстуе супраць затрыманьня галасаваньня ягонае прапановы.

Радны Я. Ліманоўскі — бачыць прычыну стварэньня КЦАБ з расейскай дамінацыяй у слабасьці беларускае і іншых дэлегацыяў. Запытваецца аб лёсе адказу пасланага Урадам БНР на ліст Цынцадзе ў справе радыёперадачаў.

Радны Я. Арцюх — прапануе спыніць дыскусію і даць слова да адказаў сп. Прэзыдэнту.

Абвяшчаецца абедзены перапынак.Па абедзеным перапынку прамаўляе

Прэзыдэнт — адказвае, што ён жадаў разгляду статуту МАКЦ, які ёсьць сынтэзай усёй дасюлешняй працы, хоць і быццам адкінуты АмКамітэтам. У выпрацоўцы статуту бралі ўдзел афіцыйныя прадстаўнікі амэрыканцаў. Выйшаў ён каўчуковым, але іншага выхаду ня было, бо АмКамітэт не згаджаўся на стварэньне двох цэнтраў. Пункты статуту мы будзем камэнтаваць па-свойму, гэта толькі на карысьць Парыскага блёку. Усе падзеі ў Мюнхэне характарызуюць становішча ў дачыненьні палітыкі непрадрашэнства, што сфармулявалі не амэрыканцы, а расейцы. Выгоду для нас прынятага статуту сьцьвярджае і выступ Керанскага ў «Новым Рускім Слове». Спрэцызыяваць[622] статуту, пэўне, ніколі не ўдасца, і ў практычнай дзейнасьці ад гэтага цяжкасьцяў ня будзе. Аб ліквідацыі актаў насільсьцьвеннай палітыкі савецкае дыктатуры гаворыцца ў розных пунктах статуту, і ўводзіць спэцыяльны пункт няма патрэбы. Наш удзел ува ўсім гэтым толькі падняў наш прэстыж, і цяпер, пішучы, нас не абмінаюць, як гэта раней было, факты ігнарацыі ня толькі з боку расейцаў, але і ўкраінцаў. Гэта, пры тым, толькі першы крок, і ўсё далейшае залежыць ад утрыманьня Парыскага блёку. З прыкладу дзейнасьці палякаў пад час Другое сусьветнае вайны бачым, што стаўленьне амэрыканцаў мае вялікае значаньне, а таму мы мусім супрацоўнічаць з іншымі ў розных формах, не адступаючы, аднак, ад аснаўных фактаў,

---

[621] **Акіншэвіч Леў** (21.01.1898, г. Санкт-Пецярбург — 6.11.1980, Нью-Ёрк), гісторык, публіцыст, крытык. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, у 1918 г. прыняў грамадзянства БНР. У 1920-х гг. працаваў ва Украінскай Акадэміі навук, супрацоўнічаў з БелАН і Інбелкультам. З 1933 г. — прафесар Нежынскага педінстытута. Быў абвінавачаны ў беларускім і ўкраінскім нацыяналізме і звольнены. Падчас нямецкай акупацыі жыў ва Украіне. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў у цэнтры па вывучэнні СССР у Вашынгтоне, супрацоўнічаў з БІНіМам.

[622] **Спрэцызыяваць** (ад польск. *sprecyzować*) — удакладніць.

каб потым ня трэба было шкадаваць. Адзначае вялікае значаньне асабістае якасьці дзеячоў. Прыклад гэтага ў яшчэ недаацэненым вялікім здарэньні выдзяляньня беларускае каталіцкае кангрэгацыі, што асягнута таксама асабістымі кантактамі, і аб гэтым будзе гаварыцца ў гісторыі. Статут КЦАБ і МАКЦ — вялікая розьніца, у разе патрэбы апошні можна будзе прыняць без асаблівых засьцярогаў. Прыймаў удзел ва ўсіх нарадах, выходзячы з прынцыпу «быць прысутным», каб пры кажнай нагодзе магчы бараніць свае інтарэсы. Удзячна адзначае выказанае радным Адамовічам, што Прэзыдэнт заняў пазыцыі апазыцыі, але не згаджаецца з некаторымі недакладнасьцямі, якія не супадаюць нават храналёгічна. Аб ягоным жаданьні ўступіць у КЦАБ за ўсялякую цану ня можа быць і гутаркі, бо КЦАБу тады яшчэ ня было. У кажным разе канстатуе, што калі і паслухаўся ў чым апазыцыі, дык з агульных пунктаў пазыцыі не зышоў. Бароніць дзейнасьць раднага Б. Рагулі, якога нельга асуджаць за зробленае, бо той толькі выконваў волю самое Рады.

Дзейнасьць у МАКЦ зьяўляецца амаль усёй нашай дзейнасьцю навонкі за апошні час, бо гэта вельмі шырокі міжнародны фронт, у якім удзельнічаюць ня толькі непасрэдна зацікаўленыя, але і шэраг іншых дзяржаваў. Часта здараецца, што мы маем розныя бэнэфісы, якія прыходзіцца адсуваць, бо няма людзей, якімі іх абсадзіць. Плодная карысная праца праведзена ў Бэльгіі, добрыя вынікі дзейнасьці ў Гішпаніі, дзе даюць магчымасьці студыяваньня і радыёперадачаў штодзённа на 15 мінут[623]; ідзець праца і ў Англіі, хоць там да нашай справы ставяцца вельмі асьцярожна; і Францыі, каб быў людзкі актыў, можна было-б трымаць сталыя сувязі, праўда, залежныя ад часта мяняючыхся ўрадаў; у Італіі праароблена таксама вельмі вялікая праца, ня толькі ў Ватыкане, маюцца таксама і там магчымасьці радыёперадачаў. Агулам нашыя асягненьні вельмі часта вялікшыя за нашыя людзкія магчымасьці.

Паважаючы сп. Каханоўскага асабіста, асуджае, аднак, занятыя ім пазыцыі ў «Абежніку» № 2 ЦК АБНД[624], якія зусім не карысныя справе і шырака разсылаюцца ў асяродкі беларускае эміграцыі. Гэта тым больш шкодна, калі палічыцца з асягнутай спрыяльнай нам міжнароднай каньюктурай.

Прэзыдэнт заклікае ўсіх падпарадкавацца нашай супольнай ідэі і з свайго боку абяцае падпарадкавацца пастановам Рады.

---

[623] Першы беларускі студэнт у Мадрыдзе з’явіўся ў 1950 г. дзякуючы мясцоваму Каталіцкаму фонду дапамогі студэнтам. Адборам кандыдатаў займаўся а. Леў Гарошка. У 1952 г. беларускіх студэнтаў у Іспаніі было ўжо чацвёра. Аднак у 1953 г. засталіся толькі двое: Янка Сурвіла і Віктар Сянкевіч. Яны і займаліся беларускай дзейнасцю, у тым ліку перадавалі раз на год 15-хвілінныя перадачы на Іспанскім нацыянальным радыё з нагоды 25 сакавіка. Гэткія перадачы рабіліся да 1958 г., калі сталі выходзіць штодзённыя беларускія праграмы.

[624] № 2 «Абежніка» Цэнтральнага камітэта Аб’яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў пабачыў свет у верасні 1953 г. У ім было выказана негатыўнае стаўленне да пагадненняў у Мюнхене і стварэння МАКЦ, удзельнікі якога абвінавачваюцца ў «апартунізме і прарасейскасці». Старшынёй ЦК АБНД быў Аўген Каханоўскі.

Радны М. Панькоў — прызнае асягненьні, здабытыя за апошні час, але падкрэсьлівае азнакі ігнарацыі і некарэктнасьць да нас у ведамым выступе Нікалаеўскага ў прэсе. Лічыць, што нельга ўважаць сябе бяссільнымі і недаацэньваць нашых сілаў, якія пераважна нявыкарыстаныя. Зьвяртаецца да Прэзыдэнта падаць дакладней аб спатканьнях з Астроўскім і сустрэчах Рагулі з Зарэчным.

Прэзыдэнт — прызнае, што выказы Нікалаеўскага ня зусім для нас прыемныя, але зь ім ідзецца толькі дзеля тактычных меркаваньняў. Парыскі блёк пастанавіў не чапаць пакуль Нікалаеўскага, якога расейцы лічуць рэнегатам і штрайкбрэхерам. Сустрэча з Астроўскім была выпадковая на канфэрэнцыі Мюнхэнскага інстытуту, яна нічога не дала новага і аб гэтым яшчэ будзе гутарка пазьней.

Старшыня А. Махноўскі — просіць радных не дэнэрвавацца і ня спыняць дыскусіяў, каб былі выясьненыя ўсе пытаньні.

Радны П. Манькоўскі — выказваецца за скрэсьленьне пункту аб няпомсьце ў статуце. Лічыць, што намі ня выкарыстана шырокая магчымасьць прэсы. У нашай прэсе нічога ня было дзеля асьвятленьня нашае ролі ў Парыскім блёку, якую там адыгрывае сп. Прэзыдэнт.

Радны Я. Ліманоўскі — жадае шырэй асьвятліць пытаньне радыёперадачаў.

Радны Я. Станкевіч — прапануе спыніць дыскусіі, прынамсі не спыняцца на пытаньнях, якія скончаныя, бо на іх ужо быў адказ Прэзыдэнта. Патрабуе прагаласаваць ягоную прапанову.

Радны Л. Савёнак — закідае Прэзыдэнту зьневажэньне асобы сп. Кахаоўскага ў яго адсутнасьці. Перасьцерагае ад пераацэнкі асягненьняў супрацай з МАКЦ, які лічыць маскоўскай дыверсіяй абыходным шляхам. Лічыць усе справы супрацы з АмКамітэтам насьветленымі Прэзыдэнтам у вельмі ружовых колерах. Уважае, што палітыкай Вашынгтону нельга лічыць тое, што скажыць нейкі ўрадовец таго ці іншага міністэрства, бо падтрыманьне адзінанедзялімаўскай палітыкі зусім не ў інтарэсах ЗША, якой яны толькі-б выраблялі сабе магутнага канкурэнта рынкаў збыту ў будучыне. Удзел Прэзыдэнта ўва ўсёй працы гэтай акцыі ўжо цяпер прыводзіць да трэшчынаў, а можа прывесьці і да расколу ці развалу Рады, як гэта сталася сяньня ў УНРадзе. З гэтага можа скарыстаць БЦР, што і відаць цяпер з акцыяў БКК[625], які ўсюды ўлазіць, нават ня маючы людзей, вельмі часта туды, дзе мусілі-б быць якраз прадстаўнікі Рады БНР. Лепшымі прыкладамі могуць быць хоць бы ўдзел др. М. Шчорса ў дэлегацыі ў кангрэсовую камісію ў Вашынгтоне

---

[625] Маецца на ўвазе **Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА)** — грамадская арганізацыя, створаная ў 1951 г., якая мела на мэце каардынацыю розных беларускіх структураў у ЗША, аднак здолела аб’яднаць толькі мясцовых прыхільнікаў БЦР. Першым старшынёй арганізацыі ў 1951–1955 гг. быў Мікола Шчорс.

па праекту закону кангрэсмэна Смуса[626] (Рэзалюцыя 58) або ў каталіцкай акцыі, дзе зварот ад арганізацыяў да амэрыканскага грамадзтва падпісвала жонка др. Шчорса — немка. У кажным разе падпісаньнем статуту МАКЦ ад Рады БНР Рада самаліквідуецца або найменш зьмяняе свае гістарычныя нацыянальныя пазыцыі, ад чаго перасьцерагае.

Галасаваньне па прапанове Я. Станкевіча: спыніць дыскусіі і выбраць камісію для апрацоўкі рэзалюцыяў па вонкавай палітыцы: за прапанову — 11, супраць — 16 галасоў. Большасьцю адкідаецца.

Радны Г. Паланевіч — адзначае, што ўспомнены «Абежнік» № 2 ЦК АБНД выданы для сяброў партыі. Абгаварываць ягоны зьмест зусім можна і ў адсутнасьці лідэра гэтай партыі сп. Каханоўскага. Бароніць удзел Прэзыдэнта ў Парыскім блёку і ў МАКЦу. Прапануе раднаму Л. Савёнку не гаварыць агульна, але падаць свае канкрэтныя прапазыцыі.

Радны Л. Савёнак — кажа, што ён зусім ня супраць дзейнасьці і ўдзелу ў працах МАКЦу, але ўважае, што там ня мейсца Прэзыдэнту і Радзе БНР. Паведамляе, што свае прапановы ён падасьць пасьля справаздачаў Ураду, бо ня лічыць, што дзейнасьцю ў МАКЦ абмежавалася нашая вонкавая палітыка.

Радны Я. Арцюх — вымагае ад сп. Л. Савёнка даць довады дывэрсійнасьці акцыі МАКЦу.

Радны Уладыка Васіль — крытыкуе выступ раднага Л. Савёнка, радзячы ня толькі гаварыць і пісаць адозвы ад БНЦ[627], але рабіць, дзейнічаць. Роля Прэзыдэнта ў Парыскім блёку і ў МАКЦу зусім добра асьветленая іншамоўнай прэсаю.

Радны Я. Ліманоўскі — шырэй закранае пытаньне радыёперадачаў і паведамляе аб жаданьнях зацікаўленых у гэтым амэрыканскіх колаў (Ам-Камітэту вызваленьня ад бальшавізму) у складаньні пэрсаналу для гэтае працы: практыка ў складаньні праграмаў, веданьне абставінаў савецкага жыцьця (пажаданыя людзі, якія паходзяць з БССР), веданьне ангельскае мовы і пад. Радыё гэта амэрыканскае, а не МАКЦу, якога агулам яшчэ няма. Уважае, што над гэтым трэба застанавіцца шырэй.

Прэзыдэнт — у адказе на закід раднага Савёнка, паясьняе, што ён зачытаньнем аднаго пункту «Абежніка» ЦК АБНД зусім не хацеў зганіць сп. Каханоўскага, а зрабіў гэта проста дзеля таго, што няма больш часу. Звараваецца да ўсіх, каб прыняцьці падобных пастановаў былі аб'ектыўнымі ў

---

[626] Маецца на ўвазе праект амерыканскага кангрэсмена-рэспубліканца з Вісконсіна **Лорэнса Сміта** (*Lawrence Henry Smith*, 1892–1958) па ўстанаўленні дыпламатычных дачыненняў ЗША з БССР і УССР і адкрыцці амерыканскіх амбасадаў адпаведна ў Мінску і Кіеве, каб спрыяць вызваленню беларускага і ўкраінскага народаў ад маскоўскай залежнасці. Праект быў вядомы як «Рэзалюцыя 58». У дэбатах камісіі пры абмеркаванні рэзалюцыі браў удзел Мікола Шчорс. Прасоўванне рэзалюцыі было спынена пад уплывам пратэстаў прадстаўнікоў расійскай эміграцыі.

[627] Маецца на ўвазе Беларускі нацыянальны цэнтр, у кіраўніцтва якога ўваходзіў Лявон Савёнак.

разгляданьні справы і ня гублялі гарызонтаў. Прызнае вартасьць крытыкі, паданай радным Савёнкам, але засьцерагае адносна сымпатыяў да ўкраінцаў агулам і да АБН у прыватнасьці. Адносна ўдзелу Рады БНР усё ўзята пад увагу, і на ягоную думку на даным этапе Рада БНР можа ўдзельнічаць у перамовах, а калі справа будзе скончанай, дык будзе перададзеная адумыслова створанай дзеля гэтага арганізацыі.

Шырэй спыняецца на праектаваных радыёперадачах: склад асабісты мусіць быць скамплектаваны з 5-х асобаў, якія і рабілі-б праграму і перадавалі яе, а рэшта супрацоўнічала-б «скрыптамі», як пададзена вышэй, за якія амэрыканцы добра плоцяць.

Радны П. Манькоўскі — прапануе выбраць камісію дзеля апрацоўкі рэзалюцыі па справах вонкавае палітыкі.

Галасаваньне: за прапанову — 27, супраць — 2, устрымалася — 2.

Галасаваньне ў склад камісіі:

Радны В. Тумаш — 21 голас.

Радны Л. Галяк — 14 галасоў.

Радны А. Адамовіч — адмаўляецца.

Радны М. Гарошка — адмаўляецца.

Радны М. Тулейка — 7 галасоў.

Радны П. Манькоўскі — 23 галасы.

У склад камісіі па апрацоўцы рэзалюцыі па справах вонкавае палітыкі выбраныя: радныя В. Тумаш, Л. Галяк і П. Манькоўскі.

Паседжаньне зачыняецца а гадзіне 6:20 вечара.

## Пратакол чацьвёртага паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 28-га лістапада 1953 году

Старшынствуе прэм'ер-міністар Ураду БНР А. Махноўскі.

Сакратары: М. Панькоў і В. Русак.

Прысутнічаў 31 радны.

Адчыняючы паседжаньне старшыня дае слова сп. Прэзыдэнту інж. М. Абрамчыку аб выніках паездкі ў Вашынгтон.

Прэзыдэнт — паведамляе, што апрача адведзінаў міністэрства спаткаўся таксама з дыплёматычнымі прадстаўнікамі румынаў, славакаў і палякаў, якія віталі з праведзенай пасьпяховай акцыяй Парыскага блёку ды паінфармавалі аб сваечасным тварэньні камітэту Фры Юроп. Там спачатку хацелі тварыць прадстаўніцтва па колькасьці насельніцтва краінаў (1:1000000), але, дзякуючы нязгоды сярод прадстаўнікоў эміграцыі, амэрыканцы адкінулі гэты прынцып і проста адбіралі людзей на свой погляд.

У Дэпартамэньце оф стэйт (у аддзеле СССР) наступілі вялікія пэрсанальныя зьмены на нашу карысьць, бо пасаду ўрадоўца асобых даручэньняў Усходняга аддзелу абняў мр. Стывэнс, які знаёмы з беларускаю справаю яшчэ з Нямеччыны, дзе ён быў неафіцыйным амбасадарам. У гутарках, аднак, ён сваіх думак непасрэдна да нашае справы ня выказаў. Вялікі поступ на нашу карысьць і ў цэлым Дэпартамэньце, дзе сымпатыі, пераважна, не на баку

расейцаў. Агульная выснаўка з даведанага, што тым часам будзе абсаджана і спарадкавана справа радыёперадачаў, затым упарадкуецца справа Інстытуту па досьледах СССР у Мюнхэне і толькі пазьней нешта будзе рабіцца з стварэньнем цэнтру палітычнага, які магчыма будзе створаны з непасрэдна пакліканых людзей амэрыканцамі. Пэўнасьці ў гэткім спосабе вырашэньня праблемы, аднак, яшчэ няма.

Старшыня зачытвае паведамленьне ЦК Аб'еднаньня беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Радны Я. Станкевіч — прапануе: 1. Стварыць камісію дзеля пісаньня артыкулаў у іншамоўную прэсу; 2. Разгледзіць справу выданьня часапісу на ангельскай мове і 3. Скараціць час прамоваў радных, асабліва гутаркаў не на тэму.

Радны А. Орса — паведамляе, што заля для паседжаньняў Рады занятая на два дні (суботу і нядзелю) ад 10 гадзінаў раніцы да 6 гадзінаў вечара.

Прэзыдэнт — патрабуе скончыць, быў скончаны разгляд пытаньня аб вонкавае палітыкі і прынятая пастанова па ім. Зазначае, што радны А. Каханоўскі падае толькі крытыку дасюлешняй дзейнасьці, але не дае ніякіх канкрэтных прапановаў. Патрабуе, каб АБНД падала, што яна мае намер рабіць, калі Рада заапрабуе палітыку МАКЦ. Лічыць, што на выпадак выступленьня АБНД з Рады дык трэба старацца не дапусьціць да расколу. Прапануе, што калі выбраная рэзалюцыйная камісія не апрацавала яшчэ рэзалюцыі, дык неабходна тэкст яе апрацаваць зараз на паседжаньні.

Радны У. Русак — уважае, што дыскусія па пытаньню вонкавае палітыкі скончаная і трэба прыняць пастановы, бо на гэта ўжо страчана два паседжаньні.

Радны Я. Станкевіч — лічыць, што справа вонкавае палітыкі скончаная і можна толькі выказацца па пытаньню паданым ЦК АБНД. Уважае, што калі раней Рада часта проста здавала пазыцыі ды нічога пэўнага не даставала, дык цяпер мы ня толькі нічога ня трацім, але здабываем яшчэ магчымасьці шырэйшае нацыянальнае працы. Прэзыдэнт не адзін, а зь ім цэлы Парыскі блёк, які памыліцца ня можа.

Радная А. Савёнак[628] — лічыць, што пакуль нам ня прызнаная незалежнасьць, мы ня можам ні ў якія цэнтры ўваходзіць. Усе дасюлешнія крокі нашае вонкавае палітыкі — простая гандлярства. Як бы камусь не хацелася, можа, найбольш сп. Станкевічу, бачыць вялікія асягненьні, гэткіх няма. Апрабаваць палітыку МАКЦу нельга, бо гэтым мы касуем і сваё існаваньне.

Радны Л. Савёнак — уважае, што пастановаў ніякіх нельга прыняць, пакуль ня будзе заслухана справаздача Ураду, які таксама праводзіў вонкавую палітыку. Якую пазыцыю займець АБНД у выпадку апрабаты палітыкі

---

[628] **Апалонія Савёнак** (дзявочае **Раткевіч**, 08.10.1901, Лагойшчына — 10.04.1982, Памон, Нью-Джэрсі, ЗША), педагог, пісьменніца, аўтар некалькіх падручнікаў для дзяцей, маці З. Кіпель. Ад пачатку 1950-х жыла ў ЗША, у Нью-Джэрсі.

МАКЦу сяньня ніводзін сябра партыі сказаць сам ад сябе ня можа, бо на гэта будзе адпаведная пастанова канфэрэнцыі партыі.

Радны В. Кажан — лічыць, што спачатку неабходна паведаміць усе сэктары, дастаць іхнія адказы і толькі потым прымаць пастанову.

Радны Уладыка Васіль — адзначае, што адбываецца паўнаважная сэсія Рады, на якую ўсе былі запрошаныя і маглі прыбыць на яе, або некага ўпаўнаважыць. Чакаць, пакуль прыйдуць адказы, немагчыма, бо неабходна прыняць пастанову па пытаньню, якое яшчэ актуальнае і патрабуе гэткае пастановы дзеля далейшае дзейнасьці. Дзейнасьць сп. Прэзыдэнта ў дзялянцы вонкавае палітыкі лічыць вялізарным посьпехам і адначасна выхадам нашага пытаньня на шырокую міжнародную арэну, чаму вельмі многія зайздросьцяць.

Радны Я. Станкевіч — думае, што безаглядна прымаць палітыку МАКЦ нельга, але ўдзельнічаць у перагаворах трэба.

Радны Ф. Кушэль — прызнае, што прыймаць прынцыповыя пастановы ды трымацца ізаляцыі можа кажны, хто не жадае ніякага поступу нашае справы і хоча, каб Беларусь асталася няведамай шырокаму сьвету. Ніхто з намі дагэтуль не лічыўся і калі будзем варыцца ў сваім саку, дык лічыцца ніколі ня будзе. Калі-б Прэзыдэнт вёў гэткую «прынцыповую» палітыку, як патрабуе АБНД, дык і сяньня аб нас ніхто ня ведаў ды ня было-б ніякіх магчымасьцяў шырэйшае працы. Згаджаецца, што сэктары трэба паведаміць, але не чакаць на іхныя адказы.

Радны П. Манькоўскі — прызнаець ліст Каханоўскага звычайнай дэмагогіяй пакрыўджанае амбіцыі і патрабуе прызнаньня дасюлешняе палітыкі, праводжанае Прэзыдэнтам, якая ніколі ня можа быць здрадлівай. Рада не дзяржава, і мы ня можам яе рэпрэзэнтаваць. Мы простыя эмігранты, якія павінны дзякаваць амэрыканцам, што нас сюды пусьцілі.

Радны М. Панькоў — ня бачыць ні вялікіх асягненьняў, ні магчымасьцяў шырэйшае нацыянальнае працы як выніку дасюлешняе палітыкі. Уважае ўваход у МАКЦ — самагубствам Рады.

Радны У. Русак — прапануе прыступіць да разгляду нашых адносінаў да іншых народаў і скончыць пытаньне вонкавае палітыкі.

Прэзыдэнт — лічыць патрэбным прыняць пастанову па закончанаму пытаньню. Палітыка МАКЦ — галоўная лінія нашае дасюлешняе вонкавае палітыкі. Мы вялі змаганьне не на 2-х франтох, сяньня прызнаныя памылковымі немцамі ў іхняй палітыцы, але амаль на 4-х: летувіскі, польскі маскоўскі і ўкраінскі. Крытыкаваць зробленае заўсёды лёгка, але тады трэба падаваць таксама і выхад: дзе і які. Нас прызнаць афіцыйна сяньня ня могуць, бо існуюць дыплёматычныя зносіны з СССР, і ангажавацца ніхто не захоча. Ходзіць тут не аб прызнаньні, але аб інтэрпрэтацыі «непрадрашэнства». Пункт 3 статуту МАКЦу ўнесены грузінамі наўмысьля, каб выбіць маскалёў з занятых імі пазыцыяў. У Парыскім блёку ня існуе пытаньня аб адмове ад сваіх правоў, і выразна гаворыцца, што мы не зракаемся і не самаліквідуемся. Да сэктароў можна зьвярнуцца і па магчымасьці хутчэй дастаць ад іх адказы. Але ня прыняўшы пастановы, мы нясем адказнасьць перад гісторыяй

і будучымі пакаленьнямі. Адмовіўшыся ад удзелу ў МАКЦ, мы выключаемся з агульнага фронту і застанемся адныя. Трэба лічыцца з рэальным, а не з асабістымі жаданьнямі і сантымэнтальнымі лятуценьнямі. Украінцы і афіцыйна прызнаюць, што Парыскім блёкам яны вывелі сваю палітыку з-за плоту. Ня прыняўшы пастановы, мы зьняважым усю папярэднюю палітыку і будзем змушаныя выступіць з Парыскага блёку ды застацца самотнымі, страціўшы ўсе магчымасьці.

Радны Л. Савёнак — няважна, каб нас прызнавалі, але важна, каб мы сябе прызнавалі і да ўсяго падыходзілі з дзяржаўнага пункту гледжаньня. Мусім быць моцнымі, а тады і з намі лічыцца будуць. Акцыя МАКЦу — вывучэньне амэрыканцамі сілаў эміграцыі, шуканьне імі сабе хаўрусьнікаў у нямінучай будучай барацьбе. У амэрыканскай палітыцы змагаюцца два кірункі па ўсходняму пытаньню, і ад таго, які зь іх пераможа, шмат залежыць і ў нашай долі. Мы павінны падтрымліваць тых, хто змагаецца за распадзел СССР. Мы ёсьць Рада і Урад БНР на выгнаньні, і з гэтае пазыцыі мусім падыходзіць да ўсіх пытаньняў. Мы можам уваходзіць у супрацу толькі з тымі народамі, якія прызнаюць нас дзяржаўным прадстаўніцтвам і нашыя правы на этнаграфічныя абшары.

Прэзыдэнт — *«Мы ўсюды так выступаем. Але як канкрэтна мы павінны захавацца, калі амэрыканцы шукаюць магчымасьці стварыць баявы эміграцкі цэнтр?»*

Радны Л. Савёнак — Калі няма расейскае дэмакратычнае групы, якая прызнае за намі нашыя правы, дык з імпэрыялістамі мы ня можам нічога супольнага мець. Чаму адкідаецца група Аляксінскага[629]? Нікалаеўскі стаіць за адзінанедзялімую, а мы даўно адарваліся ад Расеі, дык якая можа зь ім быць супраца?

Прэзыдэнт — Парыскі блёк як цэласьць знаходзіць магчымасьць супрацоўніцтва. Што-ж павінны зрабіць мы?

Радны Л. Савёнак — Калі ў статуце МАКЦ ёсьць пункт аб самаліквідацыі Рады ці Ураду, мы там не павінны быць.

Радны М. Міцкевіч — радзіць заставіць ліст сп. Каханоўскага бяз увагі, бо ён пісаны ня лёгікай, а нэрвамі. Згаджаецца, што прапанова раднага Кажана правесьці рэфэрэндум па прыняцьцю рэзалюцыі ёсьць найлепшым выхадам.

Радны Г. Паланевіч — уважае зварот да сэктараў непрактычным. Думае, што заместа таго, каб пасылаць Радзе ультыматыўныя лісты, радны Каха-

---

[629] **Рыгор Аляксінскі** (1879–1967), расійскі палітычны дзеяч, колішні дэпутат Дзяржаўнай Думы Расіі, прафесар. На эміграцыі быў некаторы час кіраўніком Рускай рады ў Парыжы. У жніўні 1953 г. ён браў удзел у дэбатах па нацыянальным пытанні ў СССР, арганізаваным рэдакцыяй газеты *Освобождение* ў Мюнхене. Аляксінскі выступаў як апанент расійскіх прыхільнікаў канцэпцыі «адзінай непадзельнай Расіі», выказваўся за права на незалежнасць беларусаў, украінцаў і іншых народаў. Прафесар таксама паведаміў пра ініцыяванае ім заснаванне Нацыянальнай арганізацыі рускіх дэмакратаў. (Гл.: Будучыня народаў СССР. Публічнае выступленьне праф. Г.А. Аляксінскага ў Мюнхене // Бацькаўшчына. № 33–34 (164–165). 30.08.1953).

ноўскі мусіў-бы прыехаць і разгледзіць справу на паседжаньні. Згаджаецца, што павінны да ўсяго падыходзіць з дзяржаўнага пункту гледжаньня, але не ўзалежніваць ад гэтага практычную дзейнасьць. Калі прызнаваць, што Парыскі блёк рэч добрая, дык трэба бачыць і тых, хто яго зрабіў. Прапануе, каб зьвярнуцца да сэктараў і ўзгодніць зь імі пастановы Сэсіі. Пытаньне прадстаўніцтва ў розных міжнародных цэнтрах (хто мае там быць) трэба сур'ёзна абдумаць.

Радны В. Кажан — згаджаецца з прапановаю, каб зьвярнуцца да сэктараў з праектам пастановы.

Радны А. Шукелойць — канстатуе, што нягледзячы на ранейшыя паездкі Дабранскага ў Эўропу, на яго выступы ў Мюнхэне, аднак па звароце ён адчынена прызнаў палітыку УНРады памылковай і шкоднай. Сьцьвердзіў ён таксама перагляд і зьмены палітыкі ЗША да СССР. Ці ня варта і нам перагледзіць сваю палітыку? Прамоўца прыхільнік бескампрамісовае палітыкі і згаджаецца з пазыцыямі АБНД. Рэзалюцыйная камісія павінна апрацаваць пастанову па атрыманьні ўсіх матэрыялаў з справаздачаў Ураду і Прэзыдыюму Рады. Статут МАКЦ як стоячы на пазыцыях Лютаўскае рэвалюцыі ў Расеі прыняць немагчыма, бо гэтым касуецца Акт 25 Сакавіка.

Радны Н. Краўцэвіч — Ці Парыскі блёк мае сваю палітычную пляцформу і якую?

Прэзыдэнт — палітычнае дэклярацыі Парыскі блёк ня выдаў. Пазыцыі яго ведамыя, канцэпцыі таксама. Цяпер працуецца над дакладнейшым статутам.

Радны Н. Краўцэвіч — лічыць, што ад расейцаў у МАКЦ уваходзіць нейкая прыватная група, а мы ёсьць дзяржаўнай арганізацыяй, і таму ня можам прыймаць статуту МАКЦ.

Абвяшчаецца перапынак на абед.

Радны А. Орса — прызнае Раду цяжка хворай, бо ўжо колькі часу топчымся на мейсцы і ня можам прыйсьці да нейкага скутку. Гэтае-ж адносіцца і да сэктараў Рады. У довад зачытвае ліст з Аўстралійскага сэктару Рады (старшыня сэктару — А. Калодка, сакратар — Кажанеўскі[630]). Прапануе разгледзіць вонкавыя справы поўнасьцю і толькі тады прыймаць пастановы, якіх дамагаецца Прэзыдэнт.

Прэзыдэнт — зазначае, што калі ня будзе прынята пастанова па пытаньню МАКЦ, дык ён ня можа далей дзеіць і мусіць ад усяго адыйсьці з вялікай кампрамітацыяй.

Радны М. Гарошка — пэўны, што МАКЦ не заспакойвае *«нашых нацыянальных амбіцыяў»*. Аднак іншага выхаду няма. У Фры Юроп — для нас

---

630 Маецца на ўвазе **Мікалай Каранеўскі** (25.07.1916–23.05.1973, Сідней), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Варшаўскай палітэхніцы, Львоўскім політэхнічным інстытуце (1940–1941), аднак дыплом інжынера атрымаў ужо па заканчэнні Другой сусветнай вайны ў Мюнхене. Ад 1949 (?) г. жыў у Аўстраліі. Спачатку ў Мельбурне, дзе ўдзельнічаў у арганізацыі беларускае грамады. Пры канцы 50-х гадоў перабраўся з сям'ёй у Сідней, дзе актыўна ўключыўся ў грамадскую дзейнасць.

няма месца[631], дасюлешняя супраца ў АБН — карысьці нам не прынесла, а МАКЦ ужо ўмагчыміў поступ наперад, паставіў беларускае пытаньне на парадку дня ў вышэйшых сфэрах. Ліст Каханоўскага не дае нічога новага і зьяўляецца выклікам усім радным. Парваць з МАКЦ ніколі ня будзе позна.

Радны япіскап Васіль — лічыць, што Парыскі блёк як згуртаваньне дзяржаўных экзыльных прадстаўніцтваў, уваходзячы ў МАКЦ, выставіў свой мінімум, а далей паставіць іншыя вымаганьні. Гутаркі неабходныя, незалежна ад стаўленьня да нас партнэраў. МАКЦ толькі нашая экспазытура, а не дзяржаўны орган. Каб быў розгалас, трэба лезьці ўсюды.

Радны А. Адамовіч — просіць выясьненьня, як абманулі ўкраінцы беларусаў у камісіі Сміса[632]?

Радны Л. Савёнак — ня бачыць ніякіх асягненьняў, бо Парыскі блёк яшчэ ніякай працы не прарабіў. Уваход у кааліцыю з адзінай групай Нікалаеўскага — не асягненьне. Прызнае рацыю раднага А. Орсы. Зазначае, што юрыдычна паседжаньне ня мае права прынімаць пастановы, бо няма належнае колькасьці радных. Падтрымлівае прапанову раднага В. Кажана і прапануе перайсьці да разгляду нутраных справаў.

Радны Я. Станкевіч — дзеля таго, што Рада БНР ня мае падпісаць статуту МАКЦ (яго падпіша нейкая іншая выдзеленая арганізацыя), прапануе перайсьці да разгляду іншых пытаньняў вонкавае палітыкі.

Радны Л. Савёнак — пратэстуе супраць назоваў і суваньня ў апазыцыю кажнае інакшдумаючае прапановы.

Прэзыдэнт — дзівіцца, чаму радныя адсоўваюць прыняцьцё рэзалюцыі, калі раней сьпяшаліся скончыць. Ня скончыўшы аднаго пытаньня, нельга прыступіць да наступнага.

Радны Л. Савёнак — пратэстуе супраць фарсаваньня прыняцьця прапановы, калі на гэта ня маецца статутовай большасьці радных.

Радны М. Панькоў — прапануе даручыць выбранай камісіі да заўтрашняга паседжаньня апрацаваць праект рэзалюцыі па вонкавых справах і прыступіць да разгляду наступнага пункту дзённага парадку працаў сэсіі.

Галасаваньне: за — 21, супраць — 0, устрымалася — 5.

Большасьцю 21 голасу прапанова раднага М. Панькова прымаецца.

Радная А. Савёнак — запытваецца, што будзе выслана сэктарам: толькі праект рэзалюцыі ці таксама і інфармацыя аб працы сэсіі.

---

631 Згаданы Нацыянальны камітэт «Свабоднай Еўропы», а таксама адпаведнае радыё было арыентавана менавіта на краіны сацыялістычнага лагеру ў Еўропе, а не на рэспублікі СССР, для якіх прызначалася радыё «Вызваленне» і была скіравана дзейнасць Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму.

632 Напэўна, маецца на ўвазе, што ў абмеркаванні прапанаванай Рэзалюцыі 58, якая прапаноўвала ўсталяванне дыпламатычных адносінаў ЗША з БССР і УССР, браў удзел цэлы шэраг украінскіх дзеячаў і толькі адзін прадстаўнік беларусаў — старшыня Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі Мікола Шчорс. (Гл.: Р.С. Да справы вызнаньня Беларусі і Украіны // Бацькаўшчына. № 33–34 (164–165). 30.08.1953).

Прэзыдэнт — адказвае, што некаторыя сэктары Рады і сяньня добра паінфармаваныя (Нямеччына, Лювэн), іншым вышлюцца матэрыялы.

Радны А. Орса — запытваецца, чаму разьдзяляецца вонкавая палітыка, якую праводзіў Прэзыдэнт, ад вонкавае палітыкі, якая праводзілася іншымі дзейнікамі?

Прэзыдэнт — сьцьвярджае, што вонкавая палітыка Рады праводзілася апошнімі часамі ў Мюнхэне, а нейкая дзейнасьць тут была толькі рэхам вонкавай палітыкі, праводжанай там.

Радны Л. Галяк — запрашае выказацца тых, хто праводзіў справы вонкавае палітыкі, апрача Прэзыдэнта.

Радны А. Шукелойць — просіць паясьненьня справы запросінаў і камісіі ў Вашынгтоне па прызнаньню Беларусі і Украіны.

Да пункту 2: Нутраныя справы

*а. Справаздача Прэзыдыюму Рады*

Прэзыдэнт — адзначае, што заданьнем Прэзыдыюму было: каардынацыя працы сэктароў Рады і выконваць пастановы. У прынятым тады закліку на сэктары ўскладаўся абавязак найменш 1 раз на год склікаць сход сэктару, даць справаздачу і інфармацыю далейшай дзейнасьці, а кажны радны павінен быў быць дзейным і рабіць магчымае. Склад Прэзыдыюму быў з 4 асобаў: Прэзыдэнт (старшыня), прэм’ер А. Махноўскі, сакратар Л. Рыдлеўскі і а. А. Смаршчок. Прызыдыюм, хоць і быў расьцярушаны на вялікіх адлегласьцях, што было немалою перашкодаю, але працу праводзіў пераважна ў галіне вонкавае палітыкі. Праца сэктароў, дзе Прэзыдэнт меў бліжэйшы кантакт, праводзілся нядрэнна.

У Бэльгіі зроблена для беларускае справы найбольш і з найвялікшым посьпехам. У Нямеччыне ўсе радныя былі занятыя: Ст. Станкевіч рэдагаваньнем газэты[633] і вядзеньнем выдавецтва «Бацькаўшчына», Вініцкі — заняты адміністрацыяй выдавецтва, Кабыш — вёў справы БНК у Нямеччыне, Бортнік — працаваў у галіне ўтрыманьня кантактаў зь іншымі народамі, Сыч — вядзе справу камбатантаў, у чым яму памагае ня радны С. Хох[634]. Нягледзячы на занятасьць, радныя заўсёды прымалі большы або меншы ўдзел ува ўсіх адбываўшыхся ў Нямеччыне канфэрэнцыях міжнародных. У Англіі таксама ўсе радныя актыўныя, і праца распадзелена. У ЗША — усім прысутным ведамая дзейнасьць. У іншых краінах вялікай актыўнасьці ня было, але кантакт заўсёды ўтрымліваўся. Бяручы пад увагу ненармальнасьць стану нашага жыцьця, недахопаў знайсьці няцяжка, а таму ня мае нічога супраць крытыкі дзейнасьці Прэзыдыюму Рады. Інфармацыйны бюлетэнь ня выдаваўся галоўным чынам па тэхнічных і матэрыяльных прычынах.

*б. Справаздача Ураду*

---

[633] Станіслаў Станкевіч быў рэдактарам газеты «Бацькаўшчына» ў 1948–1962 гг.

[634] Маецца на ўвазе **Сяргей Гох** (? — 30.08.1979, Оснабрук, Нямеччына), грамадскі і вайсковы дзеяч. Былы жаўнер БКА. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Нямеччыне.

Прэм’ер-міністар А. Махноўскі — адзначае ненармальны стан і цяжкасьці працы XIV Ураду БНР, які дзеяў толькі дзеля сьведамасьці патрэбы існаваньня Ураду БНР на выгнаньні. Урад быў пакліканы Прэзыдэнтам, і гэта адбілося на ягоным складзе. На пачатку справы ішлі даволі памысна. Адбылася паездка ў Вашынгтон (А. Махноўскі і Я. Ліманоўскі) у справе беларускіх радыёперадачаў, якая не дала дадатных вынікаў. Праводзілася праца з іншанацыянальнымі прадстаўніцтвамі і быў створаны Кантактны камітэт ды падпісаная адпаведная ўмова. Вось той камітэт і быў першым этапам да стварэньня пазьнейшага Парыскага блёку. Прэзыдэнт праводзіў галоўным чынам у вонкавай палітыцы ў Эўропе ды праводзіў перагаворы з АмКамітэтам. Аднак пазьней праца амаль замёрла дзеля нутраных непаладаў з утварэньнем пэўнае групіроўкі. Дзеля прычынаў нутранога непаладу пачаліся дэмісіі міністраў: др. В. Тумаш, Г. Паланевіч, М. Панькоў, Я. Ліманоўскі. Аб нармальнай працы Ураду ня магло быць і мовы ды рэшта не падалася да дэмісіі толькі не жадаючы кампрамітаваць справы перад чужынцамі сталай крызіснасьцю Ураду БНР.

Радны М. Гарошка — (як б. міністар нутраных спраў) — ня ведаў, што рабіць мае міністэрства нутраных справаў, а таму апрача спробаў палагоджаньня спрэчкі ў Аўстралійскім сэктары нічога не рабіў.

Радны Г. Паланевіч — дзеля пэўных прычынаў падаўся ў дэмісію і нічога таму не пасьпеў зрабіць.

Радны А. Орса — зазначае, што па міністэрству асьветы дзеля кароткага часу існаваньня Ураду ня можа скласьці ніякай справаздачы. З складу Ураду ня выходзіў толькі дзеля падтрыманьня прэстыжу Рады БНР.

Радны Ф. Кушэль — (як б. міністар вайсковых справаў) — зазначае, што ўспамінанай у справаздачы групай кіраваў ён і адказнасьць за яе дзейнасьць як лідэр бярэ на сябе. Аб сваёй дзейнасьці справаздачу складзе заўтра і тады просіць крытыкаваць яе.

Радны Г. Паланевіч — паведамляе, што на першым паседжаньні Ураду Прэзыдэнт казаў, што прэм’ер скліча Урад на наступнае паседжаньне, раздасьць акты міністэрстваў і дасьць пэўныя інструкцыі. На наступным паседжаньні Ураду быў разгледжаны й прыняты адказ на ліст сп. Гэгэчкоры[635] ў справе супрацоўніцтва ў радыё «Вызваленьне». Пасьля закрануліся справы рэдкалегіі газэты «Беларус», аб якой як міністар прапаганды і інфармацыі я нічога ня ведаў. Прэм’ер афіцыйна таксама нічога не казаў і цьвердзіў, што нічога ня ведае. Інструкцыяў ці актаў ніякіх дана ня было. Справа стаяла гэтак, што змушала падаць у дэмісію, што і было зроблена.

Радны Я. Станкевіч — (як сябра гранічнае камісіі Ураду БНР) — камісія (Я. Станкевіч і А. Адамовіч) апрацавала і выдала карту межаў Беларусі, дзеля

[635] **Аўген Гегечкоры** (1882–1954), грузінскі палітычны дзеяч, удзельнік, а ў 1953–1954 гг. і кіраўнік Грузінскага ўраду ў выгнанні.

выдаткаў на якую часапіс «Веда»[636] знаходзіцца ў матэрыяльных цяжкасьцях. Рада павінна сьцьвердзіць гэтыя межы. Зазначае, што карта, выданая а. Л. Гарошкам у Парыжы[637], не згаджаецца з сапраўдным станам нашых межаў, і з ніякімі іншымі картамі. А. Л. Гарошка мусіць адклікаць яе і зрабіць карэкту, бо там праведзеныя межы могуць шмат шкодзіць у перагаворах аб межах БНР з іншымі народамі.

Прэзыдэнт — пратэстуе супраць азначаньня папярэдняга Ураду пакліканым, бо ён быў выбраным. Ніякіх «дэкрэтаваных» урадаў ня было.

Радны Я. Станкевіч — запытваецца, ці праўда, што праз інтэрвенцыю Прэзыдэнта ўспамінаная групоўка дастала субсыдыю ў 10000 даляраў.

Прэзыдэнт — адказвае, што апрача субсыдыі на выданьне газэты ніякіх іншых субсыдыяў не даставаў.

## Пратакол пятага паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 29-га лістападу 1953 году

Старшынствуе заступнік Прэзыдэнта сп. А. Махноўскі.

Сакратары: М. Панькоў і В. Русак.

Прысутнічалі — сп. Прэзыдэнт Рады БНР і 31 спадар радны.

Старшыня А. Махноўскі — абвяшчае паседжаньне адчыненым і паведамляе, што рэзалюцыйная камісія працавала мінулай ноччу і прапануе заслухаць апрацаваны ёю праект рэзалюцыі.

Радны Л. Савёнак — прапануе спачатку правесьці дыскусію над справаздачаю Прэзыдыюму Рады і Ураду.

Прэзыдэнт — дамагаецца, каб сэсія прыняла тую ці іншую рэзалюцыю ў галіне вонкавае палітыкі, праведзенае ім. Адсутнасьць рэзалюцыі перашкаджае яму праводзіць далейшую працу ў дачыненьнях з АмКамітэтам і сэктарамі.

Радны Я. Ліманоўскі — уважае, што пытаньне правамоцнасьці Сэсіі не актуальнае й спозьненае. Прапануе прыступіць да разгляду праекту апрацаванай камісіяй рэзалюцыі.

Старшыня А. Махноўскі — зазначае, што пытаньне правамоцнасьці Сэсіі зусім не падымаецца, але ходзіць толькі аб часе й парадку разгляду Сэсіяй рэзалюцыі.

Прэзыдэнт — просіць трымацца парадку дня працаў Сэсіі і скончыць пачатае разглядам пытаньня вонкавае палітыкі.

Радны В. Тумаш — зачытвае праект апрацаванае рэзалюцыі агулам і па пунктах.

---

[636] **«Веда»** (*Veda)* — навукова-літаратурны часопіс, які выдаваўся ў Нью-Ёрку Крывіцкім (Беларускім) навуковым таварыствам Пранціша Скарыны ў 1951–1952 гг.

[637] Маецца на ўвазе карта Беларусі, выдадзеная ў 1950 г. у Парыжы выдавецтвам «Моладзь», якая была ўклеена ў кнігу Пракопа Каваля (а. Льва Гарошкі) «Беларусь у датах, ліках і фактах» (Парыж, 1953).

Прэзыдэнт — лічыць праект недастатковым і патрабуе дадаць да яго пункт 6, дзе сказаць аб працы з МАКЦ і з Амэрыканскім камітэтам. У заслуханым праекце нічога аб гэтым пазытыўнага не сказана.

Радны В. Тумаш — лічыць, што Рада БНР не ўваходзіла і не ўваходзіць у МАКЦ, які да таго фактычна не існуе, дык няма патрэбы аб ім выказывацца ў рэзалюцыі. Рада БНР трымаецца прынцыповых справаў, і камісія не жадала падаваць нейкіх ангажэмэнтаў наперад.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што неабходна слухаць парадаў Прэзыдэнта і зрабіць у рэзалюцыі папраўкі. Амэрыканцаў трэба ўважаць за нашых найлепшых хаўрусьнікаў, і ЗША адзначаць у рэзалюцыі з падзякай. Нельга таксама зьневажаць расейцаў — Нікалаеўскага і ўласаўцаў, каб іх не адштурхіваць ад супрацы. Прапануе зрабіць адпаведныя дадаткі.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць, што калі мы адзначым групу Нікалаеўскага ды іншых, ідучых на супрацу з дэмакратамі, дык гэтым самым падтрымаем і паглыбім разлом у расейскім адзінанедзялімаўскім фроньце.

Прэзыдэнт — бароніць і вітае тых расейцаў, якія выламаліся з КЦАБу, расцэньваючы іх у сябе так, як ім належыцца. МАКЦ — толькі праект, але гэта ўжо карта, зь якой можна граць. Пункт 4 праекту рэзалюцыі б'ець па нас самых, калі мы зьневажаем расейцаў. Статут МАКЦу — толькі зацэпка для далейшае працы. У гэтым кірунку працуе ўжо камісія і падкамісія сувязі, якія падаюць дэмаршы, мэмарандумы і падобнае АмКамітэту. Пункт 4 праекту рэзалюцыі — шкодны і трэба яго замяніць ацэнкай і адношаньнем да МАКЦу. Пункт 5 добры і можа застацца з невялікім дадаткам.

Радны М. Панькоў — падтрымлівае праект, зачытаны радным В. Тумашам, і адзначае, што мы ня можам ісьці ў хаўрусе з Нікалаеўскім і ўласаўцамі. Калі нашыя браты за часоў панаваньня ўласаўшчыны на акупаваных немцамі прасторах, рызыкуючы быць павешанымі альбо дастаць кулю з-за кута па правераным гэстапаўскім прыёмам, ня ішлі ў хаўрус з уласаўцамі, дык тым менш маем мы хоць нейкае права сяньня ў вольнай дзяржаве ЗША хаўруснічаць з падобнымі элемэнтамі дзеля атрыманьня нейкіх субсыдыяў.

Радны П. Манькоўскі — прапануе дадаць да праекту рэзалюцыі яшчэ пункт 6. Апраўдваецца, што ён не пасьпеў ноччу добра прадумаць тэкст праекту.

Радны А. Шукелойць — падчырківае, што праект рэзалюцыі, апрацаванай камісіяй, правільна адлюстроўвае пазыцыі, занятыя большасьцю спадароў радных у часе дэбатаў над пытаньнямі нашае вонкавае палітыкі апошняга часу. Зазначае, што Нікалаеўскі больш марксысты і не прадстаўляе расейскіх поглядаў, бо Расея ня ёсьць краінай індустрыяльнай.

Радны А. Адамовіч — лічыць ня спрытным нападаць на сацыялістых, як гэта зрабіла АБНД, ды гэтым кампрамітавацца, бо гэта не палітычна. Нам станавіцца на шлях рэакцыі і нападаць на расейскіх сацыялістых не выпадае. Калі Нікалаеўскі не падзяляе поўнасьцю расейскіх паглядаў, дык гэта і добра, бо гэта расейскія «зарубежнікі», а іх трэба падтрымаць. З партыяй

Аляксінскага справа выглядае безнадзейна, а група Нікалаеўскага — традыцыйная расейская арганізацыя.

Радныя Я. Станкевіч і П. Манькоўскі зачытваюць свае папраўкі да праекту рэзалюцыі, якія знаходзяцца ў матэрыялах пазьнейшай рэзалюцыйнай камісіі, выпраўляўшай першы праект рэзалюцыі.

Радны В. Русак — зазначае, што праект рэзалюцыі ў даным выглядзе не дае магчымасьці далейшае дзейнасьці сп. Прэзыдэнту, а таму неабходна пераапрацоўка.

Прэзыдэнт — прапануе выкінуць пункт 4 рэзалюцыі і, перасунуўшы нумарацыю, дадаць як пункт 5 прапанаваны тут пунктам 6 праект Манькоўскага з дадаткам Я. Станкевіча. Гэта дало-б магчымасьць далейшай апэратыўнасьці ў дзейнасьці.

Радная А. Савёнак — уважае, што паданы праект рэзалюцыі апрацаваны салідна й лёгічна. Калі патрабуе сытуацыя, дык можна агулам апусьціць словы *«не найшлося паважнай расейскай арганізацыі»*. МАКЦ не да прыняцьця, ня толькі таму, што Рада — дзяржаўная арганізацыя, але проста таму, што МАКЦ — прарасейская ўстаноўка.

Радны Л. Савёнак — зачытвае пункт 6 палітычнае пляцформы МАКЦ і адзначае яго аблыжнасьць. Авансавацца, як прапануе радны Манькоўскі, — вялікая небясьпека. Пасьлаць нейкіх староньніх прадстаўнікоў да нейкіх перагавораў — справа Ураду. Прапануе прыняць паданы праект рэзалюцыі і абвесьціць рэзалюцыю ў прэсе.

Радны М. Тулейка — уважае, што прапанаваны Манькоўскім пункт 6 пярэчыць усяму зьместу рэзалюцыі, і таму дадаткаў гэткіх нельга прыняць. Прапануе апрацаваць адпаведную інструкцыю для далейшага апэратыўнага дзеяньня, а рэзалюцыю прыняць афіцыйна. Бачыць у гэтым добры выхад з становішча.

Радны А. Адамовіч — бачыць у выступе раднага Савёнка тэндэнцыйнасьць тлумачэньня пункту 6 пляцформы МАКЦ. Аляксінскага характарызуе як бальшавіцкага дэпутата Государственной Думы, які дзесяць разоў зьмяняў свае погляды. Бароніць партнэрства Нікалаеўскага і палітыку адчыненых дзьвярэй.

Радны П. Манькоўскі — думае, што некаторыя радныя не здаюць сабе дакладнага становішча. Рада, самазразумела, не падпіша статутаў МАКЦу, але з другога боку — Рада мусіць быць там і працаваць. Прапанаваны ім пункт 6 рэзалюцыі і дае магчымасьць гэткага выхаду.

Прэзыдэнт — дзівіцца прэтэнзіям некаторых радных браць для сябе манапольны патрыятызм, з чым можна часткова згадзіцца, але ніколі не пагодзіцца аддаць толькі некаторым «манаполь палітычны». Вось гэткія прэтэнзіі і твораць мітусьню ды бязвыходнасьць становішча. Калі ён падпісаў парыскія ўмовы і ўвайшоў у Парыскі блёк ад Рады БНР, дык ён ня бачыў іншага выхаду. Гэта забавязвае імкнуцца да стварэньня блёку дзяржаўных органаў. Гэтага пакуль асягнуць не ўдалося, і Парыскі блёк пастанавіў ня рваць адносінаў з АмКамітэтам, а шукаць іншых шляхоў супрацоў-

ніцтва. У статуце МАКЦ ня бачыць нічога зьвязваючага дзейнасьць туды ўваходзячых. Гэтак-жа зраблі і робяць таксама іншыя партнэры Парыскага блёку — украінцы, грузіны і г. д. Як довад, падаецца прыклад аб дабіваньні аўдыцыяў «Голас Амэрыкі». Заявы на гэтыя аўдыцыі падаваліся ад імя Рады БНР, а гэта вяло да аўдыцыяў, узалежненых ад расейцаў. Украінцы пайшлі на гэта: сьпярша давалі перадачы пра Пятра Вялікага, Дастаеўскага і пад. За паўгода перабудавалі ўсё й даюць нацыянальныя зьместам аўдыцыі, унезалежненыя ад расейскага аддзелу. Украінцы пасылаюць сваіх прадстаўнікоў ад УНРады ўсюды, бо з іншымі ня гутараць. Таму і мы ня можам выпіхнуць сябе за борт дзейнасьці, а нашае становішча і ўдзел у Парыскім блёку і ў дачыненьнях з АмКамітэтам вымагаюць саліднага адношаньня. Прапанаванай рэзалюцыяй мы вылучаем сябе ад усялякага ўдзелу ў далейшай дзейнасьці на міжнародным форуме, а таму нельга яе прыняць.

Радны В. Тумаш — задаволена адзначае, што наскора апрацаваная рэзалюцыя агулам да прыняцьця з некаторымі зьменамі. Прапануе паставіць рэзалюцыю на галасаваньне.

Радны П. Манькоўскі — падчырківае, што МАКЦ паўстаў, безумоўна, толькі на жаданьне амэрыканцаў, а не кагосьці іншага. Лічыць свой дадатак да рэзалюцыі неабходным, каб даць магчымасьць далейшае дзейнасьці нашага прадстаўніка.

Радны Я. Станкевіч — зазначае, што на яго думку, усе згодзяцца выкінуць пункт 4 праекту рэзалюцыі, а замест яго падаць той зьмест, які ён прапануе. Зрэдагаваць гэты зьмест — справа рэзалюцыйнае камісіі. Зрабіўшы папраўкі, прапануе рэзалюцыю прыняць.

Радны А. Шукелойць — уважае кіданьне рэплік, як «самастыйнік», «зарубежнікі» ці «АБН» — непатрэбныя і не на мейсцы на паседжаньнях Рады. Мае свой погляд на рэчы і зьявы, які і бароніць, як можа. Апрацоўваючы праект рэзалюцыі, камісія ўзяла пад увагу дыскусіі па нашай вонкавай палітыцы апошняга часу, а таксама і іншыя важныя моманты. З невялічкімі стылёвымі папраўкамі рэзалюцыя можа быць прынятая, і яна зусім не зьвязвае рукі да дзейнасьці нашых выканаўчых органаў. Прыймальнай да супрацы расейскае палітычнае партыі сярод існуючых ня бачыць.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць пункт 4 праекту рэзалюцыі важным, які нельга выкідаць, бо ён ускладае адказнасьць за развал справы стварэньня антыбальшавіцкага фронту.

Прэзыдэнт — прапануе перадаць праект рэзалюцыі назад у камісію дзеля дакладнейшага і далікатнейшага апрацаваньня.

Пасьля абмену думак з радным, заступнікам Прэзыдэнта А. Махноўскім, апошні падтрымлівае тую-ж прапанову і ставіць на галасаваньне ад свайго імя.

Галасаваньне:

Прапанова раднага В. Тумаша, існуючы праект: за — 8 галасоў.

Прапанова раднага А. Махноўскага, перапрацаваць: за — 20 галасоў.

Большасьцю галасоў прысутных на паседжаньні радных прымаецца другая прапанова, і праект рэзалюцыі зьвяртаецца назад у камісію.

Абвяшчаецца перапынак на 30 мінут.

Радны В. Кажан (як дзяржаўны скарбнік) — складае фінансавую справаздачу:

*Фінансавая справаздача касы Фонду БНР за час ад 24.XI.1951 г. да 29.XI.1953 г.*

Прыбыткі:

Астача з папярэдняй справаздачы 24.XI.1951 г. — $454.44

2 % падатак сяброў Рады БНР у ЗША — $2768.18

Агульнаграмадзкі падатак — $390.96

Атрымана з Аўстраліі (грамадзкі падатак) — $22.28

Іншыя аднаразовыя паступленьні — $212.00

Разам — $3848.86

Выдаткі:

Выдаткі Прэзыдыюму Рады БНР Парыж — Нью Ёрк — $175.00

Падарожжа сп. Прэзыдэнта Парыж — Нью Ёрк і назад — $624.65

Выдаткі, зьвязаныя з працай і ўтрыманьнем сп. Прэзыдэнта ў ЗША (1951 — 1953) — $850.00

Зварот надплаты некаторым сябрам у 1950 — $225.42

Рэпрэзэнтацыйныя паездкі прадстаўнікоў БНР — $468.38

Канцэлярыйныя і паштовыя выдаткі (пішучая машынка, аплата памешканьня) — $260.53

Часапісы і газэты для ворганаў БНР — $25.53

Дапамога БАПЦаркве (Уладыку Сяргію — $176.50) — $248.85

Адлічэньні для САБЭ — $38.00

Выслана на паховіны сьв. пам. раднага Л. Рыдлеўскага — $201.65

Разам — $3117.51

Стан касы на 29.XI.53 — $731.35

Радны В. Тумаш (як б. міністар вонкавых справаў) — коратка пералічвае зробленае ў галіне вонкавае палітыкі пад час ягонага дзеяньня (ад канца сакавіка да канца чэрвеня 1953), пасьля чаго ён падаўся ў дэмісію.

Радны Ф. Кушэль (як б. міністар вайсковых справаў) — паведамляе, што ня мае чаго складаць у справаздачы.

Радны А. Махноўскі — просіць раднага Кушэля даць абяцаную на папярэднім, яшчэ толькі ўчарашнім паседжаньні справаздачу як лідэра групоўкі.

Радныя Н. Краўцэвіч, М. Гарошка, Ю. Старасельскі, У. Русак і іншыя патрабуюць з месц трымацца парадку дзённага.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць, што радны А. Махноўскі злоўжывае становішчам старшыні Сэсіі і, ужываючы мянушкі як «лідар групоўкі», абражае раднага.

Радны Б. Данілюк — патрабуе, каб сп. Махноўскі перадаў вядзеньне Сэсіі іншаму раднаму, якога выбяруць.

Радны В. Тумаш — ня бачыць ніякае прычыны зьмены старшыні Сэсіі, радзіць трымацца дзённага парадку працаў. Дзеля дасьледаваньня нутраных справаў створана камісія, на выніку працы якой Сэсія чакае.

Радны М. Гарошка — падтрымлівае прапанову раднага Б. Данілюка.

На залі паседжаньня пануе ўвесь час гоман.

Радны А. Шукелойць — зазначае, што кажны, маючы што сказаць, павінен запісацца да прамовы, а не гаварыць з месц.

Радны Б. Данілюк з месца — Трэба кіравацца дабром справы ды мець такт!

Радны Я. Станкевіч — адзначае факты ўзурпацыі групоўкаю ўлады Ураду і патрабуець разгляду іх.

Радны А. Орса — напамінае, што ён ужо казаў аб немагчымасьці разглядзіць вонкавае палітыкі, калі ня будуць палагоджаныя насамперш справы нутраных канфліктаў.

Радны Л. Савёнак — ня бачыць злоўжываньня становішчам старшыні і радзіць разглядаць справы парадку дзённага, зь якога ўсё выплыве наверх само сабою.

Радны Б. Данілюк — прапануе перавыбраць старшыню Сэсіі.

Радны В. Тумаш — ня бачыць патрэбы перавыбараў старшыні Сэсіі.

Радны Я. Станкевіч — зазначае, што калі групоўка ўзурпавала ўладу, дык і павінна скласьці справаздачу з праведзенай дзейнасьці.

Радны М. Гарошка — адзначае, што ўзурпацыя групоўкаю ўлады ня мае довадаў.

Радны А. Орса — падчырківае довад існаваньня групоўкі ўжо самымі выступамі зацікаўленых і тых асобаў, якія дзейнічаюць па падказцы. Гэтымі выступамі зацікаўленыя і вінаватыя хочуць сарваць далейшую працу Сэсіі.

Радны Л. Савёнак — уважае, што калі далей разглядаць справы, стоячы на прадку працаў Сэсіі, дык сама сабой вынікне неабходнасьць справаздачы з дзейнасьці групоўкі.

Прэзыдэнт — з сумам зазначае, што ўвесь час ім залагоджваны выбух нэрваў стаўся фактам. Сьцьвярджае існаваньне груповак у Радзе БНР, якіх бачыць аж тры. Разлад між гэтымі групоўкамі спрычыніўся да спаралізаваньня працы на правінцыі, што сьцьвердзіў і Жук-Грышкевіч. Радзіць знайсьці нейкую формулу бязболевага вырашэньня нашае нацягнутае нутраное сытуацыі, бо пакараньне таго ці іншага ня дасьць пазытыўных вынікаў, а толькі яшчэ больш завострыць сытуацыю. Гэтакі выхад, толькі адзіна гэтакі прынясе карысьць для ўсяго нашага вызвольнага руху. Разладу толькі і чакаюць нашыя ворагі, расейцы ды іншыя. Цяпер выбар зроблены, камісія працуе і дасьць сваю справаздачу. Не лёгічна было траціць некалькі гадзінаў на выбары камісіі і дыскусіі, а цяпер касаваць зробленае. Старшыню заклікае больш трымацца акадэмічнасьці.

Радны Ю. Старасельскі — лічыць, што ў Радзе БНР існуюць не тры, а чатыры групоўкі, ласьне: 1. Пазыцыя — сам Прэзыдэнт, 2. Апазыцыя — Ада-

мовіч і інш. 3. АБНД, 4. Кушэль і іншыя, якія падтрымліваюць Прэзыдэнта і якую стварыў сам Прэзыдэнт.

Радны П. Манькоўскі — лічыць пагляд Прэзыдэнта аб існаваньні груповак у Радзе неправідловым. Кушэль не зьяўляецца ніякім ні кіраўніком, ні лідэрам.

Радны Ф. Кушэль — зазначае, што ніякае групоўкі ён ня мае, але ўчора быў абражаны прэм'ерам назовамі *«палітбюро, фінансбюро»*, і таму прыняў нібы групоўкай, за што і будзе адказваць.

Радны Б. Даніловіч — думае, калі-б называлі прозьвішчы належачых да груповак, дык гэткіх зусім не знайшлося-б.

Радны У. Русак — спадзяваўся, што дыскусіі па вонкавае палітыцы будуць галоўным пунктам Сэсіі, але цяпер бачыць памылку. Галоўнае настае цяпер з гэтым ажыўленьнем. Прапануе, каб старшыня Сэсіі зрокся на час разгляду нутраных справаў старшынства як старана зацікаўленая.

Радны Д. Клінцэвіч — падтрымлівае выказанае раднымі Даніловічам і Русаком.

Радны Я. Ліманоўскі — прапануе, каб на паседжаньнях зьвярталіся толькі афіцыйна зваротам*»Паважаны спадар радны»*.

Радны А. Орса — бачыць штучна ўзьнятае пытаньне (абмеркаванае за кулісамі) аб груповасьці старшыні Сэсіі, бо кажны належыць да нейкае групоўкі, якую і бароніць. Зьмену старшыні лічыць немагчымай.

Радны Ф. Кушэль — згаджаецца на дыскусіі пытаньня, але бяз войстрасьцяў і грубасьцяў, падобных учарашнім.

Радны Л. Савёнак — згаджаецца з прапановаю Прэзыдэнта, каб усё разгледзіць спакойна, акадэмічна. Лічыць немагчымым зьмяніць раз абраны Прэзыдыюм Сэсіі.

Радны М. Тулейка — лічыць непатрэбнай зьмену старшынства Сэсіі і пратэстуе супраць прыняцьця Кушэлям на сябе тытулу лідарства групоўкі.

Радны А. Махноўскі — зракаецца старшынства на час разгляду нутраных справаў; перадаець старшынства Прэзыдэнту.

Радны К. Вадэйка[638] — лічыць гутаркі марнаваньнем часу і заклікае да парадку працаў Сэсіі.

Галасаваньне: зьмяніць старшыню Сэсіі: за — 21 голас.

Кандыдатамі на старшыню Сэсіі выстаўляюцца: радныя В. Тумаш, А. Стагановіч, А. Орса, М. Міцкевіч і Ф. Родзька, якія ўсе па розных прычынах зракаюцца.

Прэзыдэнт абвяшчае перапынак на 15 мінут.

Радны Я. Ніхаёнак — зазначае, што падзеі на мінулае Сэсіі вынесены на вонкі і просіць, каб гэтага ня сталася цяпер.

Прэзыдэнт — апэлюе да радных, каб усе падзеі і дыскусіі на паседжаньнях Сэсіі Рады БНР захаваліся ў таямніцы.

---

[638] **Канстанцін Вадэйка** (1883–1963), грамадскі дзеяч.

Радны А. Орса — ня бачыць важнасьці хаваньня справы, але знаходзіць выхад толькі ў шчырым разглядзе яе ды прызнаньні віны тымі сябрамі, якія вінаватыя. Прапануе зачыніць паседжаньне.

Радны Я. Арцюх — зазначае, што ўжо прагаласаваная й прынятая пастанова аб выбарах заступніка.

Радны М. Міцкевіч — канстатуе, што сп. Махноўскага ня толькі апэлявалі, але дамагаліся зрэзыгнаваць з становішча старшыні, а таму трэба выбіраць заступніка.

Радны Н. Краўцэвіч — віну ўсяго закалоту бачыць у няправідловым вядзеньні паседжаньняў старшынёй. Патрабуе абраць іншага заступніка і старшыню Сэсіі.

Прэзыдэнт — падтрымлівае раднага М. Міцкевіча, каб выбраць заступніка старшыні Сэсіі і на гэтым закрыць паседжаньне. Бярэцца выясьніць інтындэнт[639] непасрэдна сам з радным А. Махноўскім.

Радны А. Орса — просіць ня выбіраць заступніка старшыні зараз, але адкласьці да наступнага паседжаньня, каб не распальваць барацьбы і не паглыбляць крызы.

Галасаваньне: адкласьці выбары заступніка Сэсіі да наступнага паседжаньня (прапанова раднага А. Орсы): за — 9, супраць — 10, устрымалася — 7.

Прапанова адкідаецца.

Пастанаўляецца прыступіць да выбараў заступніка старшыні Сэсіі:

Я. Ліманоўскі — катэгарычна адмаўляецца.

М. Тулейка — адмаўляецца.

В. Кажан — за — 10, супраць — 0, устрымалася — 12.

Н. Краўцэвіч — за — 11, супраць — 0, устрымалася — 6.

В. Тумаш — катэгарычна адмаўляецца.

Я. Ніхаёнак — адмовіўся.

Я. Арцюх — за — 5, супраць — 0, устрымалася — 17.

Б. Данілюк — адмовіўся.

Радны Н. Краўцэвіч большасьцю галасоў (11:0:6) выбіраецца на заступніка старшыні Сэсіі.

Радны Ф. Родзька — пратэстуе супраць выбараў, якія з праўнага боку не правамоцныя.

Радны В. Кажан — прапануе аплачываць раднаму Н. Краўцэвічу як заступніку старшыні Сэсіі палову коштаў падарожжа.

Пры падтрымцы раднага Ф. Кушэля і з ціхай згодай Прэзыдэнта прапанова раднага В. Кажана прыймаецца без галасаваньня і разгляду.

---

[639] Памылка. Маецца на ўвазе «інцыдэнт».

## Пратакол VI-га паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 20-га сьнежня 1953 году

Старшынствуе Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык.

Сакратары: М. Панькоў і В. Русак.

Прысутнічала 33 спадароў радных.

Радны А. Махноўскі — адзначае непрацаздольнасьць дасюлешніх паседжаньняў і падчырквае незаконнасьць зробленых на канцы апошняга паседжаньня давыбараў у Прэзыдыюм Сэсіі. Настойвае, каб выбраны на пачатку Сэсіі Прэзыдыюм (Прэзыдэнт, Прэм’ер і сакратары) павінен правесьці ўзложаную на яго працу, незалежна ад таго, ці гэта падабаецца ці не падабаецца некаму. У сувязі з гэтым ставіць на галасаваньне аб праўнасьці зробленых на апошнім паседжаньні давыбараў другога заступніка старшыні.

Радны А. Орса — лічыць, што ў даным выпадку трэба кіравацца статутам Рады.

Радны У. Русак — ня бачыць ніякага праступленьня, бо быў дабраны толькі другі заступнік старшыні для часовага аб’ектыўнага праводжаньня працаў Сэсіі. Гэта не азначае, што ён уваходзіць у Прэзыдыюм Рады.

Галасаваньне: прызнаюць выбары 2-га заступніка законнымі — 7, незаконнымі — 8, устрымалася ад галасаваньня — 7.

Давыбары другога заступніка паводле галасаваньня прызнаюцца няважнымі.

Радны А. Махноўскі — прапануе прыступіць да разгляду парадку дня.

Прэзыдэнт — зьвяртаецца да радных з прамовай, каб скончыць насамперад з прыняцьцём рэзалюцыі па вонкавай палітыцы.

Сакратар М. Панькоў — паведамляе, што дыскусіі над справаздачамі не адбылося.

Радны П. Манькоўскі — за адсутнасьцю старшыні рэзалюцыйнае камісіі др. В. Тумаша, які ня змог зьявіцца на паседжаньне, зачытвае рэзалюцыю.

Прэзыдэнт — адзначае цяжкасьці прыняцьця рэзалюцыі, што наперад прадбачыў. Неабходнасьць захаваньня такту ў далейшым дзеяньні, аб чым пераканаўся ў гутарцы з гэн. Дроў[640], які толькі гэтымі днямі прыбыў з Эўропы. Паводзіны ўкраінцаў выклікалі напад і на паседжаньні Парыскага блёку ў Парыжы, за няправільную інфармацыю ў сваёй прэсе. Пасьля гэтага прадстаўнікі ўкраінцаў скарыгавалі сваю палітыку адносна непагаджэньня і паправак статуту МАКЦу ды падцьвердзілі, што й надалей будуць супрацоўнічаць у Парыскім блёку. Гэта забавязвае і нашую Раду ня выламлівацца з агульных рамак ды ставіць розныя перашкоды, ствараючы непаразуменьні.

Радны Л. Галяк — зазначае супярэчнасьці паданага Прэзыдэнтам у прамове і ў статуце МАКЦу. Ня прыпушчае, каб амэрыканцы не жадалі ўдзелу дзяржаўных органаў паняволеных бальшавікамі народаў у МАКЦы, бо гэта азначала-б прызнаньне іх. Наадварот, гэтыя дзяржаўныя органы, падпісаў-

[640] Маецца на ўвазе **Драстамат Канаян**, вядомы як **генерал Дро** (1883–1956), армянскі палітычны і вайсковы дзеяч, сябра партыі Дашнакцуцюн.

шы статут МАКЦ, перастаюць быць дзяржаўнымі прадстаўніцтвамі згодна пункту 4 статуту МАКЦ.

Прэзыдэнт — падае важнасьць інтэрпрэтацыі, у якіх можа быць разьбежнасьці: у будучыне органы дзяржаўныя будуць выбраныя ў вольнай дзяржаве.

Радны А. Махноўскі — падкрэсьлівае, што незалежна ад складу свайго Рада БНР ня можа зракацца сваіх правоў ні цяпер, ні на будучыню.

Радны П. Манькоўскі — лічыць, што стварэньне нейкага цэнтру перадусім мэта амэрыканскае палітыкі, а пасьля толькі нашая. Прызнаньне Рады дзяржаўным органам сяньня зусім немагчымае з угляду на СССР. Аднак мы павінны мець у гэтым цэнтры найбольш салідную рэпрэзэнтацыю, чаго хочуць і амэрыканцы. Рада мае сваёй мэтаю змаганьне за незалежнасьць.

Радны Я. Станкевіч — прызнае дзіўнасьць і неадпаведнасьць казанага радным П. Манькоўскім, дадаючы, што Рада ня можа зракацца сваіх правоў.

Прэзыдэнт — уважае, што Рада і не зракаецца ды ніхто гэтага адрачэньня ад Рады і не вымагае. Гэта толькі перашкода, якая нам не дазваляе ўступіць у МАКЦ.

Радны М. Панькоў — падчырківае, што абавязкі Рады прынятыя ня намі і мы ня маем права іх складаць з сябе.

Адбываецца зачытаньне рэзалюцыі па пунктах:

*Пункт 1. Рада БНР уважае за справу вялікай палітычнай вагі паднятае ад даўжэйшага часу пытаньне неабходнасьці стварэньня міжнацыянальнага цэнтру для пашырэньня і актывізацыі супольнага фронту антыкамуністычнага змаганьня за вызваленьне паняволеных Масквой народаў.*

Пункт першы ня выклікае дыскусію.

*Пункт 2. Рада БНР уважае, што натуральнымі й напэўнейшымі саюзьнікамі як беларускага народу, так і вольнага сьвету зьяўляюцца тыя народы і тыя палітычныя партыі, якія ня маюць ніякіх імпэрыялістычных намераў да народаў іншых.*

Дыскусія па п. 2:

Радны Я. Станкевіч — прапануе пералічыць у пункце дзяржавы ў альфабэтычным парадку.

Радная А. Савёнак — падтрымлівае прапанову раднага Станкевіча.

Радны Л. Савёнак — прапануе дадаць між словамі *«саюзьнікамі як беларускага»* наступнае: *«саюзьнікамі нацыянальна-вызвольнага антыбальшавіцкага змаганьня як беларускага…»*.

*Пункт 3. Рада БНР дзеля таго лічыць за паважнае палітычнае асягненьне на шляху вызвольнага антыбальшавіцкага змаганьня факт стварэньня з дзяржаўна-эміграцыйных палітычных прадстаўніцтваў у сакавіку г. г. у Парыжы «Парыжскага блёку», у які ўжо ўвайшлі беларусы, армяне, азербайджанцы, грузіны, ідэл-уральцы й паўночна-каўказцы.*

Дыскусія па п. 3:

Радны Б. Данілюк — адзначае, што быў створаны ня толькі Парыскі блёк, але таксама і МАКЦ, і КЦАБ, а таму аб гэтым трэба прамаўчаць.

Радны Я. Станкевіч — замяніць слова «вяліка-дзяржаўніцкі» на «імпэрыялістычныя».

Радны М. Міцкевіч — падтрымлівае прапанову раднага Б. Данілюка.

Радны А. Шукелойць — прапануе замяніць сказ *«Блёк увайшоў у сувязь з некаторымі расейскімі палітыкамі»* на *«з некаторымі расейскімі палітычнымі групамі»*.

Радны Л. Савёнак — уважае неправідловым ужываць тэрмін «амэрыканцы», але ставіць «Амэрыканскі камітэт», што адказвае праўдзе.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць нетактычным ужываць тэрмін «Амэрыканскі камітэт», бо ў ім ёсьць розныя плыні, таксама і прыхільныя да нас.

Прэзыдэнт — зазначае, што не настойвае на гэтым спэцыяльна.

Радны Б. Данілюк — падае іншую дэфініцыю гэтага пункту.

Прапанова раднага Данілюка, іншая рэдакцыя пункту 3 рэзалюцыі дае наступныя вынікі галасаваньня: за рэдакцыю, прапанаваную камісіяй — 19, за рэдакцыю, прапанаваную Б. Данілюком — 2.

Прыймаецца рэдакцыя, паданая рэзалюцыйнай камісіяй.

*Пункт 4: Рада БНР адначасна сьцьвярджае, што ведзеныя з ініцыятывы і з пасярэдніцтвам амэрыканскіх палітычных кругоў перамовы прадстаўнікоў Парыскага блёку з некаторымі расейскімі эміграцыйнымі палітыкамі не давялі да ўстанаўленьня нейкай супольнай палітычнай пляцформы для практычнай палітычнай судзейнасьці дзеля таго, што сярод расейскай эміграцыі не знайшлося паважнейшай партыі ці палітычнай групы, якая-б на строга дэмакратычных прынцыпах роўнасьці ўсіх народаў адмовілася-б station... *

Пункт 4 рэзалюцыі дыскусіі не выклікае.

*Пункт 5. Рада БНР сьцьвярджае, што ані яна, ані Урад БНР не ўваходзіў, ані ўваходзіць у праектаваны ў Мюнхэне так званы МАКЦ і такі ўваход ня быў, ані ёсьць прадбачаны ані магчымы, паколькі МАКЦ мюнхэнскімі перамовамі не намячаўся як каардынацыйны цэнтр дзяржаўных прадстаўніцтваў, а толькі як палітычны твор для дакладна азначаных адмысловых мэтаў.*

Дыскусія па п. 5:

Радны В. Русак — лічыць непатрэбным уводзіць у тэкст пункту падзякі беларускай дэлегацыі, а перагаворы ў нарадах аб МАКЦ, але калі гэта неабходна, дык можа лепей ужыць слова «ацэньвае».

Радны Л. Савёнак — дзівіцца, чаму ў рэзалюцыю ўносіцца падзяка за Мюнхэн, БАФ і падобнае.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што падзяку можна вынесьці за Парыскі блёк, але ніяк за Мюнхэн.

Радны М. Гарошка — думае, што падзякаваць за зробленае можна сп. Прэзыдэнта непасрэдна на паседжаньні рады, але ў рэзалюцыі гэта выглядае непалітычна.

Радны А. Махноўскі — падтрымлівае думку раднага Гарошкі.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць, што ў разе патрэбы й неабходнасьці можна ўжыць слова «адабрае» замест «падзякі».

Радны М. Міцкевіч — запытвае, як з папраўкамі да статуту МАКЦ.

Радны Л. Савёнак — зазначае, што трэба разьмежаваць у дыскусіі дзейнасьць Парыскага блёку і МАКЦу. Маскоўская і ўкраінская прэса дастаткова грунтоўна насьвятляюць пытаньне. Пазыцыі Нікалаеўскага добрыя і ведамыя, таксама добры Парыскі блёк пакуль не «ажаніўся» з Нікалаеўскім.

Радны Я. Станкевіч — думае, што прэса піша тое, што хоча, але мы адказваем за тое, што падпісваем. Асобы, зь якімі супрацоўнічаецца, Нікалаеўскі ці іншыя, ня маюць вялікага значаньня.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што паправак да статуту МАКЦ у рэзалюцыі падаваць ня трэба, бо аб іх дыскутавалася даволі шырака, і пажаданьні возьмуцца пад увагу. МАКЦ — арэна для дзейнасьці.

Прэзыдэнт — Справа Рады — вынесьці ацэнку зробленага. Нельга было ня прыняць судзейнасьці з Нікалаеўскім у некаторай меры выгоднай для нас. Апрача таго, мы мусім лічыцца з дамаганьнямі амэрыканцаў. Як довад, падаецца прыклад вострага вымаганьня Долеса[641] да дзяржаваў Атлянтыцкага пакту[642] ратыфікацыі пакту. І гэтыя краіны свае першыя абурэньні вымаганьнямі Долеса замянілі сяньня развагамі. Мы-ж маем меншыя магчымасьці, каб не зьвяртаць увагі на дамаганьні амэрыканцаў, чым Францыя і Англія. Яму асабіста падзякі ад Рады за зробленае непатрэбна, бо дастаткова меў за ўсё абразаў. *«Пратэстую ўжываньня закідаў, што я зрокся прынцыпаў»*. Прызнаньне дзейнасьці — патрэба нашае далейшае палітыкі. На салідныя адносіны да нас партнэраў супрацы павінны быць гэткімі-ж і з нашага боку.

Радны Н. Краўцэвіч — лічыць пункт 4 рэзалюцыі лішнім, бо Рада БНР у МАКЦ не ўваходзіць. Таксама зусім непатрэбнае адабрэньне дзейнасьці, бо няведама, да чаго гэта можа давесьці.

Радны Л. Савёнак — абараняе свае ўжо выказаныя пазыцыі і ў довад праўдзівасьці цытуе з расейскае прэсы некаторыя мейсцы пісаньня Нікалаеўскага.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што непатрэбна баяцца ўваходу ў тыя ці іншыя блёкі, калі гэта для нас выгодна. А адбыўшыяся ўваходы карысныя для нас. Можна пагадзіцца з тым, што нам адказвае, і не пагаджацца на тое, што нам не адказвае.

Радны А. Махноўскі — прапануе разьдзяліць пункт рэзалюцыі «*вітаць Парыскі блёк»* і далейшую дзейнасьць, але не памінаць тут-жа МАКЦу.

---

[641] Маецца на ўвазе **Джон Фостэр Далес** (*John Foster Dulles,* 1888–1959), амерыканскі палітычны дзеяч, у 1953–1959 гг. Дзяржсакратар ЗША.

[642] Маецца на ўвазе **Паўночнаатлантычны пакт** (*The North Atlantic Treaty*) 1949 г., які падпісалі 12 краінаў Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі, утварыўшы такім чынам ваенна-палітычны блок *NATO* (*The North Atlantic Treaty Organization*).

Радны Б. Данілюк — лічыць, што пункт 5 рэзалюцыі няўдачны, бо мусіць быць болей умераным.

Радны П. Манькоўскі — падчырквае, што калі Рада хоча, каб Прэзыдэнт дзейнічаў, дык павінны апрабаваць ягонуую дасюлешнюю дзейнасьць.

Прэзыдэнт — адказвае радным Н. Краўцэвічу і Л. Савёнку: Парыскі блёк — зьявішча не выпадковае і ведама таксама, куды ён ідзе. Былі дзьве дэкларацыі Блёку — пасьля Карслсруэ і Парыжу, якія яскрава аб гэтым гавораць. Апрача таго на нас ляжаць забавязаньні перад партнэрамі. Калі нехта ўважае, што нашае месца ў АБН, дык хай кансэквэнтна трымаецца гэтага погляду. АБН ня мог заняць месца прадстаўнікоў Парыскага блёку.

Радны Г. Паланевіч — уважае, што рэдакцыя пункту 5 рэзалюцыі неадпаведная. Ранейшая дзейнасьць Б. Рагулі і іншых ужо досыць ацэньвалася раней. Прыводзіць матывы Нікалаеўскага, чаму той пайшоў у МАКЦ, а таму мы павінны падаць свае матывы ў рэзалюцыі.

Радны Н. Краўцэвіч — канстатуе, што Парыскі блёк прарабіў добрую працу, і таму аб гэтым ня трэба шмат гаварыць.

Радны А. Махноўскі — лічыць, што большасьць радных выказалася супраць данай рэдакцыі пункту 5.

Радны Б. Даніловіч — зазначае, што аб тым, як думае большасьць, пакажа галасаваньне.

Радны Л. Галяк — знаходзіць, што неабходна паясьніць пункт увядзеньнем сказу: *«дэлегацыі той арганізацыі, якая будзе браць удзел»*.

Прэзыдэнт — лічыць, што дадатак можна прыняць, але бяз слова «арганізацыі».

Радны П. Манькоўскі — зачытвае зьменены тэкст пункту 5 рэзалюцыі.

Радны Л. Савёнак — прапануе прыняць рэзалюцыю, апрацаваную рэзалюцыйнай камісіяй і зачытаную на папярэднім паседжаньні Рады, бо хоць яна і не адказвае нашаму становішчу, аднак яе можна прыняць як больш кампрамісовую.

Некалькі галасоў з месцаў: камісіі было даручана пераапрацаваць рэзалюцыю.

Прэзыдэнт — зазначае, што кажны радны можа прапанаваць сваю рэзалюцыю.

Зачытваюцца абедзьве рэзалюцыі.

Радны Л. Савёнак — прапануе паіменнае галасаваньне.

Прапанова раднага Л. Савёнка пастаўлена на галасаваньне, дае наступныя вынікі: за паіменнае галасаваньне — 7, за агульнае — 17.

Праекты рэзалюцый у I і II рэдакцыях пастаўленыя на галасаваньне, даюць наступныя вынікі: за рэзалюцыю ў сучаснай рэдакцыі — 19, за рэзалюцыю ў папярэдняй рэдакцыі — 5, устрымаліся — 7.

На патрабаваньне галасаваўшых запісаць у пратакол галасаваўшых за папярэдні праект рэзалюцыі: радныя Л. Савёнак, А. Савёнак, А. Шукелойць, Б. Данілюк, М. Панькоў.

Радныя А. Адамовіч і Л. Галяк патрабуюць запратакаляваць, што яны ўстрымаліся ад галсаваньня.

Абвяшчаецца абедзенны перапынак 2:45 да 3:30.

Радны Я. Станкевіч — лічыць, што Рада БНР афіцыйна ня можа ўваходзіць у МАКЦ, пакуль зь яго статуту ня будзе выкрэсьлены пункт аб няпрызнаньні сябе права быць на будучыню нават зародкам ураду на Беларусі.

Радны Б. Данілюк — патрабуе выкрасьленьне пункту аб помсьце ў статуце МАКЦ.

Радны А. Орса — лічыць, што Рада ня можа ўваходзіць у МАКЦ як арганізацыя дзяржаўная. Прапануе апрацаваць для ўваходзячай туды арганізацыі інструкцыю на аснове выказанага ў ранейшых дыскусіях.

Радны А. Махноўскі — прапануе перайсьці да наступнага пункту парадку дзённага працаў Сэсіі.

Прапанова прыймаецца з вынікам за — 20 галасоў радных.

Старшынстваваўшы дагэтуль радны-заступнік Прэзыдэнта ўступае месца старшынства Прэзыдэнту на час разгляду нутраных справаў.

Прэзыдэнт — заклікае да акадэмічнага падыходу ў разглядзе нутраных справаў, бо ўважае Нью Ёрк за духовы й палітычны беларускі нацыянальны цэнтр. Дае голас спэцыяльнай камісіі па нутраных справах.

Радны Н. Краўцэвіч — пратэстуе і лічыць патрэбным перайсьці да дыскусіяў над справаздачамі Прэзыдэнта і Ураду БНР.

Радны А. Стагановіч (як старшыня адумысловае камісіі па нутраных справах) — паведамляе, што камісія ня скончыла справаў і сяньня можа даць толькі частковую справаздачу ды просіць працягнуць тэрмін працаў камісіі.

Радны М. Тулейка — жадае, каб камісія пазнаёміла з тымі матэрыяламі, якія маюцца.

Радны Н. Краўцэвіч — прапануе выбраць Суд.

Радны Я. Станкевіч — лічыць выбары Суду прадчаснымі і гульнёй у поцемках.

Прапановы ставяцца на галасаваньне з наступнымі вынікамі:

За пераход да дыскусіі над справаздачамі — 12, супраць — 2.

За выслухоўваньне камісіі — 7.

Пастанаўляецца прыступіць да дыскусіяў над справаздачамі.

Радны А. Шукелойць — ставіць запытаньне: як выглядае справа аплаты ападаткаваньня сэктарам Рады ў Чыкага і якія былі прычыны дэмісіі міністраў?

Б. прэм’ер А. Махноўскі — адказвае: дакладна ня ведае адносна аплаты складак падсэктарам Рады ў Чыкага, але зьменаў ад папярэдняга не прадбачыць. Не даець удакладненьня дэмісіі міністраў, але адзначае, што быў нязгодзен з дэмісіяй др. В. Тумаша, і прычыны, падаваныя ім, лічыць няважнымі.

Радны Б. Данілюк — запытваецца, як справа з выбраным на папярэднім паседжаньні другім заступнікам старшыні Н. Краўцэвічам.

Прэзыдэнт — адказвае, што на пачатку гэтага паседжаньня справа выбараў другога заступніка старшыні на час вядзеньня нутраных справаў была пастаўлена на галасаваньне і адменена.

Радны Б. Данілюк — пакідае паседжаньне Рады, лічучы, што яна не стаіць на вышыні сваіх абавязкаў.

Радны Н. Краўцэвіч — лічыць, што прэм’ер Махноўскі зрабіў выклік усёй Радзе сваёй справаздачай і паводзінамі, і гэтым абразіў усіх радных. Гэтым-жа ён сам сябе выключыў з Рады і адсунуў ад усіх пасадаў, якія займаў, ставячы свае асабістыя амбіцыі вышэй справаў нацыянальных. Аднак, дзеля дабра справы, хочыць лічыць інцыдэнт вычарпаным.

Радны У. Русак — запытваецца, ці Урад і цяпер мае зносіны з прадстаўнікамі, зь якіх стварыўся зародак Парыскага блёку, бо шмат зь іх было на акадэміі Слуцкага паўстаньня ў зарубежнікаў.

Радны А. Махноўскі — адказвае, што некаторыя сувязі ўтрымліваюцца. Удакладняе, што ў былых нарадах з успомненымі прадстаўнікамі бралі ўдзел таксама др. Тумаш, Я. Станкевіч і А. Орса.

Прэзыдэнт — падчырківае, што кантактных асяродкаў супрацоўніцтва было шмат. Аднак падложжа для стварэньня Парыскага блёку было зусім іншае і ня мае сувязі з тымі кантактамі.

Радны Л. Савёнак — запытваецца, чаму ў Сэнатскай камісіі Сьміта ня было нашага прадстаўніка, але ад беларусаў прысутнічаў др. Шчорс?

Прэзыдэнт — тлумача, што Рада як арганізацыя дзяржаўная не магла браць удзелу ў камісіі Сьміта. Гэта падлягала нейкай грамадзкай арганізацыі.

Радны Я. Станкевіч — вінаваціць у гэтай памылцы ці сьведамай недапушчальнай бязьдзейнасьці старшыні БАЗА Кушаля.

Радны Л. Савёнак — запытваецца, па якіх прычынах, чаму Урад БНР гэтак лёгка здаў свае пазыцыі.

Радны А. Махноўскі — лічыць, што адказ на запытаньне агульна ён ужо даў у сваёй справаздачы, а дакладней гэта будзе высьветлена ў дыскусіі над справаздачамі.

Радны Л. Савёнак — запытваецца, чаму міністэрства прапаганды было перайменавана ў міністэрства інфармацыі.

Радны Г. Паланевіч — зазначае неадпаведнае скліканьне Сэсіі Рады, якая фактычна прадстаўлена Нью Ёркам і ваколіцамі. Іншыя сэктары не прадстаўленыя. Гэтага не павінна так быць і мусіць быць зьменена.

Былы Прэм’ер, знаходзячыся ў Нью Ёрку, меў магчымасьць уплываць на залагоджваньне канфліктаў, але гэта не зрабіў. Прэм’ер і міністры, якія дабылі на сваіх пасадах да канца 14-га Ураду БНР, ня мелі нават ніякага пляну працы. Калі-б прэм’ер меў адвагу ставіць ультыматумы, як гэта робіць сяньня, дык калі пачала тварыцца групоўка Палітбюро, яна напэўна не магла-б паўстаць. Чаму-ж сп. Орса не адказаў на ліст з Аўстраліі? Ліст той быў пададзены да ведама Рады ў выглядзе нейкай прэтэнзіі, але прэтэнзіі мусяць быць зьвернутыя да Вас: хто падаў весткі аб падзеях у Радзе

і Урадзе БНР у «Беларускую Трыбуну»[643]? Хто ўпаўнаважыў Кабыша і Б. Рагулю весьці перагаворы з Астроўскім[644]? Чаму сп. Савёнак як старшыня БНЦ выступаў і ўносіў закалот, не парадзіўшыся з сябрамі БНЦ, якія ёсьць раднымі? Прэм'ер дрэнна зрабіў, што будучы ўтаямнічаны ў некаторыя справы, пабаяўся адпаведна да гэтага паставіцца.

Радны М. Панькоў — Сп. Гарошка як міністар нутраных справаў Ураду БНР да апошняга дня існаваньня Ураду публічна на паседжаньні заявіў, што ён ня ведаў нават што рабіць мае як міністар. Калі гэткія ў нас міністры, дык зразумела, што нічога й ня зробіш. А тым часам у ягоным якраз рэсорце працы край непачаты. Няма на сяньня картатэцы арганізацыяў, няма праведзена ўліку нашых сілаў на эміграцыі, няма ніякіх дадзеных аб дзейнасьці акупантаў на бацькаўшчыне і шмат іншага.

Міністэрства вонкавых спраў на чале з міністрам др. Тумашам напачатку было паказала нейкую дзейнасьць, і можна было спадзявацца, што вынікі будуць для нас добрыя, але хутка падаўся ў дэмісію, бо застаўся і да сяньня верным свайму прынцыпу — ня ўлазіць у справы запутаныя і няясныя. І ў гэтым міністэрстве працы ня менш, калі ня больш, зусім не пачата. Няма абсалютна нічога зроблена для картатэкі аб сілах і арганізацыях нашых партнэраў па змаганьню і аб нашых суседзях. Усё робіцца ад выпадку да выпадку на аснове выпадковых-жа дадзеных у кажным разе.

Міністар вайсковых справаў Ф. Кушаль зусім нічога не зрабіў, хаця пры ягоным кіраваньні нашай прэсай у ЗША магчымасьці былі вялікшыя, як у іншых міністраў. Дагэтуль зусім не пачата распрацоўка матэрыялаў і дадзеных аб нашай партызанкі, што было-б важкім аргумэнтам у шмат якіх перамовах. Не закранутае ў прэсе і гэткае казырное ў расейцаў пытаньне партызанкі бальшавіцкай у часе апошняе вайны на абшары Беларусі. Не наладжана вельмі патрэбных і карысных для справы нашага вызваленьня сувязяў з амэрыканскімі прадстаўнікамі, як адмірал Мэнц[645], містэр Бэрнгэм і інш.

Тое самае датыча і міністэрства асьветы з сп. А. Орсай на чале, які быў на Урадзе да канца яго існаваньня. Працы-ж, як у іншых, шмат.

---

[643] **«Беларуская трыбуна»** — газета, запачаткаваная як орган Злучанага беларуска-амерыканскага дапамаговага камітэта. Выходзіла ў ЗША ў 1951–1953 гг. Рэдактарамі яе былі Мікола Шчорс і Язэп Ляшчынскі (Міхась Кавыль). У апошнім № 3 (17) за лістапад 1953 г. было змешчана паведамленне пра падзеі на Сесіі Рады БНР і той канфлікт, які паўстаў на паседжаннях. Гл.: Ягадкі апартунізму // Беларуская трыбуна. № 3 (17). Лістапад 1953.

[644] Пра спатканні Сымона Кабыша і Барыса Рагулі з Радаславам Астроўскім у Нямеччыне ў жніўні — верасні 1953 г. паведамлялася на старонках газеты «Беларуская трыбуна». Гл.: Ад інфармацыйнай службы БЦР // Беларуская трыбуна. № 3 (17). Лістапад 1953.

[645] **Джордж Менц** (*George Francis Millen Mentz*, 1896–1957), амерыканскі вайсковы дзеяч, адмірал, колішні дырэктар *IRO* ў Італіі, сябра Амерыканскага камітэта вызвалення народаў Расіі, прыхільнік «нярускіх» народаў.

Радны А. Адамовіч — рэзка выступае супраць выношаньня вестак аб падзеях у Радзе БНР і іншых арганізацыях ды заклікае кінуць гэтую «брудную работу».

Радны Я. Ліманоўскі — адзначае дэталі нашае вонкавае палітыкі, занядбанасьць справы вэтэранаў, якая можа нам вельмі прыслужыцца і асабліва брак інфармацыйнага бюлетэню.

Радны Я. Станкевіч — падкрэсьлівае надта вялікую дыскусію над вельмі малой і нязначнай праробленай Урадам працай. Просіць Раду апрабаваць межы, апрацаваныя гранічнай камісіяй, і зацьвердзіць іх на выдадзенай ім карце. Думае што зацьверджаньне паданых ім межаў вельмі дапаможа ў далейшай палітычнай працы.

Прэзыдэнт — суліць зрабіць гэта ў розных пытаньнях.

Радны Я. Станкевіч — лічыць заяву раднага Ліманоўскага аб ягоным ад'езьдзе на працу ў радыё ў Эўропе[646], што ўважае вельмі шкодным, калі-б гэта сталася, бо ўспомнены радны будзе слухацца і паступацца перад зарубежнікамі, каб унікнуць асабістага банкроту.

Прэзыдэнт — адзначае, што справа ўжо мае свой ход і адклікаць немагчыма.

Радны А. Орса — жадае, каб на гэтай Сэсіі Рады былі зьліквідаваныя нутраныя балячкі як існаваньне дзьвюх патайных арганізацыяў: кіраўніча-грашовай ды інфармацыйнай. Прапануе адумысловай камісіі скончыць свае працы па магчымасьці хутчэй.

Радны Л. Галяк — зазначае, што апрача і незалежна ад ходу працы адумысловае камісіі па нутраных справах мы маем іншыя важныя і зусім не зьвязаныя з камісіяй справы і пытаньні, якія і магчыма паставіць на разгляд.

Пастанаўляецца, што камісія мусіць скончыць сваю працу на працягу тыдня.

Наступнае паседжаньне VII Сэсіі вызначаецца на 10 студзеня 1954 году.

## Пратакол VII-га паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 10-га студзеня 1954 году

Старшынствуе Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык.

Сакратары: М. Панькоў і В. Русак.

Прысутнічала 34 радных.

Прэзыдэнт — адчыняе паседжаньне канстатаваньнем, што на папярэдніх паседжаньнях вельмі мала зроблена, а ўперадзе яшчэ шмат важных пытаньняў. Адначасна паведамляе, што ягоны побыт у ЗША можа быць нечакана перарваны, што выклікае да абмежаваньню часу выступленьняў спадароў радных, якім прапануе не забіраць голасу больш трох разоў па аднэй справе.

Прапанова абмежаваньня часу выступленьня прыймаецца з наступнымі абумоўленьнямі: 1 раз прамоўца можа гаварыць неабмежаваны час, 2-гі раз

[646] Янка Ліманоўскі ўвайшоў у першы склад беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне», якая афіцыйна пачала сваю працу 20 траўня 1954 г.

выступаць можна толькі дзеля адказу на зачэпленае іншым прамоўцам, і 3-ці раз — толькі дзеля паданьня канкрэтных прапановаў.

Прапануецца некаму заняць месца старшыні паседжаньня, але ўсе радныя адмаўляюцца, і паседжаньне вядзе Прэзыдэнт.

Радны Я. Станкевіч — прапануе Радзе разгледзіць пытаньне апрацаваных ім межаў на выдадзенай карце.

Прэзыдэнт — лічыць, што пытаньне заняло-б колькі часу і адцягнула-б ад дзённага парадку Сэсіі. Зварачываецца да сп. скарбніка Рады БНР, каб адказаў на пастаўленыя на мінулым паседжаньні пытаньні адносна аплаты складак Чыкаго.

Радны В. Кажан — адказвае, што справа з складкамі цяпер упарадкавалася, за выняткам радных Трусэвіча[647], які студуе[648], і Чарапука[649], які нясе шмат іншых аплатаў нашага руху ў Чыкаго.

Радны Л. Савёнак — запытваецца аб выдатках нашых дзейнікаў у Эўропе.

Радны В. Кажан — прыезды Прэзыдэнта ў ЗША аплочаны Радаю, а рэшта падарожжаў Прэзыдэнта аплочаныя Амэрыканскім камітэтам.

Радны А. Шукелойць — запытваецца б. міністра вонкавых справаў XIV Ураду аб прычынах ягонае дэмісіі, калі ён на пачатку вёў працу свайго рэсорту гэтак выдатна.

Радны В. Тумаш — адказвае, што прычыны ягонае дэмісіі былі пададзеныя прэм'ерам у ягонай справаздачы. Дадае, што прычыны ягонае дэмісіі

---

[647] **Лявон Трусевіч** (1924, в. Паланая Наваградскага пав. (сёння Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.) — 2000, Тампа, Фларыда) грамадскі дзеяч. За палякамі вучыўся ў роднай вёсцы, у Карэлічах, за саветамі — у Наваградку. У 1942 г. скончыў настаўніцкія курсы, пасля чаго ў якасці настаўніка гісторыі і геаграфіі скіраваны на Лідчыну. З прычыны дзейнасці Арміі Краёвай і савецкіх партызанаў мусіў вярнуцца ў Наваградак. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу і Міхельсдорфе. У 1946–1950 гг. вучыўся ва ўніверсітэце Філіпа ў Марбургу. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Рэдагаваў «Інфармацыйны бюлетэнь Беларускага студэнцкага таварыства ў ЗГА». Старшыня Чыкагскага аддзела Згуртавання беларусаў у штаце Ілінойс (ЗБІ). Сябра БАЗА.

[648] Да 1957 г. Лявон Трусевіч вучыўся ў Чыкагскім універсітэце па спецыяльнасці «зубная хірургія».

[649] **Янка Чарапук** (псеўданім **Змагар**, 24.08.1896, Новы Двор Сакольскага пав. Гарадзенскай вобл. (сёння Падляшскае ваяв., Польшча) — 16.11.1957, Чыкага, ЗША), палітычны дзеяч. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. У 1918 г. — супрацоўнік Міністэрства замежных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі, чалец Беларускай рады на Украіне. Ад канца 1918 г. — на Гарадзеншчыне, быў сакратаром Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Ад канца 1919 г. жыў у Рызе, працаваў сакратаром Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі, сябра Народнай Рады БНР. У 1922 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага народнага камітэта ў штаце Ілінойс, Беларуска-амерыканскага нацыянальнага клуба. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю «Рыцары Калумба» (меў найвышэйшую ступень).

ня былі зьвязаныя з вонкавай палітыкай, але больш нутранога характару. Зрабіўшы выснаўку, што Урад ня зробіць ніякай пазытыўнай працы, а марнаваць час на нутраныя сваркі лічыў залішнім.

Радны А. Орса — просіць раднага Тумаша, каб падаў прычыны, якія выклікалі сваркі ў Радзе і Урадзе.

Радны В. Тумаш — Спадар радны ведае гэта можа найлепей ад яго. Пачынаючы ад старшыні Ураду да найменшага рангу — усе бралі ўдзел у сварках.

Радны А. Орса — Хай др. Тумаш назавець асобаў, якія выклікалі сваркі, каб паклікаць іх да адказнасьці.

Радны В. Тумаш — Асобаў, якія бралі ўдзел у сварках, усе ўдзельнікі Ураду ведаюць.

Радны Я. Станкевіч — зазначае, што дзейнасьці былога Ураду ўжо ня выправіць, а таму ня варта на гэтым і затрымлівацца.

Радны Л. Савёнак — запытваецца, ці паседжаньні Рады лічуцца закрытымі ці публічнымі і ці існуе нейкая інфармацыйная камісія?

Радны А. Махноўскі — сьцьвярджае, што паседжаньні Рады, як заўсёды, адбываюцца закрытымі.

Радны Л. Савёнак — Чаму тады ў газэце «Беларус» падана тэндэнцыйная інфармацыя[650]? Ці гэтыя некарысныя нам весткі ўзгодненыя з Прэзыдыюмам Сэсіі?

Радны А. Махноўскі — сьцьвярджае, што інфармацыя ў прэсу ня можа быць падаванай бяз узгодненьня з Прэзыдыюмам. Запытваецца, хто падаў інфармацыю ў «Беларус».

Радны Ф. Кушэль — падае да ведама што ўсе сябры рэдкалегіі газэты «Беларус» ёсьць раднымі. Інфармацыю ў «Беларуса» падаў ён, узгодніўшы яе з Прэзыдэнтам. З свайго боку запытваецца, хто падаў інфармацыю ў газэту «Беларуская Трыбуна» аб падзеях на паседжаньнях сэктару Рады.

Радны П. Манькоўскі — лічыць, што паседжаньне фармальна адхіляецца ад парадку свае працы.

Прэзыдэнт — сьцьвярджае, што з паданай у «Беларусе» інфармацыяй згаджаецца і лічыць, што патрэбна інфармаваць праз прэсу яшчэ шырэй, каб ня было забурэньняў у сэктарох. Зазначае, што парадзіцца заўсёды з Прэзыдыюмам цяжка проста фізычна. Прыватная дэзыінфармацыя ў Канадзе ды іншых сэктарох вельмі шкодная. Сэктары патрабуюць шырокай інфармацыі, а ён ня мае магчымасьці ў кажнай дробнай справе радзіцца з Прэзыдыюмам. Прэзыдыюм у сваю чаргу ня выконвае сваіх абавязкаў, як, напрыклад, ня выканаў свае пастановы аб падзяцы а. Робэрту, і Прэзыдэнт мусіў наладзіць гэта сам.

Пытаньне пераносіцца ў канец працаў Сэсіі асобным пунктам.

Слова даецца спэцыяльнай камісіі па нутраных справах.

---

[650] Магчыма, маецца на ўвазе артыкул: Прысутны. Да 7-ай сэсіі Рады БНР // Беларус. № 21 (45). 28 лістапада 1953. С. 1–2.

Радны А. Адамовіч (як сябра камісіі) — падае да ведама, што камісія яшчэ ня скончыла сваёй працы, але тут падасца частка матэрыялаў, якая датычна выдавецтва «Беларус» і якая ўжо закончаная. Падчырківае, што аканчальных пастановаў няма, і камісія іх ня зробіць. Да камісіі паступіла не падлягаючая ёй справа Ліманоўскі — Я. Станкевіч, якую камісія перадасьць Суду Рады.

Радны Ф. Кушэль — прапануе, каб сьветчаньні камісіі разглядаліся пазьней, калі зьявіцца сябра камісіі М. Гарошка, а пакуль што заняцца іншай справай.

Радны А. Адамовіч — агульна згаджаецца з прапазыкай раднага Ф. Кушэля, але зазначае, што падавацца будзе толькі тая частка матэрыялаў працы камісіі, якая ня выклікае сярод сябраў камісіі разьбежнасьцяў. Таму пад развагу паседжаньня пададуцца пытаньні: 1. Стварэньне рэдкалегіі газэты «Беларус»; 2. Фінансавая справа выдавецтва і 3. Ганаровыя спрэчкі, якія вынікаюць з папярэдніх пунктаў.

1. Для камісіі няясна, як паўстала рэдкалегія: ці канспэрацыйна, ці грамадзкім парадкам, ці была вызначана Прэзыдэнтам? Выходзіць, што рэдактарам быў вызначаны др. В. Тумаш, а былы рэдактар Л. Галяк[651] паведамлены аб стварэньні рэдкалегіі пасьля правядзеньня ўсяго.

2. Фінансавая справа выдавецтва (асабісты погляд А. А.) пакуль што ў парадку. Фармальна няправільных апэрацыяў пакуль што ня знойдзена. Адно маецца засьцярога: як далёка можна інфармаваць Раду аб фінансавых справах, каб яны пазьней ня былі вынесеныя на вонкі і ня выкрыстаныя для шкодных Радзе мэтаў. Таму перад тым, як падаваць інфармацыю аб фінансавых апэрацыях выдавецтва «Беларус», камісія патрабуе санкцыі Рады.

3. Справы ганаровыя могуць быць вырашаныя з дапамогаю сэкундантаў, як прапануе вырашыць канфлікт Кушэль — Махноўскі, сп. Кушэль. Ёсьць таксама шэраг іншых канфліктаў, якія яшчэ для Камісіі няясныя, і таму яна апросіць сьветкаў.

Радны А. Стагановіч — пагаджаецца з паданай сп. Адамовічам інфармацыяй, але як старшыня камісіі выступае супраць апавешчаньня фінансавых справаў выдавецтва.

Радны А. Махноўскі — зазначае, што прапанова Ф. Кушэля для яго не да прыйманьня, бо ён асабіста ня лічыць сябе абражаным.

Радны Я. Ліманоўскі — меў уражаньне, што камісія была паклікана для разбору ганаровых справаў, а ня справы стварэньня рэдкалегіі і іншых. Запытваецца, ці маецца пастанова аб рэвізіі Радай выдавецтва «Беларус»? Чаму Рада ня цікавіцца выдавецтвам «Бацькаўшчына», выдавецтвам «Веда» ды іншымі?

Радны М. Міцкевіч — запытваецца, як было выдавецтва «Беларуса» перанятае ад сп. Галяка. Апрача таго, ён як старшыня Беларускага выдавецкага

---

[651] Леанід Галяк быў адным з заснавальнікаў і першым рэдактарам газэты «Беларус» у 1950–1951 гг.

фонду нічога ня ведае аб фінансавым боку выданьня. Ня ведае нічога з стану грашовага выдавецтва і скарбнік БАЗА[652].

Радны А. Орса — зазначае, што ён як старшыня Амэрыканскага сэктару Рады, як сябра апошняга Ураду БНР абсалютна нічога ня ведаў аб справах выдавецтва, а рэшта радных яшчэ меней. Быў памінены галоўны чыньнік — Урад, а гэта яскрава кажа аб абразе ўсяе Рады — калі нехта можа ведаць усё, а іншым не дазваляецца гэтага ведаць. На яго думку, гэта рэшта ў такім выпадку мусіць найлепш пакінуць Раду, і няхай усім кіруе «Палітбюро». Ён лічыць, што нават гэтым паседжаньнем Рады кіруе тое-ж Палітбюро. Уважае, што Сэсія мусіць разгледзіць і вырашыць усе справы, або Раду трэба распусьціць, калі да яе няма даверу.

Прэзыдэнт — зазначае, што для разбору канфліктаў і выбраная камісія. Разглядаць справы выдавецтваў у Эўропе няма ніякай патрэбы, бо там не паўстала ніякіх канфліктаў. Цяпер толькі адно пытаньне, ці Рада будзе чакаць на заканчэньне працаў камісіі, ці некаторыя пункты разгледзіць ужо зараз на гэтым паседжаньні.

Радны А. Махноўскі — уважае, што ў справе канфліктаў становішча насамперш мусіць заняць сам сп. Прэзыдэнт, бо гэта ягоны абавязак.

Радны А. Орса — падтрымлівае пагляд раднага А. Махноўскага.

Радны Г. Паланевіч — лічыць, што пытаньне аб недаверы Радзе, закранутае радным А. Орсай, зусім не на месцы, бо Рада давярае выбранай ёй камісіі. Працам гэтай камісіі і трэба цяпер дапамагчы, каб яна разгледзіла ўсё дакладна, а ня слухаць яе справаздачаў па частках.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што Рада на сваіх паседжаньнях можа разглядаць усе справы і аб усім на Сэсіі можна гаварыць, бо каб прынесьці карысьць хвораму — трэба раны адчыніць. Калі-ж бы ў прэсу пранікла нейкая інфармацыя, дык зрабіць проста, як ужо радзіў сп. Прэзыдэнт: запярэчыць, сказаць, што гэта проста выдумка, і на Радзе ніякіх падобных справаў не разглядалася. Думае, што камісія не ўлучыла ў сваю працу яшчэ 4-га пункту — *«шкоднасьць дзейнасьці групоўкі»*.

Радны А. Адамовіч — падае, што камісія яшчэ не дайшла да ўспомненага радным Станкевічам пункту.

На развагу ставіцца пытаньне: адкласьці справаздачу камісіі ці заслухаць яе часткова.

Радны А. Орса — уважае, што неабходна памагчы камісіі.

Радны Л. Савёнак — зазначае, што камісія для таго і была выбраная, каб Сэсія ня траціла часу на капаньня ў дробязях.

Радны Б. Даніловіч — выступае супраць паданьня на Сэсіі ўсіх дробязяў фінансавай дзейнасьці выдавецтва, бо тады ня будзе каму падаваць у разе патрэбы запярэчаньняў.

Радны В. Стома — жадае, каб было выясьнена, хто падае весткі аб падзеях на паседжаньнях Рады ў «Беларускую Трыбуну».

---

[652] Пасаду скарбніка БАЗА ў той час займаў Уладзімір Русак.

Радны М. Тулейка — прапануе не разглядаць справы, пакуль камісія ня скончыць свае працы.

Радны Б. Данілюк — запытваецца, ці Рада БНР можа атрымліваць нейкія субсыдыі ад амэрыканцаў.

Радны Н. Краўцэвіч — уважае, што справы рэдагаваньня і фінансаваньня «Беларуса» і «Веды» аднолькавыя, а таму камісія мусіць разглядаць усе паступіўшыя да яе справы. Думае, што Рада БНР ня мае права кантраляваць дзейнасьці і рэдагаваньня «Беларуса», бо гэта зробіць кангрэс БАЗА[653].

Радны У. Русак — лічыць, што выказацца маюць права ўсе радныя. Прэзыдэнт не павінен умешвацца ў канфлікты радных. Канстатуе, што ўжо зьявіўся недавер да дзейнасьці камісіі, і таму прапануе ўсе пытаньні прагаласаваць.

Радны А. Орса — прапануе, каб справу дапамогі камісіі паставілі на галасаваньне.

Радны Г. Паланевіч — падтрымлівае прапанову раднага А. Орсы.

Галасаваньне: дыскутаваць над справай камісіі (А. Орса — Г. Паланевіч): за — 16 галасоў, адкласьці справу разгляду працы камісіяй (М. Тулейка): за — 10 галасоў.

Пастанаўляецца разгледзіць справу ў той частцы, у якой камісія ўжо закончыла сваю працу.

Прэзыдэнт — зварачаецца да Рады, каб згадзілася заслухаць прамову рэдкага госьця раднага з Канады Жук-Грышкевіча.

Радны В. Жук-Грышкевіч — зазначае, што чакаў доўгія гады на аказыю, каб прысутнічаць на Сэсіі Рады БНР. З выступам на палітычную арэну Рады БНР у 1946 годзе — адчынілася новая бачына гісторыі Беларусі. Рада, узяўшы на сябе ініцыятыву дзейнасьці, была пуцяводнай зоркай для ўсіх беларусаў-патрыётаў, і ўсе з прыемнасьцю выконвалі яе пастановы. Канструктыўная праца Рады ў часе знаходжаньня яе ў Нямеччыне. Найлепшым часам дзейнасьці Рады лічыць час прэм’ерства А. Каханоўскага, калі ўсе былі дакладна паінфармаваныя і ведалі, што каму рабіць. Затым, калі пачалася эміграцыя ў заморскія краіны, наступіла зацішша, на кароткі час зноў нейкая дзейнасьць пасьля выбараў новага Ураду. Потым поўны разлад і сяньняшнія сваркі. Усё гэта адбілася ад’емна на сэктары Рады ў Канадзе і тым больш у далейшых сэктарах. Розныя плёткі і звадкі былі прычынай таго, што многія нашы людзі адыходзяць ад працы, падбухторваныя ворагамі нашага вызваленьня. Заклікае да пачуцьця адказнасьці раднымі, просіць не разьбіваць вызвальна-нацыянальнае справы на драбніцы пераходныя і ня зыходзіць з гістарычнага, традыцыйнага шляху, адзіна правідловага. Падчырківае, што за гэта будуць усе беларусы, якія знаходзяцца на чужыне. Апэлюе да ўсіх і заклікае быць сьведамымі адказнасьці перад гісторыяй ды приступіць да пазытыўнае працы. Просіць прыняць ягоны, ідучы ад шчырага сэрца, апэль і скончыць дробныя непаразуменьні. Просіць, каб Рада стварыла насамперш

[653] Газета «Беларус» афіцыйна з’яўлялася органам Беларуска-амерыканскага задзіночання, найвышэйшым органам якога быў Кангрэс.

добра працуючы інфармацыйны апарат ды жадае памысьнасьці ў далейшай працы сэсіі. (Воплескі).

Прэзыдэнт — выказвае падзяку раднаму В. Жук-Грышкевічу за прамову і з свайго боку заклікае радных да пазытыўнае працы.

Радны Л. Савёнак — зазначае, што адна рэч гаварыць гарачыя прамовы, а другая рэч — дзеіць. Закідае раднаму В. Жуку правядзеньне закалоту ў Канадзе, даводзячы гэта апошнімі падзеямі там. Радны Жук выдаў № «Беларускага Эміграната» бяз ведама рэдкалегіі і рэдактара Навіцкага ды інфармацыю іншых аб ходзе Сэсіі Рады, якой сам афіцыйна сьцьверджаньне ня меў[654].

Радны В. Жук-Грышкевіч — выясьняе, што інфармаваў Канадзкі сэктар Рады агульна ў духу пастановаў, прынятых Сэсіяй, зусім не спыняючыся на падрабязнасьцях. З свайго боку закідае раднаму Савёнку, што ён тут ставіць тыя самыя плёткі, якія пашыраліся ў Канадзе і якія не адпавядаюць праўдзе. Адносна газэты, дык адзначае, што старшынёю выдавецкага фонду «Беларускага Эміграната» і рэдактарам газэты ёсьць сп. Навіцкі, які ня даў на выдавецтвы ніводнага цэнту, у той час калі іншыя сябры далі колькі маглі. Калі-ж № газэты быў выдадзены, дык сп. Навіцкі запратэставаў супраць выданьня бяз ягонае згоды. Сп. Акула адыйшоў ад рэдагаваньня па сваіх важных сямейных абставінах.

Радны П. Манькоўскі — запытваецца, ці дзейнічае ў Канадзе партыя АБНД і хто да яе належыць.

Радны В. Жук-Грышкевіч — адказвае, што ў Канадзе АБНД існуе і дзейнічае. Належаць да яе некалькі чалавек, у тым ліку і радныя Акула і Навіцкі, але жадае, каб гэтая партыя вяла больш паважную працу.

Слова даецца для апытаньня некаторых радных адумысловай камісіяй па нутраных справах.

Радны А. Адамовіч (як сябра камісіі) — запытваецца, як адбылася замена рэдактара «Беларуса» Л. Галяка рэдактарам В. Тумашам.

Радны В. Тумаш — патрабуе, каб у працаколах паседжаньняў Рады і працаколах камісіі было дакладна запісана, што Рада ні ад каго грошай не брала, газэты «Беларус» не рэдагавала і не выдавала ды адказнасьці за выданьне газэты не нясе. Калі і можна судзіць, дык судзіць БАЗА. Толькі з гэтай засьцярогай згаджаецца даваць свае паказаньні.

Свайго пакліканьня ў рэдакцыйную калегію «Беларуса» ён не ўважаў за пакліканьне за рэдактара. Зазначае, што ў той час быў бяз працы і на зварот Прэзыдэнта проста зрабіў 2 нумары газэты. Пасьля гэтага атрымаў ад б. рэдактара сп. Галяка паперу аб тым, што ён зракаецца рэдактарства. У новую рэдкалегію быў уведзены без папярэдняе згоды. Аб складзе рэдкалегіі нічога ня ведаю. Пасьля гэтага атрымаў працу ў шпіталі і болей працаваць актыўна

---

[654] Маецца на ўвазе № 9 (57) газеты «Беларускі эмігрант» за снежань 1953 г., дзе быў змешчаны тэкст «Сукцэс беларускае палітыкі», што распавядаў пра апошнія падзеі ў міжнародным жыцці на эміграцыі, у якіх браў удзел Мікола Абрамчык, а таксама пра падтрымку яго палітыкі на Сёмай сесіі Рады БНР.

ў рэдкалегіі ня меў часу, аб чым паведаміў старшыню БАЗА. Грашовымі справамі ніколі не цікавіўся і іх ніколі ня вёў.

Радны А. Орса — запытваецца, ці сп. Тумаш зьвяртаўся ў Выдавецкі фонд (да старшыні М. Міцкевіча) па грошы.

Радны В. Тумаш — адказвае, што не зьвяртаўся, бо на газэце яскрава стаіць: Выдавец БАЗА.

Радны Л. Галяк — *«Як зразумець заяву Кушаля, што рэдактарам выбраны др. Тумаш?»*

Радны В. Тумаш — *«Аб выбарах я нічога ня ведаў і паведамлены ня быў»*.

Радны Я.Ліманоўскі — адзначае, што права выказацца з свайго пункту гледжаньня мае кажны радны і чалавек, бо ў гэтым ёсьць сутнасьць дэмакратыі. Закідаць яму (раднаму Ліманоўскаму) нейкую груповасьць нiяк нельга, бо ён стаіць па-за ўсякімі групамі.

Радны Б. Данілюк — канстатуе, што ня бачыць нічога шкоднага, калі старшыні БАЗА не спадабаўся сп. Галяк, і ён прызначыў др. Тумаша рэдактарам. Запытвае, што зробіць у гэтай справе камісія.

Радны А. Адамовіч — адказвае, што камісія мусіць ува ўсім гэтым разабрацца.

Радны А.Орса — запытвае раднага В. Тумаша, ці ён ведаў, што грошы на выдавецтва будуць з Фонду[655].

Радны В. Тумаш — адказвае, што ня быў у гэтым пэўны. Аднак Прэзыдэнт успамінаў аб нейкай магчымасьці дастаць дапамогу. Ведаў, што гэтыя грошы маглі быць толькі ад амэрыканцаў.

Прэзыдэнт — інфармуе, што перад выездам у Вашынгтон выпадкова даведаўся, што магчыма дастаць нейкую дапамогу на выдавецтва газэты (каля 2000 даляраў). Сэсія была ўжо скончана. Склікаў каля 10 радных, зь якімі і радзіўся, ці браць грошы. Усе былі на адным, што грошы браць патрэбна. Пасьля павароту мусіў сьпешна дзейнічаць. Ведаючы, што др. Тумаш бяз працы, адгаварыў яго ад прыняцьця пасады ў шпіталі, бо жадаў прымацаваць яго да грамадзка-палітычнае працы з аплатаю з фонду, які атрымаем на выдавецтва газэты. Грошаў гэтых нельга было вязаць з імям Рады БНР, і арганізацыяй, якая будзе атрымліваць грошы, была выбраная БАЗА. Недагледзіў, што спатыкаючыся з др. Тумашам і просячы яго зрабіць газэту, што гэтым выклічу крыўду сп. Галяка. Сп. Махноўскі як прэм’ер быў аб усім паведамлены. Гэта дзеля браку часу і маім прысьпешаным выездам у Эўропу і тлумачацца ўсе гэтыя падзеі.

Радны А. Махноўскі — сьцьвярджае, што ведаў плян Прэзыдэнта звольніць міністра Ураду БНР ад прафэсійнае працы дзеля вядзеньня ім палітычнай працы. Выдадзеныя нумары газэты Тумашам былі карысныя для справы. Аб іншых пытаньнях яго, Махноўскага, не паведамлялі.

Прэзыдэнт — зазначае, што сп. Махноўскі сказаў тое, чаго ён сам не хацеў падаваць да ведама афіцыйна.

---

[655] Маецца на ўвазе «Фонд Вольнай Расіі».

Радны У. Русак — канстатуе, што сп. Махноўскі на паседжаньні сэктару Рады цьвердзіў, што ён нічога пра фонды ня ведае, і гэта вельмі ўразіла сп. Орсу. Сяньня-ж аказваецца, што сп. Махноўскі быў у курсе ўсіх справаў.

Радны Г. Паланевіч — думае, што сп. Махноўскі ведаў аб фондзе, прысутнічаў на паседжаньнях тварэньня рэдкалегіі, але ўсім казаў, што нічога ня ведае, і гэтым спрычыніўся да сяньняшняга закалоту.

Радны А. Адамовіч — *«У матэрыялах БАЗА гаворыцца, што сп. Галяк быў запрошаны да супрацоўніцтва»*.

Радны Ф. Кушэль — сьцьвярджае, што сп. Галяк быў запрошаны ў рэдкалегію газэты «Беларус».

Радны Л. Галяк — кажа, што запрошаны быў вельмі непаважным тонам і толькі ў рэдкалегію, а не на рэдактара.

Радны Ф. Кушэль — сьцьвярджае, што ня меў магчымасьці і часу трымацца нейкіх формулаў, але запрашаў многіх, і адносіліся да запросінаў розна. Пры ўсей гэтай працы мусіў лічыцца з адказнасьцю перад амэрыканскімі ўстановамі.

Радны А. Адамовіч — канстатуе, што ў выдавецтвах «Бацькаўшчына» і «Беларуса» ўкладаньне рэдкалегіі традыцыйна палягала Радзе, а пакуль ня было Рады, дык гэта палягала БНЦ. Упяршыню сталася, што апошняя рэдкалегія газэты «Беларус» была складзена асабіста сп. Кушалям.

Радны А. Адамовіч — запытвае сп. Прэзыдэнта, ці пры ўкладзе рэдкалегіі людзі былі пакліканыя, ці выпадковыя.

Прэзыдэнт — Выпадковыя.

Радны А. Адамовіч — Ці патрабавалася тайнасьць утворанай рэдкалегіі?

Прэзыдэнт — Не.

Рэшта матэрыялаў апросу камісіі пратакалавалася непасрэдна вядучым справу радным А. Адамовічам і знаходзіцца ў матэрыялах камісіі[656].

Абвяшчаецца перапынак на 15 мінутаў.

Радны Ф. Кушэль — лічыць, што будзе дастаткова, калі падаць агульныя пазыцыі ў выдаткаваньні грошаў, а не падрабязныя.

Радны А. Орса — дамагаецца падрабязнага раскрыцьця выдаткаваньня грошаў, а не фармальнага, ласьне, каму, колькі і за што плацілася.

Радны Ю. Старасельскі — зазначае, што хопіць, калі камісія сама праверыць, а Раду не цікавяць дэталі.

Радны А. Адамовіч — паведамляе, што камісія яшчэ не разглядала дамэтнасьці выдаткаваньня грошаў.

Радны Л. Савёнак — згаджаецца, што камісія сама вырашыць, што падаваць да агульнага ведама. Ня бачыць у гэтым недаверу да Рады агулам, але толькі засьцярогу, што некаторыя сябры не далі пазьней інфармацыю на вонкі.

---

[656] Ці захаваліся матэрыялы згаданай камісіі, невядома.

Радны А. Шукелойць — заяўляе, што як сябра Рэвізійнае камісіі БАЗА і як сябра Выдавецкага фонду ніякіх грашовых дакумантаў перад мінулым кангрэсам БАЗА[657] не пераглядаў.

Радны Ф. Кушэль — паведамляе, што другая Рэвізыйная камісія БАЗА спраўдзіла дакументы выдавецтва «Беларус».

Радны А. Махноўскі — прапануе пашырыць кантроль камісіі і на ўсе іншыя арганізацыі, якія дастаюць грашовыя дапамогі з іншых крыніцаў.

Прапанова раднага Я. Ліманоўскага на прапазыцыю Прэзыдэнта зьнімаецца.

Радны Л. Галяк — зазначае, што прапанова раднага Я. Ліманоўскага передчасная, бо няма дамаганьняў рабіць кантролю ў іншых арганізацыях. Калі гэткія паступяць, дык трэба будзе іх скантраляваць.

Радны А. Орса — лічыць, што ў іншых выдавецтвах няма ніякае тайнасьці.

Галасаваньне: Па заканчэньні свае працы камісія дасьць справаздачу, падаючы да ведама тыя выпадкі, дзе выдаткаваньне грошы было недамэтным: за — 20, супраць — 0, устрымалася — 6.

Радны Шукелойць — патрабуе вырашэньня й сатысфакцыі за праяву недаверу да яго як сябры Рэвізійнае камісіі БАЗА перад апошнім кангрэсам арганізацыі і недапушчэньні яго да рэвізіі фондаў выдавецтва газэты «Беларус».

Радны Г. Паланевіч — лічыць немэтазгодным пашыраць камісію, бо Рада пазьней разгледзіць яе прапановы і вынясе свае пастановы.

Радны А. Махноўскі — зьнімае сваю прапанову.

Прэзыдэнт — прапануе прыступіць да заслуханьня апошняга пункту паданага камісіяй — у справаў ганаровых.

Радны А. Адамовіч — просіць сьветчаньняў і выясьненьня пытаньня абразаў: радным Ф. Кушэлем радных Л. Галяка, Л. Савёнка і М. Панькова.

Радны Ф. Кушэль — прызнаецца, што абразіў слоўна сп. Махноўскага, што сталася дзеля падвойнай абразы яго перад тым сп. Махноўскім. Прызнае, што паступіў неганарова і гатовы даць сатысфакцыю сп. Махноўскаму праз прысланых ім пасярэднікаў (сэкундантаў).

Радны А. Махноўскі — адкідае гэтую прапанову, бо чуецца абражаным не асабіста, а як старшыня Ураду БНР.

Радны Л. Савёнак — паведамляе, што ён асабіста справу ня зводзіць да асабістае абразы, але разглядае яе як пэўную лінію тэрору да некаторых непажаданых групоўцы і нязгодных з ейнай лініяй асобаў.

Прэзыдэнт — зьвяртаецца да Рады з запытаньнем, якім парадкам разьвязаць канфлікт: праз камісію, Суд ці паклікаць яшчэ адну камісію.

---

[657] Папярэдні да гэтага пасяджэння сесіі Рады БНР Чацвёрты кангрэс БАЗА адбываўся 28 лютага — 1 сакавіка 1953 г.

Радны Ф. Родзька — паведамляе, што Суд Рады пасьля выхаду дзяржаўнага абвінавачальніка сп. Л. Галяка неўкамплектаваны і свае справы ня можа разглядаць.

Радны А. Адамовіч — патрабуе выясьніць для камісіі сам факт абразы.

Радны Ф. Кушэль — цьвердзіць, што факту абразы наагул ня было.

Радны Л. Галяк — просіць камісію дапрасіць сьведак: Я. Станкевіча, А. Орсу, Л. Савёнка, М. Панькова і М. Міцкевіча.

Радны Я. Станкевіч — сьцьвярджае, што Кушэль на кангрэсе БАЗА абразіў раднага Л. Галяка, хоць ня памятае дакладна слоў, сказаных Кушэлям.

Радны М. Міцкевіч — не памятае гэтага здарэньня.

Радны М. Панькоў — сьцьвярджае, што Ф. Кушэль назваў раднага Л. Галяка на кангрэсе БАЗА правакатарам.

Радны Л. Савёнак — сьцьвярджае тое-ж самае.

Радны А. Орса — сьцьвярджае, што пад час прабегу кангрэсу БАЗА, на другі дзень яго, Ф. Кушэль назваў раднага Л. Галяка правакатарам, а іншых радных агэнтамі.

Радны Ф. Кушэль — катэгарычна запярэчвае існаваньне факту абразы. Група людзей запатрабавала на кангрэсе БАЗА грашовай справаздачы. Ня могучы гэтага зрабіць публічна, ён сказаў, што гэтага ня зробіць, а ў залі могуць прысутнічаць правакатары і агэнты.

Радны А. Стагановіч — запытваецца, хто быў старшынёй зьезду БАЗА.

Радны Ф. Кушэль — адказвае, што старшынёю быў абраны дэлегат з Дэтройту Сажыч[658], а сакратарамі М. Міцкевіч і В. Русак.

Радны А. Адамовіч — сьцьвярджае, што хоць радны Кушэль і не называў імёнаў радных, але было зусім ясна, аб кім гаворыцца, бо літаральна сказаў, што агэнтамі ёсьць *«Старшыня БНЦ і ягоны сакратар»*.

Далейшыя матэрыялы па працах камісіі знаходзяцца ў яе пратаколах[659].

Прэзыдэнт — лічыць, што сьвяткаваньне гадавіны 25-га Сакавіка павінна ладзіць Рада, каб яна і на вонкі выглядала паважна.

---

[658] **Язэп Сажыч** (05.09.1917, в. Гарадзечна (сёння Навагрудскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 19.11.2007, Эн-Арбар, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч. Вучыўся ў польскай пачатковай школе, Наваградскай беларускай гімназіі, а пасля яе закрыцця ў 1934 г. працягнуў навучанне ў польскай гімназіі імя А. Міцкевіча. Мабілізаваны ў польскае войска, скончыў афіцэрскую школу. У часе нямецка-польскае вайны трапіў у нямецкі палон, адкуль уцёк ва Украіну. У 1939–1941 гг. вучыўся ў Львове, пасля чаго вярнуўся ў Беларусь. Улетку 1942 г. прызначаны камендантам падафіцэрскай школы. У лютым 1943 г. у Лідзе арганізаваў і ўзначаліў Беларускі батальён чыгуначнай аховы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў камендантам афіцэрскай школы 30-й (беларускай) дывізіі войск СС у Баварыі. Пасля вайны вучыўся ва ўніверсітэце Філіпа ў Марбургу (Заходняя Нямеччына). У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Дэтройце. Сябра БАЗА, актывіст Дэтройцкага аддзела арганізацыі. Ад 1953 г. сябра Рады БНР, сакратар у справах ветэранаў.

[659] Месцазнаходжанне пратаколаў камісіі невядомае.

Радны Ф. Кушэль — зьвяртаецца з запытаньнем і просіць адказаць: 1. Хто арганізуе сьвяткаваньне Акту 25-га Сакавіка і 2. Хто дасьць сродкі на арганізацыю сьвяткаваньня? Зазначае, што Дзень Слуцкага паўстаньня ладзяць вэтэраны, а сьвяткаваньне Акту 25-га Сакавіка мусіць ладзіць Рада БНР.

Радны Г. Паланевіч — зазначае, што Рада БНР ня можа заняцца ладжаньнем сьвяткаваньня Акту 25-га Сакавіка, бо Рада ня мае свае тэрыторыі. Гэта справа БАЗЫ як беларускае грамадзкае арганізацыі, падпарадкаванае Радзе БНР на тэрыторыі ЗША.

Радны Л. Савёнак — прапануе ладзіць сьвяткаваньне Акту 25-га Сакавіка супольна з апазыцыйнай часова арганізацыяй Беларускага кангрэсовага камітэту.

Прапанова раднага Л. Савёнка дзеля запозьненага часу паседжаньня адкладаецца на адно з наступных паседжаньняў.

Радны В. Тумаш — прапануе стварыць адумысловы камітэт па ладжаньню сьвяткаваньня.

Галасаваньне: сьвяткаваньне Акту 25-га Сакавіка ладзіць: камітэт сьвяткаваньня: за — 16 галасоў; БАЗА: за — 2 галасы.

Пастанаўляецца, што сьвяткаваньне ладзіць адумысловы камітэт, які будзе пакліканы з прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных арганізацыяў.

## Пратакол VIII-га паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 24-га студзеня 1954 году ў Брукліне, ЗША

Старшынствуе Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык.

Сакратары: М. Панькоў і В. Русак.

Прысутнічалі: Спадар Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык і 36 спадароў радных.

Радны А. Махноўскі — зачытвае зварот ЦК АБНД[660] да сп. Прэзыдэнта Рады БНР.

Сп. Прэзыдэнт — зазначае, што разгляд звароту ЦК АБНД адбудзецца ў іншым часе і складае інфармацыю аб візытацыі ім сэктараў Рады БНР у Кліўлендзе, дзе адбыў нараду з мясцовымі раднымі, а таксама аб адведаньні і нарадах у Дэтройце. Затым паведамляе, што абставіны складаюцца гэтак, што ён змушаны будзе выехаць у Эўропу раней, чым прадбачыў, і здолее прысутнічаць толькі на якіх 4-х паседжаньнях. Гэтага вымагаюць ня толькі чыста асабістыя прычыны, але таксама маючаяся адбыцца ў хуткім часе канфэрэнцыя Парыскага блёку[661] і канфэрэнцыя, якую склікае Амэрыканскі камітэт вызваленьня ад бальшавізму ў Мюнхэне. Таму зьвяртаецца да спадароў радных з просьбаю выступаць толькі па аднаму разу па разгляданаму

660 Зварот быў скіраваны супраць удзелу Рады БНР у МАКЦ.

661 Канферэнцыя Парыжскага блоку праходзіла ў Мюнхене ад 6 траўня 1954 г. На ёй абмяркоўвалася пытанне стаўлення да новай ініцыятывы Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму. (Гл.: Зь дзейнасьці Парыскага блёку // Бацькаўшчына. № 20–21 (202–203). 30.05.1954).

пытаньню, другі раз выступаць толькі ў патрэбе выясьненьняў і з канкрэтнымі прапановамі. Затым запрашае нутрарадную камісію да дакладу.

Радны А. Стагановіч — як старшыня нутраднае камісіі паведамляе, што камісія скончыла сваю працу, аб чым зробіць даклад радны А. Адамовіч. Адначасна заклікае ўсіх радных паступіцца асабістымі справамі дзеля дабра Бацькаўшчыны. Таксама ставіцца на разгляд пытаньне аб неагалошаньні выдаткаваньня грошы, якія камісія прызнала выкарыстанымі дамэтна. (Радны А. Адамовіч зачытвае матэрыялы, разгледжаныя Камісіяй, і падае яе выснаўкі. Радны М. Гарошка зачытвае афіцыйную справаздачу выдавецтва «Беларус»).

Радны Ф. Кушэль (у міжчасе дакладу нутраднае камісіі) — просіць агаласіць грашовую справаздачу выдавецтва «Беларус» поўнасьцю, каб не даваць пазьней магчымасьці Я. Станкевічу займацца пашквілямі. Патрабуе паставіць яго просьбу на галасаваньне.

Сп. Прэзыдэнт — ставіць на галасаваньне пытаньне: ці сэсія ўважае за патрэбнае абвяшчаць падрабязнае выдаткаваньне грошы выдавецтва ў суме 2800 даляраў, якія камісія прызнала выдаткаванымі дамэтна? за — 1.

Радны А. Орса — зазначае, што гэткай пастановай і дэбатамі Рада ставіцца ў залежнасьць ад агентурнай арганізацыі, якая давала грошы.

Радны Ф. Кушэль — дамагаецца абвешчаньня падрабязнага выдаткаваньня грошы («да капейкі») у сувязі з ходзячымі плёткамі і закідамі.

Сп. Прэзыдэнт — ставіць на разгляд прапанову камісіі, якая хоча дадатковае вядзеньне справы й вынясеньне пастановы новай камісіі, або Сэсія сама зробіць пастановы цяпер.

Радны Ф. Кушэль — прапануе правесьці кантроль усіх фондаў усіх беларускіх арганізацыяў, як выдавецтва «Веда», БІНіМ, фонд куплі дому[662], друкарскай супалкі і г. д., бо інакш выглядае, што выдавецтву «Беларус» ня было даверу.

Сп. Прэзыдэнт — зазначае, што аб гэтым ужо гутарылася раней і будзе разгледжана ў бягучых справах як асобны пункт.

Радны Махноўскі — прыгадвае аб унесенай ім прапанове выбару дысцыплінарнай камісіі з наданьнем ёй правоў выносіць пастановы.

Радны А. Орса — лічыць, што іншых фондаў кантраляваць няма ніякай патрэбы, бо галоўным закідам выдавецтву «Беларус» было таямнічасьць фондаў выдавецтва. Падтрымлівае прапанову раднага А. Махноўскага.

Радны Я. Арцюх — лічыць выбіраньне яшчэ аднае камісіі непатрэбным, бо справы асабістыя паміж раднымі разглядае і прысуды выносіць Суд Рады БНР.

Радны Н. Краўцэвіч — думае, што Суд Рады і сама Рада нікога судзіць і прысудаў выносіць ня можа, бо знаходзіцца на чужой тэрыторыі, законы якой маюць свае адносіны і да Рады. БАЗА як арганізацыя амэрыканска-беларуская ў ЗША — непадсудная Радзе БНР.

[662] Маецца на ўвазе Камітэт набыцця беларускага дома ў Нью-Ёрку.

Радны Ф. Кушэль — адзначае праўнасьць і рацыю выступу раднага Краўцэвіча, але толькі з маральных забавязваньняў падпарадкуецца пастановам Рады.

Радны Л. Савёнак — лічыць, што разглядаюцца справы не асабістыя, як гэтага хочуць некаторыя радныя, а шмат важнейшыя. Камісіяў ніякіх выбіраць ня трэба, бо яны нічога вырашальнага ня зробяць, а Сэсія Рады мусіць разгледзіць і вынесьці пастановы сама непасрэдна.

Галасаваньне: прапанова раднага А. Махноўскага — выбраць дысцыплінарную камісію: 15:4:4[663]; прапанова раднага Л. Савёнка: 2:5:21.

Радны Я. Протас — прапануе ў склад новае камісіі дадаць толькі дзьве асобы да існуючае камісіі.

Радны А. Махноўскі — у склад новае камісіі Прэзыдэнта, Прэзыдыюм Рады, старшыню сэктару Рады ў ЗША, старшыню Суду Рады, старшыню папярэдняе камісіі і дзяржаўнага абвінавачвальніка.

Радны А. Орса — прапануе камісію ў складзе трох асобаў: Прэзыдэнт, старшыня Суду Рады — Ф. Родзька і старшыня папярэдняе камісіі — А. Стагановіч.

Радны У. Русак — адводзіць кандыдатуры радных А. Махноўскага і др. А. Орсы, бо лічыць, што яны найбольш зацікаўленыя ў справе былога канфлікту і *«найбольш прычыніліся да авантуры»*. Прапануе надаць правы ўжо існуючай камісіі.

Радны А. Стагановіч — ад імя ўсяе існуючае камісіі катэгарычна адмаўляецца прыняць на сябе гэткія абавязкі.

Радны А. Орса — зазначае, з пратэстам, што ён як старшыня сэктару Рады ў ЗША ніякай авантуры не праводзіў.

Радны А. Махноўскі — зьнімае сваю кандыдатуру.

Радны А. Орса — настойліва патрабуе, каб справа была вырашана, а ў кажным разе павінна быць сканстытуяваны факт шкоднасьці падобных выпадкаў.

Радны Ю. Старасельскі — падтрымлівае прапанову др. Орсы й на мейсцы сп. Прэзыдэнта дзеля ягонага магчымага адсутнічаньня прапануе выбраць заступніка.

Галасаваньне: Выбраць заступніка Прэзыдэнта ў камісію: 18:4:4.

Сп. Прэзыдэнт: згаджаецца з прынятаю большасьцю галасоў пастановаю і падае, што камісія пастараецца быць аб’ектыўнай у сваёй працы і думае, што яе думка будзе ў гэтай справе безапэляцыйнай.

Галасаваньне: кандыдаты на заступніка Прэзыдэнта ў камісіі: В. Стома — 8 галасоў, М. Тулейка — 7 галасоў.

Васьм’ю галасамі заступнікам Прэзыдэнта, у разе патрэбы, у камісію абіраецца радны В. Стома.

Абвяшчаецца перапынак на абед.

---

663 Тут і далей такімі шэрагамі лікаў падаюцца вынікі галасавання: «за»: «супраць»: «устрымаўся».

Радны Ю. Старасельскі — просіць паставіць пад галасаваньне праводзіць дыскусію над справаздачаю ці не праводзіць.

Радны А. Махноўскі — лічыць, што дыскусіі непатрэбныя.

Прэзыдэнт — прапануе выказацца жадаючым, але толькі адзін раз.

Радны Ф. Кушэль — адзначае, што камісія фактычна мела два паданых ёй дакуманты: раднага Л. Галяка і Я. Станкевіча. Адказываць на пашквіль Я. Станкевіча ён не зьбіраецца, але зазначае, што Я. Станкевіч на пачатку дзейнасьці арганізацыі БАЗА быў яе старшыняй, аднак дзейнасьці ніякай не праводзіў, а займаўся пераважна грашовымі справамі. Ад раднага Я. Ніхаёнка набраў нібы на карэспандэнцыю 80 даляраў, якіх дагэтуль не зьвярнуў. На 2-ім зьезьдзе БАЗА[664] сп. Кушэля выбралі старшынёй арганізацыі, пасьля чаго Я. Станкевіч і павёў супраць яго падрыўную дзейнасьць. Былі і другія кандыдаты на старшыню БАЗА, як сп. Орса, але яны паадмаўляліся. Колькі часу пазьней Я. Станкевіч зьвяртаецца да Беларуска-амэрыканскае нацыянальнае рады ў Чыкаго за дазволам адчыніць у Нью Ёрку яе аддзел. Заяву падпісалі: Я. Станкевіч, А. Адамовіч і іншыя.

(А. Адамовіч з мейсца: Няпраўда! Ілжа!).

Затым затрымліваецца над выданьнем газэты «Беларус». Прэзыдэнт выехаў у Эўропу з дагаворанасьцю, што др. Тумаш будзе рэдагаваць газэту. Аднак др. Тумаш выдаў 2 нумары газэты і адмовіўся. Газэта ня выходзіла, і трэба было паставіць яе на ногі. *«Я гэта зрабіў»*. Рэдактарам была абраная радная Н. Арсеньнева, аб чым дакладна ведаў і прэм’ер, бо аб гэтым зь ім былі папярэднія нарады. Супрацоўнічаць у газэце запрашаў усіх, але нашыя журналістыя адмаўляліся, а сп. Адамовіч ня толькі не супрацоўнічаў, але нават арганізаваў байкот газэты. Грошы на выданьне газэты атрымліваліся на пакрыцьцё фактычных рахункаў па выдавецтву, дзеля чаго нельга было весьці ашчаднасьці. Людзі ня ведалі справы і пашыралі плёткі; як высьветліла камісія, ніякай авантуры ня было, і ўсе выдаткі прызнаныя мэтазгоднымі. Аднак, нягледзячы на кантролю адпаведнае ўстановы, рабіліся вялікія ашчаднасьці, якія былі выкарыстаныя на дабро беларускае справы, што й прызнала сьледчая камісія. Найбольш ахвяраваўся рэдактар (атрымлівала 90 даляраў замест належачых ёй 160, на што падпісвала рахункі). 60 даляраў штомесячна давалася ўладыку Васілю на царкву, а таксама іншыя нашыя ўстановы. Рахункаводзтва праводзіў не скарбнік БАЗА Ул. Русак, а фаховец сп. М. Гарошка. Прэзыдэнт ніякай групоўкі не ствараў, а ўсё рабілася на ўласную адказнасьць прамоўцы. Таксама не атрымлівалася ад Прэзыдэнта ніякіх інструкцыяў і нават не вялося зь ім ліставаньня. Радны ўважае, што належна й сумленна выканаў свае абавязкі.

Радны Я. Станкевіч — запытваецца, колькі грошаў дана на выдавецтва часапісу «Запісы».

---

[664] Насамрэч Франц Кушаль быў абраны старшынёй БАЗА на Трэцім кангрэсе арганізацыі, які праходзіў 1–2 сакавіка 1952 г.

Радны А. Стагановіч (як старшыня камісіі) — камісія прызнала не падаваць гэтага да агульнага ведама.

Радны Я. Станкевіч — цьвердзіць, што Беларускі інстытут навукі і мастацтва ды «Запісы» былі створаныя і падтрымліваліся грашова адзіна з мэтаю разваліць Крывіцкае навуковае таварыства. Няпраўдай ёсьць выдуманая гісторыя з 80 далярамі. Выдавецтва газэты было справай асабістай Кушэля. Скарбнік М. Гарошка атрымліваў грошы толькі за тое, што хадзіў у банк, што мог рабіць рэдактар, таксама і рассылаць газэту. Такім парадкам выдаткавалі шмат грошаў намарна, і ня толькі пашкодзілі, але «палажылі» беларускую справу ў Нью Ёрку.

Радны Л. Галяк — запытваецца, на аснове чаго камісія лічыць, што паводзіны і заявы Кушэля ня маглі ўплываць на вынік галасаваньня на зьезьдзе БАЗА, дзе ён быў абраны старшынёю толькі большасьцю 2-х галасоў.

Радны А. Адамовіч — адказвае, што такая думка толькі двох сяброў камісіі.

Радны А. Орса — лічыць, што шкодзілі ня Кушэлю, а Кушэль шкодзіў усякай беларускай справе ад часу прыезду з Эўропы і падчас ягонага камандаства ў лягерох Нямеччыны. *«Навошта мана падтрымкі БАПЦарквы, чаго ня было, бо я стараста царкоўны, і ніякай падтрымкі не даставаў». «Проста кажыце, што грошы даваліся для Васіля асабіста»*.

Радны А. Адамовіч — адказвае раднаму Кушэлю ў асабістай абароне, думаючы, што байкоту «Беларуса» не праводзіў, а памагаў рэдактару Н. Арсеньневай, чым і як мог, хоць дапамога гэтая і была малой. Калі-ж ня браў дзейнага ўдзелу ў выдавецтве, дык толькі дзеля плачэньня газэтаю ганарараў. Ніякіх лістоў да БАНР у Чыкаго не падпісваў. Ня бачыць ніякай злачыннасьці ў дзейнасьці Кушэля, але лічыць шкоднай групаўшчыну, якой не павінна быць на будучыню. Ведае з практыкі, што калегіяльнасьць у газэце ёсьць справай нерэальнай.

Радны М. Гарошка — адзначае, што тайнасьць у выдавецкай дзейнасьці была неабходная, але гэта ня было тайнасьцю для Ураду БНР, бо аб усім ведаў прэм'ер. Аплату, якую ён даставаў як рахункавод, была толькі частковаю аплатаю страчанага часу на гэтую працу.

Прэзыдэнт — зачыняе паседжаньне, падаючы да ведама, што на парадку дня застаюцца наступныя нявырашаныя справы:

1. Перагляд дачыненьняў з суседзямі і «зарубежнікамі».
2. Справа М. Дзямідава, фракцыяў і партыяў.
3. Фінансавыя справы.
4. Уканстытуяваньня Прэзыдыюму Рады і Ураду.
5. Перагляд Статуту Рады.

Наступнае паседжаньне прызначаецца на 31 студзеня 1954 году.

## Пратакол IX-га паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 31-га студзеня 1954 году

Старшынствуе — сп. Прэзыдэнт.

Сакратар — М. Панькоў.

Прысутнічала 25 радных.

Прэзыдэнт адчыняе паседжаньне паведамленьнем аб працы пастаноўчае камісіі.

Радны А. Стагановіч — зачытвае пратакол паседжаньня пастаноўчае камісіі Рады БНР у справе нутранога канфлікту. Камісія пастанаўляе, што дакуманты і дазнаньні спэцыяльнае сьледчае камсіі па нутраных справах зьнішчаюцца за выняткам пастановы тэй камісіі ў 5-цёх пунктах.

Радны Ф. Кушэль — запытваецца, ці іншыя маюць права абражаць яго, як радны А. Махноўскі слоўна і радны Я. Станкевіч пашквілем пісьменна.

Прэзыдэнт — просіць раднага Ф. Кушэля падпарадкавацца пастанове камісіі і даць рэкампэнсацыю сп. Махноўскаму за нанесеную абразу. Падчырківае, што дыскусіяў па пастанове не адчыняе і слова нікому не дае, пераходзячы да парадкавае працы паседжаньня, аргумэнтуючы бэзапэляцыйнасьць пастановы і выключэньне ўсякіх дыскусіяў па разгледжанаму пытаньню.

Радны Л. Галяк — паведамляе, што незадавальняецца пастановай.

Радны Я. Станкевіч — патрабуе не зьнішчаць актаў працы спэцыяльнае сьледчае камісіі, але памножыць іх і перадаць кажнаму сябру.

Радны П. Манькоўскі — намагаецца перагляду пастановы пастаноўчае камісіі.

Радны А. Махноўскі — зазначае, што пастаноўчая камісія ня выканала свайго заданьня і ня вырашыла аднаго з галоўных пытаньняў — аб кантролі Урадам БНР выдаткаваньня ўсіх паступаючых матэрыяльных сродкаў.

Радны Л. Савёнак — нагадвае, што пастаноўчай камісіі па нутраному канфлікту Сэсія не давала права пастанаўляць аб зьнішчэньні дакумантаў спэцыяльнае сьледчае камісіі, бо гэтае зьнішчэньне зьяўляецца дыскрымінацыяй усіх радных.

Галасаваньне: Акты спэцыяльнае сьледчае камісіі па нутраному канфлікту захаваць у архівах Рады з дапаўненьнем, хто жадае гэткае зрабіць у адным экзэмпляры: за — 13, супраць — 7, устрымалася — 3.

Пастанаўляецца дакуманты не зьнішчаць і перахоўваць у асобнай тэчцы ў архівах Рады.

Прыступіць да парадкавае працы Сэсіі: за — 16, супраць — 0, устрымалася — 10.

Радны Ф. Кушэль — пакідаець паседжаньне Сэсіі.

Прэзыдэнт — зачытвае тэксты тэлеграмаў: 1. А. Робэрту ван Ковалеру[665] — падзяка за дапамогу ў беларускім вызвальным русе і 2. УНРадзе з выпадку сьмерці Прэзыдэнта яе Лывіцькага[666].

Інфармуе аб звароце арганізацыі Камітэта вольнае Эўропы збору сродкаў на яго карысьць. Прапануе ў зборы сродкаў адмовіць, матывуючы гэта ў адказе тым, што Камітэт вольнае Эўропы сваёй працай не ахапляе абшараў Беларусі[667].

*Пытаньне нашых суадносінаў з суседзямі*

Прэзыдэнт — прапануе даручыць раднаму В. Тумашу дагаварыцца з прадстаўнікамі летувісаў аб канкрэтнай навуковай супрацы з іхнімі арганізацыямі, як ладжаньне навуковых канфэрэнцыяў, дыскусіяў і г. д.

Радны Я. Станкевіч — выходзячы з рэальных магчымасьцяў радзіць ісьці на ўступкі з нашымі тэрытарыяльнымі справамі, каб набываць прыяцеляў і ўнікаць ворагаў. Трэба прызнаць былую мяжу дзяржаўную з Латвіяй, падзяліцца з летувісамі Вільняй і пад. Трэба ўжо цяпер дагаварывацца з усімі.

Радны А. Махноўскі — адзначае, што ў б. абшарах Латвіі быў вялікі кавалак беларускае зямлі, а латышы маюць яшчэ вялікшыя прэтэнзіі да нашых абшараў. Падчырківае, што латыш ніколі ня можа быць нашым прыяцелем.

Радны М. Цэлеш — дзівіцца, што на паседжаньнях Рады дазваляецца падрыхтоўка да гандлю беларускімі абшарамі, як гэта гучэла ў прамове раднага Я. Станкевіча.

Радны Л. Савёнак — уважае, што культурную супрацу з нашымі блізкімі і далейшымі суседзямі наладзіць неабходна, але рабіць гэта ня коштам уступак нашых адвечных земляў. Хай сабе іншыя нашы суседзі мацнейшыя сёньня, але мы мусім мець пэўную канцэпцыю, і ў данай сытуацыі трымацца межаў БССР як рэальных і прызнаных большасьцю дзяржаваў сьвету. Да межаў этнаграфічных ставіцца з рэзэрвай, каб не набыць лішніх ворагаў.

Радны М. Панькоў — адзначае, што на эміграцыі ня маем нават голасу падыймаць аб зрачэньніся[668] нейкіх абшараў этнаграфічных, а ня тое, каб рабіць і дагаворы з нашымі суседзямі ды прызнаваць іхныя імпэрыялістычныя прэтэнзіі. За падобныя прапановы, як зрабіў радны Станкевіч, трэба выкідаць з Рады, а ня слухаць брахню афіцыйна. Дзівіцца капітулянцкім настроям раднага Л. Савёнка ў адношаньні нашых этнаграфічных межаў.

Радны Я. Станкевіч — апраўдываецца ў справе выказаньняў аб межах, гаворыць аб межах, праведзеных на апрацаванай ім карце Беларусі. Адстойвае спробаў дагаварыцца з суседзямі і дзеля прыяцельскіх адносінаў падзяліцца

---

[665] Маецца на ўвазе айцец Роберт ван Кавэлярт.

[666] Прэзідэнт Украінскай Народнай Рэспублікі на выгнанні Андрэй Лівіцкі памёр 17 студзеня 1954 г. у Карлсруэ.

[667] Амерыканскі Нацыянальны камітэт свабоднай Еўропы быў скіраваны на працу з еўрапейскімі краінамі сацыялістычнага лагеру, якія не ўваходзілі ў СССР.

[668] Так у арыгінале.

нашымі прымежнымі і спрэчнымі абшарамі. З некаторымі суседзямі найлепей трымаць дыплёматычныя дачыненьні і не кранаць дражлівых пытаньняў.

Радны М. Міцкевіч — адзначае маўчаньне нашых урадовых чыньнікаў у дачыненьнях з палякамі, калі раней была нейкая нібы прыязень.

Прэзыдэнт — інфармуе аб перагаворах у 1948 годзе[669] з польскім урадам і аб занятых тады Радаю БНР пазыцыях ды аб джэнтэльмэнскай супрацы з палякамі. Тады гаварылася, што ўсе справы будуць разьвязаныя дыплёматычным шляхам бяз ужываньня збройнае ды іншае сілы. Адзначае пазыцыі газэты *«Idziemy»* (рататарная ў Лёндане)[670], якая ставіцца да нас вельмі прыхільна і прызнае нашыя правы на Заходнюю Беларусь ды рэвідуе[671] межы 1939 году. Выдае газэту Рыльскі[672]. Добра ставіцца і магчыма дагаварыцца таксама з урадам Мікалайчыка[673]. Пакуль ня бачыць іншых магчымасьцяў і ўважае, што трэба ў дачыненьнях з палякамі трымацца дасюлешніх пазыцыяў.

Радны А. Шукелойць — адзначае сілу групы Мікалайчыка ў ЗША і лічыць неабходным наладзіць з гэтай групай кантакт. Падае інфармацыю аб іншых польскіх згрупаваньнях, якія ставяцца да нас пазытыўна.

*Рэарганізацыя структуры Рады*

Прэзыдэнт — зачытывае прапанаваны Кліўлендзкім падсэктарам Рады праект[674]. Лічыць, што праект заслугуе на ўвагу, і прапануе прадыскутаваць яго ды ўдасканаліць, бо ўважае, што інакш абнавіць склад Рады немагчыма.

Радны Я. Арцюх — згаджаецца з патрэбаю абмежаваньня складу Рады, але прызнае праект супярэчным, бо прапануе і выбары (пасылка дэпутатаў ад партыяў і арганізацыяў), і паклıканьне (права Прэзыдэнта). Уважае, што безтэрміновасьць кадэнцыі раднага не даець карысьці і нівэлюе заахвочанасьць да дзейнасьці. Прапануе вызначыць тэрмін кадэнцыі кажнага раднага, што можа зрабіць сам Прэзыдэнт. Апрача Ураду неабходна выбраць дзьве камісіі на стала: вонкавых і нутраных справаў, каб памагалі Ураду.

---

[669] Магчыма, маюцца на ўвазе перамовы з прадстаўнікамі польскага ўраду на эміграцыі ў Лондане ў 1947 г. Гл. адпаведны дакумент у раздзеле «Дакументы».

[670] ***«Idziemy»*** — рататарны бюлетэнь, які выходзіў невялікім накладам у Лондане як орган «Навачаснай хрысціянскай думкі». Пра матэрыялы з гэтага перыёдыка гл.: Р. С. Голас сумленных палякаў // Бацькаўшчына. № 18 (149). 03.05.1953.

[671] **Рэвідуе** (ад польск. *rewidować*) — папраўляе.

[672] У матэрыяле пра публікацыю ў бюлетэні *«Idziemy»* згадваецца інжынер А. Сцібор-Рыльскі як аўтар публікацыі «Этнічны прынцып», прысвечанай беларускапольскім дачыненням.

[673] **Станіслаў Мікалайчык** (1901–1966), польскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, у 1943–1944 гг. — прэм’ер-міністр польскага ўраду на эміграцыі. У 1945 г. ён вярнуўся ў Польшчу і ўдзельнічаў у Часовым урадзе нацыянальнага адзінства. Аднак у 1947 г. мусіў з’ехаць на Захад. Жыў у ЗША, дзе быў актыўным дзеячам Польскага нацыянальна-дэмакратычнага камітэта.

[674] Відавочна, аўтарам праекта быў Аўген Каханоўскі, які на той час жыў у Кліўлендзе, быў лідарам АБНД і актыўна крытыкаваў дзейнасць Міколы Абрамчыка.

Радны Я. Станкевіч — адзначае вялікую колькасьць радных, што адбірае магчымасьці і зьніжае канкрэтную працу. Трэба прачысьціць склад Рады ад нядзейных і некарысных сяброў. Лічыць, што праект не разьвязвае пытаньня, а падтрымліваючы яго, Прэзыдэнт не стаіць на рэальным груньце, бо большасьць паданых у праекце арганізацыяў — фікцыя. (зь мейсца рэпліка: Ці Крывіцкае таварыства Янкі Станкевіча ня фікцыя!). Уважае, што праектаваная рэарганізацыя прывядзе толькі да хаосу ды вынікненьня колькіх радаў. Кандыдаты мусяць быць названыя пісьменна, каб можна было разважыць, ці яны заслугуюць на годнасьць раднага.

Радны Л. Савёнак — бароніць паданы праект як абдуманы, адпаведны, саяачасны і стоячы на рэальных падставах нашага сучаснага вызвальнага руху.

Радны М. Гарошка — адзначае ад'ёмныя бакі праекту і лічыць, што калі праект будзе прыняты, дык паўстане яшчэ болей падобных да Кліўленду лідараў партыйных, а гэта прывядзе толькі да ўскладненьня пытаньня. Падае прыклады з дзейнасьці іншанацыянальных арганізацыяў. Прапануе больш дасканальна прадумаць паданы праект. Справы фракцыяў у Радзе ўважае за чыста тэхнічна-практычную дзейнасьць, якая зьвязана з часам.

Радны М. Міцкевіч — уважае паданы праект прадстаўніцтва заблытаным, бо кажны з радных уваходзіць у некалькі арганізацыяў, а тады мусіў-бы мець і некалькі галасоў. Падтрымлівае праекты радных М. Гарошкі і Я. Станкевіча.

Радны Б. Даніловіч — прапануе абмежаваць лік радных.

Радны А. Шукелойць — уважае, што паданы праект рэарганізацыі Рады БНР стаіць на новай канцэпцыі. Да гэтага часу Рада БНР стаяла на выробленай ад даўна канцэпцыі і гістарычнай традыцыі. Сучасная Рада БНР прадоўжуе[675] традыцыі Рады з 1918 году. Паданы праект стаіць на прынцыпе рэарганізацыі Рады ў цэнтралю арганізацыяў эмігранцкіх. Гаворыцца там і аб пакліканьні Прэзыдэнтам 15 радных, якія, як выглядае, мусілі-б разам з Прэзыдэнтам рэпрэзэнтаваць гістарычную традыцыю. Але бальшыня, пры тым вялікая бальшыня радных будзе прадстаўляць эміграцкія арганізацыі, якіх і сяньня існуе многа ды могуць тварыцца бясконца. Такім парадкам, Рада ператворыцца ў каардынуючую эміграцкую арганізацыю. Вось гэта трэба прадумаць. Ці пакінуць Раду, абапёртую на гістарычных традыцыях, ці ператварыць у эміграцыйную арганізацыю. Уважае, што нягледзячы на розныя недахопы, якіх, аднак, шмат менш, чым маюць, напр., УНРада або польская, а галоўнае, Рада мае прынцып гістарычнае канцэпцыі, на якім і павінна быць захавана.

Радны В. Кажан — уважае, што праект трэба яшчэ добра прадумаць і тым часам зьвярнуцца да апазыцыі ў «зарубежнікаў», каб яна прыслала сваіх прадстаўнікоў. Але неабходна мець пэўную г. зв. «крывіцкую» большасьць, якую дасьць тое, што Прэзыдэнту даецца права паклікаць вялікшы лік радных.

[675] Так у арыгінале.

Радны А. Адамовіч — лічыць, што праект носіць адзнакі дактрынэрства Каханоўскага, і ня мае ніякай вартасьці, а галоўнае, зусім нежыцьцёвы. Лепшага за існуючы дабору ці давыбару Рады БНР ужо нельга знайсьці. Партыі ў нас зусім нерэальныя, фіктыўныя пераважна ці выпадковыя. АБНД — проста выпадковае склёпаньне людзей на даным эміграцыйным этапе без далёкасяжных мэтаў. БНГ[676] Хмаравая — тое самае, а іншых нават зусім не чуваць. Думае, што праект трэба адкінуць і толькі перагледзіць сучасны склад Рады, а калі трэба, дык асьвежыць яго і аб гэтым апавесьціць усіх.

Радны Я. Ліманоўскі — канстатуе нашае адарваньне ад народных гушчаў, якіх фактычная Рада за сабою ня мае. Праведзеньне прынцыпу выбараў азначае адыход ад гістарычных традыцыяў Рады і ператварэньне яе ў звычайную эмігранцкую арганізацыю. Праект амаль нічога не дае новага. Прапануе, што трэба спалучыць выбарнасьць з пaклiканьнем і абмежаваць кадэнцыю радных.

Радны А. Адамовіч — дадае, што лічыць неабходным устанавіць час кадэнцыі. Пратэстуе супраць апэраваньня тэрмінам псыхолёгічнае масы, які вельмі шкодны, і нам ніяк не выпадае яго ўжываць, бо матэматычнай масы на эміграцыі ня маем. Павінны захоўваць традыцыі Рады БНР, вывезеныя з Бацькаўшчыны, што і рабілася ўвесь час.

Прэзыдэнт — лічыць, што праект ня ўносіць зьменаў, бо і раней кандыдатаў у радныя падаваў БНЦ, а пазьней гэта рабілася сэктарамі, якіх потым ён зацьверджваў. Ня бачыць магчымасьці паўстаньня хаосу ад рэарганізацыі Рады. Прызнае патрэбу абмежаваньня кадэнцыі. Сэсія павінна прыняць пастанову аб праве беларускіх арганізацыяў падаваць кандыдатаў у радныя.

Радны А. Шукелойць — канстатуе, што падобная пастанова была-б простым зафіксаваньнем існуючага ладу, фармальным яго зацьверджаньнем. Уважае, што Рада БНР мае вялікія плюсы ў параўнаньні з падобнымі іншанацыянальнымі экзыльнымі інстытуцыямі.

Радны А. Махноўскі — лічыць непатрэбнай ніякую рэарганізацыю, каб не рабіць замяшаньняў.

Радны Л. Галяк — пакідае паседжаньне.

Абвяшчаецца абедзенны перапынак.

Прэзыдэнт — запрашае падаваць канкрэтныя прапановы дзеля зьліквідаваньня пасыўнасьці некаторых сяброў Рады.

Радны Я. Станкевіч — прапануе выслаць усім радным лісты, каб яны адказалі, ці лічуць сябе раднымі. Калі нехта не адкажа ў пэўны тэрмін, дык лічыць яго выбыўшым. Гэта павінен зрабіць Прэзыдыюм ці Урад Рады.

Радны Я. Ліманоўскі — прапануе абмежаваць час кадэнцыі Рады 4 гадамі, і гэты год лічыць апошнім годам кадэнцыі Рады ў дасюлешнім складзе. Палітычныя беларускія партыі яшчэ знаходзяцца ў стадыі кансалідацыі і нічога новага ня могуць падаць. Штогод абнаўляць 25 % складу Рады.

[676] Маецца на ўвазе **Беларуская народная грамада** — арганізацыя т.зв. «трэцяй сілы», створаная Сяргеем Хмарам.

Радны Л. Савёнак — прапануе, каб Сэсія прызнала неабходным патрэбу асьвяжэньня Рады і прынцып выбарнасьці. Гэта неабходна хутчэй дзеля вонкавых патрэбаў, а практычна ніякіх асаблівых зьменаў не адбудзецца. Выказваецца за час абмежаваньня кадэнцыі.

Радны япіскап Васіль — ня бачыць ніякай розьніцы паміж прапановамі радных Я. Станкевіча і Я. Ліманоўскага, аднак прапанова апошняга лепш выглядае на вонкі, бо прапанова Станкевіча нас кампрамітавала-б.

Радны А. Адамовіч — уважае прапанову Савёнка правакацыйнай і шкоднай для Рады, бо гэтым сьцьвердзілі-б тыя абвінавачваньні, якія кідаліся на Раду празь увесь час яе ворагамі. Аб сканчэньні крызісу нутранога гаварыць яшчэ цяжка і перадчасна, бо ён толькі прыціх, але не залагоджаны.

Радны М. Гарошка — лічыць непатрэбным ніякія даборы радных, бо ўсё лепшае з нашых нацыянальных арганізацыяў ужо знаходзіцца ў шэрагах Рады.

Радны А. Шукелойць — бароніць свайго погляду, што давыбары новых радных зробяць Раду звычайнай эміграцкай арганізацыяй.

Радны М. Тулейка — падтрымлівае раднага А. Шукелойца.

Прэзыдэнт — лічыць патрэбным пакінуць вырашэньне пытаньня Прэзыдыюму Рады, бо дэбаты паказваюць толькі на разьбежнасьць поглядаў. Прапануе разгледзіць толькі прынцып абнаўленьня складу Рады штогод 25 %.

Радны Я. Станкевіч — бароніць сваю прапанову.

Радны А. Стагановіч — зазначае, што амэрыканскі грамадзянін ня можа быць дэпутатам ці дэлегатам іншае дзяржаўнае арганізацыі, аб чым зазначана ў канстытуцыі ЗША.

На галасаваньне ставяцца паданыя прапановы (рэдакцыя прапановаў — аўтараў).

Прапанова раднага Я. Станкевіча: Рада БНР зварачаецца да сваіх пасыўных сяброў з апытаньнем, чаму яны залягаюць із складкамі (калі залягаюць), чаму ня бываюць на паседжаньнях і просіць здаць лічбу із свае працы як сябра Рады і ці ўважае ён сябе далей за раднага. Пры гэтым у такім лісьце падаць залеглую суму складак і час ня ўчасьця ў паседжаньнях Рады. Хто ў працягу месяца не адкажа або адкажа, што ён не ўважае сябе за сябру Рады або ня хоча ім быць — уважаць за нераднага.

Прэзыдэнт — прапануе пададзеную прапанову раднага Станкевіча прыняць толькі да дзейнасьці Прэзыдыюму Рады.

Прапанова прыймаецца да ведама Прэзыдыюму Рады.

Прапанова раднага Я. Ліманоўскага: Кадэнцыя Рады БНР мае абмежаваны тэрмін і штогоду абнаўляецца на 25 % складу Рады, пакідаючы прынцып выдзяленьня кандыдатаў на новых радных беларускім партыям і арганізацыям.

Галасаваньне дае наступныя вынікі: за — 14, супраць — 0, устрымалася — 5.

Большасьцю 14 галасоў пастанова прыймаецца.

*Грашовыя справы*

Прэзыдэнт — адзначае крытычны грашовы стан і цяжкасьць дзейнасьці выканаўчых органаў у залежнасьці ад гэтага. Паступалі прапановы з розных краінаў, каб быў знойдзены прынцып агульнага ападаткаваньня грамадзянаў БНР. Падае прыклады з прыкрых выпадкаў пад час падарожжаў і асабліва працы ў Эўропе, калі ня было ніякай грашовай падтрымкі. Разьлічвае, што месячна на вонкавую рэпрэзэнтацыю неабходна каля 250 даляраў.

Радны В. Кажан — сьцьвярджае, што прыняты некалі 2 % падатак з заробку радных аказаўся для больш-менш дакладнага праводжаньня немагчымы да зрэалізаваньня, а таму конча неабходна знайсьці нейкі іншы прынцып ападаткаваньня, прымальны для ўсіх і прадбачачы прыблізна ўсе выпадкі. Практыка паказвае, што магчыма лепшым будзе прынцып, якім карыстаецца амэрыканская падатковая сыстэма, на аснове якога і прапануе ўкладзены ім праект.

Грамадзкае ападаткаваньне.

Радны Я. Станкевіч — прапануе, каб была прынятая пастанова аб тым, што на нейкія пасады, здабытыя нацыянальнымі пазыцыямі, пасылаюцца толькі тыя беларускія працаўнікі, якія ўвесь вольны час аддаюць і аддадуць дзеля працы для нацыянальнае справы.

Радны Л. Савёнак — прапануе, каб азначаны працэнт бюджэту арганізацыяў, якія падтрымліваюць і падпарадкуюцца Радзе БНР, адлічаўся імі ў касу Рады.

Радны М. Цэлеш — прапануе, каб ад усіх пабочных даходаў (ганарары за дапіскі, за пашыраныя выданьні) 25 % адлічалася ў касу Рады.

Радны А. Адамовіч — падтрымлівае прапанову раднага-скарбніка В. Кажана з даручэньнем яму крыху ўдасканаліць падатак з найменшых заробкавых групаў.

Радны А. Стагановіч — прапануе аблажыць усіх радных па 100 даляраў у год.

Радны А. Шукелойць — падтрымлівае прапанову раднага Стагановіча.

На галасаваньне ставіцца прапанова: Сёмая Сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі пастанаўляе: што кажны беларус плоціць як абавязковы падатак у Фонд Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 10 (дзесяць) даляраў у год, стасуючы гэтую суму ў іншых краінах да жыцьцёвых нормаў. Тэхнічна збор падатку праводзіць апарат Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

Пастанова прыймаецца аднагалосна.

Прэзыдэнт — прапануе абмеркаваць выпуск займу (падобна, як зрабіла УНРада), з умоваю аплаты яго вольнай беларускай дзяржавай. Дадае, што займ, выпушчаны ўкраінцамі, меў вялікі посьпех ня толькі сярод сваіх, але і сярод чужынцаў.

Радны Я. Ліманоўскі — прапануе, каб з зборам падатку зьвярталіся ня толькі да ўсіх сьведамых беларусаў, але і да старое беларускае эміграцыі, якая мае пэўныя аб’екты прыбытку.

Радны Я. Станкевіч — падтрымлівае прапанову раднага Я. Ліманоўскага і радзіць выпусьціць аблігацыі.

Радны А. Стагановіч — настойвае на прыняцьці пастановы аб ападаткаваньні кажнага раднага 100 далярамі ў год.

Радны П. Кажура[677] — падтрымлівае прапанову раднага А. Стагановіча, думаючы, што прыклад платы ападаткаваньня павінны паказаць насамперш радныя.

Дзеля позьняга часу прапановы адкладаюцца да наступнага паседжаньня, якое прызначаецца на 14 лютага г. г. а гадзіне 10 з наступным парадкам працаў:

Прыняцьця праекту.

Уканстытуяваньне Прэзыдыюму Рады.

Уканстытуяваньне Ураду.

Выбары кантрольных органаў.

## Пратакол X-га паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 14 лютага 1954 году

Старшынствуе — Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык.

Сакратары — М. Панькоў, а па абедзеным перапынку і В. Русак.

Прысутнічала 27 радных.

Прэзыдэнт — паведамляе аб адчыненьні паседжаньня і парадку працы яго. Дае слова раднаму Л. Галяку для зачытаньня заявы.

Радны Л. Галяк — зачытвае заяву да пастаноўчае камісіі аб нявыкананьні ею сваіх абавязкаў і не захаваньні справядлівасьці.

Адбываецца кароткая нарада сяброў пастаноўчае камісіі, пасьля якой старшыня камісіі (Прэзыдэнт Рады БНР) паведамляе, што камісія дзеля дабра справы агульнае ня мела магчымасьці вынесьці іншае пастановы ды просіць усіх спадароў радных прыняць гэта для дабра нацыянальнага руху.

Радны В. Кажан — падае распрацаваны і ўдакладнены праект падаходнага ападаткаваньня. Прапануе кажнаму беларусу, які аплоціць грамадзкі падатак у памеры 10 даляраў, апрацаваць і выдаваць адпаведны дыплём-паквітаваньне.

Радны Л. Галяк — знаходзіць у паданым скарбнікам праекце некаторыя патрабуючыя дакладнейшай фармуліроўкі месцы.

Радны У. Русак — зазначае, што фінансавая камісія Рады БНР ня мае ніякай магчымасьці скантраляваць праўдзівасьць заработкаў раднага, як гэта

---

[677] **Пётра Кажура** (20.06.1913, в. Карпавнчы Вялейскага пав. Віленскае губ. (сёньня Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 15.08.1992, Гайленд-Парк, Нью-Джэрсі), грамадскі дзеяч. З пачаткам нямецка-польскай вайны быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон, адкуль яго адпусцілі як беларуса. Пасля Другой сусветнай вайны стварыў беларускія лагеры *DP* у Нямеччыне. У 1949 г. прыехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Джэрсі, пачаткова ў г. Саўт-Рыверы, пазней пераехаў у г. Нью-Брансвік, затым у Гайленд-Парк. Дапамагаў беларусам з лагераў Нямеччыны перасяліцца ў ЗША. Удзельнічаў у набыцці будынку царквы (Беларускага грамадскага цэнтра) і царкоўнага дома ў Гайленд-Парку. Адзін з заснавальнікаў БАЗА.

могуць зрабіць дзяржаўныя органы краінаў пражываньня, а таму ўважае, што праект у нашых умовах не надаецца да карыстаньня.

Радны П. Манькоўскі — лічыць, што праект скарбніка Рады яшчэ патрабуець дапаўненьняў і ўдакладненьня.

Радны Б. Даніловіч — вымагае, каб была вызначаная акрэсьленая сума грошаў, якую мае ўнесьці ў касу Рады кажны радны.

Радны Г. Паланевіч — крытыкуе праект, выходзячы з паложэньня, што ён не дае канкрэтнае акрэсьленае сумы, і думае, што ў касе ніколі ня будзе грошы. Прапануе вызначыць пэўны месячны падатак, які кажны радны павінен унесьці ў касу Рады штомесячна.

Радны К. Вадэйка — думае, што апрача вышыні заробку трэба пры ападаткаваньні вылічаць таксама і сумы, выдадзеныя радным на лекароў, лекі і падобнае. Праўдзівасьць гэтых выдаткаў лёгка сьцьвердзіць па адпаведных квіткох ад лекароў ці платы за лекі і пад.

Радны А. Адамовіч — канстатуе, што ўстанавіўшы акрэсьленую суму, якую кажны радны меў-бы плаціць штомесячна, будзе зроблена крыўда для сямейных, а таму згаджаецца з праектам скарбніка-раднага В. Кажана.

Радны Я. Станкевіч — прапануе выбраць камісію дзеля поўнага апрацаваньня праекту скарбніка і заўвагаў раднага Л. Галяка, у якую апрача іх двох дадаць яшчэ 2–3 чалавек.

Радны М. Гарошка — прапануе вызначыць у праекце нейкіх 5–6 групаў ападаткаваньня, а кажны радны сам прызнае сабе адпаведную групу, бо няма ніякіх магчымасьцяў праверыць заробкі радных.

Радны К. Вадэйка — выказваецца супраць выкіданьня з ліку радных тых сяброў, якія чамусьці не аплоцяць падатку. Канстатуе, што гэткая пастаноўка пытаньня наводзіла-б на думку, што чалавек купляе сабе тытул раднага.

Радны М. Міцкевіч — згаджаецца з праектам скарбніка як з зусім рэальным і сулячым паправіць становішча.

Радны А. Стагановіч — выступае за свой папярэдні праект, каб кажны радны ўнёс у касу Рады 100 даляраў, каб забясьпечыць далейшую працу і дзейнасьць нашых працаўнікоў.

Радны У. Русак — уважае паданы скарбнікам праект зусім адпаведным і рэальным і спадзяецца, што становішча паправіцца.

Прэзыдэнт — зазначае, што праект скарбніка В. Кажана — добры і адпаведны ды дасьць рэальныя вынікі. Кантролю ня лічыць абразай ці недаверам, але неабходнасьцю кажнае грамадзкае працы і грамады.

Радны Г. Паланевіч — прапануе ападаткаваць кажнага раднага падаткам вышынёй ягонага тыднёвага зарабатку.

Галасаваньне: Прынцыпова за праект скарбніка раднага В. Кажана з дадаткамі раднага Л. Галяка, што аканчальна апрацоўваецца да наступнага паседжаньня: за — 18, супраць — 4, устрымалася — 3.

Радны Я. Станкевіч — выступае ў візіі яму асабіста нейкай дубляваньні працы. Ганіць як нікому непатрэбнае і забраўшае вялікія грошы люксовае

ў нашых умовах эміграцыі выданьне твораў Янкі Купалы[678], таксама часапісу «Запісаў»[679] і наагул супрацьдзейнасьці Беларускага інстытуту навукі і мастацтва[680].

Прэзыдэнт — у даўгой прамове адзначае фактычную нядзейнасьць дасюлешніх выканаўчых органаў Рады — Ураду і Прэзыдыюму, што тлумачыць няспрыяльнымі варункамі бытаваньня нашае эміграцыі, а таксама толькі скончаўшайся акцыяй далейшага эміграваньня і інш. Выпукляе, што ні Прэзыдыюм Рады, ні Урад дагэтуль фактычна ня выконвалі нават мінімальных сваіх функцыяў. Лічыць, што ў ЗША выканаўчыя органы Рады і далей будуць бязьдзейнымі ды не дадуць карысьці беларускаму вызвальнаму руху. Таму ўважае мэтазгодным зрабіць гэтыя органы вузейшымі ды спалучыць іх пад адным назовам Выканаўчыя органы і перанесьці ў Эўропу, дзе яны будуць шмат карысьнейшымі для справы ды перш за ўсё дзейнымі. Праектуе ўвесьці ў выканаўчыя органы людзей, якія пасканчалі Лювэнскі ўнівэрсытэт. У ЗША затое створыцца нейкая палітычная камісія для дапамогі і кантролю працы Выканаўчых органаў.

Радны Л. Галяк — пагаджаецца з прапановамі Прэзыдэнта аб уканстытуяваньні Ураду ў Эўропе, аднак лічыць неабходным, каб пэўныя органы былі таксама і ў ЗША як краіне, дзе беларуская эміграцыя знаходзіцца ў найвялікшай колькасьці.

На залі паседжаньня радны А. Стагановіч падыймае пратэст супраць ужытага ў прамове радным Л. Галяком звароту «пан», што лічыць абразай.

Радны А. Адамовіч — згаджаецца з праектам Прэзыдэнта аб стварэньні Ураду ў Эўропе, але лічыць такі Урад проста фікцыяй. Прызнае немэтазгодным уводзіць у Выканаўчыя органы моладзь, чым яна будзе толькі папсаваная і ня прыдатная ў будучыне для пазытыўнае працы. Таксама выказваецца

[678] Маецца на ўвазе планаванае выдавецтвам «Бацькаўшчына» выданне **збору паэзіі Янкі Купалы «Спадчына»**. Кніга памерам каля 500 с. з прадмовай на розных мовах пабачыла свет пазней, у 1955 г., як ньюёркска-мюнхенскае выданне. Аднак пры канцы студзеня 1954 г. у газеце «Бацькаўшчына» была надрукаваная вялікая абвестка пра падрыхтоўку збору, на якую, відаць, і зрэагаваў Янка Станкевіч. Гл.: Эміграцыйнае выданьне твораў Янкі Купалы // Бацькаўшчына. № 4–5 (186–187). 31.01.1954.

[679] Маецца на ўвазе альманах **«Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва»** — навуковы беларусаведны часопіс, які пачаў выходзіць у Нью-Ёрку ў 1952 г.

[680] Беларускі інстытут навукі і мастацтва стаў паспяховым канкурэнтам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны, якім кіраваў Янка Станкевіч. Гэтым тлумачыцца негатыўнае стаўленне апошняга да дзейнасці гэтай інстытуцыі. Падрабязней пра дачыненні інстытуцыяў і іх кіраўніцтва можна знайсці: Юрэвіч, Лявон. Вітаўт Тумаш як біёграф сучаснікаў // Жанры. Мінск, 2013. С. 198–203.

супраць запазычэньня назоваў «выканаўчыя органы» ад іншых народаў[681], але сьціслa ды пасьлядоўна трымацца сваіх традыцыйных і гістарычных — Народнага сакратарыяту.

Радны В. Кажан — уважае, што скарбнік Ураду БНР ці народны сакратар фінансаў можа быць і ў іншай краіне, не абавязкова ў ЗША. У Амэрыцы даволі будзе пакінуць нейкага зборшчыка падаткаў, які і дапаможа скарбніку ў справах амэрыканскага сэктару.

Радны Я. Станкевіч — згаджаецца з праектам Прэзыдэнта, аднак уважае, што па магчымасьці трэба абыйсьціся без увядзеньня моладзі ў Прэзыдыюм ды Урад. Як Урад, гэтак і Прэзыдыюм Рады павінны быць па-магчымасьці меншымі колькасна. Камісія таксама мусіць быць найменшай, каб была працаздольнай, але ў яе павінны ўваходзіць прадстаўнікі ўсіх групаў, якія дзейнічаюць на форуме Рады БНР.

Радны М. Тулейка — падтрымлівае праект раднага В. Кажана аб пераносе народнага сакратарыяту фінансаў у Эўропу, каб не ствaралася ўражаньня матэрыяльнае базы ў ЗША.

Радны У. Русак — не пагаджаецца з пераносам Ураду і Прэзыдыюму Рады ў Эўропу, бо тады тут на месцы пойдзе ўсё хаосам. Лепшым выхадам лічыць, каб частка сяброў Ураду была ў Эўропе, а частка засталася ў Амэрыцы.

Радны М. Панькоў — уважае, што перанос абодвых інстытуцыяў Рады ў Эўропу будзе не карысным, а шкодным для беларускае справы, бо застаўшыся ў ЗША радныя нічога ня будуць ведаць аб дзейнасьці Ураду ды таксама ня змогуць карэгаваць гэтую дзейнасьць, у разе патрэбы, на іхную думку. Лічыць больш адпаведным, калі ўжо існуе патрэба, падзяліць органы Рады: Урад у Эўропе, а Прэзыдыюм у ЗША.

Радны А. Орса — згаджаецца, што Урад можа быць у Эўропе, але Прэзыдыюм павінен быць у ЗША, бо, апрача ўсяго іншага, у Эўропе ня хопіць людзей для складу абодвых органаў Рады.

Прэзыдэнт — падае праект зьліцьця абодвых органаў у Эўропе. У ЗША стварылі-б палітычна-гаспадарчую камісію з заданьнем кантролі. Стварэньне такой камісіі неабходнае дзеля даніны прэстыжовае сатысфакцыі радным Амэрыкі. У Эўропе да органаў Рады ўвайшлі-б: Ст. Станкевіч, У. Бортнік, а.

[681] Маецца на ўвазе, што такая назва выкарыстоўвалася ўкраінцамі, у якіх дзейнічаў Выканаўчы орган УНР.

А. Смаршчок, Набагез[682], А. Лашук, а пісарамі могуць быць: Я. Запруднік[683], У. Цьвірка[684], Урбан[685] і Марговіч[686].

---

[682] **Уладзімір Набагез** (20.10.1919, в. Сялец на Наваградчыне — 2011, Уолдэн, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар. Вучыўся ў польскай гімназіі імя Міцкевіча ў Наваградку. У 1939 г. быў прызваны ў польскае войска, трапіў у палон. Вызвалены ў 1941 г. Жыў у Кёнігсбергу, Данцыгу (Гданьску). Па сканчэнні Другой сусветнай вайны вучыўся на медыцынскім факультэце Марбургскага ўніверсітэта, пазней перайшоў у Лювенскі ўніверсітэт (Бельгія), які скончыў з дыпломам доктара медыцыны. Сябра Беларускага студэнцкага таварыства. Пазней, у 1956 г., перабраўся ў ЗША.

[683] **Янка Запруднік** (да эміграцыі **Сяргей Вільчыцкі,** нар. 09.08.1926, м. Мір (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст. Падчас Другой сусветнай вайны вучыўся ў гандлёвай школе ў Баранавічах, быў сябрам СБМ, запісаўся ў дапаможную службу Люфтвафэ і апынуўся ў Нямеччыне. Пасля капітуляцыі апынуўся ў беларускім лагеры *DP* у Рэгенсбургу, вучыўся ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы.У 1948 г. з «Дванаццаткай» выехаў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. Быў сябрам ЗБВБ. У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. У 1954 г. скончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта. У 1954–1957 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне» ў Мюнхене, супрацоўнічаў з газетай «Бацькаўшчына». У 1957 г. выехаў у ЗША.

[684] **Уладзімір Цвірка** (да эміграцыі **Вадзім Сурко,** 02.01.1928, в. Беражное (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 15.03.1992, Мюнхен, Нямеччына), журналіст. Жыў у Міры. У 1947 г. скончыў гімназію імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе. Быў скаўтмайстрам у беларускіх лагерах у Герэнбургу і Майнлёзэ. У 1948 г. разам з іншымі сябрамі «Дванаццаткі» прыбыў на працу ў вугальных капальнях у Вялікабрытанію. Браў актыўны ўдзел у выданні часопіса «Наперад!». Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і БХАА «Жыццё». У 1950–1954 гг. вучыўся ў Лювенскім універсітэце. Ад 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне» ў Мюнхене.

[685] **Паўла Урбан** (27.03.1924, в. Закаліўе (сёння Лепельскі р-н Віцебскай вобл.) — 02.02.2011, Мюнхен, Нямеччына), гісторык, грамадскі дзеяч. Скончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта, абараніў дысертацыю пра дзейнасць вялікага князя літоўскага і польскага караля Аляксандра. Працаваў у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене.

[686] **Алесь Марговіч** (псеўданім **Алесь Галубіцкі**, 05.07.1927, Глыбокае (сёння Віцебская вобл.) — 11.11.1967, Мюнхен, Нямеччына), журналіст, грамадскі дзеяч, выдавец. У часе нямецкай акупацыі настаўнічаў. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, па сканчэнні Другой сусветнай вайны апынуўся ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва «Крыніца», дзе выходзіў часопіс «Напагатове!». У 1948 г. разам з іншымі сябрамі «Дванаццаткі» прыбыў у Вялікабрытанію для працы ў вугальных капальнях. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, сакратаром Другога з’езда гэтай арганізацыі. У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. Скончыў факультэт палітралогіі і сацыялогіі Лювенскага ўніверсітэта; працаваў у Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене.

Радны Л. Савёнак — практычных патрэбаў пераносу выканаўчых органаў Рады ў Эўропу не знаходзіць. Падобная камбінацыя асягне толькі таго, што радныя ў Амэрыцы пакінуць Раду. Агулам падобны экспэрымэнт можа прывесьці толькі да аканчальнага спаралізаваньня Рады.

Радны Я. Станкевіч — падтрымлівае праект Прэзыдэнта аб пераносе органаў Рады ў Эўропу. У ЗША хопіць, калі будзе створана названая Прэзыдэнтам камісія і прадстаўнік Ураду.

Радны М. Міцкевіч — згаджаецца з думкамі раднага Л. Савёнка і бачыць вялікую небясьпеку для дзейнасьці Рады ў выпадку зьдзяйсьненьня падобнага праекту.

Радны П. Манькоўскі — лічыць, што праект Прэзыдэнта рэальны і добры, але Прэзыдэнт прамінуў некаторых старых дзеячаў, як Жук-Грышкевіч, які будзе мець час на становішчы дырэктара беларускага сэктару радыё і для працы ў Прэзыдыюме Рады. Ня бачыць патрэбы стварэньня тут яшчэ палітычнае камісіі, бо тады лепей пакінуць у ЗША Прэзыдыюм Рады.

Радны Г. Паланевіч — думае, што трэба гаварыць шчыра, а не гаварыць і не дагаварываць. Тады лягчэй будзе і стварыць нешта рэальнае і працаваць яму, а не пераносіць Урад у Эўропу, што, бязумоўна, толькі шкодна адклікнецца на ўсёй далейшай дзейнасьці Рады.

Абвяшчаецца абедзенны перапынак.

Прэзыдэнт — пачынаючы паабедзеннае паседжаньне, дае зьнечаргі слова раднаму П. Манькоўскаму для зачытаньня адказу на зварот Камітэту вольнае Эўропы.

Радны П. Манькоўскі — зачытвае ўспомнены адказ і заклікае падпісывацца на адпаведных прысланых камітэтам блянках, сулячы Камітэту вольнае Эўропы толькі маральную падтрымку.

Радны А. Орса — бароніць погляду стварэньня пашыранага Прэзыдыюму Рады ў ЗША, што зьліквідавала-б адарванасьць радных ад дзейнасьці і выканаўчых органаў ды ў некаторых выпадках, калі адсутны Прэзыдэнт, дэцыдаваў-бы ў узьнікаючых пытаньнях. Стварыць выканаўчыя органы з маладых будзе вельмі шкодным, і ў выніку дасьць яшчэ большую разарванасьць паміж маладымі і старэйшымі.

Радны Я. Станкевіч — прызнае абаснаванасьць довадаў раднага А. Орсы толькі тэарэтычна, а практычна не знаходзіць патрэбы ствараць у ЗША Прэзыдыюм Рады, бо хопіць аднае камісіі. Урад стварыць у Эўропе, бо тут на мейсцы яго стварыць будзе немагчыма.

Радны У. Русак — лічыць, што ў ЗША непатрэбна пакідаць і Прэзыдыюму, бо гэта можа прывесьці да новых закалотаў.

Радны Л. Савёнак — папераджае, што перанос Прэзыдыюму і Ураду Рады БНР у Эўропу аканчальна разложа Раду. Гэта немагчыма ўжо і таму, што большасьць радных знаходзіцца пакуль настала ў ЗША. Ясна бачыць, што падобны праект Прэзыдэнта выкліканы няўдачай спробаў Прэзыдэнта скласьці тут кааліцыйны ўрад.

Радны япіскап Васіль — бароніць праект Прэзыдэнта аб стварэньні Ураду ў Эўропе. Пераконаны, што працаздольны Урад БНР пад рукою Прэзыдэнта дасьць вялікую карысьць справе. Зрэшты, гэтая магчымасьць экспэрымэнту можа быць толькі карыснай, бо ў іншым выпадку праз год на наступнай Сэсіі будзе лепей відаць і ўсё зьмяніць.

Радны Д. Клінцэвіч — бачыць карысьць стварэньня Ураду ў Эўропе ўжо ў тым, што гэта дасьць магчымасьць пагадзіцца пасварыўшымся радным у ЗША. Папярэдні Урад, як паказала практыка, хоць і складаўся з старэйшых дзеячоў, нічога добрага не зрабіў. Таму нельга глядзець, малады ці стары нехта, але кіравацца толькі карысьцю справы.

Радны А. Адамовіч — прапануе паставіць пытаньне стварэньня і пераносу выканаўчых органаў Рады ў Эўропу на галасаваньне, бо новых аргумэнтаў ужо ніхто не прывядзе. Пасьля вынікаў галасаваньня ўжо будзе відаць, ці пераносіць, ці нешта пакідаць.

Прэзыдэнт — зазначае, што іншымі сэктарамі Рады праз увесь час робяцца закіды амэрыканскаму сэктару, і з гэтым трэба лічыцца. Рэпрэзэнтацыя вельмі важная справа, і патрабуе людзей адпаведных. Згаджаецца з прапановаю раднага А. Орсы, каб стварыць тут пашыраны Прэзыдыюм Рады, які між сэсіямі выконываў-бы пастановы, наладзіў-бы сувязь з сэктарамі і інш.

Радныя Б. Даніловіч і япіскап Васіль — запытваюць аб магчымасьцях стварэньня Ураду ў Эўропе.

Галасаваньне: пераносіць некаторыя органы Рады БНР у Эўропу (прапанова раднага А. Адамовіча): за — 22, супраць — 1, устрымаліся — 4.

Радны япіскап Васіль — думае, што думка радных пагаджаецца аб пераносе Ураду ў Эўропу, а таму прапануе паставіць гэтае пытаньне на галасаваньне. Аб Прэзыдыюме Рады можна яшчэ абдумаць, і вырашэньне адкласьці да наступнага паседжаньня.

Галасаваньне: Урад перанесьці ў Эўропу: за — 20, супраць — 0, устрымалася — 7.

Пастанаўляецца, што Урад будзе створаны ў Эўропе, а пытаньне стварэньня Прэзыдыюму Рады адкладаецца да наступнага паседжаньня.

*Кантрольная камісія.*

Прэзыдэнт — запрашае выказацца адносна іншых органаў Рады, як кантрольная камісія і др.

Радны У. Русак — лічыць, што нельга тварыць кантрольную камісію ў ЗША, калі Урад будзе знаходзіцца ў Эўропе.

Прэзыдэнт — бароніць неабходнасьць выбару кантрольнае камісіі, якая сачыла-б за выкананьнем пастановаў, галоўным чынам у Эўропе.

Радны А. Орса — запытваецца, ці КК зможа кантраляваць і грамадзкія арганізацыі.

Прэзыдэнт — *«Гэта залежыць ад пастановаў сэсіі»*.

Радны П. Манькоўскі — лічыць непатрэбным стварэньне КК, але заместа яе стварыць шырэйшы і працаздольны Прэзыдыюм Рады, якому і надаць правы КК.

Радны М. Тулейка — зазначае, што практычна КК ня будзе мець чаго рабіць, а фактычна будзе толькі фікцыяй на паперы. Трэба тварыць нейкую іншую прадстаўнічую адзінку, якая мела-б аўтарытэт і важкае слова.

Радны А. Стагановіч — нагадуе, што КК патрэбная, а яе прэрагатывы азначаныя ў ранейшых пастановах Рады і ў самым назове.

Радны А. Орса — лічыць КК патрэбнай, але адначасна мусіць быць апрацаваная і прынятая інструкцыя а яе правох і абавязках.

Радны Л. Галяк — прапануе адкласьці выбары КК да апрацаваньня рэгуляміну.

Радны Б. Данілюк — прыгадвае, што нашая выбраная КК можа дрэнна скончыць, калі *«палезе не ў сваю справу»*, як, напр., захоча скантраляваць грамадзкую арганізацыю, якая легалізаваная ў ЗША.

Радныя Л. Галяк і П. Манькоўскі (як праўнікі) — сьцьвярджаюць, што легальна і праўна нельга навязаць кантролі Рады нейкай залегалізаванай у ЗША арганізацыі.

Прэзыдэнт — прапануе пытаньне КК адкласьці да наступнага паседжаньня, а цяпер разгледзіць два пытаньні: чародны кангрэс БАЗА[687] і ладжаньне сьвяткаваньня Акту 25 Сакавіка.

Радны М. Панькоў — дзівіцца, як можна ставіць пытаньне абмеркаваньня надыходзячага кангрэсу БАЗА, калі яшчэ пяць часінаў таму цьвердзілі, што Рада ня можа кантраляваць працу БАЗА.

Пастанаўляецца выбары КК адкласьці да апрацаваньня рэгуляміну яе.

*Кангрэс БАЗА*

Радны Ф. Кушэль — падчырківае праўнасьць БАЗА ў ЗША і нелегальнае становішча Рады. Гаворыць аб вялікай ролі арганізацыі БАЗА і шырокіх магчымасьцях працы. Каб ня было прыкрасьцяў, дык неабходна зрабіць гэтак, каб БАЗА кіравалася раднымі. З практыкі мінулых год вынікае вялікае значаньня арганізацыі, а таму 5-ты кангрэс БАЗА трэба правесьці спакойна, бо ўсе няяснасьці ўжо высьветленыя, і няма прычынаў для звадак. Неабходна паразумецца і падрыхтаваць усе рэзалюцыі па прынцыповых пытаньнях, а таксама намеціць кандыдата на старшыню, бо ён наперад адмаўляецца выстаўляць сваю кандыдатуру. Управа БАЗА мусіць быць пашыраная і працаздольная, бо мае што рабіць.

Радны А. Стагановіч — зазначае, што агульны лік сяброў БАЗА выносіць 850 асобаў, а радных у ЗША маецца толькі 71, дык вынікае, што Рада ня можа кантраляваць гэткае масавае арганізацыі.

Радны Я. Станкевіч — згаджаецца, што ў канкрэтнай працы БАЗА мае вялікае значаньне ды шмат працы. Таму прапануе пашырыць Галоўную Управу арганізацыі да 12 чалавек, кандыдатуры якіх трэба зараз-жа абмеркаваць.

Радны япіскап Васіль — нагадвае, што прапанова павялічыць Галоўную Управу БАЗА была адкінутая папярэднім зьездам, і лічыць, што абставіны практычна і жыцьцёва не зьмяніліся.

---

687 Чарговы (Пяты) кангрэс БАЗА быў запланаваны на 20–21 лютага 1954 г.

Радны М. Тулейка — ня бачыць патрэбы гэтак павялічваць ГУ БАЗА, але лічыць мэтазгодным павялічыць Управу аддзелу Нью Ёрку, таксама ня больш як да 7 асобаў.

Радны Я. Станкевіч — бароніць свой погляд на павялічэньне ГУ, дзе кажны сябра меў-бы сваю дзялянку і за дзейнасьць яе адказваў-бы. Прапануе гэтакіх кандыдатаў: на старшыню — А. Орса ці М. Тулейка, заступнікамі — адзін з нявыбраных і Родзька, сакратарамі — Рытар[688] і Данілюк, скарбнік — Крэсьля[689], арганізацыйны аддзел — Я. Станкевіч, прэсавы — Віцьбіч[690] ці Адамовіч, аддзел сувязі — Тумаш, Манькоўскі ці Станкевіч,

---

[688] **Іна Кахаsuccоўская** (дзяв. **Рытар**, у першым шлюбе Сеўрук, псеўд. Аляксандра Саковіч, 27.12.1906, Адэса (сёння Украіна) — 08.01.1997, Кліўленд, ЗША), пісьменніца, грамадская дзяячка, другая жонка А. Калубовіча (Каханоўскага). Ад 1921 г. жыла ў Мінску, вучылася ў Беларускім педагагічным тэхнікуме, скончыла гістарычнае аддзяленне педфакультэта БДУ. Працавала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. Першы муж (ажаніліся ў 1930 г.) быў высланы на Калыму. З малой дачкой (сын-першынец памёр) вярнулася ў Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі жыла на радзіме бацькоў у Ярэмічах (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.), настаўнічала, была выкладчыцай у Наваградскай настаўніцкай семінарыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу, выкладала нямецкую і англійскую мовы ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Тут у выніку трагічнага выпадку загінула дачка. У 1950 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку, брала ўдзел у нацыянальным грамадскім жыцці, уваходзіла ў Галоўную ўправу БАЗА, управу БІНІМа. У 1955 г. узяла шлюб з А. Калубовічам (Каханоўскім) і пераехала ў Кліўленд. Выкладала ў беларускай суботняй школцы, займалася літаратурнай творчасцю.

[689] Маецца на ўвазе **Янка Крэсла**, сябра Бруклінскага аддзела БАЗА.

[690] **Юрка Віцьбіч** (сапр. Серафім Шчарбакоў, 02(15).06.1905, Веліж Віцебскай губ. (сёння Расія) — 06.01.1975, Саўт-Рывер, ЗША), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў сям’і святара. Вучыўся ў педагагічным тэхнікуме. У 1922–1933 гг. працаваў на хімічных заводах у Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб’яднанне «Узвышша», у 1939 г. прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі — «Вяліжскія паўстанцы» і «Нацыянальныя святыні», выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртавання, рэдактарам часопіса «Узвышша», адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб’яднанне «Шыпшына», выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы «Звіняць званы Святой Сафіі», «БІС», газету «Беларускае слова». Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і рускім перыядычным друку, у тым ліку «Новым рускім слове».

асьветны — Міцкевіч ці Паланевіч, жаночы — спадарыні Станкевіч[691] ці Орса[692], сацыяльны — Акановіч[693].

Радны Л. Савёнак — лічыць прапановы раднага Я. Станкевіча абсурднымі, бо на паседжаньне гэткага грамадзкага органу трэба будзе чакаць месяцамі. Прапануе выбраць: радных Ліманоўскага, Тумаша і Шукелойца.

Радны Ф. Кушэль — лічыць, што павялічыць Управу неабходна, бо з 5 чалавек нельга патрабаваць добрага выкананьня гэткіх вялікіх вымогаў, якія выплываюць з дзейнасьці арганізацыі, што ён ведае з практыкі.

Усе запрапанаваныя адмаўляюцца і зьнімаюць свае кандыдатуры апрача П. Манькоўскага, Я. Станкевіча, М. Міцкевіча і Б. Данілюка, апошні з умоваю.

Прэзыдэнт — уважае, што тут ня дойдзецца да нейкага скутку, і кангрэс арганізацыі сам выбярэ Управу.

*Каардынацыя сьвяткаваньня Акту 25 Сакавіка*

Радны Б. Данілюк — прапануе выслаць БКК запросіны на ладжаньне супольнага сьвяткаваньня Акту 25-га Сакавіка.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што супольнае сьвяткаваньне можна рабіць з «зарубежнікамі» толькі ў тым выпадку, калі яны адмовяцца ад падтрымкі БЦР, бо інакш будзе выглядаць гэткае сьвяткаваньне як іхняя рэабілітацыя, а нашая кампрамітацыя.

Радны П. Манькоўскі — лічыць, што паколькі ідуць гутаркі аб ладжаньні супольнага сьвяткаваньня, дык трэба ведаць, што «зарубежнікаў» да гэтага

---

[691] Маецца на ўвазе **Марыя Станкевіч** (дзяв. **Новак**; 20.10.1900, в. Чэскі Брод, Аўстра-Вугоршчына — сёння Чэхія — 05.05.1983), грамадская дзяячка, жонка Янкі Станкевіча**.** Чэшка па нацыянальнасці. Скончыла *Vassar College* у Нью-Ёрку (1922), Карлаў універсітэт у Празе. У 1926 г. разам з мужам, Янкам Станкевічам, пераехала ў Вільню. У 1941–1945 гг. разам з сынамі, Вячаславам, Багуславам і Юркам, жыла ў Празе, пазней у лагерах *DP* у Нямеччыне. Брала ўдзел працы розных беларускіх арганізацый. У 1949 г. з сям'ёй пераехала ў ЗША. Сябра БАЗА, некаторы час была кіраўніцай жаночай секцыі Нью-ёркскага аддзела арганізацыі.

[692] **Наталля Орса** (дзявочае **Сазановіч,** 19.08.1903, в. Сланеўская Воля (сёння Навагрудскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 18.01.1990, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, педагог, жонка А. Орсы. Скончыла наваградскую гімназію, а ў 1927 г. — украінскі педагагічны інстытут у Празе. Працавала выхавацелькай дзявочага інтэрната ў Наваградскай беларускай гімназіі, а таксама выкладала беларускую мову і літаратуру, у тым ліку і ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі ў часы нямецкай акупацыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. У 1949 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрам БАЗА, уваходзіла ва ўправу і кіравала жаночай секцыяй Нью-ёркскага аддзела арганізацыі.

[693] Маецца на ўвазе сябра Нью-ёркскага аддзела БАЗА **Аляксандр Акановіч**. На Пятым кангрэсе БАЗА ён быў абраны ў Галоўную Управу арганізацыі ў якасці дапамаговага рэферэнта.

напіраюць масы, вымагаючы супольнае рэпрэзэнтацыі. Аднак для БНР будзе выключна шкода ад кажнага супольнага сьвяткаваньня. Калі нельга абмінуць гэткіх спробаў, дык зрабіць гэта так, каб давесьці справу да іхных масаў, але не ўваходзіць у супрацу з палітыканамі.

Радны Л. Савёнак — бароніць справу супольнага сьвяткаваньня, бо гэтае дасьць для вызвальнае справы толькі карысьць і ніякае шкоды. Гэта таксама дапаможа перанесьці каардынацуйную працу наагул, ды імпазантна і годна выглядала-б на вонкі як рэпрэзэнтацыя нацыі.

Радны П. Манькоўскі — цьвердзіць, што «зарубежнікаў» пакідаюць масы, і яны толькі шукаюць ратунку. Карысьці для БНР у супольным сьвяткаваньні ня бачыць.

Радны япіскап Васіль — ня бачыць прычыны баяцца супольнага сьвяткаваньня, і прапануе зрабіць зварот пісьменна, каб потым ня было розных толкаў.

Радны Б. Данілюк — думае, што неабходна ініцыятыву пераняць у нашыя рукі і справу паставіць гэтак, каб ім можна было толькі адмовіцца.

Радны Я. Ліманоўскі — інфармуе, што ў Чыкаго аддзел БАЗА мае толькі 8 сяброў[694], а «зарубежнікі» 42. Прычыну бачыць у няспрытнасьці нашых тупагаловых правадыроў на месцы. Спробу супольнага сьвяткаваньня зрабіць неабходна.

Радны Я. Станкевіч — супраць звароту да «зарубежніцкіх» арганізацыяў, але можна зьвярнуцца непасрэдна да іхных людзей у Саўт Рывер[695].

Радны Ч. Ханяўка — лічыць, што масаў у зарубежнікаў няма, а тых, якіх яны дагэтуль цягнулі — адыходзяць. Ніякіх супольных сьвяткаваньняў ня можа быць, а тыя, што адыйшлі, могуць падаць заяву, каб мы іх прынялі ці адмовілі.

Радны А. Шукелойць — канстатуе факты недалёкага апярэджаньня нас «зарубежнікамі». Дзівіцца, як можна гаварыць аб адсутнасьці ў іх масы, калі арганізацыі яны маюць з людзьмі. Прапануе шчыра і праўдзіва шукаць шляхоў да паразуменьня і адзінай рэпрэзэнтацыі ды ўважае, што гэтага можна лёгка асягнуць.

Радныя Л. Савёнак і М. Панькоў — падтрымліваюць прапанову раднага А. Шукелойца.

Радны А. Адамовіч — прапануе зьвярнуцца праз прэсу да ўсіх беларускіх арганізацыяў, якія сьвяткуюць Акт 25 Сакавіка, каб яны скантактаваліся з нашым камітэтам па ладжаньню сьвяткаваньня.

---

[694] **Аддзел БАЗА ў Чыкага** быў заснаваны 28 чэрвеня 1953 г. Паводле паведамлення ў газеце «Беларускі эмігрант», у гэты дзень была ліквідаваная Беларуска-амерыканская нацыянальная рада і створаны мясцовы аддзел БАЗА на яе аснове. (Гл. Заснаваньне аддзела БАЗА ў Чыкага // Беларускі эмігрант. № 7 (55). Жнівень 1953.)

[695] **Саўт-Рывер** — мястэчка ў штаце Нью-Джэрсі, дзе стварыўся найбуйнейшы асяродак прыхільнікаў БЦР.

Радны Л. Галяк — падтрымлівае прапанову раднага А. Адамовіча, але бачыць у гэтым запозьненьне для практычнага зьдзяйсьненьня. Выказваецца за шчыры і праўдзівы зварот.

Радны Я. Станкевіч — супраць якога-б ня было звароту праз прэсу да «зарубежніцкіх» арганізацыяў, але толькі праз іхныя галовы да масаў.

Галасаваньне:

1. Зьвярнуцца праз прэсу да «зарубежніцкіх» арганізацыяў з адпаведным зваротам (А. Адамовіч): за — 14;

2. Зьвярнуцца да масаў у Саўт Рыверы з прапановаю (П. Манькоўскі): за 10, супраць — 6.

3. Зьвярнуцца да БКК з шчыраю і праўдзіваю прапановаю аб ладжаньні супольнага сьвяткаваньня (А. Шукелойць): за — 7.

Лічуцца прынятымі прапанова 1 і 2, якія і даручаецца выканаць камітэту па ладжаньні сьвята Акту 25 Сакавіка.

**Пратакол XI-га паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 7 сакавіка 1954 году**

Старшынствуе — Прэзыдэнт інж. М. Абрамчык.

Сакратары — М. Панькоў і В. Русак.

Прысутнічала 31 радных.

Прэзыдэнт — адчыняе паседжаньне інфармацыяй аб пытаньнях, якія маюць быць разгледжаныя на гэтым паседжаньні. Лічыць неабходным на гэтым паседжаньні выбраць Прэзыдыюм Рады, каб была магчымасьць апрацаваць плян працы ды зацьвердзіць яго на наступным, апошнім паседжаньні Сэсіі. Гэта вымагае сур'ёзнага падходу да працаў над парадкам дзённым. Затым зачытвае адказ пастаноўчае камісіі на заяву раднага Л. Галяка[696]. Зазначае, што камісія не магла дэтальна заняцца разглядам справы, пастаўленай радным Л. Галяком, ды даць аканчальныя пастановы на закранутыя пытаньні, як парушэньні Статуту Рады ды аб нявыкананьні спэцыяльнай сьледчай камісіяй ейных заданьняў.

Радны В. Тумаш — пратэстуе супраць заявы раднага Я. Станкевіча аб фальшаваньні выбараў дэлегатаў на Кангрэс БАЗА і патрабуе выясьненьня.

Радны А. Шукелойць — адзначае прыём раднага Я. Станкевіча паслужвацца імям свайго праціўніка, каб пасварыць ці нарабіць яму няпрыемнасьцяў. Успомнены выпадак з выбарамі дэлегатаў на Кангрэс БАЗА яму няведамы, і ён ніколі аб гэтым Станкевічу не гаварыў.

Радны Г. Паланевіч — пытаецца, ці выбіраліся толькі прыхільнікі пэўнае групоўкі.

Радны Я. Станкевіч — цьвердзіць, што сваю заяву склаў на аснове словаў раднага А. Шукелойца.

Прэзыдэнт — паведамляе, што камісія справы раднага Я. Станкевіча не разглядала і ўважала яе за палагоджаную.

---

[696] Заяву Леаніда Галяка, а таксама матэрыялы справы гл. у раздзеле «Дакументы».

Радны П. Манькоўскі — лічыць, што справу нельга пакінуць неразгледжанай, бо яна падае новыя факты. Палагоджанай яе можна лічыць толькі тады, калі вярнуць на рукі раднаму Я. Станкевічу.

Радны Я. Станкевіч — пратэстуе супраць таго, што камісія не зьвярнула ўвагі на ягоную заяву.

Радны Я. Ліманоўскі — адзначае мэтады змаганьня раднага Я. Станкевіча, які паслугуецца ўсімі спосабамі. Гэтак, для ратунку праводжанай Станкевічам акцыі, апошні пашыраў плёткі, што ён (Ліманоўскі) камуніста[697].

Прэзыдэнт — не дае слова раднаму Я. Станкевічу, таму што ягоная заява была зачытана на паседжаньні, і радныя выказалі сваю рэакцыю на яе. Заява-ж раднага Я. Ліманоўскага ня была зачытана, і таму даведзена да ведама радных цяпер. Лічыць абедзьве заявы вычарпанымі і просіць да іх болей не зьвяртацца.

Радны Я. Станкевіч — апраўдываецца ў сваіх прыёмах барацьбы з няпрыемнымі яму раднымі і асобамі ды спасылаецца на раднага М. Панькова, якога бяз згоды выбралі на кіраўніка Ўсебеларускага архіву[698]. Камуністам раднага Я. Ліманоўскага ніколі не называў, бо ня ведае, ці ён гэткім быў.

Радны В. Кажан — зачытвае дапоўнены і ўдакладнены праект ападаткаваньня.

Радны А. Стагановіч — зазначае, што вышыня падаткаў заўсёды вызначаецца з выдаткаў раней апрацаванага бюджэту. Крытыкуе праект раднага В. Кажана як зьмяншаючы прыбыткі Рады, і прапануе аблажыць кажнага раднага падаткам у 10 даляраў месячна ці 100 далярамі ў год.

Радны В. Кажан — зазначае сваё перакананьне, што паданы праект ападаткаваньня для касы Рады карысьнейшы, чым дасюлешняя сыстэма.

Прэзыдэнт — прыпамінае, што праект фактычна прыняты, і цяпер можна толькі ўнесьці нейкія канкрэтныя дадаткі.

Радны Л. Савёнак — прапануе выкінуць пункт праекту, у якім кажацца, што справа выступаючага з Рады сябры перадаецца ў Суд Рады, бо гэта зусім фальшыва і нерэальна. Факт выхаду адначасна азначае і спыненьне яго абавязкаў да Рады ды непадпарадкаваньне Суду Рады.

Радны Ф. Кушэль — выказваецца супраць прапановы раднага Л. Савёнка, бо тады радныя ня будуць плаціць складак.

---

[697] Янка Ліманоўскі сапраўды быў сябрам РСДРП(б) ад 1915 г. і далей камуністычнай партыі. Аднак з-за таго, што стала вядомае яго несялянскае паходжанне, прыкладна на пачатку 1930-х гг. быў выключаны з яе.

[698] **Усебеларускі архіў** — грамадская арганізацыя, заснаваная ў 1948 г. у Заходняй Нямеччыне для збірання беларускіх рукапісаў і выданняў. На чале яе стаяў Мікола Панькоў. З пераездам яго ў ЗША дзейнасць арганізацыі была спынена. У 1952 г. БІНіМ абвясціў пра новае стварэнне Усебеларускага архіву ўжо ў Нью-Ёрку, на чале з тым самым Міколам Паньковым. Гл.: Усебеларускі Архіў // Бацькаўшчына. № 28 (159). 12.07.1953.

Радныя В. Тумаш і Я. Ліманоўскі — падтрымліваюць прапанову раднага Л. Савёнка, дадаючы між тым, што з выступам з Рады ніхто не падлягае і Суду Рады.

Галасаваньне:

Прыняць паданы праект ападаткаваньня: за — 19, супраць — 6, устрымалася — 2.

Прыняць праект з папраўкаю раднага Л. Савёнка: за — 21, супраць — 0, устрымалася — 7.

Праект узаконьваецца з папраўкаю раднага Л. Савёнка.

Радны П. Манькоўскі — уважае, што калі радны ня плоціць складак, дык аддаецца пад Суд Рады, а ў выпадку ягонага выхаду з Рады справа перадаецца адпаведнаму сэктару Рады.

Радны К. Вадэйка — выказваецца супраць адданьня раднага пад Суд за неаплату падаткаў, што маральна не апраўдываецца і шкодзіць вызвальнаму руху. Уважае, што ўсякія рэпрэсіўныя пастановы падрываюць аўтарытэт і павагу да Рады.

Прэзыдэнт — уважае, што дзеля розных прычынаў хопіць ужо прынятае пастановы аб абнаўленьні Рады на 25 %, калі і можна вылучыць пасіўных радных.

Радны М. Міцкевіч — лічыць усялякія катэгарычныя, ультыматыўныя і рэпрэсіўныя пастановы неадпаведнымі ў нашым становішчы.

Радны Я. Ліманоўскі — прапануе заместа Суду справы па неаплаце складак перадаваць адпаведнаму сэктару Рады.

Радны В. Русак — прапануе перадаваць падобныя справы ня сэктарам Рады, але Прэзыдыюму Рады непасрэдна, бо сэктар ня мае права вылучаць раднага.

Радны Л. Савёнак — напамінае, што падобныя пастановы былі ўжо прынятыя Пятай Сэсіяй Рады і цяпер іх можна толькі зацьвердзіць.

Галасаваньне:

Справы неаплаты складак перадаваць адпаведнаму сэктару Рады: за — 2.

Справы неаплаты складак перадаваць Прэзыдыюму Рады: за — 15.

Прынятая сыстэма ападаткаваньня набывае сілу ад 1 студзеня 1954 г.: за — 18, супраць — 4, устрымалася — 6.

Прэзыдэнт — інфармуе аб сустрэчы з Р. Астроўскім, якая адбылася пад час працаў Інстытуту па вывучэньню гісторыі і культуры СССР у Мюнхэне, дзе прадстаўнікі Парыскага блёку былі запрошаныя ў якасьці гасьцей. Сустрэча была выпадковая, і наладзіў яе на ўласную адказнасьць, без даручэньня радны Кабыш, які спатыкаўся некалькі разоў з сп. Астроўскім, і той наракаў на дрэнны стан беларускай справы і вінаваціў у гэтым Раду БНР, што сп. Абрамчык зь ім нават не спатыкаўся для абгаварэньня справаў. Спатканьне было прыватным і адбылося ў гатэле, дзе затрымаўся Прэзыдэнт. Сп. Астроўскі запрапанаваў быць шчырымі ды адкінуць асабістыя. Прэзыдэнт згадзіўся падыйсьці да справы, выходзячы з нашых нацыянальных інтарэсаў. Астроўскі прызнаў свае памылкі несваячасовага выступу ў 1948 годзе і інш.

Астроўскі запрапанаваў: 1. Спалучыць БЦР і БНР, 50:50, і назоў Рады БНР зьмяніць або 2. Распусьціць абедзьве Рады, правесьці Усеэміграцыйны зьезд і правесьці новыя выбары. 3. Падзяліць функцыі: яму — Астроўскаму — даручыць рэпрэзэнтацыю, а сп. Абрамчыку даручыць выканаўчую ўладу.

Ня бачыць у гэтым нічога новага і ня верыць у шчырасьць гавоpанага.

Спатканьні Б. Рагуля і Зарэчны, ды Б. Рагуля і Астроўскі адбыліся таксама выпадкова й часткова на асабістым груньце. Ніякіх упаўнаважаньняў Б. Рагуля ад Рады БНР ці Прэзыдэнта ня меў. Прэзыдэнт запрапанаваў спыніць нетактоўнасьці з абодвых бакоў і працаваць для дабра беларускае справы, як хто здолее, бо прыняць прапановы Астроўскага ня мог.

Радны А. Ліманоўскі — адзначае ненармальнасьць сучаснага становішча беларускага руху і лічыць неабходным стварэньне нейкай камісіі, якая-б занялася досьледамі справы ўнармаваньня стану рэпрэзэнтацыі ды каардынацыі змаганьня беларускага вызвальнага руху.

Радны Я. Станкевіч — уважае, што ніякага пагадненьня ня можа быць, бо гэта толькі рэабілітавала-б «зарубежнікаў». Правільным лічыць прыймаць да сябе тых адзінак, якія адыходзяць ад БЦР, як, да прыкладу, Ю. Віцьбіч[699].

Радны Ч. Ханяўка — інфармуе, што Саўт Рывер большасьць беларусаў па-за ўсякімі арганізацыямі і не далучаецца ні да нас, ні да БЦР.

Радны М. Міцкевіч — думае, што ня маем патрэбы дагаварывацца і ня можа быць пагадненьня з БЦР, бо гэта толькі кампрамітавала-б нас ды ўнесла-б разыходжаньні ў сярэдзіну Рады БНР.

Радны Я. Станкевіч — нагадвае адказнасьць і падсуднасьць Астроўскага за злачынствы перад беларускім народам, а гэта не дазваляе зь ім нават гутарыць.

Радны А. Стагановіч — супраць якога-б ня было пагаджэньня з коламі БЦР як цэласьцю.

Радны А. Адамовіч — ня бачыць ненармальнасьці ў існуючым падзеле. Калі-б і ўдалося наладзіць супольнае сьвяткаваньне ўгодкаў, дык не азначала-б еднасьці беларускае эміграцыі. Галоўнымі прычынамі разыходжаньня лічыць: 1. [у] праваслаўным шавінізьме бальшыні «зарубежнікаў» і 2. амбіцыйнасьці некаторых «зарубежніцкіх» верхаводаў, калі ня могуць аддзяліць асабістага ад прынцыповага. Маса эміграцыйная — ні ў кога, ходзіць толькі аб «кітох». Дапушчае магчымасьці выпадкаў нэўтралізацыі, якім і зьяўляецца Ю. Віцьбіч.

Радны Ф. Кушэль — згаджаецца з паданым радным А. Адамовічам і, як прыклад, прыводзіць погляд др. Шчорса аб схізьме БАПЦарквы. Лічыць, што «зарубежжа» ў нашым руху мае сваю глыбокую ідэалёгію і нянавісьць да нацыянальнага беларускага, падцьверджваючы гэта фактамі з зьніш-

---

[699] Да прыезду ў ЗША Юрка Віцьбіч быў адным з лідараў лагера БЦР, рэдактарам яе газеты «Беларускае слова». Аднак з прыездам у 1949 г. у ЗША адышоў ад прыхільнікаў Радаслава Астроўскага і наладзіў кантакты з сябрамі Рады БНР, стаў друкавацца на старонках газеты «Бацькаўшчына».

чэньнем беларускае інтэлігэнцыі ў Менску, калі на беларусаў-каталікоў даносы рабілі Касяк[700], яп. Філафей[701] і інш. і якія сп. Кушэль сам чытаў. «Зарубежжа» — расейская дывэрсія, прынесеная ў наш рух празь сьвятароў. Астроўскі — чалавек там выпадковы і застанецца, пакуль будзе першым. Пагадненьня ніколі ня можа наступіць, бо ёсьць і новыя дадзеныя, як, напр., закатаваньне архімандрыта Абрантовіча[702] ў НКВД, у якім браў удзел адзін з слупоў «зарубежжа»[703]. Найсьці нейкі модус згоды з маскоўскай, спрытна замаскаванай дывэрсіяй немагчыма.

Радны М. Гарошка — пераконаны, што пагадненьне немагчыма, бо «зарубежнікі» маюць зусім іншыя пагляды на нашыя нацыянальныя справы. Апрача таго, ведама, што лідары «зарубежжа» з Нямеччыны адыходзяць ад беларускае палітыкі, што гаворыць аб выпадковасьці іх у нашым русе.

Радны Б. Данілюк — згаджаецца з папярэднімі прамоўцамі, але лічыць, што нельга зусім адкінуць змаганьне з «зарубежжам» і трэба сыстэматычна праводзіць сярод іх сваю працу, бо там ёсьць людзі, якія былі-б вельмі карыснымі для нацыянальнае справы.

Радны Я. Ліманоўскі — прыгадвае выпадкі з недалёкага мінулага дзейнасьці на Бацькаўшчыне і шкоднасьць тэндэнцыйных выпадаў у нашай прэсе, што ніколі не прывядзе да разуменьня й ладу. Як прыклад, падае закранутую ў прэсе справу Булгака[704] — дырэктара Беларускага тэатра ў Менску.

---

700 Маецца на ўвазе гісторыя з даносам Івана Касяка на Вацлава Іваноўскага ў часе нямецкай акупацыі.

701 **Філафей** (свецк. **Уладзімір Нарко**, 21.02.1905, в. Заранач Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёння Мядзельскі р-н Мінскай вобл.) — 24.09.1986, Гамбург, Нямеччына), рэлігійны дзеяч, іерарх БАПЦ. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю, тэалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1931). Вучыўся ў тэалагічнай школе ў Стамбуле, дзе атрымаў ступень магістра тэалогіі. У 1942–1944 гг. выконваў абавязкі намесніка мітрапаліта Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 1950–1980-х — вікарый Нямецкай епархіі Расійскай зарубежнай праваслаўнай царквы.

702 **Фабіян Абрантовіч** (1884–1946), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар усходняга абраду, у 1939 г. быў арыштаваны савецкімі органамі бяспекі, больш за 5 гадоў правёў у зняволенні і памёр ад катаванняў у Бутырскай турме.

703 Дакладна невядома, каго менавіта мае на ўвазе Ф. Кушаль. У 1946 г, калі памёр Фабіян Абрантовіч, прыхільнікі БЦР былі пераважна ў Нямеччыне. Вядома, што пасля зняволення ў 1939 г. Абрантовіч доўгі час утрымліваўся ў турме ў Львове. Тут жа да 1941 г. у Палітэхніцы вучыўся на інжынера адзін з будучых лідараў кола БЦР Іван Касяк. Магчыма, Кушаль намякаў на нейкую ролю Касяка ў лёсе Абрантовіча, аднак на сёння звестак на гэты конт няма.

704 Маецца на ўвазе **Пётра Булгак**, які ў 1942 г. стаў дырэктарам Мінскага тэатра. Незразумела, якую менавіта тэндэнцыйнасць Янка Ліманоўскі мае на ўвазе. Аднак можна прывесці звесткі з пратакола пасяджэння Цэнтральнай Рады Беларускай народнай самапомачы ад 22.09.1942 г, дзе разглядалася справа кіраўніцтва тэатрам: *«З выказваньняў вынікае, што сп. Булгак, не праявіўшы*

Радны П. Манькоўскі — думае, што «зарубежжа» ўвяло ў наш рух гэткія элемэнты, якія выключаюць усякую згоду зь ім, але лічыць усё пераходнай зьявай.

Радны Л. Савёнак — адзначае ненармальнасьць у існаваньні двох дзяржаўных цэнтраў: БНР і БЦР. Прыгадвае дзейнасьць БЦР, як падачу мэмарандуму да АН, удзел у камісіі Сміса і інш. Дамовіцца пакуль што цяжка, бо фактычна барацьба ідзе паміж 2 асобаў — нязьменных прэзыдэнтаў. Адзначае тэндэнцыйныя выступы супраць АБНД, што яўна паказвае на таталітарызм. Цяперашняе спаборніцтва паміж БНР і БЦР ідзе глыбака, і будучыня пакажа лепшага, таго, хто быў правым і актыўнейшым. Пусьціць на самацёк нельга, а таму трэба стварыць нейкую парытэтную камісію, якая-б зрабіла магчымымі некаторыя выступы на вонкі супольнымі, як паданьне розных мэмарандумаў і інш.

Радны Я. Станкевіч — востра выступае супраць прапановаў раднага Л. Савёнка, бо ўважае, што з «зарубежнікамі» як прадуктам расейскае палітыкі і акупацыі Беларусі нельга нават гаварыць.

Радны А. Шукелойць — прыпамінае разгляд і пастанову гэтага пытаньня на сэктары Рады БНР 3 гады таму і канстатуе поўную супрацьлегласьць у поглядах некаторых радных, як А. Адамовіч ды інш. Адзначае сілу і чыннасьць «зарубежнікаў» і здаровы элемэнт у іхных асяродках, калі *«30 зарубежнікаў здолелі купіць у Саўт Рыверы царкву*[705]*, а 850 сяброў БАЗА ня могуць сабраць на куплю дому»*[706]. Прапануе зацьвердзіць пастанову сэктару.

Радны В. Тумаш — лічыць, што пакуль «зарубежніцкія» арганізацыі не адмяжуюцца ад лістоў, якія былі надрукаваныя ў газэце «Бацькаўшчына», дзе Рада БНР названая агэнтураю Саветаў і Польшчы[707], зь імі ня толькі пагадзіцца, але нават і гаварыць ня трэба.

---

*ніякай беларускай дзейнасьці ў Польшчы, будучы зьвязан з польскімі дзейнікамі, не праяўляючы цяпер ніякай карыснай дзейнасьці ў справах беларускіх, выяўляючы адзнакі сымпатыяў у бок палякаў, не выклікае даверу беларускага грамадзянства, якое заўсёды будзе ставіцца да яго з недаверам. Дзеля таго сабраныя пастанавілі: даручыць др. Ермачэнку прасіць нямецкія ўлады паўстрымацца з назначэньнем сп. Булгака на дырэктара Менскага тэатра, спадару Саковічу даручыць высьвятліць у паразуменьні з СД яго прошласьць…»* (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 384, воп.1, спр.1, арк. 9–14). У якасці альтэрнатывы на кіраванне тэатрам тады прапаноўвалася сярод іншых і кандыдатура самога Ліманоўскага. Аднак у выніку зацверджаны быў менавіта Булгак.

705 У 1953 г. беларусы-»зарубежнікі» Саўт-Рывера набылі будынак старой габрэйскай царквы на *Whitehead Avenue 187*.

706 Будынак пад царкву ў Брукліне быў набыты толькі ў 1957 г.

707 Магчыма, маецца на ўвазе «Мэмарыял, зложаны Галоўным Штабам Беларускага Вызвольнага Руху», перададзены ў Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі ў ліпені 1952 г. і скіраваны супраць Рады БНР. Мемарыял быў

Радны А. Адамовіч — лічыць, што «зарубежнікі» агулам ня здольныя нешта рабіць, але спрытна выкарыстоўваюць мамэнты, намі «праспаныя», і потым «бузяць», а ня робяць. Тут ня бачыць ніякай канкурэнцыі. Ня бачыць ніякіх прызнакаў таталітарызму, але толькі вымогі абставінаў і часу змушаюць трымацца нашай сучаснай сыстэмы. Крытыку АБНД, якая праводзіцца Радай, уважае за супэрдэмакратычную, а не таталітарную. Запярэчвае, каб ён зьмяніў свае погляды, і не дапушчае гэткае магчымасьці. Вастрыню выступу скіроўвае супраць радных А. Шукелойца і Л. Савёнка.

Прэзыдэнт — ня бачыць шкоднасьці выступаў БЦР як дзяржаўнага цэнтру. Падцьвярджаюць гэта факты жыцьця, да прыкладу: амэрыканцы рабілі ціск на ўкраінцаў, каб яны ўзбуйнілі свае групы (прыняцьцё да УН-Рады партыі Доленка), а ў нас яны гаварылі й гавораць толькі з Радаю БНР. Амэрыканцы паставілі сваю арыентацыю на нас і з існаваньнем БЦР нават ня лічацца, ды ніколі зь імі не гаварылі. Уплывы БЦР у нутраным беларускім жыцьці зусім малыя і ня маюць грунту. Агулам сытуацыю ўважае нам спрыяльнай. Выпадкі канкрэтнае палітыкі да «зарубежнікаў» зможа кажны раз разглядаць Прэзыдыюм Рады.

Радны Л. Савёнак — зьнімае сваю прапанову аб стварэньні парытэтнай камісіі.

Радны А. Шукелойць — настайвае на аднаўленьні пастановы сэктару Рады.

Галасаваньне:

*Сёмая Сэсія Рады БНР, разгледзіўшы пытаньне адносінаў з БЦР, уважае за дамэтнае шукаць магчымасьцяў навязаньня супрацоўніцтва шляхам супрацы грамадзкіх арганізацыяў, а таксама супрацы арганізацыяў культурных, асьветных і моладзі* (А. Шукелойць): за — 22, супраць — 2, устрымалася — 2.

*Прэзыдыюм Рады БНР складаецца з прадбачаных статутам 5 асобаў плюс спэцыяльная камісія, якія паклікае ў разе патрэбы сам Прэзыдыюм* (М. Панькоў): за — 17, супраць — 1.

Радны Я. Станкевіч — радзіць, каб у Прэзыдыюме адразу па выбарах былі падзелены функцыі паміж сябрамі, бо Прэзыдыюм можа быць і вялікі, але нічога не рабіць.

Радны А. Орса — прапануе выбраць Прэзыдыюм з 9 асобаў, зь якіх і будуць створаны адпаведныя камісіі.

За — 5, супраць — 1.

Выбары (тайнае галасаваньне) заступніка Старшыні Рады БНР далі наступныя вынікі за выстаўленых (у парадку падачы) кандыдатаў:

А. Махноўскі — катэгарычна адмовіўся.

В. Тумаш — 16 галасоў.

Л. Савёнак — 2 галасы.

---

апублікаваны як дадатак да артыкула «Перастараліся, гаспадарове» ў газеце «Бацькаўшчына» № 39 (118) ад 28.09.1952.

А. Орса — 3 галасы.
Я. Станкевіч — 3 галасы.
А. Стагановіч — 1 голас.
Я. Ліманоўскі — 1 голас.
Заступнікам старшыні Рады БНР выбіраецца радны Вітаўт Тумаш.
Пастанова: *Ніхто ня мае права адмаўляцца ад выкананьня абавязкаў быць выбраным у Прэзыдыюм Рады БНР*: за — 22, супраць — 3, устрымаліся — 5.
Выбары (тайнае галасаваньне) далі наступныя вынікі:
Я. Станкевіч — 4 галасы.
А. Орса — 20 галасоў.
А. Адамовіч — 4 галасы.
Ф. Родзька — 3 галасы.
А. Стагановіч — 9 галасоў.
Ф. Кушэль — 9 галасоў.
В. Русак — 4 галасы.
М. Міцкевіч — 1 голас.
А. Шукелойць — 7 галасоў.
П. Манькоўскі — 15 галасоў.
Я. Ліманоўскі — 6 галасоў.
Радны А. Стагановіч адмаўляецца на карысьць Ф. Кушэля, бо ён згодзен прыняць функцыю ў Судзе Рады.
Галасаваньне за кандыдатаў у Суд Рады дало наступныя вынікі:
А. Стагановіч — 16 галасоў.
Ф. Родзька — 16 галасоў.
Ч. Ханяўка — 11 галасоў.
Я. Гладкі — 3 галасы.
Л. Савёнак — 8 галасоў.
Наступнае паседжаньне прызначаецца на 4 красавіка 1954 году.

## Пратакол XII-га паседжаньня VII Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі дня 4 красавіка 1954 году

Старшынствуе — радны др. А. Орса.
Сакратары — М. Панькоў і В. Русак.
Прысутнічала 29 радных.
Парадак дня:
1. Камунікаты.
2. Тэкст паведамленьня Амэрыканскаму камітэту.
3. Выбары Камісіі для правядзеньня рэфэрэндуму.
4. Паведамленьне Прэзыдэнта аб складзе Сакратарыяту Рады БНР і адпаведных камісіяў.
5. Вольныя прапановы.
6. Заключнае слова Прэзыдэнта.
7. Прыняцьцё Дэклярацыі Сэсіі.
8. Закрыцьцё Сэсіі.

Старшыня А. Орса — паведамляе парадак дня працаў сёньняшняга, апошняга паседжаньня Сэсіі і дае слова Прэзыдэнту дзеля складзеньня паведамленьня аб паездцы ў Вашынгтон.

Да п. 1:

Прэзыдэнт — перад складзеньнем справаздачы аб паездцы ў Вашынгтон паведамляе, што атрымаў ад раднага Жук-Грышкевіча вестку, што беларускія перадачы на радыё «Лібэрэйшн» пачнуцца 31 красавіка г. г.[708]

У Вашынгтоне Прэзыдэнту гэтым разам прыйшлося прабыць 8 дзён, дзе была складзеная поўная інфармацыя аб сытуацыі на Бацькаўшчыне і сярод беларускае эміграцыі. Спатканьне меў з 2-ма адказнымі ўрадоўцамі Ураду, якія вельмі прыхільна ставяцца да беларускае справы і нашых ідэяў, а таму прыняцьцё было цёплае й спрыяльнае. Адзін зь іх быў стрыманы, нават больш, як пры ранейшых спатканьнях, і зазначыў, што амэрыканцы ня могуць сваю палітыку апіраць толькі на народы, паняволеныя Масквой, а магчыма, што нават будзе нейкі час затрыманьне дапамогаў. Але абодвы прызнаюць няслушнымі закіды й перашкоды расейцаў у стварэньні антыбальшавіцкага цэнтру барацьбы. У Вашынгтоне наагул пэўныя, што пасьля падзеньня бальшавізму СССР будзе падзелены, бо ім выгадней мецъ адносіны з 20 нават, калі і ня ўсе будуць добрыя, урадамі і краінамі, чым з аднэй вялікай канкурыруючай імпэрыяй. У гэтым, як яны запэўнілі, ня можа быць сумніву ў паняволеных народаў. Апрача таго, у палітычных і вайсковых колах Вашынгтону і Пэнтагону існуе думка, што ў СССР адбудзецца нутраны пераварот. Прэзыдэнт Айзэнгауэр[709] — прыхільнік ідэі вызваленьня, але некаторыя палітыкі стрымліваюць яго, а таму выразьнейшых акцыяў можна будзе спадзявацца толькі пасьля восеньскіх выбараў. Гэтыя-ж выбары затрымалі рэалізацыю падрыхтаваных акцыяў, як тварэньне нацыянальных батальёнаў пры амэрыканскай арміі ў Эўропе ды інш.

Адведаў Прэзыдэнт таксама дыплёматычных прадстаўнікоў у Вашынгтоне Польшчы, Славаччыны і інш. Усе яны маюць аптымістычныя настроі і вельмі задаволены нашымі дыплёматычнымі асягненьнямі на міжнародным форуме ды радзяць трымацца гэткай-жа тактыцы і надалей.

Да п. 2:

Прэзыдэнт — зазначае, што паведамленьне Амэрыканскага камітэту[710] ёсьць фактычна адказам на мэмарыял МАКЦу, які зложаны 6 месяцаў таму.

---

[708] Афіцыйна беларуская секцыя радыё «Вызваленне» пачала сваю працу 20 траўня 1954 г.

[709] **Дуайт Эйзенхаўэр** (*Dwight David Eisenhower,* 1890–1969), амерыканскі дзяржаўны і вайсковы дзеяч, 34-ты Прэзідэнт ЗША.

[710] Маецца на ўвазе паведамленне ад Еўрапейскага аддзела Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму ў справе новых спробаў стварэння антыбальшавіцкага цэнтра, распаўсюджанае 3 красавіка для апублікавання ў эміграцыйнай прэсе. Гл.: Амэрыканскі Камітэт аднаўляе канцэпцыю КЦАБу // Бацькаўшчына. № 15–16 (197–198). Вялікдзень 1954.

З адведзінаў і гутарак у Камітэце можна было спадзявацца, што МАКЦ не зацьвердзяць, а зробяць нейкую форму тэхнічнае супрацы. Паведамленьне ён атрымаў за 24 гадзіны да публікацыі з зазначэньнем, што не падлягае абгаварэньню, але толькі да прыняцьця ці адкіданьня. Прэзыдэнт паведамляе, што па яго прыезьдзе ў Парыж там адбудзецца канфэрэнцыя Парыскага блёку дзеля абгаварэньня пытаньня. Пры спатканьні з Нікалаеўскім, апошні разумеў, што ён ня можа быць прадстаўніком ад МАКЦ у «Деловом Комитете»[711], бо тады Парыскі блёк будзе пакрыўджаны. Таму Нікалаеўскі вельмі ў няпрыемным становішчы, бо з пашырэньнем дзейнасьці Амэрыканскага камітэту (адчыняюцца радыёстанцыі ў Партугаліі, Японіі і Турэччыне[712]) ён ня будзе мець ніякага ўплыву на прапаганду. Агулам-жа Камітэт дзеяньня будзе дарадчым для амэрыканцаў, аб чым найлепш сьведчыць ягоны склад: па 3 ад КЦАБу і МАКЦу ды тое, што там жадаюць мець толькі людзей з новае эміграцыі. Становішча для ўсіх партнэраў (асабліва расейцаў — Керанскага і Мельгунова, а таксама грузінаў і армянаў) цяжкое, а таму могуць паўстаць канфлікты. Таму тактыка вымагае, каб не гаварыць зашмат, не прымаць пакуль што ніякіх пастановаў, а маўчаць, каб Амэрыканскі камітэт наперад не даведаўся-б сваіх думак.

Зачытваецца тэкст паведамленьня.

Радны Я. Ліманоўскі — лічыць, што гэткая прапанова найбольш для нас прымальная за ўсе папярэднія. Прынцып 50:50 можа нам вельмі прыдацца і быць добра выкарыстаны. Таксама і Мюнхэнскі інстытут па вывучэньню культуры і гісторыі СССР зьмяняе сваю тактыку і прымае нас да супрацы[713]. Гэткі зрух па ўсім фроньце трэба выкарыстаць.

Радны М. Міцкевіч — уважае, што «сообщение» Амэрыкнскага камітэту сьмярдзіць, а ня вее вясной. Прапановы і ўмовы наагул няпрымальныя, нават хужэйшыя ад КЦАБаўскіх. Калі ўжо нельга тактычна адразу адкінуць, дык у кажным разе ўстрымацца.

[711] Маецца на ўвазе **«Деловой союз»** — новая структура для каардынацыі дзейнасці эміграцыйных арганізацый народаў СССР, прапанаваная Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму ў красавіку 1954 г. Пры гэтым, у адрозненні ад папярэдніх арганізацый (СОНР, КЦАБ), гэта павінна быць не самастойная арганізацыя, а падпарадкаваная непасрэдна Амерыканскаму камітэту. У склад гэтай «Дзейнай Рады» (як яна фігуравала ў беларускай прэсе), павінны былі ўвайсці па 3 прадстаўнікі ад КЦАБ-2 (Керанскага — Мельгунова) і МАКЦ.

[712] Магчыма, маюцца на ўвазе не ўласна радыёстанцыі, а радыёцэнтры ці рэтранслятары радыёсігналаў. Так, яшчэ ў 1952 г. такі радыёцэнтр быў адчынены амерыканцамі ў Глорыі пад Лісабонам, у 1955 г. — на Тайвані, для вяшчання на Сібір і Далёкі Усход.

[713] У сакавіку 1953 г. у склад Навуковай рады Мюнхенскага інстытута ўвайшлі прадстаўнікі «нярускіх» народаў, у тым ліку і адзін беларус Станіслаў Станкевіч. Гэта стала першым крокам да рэарганізацыі ўстановы з улікам дамаганняў прадстаўнікоў паняволеных народаў. Гл.: (-іч). У Інстытуце для Дасьледаваньня Гісторыі й Культуры СССР // Бацькаўшчына. № 22 (204). 06.06.1954.

Радны М. Тулейка — прызнае паведамленьне няпрымальным, бо не дае ўжо наперад права весьці працы па абароне нацыянальных інтарэсаў.

Радны Б. Данілюк — прызнаецца, што вялікшага паніжэньня ніколі ня бачыў. Прыняўшы гэткія ўмовы, мы будзем лёкаямі амэрыканцаў, а не змагарамі за незалежнасьць Беларусі.

Радны М. Панькоў — бачыць небясьпеку ў гэткай супрацы, тым балей, што ў прапанаваным Камітэце маскалі і прамаскалі будуць мець ня 50 %, а 70–80. Уважае, што беларусам-незалежнікам там мейсца няма.

Радны Л. Савёнак — бачыць толькі новую, трэцюю рэдакцыю старога. Разглядае і крытыкуе тэхнічнае ўладжаньне плянаванага Дзелавога камітэту. Рада ня можа туды ўваходзіць, каб не скампрамітавацца аканчальна.

Радны М. Цэлеш — канстатуе праводжаньне даўно заплянаванай прарасейскай акцыі Амэрыканскага камітэту. Паведамленьне — стаўка на разьбіцьцё нацыянальных рухаў на эміграцыі. Найменш, калі тактычна нельга адкінуць, дык тактычна ўстрымацца.

Радны Я. Ліманоўскі — зазначае, што добра бачыць стары прынцып непрадрашэнства, але не знаходзіць выхаду, каб адкінуўшы рэзка прапанову, не апынуцца самым за бартом палітычных ходаньняў.

Радны Ф. Кушэль — лічыць, што гэткі дакумэнт, паданы як ультыматум, прыняць нельга. Думае, што найлепш нічога не казаць і пачакаць пастановаў Парыскага блёку.

Радны В. Русак — пэўны, што Рада туды ўваходзіць не павінна, але мусіць трымаць руку на пульсе і выкарыстаць усе магчымасьці дзеля практычнае працы.

Радны П. Манькоўскі — уважае паведамленьне вельмі важнай справай для нашага руху, бо даецца магчымасьць практычнае, далёкаідучае працы, а таму ісьці ды выкарыстаць у працы ўсе магчымасьці.

Абвяшчаецца абедзенны перапынак.

Прэзыдэнт — мамэнт сантымэнтальна вельмі прыгожы, але ў палітыцы, асабліва замежнай, у карані памылковы і ніколі ніякае ролі ня гуляў. Тут ідзе гульня палітычных камбінацыяў, а таму трэба расцэньваць падзеі аб'ектыўна. Нельга зьневажаць працу іншых, кажучы «МАКЦ — Нікалаеўскага», або што «Гэгэчкоры — прарасеец». Аб ім хай судзяць грузіны самі, для якіх ён прадстаўляе прарока 50 гадоў іхняе гісторыі.

Паведамленьне Амэрыканскага камітэту не задавальняе нас, але калі мы выкарыстаем хоць 20 % магчымага, дык і гэта будзе для нас вялікім плюсам. Сяньня выносіць нейкую рэзалюцыю — зарана. Парыскі блёк будзе мець палітычную нараду, і калі ён будзе скансалідаваны, дык пэўна патрапіць дабіцца нейкіх зьменаў. Мы павінны памятаць, што мы параўнаўча слабыя. Сяньня нават «Бацькаўшчына» выдаецца ў крэдыт і толькі як двутыднёвік. Трэба добра ўявіць, што лейцы палітыкі трымаюць амэрыканцы, і ня толькі нашыя ці ўкраінскія пратэсты ня могуць зьмяніць амэрыканскае палітыкі, але нат і пратэсты Англіі і Францыі часта не бяруцца пад увагу. Мы змагаемся за нашыя пазыцыі, мы можам спрыяць свайму руху, калі нашыя адказныя людзі

будуць працаваць і дзеяць. Рада застанецца Радай і будзе трымацца сваіх прынцыпаў, але яна павінна весьці практычную акцыю. Каб-жа ўтрымаць давер да сябе, дык Рада мусіць дзеяць палітычна, з халоднай развагай. Рада БНР, як гэткая, пэўна ні ў якія Дзелавыя камітэты ня пойдзе.

Радны А. Орса — зазначае неабходнасьць неадкладных перагавораў з Парыскім камітэтам у гэтай справе.

Радны япіскап Васіль — паведамляе, што казакі жадаюць прыступіць да Парыскага блёку і пытаюцца Прэзыдэнта, каб ён паспрыяў гэтаму.

Прэзыдэнт — адказвае, што заява Глазкова ў блёку ўжо атрымана і прынцыповая згода на іх уваход маецца, але розныя тактычныя меркаваньні затрымліваюць рэалізацыю прыняцьця.

Да п.3: Камісія рэфэрэндумаў

Прэзыдэнт — тлумачыцца, што тэхнічна ня было магчымасьці дагэтуль правесьці рэфэрэндуму па прыняцьцю рэзалюцыі. Апрача таго, камісія мае яшчэ правесьці рэфэрэндум па выбарах Прэзыдыюму Рады, бо ад радных паступілі пратэсты.

Радны япіскап Васіль — ня бачыць патрэбы правядзеньня рэфэрэндуму ў справе выбараў Прэзыдыюму, бо Сэсія была правамоцная гэта зрабіць пры кажнай колькасьці прысутных радных.

Радны А. Стагановіч — запытваецца імёнаў пратэстуючых.

Радны Л. Савёнак — паясьняе, што паколькі справы пратэстаў павязваюць з апазыцыяй, дык падчырківае, што тая ідэёвая і прынцыповая апазыцыя, якая гэткай выступала і выступае на паседжаньнях Рады, ня мае нічога супольнага з пададзеным нібы ад апазыцыі пратэстам раднага Я. Станкевіча.

Выбары ў камісію далі наступныя вынікі:

М. Панькоў — 14 галасоў.

Л. Савёнак — 17 галасоў.

М. Гарошка — 17 галасоў.

М. Дарашэвіч — 14 галасоў.

Галасавала 24 радных, устрымаліся 3 радных.

Да п. 4: Склад Сакратарыяту.

Прэзыдэнт — паведамляе, што ён мяркуе скласьці Урад Рады БНР з наступных асобаў, хоць рэсорты яшчэ аканчальна не падзеленыя:

Старшыня — др. Набагез.

Сябры: Ст. Станкевіч, Я. Запруднік, Марговіч, Цьвірка, Урбан, Арэшка[714], Кажан.

Кандыдатамі: А. Лашук, Наўмовіч[715] і Шыманец.

---

714 **Аляксей Арэшка** (нар. 18.11.1923, в. Жарабковічы (сёньня Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл.)), навуковец-хімік, грамадскі дзеяч, жыве ў Бельгіі.

715 **Міхась Наўмовіч** (1922, в. Рамашкевічы, Наваградчына — 08.03.2004, Парыж, Францыя), мастак, грамадскі дзеяч. Пасля вайны жыў у Францыі. Скончыў факультэт скульптуры Нацыянальнай вышэйшай школы мастацтваў у Парыжы

Радны В. Кажан — просіць пакінуць яму справы грашовыя толькі амэрыканскага сэктару, або толькі агульныя.

Радны М. Міцкевіч — лічыць склад Ураду зусім зялёным і ўважае патрэбным скараціць яго. Адзначае, што лепш браць сталейшых людзей, як а. А. Смаршчок, якога ў складзе Ураду ня бачыць, хоць ён і жыве ў Бэльгіі.

Радны М. Гарошка — згаджаецца з папярэднім прамоўцай, што ўсе міністры замаладыя, якіх, відаць, ня меў ніводзін Урад на сьвеце.

Прэзыдэнт — дадае, што справа гэтага складу вырашаная толькі прынцыпова. Іншых людзей не знаходзіў, бо радны У. Бортнік хворы і ляжыць у шпіталі, Віньніцкі — ня згодзіцца, Жук-Грышкевіч — заняты, і яго нельга ангажаваць[716], а. Смаршчок — магчыма будзе ў складзе Ураду.

Радны япіскап Васіль — зазначае, што каб уваходзіць у Урад, а. Смаршчок павінен перш спытацца дазволу ў япіскапату, у якім адмоўлена ня будзе.

Да п. Вольныя прапановы:

Радны В. Кажан — прапануе спарадкаваць яшчэ наступныя пытаньні:

1. Выбраць нейкую рэвізійную ці кантрольную камісію, бо на працягу апошніх год ён ня меў ніякага грашовага кантролю, што ўважае нядобрым.

2. Пакрыць выдаткі па паездцы на канфэрэнцыю ў Вашынгтон у суме 140 даляр.

3. Выдаць бюлетэнь аб ходзе працаў Сэсіі дзеля паінфармаваньня радных і сэктароў.

4. Набыць дзеля патрэбаў Рады БНР ратататар, які вельмі неабходны.

Радны А. Стагановіч — прапануе прыняць наступныя прапановы і абгрунтоўвае іх меркаваньнямі патрэбы:

1. Пастанавіць падзякаваць сп. Рокфэлеру за ахвяру 250000 даляраў на пабудовы дзіцячага шпіталю на Беларусі[717].

2. Адклікаць колішнюю пастанову Прэзыдыюму Рады аб дамаганьні далучэньня Кенігсбэрскага калідору да Беларусі[718];

3. Прыняць афіцыйныя звароты: спадар, спадарыня, спадарышня, і на паседжаньнях зьвяртацца толькі звароткай: спадар радны, сп. Прэзыдэнт, сп. міністр.

4. Пастанавіць, каб кажны радны ў ЗША на працягу 3-ох месяцаў склаў на куплю беларускага дому 50 даляраў.

---

(1953). Браў удзел у беларускім нацыянальным жыцці, спрычыніўся да стварэння Беларускага незалежнага аб'яднання моладзі, выдаваў часопіс «Моладзь».

716 Вінцэнт Жук-Грышкевіч стаў першым кіраўніком беларускай рэдакцыі Радыё «Вызваленне».

717 Магчыма, маецца на ўвазе інфармацыя, якая была змешчана ў газеце «Бацькаўшчына» № 2 (62) ад 25.02.1950, пра тое, што амерыканскі мільянер Розэнфельд з г. Санта-Роса (Каліфорнія) паводле тэстаменту пакінуў усе свае грошы на пабудову і абсталяванне дзіцячага шпіталю ў Беларусі. Аднак амерыканскі суд вырашыў, што пакуль перадаць грошы магчымасці няма, і пакінуў іх на захаванне ўраду Каліфорніі.

718 Гэта была пастанова Другой сесіі Рады БНР (чэрвень 1948 г.).

5. Прыняць пастанову, скіраваную супраць тых радных, якія свае амбіцыйныя справы і гонар ставяць вышэй справаў нацыянальных ды пакідаюць Раду.

6. Прыняць пастанову аб асыгнаваньні 250–300 даляраў штомесячна на штодзённую працу Прэзыдэнта.

Радны М. Гарошка — адзначае неабходнасьць пастановы аб сталай дапамозе БАПЦ і ў прыватнасьці япіскапу Сергію[719] як галаве БАПЦ.

Радны М. Тулейка — адзначае неабходнасьць пэўнае пастановы ў справе правядзеньня дапамогі пераезду суродзічаў у ЗША.

Пастановы:

На папановы раднага В. Кажана:

1. Даручыць Прэзыдыюму Рады паклікаць кантрольную камісію.

2. Выдаткі пакрываюцца па палове Управай БАЗА і Радай БНР (14:5:4).

3. Даручыць Прэзыдыюму Рады выдаць адпаведны бюлетэнь.

4. У залежнасьці ад грашовых магчымасьцяў набыць рататар, найлепш патрыманы.

Прапановы раднага А. Стагановіча:

1. Даручыць Прэзыдыюму Рады правесьці дазнаньні справы, адшукаць кроўных і адпаведна дзейнічаць (15:0:7).

2. Прапанова зьнімаецца дзеля неабгрунтаванасьці довадаў.

3. Прапануецца радным ужываць зваротак «спадар» (12:5:3).

4. Забавязаць радных Нью Ёрку і ваколіцаў унесьці на куплю дому 50 даляраў на працягу трох месяцаў (14:3:4).

5. Прыймаецца да ведама радных. Да пункту гэтае прапановы глядзі дадатак прамовы раднага А. Шукелойца ў абароне асобы былога раднага Л. Галяка[720].

Прапанова раднага М. Гарошкі: падцьвярджаецца ранейшая пастанова аб выплаце на падтрымку БАПЦарквы месячна 25 даляраў як дапамога япіскапу Сергію.

Радны М. Панькоў — прапануе прыняць наступную прапанову: *Кажны беларус, які дастаў стыпэндую ці адпаведную фаховую працу з дапамогаю нацыянальных або палітычных пазыцыяў Рады БНР і яе ўстановаў, плаціць у касу БНР 10–25 % свае пенсіі*.

Радны япіскап Васіль — падтрымлівае прапанову раднага М. Панькова з дадаткам, што Прэзыдыюм Рады мае права ў адпаведных абгрунтаваных выпадках звольніць некага ад уносу гэтае працэнтовае сумы.

Галасаваньне: за — 3, супраць — 4, устрымалася — 12.

Прапанова адкідаецца.

Да п. 6: Заключнае слова Прэзыдэнта

---

719 Архіепіскап Сергій у гэты час знаходзіўся ў Аўстраліі, аднак ніводны беларускі асяродак не быў здольны ўтрымаць яго цалкам на ўласны кошт, што з’яўлялася істотнай праблемай для яго дзейнасці.

720 Леанід Галяк напісаў заяву аб выхадзе з Рады БНР 15 сакавіка 1954 г. (Падрабязней гл.: Галяк, Леанід. Успаміны. Ч. 2.… С. 135).

Прэзыдэнт — спадзяваўся, што на апошнім паседжаньні Рады будзе больш прысутных, але зманіўся. Заўсёды прыяжджае ў Амэрыку зь нейкай верай узмацненьня нашага руху, з надзеяй атрымаць зразуменьне праробленае працы, прынамсі тых, хто шчыра працуе. А тут атрымліваеш заявы і блізкіх супрацоўнікаў, што мы гуляем у палітыку. Гэта памылковы погляд, бо мы вядзем палітыку, да таго сапраўдную дзяржаўную палітыку. Аб тым, як мы з гэтым спраўляемся — будзе судзіць некалі гісторыя.

Бягучы год будзе можа найкрытычнейшым годам для нашага руху. Магчыма, будуць мамэнты, калі шмат будзе залежыць ад таго, ці мы ўтрымаем нашыя пазыцыі. Мусім ведаць, што іншыя народы рыхтуюцца да надыходзячых падзеяў грунтоўна і мэтазгодна.

Разумее цяжкое становішча раднага і не жадае шмат вымагаць. Але для канкрэтнай працы застаюцца ізноў адзінкі. Рада-ж павінна сваім адзінствам падтрымліваць палітычную акцыю, павінна давяраць і спадзявацца, што дзеючыя нашыя палітыкі ў кажным, нават найкрытычнейшым мамэньце шукаюць далейшага шляху і варункаў для нашае справы. Атрымаў гэтулькі абразаў, недаверу за зробленую працу, што ехаў з намерам адыйсьці ад працы. Аднак сумленьне не дазваляе зрабіць гэты крок. У прадстаячай працы просіць радных мець цярпеньне ў кажным выпадку, цярпеньне чакаць вынікаў зробленага і не сьпяшацца да прыняцьця пастановаў. У іншым выпадку просіць заявіць шчыра і адчынена, што ён не на сваім месцы.

Адносна асабістых абразаў, дык атрымаў найбольш за ўсіх Прэзыдэнт, аднак маўчаў і будзе маўчаць аб іх. Залагоджваючы асабістыя непаразуменьні, ахвяраваў сваім прэстыжам, ходзячы ад хаты да хаты. Рабіў гэта толькі таму, што бачыў нашую слабасьць і не знаходзіў іншага выхаду. Гэтую слабасьць пакуль мы здолелі захаваць, і нас уважаюць моцнымі, шмат мацнейшымі, як мы ёсьць у сапраўднасьці.

Апошняя просьба Прэзыдэнта да радных: забыць усе прыкрасьці, што былі паміж асобнымі раднымі да сяньня, быць дружнымі, трымацца еднасьці, пільнаваць вышыні нашага прэстыжу. Мусім мець цярпеньне, давер да дзеючых адзінак, нутрана скансалідавацца і жыць у згодзе.

Да п. 7: Прыняцьцё Дэкларацыі сяброў Рады VII Сэсіі

Старшыня А. Орса — зачытвае ўкладзеную Прэзыдэнтам Дэкларацыю, пасьля чаго бяз дыскусіі прапануе прыняць яе ўставаньнем.

Радныя ўстаюць, хоць некаторыя патрабуюць голасу.

Старшыня А. Орса абвяшчае VII Сэсію Рады БНР закончанай і паседжаньне зачыненым.

# 8-АЯ СЭСІЯ РАДЫ БНР[721]

## Урачыстае адчыненьне

23-га верасьня 1956 году а 10-ай гадз. Уранькі архіяпіскапам БАПЦарквы Васілём была адпраўлена ўрачыстая багаслужба ў царкве Сьв. Тройцы. На багаслужбе былі Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, радныя, прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў Нью-Ёрку й ваколіцаў ды шмат беларусаў. А 2-ой гадз. папаўдні пачалося паседжаньне Рады БНР, прысьвячанае 10-ым угодкам аднаўленьня легальнае дзейнасьці Рады Беларускае Народнае Рэспублікі за межамі Беларусі. Адчыніў паседжаньне старшыня сэктару Рады БНР у ЗША сп. К. Мярляк[722], які прывітаў Старшыню Рады БНР, перадаючы яму слова для дакладу.

Даклад сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка быў аглядам важнейшых падзеяў у жыцьці нашага дзяржаўнага органу на працягу прыгаданых дзесяцёх год. Аднак, найбольш падрабязна гаварыў сп. Прэзыдэнт аб працы Рады БНР у апошні гадох. Ён закрануў гэткія справы: арганізацыю й разьвіцьцё дзейнасьці Рады БНР, навязаньне кантактаў з прадстаўнікамі паняволеных народаў і з палітычнымі дзейнікамі заходняга сьвету, дачыненьні і ўмовы з нашымі суседзямі, дачыненьні з Амэрыканскім камітэтам вызваленьня ад бальшавізму, дзейнасьць Парыскага блёку й ягонае значаньне, працу беларускае сэкцыі радыё «Вызваленьне», працу беларускае рэдакцыі Мюнхенскага Інстытуту Вывучэньня СССР[723], вонкавую дапамогу беларускаму вызвольнаму руху ды справу г.зв. апазыцыі да Рады БНР.

Пасьля дакладу сп. Прэзыдэнту даваліся пытаньні, на якія ён даваў адказы й выясьненьні.

Першае ўрачыстае адчыненае паседжаньне 8-ае Сэсіі Рады БНР было зачыненае сп. К. Мерляком а 6.30 гадз. увечары.

## Паседжаньні Сэсіі

2-ое паседжаньне 8-ае Сэсіі Рады, якім фактычна й пачалася істотная праца Сэсіі, адбылася 7-га кастрычніка 1956 году. Адчыніў яго сп. Прэзыдэнт М. Абрамчык, прапануючы абраць Прэзыдыюм 8-ае Сэсіі Рады БНР.

У вадчыненым галасаваньні бальшынёю галасоў на старшыню 8-ае Сэсіі быў абраны сп. А.Адамовіч, за сакратароў К. Мярляк, Б. Данілюк і заступнікам А. Шукелайць.

---

[721] Пратакол 8-й Сэсіі Рады БНР публікуецца паводле Бюлетэня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. № 1. 1957.

[722] 29 ліпеня 1954 г. Канстанцін Мерляк разам з сям'ёй перабраўся з Аргенціны ў ЗША, дзе пасяліўся ў Нью-Ёрку і актыўна далучыўся да беларускай дзейнасці ў ЗША.

[723] **Беларуская секцыя Інстытута вывучэння гісторыі і культуры СССР** склалася ў 1955 г. вакол выдання «Беларускага зборніка». У яе склад уваходзілі: Станіслаў Станкевіч, Павал Урбан, Сымон Кабыш-Кандыбовіч.

Прыступаючы да зацьверджаньня парадку дня 8-ае Сэсіі, пасьля сьцьверджаньня сп. Прэзыдэнта, што Сэсія скліканая згодна Статуту Рады БНР, што напярэдадні яе адбыліся паседжаньні сэктараў Рады і ўсе радныя былі своячасова паведамленыя аб Сэсіі, ды кароткае вымены думак, 8-ая Сэсія Рады БНР была прызнаная правамоцнай, а прапанаваны парадак дня прыняты бязь зьменаў і дапаўненьняў:

1. Адчыненьне Сэсіі, багаслужба й даклад сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка
2. Дыскусіі на тэму дакладу й прыняцьце пастановаў.
3. Дапаўненьні да Статуту Рады БНР і перагляд стану сяброў Рады.
4. Справа ўзаемадачыненьня з нашымі суседзьмі.
5. Фінансавыя справы.
6. Выбар Прэзыдыюму Рады БНР.
7. Стварэньне выканальнага органу Рады БНР.
8. Прыняцьце пляну дзейнасьці на наступную кадэнцыю.
9. Розныя справы.

Пасьля прыняцьця парадку дня й дапаўняльнай да папярэдняга дакладу справаздачы сп. Прэзыдэнта, голас атрымаў прадстаўнік канадзкага сэктару БНР сп. А. Грыцук, які прывітаў 8-ую Сэсію Рады БНР ад імя згаданага сэктару, даў кароткую інфармацыю аб дзейнасьці канадзкага сэктару Рады БНР і тамтэйшых беларускіх арганізацыяў, перадаў прызнаньне сваім сэктарам дзейнасьці сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка ды выказаў колькі пажаданьняў да разгляду Сэсіі.

Пасьля пачалася дыскусія над дакладам сп. Прэзыдэнта. Голас у дыскусіі бралі блізу ўсе радныя. Зазначаючы й абмяркоўваючы ўсе заганы і ўдачы ў дзейнасьці Рады ў часе між 7-ай і 8-ай сэсіямі. Як выявілася з дыскусіі, найбольшай заганай згаданага часу была бязьдзейнасьць Прэзыдыюму Рады БНР, дзеля чаго ўвесь цяжар вонкавае палітыкі Рады лёг на плечы сп. Прэз. Абрамчыка. Рада сьцьвердзіла, што Прэз. Абрамчык, адылі, зрабіў вялікую працу, найперш як старшыня Парыскага блёку[724], які задзіночвае прадстаўнікоў дзесяцёх экзыльных дзяржаўных прадстаўніцтваў, высака ўзьняўшы беларускі прэстыж у апініі палітычнага сьвету Захаду, ды спрычыніўся да прызнаньня павагі й пашаны да свае дзейнасьці прадстаўніцтвамі дзяржаўных народаў Захаду, прыкладам чаго — спатканьне Старшыні Рады БНР Прэз. М. Абрамчыка з дэпутатамі Ангельскага парлямэнту ў Лондане[725].

Пры канцы 2-га паседжаньня 8-ае Сэсіі Рады была абраная рэзалюцыйная камісія ў складзе: сп-ні Н. Арсеньневай, сп. А. Шукелойця й др. Ул. Набагеза.

---

[724] Мікола Абрамчык быў абраны старшынёй Прэзідыума Лігі вызвалення народаў Савецкага Саюза (Парыжскі блок) на канферэнцыі ў Мюнхене 11–19 лютага 1956 г.

[725] У 1956 г. дзякуючы дапамозе першага Прэзідэнта Англа-беларускага таварыства палітычнага дзеяча Дэвіда Ормсбі Гора (барона Гарлека) было арганізавана выступленне Міколы Абрамчыка ў Брытанскім парламенце.

На 3-ім паседжаньні 8-ае Сэсіі Рады БНР 14-га кастрычніка 1956 г. абмяркоўвалася справа дапаўненьняў да статуту Рады БНР і, у бягучых справах, справа брашуры Я. Станкевіча «Зьвярненьне да сяброў Рады БНР»[726].

У справе першай — дапаўненьняў да Статуту Рады БНР — пастаноўлена:

1. Звычайныя сэсіі Рады склікаць штотры гады.

2. Новых кандыдатаў у сябры Рады БНР могуць прапанаваць сэктары Рады БНР, палітычныя арганізацыі, якія вызнаюць Акт 25 Сакавіка, грамадзкія арганізацыі, якія вызнаюць Акт 25 Сакавіка й маюць ня менш за 50 сяброў. Прынятыя Прэзыдыюмам Рады новыя сябры павінны быць зацьверджаныя на найбліжэйшай сэсіі Рады БНР.

3. У справе выключэньня з Рады БНР — Сэсія Рады даручае новаму Прэзыдыюму Рады БНР зьвярнуцца лістоўна да пасіўных сяброў Рады, просячы іх паведаміць Раду аб сваім да яе дачыненьні й прычынах пасіўнасьці. Пры гэтым, у лістох мае быць вызначаны тэрмін, пасьля якога неатрыманьне адказу будзе ўважацца за аўтаматычнае выбыцьцё сябры з Рады.

4. Уважаць, што сябра БНР, які перайшоў у варожы лягер і адкрыта дзеіць супраць БНР, аўтаматычна выбывае з Рады БНР. Пераход у варожы лягер і шкодную дзейнасьць канстатуе сэктар, а зацьвярджае Прэзыдыюм Рады БНР, які падае гэта да ведама на найбліжэйшай Сэсіі.

5. У выпадку, дзе няма адкрытага пераходу сяброў Рады БНР на варожы бок, але ёсьць шкодная дзейнасьць знутра, справу выключэньня з Рады разглядае Суд. Дзеля ўспраўненьня працы Суду мае быць выпрацаваны кодэкс.

6. Злучыць Прэзыдыюм і Урад Рады БНР у вадзін орган, ператвараючы іх у Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР.

4-ае паседжаньне 8-ае Сэсіі Рады БНР адбылося 21-га кастрычніка 1956 г.

Першым пунктам парадку дня гэтага паседжаньня быў рэфэрат сп. Прэзыдэнта Абрамчыка аб узаемных дачыненьнях з нашымі суседзямі. Гаварыў сп. Прэзыдэнт галоўна аб нашых бліжэйшых суседзях, падчыркваючы, што з народамі, задзіночанымі ў Лізе вызваленьня народаў СССР (Парыскім блёку), у нас дачыненьні найлепшыя.

Дачыненьні з украінцамі, сказаў сп. Прэзыдэнт, асабліва з прадстаўніцтвам УНРады, вельмі добрыя, якімі яны й былі на працягу ўсяго пэрыяду нашага змаганьня за незалежнасьць.

З расейцамі, адылі, наладзіць дачыненьні нам і дагэтуль не ўдалося, хоць і рабіліся спробы знайсьці расейскую групу, якая прызнавала-б нашыя правы на незалежнасьць, дзеля навязаньня супрацоўніцтва. Адзіная расейская група, зь якой мы маглі-б гаварыць, — гэта група Аляксінскага, але яна вельмі малая і ўплыву на іншыя расейскі групы ня мае.

З палякамі тым часам ніякага бліжэйшага супрацоўніцтва мы навязаць не маглі, дзеля таго, што польская эміграцыя разьбіўшыся й няма аўтарытэтнага польскага палітычнага цэнтру. Аднак, з паасобнымі польскімі дзеячамі ў розных краёх прыязныя дачыненьні захаваныя й сяньня.

---

[726] Магчыма, маецца на ўвазе брашура Янкі Станкевіча «Толькі сябром Рады БНР» (15 с.), выдадзеная ў Нью-Ёрку пры канцы 1953 г.

Што да балтаў, нашыя дачыненьні з паасобнымі балцкімі народамі розныя. З эстонцамі яны вельмі добрыя, нядрэнныя таксама й з латышамі, хоць яны й ставяцца да нас зь некатораю засьцярогаю з прычыны Дзьвіншчыны, зь летувісамі-ж усьцяж дачыненьні дрэнныя. На перашкодзе нашага зь імі паразуменьня стаіць найперш справа Вільні й Віленшчыны, і ўсе спробы знайсьці нейкі кампраміс не далі дагэтуль вынікаў.

Пасьля рэфэрату сп. Прэзыдэнта Абрамчыка адбылася дыскусія, а на заканчэньне яе была прынятая пастанова ўлучыць абмеркаваньне пытаньня нашых дачыненьняў з суседнімі народамі ў агульную рэзалюцыю 8-ае Сэсіі Рады БНР.

Далей скарбнік Рады БНР сп. Кажан здаў лічбу зь фінансаў Рады за час ад 29.1.1953 да 21.10.1956 г. Зданьне лічбы скарбніка Рады было дапоўненае кароткім дакладам сп. Прэзыдэнта аб стане фінансаў сэктараў Рады ў Ангельшчыне, Бэльгіі, Францыі, Нямеччыне й Аўстраліі.

Пасьля гэтага адбылася дыскусія, у выніку якой раднымі было зроблена колькі прапаноў. Бальшынёю галасоў у вадкрытым галасаваньні прайшла прапанова выказаць падзяку скарбніку Рады сп. В. Кажану за ягоную мінулую працу. Прайшла й прапанова аб палепшаньні фінансавага стану Рады БНР: пастаноўлена, што, скасаваўшы стары парадак, кожны радны мае задэкляраваць на пісьме сталую складку, якую ён будзе плаціць на працягу году ў скарб Рады БНР, пры тым, што складка гэтая ня можа быць меншая чымся 2 даляры ў месяц.

Наступным пунктам абмеркаваньня была пачатая на папярэднім паседжаньні справа брашуры Я. Станкевіча «Зьвярненьне да радных БНР».

«Зьвярненьне» гэтае было рэзка асуджанае 8-ай Сэсіяй Рады БНР дзеля свайго зьместу, які не адпавядае праўдзе й таму ўводзіць у блуд беларускае грамадзтва ды дае матэрыял да розных пашквільных выданьняў варагоў Рады. Тлумачачыся, др. Я. Станкевіч апраўдваў зьмест свайго «Зьвярненьня» нястачай належнае інфармацыі й нарэшце даў на пісьме гэткае выясьненьне:

*Заява*

*Каля 3-х год таму назад мною было выдана зьвярненьне з маёй прадмовай і пасloўем да радных БНР, у каторым былі надрукаваныя некаторыя матэрыялы, паданыя да камісіі Рады БНР, што разглядала дзейнасьць часьці сяброў Рады, зьвязанай, між іншага, з выдаваньнем газэты «Беларус».*

*Толькі некаторыя матэрыялы ў гэным зьвярненьні былі надрукаваныя дзеля таго, што я ня меў зь незалежных ад мяне прычынаў актаў камісіі і надрукаваныя былі толькі гэныя, якія мне падалі некаторыя сьветкі. З гэтай прычыны мне не было ведама, як былі ўжытыя грошы ў ліку 6.350 даляраў. Пасьлей-жа я высьветліў, што з гэнае сумы (6350 дал.) пяцьсот даляраў Ф. Кушаль перадаў Беларускаму інстытуту навукі й мастацтва, наймя гэта заявіў сп. А. Адамовіч, і я гэтаму веру. Што да засталых грошы із сумы 6.350 дал. Дык, як мне стала ведама, яны былі ўжытыя дамэтна.*

*Я. Станкевіч*

Праслухаўшы прачытанае радным Станкевічам паясьненьне, 8-ая Сэсія Рады БНР пастанавіла, што яно мае быць зьмешчанае ў беларускай прэсе[727].

На гэтым 4-ае паседжаньне Сэсіі было зачыненае.

5-ае паседжаньне 8-ае Сэсіі Рады БНР адбылося 18 лістапада 1956 г. Было яно прысьвечанае выбарам Прэзідыюму й выканальных органаў Рады БНР.

Перад выбарамі, адылі, раднымі была ўзьнятая вельмі актуальная для нашага эміграцыйнага грамадзтва, для сяброў Рады БНР асабліва важная, справа грамадзянства.

Пасьля шырокае, усебаковае дыскусіі, 8-ая Сэсія Рады БНР прыйшла да выснаву, што Рада БНР — гэта асаблівы парлямэнт, што ўзьнік ня ў мірных абставінах, а ў выніку змаганьня за незалежнасьць — ды змагаецца за яе й сяньня, чаму да яе ня можна тарнаваць праўных асноваў, якія забавязваюць нармальна выбіраныя парлямэнты. Таму, прыняцьцё сябрам Рады БНР грамадзянства нейкае дэмакратычнае, прыязнае нам дзяржавы, у дадзеным выпадку грамадзянства ЗША, ня можа быць перашкодай у ягоным стасусе сябры Рады БНР, наадварот, у шмат якіх выпадках, стварае для яго лепшыя магчымасьці дзейнасьці дзеля вызваленьня Бацькаўшчыны.

Разьвязаўшы гэтак справу грамадзянства, радныя прыступілі да выбараў. Пасьля кароткага інфармацыйнага дакладу сп. Прэзыдэнта Абрамчыка, у якім ён прадставіў свой плян зрэфармаваньня выканальных органаў Рады БНР, і пытаньняў ды выясьненьняў на гэтую-ж тэму, адкрытым галасаваньнем раднымі была прынятая пастанова аб складзе Прэзыдыюму Рады БНР з трох асобаў — Старшыні і двух заступнікаў.

Гэтаксама прагаласавалі радныя й склад Сакратарыяту Рады БНР. Пастаноўлена, што ён мае складацца зь пяцёх чалавек — сакратара нутраных справаў, сакратара вонкавых сувязяў, сакратара інфармацыі, скарбніка Рады БНР і сакратара Рады БНР. Апрача гэтага, у дапамогу Сакратарыяту Рады БНР, былі створаныя рэфэрэнтуры розных рэсортаў. Зацьверджаныя былі й Дзяржаўны кантроль і Суд.

Пасьля гэтага 8-ая Сэсія Рады БНР перайшла да выбараў.

У выніку тайнага галасаваньня ў Прэзыдыюм Рады БНР на заступнікаў Старшыні Рады, Прэзыдэнта М. Абрамчыка, былі абраныя: Аляксандар Стагановіч — 1-ым заступнікам і Антон Адамовіч — 2-ім заступнікам.

На сакратара нутраных справаў быў выбраны Кастусь Мярляк.

На сакратара вонкавых сувязяў — Міхась Тулейка.

На сакратара інфармацыі — Антон Шукелойць.

На скарбніка Рады БНР — Віталі Кажан.

На сакратара Рады БНР — Натальля Арсеньнева (Кушаль).

У Дзяржаўны кантроль абраныя — Вітаўт Тумаш, Філарэт Родзька й Аўген Протас.

---

727 Тлумачэнне неправераных фактаў было апублікаванае: Станкевіч, Янка. Ліст у рэдакцыю. Заява // Беларус. № 58. 30 сьнежаня 1956. С. 8.

У Суд Рады БНР абраныя — Мікола Кунцэвіч старшынём, Васіль Кендыш і Васіль Стома сябрамі.

Рэфэрэнтура Рады БНР мае складацца з рэсортаў: вайсковых справаў, культуры й асьветы, царкоўных справаў, арганізацыі эміграцыі, сельскай гаспадаркі, народнай гаспадаркі, адміністрацыі БССР, беларуска-польскіх дачыненьняў, беларуска-балцкіх дачыненьняў, беларуска-ўкраінскіх дачыненьняў, беларуска-расейскіх дачыненьняў, дачыненьняў з іншымі народамі СССР ды мэмуараў.

Згаданыя рэфэрэнтуры былі часткова, у парадку галасаваньня, адразу-ж абсаджаныя:

Рэфэрэнтура вайсковых справаў — ген. Ф. Кушаль, царкоўных справаў — Барыс Данілюк, народнай гаспадаркі — С. Кабыш, адміністрацыі БССР — Янка Запруднік, беларуска-польскіх дачыненьняў — Васіль Кендыш, беларуска-балцкіх дачыненьняў — В. Тумаш, дачыненьняў зь іншымі народамі СССР — П. Манькоўскі.

Абсаду рэшты рэфэрэнтураў Сэсія даручыла новаабранаму Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР і таму поўны асабовы склад рэфэрэнтаў Рады будзе пададзены адно ў чародным 2-ім нумары Бюлетэню[728].

Пасьля выбараў выканальных ораганаў Рады БНР, у бягучых справах, 8-ая Сэсія Рады БНР разгледзела заяву Я. Ліманоўскага[729] аб ягоным выхадзе з Рады БНР.

Заява, прачытаная старшынём 8-ае Сэсіі, была абмеркаваная раднымі пры самым Я. Ліманоўскім і прынятая да ведамі.

<u>6-ае, апошняе паседжаньне 8-ае Сэсіі Рады БНР адбылося 16 сьнежня 1956 году.</u> На парадак дня 6-га паседжаньня склаліся: прыняцьце рэзалюцыі 8-ае Сэсіі Рады БНР, абмеркаваньне пляну дзейнасьці выканальных органаў Рады на наступную кадэнцыю й розныя справы.

Апрацаваная рэзалюцыйнай камісіяй і папоўненая ў дыскусіі Рэзалюцыя 8-ае Сэсіі Рады БНР была прынятая Сэсіяй у гэткай рэдакцыі:

*Рэзалюцыя 8-ай Сэсіі Рады БНР*

*Пасьля правядзеньня шырокай дыскусіі над справаздачай Старшыні Рады БНР сп. Інж. М. Абрамчыка, зробленай ім на першым паседжаньні 8-ае Сэсіі Рады БНР 23-га верасьня 1956 году на тэму вонкавае й нутраное палітыкі выканальных органаў Рады БНР, і дакладу аб дачыненьнях з нашымі суседзямі, зробленым 21-га кастрычніка 1956 г. — 8-ая Сэсія Рады БНР прыйшла да гэткіх высноваў:*

*<u>У галіне вонкавае палітыкі</u> —*

---

[728] Другі нумар Бюлетэня Рады БНР выйшаў толькі ў ліпені 1962 г.

[729] Каля 1954 г. у Янкі Ліманоўскага паўстаў канфлікт з Антонам Адамовічам з прычыны непрыняцьця апошнім да друку прадмовы да рыхтаванага зборніка Янкі Купалы «Спадчына». Урэшце Янка Ліманоўскі паступова адышоў ад беларускай дзейнасці і спыніў кантакты з суайчыннікамі.

*Першае — Сувязі з прадстаўнікамі паняволеных бальшавікамі народаў, задзіночаных сяньня ў ліку дзесяцёх у Лізе Вызваленьня Народаў СССР (г.зв. Парыскага Блёку) 8-ая Сэсія ўважае за бясспрэчна патрэбнае й карыснае для нас. 8-ая Сэсія ўважае аднак за канечнае зьвярнуць большую ўвагу на супрацоўніцтва з іншымі народамі, што не ўваходзяць у Парыскі Блёк.*

*Другое — Факт колькігадовага старшынства Прэзыдэнта Рады БНР сп. М. Абрамчыка ў Лізе Вызваленьня Народаў СССР (Парыскім Блёку) 8-ая Сэсія ўважае за пазытыўны.*

*Трэйцяе — Супрацоўніцтва зь Інстытутам Вывучэньня СССР 8-ая Сэсія ўважае за справу гэтаксама для нас пазытыўную. Аднак, яна ўважае патрэбным павялічэньне ліку беларускіх працаў, выдаваных Інстытутам у замежных мовах, асабліва ў мове ангельскай, а таксама прыцягненьне да супрацоўніцтва зь Інстытутам большае колькасьці Беларусаў. Асабліва падчырквае 8-ая Сэсія Рады БНР патрэбу друкаваньня ў прыгаданых выдавецтвах працаў ня толькі зь гісторыі змаганьня беларускага народу за сваё вызваленьне, пачынаючы 1917 годам, але й зь гісторыі змаганьня беларускага народу за сваю незалежнасьць у гістарычным аспэкце.*

*Чацьвертае — 8-ая Сэсія Рады БНР уважае, што беларускае супрацоўніцтва ў радыё «Вызваленьне» ў аснове сваёй карыснае нашай справе. 8-ая Сэсія ўважае аднак, што неабходна палепшыць зьмест беларускіх радыёперадачаў у кірунку інтэнсыўнае прапаганды нашых незалежніцкіх ідэяў, павялічыць час гэтых перадачаў, а што асабліва важнае, іхны засяг.*

*У галіне нутраной палітыкі —*

*8-ая Сэсія Рады БНР уважае за канечнае зьвярнуць большую ўвагу на нутраную кансалідацыю й арганізаванасьць вакол Рады БНР нашых грамадзкіх і палітычных арганізацыяў, стараючыся прыцягнуць іх да актыўнейшай дзейнасьці.*

Пасьля прыняцьця рэзалюцыі, сп. Прэзыдэнт паведаміў радных аб абмяркаваньні пляну дзейнасьці выканальных органаў Рады БНР на двох у міжчасе скліканых паседжаньнях Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР ды падзяліўся сваімі ўражаньнямі й вынікамі апошняга наведаньня Вашынгтону.

Пасьля жвавае вымены думак на розныя актуальныя тэмы, 8-ая Сэсія Рады БНР скончылася ўрачыстым адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

## ПАСЕДЖАНЬНІ ПРЭЗЫДЫЮМУ Й САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР

Першае паседжаньне новаабраных Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР адбылося 8-га сьнежня 1956 г. пры поўным складзе Прэзыдыюму й Сакратарыяту: Старшыня Рады БНР — інж. М. Абрамчык, першы заступнік — сп. А. Стагановіч, другі — сп. А. Адамовіч, сакратар нутраных справаў — сп. К. Мярляк, сакратар вонкавых сувязяў на ЗША — сп. М. Тулейка,

сакратар інфармацыі — сп. А. Шукелойць, скарбнік Рады БНР — сп. В. Кажан і сакратар Рады БНР — сп-ня Н. Арсеньнева (Кушаль).

На парадку дня першага паседжаньня стаялі бліжэйшыя заданьні Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР і розныя справы.

Перад прыступленьнем да парадку дня, сп. Прэзыдэнт Абрамчык схарактарызаваў у кароткіх словах сучаснае палітычнае палажэньне й амэрыканскую палітыку ў дачыненьні да ўсходу Эўропы.

Сп. Прэзыдэнт паведаміў таксама аб сваіх заплянаваных на найбліжэйшую будучыню кроках як у Вашынгтоне, гэтак і ў Эўропе, а пасьля перашоў да азначэньня абсягу дзейнасцьі Прэзыдыюму, Сакратарыяту й рэфэрэнтураў Рады БНР.

Сакратарыят нутраных справаў павінен найперш правесьці ўлік беларускае эміграцыі ў сьвеце, бо бяз гэтага цяжка наагул пачынаць працу.

Сакратарыят фінансаў — патрабуе рэарганізацыі, заладжаньня запазычанасьці сяброў Рады й ажыўленьня справы грамадзкага падатку.

Сакратарыят інфармацыі — павінен безадкладна пачаць зьбіраньне сусьветнае прэсы аб беларусах, а таксама ўзяцца за сыстэматычнае выдаваньне інфармацыйнага бюлетэню Рады БНР, дзе ў першым нумары павінна быць зьмешчанае рэзюмэ працы й пастановаў 8-ае Сэсіі Рады БНР[730].

Сакратарыят вонкавых сувязаў — будзе ім адно, на самой рэчы, у ЗША, бо галоўную працу навонкі будзе й надалей весьці сп. Прэзыдэнт. На месцы трэба будзе адно падтрымаць палітычныя кантакты з прадстаўніцтвамі іншых нацыянальнасьцяў ды трымаць сталую лучнасьць з Вашынгтонам.

Пасьля вымены думак ды прапановаў у справе беларускае прэсы, войстрае справы выданьня ў ангельскай мове добрае брашуры пра Беларусь, справы інфармаваньня чужынцаў ды інш., перайшлі да абмеркаваньня некаторых тэхнічных справаў. Было пастаноўлена наняць на ймя Рады БНР паштовую скрынку, куды-б ішла ўся карэспандэнцыя, адрысаваная Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР, а таксама заказаць урадавыя блянкі з Пагоняй, у беларускай і ангельскай мовах, асобныя для Прэзыдыюму й Сакратарыяту ды новыя пячаткі.

Другое паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР было склікана 16 сьнежня 1956 г.

На пачатку сп. Прэзыдэнт Абрамчык паінфармаваў аб выніках свайго падарожжа ў Вашынгтон, кантактаў, навязаных там і захадаў, зробленых у справе беларускіх перадачаў у радыё «Голас Амэрыкі».

Пасьля абмеркаваньня справаздачы сп. Прэзыдэнта аб выніках ягонага наведаньня Вашынгтону, пытаньняў ды адказаў на іх, была ўзьнятая справа

---

[730] Інфармацыя пра сесію Рады БНР сапраўды склала асноўны змест Бюлетэня Рады БНР (№ 1. Сакавік 1957).

амэрыканскіх выданьняў пра Беларусь, дзе шмат грубых памылак ды няправільных шкодных для нас інфармацыяў[731].

Сакратар інфармацыі запрапанаваў, каб празь Беларускі інстытут навукі й мастацтва спрабаваць атрымаць дазвол на выданьне гэткае інфармацыйнае кнігі пра Беларусь, напісанай самымі беларускімі навукоўцамі з розных галінаў веды.

Ён папрасіў таксама спрэцызаваць матэрыял, які мае быць зьмешчаны ў першым нумары Бюлетэню Рады.

Пасьля гэтага адбылося абмеркаваньне пытаньня прадстаўніцтваў Рады БНР, рэарганізацыі сэктароў Рады й цясьнейшае зь імі лучнасьці, а таксама абмеркаваньне сьпісу сяброў Рады.

Адказваючы на прапановы некаторых сяброў даручыць справу рэарганізацыі й перагляду сьпісу сяброў паасобным сэктарам Рады, сп. Прэзыдэнт зазначыў, што 7-ая й 8-ая сэсіі Рады пастанавілі правесьці рэарганізацыю Рады й аднаўленьне ейнага складу, даручаючы гэтую справу Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады, а не каму іншаму, чаму перадача яе паасобным сэктарам пярэчыць пастановам сэсіяў.

Пры пераглядзе асабовага складу Рады выявілася, што шмат сяброў Рады не бяруць ніякага ўдзелу ў працы сэсіяў, ня прыходзяць на паседжаньні сэктару ды ня плацяць сяброўскіх складак. У выніку гэтага сьцьверджаньня пастаноўлена выслаць гэткім пасіўным сябром лісты з запытаньнем, якія абставіны спрычыніліся да таго, што дадзены сябра неактыўны, як гэта было пастаноўлена ўжо 8-ай Сэсіяй на 3-ім ейным паседжаньні.

Пастаноўлена таксама паслаць лісты й да тых сяброў Рады, што выйшлі зь ейнага складу, асабліва да тых, чый выхад быў спрычынены хвальшывай, варожай інфармацыяй.

Трэйцяе паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР адбылося 12-га студзеня 1957 г. пры поўным складзе Ураду із Старшынём Рады інж. М. Абрамчыкам на чале.

На парадку дня 3-га паседжаньня былі справаздачы сп. Прэзыдэнта М. Абрамчыка аб ягоных апошніх дэмаршах на тэрэне Вашынгтону й Ню-Ёрку.

Сп. Прэзыдэнт расказаў аб сваім апошнім наведаньні старшыні Амэрыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму сп. Сарджанта[732], зь якім ён гутарыў на тэмы каардынацыі працы ў змаганьні з бальшавізмам.

---

[731] Праблема неабходнасці больш актыўна ўплываць на тое, што публікуецца пра беларусаў і Беларусь у ЗША, уздымалася на старонках газеты «Бацькаўшчына» яшчэ ў 1952 г. Гл.: Дунін, А. Аб патрэбе інфармацыі // Бацькаўшчына. № 42 (121). 19.10.1952. С. 6; № 43 (122). 26.10.1952. С. 2, 4; № 44 (123). 02.11.1952. С. 3; № 45–46 (124–125). 16.11.1952. С. 5.

[732] **Хоўланд Сарджант** (*Howland H. Sargeant,* 1911 — ?), амерыканскі палітычны дзеяч, у адміністрацыі Гары Трумана быў памочнікам дзяржсакратара па грамадскіх справах (1952–1953). У 1954 г. быў прызначаны на пасаду старшыні Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму.

У часе свайго апошняга наведаньня Вашынгтону, інфармаваў пасьлей сп. Прэзыдэнт, ён яшчэ раз атрымаў прырачэньне амэрыканскіх дзейнікаў дапамагчы ў справе атрыманьня намі передачаў у радыё «Голас Амэрыкі».

Другой справай, зьвязанай із падарожжам сп. Прэзыдэнта ў Вашынгтон, аб якой ён паінфармаваў Урад Рады БНР, была справа спробы наладзіць супрацоўніцтва Парыскага блёку з арганізацыяй «Кэйптыв Нэйшанз»[733], што задзіночвае палякаў, балтаў, чэхаў, вугорцаў ды інш. Ізь бясспрэчнай шкодай для ўсіх, дагэтуль гэткага супрацоўніцтва паміж усімі паняволенымі бальшавікамі народамі ня было.

Наапошку сп. Мярляк паведаміў аб фінансавых справах Рады, аб выдатках, зробленых у сувязі з арганізацыяй 8-ае Сэсіі Рады ды перадаў дакумэнты прыбыткаў і выдаткаў скарбніку Рады.

## ПРАТАКОЛ 9-АЙ СЭСІІ РАДЫ БНР АД 22 ТРАВЕНЯ 1960 Г.[734]

Сэсію адчыніў заступнік Старшыні Рады БНР А. Адамовіч, які перадаў слова сп. Прэзыдэнту Рады БНР інж. Міколу Абрамчыку. Сп. Прэзыдэнт прывітаў прысутных і гасьцей і зрабіў даклад на тэму: «Аб агульнай палітычнай сытуацыі, паложаньні ў Беларусі, працы выконных органаў Рады БНР і нашых заданьнях на будучыню».

Сп. Прэзыдэнт:

Інфармуючы аб палітычнай сытуацыі сп. Прэзыдэнт зазначыў, што ў сяньняшніх умовах беларуская вызвольная ідэя набірае вагі і штораз знаходзіцца больш зразуменьня і спагады сярод чужынцаў. Асабліва правал апошняе канфэрэнцыі «на ўзвышшы»[735] дае нам больш шансаў на тое, што нашая вызвольная справа зьбліжаецца да канкрэтнае разьвязкі. Ужо мінулі тыя часы, калі кожны мэмарыял БНР павінен быў быць абгрунтаваны гістарычным і геаграфічным аглядам, бо для чужынцаў словы «Беларусь» і «беларус» былі абсалютна чымсь нязнаным.

Прыйшоўшы да паложаньня ў Беларусі сп. Прэзыдэнт зазначыў, што паводле атрымоўваных усякімі дарогамі вестак, ідэя БНР пашыраецца і папулярызуецца сярод суродзічаў. Нпр. выданыя бальшавікамі брашуры і

---

[733] Складана вызначыць, якая менавіта арганізацыя тут маецца на ўвазе, бо афіцыйны Нацыянальны камітэт паняволеных народаў быў заснаваны ў Вашынгтоне толькі ў 1959 г.

[734] Публікуецца паводле копіі, якая захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане.

[735] Магчыма, маецца на ўвазе планаванае на сярэдзіну траўня 1960 г. спатканне Мікіты Хрушчова і Дуайта Эйзенхаўэра ў Вашынгтоне і пазнейшы візіт апошняга ў СССР. Ніводная з сустрэчаў не адбылася з-за таго, што 1 траўня 1960 г. над тэрыторыяй СССР быў збіты амерыканскі самалёт-шпіён і захоплены яго пілот Ф. Паўэрс. Інцыдэнт выклікаў пагаршэнне дачыненняў паміж СССР і ЗША.

апавяданьні, апаганьваючыя БНР, выклікалі зусім адваротны эфэкт, бо яны прыпомнілі нашым суродзічам, што Рада і Урад БНР жыве і дзейнічае.

Робячы агляд працы выконных органаў БНР сп. Прэзыдэнт зазначыў, што паміма ўсіх цяжкасьцяў, асягнуты пэўныя поступы і дасягненьні. Асабліва гэта даецца заўважыць у Лізе вызваленьня, дзе становішча беларусаў зьяўляецца вядучым, а нават пэўным аўтарытэтам для іншых народаў — сяброў Лігі. Асаблівым дасягненьнем Лігі, а тым самым нас, беларусаў, зьяўляецца ўтварэньне Каардынацыйнай камісіі для спаўпрацы з Амэр. Кам. Роля гэтае Камісіі ў будучыні спрычыніцца для выэлімінаваньня[736] дамінацыі Ам. Кам. у разьвязаньні прынцыповых пытаньняў.

У накрэсьленьні заданьняў на будучыню сп. Прэзыдэнт заявіў, што Урад БНР будзе і далей працаваць над папулярызацыяй нашай справы сярод чужынцаў і навязаньні новых кантактаў. У дачыненьні да Ам. Кам. мы не павінны дапусьціцца да сарваньня адносінаў, а павінны старацца ўзяць ад яго што будзе мажлівым. Ня трэба забывацца, што хоць і неафіцыяльна, але Ам. Кам. ёсьць афіцыяльным і кіраваным праз Дэпартамэнт стану.

Пасьля кароткіх дыскусіяў паседжаньне зачынена з пераносам да 12 чэрвеня 1960 г.

## Паседжаньне ад 12 чэрвеня 1960 г.

Паводле лісты адсутных (ліста зал.[737]) на Сэсіі было 29 радных. На прапанову сп. Прэзыдэнта Абрамчыка прыступлена да выбару старшыні і заступніка старшыні Сэсіі і двух сакратароў.

Большасьцю галасоў пры адкрытым галасаваньні былі выбраныя:

На старшыню Сэсіі — сп. А.Адамовіч,

Заступнік старшыні Сэсіі — сп. А. Стагановіч,

На сакратароў — сп. П. Кулеш і сп. В. Стома.

Старшыня Сэсіі сп. А. Адамовіч — прачытаў спісак упаўнаважаньняў, прысланых няпрысутнымі на Сэсіі сябрамі зь іншых сэктараў і падсэктараў, якія гэтымі ўпаўнаважаньнямі перадаюць свае галасы прысутным сябрам у колькасьці 14 галасоў.

Радны К. Мерляк — запярэчыў правамоцнасьці гэтых упаўнаважаньняў, у выніку дыскусіі пастаноўлена прагаласаваць наст. пытаньні:

1. Ці ў прынцыпе мы ўважаем, што мы можам перадаць галасы тым сябрам, каторыя могуць быць прысутнымі на паседжаньні Сэсіі?

2. Ці на гэты раз упаўнаважаньні прызнаць лягальнымі?

У выніку галасаваньня:

1-шы пункт за 17 супраць 1.

2-гі пункт за 16 супраць 2.

У далейшай дыскусіі выявіліся наступныя пытаньні:

1. Аказваецца, што ня ўсе падсэктары атрымалі паведамленьні аб Сэсіі.

---

736 **Выэлімінаванне** (ад польск. *wyeliminować*) — выключэнне, пазбаўленне.

737 Спіс не знойдзены.

2. Што рабіць з тымі, каторыя не павядомленыя?

Пастанова:

*Паслаць копіі пратаколу Чыкага, Дэтройту і Торонто, а апошнім толькі ў асабліва важных пытаньнях.*

Сп. А. Адамовіч — запрапанаваў прагаласаваць наступную прапанову: *Абмежаваць выдаваньне ўпаўнаважаньняў толькі далейшымі штатамі: у радыюсе не бліжэй 150 міль.* У выніку галасаваньня, за — 16, астальныя ўстрымаліся.

Сп. Б. Данілюк — запрапанаваў, што бліжэйшыя радныя ў выпадку непрысутнасьці з-за хваробы, могуць перадаць свае ўпаўнаважаньні, залучаючы лякарскую пасьведку.

У выніку галасаваньня: за 3, астальныя супраць.

Пастанова па пытаньнях упаўнаважаньняў:

*Прызнаць лягальнымі ўпаўнаважаньні прысланыя непрысутнымі раднымі і ў галасаваньні лічыць іх як адданых прысутным сябром.*

Старшыня Сэсіі запрапанаваў прыняць парадак дня Сэсіі. Перад устаноўленьнем парадку дня радны К. Мерляк запрапанаваў устанавіць стан радных, які выглядае наступна:

У часе 8-ай Сэсіі радных было 110.

У міжчасе памёрла: 5

Выбылі, альбо выключаны з Рады: 20.

Прынята новых радных: 27.

Стан радных на 9-ю Сэсію: 112.

У часе дыскусіі над станам радных выплыла пытаньне сяброўства др. В. Войтанкі.

Сп. А. Стагановіч — Бяручы пад увагу шкадлівую дзейнасьць др. В. Войтанкі, Рада павінна паважна задумацца над далейшым яго сяброўствам у Радзе. Як прыклад сп. А. Стагановіч падаў: прапанаваньне Асіпчыка[738] на гэнэральнага сакратара Жыровіцкага брацтва, ягоныя закіды, што газэта «Бацькаўшчына» зьяўляецца горшай за лістоўку «За вяртаньне на Радзіму»[739]

---

[738] **Аляксандр Асіпчык** (01.04.1909, Слонім Гарадзенскай губ. (сёння Гарадзенская вобл.) — 14.03.1990, Джэксан, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі і царкоўны дзеяч. У 1941–1944 гг. быў прыхільнікам беларусізацыі праваслаўнай царквы, удзельнік Беларускага царкоўнага сабора 1942 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку шчыльна супрацоўнічаў з беларускімі епіскапамі, а пасля пераходу іх у склад РЗПЦ (1946) стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае таварыства Жыровіцкай Божай Маці, што мела суполкі ў розных краінах. Пазней перабраўся ў ЗША. Выдаваў часопіс «Сіла веры» (1948–1965).

[739] Маецца на ўвазе газета аднайменнага мінскага камітэта **«За вяртанне на Радзіму»**, якая выходзіла ў 1955–1960 гг., а пасля была перайменаваная ў «Голас Радзімы».

і актыўны ўдзел д-ра В.Войтанкі ў арганізацыі «Звяз»[740], якая ёсьць варожай да ідэяў працы БНР.

У дыскусіі выясьнілася, што др. В. Войтанка заплаціў сяброўскія складкі зборшчыку Я. Азарку[741] толькі за 1958 і 1959 гг., нягледзячы на тое, што ён мае не аплочаныя складкі пачынаючы ад 1950 г.

Сп. Н. Арсеньнева — Справа сяброўства д-ра В. Войтанкі разглядалася на адным з паседжаньняў Прэзыдыюму, але яна ня мае пры сабе адноснага пратаколу.

Сп. К. Мерляк — Няхай падсэктар Саўт Рывэр — Ню Брансвік прышле свае прапановы адносна д-ра В. Войтанкі.

Сп. В. Стома — Ня ёсьць кампэтэнцыяй падсэктару Саўт Рывэр — Ню Брансвік разглядаць пытаньне сяброўства д-ра В. Войтанкі дзеля таго, што на адным з паседжаньняў гэтага-ж падсэктару быў прысутным і сп. К. Мерляк, які абяцаў гэтую справу разгледзяць на паседжаньні Прэзыдыюму. Аднак-жа сп. В. Стома лічыць дзейнасьць д-ра В. Войтанкі шкадлівай для ідэі і прынцыпаў БНР.

Сп. Шукелайць — На апошняй 8-ай Сэсіі др. В. Войтанка ня фігураваў на лісьце радных і таму ўважае, што і на сёньня ён ня ёсьць сябрам Рады БНР.

Сп. Прэзыдэнт — Прапаную сэктару Рады разгледзець справу др. В. Войтанкі.

Гэтую справу пастаноўлена адлажыць да наступнага паседжаньня, калі сакратар Прэзыдыюму сп. Н. Арсеньнева прадставіць адносны пратакол Прэзыдыюму.

Паводле прысланых упаўнаважаньняў наступныя радныя маюць дадатковыя галасы:

Сп. Адамовіч — 1 голас.
Сп. Кажан — 1 голас.
Сп. Кушаль — 1 голас.
Сп. Мерляк — 4 галасы.
Сп. Тумаш — 1 голас.

---

[740] Магчыма, маецца на ўвазе створаная ў 1958 г. у Нью-Ёрку арганізацыя **Беларуска-амерыканскі звяз**, у склад кіраўніцтва якой увайшлі былыя радныя БНР Янка Станкевіч і Леанід Галяк, а таксама былы старшыня Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі Мікола Шчорс і дзяячка таго ж камітэта Лангіна Брылеўская. Арганізацыя выступала супраць палітычнага падзелу беларускай эміграцыі.

[741] **Янка Азарка** (15.11.1922, в. Гайдакоўцы Баранавіцкага пав. Наваградскага ваяв. (сёння Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл.) — 09.04.2005, Сомерсэт, Нью-Джэрсі), грамадскі дзеяч. У 1941–1943 гг. вучыўся ў Баранавічах, пасля быў мабілізаваны ў беларускі ахоўны батальён. Ад 1944 г. — у Нямеччыне, пазней у Францыі, дзе ў 1945 г. у складзе беларускіх вайсковых фармаванняў здаўся амерыканцам. Працаваў пры амерыканскай арміі генерала Эйзенхаўэра. У 1947 г. пераехаў у беларускі лагер *DP* у Міхельсдорфе, дзе працаваў у лагернай ахове. У 1949 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі). Сябра БАЗА.

Сп. Набагез — 1 голас.
Сп. Арсеньнева — 2 галасы.
Сп. Шчэцька — 2 галасы.
Сп. Запруднік — 1 голас.
Разам 14 галасоў.

У дадатку да сваёй справаздачы ад 22.5.60 г. сп. Прэзыдэнт дадаў яшчэ некалькі фактаў выключна для ведама радных. У справаздачным пэрыядзе яму ўдалося навязаць некалькі вельмі важных кантактаў як напрыклад з Жыдоўскай лігай барацьбы з камунізмам[742], кардыналам Спэльманам[743]. У далейшым ідэалягічнай базай супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам зьяўляецца Дэклярацыя Прэзыдэнта і Кангрэсу ЗША ў справе паняволеных народаў[744], а ў адміністрацыйных справах Лігі вызваленьня. Кампэтэнтнымі чыньнікамі ёсьць кіраўнікі паасобных аддзелаў Камітэту з аднэй стараны і прадстаўнікі паасобных нацыянальнасьцяў Лігі з другой.

Сп. Прэзыдэнт у часе аб’езду беларускіх асяродкаў у Амэрыцы і Канадзе сьцьвердзіў наступнае:

Дзейнасьць беларускай эміграцыі стаіць на высокім узроўні паколькі на гэта дазваляюць лякальныя і палітычныя ўмовы. Напрыклад, Клівэлэнд і Нью Ёрк праяўляюць актыўнасьць у арганізаваньні царкоўнага і нацыянальнага жыцьця.

У некаторых асяродках, як, напрыклад, Чыкага зьяўляюцца разьбежнасьці на груньце рэлігіі (правасл. і рым. катал. цэрквы[745]), але гэта ў цэласьці не перашкаджае нацыянальнай працы.

Пэўная-ж хоць і нязначная частка беларускай эміграцыі стараецца перашкаджаць у працы БНР. Цікавы факт, што яны абасноўваюцца на ідэалягічнай базе адкіненьня ўсялякага аўтарытэту БНР, а нават і БЦР.

Справаздача сакратара нутраных справаў (залучаецца да пратаколу[746]).

---

742 Маецца на ўвазе **Амерыканская габрэйская ліга супраць камунізму** (*American Jewish League Against Communism*) заснаваная ў 1947 г. Бенджамінам Шульцам.

743 **Фрэнсіс Спэлман** (*Francis Joseph Spellman,* 1889–1967), амерыканскі рэлігійны дзеяч, каталік, кардынал, у 1939–1967 гг. — нью-ёркскі арцыбіскуп.

744 Маецца на ўвазе прыняты Кангрэсам ЗША 22 чэрвеня 1959 г. **«Закон 86–90»**, згодна з якім Прэзідэнт ЗША Дуайт Эйзенхаўэр уласнай дэкларацыяй 17 ліпеня 1959 г. абвяшчаў трэці тыдзень ліпеня «Тыднем паняволеных народаў». У лік 22 паняволеных народаў былі ўключаныя і беларусы.

745 У Чыкага была даволі вялікая колькасць беларускіх каталіцкіх сем’яў, аднак адмысловую парафію заснаваць не ўдалося. Затое ў 1955 г. тут была арганізавана беларуская каталіцкая парафія Хрыста Збаўцы ўсходняга абраду пад кіраўніцтвам а. Яна Хрызастома Тарасевіча (1892–1986). У 1958 г. у Чыкага была заснавана таксама беларуская праваслаўная парафія Святога Юр’я ў юрысдыкцыі Сусветнага патрыярхату.

746 Дакумент не знойдзены.

У канцы сваёй справаздачы сакратар нутраных справаў сп. К. Мерляк зазначыў, што ён нічога не пераняў ад папярэдняга сакратарыяту.

Паколькі сьвяткаваньне Угодкаў 25-га Сакавіка не арганізавала Прэз. Рады БНР, усю ініцыятыву на сябе пераняла БАЗА, якога старшынёй зьяўляецца сп. Мерляк. Далей у сваёй справаздачы сп. Мерляк прапануе больш цеснае супрацоўніцтва сакратарыяту нутраных справаў з падсэктарамі ў Амэрыцы і ў замежжы.

Скарбнік Касы БНР сп. В. Кажан дамагаецца перад ягонай справаздачай правядзеньня рэвізіі касы БНР. Дзеля гэтага ягоная справаздача адкладаецца да наступнага паседжаньня сэсіі.

Дыскусіі:

Сп. Шчэцька — Чаму паўдзённыя славяне ар’ентуюцца на Расею, а мы на Нямеччыну, нягледзячы на тое, што ў апошняй вайне Нямеччына як падпальшчык яе.

Сп. Протас — Чаму Ўрад сэктару Рады БНР не падгатаваў справаздачаў?

Сп. Даніловіч — Ці перадачы радыя «Свабода» перадаюцца толькі на Беларусь, ці і на ўсю Ўсходнюю Эўропу?

Сп. Я. Ніхаёнак — Ці БНК у Нямеччыне зьяўляецца толькі фікцыяй г.зв. на паперы, — ці ён праяўляе якую дзейнасьць?

Сп. Прэзыдэнт — Раднаму Шчэцька сп. Прэзыдэнт сказаў, што на супрацоўніцтва зь Нямеччынай мы глядзім, як зь вялікімі дзяржавамі. Немцы сёньня выплываюць на міжнародную арэну як вядучая дзяржава і таму спаўпраца зь імі дае нам пэрспэктывы палітычнай, а можа нават і матэрыяльнай падтрымкі.

Адказ сп. Протасу: Таму што Сэсія Рады БНР пачалася ў непрадбачаным часе, з прычыны тэй што Прэзыдэнт Рады быў заняты навязаньнем кантакту з Вашынгтонам і іншымі.

Адказ сп. Даніловічу: перадачы радыя «Свабода» перадаюцца выключна на Беларусь з прычыны інтэнсіўнага глушэньня іх праз бальшавікоў, а таму ў іншых частках Савецкага Саюзу іх ня чуваць. Сьцьверджана, што беларускія і ўкраінскія радыёперадачы глушацца больш інтэнсіўна, чымся расейскія.

Адказ сп. Клінцэвічу: *Праз Нацыянальны камітэт у Нямеччыне я нічога не магу сказаць, бо ўсе мерапрыемствы, якія праводзіліся ў Нямеччыне, праводзіліся ад імя БНР, а не ад БНК.*

У заключэньні сп. Прэзыдэнт дадаў: ясна, што мы ня можам устанавіць дыпляматычных зносінаў зь якой-бы то ня было краінай, — у гэтым выпадку зь Нямеччынай, каб пасьля вымагаць выкананьня ўмоў. Нашай мэтай зьяўляецца прапагаваньне нашых вызвольных ідэяў, азнаямленьне з нашымі магчымасьцямі і нашымі праблемамі. Я магу назваць каля 50 асобаў, зь якімі я навязаў цесныя кантакты ў Вашынгтоне. На выпадак вайны трэба заўсёды мець прыхільнікаў, але ніколі ня можна вымагаць чагосьці афіцыяльнага, бо ніхто нас афіцыяльна ня прызнае. Адзінай нашай мэтай ёсьць здабываньне сымпатыяў.

Сп. Кендыш:

*Справаздача сп. Кендыша — сакратара Польска-беларускіх дычыненьняў*

Рада БНР павінна быць такой самай інстытуцыяй, як і парлямант — дзяржаўны орган. Нашыя матэрыяльныя абставіны не складаюцца так добра, каб мы маглі мець платных працаўнікоў, а ў тым ліку і Прэзыдэнта.

Напрамак працы сп. Прэзыдэнта ёсьць зусім правільны, — напрыклад — закулiснае шуканьне кантактаў з дзеячамі іншых дзяржаваў. Адносна палітыкі што да ЗША, Рада БНР працуе ў добрым напрамку, выдаючы брашуры ў ангельскай мове, якія інфармуюць палітычных дзеячоў і паасобных грамадзян аб нашай палітычнай і вызвольнай дзейнасьці.

Спаўпраца з Амэрыканскім камітэтам разьвязвае некаторыя нашы праблемы ў змаганьні за незалежнасьць.

Палітычны кантакт зь Нямеччынай павінен быць больш шырэйшы дзеля навязаньня цясьнейшага палітычнага супрацоўніцтва.

Адносна Польшчы, пажаданым ёсьць, каб па лініі Лігі вызваленьня мець сваіх палітычных прадстаўнікоў для навязаньня кантактаў з польскай палітычнай эміграцыяй.

Сп. Ул. Русак — Зусім правільна, што Урад БНР зьвярнуў найбольшую ўвагу на спраўпрацу з Амэрыканскім камітэтам. Справа толькі ў тым, ці мы зможам прытарнавацца да амэрыканскай палітыкі? Як прыклад падам гэн. Дэ Голя[747], які будучы главой дзяржавы не зразумеў амэрык. палітыкі і на тым страціў[748]. Апрача гэтага трэба ўсімі сіламі старацца навязаць кантакты з Францыяй і Ангельшчынай. Адносіны зь Нямеччынай павінны быць асьцярожнымі таму, што апошняя можа дамагацца звароту страчаных земляў і таму можа падтрымоўваць польскія дамаганьні на нашыя землі, каб даць палякам адпаведную кампэнсату. Таксама ёсьць вельмі важным кантакт з Жыдоўскай лігай вызваленьня.

Сп. Я. Запруднік — Радны Кендыш і іншыя павінны даваць канкрэтныя прапановы.

Выдаваньне Бюлетэняў Рады БНР павінна сыстэматычна інфармаваць суседзяў аб працы БНР.

Супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам ёсьць важным дзеля таго, што гэта ёсьць спроба амэрыканцаў выкарыстаць эміграцыйныя сілы на барацьбу супроць камунізму.

Сп. Ул. Набагез — Сэсіі неабходна зьвярнуць увагу на працу сп. Прэзыдэнта, бо паводле заўвагаў раднага Мерляка, кожная праваджаная праца павінна быць зафіксаванай на паперы, але ёсьць іншыя дзялянкі працы, якія ня могуць зафіксаваныя ні ў якіх дакумэнтаў. Да гэтае дзялянкі працы належыць самаадданая праца сп. Прэзыдэнта, за што яму належыцца асаблівая падзяка.

---

747 **Шарль дэ Голь** (*Charles André Joseph Marie de Gaulle,* 1890–1970), французскі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, Прэзідэнт Францыі ў 1959–1969 гг.

748 Магчыма, маюцца на ўвазе падзеі лютага 1959 г., калі Францыя адклікала свой міжземнаморскі флот з-пад камандавання *NATO* і пазней забараніла размяшчэнне на сваёй тэрыторыі замежнай ядзернай зброі. Гэта выклікала пагаршэнне адносінаў з ЗША.

Мы ня можам вымагаць нармальных дачыненьняў з чужынцамі, бо ўся ўвага моцных гэтага сьвету зьвернутая на блёкі, а не паасобныя нават і дзяржаўныя краіны.

Для вядзеньня нармальнае працы ёсьць патрэбным мець хоць аднаго платнага працаўніка, але гэта перавышае нашыя фінансавыя магчымасьці.

Мы мусім ганарыцца, што сп. Прэзыдэнт ёсьць адным з тварцоў Парыжскага блёку і бязьзменным ягоным старшынёй.

Крытыкаваць працу іншых мы можам усе, але мы павінны аглянуцца і на тое, што мы самі зрабілі ў міжчасе.

Супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам трэба праводзіць у меру нашых магчымасьцяў, не зражаючыся непаводжаньнямі.

Сп. Адамовіч — Дачыненьні беларусаў да ўкраінцаў ёсьць даволі няяснымі.

Моўна мы зь імі зьвязаныя, аднак жа палітычная спаўпраца ў імі не заўсёды была ўдалай

Гісторыя даказала, што ніколі з украінцамі не было спаўпрацы, за выняткам хіба тых украінцаў, якія былі пад час акупацыяў. Украінцы ўважаюць, што ў палітычнай працы мы павінны ўзаравацца выключна на іх.

У характары беларускага і ўкраінскага народаў ёсьць вялікая розьніца. Калі беларусы ніколі ня былі захопнікамі і імпэрыялістамі, то ўкраінцы імі былі і ёсьць. Гэта асабліва яскрава праяўляецца якраз цяпер, калі ўкраінцы стараюцца захапіць уладу нават у савецкай Расеі[749].

Пагляды і палітычныя пасуненьні Дабранскага і іншых, што камунізм і расейскі народ гэта адно і тое ж зусім не адлюстроўвае поглядаў нас беларусаў.

Дачыненьні БНР да ўкраінскае палітыкі павінны быць абмежаванымі, а патрэбай ёсьць весьці сваю добрую для беларусаў палітыку.

Нашыя адлегласьці ў характары і ў палітыцы павінны быць такімі-ж да ўкраінцаў, як і да расейцаў.

Сп. Прэзыдэнт — Рэзалюцыя Дабранскага[750] падняла на ногі расейскую эміграцыю, паколькі ў ёй (рэзалюцыі) не сказана, што расейскі народ нараўні з іншымі народамі СССР ёсьць паняволеным. Пагляды ўкраінцаў, каб усе нацыянальнасьці парвалі суадносіны з Амэрыканскім камітэтам, ёсьць для нашай вонкавай палітыкі шкадлівымі.

Сп. В. Русак — Мы ніколі не павінны спадзявацца, што Амэрыка стане на шлях антырасейскай прапаганды. Калі нават яе палітыка будзе палітычнага распадзелу расейскай імпэрыі, гэта ніколі ясна ня будзе выяўлена.

---

749 Магчыма, маецца на ўвазе прызначэнне ў 1960 г. нараджэнца Украіны Леаніда Брэжнева (1906–1982) на пасаду Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

750 Старшыня Украінскага кангрэсавага камітэта Леў Дабранскі быў аўтарам тэксту рэзалюцыі адносна паняволеных народаў, якая ўвайшла ў закон 86–90 ад 22 чэрвеня 1959 г. У дакуменце ў ліку паняволеных народаў сапраўды не згадваліся рускія.

*Справаздача скарбніка БНР В. Кажана*

Дыскусіі над справаздачай:

Сп. Ул. Русак — Што азначае фонд беларуска-польскіх дачыненьняў?

Сп. В. Кажан — Вырасхадавана праз сакратарыят беларуска-польскіх дачыненьяў на пранумарату польскіх часапісаў, газэтаў і на карэспандэнцыю.

Сп. Кунцэвіч — Я хачу ведаць адносна фонду бел. прадст. у Вашынгтоне. Ці сп. Прэзыдэнт канчаткова вырашыў пераехаць у Вашынгтон? Ці праводзяцца зборкі грошаў на гэты фонд?

Сп. Прэзыдэнт — Я вырашыў астацца ў Эўропе таму, што мая дзейнасьць у Эўропе ёсьць больш патрэбнай.

Сп. К. Мерляк — Ці ёсьць якая справаздача фінансавая з беларускай сэкцыі мадрыцкага радыя?

Сп. В. Кажан — Адказ на гэтае пытаньне ёсьць у фінансавай справаздачы.

Сп. К. Мерляк — Апрача фінансавай справаздачы я хачу ведаць, ці паступілі якія справаздачы аб праграмах беларускай сэкцыі мадрыцкага радыя?

Сп. В. Кажан — Сп. Сурвіла[751] пісаў, што матэрыяльнае становішча працаўнікоў радыя ёсьць жахлівае.

Сп. Прэзыдэнт — Заўважваецца ненармальныя суадносіны паміж Урадам і сэктарамі. Бяручы пад увагу ўсю важнасьць гэтай працы, якую пачалі амаль саматугам студэнты ў Мадрыдзе, яны заслугоўваюць на найшырэйшую падтрымку. Калі іншыя маюць фінансавыя магчымасьці на нармальную [працу], — нашыя працаўнікі працуюць у цесным прыватным пакойчыку. Сп. Сурвілу я асабіста змусіў, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, прадаўжаць працу. Каб аплаціць найбольш неабходныя выдаткі, я быў змушаны пазычыць у сяброў радных суму $800. Уважаю, што штодзённыя 15-хвілінныя радыёвыя перадачы ёсьць вельмі важныя для нашае вызвольнае справы. Тым больш, зьмест гэтых праграмаў нікім не кантралюецца, як гэта робіцца ў радыё «Свабода»[752]. Зьмест гэтых праграмаў ёсьць зусім задавальняючы і ёсьць пэўныя весткі, што яны слухаюцца нашымі суродзічамі.

У будучыні я пастараюся наладзіць справу, каб справаздачы аб радыёвых перадачах перасылаліся ў Прэзыдыюм Рады.

Сп. В. Кажан — Перадачы мадрыцкага радыя ў некаторых выпадках зусім здавальняюча чуваць тут у ЗША.

---

751 **Янка Сурвіла** (20.06.1925, в. Бялевічы Ашмянскага пав. Віленскага ваяв. (сёння Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.) — 03.06.1997, Канада), грамадскі дзеяч. У 1943–1944 гг. працаваў у Беларускім камітэце самапомачы ў Берліне. У 1951 г. пераехаў у Іспанію, дзе скончыў факультэт палітычных і эканамічных навук Мадрыдскага ўніверсітэта (1956). У 1958 г. заснаваў беларускую рэдакцыю Нацыянальнага іспанскага радыё, перадачы на якой вяліся да 1965 г.

752 У радыё «Свабода» беларуская рэдакцыя, як і іншыя, падначальвалася амерыканскаму кіраўніцтву, якое пільна сачыла за зместам праграмаў і ажыццяўляла іх жорсткую цэнзуру, не дапускала антырасійскіх выказванняў, на што сталі зважаць беларускія дзеячы амаль ад самага пачатку працы рэдакцыі.

*Справаздача Сакратара Прэзыдыюму сп. К. Мерляка* (далучаецца да пратаколу[753])

Сп. Я. Запруднік — Пратаколы сэсіяў засталіся ў архівах і таму што справаздача Сакратара К. Мерляка ёсьць некарэктнай, яе трэба выправіць.

Двузначныя выражэньні ёсьць зусім непатрэбнымі ў справаздачы.

Сп. К. Мерляк — У амэрыканскім войску выкладаюцца замежныя мовы. Чаму сярод іх няма беларускай мовы?

Далей я сьцьвярджаю, што на адрэзку ад 6-ай да 7-ай Сэсіі Урад БНР ня існаваў.

Сп. Ф. Кушаль — Я ня прыпамінаю сабе таго факту, каб Урад БНР ня існаваў на пэўным адрэзку часу.

Сп. Прэзыдэнт — Урад БНР існаваў, хоць праходзіў пэўны крызіс. Прыкладам, скарбнік В. Кажан бясперапынку выконваў свае функцыі.

*Справаздача сакратара беларуска-польскіх дачыненьняў*

Тры гады таму мне былі даручаныя беларуска-польскія дачыненьні. Дзеля гэтага я студыяваў польскую эміграцыйную прэсу як: «Амэрыка Эхо»[754], «Дзеньнік для вшысткіх»[755] і «Новы Сьвят»[756].

Я вынес уражаньне, што ўсе польскія палітычныя групоўкі згаджаюцца толькі ў адным, — не дапусьціць нас да незалежнасьці.

Для нас найбольш прыхільнай была-б групоўка Мікалайчыка, якая ставілася да нас найменш варожа.

Польская партызанка і АКА[757] сыстэматычна вынішчала беларускі актыў.

Людзі, якія сяньня пішуць, альбо атрымоўваюць лісты з БССР, разглядаюцца як ворагі Польшчы.

Справа нашага ўваходу ў Блёк паняволеных народаў[758] была-б пазытыўным культурнае зьбліжэньне, таму што шмат нашых людзей знаходзіцца ў польскім асяродзьдзі.

Польская статыстыка падае лік беларусаў у Польшчы ў колькасьці 100 — 120 тысячаў, — калі-ж у сапраўднасьці іх ёсьць каля 2-х мільёнаў.

Сп. Гладкі — Я выпадкова спаткаўся з польскім публіцыстым. Ягоная думка, у прышласьці «Крэсы» павінны быць зьвернутыя Польшчы.

---

[753] Дакумент не знойдзены.

[754] ***«Ameryka-Echo»*** — польскі тыднёвік, які выходзіў у 1902–1971 гг. спачатку ў Таледа (Агая), а потым (ад 1961 г.) у Чыкага (Ілінойс).

[755] ***«Dziennik dla wszystkich»*** — польская штодзённая газета, што выходзіла ў Бафала (Нью-Ёрк) у 1907–1957 гг.

[756] ***«Nowy Świat»*** — польская штодзённая газета, якая выдавалася ў Нью-Ёрку недзе ад 1919 г.

[757] Маецца на ўвазе польская **Армія Краёва (АК)**, антыфашысцкія і антысавецкія падпольныя ўзброеныя фармаванні часоў Другой сусветнай вайны.

[758] Магчыма, маецца на ўвазе заснаваны пасля прыняцця ў 1959 г. рэзалюцыі аб паняволеных народах у Вашынгтоне Нацыянальны камітэт паняволеных народаў на чале з Львом Дабранскім.

Сп. К. Мерляк — Мы маем тры пытаньні, а разглядаем зусім пабочныя справы:

1. Выдаваньне бюлетэню ў ангельскай мове. У грамадзка-палітычным жыцьці перадусім павінна быць зарганізаванасьць і здысцыплінаванасьць, а ў дадатку патрэбная дакладная інфармацыя.

2. Палітычныя справы: Некаторыя радныя выказваюць пагляды, што спаўпраца з Амэрыканскім камітэтам ёсьць неабходнай, але, на мой погляд, ня трэба зь імі ісьці (Ам. Кам.) у кожным выпадку пагаджацца толькі таму, што Амэр. Кам. некатарыя дзялянкі працы фінансуе.

3. Трэба ясна даказаць Амэр. Кам., што расейскі імпэрыялізм і камунізм на раўні ёсьць шкадлівым для беларускага вызвольнага руху.

Сп. Ф. Кушаль — Я не магу пагадзіцца з тым, што імпэрыялізм ёсьць шкадлівы для Расеі, бо па сёньняшні дзень гэты імпэрыялізм расейцамі праводзіцца.

Сп. К. Мерляк — Стаяць на платформе 25-га Сакавіка — гэта яшчэ ня доказ ідэйнага дзеяньня ў нашай палітыцы, бо, на мой погляд, мы часткова з гэтай плятформы сыйшлі.

Сп. Прэзыдэнт — Цьверджаньне сп. Мерляка, што мы адыйшлі ад ідэі 25-га Сакавіка — ёсьць непраўдзівае. Вы кажаце, сп. Мерляк, што палітыка Парыжскага блёку і маё дзеяньне, гэта была і ёсьць палітыка «прыстасаваньня». Мы ніколі не пагаджаліся і не пагаджаемся з Амэрыканскім камітэтам адносна палітыкі вялікай Расеі. Кожныя магчымасьці спаўпрацы з Амэрыканскім камітэтам мы стараемся выкарыстаць для нашай вызвольнай барацьбы за незалежнасьць Беларусі.

Сп. Я. Запруднік — Амэрыканскі камітэт, гэта спроба Дэпартамэнту Штатаў выкарыстаць сілы эміграцыі ў змаганьні супраць камунізму, а таксама памірыць антаганізмы паміж расейскімі і нерасейскімі народамі. Ніколі няможна выкарыстаць больш Амэрыканскі камітэт на колькі магчымасьці пазваляюць.

Сп. К. Мерляк — Хоць з нас ніхто ня ёсьць украінафілам, але ўважаю, што рэзалюцыя Украінскага кангрэсовага камітэту ня была для нас шкоднай. Мы не павінны прыстасоўваць нашай вонкавай палітыкі да палітыкі ўкраінцаў, але рэзалюцыю Украінскага кангрэсовага камітэту трэба падтрымаць, нягледзячы на тое, ці гэта падабаецца Амэрыканскаму камітэту.

Сп. Адамовіч — Падсэктары Чыкаго і Аўстралія жадаюць разгледзець справы рэлігійныя і суадносіны духавенства да БНР.

Сп. Ул. Русак — Не чапаць рэлігіі, а толькі маліцца.

Сп. Ф. Кушаль — Аставіць справы рэлігійныя царкоўным дзеячам.

Сп. Гарошка — Разгледзіць абавязкова суадносіны духавенства да БНР.

Сп. А. Стагановіч — Суадносіны з духавенствам трэба абавязкова разгледзіць, але толькі ў прысутнасьці архіяпіскапа Васіля.

## Паседжаньне ад 19-га чэрвеня 1960 г.

*Фінансавая справаздача Скарбніка БНР В. Кажана* (далучаецца да пратаколу).

*Справаздача сакратара Ураду БНР Натальлі Арсеньневай* (далучаецца да пратаколу[759]).

Сп. К. Мерляк — «Трыкі» Матэрыялы аб збройным змаганьні на Беларусі чамусьці ня ведамыя, бо аб іх ня выпадае гаварыць.

У Каліфорніі ёсьць вайсковая амэрыканская школа, у якой выкладаюцца замежныя мовы, аднак нашыя стараньні, каб увесьці і беларускую мову, — засталіся бяз вынікаў.

Сп. Гарошка — Як відаць са справаздачы сакратара Прэзыдыюму БНР, адбылося 22 паседжаньні Прэзыдыюму. Нам радным нічога ня ведама аб гэтых паседжаньнях, ані аб тым, што там і аб чым гаварылася. Абавязкава трэба выдаваць інфармацыйны бюлетэнь БНР, каб была сувязь радных з Урадам БНР.

Сп. В. Кажан — Для нармальнай працы Рады, а галоўнае скарбніка, — бюлетэнь ёсьць неабходным.

Сп. В. Русак — Чаму ў Нямеччыне няма нацыянальнай беларускай арганізацыі?

Сп. Прэзыдэнт — Ёсьць Беларускі нацыянальны камітэт.

Сп. В. Русак — Галоўным недахопам нашых грамадзкіх і палітычных арганізацыяў ёсьць тое, што з некаторымі зь іх мы ня маем ніякай лучнасьці, вынікам гэтага, што нават можна лічыць віной некаторых грамадзкіх дзеячоў, было высьвячэньне другога япіскапа[760].

Сп. П. Кулеш — Паасобныя асяродкі і іх недамаганьні: Я закрану сваю лякальную справу, г. зн. аддзел БАЗА Саўт-Рывэр — Ню Брансвік. Да гэтага часу ён быў адным наймацнейшым аддзелам. Прычынай ягонага развалу я лічу ўмяшаньне ў нашыя лякальныя справы старшыні Галоўнай управы БАЗА ў асобе сп. К. Мерляка. Не разглядаючы аб’ектыўна справаў, ён даваў дырэктывы «не давацца». Можа-б сп. Мерляк выясьніў прычыны ягоных паводзінаў.

Сп. К. Мерляк — Робляныя мне закіды ня ёсьць праўдзівымі, бо я ў той час ня быў Старшынёй БАЗА, аднак я заўсёды лічыў і лічу, што набыцьцё

---

[759] Дакумент не знойдзены.

[760] Маецца на ўвазе пасвячэнне ў Чыкага ў 1958 г. на епіскапа Уладзіміра Фінькоўскага, які заснаваў так званую БАПЦ-2, падпарадкаваную ўкраінскаму епіскапу Грыгорыю (Агійчуку). Апошні быў у 1947 г. выключаны са складу Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і быў праціўнікам мітрапаліта Палікарпа (Сікорскага), які ў 1948 г. багаслаўляўаднаўленчы сабор БАПЦ-1 (Тамашчыка — Ахатэнкі). Такім чынам, пры канцы 1950-х гг. у БАПЦ паўстаў раскол, у выніку якога Фінькоўскі быў адхілены ад пасады святара ў Чыкага і выдалены ў Францыю.

грамадзкай маёмасьці ёсьць справай дадатняй і заўсёды яе падтрымоўваў і буду падтрымоўваць[761].

Сп. В. Стома — Тое, што сказаў сп. Кулеш ёсьць праўдай, бо магільнік ёсьць завялікі для нас і задарагі[762] і на пэўны час купля магільніку замарозіла арганізацыйную працу ў нашым асяродку.

Сп. А. Стагановіч — Забіраючы голас, я ня маю на думцы каго-небудзь абразіць, ці як кажуць шпількі каму заганяць. Хачу коратка сказаць на несправядлівыя выказваньні некаторых сяброў радных.

Калі-б чужынец быў прысутны на нашых сэсіях, ён падумаў-бы, што гэтая асоба, каторую мянуюць Прэзыдэнтам, напэўна, добра платная. Некаторыя сябры вымагаюць ад Прэзыдэнта нават таго, чаго не зрабілі-бы самы. Больш таго, Сп. Прэзыдэнту ставіцца ў віну, нават тое, што зрабілі другія сябры, — прыкладам сп. Мерляк абвінавачвае Сп. Прэзыдэнта, што сп. Стома ў Саўт Рывэры запрапанаваў сабраць грошы на мадрыцкае радыё. Калі-ж сабіралі тыя, каторыя шкалююць Сп. Прэзыдэнта і БАПЦ, сп. Мерляк ні слоўка не сказаў супраць, бо гэтая асоба хваліць сп. Мерляка і наадварот. На мінулым Пленуме Сп. Прэзыдэнт інфармаваў аб сваёй паездцы па беларускіх асяродках у Канадзе і Амэрыцы і сказаў, што амаль усюды заўважыў пасіўнасьць сярод нашай палітычнай эміграцыі. Сп. Прэзыдэнт вельмі добра разумея гэтую пасіўнасьць, але сп. Прэзыдэнт, як такому, нельга было яе ахарактарызаваць. Вось-жа зложаная прысяга радным забавязвае кожнага сумленна служыць БНРэспубліцы і поўнасьцю яе не нарушаць, хоць бы гэта каштавала жыцьця. Аднак на вялікую шкоду БНР шматлікія радныя нарушалі і нарушаюць данае слова прысягі, бо замест, каб паміж сяброў радных парадзіцца ў кожнай нават малой справе, робяць як каму хочацца. Такія суадносіны некаторых радных выкарыстоўвае зьвяз-зарубежніцкая дывэрсія, якую ўзначаліў агент Масквы — Хмара. Гавару гэта адкрыта і пісаў некалькі разоў з мэтаю змусіць яго выклікаць мяне ў суд, аднак ён захітры, каб пайсьці на гэты шлях. Зачастую мы не зьвяртаем увагі на малыя справы, але з малых паўстаюць вялікія непаразуменьні і зачастую заняпад дзейнасьці ўсяе грамады. Я далёкі, каб рабіць закід некаторым сябрам у сьведамай дывэрсіі, але трэба падзіўляцца, што яны ня могуць бачыць, што іхнюю дзейнасьць выкарыстоўвае дывэрсія. На доказ сказанага я прывяду некалькі фактаў. З купляй царквы адразу паўстала непаразуменьне паміж сп. Мерляком і некаторымі раднымі Ню Ёрку[763]. Каб сп. Мерляк ня

---

[761] Дзякуючы ініцыятыве і актыўнасці Канстанціна Мерляка ў кастрычніку 1957 г. у Брукліне (Нью-Ёрк) быў набыты будынак для прыхода Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ і грамадскіх патрэбаў.

[762] Маюцца на ўвазе могілкі парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі), месца пад якія было набыта ў 1959 г. Аляксандр Стагановіч быў паслядоўным праціўнікам набыцця могільніку.

[763] Непаразуменні былі звязаныя з сумай, якую атрымаў за дапамогу ў набыцці будынку для царквы ў Брукліне амерыканскі кангрэсмэн Дорн. (Гл.: Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1992. С. 148–152.

быў амбітны, а палітык, ён ўмыў бы рукі і адыйшоў ад гэтае справы, але сваёю амбітнасьцю і зачастую «валі з пляча» давяла да парозьненьня ў Ню Ёрскім асяродзьдзі. Мала гэтага, Хмараўская дывэрсія, на чале якой тут у Ню Ёрку стаяць Шчорс — Станкевіч і інш. пачалі пашаптваць сп. Мерляку: — ня ўступай, каб ня ты, то царква ня была-бы куплена. Другой палавіне пашаптвалі зусім іншае: — Глядзеце, не Мерляка зацея, а М. Абрамчыка і ўсяго Ураду, які ў бальшыні складаецца з каталікоў[764]. На ўсё гэта ня трэба закрываць вачэй, хто хацеў пазіраць, бачыў і чуў, што як у адсутнасьці сп. Прэзыдэнта на ўрачыстых багаслужбах не ўспаміналася імя Прэзыдэнта і Ураду. Мала гэтага, чутны галасы аддзяліцца БАПЦ ад БНР. Таксама чулі, што царква ня можа служыць дзьвём плыням, гэтым самым, дзяржаўную ўстанову, якою ёсьць БНР, пачалі называць плыньню. У выказваньні радны ня ўспомніў другое плыні, але трэба думаць, другая плынь была наўвеце раднага Хмараўшчына. Знайшоўся і такі голас, забараняючы раднаму казаць, што ён каталік. Трэба дзівіцца, што гэта тут у Амэрыцы. На дамаганьне, каб царкоўная рада не адпускала залі Зьвязу[765], як шкоднай арганізацыі, атрымоўваючы 7 дал. у 2–3 месяцы, то былі галасы, што мы хочам зруйнаваць царкву, а мне асабіста сказалі, што гэта правакацыя з нашага боку. Вельмі характэрная адна зусім малая справа, пра якую, як выявілася,знае «зарубежжа», а мы радныя ня знаем, гэта ня плачаньне 7 даляраў у месяц Гал. Упр. БАЗы за памешканьне пад царквою. Чулі і пахвалу Шчорсу, што ахвяраваў на царкву $25, а калі каталікі ахвяравалі па $500, то ім забараняюць гаварыць як радным. Другая справа, гэта Студэнцкае згуртаваньне, сяньня Акадэміцкае таварыства[766]. Хіба ня лішня будзе напомніць вам спсп., радныя, што ад даўжэйшага часу ў Студэнцкім згуртаваньні пару асобаў праводзілі дэструкцыйную работу, але яны ня мелі сярод сяброў пашаны. Здавалася, што Акадэміцкае таварыства ня зойдзе з шляху ідэі БНР. Аднак, як даведваемся, у Акадэміцкае таварыства прынялі зацятага ворага БНР і Высокапрэасьвяшчэньняйшага Ул. Васіля. Шчорс[767], сябра Акадэміцкага таварыства, у прысутнасьці двух радных сказаў: *«вы Тамашчыка завязяцё на Бацькаўшчыну хіба пад ахаронаю штыкоў»*. Мала гэтага, як ведама, ад стагодзьдзяў студэнты заўжды былі першымі ў абароне пакрыўджаных для палепшаньня матэрыяльнага і праўнага палажэньня апошніх. Аднак нашыя студэнты, жывучы ў свабоднай краіне, вуснамі старшыні Акадэміцкага таварыства, агаласілі нам, што акадэміцкае таварыства ёсьць арганізацыяй апалітычнай. Дывэрсія ў Акадэміцкім таварыстве пачувае сябе пэўнай, што пазваляе сабе дамагацца ад сп. Мерляка, якога вельмі паважае, перавыбараў

[764] Закіды з боку палітычных апанентаў, што Рада БНР складаецца найбольш з каталікоў і мае таму цесныя сувязі з Ватыканам, пачаліся яшчэ ад 1948 г.

[765] Маецца на ўвазе Беларуска-амерыканскі звяз.

[766] Маецца на ўвазе Беларуска-амерыканскае акадэміцкае таварыства (БААТ), у якое ў 1957 г. было перайменаванае Беларускае студэнцкае таварыства ў Амерыцы.

[767] Маецца на ўвазе Мікола Шчорс.

сп. Прэзыдэнта Абрамчыка. Мы ў гэтай салі чулі слоўцы ад чалавека, што дае да зразуменьня, як дзейнічае дывэрсія. Нельга закрываць вачэй, а глядзець на справы адкрыта, што робіцца ў другіх асяродзьдзях, як Клівэлянд, Чыкага, Саўт Рывэр, Ню Брансвік і інш., дзе да нядаўна як Саўт Рывэр — Ню Брансвік было як найлепшае сужыцьцё. Але калі зьявілася маленькая шчылінка, дзякуючы зламаньню прысягі некаторых радных і гэтай шчылінкі не патрапіў замазаць старшыня сэктару Сп. Мерляк, якога запрасілі гэта зрабіць. Тыя, якія сядзелі 10 гадоў дзесь схаваўшыся, пачалі гнаць кліны і развалілі канчаткова аддзел БАЗА Саўт Рывэр — Ню Брансвік. Дакладна будзем аб гэтай справе гаварыць на сэктары. Шматлікія сябры Рады адыйшлі ад палітычнага жыцьця і заняліся сваім собскім жыцьцём. Да такіх сяброў, на маю думку, нельга нічога мець. Але ёсьць сябры, якія наважыліся палажыць крыжык на свой народ-Бацькаўшчыну. Яны з «зарубежжам» і гэтым зьнявечаць БНР. Яны ня бачаць свае срамотнай будучыні. Надарэмна іхнія высілкі, не дасягнуць ім свае мэты. Заглыбака ідэі БНР запусьцілі свае корні сярод нашага народу, якія ня здолее вырваць ніякая сіла. Адыйшлі і яшчэ адыйдуць слабыя духам, могуць застацца адзінкі, якія данясуць сьцяг 25-га Сакавіка на вольную, незалежную і свабодную Бацькаўшчыну-Беларусь.

Сп. К. Мерляк — Мне здаецца, што сп. Стагановіч не зразумеў мяне адносна мадрыцкага радыя. Я асабіста як старшыня сэктару адумыслова вымагаў, каб радыё Мадрыд даваў нам справаздачу. Сп. Прэзыдэнт сказаў, што некаторыя недамаганьні былі і ёсьць, але не павінны іх разглядаць як галоўны пункт нашых нарадаў. Паколькі мне ведама, радны Стагановіч зьбіраў грошы на радыё Мадрыд. Купля царквы ня была мэтай выкліканьня закалоту. Мне закідалі прысвояньне грамадзкіх грошай пры куплі царквы, а калі гэтага не даказалі, — я адыйшоў ад царкоўнай дзейнасьці.

Сп. А. Стагановіч — Ёсьць нязгода з праўдай цьвержаньні сп. Мерляка, што я зьбіраў грошы на мадрыцкае радыё, а ёсьць праўдай наступнае: даведаўшыся аб цяжкім фінансавым становішчы мадрыкага радыя, я прасіў скарбніка БНР сп. Кажана аб наступным: 1. Перанясьці маю складку з фонду «Вашынгтон»[768] на фонд мадрыцкага радыя. 2. Калі-ж ізноў будзе патрэба сродкаў у фондзе «Вашынгтон», я забавязваюся пакрыць яе ў поўнасьці.

Сп. В. Русак — Я хацеў бы парушыць напрамак газэты «Бацькаўшчына», якая зьяўляецца неафіцыяльным органам БНР і як такая павінна быць больш лібэральнай і зьмяшчаць усё, што перасылаецца рэдакцыі, не зазначаючы, што артыкул не зьяўляецца згодным з паглядамі рэдакцыі[769].

---

[768] **Фонд «Вашынгтон»** акумуляваў сродкі для стварэння сталага прадстаўніцтва Рады БНР у амерыканскай сталіцы. Меркавалася, што ў Вашынгтон пераедзе Мікола Абрамчык.

[769] Магчыма, тут маецца на ўвазе тое, што «Бацькаўшчына» не апублікавала складзены ад імя Галоўнай Управы БАЗА мемарандум Дзяржсакратару ЗША з нагоды «канферэнцыі чатырох» у Парыжы, што планавалася на 16 траўня 1960 г. Гл.: Мерляк, Канстанцін. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі… С. 199.

Сп. Я. Запруднік — Я быў чатыры гады зьвязаны з рэдкалегіяй і адміністрацыяй «Бацькаўшчыны» і ведаю, што тое, аб чым пішацца ў ёй, ёсьць адлюстраваньнем беларускага жыцьця, а таксама і міжнародных адносінаў.

Брак карэспандэнцыяў у аддзеле «хроніка» ёсьць прычынай таго, што некаторыя лічаць газэту «бюлетэням» падзеяй і здарэньняў.

Сп. Б. Даніловіч — Гаварыў аб абавязках кожнага раднага ў пашырэньні беларуска-незалежніцкай прэсы.

Сп. Адамовіч — Зачытаў прапановы адносна «Бацькаўшчыны» сэктараў у Нямеччыне, Аўстраліі і Чыкага, якія далучаюцца да пратаколу.

Сп. Я. Запруднік — Ці старшыня Гал. Упр. БАЗА мае намер выдаваць сваю газэту[770]?

С. К. Мерляк — У меру матэрыяльных магчымасьцяў газэту будзем выдаваць.

Сп. Ф. Кушаль — У поўнасьці згаджаецца з поглядамі сэктара Мэлборн, хоць не абавязкова падручнік па гісторыі мае быць шырока апрацаваны. Кароткі нарыс гісторыі ёсьць мажлівым да выданьня, дзеля карыстаньня школаў і грамадзтва.

Сп. Я. Запруднік— БІНіМ апрацоўвае гісторыю Беларусі[771].

Сп. Прэзыдэнт — Даў паясьненьні адносна Статуту БНР, дзе былі ўнесеныя папраўкі аб прыняцьці новых радных. Прэзыдыюмам было пастаноўлена выслаць апытальнікі да паасобных сэктараў.

Сп. В. Кажан — Радны Лашук з Англіі прапануе ўкладаць бюджэт Рады БНР, але на маю думку, бюджэт можна ўкладаць толькі ў тэорыі.

Сп. Прэзыдэнт — Лічыць, што бюджэт Рады ёсьць неабходным.

Сп. В. Кажан — Лічыць, што бюджэт Рады ў поўным значэньні гэтага слова ніколі ня можа быць апрацаваны, алё ён можа быць толькі арыентацыйным.

Сп. Б. Даніловіч — Лічыць, што ўсе беларускія незалежніцкія арганізацыі, якія ладзяць дахадовыя імпрэзы, павінны рабіць з іх адлічэньні на карысьць БНР. Адносна фонду «Вашынгтон», усе радныя павінны ўнясьці роўныя даткі.

Сп. В. Стома — Прапануе фонд «Вашынгтон» перадаць для выкарыстаньня скарбніку БНР.

Сп. Адамовіч — Прапануе фонд «Вашынгтон» затрымаць як запасны фонд. Далей ён зачытаў прапанову Аўстралійскага сэктару, каб увесьці парадак аплаты складак пры дапамозе кніжак і марак БНР.

Сп. В. Кажан — Падсэктар Чыкага дагэтуль быў найгоршым падсэктарам у сэнсе аплатаў складак, а таксама сувязі з сэктарам. Дзеля гэтага ён лічыць, што ўсе заклікі да паасобных сяброў трэба падаваць за пасярэдніцтвам «Бюлетэню Рады БНР».

---

[770] Янка Запруднік меў на ўвазе праблемы з выданнем газеты «Беларус», што была органам БАЗА і не выходзіла ад 20 верасня 1958 г. да лістапада 1961 г.

[771] Гэты намер — напісанне гісторыі Беларусі — так і застаўся намерам.

Сп. Мерляк — Перш трэба мець грошы, а пасьля праводзіць акцыю. Прапаганда БНР павінна быць праводжаная паміж усімі беларусамі. Калі палітыка БНР будзе вясьціся акуратна, акцыя збору грошай будзе лягчэйшай.

Сп. Даніловіч — Сп. Шукелайць прыгожа асьветліў асягненьні Ураду БНР, але здаецца сыстэматычнае аплачваньне складак павінна быць абавязкавым для ўсіх радных.

Сп. Мерляк — Я пагаджаюся з поглядамі сп. Тумаша, што мы павінны заняць цьвёрдае становішча пры вынясеньні рэзалюцыі, на каторай мажліва будуць узаравацца іншыя нацыянальнасьці.

Сп. Тумаш — Ці гэта мае быць выказана ў форме, што мы маем нічшыць расейскую нацыю?

Сп. У. Русак — Нам нечага баяцца ў выказваньні сваёй палітыкі адносна Амэр. Кам., але выказваць свае дамаганьні не зьвязваючы сябе спосабам дзеяньня.

Сп. Кажан — Якімі-ж заслугамі перад Радай можа пахваліцца Сп. Гарошка ў часы ягонага старшынства ў сэктары?

Сп. Адамовіч — Трэба ясна сфармуляваць нашае становішча ў сьвеце адпаведна да нашых канцэпцыяў і нашае сілы. Навакол сябе мы бачым вялікія нацыі, у якіх у большай ці меншай меры праяўляюцца імпэрыялістычныя імкненьні. Імпэрыялістымі мы ня можам быць з узгляду на нашыя сілы, ды дарэчы сказаўшы, ніколі імі й ня былі. У сычасны момант мы ўваходзім на іншыя дарогі паміж нашымі дужэйшымі суседзямі, нам выпадае ня менш важная роля, — пасярэдніцтва (для прыкладу Парыскі блёк). Мейсца займанае ў гэтым Блёку сп. Прызэдэнтам (старшынства) якраз даказвае, што мы зьяўляемся рэгулятарам паміж нашых дужэйшых суседзяў, — у гэтым і ёсьць нашая місыя й нашая сіла.

Што імпэрыялістычныя імкненьні ёсьць шкоднымі, гэта ўжо пачынаюць разумець нават больш-менш цьвяроза думаючыя расейцы. Яны таксама добра разумеюць, што паняволеныя сёньня народы могуць у будучыні жорстка помсьціцца на панявольніках. Ім таксама павінна быць ведамым, што мы цьвёрда трымаемся ідэі 25 Сакавіка і гэтае ідэі ня здрадзім.

Выпрацоўваньне-ж новых праграмаў, па думцы сп. Гарошкі, зусім непатрэбнае, бо нашая праграма цьвёрдая і кароткая. — Вольная і Незалежная Беларусь.

Сп. Тумаш — Адносна «савецкага» ці «рускага» народу існуе толькі разьбежнасьць у назове, мэта-ж застаецца тэй самай — нішчыць лякальныя культуры нерасейскіх нацыяў, а тым часам шчытна[772] павялічваць культуру і моц расейцаў.

Сп. Прэзыдэнт — Нашыя сёньняшнія дыскусіі ёсьць вельмі карыснымі. Апрацоўваньне тактыкі дзеяньня і апрацоўваньне рэзалюцыяў павінны быць вельмі тактоўнымі. Тактоўнасьць ня ёсьць адступленьнем.

---

[772] **Шчытна** (ад польск. *szczytny*) — высока, узвышана.

Амэрыканцам мы павінны даказваць, што мы не змагаемся супроць расейскай нацыі, а толькі супроць праяваў расейскага імпэрыялізму, якім у даным часе зьяўляецца камунізм.

Заява сп. Гарошкі, што Парыскі блёк збанкрутаваў, таму што зь яго выступілі ўкраінцы, разьмінаюцца з праўдай, бо ўкраінцы зь яго фармальна ня выйшлі.

У часе майго колькіразовага наведваньня Вашынгтону, я заўсёды даказваў на няправільнасьць палітыкі Амэрыканскага камітэту ў адносінах да нерасейскіх народаў. Там, дзе ёсьць магчымасьці змагацца адкрыта за нашыя ідэі, мы гэта і робім, але часамі, на жаль, гэта прыходзіцца рабіць і кантрабандным спосабам.

Нягледзячы, аднак, на ўсе цяжкасьці, ёсьць надзея, што мы ў канцы здабудзем належны нам давер у Заходніх дэмакрацыяў, і гэта дапаможа нам здабыць незалежнасьць.

Сп. Шукелайць — Здаў справаздачу з рэсорту «Інфармацыя» (справаздача далучаецца да пратаколу[773])

Сп. Гладкі — Ці работа радыё «Свабода» палепшылася і ці ёсьць задавальняючай?

Сп. Прэзыдэнт — Дырэктывы ў справе перадачаў радыё «Свабода» даюцца беспасярэдна Амэрыканскім камітэтам дырэктару радыя і мы ня маем на іх беспасярэдняга ўплыву, а можам толькі даваць свае парады і сугэстыі[774].

Сп. Шукелайць — У дадатку да свае справаздачы зазначу, што некаторую прапагандную літэратуру ўдавалася перасылаць у Польшчу (цераз газэту «Наша Ніва»[775]).

Сп. Прэзыдэнт — Трэба дадаць, што ў Польшчу ў парадку абмены выданьнямі высылаюцца ўсе выданьні Мюнхэнскага інстытуту вывучэньня СССР, а таксама выданьні «Бацькаўшчыны».

Прыняцьце рэзалюцыяў і пастановаў[776]:

Сп. Тумаш — (рэзалюцыя далучаецца да пратаколу[777])

Сп. Адамовіч — Прапануе замяніць у рэзалюцыі тэрмін — гэтак званы «Парыскі блёк», на «Парыскі блёк». Далей ён выясьняе, што зьмена назову радыё «Вызваленьне» на радыё «Свабода» паўстала на выразнае жаданьне Амэрыканскага Дэпартамэнту Стану.

---

[773] Дакумент не знойдзены.

[774] **Сугестыя** (ад польск. *sugestia*) — тут: перакананне, прапанова.

[775] Памылка. Маецца на ўвазе беларуская **газета «Ніва»**, што выдавалася ад 1956 г. у Беластоку (Польшча).

[776] У справаздачы пра 9-ю сесію Рады БНР, змешчанай у газеце «Бацькаўшчына» (№ 29 (513). 24.07.1960), сцвярджаецца, што Рэзалюцыі прымаліся на адмысловым чацвёртым пасяджэнні сесіі 26 чэрвеня 1960 г. Пра гэта піша і Мікола Панькоў у сваёй «Хроніцы беларускага жыцця на чужыне 1945–1984» (Мінск, 2001).

[777] Дакумент не знойдзены. Пастанова Дзявятай сесіі Рады БНР была апублікавана ў газеце «Бацькаўшчына» (№ 29 (513). 24.07.1960).

Сп. Прэзыдэнт — Бясспрэчная рэч, што мы не цалком задаволеныя зьместам перадачаў радыё «Свабода», але трэба ўзяць пад увагу, што прапаганда вядзецца для Беларусі, а не для слухачоў заходняга сьвету. У сваім часе былі зробленыя пэўныя стараньні, каб наладзіць радыёперадачы з Формозы[778] для беларусаў, якія ў сучасны момант знаходзяцца ў Сібіры. Але дагэтуль нашыя стараньні не далі выніку.

Сп. Шчэцька — Гдзе іншыя рэзалюцыі, якія павінны перадацца да ведама й беларусам?

Сп. Адамовіч — Рэзалюцыі ёсьць прыгатаваныя.

Сп. Прэзыдэнт — Усе рэзалюцыі будуць паданыя праз прэсу[779] і радыё беларусам у вольным сьвеце і на Бацькаўшчыне.

Сп. У. Русак — У рэзалюцыях павінен быць ужываны хоць і лагодны, але станоўкі тон. Гэта патрэбна дзеля таго, каб гісторыя адзначыла нашыя імкненьні.

Сп. Мерляк — Амэрыканскі камітэт з каторым мы маем палітычныя дачыненьні мы павінны разглядаць як прыватную фірму, яны — ж са свае стараны павінны разглядаць нас як прадстаўнікоў Ураду. Калі ў гэткім духу будуць вынесеныя нашыя сёньнешнія рэзалюцыі, мы павінны перагледзець нашыя суадносіны да таго-ж Камітэту.

Сп. Адамовіч — Ня трэба забывацца, што мы толькі экзыльны Урад і на вялікі эфэкт ня можам лічыць. Амэрыканскі камітэт мае сваю форму перадачаў і сваю праграму працы. Ведаючы аб гэтым мы можам толькі прапанаваць, а ў ніякім выпадку не патрабаваць.

Сп. Гладкі — Калі нам «хмараўцы» ці хтось іншы закідваюць «непрадрашэнства», дык трэба цьвёрда ставіцца супроць гэтага «непрадрашэнства».

Сп. Прэзыдэнт — Нам абсалютна не абмяжоўваецца палітычная дзейнасьць, калі яна беспасярэдна не звязана з Амэрыканскім камітэтам ці радыям «Свабода».

Сп. Тумаш — Адносна «непрадрашэнства», аб каторым гаварыў сп. Гладкі, дык нашае становішча вельмі выразна выказваецца ў нашых рэзалюцыях. Аднак-жа калі ў іх ёсьць нейкія няяснасьці ці недахопы, то яны павінны быць прадыскутаваныя. Дзеля гэтага я прапаную прыняць папраўку да рэзалюцыі.

Сп. Мерляк — Прапануе прагаласаваць рэзалюцыю:

Вынікі галасаваньня:

За — 21 голас

Супраць — 2 галасы.

Устрымаліся — 8 галасоў.

---

[778] Маецца на ўвазе ўсталяваны ў 1955 г. на Тайвані (Фармозе) рэтранслятар радыёперадач на Сібір і Далёкі Усход.

[779] Інфармацыя пра змест Дзявятай сесіі Рады БНР і яе Пастанова былі апублікаваны ў газеце «Бацькаўшчына» (№ 29 (513). 24.07.1960).

Сп. Адамовіч — *Рэзалюцыя аб вонкавай палітыцы Рады БНР* (далучаецца да пратаколу[780])

Галасаваньне за прыняцьце рэзалюцыі:

Пункт 1.

За — 26 гал.

Устр. — 10 гал.

Пункт 2.

За — 8 гал.

Супраць — 13 гал.

Пункт 3.

За — 28 гал.

Пункт 4.

За — 16 гал.

Супраць — 6 гал.

Рэзалюцыя прынята большасьцю галасоў.

(Заўвага: Пункт 5 рэзалюцыі быў прыняты без галасаваньня)

Сп. Кажан — Калі радныя будуць уносіць складкі сыстэматычна, праца скарбніка будзе лягчэйшай і таму будзе дастаткова адзін платны працаўнік.

(Гэтую думку падтрымалі спсп. Мерляк і Шукелайць)

Сп. Адамовіч — Пункт 3-ці ў сваёй рэзалюцыі я ўставіў таму, што сп. Мерляк у сваёй справаздачы закрануў дзейнасьць Прэзыдэнта (гл. справаздачу). Таму рэзалюцыю ў такой рэдакцыі прыняць нельга і таму пункт 3 павінен быць толькі ў пратаколе.

Сп. Стагановіч — Запярэчыў, што ён не праводзіў прапаганды супроць Прэзыдыюму Рады БНР, а толькі прыватна між сяброў радных правёў зборку грошы на падтрымку Беларускай сэкцыі мадрыдзкага радыя.

Сп. Прэзыдэнт — Нам каштавала каля 1500 ДМ, каб здабыць магчымасьць беларускіх радыяперадачаў у Мадрыдзе. Адмова спаўпрацы Сакратарыяту Рады БНР мяне не задаволіла, таму я і зьвярнуўся да сп. Стагановіча як да майго заступніка, каб гэтае радыё падтрымаць. Мяне ў справаздачы сп. Мерляка зацікавіла тое, што я як Прэзыдэнт перашкаджаў нармальнай працы ворганаў БНР.

Сп. Запруднік — *Рэзалюцыя «Аб беларускай прэсе»* (Рэзалюцыя далучаецца[781]).

Сп. Шукелайць — Уважае, што рэзалюцыю сп. Запрудніка трэба перадаць у рэсорт сакратарыяту асьветы і прапаганды.

Сп. Тумаш — Крытыка сп. Запрудніка адносна газ. «Бацькаўшчына» ёсьць лагоднай і тактоўнай. «Бацькаўшчына» заслугоўвае яшчэ на большую крытыку.

---

[780] Дакумент не знойдзены. Пастанова Дзявятай сесіі Рады БНР была апублікавана ў газеце «Бацькаўшчына» (№ 29 (513). 24.07.1960).

[781] Дакумент не знойдзены. Вытрымка з тэксту рэзалюцыі прыводзіцца ў інфармацыі пра 9-ю сесію Рады БНР у газеце «Бацькаўшчына» (№ 29 (513). 24.07.1960).

Сп. Прэзыдэнт — Сэсіі Рады БНР адбываюцца што 3 гады і таму вызначэньне сяброў Ураду адбываецца паводле Статуту. Мае намаганьні, каб у гэтай справе дагаварыцца з паасобнымі сябрамі не далі вынікаў таму дымісіі Ураду я прыняць не магу. Дзеля гэтага я прашу сяброў Ураду застацца на сваіх становішчах да лютага 1961 г.

Выбары выканаўчых органаў Рады БНР

Згодна прапановы Сп. Прэзыдэнта аднагалосна пастаноўлена заставіць папярэдні Урад да лютага 1961 году.

На гэтым 9-я Сэсія Рады БНР была закончана.

*Старшыня Сэсіі: Ант. Адамовіч*
*Сакратары: П. Кулеш*
*В. Стома*

## ПРАТАКОЛ ЗЛУЧАНАГА ПАСЕДЖАНЬНЯ САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР І ПРЭЗЫДЫЮМУ СЭКТАРУ РАДЫ БНР У ЗША З ДНЯ 23-ГА СЬНЕЖНЯ 1962 ГОДУ

Прысутнічалі: Гэн. Ф. Кушэль, сп. сп. А. Адамовіч, В. Кендыш, В. Кажан, А. Шукелойць, В. Русак.

Парадак дня:

1. Рэфэрат сп. Адамовіча: а. сытуацыя ў Эўропе; б. справы БНР.
2. Рознае.

Паседжаньне адчыніў старшыня Сакратарыяту Рады БНР гэн. Ф. Кушэль і прадставіў слова сп. Адамовічу. Сп. Адамовіч быў на працы ў Эўропе, наведаў Прэзыдэнта Абрамчыка і хоча паінфармаваць аб гэтым тут прысутных.

Да п. 1а:

Сп. Адамовіч інфармуе аб сваёй паездцы ў Эўропу. Палітычная сытуацыя складаецца ня зусім прыхільна для нас. Цяперашняя плынь у Стэйт Дэпартмэнт ёсьць накіраваная на агранічэньне супрацоўніцтва з эміграцыяй. Устрымана дапамога на часапіс Парыскага блёку ў францускай мове[782], хаця Амэрыканскі камітэт як такі і ўважаў выдавецтва часапісу за патрэбнае. На прыняцьці ў старшыні Камітэту сп. Сарджанта, на якім і было паведамлена аб устрыманьні дапамогі, сп. Сарджант згадзіўся першы раз быць на здымцы з прадстаўнікамі Блёку без расейцаў.

Адносіны з немцамі. Нашы сувязі з немцамі ёсьць слабыя ў аснаўным дзеля нашай малой колькасьці. У сэнсе грашовай дапамогі магчыма атрымаем штось акрамя атрыманых раней 3000 марак. Адносіны ўкраінцаў з немцамі ёсьць лепшыя, украінцы атрымліваюць больш фінансавай дапамогі

[782] Маецца на ўвазе часопіс ***«Problems of The Peoples of The USSR»,*** які выступаў як орган Лігі вызвалення народаў Савецкага Саюза і выходзіў у Мюнхене ў 1958–1966 гг. Рэдактар — С. Доўгаль.

(маюць стыпэндыі). Па радыю, тыпу «Голас Амэрыкі», перадаюцца аўдыцыі ў расейскай і ўкраінскай мовах, але гэта ёсьць толькі пераклады.

Сытуацыя на Беларусі. Працэс у Баранавічах[783] паказвае ўзнаўленьне Яжоўшчыны і ўзмацненьне паліцэйскай машыны. Гэта падцьвярджае высланы з Савецкага Саюзу амэрыканскі дыплямат[784]. Бязумоўна, такая рэакцыя савецкага ўраду ёсьць адказам на ўзмацненьне нацыянальных рухаў. Амэрыканскі студэнт, што нядаўна быў на Украіне, расказваў, што ўкраінская мова выціскае расейскую мову, асабліва ў пэдагагічных інстытутах. Думаецца, што падобная сытуацыя ёсьць і ў нас. З гэтым Саветы будуць змагацца. Савецкая прэса менш нападае на БНР, затое больш нападае на Астроўскага. Прэзыдэнт Абрамчык тлумачыць гэта тым, што бальшавікам ня выгадна й ня лёгка нападаць на БНР. Пробуюць там стварыць трэцюю сілу, пішуць пра трох прэзыдэнтаў, уключаючы Мэрляка.

б. Справы БНР. Прэзыдэнт Абрамчык ёсьць матэрыяльна ў крытычным палажэньні. За часоў рэгулярнага выдаваньня «Бацькаўшчыны» ён меў $200 у месяц. Сяньня сытуацыя ёсьць шмат горшая, ён можа быць прымушаны ісьці працаваць. У такім выпадку ягоная вартасьць як палітычнага дзеяча будзе малая. Гэтая справа павінна быць безадкладна палагоджана. Ёсьць спробы дапамагаць з боку сп. Акулы, цяпер лекары хочуць даваць па $100 у месяц. У Мюнхэне нашыя людзі абураны, уважаюць, што лекары могуць даць больш. Прэзыдэнт, зразумела, ня хоча, каб дапамога мела дабрачынны характар. Ініцыятыву лекараў трэба падтрымаць, пашырыць і адпаведна аформіць. У Мюнхэне прапанавалі назоў «Таварыства прыяцеляў БНР». Прэзыдэнт Абрамчык на гэты назоў не згадзіўся, бо ўсе ёсьць прыяцелямі БНР. Патрэбны іншы назоў.

У сэньсе паводзін нашай малодшай калёніі ў Эўропе справа прадстаўляецца ня зусім добра. Заўважаюцца выпадкі п’янства. Сп. Бортнік трымаецца добра. Беларусы ўзялі ўдзел у міжнародным фэстывалі моладзі.

Дыскусія над рэфэратам сп. Адамовіча:

Гэн. Кушэль — Адносіны немцаў да нас і да ўкраінцаў ёсьць водгукам адносінаў з часоў першай сусьветнай вайны.

Сп. Адамовіч — не згаджаецца з гэтым. Дапамога толькі грашовая, а не палітычная. Грашовая дапамога таксама вельмі малая. Беларусаў там мала.

Гэн. Кушэль — У судовых справаздачах прэсы аб праступствах СС каля Менску не ўпамінаецца нідзе ўдзелу беларускай паліцыі. Гэты мамэнт павінен быць выкарыстаны ў нашай прэсе.

Сп. Кендыш — ці закраналася справа Мадрыдскага радыё?

---

[783] Маецца на ўвазе працэс над ваеннымі злачынцамі, ахоўнікамі Калдычаўскага лагера, абвінавачанымі ў расстрэлах мірнага насельніцтва. Працэс адбываўся ў Баранавічах увесну 1962 г. Усе абвінавачаныя былі прысуджаныя да смяротнага пакарання.

[784] У ліпені 1962 г. з СССР у ЗША вярнуўся амерыканскі амбасадар **Льюлін Томпсан** (1904–1972). Магчыма, менавіта яго мае на ўвазе Антон Адамовіч.

Сп. Адамовіч — так, у Мюнхэне ўважаюць, што сродкі, якія ідуць на радыё, маглі-б быць выкарыстаныя лепш, калі-б яны былі перададзеныя ў распараджэньне Прэзыдэнта.

Сп. Кендыш — выказаўся пахвальна аб ініцыятыве лекараў у справе дапамогі Прэзыдэнту. Да групы лекараў належаць др. др. Рагуля, Сажыч, Жук-Грышкевіч[785], Грабінскі і Грынкевіч. Прачытаў ліст др. Сажыча ў гэтай справе. Спадзяецца добрых вынікаў з гэтай акцыі. Згаджаецца з Прэзыдэнтам Абрамчыкам, што фонд гэты павінен быць пры БНР. Прэзыдэнт уважае, што фонд павінен весьці сакратар фінансаў. Ужо ўжывае назову «Фонд утрыманьня канцылярыі Прэзыдэнта». Прапануе разьвязаць «Фонд Вашынгтона» і пераказаць сродкі ў «Фонд утрыманьня канцылярыі Прэзыдэнта».

На прапанову гэн. Кушэля было аформлена пастановаю «Фонд утрыманьня канцылярыі Прэзыдэнта».

Да п. 2:

Тут былі кранутыя наступныя пытаньні:

Была зьвернута ўвага на тое, што некаторыя дакуманты Рады БНР ня ёсьць у нашым распараджэньні, некаторыя дакуманты ёсьць на руках сп. сп. Мерляка, Махноўскага, Орсы, Кунцэвіча. Дакуманты гэтыя павінны быць пераняты Радай. Багаты архіў (дакуманты і фатаграфіі) мае прэз. Абрамчык. Дакуманты гэтыя патрабуюць адпаведнага памешканьня — патрэба Дому Крэчэўскага[786].

У справе «Проблемс» Парыскага блёку было сьцьверджана, што там вельмі мала нашых матэрыялаў. Каб выправіць гэтую сытуацыю, пастаноўлена паразумецца ў гэтай справе з Прэзыдэнтам.

Адносна наступнай Сэсіі Рады БНР была выказаная думка, што Сэсія адбудзецца восеньню наступнага году, калі прыедзе ў ЗША прэз. Абрамчык. Дата й месца будуць устаноўлены пазьней, калі будзе дакладней ведама аб прыезьдзе Прэзыдэнта.

*Гэн. Ф. Кушэль, Старшыня Сакратарыяту Рады БНР.*

*В. Русак, сакратар.*

---

[785] Маецца на ўвазе **Раіса Жук-Грышкевіч** (дзяв. **Жукоўская**; 22.10.1919, Пружаны (сёння Берасцейская вобл.) — 02.04.2009, Беры, Канада), грамадская дзяячка. Вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі. Ад 1939 г. працавала настаўніцай у Пружанах. У 1942 г. выехала ў Нямеччыну, працавала ў «Вінэце». Па вайне апынулася ў Беларускім лагеры ў Ватэнштэце, брала ўдзел у скаўтынгу, пазней вучылася на дантыстку ў Марбургу. У 1949 г. пераехала ў Канаду. Скончыла Таронцкі ўніверсітэт па спецыяльнасці «дантыстыка». У 1953 г. узяла шлюб з грамадскім дзеячам Вінцэнтам Жук-Грышкевічам. Актыўная сяброўка ЗБК.

[786] **Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага** была заснавана ў Нью-Ёрку ў 1958 г. з мэтай падтрымкі беларусаведных даследаванняў. У лістападзе 1964 г. фундацыя змагла набыць некалькі будынкаў, дзе ў тым ліку размясціліся бібліятэка і архіў.

# ПРАТАКОЛ ПАШЫРАНАГА ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ І УРАДУ БНР З ДНЯ 20-ГА КАСТРЫЧНІКА 1963 ГОДУ

Прысутнічалі: гэн. Ф. Кушэль, сп. сп. А. Стагановіч, А. Адамовіч, В. Кендыш, В. Кажан, А. Шукелойць, М. Тулейка, В. Русак.

Парадак дня:

1. Даклад праф. Адамовіча аб беларускай дзейнасьці ў Эўропе з дыскусіяй над дакладам.
2. Фінансавыя справы Ураду БНР, рэфэруе сакратар фінансаў сп. В. Кендыш.
3. Тэрміновая фінансавая дапамога сп. Прэзыдэнту Рады БНР.
4. Іншыя бягучыя і актуальныя справы.

Да п. 1: Праф. Адамовіч прабыў у Эўропе два месяцы, у аснаўным па справах, не зьвязаных з БНР. З Прэз. Абрамчыкам спатыкаўся два разы і пра гэта раскажа дакладней.

Парыскі блёк: украінцы пераглядаюць сваё становішча да Блёку, магчыма, яны зактывізуюцца. Ёсьць магчымасьць, што да Блёку дойдзе яшчэ адна група паўночных каўказцаў на чале з праф. Артаханавым[787].

Часапіс «Проблемс оф Істерн Юроп»: апошні нумар гэтага часапісу прысьвечаны ў 70 працэнтах справам Украіны (рэдактар Даўгаль[788]). Толькі адзін артыкул ёсьць пра Беларусь. Нягледзячы на захады сп. Бортніка, сп. Адамовіча і Прэз. Абрамчыка, нумар гэты выйшаў у такой форме. У будучыні сытуацыя мае выправіцца. Рэдкалегія пашыраецца, у яе ўваходзяць праф. Артаханаў і сп. Бортнік.

Адносіны з немцамі: атрымана субсыдыя на адзін нумар «Запісаў»[789]. У нямецкім радыё на чужых мовах здабыла моцны ўплыў пэўная група расейцаў на чале з нейкім бліжэй няведамым Арнольдам (НТС). Прыватна немцы цікавяцца нашымі справамі, практычнай карысьці з гэтага, аднак, няма.

Радыё Мадрыд: вельмі цяжка ўтрымліваць радыё, відаць, прыйдзецца зрэвідаваць нашае становішча ў гэтай справе.

---

[787] Маецца на ўвазе **Абдурахман Аўтарханаў** (1908–1997), гісторык-саветолаг, пісьменнік, грамадскі дзеяч, доктар палітычных навук, ганаровы грамадзянін Чачэна-Інгушэціі. Адзін з заснавальнікаў Інстытута вывучэння гісторыі і культуры СССР у Мюнхене, а таксама Паўночнакаўказскага антыбальшавіцкага нацыянальнага аб’яднання і яго часопіса «Паўночны Каўказ». Арганізатар паўночнакаўказскай рэдакцыі на радыё «Вызваленне».

[788] Маецца на ўвазе Спірыдон Доўгаль.

[789] У 1962 г. пабачыў свет першы «мюнхенскі» (сёмы па агульнай нумарацыі) выпуск альманаха «Запісы БІНіМ». Перанос выдання з Нью-Ёрку ў Нямеччыну быў звязаны якраз з новымі фінансавымі магчымасцямі ў гэтай краіне. Цягам 1962–1970 гг. у Мюнхене пабачылі свет пяць нумароў альманаха.

Паложэньне сп. Прэзыдэнта: паложаньне Прэзыдэнта ёсьць вельмі цяжкое. Ён атрымлівае цяпер з «Фонду ўтрыманьня канцылярыі Прэзыдэнта» $100 у месяц, гэта толькі палавіна таго, што ён атрымліваў раней.

Дыскусія над дакладам праф. Адамовіча:

Сп. Кендыш — Калі-б часапіс «Проблемс оф Істерн Юроп»[790] меў выходзіць у такой форме, як ягоны апошні нумар, дык карысьць зь яго будзе ніякая. Справа павінна быць неадкладна выпраўлена.

Сп. Кажан — які ўплыў на нашу працу мае палітыка прымірэньня?

Праф. Адамовіч — бязумоўна, беларусы ў Нямеччыне ўважаюць, што засяг працы можа быць звужаным, гэта, аднак, ня станецца раптоўна.

Гэн. Кушэль — дзеля таго, што сп. Тулейка ня зможа быць на ўсім паседжаньні, просіць яго цяпер паінфармаваць аб падрыхтоўцы да Сусьветнай выстаўкі ў Нью Ёрку[791].

Сп. Тулейка — Нам прадстаўлена магчымасьць удзелу ў фэстывалях народнай творчасьці. Наш выступ назначаны на дзень 26 чэрвеня г. г. За выступ адказнымі ёсьць БАЗА і Кангрэсовы камітэт[792]. Рыхтуецца такая праграма: нарыс аб Беларусі, хор, танцы ў выкананьні двух танцавальных гурткоў ды салёвыя сьпевы. Выстаўка дае на падрыхтоўку $150 ды 1/3 часьць з праданых білетаў. Рэшту выдаткаў павінны пакрыць мы самі[793].

Да п. 2:

Сп. Кендыш — падаў лічбовую справаздачу з грашовага палажэньня Рады БНР. Няма поўных дадзеных з сэктару ЗША. Заявіў, што базай даходаў БНР павінны быць ЗША. Праца па зьбіраньню сродкаў для БНР павінна быць палепшана. Да гэтага часу толькі лекары ўносяць на «Фонд утрыманьня канцылярыі Прэзыдэнта». Трэба зьвярнуцца з заклікам да ўсіх радных БНР, каб плацілі на гэты фонд.

На радыё Мадрыд даецца ў сярэднім $2000 на дзьве асобы. Факт існаваньня радыё ёсьць пазытыўным і важным мамэнтам нашай дзейнасьці. Аўдыцыі ёсьць поўнасьцю нашы, нікім не кантралююцца.

Гэн. Кушэль — радзіць паставіць радным, што залягаюць са складкамі, каб заплацілі складкі за 1963 год, бо інакш будуць выключаны з БНР.

Сп. Шукелойць і сп. Русак — не пагаджаюцца з прапановай гэн. Кушаля, лічаць, што гэта загостры падыход, які не паправіць сытуацыі.

Вырашана зьвярнуцца пісьмова ды гутарыць індывідуальна з такімі раднымі, каб яны выясьнілі сваё становішча да Рады і свайго сяброўства ў Радзе.

Да п. 3:

---

790 Магчыма, тут маецца на ўвазе часопіс *«Problems of the Peoples of the USSR»*, выдаваны Парыжскім блокам.

791 Сусветная выстава «Экспа 64-65» праходзіла ў Нью-Ёрку ад 22 красавіка да 18 кастрычніка 1964 г. і ад 21 красавіка да 17 кастрычніка 1965 г.

792 Маецца на ўвазе Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі.

793 Беларускі канцэрт на Сусветнай выставе ў Нью-Ёрку адбыўся 21 чэрвеня 1964 г. (Гл.: Беларускі канцэрт на Ньюёрскай сусьветнай выстаўцы // Бацькаўшчына. № 7–8 (621–622). Ліпень 1964).

Сп. Адамовіч — заявіў, што будучы ў Эўропе, зразумеў, што Прэзыдэнт хацеў-бы атрымаць пазыку ў суме $3000. Сьпярша думалася аб прадстаўленьні пазыкі з Фонду Крэчэўскага. Былі, аднак, выказаны засьцярогі адносна гэтага, і Прэзыдэнт адмовіўся ад гэтага пляну.

Сп. Кендыш — прапануе ўзяць суму $500 для гэтай мэты з касы сэктару.

Сп. Русак — такое пытаньне патрабуе ўзгадненьня з Урадам сэктару. $500 гэта прыблізна ўсё, што сэктар мае.

Пастановы канкрэтнай сумы па гэтаму пытаньню ня вынесена. Скарб БНР не рспараджаецца вялікімі сумамі грошай. Сэктар узгодніць справу пераказаньня $500 скарбніку БНР.

Да п. 4:

Сп. Шукелойць — Варта было-б выясьніць, ці можна найсьці спосаб, каб сродкі, прызначаныя на мэты дапамогі, афармляліся як дапамога.

Сп. Кендыш — паінфармаваў аб дзейнасьці ў Аўстраліі. Ён паінфармаваў ужо сэктар у Аўстраліі аб справе Мерляка[794]. У Аўстраліі цяпер папулярнае пагадненьне беларускіх групаў[795]. Зарубежнікі запрапанавалі сьвяткаваць супольна 25-га Сакавіка і ўгодкі ІІ-га Кангрэсу. Гэтая прапанова ня была прынятая. Яны абяцалі прыступіць да БАПЦ, а спадзяваліся прызнаньня ІІ-га Кангрэсу.

Гэн. Кушэль — Ёсьць паінфармаваньне пра паложаньне ў Аўстраліі праф. Ніканам[796], і паінфармаваў яго аб сытуацыі ў ЗША.

Сп. Кендыш — прапануе выслаць дадатковую інструкцыю Сэктару БНР у Аўстраліі.

*Гэн. Ф. Кушэль, Старшыня Сакратарыяту Рады БНР.*

*В. Русак, сакратар.*

---

[794] Маецца на ўвазе ініцыятыва Канстанціна Мерляка як старшыні БАЗА па каардынаванні грамадскай дзейнасці з «зарубежніцкім» БККА.

[795] На пачатку 1960-х гг. у Мельбурне сталі рэалізоўвацца першыя ініцыятывы супольнай дзейнасці беларусаў розных палітычных поглядаў. Так 2 ліпеня 1961 г. быў створаны Камітэт ладжання супольных святкаванняў, а ў 1963 г. быў арганізаваны Беларускі цэнтральны камітэт у Вікторыі.

[796] **Мікола Нікан** (03.01.1908, Варшава, Польшча — 16.06.1999, Мельбурн, Аўстралія), грамадскі дзеяч. Меў вышэйшую адукацыю. У 1929 г. служыў у польскім войску, пасля настаўнічаў у Беларусі ў польскай школе і на настаўніцкіх курсах у Гародні. У 1939 г. быў арыштаваны савецкімі ўладамі і высланы ў Варкуту. У 1942 г. далучыўся да Арміі Андэрса. У шэрагах 2-га польскага корпуса прайшоў праз Сірыю, Егіпет, удзельнічаў у ваенных дзеяннях у Італіі. У 1947 г. у Вялікабрытаніі дэмабілізаваўся ў рангу капітана. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, а ў 1950–1951 гг. — старшынёй арганізацыі. Таксама быў сябрам Згуртавання беларускіх камбатантаў і БХАА «Жыццё». У 1952 г. пераехаў на сталае жыхарства ў Мельбурн, дзе адразу далучыўся да беларускага грамадскага жыцця. Быў сакратаром Згуртавання беларусаў у Вікторыі, сакратаром Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі (БЦКВ). Доўгі час быў прадстаўніком БЦКВ у Камітэце паняволеных народаў.

# ПРАТАКОЛ ПАШЫРАНАГА ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ І УРАДУ БНР З ДНЯ 1-ГА САКАВІКА 1964 ГОДУ

Прысутнічалі: Гэн. Ф. Кушэль, сп. сп. А. Адамовіч, В. Кендыш, архіепіскап Васіль, др. Ст. Станкевіч, М. Кунцэвіч, др. У. Набагез, А. Шукелойць, В. Русак.

Парадак дня:

1. Зацьверджаньне бюджэту Рады БНР на 1964 год і рэарганізацыя фінансавае сыстэмы Рады БНР, рэфэруе сакратар фінансаў сп. В. Кендыш.

2. Адчытаньне лістоў сп. Прэз. Абрамчыка, дыскусія й прыняцьцё належных пастановаў.

3. Сьвяткаваньне 46-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР 25 Сакавіка 1918 г., рэфэруе старшыня Галоўнае ўправы БАЗА др. Ст. Станкевіч.

4. Розныя справы.

Да п. 1:

Паседжаньне адчыніў старшыня Ураду БНР гэн. Кушэль і прадставіў слова сп. В. Кендышу.

Сп. Кендыш — перад тым, як прыйсьці да справы бюджэту, выказаўся аб гаспадарчым паложаньні Рады наагул. У аснаўным ня ёсьць задаволеным з посьпехаў грашовай гаспадаркі. Не атрымаў ніводнай добрай справаздачы з сэктараў. Крыху паправілася сытуацыя ў сэктары ЗША, тут павялічыліся зборы на Дар Сакавіка й Лістапада. Крыху палепшылась справа з Мадрыдзкім радыём, чытае справаздачу з дзейнасьці радыя. Дае справаздачы з сэктараў: ЗША, Аўстраліі, Канады, з «Фонду ўтрыманьня канцылярыі Прэзыдэнта». З Англіі яшчэ справаздачы няма.

Прапануе адмяніць пастанову аб адлічэньні 25 % у карысьць сэктараў ад паступленьняў у сэктары. Чытае праект пастановы. Ёсьць выпадкі, што сэктары поўнасьцю выдаюць гэтыя грошы па свайму ўгледжаньню бяз згоды сакратара фінансаў.

Сп. Шукелойць — пастанова аб адлічэньні 25 % была прынятая паводле вымогаў жыцьця. Сэктар ЗША патрабуе свае сродкі на паездкі, вянкі для памёршых радных, сьвяткаваньне 25 сакавіка ды іншыя.

Сп. Кендыш — сродкі БНР могуць быць выкарыстаныя толькі для палітычных мэтаў.

Сп. Русак — калі БАЗА праводзіць палітычную работу па сьвяткаваньні 25 Сакавіка, дык можна спадзявацца на падтрымку ад сэктару.

Др. Набагез — уважае, што няма патрэбы мяняць пастанову. Сэктары распараджаюцца 25 %, калі патрабуюць больш, дык складаюць бюджэт, які мае быць зацьверджаным Урадам БНР. Сэктары, што не патрабуюць грошаў, павінны пераказваць усе сродкі ў скарб БНР.

Сп. Кендыш — бяручы пад увагу становішча сэктару, Нью Ёрк зьняў сваю прапанову.

Сп. Кендыш чытае праект бюджэту на 1964 год. Бюджэт прымаецца аднагалосна.

Сп. Кендыш уважае, што трэба зьвярнуцца да ўсіх радных, каб плацілі на «Фонд утрыманьня канцылярыі Прэзыдэнта».

Сп. Русак — думае, што такі зварот павінен выйсьці ад старшыні сэктару.

Да п. 2.

Гэн. Кушэль даводзіць да ведама ліст Прэзыдэнта да др. Жук-Грышкевіча. Прэзыдэнт выказвае думку, што згода беларускай эміграцыі ў ЗША без палітычнага кіраўніцтва БНР ня ёсьць справай здаровай. Пастаноўка пытаньня «ні БНР, ні БЦР» ёсьць шкоднай. БЦР ужо няма, а зьліквідаваць БНР ёсьць мэтай нашых ворагаў. Са свайго боку Прэзыдэнт гатовы перадаць паўнамоцтвы таму, хто патрапіць весьці далей справу БНР.

Прэзыдэнт думае, што амэрыканцы не намераны ў бліжэйшай будучыні агранічваць засяг дзейнасьці радыё «Свабода».

Далей гэн. Кушэль прачытаў ліст, які ён атрымаў ад Прэзыдэнта. Прэзыдэнт мае прыехаць у ЗША хіба ня ў так далёкай будучыні. Адносна адзначэньня ўгодкаў БКА[797] трэба быць асьцярожным, каб не пашкодзіць сабе прапагандава.

Гэн. Кушэль асабіста аднак уважае, што ў гэтым выпадку няма чаго баяцца. Гісторыя БКА ёсьць пачэснай. Украінцы выдалі, напрыклад, кнігу пра дывізыю Галіччына ў ангельскай мове.

Гэн. Кушэль прапануе, каб др. Станкевіч рэфэраваў пункт 3 парадку дня, а тады вярнуцца да дыскусіі над пунктамі 2 і 3.

Да п. 3.

Др. Станкевіч — Пасьля супольнага сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў мінулым годзе справа пагадненьня беларускай эміграцыі стала вельмі актуальнай. Ён не спадзяецца, што згоду можна асягнуць па лініі спадароў Касяка і Мерляка[798], але ўважае, што пры добрай волі можна шмат зрабіць. Ідэя пагадненьня запаліла шмат каго. Ён стаў старшынёю БАЗА, каб працаваць у гэтым напрамку. Пасьля паўгадовага дасьведчаньня, на жаль, пераканаўся, што справа ня ёсьць такой простай. Ня бачыць добрай волі ў другога боку, а толькі жаданьне аслабіць нас. Галоўная ўправа БАЗА ня зможа быць арганізатарам супольнага сьвяткаваньня. Удзел акругі БАЗА ёсьць справай акругі.

Сп. Шукелойць — Сьвяткаваньне ў мінулым годзе было прадстаўлена як ладжанае Сьвяткавальным камітэтам, нашае імя было ўсунута ўва ўсіх публікацыях. Рада БНР можа ўшанаваць 25 Сакавіка ўрачыстым паседжаньнем.

---

[797] Беларуская краёвая абарона была створана паводле загаду Курта фон Готберга ад 23 лютага 1944 г.

[798] Іван Касяк у 1957–1989 гг. быў кіраўніком БККА, а Кастусь Мерляк у 1959–1964 гг. займаў пасаду старшыні Галоўнай управы БАЗА. Такім чынам, была спроба дасягнуць пагаднення на ўзроўні кіраўніцтва дзвюх найбуйнейшых беларускіх арганізацый у ЗША. Спроба скончылася няўдала — у 1965 г. Мерляк выйшаў з БАЗА і заснаваў Беларуска-амерыканскае аб’яднанне ў Нью-Ёрку.

БНР павінна змагацца за тое, каб БАЗА была грамадзкай асновай для БНР у ЗША. Лінія, прынятая на апошнім сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў адносінах да Амэрыканскага камітэту, які ёсьць выказьнікам палітыкі Дэпартмэнт оф Стэйт, была няправільнай, некарэктнай і шкоднай нашай справе.

Уладыка Васіль — Мы гутарылі пра насьледкі грамадзкага падзелу, а не пра яго прычыны. Мы часта самі вінаваты, што нас робіцца што раз менш. Пагаджаецца з думкай Прэзыдэнта ў лісьце, што палітычна Раду БНР ніхто ня можа замяніць. Аднак у грамадзкім жыцьці ці асабліва ў жыцьці моладзі ідэя пагадненьня ёсьць здаровая. Мы павінны даць правадыроў, што павядуць усе арганізацыі і моладзь. За тое, што сталася, адказны толькі мы самі. Трэба прысьвяціць больш увагі моладзі. (Вячорныя заняткі). БНР не прысцьвяціла належнай увагі моладзі, а моладзь мы маем добрую, толькі ня выробленую. Справу задзіночаньня мы павінны ўзяць у свае рукі. Што да сьвяткаваньня, дык ня трэба яму перашкаджаць, ня трэба яго байкатаваць. Няхай будзе так, як выйдзе.

Сп. Адамовіч — Гратулюе Ўладыку з прамовай, кажа, што гэта была адна зь яго лепшых прамоваў. Наша бяда ў тым, што нас штораз менш

Др. Станкевіч — Была выказаная думка згарача (спадарамі Бартулём[799], Тулейкам), каб ладзіць сьвяткаваньне ў Нью Брансьвік[800]. Прапановы гэтай др. Станкевіч не прыняў. БАЗА сьвяткаваньню перашкаджаць ці байкатаваць яго ня будзе. Свае адносіны да сьвяткаваньня кожны павінен акрэсьліць асабіста.

Думка др. Станкевіча была падтрымана ўсімі прысутнымі.

---

[799] **Францішак Бартуль** (15.11.1918, в. Бярозкі (сёння Латвійская Рэспубліка) — 04.12.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1937 г. скончыў сярэднюю школу ў Дзвінску (Даўгаўпілс). У 1940 г. мабілізаваны ў Чырвоную Армію, трапіў у нямецкі палон і апынуўся ў Штэтыне (Шчэцін, Польшча). Дзякуючы веданню нямецкай мовы быў прызначаны перакладчыкам і адпушчаны на адпачынак у Дзвінск, адкуль назад не вярнуўся. У 1943 г. скончыў Віленскую беларускую настаўніцкую семінарыю. Вучыўся ў Мінскай афіцэрскай школе БКА (1944). Ад ліпеня 1944 г. — на выгнанні. Спачатку знаходзіўся ў Кёнігсбергу, працаваў у Камітэце самапомачы. У 1944–1945 гг. вучыўся на філасофскім факультэце Мюнхенскага каталіцкага ўніверсітэта, пазней — на філасофскім факультэце Грыгарыянскага ўніверсітэта ў Рыме. Адтуль перабраўся ў Вялікабрытанію, атрымаў спецыяльнасць тэхніка-дантыста. Быў сябрам ЗБВБ, а ў 1949 г. быў абраны старшынёй арганізацыі. Адзін са стваральнікаў Беларускага хрысціянскага акадэмічнага аб'яднання «Жыццё» і Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб'яднання «Рунь». У 1956 г. разам з жонкай Верай Касцюкевіч выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, дзе меў дантыстычную майстэрню. Стаў актыўным удзельнікам беларускага жыцця. Уваходзіў у кіраўніцтва БАЗА і яго Нью-ёркскага аддзела.

[800] **Нью-Брансвік** (*New Brunswick*) — горад у акрузе Мідлсэкс у штаце Нью-Джэрсі (ЗША), дзе склаўся асяродак прыхільнікаў Рады БНР. Горад знаходзіцца недалёка ад «зарубежніцкага» Саўт-Рывера, што давала падставы для пастаноўкі пытання пра правядзенне тут супольных беларускіх святкаванняў.

Гэн. Кушэль — Прысутнічаў на апошнім сходзе вэтэранаў. Настаўленьне да яго асобы на сходзе было ня зусім прыхільнае, зьмянілася, аднак, крыху пасьля ягонага выступленьня. Старшынёю вэтэранаў быў абраны сп. Мерляк, бо іншага выбару ня было.

Да п. 4:

Было абгаворана шэраг пытаньняў тэхнічнага характару, датычачых фінансаў БНР.

*Гэн. Ф. Кушэль, Старшыня Сакратарыяту Рады БНР.*

*В. Русак, сакратар.*

## ПРАТАКОЛ ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ І САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР З ДНЯ 24-ГА КРАСАВІКА 1966 ГОДУ

Прысутныя: Гэн. Ф. Кушэль, сп. сп. В. Кендыш, М. Кунцэвіч, А. Шукелойць, В. Русак, Уладыка Васіль прыйшоў пазьней.

Парадак дня:

1. Адчыненьне.
2. Фінансавыя справы.
3. Вонкавая палітыка.
4. Нутраная палітыка.
5. Сакратарыят інфармацыі.
6. Рэлігійныя справы.
7. Вольныя прапановы.

Да п. 1:

Паседжаньне адчыніў гэн. Ф. Кушэль; прачытаў прапановы парадку дня, як вышэй.

Сп. Кендыш — прасіў ня ставіць справаў рэлігійных на парадак дня пакуль ня прыйдзе Уладыка Васіль.

Гэн. Кушэль — папрасіў ушанаваць уставаньнем і хвілінай цішыны памяць раднага др. Станіслава Грынкевіча[801], які памёр дня 18 красавіка г. г.

Да п. 2:

Рэфэруе сп. Кендыш. Бюджэт будзе меншы; радыё Мадрыд, якое мела $3500, цяпер не працуе[802]. Прапануе наступны бюджэт на 1966 год:

Прыбыткі:

Складкі радных — $800.00
Дар Сакавіка — $450.00
Дар Лістапада — $400.00
Фонд Рады БНР — $90.00

---

801 Станіслаў Грынкевіч памёр у Кліўлендзе, штат Агая.

802 Беларуская рэдакцыя Нацыянальнага іспанскага радыё спыніла працу ў 1965 г.

Канцылярыя Прэзыдэнта БНР — $560.00
Процант з банку — $10.00
Усяго — $2310.00
Выдаткі:
Канцылярыя Прэзыдэнта БНР — $1200.00
Канцылярскія выдаткі — $100.00
Пошта — $70.00
Разьезды — $550.00
Рэпрэзэнтацыя — $150.00
Іншыя — $120.00
Надвышка — $100.00
Усяго — $2310.00

Сп. Кендыш — просіць выказацца адносна прапанаванага бюджэту.

Гэн. Кушэль — Было шмат выдана на вянкі для памёршых радных, для Прэзыдэнта УНРады, на гроб Прэзыдэнта Кэннэды[803], апошня для др. Грынкевіча. У шмат выпадках выдаткі гэтыя ня былі пакрыты Радай. Прапануе ў выпадку сьмерці раднага або заслужанага беларуса заўсёды складаць вянок ад Рады БНР.

Прысутныя выказалі згоду на гэта. Фактычна, так практыкавалася да гэтага часу.

Сп. Кендыш — Ёсьць каля ста радных. Складкі, аднак, ня плоцяцца. Магчыма, складкі завысокія, магчыма, зьніжаць складкі на 1 даляр у месяц. Варта было-б узнавіць нацыянальны падатак.

Пасьля даўжэйшай дыскусіі над справай складак было вырашана гутарыць паасобку з кожным радным, што залягае са складкамі. Калі ён палагодзіць хаця сымбалічна справу доўгу й згодзіцца рэгулярна плаціць складкі ў будучыні, дык лічыць справу складак такога раднага палагоджанай.

Сп. Шукелойць — Вельмі цяжка праводзіць зборкі ахвяраў. Зборшчыкі наражаны на незаслужаныя часам непрыемнасьці нават з боку радных. Так, напрыклад, сп-ня Каханоўская[804] мела выгавар з боку сп. Адамовіча й сп. Курылы[805]. Ці ня варта было-б агранічыць збору ахвяраў да адной лісты на

[803] Амерыканскі Прэзідэнт Джон Кенэдзі быў забіты 22 лістапада 1963 г.

[804] **Яніна Каханоўская** (дзяв. Шабуня, 26.11.1905, Мінск — 16.07.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзеячка, пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, першая жонка Аўгена Калубовіча (Каханоўскага). Скончыла Мінскую польскую гімназію і агульнаадукацыйныя курсы, працавала медыцынскай лабаранткай. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Пасялілася ў Нью-Ёрку. Брала ўдзел у дзейнасці БАЗА (сакратар Галоўнай управы), уваходзіла ў кіраўніцтва жаночых структураў арганізацыі, а таксама ва ўправы Нью-ёркскага і Манхэтанскага аддзелаў. Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус» і БІНіМа.

[805] **Уладзіслаў (Уладзімір) Курыла** (01.06.1922, каля Радашковіч (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — ?), грамадскі дзеяч. Быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Потым служыў 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў

Дар Сакавіка. Ці ня звольніць радных ад збораў па лістах (тых, што плацяць складкі). Просіць сп. Кендыша паінфармаваць, чаму радыё Мадрыд спыніла дзейнасьць.

Сп. Кендыш — радыё Мадрыд распачало дзейнасьць у 1958 годзе Гішпанскі ўрад даваў час і карыстаньне радыёстанцыяй, мы аплачвалі пэрсанал. Працаўнікі радыё «Свабода» ў Мюнхэне плацілі 1000.00 марак у месяц са свае платы. У 1961 г. справу фінансаў радыё пераняў ён. Сп. Сурвіла патрабаваў штораз больш грошай[806]. Мінулы год вясною Гішпанскі ўрад спыніў дзейнасьць нашай і некаторых іншых сэкцыяў, магчыма, у сувязі з агульна палітычнай сытуацыяй. Падае лікі грошай, унесеных на радыё Мадрыд беларускімі арганізацыямі. Выглядае, што можна хадаць аб адкрыцьці радыё ізноў, аднак уважае, што на гэта няма сродкаў.

Гэн. Кушэль просіць галасаваць па бюджэту.

Бюджэт аднагалосна прынімаецца.

Да п. 3:

Гэн. Кушэль чытае інфармацыю ад Прэз. Абрамчыка. Прэз. Абрамчык з-за веку і сілаў ня можа весьці працы з той актыўнасьцю, зь якой рабіў гэта раней. Просіць сп. Кушэля й сп. Кендыша весьці працу тут. Зарысоўваюцца новыя магчымасьці дзейнасьці ў Англіі і Нямеччыне. У Англіі пачаў выходзіць часапіс «Джорнал оф Быёларашан Стадыс»[807], там працу ў асноўным вядуць ангельцы. У Нямеччыне трэба працаваць нам самым, немцы ёсьць згодны пакрываць некаторыя выдаткі. Яны фінансуюць «Запісы». Наагул, іхняя дапамога слабая. Супрацоўніцтва з Амэрыканскім камітэтам робіцца што раз цяжэйшым. Хутка прыходзіць новы старшыня радыё «Вызваленьне»[808].

Далей сп. Кендыш зацеміў, што матарыяльнае становішча Прэзыдэнта ёсьць цяжкое, нягледзячы, аднак, на гэта ён працуе вельмі шмат. Будзе

---

сябрам ЗБВБ, у 1951 г. уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі. Меў спецыяльнасць тэхніка-дантыста і быў адным з заснавальнікам дантыстычнай майстэрні ў Беларускім доме ў Лондане. Выконваў таксама абавязкі адміністратара Беларускага дома. Быў адным з ініцыятараў стварэння і старшынёй Згуртавання беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам БХАА «Жыццё» і БАКА «Рунь». У снежні 1954 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Сябра БАЗА.

[806] Пасля выезду з Іспаніі ў ЗША Віктара Сянкевіча ў 1961 г. наступныя гады да закрыцця беларускай рэдакцыі Янка Сурвіла рабіў для яе перадачы выключна пры дапамозе сваёй жонкі Івонкі. Грошы за гэтую працу і, адпаведна, на пражыццё радыё не плаціла, а мусіла выдаткоўваць Рада БНР ды беларуская грамада на Захадзе. І гэта быў мінімум на мяжы беднасці. Гл.: Сурвіла, Івонка. Дарога: Стоўпцы — Капэнгаген — Парыж — Мадрыд — Атава — Менск, 2008. С. 72–76.

[807] ***Journal of Byelorussian Studies*** — англамоўны навуковы часопіс, орган Англа-беларускага таварыства, выходзіў у Лондане ў 1965–1988 гг.

[808] Магчыма, маецца на ўвазе прызначэнне на пасаду дырэктара Радыё Свабода (назва Радыё «Вызваленне» была зменена на Радыё Свабода ў 1959 г.) у 1965 г. дыпламата **Уолтэра К. Скота** (*Walter K. Scott*), які заставаўся на гэтай пасадзе цягам наступных 10 гадоў.

таксама каардынаваць выдавецтва ў ангельскай мове. У кастрычніку мае прыехаць у ЗША.

Сп. Сурвіла, будучы ў Парыжы, не наведаў сп. Прэзыдэнта. Ёсьць магчымым, што радыё Мадрыд было закрыта часткова па віне сп. Сурвілы. Магчыма, ён не вывязаўся з абавязкаў, праўда, мы яму мала памагалі.

Вывязалася шырэйшая дыскусія над інфармацыяй сп. Кендыша.

Сп. Русак — заўважыў, што Нямеччына сяньня ў сэньсе вялікай палітыкі ня ёсьць і ня можа быць прыхільнай справе незалежнасьці і суцэльнасьці Беларусі.

Сп. Кендыш — у адсутнасьць Прэзыдэнта Абрамчыка няма ў нас лучнасьці з Вашынгтонам. Уважае, што др. Жук-Грышкевіч мог-бы наведаць Вашынгтон па якойсь важнай справе з мэмарыялам.

Вырашана ўзгодніць гэтае пытаньне з Прэзыдэнтам. Гэн. Кушэль напіша аб гэтым сп. Прэзыдэнту.

Сп. Кендыш — Уздым на Беларусі ў галіне мовы, культуры й гісторыі ёсьць у вялікай меры рэакцыяй на нашу дзейнасьць. Патрэбен палітычны ворган БНР.

Сп. Русак — ня бачыць магчымасьці выдаваньня такога воргану як дзеля недахопу адпаведных сілаў, так і грошай. Платнікі БНР патрабуюць хоць якіх справаздачаў з дзейнасьці. Трэба выдаць хаця адзін нумар бюлетэню.

Гэн. Кушэль — будзе гаварыць пра гэта са сп. Адамовічам, сп. Запруднікам і др. Ст. Станкевічам.

Да п. 4:

Гэн. Кушэль — заявіў, што сп. Запруднік мае часовы водпуск ад абавязкаў сакратара інфармацыі. Выясьніць, ці ён зможа ўзяць на сябе ізноў гэты абавязак. Сп. Кушэль пакліча сакратара нутраных справаў і падасьць на зацьверджаньне сп. Прэзыдэнту.

Да п. 5:

Палагоджана ў пункце 4.

Да п. 6:

Гэн. Кушэль — просіць сп. Кендыша рэфэраваць рэлігійныя справы.

Сп. Кендыш — просіць, каб прысутны тут Уладыка Васіль выразіў згоду, каб сп. Кендыш прадставіў справу.

Сп. Кендыш — як праваслаўны ўдзельнік першага Сабору БАПЦ у Нямеччыне, ёсьць глыбока пераняты лёсам БАПЦ. Мае інфармацыі з усіх краінаў аб стане БАПЦ. Уважае, што БАПЦ у Аўстраліі апынулася ў вельмі цяжкой сытуацыі. Уладыка Сергій уключыўся ў дзейнасьць і перайшоў у Сынод Грэцкай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Амэрыкі і Аўстраліі. Гэта фактычна ёсьць адыход Архіепіскапа Сергія ад БАПЦ у Грэцкую Аўтакефальную Царкву[809]. Уладыка Васіль тут нічога ня мог зрабіць, каб не

[809] Каля 1960 г. архіепіскап Сергій узяў пад сваю апеку грэцкія прыходы Адэлаіды і Ньюкасла, якія аддзяліліся ад Аўстралійскай епархіі грэцкай праваслаўнай царквы. Гэта выклікала пратэсты Канстанцінопальскага патрыярха, у юрысдыкцыі якога

дапусьціць да гэтага. Сп. Кендыш прадстаўляе матарыялы з аўстралійскай прэсы.

Уладыка Васіль — прадстаўленыя матэрыялы не зусім адпавядаюць праўдзе. Адыход Япіскапа Фоція[810] ад Экзарха Канстантынопальскага быў вызваны тым, што Экзарх прызнае патрыярха Маскоўскага.

Сп. Гарошка (сп. Гарошка прыйшоў толькі цяпер на паседжаньне) — уважае, што справа ў Аўстраліі ёсьць у парадку.

Сп. Кендыш — сяньня япіскап Фоцій ёсьць у Амэрыцы, а Архіепіскап Сергій кіруе Грэцкай Аўтакефальнай Царквой. Гэта справа ня ёсьць у парадку, і ўсё, што зрабіў архіепіскап Сергій ня ёсьць у нашых інтарэсах. Сяньня справу выправіць нельга. Можна аднак адыйсьці ад архіепіскапа Сергія.

Сп. Русак — падтрымаў становішча сп. Кендыша.

Да п. 7:

Ніякіх прапановаў не паступіла.

На гэтым паседжаньне было закончанае. Паседжаньне было пашыраным; на яго былі запрошаны сэктар БНР у ЗША, прадстаўнікі Галоўнай управы БАЗА і Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

*Гэн. Ф. Кушэль, Старшыня Сакратарыяту Рады БНР.*

*В. Русак, сакратар.*

## ПРАТАКОЛ 10-АЕ СЭСІІ РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ, ПРАВЕДЗЕНАЕ 13-ГА КРАСАВІКА 1968 Г. У НЬЮ ЁРКУ

Сэсія пачала сваю працу а 9-ай гадзіне ўраньні ў памешканьні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага, 166-34 Готык Драйв, Джамэйка, Нью Ёрк, 11432.

У працы Сэсіі ўзяло ўдзел 30 радных зь Нью Ёрку, Нью Браньсвіку, Кліўленду, Дэтройту і Канады. Апрача гэтага пяцёх радных з Канады, двух з Аўстраліі і адзін з Кліўленду прыслалі свае ўпаўнаважаньні паасобным удзельнікам Сэсіі. Сэктары Рады з Зах. Нямеччыны (Мюнхэн), зь Вялікабрытаніі (Лёндан) і з Аўстраліі (Мэльбурн) прыслалі на сэсію пратаколы сваіх паседжаньняў з заўвагамі і пажаданьнямі што да парадку дня Сэсіі й галоўных пытаньняў далейшае дзейнасьці Рады. Прысланымі пратаколамі з вышэй названых краёў было прадстаўлена 17 радных.

Прэзыдэнт М. Абрамчык адчыніў Сэсію, адзначыўшы ейны юбілейны характар.

Быў прыняты наступны парадак дня:

---

знаходзіліся прыходы, і стварыла праблемы для БАПЦ. Тым не менш, згаданымі прыходамі Сергій апекаваўся да канца свайго жыцця і быў пахаваны ў 1971 г. менавіта як грэцкі іерарх.

[810] Маецца на ўвазе епіскап **Фоціас (Кумідзіс)**, былы епіскап Пафаса, які стварыў незалежную аўтакефальную царкву ў Амерыцы. У 1964 г. ён прыехаў у Аўстралію.

1. Урачыстае адчыненьне Сэсіі. Прыняцьце парадку дня. Выбары Прэзыдыюму сэсіі — 9:00–9:15.
2. Справаздачны даклад Прэзыдэнта М. Абрамчыка зь ягонай 25-ці гадовай дзейнасьці — 9:15–10:00.
3. Справаздачы выканальных органаў Рады БНР за апошнюю кадэнцыю — 10:00–10:45.
4. Дыскусіі па справаздачах — 10:45–12:00.
5. Справа па рэарганізацыі Рады БНР — 12:00–12:30.
6. Папраўкі ў Статуце Рады БНР — 12:30–1:00.

Перапынак на абед.

7. Выбары Прэзыдэнта БНР — 2:00–2:30.
8. Выбары выканальных органаў Рады БНР — 2:30–3:00.
9. Прыняцьцё пастановаў — 3:00–4:00.
10. Align Рознае.
11. Зачыненьне Сэсіі — 4:00–5:00.

У Прэзыдыюм увайшлі спсп. А. Адамовіч (старшыня), А. Стагановіч (заступнік старшыні), А. Шукелойць (сакратар), Я. Запруднік (сакратар).

Прэзыдэнт прачытаў прозвішчы радных, што памерлі ад часу апошняе сэсіі Рады. Памяць іх была ўшанаваная хвілінай маўчаньня.

Сп. Адамовіч пераняў далейшае вядзеньне сэсіі.

У сваім справаздачным дакладзе Прэзыдэнт Абрамчык зрабіў агляд свае 25-ці гадовае дзейнасьці на становішчы Старшыні Рады, у якой галоўнымі аспэктамі былі:

1. Пераняцьце тэстамэнту і становішча Прэзыдэнта БНР ад Прэзыдэнта Захаркі ў цяжкіх абставінах Другое сусьветнае вайны, па заканчэньні якое тэстамэнтальнае паўнамоцтва выявілася нязвычайна важным фактарам у пракладаньні шляху да кантактаў з урадамі заходніх дзяржаваў (Лёндан, Брусэль, Ватыкан, Вашынгтон і інш.).
2. Наведаньне ў часе вайны яшчэ Беларусі[811] з мэтай высьвятленьня стану беларускае справы й навязаньня лучнасьці зь дзеячамі беларускага нацыянальнага руху.
3. Дэпартацыя ў часе вайны зь Нямеччыны ў Францыю й перабываньне пад хатнім арыштам у Парыжы, навязаньне кантакту з францускім рухам супраціву (рэзыстансам).
4. Апрацаваньне інфармацыйна-даведачнага матэрыялу аб Беларусі (француская брашура «Белёрусі» і інш.) для пашырэньня яго сярод заходніх дзяржаўных дзейнікаў. Апрацаваньне шэрагу мэмарыялаў да заходня-эўрапейскіх урадаў.

---

[811] Пра свой нелегальны прыезд у 1943 г. у Беларусь Мікола Абрамчык згадвае ў сваім адказе на абвінавачанні ў супрацоўніцтве з Гестапа, зробленыя ў дакументальным фільме «Людзі з чорнымі душамі». Гл.: Заява Прэзыдэнта Рады БНР // Бацькаўшчына. № 4(604). Вялікдзень 1963.

5. Удзел у працы міжнацыянальнага руху «Інтэрмарыюм», у якім бралі ўдзел прадстаўнікі экзыльных урадаў Польшчы, Румыніі, балцкіх народаў і інш.[812]

6. Стараньні перад заходнімі ўрадамі недапушчэньня да прымусовае рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз былых беларускіх вайскавікоў з Заходняе Нямеччыны, Даніі і Францыі.

7. Навязаньне кантактаў з апостальскім нунцыем у Парыжы кардыналам Ранколі[813], а празь яго з Ватыканам і Вашынгтонам. Забесьпячэньне стыпэндыяў для беларускае студэнцкае моладзі ў Лювэне.

8. Перамовы з польскім экзыльным урадам і польскімі палітычнымі партыямі ў Лёндане ды здабыцьцё ад іх пісьмовага прызнаньня патрэбы моцнае незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі — факт, які нядаўна паслужыў важным аргумэнтам у забясьпечаньні прызнаньня Ватыканам асобнае гіерархіі для беларускіх каталікоў[814].

9. Падарожжа ў ЗША ды навязаньня кантактаў у Вашынгтоне. Дзейнасьць у кірунку згуртаваньня нерасейскіх народаў у Лізе вызваленьня народаў СССР (Парыскі блёк). Арганізацыя беларускіх аддзелаў у радыё «Вызваленьне» (цяпер «Свабода») і ў Інстытуце вывучэньня СССР.

10. Падарожжы па краёх пасяленьня беларускае эміграцыі, наведваньне беларускіх асяродкаў, трыманьне сталае лучнасьці зь імі ды каардынаваньне іхных нацыянальна-вызвольных высілкаў.

Я. Запруднік — паінфармаваў пра сваю дзейнасьць як сакратара інфармацыі Рады БНР, зазначыўшы, што ў некаторых выпадках цяжка правесьці лінію падзелу між работай яго як сакратара і як прыватнае адзінкі, калі да яго зварачаюцца чужынцы або свае па матэрыялы пра Беларусь.

Галоўнае, што было зроблена па лініі інфармацыі, гэта:

1. Удзел у беларускім замежным друку (з артыкуламі й матэрыяламі да гісторыі й справы БНР) «Запісы БІНІМ», «Беларус», «Навіны зь Белару-

---

[812] Маецца на ўвазе канцэпцыя «Міжмор'я» (*Intermarium*), агучаная яшчэ Юзафам Пілсудскім. Яна мела на мэце стварэнне канфедэратыўнай дзяржавы на абшары ад Балтыйскага да Чорнага мораў. Пасля Другой сусветнай вайны пэўны час гэтая канцэпцыя, падтрыманая польскім экзільным урадам, была папулярная ў прадстаўнікоў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

[813] Маецца на ўвазе **Анжэла Джузэпэ Ранкалі** (*Angelo Giuseppe Roncalli,* 1881–1963), каталіцкі дзеяч, у 1958–1963 гг. — рымскі папа **Іаан XXIII**. У 1944 г. ён быў прызначаны папскім нунцыем у Францыі, у 1953 г. стаў кардыналам. Менавіта да гэтага часу адносяцца кантакты з ім беларусаў.

[814] Маецца на ўвазе пасвячэнне а. Часлава Сіповіча на біскупа і прызначэнне апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў усходняга абраду.

сі»[815], «Беларуская Моладзь»[816], а таксама адмысловыя выданьні Рады БНР («Бюлетэнь Рады БНР» і інш.).

2. Выданьне супольна з др. Жуком-Грышкевічам лістоўкі да «Экспо-67»[817], рыхтаваньне рэзалюцыяў пры нагодах кангрэсаў і сьвяткаваньняў ды іншага інфармацыйнага матэрыялу пра Беларусь для англамоўнае публікі.

3. Асабісты ўдзел у вядзеньні кангрэсаў, зьездаў і культурна-асьветных урачыстасьцяў.

4. Дбаньне аб належным інфармаваньні беларускага грамадзтва на бацькаўшчыне праз заходнія радыястанцыі.

5. Дапамога беларускім эміграцыйным асяродкам уладжаньні нацыянальных сьвяткаваньняў праз пасыланьне ім рэфэратаў і літаратурна-музычных праграмаў на магнітафонных істужках.

6. Дапамога навуковым матэрыялам беларускім і іншанацыянальным дасьледнікам беларускага пытаньня.

Сп. В. Кажан — паінфармаваў пра стан касы Рады БНР і падаў лікі прыбыткаў за паасобныя гады. Пры гэтым зазначыў, што бэльгійскі і аўстралійскі сэктары вельмі акуратныя ў дачыненьні да сваіх грашовых забавязаньняў.

Інфармацыю В. Кажана дапоўніў сп. В. Русак, прачытаўшы лісту радных у ЗША з дакладным зазначэньнем што да стану іхных грашовых узносаў. (Сп. В. Русак назваў спадарства Кушалёў як вельмі прыкладных радных, што заўсёды рэгулярна й добрасумленна ставяцца да сваіх грашовых забавязаньняў).

Сп. В. Семянчук[818] — паінфармаваў пра справу складак і грашовых збораў сярод радных у Кліўлендзе.

На запытаньне др. Я. Сажыча пра стан амэрыканскага сэктару Рады БНР др. Ул. Набагез паінфармаваў, што сучаснае кіраўніцтва сэктару было сфармаванае ў 1958 годзе (А. Шукелойць, В. Русак і Ул. Набагез — старшыня). Ён як старшыня аб'яжджаў колькі раз асяродкі, а ў выніку аб'ездаў прыйшоў да перакананьня, што сыстэму сэктару й падсэктараў трэба было-б

---

815 **«Навіны зь Беларусі»** (агляд савецкага друку) — эміграцыйны перыёдык, які выходзіў як выданне Амерыканскага камітэта вызвалення (пазней Камітэта Радыё Свабода) у Нью-Ёрку ў 1963–1969 гг. Рэдактарам быў Янка Запруднік. Усяго пабачылі свет 143 нумары.

816 **«Беларуская моладзь»** — квартальнік Згуртавання беларускай моладзі ў Амерыцы, які выходзіў у Брукліне ў 1959–1980 гг.

817 Маецца на ўвазе ўлётка *«Byelorussian Brainwashing at EXPO 67»*, якая распаўсюджвалася на Сусветнай выставе ў Канадзе. Галоўная ідэя: Беларусь — калонія Расіі.

818 **Васіль Семянчук** (07.01.1899, в. Угалец Мазырскага пав. Менскае губ. (сёння Столінскі р-н Брэсцкай вобл.) — 25.01.1983, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч. У 1961–1962 г. быў заступнікам старшыні Кліўлендскага аддзела БАЗА. Быў кіраўніком Кліўлендскага падсектара Рады БНР. Адзін з заснавальнікаў парафіі Жыровіцкай Маці Божай БАПЦ.

зьмяніць — з тым, каб у кожным асяродку ЗША мясцовыя радныя дзеілі як паасобны сэктар ды былі беспасярэдня падпарадкаваныя Сакратарыяту.

Др. Б. Рагуля — навязваючы да справаздачы Прэзыдэнта, удакладніў пытаньне грашовае дапамогі беларускім студэнтам у Бэльгіі з боку Ватыкану. Дапамога гэная давалася адно на працягу першых двох гадоў, пасьля чаго справу дапамогі пераняў бэльгійскі ўрад, які свой узнос у ЮНЭСКО перал казаў на чужынецкіх студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту, з чаго карысталі й беларускія студэнты.

Бяручы ўдзел у дыскусіі над грашовымі складкамі (у сувязі з пытаньнем сп. Ул. Русака пра прычыны залегласьці ў некаторых радных), сп. Я. Азарка вытлумачыў, што залегласьці часамі спрычыняюцца актыўным удзелам радных у іншых грашовых выдатках грамадзтва, як купля цэркваў, народных дамоў, грамадзкае маёмасьці наагул.

Др. В. Жук-Грышкевіч — гаворачы пра значаньне Рады БНР для беларускае эміграцыі, сказаў, што з самага пачатку, калі па вайне пачалося беларускае арганізацыйнае жыцьцё, Рада БНР надала зьмест гэтаму жыцьцю, паказала кірунак палітычнага дзеяньня, напоўніла духовы сьвет эміграцыі. Рада БНР нагэтулькі патрэбная і ў далейшым, што безь яе нельга сабе ўявіць палітычнага існаваньня эміграцыі.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч — выказала пажаданьне, каб была апрацаваная дакладная арганізацыйная структура сэктараў Рады БНР па ўсіх краёх расьсяленьня.

Др. Б. Рагуля — запрапанаваў абмеркаваць пытаньне забясьпечаньня матэрыяльнага боку жыцьця Прэзыдэнта Абрамчыка з тым, каб ён не патрабаваў займацца заробкавым высілкам, а поўнасьцю аддаўся палітычнарэпрэзэнтацыйнай дзейнасьці. Прапанову гэтую падтрымаў сп. В. Русак, дадаўшы, што сп. Абрамчык мусіў-бы быць забясьпечаны намі матэрыяльна навет тады, калі ён перастане быць Прэзыдэнтам.

Сп. Ул. Курыла — прыгадаў часы Другое сусьветная вайны, калі ён разам зь беларускімі жаўнерамі пад Лідай даведаліся былі, што дзесьці на Захадзе ёсьць беларускі эміграцыйны ўрад, які ставіць сабе за мэту поўную незалежнасьць роднага краю. Гэта дало жаўнерам вялікае маральнае падтрыманьне й веру ў будучыню. Рада і Урад БНР ня страцілі й дагэтуль гэтае свае праводнае ролі.

Сп. Б. Данілюк — выказаў пажаданьне, каб дзеля належнага праводжаньня работы радныя рэгулярна зьбіраліся абмяркоўваць бягучыя справы й плянаваць дзейнасьць.

Сп. Я. Запруднік — заўважыў, што ў Нью Ёрку грамадзкія абавязкі нагэтулькі абцяжваюць радных, што часамі на фармальныя паседжаньні цяжка й здабыцца. У гэткім выпадку радныя мусяць прынамся не забывацца на тое, што яны радныя, каб хоць гэтым усьведамленьнем трымаць Раду як палітычную інстытуцыю.

Сп. А. Шукелойць — сказаў, што ў Нью Ёрку, калі сэктар і не зьбіраўся часта на свае паседжаньні, дык тым ня менш радныя трымалі весь час

руку на пульсе грамадзкага жыцьця ды забясьпечылі належны ідэалягічны ўзровень беларускім выступленьням на міжнацыянальных форумах і ў нутраным жыцьці.

Сп. Семянчук — выказаў падтрыманьне думкі Б. Рагулі й В. Русака, што да патрэбы матэрыяльнага забясьпечаньня Прэзыдэнта Абрамчыка, а таксама архіепіскапа Васіля.

Др. В. Жук-Грышкевіч — сказаў, што сэктар Рады мусіць кіраваць грамадзке жыцьцё свайго асяродку, што роля Рады БНР у грамадзкім жыцьці вялікая.

Сп. Г. Паланевіч — падзякаваў Прэзыдэнту Абрамчыку за ягоную 25-гадовую дзейнасьць ды заявіў, што дзейнасьць выканальных органаў Рады БНР не праводзілася на належным узроўні. Калі работа й была, сказаў ён, дык яе праводзілі паасобныя радныя, а ня органы Рады. Прамоўца зганіў падрыхтоўку Сэсіі (якую, сказаў ён, чамусьці назначылі на Вялікую Сыботу).

Сп. М. Гарошка — ацэньваючы мінулыя 25 гадоў дзейнасьці Рады, прызнаў, што былі плюсы й мінусы, ды ўсё-ж у васноўным пэрыяд быў пазытыўным. Сп. Гарошка адзначыў вялікую актыўнасьць др-ра Ул. Набагеза, як і іншых сяброў Рады БНР у Нью Ёрку. Дзейнасьць нашых арганізацыяў, сказаў прамоўца, часта зазубліваецца, і іншы раз цяжка разрозьніць, да якое з гэтых арганізацыяў належыць тая ці іншая акцыя.

Сп. М. Тулейка — заявіў, што некаторыя арганізацыі паслабілі сваю дзейнасьць, а то й зусім зыйшлі да існаваньня на паперы. Кожны з радных мусіць быць актыўным, мець на сабе нейкі абавязак. Думаючы, што ўсё добра на грамадзкай ніве, кажа сп. М. Тулейка, мы сябе адно падманвалі-б. Мала *«трымацца разам у сьведамасьці»*, трэба трымацца разам у дзейнасьці.

Сп. Данілюк — зрабіў закід, што Сэсія займаецца разглядам дробных пытаньняў мясцовага характару, тады калі мусілі-б абмяркоўваць агульнанацыянальныя справы. Арганізацыйна сытуацыя выглядае блага й няма чаго яе апраўдваць.

Сп. Ул. Русак — выказаў запытаньне-дакор: што сэктар Рады ў ЗША зрабіў, каб не дапусьціць да развалу ў ньюёркаўскім прыходзе БАПЦ, каб ухіліць пагрозу банкруцтва ад летняга адпачынковага селішча Бэлер-Менск[819]?

Сп. Ул. Набагез — адказаў, што Сэсія, за выняткам дэлегатаў з Канады, фактычна сход сэктару ЗША. Склікаць яго для ўрэгулёўваньня бягучых і бязупынных цяжкасьцяў грамадзкага жыцьця было немагчыма.

Сп. А. Адамовіч — сказаў, што Рада БНР — гэта перш-наперш нясеньне роднага сьцягу дзяржавы (як у песьні «Узьняты родны сьцяг дзяржавы»[820]). Сьцяг гэты быў узьняты Кангрэсам 1917 году, а цяпер ён у руках Прэзыдэнта М. Абрамчыка. Рэарганізацыя Рады, калі яе праводзіць, мусіць забясьпечыць

---

[819] **Рэсорт Белэр-Менск** — беларускі адпачынкавы цэнтр у Глен-Спэй (110 км. ад Нью-Ёрка) — быў набыты і адчынены ў 1963 г.

[820] Маецца на ўвазе песня **«Падняты родны сцяг дзяржавы»**, аўтарства якой належыць Язэпу Сажычу.

найперш далейшае нясеньне сьцягу. Але Рады ў ніякім выпадку нельга разьвязваць і ня трэба разьменьвацца на дробязі. Рэгулярнае плачэньне складак, сказаў прамоўца, — важная ўмова забясьпечаньня нясеньня сьцягу.

Прэзыдэнт Абрамчык — адзначыў, што сп. сп. Тулейка і Адамовіч сказалі правільна: Рада БНР — гэта носьбіт сьцягу дзяржавы, нацыянальны провад.

Старшыня Сэсіі абвесьціў абедзенны перапынак. Сэсія пачала далейшыя нарады а 2:15 гадз. папаўдні.

В. Кендыш — даў сьціслую фінансавую справаздачу, зазначыўшы, што фінансы — аснова ня толькі дзейнасьці, але й магчымасьцяў. (Фінансавым пытаньням Рады будзе прысьвечаны адзін з бюлетэняў, выхад якіх плянуецца аднавіць).

Старшыня Сэсіі абвесьціў, што на парадку дня — пытаньне рэарганізацыі Рады.

Айцец В. Кендыш — сказаў, што калі прыняць пастанову, каб Раду БНР выбірала эміграцыя, дык тады будзе страчаная фармальна-юрыдычная лучнасьць з Бацькаўшчынай, а Рада пераўтворыцца ў эміграцыйную арганізацыю. Справа карысная, аднак, сказаў ён, каб частка радных паклікалася Прэзыдэнтам.

Сп. М. Тулейка (у справе фармальнай) — Мы маем на парадку дня пытаньне рэарганізацыі Рады, а дыскусія вядзецца над Статутам. Лепш было-б абмяркоўваць Статут, у якім знойдзе сваё месца й пытаньне рэарганізацыі.

Сп. М. Кунцэвіч — Рада як была, гэтак і застаецца. Зьмены ў Статуце — гэта асобнае пытаньне. Новая арганізацыя, Ліга Рады БНР[821], Статуту не закранае. Яна можа сабе паўставаць і няхай дэлегуе ў Раду сваіх прадстаўнікоў.

Сп. Б. Рагуля — Праект рэарганізацыі паўстаў з мэтай не кардынальных зьменаў у структуры, а з мэтай крышталізацыі: каб выясьніць, хто радны, а хто не. Тады мы ведалі-б стан Рады. У Раду выбараў быць ня можа, паасобныя асяродкі, у тым ліку й зарубежніцкія, могуць дэлегаваць у яе сваіх прадстаўнікоў.

Сп. М. Гарошка — прызнае патрэбу пэўных зьменаў у арганізацыі Рады, каб зрабіць Раду больш дзейнай. Кожная арганізацыя час ад часу вымагае аднаўленьня й перагляду структуры. Выбарчы мамэнт, сказаў ён, мусіць замяніць сабой мамэнт тэстамэнту, патрэбная дэмакратызацыя Рады.

Архіепіскап Васіль — уважае, што самое слова «рэарганізацыя» паўстала ў выніку застою, які вытварыўся апошнімі гадамі. Але слова «рэарганізацыя» наагул ня трэба было-б ужываць. Ход тут пра тое, як зрабіць дзейнасьць Рады больш актыўнай. Ніякіх выбараў Прэзыдэнта эміграцыя, маленькая частачка народу, рабіць ня можа. Выбарнасьць Прэзыдэнта парве юрыдычную цягласьць. Сэсія можа адно падцьвярджаць Прэзыдэнта як тэстамэнтальнага пераемніка.

---

[821] **Ліга Рады БНР** — праект рэарганізацыі Рады БНР, прапанаваны Вінцэнтам Жук-Грышкевічам.

Сп. Г. Паланевіч — Рада павінна выбіраць не Прэзыдэнта, а заступніка, бо калі-б з Прэзыдэнтам сталася што-небудзь, дык хто тады мае весьці справу далей? Трэба было-б мець двух заступнікаў Прэзыдэнта: аднаго ў Эўропе (першага), а другога ў ЗША.

Сп. В. Семянчук — Мы ня можам выбіраць Прэзыдэнта, мы можам адно зацьвярджаць ягонага заступніка.

Сп. Ул. Русак — прапануе зрэвідаваць становішча Рады БНР да БЦР, да якое варта было-б зьвярнуцца й запрапанаваць дэлегаваць прадстаўнікоў у БНР.

Сп. Жук-Грышкевіч — прыгадаў сп. Б. Рагулю, што на паседжаньні таронтаўскага сэктару Рады гаварылася не пра крышталізацыю, а якраз пра рэарганізацыю (сп. Рагуля не згаджаецца: гаварылася пра крышталізацыю). У Нью-Ёрку, кажа др. Жук-Грышкевіч, Рада існавала, але па-за Нью-Ёркам пра яе ня ведаюць бадай нічога, хоць усьцяж маюць да Рады вялікі давер.

Прэзыдэнт — Мы з д-рам Грышкевічам доўга абмяркоўвалі праект. Некаторыя думкі я зьмяніў у выніку дыскусіяў з рознымі асобамі, але сама ідэя Лігі — памысная й можа забясьпечыць нам прыплыў новых людзей.

Сп. Ул. Набагез — запрапанаваў прыняць пастанову, якую прыняў ужо на сваім сходзе сяброў Рады БНР у Нью-Ёрку.

Я. Запруднік — зачытвае тэкст пастановы:

*«Даручыць ініцыятарам Лігі БНР свабоду дзеяньня ў справе стварэньня новае арганізацыі, якая заактывізавала-б беларускую палітычна-вызвольную дзейнасьць на чале з Радай БНР ды забясьпечыла-б Радзе БНР прыплыў новых прыяцеляў, сяброў і новых матэрыяльных рэсурсаў»*.

Сп. Жук-Грышкевіч — заявіў, што пытаньне рэарганізацыі гэта пытаньне, ці мы хочам трымаць сувязь з масамі, ці не. Маё 18-гадовае дазнаньне грамадзкае працы ў Канадзе, як казаў ён, пераконвае, што мы — маленькая частачка беларускае эміграцыі. Каб прыцягнуць іншых, трэба ўвесьці выбарны мамэнт. Тварыць Лігу БНР, на думку прамоўцы, павінна ўзяцца перш-наперш сама Рада БНР, ейныя сэктары. Сп. Жук-Грышкевіч запрапанаваў стварыць камісію з трох асобаў, якая-б дала ход ініцыятыве стварэньня Лігі БНР.

Сп. Я. Запруднік — перасьцерагае перад небясьпекай хвальшывае аналёгіі паміж функцыянаваньнем палітычных арганізацыяў у нармальным дэмакратычным грамадзтве й дзейнасьці гэткіх-жа арганізацыяў ува ўмовах эміграцыі, у якіх пра нармальныя выбары нельга й думаць. Выказвае патрэбу сфармуляваньня ідэалягічных пастулятаў Рады БНР, што патрэбнае для прыцягненьня ў Раду маладых людзей, не зьвязаных эмацыянальна зь Беларусяй і беларускай справай.

Сп. В. Семянчук — Ніякіх выбараў ня трэба ўводзіць. Трэба напісаць у сэктары, каб шукалі й прыцягвалі да дзейнасьці ў Радзе новых людзей, але мы ня можам расставацца з традыцыямі, вынесенымі з Бацькаўшчыны.

Сп. А. Стрэчань[822] — падтрымаў выказваньне Ўладыкі Васіля.

822 **Андрэй Стрэчань** (09.07.1916, в. Чарабасава Лунінецкага пав. Гарадзенскае губ. (сёння Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.) — 02.10.1999, Кліўленд, ЗША), грамадскі

Сп. В. Русак — Тэстамэнт — гэта лучнасьць з Бацькаўшчынай, якую нельга рваць. Калі ў Раду ўваходзіць праз пасярэдніцтва Лігі БНР, дык гэта паменшыць мамэнт рэпрэзэнтацыйнасьці. Прэзыдэнта мы ня можам выбіраць, бо парвецца гістарычная цягласьць.

Сп. Б. Даніловіч — сказаў, што цяперашнія радныя выбралі сябе сваёй працай, і надалей у Радзе месца тым, хто вызначыцца працай. Гэта агародзіць доступ да Рады бязьдзейным і абыякавым асобам.

На галасаваньне было пастаўлена пытаньне фармулёўкі пастановы — «Даручыць ініцыятарам..» (як у пастанове ньюёркаўскага сходу радных) ці «даручыць Камісіі» (як прапануе др. Жук-Грышкевіч). У выніку галасаваньня, 19 галасоў было пададзена за першы варыянт («даручыць ініцыятарам»), а 10 галасоў — за другі.

Сп. М. Кунцэвіч — пачаў рэфэраваць прапановы зьменаў у Статуце Рады БНР, над якімі адначасна праводзілася галасаваньне:

§6 — за старую форму пададзена было 20 галасоў, за новую *(«перавыбары на 6 год»*) — 14 галасоў.

Аднагалосна было пастаноўлена зьмяніць выраз «міністар» на «сакратар», «Раду Міністраў» — на «Выканаўчы орган».

§9 — дапоўніць першы сказ пра спосаб вызначэньня наступніка Прэзыдэнта БНР словамі *«па ўзгадненьні з Радай БНР, маючы на гэта бальшыню галасоў Рады»*. У галасаваньні за старую фармулёўку — ніводнага голасу, за новую — 22, устрымалася — 8.

§10 — пра сяброўства ў Радзе, новая фармулёўка: *«Рада БНР складаецца найбольш із 120 сяброў»*. Прыняты аднагалосна.

§11 — пра пакліканьне ў Раду: *«2/3 сяброў Рады БНР дэлегуецца беларускімі палітычнымі й грамадзкімі арганізацыямі, а 1/3 вызначаецца Прэзыдэнтам зь ліку заслужаных беларускіх дзеячоў»*. Прыняты аднагалосна.

§14 — пра асновы выключэньня з Рады. Аднагалосна прынята гэты параграф скасаваць.

§13, 14 і 29 у новай фармулёўцы прынятыя аднагалосна.

Сэсія прыняла засьцярогу сп. Жука-Грышкевіча, што пастанова пра спосаб выбараў Прэзыдэнта будзе сфармуляваная канчальна пасьля высьвятленьня становішча ў гэтым пытаньні сэктараў Рады ў Вялікабрытаніі, Заходняй Нямеччыне і Аўстраліі.

---

дзеяч. Вучыўся ў роднай вёсцы. У міжваенны час служыў у польскім войску, за што з прыходам саветаў у Заходнюю Беларусь перасьледаваўся і, каб уратавацца ад вывазу, мусіў перасяліцца з жонкаю ў м. Лахва. Ад 1944 г. з сям’ёй у Нямеччыне, працавалі каля Лейпцыга. У 1947–1948 гг. працаваў у вугальных капальнях Бельгіі, непадалёк ад Льежа; тады ж улучыўся ў беларускае нацыянальнае жыццё. Адзін з заснавальнікаў Саюза беларусаў Бельгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Актыўны будаўнік першай кліўлендскай царквы БАПЦ і Беларускага грамадскага цэнтра «Полацак». Сябра Управы Кліўлендскага аддзела БАЗА. Шматгадовы прадстаўнік газеты «Беларус» у Кліўлендзе.

Сэсія перайшла да выбараў Прэзыдыюму Рады. Былі выстаўленыя кандыдатуры на першага заступніка Прэзыдэнта спсп. В. Жука-Грышкевіча, Ул. Набагеза і Ант. Адамовіча. У галасаваньн за В. Жука-Грышкевіча было пададзена 24 галасы, за Ул. Набагеза — 6, за Ант. Адамовіча — 4. Першым заступнікам Прэзыдэнта, такім парадкам, стаўся др. Вінцук Жук-Грышкевіч.

На другога заступніка Прэзыдэнта былі пададзеныя кандыдатуры: Ул. Набагеза, Я. Сажыча, М. Гарошкі, Ант. Адамовіча, М. Кунцэвіча. У галасаваньні атрымалі галасоў: Набагез — 19, Сажыч — 6, Гарошка — 6, Адамовіч — 5, Кунцэвіч — 1. Другім заступнікам стаўся др. Уладзімер Набагез.

У выбарах сакратара Прэзыдыюму Рады былі пададзеныя кандыдатуры: спсп. В. Русака, А. Шукелойця, Ул. Русака. За сакратара бальшынёй 16-ці галасоў быў абраны сп. Васіль Русак.

На двух сяброў Прэзыдыюму Рады былі пададзеныя кандыдатуры: спсп. А. Шукелойця, Я. Сажыча, М. Гарошкі, Б. Рагулі. У выбарах было пададзена галасоў за Шукелойця — 26, Сажыча — 14, Адамовіча — 16, Гарошку — 10, Рагулю — 5. Сябрамі Прэзыдыюму Рады, такім парадкам, сталіся сп. сп. Антон Шукелойць і Антон Адамовіч.

Сп. Я. Запруднік — прыгадаў прапанову сп. Ул. Русака наладзіць падпісную лісту сталых месячных ахвяраў на Фонд канцылярыі Прэзыдэнта. Прапанова была прынятая, а сп. Ул. Русак узяўся за правядзеньне яе ў жыцьцё.

Сп. Б. Рагуля — запрапанаваў парассылаць радным лісты з запытаньнем пра іхныя дачыненьні да Рады, і ў выпадку, калі на працягу месяца часу ад раднага ня будзе адказу, перастаць уважаць яго за сябру Рады. Прапанова сп. Б. Рагулі была прынятая.

На прапанову д-ра В. Жука-Грышкевіча быў прыняты заклік да ўсіх радных падтрымаць справу стварэньня Лігі БНР.

На прапанову Прэзыдэнта М. Абрамчыка Сэсія даручыла новаабранаму Прэзыдыюму апрацаваць адпаведныя палітычныя рэзалюцыі.

А восьмай гадзіне ўвечары 10-ая Сэсія Рады БНР закончыла сваю працу.

*Нью Ёрк, 20 красавіка 1968 г.*

# ПРАТАКОЛ № 1
# ЗЛУЧАНАГА ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ І САКРАТАРЫЯТУ РАДЫ БНР З ДНЯ 19-ГА КРАСАВІКА 1969 ГОДУ; НЬЮ ЁРК

Прысутныя: Др. В. Жук-Грышкевіч (першы заступнік Прэзыдэнта Рады БНР), сп. А. Адамовіч (сябра Прэзыдыюму), сп. А. Шукелойць (сябра Прэзыдыюму), сп. Я. Запруднік (сябра Сакратарыяту), сп. В. Кажан (сябра Сакратарыяту), В. Русак (сакратар Прэзыдыюму).

Парадак дня:

I. Вызначэньне дзейнасьці:
1. Першага заступніка Старшыні Рады БНР
2. Заступніка Старшыні Рады БНР
3. Сакратара
4. Скарбніка
5. Сяброў

II. Канцылярыя Рады БНР
1. Вядзеньне карэспандэнцыі
2. Дакументацыя

III. Аддзел інфармацыі
1. Зьбіраньне інфармацыі зь беларускага жыцьця на эміграцыі
2. Зьбіраньне інфармацыі з жыцьця БССР і СССР
3. Зьбіраньне інфармацыі з палітычнага жыцьця заходніх дзяржаваў
4. Зьбіраньне інфармацыі з жыцьця нашых суседзяў дома й на эміграцыі
5. Выдаваньне інфармацыйнага бюлетэню для радных

IV. Устанаўленьне ліку дзейных радных ува ўсіх сэктарах Рады БНР на аснове іх актыўнасьці ў беларускім жыцьці і аплаты сяброўскіх складак

V. Вайсковы аддзел
1. Кіраўніцтва беларускіх вэтэранаў
2. Узнагароды вайсковых з нагоды 50-ці год БНР,

VI. Розныя

Др. Жук-Грышкевіч адчыняючы паседжаньне перадаў некаторыя весткі ад Прэзыдэнта Рады БНР сп. Міколы Абрамчыка. Прэзыдэнт у гэтым часе ня можа прыехаць у ЗША. У Эўропу прыяжджае сп. Патч ад Амэрыканскага камітэту й Прэзыдэнт хоча выкарыстаць гэтую нагоду дзеля палагоджаньня пытаньняў, кранаючых радыя «Свабода» і Амэрыканскага камітэта.

Старшынёю Парыскага блёку цяпер ёсьць сп. Левіцкі[823]. Старшынства будзе пераходзіць па чарзе да розных нацыянальнасьцяў.

Др. Жук-Грышкевіч прачытаў прапанову парадку дня. Засьцярогаў да парадку дня ня было.

---

[823] Маецца на ўвазе **Мікалай Лівіцкі** (1907–1989), украінскі палітычны дзеяч, журналіст, сын Андрэя Лівіцкага. У 1967–1989 гг. — Прэзідэнт УНР у выгнанні.

Да п. I.

Др. Жук-Грышкевіч — Статут Рады БНР не акрэслівае дакладна функцыяў сяброў Прэзыдыюму і Сакратарыяту за выняткам становішча Прэзыдэнта. Дзейнасьць Рады аслабляецца між сэсіямі. У гэтай справе паступілі закіды ад некаторых радных. Уважае, што дакладнейшае акрэсьленьне абавязкаў сяброў Прэзыдыюму і Сакратарыяту ўзмоцніць дзейнасьць Рады. Чытае праект акрэсліваючы абавязкі сяброў Прэзідыюму і Сакратарыяту. Глядзі залучнік[824].

Па пытаньні вывязалася наступная дыскусія:

Сп. Запруднік: Другі заступнік Старшыні Рады БНР др. У. Набагез дзеля важных асабістых прычынаў злажыў дымісію са становішча ў Прэзыдыюме і быў змушаны выступіць з Рады.

Сп. Русак — У праекце няма разгранічэньня між дзейнасьцю Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады.

Др. Жук-Грышкевіч — Сакратарыят ня быў сфармаваны поўнасьцю й таму ёсьць супярэчнасьці ў распадзеле функцыяў. У Сакратарыяце ёсьць толькі сп. Запруднік, які мае часовы водпуск, і сп. Кажан.

Сп. Запруднік — Пасьля Сэсіі сп. Прэзыдэнт рабіў спробу стварэньня Сакратарыяту. Удалося ўключыць у Сакратарыят: сп. Запрудніка як першага сакратара, сп. Кажана як скарбніка і сп. Шукелойця як другога сакратара для нутраных пытаньняў.

Перашкодаю ў дзейнасьці ёсьць тое, што кожны з прысутных тут мае вялікую нагрузку ў шматлікіх беларускіх арганізацыях ды ня мае фізычнай змогі працаваць больш. Яму як сябру Сакратарыяту, беларусу ды проста як «асобе» прыходзіцца ў жыцьці рэагаваць на праявы палітычнага жыцьця. Бюлетэнь павінен выдавацца ў ангельскай мове. Гэта ён і лічыць працаю ў галіне інфармацыі.

Акрамя вышэйшага быў апрацаваны й часткова разасланы пратакол Сэсіі.

Сп. Шукелойць — Тут сабраўся бяз некалькіх асобаў амаль увесь беларускі актыў. Пры ўкладаньні плянаў працы трэба лічыцца з сіламі ды выконваць у першую чаргу самае галоўнае.

Сп. Адамовіч — У прошлым практыкавалася мець вялікія Урады. На сяньня гэткі падыход ня будзе практычным і пасьпяховым. Трэба працу разьдзяліць між прысутных тут.

Сп. Запруднік — лічыць патрэбным, каб сп. Прэзыдэнт адышоўшы ад старшынства ў Парыскім блёку прысьвяціў больш увагі беларускім справам. Прапануе зьвярнуцца з просьбаю да Прэзыдэнта, каб ён задакумантаваў гісторыю БНР. Матэрыялы БНР павінны быць пераз'нятыя на мікрафільм. Тады-б ён са сп. Адамовічам аформілі й адпаведна зарганізавалі гэтыя матарыялы. Гэта ёсьць вельмі важная з гістарычнага гледжаньня справа і яе нельга будзе правесьці без дапамогі Прэзыдэнта.

[824] Дакумент не знойдзены.

Сп. Адамовіч — Ня бачыць патрэбы прыдзяляць функцыю вядзеньня аддзелу асьветы сябру Прэзыдыюму Рады БНР. Пытаньні асьветы ў беларускіх асяродках разьвязваюцца на лякальнай плошчы. Шэраг асобаў пасьпяхова праводзяць навучаньне. Сп. Юрка Станкевіч добра вядзе справу школьнага выдавецтва.

Спадары Запруднік і Русак — падтрымалі думку сп. Адамовіча, што няма патрэбы тварэньня пры Радзе БНР аддзелу асьветы.

Сп. Русак — Прапануе прасіць сп-ню Я. Каханоўскую ад дапамогу пры вядзеньні канцылярыі.

Др. Жук-Грышкевіч — Падсумоўвае дыскусію, акрэсьлівае становішчы сяброў Сакратарыяту Рады БНР як ніжэй:

Сп. Янка Запруднік — Старшыня Сакратарыяту і сакратар інфармацыі..

Сп. Віталі Кажан — сакратар фінансаў

Сп. Шукелойць — сакратар арганізацыйны.

Просіць лічыць справу другога заступніка Старшыні Рады БНР часова нявыясьненай, просіць сп. Адамовіча выконваць функцыі Другога заступніка Старшыні Рады.

Даручае сп. Запрудніку напісаць асабіста сп. Прэзыдэнту, што прысутнымі на паседжаньні было выказана пажаданьне, каб Прэзыдэнт зьвярнуў больш увагі беларускім справам ды дапамог у дакумантацыі гісторыі БНР, аграНічваючы, калі трэба, свой удзел у арганізацыях і ўстановах небеларусаў.

Да п. II.

Пытаньне часткава дыскутавалася ў п. I. і ў прапановах да парадка дня.

Сп. Кажан — дзе знаходзяцца матэрыялы БНР як мэмарандумы, пратаколы сэсіяў, дакумэнты сэктару?

Сп. Шукелойць — Частка матэрыялаў асталіся ў сп. Мерляка, частка павінна быць у сп-ні Арсеньневай. Матэрыялы трэба сабраць.

Сп. Адамовіч — Галоўны архіў БНР папаў падчас вайны ў рукі бальшавікоў. Шмат дакумантаў мае Прэзыдэнт, аб упарадкаваньні якіх ішла гутарка вышэй.

Да п. III.

Др. Жук-Грышкевіч — Уважае патрэбным інфармаваньне палітычнага сьвету ў ангельскай мове, аднак гаворачы пра інфармацыйны бюлетэнь меў на думцы нутраныя інфармацыі для радных.

Сп-ры Русак і Запруднік — Зьбіраньне інфармацыі як паказана ў п. III парадку дня праводзіцца ў вялікай меры беларускай прэсай і няма патрэбы й магчымасьці праводзіць гэтую працу Радай другі раз.

Др. Жук-Грышкевіч — Уважае, што беларускія арганізацыі павінны высылаць камунікаты іншым арганізацыям і ў Рады БНР. Інфармацыя для радных, што ня можа быць пададзела ў друку, павінна давацца ў адмысловым бюлетэні. Калі нельга выдаваць такога бюлетэню ў Нью Ёрку, магчыма можна было-б выдаваць яго ў іншым месцы.

Сп. Запруднік — Бюлетэнь магчыма было-б выдаваць у Чыкага. Гэтае пытаньне трэба аднак узгодніць з Прэзыдэнтам Рады БНР.

Сп. Адамовіч — Выдаваньне інфармацыйнага палітычнага часапісу ёсьць заданьнем Сакратарыяту Рады. Бюлетэнь для радных інфармацыйна-аператыўнага характару мог бы выдаваць сп. В. Пануцэвіч у Чыкага. Бязумоўна зьмест бюлетэню павінен узгодніваcца з Прэзыдыюм Рады.

Вырашана выдаваць бюлетэнь пад назовам «Інфармацыйныя лісткі Рады БНР»[825].

Др. Жук-Грышкевіч — спрабуе выясьніць магчымасьць выдаваньня бюлетэню ў Чыкага. Не чакаючы на канчатковае вырашэньне пытаньня месца выдаваньня бюлетэню, першы нумар падрыхтоўвае сп. Шукелойць. Др. Жук-Грышкевіч падрыхтоўвае кароткі артыкул аб абавязках радных, пункт 12-ты Статуту.

Да п. IV.

Сп. Русак — прачытаў праект звароту да радных, ня выконваючых сваіх абавязкаў, з просьбай выясьненьня іх становішча да Рады. Даручана сп. Русаку выслаць гэтыя звароты.

Да п. V.

Др. Жук-Грышкевіч — Пытаньне кіраўніцтва беларускіх вэтэранаў паўстала як рэзультат звароту шматлікіх беларусоў у гэтай справе. Трэба назначыць наступніка на месца с.п. ген. Ф. Кушаля[826]. Трэба паклікаць Сакратара для справаў вэтэранаў. Уважае, што добрым кандыдатам быў бы маёр Я. Сажыч. Ці ёсьць яшчэ якія думкі?

Сп. Шукелойць — Выдатнымі вайскоўцамі былі маёр Б. Рагуля і капітан У. Русак.

Др. Жук-Грышкевіч — Прапаноўвае стварыць Камісію для справаў вэтэранаў у складзе сп. Я. Сажыча, др. Б. Рагулі і сп. У. Русака. Прасіць Камісію выставіць спасярод сябе кандыдата на сакратара для справаў вэтэранаў. Прасіць Прэзыдэнта павысіць у сувязі з 50-мі ўгодкамі БНР заслужаных беларускіх вайскоўцаў, у першую чаргу сяброў Камісіі, у вайсковай ступені на адну рангу. Лісту кандыдатаў на павышэньне ўложыць сакратар для справаў вэтэранаў. Прапанова была прынята поўнасьцю.

Да п. VI.

Др. Жук-Грышкевіч — прапануе сябром Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады, што жывуць у Нью Ёрку зрабіць яшчэ адно паседжаньне. Вырашана зрабіць паседжаньне ў наступную суботу.

Далей дыскутавалася пытаньне аплаты лячэньня Прэзыдэнта М. Абрамчыка. Выслана да гэтага часу каля $900.00. Прэзыдэнт будзе патрабаваць ізноў дапамогу на 7-га травеня. Даручана сп. Кажану выслаць суму $200.00, праверыць высылку сродкаў на Фонд канцылярыі Прэзыдэнт, пастаноўлена правесьці зборкі ў беларускіх асяродках.

---

[825] Насамрэч ад 1970 г. пачаў выходзіць «Камунікат Прэзідыюму і Сакратарыяту Рады Беларускай Народнай Рэспублікі», які выдаваўся з рознай перыядычнасцю ў ЗША і Канадзе.

[826] Франц Кушаль памёр у Рочэстары 25 траўня 1968 г.

Сп. Запруднік — Падзяліўся думкамі ад праектаваным інфармацыйным выданьні ў ангельскай мове. Трэба вырашыць пытаньні выдаўца, фінансаваньня, назову. Прапанавалася назоў *«Byelorussia Information Service»*[827]. Матэрыялы для часапісу будуць пра: праблемы БССР, праявы нацыяналізму ў БССР, рэакцыю савецкага друку супраць перадачаў радыё «Свабода», весткі аб Беларусі й беларусах у замежнай прэсе.

Сп. Адамовіч — Ёсць думка выдаваць «Дыялог» з савецкім друкам.

На гэтым паседжаньне Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады БНР было закончана.

*Др. В. Жук-Грышкевіч,*
*Заступнік Старшыні Рады БНР*
*В. Русак*
*Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР*

## ПРАТАКОЛ № 2
## ПАСЕДЖАНЬНЯ ПРЭЗЫДЫЮМУ І ЎРАДУ РАДЫ БНР
## З ДНЯ 15-ГА ЛІСТАПАДА 1969 ГОДУ

Прысутныя: Першы заступнік Старшыні Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч, спсп. А. Адамовіч, Др. Я. Запруднік, В. Русак і Др. Ст. Станкевіч — госьць.

Парадак дня:

1. Адчытаньне пратаколу з папярэдняга паседжаньня Прэзыдыюму Рады
2. Стан здароўя й дапамога Прэз. М. Абрамчыку
3. Праца Сакратарыяту Рады БНР
4. Сытуацыя ў сэктарах
5. Прадстаўнік Прэзыдэнта Рады БНР на Эўропу
6. Справа архіваў Рады БНР у Нью-Ёрку і Эўропе
7. Адносіны з Камітэтам радыё «Свабода»
8. Наступная сэсія Рады БНР
9. Інфармацыя Др. Ст. Станкевіча
10. Супрацоўніцтва з Рэспубліканскай партыяй ЗША
11. Адносіны з украінцамі
12. Адносіны зь літоўцамі

Да п. 1.

Сакратар Прэзыдыюму Рады сп. В. Русак прачытаў пратакол з папярэдняга паседжаньня Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады БНР з дня 19-га

[827] Паводле сведчання Янкі Запрудніка, праект такога выдання так і не быў рэалізаваны.

красавіка 1069 г. Сп. А. Адамовіч зрабіў невялікія засьцярогі да пратаколу, якія былі ўведзены ў пратакол.

Да п. 2.

Заступнік Старшыні Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч паінфармаваў аб зьмесьце карэспандэнцыі, атрыманай ад сп-ні Н. Абрамчык[828] і ад самога Прэзыдэнта Рады сп. М. Абрамчыка. Першы ліст ад сп-ні Абрамчык быў аптымістычны. Сп. Прэзыдэнт пісаў, што ён стаў папраўляцца пасьля аперацыі, аднак пазьней пачуўся дрэнна і быў зноў накіраваны ў шпіталь на аперацыю, дзе ён знаходзіцца й цяпер. У шпіталі строгі рэжым, Прэзыдэнт скардзіцца, што яму цяжка без працы. Гэтыя весткі пазьней пацьвердзіла сп-ня Абрамчык. Др. Жук-Грышкевіч падтрымлівае цесную перапіску з імі.

Др. Жук-Грышкевіч лічыць, што Прэзыдэнт Рады сп. М. Абрамчык можа папravіцца, аднак ён ужо ня зможа працаваць так актыўна, як гэта ён рабіў раней.

Др. Я. Запруднік — зазначыў, што Прэзыдэнт ужо гадамі зашмат перанімаўся справай Камітэту вызвалення. Цяпер стаіць пытаньне, што рабіць далей.

Прысутныя прыйшлі да выснаўку, што Прэзыдэнт Рады сп. М. Абрамчык ня можа выконваць абавязкі Старшыні Рады БНР. Др. В. Жук-Грышкевіч прачытаў ліст, у якім сп. М. Абрамчык перадаў яму правамоцтвы Старшыні Рады БНР на час хваробы. Правамоцтвы ёсць не агранічаныя ў часе.

Др. Жук-Грышкевіч — лічыць патрэбным скліканьне Сэсіі Рады БНР, хоцьб-ы надзвычайнай, для вырашэньня пытаньня Старшынства Рады БНР. Гэткая думка была выказана таксама ў Чыкага падчас ягонай бытнасьці там у днях 11-га і 12-га кастрычніка г.г. Там адбылася шырокая зборка беларускага актыву. Там выказвалася пажаданьне, каб на Старшыню Рады БНР была выбраная асоба малодшая, канкрэтна падавалася прозьвішча сп. Нікана. Прысутныя заўважылі, што сп. Нікан ня ёсьць асобай малодшай.

Вырашана: Цяпер, у час, калі Прэзыдэнт ёсьць хворы, нельга склікаць Сэсію Рады. Выбар Др. Жук-Грышкевіча першым заступнікам Старшыні Рады БНР на апошняй Сэсіі ды правамоцтвы, перададзеныя яму Прэзыдэнтам Рады сп. М. Абрамчыкам ёсьць дастатковай асновай для выконваньня абавязкаў Старшыні Рады БНР. Трэба сур’ёзна думаць аб кіраўніцтве Рады ў будучыні.

Др. Жук-Грышкевіч — Прэзыдэнт патрабуе грашовую дапамогу на лячэньне і выканчэньне свайго дому, таксама патрабуе пазыкі.

Сп. А. Адамовіч — Пазыкі для Прэзыдэнта ёсьць фактычна ахвярамі.

Сп. В. Русак — Каса Рады павінна рэгулярна высылаць Прэзыдэнту суму $100.00. Акрамя таго, Фонд канцылярыі Прэзыдэнта павінен высылаць сваю дапамогу.

---

[828] **Ніна Абрамчык** (дзяв. Ляўковіч, 1916–2003), грамадская дзяячка, жонка Міколы Абрамчыка.

Прысутныя выказалі думку, што цяжка будзе цяпер аказаць другую вялікую пазыку па лініі Рады. Далейшыя пазыкі ёсьць магчымыя больш па лініі асабістай.

Да п. 3.

Справаздачу зь дзейнасьці Сакратарыяту Рады БНР даў Др. Я. Запруднік, спыняючыся шырэй на аддзеле інфармацыі. За апошні час яму ўдалося навязаць шэраг цікавых кантактаў. Адным з такіх быў кантакт са сп. *Mainland* — прадстаўніком *Department of State*. Ад яго Др. Запруднік даведаўся,што бюджэтныя меркаваньні й *«чарговасьць ў важнасьці»* стаяць на перашкодзе ўвядзеньня беларускіх перадачаў у «Голасе Амэрыкі». Азербайджан (вялікі прырост мусульман) і Арменія (уплывовая група)маюць вышэйшую чарговасьць. Акрамя таго, відаць, непаінфармаванасьць ёсьць найбольшаю перашкодаю ў здабыцьці «Голасу Амэрыкі». Таму так важным ёсьць выдаваньне бюлетэню ў ангельскай мове.

«Навіны зь Беларусі» будуць выдавацца толькі раз у месяц. Пачынаючы з бліжэйшага панядзелку пачынаецца Беларускі сэмінар для ўнівэрсытэцкай моладзі. Сэмінар можа разьвіцца ў Бюлетэнь. Спадзяецца прыцягнуць да супрацоўніцтва Др. Ф. Романо[829] і сп-ню Л. Рагуля[830].

Іншыя аддзелы Сакратарыяту:

Агранізацыйны аддзел — сп. А. Шукелойць вядзе школу, справы Фундацыі Крэчэўскага, музэю. Яму цяжка аднаму выдаць бюлетэнь у беларускай мове. Сп. Русак абяцаў дапамагчы ў гэтым сп. Шукелойцю.

Фінансавы аддзел — сп. В. Кажан: вельмі заняты асабіста, свае абавязкі выконвае.

Вайсковы аддзел — Др. Я. Сажыч: ёсьць дзейным.

Наагул Др. Запруднік выразіў думку, што Сакратарыят павінен пераглядзець сваю дзейнасьць і найсьці для яе лепшую накіраванасьць.

Да п. 4.

Сп. В. Русак — паінфармаваў, што ў цэнтры ў ЗША былі высланы лісты ў справе стварэньня сэктараў. На жаль, да гэтага часу няма адказаў.Выказваюцца наступныя думкі ў гэтай справе:

---

[829] **Фрэнк Рамана** (25.10.1925, Нью Ёрк — 06.12.1997, Мангасэт, штат Нью-Ёрк), грамадскі дзеяч, муж Алы Орса, ганаровы сябра БАЗА. Паходзіў з сям'і італьянскіх эмігрантаў. Скончыў Калумбійскі ўніверсітэт у галіне інжынерыі (аэрадынаміка) ды матэматыкі. У Нью-ёркскім політэхнічным універсітэце атрымаў ступень доктара, дзе застаўся працаваць прафесарам. Аўтар навуковых прац і ўніверсітэцкіх падручнікаў. Улучыўся ў беларускае нацыянальнае жыццё дзякуючы жонцы. Трэніраваў валейбольную каманду Беларускага спартовага клуба ў Квінсе, якая ў 1969 г. выйграла кубак тэлекампаніі *CBS*.

[830] **Людміла Рагуля** (дзяв. **Гутар**; нар. 1925, Наваградак), грамадская дзяячка, жонка Барыса Рагулі. У 1943–1944 г. — кіраўнічка юначак СБМ на Наваградскую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Актывістка Згуртавання беларусаў Канады, парафіі царквы Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

Др. Я. Запруднік — У Нью Ёрку сэктар ня створаны, але праводзіцца шырокая палітычная й грамадзкая дзейнасьць.

Сп. В. Русак — У Дэтройт і Клівэлянд трэба стварыць адзін сэктар.

Др. Жук-Грушкевіч — Інфармуе:

Да сэктару ў Аўстраліі належаць 10 радных. Сэктар ёсьць дзейны.

Сэктару ў Англіі налічвае 3 радных, там былі непаразуменьні, якія ўжо палагоджаны. Трэба сэктар павялічыць.

У Нямеччыне ёсьць 5 радных. Справа сэктару няясная. Будзе пісаць туды аб ўзмацненьні арганізацыі.

У Бэльгіі ёсьць 3 радных.

Да п. 5.

Др. Жук-Грышкевіч — паінфармаваў, што недахоп адумыснага прадстаўніка Прэзыдэнта Рады на Эўропу адбіваецца адмоўна на дзейнасьці Рады, асабліва ў час хваробы Прэзыдэнта. Прабаваў прыцягнуць на гэтае становішча а. А. Смаршчка, але пакуль што без посьпеху.

Сп. Адамовіч — варта падумаць пра сп. У. Бортніка.

Др. Жук-Грышкевіч — зьвернецца да сп. Бортніка з просьбаю прыняць абавязак прадстаўніка Рады БНР на Эўропу.

Да п. 6.

Др. Жук-Грышкевіч — навязвае сваю гутарку ў справе архіву БНР да апошняга паседжаньня Прэзыдыюму Рады. Прыйшоў да выснаўку, што цяжка будзе палагодзіць справу архіву Прэзыдэнта праз перапіску; асабліва цяжка гэта рабіць у перапісцы са сп-няй Абрамчык. У Прэзыдэнта было настаўленьне перадказаць архіў у музэй у Англіі[831]. Гэта Прэзыдэнт сказаў таксама сп. Нікану.

Др. Ст. Станкевіч — Архіў захоча пераняць япіскап Сіповіч. Трэба выкарыстаць адчыненьне музэю ў Фундацыі Крэчэўскага, каб перавезьці архіў у Нью-Ёрк.

Др Запруднік — Ён пераняў дакуманты Рады БНР ад сп-ні Арсеньневай. Адносна архіву Прэзыдэнта лічыць, што трэба прынамсі зрабіць фотакопіі важнейшых дакумэнтаў.

Сп. Адамовіч — Раней трэба перагледзець архіў Прэзыдэнта. Перазьняць толькі больш вартасныя дакумэнты, да якіх належаць замежныя пашпарты БНР.

Вырашана: Зьвярнуцца да Прэзыдэнта з просьбаю зрабіць мікрафільмы дакумэнтаў БНР для музэю ў Нью Ёрку. Асыгнаваць на гэтую мэту суму 250.00$. Перад зваротам да Прэзыдэнта Др. Запруднік парадзіцца з а. А. Смаршчком, які будучы бліжэй да Прэзыдэнта можа лепш паінфармаваны ў гэтай справе.

Да п. 7.

Сп. Адамовіч і Др. Запруднік — паінфармавалі, што адносіны з Камітэтам радыя «Вызваленьне» ня ёсьць добрыя. Уважаюць аднак, што ў дадзены

[831] Маецца на ўвазе Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане.

час нельга штось зрабіць для палепшаньня гэтых адносін. Мы астаемся ў кантакце праз Парыскі блёк.

Да п. 8.

Пытаньне дыскутавалася ў п. 2.

Да п. 9 і 10.

Справу прадставіў Др. Ст. Станкевіч. Ён стаў зьбегам абставінаў прадстаўніком Беларускага рэспубліканскага камітэту[832]; ён замяніў тут сп. П. Манькоўскага. Камітэт быў пераарганізаваны, навязана рад важных кантактаў. Ён запратэставаў назначэньня сп. К. Мерляка, які змагаецца супроць БНР[833], на скарбніка штатнага Камітэту і на гэтае месца быў назначаны чэх.

Кіраўнік аддзелу этнічных групаў пры Нацыянальным рэспубліканскім камітэце[834] павёў актыўную працу па стварэньню штатных камітэтаў. Беларусам трэба будзе стварыць камітэты ў тых штатах, дзе іх яшчэ няма (Кіраўніком камітэту ёсьць Ласло Паштор[835]).

У днях 29–31 кастрычніка г.г. была скліканая ў Вашынгтоне *«Heritage Group Conference»*, дзе былі прадстаўнікі федэральнай і штатнай адміністрацыі ды прадстаўнікі ад розных нацыянальных груп. Сярод іх былі Прэзыдэнт Р. Ніксан[836], заступнік Прэзыдэнта С. Агню *S. Agnew*[837]. *Было прыняцьце ў сакратара дзяржавы сп. Rogersa*[838] *ды абед у сакратара транспарту сп. Vohpe*.

Былі гутаркі з кіраўніцтвам аддзелаў Усходняй, Заходняй і Паўднёвай Эўропы. Падсавецкія народы не былі выдзеленыя ў адну групу.

Выглядае, што Рэспубліканская партыя зьвярнула большую ўвагу на этнічныя групы ў ЗША і зрабіла пераацэнку іх ролі ў жыцьці дзяржавы.

Уважае, што для беларусоў гэта прадстаўляе магчымасьць навязаньня вартасных кантактаў і пашырэньня палітычнай дзейнасьці. Ён зарэгістраваўся ў *Liason Officer for Connection with Non-Government Organizations at the Dept. of State*. Яму прапанавалі становішча *Adviser to Republican Headquarters*, якое ён праўдападобна прыйме. Яму памагае ў гэтым факт, што ён ёсьць рэдактарам беларускай газэты. З удзелам ў працы Рэспубліканскага

---

[832] Магчыма, маецца на ўвазе адзін з Беларускіх рэспубліканскіх клубаў, што аб’ядноўвалі беларусаў — прыхільнікаў Рэспубліканскай партыі.

[833] Кастусь Мерляк пасля няўдалай спробы наладзіць супрацоўніцтва прыхільнікаў Рады БНР і БЦР пакінуў Раду.

[834] Маецца на ўвазе створаная ў 1968 г. Нацыянальная рэспубліканская федэрацыя этнічных клубаў, куды ўвайшлі і беларусы.

[835] Маецца на ўвазе адзін з лідараў вугорскай грамады ў ЗША **Ласла Паштар** (*Laslo Pasztor*).

[836] **Рычард Ніксан** (*Richard Milhous Nixon,* 1913–1994), 37-ы Прэзідэнт ЗША.

[837] **Спіра Агню** (*Spiro Agnew,* 1918–1996), амерыканскі палітычны дзеяч, віцэпрэзідэнт ЗША ў 1969–1973 гг.

[838] **Уільям Роджэрс** (*William Pierce Rogers,* 1913–2001), амерыканскі палітычны дзеяч. Быў Дзяржсакратаром ЗША пры двух прэзідэнтах: Дуайту Эйзенхаўэру (1957–1961) і Рычарду Ніксану (1969–1973).

камітэту зьвязаны вялікія выдаткі; пытаньне фінансаў будзе разглядацца на сходзе закладчыкаў Камітэту.

Сп. В. Русак — Зьвярнуў увагу, што нягледзячы на ўсё вышэй сказанае, беларуская эміграцыя не павінна накіраваць свае дзейнасьці поўнасьцю на адну палітычную партыю. Нашы грамадзкія арганізацыі й газэта «Беларус» павінны быць беспартыйнымі; добра затое мець клюбы рэспубліканскія і дэмакратычныя.

Да п. 11.

Да гэтага часу ў нас былі добрыя адносіны са слабейшай украінскай групоўкай, ачольванай УНРадай. Украінскі кангрэсовы камітэт падтрымліваў слабейшую беларускую групу «зарубежнікаў». Сяньня выглядае, што адносіны мяняюцца. На Х-м Кангрэсе амэрыканскіх украінцаў мы былі адзінымі беларускімі прадстаўнікамі. У газэце *«America»*[839] ў артыкуле пра межы Украіны не было нападаў на Беларусь. Старшыня Парыскага блёку сп. Левіцкі будучы ў Нью Ёрку прасіў Др. Ст. Станкевіча ўзяць старшынства Блёку на Нью-Ёрк.

Да п. 12.

Літоўцы прабавалі навязаць з намі бліжэйшы кантакт адразу пасьля Другой сусьветнай вайны. Адносіны блізкія аднак ніколі наладжаныя ня былі. Разыходжаньні ў паглядах на гісторыю ды граніцы ёсьць прычынай гэтаму. Сп. Левіцкі перадаў, што сп. Вайдунас, старшыня Літоўскага камітэту вызваленьня хацеў-бы наладзіць бліжэйшае супрацоўніцтва між украінцамі, беларусамі і літоўцамі, і магчыма латышамі.

Вырашана: чакаць на больш канкрэтнае праяўленьне добрай волі з боку літоўцаў.

Нью-Ёрк, дня 20-га снежня 1969 г.

*Др. Жук-Грышкевіч, Заступнік Старшыні Рады БНР*

*В. Русак, Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР*

## ПРАТАКОЛ № 3
## ПАСЕДЖАНЬНЯ РАДЫ БНР З ДНЯ 20-ГА ЧЭРВЕНЯ 1970 Г. [840]

Прысутныя: 15 радных, глядзі лісту (у сакратара)[841].

[839] ***«America»*** — украінская газета ў ЗША. Першы варыянт гэтага выдання пабачыў свет як украінамоўны яшчэ ў 1886 г. Аднак праз 4 гады яно спынілася і ад 1912 г. аднавілася ўжо з іншымі выдаўцамі таксама ва ўкраінамоўнай версіі. У 1952 г. з'явілася і англамоўная версія, якая некаторы час існавала паралельна з украінскай, пакуль абедзве не аб'ядналіся ў двухмоўны варыянт. Газета выходзіла да траўня 2013 г.

[840] Пратакол публікуецца паводле копіі, што захоўваецца ў архіве Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане.

[841] Да пратакола не прыкладзена.

Парадак дня:

1. Ушанаваньне памяці Прэзыдэнта Рады БНР сьв. п. Міколы Абрамчыка й архіяпіскапа БАПЦ Васіля
2. Прывітаньне новаму Старшыні Рады БНР
3. Інфармацыя пра паховіны Прэзыдэнта Рады БНР
4. Архіў БНР
5. Скліканьне наступнай Сэсіі Рады БНР
6. Зьмены Статуту
7. Устанаўленьне стану сяброўства Рады
8. Камунікаты Рады БНР
9. Розныя

Да п. 1.

Паседжаньне Рады БНР адчыніў старшыня Сакратарыяту Рады Др. Янка Запруднік. Ён папрасіў ушанаваць хвілінай цішыні памяць нядаўна памёршых Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка й архіяпіскапа БАПЦ Васіля.

Да п. 2.

Др. Я. Запруднік — прывітаў прысутнага на салі новага Старшыню Рады БНР Др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча й пажадаў яму посьпехаў у працы на гэтым адказным становішчы. Прысутныя падтрымалі прывітаньне воплескамі.

Старшыня Рады БНР Др. Жук-Грышкевіч — падзякаваў др. Запрудніку й прысутным радным за прывітаньне. Др. Жук-Грышкевіч перанімаючы вядзеньне Рады БНР запэўніў, што не пашкадуе сваіх сілаў для беларускай справы й прасіў аб дапамогу з боку Рады ды ўсяго беларускага грамадзтва. Др. Жук-Грышкевіч выказаў пажаданьне, каб пытаньне старшынства Рады БНР было разгледжана на наступнай Сэсіі Рады.

Далейшае вядзеньне паседжаньня Рады БНР было перанята Старшынёю Рады Др. Жук-Грышкевічам. Парадак дня паседжаньня быў прыняты як пададзена вышэй з дадаткам пункту «Розныя».

Да п. 3.

Інфармацыю пра паховіны Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка даў Др. Я. Запруднік як ніжэй. С. п. Мікола Абрамчык памёр у пятніцу дня 29-га травеня г. г. Вестка аб ягонай сьмерці была атрыманая ў Канадзе й ЗША ў той-жа дзень. Др. Запруднік і Др. Раіса Жук-Грышкевіч, якая прыехала з Канады, выехалі з Нью-Ёрку ў суботы вечарам і прыбылі ў Парыж у нядзелю. Тут яны скамунікаваліся з а. Львом Гарошкам, які ўзяў на сябе арганізацыю й фінансаваньне паховінаў. Удава пакойнага сп-ня Ніна Абрамчык сапраўды патрабавала дапамогу ў гэты цяжкі для яе час.

Першым разглядалася месца паховін. Тут а. Гарошка забяспечыў права на пахаванне ў Парыжы (Прэзыдэнт жыў на вонкі ад Парыжа). На месца паховін быў выбраны гістарычны магільнік *Per Lachez*.

Паховіны каштавалі 2100.00$, за ўсё трэба было плаціць гатоўкаю. Сума 500.00$ была атрыманая з Лёндану як ахвяра ў памяць Прэзыдэнта. Суму 1000.00$ прывёз з Нью-Ёрку сп. А. Адамовіч, які прыехаў на паховіны крыху пазьней. Рэшту грошаў залажыў а. Л. Гарошка.

Паховіны адбыліся ў чацьвер дня 4-га чэрвеня. Службу служыў а. А. Смаршчок у прысутнасьці яп. Сіповіча й а. Л. Гарошка. Хорам кіраваў сп. Пікарда[842]. Сярод шматлікіх сяброў і знаёмых Прэзыдэнта былі:

Сп. А. Адамовіч, Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Др. Я. Запруднік — з ЗША й Канады

Спсп. Лашук, Міхалюк[843], Пікарда (які ёсьць ганаровым грамадзянінам БНР) і яп. Ч. Сіповіч — з Англіі

Сп. В. Сенкевіч[844] — з Гішпаніі

---

842 **Гай Пікарда** (*Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931–2007), беларусіст, музыказнаўца, юрыст. У Лондане пазнаёміўся з а. Чаславам Сіповічам, а разам з тым і з беларускай музыкай, культурай і гісторыяй і заняўся беларусістыкай. У канцы 1950-х адправіўся з экспедыцыяй на Падляшша, дзе збіраў старажытныя беларускія царкоўныя спевы. Актыўны сябра Англа-беларускага таварыства. Дапамагаў у арганізацыі беларусаведных лекцыяў, выданні *The Journal of Byelorussian Studies*, стварэнні Беларускага музея ў Лондане і пашырэнні фондаў Бібліятэкі.

843 **Янка Міхалюк** (22.10.1922, в. Пузічы Лунінецкага пав. Палескага ваяв. (сёння Салігорскі р-н Мінскай вобл.) — 31.03.1995, Лондан, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. У часе Другой сусветнай вайны ўступіў у шэрагі СБМ, быў кіраўніком гэтай арганізацыі на Лунінецкую акругу. Улетку 1944 г. у часе бамбардавання быў паранены і вывезены ў шпіталь у Варшаву, а потым у Нямеччыну. Потым трапіў у Італію, дзе ўступіў у шэрагі 2-га Польскага корпуса. Быў сябрам ЗБВБ, адзін з заснавальнікаў беларускага жыцця ў Брадфардзе. Пазней уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага камітэта сяброўства і рэдкалегію часопіса «Патрыёт», сябра ХАБР. Выйшаў з ХАБР і вярнуўся ў ЗБВБ у 1951 г. З таго часу быў пастаянным сябрам управы Акруговага аддзела ЗБВБ у Брадфардзе, у 1955 г. яго старшыня. Актывіст БАПЦ у Брадфардзе, адзін са стваральнікаў мясцовай парафіі Св. Спаса, уваходзіў у Вікарыяльную ўправу БАПЦ у Вялікабрытаніі. Ад 1957 г. радны БНР. У 1965 г. разам з сям'ёй пераехаў у Лондан. Быў пастаянным сябрам Галоўнай управы ЗБВБ, і ў 1970–1995 гг. — нязменны старшыня ЗБВБ.

844 **Віктар Сянкевіч** (19.01.1926, в. Гірстуны на Глыбоччыне — ?), грамадскі дзеяч, гісторык, журналіст. У часе нямецкай акупацыі быў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА, разам з якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, пайшоў добраахвотнікам у 2-гі Польскі корпус. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Адзін з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1947 г. быў абраны на пасаду сакратара Галоўнай управы арганізацыі. Жыў у Оксфардзе. У 1953 г. выехаў вучыцца ў Іспанію. У 1958 г. скончыў філасофскі факультэт Мадрыдскага ўніверсітэта, абараніў дысертацыю «Пачаткі Княства Літоўскага». У 1958–1961 гг. працаваў у Беларускай секцыі Нацыянальнага іспанскага радыё. Супрацоўнічаў з Беларускай рэдакцыяй радыё «Вызваленне» і радыё Ватыкана. Напісаў каля дзвюх тысячаў гутарак-артыкулаў «Гаварыў Язэп Барэйка». Пісаў для беларускіх эміграцыйных перыёдыкаў «Зважай!», «Бацькаўшчына», «Беларус».

Спсп. У. Цьвірка, Г. Ганчарэнка, Урбан, і Сянькоўскі[845] — з Нямеччыны
А. А. Смаршчок — з Бэльгіі
Спсп. Шыманец і Наўмовіч — з Францыі
Спсп. *Walter Scott*[846] (Мюнхен), *Kody*[847] ад радыя «Вызваленьне»
Спсп. Левіцкі, Ной Цынцадзэ і Самуэльян[848] ад армянаў
Падчас паховінаў прамаўлялі:[849]

Памінковы абед адбыўся ў кітайскім рэстаране. Падчас абеду прамаўлялі сп. Пікарда, Др. Я. Запруднік, сп. А. Адамовіч, і *O. Stule*[850] — рэдактар украінскага француcкамоўнага тыднёвіка.

Пазьней адбылося паседжаньне радных БНР і беларусаў удзельнікаў паховін, на якім былі разгледжаны два пытаньні.

а) пытаньне архіву Прэзыдэнта, глядзі 2-гі пункт парадку дня

б) Фонд памяці Прэзыдэнта

Фонд такі быў заснаваны, дзейнасьцю яго будзе кіраваць сп. В. Кажан.

Др. Запруднік — паінфармаваў аб візыце Др. Б. Рагулі да Прэзыдэнта якія чатыры тыдні да сьмерці Прэзыдэнта. Прэзыдэнт быў моцна прыбіты духова й перанімаўся аб матарыяльным стане свае сям'і. Др. Рагуля сказаў яму аб сапраўдным стане яго здароўя. Др. Рагуля абяцаў Прэзыдэнту, што ён з былымі студэнтамі зь Лювэну ў Бэльгіі забясьпечыць адукацыю сына Прэзыдэнта Альгерда[851].

---

[845] **Юры Сянькоўскі** (06.05.1926, в. Залессе (сёння Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.) — 13.02.1995, Мюнхен, Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст. У часе акупацыі быў сябрам СБМ, потым быў у батальёне «Дальвіц». Па сканчэнні вайны апынуўся ў беларускім лагеры DP у Ватэнштэце. Актыўны ўдзельнік скаўтынгу, у 1949 г. прызначаны кіраўніком Беларускага скаўтынгу на чужыне. Сябра рэдкалегіі часопіса «Напагатове». У 1950–1956 гг. вучыўся ў Лювенскім універсітэце на эканамічным факультэце. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага згуртавання, удзельнік Беларускага хору, створанага Міколам Равенскім. Па сканчэнні ўніверсітэта пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне / Свабода».

[846] **Уолтэр Скот** (*Walter K. Scott*) быў выканаўчым дырэктарам Радыё Свабода.

[847] **М. Коды** (*M. Kody*) быў кіраўніком парыжскага бюро Камітэта Радыё Свабода.

[848] **Г. Самуэльян** быў шэфам дэлегацыі Армянскай Рэспублікі ў Францыі.

[849] Так у пратаколе. У артыкуле, прысвечаным пахаванню М. Абрамчыка, змешчаным у газеце «Беларус», паведамлялася, што прамаўлялі: Г. Пікарда, Я. Запруднік, А. Адамовіч, О. Штуль і а. Леў Гарошка. (Гл.: Запруднік, Янка. Паховіны Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка // Беларус. № 58. Чырвень 1970).

[850] **О. Штуль** (*O. Stule*) быў рэдактарам французскамоўнага часопіса *«La Parole ukrainienne»* («Українське слово»), які выдаваўся ў Парыжы ў 1952–1987 гг.

[851] **Альгерд Абрамчык** (нар. 31.05.1955, Вільпент, Францыя), сын Міколы Абрамчыка. Пасля смерці бацькі цягам года вучыўся ў школе-інтэрнаце імя Св. Кірылы Тураўскага ў Лондане.

Далей Др. Запруднік паінфармаваў, што ў Нямеччыне робяцца захады, каб уладзіць сп-ню Ніну Абрамчык на працу ў Мюнхэне[852].

Др. Запруднік — просіць сп. А. Адамовіча зрабіць папаўненьне да яго інфармацыі аб паховінах.

Сп. А. Адамовіч — Мала можна дадаць да справаздачы Др. Запрудніка. Пасьля гутаркі з Др. Рагулям было ведама, што стан здароўя Прэзыдэнта быў вельмі слабы. Паховіны Прэзыдэнта былі вельмі ўрачыстымі. Сп-ня Абрамчык і Альгерд трымаліся мужна. Альгерд быў дапаможным ў арганізацыі паховінаў. Ён ёсьць вельмі інтэлігентны юнак. Моцна пераняты сьмерцю Прэзыдэнта быў сп. Пікарда, які плакаў падчас паховінаў.

А. Віктар Васілеўскі — Ці не паўставала пытаньне пахаваць Прэзыдэнта на Беларускім магільніку ў Іст Брансвік, Нью Джэрсі[853]?

Др. Запруднік — Не. Тут-бы перадусім мусіла вырашаць сям'я.

Сп. П. Кажура — Сп. Прэзыдэнт калісь выказваў думку, што хацеў бы быць пахаваны на Беларускім магільніку ў Іст Брансвіку.

Ср. Адамовіч — уважае, што Прэзыдэнт мог быць пахаваны толькі ў Парыжы або на Беларусі.

Сп. Адамовіч закончыў сваё выступленьне наступнымі спасьцярогамі.

Калі сьпявалі Прэзыдэнту «Сьпеце ўсе тыя», моцна адчувалася заканчэньне эпохі-эры ў змаганьні беларускага народу за сваё вызваленьне. Памёршы Прэзыдэнт быў сымбалем гэтай эры. Нашым абавязкам ёсьцьісьці далей.

Др. Жук-Грышкевіч — выказаў падзяку др. Я. Запрудніку й сп. А. Адамовічу за годнае рэпрэзэнтаваньне Рады БНР пры паховінах Прэзыдэнта.

Да п. 4.

Др. Запруднік — паінфармаваў, што на паседжаньні радных БНР і ўдзельнікаў паховін у Парыжы быў складзены й высланы зварот сп-ні Ніне Абрамчык, у якім дзякавалася ёй за дасюлешняе перахаваньне архіву Прэзыдэнта й Рады БНР ды прасілася яе перадаць запламбаваны архіў на перахаваньне ў Беларускі музэй у Лондане як уласнасьць Рады БНР. Архіў зможа быць адкрыты толькі Камісіяй ў складзе а. А. Смаршчка, сп. Лашука і а. Л. Гарошка са згодаю Старшыні Рады БНР. Сп-ня Абрамчык ня ведала шмат пра архіў і ня ведала ці Прэзыдэнт выставіў тэстамант. Цяпер атрыманая вестка ад сп. Лашука, што архіў ёсьць зложаны ў адным з банкаў у Парыжы. Шмат розных папераў было ў Прэзыдэнта дома, не ўпарадкаваных.

Сп. А. Адамовіч — Адносна архіву ў епіскапа Ч. Сіповіча ёсьць запіска, што жаданьнем Прэзыдэнта было перадаць архіў у Беларускі музэй у Лёндане. Аснаўны архіў БНР быў перададзены ў 1925 г. Урадам БНР у БССР,

[852] З працай Ніны Абрамчык на радыё ў Мюнхене не атрымалася, і яна ўрэшце знайшла сабе працу ў адным з парыжскіх музеяў.

[853] На магільніку парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Іст-Брансвіку, заснаваным у 1959 г., пераважна былі пахаванні прыхільнікаў Рады БНР. Пазней менавіта там былі пахаваныя наступныя Старшыні Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч ды Язэп Сажыч.

калі Урад туды пераехаў. Прэзыдыюм Рады БНР, які застаўся за мяжой, на жаль, важных дакумантаў ня меў. Архіў Прэзыдэнта ёсьць у аснаўным архівам эміграцыйным. Архіў гэты находзіўся ў свой час у Др. Ст. Грынкевіча й ён яго пераглядаў. Нягледзячы аднак на значаньне архіву, ён павінен быць забясьпечаны.

Сп. А. Шукелайць — Шмат важных дакумантаў БНР знаходзілася ў Музэі Луцкевічаў у Вільні. Гэтыя дакументы былі забраныя і пасартаваныя НКВД, тады ізноў вернутыя ў Музэй за нямецкіх часоў. Былі таксама дакументы БНР у музэі ў Менску[854]. Сяньня гэта ўсё ізноў апынулася ў руках бальшавікоў.

Др. Ст. Станкевіч, сп. А. Стагановіч і Др. Жук-Грышкевіч — выказалі думку, што архіў ёсьць грамадзкаю ўласнасьцю й павінен бы находзіцца ў руках Рады БНР. Выглядае аднак, што архіў апынецца на перахаваньні ў Беларускім музэі ў Лёндане. Трэба зрабіць захады, каб матарыялы архіву сталі даступнымі ўсяму беларускаму грамадзтву.

Др. Я. Запруднік — Сп. Пікарда, які ёсьць праўнікам, выказаў думку, што архіў Прэзыдэнта ёсьць уласнасьцю сям'і. Сп-ня Н. Абрамчык ня мела нейкіх спэцыфічных думак адносна ўласнасьці архіву.

Др. У. Набагез — Магчыма Прэзыдэнт пакінуў тэстамант, у якім тады напэўна будуць інструкцыі аб архіве.

А. Др. В. Васілеўскі — Прэзыдэнт выказваў думку яму, што ягоным намерам было злажыць архіў у Музэй у Лёндане. Ведаючы гэта ён рабіў захады, каб пэразьняць архіў. На жаль, сьмерць Прэзыдэнта перашкодзіла гэтаму.

Архіў неабходна пэразьняць сяньня й зрабіць яго даступным для навукі.

Др. В. Жук-Грышкевіч — выслухаўшы выказваньні адносна архіву прапануе да разгляду наступную прапанову:

*«Гэтым сьцьвярджаецца пастанова, прынятая на Нарадзе прадстаўнікоў Рады БНР і беларусаў-удзельнікаў пахаваньня св. Памяці Старшыні Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка ў справе архіву БНР у Парыжы 4-га чырвеня 1970 г. і выказваецца згода на тое, што архіў Рады БНР будзе перахоўвацца часова ў Беларускай бібліятэцы й музэі імя Ф. Скарыны ў Лёндане пры ўмове, што адпламбаваньне і інвентарызацыя архіву будуць праведзены ў паразумленьні й са згодаю Старшыні й Прэзыдыюму Рады БНР. Гэтым адначасна выказваецца просьба да сяброў абранае ў Парыжы Камісіі ў складзе а. А. Смаршчка, сп. А. Лашука й а. Л. Гарошкі, каб яны пры першай магчымасьці ў паразуменьні із сп-няй Н. Абрамчык апламбавалі архіў на месцы ягонага знаходжаньня й забяспечылі ягонае надзейнае перахоўваньне да часу правядзеньня інвентарызацыі».*

Прапанова была прынята аднагалосна.

Далей Др. Жук-Грышкевіч прасіў Старшыню Сакратарыту Рады БНР Др. Я. Запрудніка сабраць сяньняшнія матарыялы Рады БНР і перахоўваць іх у памешканьні Фундацыі Крэчэўскага. У выказваньнях было паказана, што

---

[854] Маецца на ўвазе Гістарычны музей у Мінску, дзе ў часе нямецкай акупацыі працаваў Антон Шукелойць.

шмат матарыялаў асталося ў сп. К. Мерляка, які выбыў з Рады. Сп-ня Н. Кушэль передала дакументы пакойнага ген. Ф. Кушэля ў Сакратарыят Рады.

Да п. 5.

Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч заявіў, што пры злажыўшыхся абставінах ёсьць вялікая патрэба склікання Сэсіі Рады БНР. Сэсія ёсьць патрэбная для выбару новых кіруючых ворганаў Рады, пераапрацаваньня й удакладненьня Статуту Рады. Такая Сэсія патрэбная для ўзмацненьня Рады БНР. Лічыць, што Сэсію можна будзе склікаць не раней як пасьля лістапада гэтага году.

Др. Я. Запруднік — Уважае становішча ў Радзе БНР нармальным у тым сэнсе, што кіруючыя ворганы Рады ўключаючы Старшыню Рады, Прэзыдыюм і Сакратарыят ёсьць поўнасьцю ўкамплектаваныя. Ёсьць заступнік Старшыні Рады. У свой час с.п. Прэзыдэнт Абрамчык перанімаўся вельмі, што ня мог найсьці нікога хто-бы поўнасьцю пасьвяціўся беларускай палітычнай дзейнасьці. Ён пробаваў прыцягнуць на гэтую дзейнасьць Др. Б. Рагуля.

Сп. В. Русак — Уважае пытаньне Старшынства Рады БНР у парадку з пункту гледжаньня ўстановак Статуту Рады БНР і 10-ай Сэсіі Рады БНР.

Былі прачытаны адпаведныя пункты Статуту Рады.

А. др. В. Васілеўскі — Уважае, што сектары Рады павінны быць паведамлены аб справе старшынства Рады БНР згодна з вышэй пададзенымі выказваньнямі радных.

Канчатковай пастановы пра скліканьне Сэсіі Рады ня было. Аднак ня было таксама засьцярогаў адносна скліканьня Сэсіі Рады ў бліжэйшай будучыні.

Да п. 6.

Др. В. Жук-Грышкевіч — дадае да сказанага ў папярэднім пункце адносна статуту: павінен быць лепш апрацаваны праўны бок статуту, да гэтай працы павінны быць прыцягнуты амерыканскія праўнікі. Прапануе выбраць камісію для працы над статутам.

Сп. М. Кунцэвіч і а. Др. В. Васілеўскі — ня бачаць сьпешнасьці для пераапрацоўваньня статуту. Прызнаюць, што Рада ня мае працоўных установак, якія маглі-б быць выпрацаваны як дадатак да Статуту.

Др. Ст. Станкевіч — Мы зашмат увагі зьвяртаем на фармалістыку, тады калі ёсьць недахоп у дзейнасьці.

Др. В. Жук-Грышкевіч — Недахоп у працы паясьняецца неакрэсьленасьцю пунктаў Статуту. Аб гэтым іменна наракаюць сэктары.

Др. Я. Запруднік — уважае, што ў Статуце патрэбна прэамбула. Просіць падаць кандыдатаў у Статутовую камісію.

Былі пададзеныя й прынялі назначэньне ў Статутовую камісію наступныя радныя: сп. А. Адамовіч, сп. М. Кунцэвіч і а. Др. В. Васілеўскі. Камісіі ізноў радзілася паклікаць у дапамогу амэрыканскіх праўнікаў.

Да п. 7.

Др. Я. Запруднік — сьцьвердзіў, што нягледзячы на робленыя ўжо захады, пытаньне сяброўства ў Радзе ня ёсьць поўнасьцю ўпарадкаваным да сяньняшняга дня. Уважае, што трэба яшчэ раз апытаць радных у гэтай

справе й трэба будзе лічыць адказ раднага за вырашэньне пытаньня ягонага сяброўства.

Сп. В. Русак — На працягу некалькіх апошніх год Прэзыдыюм некалькі разоў высылаў апытальнік радным, але тыя радныя пра якіх тут ідзе гутарка, ніколі не адказалі на яго. Звычайна пытаньне сяброўства ў Радзе спалучалася з пытаньнем выконваньня абавязкаў раднага, адным зь якіх ёсьць аплата складак.

Сп. А. Адамовіч — Радзіць выслаць сумлеўным радным заказныя лісты й запытаць іх, ці ўважаюць сябе раднымі. Пытаньне складак можна не кранаць у гэтым лісьце. Зрабіць захады для папаўненьня Рады новым здаровым элемэнтам.

Сп. А. Шукелайць — Радзіць палагодзіць справу праз сэктары Рады.

Пастановаў па гэтаму пытаньню ня вынесена. Справа будзе палагоджана Прэзыдыюмам Рады.

Было пацьверджана сяброўства радных Др. Уладзімера Бакуновіча[855] й інж. Янкі Бруцкага[856], рэкамэндаваных сэктарам Огаё — Мічыган. Было ўзноўлена сяброўства ў Радзе сп. Пётры Манькоўскага, які злажыў заяву й паясьненьне ў гэтай справе. За ўзнаўленьне сяброўства сп. Манькоўскага ў Радзе было 7 галасоў пры 7-мі ўстрымаўшыхся.

Да п. 8.

Пытаньне не дыскутавалася дзеля недахопу часу.

Да п. 9.

---

[855] **Уладзімір Бакуновіч** (10.12.1926 в. Малыя Сцяблевічы Лунінецкага пав. (сёння Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл.) — 23.05.1992, Дэтройт, ЗША), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў польскай і савецкай школах. Ад 1944 г. разам з сям'ёй апынуўся ў Нямеччыне, дзе да канца Другой сусветнай вайны працаваў у баўэра, а потым вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў беларускіх лагерах у Рэгенсбургу і Віндышбергердорфе. У 1950 г. разам з бацькамі выехаў у Аўстралію. У Сіднеі браў удзел у арганізацыі Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі. Пазней апублікаваў на старонках газеты «Бацькаўшчына» нататкі пра першыя гады беларускай прысутнасці на пятым кантыненце (друкаваўся пад псеўданімам Уладзімір Сцяблевіч). У 1954 г. паступіў на эканамічны факультэт Лювенскага ўніверсітэта ў Бельгіі, дзе ў 1963 г. атрымаў ступень доктара эканомікі. Пазней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі), а ад 1968 г. — у Дэтройце (Мічыган), дзе працаваў як спецыяліст па падатковых справах. Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці БАЗА і Рады БНР.

[856] **Янка Бруцкі** (пазней уладыка **Ізяслаў,** 22.01.1926–27.11.2007), грамадскі і рэлігійны дзеяч, пазней мітрапаліт БАПЦ. Увесну 1943 г. вывезены на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Ад 1947 г. жыў у Канадзе, у 1954 г. скончыў універсітэт Манітобы (Вініпег). У 1954–1962 гг. працаваў як інжынер дарог у правінцыі Антарыё. У 1962 г. пераехаў у ЗША, жыў у Дэтройце і Лос-Анжэлесе. У 1969 г. пераехаў у Кліўленд (штат Агая), браў актыўны ўдзел у беларускім рэлігійным жыцці, быў сябрам Кіраўнічай Рады БАПЦ. 29 красавіка 1979 г. хіратанісаны ў сан дыякана мітрапалітам Андрэем, а 26 жніўня 1979 г. — у сан іерэя ўладыкам Мікалаем. 22 студзеня 1981 г. пасвечаны мітрапалітам Андрэем у епіскапа, прыняў імя Ізяслава.

Др. В. Жук-Грышкевіч — заявіў, што ў сувязі са сьмерцю Прэзыдэнта М. Абрамчыка трэба будзе выслаць паведамленьні аб сьмерці Прэзыдэнта ў Парыскі блёк, супрацоўнікам Прэзыдэнта й некаторым палітычным дзейнікам у ЗША. Трэба будзе апублікаваць зварот у газэце «Беларус» аб цягласьці дзейнасьці Рады БНР[857]. Можна будзе выдаць другі зварот у справе фонду ў памяць Прэзыдэнта[858].

Др. Я. Запруднік — Інфармуе аб карэспандэнцыі ад сп. Сенькоўскага. Сп. Сенькоўскі піша, што ўдзел беларусаў у працы Лігі Парыскага блёку аслабеў у апошні час. Уважае, што мы павінны больш цікавіцца гэтай справай. Цяпер ён там рэпрэзэнтуе беларусаў, просіць выдаць яму паўнамоцтва ад Рады. Была дадзена згода на выстаўленьне паўнамоцтва.

Сп. В. Русак — Заўтра высьвячаюць ў сьвятары БАПЦ а. дыякана Карпа Стара[859]. У сувязі з дрэнным дасьведчаньнем з высьвячэньнем а. Абрэмскага[860] насоўваецца пытаньне, ці мы дастаткова ведаем а. Карпа, каб высьвечваць яго так хутка ў сьвятары БАПЦ.

А. Др. В. Васілеўскі — Шкада, што Рады БНР ня мае рэфэрэнта для царкоўных справаў. Для БАПЦ патрэбныя сьвятары ў Нью-Ёрку і Брукліне, Нью Дж. Айца Карпа мы дастаткова ведаем.

Сп. В. Кажан — Да гэтага часу сродкі Рады БНР у аснаўным былі выкарыстоўваныя для падтрымкі палітычнай дзейнасьці Прэзыдэнта й яго ўтрыманьне. Як будуць выкарыстоўвацца сродкі Рады сяньня? Ці будзе аказвацца дапамога ўдаве Прэзыдэнта сп-ні Н. Абрамчык і ў якой меры?

Сп. В. Русак — уважае, што сп-ні Н. Абрамчык павінна быць прызнана пэнсія.

---

857 У газеце «Беларус» (№ 158. Ліпень 1970) быў апублікаваны «Камунікат Прэзідыюму Рады Беларускае Народнае Рэспублікі пра пераняцьце старшынства Рады БНР» ад 20.06.1970.

858 Звестак пра такі фонд не знойдзена.

859 **Карп Стар (Старавойтаў)** (25.05.1913–05.10.2006, ЗША), рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар. Нарадзіўся ў беларускай сям'і. Бацька быў чыноўнікам у царскім войску, а маці — настаўніцай. Бацьку расстралялі ў 1930-х, а маці памерла праз некалькі гадоў пасля смерці мужа. Пасля вучобы працаваў дарожным майстрам на чыгунцы. Падчас акупацыі разам з жонкай і чатырма дочкамі быў эвакуяваны ў Нямеччыну. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Спачатку жыў у штаце Агая, потым пераехаў у Нью-Джэрсі. У 1969 г. быў рукапаложаны ў дыякана, а праз некаторы час — у святара. Служыў спачатку ў Гайленд-Парку, даўжэйшы час — у Бруклінскім кафедральным саборы БАПЦ, а затым у Дораці.

860 Дыякан **Юры Абрэмскі** (? — 1969) быў пасвечаны ўладыкам Васілём у святара ў 1964 г. У хуткім часе ў царкве св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку з удзелам Абрэмскага пачаўся канфлікт парафіяльнай рады з Тамашчыкам. Апошні пазбавіў новага святара сану, падаў на яго ў свецкі суд ды абвясціў пра часовае закрыццё царквы. Некалькі судовых працэсаў і трохгадовае супрацьстаянне мелі вынікам вяртанне ўладыкі Васіля ў парафію, сыход адтуль часткі вернікаў, на чале з Канстанцінам Мерляком, ды заснаванне новай беларускай царквы ў Нью-Ёрку.

Др. В. Жук-Грышкевіч — Сп-ня Н. Абрамчык мае некаторыя сродкі, на якія ў вялікай меры шмат хто з нас злачыўся пазыкамі. Трэба пачакаць па разгляд фінансавых справаў сп-ні Абрамчык адвакатам.

Сп. В. Русак — Ці прадаўжаць збор на «Фонд канцылярыі Прэзыдэнта»?

Вырашана прадаўжаць збор на «Фонд памяці Прэзыдэнта».

Сп. А. Шукелайць — Ці гутарылася аб даўгох Прэзыдэнта?

Др. Я. Запруднік — Не.

Сп. А. Адамовіч — Прыватных даўгоў ніхто спаганяць ня будзе. Тыя, што пазычалі грошы, ведалі што рабілі ахвяру для Прэзыдэнта.

Сп. У. Курыла — Ці сп-ня Абрамчык зможа працаваць?

Др. Я. Запруднік — Сп-ня Абрамчык ёсьць працаздольная, але ня ёсьць пэўны, ці яна зможа атрымаць адпаведную працу.

Сп. А. Шукелайць — Уважае, што пазыкі на паховіны Прэзыдэнта ад сп. Адамовіча й а. Л. Гарошкі павінны быць зьвернутыя Радай. Думка гэтая была падтрыманая прысутнымі раднымі.

*Нью-Ёрк, дня 15 верасьня 1970 г.*

*Др. В. Жук-Грышкевіч*

*Старшыня Рады БНР*

*В. Русак*

*Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР*

# *Раздзел III:*
# ДАКУМЕНТЫ

*Дзейнасць Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка адлюстраваная ў вялікай колькасці дакументаў, расцярушаных па розных архіўных зборах і старонках эміграцыйнага друку. У гэтым раздзеле апублікаваныя толькі некаторыя з іх, што дазваляюць праілюстраваць асобныя моманты, закранутыя ў пратаколах. Такім чынам, гэтая выбарка не столькі абумоўленая захаванасцю крыніц, як у выпадку з пратаколамі, а зробленая наўмысна з увагай на важнасць тэмы ці рэдкасць дакументаў.*

*Выдрукаваныя тут дакументы паходзяць з архіву БІНіМа. Прынцыпы публікацыі і каментавання аналагічныя з пратаколамі.*

## NOTATKA Z POBYTU PREZYDENTA B.R.L. MIKOLAJA ABRAMCZYKA W LONDYNIE OD 10.07.47 DO 06.08.1947 G.

1. 10.07.47. Przyjazd do Londynu z Paryża.

2. 16.07.47. Godzina 13 — 15 — Obiad w Oginsku Polskim. Obecni: Prezydent M. Abramczyk, Rektor Misji Katolickej Ks. Sipowicz, Prezes Zjednoczenia Bialoruskiego w W. Brytanii Prof. Hryszkiewicz[861]; Minister A. Tarnowski[862], Min. T. Gwiazdowski, Dr. T. Jankowski[863], Dyr. S. J. Paprocki[864].

3. 17.07.47. Godzina 11.30. wizyta Prezydenta M. Abramczyka u Ministra Spraw Zagranicznych A. Tarnowskiego.

Godzina 16 — 17 wizyta Prezydenta M. Abramczyka u Pana Prezydenta R. P.

4. 21.07.47. Godzina 12. wizyta Prezydenta M. Abramczyka u Pana Prezesa Rady Ministrów Gen. Bor-Komorowskiego[865].

---

[861] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

[862] **Адам Тарноўскі** (*Adam Tarnowski,* 1892–1956), полькі дыпламат, міністр замежных спраў у польскім экзільным урадзе ў 1944–1949 гг.

[863] **Тадэвуш Янкоўскі** (*Tadeusz Jankowski,* 1892–1964), польскі дыпламат, у даваенны час быў дарадцам польскага амбасадара ў Маскве.

[864] Маецца на ўвазе **Станіслаў Папроцкі** (*Stanisław Paprocki,* 1895–1976), польскі палітычны дзеяч, у перадваенны час быў дырэктарам Інстытута даследавання нацыянальнасцяў.

[865] Генерал Тадэвуш Бур-Камароўскі быў прызначаны на пасаду прэм’ер-міністра польскага экзільнага ўраду 2 ліпеня 1947 г.

Godzina 19.30 rozmowa Prezydenta M. Abramczyka z panami J. Kuncewiczem i B. Domańskim w sprawie międzynarodowego porozumienia stronnictw ludowych w stanach Zjednoczonych.

5. 23.07.47. Godzina 10. wizyta Prezydenta M. Abramczyka u Min WR i OP p. Prof. Folkierskiego[866] w obecności Dyr. W. Piotrowicza.

Godzina 13. śniadanie Prezydenta M. Abramczyka z Gen. W. Andersem, Gen. Kopańskim[867] i Gen. K. Wiśniowskim[868].

6. 24.07.47. Godzina 15. konferencja w sprawach uchodzczych w MSZ. Obecni: Prezydent M. Abramczyk, prof. Hryszkiewicz, Min. M. Sokolowski, Dyr. T. Katelbach[869], Dyr. St.J. Paprocki.

7. 26.07.47. Godzina 13. śniadanie w Ognisku[870]. Obecni: Prezydent M. Abramczyk, Min. Tarnowski i Dyr. St. Paprocki.

Godzina 13. Śniadanie w Ognisku. Obecni: Prezydent Abramczyk, Prof. Hryszkiewicz, pp. ministrowie A. Tarnowski, Z. Berezowski[871] i A. Pragier[872], Dyr. St. Paprocki.

Godzina 16. herbatka w Ognisku zorganizowana przez Zarzady Związku Pisarzy Polskich[873] i Związku Dziennikarzy Polskich. Obecni: Prezydent M. Abramczyk, Ks. Rektor Sipowicz, Prof. Hryszkiewicz, Prof. Stronski[874], plk.

---

[866] **Уладыслаў Фалькерскі** (*Władysław Folkierski,* 1890–1961), польскі гісторык, міністр веравызнанняў і народнай асветы (*wyznań religijnych i oświecenia publicznego*) ва ўрадзе Т. Бур-Камароўскага ў 1947–1949 гг.

[867] **Станіслаў Капаньскі** (*Stanisław Kopański,* 1895–1976), польскі вайсковы дзеяч, генерал, у 1947–1949 гг. быў кіраўніком Польскага корпуса прыстасавання і размяшчэння ў Вялікабрытаніі.

[868] **Казімеж Вішнёўскі** (*Kazimierz Wiśniowski,* 1896–1964), польскі вайсковы дзеяч, генерал, у 1943–1945 гг. быў начальнікам штаба Другога польскага корпуса, дзе служыла шмат беларусаў. Пасля дэмабілізацыі жыў у Лондане.

[869] **Тадэвуш Мацей Катэльбах** (*Tadeusz Maciej Katelbach,* 1897–1977), польскі палітычны дзеяч на эміграцыі, журналіст, публіцыст.

[870] Маецца на ўвазе польскі клуб з рэстарацыяй ***«Ognisko Polskie»*** ў раёне Паўднёвы Кенсінгтан у Лондане. У часе пасля Другой сусветнай вайны быў месцам спаткання польскіх эмігрантаў.

[871] **Зыгмунт Беразоўскі** (*Zygmunt Berezowski,* 1891–1979), польскі палітычны дзеяч, журналіст, міністр нутраных спраў ва ўрадзе Т. Бур-Камароўскага.

[872] **Адам Шыман Прагер** (*Adam Szymon Pragier,* 1886–1976), польскі эканаміст, палітычны дзеяч, міністр інфармацыі і дакументацыі ва ўрадзе Т. Бур-Камароўскага.

[873] **Саюз польскіх пісьменнікаў на чужыне** (*Związek Pisarzy Polskich na Obczyźnie*) — арганізацыя, якая паўстала ў Лондане ў 1945 г. і займалася культурна-выдавецкай дзейнасцю, дапамогай пісьменнікам.

[874] **Станіслаў Строньскі** (*Stanisiaw Strocski,* 1882–1955), польскі публіцыст, палітычны дзеяч, у 1945–1948 гг. — Прэзідэнт Саюза польскіх пісьменнікаў на чужыне.

Bogusławski[875], p. Naglerowa, p. Sikorski, p. Wierzbiański[876] i Dyr. St. Paprocki, Prof. Żółtowski[877] i inni.

Godzina 18. herbatka w Klubie Deredalnym. Obecni: Pan Premier Gen. Bor-Komorowski, Min. Folkierski, Ambasador Lukasiewicz[878], Gen. Prchala, Dr. Pridavok[879], pp. Zaleski, Zagorski, Red. Zieliński i inni, oraz Prezydent M. Abramczyk, Ks. Rector Sipowicz i Prof. Hryszkiewicz.

8. 30.07.47. Godzina 11.30 — 13.30. Wizyta u Min. Z. Berezowskiego Prezydenta M. Abramczyka i Prof. Hryszkiewicz w obecności Dyr. St. Paprockiego.

Godzina 13. Śniadanie. Obecni: Prezydent Abramczyk, generalowie Anders, Kopański i Wiśniowski.

Godzina 16. herbatka u Min. Starzewskiego. Obecni: Prezydent M. Abramczyk, Prof. Hryszkiewicz, Posel estonski Turma, Posel łotewski Zarinsz, Gen. Prchala, Prof. Szensi, Min. jugosłowiański Gawrylowicz, Dyr. Pawlovic, Min. Pallis, Amb. J. Lukasiewicz, Amb. T. Filipowicz, Dyr. St. Paprocki.

9. 06.08.47. Godzina 12. Wizyta Prezydenta M. Abramczyka u Min. Spraw Zagranicznych A. Tarnowskiego — wymiana listów.

10. 08.08.47. Godzina 13. Obiad. Pożegnanie. Obecni: Prezydent M. Abramczyk, Min. Tarnowski, Prof. Hryszkiewicz, Dyr. Paprocki. Wymiana adresów organizacyj i instytucyj dla kontaktów.

## СТАТУТ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

I. Паўнамоцтвы, мэты й заданьні.

§1. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) на чале з Прэзыдэнтам БНР зьяўляецца адзіным праўным прадстаўніцтвам сувэрэнных правоў беларускага народу, выяўленых у праватворчым Акце 25 сакавіка 1918 г.

§2. Рада БНР выводзіць свае правы зь неабмежаваных паўнамоцтваў, дадзеных ёй Першым Усебеларускім Кангрэсам у 1917 г. на паседжаньні дня 31.12. Носьбітам паўнамоцтваў, дадзеных Першым Усебеларускім Кангрэ-

---

875 **Антоні Ян Багуслаўскі** (*Antoni Jan Bogusławski,* 1889–1956), польскі паэт, пісьменнік, перакладчык, палкоўнік кавалерыі. У 1945–1947 гг. быў старшынёй Саюза польскіх журналістаў на чужыне.

876 **Баляслаў Вежбяньскі** (*Bolesław Wierzbiański,* 1913–2003), польскі журналіст і рэдактар, у паваенны час Прэзідэнт Саюза польскіх журналістаў на чужыне.

877 Магчыма, маецца на ўвазе **Адам Жултоўскі** (*Adam Żółtowski,* 1881–1958), польскі філосаф, дырэктар Польскага навуковага асяродка ў Лондане ў 1942–1958 гг.

878 Магчыма, маецца на ўвазе **Ян Лукасевіч** (*Jan Łukasiewicz,* 1878–1956), польскі навуковец, матэматык, адзін з заснавальнікаў Польскага навуковага таварыства на чужыне.

879 **Петэр Прыдавак** (*Peter Pridavok*, 1902–1966), славацкі пісьменнік, журналіст, палітык, перакладчык. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Лондане, быў адным з заснавальнікаў Славацкай нацыянальнай рады ў замежжы.

сам, зьяўляўся Прэзыдэнт БНР Васіль Захарка, які перадаў свае паўнамоцтвы палітычным тэстамэнтам сучаснаму Прэзыдэнту БНР Мікалаю Абрамчыку.

§3. Аснаўным палітычным заданьнем Рады БНР зьяўляецца зьдзейсьненьне волі Беларускага Народу, выражанай у Акце 25 сакавіка 1918 г., гэта значыць адбудова незалежнай беларускай дзяржаўнасьці на ўсіх землях, якія ў 1917–1918 гг. належылі да беларускага этнаграфічнага абшару.

§4. Дзеля дасягненьня заданьня, азначанага ў папярэднім артыкуле, Рада БНР арганізоўвае і скіроўвае ўсе сілы Беларускага Народу да мэтазгоднага жыцьця.

§5. Паўнамоцтвы, дадзеныя Першым Усебеларускім Кангрэсам, трываюць згодна зь ягонаю пастановаю да часу вольных выбараў у незалежнай БНР канстытуцыйных законадаўчых органаў.

II. Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі.

§6. На чале Рады БНР стаіць Прэзыдэнт БНР, спадкаемца паўнамоцтваў Першага Усебеларускага Кангрэсу.

§7. Прэзыдэнт БНР зьяўляецца праўным і адзіным найвышэйшым прадстаўніком Беларускага Народу. Прэзыдэнт БНР зьяўляецца адначасна старшынёю Рады БНР.

§8. Да кампэтэнцыі Прэзыдэнта БНР належыць:

а. Рэпрэзэнтаваньне БНР перад урадамі і нацыянальнымі прадстаўніцтвамі іншых народаў.

б. Пакліканьне сяброў Рады БНР.

в. Прызначэньне прадстаўнікоў БНР пры ўрадах і нацыянальных прадстаўніцтвах іншых народаў.

г. Прызначэньне і адкліканьне прэм’ер-міністра БНР.

д. Зацьверджаньне складу Рады Міністраў БНР.

ж[880]. Іншыя правы, вынікаючыя з займанага становішча, а не засьцярожаныя іншым органам.

§9. Свайго наступніка Прэзыдэнт БНР вызначае палітычным тэстамэнтам. У выпадку завакаваньня становішча Прэзыдэнта БНР яго наступнікам зьяўляецца Першы Заступнік Старшыні Рады БНР да часу скліканьня Пленуму Рады БНР.

III. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

§10. Сябры Рады БНР прызначаюцца Прэзыдэнтам БНР спасярод асобаў розных палітычных пераконаньняў, маральна й нацыянальна беззаганных.

§11. Прызначэньне сяброў Рады праводзіцца Прэзыдэнтам БНР на падставе прапановы Рады або яе Прэзыдыюму за выключэньнем сяброў, пакліканых у Раду пры яе ўканстытуяваньні.

§12. Сябры Рады БНР выключаюцца з Рады ў выпадку грамадзкай бязьдзейнасьці, дзеяньня, нязгоднага з Актам 25 сакавіка, ці супярэчнага з пастановамі Рады, выяўленьня тайніцы Рады ці праяўленьня іншых маральных ці нацыянальных заганаў.

---

880 Тут і далей — гэтак у арыгінале.

§13. Падставай выключэньня з Рады можа быць толькі вяжучая пастанова суду Рады ці самое Рады як вышэйшай інстанцыі.

§14. Выключаюцца з Рады сябры Прэзыдэнтам БНР на падставе прапановы, азначанай у папярэднім артыкуле.

§15. Рада БНР зьяўляецца, побач з Прэзыдэнтам БНР, найвышэйшым органам БНР.

§16. На чале Рады стаіць Прэзыдэнт БНР. У склад Прэзыдыюму Рады ўваходзіць Прэзыдэнт БНР як Старшыня Рады, яго заступнік, сакратар і два сябры, выбіраныя і адкліканыя Радаю.

§17. Сябры Рады БНР перад пачаткам сваёй дзейнасьці складаюць прысягу на рукі Прэзыдэнта БНР наступнага зьместу: *«Я, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, урачыста прысягаю перад Богам і Беларускім Народам, што буду непахісна стаяць на прынцыпах Акту 25 Сакавіка, дзеіць у кірунку ягонага ажыцьцяўленьня, падпарадкоўвацца ўсім пастановам, прынятым Радаю і Урадам БНР, сьвята захоўваць усе тайніцы Рады і Ураду БНР.*

*У выпадку парушэньня мною гэтае прысягі прымаю на сябе ўсе санкцыі, вынесеныя судовымі органамі Рады БНР».*

§18. Усе дзеяньні і пастановы Рады падлягаюць агалошваньню ў форме, азначанай пастановай Рады ці яе Прэзыдэнтам.

§19. Усіх сяброў Рады абавязвае поўная тайніца адносна справаў, парушаных на паседжаньнях Рады, ці аб якіх сябра Рады даведаўся з тытулу свайго належаньня да Рады.

§20. За зраду тайніцы БНР адказваецца, як за зраду дзяржаўнай тайніцы.

§21. Усялякія непаразуменьні паміж сябрамі Рады, вынікшыя з прычыны іхнага ўчасьця ў Радзе, падлягаюць выключнаму вырашэньню Суду Рады.

§22. Да кампэтэнцыі Рады БНР належыць:

а. Прыняцьцё й зьмена Статуту Рады.

б. Ратыфікацыя заключаных дагавораў.

в. Выпрацаваньне палітычнай лініі й тактыкі дзеяньня.

г. Прыняцьцё законаў.

д. Выбары органаў Рады.

ж. Прадстаўленьне Прэзыдэнту БНР кандыдатаў у сябры Рады й стаўляньне прапановаў аб адкліканьні з Рады ў выпадку, прадбачаным у §12 гэтага Статуту.

з. Іншыя справы, не належачыя да кампэтнцыяў Прэзыдэнта Рады ці іншых органаў.

§23. Паседжаньні Рады склікаюцца Прэзыдэнтам БНР ці, у выпадку адсутнасьці Прэзыдэнта, ягоным заступнікам згодна пастановы Прэзыдыюму. Паседжаньні склікаюцца па меры патрэбы, аднак прынамсі раз на шэсьць месяцаў.

§24. Паседжаньні Рады склікае Прэзыдэнт, у вадсутнасьці Прэзыдэнта ягоны заступнік, Прэзыдыюм Рады із собскае ініцыятывы або на пісьмовае жаданьне Ураду ці 1/5 сяброў Рады.

§25. Паседжаньні Рады правамоцныя, калі Рада праўна скліканая й сябры своечасова паведамленыя.

§26. Пастановы прыймаюцца звычайнай бальшынёю галасоў. У выпадку роўнасьці вырашае другі голас старшыні паседжаньня.

§27. Пастановы Рады падлягаюць зацьверджаньню Прэзыдэнта БНР. У выпадку незацьверджаньня іх яны могуць быць прынятыя паўторна бальшынёй прысутных, і тады яны маюць правамоцнасьць.

§28. Галасаваньне пры выбарах Прэзыдыюму Рады БНР і органаў Рады адбываецца тайна.

IV. Прэзыдыюм Рады БНР.

§29. Прэзыдыюм Рады БНР зьяўляецца рэпрэзэнтатыўным органам Рады БНР. Прэзыдыюм вядзе справы Рады БНР у часе паміж яе сэсіямі, выконвае яе пастановы, склікае Раду на сэсіі і яе рэпрэзэнтуе.

V. Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.

§30. Для вядзеньня выканаўчай працы ў кірунку, азначаным Радаю, творыцца Урад БНР.

§31. На чале Ураду стаіць прэм’ер-міністар, вызначаны і адкліканы Прэзыдэнтам БНР. У склад Ураду ўваходзіць патрэбная колькасьць міністраў. Міністраў дабірае прэм’ер-міністар і прадстаўляе цэлы габінэт на зацьверджаньне Прэзыдэнту БНР.

VI. Суд.

§32. Для вырашэньня справаў, азначаных у §13 і §21 устанаўляецца суд Рады БНР.

§33. У склад Суду ўваходзяць: Старшыня суду і 2 судзьдзі, выбраныя Радай і зацьверджаныя Прэзыдэнтам. Разгляд справаў можа быць вусны ці пісьмовы.

§34. Ад вырашэньня Суду можна адклікацца ў месячным тэрміне да Рады. Справы кіруюцца ў суд зь ініцыятывы старонаў, пастановаю Рады ці зь ініцыятывы абвінавальніка.

§35. З мэтаю сьцеражэньня публічных інтарэсаў Прэзыдэнт БНР вызначае абвінавальніка, які вядзе расьсьледаваньне справы і абвінавачвае на паседжаньнях Суду, калі справа скіраваная ў Суд зь ягонай ініцыятывы ці пастановаю Рады.

§36. Суд працуе на аснове зацьверджанага Радаю Статуту.

§37. Кажны сябра Рады, які мае справу ў суду, мае права выбраць сабе абароньніка спасярод сяброў Рады.

VII. Канцавыя пастанаўленьні.

§38. У гэтым Статуце могуць быць зробленыя зьмены й папраўкі бальшынёй галасоў прысутных сяброў Рады БНР.

§39. Гэты Статут абавязвае да часу паўстаньня заканадаўчага органу на Бацькаўшчыне ў выніку вольных выбараў.

Гэты Статут Рады БНР быў прыняты аднагалосна на сэсіі Рады БНР 28 сьнежаня 1947 г.

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ
# РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ (БНР)

Прынятая 31-га сьнежня 1947 г.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, сабраўшыся на сход у гістарычны дзень 30-х угодкаў абвешчаньня І-ым Усебеларускім Кангрэсам у Менску Беларускае Народнае Рэспублікі, урачыста заяўляе, што яна й надалей:

1. імкнецца да ажыцьцяўленьня волі беларускага народу да незалежнага гаспадарствавага жыцьця, выказанай ім вуснамі 1-га Усебеларускага кангрэсу й Актам 25 Сакавіка;

2. не прызнае й ніколі не прызнае БССР за форму беларускага незалежнага гаспадарства, уважаючы яе за расейска-камуністычную фікцыю беларускае гаспадарствавасьці, накінутую Масквою, як сродак паняволеньня беларускага народу, ягонага нацыянальнага, матэрыяльнага а нават і фізычнага вынішчэньня;

3. не прызнае й ніколі не прызнае на будучыню, як неабавязваючыя беларускі народ, усе ўмовы й забавязаньні, якія напраўна ад імя беларускага народу падпісалі ўрады СССР, Польшчы й г.зв. «урад БССР» — маскоўска-акупацыйная адміністрацыя ў Беларусі;

4. маючы мандат ад І-га Ўсебеларускага кангрэсу, застаецца адзінапраўным і найвышэйшым рэпрэзантантам гаспадарствавае волі беларускага народу, упаўнамоцваючым выступаць ад ягонага імя ўрад БНР;

5. выказвае давер і застаецца вернай Прэзыдэнту Беларускае Народнае Рэспублікі інж. М. Абрамчыку — найвышэйшаму прадстаўніку суверэнных правоў беларускага народу;

6. імкнецца да салідарнасьці і супрацоўніцтва з усімі паняволенымі й загрожанымі маскоўскім камунізмам народамі, якія прызнаюць суверэнныя правы беларускага народу ў ягоных этнаграфічных межах.

Рада ўважае, што ў перажываны мамэнт ейным галоўным абавязкам ёсьць поўная кансалідацыя ўсіх нацыянальных беларускіх сілаў і змабілізаваньне іх на змаганьне за канчальнае вызваленьне беларускага народу ад маскоўскае нявolі й аднаўленьне Беларускае Народнае Дэмакратычнае Рэспублікі.

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)*

# ЦЭНТРАЛЬНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ, ПАЛІТЫЧНЫЯ, ГРАМАДЗКІЯ Й ПРАФЭСЫЙНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ НА ЭМІГРАЦЫІ[881]

1. Прэзыдэнт БНР — ён-жа Старшыня Рады БНР — інж. М. Абрамчык. Прэзыдэнцкія правы атрымаў праз тэстамэнт ад Прэзыдэнта БНР В. Захаркі, выбранага ў Менску на паседжаньні Рады БНР 13.12.1919 г.[882]

2. Рада БНР — найвышэйшы дзяржаўна-парлямэнтарны орган сувэрэнных правоў беларускага народу. Абраная на І-м Усебеларускім Кангрэсе ў 1917 г. і пазьней дапаўняная Прэзыдэнтам БНР на прапазыцыі нацыянальна-палітычных арганізацыяў. Складаецца із прадстаўнікоў Беларускае нацыянал-дэмакратычнае партыі[883], Беларускае незалежніцкае партыі[884], Беларускае партыі хрысьціянскіх дэмакратаў[885] і беспартыйных.

3. Рада міністраў БНР — Урад.

4. Беларускі нацыянальны цэнтар — вышэйшы надпартыйны нацыянальна-палітычны цэнтар із прадстаўнікоў вышменаваных партыяў і беспартыйных нацыянальных дзеячоў.

5. Беларускі нацыянальны камітэт — Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускае эміграцыі на Нямеччыну (з аддзеламі на амэрыканскую, ангельскую й францускую зоны).

6. Хаўрус беларусаў у Францыі.

---

[881] Не датаваны, але не раней за ліпень 1948 г., калі выйшаў першы нумар часопіса «Моладзь».

[882] У гэты дзень на пасяджэнні Рады БНР адбыўся раскол на Народную Раду БНР і Найвышэйшую Раду БНР. У склад Прэзідыума першай увайшлі Пётра Крэчэўскі, Палута Бадунова і Васіль Захарка.

[883] **Беларуская нацыянал-дэмакратычная партыя** паўстала ў Нямеччыне пасля Другой сусветнай вайны на чале з Аўгенам Каханоўскім. (гл.: Праграма Беларускай Нацыянал-Дэмакратычнай Партыі. 1947. — 52 с.)

[884] **Беларуская незалежніцкая партыя** — вайскова-палітычная арганізацыя, створаная ў часе Другой сусветнай вайны з ініцыятывы Вінцэнта Гадлеўскага. У паваенны час дзейнічала ў эміграцыі. У шэрагах партыі ў 1947–1948 гг. былі прыхільнікі як Рады БНР, так і БЦР, у выніку з'яўляліся розныя арганізацыі, што прэтэндавалі на назву БНП. Значная частка ўдзельнікаў на чале з кіраўніком Замежнага сектара БНП Дзмітрыем Касмовічам пазней далучылася на БЦР, аднак была і група на чале з Барысам Рагулем, якая падтрымлівала Раду БНР і існавала яшчэ як мінімум у 1953 г. (гл.: Ст. Станкевіч — М. Наўмовічу [ліст ад 25.04.1953] // Месца выданьня — Парыж: Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954). Мінск, 2004. С. 391–392).

[885] Магчыма, маецца на ўвазе **Беларуская хрысціянская дэмакратыя** на чале з Баляславам Грабінскім. (Гл.: Ст. Станкевіч — М. Наўмовічу [ліст ад 25.04.1953] // Месца выданьня — Парыж: Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954). Мінск, 2004. С. 391–392).

7. Саюз беларусаў у Бэльгіі.
8. Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі.
9. Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне.
10. Беларуска-амэрыканская нацыянальная рада ў ЗША.
11. Беларускі камітэт у Аўстраліі.
12. Згуртаваньне беларускіх вэтэранаў і камбатантаў у Нямеччыне, Бэльгіі і Ангельшчыне.
13. Згуртаваньне беларускіх настаўнікаў на чужыне.
14. Згуртаваньне беларускіх лекараў на чужыне.
15. Саюз беларускіх журналістых.
16. Згуртаваньне беларускіх студэнтаў на чужыне.
17. Беларускія скаўты (сэкцыя сусьветнага скаўтынгу).
18. Навуковае таварыства ймя Ф. Скарыны.
19. Беларускі тэатар эстрады (Нямеччына).
20. 3 беларускія гімназіі і 8 народных школаў (Нямеччына)[886].
21. Галоўныя прэсавыя выданьні:

«Бацькаўшчына» — Нямеччына.
«Сакавік»[887] — Нямеччына.
«Рух»[888] — Нямеччына.
«Мэдычная думка»[889] — Нямеччына.
«Скаўт»[890] — Нямеччына.
«Летапіс»[891] — Нямеччына.
«Божым шляхам»[892] — Францыя.

---

[886] Больш падрабязней пра беларускае школьніцтва ў Нямеччыне можна прачытаць у кнізе Алеся Вініцкага «Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох» (Менск, 1994).

[887] **«Сакавік»** — літаратурна-грамадскі часопіс, які выдаваўся ў Остэргофэне ў 1947–1948 гг. пад рэдакцыяй Антона Адамовіча. Усяго выйшла 3 нумары.

[888] **«Рух»** — перыёдык грамадска-палітычнай скіраванасці, *«орган беларускай нацыянальна-вызвольнай думкі»*, што выходзіў у Нямеччыне ў 1946–1948 гг. пад рэдактарствам Станіслава Станкевіча і Антона Адамовіча. Выйшла 5 нумароў.

[889] **«Мэдычная думка»** — беларускі медычны часопіс, які выдаваўся ў Ватэнштэце ў 1946–1950 г. пад рэдакцыяй Вітаўта Тумаша. Выйшла 3 нумары.

[890] **«Скаўт»** — скаўцкі часопіс, орган Згуртавання беларускіх (крывіцкіх) скаўтаў на чужыне, які выходзіў у 1946–1948 гг. Выйшла 8 нумароў.

[891] **«Летапіс»** — грамадска-палітычны перыёдык, які выходзіў у 1947–1991 гг. спачатку ў Фленсбургу (Нямеччына), а потым у Стамфардзе (ЗША). Першым рэдактарам быў Леанід Галяк, пазней (ад 1984 г.) рэдагавалі часопіс Мікола Панькоў і Васіль Шчэцька. Выйшла 76 нумароў.

[892] **«Божым шляхам»** — часопіс беларускай рэлігійнай думкі, які выходзіў у 1947–1980 гг., спачатку ў Парыжы (рэдактар а. Леў Гарошка), потым у Лондане (рэдактар а. Язэп Германовіч). Выйшаў 151 нумар.

«Моладзь»[893] — Францыя.
«Беларус на чужыне»[894] — Ангельшчына.
«Наперад»[895] — Ангельшчына.
«Беларускі эмігрант» — Канада.
«Незалежнасьць»[896] — Бэльгія».

## ІНСТРУКЦЫЯ № 1 ПРАДСТАЎНІКОМ УРАДУ БНР У РОЗНЫХ ДЗЯРЖАВАХ СЬВЕТУ

Зьмест: Агульныя дырэктывы

§1. Урад БНР з мэтаю актывізацыі свае працы на эміграцыі арганізуе ў розных дзяржавах сьвету свае Прадстаўніцтвы.

§2. На чале Прадстаўніцтва Ураду БНР стаіць Прадстаўнік Ураду БНР, адпаведна ўмандатаваны.

§3. Залежна ад патрэбы й магчымасьцяў Прадстаўнік Ураду БНР падбірае сабе супрацоўнікаў — сакратара й рэфэрэнтаў нутраное й вонкавае палітыкі. Пэрсанальны склад супрацоўнікаў падлягае зацьверджаньню Ўраду БНР.

§4. Прадстаўнік Ураду БНР дзеіць у вадпаведнасьці з інструкцыямі й распараджэньнямі свайго Ураду й перад ім адказны. Ён можа выяўляць і собскую ініцыятыву, аднак у межах атрыманых ад Ураду дырэктываў. Ува ўсіх няпэўных і няясных выпадках належыць зварочвацца за растлумачэньнямі да Ураду БНР.

§5. На абавязку Прадстаўніка Ураду БНР ёсьць праводзіць на тэрыторыі дзяржавы свайго месцапрабываньня палітыку Ураду БНР, дзеля чаго ён павінен:

а) устанавіць і трымаць сталую сувязь і супрацоўніцтва із усімі незалежніцкімі беларускімі арганізацыямі, апіраючыся на іх у сваёй працы;

---

[893] **«Моладзь»** — моладзевы часопіс, які выходзіў у Парыжы ў 1948–1954 гг. Рэдактарамі былі Янка Філістовіч, Міхась Наўмовіч. Выйшлі 32 нумары. Часопісу прысвечана кніга «Месца выдання — Парыж» (Мінск, 2004).

[894] **«Беларус на чужыне»** — грамадска-культурны часопіс, які выдаваўся ў Лондане ў 1947–1950 гг. Рэдактары: Аляксандр Надсан, Кастусь Амор. Выйшлі 42 нумары.

[895] **«Наперад!»** — моладзевы часопіс, орган «Дванаццаткі», які выходзіў у 1947–1953 гг., спачатку на шляху ў Вялікабрытанію, потым у Брытаніі, а ў 1953 г. — у Бельгіі. Выйшлі 26 нумароў. Падрабязней пра часопіс можна прачытаць у кнізе Янкі Запрудніка «Дванаццатка» (Нью-Ёрк, 2002).

[896] Адзіны вядомы нумар часопіса **«Незалежнасць»** пабачыў свет у Льежы ў 1948 г. пад рэдакцыяй Уладзіслава Рыжага-Рыскага.

б) устанавіць і трымаць сталую сувязь і супрацоўніцтва із Прадстаўнікамі эміграцыйных урадаў і інш. палітычнымі й грамадзкімі арганізацыямі народаў, заняволеных савецкай Расеяй;

в) інфармаваць урадава-палітычныя дзейнікі й шырокую грамадзкасьць дзяржавы свайго месцапрабываньня аб палажэньні беларускага народу й мэтах ягонага нацыянальнага-вызвольнага змаганьня;

г) праводзіць у жыцьцё ўсе іншыя заданьні Ураду БНР на аснове спэцыяльных распараджэньняў.

*Прэм'ер-Міністар Ураду БНР [подпіс] / А. Каханоўскі /*
*10.12.1948*

## ІНСТРУКЦЫЯ № 3 ПРАДСТАЎНІКОМ УРАДУ БНР У РОЗНЫХ ДЗЯРЖАВАХ СЬВЕТУ

Зьмест: Заданьні Прадстаўніка Ураду БНР у галіне беларускае нутраное палітыкі

§1. У васнову свае нутраное палітыкі Прадстаўнік Ураду БНР павінен класьці «Пастанову Сэсіі Рады БНР ад 21.6.1948 г. у справе беларускае нутраное палітыкі», спэцыяльныя распараджэньні Ураду БНР і пастановы Сусьветнага Зьезду Беларускае Эміграцыі[897].

§2. Прадстаўнік Ураду БНР павінен быць на тэрыторыі дзяржавы свайго месцапрабываньня арганізатарам гуртаваньня беларускіх эмігрантаў у незалежніцкія нацыянальныя арганізацыі — палітычныя, грамадзкія, прафэсійныя, культурныя, юнацкія і інш., залежна ад вымогаў і магчымасьцяў у дадзеным краі.

§3. Прадстаўнік Ураду БНР павінен стала апекавацца й трымаць актыўную сувязь із усімі вышменаванымі арганізацыямі, праводзячы праз іх кансалідацыйную й нацыянальна-ўсьведамляльную працу сярод беларусаў, задзіночваючы іх вакол вялікае вызвольнае ідэі і аўтарытэту Прэзыдэнта, Рады й Ураду БНР.

§4. Шырокая й разнастайная праграма кансалідацыйнае й нацыянальна-усьведамляльнае працы павінна, залежна ад канкрэтных магчымасьцяў, прадбачыць:

а. скліканьне розных зьездаў і канфэрэнцыяў беларускіх арганізацыяў;

б. сыстэматычнае ладжаньне абходу беларускіх нацыянальных сьвятаў і юбілеяў;

в. закладаньне беларускіх школаў і курсаў;

г. адчыненьне беларускіх сьвятліцаў і бібліятэкаў;

---

[897] Сусветны з'езд беларускай эміграцыі адбываўся ў Парыжы 28 лістапада — 2 снежня 1948 г.

д. арганізацыю розных беларускіх гурткоў (драматычных, харавых, інструмэнтальна-музычных, спартовых і г. д);

е. ладжаньне мастацкіх беларускіх вечароў рэфэратаў і дыскусіяў на гістарычныя, нацыянальна-культурныя і іншыя тэмы;

ж. выдаваньне й распаўсюджваньне беларускіх газэтаў, часапісаў, кніжок, брашураў, сьпеўнікаў, календароў, партрэтаў, паштовак і г. д.

з. арганізацыю матэрыяльнае самапомачы беларускае эміграцыі;

і. збор фінансавых сродкаў у Нацыянальны Беларускі Фонд, на падтрыманьне прэсы, студэнтаў, хворых, дзяцей і г. д.;

к. рэгулярную інфармацыю аб працы беларускіх арганізацыяў у прэсе й г. д.;

§5. Асаблівая ўвага ў працы сярод беларускае эміграцыі павінна быць скіраваная на змаганьне супроць камунізму, расейскага і ўсялякага іншага імпэрыялізму ў любых ягоных формах, а таксама й на сьцеражэньне ад таго, каб у шэрагі нацыянальных беларускіх арганізацыяў не пралезла расейска-бальшавіцкая, зарубежніцкая і іншыя варожыя беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху агентура.

Трэба імкнуцца да таго, каб беларускія эмігранты ўсюды падтрымлівалі антыкамуністычны і антырасейскі курс палітыкі Ураду дзяржавы свайго месцапрабываньня.

*Прэм'ер-Міністар Ураду БНР [подпіс] / А. Каханоўскі /*

*20.12.1948*

## ІНСТРУКЦЫЯ № 4 ПРАДСТАЎНІКОМ УРАДУ БНР У РОЗНЫХ ДЗЯРЖАВАХ СЬВЕТУ

Зьмест: Заданьні Прадстаўніка Ураду БНР у галіне беларускае вонкавае палітыкі

§1. У васнову свае вонкавае палітыкі Прадстаўнік Ураду БНР павінен класьці «Пастанову Сэсіі БНР ад 21.6.1948 г. у справе беларускае вонкавае палітыкі» і спэцыяльных распараджэньняў Ураду БНР.

§2. Прадстаўнік Ураду БНР у дзяржаве свайго месцапрабываньня павінен устанавіць сувязь і супрацоўніцтва із:

а. прадстаўнікамі іншых эміграцыйных урадаў (беспасярэдня);

б. іншанацыянальнымі антыбальшавіцкімі і ўсялякімі іншымі антырасейскімі імпэрыялістычнымі арганізацыямі (пасярэдня);

в. міжнацыянальнымі антыбальшавіцкімі і ўсялякімі іншымі антырасейскімі імпэрыялістычнымі арганізацыямі (пасярэдня);

г. эміграцыйнымі прадстаўніцтвамі і інш. арганізацыямі народаў, заняволеных і загрожаных савецкай Расеяй (пасярэдня);

Увага: У выпадках, калі Прадстаўнік Ураду БНР ня мае магчымасьці дэлегаваць кагосьці іншага ад імя іншае беларускае арганізацыі ў арганізацыі,

пералічаныя ў п. п. в і г гэтага §, ён можа або выступаць перад імі сам як прадстаўнік беларускага эміграцыйнага прадстаўніцтва ці іншае адпаведнае беларускае арганізацыі, атрымаўшы пры гэтым згоду гэтае арганізацыі, або выступаць перад імі як Прадстаўнік Ураду БНР, але неафіцыйна.

§3. Агульнай пазыцыяй пры ўстанаўленьні афіцыйных сувязяў і супрацоўніцтва вышэйвылічанымі арганізацыямі іншых народаў павінна быць: вызнаньне гэтымі арганізацыямі беларускаму народу ягонага законнага права на дзяржаўную незалежнасьць у этнаграфічных межах.

§4. У сувязях і супрацоўніцтве Прадстаўніка Ураду БНР з Прадстаўнікамі іншых эміграцыйных урадаў і іншанацыянальнымі й міжнацыянальнымі палітычнымі й грамадзкімі арганізацыямі асаблівая ўвага мусіць быць скіраваная на прапаганду беларускае нацыянальна-вызвольнае праблемы.

Сродкамі такое прапаганды могуць быць: вусныя выступленьні; зьмяшчэньне ў чужынецкай прэсе артыкулаў і інфармацыяў аб Беларусі, беларускім народзе, беларускім нацыянальна-вызвольным руху, беларускіх нацыянальных сьвятах і юбілеях; распаўсюджаньне сярод чужынцаў спэцыяльна выдадзенае для гэтае мэты літаратуры зь беларускай праблематыкай; запросіны чужынцаў на беларускія нацыянальныя й культурныя імпрэзы і г. д.;

§5. У прапагандзе беларускае нацыянальна-вызвольнае праблемы сярод чужынцаў Прадстаўнік Ураду БНР павінен выходзіць із інструкцыяў, распараджэньняў і інфармацыяў Ураду БНР, Спісу галоўных беларускіх арганізацыяў на эміграцыі; брашуры інж. Л. Рыдлеўскага «Беларусь», нарысаў Недасека «1917–1947» і «1918–1948»[898] і публікацыяў беларускае незалежніцкае прэсы, паказанае ў прыгаданым сьпісе.

§6. Дзеля таго, што Прадстаўнік Ураду БНР як такі сёньня яшчэ ня можа выступаць перад Урадам дзяржавы свайго месцапрабываньня, усе свае кантакты ў беларускіх справах з урадавымі дзейнікамі ён павінен весьці ад імя беларускага эміграцыйнага прадстаўніцтва гэтае дзяржавы ці іншае беларускае грамадзкае арганізацыі.

§7. Праз розныя ўрадавыя органы, грамадзкія і іншыя арганізацыі і прэсу дзяржавы свайго месцапрабываньня Прадстаўнік Ураду БНР павінен інфармаваць шырокае грамадзянства дадзенага краю аб палажэньні беларускага народу й мэтах ягонага нацыянальна-вызвольнага змаганьня.

§8. У тых дзяржавах, якія, паводля праграмы ІРО, прымаюць новых эмігрантаў з Эўропы (Францыя, Ангельшчына, ЗША, Канада, Аргентына, Аўстралія і інш.), Прадстаўнік Ураду БНР павінен інтэрвэньяваць ува ўрада-

[898] Згаданыя брашуры Н. Недасека (Антона Адамовіча) «1917–1947. Да трыццатых угодкаў найвызначнейшых падзеяў нашага нацыянальнага руху» і «1918–1948. Да трыццатых угодкаў найвызначнейшых падзеяў нашага нацыянальнага руху» пабачылі свет у Остэргофэне ў 1947–1948 гг. Тэкст першай з іх часткова друкаваўся на старонках газеты «Бацькаўшчына».

выя дзейнікі й грамадзкія арганізацыі, каб дапамагчы беларусам эміграваць у гэтыя дзяржавы і ўладзіцца там на новым месцы.

*Прэм’ер-Міністар Ураду БНР [подпіс] / А. Каханоўскі /*
*25.12.1948*

## ІНФАРМАЦЫЯ № 1 ПРАДСТАЎНІКАМ УРАДУ БНР У РОЗНЫХ ДЗЯРЖАВАХ СЬВЕТУ

1. Наш габінэт пачынае сваю працу ў двух няспрыяльных акалічнасьцях: міжнароднай і нутраной. У міжнароднай дзеля таго, што Беларусь знаходзіцца пад цяжкай маскоўска-бальшавіцкай акупацыяй, а нутраной — дзеля таго, што побач Ураду БНР існуе г. зв. Урад БССР із сваімі прадстаўнікамі ў ЗН, а цэлы сьвет і дагэтуль яшчэ глухі на нашу нацыянальную праблему. Гэта нутраная трагэдыя з прычыны аднаўленьня БЦР яшчэ больш паглыбляе разьбіцьцё нашага народу, што падважвае аўтарытэт Ураду БНР і ўтрудняе ягоную працу.

Нашыя праціўнікі закідаюць нам няпраўнасьць нашага мандату. Таму я ўважаю за канечне патрэбнае прыгадаць тут некаторыя дадзеныя з гісторыі Урадаў БНР, заўсёды пакліканых Радаю БНР, якая мае мандат ад І-га Усебеларускага кангрэсу 1917 г.

Наш габінэт ёсьць ужо 11-ы з чаргі[899].

1-шы габінэт Я. Варонкі — народны Сакратарыят — дзеяў ад 19.2.1918 г. да 5.1918.

2-гі габінэт — Часовая Рада Пяцёх — ад 5.1918 да 5.1918 г.

3-ці габінэт — Рамана фон Скірмунта — ад 5.1918 да 6.1918 г.

4-ці габінэт — д-ра Серады — ад 6.1918 да 6.1918 г.

5-ты габінэт — Ан. Луцкевіча — ад 6.1918 да 13.12.1919 г.

6-ты габінэт — В. Ластоўскага — ад 13.12.1919 г. да 23.8.1923 г.

7-ы габінэт — д-ра Цьвікевіча — ад 23.8.1923 да 10.1925 г.

8-ы габінэт — В. Захаркі — ад 10.1925 г. да 3.1943 г.

9-ы габінэт пасьля сьмерці В. Захаркі ўзначальвае інж. М. Абрамчык; ён-жа й Старшыня Рады БНР (3.1943 — 3.1946).

10 габінэт (пашыраны) — інж. М. Абрамчыка — ад 3.1946 да 21.6.1948 г.

Урэшце, наш 11-ы габінэт, зацьверджаны апошняй Сэсіяй Рады БНР 21.6.1948 г. у складзе:

Др. Вітаўт Тумаш — Прэм’ер і Міністар аховы здароўя.

Мгр. Аўген Каханоўскі — 1-шы віцэпрэм’ер і Міністар замежных справаў.

Інж. Мікола Гарошка — 2-гі віцэпрэм’ер і Міністар гароднае гаспадаркі.

---

[899] У пратаколе А. Каханоўскі падае троху іншыя даты.

Др. Станіслаў Грынкевіч — Міністар нутраных справаў.
Палкоўнік Францішак Кушаль — Міністар вайсковых справаў.
Др. Аляксандар Орса — Міністар культуры й веравызнаньняў.
Антон Адамовіч — Міністар прэсы й інфармацыі.
Мгр. Лявон Галяк — Міністар юстыцыі.
Інж. Лявон Рыдлеўскі — Міністар працы й сацыяльнага забясьпечаньня.
Сп. Гіпаліт Паланевіч — Дзяржаўны сакратар.

З гэтага агляду гісторыі габінэтаў Ураду БНР выцякае, што:

а. Рада і Урад БНР маюць мандат ад самага Беларускага Народу; гэты мандат з гледзішча міжнароднага права захоўвае сваю поўную праўнасьць аж да наступных вольных выбараў у Беларусі, што можа быць толькі па вызваленьні яе спад усякае акупацыі;

б. гэтага мандату Рада і Урад нікому й ніколі не перадавалі;

в. свайго існаваньня й дзейнасьці ў працягу 30-х год Рада і Урад БНР не перарывалі, робячы ўсё, што было магчыма;

г. Рада і Урад БНР годна захавалі чысьціню незалежніцкіх прынцыпаў, ня спляміўшы іх ніякімі ўгодамі акупантам;

Што да БЦР, то гэтая інстытуцыя ніколі ня была раўназначнай Радзе БНР; яна была вышэйшым беларускім адміністрацыйным органам, узалежненым ад нямецкіх акупацыйных уладаў.

Сувэрэнам Беларусі й то ня ўсяе тэрыторыі быў г. зв. Гэнэральны Камісар Беларусі, а БЦР:

а. паўстала ня з волі самога народу, а акупацыйных уладаў;

б. Прэзыдэнт БЦР назначаны й мог быць адкліканы, згодна статуту, дадзенага Гэнэральным Камісарам, ім-жа: сябры БЦР на прапазыцыю Прэзыдэнта таксама зацьверджаны Гэнэральным Камісарам Беларусі, таму ён-жа мог пры жаданьні і звольніць;

в. БЦР поўнасьцю залежала ад акупацыйных уладаў, а не народу, нат бяз згоды немцаў яна не магла назначаць сваіх намесьнікаў на акругі;

г. БЦР мела вузкія, абмежаваныя правы й функцыі, вызначаныя й кантраляваныя акупацыйнымі ўладамі;

д. урэшце, сваю дзейнасьць спыніла з капітуляцыяй Нямеччыны, разьвязаўшыся сама 24.9.1945 г.

Увага: дзеля таго, што др. В. Тумаш зрокся становішча Прэм'ера, застаўшыся ва Урадзе як міністар аховы здароўя, ад 15.8.1948 г. Прэм'ерам Ураду стаўся І-шы віцэ-прэм'ер і міністар замежных справаў А. Каханоўскі.

2. Няспрыяльная міжнародна-палітычная сытуацыя (2-ая сусьветная вайна; тэрарыстычны рэжым у вакупаванай немцамі Эўропе; спэцыяльна варожае настаўленьне нямецкага ўраду да Рады і Ураду БНР, выкліканае адмоваю Прэзыдэнта В. Захаркі супрацоўнічаць зь нямецкім урадам; забарона немцамі Прэзыдэнту М. Абрамчыку весьці палітычную й грамадзкую працу, высылка яго зь Нямеччыны й хатні арышт у Парыжы; прыязныя дачыненьні ЗША, Ангельшчыны й Францыі з савецкай Расеяй) змусілі 9-ты і 10-ты габінэты Ураду БНР поўнасьцю законспіравацца. З агляду-ж на палепшаньне

гэтае сытуацыі на Сэсіі Рады БНР 20–21 чэрвеня 1948 г., дзе быў створаны новы, 11-ты габінэт, пэрсанальны склад Ураду БНР быў здэканспіраваны перад цэлаю Радаю БНР, але на некаторы час яшчэ не перад шырокім беларускім грамадзянствам і вонкавым сьветам. У сувязях-жа Ураду БНР із іншымі эміграцыйнымі ўрадамі дзяржаваў цэнтральнае і ўсходняе Эўропы, а таксама й перад уладамі заходня-дэмакратычных дзяржаваў Урад БНР выступае адкрыта, засьцерагаючыся толькі не падаваць ягоны пэрсанальны склад да шырэйшага ведама.

3. У васнову свае нутраное палітыкі Урад БНР і ўсе ягоныя органы і інстытуцыі кладуць «Пастанову Сэсіі Рады БНР у справе беларускае нутраное палітыкі» ад 21.6.1948 г. (гл. газэту «Бацькаўшчына», № 24/26 ад 11.7.1948 г.) і пастановы Сусьветнага Зьезду Беларускае Эміграцыі (гл. газэту «Бацькаўшчына», № 39/42 ад 12.12.1948 г.).

4. У васнову свае вонкавае палітыкі Урад БНР і ўсе ягоныя прадстаўніцтвы кладуць «Пастанову Сэсіі Рады БНР у справе беларускае вонкавае палітыкі» ад 21.6.1948 г. (гл. газэту «Бацькаўшчына», № 23/26 ад 4.7.1948 г.).

5. Нутраную палітыку Урад БНР вядзе: а. беспасярэдня і б. пасярэдня праз БНЦ (Беларускі Нацыянальны Цэнтр), САБЭ (Сусьветнае аб'еднаньне беларускае эміграцыі), беларускія эміграцыйныя прадстаўніцтвы і інш. нацыянальныя арганізацыі ў розных дзяржавах сьвету. Вонкавую палітыку Урад БНР вядзе трыма скаардынаванымі дарогамі: а. беспасярэдня з урадамі іншых дзяржаваў; б. пасярэдня праз рэфэрат вонкавае палітыкі; в. зноў-жа пасярэдня праз эміграцыйныя прадстаўніцтвы, грамадзкія, прафэсыйныя, юнацкія й культурныя арганізацыі з адпаведнымі ім іншанацыянальнымі й міжнацыянальнымі грамадзкімі арганізацыямі.

6. На пачатак 1949 году Урад БНР мае сталую сувязь з трыма эміграцыйнымі ўрадамі (Украінскае Народнае Рэспублікі, Летувіскае Дэмакратычнае Рэспублікі й Латыскае Дэмакратычнае Рэспублікі), а пасярэдня праз свае нацыянальныя арганізацыі ўваходзіць у АЛАН (Антыбальшавіцкую лігу аслабаненых народаў — каардынацыйны цэнтр АБН, ІС і Прамэтэю), АБН (Антыбальшавіцкі блёк народаў — беларусы, украінцы, латышы, летувісы, сэрбы, славакі, вугорцы, румыны, казакі, ідэль-уральцы, туркестанцы, грузіны й паўночна-каўказцы — асеціны, карачаеўцы, кабарда, чаркесы, інгушы), Інтэрнацыянал Свабоды (беларусы, украінцы, казакі, славакі, чэхі, харваты, вугорцы, баўгары, румыны, грузіны, азэрбайджанцы, армяне, ідэль-уральцы, паўночна-каўказцы), Фэдэральныя клюбы ў Лёндане, Парыжы й Мюнхэне (беларусы, албанцы, сэрбы, харваты, славэны, баўгары, румыны, вугорцы, чэхі, славакі, палякі, украінцы, эстонцы, латышы й летувісы), АЛПНЭ (Антыкамуністычную лігу паняволеных народаў Эўропы — беларусы, украінцы, славакі, вугорцы, румыны, летувісы, латышы, баўгары, эстонцы, харваты, славэны й чарнагорцы), ІНКОП (Міжнародны камітэт ДП і палітычных эмігрантаў — беларусы, армяне, азэрбайджанцы, баўгары, харваты, чэхі, эстонцы, грузіны, вугорцы, казакі, палякі, славакі, украінцы, туркестанцы, сэрбы й паўночна-каўказцы), Жаночую лігу на эміграцыі

(беларусы, украінцы, сэрбы, грузіны, летувісы, латышы, палякі, эстонцы), Фэдэрацыю вольных журналістых Сярэдняе і Усходняе Эўропы, а таксама краёў балтыцкіх і балканскіх (беларусы, украінцы, палякі, эстонцы, латышы, летувісы, баўгары, вугорцы, казакі, румыны, славакі, чэхі і югаславы), Саюз ліцэнсіятаў ДП-прэсы (беларусы, украінцы, палякі, эстонцы, латышы, летувісы, югаславы, жыды й расейцы), Міжнародную асацыяцыю скаўтаў і інш., агулам у 18 міжнародных арганізацыяў, дзе стала супрацоўнічае з нацыянальнымі арганізацыямі 27 народаў.

*Прэм'ер-Міністар Ураду БНР [подпіс] / А. Каханоўскі /*
*10.1.1949*

## ФАКТЫЧНЫЯ ДАДЗЕНЫЯ АБ СТАНЕ БЕЛАРУСКАЕ ЭМІГРАЦЫІ (ПАВОДЛЕ СПРАВАЗДАЧЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ УРАДУ БНР НА 01.05.1949 Г.)[900]

Прычынаю масавае беларускае эміграцыі ў краіны Эўропы, Амэрыкі й Азіі ёсьць нацыянальна-палітычная няволя й сацыяльны вызыск беларускага народу ў акупаванай Расейскай Імпэрыяй Беларусі пасьля згубы сваёй свабоды й дзяржаўнае незалежнасьці. Першая вялікая хваля гэтае эміграцыі была ў 1812 г., калі пасьля спробы ўзнаўленьня беларускае дзяржаўнасьці ў форме Вялікага Княства Літоўскага, зноў акупаванага Расеяй, 4 гвардзейскія палкі беларускага войска й вялікая колькасьць інтэлігенцыі змушаныя былі назаўсёды пакінуць свой край і, разам із разьбітымі войскамі Напалеона Банапарта, адысьці на эміграцыю ў Францыю. Другая, яшчэ большая хваля беларускае эміграцыі паўтарылася ў 1918 — 1920 гг., калі пасьля брутальнага ўдушэньня Расеяй адноўленае беларускае дзяржавы — БНР — шмат беларусаў, ня зьміріыўшыся із новым расейска-бальшавіцкім акупацыйным рэжымам, змушаныя былі пайсьці на эміграцыю. Трэцюю масавую хвалю выклікала Другая Сусьветная вайна. Ратаваньне свайго жыцьця перад маскоўскім тэрорам і гвалтам пасьля беларускіх народных паўстаньняў у 1831 і 1863 — 1864 гг., як і бяспраўнасьць і беспрацоўе беларусаў у акупаванай Польшчаю заходняй частцы Беларусі, асабліва ў 1930-х і 1940-х гг., таксама былі прычынамі масавае беларускае эміграцыі.

### ЗША

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: звыш 500000. Вялікая частка зь іх жыве ў Нью-Ёрку, Чыкага й Сан-Францыска.

---

[900] Гэтыя дадзеныя Аўген Каханоўскі (Калубовіч), тагачасны прэм'ер-міністр Рады БНР, аформіў на падставе анкетаў, разасланых радным і кіраўнікам розных арганізацыяў у краінах эміграцыі беларусаў. Тэкст друкуецца паводле публікацыі ў: Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 273–284.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: За выключэньнем невялікае сьведамае часткі, рэшта старое эміграцыі асымілявалася з расейцамі, палякамі й амэрыканцамі. Значная частка зь іх — прасавецкага й камуністычнага настаўленьня.

Існуючыя беларускія арганізацыі: Арганізацыя беларускай эміграцыі ў ЗША пачалася ў 1921 г. Першая арганізацыя беларускіх эмігрантаў — Беларускі нацыянальны камітэт — паўстала 6 траўня 1921 г. у Нью-Ёрку. Пасьля падобная арганізацыя — Беларуска-амэрыканскі нацыянальны саюз — паўстала ў Чыкага. Пры Саюзе былі заснаваныя бібліятэка, асьветная камісія й прэсавае бюро. У Чыкага існаваў яшчэ Беларуска-амэрыканскі нацыянальны клюб і сэкцыя Камітэту помачы работнікам і сялянам Заходняе Беларусі, цэнтраля якога была ў Нью-Ёрку. Дзейнасьць гэтых арганізацыяў асабліва ажывілася пасьля прыезду ў ЗША былога прэм'ера Ўраду БНР Язэпа Варонкі, які ад 23 кастрычніка 1926 г. пачаў, апрача таго, выдаваць у Чыкага газэту «Беларуская Трыбуна»[901]. Аднак у вапошніх двух дзесяцігодзьдзях нацыянальная беларуская праца ў ЗША заняпала й пачала зноў ажываць толькі з прыездам туды новых эмігрантаў.

1. Прадстаўніцтва Ўраду БНР у ЗША (прадстаўнік — сп. Ніхаёнак Янка (заснаванае ў 1947 г.).

2. Беларуская нацыянальная рада (старшыня — сп. Чопка Павел). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў Чыкага ў часе Другое сусьветнае вайны, якая, як і Беларуска-амэрыканскі нацыянальны саюз у свой час, гуртуе вакол сябе невялікую колькасьць беларусаў старое эміграцыі.

3. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў ЗША (прадстаўнік — інж. Гарошка Мікалай).

4. Часопіс «Беларус у Амэрыцы» (рэдактар — сп. Янка Ніхаёнак). Выходзіць штомесячна ад верасьня 1948 г. у Нью-Ёрку.

## Аргентына

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 100000. Зь іх у г. Буэнас-Айрэс і ягоных ваколіцах жыве каля 60000.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Зьявіліся беларускія эмігранты ў Аргентыне галоўна ў тры масавыя хвалі: перад Першай сусьветнай вайной, пасьля Першае сусьветнае вайны ў 1925–1938 гг. і пасьля Другое сусьветнае вайны ў 1946–1948 гг. Сярод старое беларускае эміграцыі ёсьць немалы % нацыянальна сьведамых беларусаў, але пад уплывам расейскае камуністычнае прапаганды яны палітычна здэзарыентаваныя й таму ў сваёй пераважнай большасьці русафільскага й камуністычнага настаўленьня, маюць савецкія пашпарты й мараць аб хутчэйшым павароце на «счастлівую Родіну». Новая эміграцыя (каля 500 асобаў) — нацыянальна

[901] **«Белорусская трибуна»** — першая беларуская газета ў ЗША. Выдавалася ў Чыкага ў 1926–1932 гг. пад рэдакцыяй Язэпа Варонкі на рускай мове з асобнымі беларускімі і англійскімі тэкстамі. Выйшла 13 нумароў.

сьведамая, але малаактыўная галоўна з прычыны недахопу нацыянальнае інтэлігенцыі й грамадзкіх працаўнікоў.

Існуючыя беларускія арганізацыі: Першая беларуская арганізацыя ў Аргентыне — Беларускае культурна-асьветнае таварыства — паўстала 17 студзеня 1935 г. у г. Буэнас-Айрэсе. У 1937 г. сьледам за ёю паўстала Беларускае таварыства «Культура» зь Бібліятэкай імя Івана Луцкевіча, у 1938 г. — Таварыства «Белавежа». Але дзеля адсутнасьці ў Аргентыне нацыянальна сьведамае беларускае інтэлігенцыі ўсе гэтыя, а таксама й пазьней паўсталыя беларускія культурныя арганізацыі хутка трапілі пад расейска-камуністычныя й у запраўднасьці ператварыліся ў палітычныя арганізацыі расейскіх камуністых, хоць і захавалі на сабе вонкавы беларускі шыльд. Усе гэтыя «беларускія» «культурныя» арганізацыі («Белорусское общество им. В.В. Маяковского», «Белорусский культурный центр им. М. Горького», «Белорусская библиотека им. А. С. Пушкина» і г. д. — усіх 17 падобных арганізацыяў), кіраваныя расейскімі эмігрантамі — камуністымі паводле інструкцыяў савецкае амбасады ў Буэнас-Айрэсе, задзіночаныя ў г. зв. «Союз белорусских организаций» — сэкцыя «Славянского союза в Аргентине» на чале із малапісьменным чалавекам нязнанае прошласьці Трафімам Лашуком (ён жа й рэдактар «белорусской газеты» «Наш Голос», выдаванай у расейскай мове для беларусаў расейцамі-камуністымі. У красавіку месяцы 1949 г. аргентынскі Ўрад разьвязаў гэты расейска-камуністычны «Славянский союз в Аргентине» з усімі ягонымі сэкцыямі й як антыдзяржаўную агентурную арганізацыю Масквы пацягнуў да адказнасьці ўсіх яе кіраўнікоў. Запраўдныя нацыянальныя беларускія арганізацыі пачалі закладаць у Аргентыне толькі новыя эмігранты[902].

1. Прадстаўніцтва Ўраду БНР у Аргентыне (прадстаўнік — сп. Мерляк Канстанцін), зарганізаванае 28 сьнежня 1948 г.

2. Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне (старшыня — Канстанцін Мерляк). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная 4 красавіка 1948 г.

3. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Аргентыне (прадстаўнік — Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне).

## Канада

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 30000.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Старая эміграцыя ў абсалютнай бальшыні нацыянальна нясьведамая: ідзе разам з расейцамі й камуністымі. Новая эміграцыя (каля 1500 асобаў) — нацыянальна сьведамая, але дзеля свае расьцярушанасьці па цэламу краю — яшчэ малаактыўныя.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

---

902 Падрабязней пра беларускія арганізацыі ў Аргенціне можна даведацца з кнігі: Шабельцаў, Сяргей. Беларусы ў Аргенціне: Грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930–1960-я гг.). Мінск, 2009. — 368 с.

1. Прадстаўніцтва Ўраду БНР у Канадзе (прадстаўнік — сп. Акула Канстанцін), заснаванае 9 студзеня 1949 г.

2. Згуртаваньне беларусаў у Канадзе (старшыня — Канстанцін Акула). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная 28 лістапада 1948 г.

3. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Канадзе (прадстаўнік — сп. Пітушка Язэп).

4. Часопіс «Беларускі эмігрант» (рэдактар — сп. Канстанцін Акула), месячны орган Згуртаваньня беларусаў у Канадзе, заснаваны ў лютым 1948 г.

## Бразылія

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: Дакладных вестак няма, але прыпушчальна, што там жыве каля 10000 беларусаў.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: За выключэньнем невялікае групы новых эмігрантаў, усе беларусы Бразыліі — старое эміграцыі. У сваёй пераважнай большасьці яны нясьведамыя й асыміляваныя з палякамі й расейцамі. Ніякіх беларускіх арганізацыяў там дагэтуль няма, апрача аднае дружыны Згуртаваньня беларускіх скаўтаў на чужыне (Апукарана[903]).

## Вэнэцуэля

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: каля 150.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Усе беларусы Вэнэцуэлі паходзяць з Другое сусьветнае вайны. Пераважна — яны нацыянальна сьведамыя, але дзеля расьцярушанасьці па цэламу краю свае беларускае арганізацыі яшчэ ня маюць.

## Францыя

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: да 10000.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Старая беларуская эміграцыя ў Францыі ў бальшыні сваёй нясьведамая — зрусіфікаваная ці спалянізаваная, а нярэдка й скамунізаваная. Новая эміграцыя — нацыянальна сьведамая, хоць яшчэ й ня ўся зактывізаваная ў беларускай нацыянальнай працы.

Існуючыя беларускія арганізацыі: Зарганізаваная праца беларускіх эмігрантаў у Францыі пачалася яшчэ па 1812 г., а асабліва ў 1839 г., калі беларускі эмігрант-паэта Аляксандар Рыпінскі[904] чытаў у эміграцкім гуртку ў Парыжы свае лекцыі зь беларусаведы, якія потым аж тры разы выдаваў у Парыжы й Лёндане асобнай кніжкай пад назовам «Беларусь». Зноў ажывілася беларуская праца ў Парыжы й іншых гарадох паўночнае Францыі ў 1926 — 1927 гг. Запраўдны ж арганізацыйны рух пачаўся ў сьнежні 1930 г., калі туды

---

[903] **Апукарана** — муніцыпалітэт у штаце Парана ў Бразіліі.

[904] **Аляксандр Рыпінскі** (1809–1900), беларускі паэт, фальклярыст, выдавец. У 1832–1846 гг. жыў у Парыжы.

прыехалі з Прагі інжынэр Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі. Дзякуючы ім у Парыжы паўстаў Хаўрус беларускае працоўнае эміграцыі з 5 аддзеламі на правінцыях. Хаўрус заснаваў беларускую бібліятэку, выдавецтва свайго інфармацыйнага бюлетэню «Рэха» і г. д. Па Другой сусьветнай вайне гэтая праца яшчэ шырэй разгарнулася.

1. Канцылярыя Прэзыдэнта БНР інжынэра Міколы Абрамчыка (ад 1943 г.).

2. Прадстаўніцтва Ўраду БНР у Францыі (прадстаўнік — інжынэр Лявон Рыдлеўскі), заснаванае 15 сьнежня 1948 г.

3. Галоўная Ўправа Сусьветнага аб'еднаньня беларускае эміграцыі (старшыня Ўправы — інжынэр Лявон Рыдлеўскі), заснаваная 2 сьнежня 1948 г.

4. Хаўрус беларусаў у Францыі (старшыня — інжынэр Лявон Рыдлеўскі). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў 1930 г., забароненая немцамі ў часе Другое сусьветнае вайны й адноўленая зноў па вайне.

5. Сындыкат беларускіх работнікаў у Францыі (генэральны сакратар — інжынэр Лявон Рыдлеўскі), заснаваны ў 1945 г.

6. Беларуская грэка-каталіцкая рэлігійная місія ў Парыжы (рэктар Місіі — айцец Леў Гарошка[905]), заснаваная 25 кастрычніка 1947 г.

7. Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі (старшыня — сп. Філістовіч Янка). Палітычная арганізацыя моладзі, заснаваная 26 сакавіка 1949 г.

8. Згуртаваньне беларускіх жанчын у Францыі.

9. Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Францыі.

---

[905] **Леў Гарошка** (26.02.1911, в. Трашчыцы (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.07.1977, Парыж, Францыя), рэлігійны дзеяч, педагог, публіцыст. У 1928–1931 гг. вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі, потым у Львоўскай духоўнай акадэміі, у 1936–1937 гг. у Каталіцкім універсітэце ў Інсбруку (Аўстрыя). 17 кастрычніка 1937 г. у Львове быў рукапаложаны ў святары. У 1937–1939 гг. працаваў душпастырам у розных месцах Пінскай дыяцэзіі. У 1939 г. на загад Наваградскага ваяводы быў выселены з пагранічнай паласы і жыў у Збуражы каля Маларыты. У 1939–1944 гг. працаваў у Баранавічах, у тым ліку і выкладчыкам у медыцынскай школе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. арганізоўваў беларускае душпастырства ў Берліне і Мюнхене, потым пераехаў у Рым. У 1946 г. прызначаны Усходняй кангрэгацыяй для душпастырства беларусаў у Францыі, пераехаў у Парыж. У 1946–1957 гг. быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. У 1946 г. выдаў малітоўнік «Божым шляхам», а ў 1947–1957 гг. выдаваў рэлігійна-грамадскі часопіс «Божым Шляхам». У 1959 г. паступіў у навіцыят айцоў-марыянаў у Рыме. У 1960 г. быў пераведзены ў Лондан, дзе быў прызначаны на пасаду рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. У 1962 г. прыняў манаства ў капліцы Св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Лондане. Да 1969 г. заставаўся рэктарам Місіі і ігуменам законнага Дома ў Лондане. У 1964 г. стаў першым старшынёй Беларускай харытатыўнай секцыі (фонду). У 1965 г. атрымаў годнасць архімандрыта. У 1970 г. перабраўся ў Рым, дзе кіраваў Беларускай секцыяй радыё Ватыкана. Адначасова выконваў абавязкі рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

10. Круг старэйшых скаўтаў Згуртаваньня беларускіх скаўтаў на чужыне (Парыж), заснаваны 26 сакавіка 1949 г.

11. Беларуская бібліятэка імя Янкі Купалы ў Парыжы, заснаваная ў чэрвені 1947 г.

12. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Францыі (прадстаўнік — сп. Мікола Лысуха[906]).

13. Часопіс «Божым шляхам» (рэдактар — айцец Леў Гарошка), месячны орган Беларускае грэка-каталіцкае рэлігійнае місіі ў Парыжы, заснаваны ў кастрычніку 1947 г.

14. Часопіс «Моладзь» (рэдактар — сп. Янка Філістовіч), месячны орган Беларускае незалежніцкае арганізацыі моладзі, заснаваны ў ліпені 1948 г.

**Ангельшчына**

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 11000.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Да Другое сусьветнае вайны беларусы ў Ангельшчыну траплялі толькі паадзіночна. Усе яны былі нацыянальна нясьведамыя й таму не пакінулі па сабе ніякага сьледу ў нацыянальнай беларускай працы. Масавая беларуская эміграцыя зьявілася тут толькі ў часе Другое сусьветнае вайны. Прыйшла яна, разам з палякамі, із Заходняе Беларусі й лучыла ў Першы польскі корпус, які фармаваўся ў часе вайны на ангельскай зямлі. Сярод яе былі й нацыянальна сьведамыя адзінкі, аб чым сьведчаць факты іхных пошукаў беларускіх арганізацыяў у Ангельшчыне праз пасярэдніцтва лёнданскіх украінцаў. Вялікай масай прыехалі беларусы ў Ангельшчыну ў 1946 г., калі туды быў пераведзены з Італіі Другі польскі корпус. У гэтым Корпусе было шмат беларусаў, якія, будучы яшчэ ў Расеі й на Блізкім Усходзе, стараліся ўтрымліваць між сабою лучнасьць, хоць і не маглі як польскія жаўнеры фармальна заснаваць свае беларускія арганізацыі. Каля 500 беларусаў прыехала ў Ангельшчыну зь Нямеччыны ў 1947 — 1948 гг. як ДП. Бальшыня беларусаў Ангельшчыны — нацыянальна маласьведамая, спалянізаваная ці зрусіфікаваная. 1000 зь іх — добра сьведамых, а 200 — актыўных.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Прадстаўніцтва Ўраду БНР у Ангельшчыне (прадстаўнік — прафэсар Жук-Грышкевіч Вінцук), заснаванае ў 1947 г.

2. Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі (старшыня — сп. Францішак Бартуль). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў верасьні 1946 г.

3. Беларускі незалежніцкі народна-хрысьціянскі рух (старшыня — сп. Мікола Арцюх[907]). Палітычная арганізацыя, заснаваная ў сьнежні 1947 г.

---

[906] **Мікола Лысуха** (1928–05.03.1981, Францыя), беларускі грамадскі дзеяч у Францыі.

[907] **Мікола Арцюх,** у ЗША **Артон** (25.07.1924, в. Казловічы Слонімскага пав. (сёння Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл.) — 26.02.1984, Дэтройт, ЗША), грамадскі дзеяч. Сябра СБМ (1943), у 1944 г. навучаўся ў Менскай афіцэрскай школе Беларускай

4. Беларуская нацыянал-дэмакратычная партыя — краёвы аддзел, заснаваны ў студзені 1948 г.

5. Згуртаваньне беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі (старшыня — лейтэнант Пётра Сыч[908]), заснаванае 28 лістапада 1948 г.

6. Беларускае хрысьціянскае акадэмічнае аб'еднаньне «Жыцьцё» (старшыня — айцец доктар Часлаў Сіповіч). Арганізацыя беларускіх студэнтаў і беларусаў вышэйшае асьветы, заснаваная ў лістападзе 1947 г.

7. Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне (дружыны ў Тамворцы[909] й Лёндане).

8. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Ангельшчыне (прадстаўнік — Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі).

9. Газэта «Беларус на чужыне» (рэдактар — сп. Аляксандар Надсон[910]), двутыднёвы орган Беларускага незалежніцкага народна-хрысьціянскага руху, заснаваны 7 кастрычніка 1947 г.

краёвай абароны (БКА), разам з фармаваннямі якой летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС. Перайшоў на бок саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Ад канца 1944 г. знаходзіўся ў 2-ім Польскім корпусе, у якім адслужыў чатыры гады, у тым ліку і ў Вялікабрытаніі. Сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі ад 1946 г. У 1955 г. скончыў Лювенскі ўніверсітэт у Бельгіі з ступенню магістра эканамічных навук. Вярнуўся ў Вялікабрытанію, працаваў у турыстычнай фірме Томаса Кука. У 1956 г. быў старшынёй ЗБВБ. Пры канцы 1950-х выехаў у Канаду. Жыў у Таронта, адкуль перабраўся ў Дэтройт (ЗША). Працаваў у банку. Быў актывістам парафіі Святога Духа БАПЦ, сябрам управы Дэтройцкага аддзела БАЗА, сябрам Задзіночання беларуска-амерыканскіх ветэранаў.

908 **Пётра Сыч** (18.01.1912, в. Батурына Вялейскага пав. Віленскай губ. (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 20.06.1964, Мюнхен, Нямеччына), літаратар, журналіст. У 1929 г. скончыў гімназію ў Вялейцы, два гады правучыўся на філалагічным факультэце Віленскага ўніверсітэта і вымушаны быў кінуць навучанне, уладкаваўся на працу чыноўнікам. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі польскіх газет у Вільні. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон. Уцёк, але зноў быў арыштаваны. У чэрвені 1940 г. быў пераведзены з вялейскай у полацкую турму, асуджаны на 10 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў у Комі АССР. Далучыўся да Арміі Андэрса, разам з якой прайшоў праз Іран, Ірак, Сірыю, Палесціну, Егіпет. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна, баях за Анкону і Балонію. У 1946 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі. Сябра Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Актыўны аўтар і супрацоўнік часопіса «Беларус на чужыне». У 1951 г. пераехаў у Заходнюю Нямеччыну. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопіса «Шарсцень», супрацоўнічаў з газетай «Бацькаўшчына». Ад 1954 г. быў намеснікам галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне».

909 Маецца на ўвазе **Тамуорт** (*Tamworth*) — мястэчка ў Сярэдняй Англіі ў Стафардшыры, дзе ў 1948–1949 гг. працавалі некалькі беларускіх хлопцаў-скаўтаў з «Дванаццаткі».

910 **Аляксандр Надсан,** да эміграцыі **Бочка** (нар. 08.08.1926, в. Гарадзея (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.)), грэка-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай

10. Часопіс «Наперад» (рэдактар — сп. Уладзімер Цьвірка), месячны орган беларускае моладзі ў Ангельшчыне, заснаваны 10 студзеня 1948 г.

11. Часопіс «Змагар»[911], орган Згуртаваньня беларускіх камбатантаў у Вялікабрытаніі, заснаваны ў сакавіку 1949 г.

12. Беларускі дом у Лёндане, гаспода ўсіх цэнтральных беларускіх арганізацыяў у Ангельшчыне з клюбам і гатэлем, набыты ў сьнежні 1948 г.

## Нямеччына

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 10000.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Амаль уся эміграцыя з Другое сусьветнае вайны. Напалову нацыянальна сьведамая, напалову зрусіфікаваная ці спалянізаваная.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Прэзыдыюм Рады БНР із сваім Сакратарыятам (першы заступнік старшыні Прэзыдыюму — доктар Ігнат Гагалінскі, другі заступнік старшыні — пасол Аляксандар Стагановіч, сакратар Прэзыдыюму — інжынэр Міхась Рагуля й 12 сяброў Прэзыдыюму).

2. Урад БНР із сваёй Канцылярыяй (прэм’ер-міністар Ураду БНР — магістар Аўген Каханоўскі).

3. Замежнае прадстаўніцтва Беларускага нацыянальнага цэнтру, заснаванае 15 жніўня 1945 г. Як каардынацыйны міжпартыйны орган БНЦ задзіночвае ў сабе Беларускую нацыянал-дэмакратычную партыю, Беларускую незалежніцкую партыю, Беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў і інш. (старшыня — сп. Лявон Савёнак).

---

семінарыі. Скончыў курсы малодшых кіраўнікоў СБМ у Альбярціне. У чэрвені 1944 г. стаў курсантам Мінскай афіцэрскай школы БКА. Летам 1944 г. быў далучаны да 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, перайшоў на бок саюзнікаў, затым служыў у 2-ім Польскім корпусе ў Італіі, дзе браў удзел у баявых дзеяннях і быў паранены. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Адзін з заснавальнікаў ЗБВБ, рэдактар яго часопісаў «Беларус на чужыне» і «На шляху», старшыня арганізацыі ў 1951–1953 гг. Скончыў матэматычны факультэт Лонданскага ўніверсітэта. Увосень 1953 г. паехаў вучыцца ў Грэцкую калегію ў Рыме. 23 лістапада 1958 г. атрымаў пасвячэнне на святара ўсходняга абраду. У ліпені 1959 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Нотынгеме і ажыццяўляў душпастырскую дзейнасць у Цэнтральнай і Паўночнай Англіі. Ад 1961 г. стаў адным з кіраўнікоў беларускай школы імя Кірылы Тураўскага ў Лондане. Ад 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкай-музеем імя Ф. Скарыны. Актыўна ўдзельнічаў у працы ЗБВБ, Харытатыўнай секцыі, Англа-беларускага таварыства. У 1981 г. стаў на чале Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. 30 чэрвеня 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў у замежжы. Стваральнік і кіраўнік Камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі. Аўтар шэрагу перакладаў літургічных тэкстаў на беларускую мову, публікацыяў з гісторыі беларускай царквы і культуры. Ганаровы доктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

[911] Выйшла толькі два нумары часопіса «Змагар» у 1949 і 1950 гг.

4. ЦК Беларускае нацыянал-дэмакратычнае партыі (Аўген Каханоўскі).
5. ЦК Беларускае незалежніцкае партыі (Міхась Рагуля).
6. ЦК Партыі беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў (Ігнат Гагалінскі).
7. Часовае кіраўніцтва Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы пад зьверхніцтвам япіскапа Сергія, заснаванае 5 чэрвеня 1948 г.
8. Беларускі нацыянальны камітэт — Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускае эміграцыі ў Нямеччыне (Старшыня — інжынэр Уладзімер Тамашчык). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная 6 чэрвеня 1946 г.
9. Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне (галоўны кіраўнік — магістар Вацлаў Пануцэвіч), заснаванае 15 лістапада 1945 г. Згуртаваньне мае ў Нямеччыне 5 штандараў, што ахопліваюць 512 скаўтаў, ня лічачы скаўцкія адзінкі Аўстрыі, Францыі, Бэльгіі, Ангельшчыны й Бразыліі, падпарадкаваныя Галоўнай гасподзе ЗБСЧ.
10. Згуртаваньне беларускіх вэтэранаў у Нямеччыне (галоўны старшыня — палкоўнік Франц Кушаль), заснаванае 5 ліпеня 1947 г.
11. Згуртаваньне беларускіх настаўнікаў на эміграцыі (старшыня — сп. Мечыслаў Рагажэцкі), заснаванае 17 верасьня 1947 г.
12. Аб'еднаньне беларускіх лекараў на чужыне (старшыня — доктар Вітаўт Тумаш), заснаванае ў сакавіку 1947 г.
13. Навуковае таварыства імя Францішка Скарыны (старшыня — прафэсар Янка Станкевіч), заснаванае ў чэрвені 1946 г.
14. Саюз беларускіх журналістых (старшыня — Мікола Панькоў), заснаваны ў верасьні 1947 г.
15. Згуртаваньне беларускіх жанчынаў у Нямеччыне (старшыня — Натальля Арсеньнева), заснаванае ў 1947 г.
16. Беларуская харытатыўная служба (дырэктар — айцец Міхась Маскалік[912]), заснаваная ў жніўні 1947 г.

---

[912] **Міхась Маскалік** (1903–1965), каталіцкі святар усходняга абраду, рэлігійны і грамадскі дзеяч у Заходняй Нямеччыне. У 1927–1931 гг. вучыўся ў Віленскім універсітэце. Пасля з'ехаў на навучанне ў Тэхнічнай школе ў Берліне, адкуль праз два гады перабраўся ў Мюнхен, дзе ў калегіуме Св. Андрэя стаў вывучаць тэалогію на стыпендыю ад мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. У 1933 г. заснаваў Саюз беларусаў у Нямеччыне. 17 ліпеня 1938 г. быў пасвечаны ў святара. У часе Другой сусветнай вайны выконваў абавязкі святара ў лагерах ваеннапалонных польскай арміі ў Баварыі. У 1943 г. быў арыштаваны і цягам некалькіх месяцаў знаходзіўся ў лагеры Заксэнхаўзэн, адкуль вызвалены дзякуючы захадам Папскай місіі ў Нямеччыне. У пасляваенны час жыў у г. Гослар. Быў ініцыятарам і кіраўніком Беларускай харытатыўнай службы. Праводзіў душпастырскую дзейнасць у парафіях Радэборн, Оснабрук і Гільдэсгайм. У 1959 г. у Мюнхенскім універсітэце абараніў доктарскую дысертацыю па беларускай літаратуры «Янка Купала — пясняр беларускага народу» (*Janka Kupala. Der Saenger des weissruthenischen Volkstum*), якая ў 1961 г. выйшла ў Мюнхене на нямецкай мове.

17. ІМКА/ІВКА[913] — беларуская сэкцыя (старшыня — Франц Кушаль), заснаваная ў жніўні 1948 г.

18. Беларуская бібліяграфічная служба (кіраўнік — Мікола Панькоў), заснаваная ў 1947 г.

19. Беларускі тэатар эстрады (мастацкі кіраўнік — кампазытар Мікола Куліковіч[914]), заснаваны ў чэрвені 1945 г.

20. Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Мюнхене (старшыня — Антон Бяленіс[915]), заснаванае 18 лістапада 1945 г.

21. Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Марбургу, заснаванае ў сьнежні 1945 г.

22. Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Рэгенсбургу, заснаванае ў верасьні 1947 г.

23. Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Карлсруэ, заснаванае ў верасьні 1947 г.

24. Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Фрайбургу, заснаванае ў верасьні 1947 г.

25. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы (дырэктар — доктар Аляксандар Орса), заснаваная 22 сьнежня 1945 г.

26. Беларуская гімназія імя Максіма Багдановіча (дырэктар — сп. Аляксей Віціцкі), заснаваная ў лістападзе 1946 г.

27 — 29. Беларускія гімназіі ў Ватэнштэце, Міхельсдорфе й Гібэльштаце, заснаваныя ў 1946 — 1948 гг.

30 — 37. Беларускія народныя школы ў Віндышбэргердорфе, Остэргофэне, Шляйсгайме, Мітэнвальдзе, Мэнхегофе, Ватэнштэце, Міхельсдорфе й Гібэльштаце, заснаваныя ў 1945 — 1948 гг.

38. Газэта «Бацькаўшчына» (рэдагуе калегія), тыднёвы орган беларускае незалежніцкае думкі, заснаваны 31 кастрычніка 1947 г.

39. Часопіс «Сакавік» (рэдактар — Антон Адамовіч), літаратурна-мастацкі й навукова-публіцыстычны орган, заснаваны ў сакавіку 1947 г.

913 ***YMCA / YWCA*** (*Young Men's Christian Association / Young Women's Christian Association) —* сусветныя моладзевыя валанцёрскія арганізацыі, заснаваныя ў Вялікабрытаніі ў XIX ст.

914 **Мікола Куліковіч-Шчаглоў** (04.04.1893, Смаленшчына — 31.03.1969, Чыкага, ЗША), кампазітар, музыка, музыказнаўца, грамадска-культурны дзеяч. Ад 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансерваторыі. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Менскім гарадскім тэатры. Ад студзеня 1944 г. — кіраўнік музычнага аддзела пры БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатр эстрады, які гастраляваў па лагерах *DP*. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазней перабраўся ў Кліўленд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага і кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста-Збаўцы. Аўтар шэрагу музыказнаўчых публікацый.

915 **Антон Бяленіс** (1906–1994), грамадскі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі быў супрацоўнікам мінскай гарадской управы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Нямеччыне, Бельгіі. Напрыканцы 1940-х пераехаў у ЗША.

40. Часопіс «Мэдычная думка» (рэдактар — доктар Вітаўт Тумаш), орган Аб'еднаньня беларускіх лекараў на чужыне, заснаваны ў сьнежні 1946 г.

41. Бюлетэнь «Скаўцкая інфармацыйная служба»[916] (рэдактар — Вацлаў Пануцэвіч), орган Галоўнае гасподы Згуртаваньня беларускіх скаўтаў на чужыне, заснаваны 20 кастрычніка 1946 г.

## Бэльгія

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 1500.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Амаль усе з новае эміграцыі. З прычыны цяжкіх умоваў працы й жыцьця (капальні вугалю) — у бальшыні пасіўныя. Невялікая частка зь іх знаходзіцца пад уплывам расейцаў і палякаў.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Прадстаўніцтва Ўраду БНР у Бэльгіі (прадстаўнік — маёр Рагуля Барыс), заснаванае 22 лютага 1949 г.

2. Саюз беларусаў у Бэльгіі (старшыня — інжынэр А. Ромар), заснаваны 1 студзеня 1947 г.

3. Згуртаваньне беларускіх камбатантаў у Бэльгіі (старшыня — маёр Барыс Рагуля), заснаванае 2 верасьня 1948 г.

4. Цэнтраля беларускіх студэнцкіх арганізацыяў на Чужыне (старшыня — Барыс Рагуля).

5. Беларуска-бэльгійскі камітэт (старшыня — прафэсар В. Дэні, сябра — Барыс Рагуля, сакратар — доктар Ковэлерт). Арганізацыя для апекі над беларусамі й беларускімі студэнтамі, заснаваная 1 лютага 1949 г.

6. Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Лювэне (старшыня — Барыс Рагуля), заснаванае 22 студзеня 1949 г.

7. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Бэльгіі (прадстаўнік — Я. Лабоўка).

## Аўстрыя

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: да 500.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Амаль усе з новае эміграцыі. У бальшыні — нацыянальна сьведамыя. Частка знаходзіцца пад уплывам расейцаў.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Аб'еднаньне беларусаў Верхняе Аўстрыі (старшыня — Аляксандар Яцэвіч[917]). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў 1947 г.

---

[916] **«Скаўцкая інфармацыйная служба»** — бюлетэнь Згуртавання беларускіх (крывіцкіх) скаўтаў на чужыне, які выходзіў у Ватэнштэце ў 1946–1950 гг. Выйшла 20 нумароў.

[917] **Аляксандр Яцэвіч** (псеўданім **Алесь Змагар,** 01.03.1903, в. Цароўцы Слуцкага пав. — ?), грамадскі дзеяч, пісьменнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстанні і антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў

2. Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне (2 зьвязы ў Куфштайне[918] й Рыдзе), заснаванае ў студзені 1949 г.

3. Беларуская школа для малапісьменных у Рыдзе, заснаваная 1 студзеня 1948 г.

## Швэдыя

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 100.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Амаль усе — беларусы новае эміграцыі й нацыянальна сьведамыя.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Прадстаўніцтва Ураду БНР у Швэдыі (прадстаўнік — інжынэр Асоўскі Альбэрт), заснаванае 2 студзеня 1949 г.

2. Беларуская грамада ў Скандынавіі (старшыня — інжынэр Альбэрт Асоўскі). Грамадзкая арганізацыя, заснаваная ў жніўні 1948 г., якая гуртуе беларусаў Швэдыі, Нарвэгіі й Даніі.

3. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Швэдыі (прадстаўнік — інжынэр Альбэрт Асоўскі).

## Італія

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 50.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Амаль усе з новае эміграцыі й нацыянальна сьведамыя.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Беларускія багасловы Пакрова Сьв. Міколы ў Рыме.

2. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Італіі (прадстаўнік — Тодар Мазура[919]).

## Данія

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 50.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Амаль ўсе нацыянальна сьведамыя.

---

настаўнікам. Быў дэлегатам Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі, быў сябрам Рады БНР. У 1956 г. выехаў у ЗША. Быў актывістам Беларускага вызвольнага руху. Сябра Літаратурнай сустані «Баявая ўскалось». Аўтар кніг: «Рэпка» (1946), «Случчакі» (1947), «Да згоды» (1962, 1963), «Змагарны шлях» (1962), «Дзень маці» (1964), «Вызвольныя шляхі» (1965), «Лесавікі» (1973), «Мае ўспаміны» (1985), «Случчына ў вагні» (1986).

918 **Куфштайн** (ням. *Kufstein)* — горад ў зямлі Тыроль у Аўстрыі, пасля Другой сусветнай вайны тут знаходзіўся лагер *DP*, дзе жыла актыўная група беларусаў.

919 **Мазура Тодар** (03.05.1921 — пасля 1990), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Рыме. Пазней прыбыў у Вялікабрытанію. Жыў у Лондане. Быў сябрам Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб’яднання «Рунь». Выехаў у БССР.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Беларуская грамада ў Даніі (як сэкцыя Беларускае грамады ў Скандынавіі).

2. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Даніі (прадстаўнік — С. Шастайла).

**Аўстралія**

Колькасьць беларускіх эмігрантаў: 500.

Характарыстыка нацыянальна-палітычнае сьведамасьці: Першыя беларускія эмігранты ў Аўстралію трапілі празь Японію й Кітай пасьля Першае сусьветнае вайны. Амаль усе яны асыміляваліся з расейцамі й належаць да расейскіх эміграндкіх арганізацыяў. Новая эміграцыя (каля 150 асобаў) — у бальшыні сваёй нацыянальна сьведамыя, частка яе — зарубежнікі.

Існуючыя беларускія арганізацыі:

1. Прадстаўніцтва Ўраду БНР у Аўстраліі (прадстаўнік — магістар Калодка Аляксандар), заснаванае 16 студзеня 1949 г.

2. Беларускі камітэт у Аўстраліі (старшыня — Мікола Скабей[920]), заснаваны ў ліпені 1948 г.

3. Прадстаўніцтва газэты «Бацькаўшчына» ў Аўстраліі (прадстаўнік — Б. Дзедавец).

Ураду БНР ведама, што невялікія групы беларускіх эмігрантаў ёсьць у Кітаі, Індакітаі, Турэччыне, Фінляндыі, Марока, Танганайцы… і нат на абтоку Мадагаскар.

*Аўген Каханоўскі*

## ЗВАРОТ ДА СПАДАРОЎ РАДНЫХ РАДЫ БНР

*Парыж, 25.5.1949*

Выходзячы з таго, што

тэратарыяльная расьцярушанасьць Сяброў Рады БНР і цяжкія матэрыяльныя акалічнасьці ўнемагчымліваюць рэгулярныя склíканьні сэсіяў Рады БНР, у выніку чаго назіраецца аслабленасьць сувязі між Сябрамі Раднымі й

920 **Скабей Мікола** (23.10.1905–07.12.1992, Мельбурн, Аўстралія), грамадскі дзеяч. У 1944 г. быў дэлегатам на Другім Усебеларускім кангрэсе, адразу пасля якога выехаў з Беларусі. Пасля некалькіх гадоў у Нямеччыне ў 1948 г. прыехаў у Аўстралію. Некаторы час быў на чале сектара Рады БНР у Вікторыі. У 1950-х гг. стаў на чале Згуртавання беларусаў у Вікторыі, а пасля стварэння агульнага Беларускага цэнтральнага камітэта стаў першым яго кіраўніком і далей рэгулярна выбіраўся на гэтую пасаду на працягу 1960–1980-х гг. Адзін з ініцыятараў набыцця Беларускага дома і ўдзельнік Управы Каапэратыву беларускага дома.

Прэзыдыюмам Рады, а ў некаторай меры нат заняпад актыўнасьці й занядбаньне абавязкаў, што выплываюць з тытулу Раднага;

з кожным днём расьце зацікаўленьне шырокага заходня-дэмакратычнага сьвету справаю беларускага нацыянальна-вызвольнага змаганьня, а нашыя спрадвечныя ворагі, улічваючы важнасьць сучаснага мамэнту, із усёй энэргіяй і брутальнасьцю павялі на нас атаку, каб за пасярэдніцтвам зрадліва-падкупнага элемэнту абясьсіліць і раскласьці наш нацыянальна-вызвольны рух знутры ды здыскрэдытаваць яго на міжнародным груньце, —

Я зьвяртаюся да Вас, Высокадастойныя Спадары Радныя, із заклікам не забывацца аб нашай вялікай адказнасьці перад гісторыяй і Беларускім Народам і, не зважаючы на перажываныя намі матэрыяльныя цяжкасьці, напружыць усе свае сілы для як найхутчэйшага выкананьня майго наступнага наказу:

1. Кожны Радны павінен уважна сачыць за ўсімі праявамі грамадзка-палітычнага беларускага жыцьця свайго раёну (краіны) ды вонкавымі праявамі, якія маюць тое ці іншае дачыненьня да нашага вызвольнага руху.

2. Кожны Радны павінен неадкладна паведамляць Прэзыдыюм Рады праз пасярэдніцтва сп. Сакратара Рады ці сп. Прэм'ер-Міністра Ураду БНР праз пасярэдніцтва сп. Дзяржаўнага Сакратара Ураду БНР аб усіх праявах грамадзка-палітычнага характару свайго раёну (краіны), якія вымагаюць акцыі ці рэагаваньня з боку нашых экзэкутыўных органаў (адпаведных міністэрстваў).

3. Кожны Радны абавязаны падаваць квартальныя справаздачы ў канцы кожнага квартальнага месяца (сакавік, чэрвень, верасень, сьнежань) Прэзыдыюму Рады аб сваёй дзейнасьці.

4. У тых месцах, дзе знаходзіцца некалькі Радных ці адлегласьць якіх дазваляе жывому кантакту між імі — неадкладна аформіць арганізацыйна лёкальны сэктар Рады БНР. У гэтым выпадку сувязі з вышэйшымі органамі БНР і справаздачы зь дзейнасьці Сяброў сэктара ўскладаюцца на кіраўніцтва(ніка) сэктару.

5. Кожны Радны павінен выяўляць максымум адказнасьці, актыўнасьці і ініцыятывы ў грамадзка-палітычным жыцьці свайго раёну (краіны) ды быць строга здысцыплінаваным.

Усе акцыі, праводжаныя згодна атрыманага наказу ці пастановы свайго лёкальнага сэктару Рады, павінны цьвёрда й рашуча даводзіцца да канца. У выпадку калектыўнага выступленьня Сяброў Радных мае быць выяўлена поўная салідарнасьць, хоць-бы нават у прыняцьці тае ці іншае пастановы хтосьці з Радных галасаваў на сходзе лёкальнага сэктару Рады супраць ці гэтая пастанова была прынятая нязначнай бальшынёю галасоў.

6. Распадзел працы між Сябрамі сэктару Рады БНР, як і кожнае ўскладзенае на Раднага аднаразовае заданьне павінна запісвацца ў пратакольную кнігу сэктара Рады, а тыя Сябры Рады, якія не належаць з прычынаў тэрытарыяльнае адлегласьці да ніякага сэктару Рады, павінны перахоўваць у спэцыяльнай вокладцы ўсе атрыманыя імі загады, наказы ці пастановы

вышэйшых сваіх органаў з копіямі ўсіх сваіх службовых лістоў-адказаў, запросаў і справаздачаў.

7. Усялякія пэрсанальныя непаразуменьні паміж Сябрамі Рады БНР ні пры якіх акалічнасьцях ня могуць выносіцца навонкі, а павінны разглядацца толькі ў рамах органаў БНР.

8. Кожны Радны абавязаны безадкладна паведамляць Прэзыдыюм Рады і Урад БНР аб кожнай зьмене свайго адрысу, а ў выпадку пераезду ў іншы край зараз-жа скантактавацца там з Прадстаўніком Ураду БНР.

9. Кожны Радны мусіць мець у сябе адрыс Сакратара Прэзыдыюма Рады й Дзяржаўнага Сакратара Ураду БНР, трымаць іх у сакрэце, а на лістох да іх ня ўжываць іхных тытулаў.

Хачу быць пэўным, што Спадары Радныя із максымальнай ахвярнасьцю й непахіснай нацыянальнай дысцыплінай выканаюць гэты наказ часу[921].

## КАМУНІКАТ
## САКРАТАРЫЯТУ ПРЭЗЫДЫЮМУ РАДЫ БНР

9–10 кастрычніка 1949 г. у Нямеччыне адбылася 4-я Сэсія Рады БНР, на якой было разгледжана цэлы шэраг важнейшых пытаньняў беларускае нутраное й вонкавае палітыкі (сучасная міжнародная сытуацыя, справаздача зь дзейнасьці Ураду БНР, царкоўныя справы, Фонд 25-га Сакавіка і інш.).

На прапазыцыю сп. Прэзыдэнта было прынята дапаўненьне да §11 Статуту Рады БНР, згодна якога *«кандыдатаў у Сябры Рады БНР могуць выбіраць і прадстаўляць на зацьверджаньне Прэзыдэнта БНР цэнтральныя грамадзкія арганізацыі краёў эміграцыі»*.

Разгледзеўшы царкоўныя справы, Сэсія із задавальненьнем сьцьвердзіла, што справа адбудовы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы знаходзіцца на добрай дарозе, але горш із каталіцкім рэлігійным жыцьцём. Беларусы-каталікі ня маюць дагэтуль свае вышэйшае духоўнае гіерархіі й нават сьвятароў, нялічаныя адзінкі якіх адарваныя ад сваіх вернікаў. У сувязі з гэтым прынята рэзалюцыя із заклікам да адпаведных высокіх каталіцкіх дзейнікаў з надзеяй, што гэтая справа, нарэшце, знойдзе там зразуменьне й гэтыя дзейнікі прыйдуць да нас із належнай дапамогай. Дзеля таго, што значная частка беларусаў належыць да Царквы Эвангельскіх Хрысьціян-Баптыстых, міністэрству культуры й веравызнаньняў Ураду БНР трымаць сталы кантакт з кіраўніком гэтае Царквы Д. Ясько, дапамагаючы яму ў пераводзе рэлгійных малітваў і сьпеваў у беларускую мову.

У справе «Фонду 25-га Сакавіка» Сэсія пастанавіла лічыць яго фондам вылучна БНР, асобным ад фондаў грамадзкіх арганізацыяў. Гэты Фонд, згодна пастановы Ураду БНР, павінен складацца з наступных прыбытковых

[921] «Зварот» не падпісаны. Хоць ён напісаны ад імя Міколы Абрамчыка, відавочна, што аўтарам тэксту быў Аўген Каханоўскі.

пазыцыяў: а. абавязковага штомесячнага падатку Сяброў Рады БНР у вышыні 2 % ад фактычнага заработку; б. дабраахвотных ахвяраў беларускага грамадзянства ў форме набыцьця ім Марак БНР; в. ахвяраў большымі сумамі із запісам такіх ахвярадаўцаў у «Залатую кнігу БНР». Апрача таго, Сэсія пастанавіла ўвесьці для грамадзянства ўсеагульны штомесячны падатак у вышыні, якую сабе дабраахвотна й кожнаразова вызначыць сам беларус-эмігрант. Збор гэтага падатку й распаўсюджваньне Марак БНР перадаць САБЭ з ганарарам %, вышыню якога вызначаць у паразуменьні Урад БНР і Галоўная Управа САБЭ.

Пасьля справаздачы Ураду БНР і злажэньня ім свае дымісіі, Прэзыдэнт зноў даручыў стварэньне новага габінэту Раднаму сп. А. Каханоўскаму. Пры гэтым было вырашана, што дасюлешнія неактыўныя паводля свайго рэсорту Міністэрствы (аховы здароўя, сацыяльнага забясьпечаньня й народнае гаспадаркі) маюць быць зьлітыя ў вадно Міністэрства плянаваньня. У выніку перамоваў з паасобнымі Раднымі сп. А. Каханоўскі прадставіў на апрабату Сэсіі наступны склад новага, 12-га габінэту Ураду: 1. Прэм’ер-міністар і міністар замежных справаў — мгр. Аўген Каханоўскі; 2. Віцэпрэм’ер і міністар нутраных справаў — мгр. Мікола Кунцэвіч; 3. Міністар вайсковых справаў — генэрал-маёр Францішак Кушэль; 4. Міністар прэсы й інфармацыі — сп. Антон Адамовіч; 5. Міністар культуры й веравызнаньняў — сп. Аляксей Вініцкі; 6. Міністар фінансаў — інж. Уладзімер Шыманец; 7. Міністар юстыцыі — мгр. Лявон Галяк; 8. Міністар плянаваньня — сп. Сымон Кабыш; 9. Дзяржаўны сакратар — сп. Гіпаліт Паланевіч. Па заслуханьні прэм’ера мгр. А. Каханоўскага новы габінэт Ураду ў тайным галасаваньні быў апрабаваны Сэсіяй.

*Ч. Ханяўка,*
*Сакратар Прэзыдыюму Рады БНР*

* * *

*Очень доверительно*
*Основной документ № -2*
*Штутгарт, 19 августа 1951 г.*

# ПОСТАНОВЛЕНИЕ О СОЗДАНИИ СОВЕТА ОСВОБОЖДЕНИЯ НАРОДОВ РОССИИ

1. Совещание пяти политических организаций:
Лиги Борьбы за Народную Свободу,
Национально-трудового союза,
Российского Народного Движения,
Союза Борьбы за Освобождение Народов России и

Союза Борьбы за Свободу России

признало необходимым создание общего центра — «Совета Освобождения Народов России» для координации активной борьбы, направленной к ликвидации антинародной диктатуры большевиков и к установлению в России демократического строя, отвечающего чаяниям ее народов.

2. Совет Освобождения Народов России должен стать органом единства действий народов России в борьбе против большевизма. Он основывается на широкой политической базе: вся демократическая эмиграция, без различия оттенков политических воззрений и национальности, должна быть представлена в Совете Освобождения Народов России.

К участию в Совете Освобождения Народов России не допускаются группировки, стремящиеся к реставрации дореволюционного строя или установлению той или иной формы тоталитарной диктатуры, а также ведущие пропаганду национальной ненависти или отрицание принципов народного волеизъявления в решении национального вопроса.

3. Совещание утверждает нижеследующую политическую платформу, которая ложится в основу работы по созданию Совета Освобождения Народов России:

I. Непримиримая борьба с большевистской, коммунистической диктатурой до полного ее уничтожения.

II. Установление в России принципа народовластия, провозглашенного февральской революцией 1917 года.

III. Созыв Всероссийского Учредительного Собрания для установления в России государственной системы на основах народоправства, законности и социальной справедливости. Предоставление гражданам всей полности политических и гражданских прав.

IV. Признание равноправия всех народов России. Признание за ними права свободно, на основе всенародного голосования определить свою судьбу, а также реальное обеспечение этого права.

V. Предоставление свободы вероисповедования и права религиозного проповедования.

VI. Ликвидация эксплуатации человека человеком, партией или государством и подчинение политики государства интересам поднятия материального и культурного уровня жизни народа.

VII. Уничтожение всей системы террора и насилия. Освобождение политических узников большевизма.

VIII. Недопущение после свержения диктатуры политики мести.

IX. Упразднение колхозов и системы принудительных поставок. Передача земли в собственность крестьянам. Предоставление им права свободного выбора форм землепользования.

X. Уничтожение всех форм рабского и принудительного труда. Упразднение концлагерей.

XI. Освобождение творческой деятельности и культурной жизни стран от всех форм государственного принуждения.

XII. Ликвидация агрессивной системы внешней политики. Установление дружественных отношений со всеми иностранными государствами и лояльное сотрудничество с ними в Организации Объединенных Наций и в других международных организациях. Сокращение военных расходов и вооруженных сил на основе международных соглашений.

XIII. Пересмотр всех территориальных захватов, произведенных диктатурой за период последней войны. Восстановление государственного суверенитета стран, насильственно присоединенных к СССР в этот период. Установление принципа изменения государственных границ только в согласии со свободным волеизъявлением населения соответствующих территорий.

4. Первый пленум Совета Освобождения Народов России может либо утвердить настоящую политическую платформу, либо изменить или выработать новую.

*Лиги Борьбы за Народную Свободу*
*Национально-трудового союза*
*Российского Народного Движения*
*Союза Борьбы за Освобождение Нардов России*
*Союза Борьбы за Свободу России.*

Копія з паасобніку, пераданага Керанскім сп. Прэзыдэнту БНР у Парыжы.

## КАМУНІКАТ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БЛЁКУ АБАРОНЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ І НЕПАДЗЕЛЬНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

22 лістапада 1951 году ўтварыўся Нацыянальны Блёк Абароны Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі (НБАНіНБ), які мае фракцыю ў Радзе БНР.

*23-га лістапада 1951 г.*

*Сакратарыят Блёку.*

### Дэклярацыя Нацыянальнага Блёку Абароны Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі

Высака ацэньваючы нацыянальную выработанасьць сяброў Рады БНР і іхнае моцнае патрыятычнае становішча ў сувязі з акцыяй расейскае эміграцыі, скіраванай да ўтрыманьня Беларусі ў няволі а па ўпадку бальшавізму, нельга ўсё-ж абмінуць і некаторых трывожных сымптомаў, галоўна, палітыкі праводжаньня і абароны гатовых фактаў, што можа пагражаць справе незалежнасьці і непадзельнасьці нашага Краю.

У вабліччу гэтага паўстае патрэба скансалідаваньня гэнага становішча ў выглядзе стварэньня апрычонай арганізацыі, што стаяла-б на старожы ідэалаў і выказанай волі Беларускага Народу да ягонага гаспадарствавага быцьця ў Незалежнай і Непадзельнай Бацькаўшчыны. Гэтай патрэбе й мае

служыць закладзены намі Нацыянальны Блёк Абароны Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі зь ягонай фракцыяй у Радзе БНР.

*23-га лістапада 1951 г.*

*Сакратарыят Блёку І-шы сакратар Я. Юхнавец.*

**Факты праводжаньня і абароны палітыкі гатовых фактаў**

1. Дэлегат Прэзыдэнта БНР падпісаў Вісбадэнскую дэклярацыю, хоць было яму засьцярожана Прэзыдэнтам, згодна заяве апошняга на сэсіі Рады, не падпісываць ніякіх пастановаў, а толькі прыняць удзел у дыскусіі.

2. Перад Вісбадэнскай нарадай СОНР прызнаў (яшчэ ў Штутгарце), што ўсе захопленыя СССР землі ў часе ІІ-ой Сусьветнай вайны павінны быць зьвернены назад, а тым самым прызнаў Заходнюю Беларусь за Польшчаю.

3. На паседжаньні сэсіі Рады БНР 11 лістапада 1951 году хоць і было аднагалосна прынята рэзалюцыя, што Рада БНР не згаджаецца з 2-ім пунктам Вісбадэнскай дэклярацыі, то аднак не зазначана, што дэлегат Прэзыдэнта ня меў права яе падпісваць і гэткім парадкам Рада задняй датай прыняла ўдзел у нарадзе і заахвоце безадказныя элемэнты рабіць тое самае і нават болей таго.

4. У часе дыскусіі на VІ-ай сэсіі Рады Прэзыдэнт і сп. П. Манькоўскі баранілі пункт 2-гі Вісбадэнскай дэклярацыі як «туманова сфармуляваны».

5. Апрача таго, на апошнім паседжаньні сэсіі Рады БНР (11 лістапада 1951 г.) Прэзыдэнт заявіў, што справа незалежнасьці Беларусі залежыць толькі ад становішча Краю па ўпадку бальшавізму.

*Толькі сябром Рады Б.Н.Р.*

## ДА СЯБРОЎ РАДЫ Б.Н.Р.[922]

На пачатку 1952 г. сярод сяброў Рады БНР у Нью Ёрку паўстала патайная ўзурпацыйная група. Яна шмат нарабіла шкоды сваёй дзейнасьцяй і бязьдзенасьцяй. Дзеля таго 7 лістапада 1953 г. на паседжаньні Пленуму Рады БНР была створана Камісія дзеля прасячэньня справы гэтае групы. У Камісію ўвайшлі ад праціўнікаў групы Антон Адамовіч, ад самае групы Мікола Гарошка і, як нэўтральны – Аляксандра Стагановіч. Пры такім сваім складзе, калі судзьдзёю быў адзін із падсудных, Камісія магла зрабіць толькі некаторыя меней важныя пастановы.

Галоўным заданьнем праціўнікаў менаванае групы, званай іншымі звычайна клікай, было, каб у будучыньні яна не магла шкодзіць. Адылі, як выявілася пасьлей, менаваная група імкнецца далей весьці сваю шкодную дзейнасьць. Паддзержаванай Прэзыдэнтам Рады, інж. М. Абрамчыкам, галоўным стварыцелем яе, яна выкарыстала перад апошняе паседжаньне

[922] Пададзеныя тут матэрыялы справы, расследаванай адмысловай камісіяй і апублікаваныя Янкам Станкевічам, друкуюцца як ілюстрацыя да падзеяў, апісаных у пратаколах Рады БНР.

Рады БНР, на каторым было мала ўчасьнікаў (галасавала толькі 20-х чалавекаў). Меней трывалкія сябры, збезахвочаныя тактыкай Прэзыдэнтавай і менаванай групы, пад канец рокаў (сэсіі) прыяжджалі на паседжаньні ў што раз меншай колькасьці, яна правяла Прэзыдыюму трох сваіх сяброў (на ўсіх абіральных чатырох), стварыўшы такім прыкладам сваю бальшыню ў Прэзыдыюме Рады. Наймя да Прэзыдыюму ўвайшлі: В. Тумаш за заступніка старшыні (адзержаў 16 галасоў), П. Манькоўскі (16 ці 11 галасоў), Ф. Кушаль (9 галасоў) і др. А. Ворса (20 галасоў). З выняткам Ворсы, усе іншыя – сябры менаванае групы. Дык на Тумаша галасавала 1/8 часьць усіх сяброў Рады, а за Кушаля толькі 1/14, пры гэтым Кушаль адзержыў абсалютную меншыню галасоў тых, каторыя галасавалі на паседжаньню (патайным). Кажам, «галасавалі», «галасуючых», а ня прысутных, каб ня абмыліцца, бо не маем спіс сяньня ўчаснікаў паседжаньня, але здаецца, і ўсіх учаснікаў было 20-х.

Дзеля малое колькасьці галасоў, паданых за Кушаля, ды дзеля таго, што маючы бальшыню ў Прэзыдыюме, менаваная група ўжо фамальна праўна рабіла-б тут шкоду, што ўперад рабіла ўзурпацыйна, некаторыя сябры адмовіліся прызнаваць такі Прэзыдыюм. Тады на наступным (яно-ж і апошняе на гэтых роках) паседжаньню Рады, на каторым было яшчэ меней учаснікаў (бо, апрача выменаваных прычынаў) некаторыя сябры былі заняты ў іншым месцу, было пастаноўлена правесьці выбары Прэзыдыюму рэфэрэндумам у Сэктарах Рады. Да правядзеньня рэфэрэндуму была абраная Камісія ў складзе Мікола Гарошка, М. Дарашэвіч і Л. Савёнак.

Каб сябры Рады ў сэктарах маглі належна арыентавацца ў палажэньні і ў кандыдатурах, праводзячая рэфэрэндум Камісія павінна была разаслаць ім Акты Камісіі, каторая разглядала справу менаванай групы. Камісія адылі адмовілася гэта зрабіць. У Камісіі толькі Л. Савёнак быў за разасланьне, а М. Гарошка (адзін з галоўных сяброў групы), М. Дарашэвіч (прыхільнік групы) былі супроць.Дык не ад Камісіі, але ад іншых жадаючых расьледаваньня Актаў (Л. Савёнак, М. Цэлеш, І. Арцюх, Л. Галяк і інш.) рассылае іх сябром Рады БНР той, хто эта далявях падпісаўся.

Рассылаючы, дзеля зьмяншэньня кошту друку не паўтараем тых Актаў абвінаваючых групу, каторыя ня ўносяць нічога новага, але толькі паўтараюць сказанае іншымі.

*І. Станкевіч*

## Акты Камісіі, што разглядала справу вышменаванае групы

*У СПЭЦЫЯЛЬНУЮ СЬЛЕДЧУЮ КАМІСІЮ РАДЫ Б.Н.Р.*

*(пакліканую на паседжаньні пленума Рады 7.11.195)*

*Леаніда Галяка, сябры Рады БНР*

З А Я В А

У сакавіку 1952 г., дзякуючы стараньнямі Пана Прэзыдэнта Рады БНР інж. М.Абрамчыка, ад адной з дапамогавых установаў была атрыманая грашовая дапамога, прызначаная на выданьне газэты «Беларусь», выдаванай і

да гэтага часу, як ворган Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня, пад маёй (Л. Галяка) рэдакцыяй. Як рэдактар, так і супрацоўнікі газэты, працуючы ганарова, ніякай узнагароды за сваю працу не атрымлівалі.

Старшынёю Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня ў гэты час сказаўся нова выбраны Ф. Кушаль, сябра Рады БНР.

Хаця грашовая дапамога была фармальна даная на выдавецтва газэты «Беларус», аднак паводле думкі Прэзыдэнта, палітычная кантроля кірунку газэты, а таксама кантроля над дамэтнасьцяй і адпаведнасьцяй расходаваньня дапамогі мела належаць да Рады БНР, ці ейнага воргану — ураду БНР.

Атрымаўшы ў сваё распараджэньне грошы на выдавецтва вышэй успомненай газэты Ф. Кушаль тайна стварыў рэдакцыйную калегію ў няведамым складзе, прычым да ўдзелу ў стварэньні гэнай тайнай камісіі не запрасіў ані тагачасных міністраў прапаганды БНР п.п. Паланевіча і М. Панькова, ані рэдактара газэты, ані супрацоўнікаў газэты.

Стварыўшы гэную тайную рэдакцыйную калегію, Ф.Кушаль пасьля гэтага паведаміў аб факце стварэньня камісіі мяне і выразіў сваю згоду, каб я таксама належаў да гэнай тайнай камісіі…

Ня могучы пагадзіцца з тым, што Кушалем рэдакцыйная камісія была створаная ў тайніцы перад легальнымі ворганамі Рады БНР, рэдактарам і дагэтулішнімі ганаровымі супрацоўнікамі газэты, я ад удзелу ў Кушалевай рэдкалегіі адмовіўся.

Платным дзённым рэдактарам Ф. Кушаль прызначыў сваю жонку Наталю Арсеньеву-Кушаль, таксама без кансультацыі з ворганамі Рады БНР.

На паседжаньні Нью-ёрскага сэктара Рады БНР, дня 28 жніўня 52 г. у бягучых справах было закранутае пытаньне кантролі над выдавецтвам газэты «Беларусь». Частка сяброў выказалася, што кантроля над расходаваньнем атрыманай дапамогі павінна належаць да ворганаў Рады БНР. Выступаючы супроць гэтай думкі, сябра Рады Ф. Кушаль асьветчыў, што ён ніколі не згодзіцца, каб кантроля над выдавецтвам «Беларусь» належала да Рады БНР. Далей Ф. Кушаль выясьніў, што лічыць, што спосаб расходаваньня в. азначанай дапамогі павінен быць сэкрэтам для Рады і Ураду БНР. Далей Ф. Кушаль сказаў, што кантроля расходаваньня належыць да адмысловай камісіі, пакліканай дзеля гэтага Прэзыдэнтам М. Абрамчыкам і што склад гэтай камісіі таксама ня можа быць уяўнічны ані Радзе, ані Ураду БНР.

У часе дыскусыі над гэтай справай заступнік Прэзыдэнта Рады БНР А. Махноўскі на запытаньне нейкага сябры адказаў, што ён (Махноўскі) прабаваў гэтую справу падпарадкаваць воргану Рады БНР, але тайная калегія гэтую прапанову, праз свайго прадстаўніка Ф. Кушаля, адкінула.

Пачуўшы вышэйсказанае, сябра Рады БНР Ф. Кушаль падбег да ўрадуючага заступніка Прэзыдэнта А. Махноўскага і выгукваючы розную расейскую лаянку, як «мерзавец», «мошеннік», замахнуўся рукою з намерам ударыць, але намеру свайго не выканаў, дзеля прычынаў ад яго не залежных, бо быў сілаю паўстрыманы.

У сакавіку 1953 г. адбыўся гадавы зьезд (кангрэс) дэлегатаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

На дамаганьні дэлегатаў даць грашовую справаздачу з выдавецтва газэты «Беларусь» (бо выясьнілася, што рэвізыйная камісія пад старшынствам Дарашэвіча гэтай часткі фінансавай дзейнасьці Ф. Кушаля не кантралявала) Ф. Кушаль катэгарычна адмовіўся даць гэтую справаздачу. Сваю адмову даць справаздачу Ф. Кушаль матываваў тым, што грамадзтва мае права дамагацца справаздачы толькі з тых сумаў, якія яно (грамадзтва) унесла, — у форме складак, ці іншай, а дапамога,якую ён атрымлівае не паходзіць ад беларускага грамадзтва.

На далейшыя запытаньні дэлегатаў Ф. Кушаль даў адказ, што даходы газэты «Беларусь», што паходзяць ад беларускага грамадзтва выказаныя ў паасобных нумарах газэты і хто гэтым цікавіцца можа сам сабе палічыць, а ён (Кушаль) і з гэтых грошаў ніякай справаздачы не дасьць.

У далейшым Ф. Кушаль адмовіўся выявіць склад рэдакцыйнай калегіі, асобы рэдактароў, адмовіўся сказаць узамен, за якія забавязаньні ён дастае грошы і якая вышыня атрымліванай ім дапамогі. У адказ на запытаньне аднаго з сяброў Рады, ці нававыбраны старшыня таксама будзе атрымліваць гэтую дапамогу, Ф. Кушаль адказаў, што новы старшыня будзе атрымліваць дапамогу на выдавецтва «Беларусь» толькі ў тым выпадку, калі ён, Кушаль, завядзе старшыню ў установу, што дае дапамогу і выразіць сваю згоду.

Скарбнік БАЗА У. Русак на запытаньне адказаў, што яго цікавяць толькі тыя грошы, якія яму перадаюць у рукі, а паколькі яму Кушаль ніякіх грошаў паходжаных з дапамогі ці ахвяраў на газэту не перадаваў, дык ён, як скарбнік гэтым не цікавіўся.

З увагі на тое, што старшыня Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня Ф. Кушаль не вылічыўся з грамадзкіх грошай (стоячы на становішчы, што і грошы з пазабеларускіх крыніцаў, зьяўляюцца беларускімі грамадзкімі грошамі, калі яны прызначаныя на беларускія грамадзкія мэты і выданыя Ф. Кушалю толькі як старшыні арганізацыі), я, Л. Галяк, пастанавіў прапанову аб адмове дачы Ф. Кушалю абсалюторыюм і аб дачы гэтага абсалюторыюм іншым сябром ураду, якія ўдзелу ў фінансавых апэрацыях Ф. Кушаля не прыймалі.

У часе дыскусыі над прапановай сябра Рады П. Манькоўскі сказаў, што для яго гэтая прапанова зьяўляецца дзікай, бо прапануе даць абсалюторыюм ураду, а не даць старшыні ўраду. Такім чынам, П. Манькоўскі выказаў думку, што для яго паняцьце індывідуальнай адказнасьці зьяўляецца дзікім.

На другі дзень зьезду Ф. Кушаль, расхвальваючы сябе як старшыню, паміж іншым асьветчыў, што з дзейнасьці ураду БАЗА ёсьць многа незадаволеных, у тым ліку адсутны сёньня правакатар Галяк і агенты Савёнак і Панькоў.

У выпадку, калі некаторыя цьверджаньні гэтага апісаньня фактычнага стану спаткаюцца з папярэчаньнем другой стараны, будзе праведзены довад праўды.

У выпадку, калі-б другая старана наагул адмовілася-б ад выясьненьняў, ветліва прашу Высокую Камісію прыняць вышэй паданы спіс фактычнага стану за даведзены ў поўнай разцягласьці.

У вабаперці на вышэй паданы фактычны стан ветліва прашу вырашыць ніжэй паданыя пытаньні.

1) Дзякуючы чыім стараньнем была атрыманая дапамога да выдавецтва «Беларус»?

2) Ці была п. Прэзыдэнтам выражаная думка, што кантроля над выдаткаваньнем в. азначанай дапамогі павінна належаць да ворганаў Рады БНР?

3) Хто стварыў тайную рэдакцыйную калегію газэты «Беларус»?

4) Які склад калегіі азначанай у п. 3?

5) Асобы рэдактараў і іншых платных працаўнікоў?

6) Чаму рэдакцыйная калегія была створаная ў тайніцы ад міністраў прапаганды, дагэтулішняга рэдактара і супрацоўнікаў газэты?

7) Ці акалічнасьці тварэньня рэвакцыйнай калегіі «Беларус» даюць падставу да прыпушчэньня, што ў уяўленьне некаторых асобаў існуюць асобы да ганаровай працы?

8) Ці спэцыяльная кантрольная камісія для канраляваньня расходаваньня на газэту «Беларус» была запраўды створаная п. Прэзыдэнтам, як гэта цьвердзіць Ф. Кушаль, на паседжаньні 28 жніўня 1952 г.?

9) Калі не, дык кім была створаная гэная ўзурпацыйная камісія і які яе склад?

10) Чым вытлумачыць чынны напад на ўрадуючага заступніка Прэзыдэнта А. Махноўскага?

11) Ці грошы, атрымліваныя як дапамога ад пазабеларускіх дзейнікаў на беларускую грамадзкую працу, зьяўляюцца беларускімі грамадзкімі грашыма?

12) Ці грошы, атрымліваныя Ф. Кушалем, былі беларускімі грамадзкімі грашыма?

13) Ці здаў Ф. Кушаль зь іх лічбу арганізацыі, ад імя якой браў грошы?

14) Ці расходаваньне гэтых грошаў было беззаганнае!

15) Ці даў Ф. Кушаль справаздачу з грошаў, атрымліваных ад беларусоў на газэту «Беларус»?

16) Ці цьверджаньне Ф. Кушаля аб тым, што новы старшыня БАЗА будзе атрымліваць дапамогу толькі ў тым выпадку, калі Ф. Кушаль выразіць на гэта сваю згоду, зьяўляецца праўдзівым?

17) Як павінен быў адказаць Ф. Кушаль?

18) Ці выканаў свой грамадзкі абавязак сябра Рады У. Русак, калі як скарбнік БАЗА не цікавіўся даходамі гэтай арганізацыі?

19) Ці выканаў свой грамадзкі абавязак сябра Рады Дарашэвіч, калі як старшыня рэвізыйнай камісіі БАЗА аграничыўся рэвізыяй толькі часткі даходаў арганізацыі?

20) Ці я зьяўляюся правакатарам?

21) Ці Л. Савёнак і М. Панькоў зьяўляюцца агэнтамі?

22) Ці асьветчаньне Ф. Кушаля аб тым, што новы старшыня будзе атрымліваць толькі дапамогу ў тым выпадку, калі ён дасьць на гэта сваю згоду, а таксама слоўны напад на Л. Савёнка, М. Панькова і Л. Галяка мог уплынуць на вынікі галасаваньня на старшыню БАЗА?

23) Ці можна лічыць, прыймаючы пад увагу п. 20, што Ф. Кушаль быў выбраны старшынёй БАЗА пры стасаваньні мэтадаў змаганьня, дапушчальных паміж сябрамі Рады БНР?

24) Ці Ф. Кушаль нарушыў тайніцу Рады БНР публічна асьветчаючы аб наяўнасьці ў Радзе БНР правакатара і агэнтаў?

25) Ці зьяўляецца дапушчальным, каб у беларускай грамадзкай арганізацыі жонка была ў фінансавай залежнасьці ад мужа?

26) Ці паступаньне Ф. Кушаля ў грамадзкіх справах зьяўляецца беззаганным?

*Л. Галяк*

**Адказ (Ф. Кушаля)**
**на заяву, складзеную ў спэцыяльную камісію Рады БНР 7-га лістапада 1953 г. Радным мгр. Галяком**

На пункт 1-ы: Спадаром Прэз. Абрамчыкам на заяву старшыні БАЗА.

На пункт 2-гі: Прэзыдэнт мне нічога аб гэтым не гаварыў.

На пункт 3-ці: Я нічога ня ведаю аб тайнай рэдкалегіі газэты «Беларус».

На пункт 4-ты: як пункт 3-ці.

На пункт 5-ты: Спэцыяльная камісія можа даведацца аб гэтым з пратаколу Рэвізыйнай камісіі Выдавецкага фонду «Беларуса», якія знаходзяцца ў мяне.

На пункт 6-ты: Рэдакцыйная камісія працавала ганарова, апрача рэдактара газэты, які атрымаў за сваю рэдакцыйную й тэхнічную працу ў газэце 160 дал. у месяц, бо мусіў дзеля выданьня газэты пакінуць заработную працу. Папярэдні рэдактар «Беларуса» др. Тумаш быў у рэдакцыйную калегію выбраны.

На пункт 7-мы: Першую рэвізійную камісію паклікаў я, як старшыня БАЗА, другая рэвізійная камісія была выбраная 4-ым Кангрэсам БАЗА. Што Камісія гэта была паклікана сп. Прэзыдэнтам я ніколі ня ведаў.

На пункт 8-мы: Гл. Пункт 7-мы, прозьвішчы сяброў рэвізійнай камісіі знаходзяцца ў пратаколах рэвізійнай камісіі. Усе яны зьяўляюцца раднымі БНР.

На пункт 9-ты: Аб ніякім нападзе на заступніка Прэзыдэнта сп. Махноўскага я ня ведаю. З майго боку была толькі слоўная абраза сп. Махноўскага, як рэакцыя на ягоную слоўную абразу мяне.

На пункт 10-ты: Не, было толькі штомесячнае пакрыцьцё рахункаў «Беларуса».

На пункт 11: Не.

На пункт 12: Так.

На пункт 13: Адсылаю да пратаколаў рэвізійнай камісіі.

На пункт 14: Ня ведаю, каго мае на думцы сп. Галяк і каму я мусеў-бы даць справаздачу з атрыманае на «Беларуса» дапамогі.

На пункт 15: Я гэтага ніколі не казаў.

На пункт 16: Сказана было гэтак: «Калі я прадстаўлю амэрыканскай установе, якая супсыдыявала «Беларуса», як майго законнага наступніка»

На пункт 17: Дапамога на выданьне «Беларуса» не ўваходзіла ў гадавы бюджэт БАЗА, а тварыла зусім асобны фонд.

На пункт 18: Так. Сп. Дарашэвіч быў старшынёй рэвізійнай камісіі БАЗА і кантраляваў гадавы бюджэт БАЗА.

На пункт: Не.

На пункт: Не.

На пункт: З гледзішча на мае адказы на пункты 16, 17, 18, 19 пытаньне адпадае.

*Ф. Кушаль*

* * *

*У СПЭЦЫЯЛЬНУЮ СЬЛЕДЧУЮ КАМІСІЮ РАДЫ БНР*

*Леаніда Галяка, сябра Рады БНР*

З А Я В А

Дня 5 студзеня 1954 году я атрымаў копію раднага Ф. Кушаля на маю заяву ў Спец. сьледчую камісію.

Пазнаёміўшыся з адказам, я павінен выразіць сваё зьдзіўленьне тым, што радны Кушаль замест таго, каб унесьці сваё выясьненьне, заняўся адказываньнем на пытаньні, пастаўленыя не яму, а Камісіі. Паколькі аднак з адказаў Ф. Кушаля вынікае, што ён не згаджаецца на мой спіс фактычнага стану ў некаторых ягоных пунктах, дык на «адказы» Ф. Кушаля даю свае выясьненьні.

Да адказу 2. У сувязі з тым, што Ф. Кушаль, як цьвердзіць, ня ведае аб думцы Прэзыдэнта, ветліва прашу дапытаць на гэтую акалічнасьць п. Прэзыдэнта.

Да адказу 3. У сувязі з тым, што старшыня БАЗА асьветчывае, што нічога ня ведае аб рэдакцыйнай калегіі, выдаванай арганізацыяй, на чале якой ён стаіць, ветліва прашу дапытаць на гэтую акалічнасьць рэдактара газэты, даведаўшыся спачатку ад Ф. Кушаля, хто ім зьяўляецца.

Да адказу 6. Вясненьня Ф. Кушаля, паданыя пад п. 6, не зьяўляюцца выясьненьняміі ні на адзін з пунктаў, азначаных памылкова, як п. 6. У сувязі з цьверджаньнем Ф. Кушаля, што В. Тумаш быў рэдактарам выбраны, ветліва прашу дапытаць на гэтую акалічнасьць В. Тумаша, каб выясьніць, хто яго выбіраў.

Да адказу 7. У вадказе пад п. 7 Ф. Кушаль прызнаецца да ўзурпаваньня правоў іншых ворганаў, прызнаючыся, што паклікаў сам камісію, якая мела кантраляваць ягоную фінансавую дзейнасьць. Мне здаецца, што ўсялякі сэнс канрольных камісіяў губляецца, калі кантрольную камісію паклікае асоба, падлягаючая кантролі.

У сувязі з тым, што Ф. Кушаль цьвердзіць, што ня ведаў, што гэная (тайная) камісія была пакліканая Прэзыдэнтам — нічога дзіўнага, бо-ж Кушаль сам сьцьвердзіў, што паклікаў тайную камісію, якая мела яго кантраляваць — сам. Я ў сваёй заяве таксама ня цьвердзіў, што Ф. Кушаль мае ведаць, што гэную камісію паклікаў Прэзыдэнт, я цьвердзіў толькі, што на паседжаньні 28 жніўня 1952 г. Ф. Кушаль цьвердзіў, што яе (тайную камісію) паклікаў Прэзыдэнт. На довад гэтай акалічнасьці прашу дапытаць сьветкаў А. Орсу, М. Панькова, А. Шукелойца, А. Махноўскага.

Да адказу 8. Цікава, што інфармуе Ф. Кушаль, дзе можна знайсьці прозьвішчы легальнай рэв. камісіі БАЗА. Камісію можа цікавіць прозьвішчы ўзурпацыйнай тайнай камісіі.

Да адказу 9. Шкада, што Ф.Кушаль не падаў, на чым палягала абраза яго А. Махноўскім.

Да адказу 10. Прызнаньне вельмі цэннае.

Да адказу 12. Цьверджаніне Ф. Кушаля цалкам мінаецца з праўдай, бо кангрэс БАЗА справаздачы з гэтых грамадзкіх грошаў не атрымаў.

Да адказу 13. На пытаньне, ці расходаваньне грошаў было беззаганным, падае ён у адказе 7. Мне здаецца, што гэная тайная камісія, праводзячы сьледзтва, была пакліканая, каб прызнаць усё правільным. Праводзячы сьледзтва, ня можа агранічыцца пратаколам тайнай камісіі, але павінна сама правесьці рэвізію.

Да адказу 14. Адказ на сваё пытаньне Ф. Кушаль можа знайсьці ў статуце БАЗА.

Да адказу 15. На гэтую акалічнасьць прашу дапытаць: М. Міцкевіча, М. Тулейку, М. Панькова, А. Адамовіча.

Адказы 16 і 17. Ф. Кушаль зьяўляецца ў справе абвінавачаным, а ня веднікам, пакліканым для выражэньня думкі аб паступаньні іншых асобаў.

Ф. Кушаль цьвердзіць, што дапамога на выданьне «Беларуса» тварыла зусім асобны фонд і не ўваходзіла ў бюджэт БАЗА. Паўстае пытаньне, ці гэткая пастанова ўраду БАЗА ці толькі Ф. Кушаля. Выглядае, што Ф. Кушаль лічыць, што старшыня арганізацыі мае права паводле свае думкі давольную частку даходаў арганізацыі перадаць у бяскантрольны фонд.

Да адказу 18 і 19. Адказ на гэты пытаньні належыць да камісіі.

Выясьненьні-ж Ф. Кушаля абцяжываюць яго, бо выходзіць, што стаўляючы цяжкія галаслоўныя закіды ня верыў у іх праўдзівасьць, а толькі гэта магло б усправядлівіць Ф. Кушаля.

На довад праўдзівасьці майго цьверджаньня (аб тым, што гаварыў Ф. Кушаль) прашу паклікаць сьветкаў: Я. Станкевіча, М. Міцкевіча, М. Панькова, Л. Савёнка, А. Орсу. Усе сьветкі цалкам пацьвердзілі тыя акалічнасьці, на якія былі пакліканыя, а Тумаш сьцьвердзіў, што ён рэдактарам «Беларуса» ніколі ня быў і дзеля гэтага цьверджаньні Кушаля аб гэтым зьяўляюцца маною.

*Л.Галяк*

* * *

*Адмысловай Прасочнай Камісіі Рады БНР,*
*створанай на паседжаньню Рады*
*7 лістапада 1953 году*

*Я.Станкевіч*

*Сябра Рады БНР*

З А Я В А

Групу, складзеную з Ф. Кушаля, Н. Арсеньневай-Кушаліхі, В. Тумаша, П. Манькоўскага й М. Гарошкі вінавачу ў наступным:

1) У ўзурпаваньню вылучнага права распараджэньня грашамі — адзержанымі ў месяц тысячы даляраў.

2) У бескантрольным і раскідонлівым выдаткаваньню грошы, менаваных у бодцы першай.

3) У тэрарызаваньню іншых у вабароне свайго ўзурпацыйнага становішча.

4) У ўнясеньню падзелу сярод нацыянальнага кірунку беларускае эміграцыі: а) выдаткаваньнем на работу свае групы менаваных грошы, прызначаных на агульную беларускую справу, б) арганізаваньнем байкоту іншых із нацыянальнага кірунку, асабліва Крывіцкага навуковага т-ва Пр. Скарыны: а) у «Беларусе». б) у рэфэратах. ц) у іншых галінах.

5) У тым, што байкатуючы іншых, самі ня справіліся з работаю а) у «Беларусе», б) у іншых галінах.

6) Кушаля яшчэ вінавачу ў бязьдзейнасьці, каб маць ласку ў ворагаў беларускай справы, а іншых сяброў групы ў толераньню гэтага.

Да 1. Грошы выстараўся Прэзыдэнт Рады БНР, значыцца яны былі даныя на агульна-беларускую справу, а не акцыю якойсь групы, а тым часам не загадавала менавітымі грашыма ані Рада БНР, ані Урад БНР, брала й загадвала менаваная група, адумысьля паўсталая дзеля завалоданьня імі.

Да 2. А. (бескантрольнасьць). Менаваная група выдавала адзержаваныя ёю тысяча даляраў у месяц бескантрольна й патайна ад іншых сяброў Рады БНР і Ураду БНР, як і Задзіночаньня беларуска-амэрыканскага. Ані Рада, ані Урад БНР, як таковыя, не кантралявалі адзержаных гэтых грошаў. Не рабіла рэвізыі іх выдаткаваньня таксама Рэвізійная камісія Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня і ня была здана зь іх лічба на годнім зьездзе Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня. Кажучы пра патрэбу кантролі, я маю наўвеце выдаткаваньне менаваных грошаў, але не жарала[923], скуль яны былі адзержаныя. Гэтак, як ведама, ставілі справу ўсе праціўнікі паступку менаванае групы. Ня толькі ня было кантролі,але ладны час іншым радным ня было нічога ведама пра адзержаныя грошы, ажно пад канец адзержаньня стала прыпадкова ведама вышыня адзержанай сумы і дагэтуль няма ведама, як менаваныя грошы былі выдаткаваныя. Гэтыя бясканрольнасьць у выдаткаваньню й патайнасьць мусіла дзеяць дэмаралізацыйна на іншых сяброў

[923] **Жарала** — крыніца.

Рады БНР і на грамадзтва, а ведама, што яна выклікала абурэньне ў усіх, хто пра яе даведаўся.

Да 2. Б. Каб выдаваць два разы на месяц такі малы часапіс, як «Беларус», то даволі, каб была аплачаная адна друкарня. Уся іншая работа магла быць зробленая ў парадку грамадзкае павіннасьці. Як цяпер ведама, друкарня брала 160 (сто шасьцьдзесят) даляраў за нумар, зн. 320 (трыста дваццаць) дал. у месяц. Дзе ж дзяваліся 680.00 (шасьцьсот восемдзесят) даляраў? Быццам аплачвалі два рэдактары (адзін напоўна), аплачвалася экспэдыцыя «Беларуса», быццам аплачваўся бухгальтар, што вёў бухгальтэрыю адзержаваных грошаў. Выдаваўся ганарар аўтарам артыкулаў. Калі зьвернем увагу, што не такі, як «Беларус», а нармальны, шмат большы й тыднявы часапіс «Бацькаўшчына» абходзіцца бяз аўтарскага ганарару, дык пагатове мог ня выплачваць ганарару «Беларус», тым болей, што вялізарная бальшыня пішучых зь беларускае эміграцыі жывець у Амэрыцы.

Раскіданлівасьць была ня толькі ў грошах, але і ў працы. Каб апрацаваць нумар не такога «Беларуса», але добрага часапісу такіх памераў, трэба часу найболей тры дні, а такой слабіні, як «Беларус», даволі 1½ дня. Вось жа, каб рэдагаваў «Беларуса» чалавек, што знаецца на газэтнай рабоце ды грамадзкі, дык засталы час — 24 дні ў месяц ён аддаў бы на іншую нацыянальную работу — культурна-палітычную, нацыянальнае ўсьведаменьне. А тут іншай работы ня было і газэты ня было, а была толькі карыкатура газэты. За менаваныя грошы, апрача добрага двухтыднёвіка, можна было выдаць некаторую колькасьць так патрэбных нам, асабліва па-ангельску, кніжак и зрабіць ладне іншае нацыянальнае работы. Можна тут зацеміць, што рэдагаваньне «Беларуса» Н. Арсеньневай-Кушаліхай, ня толькі ня спрыяла ёй асабіста, але на’т шкодзіла: за час рэдагаваньня яна перастала пісаць вершы. Непрыемне было з тае прычыны, што яна ня публіцыстая. Калі б у нас было свае незалежнае гаспадарства і якаясь установа ягоная так раскідонліва абыходзілася з гаспадарствавамі грашыма, дык справа павінна была-б апынуцца ў пракурора. Што-ж казаць, калі гэта зроблена сярод беларускае эміграцыйнае галечы?!

Да 3. Тэрырызаваньне іншых. Адзін з галоўных сяброў гэтае групы, наймя Ф.Р. Кушаль у вабароне яе ўзурпацыйнага становішча тэрарызаваў іншых сяброў Рады БНР, на’т публічна і ў быццю не сяброў Рады. Пра гэта, як мне ведама, падалі ведамкі Камісіі іншыя сяброве Рады (Махноўскі, Галяк і іншыя). Іншыя сябры разгляданае групы ніколі не адгарадзіліся ад тэрарыстычных актаў Кушалявых. Гэтым самым яны і ў гэтым прыпадку з Кушалям салідарызаваліся.

Да 4. Унясеньне падзелу да нацыянальнага кірунку беларускае эміграцыі. Разгляданая акцыя менаваная групы ўнасіла падзел да беларускага нацыянальнага кірунку й наагул дзеяла ў ім дэмаралізацыйна. Наколькі вялікае было гэтае дэмаралізацыйнае дзеяньне, відаць з гэтага сымптому: ані русафілы-русіфікатары (зарубежнікі), ані бальшавікі, ані белыя маскоўскія «едінадзелімцы» не маглі дапяць таго, каб некаторыя сяброве беларускага нацыянальнага кірунку пачалі схінацца да «зарубежніцтва», а тым часам

менаваная «работа» разгляданае ўзурпацыйнае групы давяла да таго, што колькі сяброў, ня то што нацыянальнага кірунку, але сяброў Рады БНР пайшло здароваць зарубежніцкую зборку.

Але падзел нацыянальнага кірунку быў роблены ня толькі аб'ектыўна, самым становішчам менаванае групы ў сувязі з адзержаваньнем, але й сьведама група імкнулася да падзелу.

Гэта праявілася ў наступным: а) «Беларус» стаўся ворганам гэнае групы, а не агульна-беларускім часапісам. Гэткі быў агульны кірунак ягоны. Рэдакцыя не зьмяшчала ніякага матарыялу, што ў пазытыўным сьвятле падаваў-бы тых людзей і іхнюю працу, каторыя не згадзіліся з менаванаю групаю, дарма што праца таковых людзей была карысная з беларускага гледзішча. На'т болей, рэдакцыя «Беларуса» байкатавала працу, «не сваіх» людзей. Гэтак ладны час калі да хронікі «Беларуса» даваліся наказы (паведамленьне) пра тое, што мае быць рэфэрат Крывіцкага Навуковага т-ва Пр. Скарыны, дык радакцыя выкідала назоў Т-ва. Калі хтось, пішучы пра зьезд моладзежы, напісаў пра выступленьне на ім Антона Адамовіча, дык гэта таксама рэдакцыя не прапусьціла. Менаваная група праводзіла байкот рэфэратаў Навуковага т-ва Скарыны, дарма што бяз удачы (колькасьць слухачоў у Т-ве Скарыны павялічылася, а ў т. зв. Беларускім інстытуце навукі й мастацтва і без байкоту зменшылася). Байкот гэтай групаю Т-ва Скарыны прадаўжаўся.

Быў і застаўся байкот і іншае дзейнасьці людзёў, ня толькі апазыцыйна настроеных да пастулку разгляданае групы, але на'т тых, што толькі ейнага паступку не паддзержвалі.

Сама сябе разгляданая група ў «Беларусе» рэклямавала. Былі там і апісаньні такіх гістарычных здарэньняў, як тое, што генэрал Ф. Кушаль, паехаўшы на Ніягару, спаў там у выгодным ложку выгодна-гатэлю.

Да 5. Байкатуючы іншых у нацыянальнай рабоце, сама менаваная група не магла, каб і хацела, справіцца з работаю. Дзеля гэтага ў яе былі надта малыя сілы.

Дарма, што плацілі аўтарскі ганарар і іншыя працаўнікі, тэхнічныя й нетэхнічныя, былі аплачваныя, «Беларус» быў найслабшым часапісам, які калі-колечы выходзіў у беларускай мове. Між іншага, такое важнае заданьне, як усьведамленьне старое эміграцыі беларускае ані ня бралася пад увагу ў «Беларусе». Рэдакцыя ейная ані не парупілася даведацца пагляды, матывы і аргумэнты беларускае эміграцыі ў нацыянальным пытаньню, каб у газэце рэагаваць на іх. Выплата ганарару аўтарам хіба была прычынаю таго, што пераважная колькасьць матарыялу ў «Беларусе» паходзіла ад радзімы й радні галоўнага выдаўца й рэдактара.

Дарам, што былі найлепшыя, якія толькі дагэтуль былі, матарыяльныя ўмовы, грамадзкая праца беларуская ў Нью Ёрку ня толькі не пасунулася наперад, але наадварот, чыста заняпала. Як на зыркія прыклады, можна паказаць, што т.зв. Беларуская хатка ня толькі ня была прыбраная й ня было ў ёй Пагоні й партрэтаў выдатных беларусаў, але не была на'т меценая, выг-

лядала, як хлеў. Наапошку, старшыня «Нью Ёрскае акругі» Задзіночаньня, В. Тумаш, «хатку» зьліквідаваў, не наняўшы нават ніякага памяшчэньня.

Ажно да апошняга часу ані Галоўная Рада Задзіночаньня, ані рэдакцыя «Беларуса», ані Беларускі інстытут навукі й мастацтва не прадавалі беларускіх кніжак, адзержаных Задзіночаньнем у 1950 г. дарма ад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне, ані якіх іншых кніжак. Адно, калі Крывіцкае навуковае т-ва Скарыны зьвярнулася да Галоўнае Рады Задзіночаньня з просьбаю перадаць яму (Т-ву Скарыны) палавіну адзержаных із Нямеччыны кніжак, (бо Т-ва Скарыны ўвесь час прадавала) у нядзелю 29 лістапада 1953 г. ад Задзіночаньня першы раз прадаваў кніжкі В. Тумаш.

Выясненьне цяпер: Аказалася, што кніжкі гэныя, ад Беларускага нацыянальнага камітэту зь Нямеччыны Галоўная Рада Задзіночаньня была нават згубіўшы і толькі пасьля менаванай просьбы Таварыства Скарыны пачалі шукаць і знайшлі, праўдападобна толькі часьць. З находам пахаваліся ў «Беларусе».

Галоўная Рада Задзіночаньня ня вяла ніякае культурнае работы, асабліва патрэбнае сярод неінтэлігэнцыі (бо сярод інтэлігэнцыі такую работу вяло Навуковае т-ва Скарыны). Ня было таксама ў Нью Ёрку беларускай школы, як дапаўняючай з боку беларускага амэрыканскую. Галоўная Рада нічагусенькі не рабіла дзеля дастаньня ашурансаў беларусам Д.П. у Эўропе. На’т абяцаўшы дастаць ашурансу спр.спр. Аляксею Кабычкіну і Сумайкевічу, першаму не дастала, пакінуўшы яго гараваць у Аўстрыі, а другому дастаць перадала расейцам, тым самым перадаўшы ім і чалавека.

Дайшло да таго, што як Галоўная Рада Задзіночаньня, так і т. зв. Рада Нью Ёрскае акругі ніяк не могуць ужо зыбраць Нью Ёркскіх сяброў задзіночаньня. Калі ня мог адбыцца сход Бруклінскіх сяброў задзіночаньня, тады хтось вызначыў за зьбіраньнікаў сяброўскіх складак спр. І. Крэслу і спр. Стаськевічыху, дарма гэтая варожая да беларускае справы і нічога ня робе.

Да 6. <u>Бязьдзейнасьць, каб мець ласку ў ворагаў</u>. Але Кушаль шмат якое патрэбнае работы й надта патрэбнае работы і не хацеў рабіць. На гэта ён меў свае прычыны, праўдападобна зьвязаныя з вышменаванымі грашыма, каторымі ён загадваў. Будучы першы раз абраны за старшыню Задзіночаньня, ён блізу не зьбіраў на паседжаньньні Прэзыдыюму, дзеля таго, здагадавацца, каб некаторыя із сяброў ягоных не вымагалі работы й асабліва, каб ня выявілася справа зь менаванымі грашыма.

На годнім зьездзе Задзіночаньня ў 1953 г. Кушаль, тарнуючы тэрор, прайшоў за старшыню бальшынёй трох галасоў. Просьле (посьле) гэтага цяжка было знайсьці такіх кандыдатаў за сяброў Галоўнае Рады, што захацелі-б быць у Радзе разам із Кушалям. Дык прыхільнікі Кушалевы, пры агульным рогаце ўсіх дэлегатаў, выбіралі тых, што не адмаўляюцца, ня думаючы працаваць. І Кушаль быў рады з такіх сяброў Гал. Рады. Яны яму не заміналі. Задзіночаньне не дзяржала кантакту з настроенымі супраць расейскага імпэрыялізму амэрыканскімі дзейнікамі. Таксама Задзіночаньне ня мела кантакту, дзеля ходаньня з расейскім імпэрыялізмам, із прадстаў-

нікамі нерасейскіх народаў. Асабліва, што да ўкраінцаў мне ведама добра, што Кушаль не хацеў маць гэтага кантакту. Я быў зьдзіўлены, пачаўшы адзержаваць ад Украінскага Кангрэсовага Камітэту запросіны на зборкі для Задзіночаньня. Я прасіў Украінскі Кангрэсовы Камітэт у васобе ягонага сакратара др. Сандора адрысаваць на Кушаляў, але не на мой адрас, а гэта тым болей, што я ў вапазыцыі да цяперашняга кіраўніцтва Задзіночаньня. Ён на гэта мне адказаў, што яны хацелі-б пасылаць на мой адрыс, каб людзі нашага нацыянальнага кірунку ведалі, што ўкраінцы іх не абмінаюць. З усяе гаворкі выходзіла, што Кушаль не раагуе на іхныя запросіны, нашыя людзі, ня ведаючы гэтага, могуць думаць, што ўкраінцы іх абмінаюць. Просьле (посьле) гэтага я ня пярэчыў, каб запросіны або якія-небудзь ведамкі Задзіночаньню Украінскі Кангрэсавы Камітэт пасылаў на мой адрас. Адзержаўшы іх, я заўсёды без адвалокі перасылаў Кушалю. Кушаль супроць гэтага ня выказваў ніякага незадавальненьня, наадварот, мне дзякаваў. Ладны час гэта было пэўне яму й выгадна, бо бывала, некаторыя ведамкі перадавалі з Украінскага Кангрэсовага Камітэту тэлефанічна, а ў Задзіночаньня ані ў Кушаля доўгі час тэлефону ня было.

Але калі я адзержыў і пераслаў запросіны ад УКК на зборку прадстаўнікоў нерасейскіх народаў на 20 чырвеня 1953 г., то дастаў ад Кушаля назад гэтыя запросіны зь лістом ягоным, у каторым ён піша: «Пры гэтым зьвяртаю Вам ліст Украінскага Кангрэсавага Камітэту, які адрасаваны Вам для нейкай няведамай мне беларускай арганізацыі. Украінскі Кангрэсавы Камітэт дакладна ведае мой адрыс і адрыс БАЗА і калі ён да мяне або да БАЗА не зьвяртаецца безпасярэдня, — дык, відаць, не ўважае за патрэбнае. З пашанай Кушаль, Нью Ёрк, 16 чэрвеня 1953 г.» Ліст УКК быў гэтак адрысаваны: Др. Іван Станкевіч Бэлорашн Асосышн ін УкСРАК (неразборчывы друк ратататара, ня ведаю, ці правідлова, перапішчык), 6 Вандэрвот Плэйс, Бруклін (Dr. Ivan Stankievic Byelorussien Assotiationin York, 6 Vendervort Place, Brooklyn). У лісьце казалася (па-ангельску): «Мы Вас сардэчна просім прыслаць прадстаўнікаў Вашае Арганізацыі на зборку амэрыканскіх нацыянальных групаў народаў паняволеных у Савецкім Саюзе. Заданьнем зборкі будзе разгляд жыцьцёвых пытаньняў, зьвязаных із нашай мэтаю памаганьне нашым народам у іхным агульным ходаньню супроць маскоўскага паняволеньня». На зборцы гэтай былі прадстаўнікі ўсіх нерасейскіх народаў быў амэрыканец Э. О'Коннор. Былі й зарубежнікі — Шчорс і Чабатарэвіч. На зборцы разглядалася справа паддзержаньня зданай у Кангрэсе рэзалюцыі пра ўстанаўленьне амэрыканскіх пасольстваў у Менску і Кіеве. Гэты ліст УКК і ліст-адказ Кушаля прыкладаю. Значыцца, яны прыкладаныя да заявы, паданай Прасочнай камісіі.

Як ведама, Кушаль і ніхто з Задзіночаньня ня езьдзіў светчыць да Кангрэсу ў справе ўстанаўленьня амэрыканскага пасольства ў Менску, хоць пра гэта быў загадзя праінфармаваны ад таго-ж УК Камітэту. Езьдзіў Шчорс, і зарубежнікі фігуруюць у выданай Кангрэсам у мільёнах экзэмплярах кнізе пра гэтае сьветчаньне. У «Беларусе» ня было ходаньня з расейскім імпэ-

рыялізмам. Чаму-ж Кушаль не хацеў ходацца з расейскім імпэрыялізмам? Адказ можа быць толькі адзін — ён баяўся паставіць супроць сябе расейцаў, каб яны яму часамі не пашкодзілі ягоным захадзе адзержаванымі грашымі.

Дзеля тае-ж прычыны, каб ня шкодзілі яму зарубежнікі, ня было ў «Беларусе» ані нідзе ходаньня із зарубежніцтвам. Адно калі перасталі даваць грошы на «Беларуса», зьявіўся ў ім артыкул «Комэдыянты» супроць зарубежніцтва, а ўперад блізу зусім ня было. Але тут магла яшчэ быць і іншая прычына, ён пэўне баяўся зачыняць сабе дарогі да Астроўскага. Адным чынам, Кушаль рабіў тут тое, што рабіў на становішчы каманданта ў табару ДіПі ў Нямеччыне, як там гадзіў маскалём і зарубежнікам, каб тыя яму ня шкодзілі ў команданстве, так і тут рабіў як там зрадзаў свае хістаньні, ці ня быць яму з Астроўскім, так і тут.

Тут можа хто папытацца: «А чаму іншыя арганізацыі беларускія не рабілі таго з прадстаўнікамі амэрыканцаў і нерасейскіх народаў, чаго не хацеў рабіць Кушаль?»

Адказ: Такую работу ў Амэрыцы можа рабіць толькі амэрыканская грамадзка-палітычная арганізацыя, якою е толькі Заадзіночаньне. Зацемлю яшчэ, што Галоўная Рада Задзіночаньня й Кушаль — гэта тое самае, бо ад яго, а не ад Ул. Русака й Рытарыхі[924] залежыла, што рабіць або не рабіць. Менаванае становішча Кушалева, гэтая адмова ад ходаньня з расейскім іпэрыялізмам, чыста скампрамітавала Задзіночаньне, а зь ім увесь наш нацыянальны кірунак у вачох нерасейскіх групаў Амэрыкі. Уважаюць наш кірунак — неправідлова — за бясхрэбетны, гатовы капітуляваць і йсьці на шкоднае супрацавеньства з расейцамі там, дзе запахне грашмі. І — таксама несправедліва — уважаюць зарубежнікаў за праўдых прадстаўнікоў беларускага незалежніцкага руху (і кірунку). Нашыя імпрэзы яны байкатуюць, а на зарубежніцкіх бываюць у поўнай меры. Вінаваты тут галоўна Кушаль як старшыня Задзіночаньня, але й усі іншыя сяброве разгляданае групы вінаватыя ў тым, што яны гэткае становішча Кушалева толеравалі.

На становішчы старшыні Задзіночаньня і ў сувязі з менаванымі грашмі Кушаль ня толькі ня праявіў хоць-бы малых здольнасьцяў, вымаганых ад дзеяча, але, наадварот, недалюзнасьць і паказаў сябе чалавекам безідэйным, абыякавым на нацыянальную справу, эгаістычным матэрыялістым, амаральным з гледзішча грамадзкага, каторага ў грамадзкай працы трэба сьцерагчыся. Нельга сказаць, што Кушалева мінуласьць пярэчыла гэтай характарыстыцы.

Кушаль і менаваная група, адны ў большай (Кушаль, Кушаліха, Тумаш), другія ў меншай меры палажылі беларускую справу ў Нью Ёрку, а з гэтым у вялікай бальшыні ў цэлых Задзіночаных Гаспадарствах, палажылі як у нутры нашае эміграцыі, так і ў дачыненьнях і з чужнікамі (чужынцамі). Падняць яе цяпер будзе надта цяжка. Калі іхняя такая акцыя будзе далей, калі ёй ня будзе паложаны канец, дык гэта пагражае ўсёй справе беларускай.

[924] Маецца на ўвазе Іна Рытар.

Янку Ліманоўскага вінавачу ў тым, што ён, ведаючы менаваную шкодную дзейнасьць вышменаванае групы, агітаваў за яе, маючы наўвеце собскую карысьць.

*Я. Станкевіч*

## Паслоўе

Камісія ў складзе Ал. Стагановіча, М. Гарошкі й Антона Адамовіча, разглядаючы справу менаванае групы, на аснове лічбаў (рахункаў), Кушалем, устанавіла, што група ў працягу семнаццацёх месяцаў адзержавала па тысяча даляраў у месяц на выданьне «Беларуса», — усяго адзержыла семнаццаць тысячаў даляраў, і што з гэтых грошы друкарні плачана за нумар «Беларуса» 150.00 дал., знач. у месяц 300.00 дал., рэдактарка Н. Арсенева адзержавала ў месяц 160.00 дал. Дык за 17 месяцаў адзержала 2420.00 дал., ганорару аўтарам выплачана 1564.00 дал., касір М. Гарошка адзержаваў па 25.00 дал. у месяц — усяго 425.00 дал., Галіна Ганчарэнка за экспэдыцыю «Беларуса» адзержвала па 50.00 дал. у месяц — усяго адзержыла 850.00 дал. Дык усяго выдана 10.650.00 дал. Што сталася із сталымі 6.350.00 (17.000.00 — 10.650.00 = 6.350.00), Камісія не магла сказаць. Прыватна толькі стала ведама, што вялікая сума была даная на «Запісы» Беларускага інстытута навукі й мастацтва.

На пленуме Рада магла разглядаць толькі тое, што Камісія афіцыйна выявіла. Надта крытыкавана была плата ганарару аўтарам, аплата экспэдыцыі й касіра. Сябры Рады (з выняткам тых, што належылі да судчаснае групы або былі яе прыхільнікамі) даводзілі, што пісаньне да «Беларуса» і экспэдыцыя яго павінны былі адбывацца грамадзскім парадкам, зн. дарма, бо й шмат большая работа робіцца дарма, й што аплачваньне, ды даволі высокае, уплывала дэмаралізуючы на грамадзкасьць. Касір аплачваўся быццам за тое, што ён мусіў раз у месяц адзержаць грошы з банку і тым самым траціць рабочы дзень. А тым часам даволі было ягонага подпісу, каб грошы адзержывала Арсеньнева, каторая нічога не траціла. А яшчэ ляпей: было мець чэкавую кніжку і выпісваць чэкі, ня ходзячы да банку. Пэўне, касір Гарошка так і рабіў, не трацячы ніводнага дня.

Шмат было войстрае крытыкі дзейнасьці і бязьдзейнасьці разгляданае суджанае групы, але гэта даволі відаць з вышпрыведзеных актаў. Як было зазначана на пачатку, да Камісіі, разглядаючай справу групы, належыў і адзін сябра групы (М. Гарошка). Дзеля гэтага Камісія магла вынесьці пастанову толькі ў малаважных справах. Гэтыя пастановы, як і ўсе акты, Камісія перадала старшыні Рады БНР, М. Абрамчыку, каторы прапанаваў іх спаліць, але супроць гэтага быў пленум Рады. Што зь імі сталася, няма ведама, але цяпер немагчыма было іх дастаць. Надрукаваныя вышэй акты ўзяты з копіяў абвінавачаньнікаў групы ды із зробленай сп. Галяком копіі адказаў Кушалёвых.

Чаго мы хочам? Мы не супроць таго, каб сябры разгляданае групы належалі да Прэзыдыюму Рады, але супроць таго, каб яны складалі бальшыню ў Прэзыдыюме, бо як паказуе дазнаньне, гэта небясьпечна. Калі-б адылі, так сталася, дык гэта, апрача ўсяго іншага, давяло-б да разьбіцьця Рады.

Ужо цяпер, з прычыны менаванае групы, часьць сяброў Рады зь імі толькі намінальна.

За жычачых разасланьня менавых актаў у часе рэфэрэндум.

*Я. Станкевіч*[925]

* * *

*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі*
*Сакратарыят Нутраных Справаў*
*Нью Ёрк, лістапад 1957*

## КАНФІДЭНЦЫЯЛЬНАЯ ІНСТРУКЦЫЯ NO. 101

*Прадстаўнікам Рады БНР на чужыне*

*Спадару…………..*

Восьмая Сэсія Рады БНР даручыла Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады БНР стварыць жывы й дзейны апарат Рады Беларускае Народнае Рэспублікі на эміграцыі, [які] быў-бы здольны дзеіць і супрацьдзеіць, кіраваць і каардынаваць вызвольны рух.

Дзеля гэтага пастаноўлена найперш адпаведна рэарганізаваць структуру Рады БНР ды ейных Выканальных органаў.

Арганізацыйная структура

Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР у складзе: Сп. Прэзыдэнта, двох заступнікаў і пяцёх сакратароў — становяць сабою выканальны орган, або Урад БНР.

Паседжаньні Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР адбываюцца з удзелам і пад старшынствам Сп. Прэзыдэнта, або прынамся аднаго з двох заступнікаў.

Сэктары Рады БНР могуць быць у краёх, дзе ёсьць прынамся 3 радных. На чале Сэктару стаіць старшыня як адначасны прадстаўнік Рады БНР на дадзены край. У краёх, дзе гэта мэтазгодна, старшыня сэктару Рады БНР і прадстаўнік могуць не сумяшчацца ў ваднэй асобе, у такім выпадку функцыі старшыні абмежваюцца толькі да вядзеньня сходу Сэктару.

Кіраўніцтва Сэктару складаецца з Старшыні-прадстаўніка і скарбніка (дзе толькі мінімум радных), або з Старшыні-прадстаўніка, скарбніка й сакратара, дзе ёсьць большая колькасьць радных. У краёх, дзе ёсьць магчымасьць, могуць быць рэфэрэнты як інфармацыйны, культурных справаў

[925] Як было зафіксавана ў Пратаколе 4-га пасяджэння 8-ай сесіі Рады БНР ад 21.10.1956, у выніку разгляду прыведзеных Янкам Станкевічам у сваёй брашуры фактаў, апошні напісаў абвяржэнне, патлумачыўшы, што карыстаўся няправеранымі звесткамі. Гэтае абвяржэнне было апублікавана як: Станкевіч, Янка. Ліст у рэдакцыю. Заява // Беларус. № 58. 30 сьнежаня 1956. С. 8.

і да г. п. У краёх, дзе ёсьць колькі згрупаваньняў беларусаў, могуць быць створаныя падсэктары, як, прыкл., у ЗША, з такой самай структурай, як Сэктары. Арганізацыйна яны падлягаюць толькі мясцоваму Сэктару Рады БНР. У кажнай мясцовасьці, дзе ёсьць беларусы, павінен быць хоць адзін радны — упаўнаважаны сэктару, незалежна ад таго, ці там грамадзкая арганізацыя ёсьць, ці не.

Органы Сэктару абіраюцца на сходзе радных дадзенага краю й зацьвярджаюцца Прэзыдыюмам на кадэнцыю трох год. Калі сэктар ня здолее абраць сам, тады вызначае Прэзыдыюм Рады БНР.

Просіцца прысьпяшыць рэарганізацыю ў тых краёх, дзе яна спазьнілася, каб першую стадыю дзейнасьці закончыць як найхутчэй.

Арганізацыя й нутраны ўклад дзейнасьці

Раіцца абіраць у склад кіраўніцтва сэктараў асобаў, што здольныя выконваць абавязкі й жывуць блізка сябе, каб у пільнай патрэбе льга было хутка склікаць паседжаньне для прыняцьця патрэбнае пастановы.

Прадстаўнік Рады БНР вядзе дзёньнік, дзе запісвае ўсе праявы нутранога й вонкавага жыцьця, зь кім мае спатканьні, вынікі гутарак, уражаньні з удзелаў у канфэрэнцыях, выступах і г. д. (дзёньнік вельмі патрэбны для квартальнай інфармацыі-справаздачы), а таксама папку пратаколаў паседжаньняў Прэзыдыюму Сэктару й сходаў Сэктараў. Важнейшыя пастановы зараз-жа высылаюцца ў Сакратарыят Рады БНР. Карэспандэнцыя павінна быць нумараваная й рэгістраваная ў кнізе, копіі лістоў перахоўваць у Прадстаўніцтве. Копіі лістоў да Сакратарыяту або Прэзыдыюму ў справах цэласьці Рады або ў важных палітычных справах Эўрапэйскага кантыненту высылаюцца таксама Сп. Прэзыдэнту.

Квартальная справаздача-інфармацыя

Кажны Прадстаўнік Рады БНР высылае справаздачу Сакратарыяту Рады БНР раз на тры месяцы, не пазьней за 15 дня першага месяца наступнага кварталу. Першая такая справаздача за 4-ты квартал 1957 г. павінна быць высланая не пазьней за 15 студзеня 1958 г., а наступная — за 1-шы кв. 1958 г. — не пазьней за 15 красавіка 1958 г. і г. д. Першая квартальная справаздача-інфармацыя абыйме больш часу, паколькі ў 1957 г. гэткія справаздачы не прысылаліся.

Справаздача-інфармацыя павінна быць пабудавана гэткім парадкам:

a. Інфармацыя-справаздача з дзейнасьці Сэктару й Прадстаўніцтва Рады БНР;

b. Інфармацыя аб грамадзка-палітычнай дзейнасьці арганізацыяў і аб’ектыўная ацэна нашага нутранога палажэньня (у гэты разьдзел уваходзіць таксама культурнае й рэлігійнае жыцьцё);

c. Дачыненьні з урадавымі дзейнікамі дадзенага краю (падаваць прозьвішчы й функцыі асобаў, зь кім ёсьць сувязь, і ў якой справе);

d. Дачыненьні з арганізацыямі або ўстановамі іншанацыянальнымі (падаць якога характару дачыненьні, назовы арганізацыяў і прозьвішчы асобаў, прыхільных беларускай справе, а таксама й моцна варожых нам);

e. Інфармацыя аб дзейнасьці варожых да Рады БНР беларускіх арганізацыяў і адзінак (зарубежнікаў, «трэцяй сілы» і г. д.);

f. У якасьці залучнікаў: a. копія фінансавай справаздачы, якую скарбнік сэктару будзе высылаць Сакратару Фінансаў таксама квартальна; b. сьпіс новых адрасоў, папоўненых у даным квартале (глядзі разьдзел — улік Беларусаў); c. зьмены ў грамадзкіх арганізацыйных установах; d. вырэзкі з усякай прэсы дадзенага краю што да Беларусі й Беларускага вызвольнага руху.

Сьпіс радных

Яшчэ ня ўсе Прадстаўніцтвы прыслалі сьпісы радных зь іхнымі сучаснымі адрасамі, што ветліва просіцца зрабіць і далучыць да першай справаздачы-інфармацыі, а ў далейшым інфармаваць аб кажнай зьмене адрасу раднага квартальна.

Сьпіс арганізацыяў

Да справаздачы-інфармацыі далучыць сьпіс грамадзскіх беларускіх арганізацыяў і ўстановаў у дадзеным краю паводля наступных паказьнікаў:

a. Назоў арганізацыі ў дзвюх мовах і дакладны адрыс яе; калі ёсьць аддзелы, пералічыць і таксама падаць адрасы;

b. Склад Управы.

c. Колькасьць сяброў; калі дакладна няведама, падаць прыблізную колькасьць;

d. Кароткая характарыстыка дзейнасьці.

У далейшым кажную зьмену Управы й стану сяброў інфармаваць квартальна. Да сьпісу далучыць беларускую прэсу дадзенага краю, астатні нумар, калі яна ёсьць незалежна ад кірунку.

Сусьветны ўлік беларусаў

На першым паседжаньні Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР пастаноўлена правесьці сусьветны ўлік беларусаў, вельмі патрэбны для палітычнай дзейнасьці Ураду БНР. Дзеля гэтага просіцца зараз-жа ўзяцца за такі ўлік, які павінен быць скончаны да 1 красавіка 1958 г. ды перасланы ў Сакратарыят Рады БНР, а ў далейшым дапаўняцца квартальна. Улік праводзіць у паразуменьні з грамадзкімі арганізацыямі і з іхнай дапамогай, калі гэта немагчыма, праводзіць сіламі сваіх-жа радных.

Улік беларусаў мае быць зроблены на паперы лістовага фармату і мець наступныя паказьнікі:

a. Імя й прозьвішча;

b. Век — паводля групаў: выраслыя ад 18-цёх гадоў вышэй; малалетнія ад 10 да 18 год; дзеці — да 10 год.

c. Дакладны сучасны адрыс;

d. Зацемкі.

Улічваць усіх біялягічных беларусаў, незалежна ад цяпершаняга палітычнага пагляду й незалежна нат ад таго, ці дадзеная асоба ўважае сябе за беларуса (зн. улічваць усе асобы, хоць-бы толькі роджаныя на Беларусі ці ад беларускіх бацькоў).

У сьпіс упісваць нат тады, калі толькі ведамае адно прозьвішча; рэшту дадзеных дапаўняць паступова квартальна (калі будуць ведамы).

У зацемках адзначаць: актыўны БНРавец ці актыўны зарубежнік, неактыўны, стары эміграңт, уважае сябе за расейца або паляка, савецкі сымпатык (асабліва ў краёх Паўдзённай Амэрыкі) і да г. п.

Сакратарыят Рады БНР заклікае ўсіх Прадстаўнікоў належна й сваячасна выконваць усе заданьні, парушаныя ў гэтай інструкцыі, ды перасьцерагаць усе арганізацыйныя правілы, што забясьпечыць належнае зарганізаваньне дзейнасьці і ўсяго вызвольнага змаганьня. Бяз працы ўсіх нас Урад БНР ня здолее належна выконваць сваіх абавязкаў і асягнуць вызначаных мэтаў.

Жыве БНР!

*К. Мерляк, Сакратар нутраных справаў Рады БНР.*

## ПРАЕКТ РЭАРГАНІЗАЦЫІ РАДЫ БНР

I. Чаму патрэбна рэарганізацыя

Аднаўленьне Рады БНР 28 сьнежня 1947 г. у Нямеччыне прайшло ў не зусім спрыяльных абставінах. Асноўная маса беларускае эміграцыі перабывала ў лягерох. Вісеў над ёй яшчэ сьцень страху рэпатрыяцыі пад прымусам, была няпэўненасьць будучыні, нявыразнасьць агульнапалітычнай сытуацыі. Трэба было сьпяшацца з арганізацыяй аўтарытэтнага прадстаўніцтва.

Увосень 1946 г. было ўзгоднена з старэйшымі беларускімі палітычнымі дзеячамі, што пры аднаўленьні Рады БНР трэба ахапіць як мага шырэй актыў палітычных і грамадзкіх дзеячоў.

Паколькі ў нас не было палітычных партыяў і, апрача Францыі й Ангельшчыны, не існавалі яшчэ грамадзкія арганізацыі, якія б маглі паслаць у Раду сваіх прадстаўнікоў, было пастаноўлена ўлучыць у склад Рады БНР кожнага грамадзка-палітычнага дзеяча, які сваёй мінулай дзейнасьцяй стварыў сабе аўтарытэт у беларускім грамадзтве ды меў адпаведныя кваліфікацыі. Актывам старэйшых і быў складзены сьпіс гэткіх людзей у ліку 72 асобаў, у якім на першым месцы стаялі паслы Польскага Сойму з Заходняй Беларусі, удзельнікі Ўсебеларускага кангрэсу 1917 году, вайскавікі таго часу й старэйшыя заслужаныя грамадзкія дзеячы.

28 сьнежня 1947 г. адбылася інаўгурацыйная сэсія, на якой гэтыя 72 кандыдаты склалі ўрачыста прысягу вернасьці БНР на рукі Прэзыдэнта БНР. Тут жа быў сфармаваны і Ўрад БНР. Далей папаўненьне праходзіла павальней — паводле таго ж прынцыпу. Пад канец 1954 г. Рада мела 142 радных.

Прыблізна да 1956 г. сябры Рады выяўлялі максымальную актыўнасьць і энтузіязм. Рада БНР здабыла сабе пашану ня толькі сярод эміграцыі іншых народаў, але прадстаўнікамі Рады трактаваліся праблемы й зь дзейнікамі дзяржаўных народаў (з Данскім Урадам у 1948 г., з Ватыканам у 1951 г. ды іншымі). Вялікую ролю адыграла БНР у арганізацыі амэрыканцамі акцыі «вызваленьня ад бальшавізму» (Амэрыканскі камітэт, радыё «Вызваленьне

не», Інстытут вывучэньня СССР) і ў арганізацыі Лігі вызваленьня народаў Савецкага Саюзу (Парыскі Блёк).

Зьмена курсу ў міжнароднай палітыцы Амэрыкі — ад «сьцюдзёнай вайны» да каагзыстэнцыі[926] і разьвіцьцё нуклеарнае зброі — стварыла псыхоз стабілізацыі. На людзей, якія свой удзел у нашым вызвольным руху ўзаляжнялі ад міжнароднай каньюктуры, гэта моцна падзеіла. Пэрспэктыва вызваленьня Беларусі здавалася ім занадта далёкай, калі не безнадзейнай. Каля чвэрці сяброў Рады сталіся абыякавымі, пасыўнымі — улучна з выпадкамі выразнага дэзэртырства. 12 высокавартасных сяброў адыйшло на вечны супакой.

Рада патэнцыяльна аслабела, тым часам як бальшавіцкая прапаганда супраць нас непамерна ўзмацнілася. Апрача брашураў пашквільнага характару, Радзе БНР, Усебеларускаму кангрэсу 1917 году пачалі прысьвячацца вялікія артыкулы ў гэткіх органах, як «Полымя», «Весьці Акадэміі Навук БССР».

Сяньня тым больш відавочна, што Рада БНР небясьпечная для акупанта. Бальшавіцкія навукоўцы ў пошуках «абгрунтаваньня» юрыдычна-праўных падставаў «сувэрэннасьці» БССР атакуюць БНР, хоць міжволі ды ўскосна мусяць даваць і довады, што гэткія правы сувэрэннасьці належаць Радзе БНР, не зважаючы на перабываньне яе не на сваёй тэрыторыі.

Зразумела, чаму. Той факт, што Рада БНР знаходзіцца на эміграцыі, не зьмяняе істотна ейнага значаньня. Абапіраючыся на беларускую эміграцыю, Рада БНР сталася адзіным праўным рэпрэзэнтатам сувэрэнных правоў беларускага народу, бо дзяржаўны лад Беларускае Народнае Рэспублікі быў зьнішчаны брутальна чужымі варожымі сіламі Савецкай Расеі супраць волі беларускага народу, бо народ гэты пазбаўлены акупантам свабоды ды ўсякіх магчымасьцяў выяўленьня свайго голасу, бо беларуская эміграцыя як адзіная вольная частка сувэрэннага беларускага народу мае ня толькі права, але і абавязак змагацца ўсімі магчымымі спосабамі за вызваленьне БНР ды, зразумела, мае права і абавязак тварыць дзеля гэтае мэты арганізацыі й палітычны орган, што кіруе гэтым змаганьнем ды рэпрэзэнтуе паняволеную БНР у міжнародным палітычным жыцьці да часу вызваленьня яе.

Органам гэтым — Рада БНР на выгнаньні, якая сталася ня толькі кіраўнічым цэнтрам і палітычным рэпрэзэнтатам беларускае эміграцыі, але й натуральным спадкаемцам тае Рады БНР, што мела паўнамоцтвы Ўсебеларускага кангрэсу 1917 году.

Выходзячы з вышэйсказанага, трэба зрабіць наступныя высновы:

1. Беларуская эміграцыя мусіць за ўсякую цану захаваць і ўтрымваць Раду БНР на выгнаньні як адзіны палітычны й рэпрэзэнтатыўны орган, што стаўся натуральным спадкаемцам тае Рады БНР, якая была абраная Усебеларускім Кангрэсам 1917 году.

2. Дзеля таго, што апошнімі гадамі адбыліся некарысныя зьмены ў пэрсанальным складзе Рады БНР і дзейнасьць ейная падупала — канечна трэба

---

[926] **Каагзыстэнцыя** (ад анг. *coexistence*) — суіснаванне.

зрабіць строгі падлік бэнээраўскіх сілаў, папоўніць недахопы й правесьці рэарганізацыю Рады.

3. Паколькі за 25 год існаваньня Рады БНР на выгнаньні адбыліся паважныя зьмены ў міжнароднай палітычнай сытуацыі ды значныя зьмены ў беларускай эміграцыі — трэба ўзяць на ўвагу гэтыя зьмены пры рэарганізацыі Рады БНР, каб датарнаваць яе да цяперашніх абставінаў.

II. Арганізацыйная база рады БНР на выгнаньні

Трэба абаперці Раду БНР на шырэйшай грамадзкай аснове. Прапануецца, каб сябры Рады абіраліся грамадзтвам, за выняткам спэцыялістых, якіх вызначае Прэзыдыюм Рады. Дзеля таго, аднак, што ў беларускай эміграцыі няма ніводнае палітычнае арганізацыі, а грамадзкія арганізацыі ня ўсе маюць выразнае палітычнае ўстановішча, прапануецца стварыць масавую палітычную арганізацыю бэнээраўцаў і на ёй найперш абаперці Раду БНР на выгнаньні. Мабілізацыя бэнээраўцаў патрэбная й затым, што нашая бэнээраўская дзейнасьць ладна заняпала, а наступ бальшавіцкае прапаганды супраць БНР узмацніўся.

Гэтая масавая арганізацыя магла-б называцца Лігай БНР, у аснову свае ідэалёгіі й праграмы магла-б узяць Устаўныя Граматы Рады БНР, рэзалюцыю Усебеларускага кангрэсу 1917 г. ды пастановы Рады БНР. Ліга БНР запоўніла-б той прабел, які існаваў у нас дагэтуль: мы маем Раду БНР — дзяржаўную ўстанову, але ня маем ніводнае палітычнае арганізацыі, якая давала-б палітычнае ўзгадаваньне нашаму грамадзтву.

Пачынальнікамі Лігі БНР, даючы добры прыклад для іншых, павінны былі-б стацца ўсе цяперашнія сябры Рады БНР. Да гэтага асноўнага ядра дайшлі-б бэнээраўцы, што ня сталіся раднымі. Гэткія бэнээраўцы ёсьць у кажным беларускім асяродзьдзі, але яны (зрэшта й радныя) чамусьці не ўцягваліся ў палітычную дзейнасьць, ад іх не вымагалася маральнага й матэрыяльнага падтрыманьня гэтае дзейнасьці, адказнасьць і ўтрыманьне якой ускладалася найперш на радных. Вэрбаваньнем гэтых бэнээраўцаў мусілі-б заняцца мясцовыя сэктары Рады, засноўваючы мясцовыя аддзелы Лігі БНР. Пасьля заканчэньня вэрбаваньня ўсіх пераконаных бэнээраўцаў, трэба было-б зрабіць арганізацыйны зьезд Лігі БНР, на якім былі-б прынятыя праграма й статут. Заснаваньне Лігі БНР было-б прыгожай і карыснай падзеяй на юбілейны 1968 год як стварэньне жывое памяткі 50-годзьдзя абвешчаньня незалежнасьці БНР. За арганізацыю Лігі трэба было-б узяцца як найбарджджэй, каб можна было-б абаперціся на ёй пры ўтварэньні рэарганізаванай Рады. Для ўспраўненьня арганізацыі Лігі варта было-б стварыць адмысловую камісію з ініцыятывы Прэзыдыюму Рады.

Праз арганізацыю Лігі БНР можна было-б узмоцніць палітычную дзейнасьць, якой дагэтуль мы займаліся толькі выпадкова. Было-б тады каму заняцца рознымі палітычнымі праявамі, навет масавымі (прыкладам, дэманстрацыямі), якія канечна патрэбныя ў нашым палітычным жыцьці, у змаганьні, а якімі з розных прычынаў ня могуць займацца грамадзкія арганізацыі. Тыя-ж грамадзкія арганізацыі ці аддзелы іхныя, што займаюць

прабэнээраўскае становішча, маглі-б далей залічацца да заплечча Рады БНР ды абіраць ад сябе радных.

Гэткім парадкам арганізацыйнай базай Рады БНР былі-б Ліга БНР ды бэнээраўскія грамадзкія арганізацыі. Ня вылучаюцца і іншыя беларускія грамадзкія арганізацыі, якія захацелі-б мець сваіх прадстаўнікоў у Радзе БНР. Трэба сьцьвердзіць, што ў некаторых небэнээраўскіх арганізацыях адбываецца пэўнае зрушша ў кірунку БНР, і абапіраньне Рады БНР на арганізаваным грамадзтве ўзмоцніла-б гэтае зрушша й дало-б магчымасьці гэтым арганізацыям стаць на бэнээраўскі грунт.

III. Склад і характар рэарганізаванае Рады БНР

Выбары радных маюць праводзіць дэмакратычным спосабам арганізацыі, пра якія была мова вышэй, на кажную кадэнцыю працягам 5 год згодна з адмысловай выбарчай інструкцыяй. Прапарцыйнасьць выбараў усталіць сэсія Рады.

Каб забясьпечыць наяўнасьць у Радзе БНР патрэбных спэцыялістых і кампэтэнтных людзей у палітычных справах — Прэзыдыюм Рады вызначае пэўны працэнт радных, азначаны сэсіяй, якія маюць патрэбныя кваліфікацыі — зь іхнае згоды й пры пацьверджаньні старшынём Рады.

Рэарганізаваная Рада ня мусіла-б быць вельмі лічнай (40–50 сяброў), але мусіла-б быць актыўнай ды высокаякаснай у сэньсе ідэйным, інтэлектуальным і палітычным. Выканальны орган Рады — Прэзыдыюм яе — мае быць кіраўнічым цэнтрам сэктараў і сталым палітычна-выканальным органам Рады БНР. Склад Прэзыдыюму Рады БНР ды кампэтэнцыю старшыні яго й паасобных сяброў азначае статут Рады.

IV. Як правесьці рэарганізацыю Рады БНР?

а. Першым чынам Прэзыдыюм Рады ці адмысловая камісія з даручэньня старшыні Рады мусіць пазбыцца шкоднага й бязьдзейнага элемэнту із складу Рады перад скліканьнем сэсіі Рады. б. Прэзыдыюм Рады або вызначаныя радныя мусяць дарыхтаваць праекты рэарганізацыі (улучна з гэтым праектам), якія мусяць быць разгледжаныя й прадыскутаваныя ў сэктарах Рады перад сэсіяй, каб радныя, што возьмуць удзел у сэсіі, мелі свой азначаны погляд на рэарганізацыю. Праекты гэтыя мусяць быць разасланыя сэктарам прынамся за месяц перад скліканьнем сэсіі. Сэктары, якія ня здолеюць узяць удзелу ў сэсіі, павінны прыслаць свае пісьмовыя камэнтары што да праектаў у Прэзыдыюм Рады дзеля прадстаўленьня на сэсію. в. Праект ці праекты рэарганізацыі мусяць быць пастаўленыя на парадак дня Сэсіі. Калі праект рэарганізацыі будзе прыняты на сэсіі — мусіць быць пастаноўлена таксама, як і калі адбудзецца рэарганізацыя Рады паводле прынятага праекту.

*14 лютага 1968 году*[927].

---

[927] Аўтар «Праекта» — Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

# *РАЗДЗЕЛ IV:*
# ЛІСТАВАННЕ

*Для Міколы Абрамчыка, жыхара Парыжа, лісты былі асноўным сродкам зносінаў з раднымі. Сёння іх можна знайсці ў фондах Льва Гарошкі і Часлава Сіповіча ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане, у фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у Нацыянальнай бібліятэцы і архіве Канады ў Атаве, сярод папераў Аўгена Каха                ноўскага, Віталя Кажана і іншых ў архівах БІНіМа, а таксама ў сямейных зборах шэрагу дзеячаў, прыкладам, у паперах Аляксандра Стагановіча, што захоўваюцца ў ягонай дачкі Тамары Стагановіч (Кольба). Колькасць вядомых лістоў Міколы Абрамчыка можа сягаць некалькі соцень. Пры гэтым яны за рэдкімі выняткамі не публікаваліся дасюль. Першая і адзіная сур'ёзная спроба публікацыі лістоў Міколы Абрамчыка была зробленая Янкам Запруднікам на падставе ўласнага архіву[928].*

*Сістэматызаванае выданне эпісталярыя Прэзідэнта яшчэ чакае свайго часу. У гэтым раздзеле зроблена выбарка лістоў Міколы Абрамчыка, а таксама некаторых радных, што прыдадуцца да разумення зместу пратаколаў і дакументаў ды гісторыі Рады БНР наогул.*

*Апублікаваныя тут лісты паходзяць з архіваў БІНіМа. Асаблівасцю эпісталярыя Міколы Абрамчыка з'яўляецца заўважная колькасць памылак, вельмі своеасаблівая лексіка, сінтаксіс і пунктуацыя. Большасць лістоў пісаныя ад рукі, машынапісных выяўленыя адзінкі. Пры публікацыі лістоў былі расстаўленыя знакі прыпынку і выпраўленыя відавочныя памылкі. Аднак адметнасць мовы аўтара захаваная.*

---

[928] Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, Старшынём Рады БНР (1953–1969) // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 217–340.

# ЛІСТЫ МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА

*

*12.1.49*
*Парыж.*

Высокапаважаны й дарагі Спадар Старшыня[929],

Вашыя абодвыя лісты (з 25.11 і 28.12.48 г.) атрымаў, за якія вельмі Вам удзячны. З гэтых абодвых лістоў бачу, якую Вы вялікую працу ўжо прарабілі ў сваім рэфэраце[930]. Гратулюю Вас і моцна цешуся з Вашай лініі, тактыкі й такту і тых вынікаў, якіх Вам удалося дасягнуць у тых так запраўды цяжкіх абставінах.

Віншую Вас адначасова з Новым Годам і жадаю Вам шмат шчасьця ў Вашым прыватным жыцьці і ўдачаў на ніве грамадзкай працы. Дай Божа, каб гэты 49 год быў апошнім годам нашага туляньня на чужыне!

На Ваш першы ліст я адказаў праз сп. Тамашчыка, на гэты другі чакаў таксама др. Тумаша з др. Гагалінскім, якія мне пісалі нядаўна, што каля 10 г[этага] м[есяца] маюць быць у Парыжы, хочучы выкарыстаць атрыманыя з запазьненьнем англ. візы на зьезд САБЭ[931]. Але, дапускаючы магчымасьць іхняга новага спазьненьня, хочу Вам хоць збольшага адказаць на некаторыя пытаньні.

Вось-жа 1. Вельмі добра, што Вы намерыліся ўпарадкаваць сваіх прадстаўнікоў па іншых краінах ды ахапіць як можна шырэйшае кола гэтых краінаў. Добра гэта шчэ таму, што заіснуе нейкі парадак падпарадкаванасьці — эвэнтуальна і адказнасьці нашых зьверхніх чыньнікаў тых краінаў па адношаньні да Вашага рэфэрату Вонк. спраў. Дагэтуль, трэба прызнаць, у нас наглядаўся пэўны самапас, і нат тыя нашыя прадстаўнікі, якіх я асабіста ў свой час быў вызначыў у вынятковым парадку, як праф. Ж. Грышкевіча на Англію і Ніхаёнка на Амэрыку, як бачу, ня былі ў службовай залежнасьці ад Мін. Вонк. Спр., а іншыя дзеячы зусім на собскую руку ў гэтай дзялянцы нашай палітыкі, зразумела, маглі дапусьціць шмат памылак і не гаворачы ўжо аб контравэрсах.

Намечаныя Вамі кандыдаты (зацытаваныя ў гэтым да мяне лісьце) — зусім адпаведныя. Хачу, аднак, зрабіць некаторыя заўвагі, якіх вымагаюць хутчэй пэўнага роду лякальныя абставіны. Датычыць гэта ў першую чаргу Швэцыі. Асоўскі — бязумоўна вельмі салідны і паважаны чалавек, але ёсьць там яшчэ Васіль Лукашык[932] (таксама радны), старэйшы векам і старэйшы

---

[929] Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму, тагачаснаму старшыні Ураду БНР.

[930] Маецца на ўвазе міністэрства замежных спраў.

[931] З’езд САБЭ адбываўся ў Парыжы 28 лістапада — 1 снежня 1948 г.

[932] **Васіль Лукашык** (1905, Сакольскі пав. Гродзенскай губ. — 17.03.1975, Швецыя), грамадска-культурны дзеяч, выдавец. Вывучаў паліталогію ў Віленскім

грамадзкім стажам у нашым вызв. руху (былы вельмі актыўны грамадавец, потым (40 г.) бурмістар Беластоку). На вонкавую рэпрэзэнтацыю Ас[оўскі]. бадай што быў-бы лепшы, але ў бел. вызв. руху ён замалады (узяў удзел з 1939 г.), так што Лукашык усё роўна патрэбен быў-бы яму як дарадчык. Абодвы гэтыя спадары жывуць у в. добрай згодзе. Ня думаю, каб назначэньне Вамі Ас[оўскага]. моцна ўдарыла на амбіцыі Лукашыка, але хто ведае? Ува ўсім выпадку патрэбна тут пэўная абярэжнасьць. Таму раіў-бы я Вам лепш зьвяртацца за згодай у першую чаргу да Лукашыка, а пры гэтым запытацца, калі-б ён (Лукашык) зь якіх-небудзь прычынаў ня мог абняць гэтае функцыі, каб Вам парэкамэндаваў кагосьці іншага з пражываючых у Швэцыі. Калі-б ён Вам парэкамэндаваў Ас[соўскага]. — папрасіце яго тагды застацца ці лепш прыняць функцыю дарадчага. Агулам-жа, як адзін, так і другі (адкідаючы пэўныя мінусы таго й другога) амаль роўназначныя кандыдаты як у сэньсе маральным, так і палітычнай пэўнасьці. Тактычна, аднак, трэба зьвярнуцца ўсё-ж такі ў першую чаргу да Лукашыка — адрыс яго такі самы, што і ў Ас[оўскага]. (жывуць па суседзтву, але абодва карыстаюцца адрысам маткі Асоўск.).

2. ЗШПА. Як ужо ведаеце, быў ад мяне там прадстаўніком Ніхаёнак. Гэта чалавек год 27. Вельмі рэпрэзэнтатыўны вонкава (ён і Асоўскі, мусіць, найвялікшыя (найвышэйшыя) людзі Беларусі). Добры эўрапэйскі выгляд — вельмі талковы й здольны. Асьвета — польская Віленская гімназыя. Знае добра ангельскую й франц. мову — амэрыканскае падданства. Радны. Палітычна інтэлектуальны, аднак, бязумоўна не раўня інж. Гарошку[933]. Але паколькі Ніхаёнак уважае сябе на сёньня прадст. на ЗША, з вызначэньнем Гарош. мог-бы ён зразумець як адсовываньне, як недавер. Думаю, таму было-б лепі пакінуць яго на далі на гэтым становішчы, паведаміць яго толькі, што ён цяпер пераходзіць у Вашае ведамства. Разам з гэтым вытлумачыць гэтую сытуацыю інж. Гарошку. Гарошка разам з гэтым як 2-і віцэ-старшыня нашага Ураду меў бы астацца як дарадчыкам Ніхаёнка, так і пасярэднікам Вашым кантролям, ды ў выпадку патрэбы яны-б спалучаліся для пэўных найважнейшых дэмаршаў.

Інж. Гарошка яшчэ не пісаў сюды, але яго брат а. Леў[934] кажа, што ён (інж. Гарошка) ужо ў яго сястры. Адрэс сястры гэтакі: *Soroko Anna. 59–40, 57th Drive, Maspeth, N. Y. USA.*

---

універсітэце. Быў удзельнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Беластоку. У 1939–1941 гг. арганізоўваў беларускія школы на Беласточчыне, працаваў загадчыкам дзіцячага дома ў Беластоку. На пачатку нямецкай акупацыі стаў бургамістрам Беластока. Па даносе быў арыштаваны гестапа, апынуўся ў канцлагеры Асвенцым. Здолеў уцячы ў Варшаву, адкуль быў вывезены на прымусовыя работы ў Нарвегію. Разам з групай беларусаў у 1944 г. уцёк у Швецыю. У 1948 г. арганізаваў Беларускую грамаду ў Швецыі.

933 Маецца на ўвазе Мікола Гарошка.

934 Маецца на ўвазе а. Леў Гарошка.

Для Італіі: Рыжы[935] — радны, бязумоўна, адзіны надатны ў Рыме. Ёсьць там старэйшы паважнейшы ксёнзд Татарыновіч[936], але гэты апошні — вельмі пасыўны ды зь іншых прычынаў не надаецца. Рыжы, аднак, сёньня зьяўляецца вучнем сэмінарыі першых клясаў, і было-б можа непаважным яго выстаўляць у такой ролі. Таму тым часам з гэтым стрымайцеся, я падумаю. Можа, яму вышлецца на разе ўпаўнамоцтва ад САБЭ, і паглядзім, як ён будзе спраўляцца.

Што да рэшты Вашых кандыдатаў, усё на мейсцы. Ня маю ніякіх засьцярогаў.

На гэтым пакуль што кончу. Спішамся. Калі на днях не зьявіцца Тумаш — адкажу на рэшту пытаньняў. Агулам яшчэ раз паўторываю — лінія і тактыка Ваша мяне вельмі цешаць, захоплівае.

Брашуры Рыдлеўскага вышлем з 10 на днях, бо вышлі яны з некаторымі друкарскімі памылкамі — таму робяцца папраўкі. Большую пачку прывязе Тумаш.

Жыве Беларусь!

*Ваш М. Абрамчык.*

---

935 **Уладзіслаў Рыжы-Рыскі** (1925 (?), в. Латыгаль (сёння Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 02.03.1978, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч. У гады Другой сусветнай вайны працаваў у структурах БНС у Глыбоцкай акрузе, быў сакратаром аддзела моладзі БЦР. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, потым вучыўся ў Лювенскім універсітэце (Бельгія), адкуль выехаў у Рым і дзе нядоўгі час вучыўся ў Папскім універсітэце. Адтуль перабраўся ў Мадрыд, дзе заснаваў фантомны Інстытут беларусаведы імя Л. Сапегі. У 1958 г. выехаў у ЗША, дзе вучыўся ў Прынстанскім універсітэце. Заснаваў уласную рэлігійную структуру «старакаталіцкую субожню» і ад студзеня 1960 г. усклаў на сябе абавязкі апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў. Выдавец шэрагу беларускіх перыёдыкаў.

936 **Пётра Татарыновіч** (02.06.1896, в. Гайнін Слуцкага пав. Менскай губ. (сёння Ляхавіцкі р-н Берасцейскай вобл.) — 03.09.1978, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, педагог, перакладчык, публіцыст. Пасвечаны ў святара ў 1921 г. Працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945–1949 гг. вучыўся ў Рыме, абараніў доктарскую дысертацыю, прысвечаную Кірылу Тураўскаму. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс «Źnič», які і рэдагаваў цягам 1950–1975 гг. Заснаваў беларускую рэдакцыю радыё Ватыкана і быў галоўным яе супрацоўнікам.

*

*14.1.49*

Высока Паважаны Сп. Старшыня[937].

Учора пісаў Вам у справе прадстаўнікоў. Сяньня адказаў сп. Мэрляку ў Аргэнтыну на яго ліст, у якім ён прасіў мяне, трактуючы справу сьпешнай, вызначыць кагось як прад. БНР на Аргэнтыну.

Уважаючы справу кандыдата на Аргэнтыну з Вамі ў прынцыпе ўзгодненай, я выслаў сп. Мэрляку пасьведчаньне аб гэтым.

Тэкст гэтага пасьведчаньня па-францускý й па-беларуску залучаю тут для Вас. Вы ў далейшым можаце яго змадыфікаваць па свайму ўзгляднeньню і эвэнтуальна выстаўляць іх сваім прадстаўнікам ад свайго імені. Было-б добра, каб яго шчэ зрадагавалі і па-ангельску (у Вас, здаецца, я памятаю, ёсьць добры англамовячы).

Калі-ж Вы па якіхсь меркаваньнях, тэхнічных ці тактычных, жадалі-б, каб такія пасьветчаньні выстаўляў я — нічога ня маю супраць. Прасіў-бы толькі ў апошнім выпадку прыслаць мне ангельскі тэкст.

2-ая справа:

Атрымаў ад епіскапа Сергія ліст, вытрымку зь якога залучаю Вам. Пасьветчаньне, што ён зьяўляецца апякуном БАПЦ, вышліць яму інж. Рыдлеўскі ад САБЭ, а таксама і сьпісак дэлегатаў.

На рэшту пытаньняў трэба каб адказаў наш міністар асьветы і культуры[938]. Не зьвяртаюся безпасярэдня да нашага міністра асьветы, а да Вас таму, што гэтую справу патрэбна было-б Вашаму Ураду прадыскутаваць супольна.

Я ўважаю гэтую справу за вельмі важную, і прашу Вас, сп. Старшыня, калі не супольна з усімі сябрамі, дык прынамсі з мін. асьветы добра абгутарыць.

Уладыка Сергій, бачыце, хочыць нам дапамагчы. Ці мы маем гэтага добрага чалавека, не беларуса, пакінуць самога, ці выкарыстаць яго добрую волю і авансаваць гэту нашу балючую справу да канца. На паўдарозе стоячы (у такім стане асабліва) нам вельмі рызыкоўна — калі ўсё гэта хлясьне — будзе потым для нас вельмі прыкра. Патрэбна-б было, па-мойму, зрабіць усе высілкі, каб знайсьці прынамсі аднаго добрага кандыдата на епіскапа, які-б усю нашу царкоўную справу ўзяў моцна за рогі. Чалавека добра выробленага грамадзка-палітычна і маральна загартаванага. Зразумела, на такіх кандыдатаў можым разраховываць толькі з сьвецкіх (бо з існуючых духоўных ня знойдзем). Пэўне-ж гэта-б выклікала напачатку кпіны і пратэсты зарубежнікаў — але зьвяртаць на гэта ўвагу няма ніякага сэнсу. Украінскія епіскапы, як мне ведама, у вялікай частцы таксама зь сьвецкіх. Епіскап Скрыпнік[939],

[937] Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму.

[938] Функцыю міністра культуры і веравызнанняў выконваў у той час Аляксандр Орса.

[939] Маецца на ўвазе архіепіскап **Мсціслаў (Сцяпан) Скрыпнік** (1898–1993), украінскі рэлігійны дзеяч, іерарх УАПЦ.

напрыклад, былы пасол у пол. Сэйм — сяньня ўжо, пераехаўшы ў Канаду, атрымаў там мітрапаліта і прарабляе вялізарную справу для ўкраінцаў.

Было-б вельмі добра, каб Вы заахвоцілі і ўгаварылі на гэта сп. Тамашчыка і яшчэ кагось аднаго. Рабіце гэта ўсё толькі сьцісла замкнута, каб не паддаваць галоснасьці перад даконченым фактам. Калі-б Тамашчык згадзіўся ці хто іншы, тагды ціханька без усялякага афішаваньня ідуць у манахі (да ўкраін.) дзесь на 2 месяцы, а потым прыедуць у Парыж зь епіскапам Сергіем ці яшчэ лепш хіратанізуюцца ў Нямеччыне, а ў Парыжу зробім урачыстасьць.

Хочыць пайсьці ў манахі Дзямідаў — каб потым кандыдатаваць у епіскапы. Побач з Тамашчыкам ці кімсь іншым паміж Тамашчыка — Дзямідаў мог-бы быць. Але як адзін сам ня даў-бы рады. Заняпаўся-б. Да таго, ня ведаю, ці ўдасца яму абыйсьці некаторыя фармальнасьці, каб ня стаць у калізію з канонамі. Што ў яго быццам ня зусім усё ў парадку з жанімствам[940].

Прашу Вас і сп. мініст. асьветы заняцца гэтай справай — увайсьці ў перапіску з інж. Тамашчыкам. Толькі трактаваць усё гэта на разе за справу сакрэтную.

Жыве Беларусь.

*М. Абрамчык.*

*

*7.2.49*

*Paris*[941]

У Бэльгіі я правёў тыдзень часу. Паездка была выклікана запросінамі Лювэнскага ўнівэрсытэту (сэкцыяй інтэрнацыянальных студыяў) прачытаць лекцыю аб Беларусі. Выступ мой быў шырака разрэклямаваны — апроч афішаў у ўнівэрсытэцкіх будынках былі выпушчаны яшчэ лятучкі, адзін з экз. якой далучаю тут для Вас. Як бачыце, была ў гэтай лятучцы дапушчана памылка, бо прадставілі мяне Прэзыдэнтам Ураду — але на прыёмах і для прэсы была зробленая папраўка.

З паездкі сваёй я вельмі задаволены. Была выяўленая вялікая зацікаўленасьць нашай праблемай і сымпатыі з боку вельмі паважаных і ўплывовых бэльгійскіх колаў. Апроч майго публічнага дакладу, быў яшчэ мне арганізаваны *reception* (прыняцьцё) у цясьнейшым крузе, у якім прынялі ўдзел выдатнейшыя прадстаўнікі бэльгійскага навуковага сьвету. Вельмі добра ўладжана справа ў сэньсе базы для студыяў для нашае моладзі, як вышэйшых, так і сярэдніх тэхнічных школах. На наступны год зможам уладзіць там паважную колькасьць нашае моладзі. Падгатоўкай зьбіраньня кандыдатаў я даручыў пакуль што Б. Рагулю — зацьвярджальныя, аднак, лісты кандыдатаў я, на просьбу бэльгійцаў, згадзіўся ўзяць на сябе, зразумела, калі шчэ такую лісту прышлюць — буду кансультавацца ў Вас. Для апекі беларускай студ.

---

[940] Мікола Дзямідаў быў жанаты на той час.

[941] Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму.

моладзьдзю і наогул беларусамі ў Бэльгіі — паўстаў Бэльгійска-Беларускі камітэт на чале з прафэсарам *V. Denis* і сакратаром *Canwelaert Robertam*. Гэты апошні цалком адданы нашай справе — вельмі культурны чалавек — энэргічны манах і мае добрыя палітычныя кантакты, бо сын Прэзыдэнта Бэльгійскага парлямэнту. Агулам нашыя пазыцыі ў Бэльгіі моцныя. Камітэт апекі беларусамі перад маім выездам выбачаўся, што не маглі зрэалізаваць праектаванага імі мне прыняцьця з прычыны эпідэміі грыпу іхняй службы цэлага дому — запрасілі таму на пазьней. Буду, здаецца, там дзесь пад канец сакавіка. Пястую скрытную думку, каб пры іх помачы знайсьці змогу прыладзіць дзесь у Бэльгіі з пару людзей нашага Ураду. Не хачу яшчэ аб гэтым гаварыць надзейна, але падставы пэўныя верыць, што ўдасца, маю. Папрашу таму Вас на ўсялякі выпадак прыслаць мне сваю пэрсаналію і пэрсанальныя дадзеныя Вашай сям'і. Калі-б гэта ўдалося — было-б вельмі добра, бо найперш кантакт з Парыжам в. лёгкі (з Брусэлі да Парыжу 4 гадзіны язды), а потым і база там наша ўжо добрая, а трэба верыць, будзе яшчэ там разрастацца.

Ну, але гэта праект пакуль што. Канкрэтна-ж патрэбна для Бэльгіі праваслаўнага сьвятара. Матэрыяльная для яго база гарантавана ў той спосаб, што будзе яму знойдзена нейкая лёгкая (дзесь у ўстанове нейкай) праца, якая яму дасьць змогу ўтрымаць сям'ю й выконваць свае душпастарскія абавязкі над прав. беларусамі ў Бэльгіі. Зможа навет, калі захоча, і студыяваць на ўнівэрсытэце філёзофію ці гісторыю. Калі ў Вас знойдзецца адпаведны кандыдат — з візай затрымкі ня будзе. Папрашу там Вас параіцца з кім належыць у Вашым Урадзе і падаць мне такога кандыдата. Зразумела, кандыдат гэты мусіць быць з юрысдыкцыі епіск. Сергія — а не зарубежжа. Прасіў-бы Вас вельмі абярэжным быць у выбары і калі-б не знайшлося настолькі адпаведнага з ужо высьвечаных сьвятароў, дык лепі падшукаць кагось з новых, падрыхтаваць яго трохі й высьвяціць. Бо галоўнай вымогай ад гэтага сьвятара — гэта каб ён быў грамадзка-актыўны чалавек і чалавек калі з слабой асьветай, дык прынамся з культурнымі задаткамі. Якогась прымітыўнага «папка» няма сэнсу слаць, бо замест карысьці будзем мець толькі абузу, а часам яшчэ горш — кампрамітацыю. Бачыце, бэльгійскія каталіцкія дзеячы ідуць нам на спатканьне і ў дапамозе духовай апекі для праваслаўных. І гэта мы мусім выкарыстаць умела, а галоўная, што сягоньня гэта быў-бы адзіны з праваслаўных прыходаў з моцнай матэрыяльнай базай і базай сталай. Паўтараю таму, каб Вы ня надта сьпяшаліся ў выбары, каб разгледзіліся — і лепі пашукаць новага да высьвячэньня кандыдата — з грамадзка арганізацыйнымі задаткамі і нахіламі да навукі. Ідэальным было-б, каб гэта быў манах — пастудыяваўшы з пару год — выйшаў-бы наш кандыдат на епіскапа, але гэта не ўмова — можа быць жанаты, абы адпавядаў іншым вышэй зазн. мной умовам[942].

---

[942] У выніку такім беларускім святаром стаў Аўген Смаршчок, які быў пасвечаны ў 1950 г. і пасяліўся ў Бельгіі.

Атрымаў сяньня і ад Ст. Станкевіча (таксама з 25.1.) досыць алярмуючы ліст у справе «Бацькаўшчыны», поступу зарубежніцтва. У справе «Бацькаўшчыны» цяжка мне на разе штось абяцаць. З Францыі абсалютна нельга штось выціснуць. Зьезд САБЭ і выданьне брашуры[943] абыйшліся каля ста тысяч франкаў, так што яшчэ ад гэтага хлопцы ня могуць вычухацца. Цэнтраля САБЭ ў пачатковай арганізацыйнай стадыі. У Лёндане абсталёўваюць свой дом[944] — словам, усюды недахопы, бяда. «Бацькаўшчыну» трэба неяк за ўсякую цану ўтрымаць пакуль што сіламі мяйсцовымі. А з часам прыйдзе помач і ад нас.

Пішыць мне Стась, што ў «Промэтэй» пхнуцца зарубежнікі, і ўкраінцы іх падтрымліваюць. Украінцы аргумэнтавалі сваю падтрымку тым, што я *«былы кіраўнік камсамолу»*. Цікавая аргумэнтацыя! Не хачу прысваіваць сабе гэтага незаслужанага «гонару», бо ня толькі «кіраўніком», але і радавым камсамольцам я ніколі ня быў. Зрэшты, калі-б быў нат і такім, дык хто-ж тагды ў вачох гэных украінцаў мусіў-бы быць больш непрыемлімым, «камсамолец» Абрамчык ці сябры ЦК кам. партыі Зах. Беларусі, якімі былі Астроўскі і Сабалеўскі — як кіраўнікі «Грамады»? Цікавая лёгіка!

Цікавіць мяне вельмі, як у вас стаіць справа з дагаворам з УНР і як запраўды выглядае гэтая ўся падтрымка зарубежжа з боку ўкраінцаў?

Стась між іншым пішыць, што адны толькі палякі рашуча й выразна (у «Прамэтэю») выказаліся, што прызнаюць толькі БНР, і Стась гэта лічыць не зусім для нас выгадна палітычна. Я ў гэтым нічога благога ня бачу, бо палякі як людзі, разумеючыя глыбей дух Захаду, аддаюць сабе выразна справаздачу, што ўсякі кантакт з «Астроўшчынай» іх-бы моцна кампрамітаваў саміх. Таму яны, як і ўсе іншыя салідныя чыньнікі Цантр. Усходняй Эўропы ніколі ня будуць вязацца з астроўшчынай. Ці варта таму надта праймацца тым, што ўкраінцы заляцаюцца да Астроўскага — ці не спусьціць іх — хай сабе «жэняцца». Начы выглядае, што мы промся за ўкраінцамі, пацалуем у здагонку і што бяз іх абыйсьціся ня можам. Я думаю, калі мы выкажам меншую да іх зацікаўленасьць, дык змусіць гэта тагды разумнейшых украінцаў задумацца.

*Ваш М. Абрамчык.*

---

[943] Маецца на ўвазе брашура Лявона Рыдлеўскага *Biélorussie. Aperçu sommaire de l Histoire de la Nation biélorussienne et du Mouvement de Libération Nationale* (Парыж, 1948).

[944] Беларускі дом у Лондане быў набыты ўвосень 1948 г.

*

*21.3.49*

В. П. Сп. Старшыня[945],

Сяньня раніцай я дабраўся нарэшце да свае хаты і хачу адгэтуль у пару словах падзяліцца сваім уражаньнем з Канстанцу[946], бо заўтра еду да Парыжу[947] і здаецца на нейкіх два тыдні адарвуся ад усіх нашых справаў у Нямеччыне.

Вось-жа перадусім я вельмі задаволены, што адведаў нашага епіскапа. І задаволены ня толькі таму, што грунтоўна выясьніў справу нашае прав. царквы, а яшчэ й таму, што епіскап зрабіў на мяне вельмі прыемнае ўражаньне. Пасьля доўгай зь ім гутаркі я прыйшоў да моцнага перакананьня, што мы можам сьмела ангажавацца зь ім на акцыю змаганьня за Б. Аўт. Прав. Царкву, што чалавек гэта <u>моцны</u> і цалкам ды шчыра <u>нам адданы</u>.

Спаткаў мяне еп. Сергій чуць не з сьлязьмі. Спатkаліся ў мы царкве, дзе а. Анатоль[948] правіў службу Божую. У епіскапа я прабыў каля 20 гадзін, і ўсё абгутарылі ў дэталях.

Перадусім некалькі словаў аб асобе Епіскапа. Гэта вельмі цікавы й сымпатычны старац. Як вонкавым сваім відам, так і духовай камплекцыяй ён робіць моцнае ўражаньне <u>сапраўднага епіскапа</u>. Закінуць яму штось у гэтым сэнсе нашыя праціўнікі ня здолеюць. У манашастве знаходзіцца зь дзяцінства (з 14 гадоў), прайшоў павольна і кананічна ўсе градацыі, прайшоў і бальшавіцкія тартары. Да нас прывяло яго манашаства-праваслаўвія. Нашую сытуацыю ён ацаніў правільна і ўяўляе яе сабе зусім рэальна без уселякіх ілюзыяў — цяжкай, але не пэсымістычнай. Гэта ён вельмі яскрава высказаў у сваім казаньні пры высьвячэньні а. Уладзімера (Зелінскага)[949] у сьвятары нагародзе паліцай а. Анатоля ў маёй прысутнасьці. Зьвяртаючыся

---

[945] Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму.

[946] **Канстанц** (ням. *Konstanz)* — нямецкі горад на Бодэнскім возеры на мяжы з Швейцарыяй. У 1948 г. менавіта тут адбыўся Царкоўны сабор, на якім была адноўлена БАПЦ,

[947] Абрамчыкі мелі хату каля Парыжа ў Вільпэнце.

[948] Маецца на ўвазе **а. Анатоль Кунцэвіч** (псеўд. Анатоль Сумны, 14. 04.1912 (Пінск або Беласточчына) — 1960-я гг.(?)), рэлігійны дзеяч, паэт. Спачатку вучыўся ў Ялаўцы Ваўкавыскага павета, дзе бацька быў праваслаўным святаром. У 1924–1930 гг. вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, у 1930–1935 гг. — у Варшаўскім універсітэце. У 1936 г. паступіў на вайсковую службу ў Брэсце. У 1938 г. у Пінску быў пасвечаны ў святарства. У 1942 г. разам з сям'ёй апынуўся ў Нямеччыне, дзе ў паваенны час далучыўся да БАПЦ. Паэт, сябра Літаратурнай сустані «Баявая ўскалось». Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Удзельнік Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі ў першыя гады яго існавання. Дапамагаў у багаслужбах для беларусаў Сіднея на працягу 1950-х гг. Пазней адышоў ад грамадскай і святарскай дзейнасці.

[949] Святар **Уладзімір Зялінскі** пазней жыў у Сіднеі, у 1950-х гг. прыкладаў намаганні па арганізацыі ў гэтым горадзе прыходу БАПЦ.

да а. Анатоля, ён сказаў: *«Нагараджаю цябе гэтым мірным аружжам, каб ты мне памог нясьці цяжкі крыж Бел. Прав. Аўт. Царквы, які я ўзяў на сябе дабравольна і якога ня сьціну зь сябе, пакуль ня ўпэўнюся, што БАПЦ абыйдзецца безь мяне»*. Далей ён зьвярнуўся да мяне й сказаў, што паўторна прысягаю перад гэтым алтаром у Вашай прысутнасьці, што не пакіну БАПЦ, пакуль яна ня будзе мець сваіх двух запраўдных беларускіх епіскапаў, абярнуўся да алтара і прысяжна маліўся.

Еп. Сергій не зрабіў на мяне ўражаньня нейкага гарачага фанатыка, каб словы яго можна было прыняць за нейкі саламяны агонь — па характару сваім ён вельмі далёк гэтага тыпу людзёў. Чалавек гэты — зусім манах, які і ў прыватных гутарках ня можа начы гаварыць, як цытатамі псальмоў-евангэліі, і няма ў яго ні да кога злосьці, але ня мае й «пардону» да ўсякага круцельства, тут ён справядліва суровы.

У даўгой гутарцы ў яго памешканьні выявіліся досыць цікавыя рэчы. Мітрапаліт Палікарп[950] дамагаўся ад яго лістоўна (ліст гэты я чытаў), каб еп. Сергій пакінуў БАПЦ, «ня лез не ў сваё» і г. д. Міт. Палікарп, між іншым, спасылаецца на пратэст «Беларускага Цантральнага Прадстаўніцтва», «Цантральнага Правітэльства» і г. д. і наказывае яму (еп. Сергію) апекавацца беларусамі ў францускай зоне толькі як праваслаўнымі вернікамі, *«а не сягаць у царкоўныя беларускія справы»*.

Палеміка між еп. Сергіем і еп. Палікарпам наогул вельмі цікавая. Агульны сэнс яе наступны: Мітр. Палікарп трымаецца таго, каб беларускіх вернікаў і сьвятароў падпарадкаваць Украінскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царкве. Еп. Сергій гэтую тэндэнцыю ўважае за не хрысьціянскую і стаіць на тым, каб помач украінцаў ішла толькі па лініі самастойнасьці БАПЦ. Палеміка дайшла да досыць гострых формаў, і еп. Сергій заявіў, што ён хутчэй пакіне Укр. А.Ц., чым беларускую. Пагроза такая моцна асадзіла Міт. Палікарпа, і апошні нарэшце прапануе Сергію *«высьвяціць беларусам епіскапа беларуса, а ён, Сергій, мае нас пакінуць»*. Сергій-жа і ў гэтым бачыць залежнасьць БАПЦ ад украінскай, таму вось і яго тэза *«покуль ня будзе двух, не пакіну»*.

Мой высновак з агульнага ўражаньня:

1. Еп. Сергій — запраўдны праваслаўны манах без ніякага налёту ўкраінскага нацыяналізму, хоць і выразны вораг расейшчыны наогул, а ў тым ліку і Расейскай зарубежнай Царквы.

2. Да беларусаў мае вялікія сымпатыі і хацеў-бы лепш быць у лоне БАПЦ, чым нат у ўкраінскай. Прычыны гэтаму: 1. ён незадаволены з складу ерархаў УАПЦ, у якой ён бачыць толькі пару запраўдных епіскапаў, рэшта выпадкова-кан'юнктурная, або й проста кампрамітуючыя царкву людзі. 2. мае асабіста крыўды ад Мітр. Палікарпа і ахвотна ад яго-б адышоў.

3. Пры пэўным нашым адношаньні і належнай падтрымцы еп. Сергій пойдзе з намі да канца, і лепшага епіскапа мы ня знойдзем, больш таго, уважаю, што еп. Сергій — запраўды шчасьлівая для нас знойда.

---

[950] Маецца на ўвазе мітрапаліт УАПЦ Палікарп (Сікорскі).

Выходзячы з таго, што ўсе «нашыя» ерархі, пачынаючы ад Панцеляймона[951]-Венэдзікта[952] і канчаючы Філафеямі[953] і Апанасамі[954], больш нам чужыя нацыянальна, чым Сергій, па духу, і што для нашай БАПЦ патрэбен нейкі аўтарытэт, уважаю, што нам нічога не застаецца, як заангажавацца ўсімі нам магчымымі сродкамі ў падтрымцы еп. Сергія.

Дзеля таго я з свайго боку гэтую падтрымку яму і абяцаў. Мы зь ім дагаварыліся:

1. Еп. Сергій нас не пакіне ня толькі да тога часу, пакуль у нас будуць два епіскапы, а застанецца пры нас і зусім ці лепш на заўсёгды. Калі знойдзем 3-га (значыць, 3-га зь ім), дык еп. Сергія прагалошваем мітрапалітам. Калі -ж 3-га ня будзе — дык Сергій з тым нашым 2-м (маю на ўвазе Тамашч.) твораць Сінод. І так і разпачынаюць дэмарш перад усяленскім патрыярхам аб прызнаньні нам аўтакефальнасьці.

Гэтая нашая ўмова моцна падняла на духу еп. Сергія (яго прысяга перад алтаром была пасьля гэтае нашае ўмовы).

---

951 **Панцеляймон** (Павел **Ражноўскі**, 27.10.1867, Кастрама, Расія — 30.12.1950, Нямеччына), епіскап Рускай праваслаўнай царквы. У 1939 г. прызначаны архіепіскапам Гродзенскім і Вялейскім. У гады нямецкай акупацыі ўзначаліў праваслаўную царкву ў Беларусі. Ад сакавіка 1942 г. — мітрапаліт Мінскі і Беларускі. У маі 1942 г. адхілены ад кіраўніцтва Беларускай царквой і сасланы ў Жыровіцкі манастыр праз канфлікты з прыхільнікамі аўтакефаліі. У красавіку 1943 г. быў вернуты ў Мінск, сабраў епіскапскі сабор, які абвясціў несапраўднымі рашэнні Усебеларускага царкоўнага сабора 1942 г. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Далучыўся да Рускай праваслаўнай царквы за мяжой.

952 **Венедыкт** (Васіль **Бабкоўскі**, 28.02.(13.03.)1876 г. Завалач Пскоўскай губ. — 21.08.1951, Мюнхен, Нямеччына), епіскап Рускай праваслаўнай царквы. У 1937 г. прыняў манаства і быў прызначаны настаяцелем Жыровіцкага манастыра. Ад 1941 г. — епіскап Брэсцкі, вікарый Мінскай епархіі. Ад красавіка 1942 г. — архіепіскап Гарадзенскі і Беластоцкі Беларускай праваслаўнай царквы, экзарх Усходняй Прусіі. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, дзе далучыўся да РЗПЦ. Ад 1950 г. — архіепіскап Берлінскі і Нямецкі.

953 Маецца на ўвазе архіепіскап Філафей (Нарко), які разам з епіскапатам БАПЦ перайшоў у юрысдыкцыю РЗПЦ.

954 **Апанас** (**Антон Мартас**, 08.09.1904, в. Завітая Наваградскага пав. Мінскай губ. (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.) — 03.11.1984, Буэнас-Айрэс, Аргенціна), рэлігійны дзеяч, архіепіскап, магістр тэалогіі. У 1942 г. у Мінску пасвечаны ў епіскапа Віцебскага і Полацкага. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Разам з іншымі беларускімі іерархамі ў 1946 г. перайшоў у юрысдыкцыю РЗПЦ. Адміністратар Паўночнанямецкага вікарыята Нямецкай епархіі РЗПЦ. Выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў з беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў падручнік Старога Запавету па-беларуску. У 1950–1955 гг. — вікарны епіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргенціну. Епіскап (пазней архіепіскап) Буэнас-айрэскі і Аргенцінска-парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу «Белорусь в исторической государственной и церковной жизни» (прадмова па-беларуску). У 1971 г. Сінод РЗПЦ забараніў чытанне і распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасці.

2. Што да высьвячэньня епіскапаў — Тамашчыка ён (еп. Сергій) прыгатаўляе сам і паступова праводзіць яго праз усе градацыі да архімандрыта, не сьпяшаючыся з хіратанізаваньнем у епіскапы. Тамашчык выходзіць на лона царкоўнай дзейнасьці як Архімандрыт. У такім відзе калі-б зарубежнікі і заатакавалі Тамашчыка — дык аргумэнты іхнія ня мелі-б ніякай вартасьці — бо якія-ж падставы? А калі-б на гэтым зарубежнікі «выстраляліся», тагды Тамашчыка хіратанізуем у епіскапы. Еп. Сергій наогул ня бачыць ніякіх перашкод, каб хіратанізаваць Тамашчыка ў епіскапа цягам 2-х месяцаў, але згаджаецца з маёй тактыкай.

Што да трэйцяга (ці лепш 2-га нашага) епіскапа, так я маю наўвеце або аднаго з Францыі, або з Англіі. У Францыі ёсьць архімандрыт Фінькоўскі, у Англіі Сымецкі [?] — але з гэтым няма патрэбы сьпяшацца. Да рэчы, Фінькоўскі, здаецца, зусім цяпер будзе адпаведны, бо прайшоў вельмі цяжкія 2 апэрацыі (на почкі і пячонку) і моцна зьмяніўся характарам на лепшае (яму, як ведама, дагэтуль запіхалі «вясёласьць характару»).

Што да Дзямід[ава], дык еп. Сергій яго і ня думаў высьвечваць ня толькі ў епіскапы, а нат сьвятары. Ён расцэньвае Д. зусім правільна і моцна яго трымае ў сваіх рукох, выкарыстоўваючы яго сяньня як памочную сабе сілу, покуль ня прыйме гэтую працу Тамашчык.

Агулам у справе падгатоўкі епіскапаў мы ўмовіліся быць моцна абярэжнымі і покуль што стрымаць усё толькі на Тамашчыку. І гэтага нам на разе зусім хопіць, бо-ж і 2 епіскапы — сабор.

Гутарыў даўжэйшы час і з а. Анатоліям (Кунцэвічам). Умовіліся таксама быць абярэжнымі ў выбары кандыдатаў у сьвятары — лепш менш, але добрых. Я зазначыў, што Зелінскі заслабы і інтэлектуальна, і нацыянальна. Але гэта сталася, яшчэ няхай будзе, толькі каб на будучыню ня было так.

У цэлым і цэласьці я вынес уражаньне, што канечне з нашага боку патрэба падтрымкі БАПЦ. Стаім перад дылемай: ці дапамагчы еп. Сергію, ці пакінуць яго самога на «сьедзенія» зарубежнікам? Мая, як бачыце, думка, — дапамагчы еп. Сергію ўсімі сіламі.

Якую-ж можна даць помач?

У гэтым сэньсе я прадстаўляю сабе справу так:

1. Як вышэй было сказана, мы ангажуемся ў першую чаргу маральнай падтрымкай. Дзеля гэтага на днях высылаю ад сябе дакумант еп. Сергію — пахвальную грамату і падзяку за апеку БПАЦ.

2. Вы высылаеце цыркуляр ад сябе ўсім прадстаўнікам Ураду БНР — уважаць БАПЦ на чале зь епіскапам Сергіям як адзіную праваслаўную праўную беларускую царкву, і што ва ўсіх краінах нашыя прадстаўнікі павінны аб гэтым давесьці да ведама ўсіх праваслаўных беларусаў. Кансэнквэтна ўсе і ўсюды бел. праваслаўныя эмігранты павінны прыймаць да сябе сьвятароў і памагаць ім у арганізацыі прав.-бел. царквы — толькі сьвятарам з юрысдыкцыі еп. Сергія. Далей — паўсюды, дзе ёсьць сарганізаванае беларускае грамадзтва — праваслаўныя беларусы павінны закладаць рэлігійныя абшчыны ім. Сьв Ефрасіньні Полацкай і ўваходзіць у кантакт з еп. Сергіем. Дапамагчы еп. Сергію (як гэтага ён хоча) правесьці рэгістрацыю правасл.

беларусаў сярод нашае эміграцыі (ён выправіць Вам анкеты і разашлець нашым прадстаўнікам БНР пасьля таго, як Вы іх (предст. Ураду БНР) папярэдзіце цыркулярам. Інж. Рыдлеўскі зробіць ад сябе па лініі САБЭ[955].

Што да матэрыяльнай помачы, я не рабіў ілюзый еп. Сергію, і ён гэта разумее. Абяцаў яму толькі дапамагчы сабраць царкоўных прыбораў (чашаў, Эвангельляў, службоўнікаў, адзежы і г. д.), на што я маю змогу, і абяцаў, калі матэрыяльна справа ў нас паправіцца — заўсёгды буду аб ім памятаць, як упэўнена абяцаў, што гэта зробіце і Вы.

Было-б добра, каб Вы тым часам выслалі ліст еп. Сергію падзякі за ягоную працу, праробленую гэтуль — ад сябе.

Вось так, як бачыце, выглядае справа ў Канстанцы, і думаю, са мной і маімі поглядамі згодзіцеся — інакшага выхаду, па-мойму, мы ня маем.

З пашанай,

*Ваш М. Абрамчык.*

P. S. Абавязкова прашу выслаць мне копію гэтых двух дакумэнтаў, аб якіх мне Вы казалі ў дарозе, і то па-магчымасьці як найхутчэй.

Падганяйце ўсіх нашых інтэлектуалістых, каб як найхутчэй прыслалі мне свае аўтабіяграфіі, а навукоўцы далучалі сьпісак сваіх навуковых працаў.

*

*7.4.49*

*Paris*

В. П. Спадар Старшыня[956],

Заўтра Вам вышлю дэкрэт і іншую карэспандэнцыю — цяперака пасылаю ў гэтым лісьце: 1. 3 фото-карткі пр. В. Захаркі, 1-ну пр. П. Крэчэўскага і два выразкі з газэты «Б. Навіны». Фото Захаркі № 3 — пры магіле жонкі. Гэта апошні яго здымак (за 2-3 года перад сьмерцю сваёй). Калі-б Вашаму маляру ўдалося гэны партрэт (№ 3) зрэпрадукаваць, але бяз шапкі — было-б найлепш. Фото № 2 — таксама няблага перадае яго рысы твару. № 1 — залішне малады. Крэчэўскі пазьней насіў бараду — роўна як на фото ў «Бел. Навінах»[957].

Усе фатаграфіі па выкарыстаньні прашу мне зьвярнуць.

З пашанай

*М. Абрамчык.*

---

955 Згаданыя тут, а таксама іншыя дакументы дачыненняў БНР і БАПЦ можна знайсці ў кнізе: Збор дакумантаў сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. — 160 с.

956 Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму.

957 Здымкі Пётры Крэчэўскага і Васіля Захаркі былі надрукаваныя ў газеце «Беларускія навіны» як ілюстрацыі да тэксту «Сакавік месяц трыумфаў і смуткаў» (№ 3–4. Сакавік — красавік 1946).

*

*17 студзеня 1950 г.*

*Я. М. Інж. Шыманцу В.*

*Міністру Фінансаў Ураду БНР*

В. П. Спадар Міністар,

На Вашу просьбу даць Вам арыентацыйнага матэрыялу дзеля ўстанаўленьня бюджэту па лініі Канцэлярыі і Старшыні БНР мне досыць цяжка. А то не дзеля таго, што ня маю пры сабе кнігаў, а дзеля таго, што за ўвесь пэрыяд маёй актыўнасьці (хутка 7 год), час быў такі ненармальны, як з пункту гледзішча вонкавых, так і нутраных абставінаў, што я ня меў ніякай змогі хоць-бы прыблізна плянаваць свой каштарыс.

Паколькі-ж Вы са Сп. Прэм'ерам знаходзіце магчымасьць сяньня прыступіць да прыблізнага хоць-бы плянаваньня, магу Вам падаць тут хоць загруба сітуацыю маёй «канцылярыі» за апошніх 5 гадоў, паводле чаго Вы як спэцыяліст зможаце зарыентавацца аб патрэбах маёй канцылярыі. (Я ўзяў «канцылярыя» ў чужаслоў, бо, як пабачыце, мне цяжка адрозьніць выдаткі канцылярыі ад выдаткаў маіх у цэласьці).

Вось-жа даплаты й выдаткі (паводля маіх падарожных нататак-дняўніка) прадстаўляюцца наступна (згруба):

1. Паштовыя выдаткі і камунікацыя (лісты, тэлефоны і гарадзкія разьезды (мэтро) за 5 гадоў — 60 месяцаў у сярэднім па 2000 фр. у месяц — 120.000 фр.

2. памешканьне й сьвятло канцылярыі за апошні 1 год — 10.000 фр.

3. спатканьні ў кафэ і прыёмы сярэдня ў месяц — 500 фр. — за 5 год — 30.000 фр.

4. фізычнае ўтрыманьне аднэй асобы як працаўніка канцылярыі, рахуючы па 10.000 фр. у месяц за 5 год (60 месяцаў) — 600.000 фр.

5. падарожжы: за два апошнія гады (за граніцу):

а. 16 уездных візаў і 5 транзытных — разам 21 віза і 3 пашпарты — агулам на суму 12.000;

б. дзьве паездкі ў Данію і даезд да Швэцыі ды 3-месячнае там перабываньне — 2000 ДК, 200 швэцкіх і 20.000 фр. фр — 116.000;

в. паездка да Жэневы і 10 дзённае там пражыцьцё (200 шв. фр. — 16.000 фр. фр.) — 16.000;

г. 4 паездкі ў Нямеччыну (аплата білетаў), толькі кошты ўтрыманьня мяне там мне няведама — 30.000;

д. 5 паездак у Бэльгію (білеты і разьезды ў Бэльгіі падчас першай паездкі ў навязаньні кантактаў, гатэлі) — 25.000;

е. 3 паездкі да Англіі (білеты: 1 паездка на мой рахунак у абодва бакі, 2 апошнія адзін бок = 4 білеты) — 10.000;

ж. паездка да ЗШАПА (прыблізна) 400 дал. — 140.000;

з. паездка ў Вашынгтон 100 дал. — 35.000;

Кошт падарожжаў гэтых ад 3.XI.47 да Новага году 1950 — разам згруба — 384.000 фр.

6. Утрыманьне Рэдактара «Бел. Нав.» на працягу 3 год, які ў %30 выконваў працу канцыл. Ст. БНР (па лініі канцэлярыі і рэпрэзэнтацыі) па 4.000 у месяц за 36 м. (36x4.000=144.000) — 144.000.

7. Падтрымка беларускай прэсы:

а. дапамога выплачаная «Бел. Навінам» на пагашаньне доўгу друкарні — 40.000;

б. «Бацькаўшчыне» — 20.000;

Разам — 60.000.

8. студэнтам і скаўтам — 15.000.

Разам усіх выдана за 5 год — 1..000 фр.

Даходы:

З беларускіх грамадзкіх і прыватных крыніцаў:

1. Ад групы беларускіх работнікаў «Норд»[958], дабравольна сябе аблажыўшых падаткам на Канц. Ст. БНР (ня зусім дакладна, але калі-б было Вам патрэбна, квіты й рахункі ляжаць на ніжняй полцы бібліят.) — 9.000;

2. ад а. а. Ч. Сіповіча і Л. Гарошкі — 7.500;

3. ад а. Чарняўскага Франука[959] — 70.000;

4. са зборак беларусаў у Даніі падчас майго там перабываньня ад 3.XI.47 да 8.III.48 — 2.000 д. м. — 80.000;

5. ад зборак у Швэцыі — 100 ш. к. — 70.000;

6. ад сп. Букатага Адольфа[960] ў Англіі 10 ф. — 9.000;

7. ад сп. Курылы 7 ф. — 6.300;

8. ад М. Абрамчыка (маладога)[961] 300 д. м. + 16.000 фр. разам — 28.000;

9. ад беларусаў у Англіі на падарожжа ў ЗША — у форме нац. падатку 400 дал. — 140.000;

---

[958] Маецца на ўвазе асяродак беларускіх працаўнікоў на поўначы Францыі.

[959] **Францішак Чарняўскі** (03.11.1893, в. Чухны Ашмянскага пав., Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 31.05.1979, г. Амстэрдам, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, выдавец. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. У 1920 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. У 1924–1927 гг. вучыўся ў Рыме ў Папскім грыгарыянскім універсітэце і Усходнім інстытуце. Ад 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях. Пераехаў у Бельгію, у 1953–1955 гг. — у кляштары бенедыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь «Божае слова». У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс «Сяўбіт». Дзядзька беларускага святара а. Уладзіслава Чарняўскага.

[960] **Адольф Буката** (25.01.1902, в. Курылавічы на Пастаўшчыне — 25.01.1977, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч. У 1930-х выехаў у Францыю, дзе жыў да пачатку Другой сусветнай вайны. Потым пераехаў у Берлін, дапамагаў Міколу Абрамчыку выдаваць газету «Раніца». Пасля вайны знаходзіўся ў лагерах *DP* Нямеччыны, адкуль у 1949 г. прыехаў на працу ў Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ, удзельнікам аддзела ў Бірмінгеме.

[961] **Мікола Абрамчык (малодшы)** (01.05.1922–20.03.2005), грамадскі дзеяч, пляменнік Прэзідэнта Міколы Абрамчыка. Сябра БАЗА, у 1960-х гг. быў у кіраўніцтве Нью-ёркскага аддзела арганізацыі. Сябра рэдкалегіі газеты «Беларус».

10. Бел.-Амэр. Задзіночаньне на паездку ў Вашынгтон 100 дал. — 35.000.

Разам даходу — 391.000 фр.

Пазычка:

1. ад сп. Касака Язэпа[962] 60.000 фр. (па курсу залатога даляра; курс у дзень пазычкі = 60 зал. дал.) — 60.000;

2. ад сп. Раманоўскага Язэпа (шахцёр-Норд) 40.000 фр. (40 зал. дал. па курсу таго дня) — 40.000;

Такім чынам, дыфіцыт: 1.363.000 фр — 491.300 = 871.700 фр.

Увага: падаючы гэты абраз фінансавай сытуацыі Канцэлярыі Старшыні Рады БНР, Вы пэўна-ж заўважыце, што на працягу ўсяго часу выдаткі гэтыя ў бальшыні трэба было-б аднесьці па лініі іншых рэсортаў (як, прыкл., паездка ў Данію і Швэцыю — па лініі рэсорту эміграцыі, паездкі ў Бэльгію па лініі асьветы-апекі моладзі, памога прэсе — па лініі рэсорту мініст. прапаганды, паездка ў ЗША — па лініі рэсорту Мініст. вонкавых справаў і шмат якія іншыя рэсорты пэўна-ж таксама).

Баюся, аднак, і ці гэты 1950 г. створыць для нас такую сытуацыю, каб змог я вылучна аддацца справам свайго прызначэньня.

Пры вызначэньні Вамі бюджэту для Канц. Стар. БНР маглі-б Вы (як мне здаецца) арыентавацца аднак паводле тых пазыцыяў, якія Вы тут знаходзіце, як пазыцыі вылучна Канц. Стар. БНР, а калі-б скажам на мяне і ў гэтым 1950 г. ускладаліся заданьні іншых рэсортаў, дык тады-б можна было сьпісываць зь бюджэтаў датычных рэсортаў на выкананьне тых заданьняў — умовы ў нас запраўды ненармальныя. Зрэшты, Вам з Сп. Прэм'ерам пэўне-ж будзе лягчэй зарыентавацца, маючы перад сабой абраз у цэласьці.

У заключэньне хачу яшчэ адцеміць, што дыфіцыт гэты (871.300 фр.), які назьбіраўся па лініі маёй Канцылярыі за апошніх 5 год, Вы не павінны разглядаць як дыфіцыт да пакрыцьця Урадам БНР. Прадстаўляючы сабе рэальны стан нашае эміграцыі, яе надта цяжкае матэрыяльнае становішча з аднаго боку, а з другога патрэба акцыі з майго боку, ці то ў ролі Стар. Рады, ці ў ролі звычайнага беларуса змагара — я і мабілізаваў усякімі мне даступнымі спосабамі патрэбныя сродкі. Дзеля таго ўласьне ў ролі звычайнага беларуса і здабываў патрэбныя сродкі на собскую руку і на собскую адказнасьць, ніколі ня маючы наўвеце, што маю камусьці іх прадстаўляць дзеля пакрыцьця. Таму гэты дыфіцыт і трэба разглядаць як долю майго ўкладу ў агульную нашу справу як аднаго з беларусаў. У мінуўшых 5 гадах такі ўклад я мог зрабіць. Адносна-ж уплываў ад грамадзкіх і прыватных асобаў, дык сума 491.300 фр. будзе амаль дакладная (розьніца можа быць хіба ў пары тысячах фр.), але-ж ходзіць Вам не аб справаздачы.

Пару яшчэ словаў што да пазыцыі «пазычкі» 60.000 фр і 40.000 фр. Гэтая пазычка была мной таксама зроблена ў прыватным парадку ад нашых

---

[962] **Язэп Касак** (?, Лынтупы (сёння Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.) — 05.11.1965, Парыж), грамадскі дзеяч. У міжваенны час прыехаў на заробкі ў Францыю, дзе і застаўся да канца жыцця. Быў сябрам беларускай арганізацыі «Хаўрус».

двух работнікаў у Францыі — моцных нацыянальна і добрых патрыётаў. Пазычка гэтая ёсьць безтэрміновая, і абодвым крэдытарам маім ведама, што гэтыя іх грошы зужыты мной на грамадзскія справы. Гэту пазычку я таксама зьліквідую сам прыватна, але ўвёў яе, каб у выпадку нейкага нешчасьлівага выпадку са мной гэтыя два нашыя работнікі маглі атрымаць за сваю ахвярную ўслугу адпаведную нагароду ад нашага Ураду, бо пазычка іх была вельмі карыснай і неабходнай.

Апрача гэтай пазыцыі (60 і 40 тыс.) ні на Канцылярыі Старшыні Рады БНР, ні на асобе Старшыні ня вісіць ніякіх грашовых забавязаньняў (ні ў форме пазычкі, ні субсыдыяў ці субвэнцыяў з чыйго-б то боку не было).

Прыйміце, Сп. Міністар, выразы маіх да Вас шчырых сымпатыяў і пашаны.

*Мікола Абрамчык,*
*Старшыня Рады БНР.*

П. С. Дзеля лепшага зразуменьня рэальнай вартасьці сумы, якой я апэраваў на працягу гэных 5 год, дык у пераводзе на даляр (як валюты ўсім ведамай), суму гэту трэба падзяліць на «300» (прыблізна сярэдні курс гэтага часу); адгэтуль — выдаткі за 5 год — 4.543 дал.; даход ад грамадзкіх і прыватных асобаў — 1.634 дал. Дэфіцыт — 2.909 дал.

Мой бюджэт, такім чынам, у мінулых 5 год прадстаўляўся: па лініі вылучна Канцылярыі Старш. БНР (160.000 + 600.000 = 760.000), значыць, на год 152.000 фр. або на месяц 12.5000 фр. ці 41 дал. 60 сент на месяц.

З падарожжамі разам:
за 5 год — 1.363.000 фр.
1 год — 272.600 фр.
1 месяц — 22.716 фр. або 75 дал. 70 сент у месяц.

*

*15.2.50*
*V. Gol.*

Вельмі паважаны й дарагі Сп. Старшыня[963],

Пратакол паседжаньня Вашага з дня 7.І. атрымаў. На Вашыя лісты, як і на ўсе ўрадовыя лісты сп. Махноўскага, пастараюся адказаць хоць збольшага. У мяне, як пэўна ведаеце, уклаліся справы не зусім цікава. Уся праца таму, залежная тут ад мяне, была затрымалася ў зьвязку з зацягнутай у мяне грыпай. Цяпер пачуваюся ўжо можна сказаць зусім здаровым і спадзеюся за пару тыдняў прыйсьці зусім да нормы. Ня ведаю, аднак, як мне надарыцца тэхнічна справіцца прынамсі з найактуальнейшымі справамі, бо столькі іх набралася!

[963] Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму.

Ваш ліст 24.I мяне падбадзёрыў на духу. Прыняцьце Вас сп. Дол[964]. і запросіны Вас на «дінер» сьведчаць, што папярэднімі сваімі візытамі Вы зрабілі добрае ўражаньне. Не зракайцеся толькі, калі не дасягнеце на разе нічога канкрэтнага. Галоўнае затрымаць і трымаць у пэрманэнтным стане зацікаўленьне да нашае справы і мець асабістыя да Вас сымпатыі. Рэшта ўсё прыйдзе. Такая ўжо лёгіка жыцьця палітычнага сьвету. Цярплівасьць таму й тактоўнасьць! Мусім мець і вытрываласьць. Вы былі намераны падацца да дэмісіі — нічога з гэтага ня выйшла. Што-ж тагды я маю рабіць у маіх абставінах і з маімі магчымасьцямі? Трэба неяк выкручывацца, каб пражыць, дачакацца лепшых абставінаў.

Што новага ў мяне? Па лініі Рады я шчэ нічога не пачынаў, калі не рахаваць супольна праведзеных са мной паседжаньняў сэктару францускага, бэльгійскага і ангельскага пад час майго апошняга ад’езду. Па вавароце з Англіі мне адразу пачала дакучаць грыпа, але гэтую хваробу звычайна кажны год я пераносіў ходзячы, дык і цяпер у першым месяцы, тузаючыся, залагоджваў найактуальнейшыя справы, якія насовываліся і вымагалі без адкладнасьці. Шмат вельмі часу занялі розныя спатканьні — пабачаньні, аб’езд Бэльгіі-Англіі заняў 6 тыдняў. Усё гэта патрэбна было адбыць. Спадзяваўся па вавароце з Англіі ўзяцца за ўпарадкаваньне Прэзыдыюму Рады, каб павесьці працу ў гэтай запушчанай нашай дзялянцы, апошні, аднак, месяц настолькі занядужаў, што абсалютна нічога не рабіў. Ня ведаю, як цяпер адвяжуся — камбіную, буду залагоджываць тым часам самыя сьпешныя справы — аб далейшых сваіх плянах напішу пазьней.

Цяпер канкрэтней што да некаторых пытаньняў, паднятых у Вашых лістах:

I. У справе сапраўды скандальных выбрыкаў Грыцука і Хмары. Я меўся зь імі напачатку ўступіць у перапіску, але як захварэў, дык усё адклалася. Хмара ўвесь час мяне штурмуе лістамі — не адказаў яму яшчэ ні на адзін. Паколькі-ж цяпер маю шэраг важнейшых справаў, справу «Таронскую» прасіў-бы пачаць гэтак: зьвярнуцца да др. Тумаша з просьбай ад Вашага і майго імені, каб тым часам ён спрабаваў уладзіць гэтую справу прыватна. А гэта з наступных меркаваньняў спосаб: 1. зьвярнуцца мне з ультыматумам да Хмары і яго К: спыніць акцыю 3-е сілы або здаць мандаты Раднага — я пэўны, што мандаты зложаць і распачнецца дзікая кампанія Хмарай і яго групай. На разе гэта нам не зусім выгадна, тым больш, што др. Тумаш, я перакананы, зможа ў прыватны спосаб прыглушыць гэтую дурную авантуру Хмары, Грыцука. 2. уступіць-жа мне ў нейкую палеміку й крытыку іхняй акцыі, якая-б іх абразуміла — і не выпадае тактычна і ня маю фізычнай магчымасьці.

---

[964] Магчыма, маецца на ўвазе згадваны ў пратаколах Рады БНР дзеяч Камітэта вольнай Еўропы Дольбер.

Я перакананы, калі др. Тумаш, сабраўшы ўсе іхнія пісаньні, «пугі»[965], «дэклярацыі», паддасьць крытычнаму аналізу і выкажа сваё цьвёрдае нэгатыўнае становішча ў іх пазыцыі, дакажыць шкоднасьць іх акцыі — то Хмара, Камароўскі, а за імі і Крыцук[966] (бо Крыцук зрабіў выбрык толькі пад націскам Хмары — Камароўскага) падпарадкуюцца.

Пераконаны ў гэтым я таму, бо ведаю, як з свайго побыту ў Тароньце, так і зь лістоў Хмары цяпер, што слова Тумаша для Хмары — што Папы да ксяндза. Хмара ўважае др. Тумаша за самага разумнага і адзінага ў нас палітыка, асабліва пасьля тае прыемнае рэцэнзіі др. Т. Хмаравага зборніка паэзіі. Няхай таму др. Тумаш напіша і 2-ую рэцэнзію на палітычныя «творы» Хмары — гэтак-жа глыбока крытыкуючы, як і тыя ягоныя літэратурныя творы. Лепі таму Хмару хоць часова зьнейтралізаваць, чым адразу яго ўзьбясіць і так ненармальнага. Падкрэсьліваю, што цяпер-бы актывізаваньне Хмары як ворага БНР — было-б некарысным, пазьней, калі ён не ўстаткуецца, можна будзе й выключыць яго.

II. У справе «Войс оф Амэр.». Па сваім павароце да Парыжу я гутарыў у ам. амбасадзе на гэту тэму. Паказваў ім анталогію бел. літаратуры на расейскай мове і камэнтаваў на многіх прыкладах з гэтай анталёгіі, як бальшавікі лічуцца з бел. нацыянальнымі настроямі. Мне абяцалі падумаць і казалі падаць ім мэморыял у 2-х экзамплярах, адзін зь якіх яны-б пераслалі ў Мін. зам. спр., другі ў дырэкцыю «Вольнай Эўропы»[967]. Мэморыялу гэтага я не напісаў яшчэ. З Вашага лісту бачу, што Вы галоўным чынам націскаеце, каб пісалі, дамагаліся нашы арганізацыі. Гэта аднак цяпер ці будзе ўжо так канечне неабходна, бо гэткія дамаганьні яны (і мініст. вонк. спр. і дырэкц. войс оф амэр.) маюць. Галоўна цяпер цісьнеце Вы і рабіце дэмаршы асабістымі стараньнямі. Да мэморыялу далучыце якіясь рэчовыя доказы з бальшавіцкае прапаганды ў бел. мове, прыкладам, пераклады Сталіна, Леніна, Маркса і г. д. Гэта амэр. больш пераконывае.

III. У Парыжы быў міністр Пуста (Эстонія). У размове з адным украінцам (маім прыяцелем) сказаў (ён Пуста), што Абрамчык зрабіў найбольшую памылку ў Амэрыцы, што падымаў пытаньне граніц. Я (знача Пуста) пайшоў быў на іх сьвята (25 сакавіка), а потым меў вялікія прыкрасьці ад летувісаў. Цікава мне тое, што міністр Пуста, як відаць, настолькі ўзалежнены ад летувісаў, што мог мець непрыемнасьці, што пайшоў на наша сьвята. Што да граніц, дык запраўды падымаў я іх толькі тагды, калі хтось іх падымаў. А ў размове з Пустам то якраз ён высьмейваў летувісаў. Мейце аднак гэта наўвеце ў далейшых кантактах з эстонцамі, а таксама латышамі.

4. Вашая пазыцыя безкампрамісовасьці зь летувісамі бязпрэчна да ніякага паразуменьня не прывядзець. Што да тактыкі Вашай — каб змусіць іх гэту

[965] Маецца на ўвазе сатырычны перыёдык «Пуга».

[966] Так у арыгінале (паўторана двойчы). Маецца на ўвазе Алесь Грыцук.

[967] Маецца на ўвазе Камітэт *Free Europe*, арганізатар аднайменнага радыё.

справу граніц не падымаць, а пры іх упорстве іх потым вывесьці на сьвятло ў прэсе — мне падабаецца.

5. Адносна мае паездкі ў Рым — як бачу з Вашага лісту, не зусім зразумелі мэту мае паездкі. Ходзіць не аб назначэньні біскупаў сяньня, за граніцай, гэтага Рым сяньня зрабіць ня можа. Новых біскупаў Рым можа вызначыць толькі тагды, калі маецца для іх тэрыторыя. Таму ў сёньняшніх абставінах мне ходзіць толькі аб вызначэньні апостальскага візытатара з існуючых ужо біскупаў. А паколькі ў нас такім толькі зьяўляецца Слосканс — то каб далі яго.

Што да катал. ерархіі — то ходзіць толькі аб пляну падрыхтоўцы і прынцыповаму ўзгадненьню колькасьці дэацэзыяў і намечаных кандыдатурах. Пішу гэту папраўку, каб ня было потым у Вас разчараваньня з мае паездкі (калі яна адбудзецца?). Паехаць-жа трэба было-б канечне, бо там хочуць мяне бачыць. Мела-б ужо вялікае для нас палітычнае значэньне, калі-б быў толькі прадыскутаваны плян устанаўленьня дэацэзыяў ды паставіць Ватыкан перад фасам нашай пазыцыі што да некаторых спрэчных тэрыторыяў з нашымі суседзямі (Вільня, Беласток) — усьведаміць іх, папярэдзіць перад эвэнтуальнасьцю памылак ды шырэй асьвяціць нашу справу наагул. Была-б гэта яшчэ першая размова нашага Ураду з Ватыканам ад часоў даўно-даўно забытых. І гэта-б моцна пасіліла нашыя пазыцыі, ня гутарачы ўжо, якія-б вышыні размоваў ня былі.

6. Украінскі Урад — УНР — зьвярнуўся быў да мяне з просьбай вызначыць ім прадстаўніка Ураду БНР у Нямеччыне. Я ўжо ня змог ані перадаць гэта Вам, а ні адказаць украінцам. Цяпер ім напішу, падаўшы прычыны мае маўчанкі, а Вы падумайце, каго можаце знайсьці ў Нямеччыне і аформіце гэту справу. Афіцыйныя зносіны з Урадам УНР мусіце трымаць і старацца, каб палепшываць іх. З бандэраўцамі трэба быць усё-ж такі абярэжнымі. Гэта публіка ўсё-ж такі мала салідная, да таго амэрыканцы пераконаны, што бандэраўшчына моцна пранізана бальшавіцкімі агэнтамі.

Цяпер праектуецца (вядзецца падрыхтоўка) канфэрэнцыя круглага стала экзыл. урадаў (незадоўга прышлю вам матэрыял). На гэту канфэрэнцыю будзе запрошаны Урад УНР, а не бандэраўцы.

7. Фінансавыя справы. Я атрымаў ад Махноўскага пяцёрку, а потым двацатку — дзясятку ад жанок і ліст, у якім яны пішуць маняцца праводзіць акцыю зборак спэцыяльна помачы для мяне. Я ўжо напісаў жанчынам стрымацца і зьвярнуцца да сп. Манькоўскага аб разьясненьні чаму. Вось-жа цяпер падаю гэтыя прычыны: 1. Я асабіста проці таго, каб грошы зьбіраліся спэцыяльна і асобна па-за нашым фінансавым апаратам для мяне і гэта, па-першае, дасьць падставы дэмаралізуючыя для нашага агульнага фінансавага кантролю, а па-другое, гэткая апазыцыйная акцыя ня дасьць ніякай эфэктыўнай карысьці матэрыяльнай падтрымкі для працы мае канцылярыі, а наадварот пашкодзіць ёй, бо фінансавы наш апарат ня будзе тагды настолькі пачувацца маральна адказным выпаўняць свае заданьні, каб выплаціць на маю канцылярыю згодна ўстаноўленага бюджэту.

Таму я напісаў усім ініцыятарам як у Амэрыцы, так і Англіі, каб усе гэныя сабраныя грошы пераслалі на фінансавы рэсорт Ураду БНР.

Важна гэта яшчэ і дзеля таго, каб улічаныя такім парадкам грошы павялічывалі суму нашых ахвярадаўцаў ды рэпрэзантатыўней выглядалі пры справаздачах, а ахвярадаўцы бачылі кантрольнасьць і ўлік кожнага імі данага сантыму, а гэтым самым выключалася магчымасьць падазраваць кагось у выкарыставаньні грамадзкіх грошы на прыватныя справы.

Вось прашу аб гэтым сп. Махноўскага паінфармаваць гэтых нашых мілых і дарагіх жанчын, а перасланыя мне 35 д. правесьці праз кнігі сп. Кажана.

Што датычыцца цэласьці нашага фінансавага апарату, я маю праект (аб чым дакладней напішу ў наступным лісьце), каб дзяржаўны скарбнік быў пры Вас, а сп. Шыманец прадстаўніком на Эўропу. Да гэтага маю паважныя матывы, аб чым тым часам прашу нічога ў гэтай справе не пісаць сп. Шыманцу.

У справе бюлетэня Рады і Ураду — я пастараюся прыслаць некаторыя матэрыялы. Напішыце мне, на калі апошні тэрмін, бо цяпер я надзвычай перагружаны некаторымі безадкладна сьпешнымі справамі.

Аблічыце, колькі будзе каштаваць Вам такі бюлетэнь. Ці ня было-б нам выгадней друкаваць у Парыжу, а радагаваць у вас?

Тут-бы бюлетэнь фармату «Моладзь» (што выдаецца ў Парыжы 32–38 бачын) каштавала-б 20 даляраў. З маёй-бы машынкай яна-б вышла шмат чысьцей.

З пашанай

*М. Абрамчык.*

P. S. Прышліце, калі ласка, мне адзін хоць экз. «Веды» — тут у Францыі мы яго ня бачылі. Др. Ст, відаць, Францыю «байкатуе».

*

*12.5.50*

*N. York*

Дарагі Сп. Старшыня[968],

12.4 выслаў Вам быў ліст. Ці Вы яго атрымалі, чаму нічога ня пішаце? У мяне справы ідуць ня блага. Візу сваю я прадоўжыў і застануся тут да сярэдзіны жніўня. На 26 зьбіраюся да Канады на тыдні два.

Надоечы мне ўдалося ў адным амэрыканскім камітэце апекі над грамадзкімі і палітычнымі дзеячамі «з-за зялезнай заслоны» атрымаць згоду на апеку і над беларусамі. Пакуль што яны дапамагаюць толькі пасылкамі. Мне трэба было падаць сьпісак. Гэты сьпісак мне ўклалі тутэйшыя вашы сябры па лягерох, можа каго і абмінулі, але можна дапоўніць. Падаўшы гэты сьпісак, мне сказалі, што цяпер яны могуць выслаць толькі 30 пасылак, рэшту хіба потым. Я зноў насьпех, там-жа ў бюро, адзначыў чырвоным алоўкам 30,

---

[968] Ліст адрасаваны Аўгену Кахаоўскаму.

якія яны маюць паслаць першымі. Апроч гэтага падаў ім новы адрыс БНК, на выпадак, калі-б прыйшоўшая пасылка не знайшла адрасата — Камітэт у такім выпадку атрымае і выраўняе памылкі, калі тут былі намі пры ўкладаньні сьпісу зробленыя. Пасылкі гэтыя вышлюцца на днях.

«Бацькаўшчыну» атрымаў ня так даўно. Артыкул пра «Чорнага Ката»[969] мяне не задаволіў. Выглядае ён ні то на палітычную правакацыю, ні то на скрайнюю наіўнасьць. «Бацькаўшчына» не ўчыніла ніякага зразумела праступства, бо перадрукавала ўжо апублікаванае, але паказала сваю наіўнасьць, падхватываючы, не прадумаўшы крытычна, такі артыкул.

Для фахоўца артыкул гэты скрайне наіўны, бо як-жа можна прыняць у сур'ёз, каб нейкі немец, папаўшы ў палон — меў адразу доступ і кантакт да шэфа штабу, а той дэканспіраваў яму (!) сваю кватэру, якую ён цяпер падае чуць не адрыс (асабняк у Вільні і г. д.). Гэта, безумоўна, сказкі для дзяцей, а для сур'ёзных людзей выглядае непаважна з нашага боку зьмяшчаць такія рэчы без агаворак.

З другога-ж боку — такое даверра (!) да немцаў, такія сымпатыі да немцаў — і на што гэта ўсё? І то ўжо другі і то цалкам аналягічны артыкул сваёй абсурдальнасьцю і гэрманафільства нашых партызанаў. Баюся, ці не інсьпіруюцца гэтыя «ўцекачы ад немцаў» бальшавікамі. Надта-ж на гэта падобнае.

Я крыўджуся на Адамовіча, што ён мала цікавіцца сваім рэфэратам і не прадумлівае такія рэчы. А падобныя далікатныя рэчы трэба вам прадыскутаваць разам. Артыкул сп. гэн. Куш. у «Змагары», яго заклік да камбатантаў мае таксама шмат памылак. Нашто такое цьверджаньне, што была магчымасьць (!?) «апошнім часам» сфармаваць Бел. войска БКА — але быццам увесь правал з-за… браку афіцэрскіх кадраў!

Я разумею, што адзін чалавек заўсёгды можа недагледзіць сваіх памылак, але-ж вы жывеце разам — дык трэба супольна.

Будзьце ласкавыя перадаць сп. Адамовічу, каб ён той матэрыял, які яму я ў свой час даў (падпісаны Рыдлеўскім) пераслаў Рыдлеўскаму заказным лістом. Рыдлеўскі хочыць нешта пісаць, і ён не пакінуў у сабе копіі. Кнігі-ж, якія я яму (Адам[овіч].) даў, хай прывязе сюды, я спадзяюся, што ён мяне застане.

Як усе зьбярыцеся, мы пагутарым шырэй на ўсе тэмы. Ёсьць аб чым.

Цяпер-жа хачу яшчэ пару словаў што да «Белар. слова» апошняга і перадапошняга №, апошняга асабліва. Вельмі шкадую, што ня маю часу, няма і прэсы. «Бел. Эмігрант» спрогся з пару людзьмі з «зарубежжа» і баіцца іх «дражніць», каб не ўцяклі — а «Бел. Навіны» ніяк яшчэ не зьбяруцца з сіламі. Калі-б у Вас у «Бацькаўшчыне» выйшла яшчэ (а мы тут чулі, што зьбіраецца на адзін №), дык варта было-б Вам з сп. Адам. ім хоць збольшага адказаць. Калісь яны (Астроўскі і Сабал[еўскі].) абразіліся за «квісьлінгі», а

[969] Маецца на ўвазе тэкст «У службе «Чорнага Ката» (Бацькаўшчына. № 2 (62). 25.03.1950).

цяпер самі аж скуры лезуць (у № 2 (14)[970]), каб дакумэнтальна давесьці, што яны (БЦР) твор фон Готбэрга… і бліскуча гэта даказваюць. Я ня думаю, што гэта просты ідыётызм Астроўскага і Сабалеўскага. Думаю, што гэта адно з заданьняў, атрыманых ад бальшавікоў, каб за ўсякую цану «даказаць» сьвету «пратэкцыю» немцаў беларусамі, каб усякімі сіламі апраўдаць нямецкую ў нас акупацыю.

Цяпер вельмі цікава, што Сабалеўскі ў «Палеміцы» сваёй бэсьціць усё беларускае, уключаючы і свой БЦРаўскі «Рух», прыкладам, у артыкуле «Мы і яны» (№ 2 (14)), у якім даказвае, што беларускі рух можа жыць толькі на чужыя грошы, што самастойна беларусы ня ў стане зрабіць ні зьезду, ні паездкі і г. д.

Агулам маю ўражаньне, што ўсе тэзы, якія зарубежнікі прапагуюць, накіраваны ў такой-жа ступені супроць іх, як і супроць нас. Ці можна дапусьціць, каб Сабалеўскі і Астроўскі гэтага не разумелі — думаю, што не, што яны гэта разумеюць, але мусяць гэтак дзеіць.

Варта было-б нашаму рэфэрату прапаганды ў гэтым сэньсе штось распрацаваць і здэмаскаваць іхнюю тактыку, бо-ж столькі даюць яны да гэтага аргумэнтаў.

Гэнэрал Шандрук[971] фактычна абараняе зарубежжа, і няма зь ім рады. Уцягівае Шчорса да ўкраінскіх «кангрэсістых»[972], Шчорс-жа там разплачываецца сваім падхалімным «украінафільствам». Проста ўжо абрыдзела гэта ўсё, і ў цэлым з украінцамі толку не дабіцца. Паводле чутак, украінцы цьвердзяць, што Урад УНР даў такі адказ у Амэрыку, каб трактаваць «абедзьве» беларускія групоўкі роўна. Шандрук на сьвяце зарубежнікаў «25 сак.», на які прышло чалав. 30, павёўся проста ганебна нат з пункту гледзішча ўкраінскага. Поп Гарбацэвіч (ці Гарбановіч) цесьць Буляка на малебні зласіў беларусаў за спробы пры немцах арганізаваць БАПЦ, а цяпер яшчэ горш некананічнымі ўкраінскімі епіскапамі высьвячаюць такога чалавека, як Тамашчык — словам, пасьля такой едзіна недзялімай прамовы папа маскаля Шандрук, які як украінец, не гаворачы ўжо як гэнэрал і міністар абароны УНР, мусіў-бы дэманстрацыйна выйсьці, — выступае з прывітаньнем ад «Прамэтэю» гэтай групы.

25 красавіка г. г. Саюз амэрыканскіх камбатантаў арганізаваў парад на 5-й Эвэню (галоўнай Авэню Нью Ёрку). Гэты парадны паход пад назовам «*Loyality Parade Day*»[973] меў быць адначасова антыбальшавіцкай дэманстра-

---

[970] Маецца на ўвазе газета прыхільнікаў БЦР «Беларускае слова» (№ 2 (14). 25.03.1950).

[971] **Паўло Шандрук** (1889–1979), украінскі вайсковы дзеяч, генерал-харунжы войскаў УНР у 1920 г., генерал-палкоўнік і камандуючы УНА ў 1945 г. Ад 1949 г. жыў на эміграцыі ў ЗША.

[972] Маецца на ўвазе Украінскі кангрэсавы камітэт Амерыкі.

[973] Маецца на ўвазе **парад на *Loyalty Day*** — свята, што адзначалася ў ЗША прыкладна на пачатку траўня як дзень вызнання ЗША і амерыканскай дэмакратычнай

цыяй. У паходзе прыняло ўдзел каля 70000, было дазволена на ўдзел і нацыянальным групам. Наш камітэт атрымаў дазвол маршыраваць сваёй асобнай групай пад назвай *«Byelorussian Groupe»*. Маршалам бел. групы быў інж. М. Гарошка. У нашай калоне ішло каля 60. Беларускі сьцяг нёс кап. Русак, амэрыканскі дац. Дарашэвіч, за сьцягом ішлі я і інж. Гарошка, між намі, у сярэдзіне Г. Родзька ў бел. нацыян. касьцюме, далі плакаты-лозунгі, за імі бел. калона.

Зарубежнікі, не атрымаўшы мейсца, прылучыліся да ўкраінцаў. Масы іх хацелі ісьці разам з намі, і з нашага боку ня ставілася ім ніякіх перашкодаў. Яны маглі з намі ісьці ўсе разам, асобнай калонай у беларускай групе. Шчорс нат, вязучы сваіх людзей з *South River* да Нью Ёрку, казаў ім, што пойдуць «разам» г. з. «беларусамі», а завёз да ўкраінцаў. Украінцы-ж ведалі, што беларуская група ў паходзе мае сваё мейсца, але іх да сябе прынялі. З боку ўкраінцаў бязумоўна сьвінства і нялояльнасьць да нас. Мільён нью-ёрцаў глядзела, што ў той час, як ішла асобная беларуская група, у групе ўкраінцаў плялося ў нейкае «ўайтрутэнскае» прыхвосьця з беларускімі сьцягамі, як і мы, але дэманстраваўшае нейкі ўкраінскі правінцыялізм. Ці з гэтага што ўкраінцы выйгралі — падтрымліваючы маскоўскую тэзу, што «ня ўсе бел. незалежнікі»? — думаю, што не.

Украінска-беларускія ўзаемадачыненьні трэба будзе глыбей высьветліць і падаць публічнай дыскусіі, каб усё ўкраінскае грамадзянства перадумала і затрымалась над «акцыямі» некаторых іхных чыньнікаў, бо з гэтымі чыньнікамі, відаць, толку нам не дайсьці. Трэба будзе заапэляваць да апініі ўсяго ўкраінскага грамадзтва.

А тым часам бывайце.

*Ваш М. Абрамчык.*

*

*7.6.50*

*N. York*

Вельмі Паважаны Сп. Старшыня[974],

Сягоньня атрымаў Ваш апошні ліст № 791/50, а перад тым усе папярэднія.

На апошні Ваш ліст далучаю тут свой дэкрэт. Калі-б ён разыходзіўся з Вашымі думкамі паводля абставінаў там у Вас, зрэдагуйце тагды яго адпаведна вымогам і перадасьцё каму трэба копію, зацьверджаную Вамі, на блянцы Ураду, а тэкст перашліце мне з кімсь пры аказіі. Яго я падпішу тагды тут і пакіну для Вашага архіву копію таксама. Калі-ж такі тэкст адпавядае — дык тады ўсё ў парадку. Але тым ня менш пасылаць яго кудысь у такім відзе ня варта. Лепі зрабіць копію на вашай блянкцы, бо, бачыце, я цяпер чуюся ў

спадчыны. Адзначаўся ад 1921 г. спачатку як Дзень амерыканізацыі. Да 1958 г. не быў афіцыйным сьвятам.

[974] Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму.

«дарозе», як ніколі. Ня маю бланкаў сваіх да таго. Зрэшты, даю Вам у гэтым сэньсе вольную руку.

Дэмісію Вашую прыняў да ведама. Функцыі аднак свае мусіце поўніць усімі магчымасьці[975] да наступнай сэсіі Рады. Яна можа адбыцца не раней пачатку жніўня, калі ўсе зьедуцца сюды.

З ратыфікацыяй дагавору з казакамі наўдачу ўхаплю заладзіць будучы тут[976]. Маю вялікі навал працы, баюся, ці ўхаплю з усім тутэйшым справіцца да выезду. Вісяць яшчэ на плячох дзьве неабходныя паездкі (у Вашынгтон і Канаду). Маю шмат пісаніны, а сакратар мой пайшоў на працу, на фабрыку. Здаецца, аддам хутка да друку атрыманы калісь ад Вас пратакол.

Галяк ужо пераехаў і працуе на шакаладнай фабрыцы. Хочуць тут выдаваць газэту — фактычна распачаць. Дыскутуюць, каб назоў застаўся «Бацькаўшчына». Грошы на першы № дае Др. Станкевіч. Галяк мае быць рэдактарам[977].

А пакуль бывайце.

*М. Абрамчык.*

P. S. Пануцэвіч усталяваўся ў Чыкага. Паслалі яго туды мы. Вар[978]. зноў заламаўся і ўнікае ад Пануцэвіча. З усякай яго папулярызацыяй трэба ўстрымацца. Чарапук-Змагар малайчына.

*

*17.5.51*

В. Паважаны Сп. Старшыня[979],

Вось учора вярнуўся з Рыму і хачу падзяліцца з Вамі і сябрамі Ураду сваймі ўражаньнямі ды высновамі апошніх часоў.

1. Паездку сваю з Рыму ў Мадрыд не зрабіў з шэрагу незалежных ад мяне прычынаў. Адклаў таму на пазьней, на восень, бо цяпер там з прычыны гарачыні паразьяжджаліся ўсе на вакацыі.

2. З майго побыту ў Рыме я задаволены. Правозіў мяне а. Робэрт і быў мне цудоўным памоцнікам. А. Робэрт нашай справай праняты, палюбіў беларусаў і Беларусь здалёку, а таму як чэсны й працавіты манах — працуе для нас з усёю душой.

---

[975] Так у арыгінале.

[976] Дамова Ураду БНР з Вярхоўным казацкім прадстаўніцтвам была ратыфікаваная спачатку на Пятай сесіі Рады, а тады адмысловым «ратыфікацыйным лістом» ад Прэзідэнта, які захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[977] У выніку стала выдавацца газета «Беларус».

[978] Маецца на ўвазе Язэп Варонка.

[979] Ліст адрасаваны Аўгену Каханоўскаму.

У Рыме я прабыў 11 дзён. Першы візыт склаў кардыналу Тысэрану[980] — усходняй кангрэгацыі. Прыняты быў в. цёпла. Ён, кардынал, выслаў свайго сакратара спаткаць нас на дварэ, і размова мая з кардыналам трывала 45 мінут. Склаў я яму свой мэмор'ял, копію якога прышлю Вам пазьней, бо а. Робэрт яшчэ астаўся ў Рыме, да мяне заедзе пазаўтра. (Ён вязе ўсе справы як мой тэхнічны сакратар, я выехаў з Рыму на выклік тэлеграмы, аб чым будзе мова ніжэй).

Кардынал Тысэран даў мне прызнаньне, што створаная намі база ў Лювэне для студыяў для нашай моладзі будзе ім падтрымлівацца. А таксама пры патрэбе дапамагаць будзе з кантактамі для нас у каталіцкім сьвеце.

Цяжэй было дабіцца аўдыэнцыі ў латынскай кангрэгацыі з прычыны юбілею «Рэрум новарум»[981]. Наехала было многа людзей, многія біскупы чакалі тыднямі на аўдыэнцыю. Дзеля таго й мне давялося чакаць цэлы тыдзень на аўдыэнцыю ў сакрэтара ді Спато і Папы.

У чаканьні гэтай аўдыэнцыі склаў ім мэмор'ял і свае дэзыдэраты — каб адпаведныя рэфэрэнты падгатовіліся, азнаёміўшыся з маімі вымогамі. А. Робэрт у гэты час быў увесь час у кантакце з гэтымі рэфэрэнтамі, а я таму ў курсе справаў аб настроях і рэакцыі на мае дамаганьні.

Аўдыэнцыя мая ў сэкрэтарыю ді Спато адбылася ў аўторак 14.5 рана ў 9 гадзіне. Спаткаліся мы ўжо так, як быццам справа наша была перадыспутавачая. У маім мэмор'яле былі пералічаныя ўсе дэацэзіі, якія ў этнаграфічных межах Беларусі Папскай сталіцай былі ў тэй ці іншы час [нечытэльна]. Было іх усіх разам аж 13. У мяне было (у мэмор'яле) пытаньне, Ураду БНР няведама, які намер апостальскай сталіцы надалей што да гэтых дэацэзыяў.

Ставячы гэтае пытаньне, я хацеў (як Вам ведама) даць зразумець Рыму, што ў справах вызначэньняў біскупаў на гэныя пералічаныя дэацэзыі — Рым павінен мець справу з намі, а не зь якімсь з нашых суседзей, пратэндуючых на гэтыя землі нашыя.

Монсэньёр Дэль Аква — рэфэрэнт у справе ерархіяў — быў вельмі задаволены, што мы турбуемся і, як выглядала, хочам мець гэтыя ўсе дэацэзыі на сваіх землях адкрытыя, таму мяне паведаміў, што з пункту гледжаньня апостальскай сталіцы, кожная дэацэзыя, раз устаноўленая Папам, уважаецца існуючай, і мы будзем вельмі шчасьлівыя ўзнавіць іх актыўнасьць, калі гэта практычна будзе магчыма, а што цяпер вызначаць на гэныя дэацэзыі япіскапаў яны нікога ня могуць, бо тэрыторыі гэныя ня ёсьць вольныя. Я зазначыў, што цяпер вызначэньня біскупаў на гэтыя дэацэзыі нашых земляў мы і не дамагаемся, але жадалі-б быць добра ў курсе справаў, як плянуе Ватыкан

---

[980] **Эжэн Тысеран** (*Eugune-Gabriel-Gervais-Laurent Tisserant,* 1884–1972), францускі і італьянскі кардынал. У 1936–1959 гг. быў сакратаром Свяшчэннай кангрэгацыі па справах Усходняй царквы.

[981] Маецца на ўвазе адзначэнне 60-годдзя энцыклікі Папы Льва XIII «***Rerum Novarum***», прынятай 15 траўня 1891 г. і прысвечанай становішчу працоўнага класа. Энцыкліка стала ідэйным падмуркам хрысціянскай дэмакратыі.

справу гэтых дэацэзыяў, ці робіцца якаясь падгатоўчая акцыя ў гэтым напрамку? Ды адразу-ж давёў, што мы хацелі-б, каб гэтая падрыхтоўчая акцыя праводзілася ўжо, каб нашая эміграцыя адчула, што па вызваленьні Беларусі мы ня будзем мецць дачыненьні з чужымі нам (як дагэтуль) епіскапамі.

Дамагаўся таму, каб апостальская сталіца, пакуль Беларусь у няволі, вызначыла для беларускіх каталікоў на эміграцыі Апостальскага візітатара, які-б: 1. згрупаваў каля сябе ўсіх беларускіх ксяндзоў; 2. падгатаўлялі-б кадры для вольнай Беларусі; 3. Гэты-б апостальскі візітатар быў-бы неафіцыяльным «нунцыем» пры нашым урадзе.

Адказалі мне, што гэту справу прадыскутуюць яшчэ ў кангрэгацыі, яна вельмі далікатная на сёньня, але пастараюцца зрабіць усё, што будзе магчыма ў сяньняшніх умовах, каб нас задаволіць.

Праект таксама падтрымкі для выдавецтва нашай Акадэміі навукаў і мастацтваў — абяцалі й гэту справу разгледзіць. Устаноўлены кантакт, праз які будзем карэспандавацца і праз які мне дадуць адказы на ўсе парушаныя мной справы.

Аўдыэнцыю ў Папы меў кароткую, бо заўпраўды на чарзе стаяла сотні людзей, папрыязджаўшых з усіх канцоў сьвету.

Вынес аднак уражаньне, што Папа ў беларускіх справах добра арыентуецца.

З аўдыэнцыі ў Папы адразу паехаў на вакзал, бо раніцай атрымаў тэлеграму з Парыжу, што *Mr. Don Levin*, прыехаўшы зь Нью Ёрку, можа застацца ў Парыжы толькі да 4 гадзіны 16.5 і што вельмі хочыць мяне бачыць у вельмі важных справах. Прыехаў таму ў Парыж у 2 гадзіны і адразу пайшоў да Левіна ў яго гатэль.

*Mr. Don Levin* — мой знаёмы па Нью Ёрку. Гэта рэдактар *«Plain Talk»*, які мне хацеў дапамагчы пры выданьні маёй брашуры *«I accuse the Kremlin…»*, але потым выехаў у Эўропу, і я яго болей ня бачыў.

Цяпер *Don Levin* належыць да групы амэрыканскіх палітыкаў, якія заснавалі «Камітэт вызваленьня народаў Расеі». Ён прыяжджаў да Эўропы па даручэньні гэтага Камітэту, каб увайсьці ў кантакт з расейскімі і нерасейскімі палітычнымі групамі, каб прывесьці іх да згоды дзеля супольнае акцыі ў барацьбе з бальшавізмам. Ён аб’ехаў Нямеччыну, меў спатканьні ў Парыжы, едзе цяпер у Лёндан і за пару дзён адлятае самалётам у Нью Ёрк.

Я, на жаль, меў змогу гутарыць зь ім спантанна толькі гадзіну часу і з паўгадзіны ўрыўкамі на адходзе, калі ён з жонкай мітусіліся з валізкамі, чакаючы на таксі.

Дзеля таго я даў адрыс яму сп. прэм’ера Каханоўскага, а ён прасіў, каб Каханоўскі затэлефанаваў яму ці напісаў пару словаў — дзеля спатканьня ў Нью Ёрку.

Сп. *Don Levin* з нашых краёў[982] і гутарыць пэрфэктна па-расейску.

[982] Айзек Дон Левін сапраўды нарадзіўся ў Мазыры.

Мэта яго са мной спатканьня была даведацца аб нашым адношаньні да іхняй ініцыятывы.

У Нью Ёрку ён меў гутарку з грузінамі, армянамі, туркменамі, украінцамі (Мазэпай і групай Багрянага) і з 4-мя групамі расейцаў. Зь беларусаў яму быў рэкамэндаваны ўкраінцамі нейкі («праўдзівы») беларус з Шлёзгайму нехта Татинев — ці Таніцэвіч (?), але гэта між іншым, ён зь ім толькі абмяняўся пару словамі. Раілі яму спаткацца з Астроўскім, але не знайшоў яго адрысу ды ня меў часу ехаць дзесь у ангельскую зону.

Мяне, як старога знаёмага, спаткаў з радасьцьцю. Ён найперш выклаў кароценька аб заданьнях іх Камітэту і аб выніках сваіх перагавораў у Нямеччыне.

Вось-жа Камітэт іх назвы афіцыяльнай яшчэ не ўстанавіў. У кожным разе ён ня будзе звацца «Камітэт вызваленьня народов Россіі», а неяк начы, бо слова «камітэт» напамінае нешта Власоўскае. Маюць клопаты што да самога нат назову з боку расейцаў. Яны, расейцы, ня хочуць, каб было слова *«народов»*, а проста *«освобождение России»*. Пры гэтым пажаліўся, што з прычыны расейскіх шавіністычных некаторых груп і быў правалены кангрэс у Мюнхэне. Жаліўся і на ўкраінскі шавінізм. Бандэраўцаў яны выключаюць зусім і не намераны н'ат зь імі гутарыць. З Мазэпам меў даўгую гутарку, але ні да чога не дагаварыліся. Затое атрымана ім згода на ўваход да таго «камітэту» ці «саюзу» барацьбы вызваленьня народаў России з боку групы Багрянога, грузінаў, армянаў і туркменаў.

З вылажанай мне іх «праграмы» выглядае так, што гэты «камітэт» ці «саюз» ці як там начы будзе звацца — мае за мэту аб'еднаць усе антыбальшавіцкія сілы на эміграцыі для распачацьця энэргічнай акцыі змаганьня з бальшавікамі. Яны, амэрыканцы, будуць стаяць збоку. Іх роля абмежыцца: даць матэрыяльныя магчымасьці гэтаму «камітэту» ці «саюзу» разьвіць сваю акцыю прапаганды праз радыё, прэсу і г. д. і г. д.

Яны, амэрыканцы, уважаюць, што ўсякая сур'ёзная акцыя супроць бальшавікоў без удзелу расейцаў — немагчымая, яны, амэрыканцы, ніколі ня пойдуць на такую акцыю-спаўпрацу, якая-б выключала расейцаў. З расейцамі таму нам (усім іншым народам) трэба дагаварыцца. Адно мусіць быць цяпер для нас усіх баявое заданьне — *«сваліць бальшавізм»*.

Яны, амэрыканцы, хочуць аб'еднаць таму цяпер усе «народы Россіі» на адным пункце — *«барацьба з бальшавізмам»*. Камітэт гэты мусіць унікнуць усіх пытаньняў, якія-б *«прадрашалі»* справу будучыні, бо будучыню вырашаць потым самыя народы. Дзяліць таму *«шкуру жывога мядзьведзя»* і сварыцца за яе — ня час. Пры гэтым дадаў мне як старому знаёмаму, што яны, амэрыканцы, зусім не намераны падтрымліваць Расейскага імпэрыялізму, што на народы гэтыя, увайшоўшыя ў іх «камітэт» ці «саюз» ніхто ня будзе рабіць ніякага націску ці перашкаджаць ім весьці сярод сваіх народаў прапаганду сваіх незалежніцкіх ідэяў, але трэба, каб гэтыя народы зразумелі, што яны, амэрыканцы, зусім не намераны аб'явіць блакаду расейцам, апяршыся толькі на нацыяналістычных групах *«мяншыстваў Расеі»*.

Гэткае вось у кароткіх словах заданьне «камітэту», «саюзу» па вызв. народаў Расеі.

Раней ніж яму выказаць свой погляд, папрасіў я мяне паінфармаваць, на якіх умовах ён дагаварыўся з тымі 4-мя расейскімі групамі што да пляцформы супрацоўніцтва з *«нацыянальнымі мяншынямі»* Расіі.

Сп. Дон Левін мне адказаў перадусім, што зь імі цяжка было вельмі таксама, але ён змусіў усё-ж такі іх пайсьці на некаторыя ўступкі: 1. Расейскія групы нарэшце згадзіліся, каб камітэт гэты называўся вызваленьня народаў Расіі, а не вызв. Расіі. 2. Што раней расейцы стаялі на тым, каб у склад гэтага камітэту 10 прадстаўнікоў ад рускіх груп і 5 ад «нацыянальных мяншынь», а ён націскаў на іх так, што камітэт гэты будзе складацца наступна: ад 4-х палітычных групаў расейцаў па 2-х прадст. = 8 + два нейкія «нэўтральныя» (расейцы 8+2=10). Ад нацыянальных мяншыняў 5 + 2 нэўтральны = 7. Гэткая кампазыцыя, па думцы сп. Дон Левіна, можа быць задавальняючай для нас, «нац. мяншыняў», бо гэтыя 8 прадстаўнікоў расейцаў так між сабой нязгодны, што згоды між імі ніколі ня будзе.

Пасьля ўсяго я, падзякаваўшы сп. Левіну за яго інфармацыю, выразіў перадусім жаль, што да супольнай акцыі ўсіх паняволеных народаў бальшавікамі, уключна й расейцаў, на тых засадах нат высунутых іх «камітэтам» — каб не прадрашаць цяпер будучыні нейкім фармальным дагаворам, адкладаючы гэту справу на вырашэньне самых народаў потым, а пакідаючы толькі нам цяпер вольную руку што да прапаганды нутрашняй, але зазначыў, што нат тая «кампрамісная» форма расейскіх груп як што да самай назвы «народов России», так і што да кампазыцыі камітэту — зьяўляецца ўжо яўна «прадрашальнай» і нат больш чым прадрашальнай — а вырашанай формай, формай чыста расейска-імпэрыялістычных сымпатыяў.

Прапорцыя складу камітэту — 10:7 — ніякім чынам, на мой погляд, ня будзе прынята народамі «Расеі», бо справядлівай была-бы прапорцыя ў адваротным парадку (7:10). На гэта мне сп. Дон Левін запярэчыў, што як нерасейскія яны маюць наўвеце толькі ўкраінцаў, беларусаў, грузін, армян і туркменаў (здаецца), іншыя-ж дробныя, як чувашы, мордва і т. п. імі не выдзяляецца ад расейцаў. Не забывайцеся, дадаў ён, што нельга расейцаў так далёка дразьніць. Без расейцаў акцыі мы творыць ня будзем! Зрэшты, дадаў мне, што і «камітэт» гэты ня будзе ўпаўнамочаны да нейкай канстытуцыйнай працы, а вылучна тэхнічнай, працы акцыі, а не эмігранцкіх гутарак.

На гэтым мейсцы яго паклікала жонка і сын разьлічыцца з готэлем — і ад'ежджаць на аэрадром. Рэшту таму дагаворвалі ўрыўкамі. Я яму сказаў, што сам на разе не магу яму даць адказу што да нашага становішча, бо мушу перагутарыцца з сябрамі. Папрасіў яго перагутарыць глыбей усё гэта з Каханоўскім і сябрамі сп. Каханоўскага як нашым прэм'ерам, у Нью Ёрку — дзе будзеце мець абодва больш часу. Зазначыў яму (Дон Левіну) толькі адно, што каб ён не намагаўся шукаць нейкіх «беларускіх» групаў у Нямеччыне ці іншых краёх — праз галаву нашага цэнтру, бо то ня будуць людзі рэпрэзэнтацыйныя — што ў нас усё сцэнтралізавана і што трэба

гутарыць толькі з цэнтрам, калі яны, амэрыканцы, хочуць наагул справу беларускай рэпрэзэнтацыі ў гэтым «камітэце» трактаваць салідна. За гэтую заўвагу ён мне падзякаваў і згадзіўся са мной, што начы было-б несамавіта. На прашчаньне мне сказаў, што, зразумела, ён і не чакаў ад мяне нейкага дэфінітыўнага адказу ў так кароткі час, але спадзяецца са мной яшчэ калісь пабачыцца, а тым часам будзе чакаць на спатканьне з сп. Каханоўскім, Махноўскім, Кушалем і г. д.

Маё ўражаньне:

1. Сп. Д. Левін адзін з актыўных амэрыканцаў, што арганізавалі ў Мюнхэне кангрэс «народаў Расіі», які пацярпеў поўны крах.

2. Па гэтым кангрэсе таму яны ўзяліся рэпараваць гэты правал і «нацягнулі» вось расейцаў да такога «кампрамісу» як «уступка» ў назове «народов Расіі» замест Расіі і ў прапорцыі 10:7 замест 10:5.

Яны, амэрыканцы, вычуваюць, што й гэты «кампраміс» расейцаў ня можа задаволіць «мяншыні» й таму ўважаюць, што ў працэсе перагавораў неяк дапнуць да большых кампрамісаў, каб склеіць нейкі такі арганізм да супольнай акцыі змаганьня з бальшавізмам.

2[983]. Сп. Левін у прыватнасьці верыць, што пад націскам амэрыканцаў гэтыя «меншасьці» нідзе ня дзенуцца, а рана ці позна ўступяць у гэны «камітэт».

3. Што акцыя такая патрэбна безадкладна і сьпешна.

4. Што амэрыканцам безумоўна залежыць, каб рэпрэзэнтацыі ад нацыянальных «меншасьцяў» былі салідныя — рэпрэзэнтатыўныя, але калі ім (гэным «меншасьцям») «шавінізм» заслоніць рэальнасьць, то яны абапруцца і на «рэпрэзэнтацыі» менш салідныя, з кім і павядуць працу.

5. Вынес уражаньне, што Мазэпа, адкінуўшы свой удзел у гэтым «камітэце», будзе мець там неафіцыяльны голас праз Багрянога. На ўсякі выпадак.

6. Што Левіну рэкамэндаваў Астроўскага Багряный.

7. Па маёй гутарцы зь Левіным ня думаю, каб ён больш меў ахвоту шукаць Астроўскага.

Яшчэ адзін вельмі важны і цікавы для нас мамэнт. Сп. Дон Левін зазначыў, што для іх акцыі патрэбны людзі ў Эўропе, а галоўным чынам у Нямеччыне, а не амэрыканцы, бо тут, у Эўропе, разпачынаецца акцыя, а не з Амэрыкі.

Я яму ў гэтым мейсцы сказаў, што ў нас людзі ёсьць у Эўропе, але каб іх упрэгчы ў якуюсь акцыю, патрэбна згода нашых цэнтраў, якія цяпер знаходзяцца ў Амэрыцы. Нельга, прыкладам, увязаць у акцыю беларускіх камбатантаў у Англіі, Бэльгіі і г. д., не дагаварыўшыся з цэнтраляй камбатантаў, гэн. Кушалем.

Мая думка: Сп. Прэм’ер Каханоўскі і сп. Махноўскі хай пойдуць да сп. Дон Левіна і глыбей зь ім абмяняюцца поглядамі, павесьці гутарку так, каб не зачыняць дзьвярэй кантакту з Дон Левіным. Заняць такую пазыцыю, што ў прынцыпе мы-б былі згодны на супольную акцыю, але што такая паста-

983 Менавіта такая нумарацыя — 2 паўтараецца — у арыгінале.

ноўка (як сяньня імі ставіцца) не прынясе ніякай карысьці ад гэтай акцыі амэрыканцам, а толькі шкоду. Стварыць у яго ўражаньне, што мы хочам з усяе сілы дапамагчы гэтаму «камітэту» стаць на моцныя ногі — але падстаўляць свае ногі пад так гліняныя цяперашнія — нічым-бы не памаглі амэрыканцам.

Напісаць мне потым дакладней аб ходу размоваў зь Левіным. Яго адрыс: *Mr. Isaac Don Levine, R.7 D. № 2, Norwalk, Conn., USA, telefon Norwalk 6-1542*.

Нам варта падумаць, ці не знайшлі-б мы падобнага беларускага Багрянога на ўсякі скрайні выпадак. (Што Вы на гэта?).

У Рыме, у міжчасе чаканьня аўдыенцыяў у Вашынгтоне, я склаў наступныя візыты:

1. Гэнэралу Мар'янскага ордэну арцыбіскупу Бучысу[984]. Мілы старык, сябра па акадэміі Эпімаха Шыпілы[985]. У яго доме мар'янаў жыве а. Татарыновіч. Я завярнуў увагу а. Татарыновіча, каб выкарыстаў гэтую аказыю і сабраў ад манс. Бучыса матэрыялы да манаграфіі Пім.-Шыпілы.

2. Візыт міністру Лазарацiусу[986]. Гутарку зь ім меў каля 2 S гадзінаў. Ён даваў адчуць, што ў курсе справаў перагавораў нашага Ураду з Сэдыкаўскасам[987]. Яго аднак пазыцыя — безкампрамісовая. *«Мы сядзім у Вільні і зь Вільні нас могуць выкінуць толькі сілай»*. *«Вільня немагчыма падлягаць ніякай дыскусыі»*. Сорак раз вярталіся навокал гэтай справы і кожны раз на ўсе мае аргумэнты, нат у вельмі часамі ставячы яго (Лазарацiуса) у нязручнае паложаньне, усё роўна ён канчаў свой вывад — *«Мы сядзім у Вільні і нас можна выкінуць толькі сілай — прабуйце»*. Часамі толькі ён глыбока задумваўся, знаходзіў сытуацыю такіх нашых узаемадачыненьняў трагічнай, прасіў мяне передумаць — але нат праводзячы з дому, сказаў *«Мы ў Вільні сядзім»* і г. д.

3. Польскі амбасадар пры Ватыкане Папээ[988] лічыцца акрэдытаваным цяпер. Даведаўшыся аб маім побыце ў Рыме, прыслаў сваё дыплёматычнае аўта і запрасіў на апэрэтыў. Быў у яго 40 мінут — візыт меў характар вылучна куртуазыйны — ніякіх спраў польска-беларускіх дачыненьняў не падымалася.

4. Адведаў могілкі Монтэ-Касіно — гэта 130 кілёмэтраў ад Рыму на поўдзень. Там пахавана каля 300 беларусаў. Склаў на іх могілкі вянок і

---

[984] **Францішак Бучыс** (свецк. **Пётр**, 1872–1951), епіскап, апостальскі візітатар для расійскіх каталікоў у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе.

[985] **Браніслаў Эпімах-Шыпіла** (1859–1934), дзеяч беларускай культуры, выдавец, фальклярыст, мовазнавец, літаратуразнавец. У 1907–1917 гг. выкладаў у каталіцкай Духоўнай акадэміі ў Санкт-Пецярбургу, дзе прыкладна ў той жа час працаваў і Францішак Бучыс.

[986] Маецца на ўвазе **Стасіс Лазарайціс** (1898–1983), літоўскі палітычны дзеяч, дыпламат. У 1934–1938 гг. быў міністрам замежных спраў Літвы. У паваенны час жыў у Рыме і займаўся абаронай літоўскіх грамадзянаў за межамі СССР.

[987] Маецца на ўвазе Вацлавас Сідзікаўскас.

[988] **Казімеж Папее** (1889–1979), польскі дыпламат. У 1939–1958 гг. быў амбасадарам польскага ўраду на выгнанні ў Ватыкане.

ў мясцовым манастыры а. а. бэнэдэктынцаў замовілі паніхіду па паўшых беларускіх воях пад Монтэкасінам.

Драбней аб гэтым будзе ў беларускай тутэйшай прэсе. Варта, каб усё беларускае духавенства адпраўляла паніхіды ў днёх гадавіны монтэкасінскага бою (бой трываў ад 11 да 18 мая). Варта, каб і сьвет ведаў аб зложаных там вялікіх ахвярах беларускіх пад Монтэ-Касіно.

Рэфэрэндум па сэктарах Рады мяне не зусім задаволіў. Першае, многія вельмі зацягнулі з прысланьнем мне вынікаў.

2. Няправільна зразумелі мэту рэфэрэндуму. Замест даць канкрэтныя нейкія вытычныя, у бальшыні сябры радныя пачалі мяне загружаць сваімі патрыятычнымі дэклярацыямі ўключна да рэфэраваньня гісторыі Вільні й г. д., словам, усё тое, аб чым ніхто з нас не сумняваўся.

Ад сэктару Нью Ёрку атрымаў пратакол толькі ўчора. Рэзалюцыя невыразная — гаворыцца аб нейкай I-й і II-й частцы рэзалюцыі, якой ніяк не магу знайсьці, дзе тая I-я і дзе II-я. Буду пісаць, прасіць паясьненьня. Не маю шчэ адказу з Англіі.

Жыве БНР!

*Ваш М. Абрамчык.*

*

*5.XII.66.*

*Сп. Кажану,*

*Копія Г. Кушалю.*

На працягу апошніх 2-х гадоў я ўвесь час быў занепакоены з сваёй да Вас паездкай. Гады гэтыя былі для мяне вельмі неспрыятлівыя. Яшчэ на мейсцы тут, у Эўропе, мог сяк-так круціцца і адрывацца часам ад хаты на тыдзень, на два, але ў Амэрыку на пару хоць-бы месяцаў, выкамбінаваць было немагчыма, як гэтага ні намагаўся — нічога не выходзіла. Часам н'ат пападаў у нязручнае паложаньне, калі свой выезд, аб якім дамаўляўся з Вамі, даводзілася анулёўваць. Нарэшце гэтым разам ужо прыяжджаю. Меўся н'ат быць у Вас на сьвяты, але па лініі Парыжскага блёку мае сябры і Цынцадзэ, і Лівіцкі настаялі, каб перад Калядамі зрабіць абавязковую сходку з амэрыканцамі. Еду таму ў Мюнхэн 14-га гэтага месяца і вярнуся зтуль дзесь за пару дзён перад сьвятамі. Не выпадае таму наконадні самых Каляд уцякаць з хаты. Асабліва хлапец прасіў[989], дык так і дагаварыліся. Выеду таму да Вас 4-га або 6-га найпазьней, сьцюдзеня. Вярнуўшыся з Мюнхэну, паведамлю Вас дакладней аб часе прыезду да Вас.

Прабыць у Вас зьбіраюся каля 3-х месяцаў, але ня больш. Павярнуцца да дому мушу не <u>пазьней</u> 15-га красавіка. Вось-жа будзем мець часу мінімум 20 дзён у сьцюдзені, цэлы люты і сакавік ды дзён 10 красавіка. Думаю, што

[989] Маецца на ўвазе сын Міколы Абрамчыка Альгерд.

больш нам часу і ня трэба будзе. Я маю ўражаньне, што кожным з нас шмат чаго за гэтыя 4-ры апошнія гады перадумана. Кожны з радных «вынасіў» за гэты час пэўную думку, што Сэсыя пройдзе пры большым да яе зацікаўленьнем. Калісь я Вам пісаў (гады паўтары таму), як меўся да Вас прыехаць, каб да майго прыезду правялі Вы (Прэзыдыюм з Урадам) шэраг нарадаў з раднымі на ўсе актуальныя праблемы, але цяпер наўрад ці на гэта дазволіўбы Вам час, пакольні за месяц прыяжджаю.

Думаю, адылі, што ўсё-ж такі Вы зьбярыцёся, прынамсі Урад з Прэзыдыюмам, каб намеціць пэўную праграму Сэсыі, якую (гэтую праграму) Вы ўважалі-б для парадку дня, каб, як прыеду, маглі яе адразу паведаміць Радным. У першых 2-х тыднях я-б пабываў у Вашынгтоне, а потым-бы і пачалі Сэсыю. Пішу аб гэтым адначасова і ст. прэзыдыюма.

Вы пэўне чыталі ўжо ў «Бацькаўшчыне» наша «паведамленьне» з дадаткам майго інтэрвію[990] аб дагаджэньні з «Кранштацкай групай»[991] расейцаў на супольны фронт барацьбы з бальшавізмам. Шырэй аб гэтым — як прыеду. Агулам, тут усе ў нашым Парыжскім блёку лічаць гэта за вельмі важны крок наперад. Падчас нашых тут перагавораў у Мюнхэне іх прадстаўнік сп. Гольдвін прасіў ў мяне кантактаў з нашымі людзьмі ў Амэрыцы й Канадзе. Ім я даў Ваш адрыс і сп. Станкевіча як Радактара «Беларуса», у Канадзе Др. Грышкевіча. Разам з гэтым лістам, асобным пакетам, пасылаю Вам брашуру Петрова Скитальца[992] пад тытулам «Национальная проблема СССР»[993], каб маглі Вы больш пазнаёміцца, што зь сябе (у сэньсе ідэалягічна-палітычным) прадстаўляе гэта «Кранштацкая Група» расейцаў.

Брашура гэта фактычна і ёсьць палітычнай праграмай гэтае Кранштацкае Групы. Выдаюць яны й свой Бюлетэнь пад назовай «За Вашу і нашу Свабоду» (на рататары).

Нас усіх тут (у Парыжскім блёку) думка: падтрымаць іх як мага, бо гэта адзіная з пасярод расейцаў група, якая поўнасьцю пагоджываецца на ўсе нашыя пастуляты, што да сувэрэннасьці і незалежнасьці нерасейскіх народаў.

Жадаю Вам Вясёлых Сьвят Каляд і Шчасьлівага Новага Году!

*М. Абрамчык*

---

[990] Маюцца на ўвазе «Інтэрв'ю з Прэзыдэнтам Рады БНР» і «Паведамленьне», апублікаваныя ў: Бацькаўшчына. № 3 (636). Кастрычнік 1966.

[991] Маецца на ўвазе заснаваная на пачатку 1960-х гг. расійская эміграцыйная суполка **«Кранштацкая група»** (аб'ядноўвала каля 50 чалавек), якая вызначала права народаў СССР на самавызначэнне і ў 1966 г. падпісала пагадненне з Лігай вызвалення народаў СССР.

[992] Маецца на ўвазе **Аўген Пятроў-Скіталец** (1905–1965), расійскі публіцыст, кінарэжысёр і палітычны дзеяч на эміграцыі, сын пісьменніка Сцяпана Пятрова-Скітальца (1869–1941).

[993] Маецца на ўвазе брашура Аўгена Пятрова-Скітальца «Национальная проблема в СССР (Взаимосвязи и освобождение)» (1965).

*

*23.4.70*
*Villepinte*

Вельмішаноўны й дарагі сп. Русак,

Даўно, даўно зьбіраўся Вам пісаць, перадусім, каб Вам падзякаваць за Вашу так старанную працу і так рэгулярныя мне пасылкі, якія былі заўсёгды галоўнай помаччу ў найкрытычнейшыя момэнты майго так «куртатага» бюджэту. Буду Вас прасіць, паколькі гэта будзе ў Вашай сіле і магчымасьцях, прадоўжываць гэту акцыю, хоць ведаю, што гэта ёсьць непрыемная й нялёгкая для Вас праца.

У мяне быў тут паўтара дня др. Рагуля. Ён прылятаў спэцыяльна мяне адведаць. Ён вас усіх паінфармуе дакладней, як аб стане майго здароўя, так і аб сытуацыі наогул. Агулам-жа справы мае незавідныя. Калі ня выкараскаюся шчэ за нейкі год часу, то прыдзецца «выцягнуць ногі» і разьвітацца з усімі вамі. Вельмі мучуся ад балей жалудка. Аб усіх эвэнтуальнасьцях, на выпадак маёй сьмерці, зроблены плян з др. Рагулям. Уключна й сплата майго доўгу, зробленага пазычкамі падчас майго апошняга ў вас побыту.

Цяпер прашу Вас, бо-ж пэўне Вам, калі не цяпер, то калісь, будзе патрэбна мець квіты на ўсе перасыланыя Вамі мне грошы. Вось-жа пэўне згодзіцеся, што ў такім стане я ня мог весьці рэгулярна сваю бухгальтэрыю, усё дзесь запісана, але капацца мне цяпер цяжка, ня маю энэргіі. Прышліце таму мне сьпісак усіх высланых мне сум (чэкаў) ад першага дня да сяньня, а я тагды вышлю Вам паквітаваньне ці агульны квіт на агульную суму.

Бывайце здаравенькі.

Сардэчнае прывітаньне спадарыні Русак.

*Ваш М. Абрамчык.*

# ЛІСТЫ АЎГЕНА КАХАНОЎСКАГА

*

*19.6.49*

*Яго Шаноўству*
*Прадстаўніку Ураду БНР у Канадзе*
*Спадару Раднаму Акулу Канстантыну*

1949–1950 г.г. будуць вырашальнымі гадамі эміграцыі беларускіх перамяшчэнцаў зь Нямеччыны і Аўстрыі ў іншыя краі Эўропы, Амэрыкі і Аўстраліі. Ужо пачалася масавая акцыя ІРО па перасяленьню ДП у ЗША, Аўстралію, Канаду й Нарвэгію. У Нямеччыне і Аўстрыі дзеля таго з кожным днём беларускіх ДП становіцца штораз меней, а ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі і інш. краёх — болей.

Гэта змушае Урад БНР спэцыяльна зьвярнуць увагу сваіх Прадстаўнікоў на тое, што адгэтуль уся праца беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Нямеччыне і Аўстрыі мае паступова пераносіцца ў новыя краі эміграцыі. Галоўнымі асяродкамі гэтае эміграцыі й беларускае нацыянальнае працы, згодна пляну Ураду, маюць быць: Францыя, Ангельшчына, Бэльгія й Швэдыя — у эўрапэйскім сэктары (а пры іх — Італія, Нарвэгія, Данія й Марокка); ЗША, Канада і Аргентына — у амэрыканскім сэктары (а пры іх — Бразылія й Вэнецуэля) і Аўстралія — у ціхаакіянскім сэктары.

У сувязі з гэтым роля Прадстаўнікоў Ураду БНР у вагульнай сыстэме беларускага нацыянальна-вызвольнага руху значна зрастае, а іхныя заданьні адпаведна павялічваюцца. Таму ўсе Прадстаўнікі Ураду БНР адгэтуль абавязаныя:

1. Разам із узмацненьнем свае вонкава-палітычнае акцыі разбудоўваць і актывізаваць унутрынацыянальную грамадзкую й палітычную працу. Дзеля спрыяньня хутчэйшаму скантактаваньню эмігруючых беларусаў зь Нямеччыны і Аўстрыі із сваімі нацыянальнымі беларускімі арганізацыямі ў краёх новае эміграцыі Урад БНР прадпрымае меры да таго, каб кожны эмігруючы беларус атрымаў перад сваім выездам зь Нямеччыны і Аўстрыі адрыс беларускае арганізацыі таго краю, куды ён выяжджае, а Прадстаўнік Ураду БНР — сьпісы выехаўшых.

2. Дакладна да 15.4, 15.7, 15.10 і 15.1 прадстаўляць Ураду БНР квартальныя справаздачы аб беларускай нацыянальнай працы краю свайго месцапрабываньня. Гэтыя справаздачы павінны адбіваць у сабе: а. усе зьмены ў колькасным складзе эмігрантаў; б. зьмены ў ейным нацыянальна-палітычным твары; в. рэгістраваць зьмены ў стане існуючых беларускіх арганізацыяў; г. адзначаць найбольш выдатныя факты з нутранога нацыянальнага жыцьця (зьезды, канфэрэнцыі, абход нацыянальных юбілеяў і сьвятаў, культурныя імпрэзы, выдавецкая дзейнасьць і г. д.); д. падаваць сабраныя сумы ў Фонд

25-га Сакавіка асобна па кожнай прыбытковай пазыцыі; е. а таксама й важнейшыя факты з вонкава-дыплёматычнае акцыі.

*Прэм'ер-Міністар Ураду БНР А. Каханоўскі.*

*

*28.6.49*

*Яго Эксцэленцыі*
*Прэзыдэнту Беларускае Народнае Рэспублікі*
*Спадару інж. Абрамчыку Мікалаю*

У сувязі з тым, што ўжо прайшоў год часу ад Сэсіі Рады БНР, на якой быў апрабаваны сёньняшні габінэт Ураду, які па адмове др-а В. Тумаша быў змушаны ўзначальваць я, я ўважаю за свой абавязак зрабіць Вам наступную заяву:

1. На ўспомненай Сэсіі ад імя Ураду я даў прырачэньне, што Урад БНР будзе старацца апраўдаць выказаны яму давер. Але тады-ж я ўзалежніў гэтае прырачэньне ад веры ў тое, што *«ў сёньняшніх цяжкіх і няспрыяльных умовах Урад заўсёды знойдзе шырокае падтрыманьне ўсіх Сяброў Рады БНР»*, бо *«заданьні, якія стаяць перад ім, такія вялікія й адказныя, што бяз гэтае падтрымкі Ураду будзе вельмі цяжка выканаць ускладзеныя на яго абавязкі»*.

2. Вось-жа праца Ураду ў вельмі цяжкіх умовах — амаль ніякіх фінансавых сродкаў, зарганізаванага апарату працаўнікоў, пры завастрэньні зарубежніцкае дэструкцыі ўнутры нашае эміграцыі й безадказнае пасыўнасьці бальшыні нашага нацыянальнага актыву — паволі пачала разгортвацца. Што Урадам было зроблена за прайшоўшы год, Вы й Прэзыдыюм Рады можаце судзіць паводля справаздачы Ураду Прэзыдыюму Рады 14.3.1949 г. і маіх вусных і пісьмовых дакладаў Вам. Найбольшыя здабыткі гэтае працы — арганізацыя і актывізацыя скардынаванае праз пакліканьне Урадам інстытут сваіх Прадстаўніцтваў беларускае нацыянальна-вызвольнае працы паводля адзінага пляну Ураду ў цэлым сьвеце і актывізацыя вонкавае палітыкі.

3. Аднак маё сумленьне не дазваляе мне займацца самаашуканствам, заспакойвацца на дасягнутым і цешыцца зь першых удачаў. Прывыкшы глядзець праўдзе ў вочы, я не магу хаваць недахопаў працы ці мірыцца зь імі. З гэтага гледзішча я расцэньваю працу Ураду за недастатковую і ёю незадаволены. Нецярпімым у працы Ураду ёсьць далейшая бязьдзейнасьць тых міністраў, якія павінны быць найбольш актыўнымі й дзейнымі, гэта — міністар нутраных справаў, міністар прэсы і інфармацыі, міністар культуры й веравызнаньняў, міністар вайсковых справаў і міністар фінансаў. Фактычна гэтыя міністры, не зважаючы на ўсе мае намаганьні, сваю працу дагэтуль яшчэ не распачалі, і я ня маю ніякае надзеі, што яны яе распачнуць. Пры гэтым я не раблю закідаў палк. Ф. Кушэлю, які не з свае волі змушаны лёкальнымі абставінамі няспрыяльнае нутраное сытуацыі займацца грамадзкімі справамі й таму ня мае часу выконваць свае функцыі ўва Урадзе.

4. Ад Прэзыдыюму Рады, як і ад паасобных сяброў Рады, я ня маю амаль ніякае практычнае дапамогі й падтрымкі.

5. На маю думку, гэта ёсьць вынікам бескантрольнасьці й бяскарнасьці ў працы ўсіх нашых органаў і арганізацыяў. Так далей цягнуцца ня можа. З гэтага я ня бачу іншага выйсьця, як толькі прасіць Вас дэмісіі, каб гэтым самым даць Вам магчымасьць паклікаць новы, больш жыцьцяздольны Урад, тым балей, што 20.5.1949 г. я спэцыяльным ультыматыўным лістом да вышэйуспомненых міністраў папярэдзіў іх, што калі яны неадкладна не распачнуць актыўнае працы ў сваіх рэсортах, я змушаны буду прасіць Вас аб дэмісіі.

6. Разам з гэтым, я дайшоў да цьвёрдага перакананьня, што нам трэба як найхутчэй арганізаваць строгі кантроль усяе нашае працы, неадкладна прыцягваючы да суровае кары кожнага раднага за ягоную безадказнасьць, пасыўнасьць і недысцыплінаванасьць. А дзеля гэтага наўперад патрэбны Ваш зварот у гэтай справе да ўсіх сяброў Рады.

Жыве БНР!

*Прэм'ер-Міністар Ураду БНР А. Каханоўскі.*

*

*15.7.49*

*Яго Шаноўству*
*Прадстаўніку Ураду БНР у Францыі*
*Спадару Міністру інж. Рыдлеўскаму Лявону*

Дзеля таго, каб запабегчы ненармальным узаемадачыненьням паміж Прадстаўніцтвамі Ураду БНР і беларускімі грамадзкімі арганізацыямі — сябрамі САБЭ, Урад БНР у дадатак да сваіх Інструкцыяў 1–5 выясьняе, што:

1. Прадстаўніцтвы Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету зьяўляюцца паўнамоцнымі экспазітурамі Ураду БНР — выканаўчага органу Рады БНР — беларускага дзяржаўна-палітычнага цэнтру на эміграцыі. З гэтага й выплываюць іхныя абавязкі й кампэтэнцыі, дакладней акрэсьленыя ў Інструкцыях Ураду 1–5 і дэталізуючых іх распараджэньнях.

2. Згуртаваньні беларускіх эмігрантаў у розных дзяржавах сьвету (Беларускі нацыянальны камітэт — Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускае эміграцыі ў Нямеччыне, Хаўрус беларусаў у Францыі, Згуртаваньне беларусаў Вялікабрытаніі, Саюз беларусаў у Бэльгіі, Беларуская грамада ў Скандынавіі, Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне, Згуртаваньне беларусаў у Канадзе і г. д.), будучы сябрамі Сусьветнага аб'еднаньня беларускае эміграцыі, зьяўляюцца грамадзкімі арганізацыямі. На тэрыторыі дзяржаваў свайго месцапрабываньня яны аб'ядноўваюць іншыя грамадзкія арганізацыі (культурныя, прафэсыйныя і г. д.) і згодна сваіх статутаў ды інструкцыяў і распараджэньняў Галоўнае Управы САБЭ кіруюць грамадзкім жыцьцём беларускіх эмігрантаў.

3. Прадстаўніцтвы Ураду БНР усе гэтыя грамадзкія арганізацыі павінны трактаваць за аўтаномныя, якія ў сваім унутрыарганізацыйным грамадзкім жыцьці й дзейнасьці ня могуць падлягаць загадам Прадстаўніцтваў.

4. Дзеля таго, аднак, што ўсе нашы грамадзкія арганізацыі — сябры САБЭ паводля свае нацыянальна-палітычнае пазыцыі стаяць на груньце Акту 25-га Сакавіка ды вызнаюць і падтрымліваюць Раду і Урад БНР, Прадстаўніцтвы Ураду БНР павінны разглядаць іх за ахвочую дапаможную сілу і апарат, на які яны ў сваёй урадавай дзейнасьці могуць апірацца. *(«На абавязку Прадстаўніка Ураду БНР ёсьць праводзіць на тэрыторыі дзяржавы свайго месцапрабываньня палітыку Ураду БНР, дзеля чаго ён павінен: а. устанавіць і трымаць сталую сувязь і супрацоўніцтва із усімі незалежніцкімі беларускімі арганізацыямі, апіраючыся на іх у сваёй працы»* — §5-га Інструкцыі Ураду БНР нр. I ад 10.12.1948 г.).

*Прэм'ер-Міністар Ураду БНР А. Каханоўскі.*

*

*26.12.49*

Шаноўны Спадар Прэзыдэнт!

Вашыя лісты ад 14. і 18.12.1949 г. я атрымаў разам 22.12.1949 г. Толькі сёньня, 26.12.1949 г., пасьля провадаў Уладыкі Сергія, маю магчымасьць Вам адказаць.

1. Справу збору заяваў з дамаганьнямі здабыць беларускія аўдыцыі ў «Голасе Амэрыкі», аб чым я ўжо двойчы пісаў інж. М. Гарошку, перадаў мгр. М. Кунцэвічу. Будзе зроблена так, як Вы аб гэтым радзіце.

2. Патрэбны ліст праф. І. Мазэпу ўжо выслаў. Апрача просьбы яго выслаць у ЗША адпаведныя нашай умове ад 18.3.1949 г. рэкамэндацыі, запрапанаваў яму спатканьне, на якім абмеркаваць справы нашага далейшага супрацоўніцтва й супольнага выступленьня ў вонкавых акцыях. Гэтае апошняе тым балей прадыктаванае хуткаю патрэбаю прыняць дэцызію ў падпісаньні Дэклярацыі вярхоўных органаў народаў сярэдняе і ўсходняе Эўропы. На аснове гэтае Дэклярацыі меў-бы паўстаць сталы Камітэт і Асамблея народаў сярэдняе і ўсходняе Эўропы (з бэрамі ў Нью Ёрку й Лёндане) для сталага супрацоўніцтва, узаемападтрыманьня й каардынацыі нашых нацыянальна-вызвольных рухаў. Тэкст Дэклярацыі й Статуту Камітэту ўчора я атрымаў праз інж. Л. Рыдлеўскага ад амбасадара Гжыбоўскага[994].

3. Справа рэарганізацыі Прадстаўніцтва Ураду БНР у Ангельшчыне ўжо закончана.

4. Сьпісы беларусаў з пэрсаналіямі для выпрабленьня ашурансаў на эміграцыю ў ЗША намі высланыя ў Нью-Ёрк даўно. У працягу двух месяцаў мы бясконца шлем др. Я. Станкевічу, інж. М. Гарошку, др. А. Орсу, сп. М. Тулейку, сп. Я. Юхнаўцу і інш. лісты з просьбаю прысьпешыць вы-

[994] Маецца на ўвазе амбасадар польскага эміграцыйнага ўраду ў Парыжы.

стаўленьне ашурансаў, хутчэй высылаць копіі для тых, каму ашурансы ўжо выстаўленыя, або паведаміць, ці ёсьць якая надзея іх дачакацца, бо можа стацца так, што ашурансы гэтыя прыдуць тады, калі ІРО людзей змусіць выехаць у Аўстралію ці адбярэ ДП. На жаль, лісты нашыя застаюцца без адказу. Толькі др. Я. Станкевіч паведаміў нас аб выстаўленьні некаторым асобам ашурансаў, але ўжо хутка два месяцы як копіяў іхных няма. Аб Уладыку Сергію мы пісалі чатыры разы — і др. Я. Станкевічу, і інж. М. Гарошку, і сп. М. Тулейку, але адказу дагэтуль ніякага. Др. А. Орса болей месяца таму назад паведаміў сям'ю Чэрніка аб тым, што найпазьней 29–30 лістапада копіі ашурансаў ёй будуць высланыя, але й дагэтуль іх няма. У нас пытаюцца, калі-ж яны ўрэшце будуць і ці будуць наагул. БНК аб гэтым даў дэклярацыю ў ІРО. Аднак нашыя людзі ў гэта ўжо перастаюць верыць і некаторыя ў студзені месяцы на вымаганьне ІРО змушаныя будуць ехаць у Аўстралійскую эміграцыйную камісію. Таму мо Вы змаглі-б уплынуць там, каб нам далі ўрэшце адказ: хто будзе мець ашуранс, а хто не. Бо калі хто ашурансу не атрымае і ў іншы край не зарэгіструецца, то ў студзені месяцы будзе пазбаўлены ДП і мае выносіцца на нямецкі брук.

5. З Франкфурту атрымаў адказ на свой ліст і зьбіраюся туды ехаць.

6. Маркі БНР ужо надрукаваныя й разсылаюцца па краёх эміграцыі.

7. Усе цяжкасьці з хіратоніяй а. Васілія пераможаныя. Нашым праціўнікам не дапамаглі інтэрвэнцыі япіскапаў Бэнэдыкта, Апанаса, Р. Астроўскага, захады ЧВС[995] і г. д. РБ[996] нас таксама падвёў, і мы змушаныя былі прадаваць свае апошнія штаны ды лезьці ў вялікія даўгі. Але 18–19.12.1949 г. у вельмі ўрачыстых абставінах і пры вялікай колькасьці гасьцей хіратонія адбылася. На хіратонію прыбылі Іх Прэасьвяшчэнствы Уладыка Сергій, Платон і Вячэслаў, шмат духавенства (сьвятары, пратадзьяканы, дзьяканы — нашыя, украінскія, грузінскія), каля 30-ці дэлегацыяў ад арганізацыяў з трох зонаў Нямеччыны — цэнтральных камітэтаў розных народаў, царкоўных, культурных, студэнцкіх, маладзёжных, прэсавых і інш. Атрымана шмат павіншаваньняў. На ўрачыстым абедзе прысутнічала каля 150 асобаў. З прамовамі выступілі прадстаўнікі 24-х дэлегацыяў — духоўнікаў, прафэсараў, генэралаў, палкоўнікаў, рэдактараў і г. д. Фатаграфавалі 4 фатографы. 800 мэтраў накруцілі на кіно-фільм. Былі спэцыяльныя карэспандэнты болей як ад 10 газэтаў. Уладыку Васілія Віленскага атакавалі з інтэрв'ю. Наагул усё прайшло бліскуча. Урачыстасьці выклікалі ў нашых людзей і гасьцей такі энтузіязм, што госьці, зьдзіўленыя такім размахам і арганізацыяй, нагаварылі

[995] Маецца на ўвазе ***Church World Service*** (***CWS***) — Сусветная царкоўная служба — створаная ў 1946 г. арганізацыя, якая дапамагала жыхарам лагераў *DP* выязджаць з Нямеччыны ў ЗША.

[996] Магчыма, маецца на ўвазе створаны ў 1948 г. Банк нямецкіх зямель, які маглі па-ранейшаму называць Рэйхсбанк. Увосень 1949 г. адбылася чарговая дэвальвацыя нямецкай маркі, што моцна адбілася на матэрыяльным становішчы ў тым ліку і жыхароў лагераў-*DP*.

нам столькі камплімэнтаў, што яшчэ й цяпер пішуць нам лісты, у якіх заяўляюць, што ўсё яшчэ знаходзяцца пад уражаньнем хіратоніі. Шкада толькі, што некаторыя нашыя арганізацыі, а ў тым і з ЗША, не задэманстравалі з намі свае салідарнасьці, хоць аб гэтым і былі сваечасова паведамленыя.

8. 20.12.1949 г. адбылася І-ая Сэсія Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, на якім як госьць-прадстаўнік УАПЦ прысутнічаў япіскап Платон. Сабор на просьбу нашае Кансысторыі, Ураду і інш. нашых арганізацыяў, а таксама просьбу УАПЦ пастанавіў: 1. узнагародзіць Япіскапа Сергія санам Архіяпіскапа й брыліянтавым крыжам на клобук; 2. выбраць яго Галавою БАПЦ; 3. побач Сабору БАПЦ стварыць Цэнтральнае Царкоўнае Праўленьне; 4. зьвярнуцца із Саборным пасланьнем да беларускага духавенства й вернікаў; 5. паведаміць аб гіерархічным завяршэньні БАПЦ Канстантынопальскага Патрыярха й прасіць ягонага благаславенства.

З пашанаю!

*А. Каханоўскі.*

*

*20.5.50*

Шаноўны Спадар Прэзыдэнт!

Завастрэньне нашых дачыненьняў зь летувісамі ў сувязі із спрэчкай за Віленшчыну і высьвячэньне япіскапа Віленскага (Уладыка Васіль) пачало набіраць з боку летувісаў недапушчальных у міжнародных дачыненьнях формаў. Паміма таго, што ад свайго эміграцыйнага ўраду іхныя грамадзкія камітэты атрымалі распараджэньне варожа ставіцца да нашых нацыянальных арганізацыяў, летувіская эміграцыйная прэса на заданьне й з благаславенства таго-ж ураду сыстэматычна зьмяшчае агрэсыўна-варожыя да нашага вызвольнага руху артыкулы. Асабліва гэта выявілася ў артыкуле *«Kai Ruriugudu Veirejubruozai»* (*«Lietuvis»*, нр. 19 (64) ад 12.5.1950). Гэты безадказны артыкул пераказвае правакацыйную брашуру «Хто такія крывічы»[997].

Мы трымаемся пагляду, што гэта дае нам маральнае права зьмяніць нашыя дачыненьні лёяльнасьці да летувісаў на варожыя. Дзеля таго, што я гэтага ўжо рабіць не магу, раджу Вам, каб новы міністар замежных справаў: 1. злажыў войстры пратэст прэм’еру Сідзікаўскасу; 2. адначасна, не чакаючы адказу, якога можа й ня быць, даў інструкцыю ўсім Прадстаўнікам Ураду БНР (за выключэньнем Аргентыны, дзе летувісы жывуць у сяброўскіх дачыненьнях з намі), а праз САБЭ й нашым грамадзкім арганізацыям, каб яны выказалі з гэтае прычыны адпаведным летувіскім арганізацыям войстры пратэст й занялі ў дачыненьні да іх варожую паставу; 3. пачаў у нашай прэсе публіка-

[997] Маецца на ўвазе ананімная брашура (12 старонак) **«Хто такія крывічы?»**, што пабачыла свет у Нямеччыне ў 1948 г. і ўтрымлівала правакацыйныя (неправераныя) біяграфічныя звесткі пра лідараў «крывіцкага» лагеру.

цыю артыкулаў, у якіх выкрывалася-б варожасьць летувісаў да беларускага вызвольнага руху, пачынаючы ад 20-х г.

З пашанаю

*А. Каханоўскі.*

*

*8-га ліпеня 1952*

Шаноўны Спадар Кажан,

Толькі што атрымаў Ваш вялікі ліст ад 4.7.1952. Шчыра Вам дзякую за столькі інфармацыяў. Учора я Вам выслаў афіцыйны ліст ад нашага падсэктару Рады з просьбаю прыслаць нам інфармацыі аб збору падаткаў БНР. Іншы падобны ліст выслаў д-ру А. Орсу з просьбаю высылаць нам інфармацыі. Ад прэзыдыюму Сэктару Рады мы за паўгода існаваньня нашага падсэктару не атрымалі аніводнае інфармацыі, пастановы ці інструкцыі. Гэтым мы абсалютна ізаляваныя ад палітычных акцыяў Рады й Сэктару. Часам я вычытаю штосьці ў прыватным лісьце ці нашай або чужой прэсе. Але гэтыя прыватныя й прэсавыя інфармацыі не згаджаюцца між сабою. 2 тыдні таму мы атрымалі Абежнік № 1 Выканаўчага Сакратарыяту Рады. Гэта першая афіцыйная інфармацыя нас аб 6-ай Сэсіі Рады. Хоць і зь вялікім спазьненьнем (калі была тая Сэсія, а Абежнік уложаны яшчэ 23.4.1952 — два месяцы таму), але ўсё-ж атрымалі. З тэй інфармацыі мы ня можам аднак зразумець, ці Выканаўчы Сакратарыят — гэта Урад БНР (паводля новае номэнклятуры, прынятае Сэсіяй), ці штось іншае, якому даручана выконваць абавязкі Ураду (паводля прыватных лістоў — першае, паводля Абежніка — другое). Калі другое, то якія абавязкі Выканаўчага Сакратарыяту. З Абежніка ня можна даведацца, як завуцца цяпер сябры Ураду — міністры, сакратары, рэфэрэнты ці шчэ якась. Ці «заступнікі» (міністраў, сакратароў, рэфэрэнтаў) таксама ўваходзяць ва Урад. Згодна Абежніка, у Выканаўчым Сакратарыят (ці Урад) уваходзяць Суд, Дзяржаўная кантрольная камісія й Камісія экспэртаў у справах межаў. Гэтага мы зусім ня можам зразумець. Суд заўсёды ў дэмакратычных краёх — незалежны й ні да ніякага Ураду належыць ня можа. Мы ня ведаем функцыяў Дзяржаўнае кантрольнае камісіі: калі яна кантралюе Урад, то ня можа да Ураду належыць. Розныя камісіі экспэртаў нідзе таксама да Ураду не належаць: яны бываюць пры Урадах, ім падлягаюць і працуюць паводля іхных заданьняў. Паводля ліста Сп. Прэзыдэнта, Суд Рады складаецца з Ф. Родзькі (старшыня) й П. Манькоўскага й Б. Грабінскага (сябры); паводле-ж Абежніка — Суд Рады складаецца толькі з аднае асобы — Л. Галяка. У лісьце Прэзыдэнта: Л. Галяк — абвінавачвальнік, паводля Абежніка такое функцыі зусім няма. Калі Выканаўчы Сакратарыят — штосьці шырэйшае за Урад (згодна Абежніка), то хто тады належыць із сяброў Сакратарыяту да Ураду. Аб усім гэтым я пісаў сп. А. Махноўскаму з просьбаю выясьненьняў: адказу яшчэ ня маю.

Аб арганізацыі «Беларускі Вызвольны Рух»[998] і партыі Зарэчнага (Галубовіча) упяршыню чую ад Вас: мне аб гэтых арганізацыях нічога няведама. Што-ж да адмовы належаць да Дзяржаўнае кантрольнае камісіі, то Вашая інтэрпрэтацыя гэтага факту мяне дзівіць. Гэта адмова ляжыць зусім не ў плашчыні маіх асабістых дачыненьняў зь некаторымі раднымі, а ў плашчыні арганізацыйных прынцыпаў. Вы добра ведаеце, што я даўжэйшы час змагаўся ў Радзе за ўстабілізаваньне нармальных арганізацыйных прынцыпаў, якія-б не дазвалялі ейным сябрам дэмаралізавацца, губляць пачуцьцё адказнасьці і актыўнасьці. У Радзе аднак мае высілкі не спаткалі падтрыманьня. Гэта-ж і было прычынаю дэмісіі нашага габінэту Ураду. Я болей чым перакананы, што пры існуючым бязладзьдзі ў Радзе, якое ўсьцяж прагрэсуе, Рада із сваіх заданьняў ня вывяжыцца. У ёй нямысьліма ніякая сур'ёзная праца: яна ёсьць толькі зданьню таго органу, які ў ёй мы хочам бачыць. І мяне дзівіць, асабліва ў ваблiччы такое адказнае міжнароднае сытуацыі, адсутнасьць у Радзе руху, накіраванага на ейнае аздараўленьне. Наадварот, у ёй культывуецца бяскарна далейшая дэмаралізацыя, бязьдзейнасьць і недысцыплінаванасьць. Калі Рада стаіць на прынцыпе мірыцца з гэтакім станам, то няхай і твораць адпаведныя гэтаму прынцыпу органы. Я з гэтым мірыцца не магу й ніякай адказнасьці й функцыі на сябе браць ня буду. Зноў-жа, гэта-ж я дамагаўся на 4-ай Сэсіі Рады стварэньня Дзяржаўнае кантрольнае камісіі й быў распрацаваў палажэньне аб ёй. Тады Сэсія аднагалосна адкінула маю прапазыцыю, а цяпер на чыюсьці прапазыцыю стварыла яе, а мяне паклікала ў ейны склад. Якая-ж тут лёгіка? І пашто рабіць такую камэдыю?

Факт, аб якім Вы пішаце, пачынае мяне непакоіць. Мне дужа не падабаюцца «чужыя грошы», бо за імі могуць быць нейкія забавязаньні. У камунікатах аб Штарнбэргскім пагадненьні 25.6.1952 (і афіцыйным, і прыватных) я бачу тэндэнцыю зьмены нашае вонкавае палітыкі. Хоць, згодна Пастановы 6-ай Сэсіі Рады, такія пагадненьні падлягаюць ратыфікацыі Рады, і наўрад ці яна яго ратыфікуе, але такое хуткае падпісваньне гэтага пагадненьня, як і першы подпіс д-ра Б. Рагулі, ня толькі шкодзіць прэстыжу Рады, але й наробіць нам шмат шкоды ў нашых дачыненьнях зь іншымі народамі. Мне проста сорамна чытаць гэтыя камунікаты. Калі-б гэта была толькі тактыка, то і ў гэтым разе яна апартуністычная, і зь яе мы будзем мець адны клопаты й нявыгоды. Мяне дзівіць, што яна не адпавядае духу тых прынцыпаў, якія Сп. Прэзыдэнт клаў у васнову інструкцыі для перамоваў з Амэрыканскім Камітэтам (адзін праект гэтае інструкцыі, на просьбу Прэзыдэнта, я сам укладаў). Мы ў гэтай справе запрасілі ў д-ра В. Тумаша выясьненьняў, але нічога яшчэ не атрымалі. У афіцыйным камунікаце, які падпісалі ягоныя ўдзельнікі, сьцьверджана поўная згоднасьць наступнае пляцформы: 1. «непрадрашэнства», што пярэчыць пастанове 6-ай сэсіі Рады аб бязумоўным

[998] **Беларускі вызвольны рух** — арганізацыя прыхільнікаў БЦР, заснаваная Людвікам Зарэчным (Галубовічам) у 1952 г. Скіравана была на аб'яднанне найперш былых вайскоўцаў.

вызнаньні расейцамі БНР і ягоных вярхоўных органаў (адм. Кэрк інтэрпрэтуе гэтае «неперадрашэнства» забаронаю прапагаваць праз радыёстанцыю «Вызваленьне» ідэю разьбіцьця Расейскае імпэрыі); 2. прынцып дзіўнае «парытэтнасьці» ў канструкцыі радыёвае й палітычнае камісіяў: у кожнай камісіі палова расейцаў і палова нерасейцаў, прычым апошнія ў вадрозьненьні ад «расейскіх арганізацыяў» завуцца «нацыянальнымі»; 3. нашымі партнэрамі ў гэтай нарадзе зьяўляюцца нерэпрэзэнтацыйныя арганізацыі нерасейскіх народаў, ня кажучы ўжо аб тым, што ўкраінскіх арганізацыяў на нарадзе наагул ніякіх ня было.

Вось, здаецца, на гэты раз усё. Цікава было-б ведаць Вашыя ўвагі ў гэтых справах. Пішэце.

*Ваш А. Каханоўскі.*

*

*21-га верасьня 1952*

Шаноўны Спадар Кажан,

Твае два апошнія лісты я атрымаў. Хутка адказаць на першы зь іх ня мог, бо мусіў пабачыцца із зацікаўленымі асобамі й запытацца ў іх, ці жадаюць яны заказаць Табе фотаздымкі. Апрача тых, што Ты ўжо прыслаў, за што Табе дзякую, фотакартку № 8 хоча мець наш сьвятар. Я ў сваю чаргу прышлю Табе здымкі, робленыя мною. З Радзюком[999] пастараюся ўрэгуляваць Твае просьбы, хоць аб гэтым я зь ім гутарыў ужо два разы.

Я шкадую, што прошлы раз Ты так хутка выехаў, і я з Табою ня мог пагутарыць аб нашых палітычных справах. Мяне дужа непакоіць штанрбэргская тактыка Рады. Я думаю, што Прэзыдэнт ці Урад зрабілі калёсальную памылку, якая дорага будзе нам каштаваць. Штарнбэргская нарада, у якой мы прымалі ўдзел і прынялі яе пазыцыю, скампрамітавала нас у вачох амэрыканцаў і паняволеных Расеяй народаў. У амэрыканцаў бязумоўна ўжо злажылася ўражаньне, што мы ня цьвёрда стаім на незалежніцкіх пазыцыях і можам ісьці на кампраміс з расейцамі. Іншыя народы трактуюць гэты факт, як нашую здраду ім у супольным змаганьні. Яны ад нас адвернуцца, і мы будзем ізаляваныя. Нічога тут не ратуе, што Рада выступае ў гэтым выпадку пад псэўданімам БАФу. Што такое БАФ, ведаюць і амэрыканцы, і іншыя народы. Іначай-бы зь ім Амэрыканскі Камітэт і расейцы ня гутарылі. Ня дзіўна таму, што АБН і УНРада вядуць перамовы з Астроўскім. Ім нічога іншага не застаецца рабіць, як шукаць сабе іншага партнэра. Скандал будзе і ў самой Радзе. Усе сябры БАФу (Жытко, Цьвірка, Сыч, Лашук, Равенскі) пайшлі супроць пастановы 6-ай Сэсіі Рады. Гэтым яны зламалі прысягу раднага й згодна Статуту мусяць быць выключаныя з Рады. Чым гэта ўсё скончыцца?

---

[999] Магчыма, маецца на ўвазе беларус **Язэп Радзюк**, які жыў у Кліўлендзе.

Што ў гэтым робіць Урад? Якая яго пазыцыя? Часапіс «Змаганьне»[1000] — скандальны. Ён павёў расейскую прапаганду сярод беларусаў. Я ня ведаю, што тут рабіць: забараніць яго кальпартаваць у нас ці склікаць сход і разаблачыць. Не супрацьставіцца гэтай шкоднай прапагандзе ня можна. Газэты нашыя збываюць гэты часапіс маўчаньнем. А час ідзе. Ідэі БАФу пушчаюць свае карані сярод эміграцыі, выклікаючы абурэньне ці зьдзіўленьне ў многіх з нашага актыву. Украінская кнігарня ў Клыўлендзе, якая прадае нашыя газэты й часапісы, на днях выказала мне партэст, што Карніловіч прынёс ёй гэты часапіс, заявіўшы, што ня будзе пашыраць кераншчыну. На паседжаньні мясцовага Камітэту Таварыства амэрыканскіх прыяцеляў АБН украінцы заатакавалі сп. Кабяка, чаму наш Прэзыдэнт пайшоў на супрацоўніцтва з расейцамі. Прыкра ўсё гэта бачыць і чуць. А яшчэ больш прыкра ня мець у гэтай справе выясьненьняў, каб даваць у такіх выпадках адказы.

З глыбокаю пашанаю

*А. Каханоўскі.*

*

*9-га чэрвеня 1954*

Шаноўны Спадар Кажан,

Дзякую Вам за Ваш ліст ад 5.6.1954, які толькі што атрымаў і не магу ўстрымацца, каб не адказаць на яго. На многія лісты, публікацыі й факты я ўжо перастаў наагул рэагаваць, але з Вамі дагэтуль быў шчырым, паважаю Вас і таму хачу зьвярнуць Вашую ўвагу на некаторыя мамэнты. Пішу — некаторыя, бо ў лісьце немажліва поўнасьцю выказацца. Вось-жа я не сумняваюся, што некаторыя Вашыя высновы аснаваныя або на непаразуменьнях, або на хлусьні, якую цяпер хтось (праўда, у ладнай меры мне ведамая гэтая фабрыка) шырака сее ў нашых асяродзьдзях.

1. Ген. Кушаль ува ўсім гэтым хаосе і анархіі, якія запанавалі й шырацца ў нас, — толькі пешка, сьляпы выканаўца чыёйсьці волі й палітыкі. Пачатак гэтага хаосу і анархіі — вышэй яго, а Рада, прынамся тая яе бальшыня, якая выявілася на апошняй сэсіі, або ня здольная зразумець гэтага, або не жадае зьмяніць гэты ненармальны стан рэчы. Яна і ёсьць галоўным віноўнікам такога недапушчальнага стану нашых справаў. Мяне ня дзівіць таму, *«што ўплывовая й паважная частка радных стала на дыбы»* й не жадае нічога рабіць і што цяпер якраз *«усё ў парадку»*. А ці задумаліся Вы глыбей, дзе-ж прычына гэтага і што трэба рабіць, каб зьмяніць такі стан рэчаў? Якія Вы як радны далі рэкамэндацыі Прэзыдэнту ці сэсіі ў гэтай справе? Я не ўважаю сябе за прарока, але сфармуляваныя пры маім удзеле вымогі АБНД да Прэзыдэнта й сэсіі ёсьць, на маё найглыбейшае перакананьне, апошнія

---

1000 **«Змаганьне»** (*«Der Kampf»*) — часопіс Беларускага антыбальшавіцкага фронту, які выходзіў у 1951 г. у Мюнхене пад рэдакцыяй Янкі Жыткі. Выйшла тры нумары.

сродкі ўратаваць сытуацыю. Нежаданьне глыбей прастудыяваць гэтыя вымогі сэсіяй, якая, дарэчы, не разьвязала аніводнага пытаньня з нашае нутраное й вонкавае палітыкі, сьведчыць толькі аб тым, што яна ўжо не адказвае свайму прызначэньню. Толькі нясур'ёзныя людзі, людзі, згубіўшыя канчальна пачуцьцё абавязку і адказнасьці, могуць так паступаць. Будучы ў Клыўлендзе, Прэзыдэнт прызнаў рацыю нашых вымогаў і абяцаўся парабіць розныя рэформы, але слова свайго не датрымаў. Вы думаеце, што без рэарганізацыі Рады справы нашыя палепшацца? Не! Яна застанецца пустым месцам там, дзе мусіла-б быць Рада. Вы думаеце, што шуканьне магчымасьцяў для зьліквіданьня дуалізму ў нашым палітычна-грамадзкім жыцьці не дыктуецца сёньня канечнаю патрэбаю? Тупое нежаданьне гэтага дарага нам каштуе, а яшчэ даражэй будзе каштаваць у будучыні. Пры гэтым я зусім не бяру на ўвагу некаторыя па-дзіцячаму робленыя несур'ёзныя крокі ў гэтым кірунку. Вы думаеце, што бяз прынцыповага разьвязаньня ўсіх паўсталых канфліктаў яны самі зьліквідуюцца прыняцьцём якойсьці абстрактнае дэкларацыі? Дзіцячая гульня! Зноў-жа, у галіне вонкавае палітыкі Вы памыляецеся, калі ставіце знак роўнасьці між перамовамі й прынятымі забавязаньнямі. Перамовы могуць весьціся хоць з чортам, але падпісваць ці прымаць палітычныя забавязваньні, што перакрэсьліваюць Акт 25-га Сакавіка, прадстаўнікі Рады ня маюць права. А палітычная пляцформа МАКЦу, якую Прэзыдэнт як сябра рэдакцыйнае калегіі, што яе выпрацоўвала, рэкамэндаваў прыняць пленарнаму паседжаньню МАКЦ, і там яна была прынятая аднагалосна (гл. рэзалюцыю аб гэтым у «Бацькаўшчыне» й «Беларусе»). Хтосьці яе падпісаў, і яна была пададзеная Амэрыканскаму Камітэту. А ўмовы, падпісаныя ад Ураду БНР у Мюнхэне й Карлсруэ, адказваюць пастанове 6-й сэсіі Рады? А цэлая афэра із БАФам? На нашым сходзе ў Клыўлендзе Прэзыдэнт ня мог прывесьці ніводнага аргумэнта, каб разьбіць нашыя высновы. Ён мусіў згадзіцца зь імі. Вы пішаце ў сваім лісьце, што яму ніхто ня радзіў, ніхто яго не падтрымаў маральна. Вось-жа падтрымліваць яго ў гэтай палітыцы было-б злачынствам, і тыя, хто гэта рабілі, рабілі злачынства. Я й ведаю, шэраг іншых радных стараліся паўстрымаць яго ад гэтых неадпаведных дыплёматычных ходаў, нат пратэставалі, але ён напралом рабіў сваё. Гэтым і тлумачыцца наш востры выступ супроць яго на сэсіі. Ці цяпер ня ясна, што мы былі правыя? УНРада не ратыфікавала статуту МАКЦ. Рада БНР таксама не ратыфікавала, хоць і прыняла ў гэтай справе супярэчлівую рэзалюцыю, якую мы апратэставалі, бо яна дае мажлівасьць Прэзыдэнту далей весьці гэтую вонкавую палітыку. А які вынік цяпер гэтай палітыкі? З Амэрыканскім Камітэтам, які ўвялі ў блуд такой апартуністычнай палітыкай, здаецца, ужо прыходзяць канцы. З АБНу выгналі. У Прамэтэі — зарубежнікі. Што далей?

Усе публікацыі аб АБНД у «Беларусе» і «Бацькаўшчыне» — камплектная хлусьня для лёгкаверных. Аўтары тых публікацыяў зусім ня пыталіся АБНД аб ягоных пазыцыях у розных пытаньнях, а самі ад сябе выдумвалі розныя глупствы й нат правакацыі. Нашая пазыцыя зафіксаваная ў пастановах замежнае канфэрэнцыі ці ЦК, якія гэтыя газэты ня пускалі ў друк, а калі

падавалі цытаты зь іх, то самым зладзейскім спосабам фальшавалі іх (кожны, а ў тым і Прэзыдэнт, каму я гэта паказваў, на свае вочы пераконваліся ў гэтым). Ці ня з гэтых крыніцаў і ўпамінаны Вамі «загад» мой *«усім сябрам партыі, каб устрымаліся ад фінансавай падтрымкі Рады БНР»*. Па-першае, я ніякіх «загадаў» ня выдаю. ЦК, а не я, выдае распараджэньні. Аб такім распараджэньні я ўпяршыню даведаўся ад Вас. Ці ня былі-б Вы ласкавы дзеля таго прыслаць мне копію гэтага майго «загаду»? Сам я, як пісаў Вам, перастаў плаціць падатак, дэманстрацыйна ня выконваючы пастановы сэсіі аб гэтым. Я пісаў Вам, што такая мая пастанова ёсьць пратэстам супраць нявыкананьня цэлага шэрагу дужа важных, прынцыповых пастановаў сэсіі Прэзыдэнтам, Урадам і самой Радаю. Або — або. Калі можна ня выконваць іншых пастановаў, то чаму ня можна ня выконваць гэтае. Апрача таго, Прэзыдэнт ухіліўся даць адказ (будзь-які, нат адмоўны) на нашы афіцыйныя лісты да яго. Як гэта трэба разумець: ігнараваньне ці зрыў? Ці ён пасьля гэтага можа разьлічваць на нашае супрацоўніцтва? З гэтае прычыны й нашая прынцыповая нязгода із сёньняшняй нутраной і вонкавай палітыкай Рады, мы прынялі пастанову ня ўваходзіць у выканаўчыя органы Рады. Мы іх таму ня будзем падтрымліваць. У гэтыя органы павінны ўвайсьці тыя радныя, якія жадаюць гэтае палітыкі. Зусім нармальная зьява. Мы мелі-б права нат змагацца супраць гэтае палітыкі, але такое пастановы мы ня прымалі й змаганьня не вядзем. Нават болей таго: мы нат не баронімся ад публічных закідаў нам, прычым, закідаў фальшывых. Гэта па-другое.

Із справай Радзюка прашу Вас яшчэ пачакайце: я спадзяюся дапамагчы Вам урэгуляваць яе. Што-ж да сп. Кананчука[1001] — паспрабуйце, але я мала веру ў гэта. Калі праз тыдзень аднак я Вам нічога не напішу ў справе Радзюка, то рабеце, што хочаце зь ім, і я ўжо болей ня буду зь ім гаварыць у гэтых справах, бо ён і мне гаворыць няпраўду ды за нос водзіць.

З глыбокаю пашанаю

*А. Каханоўскі.*

---

[1001] Магчыма, маецца на ўвазе **Антон Кананчук** (1914–1991), сябра ўправы Кліўлендскага аддзела БАЗА.

# ЛІСТ ЯНКІ ЛІМАНОЎСКАГА

Да паважаных Сяброў Рады БНР:

На адлегласьці рэчы выглядаюць прыгажэй. Гэта можна сказаць пра Прэз. БНР М. Абрамчыка, ягоных бліжэйшых паплечнікаў і пра ягоную дзейнасьць. Прыгледзеўшыся бліжэй да справы, глянуўшы за кулісы гэтай дзейнасьці, я прыйшоў да выніку, што гэта ёсьць таталітарная дыктатура, якую др. Орса трапна назваў «фаварызаванай дыктатурай»; дыктатура, якой Пр. М. Абрамчык, пры дапамозе горсткі сваіх паплечнікаў, імкнецца падначаліць беларускую эміграцыю і якую, пры спагадных падзеях і пры вонкавай дапамозе, ён будзе імкнуцца перанесьці на Бацькаўшчыну, прыкрываючыся сьцягам гістарычнай і дэмакратычнай БНР. Звонку, на адлегласьці твар гэтай дыктатуры старанна грыміруецца ў больш прыгожыя ружовыя колеры, закулісная дзейнасьць засакрэчваецца. Пры ўсялякіх перагаворах Сп. М. Абрамчык з іншанацыянальнымі, дзяржаўнымі ці палітычнымі чыньнікамі няма неабходных у гэткіх выпадках прызначаных і падсправаздачных дэлегацыяў, пратаколаў і справаздачаў аб перагаворах. Сп. М. Абрамчык калі часам і падбірае сабе пару чалавек для ўдзелу ў перагаворах, дык яны ня маюць вагі сяброў дэлегацыі, а выконваюць больш «дэкарацыйную ролю».

Беларуская эміграцыя і нават большасьць сяброў Рады БНР мала ведае аб гэтай закуліснай дзейнасьці Пр. М. Абрамчыка, акрамя хіба толькі некаторых сяброў «палітбюро». Інфармацыя, якую дае сам Сп. М. Абрамчык аб сваёй дзейнасьці, прасеяна праз рэшэто «карыснасьці» і нагадвае больш прымітыўную прапаганду, прызначаную для наіўных і даверлівых людзей; апэляцыя за падтрыманьне БНР на базе няведаньня ўсёй дзейнасьці ейнага кіраўніцтва. Актывісты Сп. М. Абрамчыка, нешматлікія, бачаць сваю ролю ў тым, каб апанаваць кіраўніцтвам беларускіх грамадзкіх ці навуковых арганізацыяў, не дапусьціць там абмяркоўваньня палітычных пытаньняў, асабліва не дапусьціць крытыкаваньня БНР, і прамаўляць ад імя гэтых арганізацыяў як нібыта бэнээраўскіх. У выніку гэткай тактыкі на сходы нью-ёрскага сэктару БАЗА прыходзіць ня больш 20 прац. агульнага складу сяброў сэктару.

На пленуме Рады БНР я падаў адзін прыклад з «дыпляматычных дасягненьняў» Пр. М. Абрамчыка, якім ён чамусьці не пахваліўся сам. Адміністрацыя радыё «Вызваленьне» паведаміла Жук-Грышкевіча, загадчыка радыёстанцыі, што ягоная праца спыняецца з 1-га ліпеня 1955 г. Пр. М. Абрамчык быў тады ў Мюнхэне і спачатку не рэагаваў на гэта. Аднак калі тэрмін 1-га ліпеня набліжаўся, Пр. М. Абрамчык прыехаў спэцыяльна з Парыжу ў Мюнхэн і паслаў Амэрыканскаму камітэту змаганьня з бальшавізмам ультыматыўнае дамаганьне, каб Жука-Грышкевіча пакінуць далей на працы. Амэрыканцы ўступілі, не жадаючы сварыцца з М-рам Абрамчыкам з-за дробязі. Як-бы ні тлумачыў Сп. М. Абрамчык гэты выпадак, сапраўдны матыў у гэтай справе быў захаваньне для Жука-Грышкевіча на даўжэйшы час высокага даляровага заработку. Таму гэты ўльтыматум быў бестактоўным і кампрамітуючым БНР і самога Сп. М. Абрамчыка.

На тым-жа паседжаньні Пленуму БНР я паставіў пытаньне, чаму беларуская сэкцыя радыё «Вызваленьне» робіць непатрэбныя выпады супраць беларускай інтэлігенцыі на Бацькаўшчыне і аплёўвае беларускае мастацтва ў стылю віленскай газэты «Слово»[1002]. Сп. М. Абрамчык замест прынцыповага адказу проста схаваўся за амэрыканцаў, кажучы, што гэта ня наша станцыя, а амэрыканцаў. Але-ж іншыя нацыянальныя сэкцыі, якія працуюць пад кіраўніцтвам тых-жа амэрыканцаў, гэткай тактыкі ў адносінах да інтэлігенцыі й мастацтва сваіх краінаў не застасоўваюць. Больш таго, гэткая тактыка беларускай сэкцыі супярэчыць інструкцыі аб мэтадах прапаганды радыё «Вызваленьня». Паколькі Пр. М. Абрамчык сам асабіста падбірае працаўнікоў для беларускай сэкцыі радыё «Вызваленьне» (ніводзін з кіраўнікоў іншых нацыянальных арганізацыяў гэтым не займаецца[1003]) і паколькі ён дае ім наказы, як праводзіць прапаганду, дык гэта і ёсьць голас Пр. М. Абрамчыка, праваднік ягонай «гэнеральнай лініі»; ён ня толькі ня мае грамадзянскае мужнасьці ні пацьвердзіць спамянёную вышэй тактыку беларускай сэкцыі, ні згадзіцца на зьмену яе. Бадай-што ніхто з кампэтэнтных і паважных беларускіх эмігрантаў не прыймае ўдзелу ў гэтым абрамчыкавым радыё; гэта-ж факт, што ў 1954, 1955 г.г. толькі адзін чалавек пасылаў артыкулы ў гэтае радыё, якое штодня цьвердзіць, што яно ёсьць *«часткай усіх беларусаў»*.

Гэта прыклад толькі дадаткова пацьвярджае, што немагчыма паставіць якое-небудзь прынцыповае пытаньне на абмеркаваньне Рады БНР, бо Пр. М. Абрамчык і ягоныя сябры «палітбюро» пастараюцца такое пытаньне *«пусьціць на запасны тор»*. Направіць працы Рады БНР знутры, зьмяніць сродкамі БНР таталітарна-дыктатарскую тактыку Пр. М. Абрамчыка немагчыма. Пр. М. Абрамчык усё больш і больш абапіраецца на вонкавыя фактары, на сакрэтныя фонды гэтых вонкавых фактараў, чымся на беларускія. Сакрэтная заслона, якая закрывае дзейнасьць Пр. М. Абрамчыка, гавора ня толькі пра ягоныя дыктатарскія амбіцыі, але і пра тое, што беларуская эміграцыя ня згодзіцца прыняць гэтую дзейнасьць, каб перад ёй раскрыць карты. Направіць што-небудзь знутры БНР перашкаджае і бязідэйнасьць лідэраў «апазыцыі» унутры БНР. На пленуме Рады БНР у 1953 годзе шмат паседжаньняў было прысьвечана гутаркам пра дыктатарскія, «палітбюроўскія» мэтады, ужываныя Пр. М. Абрамчыкам і ягонымі паплечнікамі. Скончыліся гэтыя гутаркі тым, што адзін зь лідэраў апазыцыі — А. Адамовіч дабіўся палепшаньня свайго палітычнага становішча і свайго дабрабыту. І хаця палітбюроўскія мэтады за гэты мінулы час толькі ўзмоцніліся, аб іх не гавораць на цяперашнім пленуме Рады БНР: частка сяброў апазыцыі задаволілася тым, што іхні кіраўнік узабраўся на бэнэраўскае «ўзвышша», а другая

---

1002 Маецца на ўвазе польская кансерватыўная газета ***«Słowo»***, што выходзіла ў Вільні ў 1922–1939 гг.

1003 Я. Ліманоўскі не мае рацыі. Вырашэнне праблемы падбору кадраў для нацыянальных рэдакцыяў было часткаю кампетэнцыі арганізацый — удзельніц Парыжскага блоку, паводле дамовы з Амерыканскім камітэтам вызвалення.

частка адыйшла ад БНР. У асобе Сп. А. Адамовіча, цяпер «перабудаванага» і найбольш «мабільнага», палітбюроўская гэрархія БНР прыдбала новага актывіста, які будзе *«ізніштажаць інаверцаў»* больш актыўна, чымся старыя палітбюроўцы, апрўдваючы народную прыказку: *«ахрышчаны жыд — найгоршы антысэміта»*. Дыктатарскі курс у БНР цяпер, калі апазыцыйныя галасы змоўклі, яшчэ больш узмоцніцца.

Чыясьці ўсьмешка вывела з раўнавагі Сп. Антона Адамовіча, калі ён выказваў высокія пахвалы асобе Пр. М. Абрамчыка, і ён кінуў, крыху паграхаючы, носьбіту ўсьмешкі: *«злазіць з даху і не псаваць»* (кажуць, сьмех забівае). Можа ў ліку вясёлых слухачоў быў і я, але мяне сьмяшыў ня столькі зьмест прамовы (кожны можа гаварыць, што яму карысна), колькі стыль яе, які зьяўляецца старамодным, не ўжываецца ў сучаснай літаратуры і называецца фальшывым патасам; мы пачалі забываць пра гэты стыль і як спосаб аратарскай экспрэсіі, калі выбраліся ў вольны сьвет. Дык польская прыказка, застасаваная да падзеі, павінна гучэць так: *«злазь з даху і ня псуй кацінай капэлі»*, што выконвае какафонію — «дыфірамбы».

Структура і дзейнасьць Рады БНР так нагадвае нам вядомыя дыктатуры: дыктатар — начальнік дзяржавы і фікцыйны парлямэнт, якога існаваньне дазволена для прыкрыцьця дыктатуры. На працягу мінулых трох год дзейнасьць Бюро Рады БНР была «замарожана» Пр. М. Абрамчыкам: старшыня бюро др. Тумаш *«падаўся ў адстаўку»*, але не *«ачысьціў мейсца»* для новага, хоць-бы часовага Бюро, чаго і жадаў Пр. М. Абрамчык.

Склад сучаснага Пленуму Рады БНР такі, што дзесяццю галасамі можна прыняць абы-якую пастанову. Праўда, БНР Сп. М. Абрамчыка ня можа пахваліцца якімі-небудзь прынцыповымі пастановамі за дзесяць год свайго існаваньня; пастановы да чагосьці абавязваюць, а Пр. М. Абрамчык якраз і ня хоча зьвязваць ці абмяжоўваць сябе пастановамі. пастановы, арганізацыйнага пераважна характару зробляны Пр. М. Абрамчыкам яшчэ да пачатку Пленуму і зацьверджаньне іх Пленумам, большасьцю дзесяццю галасоў, будзе толькі звычайнай фармальнасьцю. Гэтымі дзесяццю галасамі будзе праведзена «рэарганізацыя» складу Рады БНР, паводле парадку дня, будзе зроблена чыстка больш сотні сяброў Рады, створаны новы склад Рады, больш «адданы» «праваднікy». Пасьля гэтага дзесяцігалоснага «трыумфальнага» Пленуму неабмежаваная бескантрольная дзейнасьць Пр. М. Абрамчыка толькі ўзмоцніцца. Пачатая яшчэ ў дыпісоўскіх лягерах практыка абчэрніваньня сваіх крытыкаў рознымі ярлыкамі, якія так нагадваюць нам вядомыя мянушкі «ворагаў народу», будзе і далей падменьваць спрэчкі аб прынцыповых разыходжаньнях у пытаньні дэмакрацыя ці дыктатура. Даносы, што сталіся бадай штодзённай з’явай як спосабам змаганьня, будуць практыкавацца і далей. Выканаўчыя органы, якія пленум створыць, будуць фікцыяй, будуць ігнаравацца Пр. Абрамчыкам, будуць толькі існаваць «па штату».

Не прадбачваючы ніякага палепшаньня ў становішчы бязраднай Рады БНР, якая, дзеля дыктатарскіх амбіцый Сп. М. Абрамчыка і дзеля неадпаведнага складу, ператварылася ў прыкрую пародыю гістарычнай Рады БНР,

пародыю на ўсялякі парлямэнтарызм ці нават на звычайную дэмакратычную арганізацыю, не жадаючы падначальвацца дыктатуры Пр. М. Абрамчыка і ягонага палітбюро, не жадаючы, каб гэтая дыктатура была перанесена на нашу Бацькаўшчыну пад выглядам вызваленьня, не жадаючы прыймаць на сябе адказнасьць хоць часткова за дзейнасьць арганізацыі, сябры якой ня могуць выконваць сваіх абавязкаў згодна са сваімі паглядамі і сумленьнем, я вырашыў зрачыся свайго сяброўства ў Радзе БНР.

Яшчэ некалькі слоў на разьвітаньне да сяброў Рады БНР, якіх я падзяляю, ня зусім дакладна, на дзьве групы. Да першай належаць даверлівыя і дабрадушныя беларусы; якасьці, што робяць іх сымпатычнымі ў прыватных адносінах, перашкаджаюць ім паважна адносіцца да сваіх абавязкаў як сяброў Рады БНР. Яны нагадваюць мне таго дзеда з беларускай п'есы, які, ня чуючы, аб чым яго пытаюць і што яму гавораць, заўсёды адказвае: *«Усё будзе добра, усё будзе добра».* Аб іх я гавару, калі і з усьмешкай, дык з зычлівай, і пашанай. Яны ня робяць надвор'я ў Радзе БНР.

Да другой групы належаць тыя, што ўжо атрымалі ці спадзяюцца атрымаць пэўныя дабрадзействы ад Пр. М. Абрамчыка; тут гатовыя ад самога нараджэньня кандыдаты ў міністры й паслы; у гэтай групе і фабрыканты палітычных ярлычкоў; тут і некалькі абрамчыкавых гадунцоў, якіх ён залічыў у сябры беларускага «парлямэнту» бадай што пасьля заканчэньня імі дыпісоўскай гімназіі і якія з пільнасьцю фанатычных камсамольцаў знаходзяць памылкі ў выступленьнях сівавалосых беларускіх дзеячоў і павучаюць іх мудрасьці абрамчыкавай «гэнэральнай лініі»; не заўсёды згодныя, яны часта грызуцца і паміж сабой і Пр. М. Абрамчыку часам, нібыта таму трэніроўшчыку зьвяроў у цырку, даводзіцца ляснуць бізуном, каб памірыць іх. Але гэтая рэакцыйная група, хоць колькасна меншая, складае кіруючы актыў, як гэта бывае ва ўсіх таталітарных арганізацыях. Там, дзе ім удаецца захапіць кіраўніцтва ў беларускіх грамадзкіх арганізацыях, яны трымаюць гэтыя арганізацыі пад сваім камандаваньнем. Што сказаць ім, не насьледуючы іх мэтадаў лаянкі і пагрозаў? Што сказаць Жуку-Грышкевічу, гэтай правай руцэ Сп. М. Абрамчыка, гэтаму самаму Жуку, які, выступаючы тут у Нью-Ёрку на сходзе сэктару Рады БНР з *«даручэньнем ад Прэзыдэнта М. Абрамчыка»* (як паведамлялася ў абвестцы сходу) з масонскай таямнічасьцю пагражаў мне дагэтуль невядомымі карамі, якія яны ўплянавалі. Што сказаць таму ці тым, што зрабілі на мяне данос, ці будуць рабіць даносы ў будучыні?

Як вернік да Бібліі зьвяртаецца за парадай, так я зьвярнуўся да твораў Янкі Купалы. Аказваецца, наш вялікі паэта быў у падобнай сытуацыі і даў сваім прасьледавальнікам адказ, годны ягонай дастойнай постаці. Таму я разьвітваюся зь імі словамі Янкі Купалы:

*Вам, цемратворцам блізкім, далёкім,*
*Шлю свой прывет і ласку ад сэрца;*
*Дзякуй шлю вам, шмялём сьлепавокім,*
*Дзякуй! Хай далей моц ваша працца!*

*Піце, смакчыце крою маю з жылаў,*
*Будзе хай сьліўням, піяўкам завідна,*
*Ройце, капайце брату магілу,*
*Вам толькі гэткай працы ня стыдна!*
*...Жыў і бяз вас я, жыў і між вамі.*
*Толькі, як воблак, быў я свабодны,*
*Спутаць ня даў я дум ланцугамі,*
*Не аплуціў іх сьвіст ваш нязводны.*

З пашанаю да Вас,

*Янка Ліманоўскі.*

## ЛІСТ АЛЯКСАНДРА МАХНОЎСКАГА

*NewYork, 8.II.53*

Вельмі паважаны спадар Кажан!

Дзякую Вам за Ваш прыватны ліст. Дужа задаволены, што часам у сваім суме ўспамінаеце й праз мяне. Ведаю добра, што Вам часам бывае адзінока. Што-ж рабіць, так ужо часам на сьвеце бывае, дужа пагана бывае жыць!

Грошы ад Вас атрымаў, фактычна чэкі. Папрабую атрымаць грошы. «Папрабую» я ўжываю таму, што латышы ўсім, і мне таксама, прычапілі хвост — «s», і выйшла *Machnovskis* па дакуманту, што выдалі амэрыканцы на падставе латыскага пашпарту. Ужо на пошце пры атрыманьні ліста Вашага прычапіліся. Вы гэтага ня ведалі. Але гэткае напісаньне майго прозьвішча патрэбнае толькі для чаго-небудзь афіцыйнага, як у даным выпадку з грашыма.

Сп. Прэзыдэнт абяцае прыехаць праз 2–3 тыдні, дзесь у сярэдзіне лютага. Але яшчэ ён паведаміць дакладней. Дамовіўся са спадарыней Савёнак, што яны яго прытуляць. Цяжка з гэтым. Многа хто з прыемнасьцяй прыняў бы на тыдзень-два, але калі справа ідзе праз некалькі месяцаў, то гэта цяжка — працаваць на хвабрыцы й апекавацца госьцем. Асабліва гаспадыне.

У вонкавай палітыцы пакуль застой у сувязі са зьменамі амэрыканскага Прэзыдэнта. Мы зможам дзеіць прыблізна праз месяц. Так думае й Прэзыдэнт, якому я пісаў праз свае высновы. У перамовах з расейскімі партыямі ў Мюнхэне нашыя паводзіны былі зусім правідловыя з тактычнага боку, і я закідаў сп. Прэзыдэнту ў гэтым зрабіць не магу. Гаварыць патрэбна, а не ўхіляцца толькі. Гаварыць жа ня знача і ўжо дамовіцца. Наш прэсьціж толькі ўзрос, навет і сярод тых самых украінцаў. Іх-жа палітыка зусім была неправідловая, што яны зразумелі толькі зараз і паехалі ў Мюнхэн зрабіць від, што гавораць і жадаюць дамовіцца. Ну, але немагчыма, дык што зробіш?

Што ў нас у сярэдзіне? Нічога добрага й нічога благога. Выбрык з газэтай палітбюро я не магу апраўдаць. Вы гэта ведаеце, толькі ня ведаеце ўсё, што было. Што яны былі ня правы, гэта паказвае выбрык сп. Кушаля з «марда-

біцьцём». На паседжаньні сэктару я не хацеў усяго казаць, але й тое, што сказаў, не падабалася палітбюро, бо яны ў сваёй душы адчувалі сваю віну й дзеля гэтага хваравіта ўспрымалі ўсё.

З Рады выступілі сп. Каханоўскі (зусім не правы!), сп. Кендыш, сп. Юхнавец. Для некаторых гэта справа грашовая, некаторыя-ж хваравіта-ганарлівыя й самі ня ведаюць, чаго хочуць. У той-жа час Каханоўскі ~~творыць~~ аднаўляець партыю нацыянал-дэмакратаў, але гэтае ў сучасны момант шкодна толькі, бо гэта ёсьць у эмігранскіх абставінах толькі ліквідацыя рады, перанясеньнем вырашэньня ўсіх спраў з плошчы рады ў плошчу аднэй партыі. Туды-ж хочыць ускочыць і палітбюро. Усё гэта патрэбна разьвязаць, але на гэта патрэбен вольны час, якога няма. Дзямідаў ужо ў Астроўскага (па чуткам). Некалькі разоў напісаў у Чыкага, пішуць, што Дзямідава выключылі, а тады замоўклі і не адказываюць больш, хоць лобам у сьцяну бі!

Выступленьне на авансцэну сп. Савёнка з БНЦ зусім не прадумана было да канца і ў такім выглядзе толькі шкодна.

Прыдзецца сп. Прэзыдэнту разьвязываць усе гэтыя справы як больш вольнаму, гэтым толькі занятаму. Для мяне асабіста найвыгаднейшым жэстам было-б адмовіцца адразу-ж пасьля выяўленьня палітбюро, аб чым я думаў, але працягнуў існаваньне ўраду хоць такое толькі ў інтарэсах агульнае справы. Спрэчкі могуць быць, але кабінэты павінны быць у эміграцыі больш сталымі, інакш мы страцім павагу ў чужынцаў.

Увесь гэты час хаджу на паседжаньне каардынацыйнага цэнтру паняволеных народаў у NУ, некалькі разоў спатыкаўся з Вітвіцкім, прадстаўніком Грузінаў, Паўночных каўказцаў, Латышоў. Быў на сьвяце незалежнасьці (35 угодкі) украінцаў у Мангэтан Цэнтры і выступаў з прывітаньнем перад 6000 чалавек. Гэта патрэбна дзеля нашай прапаганды, не ~~дзеля~~ радзі ўкраінцаў. Пры 10 гадзінаў працы (і ў сыботу 4-8) мне гэта цяжка. Я адмоўлюся зараз.

Апошні час (на Каляды) сядзеў у цёмным пакоі, бо хворае было вока. Папала істружка зялезная з машыны. Пару тыдняў прахварэў, ня мог спаць лежучы, а толькі седзючы, бо ад прыліва крыві к воку яно дужа балела. Зараз лепш, але пэўны, што ня будзе бяльма, буду толькі праз 4 месяцы. Праца для мяне цяжкая, але што-ж зробіш. Задаволены, што яна ёсьць. Жонка ўсё мучаецца з артрытам. Усе шпрыцы й лекі даюць толькі аблягчэньне на кароткі час, а не вылячэньне. Часам працуе, часам не. Што да нашых спраў агульных, то нельга ў лісьце ўсе апісаць, толькі асабіста. Мо як пад'еду ў *Stamford*.

Жадаю Вам бадзёрасьці духу! Цісну руку! Прывітаньне сп. Протасу й сп. Галяку. Чаму сп. Протас ня вышле мне карткі? Грошы вярну яму напэўна!

*Ваш А. Махноўскі.*

# ЛІСТЫ ЯНКІ СУРВІЛЫ

*

*Мадрыд, 10.2.1960*

Вельмі Паважаны Спадар Кажан,

Прашу, прабачце мне, што да гэтага часу не адказаў на Вашыя два лісты, а галоўнае, што ня выслаў паквітаваньня на перасланыя Вамі грошы. Тут, у гэтым апошнім, дык сапраўды я вінаваты, бо паквітаваньне ляжыць даўно ўжо напісанае, і мог-бы яго выслаць адразу пасьля атрыманьня грошай, але-ж хацелася адначасна выслаць Вам ліст і паінфармаваць аб нашай тут сытуацыі. На жаль, справа зацягнулася з напісаньнем ліста, бо ў умовах, у якіх прыходзіцца жыць і працаваць, гэтая проста рэч пераўтвараецца ў складаную: цяжка скамбінаваць вольную хвілінку часу. Увесь час і ўсе сілы забіраюць радыёперадачы, а да гэтага яшчэ ад пару месяцаў не вязець з здароўем, пачалі дакучаць вочы й зубы (якіх няма за што лячыць), што яшчэ больш скамплікавала сытуацыю. Прашу таму, не асуджайце мяне вельмі строга. Мой аснаўны абавязак — утрыманьне нармальнага ходу нашых радыёперадачаў — спадзяюся, што выканаў належна.

У Вашым апошнім лісьце просіце, каб падаў Вам такія-сякія дадзеныя, як мы тут, наагул, даем сабе раду. Пастараюся зрабіць гэта, па-магчымасьці, у найкарацейшай форме.

Адразу-ж напачатку мушу сьцьвердзіць, што сытуацыя ў нас трагічная.

Стараньні аб нашай радыёперадачы пачаліся з надзеяй, што калі-б не знайшліся спэцыяльныя фонды для ўтрыманьня неабходных працаўнікоў, дык змагло-б утрымаць іх нашае грамадзтва. Тады-ж і была ўстаноўлена дапамога ў вышыні сто даляраў у месяц як неабходная для скромнага ўтрыманьня аднаго працаўніка. Гэта было ў пачатку 1957-га году. Паколькі мне ведама, Сэктары Рады БНР у Нямеччыне й Задзіночаных Штатах былі прынялі адпаведныя пастановы, якімі зававязаліся з мамэнтам распачаць-ця радыёперадачаў высылаць месячную дапамогу ў вышыні сто даляраў кожны для ўтрыманьня двух неабходных працаўнікоў. Нямецкі Сэктар Рады БНР належна выконваў і выконвае сваю пастанову: ён нам перасылае рэгулярна па 400 DM месячна (=$95,48). На жаль, як Вам ведама, ня можна гэтага сказаць адносна Амэрыканскага Сэктару Рады БНР. Да гэтага часу сытуацыю часткова ратаваў сп. Прэзыдэнт, якому мы ўжо ёсьць вінаватыя 880 даляраў. Кажу часткова, бо справа заключаецца ня толькі ў рэгулярным падсыланьні дапамогі, а і ў тым, што яна ёсьць недастатковая. Тры гады таму назад Гішпанія належала яшчэ да краінаў Эўропы з найніжэйшымі коштамі жыцьця, і тады ўстаноўленая месячная дапамога ў вышыні 100 даляраў была дастатковая для скромнага ўтрыманьня аднаго працаўніка. Але ў выніку шпаркай эвалюцыі ў эканамічным жыцьці гэтай краіны кошты ўтрыманьня хутка лезьлі ўверх, падвойваючыся з канцом 1958-га году. У

сучасны мамэнт яны ёсьць такія самыя, як у Францыі ці Бэльгіі, і вышэйшыя, чым у Нямеччыне або ў Англіі. Сваечасова пісаў пра гэта сп. Прэзыдэнту і Сакратару ўнутраных спраў Ураду БНР сп. Мерляку, але, на жаль, нічога ня было зроблена. Дзякуючы спэцыяльным акалічнасьцям да канца ліпеня мінулага году мы сабе давалі раду, бо жылі ў студэнцкім доме, дзе не плацілі за памешканьне. Памешканьне-ж тут, у Мадрыдзе, каштуе вельмі дорага: самае таннае 50 даляраў у месяц. І так, адзін з працаўнікоў сеў на дэфіцытны бюджэт пачынаючы ад 1-га жніўня, а другі ад 10-га кастрычніка. Скромнае ўтрыманьне разам з памешканьнем каштуе 135 даляраў у месяц, сталуючыся дома (зімой даходзіць аграваньне). Але-ж акрамя памешканьня і яды чалавек патрабуе таксама вопратку, патрабуе заплаціць лекара ды мае і іншыя неабходныя штодзённыя жыцьцёвыя патрэбы. Ён мусеў-бы мець таксама хоць маленькую магчымасьць штосьці заашчадзіць.

Я асабіста дайшоў ужо да камплетнай руіны. У траўні будуць тры гады, якія аддаў для нашых радыёперадачаў. Яны ня былі змарнаваныя — радыёперадачы, у канцы, здабыў, і ад 8-га сьнежня 1958 году яны нармальна працуюць, але я застаюся голы, босы (апошнія парваныя боты на нагах), кругом у даўгох і з падарваным здароўем. Мне крыху крыўдна. Гэдакая сытуацыя, бязумоўна, далей трываць ня можа. Сп. Прэзыдэнт прасіў патрымацца неяк да ягонага падарожжа ў Амэрыку. Цягнем да апошняга. Да канца гэтага месяца неяк пратрымаемся, але далей — будзе залежыць, ці нас падтрымаюць звонку. Да канца гэтага месяца буду мець каля 260 даляраў доўгу і больш пазычыць ня маю дзе. Спадар Прэзыдэнт пісаў, што меўся выехаць 4–5 гэтага месяца, а таму спадзяюся, што ў хуткім часе атрымаем нейкую дапамогу.

Вас, напэўна, цікавіла-б, што мы маем ад гішпанскіх уладаў, бо ў Вас там гавораць, што мы ёсьць поўнасьцю фінансаваныя.

Мы маем: бюлетэнь навінаў дня; паперу для праграмаў, якой не хапае; 17 даляраў на працаўніка ў месяц і свабоду гаварыць тое, што нам трэба казаць. Канцылярыя нашай рэдакцыі знаходзіцца ў мяне на памешканьні, у пакойчыку, які мае 5 квадратных мэтраў (усё памешканьне складаецца з трох такіх пакойчыкаў і куханькі, цёмнае, і за гэта трэба плаціць 50 даляраў у месяц). Набылі пішучую машынку, але ня маем стала. Ставім яе на маленькім нізенькім століку, чуць вышэйшым за крэсла, і гэтак пішам. Кругом завалена гадавікамі газэтаў і іншай падручнай літаратурай, — няма дзе разлажыць. У бальшыні гэта мая прыватная калекцыя, якую зьбіраў ад 1943 году і якая нішчыцца, перакідаючы з аднаго месца ў другое, калі трэба штосьці знайсьці. Наняць бюро каштуе 30 даляраў у месяц; наняць памешканьне, дзе быў-бы адпаведны пакоік для канцылярыі, — трэба плаціць найменш 75 даляраў месячна.

Гэта было-б коратка аб матэрыяльнай сытуацыі і аб умовах, у якіх працуем. Акрамя гэтага трэба было-б неяк разьвязаць пытаньне нармальнага гадавога адпачынку для працаўнікоў.

Побач з матэрыяльнай праблемай існуе яшчэ і іншая, ня менш важная, а менавіта наладжаньне належнага супрацоўніцтва з нашымі радыёперадачамі з боку нашай палітычнай эліты, пісьменьнікаў, навукоўцаў і беларускіх грамадзкіх асяродкаў. Гэта ёсьць неабходнае дзеля належнага выкарыстаньня для нашай нацыянальна-вызвольнай справы магчымасьцяў, якія тут маем. Заняцца гэтай справай муселі-б органы Рады БНР.

Мадрыдзкія беларускія перадачы трэба ўтрымаць за ўсякую цану, бо гэта ёсьць адзіны вольны, сапраўды вольны голас нашай палітычнай эміграцыі, які даходзіць ня толькі на бацькаўшчыну, але і да ўсіх куткоў СССР, ды чуваць, таксама, у Сярэдняй і Заходняй Эўропе. З Польшчы маем весткі, што, нягледзячы на шалёнае глушэньне, нас чуюць. Нашыя перадачы ёсьць найбольш глушаныя, а гэта азначае, што яны даходзяць, і што Маскве моцна не падабаюцца. Застаецца толькі зрабіць, каб вольны голас нашай палітычнай эміграцыі ня быў рэпрэзэнтаваны толькі дзьвюма асобамі; ёсьць неабходнае супрацоўніцтва ўсіх! Мы можам гаварыць усё тое, што нам трэба гаварыць, і калі ня выкарыстаем належна гэтыя магчымасьці — гэта будзе сьведчыць аб нашай безадказнасьці, якая граніча з праступствам.

Уважаю, што на ўсё гэта мы маем магчымасьці, і надзеюся, што сучасная сэсія Рады БНР прыме належныя меры ў гэтым напрамку.

Дазвольце сёньня на гэтым скончыць. Прымеце маё найшчырэйшае прывітаньне і пажаданьні ўсяго найлепшага. Яшчэ раз прашу выбачэньня за гэтакі спозьнены адказ на Вашыя лісты.

Застаюся з глыбокай пашанай да Вас

*Ваш Янка Сурвіла.*

*

*Мадрыд, 15.12.1964*

Вельмі Паважаны Спадар Кажан,

Шчыра дзякую за ліст і за чэк. У залучэньні перасылаю паквітаваньне.

Справы, аб якіх Вы пішаце, ёсьць вельмі сумныя, а Нью Ёркскія падзеі, выкліканыя тамтэйшым «начальнікам»[1004], — сапраўды жалюгодныя. Але -ж нелягічным будзе абвінавачваць у безадказных паводзінах безадказную адзінку. Вінаўнымі за такое палажэньне ёсьць тыя, што, будучы адказнымі, выцягнулі такую асобу наперад і даручылі ёй выконваць важныя грамадзкія функцыі.

Мне цяжка згадзіцца, каб эміграцыйны расклад, аб якім Вы пішаце, можна было залічыць да нармальнага зьявішча. Раскладацца бо можа толькі бязьдзейнае, бяздушнае — усё, што скончыла жыць, хаця і прадаўжала-б яшчэ сваё біялягічнае існаваньне. Аб'ектам такога раскладу становяцца эміграцыйныя нізы, нясьведамая эканамічная эміграцыя і розныя апартуністы, распухлыя ў матэрыяльным дабрабыце і засьлепленыя ім. Нашая эміграцыя,

[1004] Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе Кастусь Мерляк.

бязумоўна, ня была пазбаўленая такога элемэнту. Але-ж мы называем сябе эміграцыяй палітычнай! Мы-ж маем нашую грамадзка-палітычную эліту! Ці-ж бы яна, гэтая грамадзка-палітычная эліта, таксама загнілася й пачала раскладацца?

Нас ёсьць мала, гэта праўда. Але ў дадзеным выпадку важным ёсьць ня колькасьць, а якасьць. Мы-ж маем, здаецца, каля паўсотні сяброў Рады БНР. Такі лік ёсьць малы і, адначасна, вялікі. Паўсотні ідэйных людзей могуць зрабіць вялікую работу. Мы не павінны ўзалежніваць нашае дзейнасьці ад настрояў, пануючых у масе нашай эміграцыі, якую, на жаль, мы страцілі ў выніку наробленых памылак і неразважных паступаньняў. Гэтыя масы трэба пакінуць, бо яны заўсёды пойдуць за дэмагогамі і туды, дзе будуць бачыць нейкія карысьці. Масы лёгка скарыстоўваюцца для разбуральнай дзейнасьці і ніколі ў канструктыўнай рабоце, скіраванай на асягненьне вышэйшага ідэалу, дзе патрабуецца сыстэматычная ахвярнасьць. Таму неразважным было-б змагацца за гэтыя масы, траціць на гэта энэргію і нэрвы, каб у выніку атрымаць ад іх пару дзясяткаў даляраў. Неабходным ёсьць сцэмэнтаваць ідэйны элемэнт і прыступіць да канкрэтных справаў — перабудоўваючы дасюлешнюю структуру нашае дзейнасьці — каб мы маглі выканаць нашыя абавязкі перад народам і каб не прафанавалі назоў «палітычная эміграцыя».

Як-бы няцікава справы выглядалі, гэта ўсё-ж ня можа быць апраўданьнем для трагічнага палажэньня, у якім ёсьць пакінутыя тутэйшыя беларускія радыёперадачы. Ці-ж нармальна, каб пляцоўка Рады БНР трымалася ад даўжэйшага часу на пазычаных грошах у чужых людзей? Ці-ж у такіх умовах сталага напружаньня можна нармальна працаваць, ня руйнуючы перадчасна нэрваў і здароўя? Было-б шмат больш лягічным, каб у такіх выпадках фінасавых цяжкасьцяў Касы БНР патрэбныя грошы пазычылі нашыя дзеячы, якія бяз выключэньня маюць больш, чым людзі, што нам тут пазычаюць, і якім нашая справа павінна быць бліжэйшай. Сапраўды, ёсьць рэчы, якіх я не магу зразумець пры належным жаданьні і волі, і ёсьць рэчы, на якія немагчыма рэагаваць спакойна.

Палажэньне, у якім цяпер знаходзяцца тутэйшыя нашыя радыёперадачы, далей існаваць ня можа і яно вымагае сьпешнага вырашэньня. Ліквідаваць іх у ніякім выпадку ня можна. Такі крок быў-бы ня толькі безадказным, але праступным з пункту гледжаньня нашае нацыянальнае справы і адначасна поўнасьцю кампрамітуючым нас у вачох чужынцаў і ўраду гэтай краіны, зь якім была зробленая дамоўленасьць ад імя Рады БНР. Тады ўжо не заставалася-б нічога іншага, як прызнаць слушнасьць тым цьверджаньням, якія аб нашай эміграцыі пашыраюць нашыя ворагі. Веру, аднак, што нацыянальнае сумленьне і нацыянальная годнасьць жывуць яшчэ ў ладнай частцы нашых суродзічаў з «палітычнай эміграцыі».

Выкарыстоўваю гэту нагоду, каб пажадаць Вам Вясёлых Калядных Сьвятаў і шмат шчасьця ды ўсялякіх памыснасьцяў у Новым, 1965-м годзе.

З глыбокай пашанай да Вас

*Янка Сурвіла.*

# *РАЗДЗЕЛ V:*
# БІБЛІЯГРАФІЯ

*Выдавецкую дзейнасць Рады БНР наўрад ці можна назваць актыўнай. Найчасцей для яе не хапала вольных кваліфікаваных кадраў ды фінансаў. Магчыма, менавіта таму так і не было наладжана цягам прэзідэнцтва Міколы Абрамчыка рэгулярнага выхаду перыёдыка Рады ці Ураду. Паасобныя выданні мелі найчасцей прынагодны і ўтылітарны характар. Тым не менш, Рада напоўніцу карыстала для асвятлення сваёй дзейнасці старонкі прыхільных ёй перыёдыкаў, асабліва газету «Бацькаўшчына», якая ад самага пачатку, хоць і неафіцыйна, выступала як орган Рады БНР. Пазней гэтыя функцыі пераняў амерыканскі «Беларус».*

*Апублікаваная бібліяграфія перыядычных і паасобных выданняў Рады БНР зроблена на падставе даведніка Вітаўта і Зоры Кіпеляў «Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе»*[1005]*. Тут прадстаўленыя выданні, што або афіцыйна выходзілі пад грыфам Рады БНР, або былі звязаныя з асобай яе Прэзідэнта (прыкладам, яго аўтарскія працы). Па гэтым жа прынцыпе складзеная бібліяграфія артыкулаў з газет «Бацькаўшчына» і «Беларус» (укладальнікі Алена і Лявон Юрэвічы). У ёй не ўлічаныя шматлікія публікацыі з нагоды святкавання ўгодкаў БНР (што не былі наўпрост звязаныя з дзейнасцю Рады) або артыкулы, што адгукаліся на дзейнасць Міколы Абрамчыка ў Лізе вызвалення народаў СССР (Парыжскім блоку).*

---

[1005] Kipel V., Kipel Z. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography = Беларускі друк на Захадзе: Бібліяграфія / Пад рэд. Юрася Гарбінскага й Лявона Юрэвіча. Нью-Ёрк — Варшава, 2006. — XVI+841 с.

# ПЕРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАННІ РАДЫ БНР (1947–1970)

**Абежнік**. **Сэктар Рады БНР у ЗША**
Brooklyn, N.Y. [рэд. К. Мерляк]
№ 1. Студз. 1955.
№ 2. Lip. 1955 — Abiežnik. Sektar Rady BNR u ZŠA.
Уключае: Załučnik da Abiežnika № 2 — апошні вядомы нумар.

**Бээнэравец.** Інфармацыйны бюлетэнь
Торонто, Выд. «Авангард Беларускі».
№ 1. Студз. 1952. Год 1.
Адзіны вядомы нумар.

**Бюлетэнь БНР** [Беларускае Народнае Рэспублікі]
[Нямеччына], БПС — Whiteruthenian Press Service.
№ 27. 7 lip. 1947. Hod 28 — Biełaruskaje vydańnie. Калантытул: Biuleten BPS.
[№ 2/28. 4 жнів. 1947 (?)] (Паводле М. Панькова).
БІНіМ мае: № 28. 21 lip. 1948. Hod 28 (?) — адзін няпоўны друкаваны на машынцы лісток без загалоўка. Працягваў нібыта нумарацыю выдаванага ў Празе Бюлетэня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі [№ 1'26. 19 студз. 1926 г. быў, як выглядае, памылкова прыняты за № 1 (26)].

**Бюлетэнь Рады Беларускае Народнае Рэспублікі**
Brooklyn, Rada BNR.
№ 1. Сак. 1957.
№ 2. Ліп. 1962 — мае таксама загаловак: Bulletin of the Rada of the Byelorussian Democratic Republic. Выдае Сакратарыят Інфармацыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, New York.
№ 3. Жнів. — кастр. 1962.
Выйшла 3 нумары.

**Інструкцыя Прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету**
[Нямеччына]
№ 1. 10.12.1948.
№ 2. 15.12.1948.
№ 3. 20.12.1948.
№ 4. 25.12,1948.
№ 5. 30.5.1949 — апошні вядомы нумар.

**Інфармацыя Прадстаўнікам Ураду БНР у розных дзяржавах сьвету**
[Нямеччына], Прэм'ер-міністр Ураду БНР А. Каханоўскі.
№ 1. 10. 1. 1949.
№ 2. 28.8. 1949.
Выйшла два нумары.

**Камунікаты Прэзыдыюму і Сакратарыяту Рады Беларускае Народнае Рэспублікі**

Jamaica, N. Y.

№ 1. Ліп. 1970 —

ад № 4. Люты 1973 — Toronto, Ont.

ад № 8. Сак. 1977 — Barrie, Ont.

ад № 9. Ліст. 1977 — Камунікаты Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

ад № 1/14. Сак. 1984 — Jamaica, N. Y. — Камунікаты Рады БНР.

ад № 2/15. Жнів. 1985 — E. Detroit, Mich.

ад № 1(26). 1998 — New York.

Выданне працягваецца.

**Kanfidencyjalnaja Instrukcyja Pradstaunikom Rady BNR na Čužynie**

New York, Rada Biełaruskaje Narodnaje Respubliki, Sakratarуjat Nutranych Spravau.

№ 101. List. 1957.

Нумар падманлівы; наколькі вядома, гэта першы і адзіны выпуск.

## ПААСОБНЫЯ ВЫДАННІ РАДЫ БНР (1947–1970)

### 1947

**1. Абрамчык, Мікола. Аб прыродных багацтвах Беларусі**. Лёндан: ЗБВБ, 1947. — 45 с.

Перадрук: Бацькаўшчына. № 74–79. 1951.

**2. Асновы беларускае дыплёматычнае палітыкі (тэзы).** [Нямеччына]: Беларускі Нацыянальны Цэнтр, 1947. — 8 с. (10 асобнікаў).

Дадаткі: Агульныя правілы дыплёматычных працэдураў (4 с.); Аб ект, прынцыпы, абсяг дзейнасьці, рэфэрат вонкавай палітыкі БНЦ (2 с.).

**3. Дэклярацыя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), прынятая 31-га сьнежня 1947 г.** Нямеччына, 1947. — 1 с.

*«Рада БНР, сабраўшыся на сход у гістарычны дзень 30-х угодкаў абвешчаньня 1-м Усебеларускім кангрэсам у Менску Беларускай Народнай Рэспублікі, урачыста заяўляе...».*

Гэтым сходам і адозвай пачалася дзейнасць сярод шырэйшага грамадства палітычнае плыні БНР.

**4. Статут Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.** [Остэргофэн, 28 сьнежня 1947]. — 3 с. (8 параграфаў).

*«...статут прыняты аднагалосна на сэсіі Рады БНР, 28 сьнежня 1947.»*

### 1948

**1. [Беларуская Народная Рэспубліка]. Устаўныя Граматы Беларускае Народнае Рэспублікі. Асновы Канстытуцыі БНР.** [Нямеччына], выдавецтва Рэвалюцыйнага Нацыянальнага Хаўрусу, 1948. — 16 с.

**2. Дэкрэт Канцылярыі Старшыні Рады БНР.** Парыж, Гаспода, 19.01.1948. — 2 с.

Пра збор грашовых сродкаў для БНР. Лацініцай і кірыліцай.

Подпісы: М. Абрамчык, А. Лашук.

**3. Канцылярыя Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Dekret.** [Парыж — Лёндан], 19.01.1948. 1 с.

Подпісы: M. Abramčyk, staršynia Uradu BNR; A. Lašuk, kiraŭnik B.N. Fondu na Vialika Brytaniju.

Лацініцай.

Дэкрэт аб стварэнні Фонду.

4. **Рада БНР, пратакол працаў III сэсіі Рады БНР у Остэргофэне 20–21 чэрвеня 1948.** Osterhofen, 1948. — 11 с.

Лацініцай.

**5. Abramčyk, M. Ab pryrodnych bahactvach Biełarusi.** Londan, Biełaruskaje Vydavieckaje Tavarystva, 1948. — 32 s.

Партрэт М. Абрамчыка.

Перадрук: Бацькаўшчына. № 74–79. 1951.

**6. Abramtchik, Nicolas. [La Biélorussie].** Paris, le 29 Avril 1948. — 6 p. (8 асобнікаў).

Агляд Беларусі і беларускай дыяспары, падрыхтаваны для *Commission Préparatoire de l'Organisation Internationale des Réfugiés*…

**7. Rydlevsky, L. Biélorussie. Aperçu sommaire de l'Histoire de la Nation biélorussienne et du Mouvement de Libération Nationale**. Avec 5 cartes de Ing. V. Šymaniec. Paris, 1948. — 40 p.

У дадатках — дакументы з дзейнасці Рады БНР.

Першае большае выданне на французскай мове пра Беларусь і беларускі рух пасля Другой сусветнай вайны.

Гл.: Бацькаўшчына. № 41 (44). 1948.

## 1949

**1. Беларуская Народная Рэспубліка. Канстытуцыя БНР: [Праект]**. Нямеччына, 1949. — 19 с. (12 раздзелаў, 170 параграфаў).

Машынапіс, размножаны фотаспосабам; 30 асобнікаў.

Заўвага: Праект укладзены сп. маг. юр. суддзёй Вышэйшага суду БНР на эміграцыі Л. Галяком на прапанову Прэзідэнта летам 1949 г . Да вясны 1953 г . праект не быў прыняты, але абмяркоўваўся.

**2. Беларуская Народная Рэспубліка. Кніжачка беларускага эмігранта.** [Нямеччына], 1949. — 8 с.

Раскладная.

На старонках надпіс: Аплата на Фонд 25 Сакавіка 1950; 1951; 1952.

**3. Беларуская Народная Рэспубліка. [Маркі БНР].** [Нямеччына], 1949–1950.

Першая серыя марак БНР выйшла ў 1949 г.: тры наміналы — 50 грошаў, 1 талер, 3 талеры.

Іншая серыя выйшла ў 1950 г.: 8 марак.

Разам 11 марак.

Адказныя за друк: Віталь Кажан і Уладзімір Шыманец.

Гл.: Бацькаўшчына. № 1. 1950; Беларус. Сакавік 1998; Linn's Stamp News. Sidney, Ohio. March 6. 1978.

**4. Беларуская Народная Рэспубліка. Падатковая карта сябры БНР.** [Нямеччына], 1949. — 4 с.

**5. Беларуская Народная Рэспубліка, Рада БНР. Президиуму Прометеевской Лиги Атлантической Хартии.** Osterhofen, 10.02.1949. — 5 с.

Мемарандум, каб БЦР не была прынятая ў «Праметэй».

**6. Беларускі Нацыянальны Фонд на Вялікую Брытанію. Паважаныя суродзічы. Самаападаткаваньне на БНР.** Лёндан, 30.06.1949. — 2 с.

Подпіс: А. Лашук.

Адна старонка — лацініцай, другая — кірыліцай.

Адозва выдадзеная арганізацыяй, пакліканай да дзейнасьці дэкрэтам прэз. М. Абрамчыка 19.06.1948 (гл.: Дэкрэт, 1948). У 1949 г. Урадам БНР быў арганізаваны Фонд 25 сакавіка (09.04.1949). Паўстаў канфлікт у дзейнасці 2-х арганізацыяў. Сп. Аўген Каханоўскі, прэм'ер Ураду БНР, прапанаваў спыніць дзейнасць Беларускага нацыянальнага фонду, 1.05.1949.

(Інфармацыя з Архіваў БНР: В. Кажан, фінансавая справаздача: 30.05.1949 — 13.05.1950).

**7. БНР (Беларуская Народная Рэспубліка). Камунікат Прэзыдыюму.** Нямеччына, 1949. — 2 с.

*«9–10 кастрычніка 1949 г . у Нямеччыне адбылася 49 Сэсія Рады БНР».*

**8. Сусьветнае Аб'еднаньне Беларускай Эміграцыі. «Беларусы-эмігранты! Пакідаючы сваю дарагую…».** [Парыж], Управа САБЭ, 1949. — 2 с.

Заклік аб фінансавай дапамозе БНР.

**9. Prajekt suadnosinaŭ i supracoŭnictva: BNR — SABE.** Paryž, 1949. — 1 s.

Тэарэтычныя разважанні, праўдападобна, Л. Рыдлеўскага, У. Шыманца і М. Абрамчыка.

## 1950

**1. Беларуская Народная Рэспубліка. Урад. Мэмарыял Арганізацыі Задзіночаных Народаў аб легітымнасьці ўраду БССР і ягонае рэпрэзэнтацыі ў АЗН.** Нью Ёрк, 5 кастрычніка 1950. — 6 с.

Подпіс: Мікола Абрамчык, Прэзыдэнт Рады БНР.

Частковы перадрук: Беларус. № 3. 1950.

**2. Abramčyk, Mikoła. I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military Prosecutors and N.K.V.D. of the U.S.S.R.** Toronto, Byelorussian Alliance in Canada, 1950. — 36 p.

Беларуская версія пад назвай «Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу» друкавалася ў газетах: Беларускі Эмігрант. № 31. № 32. Таронта, 1950–1951; Беларус. № 2. 1950.

Матэрыял гэтай кнігі быў скарыстаны для дакумента «Мэмарыял аб бальшавіцкім геносыдызьме над беларускім народам, зложаны Камісіі Амэрыканскага Кангрэсу Кэрстэна».

Гл. таксама: Бацькаўшчына. № 208–211. 1954.

## 1951

**1. [Беларуская Народная Рэспубліка]. Рада БНР. Шостая сэсія. Пастанова.** Нью Ёрк, восень 1951. — 4 с.

Подпісы: старшыня сэсіі П. Манькоўскі, сакратар сэсіі А. Шукелойць.

Пастанова аб Міжнацыянальным фронце супраць бальшавізму.

Гл. таксама: Беларус. № 6. 1951.

**2. Ініцыятыўны рэдакцыйна-выдавецкі камітэт інфармацыйнага часапісу аб Беларусі па-ангельску. Да беларускага грамадзтва на эміграцыі.** Торонто, 15.09.1951. — 1 с.

Пра патрэбу выдання англамоўнага часопіса.

Прапанаваная назва «Голас Беларусі» (*«Voice of Byelorussia»*).

**3. Рыдлеўскі, Л. Да біяграфіі М. Абрамчыка.** Парыж, 1948–1951. — 10 с.

Манускрыпт. Часткова публікаваўся.

**4. Bielarussian Republic Independence Proclamation will be held on the March 25, 1951.** Detroit: International Institute, 1951. — 3 p.

Паштоўка-паведамленне пра адзначэнне 25 сакавіка; выдадзена друкарскім спосабам.

На беларускай і англійскай мовах.

На адваротным баку дзейная марка цаною 1 цэнт.

## 1952

**1. [Беларуская Народная Рэспубліка]. Сучасныя праблемы беларускае вонкавае палітыкі.** [Нью Ёрк]: БНР, 1952 (?). — 17 с.

Вядомыя 6 асобнікаў.

Аўтар Аўген Каханоўскі (?).

**2. Беларуская Народная Рэспубліка. [Узнагароды БНР].** Нямеччына, 1952. — [8 с.]

Адбітак з газеты: Бацькаўшчына. № 7–8 (86–87). 1952.

Дэкрэтам ад 1 верасня 1949 г. Прэзідэнтам Рады БНР зацверджаныя: ордэны Пагоня, Жалезны Рыцар, медаль Партызан.

**3. Беларуская Народная Рэспубліка. Фонд Б.Н.Р. у З.Г.А.** [Нью Ёрк], 25 ліпеня 1952. — 2 с., 2 дадаткі.

Подпіс: В. Кажан, Скарбнік Фонду.

Фінансавая справаздача Фонду БНР за час ад 21 студзеня 1951 г. да 25 ліпеня 1952 г.

Дадатак: спіс сяброў Рады БНР у ЗША.

**4. Ліманоўскі, Янка. Да паважаных Сяброў Рады БНР.** [Нью Ёрк], 1952. — 5 с.

Аналіз разладу ў БНР.

**5. Пратаколы Шостай Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбылася 28.X, 11.XI, 25.XI.1951; 3.II, 16.III.1952.** Нью Ёрк, 1951–1952. (6 асобнікаў).

Пратаколы кожнага з 5 пасяджэнняў маюць асобную пагінацыю.

## 1953

**1. [Абрамчык], Мікола. Змагар за долю іншых. Памяці Лявона Рыдлеўскага.** Нью Ёрк: Беларус, 7 лістапада 1953. — 4 с.

Артыкул быў размножаны фатаграфічным спосабам у выглядзе брашуркі.

**2. Рэзалюцыя 7-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў справе стварэньня міжнацыянальнага антыбальшавіцкага цэнтру.** Нью Ёрк, кастрычнік 1953. — 2 с.

**3. Станкевіч, Я. Толькі сябром Рады Б.Н.Р. Да сяброў Рады Б.Н.Р.** Нью Ёрк, 1953. — 15 с.

Справа «Беларуса». Выясненне. Кірылічны варыянт.

**4. Akty Kamisii, što razhladała spravu vyšmienavanaje hrupy…** New York, BNR, 7.11.1953. — 20 s.

Палітычны разлад у БНР.

Да актаў далучаныя розныя дакументы.

**5. Rada BNR. Паведамленьне аб сэсыі, праграма.** Нью Ёрк, 1953. 6 с.

**6. Stankievich, J. Tolki siabrom Rady B.N.R. Da siabroŭ Rady B.N.R.** New York, 1953. — 21 s.

Дакументы пра сяброў Рады БНР; палітычны раскол у БНР.

Тое ж кірыліцай: Акты камісіі…, 1953.

## 1954

**1. Беларуская Народная Рэспубліка. Рада. Сёмая сэсія Рады БНР… Камунікат аб заканчэньні сэсіі.** Нью Ёрк, красавік 1954. — 5 с.

Гл. таксама: Беларус. № 48. Нью Ёрк, 1954.

**2. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Сэктар Рады БНР у ЗША. Da ŭsich radsektaraŭ i siabroŭ Rady BNR. [Słuchańni Kamisii Kerstana].** New York, 1954. — 2 s. (150 асобнікаў).

Удзел беларускіх дзеячаў у слуханнях у Кангрэсе ЗША. Галоўная думка: Беларусь — калонія Расіі.

**3. Рада БНР. Сакратарыят Фінансаў. Падпісны ліст Дар Сакавіка.** ЗША, 1954. — 2 с.

Подпіс: Віталі Кажан скарбнік БНР.

Такія лісты В. Кажан рассылаў штогод колькасцю 1000–1500 асобнікаў кожны.

**4. BNR. Sakrataryjat Finansaŭ. Darahi Surodzič. Dapamoha BNR!** London, 1954. — 2 с.

Подпіс: Віталі Кажан.

**5. Fond BNR. Pradstaŭnictva ŭ Paŭnočnaj Amerycy. Pastanova VII-aj sesyji Rady BNR z dnia 14 lutaha 1954 ab apadatkańni Rady BNR.** Stamford, Conn., July 1954. — 5 s.

**6. Fond BNR. Pradstaŭnictva ŭ Paŭnočnaj Amerycy.** Stamford, Conn., 1954. — 3 s.

Подпіс: скарбнік Фонду Віталі Кажан.

Інфармацыйная ўлётка пра патрэбы Фонду БНР.

**7. Pastanova VII-aj Sesyi Rady BNR z dnia 14-ha lutaha 1954 h. ab apadatkavańni siabroŭ Rady BNR.** New York, luty 1954. — 3 s.

Табліца сумаў ападаткавання.

Гл. таксама: Fond BNR, 1954.

### 1955

**1. БНР. Сэктар у Нью Ёрку. Беларускія перадачы радыё «Вызваленьне».** Нью Ёрк, 20 сьнежня 1955. — 4 с.

Подпісы: В. Тумаш, К. Мерляк.

БНР не падзяляе погляду радыё.

### 1956

**1. Ліманоўскі, Янка. Да паважаных сяброў Рады БНР.** [Нью Ёрк], 1956. — 5 с. (20 асобнікаў).

Канфлікт у Радзе БНР; палеміка з М. Абрамчыкам.

**2. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Пастанова 8-й Сэсіі Рады БНР ад 21-га кастрычніка 1956 г.** Нью Ёрк, 1956. — 1 с.

Зацверджана: Інж. М. Абрамчык, Старшыня РБНР; Н. Арсеньнева, сакратар РБНР.

**3. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Прэзыдыюм. Паведамленьне аб падзеях…** Нью Ёрк, 1956. — 8 с.

Пастанова… аб самападатках, 21.10.1956.

Далучана таксама: «Tabela dla abličećnia vyšyni apadatkavaćnia radnaha BNR».

**4. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят Фінансаў. Падатковая кніжка.** Кліўленд, 1956. — 25 с.

Выдавец ЗБМА (?).

**5. Рада БНР. Паведамленьне аб падзеях…** Нью Ёрк, 1956. — 3 с.

**6. Abramtchik, M. The new Soviet Political line and our position.** New York, Sept. 27, 1956. — 3 p.

*Commodore Hotel, Press Conference. Original.*

Палітычныя погляды БНР.

Часткі прэсавага камунікату трапілі ў англамоўную прэсу.

**7. Address by President M. Abramchyk Chairman of the League for the Liberation of the Peoples of the USSR (Paris Bloc).** New York, 1956. — 4 p.

М. Абрамчык акрэслівае палітычную праграму дзейнасці нацыянальных эміграцый.

**8. Biełaruskaja Narodnaja Respublika. Prezydyjum Rady BNR. Paviestka vośmaj Sesii Rady BNR.** New York, 1956. — 2 s., суправаджальны ліст.

Подпісы: М. Абрамчык, К. Мерляк.

**9. Biełaruskaja Narodnaja Respublika. Sektar Rady BNR u ZŠA. Sprava! Apłata składak Radnych BNR.** New York, vierasień 1956. — 1 s.

Просьба да радных БНР рэгулярна аплочваць складкі.

**10. Byelorussian Democratic Rada (Council) in the United States.** New York, September 27, 1956. — 1 p.

Прэсавы камунікат: побыт М. Абрамчыка ў ЗША.

Подпіс: K. Mierlak, Chairman.

## 1957

**1. Дар Сакавіка.** New York: BNR, 1957. — 4 с.

Даўжэйшы зварот скарбніка БНР Віталя Кажана аб падтрымцы фінансавання Рады БНР. Друкаваўся кірыліцай і лацініцай.

**2. Rada Biełaruskaje Narodnaje Respubliki. Sakrataryjat Finansaŭ. [Finansavyja abaviazki…].** Stamford, Conn., July 28, 1957. — 1 s.

Подпіс: Віталь Кажан.

**3. Rada Biełaruskaje Narodnaje Respubliki. Sakrataryjat Rady BNR. «Pradstaŭnikam Rady BNR… u spravie: Biełaruskaja mova ŭ radyjapieradačach «Hołas Ameryki».** New York, vierasień 1957. — 2 s.

Інструкцыі і ўзор магчымых інфармацыйных улётак, каб увесці беларускія праграмы на радыёстанцыі «Голас Амерыкі».

Подпіс: K. Mierlak.

**4. Rada Biełaruskaje Narodnaje Respubliki. Sakrataryjat Rady BNR. «Pradstaŭnikam Rady BNR… u spravie śviatkavańnia 40-ch ugodkaŭ…».** New York, vierasiec 1957. — 2 s.

## 1958

**1. Маніфэст Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. «Беларускі Народзе!»** [Нью Ёрк], 1958. — 3 с.

Адбітак беларускага перакладу маніфесту з: Бацькаўшчына. № 397–399. 1958.

Маніфест публікаваўся таксама на арабскай, нямецкай, французскай і англійскай мовах.

Гл: Беларус. № 65. Нью Ёрк, 1958.

**2. Abramtchik, M. The League for the Liberation of the Peoples of the USSR (The Paris Bloc): Composition, Aims and Tasks.** Munich, 1958. — 3 p.

Асобны адбітак з: «Problems of the Peoples of the USSR». № 1. Munich, 1958. — P. 57.

М. Абрамчык быў старшынёй Парыжскага блоку.

Гл. таксама: Бацькаўшчына. № 164–165. 1953.

**3. Manifest der Rada der Weissruthenischen Volksrepublik.** [New York], den 25. März 1958. — 15 s.

Подпіс: Mikolaj Abramčyk, Präsident der Weissruthenischen Volksrepublik.
S. 3–10: Volk der Weissruthenien!; S. 11–15: Weissruthenien Land und Volk.

**4. Manifeste de la Rada de la Republique Democratique Biélorussienne.** [New York], le 25 Mars 1958. — 8 p.

Подпіс: Mikola Abramtchik, le Président de la Rada de la République Démocratique Biélorussienne.

**5. Manifesto of the Rada of the Byelorussian Democratic Republic.** New York City, March 25, 1958. — 8 p.

Подпіс: Mikola Abramčyk, President…

**6. Memorandum to Howland H. Sargeant, President, American Committee for Liberation.** New York, May 9, 1958. — 5 p.

Подпіс: Mikola Abramčyk, President of the League for the Liberation of Peoples of USSR.

**7. Rada Biełaruskaje Narodnaje Respubliki. Sakrataryjat Rady BNR. U spravie: Biełaruskija Radyjapieradačy z Hišpanii.** New York, 2 studzienia 1958. — 2 s.

Подпіс: К. Мерляк.

## 1959

**1. League for the Liberation of the Peoples of the U.S.S.R. To the Representatives of Missions to the U.N. [N. S. Khrushchev visit].** [New York], September 11, 1959. 1 p.

Подпіс: Mikola Abramchik, President.

## 1960

**1. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Сакратарыят Фінансаў. Падатковая кніжка сябры Рады БНР.** Нью Ёрк, 1960. — [Б. п.].

Апошні запланаваны год складак — 1970.

Перадрукаваная таксама пастанова 8-й сесіі Рады БНР 21.10.1956 аб самаападаткаванні сяброў БНР.

**2. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Пастанова 9-й сэсіі Рады БНР.** Нью Ёрк, чэрвень 1960. — 3 с.

Прабег пасяджэнняў Рады БНР і пастанова сесіі былі надрукаваныя ў: Бацькаўшчына. № 513. 1960.

**3. Abramtchik, Mikola. President of the Council of the Byelorussian Democratic Republic in Exile.** New York, Biltmore Hotel, March 27, 1960. [New York], BAZA, 1960. — 6 p.

Прамова для прэсы.

**4. For Freedom and Independence of Byelorussia.** New York, Byelorussian-American Association, 1960. — 40 p.

Гісторыя беларускага руху за адраджэнне БНР; прамовы амерыканскіх палітыкаў.

## 1962

**1. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Дарагія Суродзічы!** Чыкага, сакавік 1962. — 2 с.

Сустрэча з Прэзідэнтам М. Абрамчыкам.

**2. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Урад Б.Н.Р. Беларуская палітычная эміграцыя…** Нью Ёрк, 20 чырвеня 1962. — 1 с.

Подпіс: Францішак Кушаль, Старшыня Ураду БНР.

Заклік фінансава дапамагчы ўраду БНР.

## 1963

**1. Abramchik, M. Belorussia. Munich. Reprinted from the Symposium «Captive Nations in the USSR».** 1963. — 13 p., map.

Агляд гісторыі і палітычнага стану БССР.

Рэц.: Беларус. № 82. 1964.

## 1967

**1. Беларуская Народная Рэспубліка, Рада. Byelorussian Brainwashing at EXPO 67. Lavage de cerveau a l'EXPO.** [New York], 1967. — 4 p.

Улёткі. Распаўсюджвалі беларускія эмігранты на Сусветнай выстаўцы ў Канадзе. Улёткі былі рознага зместу. Асноўная ідэя: БССР — калонія Расіі.

Гл. таксама: La Bielorussié…, 1967.

**2. Самаўрад памятніка 50-годзьдзя БНР. Да ўсіх беларусаў на чужыне.** Passaic, N.J., 12 сьнежня 1967. — 1 с.

Самаўрад помніка: V. Wasileŭski, Jury Stukalich, Mik. Haroshka.

**3. La Bélorussie dans l'entrave de Moscou = Byelorussia in the Moscow straitjacket.** Toronto, Byelorussian Patriots Abroad, August 1967. — 8 p.

Брашура падрыхтаваная да Беларускага дня на EXPO 1967.

На англійскай і французскай мовах.

Гл. таксама: Беларуская Народная Рэспубліка, 1967.

## 1968

**1. Жук, В. БНР ці БССР.** Нью Ёрк, [БНР]. 1968. — 11 с.

Адказ на крытыку БНР у газеце «Голас Радзімы» (№ 13. Мінск, 1968).

**2. Праект рэарганізацыі Рады БНР.** [Амэрыка, Канада], 14 лютага 1968. — 7 с.

Дыскусійны матэрыял. Ідэя распрацаваная і выказаная др. В. Жук-Грышкевічам.

**3. Declaration of the Rada (Council) of the Byelorussian Democratic Republic.** New York, March 1968. — 4 p.

*«Расейская акупацыя не змагла зламаць волі народу да аднаўленьня беларускае дзяржавы ў форме БНР».*

## 1969

**1. Арганізацыйная інструкцыя Лігі БНР № 1.** Barrie, Canada, Sakavik 1969. — 2 с.

Аднаразовае выданне.

Подпіс: Цэнтральны Арганізацыйны Камітэт Лігі БНР.

**2. [Жук-Грышкевіч, Вінцэнт]. Ідэёвыя вытычныя Лігі БНР.** [Таронта], Цэнтральны Арганізацыйны Камітэт Лігі БНР, сакавік 1969. — 10 с.

## 1970

**1. Адмысловае паведамленьне з Парыжу. «29 травеня, на 68 годзе свайго жыцьця ў Парыжы памёр… Мікола Абрамчык»**. Парыж: Хаўрус, 1970. — 2 с.

Паведамленне было перададзенае ў беларускі друк і радыёстанцыі «Свабода / Вызваленне».

**2. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Мікола Абрамчык Старшыня Рады БНР не жыве.** Нью Ёрк, БАЗА, чэрвень 1970. — 2 с.

Камунікат пра смерць М. Абрамчыка. На англійскай і беларускай мовах. Камунікат быў скарыстаны: The New York Times. June 1, 1970. Vol. CXIX. № 41036. P. 35; New York Post. June 9, 1970.

# БІБЛІЯГРАФІЯ МАТЭРЫЯЛАЎ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ НА СТАРОНКАХ ГАЗЕТАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» І «БЕЛАРУС»

## 1948

**1. З канцылярыі Прэзыдэнта БНР** // Бацькаўшчына. № 31 (34). 10 кастрычніка 1948. С. 3.

Адказ на пасквільную ананімку.

Мікола Абрамчык, Радаслаў Астроўскі, Ларыса Геніюш, Міхась Ігнатовіч, Васіль Захарка, Янка (Іван) Касяк, Анатоль Шкутка.

**2. Інтэрвію прэм’ер-міністра Ўраду БНР** // Бацькаўшчына. № 40 (43). 19 сьнежаня 1948. С. 2.

**3. Маніфэст Рады Беларускай Народнай Рэспублікі** // Бацькаўшчына. № 9 (12). 25 сакавіка 1948. С. 1; № 11–13 (397–399). С. 1.

**4. Пастанова сэсіі Рады БНР Беларускае Народнае Рэспублікі ў справе беларускае нутраное палітыкі** // Бацькаўшчына. № 24 (27). 11 ліпеня 1948. С. 1; Беларус. № 4 (6). 25 сьнежаня 1951. С. 1.

## 1949

**1. Абрамчык М. Ад Сп. Прэзыдэнта БНР** // Бацькаўшчына. № 1 (45). 2 студзеня 1949. С. 1.

Віншаванне з Новым годам і Калядамі.

**2. Абрамчык М. Зварот Прэзыдэнта БНР да Беларускага Народу (З нагоды сьвята 25 Сакавіка)** // Бацькаўшчына. № 8 (52). 25 сакавіка 1949. С. 1.

**3. БНР у дакумэнтах** // Бацькаўшчына. № 15 (59). 18 жнівеня 1949. С. 3; № 16 (60). 5 кастрычніка 1949. С. 3.

**4. За ідэю 25 Сакавіка** // Бацькаўшчына. № 8 (52). 25 сакавіка 1949. С. 1.

**5. Паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР (Нью Ёрк)** // Бацькаўшчына. № 9 (53). 6 красавіка 1949. С. 1.

## 1950

**1. Абрамчык М. Прывітаньне Прэзыдэнта (Да 32-х угодкаў Незалежнасьці БНР)** // Бацькаўшчына. № 2 (62). 25 сакавіка 1950. С. 1.

**2. Беларускі вызвольны рух — зьява прыродна-боскіх законаў. (З прамовы Прэзыдэнта Абрамчыка на банкеце ў Чыкага)** // Беларус. № 1. 20 верасьня 1950. С. 1–2.

**3. Інтэрвію М. Абрамчыка** // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1 студзеня 1950. С. 3.

**4. Маркі БНР** // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1 студзеня 1950. С. 4.

Першая серыя марак БНР.

**5. Мэмарыял Ураду БНР** // Беларус. № 2. 27 лістапада 1950. С. 1.

**6. Прывітаньне Прэзыдэнта М. Абрамчыка** // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1 студзеня 1950. С. 1.

**7. Прывітаньне Прэзыдэнту БНР інж. М. Абрамчыка [ад 4-га Кангрэсу]** // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1 студзеня 1950. С. 1.

**8. Прэзыдэнт БНР [М. Абрамчык] у Чыкага** // Бацькаўшчына. № 2 (62). 25 сакавіка 1950. С. 1.

## 1951

**1. Абрамчык М. Зварот Прэзыдэнта БНР** // Бацькаўшчына. № 66. 6 травеня 1951. С. 1.

**2. Абрамчык М. Калядна-навагодняе прывітаньне Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка беларускаму народу** // Беларус. № 1 (3). 10 лютага 1951. С. 1.

**3. Ад'езд Прэзыдэнта М. Абрамчыка ў ЗША** // Бацькаўшчына. № 73. 31 кастрычніка 1951. С. 3.

**4. В. Шостая сэсія Рады БНР** // Беларус. № 4 (6). 25 сьнежаня 1951. С. 3.

**5. Пастанова 6-ай Сэсіі Рады БНР у справе Антыбальшавіцкага Фронту Змаганьня** // Бацькаўшчына. № 77. 16 сьнежаня 1951. С. 1.

Подпісы: А. Махноўскі, Сташыня Сэсіі Рады БНР, А. Шукелойць, сакратар.

**6. Пастанова сэсіі Рады БНР Беларускае Народнае Рэспублікі ў справе беларускае нутраное палітыкі** // Беларус. № 4 (6). 25 сьнежаня 1951. С. 1.

**7. Шостая Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі** // Бацькаўшчына. № 77. 16 сьнежаня 1951. С. 1.

## 1952

**1. Абрамчык М. Заклік Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка. (З нагоды 34-ых угодкаў БНР)** // Беларус. № 1 (7). 25 сакавіка 1952. С. 1–2.

**2. Абрамчык М. [Пісьмо з падзякай за віншаваньні з нагоды юбілею]** // Бацькаўшчына. № 41 (120). 12 кастрычніка 1952. С. 3.

**3. Акт 25 Сакавіка. 3-я Ўстаўная Грамата Рады БНР** // Беларус. № 1 (7). 25 сакавіка 1952. С. 1.

**4. Зварот Рады БНР да Задзіночаных Нацыяў** // Бацькаўшчына. № 1–2 (80–81). 7 студзеня 1952. С. 5.

**5. Інтэрвію Прэзыдэнта БНР** // Бацькаўшчына. № 23 (102). 8 чырвеня 1952. С. 2–3.

**6. Каранеўскі Я. На службе нацыянальна-вызвольнай ідэі** // Бацькаўшчына. № 36–37 (115–116). 7–14 верасьня 1952. С. 1–2.

50-годдзе Прэзідэнта Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка.

**7. Памёр Язэп Варонка** // Беларус. № 4 (10). 14 чырвеня 1952. С. 2.

**8. Прывітаньні для Прэзыдэнта БНР [М. Абрамчыка, з нагоды 50-годзьдзя з дня народжаньня]** // Бацькаўшчына. № 36–37 (115–116). 7–14 верасьня 1952. С. 1–2; № 38 (117). 21 верасьня 1952. С. 2; № 40 (119). 4 кастрычніка 1952. С. 2; № 41 (120). 12 кастрычніка 1952. С. 3.

**9. Прывітаньне Ягонай Міласьці Прэзыдэнту БНР Інж. Міколе Абрамчыку** // Беларус. № 10 (16). 6 верасьня 1952. С. 3.

**10. Прыезд Прэзыдэнта БНР у Чыкага** // Бацькаўшчына. № 10 (89). 9 сакавіка 1952. С. 4.

**11. Пяцьдзясят год ахвярнага жыцьця [Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка]** // Беларус. № 10 (16). 6 верасьня 1952. С. 3–4.

**12. Рыдлеўскі Л. З жыцьця й дзейнасьці М. Абрамчыка** // Бацькаўшчына. № 36–37 (115–116). 7–14 верасьня 1952. С. 3–4.

Фабіян Акінчыц, кс. Вінцэнт Гадлеўскі, Уладзімер Жылка, Васіль Захарка, Усевалад Ігнатоўскі, Пятро Крэчэўскі, Янка Купала, Іосіф Лагіновіч, Леанід Родзевіч, Аляксандр Чарвякоў, Мікола Шкялёнак.

## 1953

**1. А. К. [Кастусь Акула]. Змагары за нашу долю. [Пётра Крэчэўскі, Васіль Захарка]** // Беларус. № 6 (30). 25 сакавіка 1953. С. 2–3.

**2. Абрамчык М. Зварот Прэзыдэнта БНР** // Бацькаўшчына. № 12–13 (143–144). 25 сакавіка 1953. С. 1.

**3. Абрамчык М. Пажаданьні Прэзыдэнта БНР** // Бацькаўшчына. № 1–2 (132–133). Каляды, 7 студзеня 1953. С. 1.

**4. Важная справа. Прапанова для чарговае сэсіі Рады БНР** // Бацькаўшчына. № 43 (174). 1 лістапада 1953. С. 1–2.

**5. Да 7-ай Сэсіі Рады БНР** // Беларус. № 19 (43). 17 кастрычніка 1953. С. 1; № 22 (46). 25 сьнежаня 1953. С. 2.

**6. Пратэст Захаркі Прэзыдэнту Летувы** // Бацькаўшчына. № 10–11 (141–142). 15 сакавіка 1953. С. 2.

**7. Прывітаньне Прэзыдэнту БНР інж. М. Абрамчыку** // Беларус. № 5 (29) [памылкова: 4 (28)]. 7 сакавіка 1953. С. 1.

**8. Прысутны. Да 7-ай сэсіі Рады БНР** // Беларус. № 21 (45). 28 лістапада 1953. С. 1–2.

**9. Прэзыдэнт Абрамчык ізноў у ЗША** // Беларус. № 9 (33). 2 травеня 1953. С. 1.

## 1954

**1. Ад'езд Прэзыдэнта М. Абрамчыка з ЗША** // Беларус. № 24 (48). 18 красавіка 1954. С. 1.

**2. Закрыцьцё 7-ай сэсіі Рады БНР. Дэклярацыя сяброў Рады** // Беларус. № 24 (48). 18 красавіка 1954. С. 2.

**3. Захарка В. Беларусь: роля й значаньне яе на Ўсходзе Эўропы** // Беларус. № 3 (49). 1 жнівеня 1954. С. 4, 6; № 4 (50). 20 сьнежаня 1954. С. 4–6.

**4. Прэзыдэнт Абрамчык адведаў Мюнхэн** // Бацькаўшчына. № 38 (220). 17 кастрычніка 1954. С. 1.

**5. Прэзыдэнт БНР інж. Абрамчык у Кліўленьдзе** // Беларус. № 23 (47). 6 сакавіка 1954. С. 2.

**6. Радыё «Вызваленьне» аб 25 Сакавіку** // Бацькаўшчына. № 14 (196). 4 красавіка 1954. С. 4.

## 1955

**1. Захарка В. Беларусь: роля й значаньне яе на Ўсходзе Эўропы** // Беларус. № 1 (51). 20 сакавіка 1955. С. 4–6; № 3 (53). 20 верасьня 1955. С. 4–6; № 4 (54). 26 сьнежаня 1955. С. 4–6.

**2. мрт. Прэзыдэнт БНР адведаў Мюнхэн** // Бацькаўшчына. № 25 (255). 19 чырвеня 1955. С. 1.

**3. Паважнасьць падзеі. Да 37-ых угодкаў акту 25 Сакавіка** // Беларус. № 5 (51). 20 сакавіка 1955. С. 1.

**4. Рэзалюцыя ў сувязі з рэфэратам Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка** // Бацькаўшчына. № 43 (373). 23 кастрычніка 1955. С. 2.

**5. У сэктары Рады БНР у ЗША** // Беларус. № 4 (54). 27 сьнежаня 1955. С. 7.

Інфармацыя аб дзейнасці радыё «Вызваленне».

## 1956

**1. Адкрыцьцё восьмае сэсіі Рады БНР** // Бацькаўшчына. № 41 (323). 7 кастрычніка 1956. С. 1.

**2. Будзіч А. [Янка Запруднік]. Сакавік у гісторыі Беларусі** // Бацькаўшчына. № 12–13 (294–295). 25 сакавіка 1956. С. 2.

Францішак Аляхновіч, Францішак Багушэвіч, Ігнат Грынявіцкі, Уладзімер Жылка, Кастусь Каліноўскі, Пётра Крэчэўскі, Мікола Равенскі.

**3. Восьмая сэсія Рады БНР** // Беларус. № 58. 30 сьнежаня 1956. С. 3.

**4. Прамова кангрэсмэна Франціса Дорна (Нью Ёрк)** // Бацькаўшчына. № 16 (298). 15 красавіка 1956. С. 3.

38-я ўгодкі абвешчання незалежнасці БНР.

**5. Прэзыдэнт БНР у Амэрыцы** // Беларус. № 57. 15 кастрычніка 1956. С. 3.

Адкрыцьцё VIII сэсіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

Мікола Абрамчык, архіепіскап Васіль, С. Уільямс, Прэзідэнт Украінскай Нацыянальнай Рады С. Вітвіцкі, Р. Дрэер, Э. Кунігольм, Кастусь Мерляк, Рам Крышна Шагу Модак, епіскап Ф. Уілкі, Яраслаў Чыж.

**6. Спатканьне Прэзыдэнта БНР з дэпутатамі Ангельскага парляманту** // Беларус. № 56. 5 ліпеня 1956. С. 3.

## 1957

**1. Акт 25 Сакавіка ў Кангрэсе ЗША. (Сьвяткаваньні Сакавіковых урачыстасьцяў)** // Бацькаўшчына. № 15–16 (349–350). Вялікдзень 1957. С. 5.

Спікер Кангрэса Сэм Райбэрн, кангрэсмэн Фрэнсіс Э. Дорн, уладыка Васіль, Кастусь Мерляк.

**2. Беларуская дэлегацыя ў мэра гораду Нью Ёрк. (Сьвяткаваньні Сакавіковых урачыстасьцяў)** // Бацькаўшчына. № 15–16 (349–350). Вялікдзень 1957. С. 5.

**3. В. П. [Вацлаў Пануцэвіч]. Янка Чарапук-Змагар** // Бацькаўшчына. № 51–52 (385–386). Каталіцкія Каляды 1957. С. 3, 6.

**4. Восьмая сэсія Рады БНР** // Бацькаўшчына. № 49 (338). 27 студзеня 1957. С. 1.

**5. Да ўсіх Беларусаў** // Бацькаўшчына. № 45 (379). 10 лістапада 1957. С. 3.

Заклік фінансава падтрымаць фонд БНР.

**6. Інтэрвію з Прэзыдэнтам М. Абрамчыкам** // Бацькаўшчына. № 8 (342). 24 лютага 1957. С. 2.

**7. Клецкі В. Дапаможам БНР** // Беларус. № 60. 30 чырвеня 1957. С. 8.

**8. Мельнік К. Заканчэньне 8-е сэсіі Рады БНР і ад’езд Прэзыдэнта М. Абрамчыка ў Эўропу** // Бацькаўшчына. № 5 (339). 3 лютага 1957. С. 4.

**9. Памёр Янка Чарапук-Змагар. Паховіны Янкі Чарапук-Змагара. Радыё ў Чыкага з прычыны сьмерці Я. Чарапука** // Бацькаўшчына. № 50 (384). 15 сьнежаня 1957. С. 3.

**10. Паседжаньне сэктару Рады БНР (Канада). (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. № 51–52 (385–386). Каталіцкія Каляды 1957. С. 8.

Д. Курыловіч.

**11. Прывітаньне Прэзыдэнта М. Абрамчыка з 39-мі ўгодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі** // Бацькаўшчына. № 11–12 (345–346). 25 сакавіка 1957. С. 1.

## 1958

**1. Беларуская дэлегацыя ў Віцэ-прэзыдэнта ЗША. [З нагоды 40-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР]** // Бацькаўшчына. № 14–15 (400–401). Вялікдзень 1958. С. 3.

Архіепіскап Васіль, Рычард Ніксан, Кастусь Мерляк.

**2. Волаціч М. [Вацлаў Пануцэвіч]. Польская спроба захопніцтва Беларусі ў пару тварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. (Да пытаньня акупацыі часткі Беларусі корпусам Доўбар-Мусьніцкага)** // Бацькаўшчына. № 11–13 (397–399). 25 сакавіка 1958. С. 4, 11.

**3. Да ўсіх Беларусаў** // Бацькаўшчына. № 7 (393), 16 лютага 1958, С. 4.

Заклік фінансава падтрымаць фонд БНР.

**4. З. [Янка Запруднік]. Бальшавіцкія дакумэнты** // Бацькаўшчына. № 11–13 (397–399). 25 сакавіка 1958. С. 4.

Антыбээнэраўскія дакументы ў IV томе матэрыялаў і дакументаў гісторыі Беларусі.

**5. З. [Янка Запруднік]. Даклад спадара Прэзыдэнта Абрамчыка ў Нью Ёрку. (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. № 21 (407). 21 травеня 1958. С. 4.

**6. З. [Янка Запруднік]. Парад Ляяльнасьці ў Нью Ёрку ўшанаваў незалежнасьць БНР** // Бацькаўшчына. № 21 (407). 21 травеня 1958. С. 3.

**7. З. [Янка Запруднік]. У ўрадзе БНР (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. № 7 (393). 16 лютага 1958. С. 4.

**8. Кажан В. Дарагія Суродзічы!** // Беларус. № 64. 1 лютага 1958. С. 4.

Заклік скарбніка Рады БНР прынесці ахвяру «Дару сакавіка».

**9. Кліўлендзкі. Прэзыдэнт БНР у Кліўленьдзе. (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. № 20 (406). 18 травеня 1958. С. 4.

**10. Маніфэст Рады Беларускай Народнай Рэспублікі** // Бацькаўшчына. 25 сакавіка 1958. С. 1–2; Беларус. № 65. 25 сакавіка 1958. С. 1–2.

**11. Прывітаньне Прэзыдэнта Айзэнгаўэра [з нагоды 40-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР]** // Бацькаўшчына. № 14–15 (400–401). Вялікдзень 1958. С. 3.

**12. Прэзыдэнт БНР [Мікола Абрамчык] у ЗША** // Беларус. № 65. 25 сакавіка 1958. С. 5.

**13. Прэзыдэнт БНР [Мікола Абрамчык] у Таронта. (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. № 16–17 (402–403). 20 красавіка 1958. С. 8.

**14. Прэзыдэнт Рады БНР М. Абрамчык у Мюнхэне** // Бацькаўшчына. № 47 (433). 7 лістапада 1958. С. 1.

**15. Радыё «Вызваленьне» ў дзень 25 Сакавіка** // Бацькаўшчына. № 14–15 (400–401). Вялікдзень 1958. С. 7–8.

Максім Багдановіч, Францішак Багушэвіч, Язэп Варонка, Доўбар-Мусніцкі, Кастусь Езавітаў, Кастусь Каліноўскі, Якуб Колас, Янка Купала.

## 1960

**1. Будзіч А. [Янка Запруднік]. Дзявятая сэсія Рады БНР** // Бацькаўшчына. № 29 (513). 24 ліпеня 1960. С. 3.

**2. Мэмарандум, высланы ад імя Рады БНР з нагоды канфэрэнцыі «на высокім узроўні» ў Парыжы, на імя Прэзыдэнта ЗША Азэнгаўэра, Прэзыдэнта Францыі дэ Голя, Прэм'ера Макміляна й Віцэпрэзыдэнта ЗША Ніксана** // Бацькаўшчына. № 21 (505). 22 травеня 1960. С. 2.

**3. Пастанова 9-ай сэсіі Рады БНР** // Бацькаўшчына. № 29 (513). 24 ліпеня 1960. С. 3–4.

**4. Прамова Прэзыдэнта Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Міколы Абрамчыка на ўрачыстым сходзе ў Нью Ёрку, прысьвечаным 42-м угодкам абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі** // Бацькаўшчына. № 17 (501). 24 красавіка 1960. С. 2.

Перададзеная ў Беларусь 27 сакавіка праз Беларускую секцыю Іспанскага нацыянальнага радыё.

## 1961

**1. Абрамчык М. Да Суродзічаў у вольным сьвеце. (Зварот з нагоды 43-й гадавіны Акту 25 Сакавіка)** // Бацькаўшчына. № 12–13 (547–548). 26 сакавіка 1961. С. 1.

**2. Да Беларускае Эміграцыі** // Бацькаўшчына. № 10 (545). 5 сакавіка 1961. С. 4.

Зварот сакратарыята Фінансавай рады БНР.

**3. Лашук А. Асьветчаньне** // Бацькаўшчына. № 5 (540). 29 студзеня 1961. С. 4.

Заява пра выхад з кіраўніцтва Фонду БНР на Вялікабрытанію.

**4. Прэзыдэнт Рады БНР М. Абрамчык у Мюнхэне** // Бацькаўшчына. № 23 (558). 4 чырвеня 1961. С. 3.

**5. Рэзалюцыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы (БАЗА), прынятая аднагалосна ў гатэлі «Білтмор» у Нью Ёрку 26 сакавіка 1961 г. на масавым сходзе, прысьвечаным 43-м угодкам Незалежнасьці Беларусі** // Бацькаўшчына. № 16 (551). 16 красавіка 1961. С. 3.

## 1962

**1. Асімовіч Я. Прэзыдэнт Рады БНР у Чыкага. (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. № 7 (591). 8 красавіка 1962. С. 4.

Мікола Абрамчык, ген. Мікола Дзямідаў, Мікола Куліковіч, Вацлаў Пануцэвіч, а. Ян Тарасевіч, а. Уладзімір.

**2. Зварот Прэзыдэнта БНР да Беларускага Народу** // Бацькаўшчына. № 3 (587). 28 студзеня 1962. С. 1.

**3. Кангрэсмэн Стрэтан на Акадэміі 25 Сакавіка** // Беларус. № 74. Люты 1962. С. 1.

## 1963

**1. Нацыянальная ахвярнасьць** // Бацькаўшчына. № 11 (611). Кастрычнік 1963. С. 4.

Бюджэт Рады БНР.

**2. Прывітаньні Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка [з нагоды Калядных сьвятаў і Новага году]** // Бацькаўшчына. № 13–14 (613–614). Сьнежань 1963. С. 1.

## 1964

**1. Заявы ў Амэрыканскім Кангрэсе ў угодкі Незалежнасьці Беларусі. Прадстаўнікі вольнага народу амэрыканскага вітаюць паняволены народ беларускі** // Беларус. № 85–86. Травень 1964. С. 3.

**2. Зварот Прэзыдэнта Рады БНР інж. М. Абрамчыка** // Бацькаўшчына. № 3–4 (617–618). Сакавік 1964. С. 1.

## 1965

**1. Абрамчык М. Зварот Прэзыдэнта Рады БНР да беларускай эміграцыі** // Бацькаўшчына. № 2 (629). Сакавік 1965. С. 1.

**2. Абрамчык М. Прэзыдэнт Рады БНР да беларускай эміграцыі ў дзень 25 Сакавіка** // Беларус. № 96–97. Сакавік–красавік 1965. С. 3.

**3. Б. С. Паштовыя маркі БНР. Сэрыя 1918 году** // Беларус. № 98. Травень 1965. С. 2.

**4. Выступленьні сэнатараў і кангрэсмэнаў. (Вашынгтон, 25 Сакавіка)** // Беларус. № 96–97. Сакавік–красавік 1965. С. 2.

**5. Пастанова Беларускага Сходу ў Нью Ёрку 21 сакавіка 1965 году, прысьвечанага 47-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі** // Беларус. № 96–97. Сакавік–красавік 1965. С. 2.

## 1966

**1. Гарошка М., Набагез У., Гутырчык С. Рэзалюцыя Сходу Беларусаў і Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, праведзенага ў Нью Ёрку 27 сакавіка 1966 году ў вадзначэньне 48-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі** // Беларус. № 108–109. Сакавік–красавік 1966. С. 2.

**2. Жук В. [Вінцэнт Жук-Грышкевіч]. З успамінаў аб 25 Сакавіку** // Беларус. № 108–109. Сакавік–красавік 1966. С. 9.

**3. Залужны П. Незвычайныя адкрыцьці** // Бацькаўшчына. № 1 (634). Сакавік 1966. С. 1, 3.

Станаўленне беларускай дзяржаўнасці. Утварэнне БНР і яе лёс. Савецкая гістарыяграфія і факты з гісторыі.

**4. Зварот Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка** // Бацькаўшчына. № 1 (634). Сакавік 1966. С. 1–2.

**5. Паседжаньне канадзкага сэктару Рады БНР** // Беларус. № 107. Люты 1966. С. 4.

**6. Сянькевіч В. Ангелец пра дзеячаў БНР** // Бацькаўшчына. № 1 (634). Сакавік 1966. С. 3, 5.

Аналіз кнігі Аляксандра Макалума Скота «Па той бок Балтыйскага мора» (*Beyond the Baltic*).

## 1967

**1. Жук В. [Вінцэнт Жук-Грышкевіч]. Сьвяты нацыянальны абавязак** // Беларус. № 119. Сакавік 1967. С. 4.

**2. Кніга да 50-х угодкаў БНР** // Беларус. № 119. Сакавік 1967. С. 6.

Кніга на ангельскай мове пра Беларусь і яе змаганне за незалежнасць на фоне гісторыі Беларусі.

**3. Рэдакцыя «Беларуса». Віншаваньне Высокадастойнага Прэзыдэнта Рады БНР інжынэра М. Абрамчыка ў дзень 65-ых угодкаў ад Ягонага нараджэньня** // Беларус. № 123–124. Ліпень–жнівень 1967. С. 1.

**4. Рэдакцыя газэты «Беларус». Віншаваньне Др. Язэпа Сажыча з нагоды Ягонага падвойнага юбілею — 50 год жыцьця й 25 год сыстэматычнай нацыянальна-грамадзкай дзейнасьці** // Беларус. № 125. Верасень 1967. С. 1.

**5. Рэзалюцыя ўдзельнікаў сьвяткаваньня 49-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, арганізаванага ў Нью Ёрку 19 сакавіка 1967 году Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем у ЗША** // Беларус. № 120. Красавік 1967. С. 2.

## 1968

**1. 10-ая сэсія Рады БНР. (Нью Ёрк)** // Беларус. № 132. Красавік 1968. С. 3.

**2. Абабурка Я., а., Міхалюк Я., Кажаневіч Х., Калбаса Я. Рэзалюцыя Аддзелаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ў Манчэстары й Брадфардзе, прынятая на ўрачыстым сьвяткаваньні 50-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі** // Беларус. № 132. Красавік 1968. С. 7.

**3. Абрамчык М. 1968 год — юбілейны год БНР** // Беларус. № 129. Студзень 1968. С. 1.

**4. Беларуская дэлегацыя ў кангрэсмэна Паттэна. [З нагоды 50-х угодкаў Незалежнасьці БНР]** // Беларус. № 133. Травень 1968. С. 1.

Юрка Азарка, Леанора і Сяргей Гутырчыкі, Эдвард Дж. Патэн.

**5. В. П. [Вацлаў Пануцэвіч]. Прэзыдэнт Рады БНР у Чыкага** // Беларус. № 132. Красавік 1968. С. 5.

**6. Віншаваньне Др. Вінцука Жук-Грышкевіча з 65-мі ўгодкамі ад Ягонага нараджэньня** // Беларус. № 130. Люты 1968. С. 1, 4.

Мікола Абрамчык, мэр Рычард Дэйлі.

**7. Выпадак з Прэзыдэнтам Рады БНР Міколам Абрамчыкам** // Беларус. № 137. Верасень 1968. С. 2.

**8. Ж. [Вінцэнт Жук-Грышкевіч]. Ліга БНР вельмі на часе. (Весткі з Канады)** // Беларус. № 131. Сакавік 1968. С. 4.

**9. Жук В. [Вінцэнт Жук-Грышкевіч]. Збудуем жывую памятку. (Весткі з Канады)** // Беларус. № 129. Студзень 1968. С. 4.

Прапанова стварыць Лігу БНР.

**10. Зьмены ў Сакратарыяце Рады БНР** // Беларус. № 129. Студзень 1968. С. 3.

**11. Курыла У., Набагез У., Гутырчык С., Касьцюкевіч А. Рэзалюцыя, прынятая дня 24 сакавіка 1968 году ў Нью Ёрку, гатэль «Білтмор», на ўрачыстай акадэміі, прысьвечанай 50-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 сакавіка 1918 г. у Менску, сталіцы Беларусі** // Беларус. № 132. Красавік 1968. С. 2.

**12. Малітва Яго Высокапраасьвяшчэнства Ўладыкі Васіля, прачытаная ім у Сэнаце ЗША з нагоды 50-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі** // Беларус. № 132. Красавік 1968. С. 2.

Сенатар Карл Гайдэн, кангрэсмэн Уільям Уідналь, сенатар Эверт М. Дырксэн, Расціслаў Гарошка, Галіна Курыла, Уладзіслаў Курыла.

**13. Прамова Прэзыдэнта Рады БНР [Міколы Абрамчыка] на сьвяткаваньні Сакавіковых угодкаў у Нью Ёрку** // Беларус. № 132. Красавік 1968. С. 2.

**14. Прэзыдэнт Рады БНР у Нью Брансьвіку** // Беларус. № 131. Сакавік 1968. С. 1.

## 1969

**1. В. К. [Вітаўт Кіпель]. Змаганьне БНР. Слуцкі Фронт** // Беларус. № 141. Студзень 1969. С. 4.

**2. Даклад др. Расьціслава Гарошкі. [Да 51-х угодкаў абвяшчэньня Незалежнасьці БНР]** // Беларус. № 145. Травень 1969. С. 6.

**3. Паседжаньне Прэзыдыюму й Сакратарыяту Рады БНР** // Беларус. № 145. Травень 1969. С. 2.

**4. Рэзалюцыя ўрачыстага сходу ў «Білтмор» гатэлі ў Нью Ёрку 23 сакавіка 1969 на 51-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі** // Беларус. № 143. Сакавік 1969. С. 1.

## 1970

**1. В. С. [Васіль Стома?] Беларусы Нью Джэрзі ўшанавалі памяць Прэзыдэнта М. Абрамчыка** // Беларус. № 158. Чырвень 1970. С. 5.

Янка Азарка, а. Віктар Войтанка, Філарэт Родзька, Васіль Стома.

**2. Жук-Грышкевіч Р. Вам — вечна жывым правадыром! [Мікола Абрамчык, Архіяпіскап Васіль]** // Беларус. № 159. Ліпень 1970. С. 2.

**3. Замежны друк пра сьмерць Прэзыдэнта М. Абрамчыка** // Беларус. № 158. Чырвень 1970. С. 2.

**4. Запруднік Я. БНР паміж варожымі Расеяй і Нямеччынай: «Беларускую Раду немцы разагналі з 8 кулямётамі»** // Беларус. № 157. Травень 1970. С. 2.

**5. Запруднік Я. БНР паміж варожымі Расеяй і Нямеччынай: Дэхвальсыфікаваная гісторыя БНР — крыніца маральнае сілы** // Беларус. № 159. Ліпень 1970. С. 2.

**6. Запруднік Я. БНР паміж варожымі Расеяй і Нямеччынай: «На перашкодзе да прызнаньня незалежнасьці Беларусі — Брэсцкая ўмова»** // Беларус. № 158. Травень 1970. С. 4.

**7. К. А. [Кастусь Акула]. Адмовілі паніхіду [па Міколу Абрамчыку]. (Таронта)** // Беларус. № 160. Жнівень 1970. С. 6.

**8. Манькоўскі П. Паведамленьне** // Беларус. № 159. Ліпень 1970. С. 4.

Аднаўленне Пётры Манькоўскага ў правах дзейнага сябры Рады БНР.

**9. Паведамленьне Сакратарыяту Рады БНР** // Беларус. № 153. Студзень 1970. С. 2.

Стан здароўя Прэзідэнта Міколы Абрамчыка.

**10. Прысутны. Беларусы Чыкага ўшанавалі памяць Прэзыдэнта Міколы Абрамчыка** // Беларус. № 158. Чырвень 1970. С. 2.

**11. Рэзалюцыя, прынятая на сьвяткаваньні ў Нью Ёрку 22 сакавіка 1970 году 52-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі** // Беларус. № 156. Красавік 1970. С. 2.

**12. Узнагароджаньне Прэзыдэнта БНР і рэдактара газэты «Беларус»** // Беларус. № 156. Красавік 1970. С. 1.

Мікола Абрамчык, Дуайт Эйзенхаўэр, Нікадзім Жызнеўскі, Станіслаў Станкевіч.

# *РАЗДЗЕЛ VI:*
# АСОБЫ

*Дзейнасць Рады БНР, як і іншых эміграцыйных арганізацый, у вялікай ступені залежала ад асабістых якасцяў, характараў асобаў, якія яе ажыццяўлялі. Пры гэтым, для ўсіх, акрамя Прэзідэнта, удзел у структурах БНР мусіў суседнічаць не толькі з заробкавай працай, але і з шматлікімі іншымі відамі дзейнасці: навуковай для Антона Адамовіча, Вітаўта Тумаша, Аўгена Каханоўскага, літаратурнай ці журналісцкай для Наталлі Арсенневай, Янкі Ліманоўскага, Лявона Савёнка, бібліяграфічнай для Міколы Панькова і г. д. Пераважная большасць радных БНР першага паваеннага перыяду склаліся як асобы і здабылі аўтарытэт у грамадзе яшчэ ў даваенны час. І застануцца яны ў гісторыі зусім не палітычнай дзейнасцю.*

*У біяграфічных артыкулах не рабіўся акцэнт на працы таго ці іншага дзеяча як раднага. Гэтыя нарысы маюць на мэце прадставіць тую ці іншую асобу саму па сабе, яе ўнёсак у беларускую гісторыю і культуру, у жыццё эміграцыі. Частка артыкулаў не была адмыслова напісаная для гэтай кнігі, а раней публікавалася ў іншых выданнях. Аднак мы вырашылі аб'яднаць іх тут, каб шырэй прадставіць тых асобаў, якія багата фігуруюць у пратаколах, дакументах, лістах. Зробленая выбарка, зразумела, далёка не вычарпальная. Артыкулы пра Янку і Станіслава Станкевічаў, Аляксандра Орсу, Аляксандра Махноўскага і шмат іншых яшчэ чакаюць сваіх аўтараў.*

## З ЖЫЦЬЦЯ Й ДЗЕЙНАСЬЦІ МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА[1006]

*Пераказаў мне надоячы Прэзыдэнт М. Абрамчык, што ў яго просяць аўтабіяграфію, і ці ня мог-бы гэта штосьць напісаць я, бо яму і часу не стае і ня любіць сам пісаць свае «аўтабіяграфіі». Раблю гэта з прыемнасьцю, бо запраўды напісаць біяграфію Абрамчыка мне ня так цяжка. Зьвязаны зь ім амаль што неразлучным жыцьцём, пачынаючы з вучыцельскіх курсаў 1920 г., пяць год затым супольных студыяў у Празе, супольнае затым «падарожжа па сьвеце» ды эміграцыя — Парыж, і гэтых больш дваццаці год неразлучнага жыцьця з Абрамчыкам дае мне магчымасьць гаварыць аб ім з такім знаньнем ягонага мінулага, як свайго собскага.*

---

[1006] Тэкст быў апублікаваны ў: Бацькаўшчына. № 36–37 (115–116). 7–14 верасьня 1952 г. У публікацыі захоўваецца правапіс арыгіналу.

*Выконваючы, аднак, просьбу рэдакцыі «Бацькаўшчыны», я дазволіў сабе біяграфію Абрамчыка прадставіць ня ў сухіх датах ці фактах, як — там і там радзіўся, тым і тым быў, а выкарыстоўваючы гэтую нагоду, асьветліць і дзе-якія мамэнты, як-бы пашырыць фон біяграфіі. Гэта ня толькі дапаможа лепш зразумець і ацаніць Абрамчыка як чалавека, як грамадзкага дзеяча, але адначасна й зафіксуе некаторыя мала каму вядомыя мамэнты з нашага вызвольнага руху, маючыя вялікае значэньне для будучых беларускіх гісторыкаў, бо-ж ці мала ў нас пазагінула гістарычнага матарыялу, дзякуючы таму, што ўсе адкладалася, а vita nostra brevis est*[1007].

* * *

Мікола Абрамчык, сын незаможных сялянаў Сымона і Тацяны Абрамчыкаў, радзіўся 6 жнівеня 1902 г. у вёсцы Сычавічы Радашкаўскае вобласьці, на Віленшчыне. Дзяды й прадзеды Міколы належалі яшчэ да служылага стану — інтэлігенцыі, затрымаўшы ў сабе моцна той «літоўскі» «сэпаратызм», за які былі потым Абрамчыкі зрэдукаваныя да пралетарска-сялянскага стану.

Прадзед Міколы, Базыль Абрамчык, быў адміністратарам у маёнтку Кальсберг пад Радашкавічамі (у магната Сьніткі). Сваім трынаццацём сыном ён даў досыць высокую на той час асьвету — 2 зь якіх займалі пасады лясных аб’езжчыкаў, іншыя былі вышэйшымі паштовымі ўрадаўцамі.

Паўстаньне 1863 г., у якім прыймалі той ці іншы ўдзел сыны Базыля, кончылася для Абрамчыкаў вельмі трагічна. Адзін з сыноў Базыля быў павешаны, іншыя сасланыя ў Сібір або ў *«отдаленные места России»*. Дзед-жа Міколы Янка, які яшчэ вучыўся ў духоўнай сэмінарыі, быў зь яе выгнаны й пазбаўлены цывільных правоў.

Янка Абрамчык потым уладзіўся мельнікам у в. Сычавічы, ажаніўся зь мясцовай сялянкай Тацянай Рудзь і, атрымаўшы пасагу 8 дзесяцін зямлі, пачаў гаспадарыць. Але па няведамых прычынах чамусь у 1890 г. Янка з усёй сваёй сям’ёй, разам і з бацькамі Міколы, апынуўся таксама ў Сібіры.

Сымон Абрамчык (бацька Міколы), аднак, за пару гадоў павяртае назад у Сычавічы з мэтай абсесьці на пасажнай зямлі сваёй маткі. Царскія ўлады перадалі гэтую справу валасному сходу, які пастанавіў аднагалосна прыняць Сымона Абрамчыка пад «парукі» ў сваё «обчэства», а сычаўцы талакой памаглі Сымону паставіць хату.

Сымон Абрамчык хутка абжыўся і заваяваў пашану ў сычаўцаў. Няўпынна затым выбіраецца на розныя пасады свайго «обчэства» (чатырох сёлаў) як старасты, магазынера, потым валаснога судзьдзі, войта, а ў 1917 г. быў выбраны дэпутатам на Першы Ўсебеларускі кангрэс.

Будучы малапісьменным, Сымон Абрамчык заўсёды моцна адчуваў недахоп свае асьветы, дзеля чаго ён потым намагаўся з усяе сілы даць як найбольшую адукацыю сваім тром сыном і дачцэ.

[1007] *Vita nostra brevis est* (лац.) — «нашае жыццё — кароткае» (радок са студэнцкага гімна *«De Brevitate Vitae»*, больш вядомага як *«Gaudeamus igitur»*).

Хатняя атмасфэра, у якой працякалі дзіцячыя гады Міколы, вельмі спрыяла сфармаваньню ягонага характару, глыбокай пабожнасьці, запалу да веды, ідэалізму й грамадзкай ахвярнасьці.

Сымон Абрамчык быў вельмі пабожны чалавек, і ў хаце ягонай зьбіралася досыць арыгінальнае рэлігійнае брацтва. Сходзіліся сюды ўсе старэйшыя людзі, што ў выніку насільніцкай царскай царкоўнай палітыкі неяк стыхійна замыкаліся ў сабе і, як-бы баючыся ці лепш хістаючыся ў дэфінітыўным выбары сабе веры — каталіцтва ці праваслаўя, горача маліліся і па-праваслаўнаму і па-каталіцкаму. На гэтыя малебныя вечары прыходзіў пехатой за 9 вёрстаў досыць часта і прадзед Міколы, Базыль, нягледзячы на свой сто зь лішнім гадовы век. У Вялікі-ж пост гэныя малебныя сходкі, а разам з тым і размовы на рэлігійныя тэмы й тэмы аб старадаўнасьці адбываліся амаль штовечара.

Але апроч рэлігійных сходак, адбываліся такія-ж, хоць і менш колькасныя сходкі ў хаце Сымона сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Вучыцель сычаўскай пачатковай школы Юзя Рудзь, заядлы рэвалюцыянер, быў амаль сталым гасьцём Сымона аж да свайго арышту і ўцёкаў з турмы, дзе ён быў засуджаны на сьмерць. Вучыцель Рудзь прыводзіў часамі на начлег да Абрамчыка розных праежджых сваіх сяброў «сацыялістых», і ў кажным такім выпадку дыскутаваліся, зразумела, палітычна-сацыялістычныя праблемы. У хаце Сымона заўсёды былі гутаркі, ствараючыя ідэйны настрой, і, як ведама, у сялянскай хаце дзеці заўсёды ня выключаліся ад удзелу, дзеля чаго ўся гэтая атмасфэра не магла астацца бяз уплыву на малога Міколу.

У пачаткавую школу свае вёскі Мікола пайшоў, калі яму споўнілася 7 год.

Сярэднюю асьвету здабываў Мікола спачатку ў Радашкаўскім чатырохклясавым гарадзкім вучылішчы, а потым у Менску. Увосень 1920 г., маючы падгатоўку за 6 клясаў рэальнай гімназыі, вытрымлівае конкурсны экзамен у новаарганізаваны праф. Ігнатоўскім Палітэхнічны інстытут (на механічны аддзел). Рыжскі мір, адрэзаўшы бацькоў Міколы ад Менску, змусіў яго пакінуць навуку і пераехаць у Сычавічы (Заходняя Беларусь).

Зразумела, што ў вёсцы ўседзець ён ня мог, быў гэта да таго ўжо сьведамы нацыянальна 18-гадовы студэнт. Цяпер Мікола выяжджае ў Вільню.

Старая сталіца Беларусі зрабіла на Міколу Абрамчыка моцнае ўзварушваючае ўражаньне. Пагоня Вострай Брамы, заўсёды поўная Вострабрамская вуліца паўшых на калені ў малітве людзей, Замкавая гара, магіла Льва Сапегі і старыя вуліцы Бакшты — будзілі ў успамінах Міколы ўсё тое, чаго ён наслухаўся ў свае дзіцячыя гады ад свайго прадзеда на малебных вечарох у сваёй хаце і ад кальварыстаў, якія штогод выпраўляліся ў Вільню — да Кальварыі з хаты Сымона за 150 км. пехатой. Наагул Вільня зрабіла ўражаньне на Міколу якогась сьвятога гораду, які ён быццам так добра знаў з самага свайго дзяцінства.

Прыйшоўшы ў Базыльянскія муры — гэтую беларускую цытадэлю, — Мікола меў на мэце паінфармавацца, дзе й як яму знайсьці ў Вільні палітэхнікум. Але спаткаўшы на калідоры аднаго свайго знаёмага па Менску

(Я. Станкевіча), які адразу аблаяў Міколу, што вучыцца цяпер сьведамаму беларусу ёсьць нягодна, бо не хапае людзей вучыць нясьведамых, Мікола падпарадкоўваецца грамадзкай дысцыпліне і ўступае на экстарныя настаўніцкія курсы ды перад Калядамі 1920 г. выяжджае на прызначанае яму месца настаўніка беларускай пачатковай школы ў вёску Ленкаўшчына Ашмянскага павету.

Да школьнага абводу, згодна атрыманай М. Абрамчыкам інструкцыі, належалі 4 вёскі, зь якіх Ленкаўшчына знаходзілася ў цэнтры і ў якой ужо была польская пачатковая школа, якая месьцілася ў канцы вёскі, у маёнтку пана Струтыжынскага.

Мікола Абрамчык закладае школу ў самай вёсцы і пачынае працу спачатку з 12-ма вучнямі. Адначасова адчыняе вячэрнія курсы для дарослых, на якія шугнула ўся перарослая школьны век моладзь і навет бацькі дзяцей, ходзячых у польскую школу.

Энтузыязм маладога вучыцеля, як у школе, так і на курсах для дарослых, меў тыя вынікі, што за два месяцы школа яго налічвала ўжо 60 дзяцей, а польская толькі 4 (дзеці пана Струтыжынскага і аднаго ягонага парабка), і гэта нягледзячы на тое, што сялянства гэтага школьнага абводу было ў 50 % каталіцкае, значыцца, болей апалячанае. На наступны 1921/22 школьны год польская школа ў Ленкаўшчыне мусіла зачыніцца. Пачаўся таму націск на беларускую школу з боку польскай адміністрацыі й паліцыі, але рады даць не маглі. Цяганьне ў паліцыю некаторых сялян толькі яшчэ большы выклікала адпор у змаганьні за беларускую школу. Пасьля гэтага школьны інспэктар прысылаў па чарзе аж 7 польскіх вучыцеляў ці для самастойнай паралельнай польскай школы, ці як выкладчыкаў польскае мовы ў беларускай школе, але сяляне ніводнага з гэтых вучыцялёў ня пусьцілі ў вёску.

Падчас летніх канікулаў 1921 г., будучы на вучыцельскіх дапаўняючых курсах у Вільні, Абрамчык увайшоў у кантакт зь беларускім нацыянальна-рэвалюцыйным рухам, які, як ведама, у той час, пад кіраўніцтвам ураду БНР з Коўні, падгатаўляў (у саюзе зь летувісамі) паўстаньне ў Заходняй Беларусі. М. Абрамчык атрымаў назначэньне раённага начальніка БНР Радашкаўскай, Краснасельскай і Хаценчыцкай воласьці, а на восень 1922 г. за ўдала праведзеныя «манэўры» ў сваім раёне быў назначаны начальнікам Вялейскага павету. Усе раённыя начальнікі Вялейшчыны, нягледзячы на свой паважны век, як прыкладам, начальнік Куранецкага раёну, вучыцель (пазьнейшы пасол у сойм) Гаўрылік ці іншыя пажылыя ахвіцэры, прынялі ахвотна начальства 19-цігадовага Абрамчыка, што ўжо зьяўляецца не малым доказам, якую апінію Абрамчык меў ужо тады сярод беларускага грамадзянства.

Да травеня месяца 1922 г. Абрамчык адначасна добра спраўляецца з сваімі дзьвюма функцыямі — настаўніка і павятовага начальніка. Увосень гэтага-ж году польскі школьны інспэктар Ашмяншчыны, вырашыўшы, што пакуль будзе ў Ленкаўшчыне вучыцелем Абрамчык, беларускую школу перавярнуць на польскую ня ўдасца, дае загад Абрамчыку перанесьціся на настаўніка

ў цэнтральную Польшчу (пад Варшаву). Абрамчык гэтага назначэньня ня прыняў і ў знак пратэсту адмаўляецца ад настаўніцтва зусім.

Цяпер ён пераяжджае ў Радашкавічы, каб заняцца выключна нацыянальна-рэвалюцыйнай працай свайго павету. Для закансьпіраваньня свайго побыту ў Радашкавічах прыпісваецца вучнем 7-е клясы Радашкаўскай беларускай гімназыі. Вучыцелі гэтай гімназыі, добра ведаючы, што Абрамчык мае падгатоўку вышэй за сярэднюю школу, на ягоныя частыя месячныя адлучкі глядзелі «праз пальцы», што дало Абрамчыку магчымасць з вучнёўскай легітымацыяй гібка паварачвацца па сваім павеце і навет пабываць некалькі разоў у галоўным беларускім паўстанскім штабе, які знаходзіўся ў Летуве (у Таўрагэнах).

У лістападзе месяцы 1922 г. сталася важная падзея ў рэвалюцыйна-вызвольным руху Заходняй Беларусі. Да гэтага часу ўсе палітычныя й тактычна-стратэгічныя інструкцыі Цэнтральны Камітэт Вызваленьня Заходняй Беларусі атрымліваў з Коўні, ад Ураду БНР беспасярэдна ці праз галоўны паўстанцкі штаб з Таўрагэнаў. У сувязі із спрэчкай Ураду БНР з Урадам Летувы за Вільню — Урад БНР, як ведама, пакінуў Коўню, а летувісы пачалі намагацца празь некаторых беларускіх урадаўцаў у Таўрагэнах праводзіць далей прыгатаваўча-паўстанскую акцыю ў Заходняй Беларусі, прапагуючы на міжнародным форуме гэны рэвалюцыйна-вызвольны рух як рэзыстанс летувісаў за Вільню.

Беларускі Цэнтральны Рэвалюцыйны Камітэт Заходняй Беларусі, які ўзначальвалі дагэтуль паэты Леанід Родзевіч і Лагіновіч (сябра Слуцкай Паўстанцкай Рады), парваў супрацоўніцтва зь летувісамі, утрымаўшы з сабой увесь закансьпіраваны апарат на ранейшай чыста незалежніцкай беларускай пазыцыі. Разрыў, аднак, зь летувісамі змусіў Бел. Цэнтр. Рэв. Камітэт задумацца над далейшай тактыкай, бо спакладацца цяпер на выйгрыш паўстаньня выключна собскімі сіламі супраць ужо моцна зарганізаванай польскай дзяржавы — было больш, чым рызыкоўна.

У Менску ў гэны час, як ведама, на чале БССР стаяў Чарвякоў, а камісарам асьветы быў праф. У. Ігнатоўскі — абодвы блізкія партыйныя сябры Л. Родзевіча й Я. Лагіновіча (па партыі сацыялістых-рэвалюцыянэраў). Цэнтральны Камітэт Вызваленьня Заходняй Беларусі пастанавіў увайсьці зь імі ў кантакт, і навязаньне гэтага кантакту даручаецца Міколе Абрамчыку. Атрымаўшы пісьмо ад Л. Родзевіча, Абрамчык прабіраецца нелегальна ў Менск і дастаецца на прыватнае памешканьне праф. Ігнатоўскага.

Праф. Ігнатоўскі, уважна выслухаўшы Абрамчыка, паклікаў да сябе якіхсь сямёх здаровых «дзяцюкоў» (у тым ліку быў і Чарвякоў). Тут-жа ў праф. Ігнатоўскага (у былым архірэйскім доме) адбылася нарада, на якой М. Абрамчык зрабіў падробны агляд сытуацыі ў Заходняй Беларусі. Праф. Ігнатоўскі, пакінуўшы ў сябе начаваць Абрамчыка, доўга затым увечары праводзіў зь ім размову. На заўтрашні падвечар прыйшоў адзін з тых сямёх «дзяцюкоў» у бакешцы і заявіў Абрамчыку, што пойдзе зь ім зараз да

Вільні. «Дзядзька» гэты потым атрымаў у Вільні клічку «Прынесены», бо Абрамчыку давялося яго пераносіць на плячох праз рэчку на паграніччы.

Кантакт і перагаворы Камітэту Вызваленьня Заходняй Беларусі зь менскімі эсэрамі мелі тыя насьледкі, што ў Менску таксама паўстаў Камітэт Вызваленьня Ўсходняй Беларусі на чале з праф. Ігнатоўскім.

Была ўзгодненая супольная тактыка абодвых камітэтаў у тым кірунку, што паўстаньня ў Заходняй Беларусі нельга інсьпіраваць на бліжэйшы час, а што трэба заняцца больш падгатоўкай кадраў. У сувязі з тым, што польскі ўрад ужо амаль поўнасьцю зьліквідаваў беларускае школьніцтва, было пастаноўлена прыступіць да разьвярненьня сеткі тайных беларускіх пачатковых школаў. Генэральным інспэктарам тайнага школьніцтва ў Заходняй Беларусі згадзіўся быць ксёндз А-ка, Абрамчык-жа быў прызначаны яму за памочніка.

На гэтым становішчы М. Абрамчык працуе аж да восені 1924 г. Няўпынна ён разьяжджае па ўсёй Заходняй Беларусі, падшуквае пэўных настаўнікаў, закладае тайныя школы й адначасна склады нелегальнае літаратуры, якая потым, па загаду зь Вільні, у адну ноч разам раскідваецца. За гэтыя два гады ён зь місыямі ад ЦК Вызваленьня Заходняй Беларусі быў нелегальна ў праф. Ігнатоўскага аж 29 разоў. За гэты час Абрамчык настолькі здабыў сабе сымпатыі ў праф. Ігнатоўскага сваім спрытам і адвагай, што ён потым дапускаўся Ігнатоўскім на найбольш канспірацыйныя нарады менскага беларускага антыбальшавіцкага актыву.

У чэрвені 1924 г. М. Абрамчык закончыў і фармальна сярэднюю асьвету. Намагаецца, каб паступіць у Віленскі ўнівэрсытэт, але ў тых гадох зь беларускіх гімназыяў пралезьці ў польскія вышэйшыя ўстановы было не лягчэй, як вярблюду праз вуха іголкі. У Цэнтральным Камітэце Вызваленьня Зах. Беларусі было ўжо станоўча пастаноўлена, што Абрамчыка трэба дзесь абавязкава ўсадзіць у высокую школу. Меркаваньні да гэтага былі розныя, а ў тым ліку й тое, што чатырохгадовая няўпынная праца Абрамчыка ў канспірацыі вымагала на некаторы час адпачынку, як і трэба было замазаць за ёй сьляды.

Увосень 1924 г. праф. Ігнатоўскі выклікаў Абрамчыка ў Менск і запрапанаваў яму да выбару дзьве школы: 1. Ленінградзкую ваенную акадэмію, 2. Марынагорскую сельскагаспадарскую акадэмію ў Маскве. Праф. Ігнатоўскі найбольш радзіў выбраць першую, куды ён пасылаў наймацнейшых з нацыянальнага гледзішча беларусаў, каб потым мець свае пэўныя кадры вайсковых спэцыялістых. Але Абрамчык затрымаўся на сельскагаспадарскай акадэміі.

Прыехаўшы ў Маскву, М. Абрамчык зьявіўся ў сельскагаспадарскую акадэмію. Пасьля тыдня наведзінаў і знаёмства із «студэнтамі» і «прафэсарамі» гэтае школы, Абрамчык уцякае назад да Ігнатоўскага. *«Дзядзька Ігнатоўскі, выбачце, але ўцякаю назад». — «Куды?» — «Да Прагі. Акадэмія зрабіла на мяне вельмі мізэрнае ўражаньне. Студэнты там па ўзроўню нашых гімназыстых сярэдніх клясаў. Ня вучыць-жа мне там зь імі арытмэтыку. Да таго і атмасфэра… зрабіла на мяне такое гадкае ўражаньне, што я цэлы тыдзень нічога ня мог есьці. Гэта-ж басяцкі прытон. Супольнае жа-*

*ноцка-мужчынскае «общежитие» й супольныя «ўборныя», што «студэнты» й «студэнткі» разгарадзілі для змаганьня з астаткамі «буржуазных прадрассудкаў», і ўсе там парадкі змусілі мяне ўцякаць»*, — расказваў М. Абрамчык. Ігнатоўскі на хвіліну задумаўся, напасьледак пацалаваў Абрамчыка й ціханька шапнуў: «Маё шчырае прывітаньне Пятру (Крэчэўскаму) і Захарку. Скажы, што ў Маскве іх часта ўспамінаюць. Хай трымаюцца моцна. Веру, што ты туды прабярэшся. Памажы табе Божа!» Усхваляваны Ігнатоўскі яшчэ раз абняў свайго пратэгаванага й пусьціў сьлёзы…

Аднэй раніцы ўвосені, калі днём туман так спавівае Чэскую Прагу, што ліхтары вуліцаў гараць цэлы дзень, — Мікола блудзіў ужо між будынкаў тэй «залатой» Прагі з адрасам у руцэ студэнцкага дому *Albertov «Na Slupi»*, які ён меў зь перапіскі ад свайго старога сябры па партызанцы паэты Ўладзімера Жылкі. Дастаўшыся напасьледак да гэтага студэнцкага дому «На Слюпі», Мікола знайшоў там некалькі дзесяткаў сваіх старых знаёмых сяброў як па вучыцельскіх курсах, так і па канспірацыйнай працы. Вестка аб прыбыцьці М. Абрамчыка хутка дайшла да Прэзыдэнта Крэчэўскага, які наказаў таго-ж вечара прыйсьці да яго самому аднаму.

Абрамчык упяршыню спаткаўся цяпер так блізка за адным сталом з Прэзыдэнтам Крэчэўскім і Захаркам, а праведзены вечар у доўгіх размовах Абрамчык часта ўспамінае як найшчасьлівейшы мамэнт у ягоным жыцьці, які яго так зблізіў потым з гэтымі вялікімі гістарычнымі постацямі нашае апошняе нацыянальна-вызвольнае пары.

У Чэхах Абрамчык за пяць гадоў скончыў адначасова два факультэты: у Ўкраінскай акадэміі эканамічны факультэт із званьнем дыплямаванага інжынера эканамічных навук (аддзел консульскі) і на чэскім Карлавым унівэрсытэце аддзел гісторыі й сацыялёгіі. Падчас сваіх студыяў Абрамчык быў увесь час у кантакце з сваім «духовым бацькам» (як ён сам зваў) праф. Ігнатоўскім праз пасярэдніцтва часта тады выяжджаючых зь Менску на экскурсыі па навуковыя камандзіроўкі блізкіх Ігнатоўскаму людзей, як Янка Купала, праф. П. і інш.

Ужо пад канец 3-га курсу Абрамчык меў падрыхтаваную да друку працу «Эканамічная геаграфія Беларусі», якая Ігнатоўскаму вельмі спадабалася і на падставе якой Ігнатоўскі прапанаваў Абрамчыку па заканчэньні навукі лектарат эканамічнай геаграфіі Беларусі на Менскім унівэрсытэце.

Нягледзячы, аднак, на так вялікія сымпатыі Абрамчыка да праф. Ігнатоўскага і на давер да яго з аднаго боку, а з другога — нягледзячы на тое, што ў гэты час палякі, за напісаную Абрамчыкам брашуру ў францускай мове супраць польскага тэрору ў Заходняй Беларусі, якая, дарэчы, нарабіла шмат шуму ў заходня-эўрапэйскай прэсе, пазбавілі Абрамчыка польскага грамадзянства й дамагаліся ад чэскіх уладаў выдачы яго, Абрамчык усё-такі ў Савецкую Беларусь ехаць адмовіўся.

Увосені 1929 г. Абрамчык з аўтарам гэтых радкоў пускаецца ў дарогу «пехатой па сьвеце» для вывучэньня, практычна перадусім, сельскагаспадарскай эканомікі Заходняй Эўропы. За год зь месяцамі часу вандравалі

мы пехатой і на самакатах ад Прагі аж да Ліёну, абыйшлі ўсе цікавячыя нас раёны Чэхіі, Саксоніі, Баварыі, Швайцарыі, Надрэйншчыны, затым Францыі, наймаючыся па дарозе на розныя працы звычайнымі работнікамі, каб такім чынам глыбей прыгледзецца да самога жыцьця сяла, жыцьця работнікаў, а з другога боку, гэтым самым зарабіць сабе на пражыцьцё.

Маршрут падарожжа быў прадбачаны па Францыі, Гішпаніі, затым па паўночным беразе Афрыкі й Італіі.

У Ліёне, аднак, дзьве непрадбачаныя акалічнасьці спрычыніліся да радыкальнай зьмены пляну падарожжа:

1. Вестка аб самагубстве Ігнатоўскага.

2. Сьляды прысутнасьці ў Францыі масавай беларускай працоўнай эміграцыі.

І цяпер, як калісь у Вільні, Абрамчык пастанаўляе, што ня час для навукі, калі патрэбна змагацца. Мэтай далейшага падарожжа стаецца Парыж, куды й дабіраемся доўгімі этапамі і дзе ўжо пачаткам 1931 г. быў зацьверджаны францускімі ўладамі «Хаўрус беларусаў у Францыі».

Ад гэтага часу Абрамчык неразлучна падзяляе долю беларускай працоўнай эміграцыі. Працуючы сам звычайным работнікам на розных хвабрыках, у шахтах, на земляробстве ці розных гандлёвых прадпрыемствах, зарабляючы ўсякімі спосабамі на пражыцьцё, ён няўпынна вядзе змаганьне з усімі акупантамі Беларусі. Выдае свой собскі часапіс, піша да рознай чужой прэсы аб беларускім вызвольным руху, навязвае кантакты з рознымі палітычнымі й культурнымі дзеячамі Эўропы. Заўсёды ў кантакце з Прэзыдэнтам Захаркам, Абрамчык робіцца яго галоўным супрацоўнікам і прадстаўніком на Заходнюю Эўропу.

У 1939 г. з выбухам вайны польскі ўрад, пераехаўшы ў Францыю, на падставе францускa-польскага дагавору, пачынае мабілізацыю палякаў, а ў тым ліку й беларусаў з Заходняй Беларусі. Змаганьне «Хаўрусу беларусаў у Францыі» з польскім урадам здавалася для многіх справай безнадзейнай, але не для Абрамчыка. З прыроджанай яму адвагай Абрамчык, нягледзячы на суровыя францускія законы адносна прапаганды супраць саюзных арміяў, сьмела выступае з заклікам да беларусаў байкатаваць польскую армію й закідае францускі ўрад мэмарыяламі аб дазволе ўступу беларусам у армію францускую (чужынецкага легіёну на час вайны), дзе дамагаецца сфармаваньня беларускіх нацыянальных аддзелаў. У выніку гэтай сьмелай і рашучай пазыцыі Абрамчыку напасьледак удаецца дабіцца ад францускіх уладаў пастановы аб дабравольным для беларусаў выбары — да польскай ці да францускай арміі.

Быў гэта ўзапраўды вялікі дыпляматычны сукцэс Абрамчыка, бо на падставе канвэнцыі польскага й францускага ўрадаў — *«у выпадку вайны ўсе польскія грамадзяне мусілі быць дастаўленыя французамі ў польскую армію»*.

Дадзеная магчымасьць дабравольнага выбару арміі для беларусаў падняла была настрой старое нашае эміграцыі ў Францыі, і ўжо звыш 1200 беларускіх ахвотнікаў былі заявіліся ў францускі чужынецкі легіён (якога

ня трэба зьмешваць з проста чужынецкім легіёнам). Рэалізацыі далейшай мэты ў Францыі, на вялікі жаль, перашкодзіў прыход немцаў.

Гэстапо вышуквала ў Парыжы сваіх праціўнікаў. Пачаліся арышты. Абрамчык як дасьведчаны кансьпіратар пастанавіў прабірацца ў Беларусь. Адзін стары знаёмы ў Бэрліне сп. Ш.[1008] дапамог яму перабрацца ў Бэрлін і абнадзейваў такім-жа парадкам дапамагчы прабрацца ў Беларусь. Але беларускі гэстапавец Ф. Акінчыц[1009] прычыніўся да здэмаскаваньня Абрамчыка і дзеля гэтага давялося апошняму быць заблякаваным у Бэрліне.

Але і ў гэткай нат сытуацыі Абрамчык не разгубліваецца. Найперш ён, па даручэньню ведамага беларускага патрыёта М. Шкялёнка[1010], які яшчэ меў давер у немцаў, бярэцца арганізаваць беларускі дапамаговы камітэт у Нямеч-

[1008] Маецца на ўвазе **Анатоль Шкутка** (15.01.1908 — ?), грамадскі дзеяч. У 1930-х гг. вучыўся ў Берлінскім універсітэце і атрымаў дыплом інжынера. Старшыня Беларускага прадстаўніцтва ў Берліне. Па сканчэнні Другой сусветнай вайны стварыў Беларускі камітэт у Брайншвайгу. У 1949 г. разам з сям'ёй выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Брысбэне (Квінсленд), дзе спрабаваў наладзіць ўласны бізнес. Да канца 1950-х гг. падтрымліваў сувязі з беларусамі Сіднея. Ад канца 1950-х гг. звесткі пра яго дзейнасць губляюцца.

[1009] **Фабіян Акінчыц** (20.01.1886, в. Акінчыцы Менскага пав. (сёння ў межах г. Стоўбцы Мінскай вобл.) — 07.03.1943, Менск), грамадскі дзеяч, юрыст, журналіст. Скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1913), у 1906–1917 гг. — сябра партыі эсэраў. Паводле адной з версій, у 1917–1923 гг. працаваў пракурорам у Кіеве, паводле другой — на грамадскай працы ў Ноўгарадзе. У 1923–1925 гг. кіраўнік школы ў в. Засулле (Стаўпецкі пав.), у 1926 г. у Стоўпцах адчыніў бюро юрыдычных паслуг. Узначальваў юрыдычны камітэт ЦК БСРГ, кіраваў яе віленскім камітэтам, рэдагаваў прамовы беларускіх паслоў у сойме, уваходзіў у кіраўніцтва ТБШ. У 1927 г. арыштаваны і асуджаны на восем гадоў. У 1930 г. амніставаны. У 1933 г. заснаваў БНСП, разам з У. Казлоўскім выдаваў часопіс «Новы шлях». У 1939 г. выехаў у Берлін. У 1940 г. узначаліў беларускае бюро пры Міністэрстве прапаганды, кіраваў школай беларускіх прапагандыстаў у Вустраве пад Берлінам. Застрэлены ў Менску савецкімі партызанамі.

[1010] **Мікола Шкялёнак** (1899, в. Пякоціна Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ. (сёння Міёрскі р-н Віцебскай вобл.) — 1946), грамадскі дзеяч, журналіст, публіцыст. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1932), быў старшынёй Беларускага студэнцкага саюза, уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1936 г. разам з Вінцэнтам Гадлеўскім стварыў Беларускі нацыянальны фронт. З 1940 г. — у Берліне, быў адным з арганізатараў Беларускага камітэта самапомачы, рэдагаваў газету «Раніца». Ад лютага 1943 г. — у Менску. Працаваў у «Беларускай газеце», пасля забойства Уладзіслава Казлоўскага (лістапад 1943) яе рэдактар. Са студзеня 1944 г. — першы віцэ-прэзідэнт БЦР. Браў актыўны ўдзел у арганізацыі Другога Усебеларускага кангрэса, дзе выступіў з дакладам «Аб прызнанні за няважныя пастановы ўраду СССР і былой Польшчы, якія датычацца Беларусі, яе тэрыторыі і народу». У 1945 г. арыштаваны ў Польшчы савецкімі органамі бяспекі, вывезены ў СССР, дзе прысуджаны да найвышэйшай меры пакарання.

чыне, і разам з гэтым зь нябожчыкам ксяндзом Гадлеўскім пастанаўляюць разьвіць кансьпірацыйную сетку беларускага рэзыстансу, пасьля наладжаньня якой Абрамчык з кс. Гадлеўскім меркавалі перабрацца ў Ангелыпчыну. Кс. Гадлеўскі, на жаль, быў расканспіраваны другім беларускім гэстапаўцам др. Ермачэнкам, за што і паплаціўся сваім жыцьцём. Абрамчык-жа трымаўся ў Бэрліне каля двух гадоў. Рэзыстанская праца, праводжаная Абрамчыкам сярод беларускай эміграцыі ў Нямеччыне, ахапіла ня толькі беларусаў у Нямеччыне. Беларускі камітэт самапомачы ў руках Абрамчыка стаўся адным з вогнішчаў і прытулкам, маральнай падтрымкай усіх беларусаў. Ня было таго тыдня, калі ня дня, каб хтось зь беларускай адміністрацыі або навукоўцаў ці вайскавікоў, якіх немцы часта на ўзор бальшавіцкіх экскурсыяў прывозілі ў Нямеччыну, будучы ў Бэрліне, не завітаў патайком у «камітэт» Абрамчыка. З Бэрліну Абрамчык меў цяпер змогу, час ад часу, прабірацца да Прэзыдэнта Захаркі ў Прагу.

У ліпені 1943 г. дэлегат ад БНП (Беларускай Незалежніцкай Партыі), прыехаўшы ў Бэрлін з «экскурсыяй» журналістых, прывёз прапазыцыю сваёй партыі, асабліва просьбу ад сп. Родзь.[1011], пераехаць на Беларусь і абняць палітычнае кіраўніцтва й выдавецтва нелегальнай прэсы БНП. Абрамчык пачынае рабіць прыгатаваўчыя крокі для пераезду разам з жонкай у лясы Беларусі. Але арышт гэстапам і вываз у Парыж перашкодзілі ажыцьцяўленьню гэтых плянаў.

У Парыжы над Абрамчыкам быў устаноўлены сьцíслы надзор. Гэстапо загадала Абрамчыку нікога ня прыймаць зь беларусаў ці спатыкацца зь беларусамі, а таксама весьці ліставаньне. Але й тут Абрамчык ня траціць часу. Нягледзячы на ўсё, ён уваходзіць у кантакт зь некаторымі асобамі францускага рэзыстансу і, у надчэківаньні прыходу саюзьнікаў, падгатаўляе рад мэмарыялаў, у якіх выясьнялася трагічная сытуацыя беларускага народу.

А потым зь першага дня вызваленьня Францыі ён аддае ўсе свае сілы ў справе абароны правоў перамешчаных асобаў у Нямеччыне.

Ведаючы так зблізка Абрамчыка, яго, мне здаецца, ніяк нельга йначай ахарактарызаваць як рэвалюцыянэра беларускага вызвольнага руху, зь няўтомнай энэргіяй чалавека, які ўсё свае жыцьцё пасьвяціў змаганьню за волю беларускага народу. Не дарма Прэзыдэнт Захарка, ведаючы так зблізка Абрамчыка, перад сваёй сьмерцю нікому іншаму не хацеў перадаць сваіх паўнамоцтваў, як М. Абрамчыку.

---

[1011] Маецца на ўвазе **Усевалад Родзька** (21.06.1920, хут. Паддубнае каля в. Чучавічы Лунінецкага пав. (сёння Лунінецкі р-н Брэсцкай вобл.) — 1946 (?)), вайсковы дзеяч. Ад вясны 1941 г. супрацоўнічаў з Абверам. Ад ліпеня 1941 г. быў бургамістрам Віцебска. Ад 1942 г. — старшынёй ЦК БНП, арганізоўваў нацыянальную партызанку. Радны БЦР, курыраваў аддзел моладзі. Ад сакавіка 1944 г. быў камандзірам 15-га батальёна БКА. Арганізоўваў беларускі батальён «Дальвіц». Пасля раззбраення батальёна ў Чэхіі, нелегальна перабраўся ў Польшчу. Ствараў антысавецкую партызанку пад эгідай БНП. У 1945 г. арыштаваны і ў 1946 г. прыгавораны да найвышэйшай меры пакарання.

Аб цяперашняй дзейнасьці Абрамчыка як Прэзыдэнта БНР, думаю, лішне пісаць. Яна вельмі добра ведамая беларускай эміграцыі, бо, здаецца, ня знойдзецца ніводнага беларускага асяродзьдзя ў Эўропе й Амэрыцы, дзе-б не пабываў гэты няўтомны і нязломны змагар.

Варта хіба толькі прыгадаць усю тую бессаромлівую пашквільную «прэсу» нашых зарубежнікаў, якія намагаліся прадставіць усю рэвалюцыйную нацыянальна-вызвольную працу Абрамчыка ў 1920–1924 гг. як быццам нейкую прыналежнасьць Абрамчыка да камсамолу. Аб недарэчнасьці гэтай пашквільнай пісаніны варта хіба прыпомніць, што (да 1925 г.) у Заходняй Беларусі наагул не існавала ніякага беларускага камсамолу. А што Абрамчык нелегальна бываў у Менску, сьведчыць толькі аб адным: што моладзь тады нашая ня лічыла Рыскай граніцы за граніцу для сваёй нацыянальнай дзейнасьці.

*Лявон Рыдлеўскі*

## НАШ ПЕРШЫ: ЯЗЭП ВАРОНКА[1012]

*Паглядзіце на цяпер ужо добра вядомае фота Народнага сакратарыяту БНР — яе першага ўраду. Трэці зьлева паміж двума вайскоўцамі — самавіты цывільны мужчына з упэўненым і крыху ганарлівым позіркам. Гэта старшыня Сакратарыяту, наш першы прэм'ер і міністар замежных справаў Язэп Варонка.*

*Уладзімір Арлоў*

16 (4 паводле старога стылю)[1013] красавіка 2011 г. споўнілася, але не адзначалася, 120 гадоў з дня нараджэння Язэпа Варонкі; на 4 чэрвеня 2012 г. прыпадаюць 60-я ўгодкі ягонае смерці. Добрая нагода, каб згадаць не абыякога дзеяча ў гісторыі Беларусі, пашукаць новыя, невядомыя матэрыялы.

Пошук у амерыканскіх архівах выявіў толькі два, але важныя дакументы.

З дапамогаю першага ўдалося нарэшце высветліць дакладнае месца нараджэння Язэпа Варонкі: на картцы *«World War II Draft Registration Form»* за ягоным подпісам значыцца Кузніца (Сакольскі павет).

Другі знойдзены дакумент — пасведчанне аб шлюбе: 2 верасня 1932 г. Варонка ажаніўся з народжанаю ў Польшчы Маяй Пятроўскай (*Piotrowska*).

Даваенная дзейнасць Варонкі ў Амерыцы даволі падрабязна — наколькі гэта дазвалялі архівы — асветлена Вітаўтам Кіпелем у ягонай манаграфіі

---

[1012] Тэкст быў апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 563–584.

[1013] Чамусьці шэраг сучасных публікацыяў падае дату 17 красавіка.

«Беларусы ў ЗША». Праца дзеля арганізацыі беларусаў чалавека, пра якога Янка Чарапук казаў: *«Хто я? Я хрышчу вас толькі вадою, той, хто йдзе за мною, будзе хрысьціць вас жыцьцёвым агнём. Прышлеце грошы й выклічце яго зь Беларусі»*[1014], — была цяжкая, складаная, але ўсё ж спакайнейшая, відаць, як у паваенны час, калі ў Амерыку прыехалі паплечнікі. Прычым паплечнікі ў самым непасрэдным значэнні: людзі, зь якімі Варонка рабіў беларускую справу да сваёй эміграцыі. Такія, як Адварды Будзька ды Мікола Дзямідаў[1015].

*«Чыкаго, 6 лістапада 1950 г.*

*Адварды Будзька Паважанаму Мікалаю Дзямідаву.*

*Сяньня а 12 гадз. дня я захадзіўся да Вас у готэль, алі Вас ні застаў дома. Я хацеў пагутарыць аб тым факці, які меў мейсца ўчора, 5 лістапада, між 9 і 10 гадз. раніцай, падчас Рускай радыёпірадачы ў Чыкаго, калі Вы як дырэктар Беларускіх радыёаўдыцый ад імя — як Вы казалі — супрацоўнікаў Беларускіх радыёаўдыцый у Чыкаго віншавалі Дырэкцыю рускіх радыёпірадач у Чыкаго з нагоды 17-гадовай дзейнасьці Рускіх радыёпірадач у Чыкаго. Я, дасюляшні супрацоўнік Ваш у Беларускіх радыёаўдыцыях у Чыкаго ня быў папярэджаны Вамі аб Вашым намеру — віншаваць ад імя супрацоўнікаў Вашых. Ну і — ведама — віншавалі Вы бяз майго ведама і бяз маей салідарнасьці з Вашым намерам.*

*Дзень раней, падчас беларускай Радыёаўдыцыі, мне прыйшлося адчытаць крытыку на бальшавіцкую ўрачыстасьць — 5–6–7 лістапада з нагоды 33-й гадавіны «Октябрьской» рэвалюцыі. А як Вам ведама, Дырэкцыя рускіх радыёпірадач у Чыкаго (у сераду і ў нядзелю) пад адной фірмай з двума дырэктарамі-супольнікамі — іншых ёсьць поглядаў на аўтарытэт «Октябрьской» рэвалюцыі. Дырэкцыя рускіх радыёпірадач у Чыкаго ўгодліва, або пазытыўна адносіцца да патронаў і бацькоў «Октябрьской» рэвалюцыі, а мы — крытычна і нэгатыўна. Таму лічу нітактоўным Ваш выступ з павіншаваньнем для той Дырэкцыі рускіх радыёперадач, якая к рэжыму нашых угнетателей адносіцца — моўчкі (а «молчание — знак согласия»), а, нават, час ад часу спагадліва рэклямуюць прыяцеляў нашых угнетателей, трымаючыся «дружескіх отношений» із імі.*

*А з погляду нацыянальнага беларускага сказаць можна, што рускія радыёпірадачы ў Чыкаго ні даюць для беларускіх эмігрантаў нацыянальнага беларускага ўсьведамленьня, ды — ёсьць горш — ад нацыянальнага беларускага ўсьведамленьня аддаляюць, калі беларусы-дырэктары Рускіх радыёпірадач кажуць беларускім эмігрантам праз радыё: «наше русское Чыкаго», «наш русскій юбілей» і іншая што, падобная да патрыятычнага сказу: «здесь русскій дух, здесь Русью пахнет!»!*

*Такшто, ні салідарызуючыся з Вашым павіншаваньнем «ад імя супрацоўнікаў Беларускіх радыёаўдыцый у Чыкаго» для Дырэкцыі рускіх радыёпірадач*

[1014] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993. С. 118.

[1015] Пра Міколу Дзямідава гл.: Юрэвіч, Лявон. Да гісторыі беларускіх збройных сілаў // Беларус. № 450. Студзень 1998. С. 4–5.

*у Чыкаго, змушаны чуюся: ад далейшага супрацоўніцтва з Вамі ў Беларускіх радыёаўдыцыях адмовіцца.*

*Да Вас як да грамадзкага беларускага дзіяча і асабіста да Вас астаюся з паважаньням»*[1016].

Каб цалкам зразумець усю сітуацыю, трэба ведаць, што тыя Рускія радыёперадачы былі гадунцом Язэпа Варонкі, іх заснавальніка і дырэктара.

Сапраўды, Варонка, як трапна зазначыў Вітаўт Кіпель, хадзіў сваімі сцежкамі[1017]: ён быў сябрам *Русского Народного Православного Общества*, уваходзіў у ягоную выдавецкую і школьную камісіі, стаўся рэдактарам *Русского Народного календаря на 1929 год* (Чыкага), дзе пад псеўданімам *В. Полесский* пісаў пра творчасць Фёдара Дастаеўскага, Льва Талстога, Фёдара Салагуба[1018].

Зразумела, гэта не магло не выклікаць занепакоенасці ў сяброў новае — Абрамчыкавае — Рады БНР.

Захаваўся пратакол нарады беларусаў у Чыкага, напісаны рукой Міколы Абрамчыка. Ягоны тэкст важны не толькі фармуляваннем прэтэнзіяў актыву да Беларускай нацыянальнай рады ў Чыкага, да Рускіх перадач і непасрэдна да Язэпа Варонкі. У сваім дакладзе, нечым падобным болей на палітінфармацыю, Мікола Абрамчык агучвае сваё бачанне сітуацыі беларускай эміграцыйнай справы ў свеце на пачатку 1950 г. ды тлумачыць прычыны расколу:

*«Пратакол нарады беларусаў у Чыкага*[1019]

Нарада адбылася 29.1.1950 у памешканьні грам. Варонкі І. пад адрысам 1112 N. Oacley Rd., Chicago.

Прысутнічалі: 1. Прэз. сп. Абрамчык; 2. сп. Аблажэй; 3. сп. Варонка; 4. сп. П. Дзямідаў М.; 5. сп. Змагар-Чарапук; 6. Лабач Ігнат.

На старшыню нарады быў выбраны аднагалосна сп. Чарапук-Змагар. Сакратар сп. Пл. Дзямідаў Мікола.

Павесткай дня прынята:

Інфармацыйны даклад сп. прэз. Абрамчыка М.

---

1016 Ліст Э. Будзькі да М. Дзямідава пададзены з захаваннем арыгінальнага правапісу. Гэты ліст, як і ўсе наступныя прыведзеныя дакументы, захоўваецца ў архіве БІНіМа.

1017 Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША… С. 122.

1018 Падрабязней пра выданне гл.: Юрэвіч, Лявон. Расейскі эміграцыйны друк як крыніца па гісторыі беларускай эміграцыі // Сонца тваё не закоціцца і месяц твой не схаваецца. Зборнік артыкулаў па беларусістыцы і багаслоўі ў гонар 80-годзьдзя з дня нараджэньня і 50-годзьдзя сьвятарства айца Аляксандра Надсана. Менск, 2009. С. 381–382.

1019 На дакуменце штамп: *«KANC. URADU BNR NO 57 DATA AHIZSINSIWMIPRIDS»*.

*1. Арганізацыйнае жыцьцё беларусаў у З. Г. А. і Беларуская Нацыянальная[1020] Рада ў Чыкага.*

*2. Справа нова прыбываючых у З. Г. А беларусаў — Д. П.*

*3. Царкоўныя справы.*

*Даклад прэз. Абрамчыка М.*

*Прэз. Абрамчык прадстаўляе трагічную сытуацыю беларускага народу падчас нямецкае акупацыі: 1. нямецкая правакацыйная палітыка накіраваная на вынішчэньне беларускага народу і выкарыставаньне імі (немцамі) палякаў да свае мэты; 2. бальшавіцкая «партызанка»; 3. беларускі рух апору, які змагаўся супраць немцаў, палякаў, бальшавікоў і невялічкай групы беларускіх авантурыстых: Ермачэнкі-Акінчыца ды апошняга выступу перад эвакуацыяй немцаў зь Беларусі Р. Астроўскага, зламаньня ім ідэі беларускай дзяржаўнасьці праз прыняцьце ад акупацыйных паліцэйскіх уладаў тытула Прэзыдэнта, якім Астроўскі намагаўся ўвесьці ў блуд беларускі народ, ды без патрэбы шкоднай праведзенай ім мабілізацыі.*

*Сп. Пал. Кушаля сп. прэз. Абрамчык прадставіў як чалавека, які ўратаваў прэстыж беларусаў тым, што ён, увайшоўшы ў кантакт з Амэрыканскім вайсковым камандаваньнем, прарваў нямецкі фронт і перайшоў з сваёй дывізіяй на бок амэрыканцаў;*

*4. Пасьля капітуляцыі немцаў:*

*Спад. Прэз. Абрамчык прадстаўляе перадусім абраз сытуацыі ў Беларусі:*

*a. Помста і тэрор павярнуўшыхся бальшавікоў над беларускім насельніцтвам.*

*b. Беларуская партызанка.*

*Затым пераходзіць да сытуацыі беларускіх бежанцаў, што апынуліся ў Нямеччыне пасьля капітуляцыі немцаў.*

*a. Прымусовая «рэпатрыяцыя» беларусаў.*

*b. Неразуменьне нас англа-амэрыканскмі акупацыйнымі ўладамі.*

*На гэтым мейсцы сп. Прэз. Абрамчык выказаў настроі жалю беларускіх бежанцаў да беларускай старой эміграцыі ў З. Г. А. і ў асаблівасьці да Беларускай нацыянальнай рады — якія ня выступілі адкрыта ў абароне і дапамозе беларускім уцекачам, як гэта рабілі іншыя эмігранты — украінцы, прыкладам, і іншыя, і што ў беларускай новай эміграцыі склалася ўражаньне, што Беларуская нацыянальная рада стаіць на пазыцыях БССР і супрацоўнічае з акупантамі Беларусі, дзеля чаго сярод моладзі новае эміграцыі асабліва пануе настрой неапісанага абурэньня.*

*5. Сучасны стан беларускай эміграцыі і беларускай справы наогул прэз. Абрамчык прадстаўляе непараўнаўча палепшанымі з папярэднімі гадамі.*

*У 1947 г. дзякуючы нашым захадам спынена прымусовая «рэпатрыяцыя». Беларускае арганізаванае жыцьцё набрала легальных формаў у Нямеччыне зах. дэм. зонах. Маюцца значныя дасягненьні дыпляматычнага парадку:*

---

[1020] У арыгінале Мікола Абрамчык у некалькіх месцах замест «Нацыянальнай» пісаў «Народнай».

*а. паразуменьне і заключэньне дагавору ўзаемнай прыязьні Ўраду БНР з урадамі Эстоніі, Лацьвіі, Украіны і станоўча з шэрагам іншых паняволеных бальшавікамі народаў. Вядуцца перагаворы (пакуль што бяз вынікаў) зь летувісамі і палякамі. Маюцца цяжкасьці: зь першымі пытаньне Вільні, уступкі якой ад нас летувісы дамагаюцца, а мы зразумела пайсьці на такія ўступкі ня можам.*

*А з апошнімі — палякамі — справа яшчэ горшая, бо польскі эміграцыйны ўрад заяўляе, што адрачэньне ад граніцы 1939 г. немагчыма, пакуль іх забабязвае іхняя канстытуцыя. З гэтае прычыны ў Беларусаў з апошнімі двума суседамі суадносіны досыць напружаныя. На вонкі — пры акцыях, праводжаных усімі падняволенымі народамі супраць акупантаў — мы салідарызуемся, але ўнутры як з боку беларускага грамадзянства, так і польскага і летувіскага з другога боку пакуль узаемны непакой на будучыню.*

*Паўстала яшчэ ініцыятыва, каб у наступным леце арганізаваць канфэрэнцыю ўсіх падняволеных бальшавікамі народаў, на якой бы ўпарадкаваліся прынамсі ў аснаўных прынцыпах усе міжсуседзкія дачыненьні гэтых падняволеных народаў. Я маю на мэце, калі такая канфэрэнцыя адбудзецца, у якасьці прапазыку, каб у справах гранічных эміграцыйныя ўрады ўсіх падняволеных сяньня народаў зрабілі публічную дэкляарацыю, што яны заабавязваюцца, «што пры гранічных спрэчках у будучыні ніякім чынам ня будзе ўжыта вайсковая сіла, а будзе прыняты прынцып этнаграфічны і воля народу».*

*6. У народаў дзяржаўных маем здабытыя сымпатыі і спачуцьці.*

*У гэтым напрамку справа значна цяжэйшая, бо як ведама, яны афіцыяльна прызнаюць СССР. Ад нашай таму дыпляматыі вымагаецца вялізнай гібкасьці такту.*

*Нягледзячы, аднак, на ўсе гэтыя цяжкасьці, нам удалося беларускую справу ў поўнай яе выпукласьці прадставіць і здабыць сымпатыі амаль ува ўсіх дзяржаўных народаў вольнае Эўропы ды некаторых дзяржаваў Амэрыкі. Усе народы перадусім вельмі добра паінфармаваныя аб нас, аб нашых імкненьнях, аб належных нам правах, аб нашых запраўдных граніцах. Нашыя мэморыялы ўсюды даходзяць і чытаюцца.*

*7. У царкоўных справах.*

*а. Маем поўнае зразуменьне нас з боку Ватыкану ў справах апекі беларускіх каталікоў. Беларуская дэлегацыя ў 1947 г. была прынята папам. Сьв. Айцец зрабіў цікавую заяву: ён сказаў: я ведаю, што беларускі народ найбольш церпіць, таму ён найдаражэйшы майму сэрцу. Я ўжыву ўсіх сілаў, каб дапамагчы беларусам.*

*Помач была запраўды хутка аказана беларускай студэнцкай моладзі, дзякуючы чаму сёньня маем каля 50 студэнтаў на Лювэнскім унівэрсытэце — а гэта ж нашы будучыя кадры, што нас заступяць.*

*b. У справе праваслаўнай царквы вялося доўгае змаганьне з расійскімі зарубежнымі япархіямі, але кончылася поўнай нашай перамогай. Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква адноўлена. Маем сяньня ўжо свой*

*япіскапскі сабор. У гэтай барацьбе за Бел. Аўт. Пр. Цар. народ наш проста запраўды здаў экзамэн нацыянальна палітычнай сьведамасьці.*

*Арганізацыйнае жыцьцё беларускай эміграцыі разьвіваецца памысна, нягледзячы на надзвычай цяжкія матэрыяльныя ўмовы.*

*Сусьветнае аб'яднаньне беларускай эміграцыі, цантраля якой знаходзіцца ў Парыжы, аб'ядныває ў сабе больш за 50 розных беларускіх арганізацыяў. Да САБЭ ўходзяць цантралі беларускіх арганізацыяў: Францыі, Бэльгіі, з краінаў Нямеччыны, Аўстрыі, Італіі, Англіі, Аўстраліі, Канады, Аргентыны. Спадзяюся, што арганізацыйнае жыцьцё ў З.Г.А. хутка пачне разьвівацца, і што яна таксама ўвальецца ў рады нашы агульна вызвольнага руху, закончыў такімі словамі свой даклад сп. Прэз. Абрамчык.*

*Пытаньні: Дыскусіі.*

*1. Спадар Лабач задаў пытаньне, чаму так сталася, што адкалолася група Астроўскага, і на чым разыходжаньні.*

*Адказ Пр. Абрамчыка:*

*Астроўскі намагаўся, каб мы прызналі Б.Ц.Р. як дзяржаўную рэпрэзэнтацыю беларускага народу. У гэтым беларускі палітычны актыў пабачыў правакацыю, бо падводзіць беларускі нацыянальны вызвольны рух пад фірму, створаную нямецка-паліцэйскімі ўладамі — азначае сьмяротную кампрамэтацыю ўсяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.*

*А па другое, той актыў, які каля сябе сабраў Астроўскі — вельмі далёкія (можна сказаць у 90 % свайго складу) ад канцэпцыі нацыянальнай незалежнасьці Беларусі ды з пункту гледзішча маральнага і палітычнага моцна скампрамэтаваныя.*

*У далейшай дыскусіі спадар Варонка і сп. Лабач выясьняюць, што закіды беларускай новай эміграцыі Бел. Нац. Радзе ў Чыкаго асновaны на непаразуменьні. Б. Нац. Рада заўсёды стаяла і стаіць на пазыцыях БНР. Тыя ж асобы, якія сымпатызавалі СССР — сябрамі БНР — гэта была іх прыватная справа. Пазьней таму яны і адышлі з БНР. Тое, што БНР мала выявіла актыўнасьці ў дапамозе новай эміграцыі, былі і іншыя прычыны, а перадусім празь недахоп матэрыяльных сродкаў ды брак кантактаў з новай эміграцыяй. Адносна аўдыцыяў Чыкаскага радыё пад кіраўніцтвам сп. Варонкі, дык уражаньне аб яго савецкасьці зьяўляецца таксама непаразуменьнем. Радыё гэта зьяўляецца прыватна камэрцыйным прадпрыемствам, дзеля чаго яно ёсьць даступным для рэклямаў якіх бы то ні было фірмаў і арганізацыяў, за зьмест якіх і адказваюць гаспадары тых рэклямаў, а не дырэктар радыё.*

*Тым ня менш сп. Варонка заявіў, што ён будзе старацца па меры магчымасьці ў сваіх праграмах звужаць гэныя прасавецкія рэклямы.*

*Хацеў бы даўно ўжо напоўніць праграму беларускімі песьнямі, але, на жаль, нельга дастаць нідзе беларускіх плыт.*

*У зьвязку з побытам прэз. Абрамчыка ў Чыкаго сп. Варонка Яз. згадзіўся бясплатна ўдзяліць у сваім радыё месца для выступу прэз. Абрамчыка — з зваротам да беларусаў старое эміграцыі ў З.Г.А. — у нядзелю 5.2. а 9-й раніцы.*

*А таксама сп. Воронка прыняў на сябе зарганізаваньне банкету на чэсьць прыезду прэз. Абрамчыка ў Чыкаго, дзе будуць госьцьмі мясцовыя беларусы і чужынцы.*

*З прычыны запозьненасьці з часам паседжаньне нарады перанесена на заўтрае — нядзелю 30.1. у памешканьне спадара Лабача, які таксама адначасна запрасіў да сябе на абед усіх прысутных.*

*30.1.1950.*

*У справе дапамогі аншурансамі для ўезду беларусаў ДП у З.Г.А. сп. Лабач і сп. Аблажэй заявілі, што яны справу гэтую мусяць паставіць на абгаварэньне агульнае сходкі сяброў Рады, якая мае незадоўга адбыцца, а гэта дзеля таго, каб людзям, якія яшчэ прыедуць, запраўды мець працу і кватэру, што цяпер ня так лёгка. Будуць яны, аднак, намагацца дапамагчы сваім новым прыбываемым суродзічам, бо поўнасьцю іх разумеюць і спачуваюць.*

*Сп. Лабач як сакратар БНР згадзіўся пашыраць продаж марак БНР між сваімі сябрамі і беларусамі наагул у Чыкага, каб такім чынам дапамагчы фінансава Ўраду БНР на чужыне.*

*У справе царкоўнай спадар Воронка Я. прадбачае магчымасьць улагодзіць Владыку Васіля (Тамашчыка) па прыезьдзе ў Чыкага ў некулькіх мілях ад Чыкага і сарганізаваць там беларускі прыход, дзеля чаго сп. Воронка абяцае пад'ехаць у той раён сам асабіста з сп. Пал. Дзямідавым для падгатоўкі прыходу.*

*~~Рэзалюцыя~~. Дэклярацыя.*

*Беларуская нацыянальная рада ў Амэрыцы.*

*Дзеля таго, што на нарадзе беларусаў Чыкаго, якая адбылася 29–30.1.1950, выявілася, што сярод новай беларускай эміграцыі ў Эўропе склалася ўражаньне аб невыразнасьці палітычнай плятформы Беларускай нацыянальнай рады ў Амэрыцы, Управа Беларускай нацыянальнай рады ў З.Г.А. выясьняе, што:*

*1. Арганізацыя Беларуская нацыянальная рада ў Амэрыцы заўсягды салідарызавалася і салідарызуецца з вызвольным змаганьнем беларускага народу, кіраванага Радай і Ўрадам БНР.*

*2. Беларуская нацыянальная рада ўважала і ўважае адзіным законным рэпрэзэнтантам беларускага народу — Раду і Ўрад БНР, на чале з прэзыдэнтамі раней П. Крэчэўскім, В. Захаркам, а цяпер М. Абрамчыкам.*

*3. Ляяльнае адношаньне да СССР падчас апошняе вайны нашае арганізацыі — трэба разглядаць не як сымпатыі нашае арганізацыі да бальшавіцкага рэжыму і супрацоўніцтва з бальшавікамі, а як павіннасьць грамадзян З.Г.А. у супрацоўніцтве з урадам З.Г.А. і Прэзыдэнтам Рузьвельтам у вайне з гітлерызмам.*

*4. Беларуская нацыянальная рада не зьяўляецца адказнай за тых нешматлікіх сяброў, якія па інэрцыі салідарнасьці з СССР пад час вайны — пакаціліся і адкаціліся на супрацоўніцтва з СССР у сваёй салідарнасьці і спаўпрацы супраць дэмакратыі.*

*5. Беларуская нацыянальная рада не намерана супрацоўнічаць і з тымі беларусамі, якія гэтак жа па інэрцыі свайго супрацоўніцтва зь немцамі ня могуць нат распрашчацца з гітлераўскімі фірмамі ды стараюцца іх накінуць беларускаму дэмакратычнаму вызвольнаму руху.*

*6. Беларуская нацыянальная рада будзе імкнуцца ўвайсьці ў найцясьнейшы кантакт і супрацоўніцтва з усімі беларускімі арганізацыямі на чужыне, што стаяць на грунце БНР, прызнаюць Раду і Ўрад БНР і належаць да Сусьветнага аб'яднаньня беларускай эміграцыі (САБЭ).*

*Сакратар БНР І. Лабач».*

Радыёпраграма выйшла ў эфір, Абрамчык выступіў з словам. Што адбывалася пасля таго, невядома, але праз гады ў сваім невялікім успаміне Аляксандар Асіпчык піша: *«Я пазнаёміўся з жонкай Варонкі, якая пасьля сьмерці мужа працягвала радыёперадачы недзе да 1970 году. Вельмі прыхільна ставілася да беларусаў, хоць сама была польскага паходжаньня. Давялося й мне два разы выступаць у ейных перадачах: першы раз на ўгодкі 25 Сакавіка, другі — на ўгодкі сьмерці Язэпа Варонкі. Прасіла, каб я нічога не гаварыў з палітычнай прапаганды, бо, сказала, калі аднаго разу запрасіла выступіць Міколу Абрамчыка, дык той гаварыў па-беларуску супраць акупацыі Беларусі маскоўскімі камуністамі, і «рускія» слухачы закідалі яе пісьмамі пратэсту»*[1021].

Наўрад ці выязджаў Абрамчык з Чыкага з пачуццём удала завершанай справы, не супакоілі яго прынятыя і занесеныя ў пратакол рэзалюцыі. Неўзабаве ён напісаў да Янкі Чарапука:

«23.3.1950<br>N. York

Даражэнькі Рыцар!

*Надоечы я выслаў ліст Палкоўніку* [Дзямідаву] *і праект прамовы для радыя к 25 Сакавіку.*

*Націсьніце абавязкова з Палкоўнікам на сп. Варонку, каб Вас пусьціў да <u>свайго</u> радыё, бо толькі стуль (іменна з радыё «Русский голос») будзе мець значэньне, а ня зь нейкага ўкраінскага.*

*Пішыце мне, што ў Вас новага. Як бачу па лісту Палкоўніка, сп. Варонка нешта марудзіць.*

*На выданьне праектаванай намі брашуры — пачынаю ўжо на пазыку тую траціць надзею. Гэтак жа трачу надзею і на абяцаную мне падгатоўку таго вялікага веча ў Чыкага, аб якім мы гутарылі. Але што зробіш. Трэба шчэ трохі пацярпець, пабачым, што з гэных усіх нашых гутарак выйдзе.*

*Дзейнічае толькі з разрахункам і танцам.*

*Цісну Вам моцна Вашу Рыцарскую руку.*

*Ваш М. Абрамчык*

---

[1021] Асіпчык, Аляксандар. Язэп Варонка ў Чыкага // Беларус. № 402. Чырвень–ліпень 1993. С. 7.

*P. S. Будзьце ласкавы пераказаць Палкоўніку, што Пратакол паседжаньня сэктару я атрымаў і наступным да яго лісьце яму зьвярну.*

*М. А.*

*Прывітаньне сп. сп. Чарнецкім. Атрымаў ад жонкі ліст, у якім яна мне пішаць, што ўсе ім замоўленьні яна хутка вышлець.*

*P. S. Для Вас асабіста.*

*Між іншым, тэкст падпісанай Вамі і сп. Варонкам прысягі, які быў пакінуты для подпісу Лабача, мне яшчэ не перасланы, як было ўмоўлена. Калі ў Вас будзе паседжаньне Сэктару Рады, выясьніце гэта неяк далікатна ў Варонкі, запытаўшыся, можа, спачатку ў яго, ці той тэкст прысягі падпісаў Лабач, ці не, і ці ён мне высланы.*

*Калі б паўсталі з гэтага нейкія камплікацыі, не рабіце з гэтага буры, далікатна запрапануйце тагды Варонку: 1. або выслаць толькі падпісаную Вамі двума без Лабача (раз ён ня хоча) 2. або зьнішчыць тагды і тую падпісаную Вамі ўдвух (раз і Варонка вагаецца), сказаўшы яму, што Вы хочаце быць афармленым, таму прапануеце індывідуальна падпісваць і індывідуальна мне перасылаць. Перасылаць такія рэчы мне мусіце заказным лістом.*

*Наагул прашу Вас мне напісаць, якое Ваша ўражаньне аб сп. Варонку, ці незавагаецца ён нанова, ці можа гэта толькі яшчэ страх «перад усесільнымі бальшавікамі».*

*«6.4.50*[1022]

*N. Y.*

*В. Паважаны й дарагі Рыцар,*

*Толькі што атрымаў Ваш ліст, дзякую. Выбачце, што адказваю на Ваш ліст на такой паперы. Як раз мушу сядзець у хаце, чакаю нейкага журналіста — Шварцара з Вашынгтону, ён даведаўся аб маім тут побыце й прасіў інтэрвію, дык не магу выйсьці з хаты, і хачу выкарыстаць час, каб Вам адказаць.*

*Чыкага! Канешне, я захопліваўся ягонай разьлеглай прыгажосьцю! Праўда, было і так, але было і начай часамі. Часамі і сьціскалася сэрца. Але я, даражэнькі рыцар, навучыўся за свае асабліва 7 апошніх гадоў рэагаваць ня сэрцам... Можа, сказаў троху замоцна «навучыўся», лепш сказаць «хачу» рэагаваць ня сэрцам. Кастусь Каліноўскі на судзе сказаў маскалём, што «прайгралі паўстаньне таму, што яго саюзьнікі-палякі мелі сэрца не ў грудзёх, а ў галаве». У гэтых простых словах Каліноўскага крыецца глыбокі сэнс палітычнай філязофіі.*

*Мець сэрца «не ў галаве» запраўды рэч ня лёгкая. Палітыка, на жаль, патрабуе гэтага амаль што як асноўнай рэгулы. Трымаць моцна сэрца на сваім мейсцы, не дапускаць яго падымацца, а калькуляваць і абраховываць толькі сухім розумам — бяз помачы, без удзелу сэрца. Я вось і намагаюся, стараюся і вучуся гэтак дзеяць.*

---

[1022] Ліст у скароце друкаваўся ў: Юрэвіч, Лявон. Сьвет эміграцыйнага эпісталярыю // ARCHE. № 3. 2001. Тут ліст падаецца цалкам.

*Прыглядаючыся да палітычнай сфэры — сьвету рафінаванага ў гэтым сэнсе, мы знойдзем, што яны запраўды так дзеюць, так навучыліся дзеяць, як быццам таго сэрца і зусім ня маюць. Можа, гэта і непрыгожа ўжо там выглядае, але ж ня нам зламіць гэтыя векавыя традыцыі, векавыя рэгулы. Непрыгожыя «традыцыі» ў змаганьні — войны, забіваючыя людзёў — але пакуль такі сьвет існуе, не абыйдземся і мы без такой формы змаганьня.*

*У мабілізацыі сяньня нашых сілаў мусім вэрбаваць ня толькі рыцараў, на 100 % беззаганных нацыянальна і ахвярных людзёў. Такіх людзёў у нашым грамадзтве, як і ў кожнага народу, няшмат.*

*Пішыце, Чыкагу ня шэньціць на нашу інтэлігенцыю. Праўда, моцна ня шэньціць! На гэтым прыгожым-разьлеглым прасторы Мічыгану ўсе гэныя Будзькі, Новікі, Абрамчыкі дзеюць проці нас, за іх наша цела і сэрца наша не павінна турбавацца.*

*Тыя ж, якія хвалююць Ваша, дарагі Рыцар, сэрца, паверце, хвалявалі моцна і маё. Аб гэтым з Вамі шмат гутарылася.*

*Вар[онка] — безумоўна — нашая трагедыя. І магчыма, гэта трагедыя для яго самога яшчэ большая.*

*Я ведаю, на ягоным мейсцы Вы б зарэагавалі начы. Вы б загаварылі на ўсе дзьве гадзіны так, як я гаварыў 12 мінут. Вы б загаварылі так, як гаварыць належыць 100 % адданаму ідэі нашай вызвольнай справы чалавеку.*

*Я ад В. гэтага не спадзяваўся, балела сэрца, але цешыўся, што будзем мець ад яго хоць нейкіх 30 %, хоць 10 нейкіх працэнтаў. На сухі палітычны розум рахавалася і гэта здабыткам. Па Вашым апошнім лісьце ставіцца й гэта пад сумніў.*

*Відаць, на В. не зрабіў і я ўплыву, а калі й быў уплыў, дык толькі хвілёвы.*

*Што ж цяпер рабіць? Падняць проці яму акцыю, пачаць яго біць, на разе нявыгадна нам.*

*Але трэба, аднак, яго Вам, узяўшы моцна «сэрца ў жменю», старацца трымаць пры сабе, хоць на 10 % ці 5 % выкарыстоўваць. А галоўна тармазіць яго, каб іншыя % не выкарыстовывалі чужыя.*

*Калі б В. не займаў у нашай гісторыі такога мейсца, безумоўна, гульні такой, цацканьня такога зь ім мець не было б сэнсу. Або калі б гэта было ў Бацькаўшчыне, таксама загаварылі б зь ім іншай мовай. Ня выключана, што зьменяцца абставіны і тут настолькі, што начы загаворам зь ім і тут. Сэрцам нат загаворым да яго!*

*Іншая рэч, калі заўважыце, што В. нас ашуквае і дзеіць «там». Тагды ўжо, безумоўна, мусім прыступіць да апэрацыі, хоць як бы яна благой не была.*

*Палкоўнік, добры чалавек, толькі яго, безумоўна, моцна трэба трымаць за полы. У яго выяўляюцца праявы, якія бываюць у многіх старых людзей. А ён моцна старэ.*

*Згодзен, што Вам патрэбна помач. Яе чакаем. На жаль, ня ўсё гэта залежыць ад нас.*

*Ці зможа да Вас прыехаць Каханоўскі — сумлеваюся. З маім ад'ездам ён будзе моцна патрэбны тут, у N. Yorku, але знойдуцца іншыя. З каталікоў быў бы для Вас добры Папуцэвіч (судзьдзя), добры быў бы і япіскап Васіль (Тамашчык). Аб гэтым яшчэ будзем гутарыць.*

*Я застаюся яшчэ тут аж да 1 жніўня. Мог выехаць і раней, але не дастаў мейсца на параплаве, усё пазаймалі турысты. Заледзьве і на жнівень дастаў, то мушу яшчэ прыплаціць 55 даляраў!*

*Гэта змушае мяне ўстрымацца тым часам з паездкай да Вашынгтону. Дарэчы, я прасіў у Вас у папярэднім лісьце адрэсу а. В. Тарасевіча ў Вашынгтоне. Прышліце мне яе.*

*Адносна прапанаваных Вамі 3-х асобаў, якім Урад БНР павінен бы быў выставіць падзяку, то гэту справу лепі адкласьці. А то з тых прычынаў, што, спадзяюся, наш урад будзе незадоўга тут, цяпер жа яны ўсе амаль рассыпаліся — на паўварожыя — па розных* [неразб.] *і г. д.*

*Я да Вас на той вялікі мітынг, калі б Вам удалося яго сарганізаваць, прыехаў бы з ахвотай. Пастарайцеся неяк на гэтую справу абкруціць Вар. І таго анархіста — яны ж тагды абяцалі, а таго Ар. Валодзькіна, здаецца, нат была ягоная такая <u>ініцыятыва</u>.*

*У <u>мае</u> выдаткі трэба было б урахоўваць толькі дарогу. Доўга б у Вас не затрымаўся, а заначаваў бы ў сваіх знаёмых украінцаў.*

*Калі б для такога мітынгу Вар. не згадзіўся, а Лабач і Аблажэй згадзіліся, то, думаю, маглі б сьмела рабіць і так. Даць толькі абвестку ў польскія газэты, па радыё ў <u>Варонкі</u> і ўкраінцаў, дык публікі, думаю, будзе, а больш там нічога і ня трэба. Калі б гэта справа набрала рэальнасьцей, я тагды Вам прышлю тэму свайго дакладу, пастараюся выбраць такую, каб прыцягнула публіку. Трэба было б, пэўне, пры ўваходзе зрабіць невялікую аплату, на пакрыцьцё выдаткаў.*

*Словам, у гэтай справе за мной астаноўкі ня будзе. Думаю, аднак, што брацца за арганізацыю такога мітынгу можаце толькі тагды, калі сп. Лабач і Аблажэй згодзяцца ўзяцца за яе, бо Вам аднаму будзе не пад сілу.*

*Было б, безумоўна, шчэ лепі, каб і Вар. узяўся, прынамсі пасіўна — г. зн. каб даў Вам з пару агалашэньняў па радыё — зразумела, з адрасам.*

*Баяцца нейкіх «скандалаў» і «нападаў» <u>няма ніякай падставы</u>. Усё гэта можна, зрэшты, забясьпечыць звычайным паведамленьнем паліцыі, зрэшты ж, і бальшавікі не такія ўжо дурні, кабісьці на так невыгодныя ім афэры.*

*А пакуль бывайце здаравенькі і не падайце духам, Рыцару, «яшчэ мы прыйдзем палямі ўзорнамі»*[1023] *да тых вёсак… і тэй вёскі Гарадзеншчыны з касьцёлам Беларускім.*

*Ці ж Вы ня верыце ў гэта, Рыцар? Я моцна веру.*

---

[1023] Мікола Абрамчык цытуе радок з верша Ларысы Геніюш «Новы Год»: *«Мо вясною палямі ўзорнымі / ў родны, вольны наш Край завядзе»*.

*А на Каханоўскага ня крыўдзіцеся «за вашае ўлучэньне». Калі б я ў Вас не пабываў у Чыкага, з Вамі не пагутарыў, дык таксама напэўне б напісаў Вам такі ліст.*

*Каханоўскаму ж адкажыце хоць у пару словах, а то ён у мяне пытае Вашых адрэсаў (Вашай і Варонкі), бо дапускаў, што яго лісты не атрымалі вы.*

*Выбачце за хаатычнасьць майго лісту.*

*Жыве БНР!*

*Ваш М. Абрамчык».*

У лістах да старшыні ўраду БНР Аўгена Каханоўскага Абрамчык казаў наўпрост: *«У Чыкага — Вар. — трусіць і трасецца. Чарапук ходзіць героем. Акадэмію яны зладзілі пад аховай паліцыі. Паліцыя езьдзіла на аўта па вуліцы і кожныя 10 хвілін давалі пражэктарамі з аўта на вакно залі сыгналам «што ўсё ў парадку». Здаецца, што такую параду Чарап. уладзіў пад уражаньнем панічнасьці Вар. На малебені было каля 100 бел. Чарапук і яго прыяцелі «Рыцары Калюмба» трымалі пачотную варту ў уніформе з шпагамі»* (03.04.1950); *«Папуцэвіч усталяваўся ў Чыкага. Паслалі яго туды мы. Вар. — і рэзка — ізноў заламаўся і ўнікае ад Папуцэвіча. З усякай яго папулярызацыяй трэба ўстрымацца. Чарапук-Змагар маладзец»* (07.06.1950).

І акцыя, пра якую Абрамчык намякаў Чарапуку, адбылася:

*«Канцылярыя*
*Старшыні Рады*
*Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Пастанова*

*У справе сяброўства Рады БНР сп. Я. Варонкі, —*
*Пастанова 2-га паседжаньня пятае сэсіі Рады БНР з дня 19.8.1950 г.*

*Заслухаўшы, што*

*1. Спадар Я. Варонка быў сябрам Рады БНР ад пачатку ўканстытуяваньня Рады БНР (сьнежань 1917 г.) да 1921 г.,*

*2. быў Старшынёю першага Ўраду (Сакратарыяту) БНР,*

*3. Спадар Язэп Варонка адыйшоў з Рады БНР у 1921 г., стаўшыся міністрам Летувіскага Ўраду па справах Беларускае нацыянальнае меншыні і прыняўшы летувіскае подданства,*

*4. пераехаўшы ў ЗГА ср. Я. Варонка працуе яшчэ на грунце беларускага вызвольнага руху, арганізуючы беларусоў у ЗГА, але потым паступова ўліваецца ў расейскія арганізацыі і вядзе чыста расейскую культурна-палітычную працу сярод беларускай эміграцыі; дакумэнтальным доказам гэтага зьяўляецца выданы ім (як рэдактарам) «Русскій Народный календарь» за 1919 год і распачатыя радыёперадачы з 1933 году;*

*5. у часы Другой сусьветнай вайны і пасьля яе радыёчас пад дырэктарствам сп. Варонкі Язэпа вядзе прасавецкую прапаганду, якая выклікае абурэньне сярод беларускае антыбальшавіцкае эміграцыі,*

*6. з прыездам Прэз. М. Абрамчыка ў Чыкаго, дня 27 сьнежня 1949 г., сп. Варонка заявіў, што ўражаньне ў Эўропе аб ягоным быццам бы саветафільстве ёсьць фальшывае; што ён (сп. Варонка) ніколі ня быў, ня ёсьць і ня будзе бальшавіком, гэтую заяву сп. Варонка паўтарыў і на нарадзі беларусаў у Чыкаго дня 28 сьнежня 1949 г., і на банкеці — ладжаным у чэсьць прыезду ў Чыкаго сп. Прэз. М. Абрамчыка — 5.1.1950 г.;*

*7. на падставе такіх асьведчаньняў і на падставе падпісанай сп. Варонкам прысягі аб ягонай вернасьці прынцыпам БНР сп. Прэз. М. Абрамчык апрабаваў паварот сп. Варонкі ў рады сяброў Рады БНР, прыняўшы яшчэ пад увагу ягоныя ранейшыя заслугі перад беларускім вызвольным рухам 1917–1920 гадоў і прыймаючы пад увагу ягоную дэклярацыю, што радыёчас, дырэктарам якога зьяўляецца сп. Варонка, будзя ачышчаны ад уплываў саветафільскага элемэнту;*

*8. сьцьверджана, што сп. Варонка Язэп сваіх абяцанак, зробленых у заяве сп. прэз. М. Абрамчыку, і ў заявах на нарадзе беларусаў у Чыкага і на банкеце не датрымаў і што ад часу выезду сп. Прэз. М. Абрамчыка з Чыкага нічога не зьмянілася ў суадносінах сп. Варонкі з прасавецкім элемэнтам, —*

*пятая сэсія Рады БНР на другім сваім паседжаньні дня 19.8.1950 г. пастанавіла:*

*1. лічыць заяву сп. Варонкі аб павароце да рады БНР за адхіленую;*

*2. уважаць сп. Варонку Язэпа за выбыўшага ня толькі з радоў Рады БНР; гэтак жа і за адыйшоўшага ад беларускага нацыянальнага руху наагул;*

*3. прасіць прэз. М. Абрамчыка аб зацьверджаньні гэтае пастановы.*

*А. Махноўскі, Старшыня паседжаньня пятае сэсіі Рады БНР.*
*М. Рагуля, сакратар.*

*Пастанову 2-га паседжаньня пятае сэсіі Рады БНР з дня 19.8.1950 г. у справе сяброўства Рады БНР спадара Язэпа Варонкі, — пацьвярджаю.*

*Ньюё Ёрк. Дня 22.8.1950.*
*М. Абрамчык, Старшыня Рады БНР».*

З рэакцыі Адвардага Будзькі на праграмы Рускага радыё лёгка ўявіць, што ягоныя погляды падзяляў шмат хто з сябраў Рады, і ўсё ж пастанова выглядае неапраўдана жорсткаю… калі, вядома, не існавала яшчэ нейкай, значна больш важнай прычыны, акром русафільскай дзейнасці Варонкі.

З ліста Станіслава Грынкевіча да Янкі Чарапука (07.09.1951): *«Сам мне прызнаеш, што ягоная [Варонкава] дзейнасьць за апошнія 10 гадоў ня толькі што не ліцуе з маральнасьцяй носьбіта адказнага працаўніка Ўраду БНР, але нат палітычна граматнага і маральнага грамадзяніна!»* І далей: *«Я не сумлеваюся, што Варонка ня раз шкадуе, што залез, як муха ў павуціну. Пробаваў прарвацца за бытнасьцю сп. Абрамчыка, аднак павуціна аказалася*

*мацнейшая, затрымаўся ў вязьніцы, а на пакаяньне громка зьбіраў подпісы пад «Стакгольмскі Заклік Міру».*

Вось яно!

Стакгольмскі заклік міру, або *Стокгольмское воззвание*, — гэта зварот Пастаяннага камітэту Сусветнага кангрэсу прыхільнікаў міру за забарону атамнай зброі, прыняты 15–19 сакавіка 1950 г. у Стакгольме. Ініцыяваны СССР заклік і збор подпісаў падтрымання ўспрымаўся ў ЗША як падрыўная дзейнасць, а агітатары, зборшчыкі подпісаў ставіліся на ўлік Федэральным бюро расследаванняў.

І робіцца зразумелым страх Міколы Абрамчыка, што Раду БНР ды іншыя беларускія арганізацыі, падпарадкаваныя Радзе, ФБР магло палічыць звязанымі з Варонкам, а як вынік — забарона дзейнасці ў ЗША, спыненне фінансавання, праблемы з прыездам у краіну беларусаў з лагераў *DP*, магчымыя дэпартацыі.

Страх падмацоўваўся тым, што ў 1950 г. распачаўся гучны працэс супраць Юліуса і Этэль Розенбергаў, абвінавачаных у шпіянажы на карысць СССР, і таксама звязаны з ядзернаю зброяй.

Гэтак ці інакш, але акцыя адбылася: Язэп Варонка, першы прэм’ер, быў выключаны з Рады БНР.

Зрэшты, некралог у газеце «Бацькаўшчына» наводзіць на думку, што гісторыя на гэтым не скончылася і мела працяг:

*«Першыя гады за акіянам былі для яго вельмі цяжкія. Былы прэм’ер Беларускага ўраду, ён прабаваў наладзіць і тут беларускае жыцьцё, хапаўся тае ці іншае фізычнае працы й прыняў шмат пакутаў, асабліва маральных.*

*Як у жыцьці блізу кожнага чалавека, так і ў жыцьці Язэпа Варонкі здаралася рознае. Жывучы даўгія гады ў Чыкага, далёка ад Бацькаўшчыны й горкіх і крывавых падзеяў, што давялося ёй перажыць пад бальшавіцкім панаваньнем, ён заламаўся, а нават трапляў пад уплыў шырока разгорнутае бальшавіцкае прапаганды аб «шчасьлівым» жыцьці ў БССР. Аднак, зразумеўшы ўсю ману гэтае прапаганды, ён урэшце ізноў непахісна стаў на баку БНР і прызнаў сяньняшнюю Раду БНР на эміграцыі за адзіна праўнага й справядлівага спадкаемцу традыцыяў змаганьня за незалежнасьць Беларусі з 1918 г. Аб гэтым прызнаньні сьведчыць зьмешчаная свайго часу на балонках прэсы кароткая дэклярацыя, падпісаная нябожчыкам Варонкам і іншым былым міністрам першага Ўраду БНР Янкам Чарапуком-Змагаром»*[1024].

У газеце «Беларус» быў змешчаны аналагічны некралог[1025] (даволі рэдкая з’ява — розніліся толькі назвы) — відаць, «спушчаны» па партыйнай лініі і таксама ананімны — не падпісалі ні Рада БНР, ні ўрад, ні хтосьці асабіста. Але ліставанне Абрамчыка дазваляе бадай беспамылкова аддаць аўтарства менавіта яму.

---

[1024] Сьв. памяці Язэп Варонка // Бацькаўшчына. № 29 (108). 20 ліпеня 1952. С. 2.

[1025] Памёр Язэп Варонка // Беларус. № 4 (10). 14 чырвеня 1952. С. 2.

Невялікі некралог у газеце *Chicago Daily Tribune* (06.06.1952. С. 24) нібыта паўтарае ўжо нам вядомае (у тым ліку згадвае пра ролю Варонкі ў першым незалежным урадзе Беларусі), але, тым не менш, пацвярджае ягоную канфесійную прыналежнасць: адпяванне адбывалася ў саборы Святога Георгія[1026] (юрысдыкцыя Праваслаўнай царквы ў Амерыцы).

З лістоў Станіслава Грынкевіча да Янкі Чарапука:

*«Мой даражэнькі Янанчка. На Твае рукі як апошняга носьбіта беларускага сувэрэнітэту схіляю галаву перад ценем сьв. п. Язэпа Варонкі. Адыйшоў ад нас узноў адзін са змагароў, якога жыцьцё было перапоўнена барацьбой за волю й незалежнасьць. Былі мамэнты, якія стаўлялі пад сумніў, ці Ягоная асоба можа перайсьці, як крыштальная, у гісторыю. Лічу, што гэта толькі дзякуючы Табе імя Варонкі чыстае можа быць перададанае мінуўшчыне як змагара ды патрыёты. Я дужа рады, што гэту рэгабілітацыю Ты правёў. Гэткім чынам даў прыгожы прыклад для будучыні»*[1027].

*«Я сам ня ведаю дакладна, як далёка мелі расейцы, а потым бальшавікі да яго непасрэдна, ці ўскосна, рыкашэтам празь нейкія зьвязкі з N. Yorku. З нашага пункту гледжаньня ня толькі з агульнае этыкі пашаны да кожнага памёршага, але й з нацыянальнага інтэрэсу, калі толькі ёсьць дадзеныя на гэта, трэба бараніць і рэгабілітаваць імя Варонкі для нашае незалежніцкае справы. У гэтай дылеме Ты знойдзеш найлепшы выхад»*[1028].

Пакуль нявысветлена, на якіх могілках пахаваны Язэп Варонка і ў якім стане помнік. Аляксандр Асіпчык згадваў: *«Даркевіч завёз мяне на магілу Варонкі, ад чаго ў мяне зьявілася думка наладзіць над магілай успомненую паніхіду. Даркевіч сказаў, што нехта зьбіраўся паставіць над ёй большы помнік. Гэтак і я думаў, але што зробіш адзін без грамады. Такім чынам, помнік застаўся той самы, які ледзь-ледзь відзён між травы»*[1029].

*Лявон Юрэвіч*

---

[1026] *917 North Wood Street, Chicago, Il.*

[1027] Ліст Станіслава Грынкевіча да Янкі Чарапука ад 11.06.1952. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1028] Ліст Станіслава Грынкевіча да Янкі Чарапука ад 30.06.1952. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1029] Асіпчык, Аляксандар. Язэп Варонка ў Чыкага…

# ПАТРЫЁТ КРЫЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ: АНТОН АДАМОВІЧ[1030]

«Патрыёты «крыўскай» дзяржавы» — гэтак нібыта іранічна назваў Сямён Вальфсон свой артыкул у зборніку «Супроць контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму» (Менск, 1931), не ўяўляючы нават, наколькі ён блізкі да праўды. Зборнічак, што, як адзначалася ў прадмове, *«мае на мэце ўзброіць першачарговымі сродкамі змаганьня»*, пакліканы *«ворага дабіваць да канца»*, пералічваў тых «ворагаў» — Аляксандра Цвікевіча, Язэпа Лёсіка, Сцяпана Некрашэвіча, Паўла Трамповіча, Аляксандра Шлюбскага, Мікалая Каспяровіча і, у першую чаргу, натуральна, — Вацлава Ластоўскага.

Імя Антона Адамовіча ў агульным пераліку не было, хоць ён таксама, як і яшчэ больш за сто чалавек, быў асуджаны па справе Саюза вызвалення Беларусі. Але менавіта яму, тады — наймалодшаму сябру «Узвышша», — наканавана было працягнуць справу Вацлава Ластоўскага ва ўсіх галінах, дзе вёў рэй неадменны сакратар Адраджэння: у палітыцы, гісторыі літаратуры, мовазнаўстве, прыгожым пісьменстве, выдавецкай дзейнасці.

Хоць постаць Антона Адамовіча не надта аддаленая ад нас у часе, аднак нястача дакументаў, згубленых у арыштах, высылках, вайне, эміграцыі, цяжкасці з атрыманнем архіўных матэрыялаў са сховаў дзяржаўных, — усё пералічанае пакідае нявысветленымі багата якія моманты ў жыцці гэтага чалавека. Шэраг дакументаў спецыяльна рабіўся з непраўдзівай інфармацыяй — тое асабліва датычыцца перыяду лагераў *DP*, калі небяспека быць звернутымі саюзніцкімі войскамі на «радзіму» была надта ж рэальнаю. У падобных абставінах, наследуючы метад самога Адамовіча, найлепш будзе падаць біяграфічны мантаж, узяўшы за аснову адну з аўтабіяграфіяў (перыяду лагераў *DP*) ды дапаўняючы іншымі наяўнымі крыніцамі і каментуючы іх.

Нарадзіўся Антон Адамовіч у Менску ў 1909 г. Ва ўсіх афіцыйных дакументах, даведках, аўтабіяграфіях днём нараджэння падаецца 26 чэрвеня. Але вось у даведцы, выдадзенай Менскім акруговым Выканаўчым камітэтам саветаў работнікаў, сялян і чырвонаармейскіх дэпутатаў 29 чэрвеня 1926 г., чытаем: *«Як відаць з мэтрычнай кнігі аб народжаных па Катадральнаму касьцёлу Менскага павету за 1909 год арт. 328, грам. Адамовіч Антон Еўстафіеў нарадзіўся 13 дня траўня месяца тысяча дзевяцьсот дзявятага году»*[1031]. Таму, аддаючы перавагу першай, чэрвеньскай, даце, усё ж занатуем і другую, травеньскую — да дакладнейшага высвятлення.

Пра роднага бацьку вядома адно імя — Яўстафій; усё сваё жыццё Адамовіч клікаў бацькам айчыма, Аляксандра Івашкевіча (нар. 27.11.1881),

---

[1030] Тэкст публікаваўся як частка прадмовы да выдання збору твораў Антона Адамовіча. Гл.: Юрэвіч, Лявон. Антон Адамовіч: Біяграфічна-крытычны нарыс // Адамовіч, Антон. Творы. Нью Ёрк, 2003. С. V–XXXIV.

[1031] Тут і далей, за выняткам асобна абумоўленых выпадкаў, дакументы цытуюцца з арыгіналаў, што захоўваюцца ў архіве Антона Адамовіча (БІНіМ, Нью-Ёрк). Успаміны запісваліся Л. Юрэвічам і захоўваюцца ў прыватным архіве аўтара.

загадкава зніклага ў Нью-Ёрку ў 1968 г.: чалавек пайшоў з дому і не вярнуўся. Выказваліся розныя версіі здарэння, уключна з удзелам савецкіх спецслужбаў; праўда ж засталася схаваная па сёння. Маці, Паліна Івашкевіч (нар. 04.09.1874), таксама была з сынам да апошніх сваіх дзён і памерла 18 кастрычніка 1959 г. ва ўзросце 85 гадоў. Адносіны ў гэтай беларускай рымска-каталіцкай сям'і, зразумела, няпростыя напачатку, з першым жа арыштам Тоні (так клікаў Антона айчым) набылі даверліва-змоўніцкі характар паплечнікаў.

У 1917 г. Антон, пасля нядоўгага навучання ў гімназіі, паступіў у сямігадовую працоўную школу № 2 і скончыў яе ў 1924 г. (цікава адцеміць, што адным з настаўнікаў, якія падпісалі пасведчанне, быў Яўхім Кіпель).

Нацыянальная свядомасць Антона Адамовіча, карані якой тым часам слаба асветленыя, выявілася надта рана. Ужо ў малодшых класах сярэдняй школы, разам з сябрам Арсенем Дэкерам ён заснаваў падпольную арганізацыю КРЫЮГ (Крыўская юнацкая грамада), штуршком да стварэння якой стаўся «Крывіч» Ластоўскага[1032]. А ў троху старэйшым веку, дванаццацігадовым, уступіў у Беларускі хаўрус моладзі, пачаў наведваць Беларускую хатку, секцыі якой — тэатральная, літаратурная, танцаў, мастацкая, музычная — працавалі ў адпаведнасці з уласнай нацыянальна-палітычнай праграмай: пашыраць нацыянальную свядомасць сярод моладзі, дапамагаць увядзенню беларускае мовы ў школах і грамадскіх установах.

Яўхім Кіпель, фактычны кіраўнік Хаткі, называе яе не проста будынкам, а сядзібай нацыянальна-палітычнай арганізацыі моладзі, аднаго ўдзелу ў якой дастаткова было для атрымання ў 1930-х гг. суворага выраку[1033]. Дый сапраўды, якое інакшае выхаванне магла атрымаць моладзь у такім атачэнні, як не нацыянальнае: *«[...] прыехаў Францішак Аляхновіч, які таксама, як і Галубок, сеяў зярняты беларускай сьведамасьці праз тэатральнае мастацтва. Паявіўся працавіты незабыўны Ўладзімер Тэраўскі. Янка Купала, Якуб Колас, Купаліха былі ў непасрэднай блізасьці праз увесь час працы ў Менску. Калейдаскопам праходзяць праз успаміны такія выдатныя постаці, як Тарашкевіч, Шантыр, браты Гарэцкія, кс. Абрантовіч, кс. Цікота, Альбэрт Паўловіч, Макар Краўцоў, Тамаш Грыб, Мікола Шыла, Кастусь Езавітаў, Вацлаў Ластоўскі, сёстры Бадуновы, Пелагея Захарка, жонка Васіля Захаркі, Паўлінка Мядзёлка. Багата хто зь іх апынуўся на эміграцыі: генэрал Францішак Кушаль, якога ведала маладым афіцэрам беларускага войска; Міхась Міцкевіч, былы супрацоўнік газэты «Вольная Беларусь»; Ганна Акановіч, пра якую чула як пра сястру Сьцяпана Некрашэвіча, Антон Адамовіч...»*[1034].

---

[1032] Станкевіч, Ст. Антон Адамовіч. У 50-ую гадавіну ягонага жыцьця // Бацькаўшчына. № 30 (466). 2 жніўня 1959. С. 3.

[1033] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью-Ёрк, 1998. С. 46–53.

[1034] Радкевіч (Савёнак), Апалёнія. Беларуская хатка // Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 119–120.

Беларуская хатка праіснавала нядоўга, усяго тры з паловаю гады, была разагнаная бальшавікамі і перанесла сваю дзейнасць ў сцены Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, куды пазней паступіць і Антон Адамовіч. Але да таго часу ён пройдзе яшчэ некалькі прыступак школы беларускай свядомасці.

Першая — слуханне лекцый у акадэміка Яўхіма Карскага на курсах беларусаведы, дзе зноў жа быў наймалодшым слухачом: *«Сим удостоверяется, что Адамович Антон Евстафьевич прослушал у меня на разных курсах, читанных при Минском ИНО, историю старой белорусской письменности и историю новой белорусской литературы. На коллёквиуме по этим предметам обнаружил познания достаточные. Минск. 1921. 28/07. Академик и профессор Е. Карский»*.

Другая прыступка — навучанне ў Педагагічным тэхнікуме імя Усевалада Ігнатоўскага, куды Антон паступіў у 1924 г., дзе правучыўся чатыры гады і быў старастам групы. Тыя спісы прысутных, на семінарах беларускага фальклору або лабараторных занятках па паэтыцы, — старастаў абавязак — мелі сваё значэнне, сваю каштоўнасць для Адамовіча, бо гэта ці не адзіныя неафіцыйныя дакументы з таго, узвышэнскага, жыцця, што былі прывезеныя ў Амерыку. Сёння ж яны — унікальны збор аўтографаў былых калегаў аднае навучальнае ўстановы: П. Глебкі, А. Каратая, Лёсіка, Н. Вішнеўскай, С. Серады, П. Труса, А. Звонака, Язэпа Падабеда, В. Казлоўскага, Т. Кляшторнага, Л. Шушкевіча, Рэвэрэллі, Сяледчыка, М. Зарэцкага, Т. Рамановіча, Г. Плаўніка, Ю. Жывіцы, Камінскай…

Час у Педтэхнікуме — час навучання. Вось жа нельга не заўважыць, што ўжо тады Антон Адамовіч быў асобаю сфармаванаю, не толькі як проста чалавек ці чалавек свядомы, але і як даследчык, літаратуразнаўца, гісторык літаратуры. Ягоны ліст да старэйшага на чатыры гады Петруся Глебкі выяўляе ўсе адметнасці Адамовіча будучага: нешараговую памяць, здольнасць з адзінага, як ён сам прызнаваўся, першаснага чытання запомніць твор — запомніць дастаткова не толькі для пераказу ці выбарнага цытавання, але і для цэласнага аналізу (ведаючы пра гэтую здольнасць Адамовіча, мы мусім з большым даверам ставіцца да ягоных аповедаў і высноў, што датычацца падзеяў літаратуры і ейных суб’ектаў перыяду 1920–1930-х гг.), увагу да кожнага канкрэтнага слова, увагу, не закалыханую ані стылем, ані аўтарытэтам, веданне і разуменне тэхнікі пісьма, яе механікі і тэхналогіі[1035].

Сам Адамовіч не пакінуў вольных сведчанняў пра тыя часы. Але вось што згадвае Уладзімір Сядура: *«З восені 1927 г. я ўжо быў студэнтам Менскага Пэдагагічнага Тэхнікуму імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Тут неўзабаве я пачуў аб студэнтах-пісьменьніках М. Лужаніну, Сяргею Дарожным, В. Казлоўскім, Пятру Глебку. Праз год да гэтае кагорты далучыліся новыя*

[1035] Эпісталярыя пісьменнікаў-«узвышэнцаў»: Змітрок Бядуля, Язэп Пушча, Уладзімер Дубоўка, Кузьма Чорны, Максім Лужанін, Антон Адамовіч, Адам Бабарэка, Ф. Купцэвіч / Падрыхт. да друку А. Бабарэкі, Я. Кісялёвай, А. Гесь // Скарыніч. Літаратурна-навуковы гадавік. Вып. 4. Мінск, 1999. С. 97–102.

*студэнты — паэты й пісьменьнікі: Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Гайка, Гінтаўт, Сяргей Русаковіч, М. Лешчанка, У. Гуцька і іншыя. Сярод настаўнікаў былі там і ведамыя ў беларускім руху або навуковай актыўнасьцяй гэткія асобы, як Язэп Лёсік, Міхась Грамыка, Бялькевіч, Юлі Дрэйзін, Круталевіч і іншыя. Маім настаўнікам беларускае мовы быў шчыры беларус Антон Лёсік, Язэпаў брат. Атмасфэра была спрыяльнай для літаратурных зацікаўленьняў. Літаратурны гурток з удзелам ведамых ужо з друку паэтаў і пісьменьнікаў выдаваў нават свой рататарны часапіс «Крыніца». На ягоныя сходы прыходзілі знаныя ўжо літаратары і часам ператваралі іх у шырокую літаратурную дыскусію. Памятаецца вечар, калі ўзвышэнец Антон Адамовіч горача спрачаўся з прыхільнікамі «Маладняка», пазьней БелАПП, Я. Ліманоўскім і А. Звонакам. Гэта вельмі і вельмі ўзбуджала нас і скіроўвала нашыя інтарэсы да роднае літаратуры»*[1036].

Пра час Адамовічавага навучання ў Педтэхнікуме, час сталення, захавалася яшчэ адно сведчанне — ананімнага аўтара, напісанае, верагодна, у 1941 г. па заданні адпаведных органаў: *«Дальнейшее формирование Адамовича как националиста продолжалось в Белорусском Педагогическом техникуме. Преподавательский состав техникума был набран из бывших белорусских «деятелей» БНР. Шефом техникума был В.М. Игнатовский, директором Кореневский, а затем Рыдзевский, преподавателями — Лёсик, Азбукин, Громыко, Мицкевич, Пиотухович, Белькевич. Техникум как центр формирования молодёжных кадров был в центре внимания националистов из Наркомпроса, Инбелкульта, из писательской среды. На литературные вечера техникума приходили Цишка Гартный, М. Чарот, В. Дубовко, М. Зарецкий. В техникуме в то время учились А. Александрович, А. Якимович, П. Трус, Н. Вишневская, З. Бандарина, П. Глебко, С. Дорожный, В. Козловский. Такое обилие начинающих литераторов давало повод сравнивать техникум с Царскосельским лицеем и вспоминать о пушкинской плеяде.*

*В техникуме выделялась группа националистов, студентов старших классов: Владимир Мурашко, Антон Мятельский, Дмитрий Дунько. К этой группе вскоре после поступления в техникум и примкнул Адамович. От писателей он держался в стороне, критические наклонности тогда еще не определились, а «деятельность» сводилась к борьбе указанной группы с комсомольской организацией за печать, органы самоуправления и руководство кружками.*

*Эта группа своим вдохновителем имела Я. Лёсика и будущее свое видела в возможности быть языковедами, общественными деятелями лёсиковского типа. Однако к началу 1925 года Адамович после одобрительных отзывов проф. Пиотуховича о его рефератах начинает работать над собой как над критиком и становится центром начинающих писателей своего курса (Глебко, Дорожный, Вишневская, Козловский, Жук, Дубицкий). Без его одобрения*

[1036] Глыбінны, Уладзімер. Паэта з Божай ласкі. Успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу (1902–1964). Нью Ёрк, 1979. С. 5–6.

не печаталось и не читалось публично ни одно произведение указанных лиц, его квартира была местом сбора их. Там читались стихи, готовились доклады, обсуждались различные вопросы. Ближайшим приятелем Адамовича в это время был Игнатовский.

Распространение влияния Адамовича не ограничивается указанной выше группой молодых писателей. Он заставляет прислушиваться к себе сначала свой курс, а затем и вообще студенчество техникума. Это объясняется хорошей успеваемостью по всем дисциплинам, отличным знанием белорусского языка, недюжинными способностями и памятью и общим развитием и начитанностью. Доклады и рефераты Адамовича всегда ставились в пример, и хотя на курсе было много способных студентов, ни один из них не был развит так всесторонне. С одной стороны, это объясняется тем, что некоторые студенты сознательно сужали круг интересовавших их предметов, а с другой, — в преуспевании самого Адамовича, как выяснилось позже, было некоторое передергивание. Он располагал библиотекой Игнатовского и своей. Это высвобождало у него большой резерв времени, затрачиваемый студентами на библиотеку. Этот резерв он употреблял на подчитывание по программам курса вперед, что позволяло ему сидеть на лекциях с видом знатока и подсказывать преподавателям имена, года, термины. Репутацию всезнайки Адамович тщательно оберегал и стремился всячески поддерживать.

Привлекала к Адамовичу и его «бывалость». Зимние и летние каникулы он часто проводил у своего дяди Сергея Решетова в Москве. Однокурсники Адамовича, крестьянские девушки и парни в возрасте 16–18 лет, целыми вечерами благоговейно слушали его рассказы о Москве, о Художественном, о Третьяковке и пр. Эти рассказы неизменно заканчивались словами: «А все-таки у нас дома лучше. Нет ничего в мире лучше нашей песни, нашего языка, наших сел и городов».

Все это выделяло Адамовича из студенческой среды и обеспечивало распространение его влияния.

В описываемый период БССР состояла из Минского, Слуцкого, Борисовского и Могилёвского уездов. Западные области отошли к Польше, а граница РСФСР была уточнена позже, при укрупнении БССР за счёт Гомельщины и восточных районов.

Националисты разжигали настроение и создавали шумиху, главным образом, в вопросе о территории.

Белоруссия в учебнике географии А. Смолича рассматривалась в этнографических границах, которые чрезвычайно смахивали на польское «от моря до моря». История Белоруссии излагалась Игнатовским как борьба белоруссов с Москвой, закончившаяся поражением БНР. Литература Белоруссии одним пальцем грозила Варшаве, а другим Москве, она была полна шовинистическими выступлениями в прессе, в аудиториях. Купала проклинал тех, кто «прычыніўся нашаму падзелу, на кускі парваўшы маці роднай цела».

*Культ прошлого, посконья, вышитой одежды, культ существовавших и вымышленных героев, лозунги о бесклассовости Белорусии, отталкивание всего русского («хоць гірш, абы інш») — вот отличительные черты нацдемовщины того периода. Всё это сваливалось на молодежь техникума ежедневно, ежеминутно, и она вырастала, считая оскорблением небелорусское слово, подпись, она была готова оскорбить человека, заговорившего на улице по-русски, вышвырнуть его из магазина, учреждения. Среди этой молодёжи Адамович занимал первое место. Он обрывал студентов на лекциях за малейший дефект языка, он кричал о том, что комсомольская ячейка — позорище техникума, так как резолюции пишутся неграмотно по-белорусски, он был крайне нетерпимым и непримиримым шовинистом. У него на квартире начинающие писатели (Глебко, Дорожный, Козловский) и вообще однокурсники знакомились с прессой и литературой времени «незалежности Белоруссии», поставлявшейся из библиотеки Игнатовского.*

*После прочитания той или иной статьи он или Игнатовский начинали разговоры о «слаўным мінулым бацькаўшчыны» и неизбежно «о русском засилье». Упор делался на круг следующих вопросов: почему Москва отдала полякам западные области? почему Москва забрала Смоленск и Псков? почему секретарь ЦК КП(б)Б — русский? зачем в Минске еврейская и русская газеты? почему в городе слышна русская речь? почему существует только одна белорусская дивизия и то без национальной формы? почему запрещены белорусский флаг и герб?*

*[...] В разговорах, затрагивающих указанный выше круг вопросов, Адамович говорит о необходимости противопоставить «русскому засилью» нечто свое, организацию, которая имела бы «своих людей» во всех учреждениях БССР. Целью этой организации должна была явиться «защита интересов Белорусии, борьба за ее культуру, против всего русского».*

*Для того, чтобы обсудить формы работы, найти точки опоры, в конце мая либо начале июня 1927 года на квартире Глебко собрались Глебко, Лужанин, Рогачевский. Адамович не пришёл, хотя сходка собиралась по его инициативе, отговорившись тем, что не нашел квартиры. Так же держится Адамович и в дальнейшем: протягивая везде руку со спичкой, он старается остаться в темноте, не показывать своей руководящей роли. Он сближается с Рогачевским, квартира которого становится местом сбора техникумцев (Гинтовт, Старовыборный, Калюга, Острейко) и через него влияет на техникум. Он редактирует и направляет техникумовский журнал через Калюгу и Гинтовта»*[1037].

Менавіта ў гады навучання ў тэхнікуме Адамовіч пачаў пісаць свае першыя літаратурна-крытычныя творы (1926), уступіў у літаратурнае згуртаванне «Узвышша», якое адыграла выключную ролю і ў нашай літаратуры, і ў жыцці самога Антона Адамовіча.

---

[1037] НАРБ. Ф. 569. Воп. 1. Адз. зах. 7.

Што да ролі згуртавання ў літаратуры — яно не патрабуе ўжо доказаў. Гэтая роля была відавочная фактычна адразу па паўстанні арганізацыі, што і было зазначана ў артыкуле «Ўзвышша» перад новым годам БССР»: *«Узвышша» — гэта адзін з атрадаў беларускай пралетарскай літаратуры. Утварылася гэта згуртаваньне ў 1926 годзе 26 травеня ў складзе беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў пасьлякастрычнікаўскага літаратурнага пакаленьня. У яго ўвайшлі: З. Бядуля, А. Бабарэка, П. Глебка, Ул. Дубоўка, С. Дарожны, Кандрат Крапіва, М. Лужанін, Я. Пушча, Кузьма Чорны, В. Шашалевіч, а праз год далучыліся Ант. Адамовіч і Т. Кляшторны.*

*Само ўтварэньне новага літаратурна-мастацкага згуртаваньня азначала сабою пачатак новага этапу ў разьвіцьці беларускай пасьлякастрычнікавай літаратуры»*[1038].

Сам Адамовіч пра пачатак сваёй літаратурнай дзейнасці пісаў наступнае: *«У 1928 г. надрукаваў у часапісе «Ўзвышша» найбольшую сваю літаратурна-крытычную працу — манаграфію аб творчасьці пісьменьніка-заснавальніка беларускай мастацкай прозы Максіма Гарэцкага. У гэтай працы, апрача аналізу творчасьці пісьменьніка, спрабаваў разьвязаць і агульную літаратуразнаўчую праблему аб «панаючым тыпе ў мастацтве», закранутую ўпершыню ведамым мастацтвазнаўцам Гіпалітам Тэнам.*

*Наступнымі гадамі былі надрукаваныя яшчэ дзьве мае большыя літаратурна-крытычныя працы, прысьвечаныя аналізу творчасьці маладых беларускіх пісьменьнікаў: «Паўлюк Трус» і «Хада на ўсход» (разгляд творчасьці Васіля Каваля). У тым-жа часе надрукаваў я ў тым-жа часапісе «Ўзвышша» рад літаратурна-крытычных рэцэнзіяў (значнейшыя — на «Тэорыю санэту» праф. А. Барычэўскага, на 2 том збору твораў клясыка беларускае літаратуры Максіма Багдановіча і інш.), а таксама колькі зацемак з галіны лінгвістыкі, прысьвечаных паасобным дробным пытаньням беларускае літаратурнае мовы.*

*Мае працы, а таксама некаторыя публічныя выступленьні выклікалі войструю адмоўную рэакцыю з боку афіцыйнае бальшавіцкае крытыкі, як ідэалёгічна й палітычна варожыя камуністычнай ідэалёгіі й марксызму (асабліва «Паўлюк Трус»)».*[1039]

Гаворачы пра адмоўную рэакцыю, Антон Адамовіч у першую чаргу мае на ўвазе артыкул С. Куніцкага «Крытычныя артыкулы Ант. Адамовіча, як адлюстраваньне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі»[1040], у якім крытык, пачаўшы ад літаратуры і самога Адамовіча, заканчвае палітычнымі абвінавачваннямі ўсяго «Узвышша»: *«[...] перад намі яскрава паўстае нацдэмаўская-буржуазная тактыка А. Адамовіча. З аднаго боку, нацдэмаўскую-буржуазную творчасьць М. Гарэцкага А. Адамовіч узносіць да няведамых вышынь, імкнецца распаўсюджваць на працоўных яе варожыя*

---

[1038] Узвышша. № 6 (12). 1928. С. 104.

[1039] Аўтабіяграфія Антона Адамовіча. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1040] Полымя. № 2. Люты 1931. С. 128–147.

*ідэі, а з другога боку, піша абражаючы артыкул на пралетарскага паэта Паўлюка Труса, ставіць яго творчасьць ніжэй творчасьці М. Гарэцкага. Выпучае яе толькі нацыянальны бок і выхалашчвае клясавую сутнасьць. І зусім лічыць шкоднай для нашай сучаснасьці творчасьць пісьменьніка працоўнага сялянства нашай сучаснасьці — В. Каваля.*

*Усё гэта ў сваю чаргу выцякае з А. Адамовічавай мэтадалягічнай устаноўкі, зь яго ідэалістычнага сьветапогляду.*

*Патрэбна яшчэ ў заключэньне гэтага разьдзела нашага артыкула адзначыць самае гняздо, у якім знаходзіўся А. Адамовіч і адкуль ён распаўсюджваў свае нацдэмаўскія ідэі. А таксама адзначыць, што ў гэтым гнязьдзе быў не адзін А. Адамовіч, а там былі Бабарэкі, Дубоўкі, Пушчы і іншыя, якія праводзілі гэтую ідэю, што і А. Адамовіч і якія на першых пачатках дзейнасьці «Ўзвышша» (асабліва 1927–1928) задавалі гэтай часапісі ўвесь тон, давалі ёй свой буржуазны-нацдэмаўскі ідэалягічны напрамак. […]*

*Як бачым, з А. Адамовічам некалькі спадарожнікаў, голас якіх зьліваецца ў адзін. Яны ўсе разам актыўна змагаюцца за распаўсюджваньне нацдэмаўскіх-буржуазных ідэй, яны ўсе разам вядуць змаганьне супраць пралетарскай творчасьці, супраць яе пралетарскай ідэалёгіі, супраць наогул ідэй пралетарыята, ідэй Камуністычнай партыі»*[1041].

Наступным артыкулам мог стацца хіба артыкул крымінальны. І ён не прымусіў сябе чакаць.

Сярод асуджаных у тыя часы была свая іерархія. Афіцыйна (калі быць больш дакладным — дык паўафіцыйна) катэгорыя политических заключённых прызнавалася ГПУ прыблізна толькі да сярэдзіны 1930-х гг. У гэтую катэгорыю ўваходзілі асобы, засуджаныя за партыйную дзейнасць апазіцыйнага ці антысавецкага характару («партийные уклонисты», галоўным чынам «троцкисты», былыя «меньшевики», «эсэры»). Падчас следства яны ўтрымліваліся ў спецыяльных камерах у троху лепшых умовах, атрымоўвалі дадатковы *политический паёк*, але ўжо на этапе яны, за рэдкім выняткам, змешваліся з іншымі.

Ад *политических заключённых* адрозніваліся *государственные преступники* (пазнейшая тэрміналогія — ворагі народу). У гэтую катэгорыю ўваходзілі асуджаныя па 58 артыкуле. Яны не змешваліся з астатнімі і атрымоўвалі больш жорсткія прысуды. Сюды траплялі за прыналежнасць да арганізацый, у тым ліку і да Саюза вызвалення Беларусі.

Сюды трапіў і Антон Адамовіч.

І сёння далёка не ўсё зразумела з гэтай арганізацыяй. Ці сапраўды яна не існавала і была прыдуманая, на ўзор Саюза вызвалення Украіны, ці былі хоць нейкія рэальныя парасткі супраціву? Ці, як піша ва ўспамінах пра Педтэхнікум Язэп Лешчанка (Міхась Кавыль), маючы на ўвазе сябе і сваіх

[1041] Куніцкі, С. Крытычныя артыкулы Ант. Адамовіча, як адлюстраваньне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі // Полымя. № 2. Люты 1931. С. 143–144.

сяброў: *«Гэта былі неаглядныя мройнікі. […] У палітычных адносінах, асабліва беларуска-нацыянальных, — недаросткі. Паверыўшы незваротнасьці сталінскай беларусізацыі, кінуліся гуляць з агнём. Чаго варта хоць такая дурніца, якая, бадай, і паслужыла ГПУ стварыць «Саюз Вызваленьня Беларусі». Ня памятаю хто, ці то Астрэйка, ці хто іншы, але дадумаўся «перахрысьціць» СВБ, напісанае на значку Саюзу Ваяўнічых Бязбожнікаў, на Саюз Вызваленьня Беларусі. І канспірацыю прыдумалі: насіць значок не на штрыфелі пінжака, а пад штрыфелем»*[1042].

Так ці інакш, але факт той, што ў 1930 г. органы арыштавалі 108 чалавек з абвінавачаннем у прыналежнасці да «контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі «Саюз Адраджэньня Беларусі», перайменаваны пазней у «Саюз вызвалення Беларусі», *«ажыцьцяўлялі арганізаванае шкодніцтва на культурным, ідэалягічным і іншых участках сацыялістычнага будаўніцтва, праводзілі антысавецкую нацыяналістычную агітацыю, накіраваную на запавольваньне тэмпаў разьвіцьця Беларусі па сацыялістычным шляху, ставячы канчатковай мэтай адарваньне Беларусі ў этнаграфічных межах ад Савецкага Саюзу й стварэньне так званай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)»*[1043].

Рашэннем калегіі ОГПУ ад 18 сакавіка 1931 г. быў вынесены прысуд, па якім Антон Адамовіч асуджаўся на 5 гадоў высылкі. У 1935 г. яму, як і Я. Кіпелю, А. Бабарэку, У. Дубоўку і некаторым іншым, тэрмін быў падоўжаны — яшчэ на 2 гады.

Арышт перарваў навучанне Антона Адамовіча: адразу два прафесары (А. Барычэўскі й П. Бузук) прапаноўвалі яму акадэмічную кар’еру. Але толькі ў 1936 г. ён атрымае даведку ў тым, што праслухаў поўны курс Літаратурна-лінгвістычнага аддзялення Педагагічнага факультэта і здаў усе залікі за выняткам беларускай навуковай граматыкі, і толькі ў 1939 г. — дыплом БДУ № 261.

Як на сённяшняе веданне і гістарычны вопыт, прысуды збольшага былі памяркоўныя: сістэма толькі выпрацоўвалася. Асуджаныя маглі працаваць — па прафесіі (натуральна, калі такая праца была). Ад 10 кастрычніка 1931 г. да 13 лістапада 1934 г. Адамовіч настаўнічае ў Глазаўскім каапinduстрыйным камбінаце, дзе чытае матэматыку, ад 1 верасня 1934 г. да таго ж 13 лістапада 1934 г. выкладае фізіку ў Глазаўскім сельскагаспадарчым тэхнікуме. Ад 1 лютага 1935 г. да 25 жніўня 1936 г. у Кіраўскай няпоўнай школе і ад 11 верасня 1936 г. да 25 траўня 1937 г. ў Кіраўскай сярэдняй школе № 10 імя Тургенева выкладае нямецкую мову. (За гады высылкі Адамовіч скончыў курс нямецкай мовы ў Інстытуце завочнага навучання замежным мовам, пра

[1042] Лешчанка, Язэп. Казённы дом і далёкая дарога. Успаміны // Запісы БІНіМ. Нью Ёрк, 1992. С. 67.

[1043] Міхнюк, У. Захоўваць вечна: справа № 20951-С // Маладосць. № 6. 1992. С. 111.

што і атрымаў пасведчанне ад 8 снежня 1936 г. Скончыць аналагічны курс англійскай мовы зашкодзіў паўторны арышт.)

Як напісана ў характарыстыцы, выдадзенай у Глазаўскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, *«Ант. Адамовіч вёў выхаваўчую працу сярод студэнтаў у якасьці кіраўніка 1-га курсу жывёлагадоўчага аддзяленьня, быў кіраўніком студэнцкага драматычнага гуртка, задачай якога зьяўлялася мастацкае выхаваньне маладых спэцыялістаў сельскай гаспадаркі. Быў ініцыятарам ў барацьбе за культурны побыт і абстаноўку ў студэнцкім інтэрнаце. Выконваў шэраг даручэньняў па афармленьню габінэтаў, залі да рэвалюцыйных сьвятаў, студэнцкіх вечарынаў. Паказаў сябе выдатным мэтадычна ўзброеным выкладчыкам па сваёй дысцыпліне, апраўдаў у поўнай меры высокае званьне савецкага настаўніка»*.

4 ліпеня 1938 г. Адамовічу выдаецца чарговая, далёка не апошняя ў ягоным жыцці, даведка ў тым, што 3 ліпеня 1938 г. ён вызваляецца з-пад аховы. Адамовіч вяртаецца ў свой каханы горад і пасля доўгіх пошукаў працы ўладкоўваецца ў Мінскі хімічна-тэхналагічны тэхнікум харчовае прамысловасці выкладчыкам беларускай і рускай моваў, дзе і працуе да пачатку вайны.

А ўжо не пазней за 12 ліпеня 1941 г. Антон Адамовіч з’яўляецца супрацоўнікам аддзела працы Мінскай гарадской управы. Выкладання не пакідае.

Успамінае Віталь Кажан: *«У 1942 г. Генэральны Камісар Беларусі Кубэ даў згоду на арганізацыю Корпусу Беларускай Самааховы. Каб стварыць корпус, трэба было падрыхтаваць кадры афіцэрскія і падафіцэрскія. У 1942 г. арганізуюцца першыя афіцэрскія курсы. На гэтых курсах давялося быць і мне. Камандзерам курсаў быў генэрал Франьціш Кушаль. На курсах паміж выкладчыкамі быў і Антон Адамовіч. Ён выкладаў беларускую гісторыю й літаратуру. Нармальна ў час лекцыі ён стаяў каля сьцяны, залажыўшы рукі ззаду. Перад сабой ня меў ніякіх запісак. Усё гаварыў, пры гэтым вельмі цікава гаварыў, толькі з памяці, уключаючы нават і прыклады з твораў такіх паэтаў, як Колас ці Купала. Выкладамі яго ўсе слухачы былі захопленыя, а галоўнае — не маглі надзівіцца, што падавалася толькі з памяці. Ці было штось надрукавана навуковага ў той час бяз праўкі ды перагляду Антося Адамовіча? Гэта была хадзячая энцыкляпэдыя, асабліва калі браць пад увагу беларускую літаратуру, гісторыю»*[1044].

Своеасаблівым культурніцкім цэнтрам падчас вайны ў Мінску была рэдакцыя «Беларускай (Менскай) газеты», дзе Адамовічу належала адметная роля. Як піша Наталля Арсеннева: *«Я дні два зьбіралася йсьці ў рэдакцыю, баялася, як мяне там сустрэнуць, што скажуць. Баялася Адамовіча. Ён, як некалі Гарэцкі, здаваўся мне нечым вышэйшым, нейкім жыхаром Алімпу ці што»*[1045].

З аўтабіяграфіі Антона Адамовіча:

---

[1044] Успаміны Віталя Кажана, запісаныя Лявонам Юрэвічам.

[1045] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 240–241.

*«З прыходам немцаў адчыніліся некаторыя магчымасьці друкавацца, хоць адзіная выдаваная ў Менску «Беларуская газэта» й не магла адпусьціць вялікага месца для паважнейшых працаў. Усё-ж, працуючы ў рэдакцыі гэтае газэты, мне ўдалося надрукаваць пару большых літаратурна-крытычных артыкулаў (пра кірунак «Узвышэнства» ў беларускай літаратуры, пра паэтку Натальлю Арсеньневу й інш.), а таксама шмат зацемак з галіны культуры мовы. Дзеля таго, што навуковых працаў друкаваць нельга было ў газэце й наагул выказваць думкі ў простай форме можна было толькі тыя, якія не выклікалі пярэчаньняў ў немцаў, я напаў на думку заняцца больш мастацкай бэлетрыстыкаю, у форме якой было лягчэй вуаляваць і супярэчныя немцам выказваньні. Так, пад псэўданімам Д. Забранскі я надрукаваў колькі імпрэсіяў, у якіх часам удавалася то правесьці завуаляваную паралель між Гітлерам і Напалеонам, конь якога ўпершыню спатыкнуўся ў Менску пры ягоным паходзе на Ўсход (імпрэсія «Менск») або мімабегам успомніць пра ведамае пабіцьцё немцаў-крыжакоў пад Грунвальдам. Гэта прайшло незаўважаным, але большую маю рэч, пад тым-жа псэўданімам Д. Забранскі, «Несантымэнтальнае падарожжа», дзе я спрабаваў падаць свае запраўдныя ўражаньні ад Нямеччыны, якую пабачыў упершыню ў 1942 г., зьезьдзіўшы туды за перакладчыка з дэлегацыяй беларускіх сялянаў, якіх знаёмілі зь нямецкай гаспадаркай, цэнзура забараніла скончыць друкам, знайшоўшы там «неразуменьне нацыянал-сацыялістычнае Нямеччыны». Давялося зьмяніць псэўданім на С. Юстапчык, і пад ім у тэй-жа «Беларускай газэце» былі надрукаваныя мае аповесьці «Ўсяночная» (у 1946 г. выйшла асобнай брашурай) і «Трывога», у якіх вонкава апісвалася савецкае жыцьцё, але пад камуністымі лёгка завуалёўваліся нацыстыя і асабліва некаторыя добра знаныя ў Менску фігуры іх (сам «гаўляйтар Беларусі» Вільгельм Кубэ, ягоны беларускі квісьлінг др. Ермачэнка ды інш.).*

*Апрача гэткае літаратурнае формы рэзыстансу, у гэтым часе я бяру ўдзел і ў падпольным антынямецкім руху. У 1942 г. разам зь іншымі, галоўна маладымі беларусамі, бяру ўдзел у заснаваньні нелегальнае антынямецкае Беларускае Незалежніцкае партыі, па лініі гэтае-ж партыі прычыняюся да падрыхтаваньня ліквідацыі нямецкага агента Акінчыца.*

*У 1943 г., пасьля выдрукаваньня мною ў «Беларускай газэце» тэксту «Беларускае Марсэльезы» паэты Ю. Сергіевіча, словы якога, скіраваныя супраць «прыблудаў»-акупантаў немцы прынялі на свой адрас, я атрымоўваю ад нямецкіх уладаў прапанову выехаць на працу ў Нямеччыну, бо мая праца ў Менску іх «не задавальняе». Пакуль я думаў дзень над гэтаю прапановаю, у маім стале знайшлася міна, толькі выпадкова выкрытая адным супрацоўнікам за 20 хвілін да выбуху. Пасьля такіх выразных «папярэджваньняў» давялося згадзіцца на прапанову выезду ў Нямеччыну. Апынуўшыся там, я ўсё-ж навязаў сувязі зь беларускімі газэтамі ў Бэрліне й пасылаў туды свае далейшыя бэлетрыстычныя спробы, частка зь якіх была надрукаваная зь некаторымі цэнзурнымі купюрамі (завязка рамана «Каханы горад» у газэце «Беларускі Работнік», выйшла асобным выданьнем у 1948 г., навэлі*

*пад псэўданімам В. Бірыч — «Вароты скрыпяць» і «Нявольнік Дагамэі» ў газэце «Раніца»).*

*У гэтым і асабліва пазьнейшым часе, па капітуляцыі Нямеччыны, я не кідаў займацца й навуковымі працамі. За гэты час падрыхтаваная вялікая літаратурна-крытычная праца аб творчасьці паэткі Натальлі Арсеньневае (уводныя часткі зь яе ўдалося надрукаваць у часапісе «Сакавік», № 1, 1947, «Пад нацыянальным сьцягам», № 1 (2), 1948 «Ля вытокаў нацыянальнага»), а таксама працы з галіны гісторыі Беларусі — «Гісторыя беларускага нацыянальнага руху» (некаторыя разьдзелы ў канспэктыўным выглядзе выйшлі асобнымі брашуркамі пад псэўданімам Н. Недасек «1917–1947» і «1918–1948», а таксама ў брашуры «Белая кніга ў справе нашага нацыянальнага назову» і «Гісторыя Беларусі 16–18 ст.». Цяпер працую над гісторыяй Беларусі да 19 ст., але абставіны жыцьця ДП не дазваляюць аддацца ёй як належыць, таксама як і абставіны беларускага эміграцыйнага друку не даюць ніякіх надзей на апублікаваньне бліжэйшым часам таго, што ўжо ёсьць у рукапісах, асабліва большых агульных працаў («Гісторыя беларускае літаратуры», «Спроба нарматыўнае граматыкі беларускае літаратурнае мовы», «Гісторыя беларускага нацыянальнага руху», «Гісторыя Беларусі 16–18 ст.»). Як і раней, больш удаецца друкаваць рэчы бэлетрыстычныя (надрукаваныя навэлі «Безруч» пад псэўданімам С. Юстапчык ды «Афрадыта-ОСТ» і «Эміграцкая песьня» пад псэўданімам В. Бірыч) і публіцыстычныя»*[1046].

Гаворачы пра абставіны жыцця ў *DP*, Адамовіч меў на ўвазе не толькі неўладкаванасць побытавую, адсутнасць неабходнай літаратуры, але і тую спецыфічную атмасферу лагераў, пра якую Наталля Арсеннева пісала: *«Нашыя «ўзвышшы» былі цалкам захопленыя палітычным змаганьнем, «нізы» хадаліся за кожную пару порткаў ці камашаў з магазыну»*[1047].

У лагерах адбыўся фатальны для беларускага грамадства раскол. Пра падзел эміграцыі на крывічоў і зарубежнікаў, падзел палітычны, падзел рэлігійны, ужо сказана дастаткова. Зараз жа адцемім адно ролю Антона Адамовіча ў тых падзеях. А яна была немалая.

Успамінае Раіса Жук-Грышкевіч: *«Першы раз я сутыкнулася з прафэсарам Антонам Адамовічам на зьлёце беларускіх скаўтаў із трох зонаў Нямеччыны: амэрыканскае, канадыйскае й француcкае. Адбываўся зьлёт у 1946 ці 1947 годзе. Зьехалася на яго шмат скаўтаў, якія сябе характарызавалі так: «мы бойкая моладзь, арлы маладыя», і «ў душах нашых шчырых ідэі сьвятыя, а ў жылах крывіцкая кроў!». У тыя часы моладзь пяяла: Крывічанскае войска сьпявае, / у крывавы зьбіраецца бой, / а дзяўчына жаўнера пытае, / чаму браць яе ня хоча з сабой.*

[1046] Аўтабіяграфія захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1047] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі… С. 258.

*«Мы былі й будзем крывічамі...». А якое дачыненьне гэта мае да Антона Адамовіча? А мае. Ён быў Крывічом, хацеў, каб мы пазбавіліся ў сваім найменьні накінутае нам, як ён казаў, «рашкі», — «Бела-руссіа»«*[1048].

Згадка Раісы Жук-Грышкевіч знамянальная. Наколькі, мабыць, глыбока валодала ідэя Адамовічам, калі першае ўражанне па знаёмстве з ім пакідала «Крывія»! Было ў тым не толькі захапленне маладосці, «КРЫЮГ», працэс СВБ — *«патрыётаў крыўскай дзяржавы»*, але і практычнае: згуба беларусаў, што запісваліся палякамі з-за боязі быць рэпатрыяванымі. Сам быў змушаны выправіць сабе *«Пасьведчаньне»* № 401 аб жыхарстве ў Вільні ў 1936 г., сам пазней у аплікацыі № 7844003 на дазвол уехаць у ЗША запісаўся грамадзянінам Польшчы. Таму і прапанаваў ён, разам з Янам Станкевічам, змяніць этнічны назоў Беларусь, беларусы на Крывія, крывічы.

І меў рацыю Лукаш Бэндэ, калі яшчэ ў 1930 г. у сваіх паказаннях пісаў пра Адамовіча і ягоную працу пра Максіма Гарэцкага: *«В этой же монографии Адамович объединяется с нац. фашистом Ант. Луцкевичем и В. Ластовским, широко цитируя их и ссылаясь на них, как на наиболее выдающихся критиков, авторитет коих непоколебим. А все это вместе взятое выявляет и настоящее лицо Ант. Адамовича»*[1049].

Нельга адмовіць у трапнасці назірання: водсвет постаці Вацлава Ластоўскага ляжыць на ўсім, што рабіў Адамовіч.

Ідэі Ластоўскага адыгралі вызначальную ролю і ў тэарэтычным абгрунтаванні змены нацыянальнай назвы. У англамоўным артыкуле «Часапіс «Крывіч». Да 50-х угодкаў» Адамовіч пісаў: *«У Савецкай Беларусі спадчына Ластоўскага забароненая. Яна атрымала пэўнае адраджэньне падчас Другой Сусьветнай вайны, але выключна на эміграцыі. Выкарыстаньне тэрміну крывічы як нацыянальнага назову было прапанавана газэтаю «Раніца», што выходзіла ў Бэрліне ў 1939–1945 гг. Падчас прымусовай рэпатрыяцыі тэрмін крывічы выкарыстоўваўся як выратавальны знак. З мэтаю пазьбегнуць вяртаньня ў Савецкі Саюз назоў быў прыняты вялікай колькасьцю беларускіх эмігрантаў, а ў брытанскай зоне Нямеччыны быў заснаваны першы Крывічанскі лягер ДП. Жыхарства там было абаронена ад вяртаньня ў СССР, бо ані брытанцы, ані савецкія прадстаўнікі ня ведалі, што за людзі гэта такія, крывічы. Апрача асобных лягераў ДП, назоў быў прыняты некаторымі арганізацыямі, нацыянальнымі камітэтамі, студэнцкімі саюзамі, навуковымі інстытуцыямі, часапісамі (напрыклад, «Крывіцкі сьветач»). Эміграцыйныя пісьменьнікі Натальля Арсеньнева, Ларыса Геніюш, Алесь Салавей, часткова Міхась Кавыль і Масей Сяднёў таксама шырака ўжывалі гэты тэрмін»*[1050].

---

[1048] Успаміны Раісы Жук-Грышкевіч, запісаныя Лявонам Юрэвічам.

[1049] Бэндэ, Лукаш. Узвышэнства на падсуднай лаве // Скарыніч. Літаратурнанавуковы гадавік. Вып. 4. Мінск, 1999. С. 137–138.

[1050] Тэкст захоўваецца ў архіве БІНіМа.

Натуральна, калі «вялікая колькасць» эмігрантаў, па словах Адамовіча, успрыняла новую назву, дык не меншая назву гэтую адрынула. Адбыўся падзел грамадства, а за ім і падзел эміграцыйнай прэсы на крывічоў і зарубежнікаў: да крывічоў належалі «Беларус», «Віці», «Веда», «Запісы БІНіМ» (ЗША) «Беларускі эмігрант» (Канада) «Бацькаўшчына», «Змаганьне», «Шарсьцень», «Каласкі» (Нямеччына) «Божым шляхам» (Францыя) «Зьніч» (Італія) «Новае Жыцьцё», «Лучнік» Аўстралія) да зарубежнікаў — «БІС», «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі», «Беларуская трыбуна», «Царкоўны сьветач» (ЗША) «Незалежная Беларусь», «Беларускі патрыёт» (Нямеччына).

Спрэчкі паступова перайшлі з навуковай прасторы ў прастору побытавую. Вось два прыклады хронікі таго змагання.

У 1948 г. у Нямеччыне крывічамі была выдадзена брашура Максіма Зніча (Ант. Адамовіча) «Здрада (Як запрадаўся былы беларускі епіскапат маскоўскаму зарубежжу)»: *«Нас ня ганьбіць назоў Крывіч, аналёгамі якога зьяўляюцца: нацыяналіст, аўтакефаліст, незалежнік, патрыёт, змагар і жаўнер Беларускага Народу. Мы ня хочам цягнуцца за вамі ў Маскву і мець назоў зарубежнікаў, русафілаў, фэдэралістаў, абласьнікоў, рэакцыянэраў, апартуністаў і здраднікаў беларускіх інтарэсаў — Аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы і Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Мы — будучыня Народу. Вы і вам падобнае «беларускае» зарубежжа — брудная пляма ў гісторыі Беларусі»*[1051].

З боку зарубежнікаў таксама былі свае аўтарытэты, свае ідэолагі, свае пісьменнікі. Юрка Віцьбіч — з найбольш актыўных. Менавіта ён заснаваў і фактычна адзін выдаваў не толькі «Шыпшыну» ці «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі», але і «БІС» («Беларуская інфармацыйная служба»), ці не самы востры орган другога лагеру, дзе пад псеўданімамі Ігнат Тур, Міхась Крыніцкі пісаў: *«Выконваючы загады зацятых ворагаў нашага беларускага народу, «крывічы» дагэтуль аплёўваюць у сваіх «Белых кнігах» і па-за імі наш нацыянальны назоў, спрабуючы зьнішчыць яго й замяніць іншым. «Крывічы» аплёўваюць нашу славутую, гордую «Пагоню», намагаючыся замяніць яе недарэчнай і абразьлівай па форме «Двухпагоняю», «крывічы» фальсыфікуюць нашую гераічную гісторыю і асабліва тыя ейныя бачыны, дзе знайшлі адбітак І Кангрэс, Акт 25 Сакавіка, БНР, ІІ Кангрэс, БЦР (Н.Недасек «1917–1947»), «крывічы» праз «Падручнік крывіцкае мовы» Брачыслава Скарыніча, «Бацькаўшчыну», «Сакавік» спрабуюць апаганіць наш вялікі скарб — багатую мілагучную беларускую мову, «крывічы» на старонках свае прэсы спрабуюць давесьці ўсім іншым нацыянальнасьцям, што пераважная бальшыня беларускае эміграцыі складаецца з квісьлінгаў, русафілаў, палякафілаў, дывэрсантаў, зарубежнікаў, саветчыкаў, уласаўцаў, чарнасоценцаў ды іншых, «крывічы» на старонках свае прэсы аплёўваюць праваслаўнае веравызнаньне, якое вызнае пераважная бальшыня нашага*

---

[1051] Зьніч, Максім. Здрада (Як запрадаўся былы беларускі епіскапат маскоўскаму зарубежжу). Нямеччына, 1948. — 31 с.

*народу й недарэчна спрабуюць замяніць яго рэлігійнай вуніяй. Адзіная мэта гэтае агіднае працы — дыскрэдытаваць усё беларускае, забіць усякі незалежны дэмакратычны дух»*[1052].

Эміграцыйныя гады ў Нямеччыне і ЗША сталіся для Адамовіча надзвычай плённым часам — амаль што да самай смерці (12 чэрвеня 1998 г.). Ён рэдагуе перыёдыкі: газету «Бацькаўшчына», часапіс «Конадні», супрацоўнічае з радыё «Вызваленне» / «Свабода», бярэ дзейны ўдзел у заснаванні і працы Беларускага інстытута навукі і мастацтва.

Асобнае месца ў гэтым спісе займае Мюнхенскі інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР, дзе Адамовіч працаваў ад сакавіка 1953 г. і дзе былі выдрукаваныя найгалоўнейшыя яго працы, у тым ліку кніга «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры»[1053].

Наогул трэба адзначыць надзвычай шырокі абсяг зацікаўленняў Адамовіча, нават калі абмежавацца адно літаратуразнаўчымі працамі: тэорыя і гісторыя літаратуры (дакладней, літаратурны працэс — такі тэрмін Адамовіч, следам за Адамам Бабарэкам, лічыў больш правільным), Францішак Багушэвіч, Цётка, Вацлаў Ластоўскі, Іван Луцкевіч, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Янка Купала, Якуб Колас, Уладзімір Жылка, Андрэй Мрый, Лукаш Калюга, Кузьма Чорны, літаратура эміграцыі — Наталля Арсеннева, Алесь Салавей, Янка Юхнавец, Масей Сяднёў — і літаратура сацыялістычнага рэалізму.

Адным з найбольш цікавых і важных для Адамовіча — яшчэ ад першых «узвышэнскіх» працаў — быў аспект, які ўмоўна можна назваць палітыкаю літаратуры. Нават болей, Адамовіч стварыў з яго адмысловы раздзел літаратуразнаўства, што даследаваў савецкую літаратуру як асобную літаратурную плынь, пісаў, маючы на ўвазе літаратуразнаўства ў Беларусі: *«Спыняе на сабе ўвагу маўкліва праводжанае атоесамленьне савецкай літаратуры Беларусі з усёй беларускай літаратурай савецкага пэрыяду, у якой, прынамся, празь першых год пятнаццаць гэнага пэрыяду, літаратура савецкая была ўсяго аднэю з плыняў, ані пры тым не пануючы, хаця й нязьменна ставячыся ўладай у вылучна прывілеяванае паложаньне»*[1054]. І паколькі палітыка літаратуры даследуе перш-наперш саветызацыю літаратуры ды супраціў ёй, закідаць працам Адамовіча замоцнае палітызаванне літаратурнага руху 1920-х гг., ацэнку літаратуры палітычнымі крытэрыямі[1055] наўрад ці слушна.

---

[1052] Агент Абрамчык падарожнічае // БІС. № 18. 10 ліпеня 1948.

[1053] Adamovich, A. Opposition to the Sovietization in Belorussian Literature (1917–1957). München, 1958. — 204 p.

[1054] Адамовіч, Ант. Саветызацыя беларускай літаратуры і ейныя этапы // Беларускі зборнік. Мюнхэн, 1955. С. 8.

[1055] Конан, Ул. Прадмова да публікацыі: Антон Адамовіч. Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне «Узвышша» // Шляхам гадоў. Гісторыка-літаратурны зборнік. Мінск, 1993. С. 159–160.

Затое ў працах, прысвечаных эміграцыйнай літаратуры, у першую чаргу — творчасці Наталлі Арсенневай і Алеся Салаўя, Адамовіч пісаў пра мастацтва, пра метафары і тропы, пра сваё ўлюбёнае — уплывы і наследаванні. Акрамя чыста літаратуразнаўчых праблемаў бачыцца тут жаданне злучыць, звязаць гвалтам разарваныя традыцыі беларускае літаратуры, аб'яднаўшы любімых ім пісьменнікаў у адзіны ланцуг жывое творчасці.

*Лявон Юрэвіч*

## РАІСА І ВІНЦЭНТ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧЫ[1056]

Гэта была адна з найбольш вядомых беларускіх пар не толькі ў Канадзе, але і наогул на Захадзе.

Вінцэнт Грышкевіч быў на 16 гадоў старэйшы — нарадзіўся ў Будславе ў 1903 г. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, потым скончыў факультэт славянскай філалогіі і гісторыі Карлава ўніверсітэта ў Празе. Выкладаў беларускую мову і гісторыю ў той самай Віленскай беларускай гімназіі, беларускую мову ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі і Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні. А ў 1939 г. быў арыштаваны НКВД і адпраўлены ў высылку ў Варкуту.

У часе нямецка-савецкай вайны Вінцэнт пайшоў служыць у Армію Андэрса, быў на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, у Італіі. Па сканчэнні вайны выкладаў гісторыю і псіхалогію ў вайсковых польскіх школах у Італіі, а пазней у Вялікабрытаніі, куды былі пераведзеныя ўдзельнікі Арміі. Тут у Вялікабрытаніі Вінцэнт Жук-Грышкевіч стаў адным з заснавальнікаў і старшынёй першай беларускай арганізацыі ў гэтай краіне. Менавіта пад ягоным старшынствам Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі набыло першую беларускую ўласнасць на Захадзе — свой Дом. Пры Вінцэнту ў Вялікабрытаніі паўстаў і цэлы шэраг іншых арганізацый, а таксама два перыёдыкі: «На шляху» і «Беларус на чужыне».

Раіса Жукоўская нарадзілася ў Пружанах у 1919 г., вучылася ў польскай школе і польскай гімназіі, пазней таксама ў Вільні. У часе Другой сусветнай вайны яна апынулася ў Нямеччыне, дзе пасля жыла ў Беларускім лагеры ў Ватэнштэце і брала ўдзел у беларускім скаўтынгу. Тут жа ў Нямеччыне яна працягнула сваю адукацыю, пачаўшы вучыцца на дантыстку ў Марбургу.

У 1949 г. Раіса Жукоўская пераехала ў Канаду, дзе праз год і пазнаёмілася з Вінцэнтам Грышкевічам, які перабраўся туды з Вялікабрытаніі.

Упершыню спаткаліся яны ў Таронта ў хаце сястры Раісы Валянціны, якую Грышкевіч ведаў яшчэ з Вільні. Першае ўражанне трыццацігадовай Раісы ад будучага мужа было моцнае: *«Прафесар Грышкевіч выдаўся мне*

---

[1056] Тэкст быў напісаны для круглага стала, прысвечанага выбітным сужэнскім парам у беларускай гісторыі (Мінск, 15.03.2012) і апублікаваны на сайце газеты «Наша Ніва» пад назвай «Прэзідэнт і яго жонка». Гл.: http://nn.by/?c=ar&i=76147.

*асаблівым, зусім іншых ад тых беларусаў, якіх я ў Таронта нядаўна пазнала. … У прафэсара Грышкевіча, чалавека сярэдняга веку й сярэдняга росту, худога складу, чупрыну якога «спавіваў ужо срэбны дым», перш за ўсё кідалася ў вочы сумнае, задуменнае выражэньне твару, адбітак цяжкіх перажываньняў і яшчэ нешта, што прымушала перад гэтым Незнаёмым духова «ў пашане прыгнуць калені».*

Вінцэнт мусіў у Канадзе зноў вучыцца. У 1952 гг. ён абараніў дысертацыю на тэму «Лірыка Янкі Купалы» і стаў першым беларусам, які атрымаў ступень доктара філасофіі ў Атаўскім універсітэце. Др. Жук-Грышкевіч быў заснавальнікам і першых курсаў беларусаведы ў вышэйшых навучальных установах Паўночнай Амерыкі. Цягам двух гадоў (1951–1953) ён чытаў лекцыі з гісторыі і культуры Беларусі ў Таронтаўскім універсітэце. Сярод іншых, гэтыя лекцыі наведвала і Раіса, якая ў той час працягвала вучыцца на дантыста. *«Я наведвала лектарат беларусаведы ад першае яго лекцыі да апошняе. Выклады адбываліся ўвечары. Пасля заняткаў з сваім Прафесарам заходзілі мы ў студэнцкую кафейку, што знаходзілася непадалёк унівэрсытэту. У гутарках пры кубку кавы праводзілі мы прыемныя часіны адпачынку…»* Гэтыя спатканні перараслі ў нешта большае, у сямейнае жыццё.

Праўда, пачатак супольнага жыцця Жук-Грышкевічаў быў звязаны з расстаннем. Вінцэнт атрымаў у 1953 г. прапанову ўзначаліць толькі што створаную Беларускую секцыю радыё «Вызваленне» і мусіў у наступным годзе пераехаць у Мюнхен. Раіса ж павінна была скончыць сваё навучанне, атрымаць дыплом ды канадскае грамадзянства.

За час расстання яны напісалі адно аднаму дзясяткі лістоў. *«Раіска, жоначка мая дарагая,* — звяртаўся Вінцэнт у сваіх пасланнях. — *Памятай, што я думкамі заўсёды з Табою, памятай, што Ты ў мяне адна».* Расстанне, праўда, не было занадта доўгім. Меней як праз год, перад Калядамі 1954 г., Раіса Жук-Грышкевіч, ужо дыпламаваная дантыстка, далучылася да мужа ў Мюнхене. У Еўропе сужэнцы пражылі два гады. Пад кіраўніцтвам Вінцэнта Жук-Грышкевіча Беларуская секцыя радыё «Вызваленне» стала на ногі, але заставацца на пасадзе кіраўніка на трэці год ён адмовіўся дзеля жонкі. Раіса баялася далей заставацца без дантыстычнай практыкі, і ў 1956 г. яны вярнуліся ў Канаду, дзе пасяліліся ў мястэчку Бэры, недалёка ад Таронта.

Абое адбыліся ў прафесійным плане. Аднак Вінцэнт рэалізаваўся яшчэ да Канады, таму пачынаць зноў тут педагагічную дзейнасць яму было занадта складана. Ён паклаў свае намаганні на беларускую грамадскую працу. Разам з Раісай яны сталі ў 1966 г. заснавальнікамі Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады — арганізацыі, што мелася аб’яднаць розныя суполкі. Жук-Грышкевічы былі ўдзельнікамі шматлікіх беларускіх ініцыятыў: і заснавання Фонду беларускіх падручнікаў, дзякуючы якому пабачыў свет першы падручнік беларускай мовы для замежнікаў, апрацаваны Валянцінай Пашкевіч (сястрой Раісы), і арганізацыі беларускіх выставаў ці навуковых канферэнцыяў, і сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амерыкі. Абое яны шмат пісалі дакладаў, зацемак, нарысаў для беларускай прэсы на Захадзе. Яны

змагаліся за тое, каб беларусаў улічвалі ў канадскіх перапісах насельніцтва як асобную нацыю. Дзякуючы іх намаганням ад 25 сакавіка 1970 г. каля гарадской ратушы Таронта сталі штогод уздымаць беларускі нацыянальны сцяг…

Ад 1970 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч стаў спадчыннікам Міколы Абрамчыка на пасадзе старшыні Рады БНР і выконваў абавязкі палітычнага прадстаўніцтва беларусаў у вольным свеце да канца свайго жыцця.

Раіса ж была адной з заснавальніц Згуртавання беларускіх жанчын у Канадзе, выдавала Камунікат Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады, актыўна ўдзельнічала ў працы мясцовага Згуртавання беларусаў. У 1973 г. як прадстаўніца ад беларускай этнічнай групы Раіса была ўведзена канадскім урадам у Кансультацыйную Раду па пытаннях мультыкультуралізму.

Напэўна, найбольш вядомай супольнай ініцыятывай Жук-Грышкевічаў стала пабудова ў Святыні пакутнікаў у Мідлэндзе (Антарыё) Беларускага крыжа — помніка 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі. Беларускі Крыж быў асвечаны 5 верасня 1988 г. і стаў месцам рэгулярных паломніцтваў суайчыннікаў з ЗША і Канады. Гэты помнік быў апошняй справай жыцця Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які памёр праз паўгода пасля яго адкрыцця (у лютым 1989 г.). Закаханая ж жонка Раіса намагалася годна ўшанаваць памяць мужа. З яе ініцыятывы праз колькі гадоў пасля ўстаноўкі Крыжа побач быў пастаўлены мемарыяльны камень у памяць ахвяраў камуністычнага рэжыму ў Беларусі. А ў 1993 г. Раіса выдала ў Таронта кнігу «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», амаль 800 старонак якой утрымліваюць успаміны, лісты, дзённікі, нарысы, артыкулы, прысвечаныя гэтаму выбітнаму дзеячу беларускага замежжа.

Раіса Жук-Грышкевіч заставалася актыўнай удзельніцай беларускага жыцця ў Канадзе да канца. Выдатна разумеючы важнасць дакументаў, яна зрабіла надзвычайны падарунак будучым даследчыкам — цягам усяго жыцця яна збірала архівы беларускіх арганізацый, удзельніцай якіх была, і перадала іх незадоўга да смерці (памерла ў 2009 г.) у Нацыянальны архіў Канады, дзе фонд Жук-Грышкевічаў цяпер — найбольшы з беларускіх фондаў.

Унёсак гэтае сужэнскае пары разам, і кожнага з іх паасобку, у папулярызацыю беларусаў і Беларусі на Захадзе складана пераацаніць. Нягледзячы на розныя неспрыяльныя абставіны, якія часта вымушалі суайчыннікаў на чужыне зламацца, забыцца на сваё, Вінцэнт і Раіса Жук-Грышкевічы заставаліся беларусамі і рабілі ўсё, каб імя Беларусі гучала ў свеце.

*Наталля Гардзіенка*

# НА СКРЫЖАВАННІ ВЯТРОЎ: ЯНКА ЛІМАНОЎСКІ[1057]

Наўрад ці нехта яшчэ з паваеннай беларускай эміграцыі мог пахваліцца персанальным артыкулам пра сябе ў славутай маскоўскай «Литературной Энциклопедии». А вось Янка Ліманоўскі мог:

*«Лимановский Иван Михайлович (1896 — ) — современный белорусский писатель-прозаик, журналист и театральный работник. Один из основателей и руководителей БелАПП. Происходит из крестьянской семьи. Окончил реальное училище и учился затем на агрокурсах. В 1915 Л. досрочно призывается в царскую армию, в марте 1918 вступает в РСДРП(б). В Петрограде некоторое время работает в качестве уполномоченного Комитета революционной охраны Александро-Невского района. Возвратившись на родину, Лимановский принимает непосредственное участие в борьбе Красной армии против немецких, а затем и белопольских оккупантов Белоруссии, занимая ряд гражданских и военных должностей — от председателя волревкома до военкома дивизии. Этот яркий период борьбы с немецко-польским империализмом и местным контрреволюционным национализмом (Бел. нар. рада) за победу Октября в Белоруссии впоследствии и послужил основной темой творчества Лимановского. В 1925 напечатана первая его повесть «Найденный клад», в 1926 — «Два пути»; одновременно он помещает ряд мелких произведений в лит-ом приложении к газете «Савецкая Беларусь». Основная тема этих повестей — борьба революционных рабочих и крестьян Белоруссии. Их главный герой — интеллигент-партиец, выходец из деревни, который учится в процессе революционной борьбы преодолевать в себе остатки индивидуализма, учится подчинять личное общественному, классовому. Таковы Михась Дубровка и Янка Перелеска — главные герои повестей. Основное, что заслуживает особого внимания в творчестве Л., — четкая классовая позиция писателя. В отличие от ряда националистически настроенных белорусских писателей Л. рассматривает классовую борьбу в Белоруссии в связи со всей пролетарской революцией, показывает, что его национальные герои делают общее дело всего международного пролетариата. Вместе с тем следует отметить некоторые художественные недостатки повестей Л. (элементы наивного романтизма и психологизма, приключенчества, «счастливые» концовки и т. д.). В новом романе «Над обрывом» [1929] Л. в более широком плане развивает тему перехода лучшей части белорусской интеллигенции на сторону пролетарской революции (образ Карпинского). Освобождаясь в этом романе от прежних недостатков, Лимановский вступает в новый этап своего творчества. В настоящее время основным для него является переход к широкому показу жизни, борьбы, трудового героизма рабоче-крестьянской массы. Это частично и удалось Л. в повести «Ветер с Востока», к-рая противопоставляется повести того*

---

[1057] Тэкст быў апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 498–503.

*же названия нац.-дем. А. Дудара, впоследствии скатившегося к контрреволюции. Основная идея этой повести: ни литовская Тариба, ни Рада Белорусской народной республики, ни Польский нац. комитет не принесли освобождения трудящимся Советской Белоруссии; это освобождение принес только «Ветер с Востока» — Октябрь.*

*Библиография: II.* Горецкий *М., 5 лет «Молодняка», 1928;* Кабаков*, статья в журнале «Молодняк», 1929, № 10;* Микулич*, «Молодняк», 1929, № 11.*

*Г. Красневский»*[1058].

Нібы ўсё так добра ішло! Разам з Рыгорам Мурашкам, Платонам Галавачом, Міхасём Лыньковым, Іларыем Барашкам уваходзіў у Сакратарыят БелАПП, у 1929 г. яго прызначылі на месца Алеся Некрашэвіча дырэктарам у Другі беларускі тэатр — выпраўляць нацыяналістычныя памылкі ў рэпертуары, потым заняў пасаду намесніка дырэктара Інстытута літаратуры і мастацтва, які ўзначальваў Віталь Зэйдаль-Вольскі. І пісаў палітычна правільныя рэчы: *«Беларусь нацдэм бачыць у вобразе краіны, расьпятай на крыжы. У другім месцы Я. Пушча піша, што яе расьпялі на раскрыжаваньні Ўсходня-Заходніх дарог; ён пралівае кракадзілавы сьлёзы»*[1059]. І на табе…

Сталася вядомым, што Янка Ліманоўскі 9 сакавіка 1896 г. нарадзіўся зусім не ў сялянскай сям'і, а ў панскай — хай гэта і была шляхта, як казалі, з «чорнымі пятамі», і што сапраўднае прозвішча яго — Любіч-Ліманоўскі!

За ўвод у зман сяброў па партыі Ліманоўскага з той партыі выключылі. Зрэшты, лічы, пашанцавала: маглі і пасадзіць. Але за яго заступіўся сам Купала. От толькі на кар'еры можна было ставіць крыж.

У пошуках новых магчымасцяў Ліманоўскі пачаў студыяваць англійскую мову, якую адначасна выкладаў у Політэхнічным інстытуце на кафедры замежных моваў (кіраўніком там быў такі Панін; потым ён таксама эміграваў у ЗША і працаваў у ААН).

Выплыў на паверхню Ліманоўскі ў часе вайны, калі яго як пацярпелага ад камуністаў увялі ў склад Беларускага культурнага згуртавання і прызначылі кіраваць працаю адноўленага гарадскога тэатра — сачыць за моваю, бо большыня актораў мінскіх тэатраў выехалі на гастролі і засталіся ў чужых краях, заспетыя вайною. Трэба было вучыць рускіх і ўкраінскіх актораў, якія апынуліся ў беларускай сталіцы, мове.

З імі, нацдэмамі, Ліманоўскі 29 чэрвеня 1944 г. і сеў у цягнік Мінск–Берлін — у адным вагоне разам з сямействамі Савёнкаў, Кушаляў, Кіпеляў, Шчагловых, Галякоў і Антонам Шукелойцем.

---

[1058] Литературная энциклопедия. В 11 томах. Т. VI. Москва, 1932. С. [373–374].

[1059] Ліманоўскі, Я. За два гады класавай барацьбы ў літаратуры // Маладняк. № 6–7. 1931. С. 86.

У ЗША Ліманоўскі прыехаў у 1949 г. і пасяліўся спачатку ў Чыкага, дзе жыў брат з жонкай і сынам, каталіцкім святаром[1060]. У 1952 г. пераехаў у Нью-Ёрк — на прапанову Вітаўта Тумаша ачоліць новапаўсталы Інстытут навукі і мастацтва: выявілася, што Ліманоўскі ўжо досыць добра авалодаў англійскай мовай, а гэта было неабходна для ліставання з афіцыйнымі арганізацыямі ЗША. Кіраваў БІНіМам Ліманоўскі нядоўга[1061]: у красавіку 1954 г. падпісаў гадавы кантракт з радыё «Вызваленне» і з'ехаў у Нямеччыну. Толькі адносіны з іншымі працаўнікамі радыё не склаліся, і ў выніку кантракта Ліманоўскаму не працягнулі.

Увогуле, стасункі з большасцю эмігрантаў былі напружаныя, няроўныя, хоць таксама, як ягоныя старыя знаёмцы, належаў да Рады БНР. І зноў жа — пісаў і разважаў ён свядома:

*«Дарагі й Паважаны Сябра Будзька!*

*Шчыра дзякую за Вашыя лісты й інфармацыю. Яны зьвязваюць мяне зь бягучымі падзеямі ў беларускім жыцьці на эміграцыі. Мой выхадны дзень ня выпадае рэгулярна, і я не магу паехаць у Чыкага*[1062] *раней, як у канцы наступнага тыдня. Дык адказваю лістоўна на пастаўленыя Вамі пытаньні. Але я хачу папярэдзіць мой адказ наступнай агаворкай:*

*Закранутая справа будзе разглядацца Радай БНР. Паколькі я не з'яўляюся сябрам Рады БНР*[1063] *(хаця падтрымліваю больш пасьлядоўна й станоўча пытаньні, пастаўленыя на вырашэньне сябрамі Рады БНР у Чыкага, чымся некаторыя зь сяброў Рады БНР), дык не выпадае мне даваць адказ, які меў бы выгляд праекту рэзалюцыі. Таму мой адказ — гэта прыватны адказ Вам асабіста.*

*Я адношуся адмоўна да:*

*а. Да прапановы Камітэту Освобожденія Народов Россіі аб фэдэрацыі Беларусі з Дэмакратычнай Расеяй. Ведаючы тэндэнцыі расейцаў, белых ці чырвоных, у адносінах да іншых падняволеных Расеяй народаў, гэткая фэдэрацыя азначала б пачатак апанаваньня нашага краю расейцамі, і пазьнейшага падняволеньня яго «дэмакратычнай» Расеяй. Сама назва Камітэту Освоб. Народов Россіі мае гэткія тэндэнцыі; мы не з'яўляемся народам Расеі. Уласьцівай назвай гэтай арганізацыі павінна быць: Камітэт Вызваленьня Народаў, Паднявольных Расеяй.*

---

[1060] Ёсць звесткі пра пляменніка Янкі Ліманоўскага: Stanley C. Limanowski (30.12.1917–01.12.2002).

[1061] Творчая актыўнасць Ліманоўскага была невялікая. За выняткам некалькіх дакладаў пра творчасць Янкі Купалы можна назваць толькі адзін артыкул: «Янка Купала» — пад псеўданімам А. Равіч (Запісы БІНіМ. № 2. Нью-Ёрк, 1952. С. 65–76). Магчыма, прозвішча Любіч падказала абраць у якасці псеўданіма іншы герб — Равіч.

[1062] У той час Янка Ліманоўскі жыў у гарадку Сэнт-Чарлз, недалёка ад Чыкага.

[1063] Янка Ліманоўскі быў сябрам Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага.

*b. Да прапанаванага расейскімі арганізацыямі плебісцыту па Беларусі ў справе далучэньня да Расеі. Гэткі плебісцыт, накінуты расейцамі, прыніжае годнасьць нашага народу, і нашая згода на гэткі плебісцыт азначала-бы, што мы ўскосна адмаўляемся ад ідэі безумоўнай незалежнасьці й сувэрэннасьці нашага краю.*

*c. Да супрацоўніцтва з абы-якой расейскай арганізацыяй ці групай, калі гэткая арганізацыя не прызнае публічна й безагаворачна права нашага народу на незалежнасьць.*

*d. Да супрацоўніцтва з Фондам Вызваленьня Расеі й скарыстаньня грашовай дапамогі ад гэтага Фонду, паколькі дамінуючую ролю ў гэтым Фондзе будуць адыгрываць расейцы, якія не прызнаюць незалежнасьці нашага краю, ці такія амэрыканцы, якія ў гэтым пытаньні згодныя са спамянёнымі расейцамі.*

*Нашая згода й супрацоўніцтва з расейцамі ў закранутых вышэй пытаньнях (пункты a, b, c, d), калі б і далі (я сумняваюся ў гэтым) пэўныя часовыя й малыя выйгрышы, дык адначасна азначала б, што мы выразна (пункт a) або ўскосна адступаем ад прынцыпу безумоўнай сувэрэннасьці нашага народу, ставіла б расейцаў у кіруючае ў адносінах да нас становішча й дала б больш шкоды, чымся карысьці.*

*Адкінуўшы ўсе хітрыкі й манэўры расейцаў, мы павінны здэмаскаваць іхныя захопніцкія тэндэнцыі ў адносінах да падняволеных Расеяй народаў перад амэрыканскім народам, перад заходнім сьветам. Стоячы на груньце безумоўнай і поўнай незалежнасьці й сувэрэннасьці нашага народу, мы павінны шукаць прыхільнікаў і прыяцеляў не сярод расейцаў, а сярод дзеячоў, арганізацый і народаў заходняй дэмакратыі. Толькі ў гэтым выпадку ў сусьветным канфлікце заходняй дэмакратыі з азіяцкім бальшавізмам, у выніку якога бальшавізм будзе зьнішчаны, мы будзем мець роўныя шанцы з расейцамі, і не яны будуць вырашаць наш лёс. […]*

*Прыязны Вам Янка Ліманоўскі»*[1064].

Але не разыходжанні ў поглядах на тыя ці іншыя палітычныя крокі спрычыніліся да адыходу Лімаплоўскага ад беларускай грамады.

З Антонам Адамовічам яны былі знаёмыя даўно. Калі ў адказ на «Ліст 3-х» (Андрэя Александровіча, Алеся Дудара і Міхася Зарэцкага), выдрукаванага 4 снежня 1928 г. у газеце «Савецкая Беларусь» і прысвечанага антыбеларускай сітуацыі ў БДУ, Янка Ліманоўскі ад імя БелАППа асудзіў падпісантаў, дык Антон Адамовіч на сходзе студэнтаў педагагічнага факультэту зачытаў ліст дзеля іхнага падтрымання. Ды і ў сваёй працы пра Максіма Гарэцкага ён даволі здзекліва прайшоўся па Ліманоўскім[1065].

У 1952 г. Вітаўт Тумаш звярнуўся да Ліманоўскага з прапановаю напісаць прадмову да тому Купалавай «Спадчыны», які БІНіМ супольна з рэдакцыяй газеты «Бацькаўшчына» рыхтаваў да друку. Той напісаў, даслаў, але на пра-

[1064] Ліст Янкі Ліманоўскага ад 25.10.1951. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1065] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 33–34.

цягу 1953–1954 гг., нягледзячы на ўсе запыты, не змог атрымаць рукапісу з праўкамі ці заўвагамі назад. Антон Адамовіч, знарок зацягнуўшы перагляд, паступова пераканаў Вітаўта Тумаша і Станіслава Станкевіча ў немагчымасці друку прадмовы Ліманоўскага.

Ліманоўскі цяжка гэта перажываў, але сітуацыя яшчэ больш пагоршылася, калі прадмову, у скарочаным выглядзе, надрукавалі ў газеце «Украпнські Вісті», дзе ў суправаджальным тэксце зазначалася, што праз немагчымасць публікацыі ў беларускім друку братняя газета аддае свае бачыны добраму артыкулу.

У грамадзе гэткі дэмарш расцанілі як вынясенне смецця з беларускай хаты. Ліманоўскі зусім адышоў ад дзейнасці БІНіМа, з Нямеччыны вярнуўся ў Чыкага, час ад часу прыязджаючы ў Нью-Ёрк на пасяджэнні Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны, але ўсё радзей кантактаваў з беларусамі.

Пра далейшае ягонае жыццё амаль нічога невядома.

Памёр Янка Ліманоўскі 30 траўня 1989 г. у невялікім мястэчку Рыхтан-Парк штата Ілінойс.

*Лявон Юрэвіч*

## МАЛОДШЫ БРАТ: ІЗІДАР ПЛАШЧЫНСКІ[1066]

Факты даваеннай біяграфіі гэтага чалавека вядомыя хіба толькі таму, што ён быў малодшым братам Язэпа Пушчы. З успамінаў удавы паэта, Станіславы Плашчынскай[1067], даведваемся, што Ізідар нарадзіўся, як і ягоны брат, у в. Каралішчавічы Менскага павета. Вучыўся на філалагічным факультэце ўніверсітэта, па заканчэнні працаваў настаўнікам, пазней у БелТА.

Артыкул у даведніку «Беларускія пісьменнікі»[1068] нібыта ўдакладняе асобныя моманты жыцця, але праз тое, што няма спасылак на крыніцы (што і зразумела ў такога кшталту выданні), цяжка сказаць, наколькі ім можна верыць.

Перш-наперш трэба ўдакладніць пазначаны там год нараджэння — 1908 — больш канкрэтнай датаю: гэта адбылося 24 чэрвеня.

У даведніку Ізідару Плашчынскаму прыпісваецца псеўданім *М. Менскі*. Але вядома, што так падпісваў свае публікацыі Мікола Шчаглоў-Куліковіч, а Плашчынскі ўжываў іншы — *Я. Менскі* або *Язэп Менскі.*

---

[1066] Тэкст быў апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 491–497.

[1067] Плашчынская, Станіслава. З дзён далёкіх і блізкіх // Пушча, Язэп. Збор твораў у 2 т. Т. 2. Мінск, 1994. С. 382–440.

[1068] Сачанка, Святлана. Ізідар Плашчынскі // Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны даведнік у 6 т. Т. 6. Мінск, 1995. С. 652.

Сцвярджаецца таксама, нібы ён належаў да «Узвышша» — відаць, па аналогіі з Язэпам Пушчам, які быў сябрам гэтага згуртавання. Але засумнявацца і ў гэтым прымушаюць неаднаразовыя згадкі ў ліставанні Юркі Віцьбіча з Антонам Адамовічам аб тым, што на эміграцыі ёсць толькі два «ўзвышэнцы».

Што можна цвердзіць з пэўнасцю: адваяваўшы з фінамі, у час вайны ў Беларусі Ізідар Плашчынскі разам з Наталляй Арсенневай, Лявонам Савёнкам, Антонам Адамовічам ды іншымі працаваў у рэдакцыі «Беларускай газеты» і адначасова падпарадкоўваўся Францу Кушалю — перакладаў з польскай мовы (у тым ліку пераклаў падручнік для паліцыянтаў). У Нямеччыне хаваўся спачатку ў кляштары ў Баварыі, потым жыў у лагеры *DP* у Гановеры, супрацоўнічаў з «Вольным Словам». Па вайне Язэп Гуткоўскі — такое абраў сабе «эміграцыйнае» імя — быў вольным аўтарам (не належаў да штатных працаўнікоў) радыё «Вызваленне»; у 1950-х, відаць, атрымліваў стыпендыі ад мюнхенскага Інстытута вывучэння гісторыі і культуры СССР, бо друкаваўся ў выданнях гэтае ўстановы.

Гуткоўскі не належаў да згуртавання «Шыпшына», не быў блізкі і да пісьменнікаў, аб'яднаных вакол «Конадняў». Напрыканцы 1960-х гг. нібыта мела паўстаць новая літаратурная суполка, у пэўным сэнсе — маргіналаў, толькі надта ж розныя былі мэты пісьменнікаў, каб затрымаць іх надоўга разам: Янка Юхнавец, паэт, які адбыўся і якога, нягледзячы на ўсю незвычайнасць творчае манеры, ахвотна друкавалі перыёдыкі; Сяргей Хмара, чые планы больш тычыліся палітыкі, як літаратуры; ягоны верны сябра архівіст і кніжнік Мікола Панькоў з жонкаю Нінай Змагаркай; Янка Ліманоўскі, пакрыўджаны на ўсіх за тое, што напісаную ім прадмову да Купалавай «Спадчыны»[1069] ў выданні замянілі на тэкст Станіслава Станкевіча; Мікола Цэлеш, які ўшчэнт рассварыўся з Віцьбічам; шэраг аўтараў, што сябрамі іншых згуртаванняў уважаліся за графаманаў: Алесь Змагар, Янка Шатун.

Найбольш прыкметным учынкам гэтага кароткатрывалага аб'яднання стаўся падпісаны яго ўдзельнікамі ў верасні 1968 г. ліст да Саюза пісьменнікаў Чэхаславаччыны на знак салідарнасці і пратэсту супраць дзеянняў Масквы.

Калі Язэп Гуткоўскі памёр (25 лютага 1986 г. у Нью-Ёрку), некралог у газеце «Беларус» засведчыў, што і яны, былыя калегі, сябры, амаль нічога не ведалі пра ягонае даваеннае жыццё, мала цікавіліся паваенным — у тэксце за выняткам года нараджэння і даты смерці адно словы спачування[1070].

У архіве «Беларуса» захаваўся ліст ад Лідзіі Дуржэнковай — жанчыны, з якой Гуткоўскі жыў у Амерыцы. Ліст, верш і ўспамін напісала, як прызнаецца аўтарка, не літаратарка. Але разам з тым гэтыя тэксты не толькі расказваюць

---

[1069] Купала, Янка. Спадчына. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1955.

[1070] Сьв. памяці Язэп Гуткоўскі (Ізыдар Плашчынскі) (1908, Каралішчавічы, каля Менску — 25.02.1986, Нью Ёрк) // Беларус. № 328. Студзень — сакавік 1986. С. 7.

новае пра чалавека, але і дазваляюць зразумець ягоную трагедыю, прычыны адасобленасці ад грамады, адзіноцтва.

*«Паважаны сп. Запрудник!*

*Пробовала написать по-белорусски, но, не владея хорошо языком, получилась «лабуда», как сказал бы Изидор. Может быть, это замного для вашей газеты. Я не писатель, не литератор, написала всё так от сердца. Но я понимаю, что газета не служит для изливания чувств, и у вас есть более важные вопросы. Цель моей статьи — это хоть чем-нибудь вспомнить Изидора. Ведь жил же человек, и хотя не участвовал активно в белорусской жизни, но что-то делал. Оставил после себя какой-то вклад в общее белорусское дело.*

*Попутно пересылаю мой первый и последний «вершык». Не для печатания, конечно, а просто так, интересно Ваше мнение.*

*Чы ён чаго варты?*

*На этом остаюсь.*

*Желаю Вам всего наилучшего.*

*С уважением,*

*Лидия Дурженкова*

***Вместо цветов***

*Отошел ты в могилу заснежену,*
*Никому не сказавши «Бывай»,*
*Твои очи навеки смежены,*
*Темной тенью легла в них печаль.*
*Тихо гроб опускался в холодную яму,*
*Никто слова на путь не сказал,*
*Только ветер злобно полотнище рвал,*
*Полетели комья мерзлой земли… и цветы*
*В твой новый дом.*
*Сердце верить не хочет, что это всё… Конец.*
*Спи, друг мой,*
*Образ твой я с собой унесу*
*И «прощай» не скажу,*
*Крепко верую, что где-то,*
*Будь то осенью,*
*Летом,*
*Весною*
*Иль зимней порою*
*Ещё раз я увижусь с тобою.*

Тэкст, які даслала Лідзія Дуржэнкова, у газеце надрукавалі, але з рэдактарскімі праўкамі[1071]. Тут ён падаецца ў адпаведнасці з арыгіналам:

*«Сумная Годовщина.*

*2.25.87 г. исполнилась первая годовщина со дня смерти Язэпа Гутковскаго (Изыдара Плашчынскага). Безжалостная смерть вырвала ещё одного из сынов Матери-Белоруссии. Вспоминается, каким он был: честный, с открытой душой, немного бунтарь, он любил свой родной край горячей любовью. Он как-то болезненно воспринимал всё, что касалось Белоруссии. Переживал за судьбу своей Родины. Возмущался тем, что на грудь Белоруссии давит всё тот же кремлевский сапог, если уже не черный, так красный. Болел за чистоту белорусского языка. Журналист незаурядных способностей, был он очень прямолинейным и иногда нетерпеливым в своих высказываниях. Резко критиковал тех, кто не совсем правильно освещал какие-нибудь события, факты. Ко всему относился критически. Но наиболее критически он относился сам к себе. Не признавал никаких компромиссов. Он не мог кривить душой. У каждого из нас война, разлука с родным краем, разлука с любимыми близкими оставили свой след. Но шли годы, раны заживали, и человек начинал жить снова. Рана Изидора никогда не зажила. Она мучила его всю жизнь. В личной жизни он как-то сломался. Как бы разделился на две половинки. Одна жила в прошлом, ставшим милым, но невозвратным, а с другой стороны, жизнь реальная и не совсем воспринимаемая. Эта его раздвоенность, эти душевные переживания иногда вызывали конфликт. Наступал период упадка. Такое душевное состояние разрушало его здоровье. Постепенно болезнь отбирала ў него всё. Сердце слабело. Силы покидали, сябры отдалились. Чувствовал себя очень одиноко. Понимал, что уже немного осталось. Но все же держался. Ждал Весну. Единственный человек, какой до конца держал с ним живую связь, был сп. Микола Паньков, подбодрял его то какой-то новостью, то так, разговором. За что ему сердечная благодарность. Тяжело переживал смерть брата. Давно задумал выдать книгу, сборник произведений своего брата, Язэпа Пушчы. Годами кропотливо собирал нужный материал. И кажется, уже подвёл дело к итогу. Но не удалось ему закончить эту работу. Смерть оборвала всё. Здався Изыдорка!»*

Як напісала Лідзія Дуржэнкова, пасля Язэпа Гуткоўскага, цікавага крытыка, застаўся ўнёсак у *«агульную беларускую справу»*.

*Лявон Юрэвіч*

[1071] Сумныя ўгодкі // Беларус. № 333. Студзень — сакавік 1987.

# СУВОЙ ЖЫЦЦЯ: МІКОЛА ПАНЬКОЎ[1072]

*Калі Народ твой у бядзе*
*і верных мала разам зь ім —*
*тады зьявіся — хоць й адзін,*
*скажы ўсім гучна: «Я Твой сын!»*

*Мікола Вольны*[1073]

Нашая эміграцыя можа праўна ганарыцца палітыкамі і пісьменнікамі, мастакамі і навукоўцамі. Але адчувальны прагал, характэрны, бадай, для любога грамадства, не толькі беларускага і не толькі на эміграцыі, — нястача культурнікаў. Іх праца менш заўважная, пра іх рэдка згадваюць, нават карыстаючы з іхнага плёну, імёны падмяняюць абагульненым «выдавец», «укладальнік».

Пра Міколу Панькова (12.06.1911–07.01.1995) лепш за ўсё гавораць абраныя ім псеўданімы: М. Вольны, М. Лістападавец, Летапісец, Ня-Кніжнік, Не-Паэта, Ул. Сакол, М. Крэнь. У іх — не толькі нацыянальныя пачуцці, бачанне сябе ў сусвеце, вольным сусвеце, але і разуменне сябе ў беларускім грамадстве, сваёй ролі.

Біяграфічных дадзеных пра Міколу Панькова захавалася мала: больш клапаціўся аб захаванні памяці пра іншых. Вядома, што нарадзіўся ён у Дзвінску і яшчэ ў школьныя гады далучыўся да нацыянальна-вызвольнага руху — быў сувязным паміж родным горадам і Коўнам, вазіў ліставанне і друк беларускіх эсэраў.

У той маласпрыяльнай для беларускага выхавання атмасферы Міколу пашанцавала на настаўнікаў — Сяргея Сахарава і Кастуся Езавітава. Менавіта тады пачалося і зацікаўленне бібліяграфіяй, калі пад кіраўніцтвам С. Сахарава, дырэктара Дзвінскай беларускай гімназіі, у 1927 г. быў закладзены гурток, мэтаю якога сталася складанне каталогаў, рэгістрацыя выданняў Заходняй Беларусі. Праца тая, распачаўшыся аднойчы, ужо не спынялася ані вайною, ані лагерамі *DP*, ані эміграцыяй. У 1952 г. Крывіцкім навуковым таварыствам Пранціша Скарыны быў надрукаваны «Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945–1950 гг.»[1074], укладзены Паньковым. Папярэдне быў падрыхтаваны «Паказчык беларускіх выгнанскіх друкаў: чэрвень 1945 — 1 лістапада 1948 г.». У рукапісе застаўся паказнік «Беларуская прэса: 1862–1955 гг.», дзе была зроблена спроба ўлічыць усе друкі, пачынаючы ад «Мужыцкай праўды».

---

[1072] Тэкст публікаваўся ў якасці прадмовы да кнігі: Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945–1984). Мінск, 2001. — 330 с.

[1073] Баявая Ўскалось. № 14. Таронта, 1974. С. 8.

[1074] Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945–1950 гг. Нью Ёрк, 1952. — 62 с.

Трэба адцеміць, што пераважная большасць зробленага М. Паньковым распаўсюджвалася або ў рукапісах, або ў 2–3 копіях машынапісу. Напрыклад, чатыры выпускі альманаха «Этапы» (*Oldenburg — Wentorf — Cuxhaven — Lesum — Bremen*, 1944–1950), зместам якога былі творы, артыкулы, зацемкі самога Панькова. Спіс перыёдыкаў, заснаваных ім, можа здзівіць і сёння, прычым не толькі колькасцю, але і сваім тэматычным багаццем: «Абежнік Беларускага дапамаговага / нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне Брытанскае зоны», «Абежнік Саюзу беларускіх журналістых», «Баявая Ўскалось», «Вольнае слова: Бюлетэнь Саюзу беларускіх журналістых», «Выгнанец: Беларускі рукапісны тыднёвік», «Дакуманты і факты: Архіў беларускага нацыянальнага вызвольнага руху», «Кагарка: Месячнік крывіцкай думкі», «Кнігапіс беларускага друку», «Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі», «Мэта: Часапіс літаратуры — навукі — грамадзкасьці», «Нарач: Літаратурна-грамадзкі крывіцкі часапіс».

Наогул, культурніцтва Панькова праяўлялася найперш у неспатольным жаданні засяліць эміграцыйную прастору друкамі, самымі разнастайнымі. Гэтаму ўражальнаму даробку ў 1947 г. (год-паўтара ўсяго, як М. Панькоў быў у Нямеччыне!) газета «Бацькаўшчына» прысвяціла адмысловы артыкул «На чыстым аркушы» або рэдкі фэномэн «Рукапіснага друку»:

«*Чытач, пэўна, памятае прыгожы верш Максіма Багдановіча — «Перапішчык»:*

*На чыстым аркушы, прад вузенькім вакном,*
*Прыгожа літары выводзіць ён пяром…*

*…Вось перад намі — прывезенае з ангельскае зоны цэлае бярэмя зусім рукапісных, літаральна ад рукі, сярэднявечным спосабам пісаных і перапісаных беларускіх выданьняў. Сярод іх рукапісныя газэты, якія выходзілі рэгулярна, зьмяняючы толькі часам свой фармат, у залежнасьці ад паперы, і назовы — у залежнасьці ад абставінаў: «Адгалоскі» (3 нумары), «Алярм» (8 нумароў), «Беларус на чужыне» (5 нумароў), «Далі» (2 нумары), «Пералом» (4 нумары), «Раздарожжа» (2 нумары), «Уцякач» (6 нумароў) — усе газэты 1945 г., іхны працяг — «Выгнанец» (16 нумароў за 1945 г. і 23 нумары за 1946 г.), ягоны працяг — «Аглядчык» (44 нумары за 1946 г. і 18 нумароў за 1947 г.). […] Апрача газэтаў тут жа й рукапісныя часапісы — журналы: «Кагарка — Месячнік крывіцкае думкі», які арыгінальна выходзіў (лепш у гэтым стылі — «вылятаў») не нумарамі, а «ўзьлётамі», «Нарач» — таксама не нумарамі, а «хвалямі», і нарэшце — таўшчэзнымі сшыткамі — «Мэта», часапіс «літаратуры — навукі — грамадзкасьці» (7 нумароў за 1946 год і 5 за 1947). Тут жа ў маленечкіх «кантычках» — таксама ад рукі — «Бібліятэка сучаснасьці», сярод выпускаў якое — патрэбныя й цікавыя нашаму чытачу рэчы (прыкладам, № 12–13 — «Праўда аб Маскве» — урыўкі зь ведамае кнігі калішняга амэрыканскага пасла ў СССР Уільяма Буліта) .*

*Перакідаючы балоны ўсіх гэтых выданьняў, дзівішся багацьцю й разнастайнасьці матэрыялаў у іх. Тут і шырокая ды сыстэматычная інфармацыя*

*і зь міжнароднае палітыкі, і з Бацькаўшчыны, і зь літаратуры, з навукі й тэхнікі, тут і арыгінальныя й цікавыя собскія праблемныя артыкулы, тут і мастацкія творы, найбольш апавяданьні, як арыгінальныя, так і перакладныя, тут і крытыка ды інш. Усё гэта выпісана — перапісана акуратнянькімі, добра чытэльнымі, запраўды «прыгожа выведзенымі пяром» літарамі ды наверх — аздоблена ня толькі выразанымі з друкаваных часапісаў ды наляплянымі ілюстрацыямі, а й собскімі — ізноў ад рукі — арнамэнтацыямі, запраўды па-мастацку выкананымі — зноў жа, як у таго «Перапішчыка», — «усякімі цьвятамі, разнакалёрнымі галоўкамі зьвяроў і птух нябачыных, спляценьнем завіткоў... шматхварбныя застаўкі і канцоўкі, і загалоўкі ўсе». [...]*

*А паспрабуйце цяпер хоць із большага ўявіць сабе, колькі працы мусілі ўлажыць гэтыя рукі — запраўды залатыя рукі, колькі часу й вытрываласьці ў добра знаных усім лягерных абставінах (дый яшчэ ж у чужым і непрыхільным лягеры) гэта патрабавала? Бо рабілася ж яно не ў цішыні кляшторных келятак даўлетных «перапішчыкаў», калі запраўды было, што «няма куды сьпяшыць» і «нячутна дзень праходзіць». [...]*

*«Рукапісны друк» бясспрэчна заляжа ў музэі, як адзін із цікавейшых экспанатаў нашае нядолі й адначасна — нязломнае волі да долі, рэалізаванай ува ўпорыстай і самаахвярнай ды здольнай працы. Але некалі па гарадох нашае Бацькаўшчыны, побач із традыцыйнымі ў цэлым сьвеце помнікамі «невядомаму жаўнеру», трэ было б ставіць і манумэнты «нязнанаму працаўніку культуры». Бо колькі ж іх гэткіх, нязнаных і няведамых, было, ёсьць і, пэўна, будзе яшчэ ў нас — у тым ліку й тых, што сьведама ня пнуцца да ведамасьці й славы, а жывуць толькі тым, каб рабіць і зрабіць. Колькі іх, «невядомых, непрызнаных, неаплаканых нікім», і тых, што навет так і жадаюць «прайсьці свой век, прамарнавацца і невядомымі застацца»*[1075].

Як выглядае, зробленае Паньковым знаходзіла чытача, чытача ўдзячнага:

*«Паважаны сябру Мікола!*

*Атрымаў Ваш ліст і літаратуру.*

*«Ордэн Двупагоні» я, прачытаўшы яшчэ лістоўку, Статут-дэклярацыю, уявіў усю глыбіню патрыятычнага настрою гэтай арганізацыі. Я поўнасьцю салідарны зь ёю. Цікава, як жмудзіны (летувісы) да гэтага адносяцца? Брашура «Пад такім знакам» — зьмястоўная й навукова апрацаваная.*

*Я хачу больш застанавіцца на літаратурна — мастацкім часапісе «Баявая Ўскалось». У першую чаргу я хачу выпучыць адмоўны бок, як мне здаецца. Сам назоў «Баявая Ўскалось» да мастацкай літаратуры не пасуе. «Ускалось» — рэдкае слова, наватвор. У праграмным артыкуле як бы выпучаецца, што часапіс літаратара — беднаты (як бы пралетарскіх пісьменьнікаў) і скрозь ставіцца нейкім багатым выданьнем ксяндзоўскім*

[1075] Спадзявайла, Іван. «На чыстым аркушы» або рэдкі фэномэн «Рукапіснага друку» // Бацькаўшчына. № 2. 17.11.1947. С. 2–3.

*часапісам (Так у арыгінале. — Л. Ю.). Калі быў амаль дзясятак беларускіх ксяндзоў у Заходняй Беларусі, дык яны былі патрыётамі і аддавалі свае заробкі на нацыянальную справу. А цяпер іх няма, бо, здаецца, усе загінулі за Бацькаўшчыну.*

*Гэта дробязь. Галоўнае — нутро часапісу. Такога часапісу ўжо даўно чакаў чытач — эмігрант. Ён адразу стаў больш папулярным, чым папярэднія падобныя часапісы, як «Шыпшына», нават «Сакавік». Увесь зьмест рэальны й просты. Амаль усе аўтары новыя, нязнаныя дагэтуль»*[1076].

Наогул, Мікола Панькоў быў актыўным у грамадскім жыцці: з'яўляўся сябрам Рады БНР, сябрам Крывіцкага (беларускага) навуковага таварыства Пранціша Скарыны, заснаванага ў Рэгенсбургу 23 чэрвеня 1947 г. з ініцыятывы Льва Акіншэвіча (разам з Антонам Адамовічам, Янкам Станкевічам, Аляксандрам Багдановічам), сябрам Інстытута Кастуся Каліноўскага, ачольваў Саюз беларускіх журналістаў у ЗША, кіраваў Беларускім інфармацыйным бюро.

Мікола Панькоў быў не толькі перапісчыкам, не толькі выдаўцом, бібліёграфам, архівістам, але і пісьменнікам. Ён належаў да літаратурнай арганізацыі «Баявая ўскалось»: *«У 1949 годзе ажывае дзейнасьць групы «Ўскалосі», на гэты раз дужа папоўненай сябрамі зь іншых частак Беларусі, як Усходняй (БССР), так падлатвійскай і падпольскай. Сябрыны «Ўскалосі», якая цяпер прыняла назоў «Літаратурнай Сустані «Баявая Ўскалось», паўсталі ў Нямеччыне (Мікола Вольны, Ніна Змагарка*[1077] *і іншыя), у Канадзе (С. Хмара, В. Вярбіна, Кастусь Навіцкі, Васіль Вір, Машчонскі і іншыя), у Аўстраліі (Анатоль Сумны, Макарэвіч), у Францыі (Алесь Змагар, Аўген Кавалеўскі), у Англіі (А. Дрыгвіч, Язэп Таўпека), у Паўднёвай Амэрыцы (д-р Галейка, Ул. Дудзіцкі). У Нямеччыне ў тым жа годзе пачынае выходзіць літаратурны часапіс пад радакцыяй М. Панькова «Баявая Ўскалось», дзе па-за ўспомненымі пісьменьнікамі зьмяшчаюць свае творы і іншыя»*[1078].

Аднак пісьменніцтва не было тым, што валодала думкамі і часам Міколы Панькова. Больш творчай радасці прыносіла, відаць, складанне іменных паказнікаў да кніг, выдрукаваных на Беларусі — добра напісаных, але нядбайна выдадзеных і таму нязручных да карыстання. Атрымліваючы стала з Мінска газету «Літаратура і мастацтва», з кожнага нумару выпісваў «Хроніку літаратурнага жыцця на Беларусі», маючы наўвеце пазней выдаць асобнаю кнігаю.

Яшчэ напрыканцы 1940-х гг. у Нямеччыне Мікола Панькоў заснаваў Усебеларускі архіў, які з пераездам заснавальніка і дырэктара перамясціўся

---

[1076] Летапіс беларускай эміграцыі. № 76. Красавік 1991. С. 29.

[1077] **Ніна Змагарка** — псеўданім жонкі М. Панькова Марыі (дзявочае прозвішча Найдзюк, 21.06.1904, Дзвінск — 15.09.1991, Нью-Ёрк).

[1078] Васіль Вір. Беларуская літаратура за мяжой. Першая частка дакладу, чытаная на канфэрэнцыі славістаў у Манрэалі ў Канадзе ў 1971 г. // Баявая Ўскалось. № 11. Таронта, 1971. С. 24.

ў ягоную нью-ёркскую кватэру. Тамсама ж знаходзілася і Беларуская бібліяграфічная служба, таксама закладзеная Паньковым, які збіраў беларускае слова. Вядома, перавага аддавалася эміграцыйным выданням, прынамсі таму, што на набыццё савецкіх кніг патрэбны былі немалыя выдаткі. Затое пад эміграцыйны архіў — кнігі, часопісы, газеты, брашуры, улёткі, паштоўкі, лісты — была адведзена ўся падвальная частка двухпавярховага дома і амаль цалкам першы паверх.

Ідэяй збору было не проста бібліяфільскае, бібліяманскае апантанае захапленне. Меркавалася, што згаданая вышэй праца «Паказнік беларускіх выданняў на чужыне» будзе працягнута, будзе напісана гісторыя эміграцыйнага перыядычнага друку, будзе складзена энцыклапедыя «Хто ёсць хто на эміграцыі», будзе працягнута праца над «Беларускай народнай энцыклапедыяй», дзе ўжо меўся некаторы плён — выдрукаваныя ў 1948 г. на машынцы ў сямі сшытках матэрыялы да энцыклапедыі, рэдагаваў якія Антон Адамовіч; будзе зроблены і «Мартыралог» як працяг выдрукаванай на ратататары «Кнігі ахвяраў бальшавізму»: у 1956 г. Панькоў разам з Яўхімам Кіпелем, Антонам Адамовічам, Сымонам Кандыбовічам пачалі складваць англамоўны спіс беларускіх інтэлектуалаў і палітыкаў, знішчаных Саветамі[1079]. Думалася пра тэарэтычныя працы («Шляхі новае беларускае літаратуры»[1080], «Шляхі развіцця новае беларускае літаратуры»[1081] , «Кароткі начырк да гісторыі беларускага часапісьменства»[1082]). Думалася пра гісторыю эміграцыі.

Ідэя гісторыі ці не найбольш займала Міколу Панькова, прычым не толькі ў ЗША. У адным з нумароў «Летапісу»[1083] быў змешчаны пачатак хронікі падзей беларускай эміграцыі ў Аргенціне з даваеннага часу (1934–1941 гг.) У 1945–1953 гг. ён пісаў «Успаміны з мінулага для будучага» пад назвай «На раздарожжы» — хроніка, каментары эміграцыйнага жыцця. Праўда, напісалася толькі 15 старонак.

Затое другі праект, таксама звязаны з гісторыяй эміграцыі, выявіў значна большую жыццяздольнасць — «Летапіс жыцця беларускай эміграцыі» (часам назва змянялася на «Летапіс беларускай эміграцыі»). Мала якое выданне на эміграцыі паклікала да жыцця столькі эмоцый!

Да таго ж, Панькоў не быў пасіўным назіральнікам. Ён не толькі занатоўваў падзеі, а часта браў удзел у іх сам, актывізаваў ці нават ствараў.

---

[1079] Abridged list of some Byelorussian intelectuals liquidated by Soviet Russia / Edited by Jury Sabaleuski. New York, Dec. 7, 1956. — 15 p.

[1080] Вольны, Мікола. Шляхі новае беларускае літаратуры. Кароткі агляд беларускае літаратуры паміж дзьвюх войнаў і сяньня. Ватэнштэт: Выдавецтва Беларускага Дапамаговага Камітэту на Ангельскую зону, 1947. — 16 с.

[1081] Вольны, Мікола. Шляхі разьвіцьця новае беларускае літаратуры. Нямеччына, 1947. — 9 с.

[1082] Вольны, Мікола. Кароткі начырк да гісторыі беларускага часапісьменства. Нямеччына, 1950. — 32 с.

[1083] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 68. Верасень 1989. С. 119–120.

Гэтак, пры ягоным непасрэдным актыўным удзеле і ў супрацы з Юрыем Сабалеўскім, Леанідам Галяком, Анатолем Плескачэўскім, Іванам Касяком, Міколам Шчорсам, Лявонам Савёнкам і Віктарам Чабатарэвічам быў заснаваны Камітэт незалежнай Беларусі:

*«Камітэт Незалежнай Беларусі заснаваны ў Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі групай беларусаў, якія падпісалі гэты Статут арганізацыі 29 кастрычніка 1955 году.*

*Мэтай дзейнасьці КНБ зьяўляецца дапамога беларускаму народу ў справах:*

*— вызваленьня Беларусі з-пад акупацыі яе савецкай Расеяй;*

*— недапушчэньне да акупацыі Беларусі іншымі дзяржавамі;*

*— адбудова незалежнай беларускай дэмакратычнай дзяржавы на ўсіх этнаграфічных абшарах расьсяленьня беларускага народу на асновах дэмакратычных ідэалаў заходняга сьвету з ЗША на чале;*

*— абарона інтарэсаў беларускага народу, які пазбаўлены магчымасьці волевыяўленьня акупацыйнай уладай савецкай Расеі ды яе сатэлітаў;*

*— аб’яднаньне ўсіх беларускіх сілаў для нацыянальна-вызвальнай справы»*[1084].

Другая адметнасць «Летапісу» і сакрэт увагі да выдання хаваліся ў разуменні рэдактарам такіх паняткаў як архіў, дакумент, праўда. Словы-тэрміны самі па сабе звычайныя, простыя да разумення і ўжытку — аж да таго самага часу, калі не пачынае заходзіць пра вышэйшыя ідэі ды ідэалы, пра «нячасавасць» ці нават шкоднасць праўды, калі распачынаюцца размовы «аб праўдзе нашай і вашай».

Мікола Панькоў і ў 1980-х — пачатку 1990-х гг. рабіў свой «Летапіс» — калі сам, калі з нешматлікімі паплечнікамі (аднаго варта назваць — гэта Васіль Шчэцька, сталы памагаты ў выданні часопісу) па тых, звыклых яму з часоў лагераў *DP*, тэхнічных працэсах: на аркушы паперы наклейваў загаловак, малюнкі-ілюстрацыі, што браліся звычайна з савецкіх выданняў, ды наклейваў дакументы, што мелі складаць змест выдання: тэксты статутаў, перадрукі з рарытэтных выданняў, лісты. Так, неад’емнаю часткаю — і ці не найбольш карыснаю, прынамсі з гледзішча сучаснага часу — былі лісты. Прыватныя лісты з перададзеных ва Усебеларускі архіў прыватных архіваў (а значыць, адкрытыя для грамадства), змешчаныя факсіміле — без аніякіх правак, купюраў, цэнзуры. Праўда, часам, калі лісты былі напісаныя нечытэльным почыркам, рэдактар мусіў іх перадрукоўваць нанава, што дазволіла непрыхільным да выдання гаварыць аб падробках. Раіса Галяк, удава Леаніда Галяка, чалавека блізкага да «Летапісу», так пісала аб гэтым у лісце да Яна Пятроўскага:

---

1084 Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 37. 1955. С. 91.

*«Мэта «Летапісу» — ад пачатку выданьня (1948 г. і да сяньня*[1085]*) — захаваць для наступных гісторыкаў Беларусі дакладную дакумэнтацыю жыцьця й дзейнасьці нашай эміграцыі. Якія мы ёсьць, такія і ёсьць, без самарэклямы й самашуканства. А імкнуцца быць лепшымі — абавязак кожнага чалавека й беларуса. Падаваць фальшыўкі дакумэнтаў, толькі з карыснымі для нас ці некага «выбрыкамі», не адпавядае людзкому гонару. Праўда заўсёды выйдзе наверх. [...] Я пэўная, што Вы, паважаны айцец Ян, не хацелі б, каб і з нашымі архівамі сталася тое ж, што сталася з багатым Беларускім архівам у Празе, архівам БНР М. Абрамчыка, а магчыма й з архівам ды ўспамінамі Ю. Сабалеўскага»*[1086].

«Летапіс», гэтыя звычайныя аркушы паперы з наклеенымі лістамі і надрукаванымі на машынцы матэрыяламі, памножанымі на капіявальнай машыне, мае гадавы паказнік зместу, што дазваляе арыентавацца ў гэтым багацці інфармацыі: перадрукі вядомага па лагерах *DP* часопіса «БІС» , рэдагаванага Юркам Віцьбічам; дапаўненні да аўтабіяграфіі Радаслава Астроўскага, напісаныя Сяргеем Віленскім; артыкул Кастуся Езавітава «Слуцкае народнае змаганьне»; хроніка жыцця Янкі Станкевіча; дакументы Рады БНР, БЦР, Беларускай Аўтакефальнай Царквы, Беларускага праваслаўнага аб'яднаньня, Беларускай народнай грамады, Беларускага вызвольнага фронту, Беларускага дапамаговага камітэта, Сусветнага аб'яднання беларускай эміграцыі; і ліставанне: Антона Адамовіча, Радаслава і Віктара Астроўскіх, Часлава Будзькі, Віктара Васілеўскага-Войтанкі, Юркі Віцьбіча, Леаніда Галяка, Язэпа Гладкага, Антона Даніловіча, Мікалая Дзямідава, Людвіка Зарэчнага, а. Мікалая Лапіцкага, Вацлава Пануцэвіча, Алеся Салаўя, Аляксандра Стагановіча, Янкі Станкевіча, Сяргея Хмары, Антона Шукелойця.

«Летапіс» дазваляе зарыентавацца ў царкоўных праблемах, расколе праваслаўнай царквы на эміграцыі; зразумець прычыны лагерных закалотаў, у тым ліку гісторыю з «крывічамі» і «зарубежнікамі»; ацаніць няпростую «трэцюю сілу»… Сапраўды, «Летапіс» стаўся найбагацейшаю крыніцаю нутраной, неафіцыйнай, не падфарбаванай гісторыі эміграцыі.

Праўда, выданне няшмат інфармацыі падае пра самога рэдактара — хіба толькі ўскосна, у звязку з іншымі гісторыямі і асобамі. Гэтак, з лістоў Стася Станкевіча даведваемся, што Мікола Панькоў ініцыяваў і браў удзел у складанні зборніка Вацлава Ластоўскага «Творы»[1087]:

Панькоў быў вядомы ў грамадзе як кніжнік, архівіст, які нямала каго дзівіў у лагерах *DP* тым, што замест уладкавання ўласнага дабрабыту займаўся пошукам старых папераў:

---

[1085] «Летапіс» выходзіў практычна да самай смерці Міколы Панькова. У ягоным архіве засталіся напрацоўкі, якія сведчаць, што існаваў намер працягваць выданне і надалей.

[1086] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 68. Верасень 1989. С. 119.

[1087] Власт (Вацлаў Ластоўскі). Творы, 1956. — 111 с.

*«Выбачайце, Сп. Панькоў, ніяк не зьбяруся нарысаваць. Аб гэтых малюнках Хмара прасіў мяне яшчэ перад выездам маім і ягоным у пераходны лягер. Безумоўна, тады я ня мог і думаць аб рысаваньні: пакаваньне, зборы, дэнэрваваньне, выезд, правал на камісіі, паварот назад у лягер, страта памешканьня, каля месяца жыцьцё ў цесным прахадным пакоіку — усё гэта абставіны, пры якіх немагчыма было й думаць аб маляваньні, дадаўшы да гэтага вельмі абмежаваныя здольнасьці да гэтага мастацтва. Цяпер ізноў прыгатаўленьне на выезд у пераходны лягер, дэнэрваваньне, а тут жонка стала нібыта працаваць і на маёй галаве лягло гадаваньне дзіцяці й гатаваньне ежы. Апрача таго, я дакладна не разумею, якія малюнкі патрэбныя і што яны павінны характарызаваць, бо Хмара так рвана й хаатычна падаў тэмы, што я не магу выразна ўявіць.*

*Што да архіву Езавітава, дык Шкутка можа найменш ускубнуў зь яго. «Парадкавалі» яго Астроўскі, др. Манькевіч і Пётра Орса, можа трохі Сянькевіч, а памагалі ім хлопцы, якія там жылі: Занкавіч, Маеўскі, Ігнатовіч і Алег (прозьвішча ня ведаю). Ужо ў Ватэнштэце ў гэтых хлапцоў я знайшоў на стале пару журналаў з архіву й пасьля пераслаў Вам. На маё пытаньне ў гэтай справе яны вельмі неахвотна й вымінаюча адказвалі. Аб тым, што архіў «парадкавалі», сказаў мне ў свой час П. Орса. Каб была магчымасьць, дык Шкутка яго, напэўна, забраў бы, бо ў 1946–1947 гг. ён часта ўспамінаў пра яго й пару разоў езьдзіў туды.*

*Моцна цісну руку. З пашанаю А. Васіленя. 25.08.1949»*[1088].

*«Даражэнькі Мікола!*

*У справе архіву К. Е. [Кастуся Езавітава], дык мне яшчэ не зусім ясна. У каго й дзе ён фактычна знаходзіцца, пад чыёй апекай і хто на гэта мае правы? Хто такі Шкутка? Якое простае ці пабочнае дачыненьне ён мае да архіву?*

*Я думаю, што ніякай абвесткі ў газэту ня трэба даваць. Ці ня можна было б проста напісаць ад імя тут пражываючых беларусаў з Латвіі ўпаўнаважаньне, нават подпісы зацьвердзіць у натарыюса, з просьбай перадаць нам гэты архіў на перахову, аж пакуль, магчыма, ня зьявіцца сам К. Е. (бо аб долі яго яшчэ дакумэнтальна ня сьцьверджана, магчыма, ён яшчэ й жыў). І мы, як землякі, маем на гэта маральнае права. Пры гэтым скласьці акт, у якім стане мы яго перанялі, за што мы нясем адказнасьць. Аб гэтым пры сустрэчы пагутарым дакладней.*

*Пака будзь здароў! Твой Б. Юрэвіч. 17.10.1948»*[1089].

Не, нельга сказаць, што дзейнасць Міколы Панькова ў эміграцыйным асяроддзі не знаходзіла паразумення, падтрымкі і спрыяння. Ён вёў актыўнае ліставанне, меў аднадумцаў, калегаў:

---

[1088] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 64. Сакавік 1989. С. 23.

[1089] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 64. Сакавік 1989. С. 23–24.

*«Паважаны Мікола!*

*Ваш ліст дастаў у мінулым тыдні і адпісваю звычайнаю поштаю, бо ўкладаю для архіву пару фотаздымкаў і мой прымітыўны абразок, за які палескі ваявода Костэк-Бэрнацкі хацеў мяне «давесьці да шыбеніцы» — як ён казаў аб гэтым самому біскупу.*

*Разумею Вашы клопаты са зборамі архіву, бо Спадара ведаю аж лішне добра, каб трэба было тлумачыць аб ягоных адносінах да грамадзкае справы. Адзіная рада на ўсе цяжкасьці — вытрываць на добрым шляху. Ёсьць добрая турэцкая прыказка, якая кажа, што выйшаўшы ў дарогу, няма калі адбрэхвацца ад сабакаў, бо іх ніколі не перабрэшаш, а трэба йсьці ўперад, дык сабакі самі перастануць брахаць. Гэта сапраўды залатая рада ў нашых адносінах з брахунамі й пустамелямі.*

*Твой а. Леў [Гарошка]»*[1090].

Але ішоў час, адныя сябры памiралі, іншыя займаліся ажыццяўленнем уласных праектаў, часам надта ж далёкіх ад збору папераў. Калі ж і збіралі архівы, дык — свае ўласныя, не маючы намеру даваць іх у карыстанне каму-небудзь ці перадаваць ва Усебеларускі архіў. Праз гэта было страчана нямала па-сапраўднаму вартага — спарахнела, знікла, было выкінута.

Марнасць высілкаў на працягу 40 гадоў, нябачанне плёну прыгнятала Панькова. Ён усё радзей выбіраўся на людзі, усё часцей сыходзіў у сваю кніжніцу не з новаю кнігаю, а з напоем, бо не меў разумення і ва ўласнай сям'і: жонка даўно адышла ад беларускай дзейнасці, кінула пісаць, затое палюбіла катоў, якіх у хаце было не менш за тузін — рознага веку катоў і котак, чыім улюбёным заняткам было адпачываць на папяровых скарбах «ларніка вучонага». І праз год па смерці Міколы Панькова кнігі, камплекты часопісаў, газетаў, тэчкі з архіўнымі матэрыяламі, нават мэбля, нават сцены, здавалася, мелі той спецыфічны пах, што нагадваў пра сапраўдных гаспадароў хаты.

Як пісаў у газеце «Беларус» Васіль Шчэцька:

*«Калі М. Панькоў памёр, паўстала пытаньне, куды перадаць зборы М. Панькова? Меркавалася перадаць на Беларусь, але рэфэрэндум Лукашэнкі (14.05.1995) паказаў, што гэтага кроку рабіць няможна. Тады Ніна Тэсла (дачка М. Панькова) і прыяцелі Нябожчыка Васіль Шчэцька й Канстанцін Мярляк пастанавілі перадаць архіў і бібліятэку ў Фундацыю П. Крэчаўскага, што ў Квінсе. Кіраўніцтва Фундацыі прыняло прапанову й матэрыялы былі перавезеныя ў іх памешканьне 9.12.1995.*

*Хочацца спадзявацца, што калекцыі Міколы Панькова ўпарадкуюцца, што дасьць магчымасьць дасьледчыкам гэтыя матэрыялы вывучаць і выкарыстоўваць для гісторыі беларускай эміграцыі»*[1091].

*Лявон Юрэвіч*

---

[1090] Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі. № 67. 1989. С. 85.

[1091] Беларус. № 436. Ліпень 1996. С. 5.

# ПСЕЎДАНІМ — КРЫВІЧАНІН: ЛЯВОН САВЁНАК[1092]

Нарадзіўся Лявон Савёнак 26 чэрвеня 1897 г. на Глыбоччыне ў вёсцы Вялец у сям'і Вікенція (1865–1898) і Вольгі (1869–1962) Савёнкаў. Пачатковую асвету здабыў у Глыбокім, куды пераехаў разам з маці і старэйшымі сёстрамі, Анютай і Ксеняй, пасля смерці бацькі вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1917 г. Тут разам з ім студыявалі такія знаныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху, як Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётра Мятла, Флягонт Валынец, Міхась Чарот. Пасля семінарыі два гады вучыўся ў кадэцкім корпусе ў Пецярбургу.

На пачатку першай беларусізацыі, у 1922 г., Лявон Савёнак з групай глыбоцкіх настаўнікаў прыехаў у Менск, дзе пазнаёміўся з настаўніцай Апалоніяй Радкевіч, якая сталася ягонай жонкай. У 1922 г. у іх нарадзіўся сын Лёдзік, а ў 1927 — дачка Зора. Сям'я засталася жыць у Менску.

У хуткім часе Усевалад Ігнатоўскі паклікаў Лявона Савёнка працаваць карэспандэнтам у газету «Савецкая Беларусь», што тады друкавалася пабеларуску. Савёнак многа ездзіў па Беларусі, пісаў рэпартажы і фельетоны.

У склад рэдакцыі «Савецкай Беларусі» таксама ўваходзілі М. Маразоўскі (Гурын), рэдактар, постаці якога не адну старонку ва «Успамінах» прысвеціць праз гады Васіль Рагуля[1093], Змітрок Бядуля, Міхась Чарот, Янка Пашкевіч, Павал Каравайчык. Алесь Дудар у сваіх паказаннях па сфабрыкаванай справе «Саюзу вызвалення Беларусі» расказваў пра атмасферу ў газеце, што яна *«мала падобна была да атмасферы савецкай газеты. Адчувалася, што большасць супрацоўнікаў аддае сваю працоўную сілу і гэтым абмяжоўваецца: погляды ж свае разглядае як нешта асобнае, незалежнае ад той справы і ад тых прынцыпаў, якія праводзіла газета. Праўда, ніякіх антыпартыйных і антысавецкіх гутарак не было, але адчувалася і само сабой разумелася, што партыя сама па сабе, а «Савецкая Беларусь» сама па сабе»*[1094]. І як вынік — 27 чэрвеня 1929 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б) Б У. Затонскі, які ўзначальваў камісію па праверцы нацыянальнай работы ў БССР, абвінаваціў газету ў нацыянал-дэмакратычных скажэннях: менавіта на старонках гэтай газеты, пазней названай *«утульным прыстанішчам беларускіх нацыяналістаў»*[1095], друкаваўся артыкул Паўла Трамповіча *«Шляхі беларускай інтэлігенцыі»*[1096], былі выдрукаваныя артыкулы Міхася Зарэцкага

---

[1092] Тэкст першапачаткова быў часткай прадмовы да выдання: Крывічанін, Лявон. Беларусізацыя пад № … Нью Ёрк, 1998. — 164 с.

[1093] Рагуля, Васіль. Успаміны. Нью Ёрк, 1957. — 127 с.

[1094] Міхнюк, Уладзімір. Арыштаваць у высылцы. Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. Мінск, 1996. — С. 42.

[1095] Платонаў, Расціслаў. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20-30-х гадоў. Мінск, 1996. С. 120.

[1096] Савецкая Беларусь. 1925. 21 кастрычніка.

і Тодара Глыбоцкага, што распачалі *«тэатральную дыскусію»*[1097], а таксама вядомы *«Ліст 3-х»* (Андрэя Александровіча, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага) супраць антыбеларусізацыі[1098].

Не дзіва, што Савёнак быў звольнены з працы ў газеце як нацдэм. З лютага 1929 г. ён працаваў на будоўлі, на заводзе «Ударнік», з ліпеня 1932 г. — стыльрэдактарам навукова-тэхнічнага выдавецтва. Але гэта не змяніла ані ягоных поглядаў, ані паводзінаў. Нават больш. Як пісаў сакрэтны супрацоўнік ГПУ ў сваім чарговым даносе: *«такія заядлыя беларускія культурнікі як Чаржынскі, Бялькевіч, Пашковіч, Савёнак, Кахаоўскі і шмат хто іншы, хто раней у штодзённым прыватным і грамадскім жыцці гаварыў выключна па-беларуску, пачалі з усмешачкай утрыравана гаварыць па-руску, дадаючы: няхай ужо іншыя гавораць на нацыянал-дэмакратычнай мове, а мы будзем гаварыць на інтэрнацыянальнай»*[1099].

Зразумела, што новых рэпрэсій доўга чакаць не трэба было.

Пасля разгрому Грамады ў 1927–1929 гг. ды барацьбы з нацдэмаўшчынай у 1930–1931 гг. новым этапам вынішчэння беларускага народу стаўся разгром, што ўвайшоў у гісторыю як «Справа Беларускага нацыянальнага цэнтра».

10 жніўня 1933 г. былі арыштаваны былыя беларускія дэпутаты ў польскі Сойм, а з 1 верасня пачаліся масавыя арышты: толькі за адну ноч схапілі больш за 90 асобаў. Бралі не толькі ў Менску, але і ў Маскве, на Каўказе, на Урале. Да 1 лістапада па справе БНЦ было арыштавана 9700 чалавек, у тым ліку і Лявон Савёнак. 15 студзеня 1934 г. Калегія ГПУ вынесла прысуд: зняволенне ў лагерах. Падрабязнасці пра той суд ды наогул ход самой справы добра адлюстраваныя ў артыкуле «Крыжоваю дарогаю», надрукаваным у газеце «Беларус» ад 1 жніўня 1954 г. Артыкул падпісаны Лявонам Крывічаніным — псеўданімам Лявона Савёнка.

Калі б не гэтым разам, дык іншым Савёнак абавязкова трапіў бы ў кіпцюры ГПУ, якое даўно мела свае віды на аўтара кніжкі фельетонаў «Чароўная іголка». Аўтар прыкрыўся імем Лявона Свэна — яшчэ адным псеўданімам, але гэта падманула хіба толькі бібліятэчных супрацоўнікаў, якія каталагізавалі кніжку як належную замежнаму, шведскаму, пісьменніку. Дакладней, пачалі каталагізаваць, бо хутка агледзеліся пільныя супрацоўнікі «органаў», кнігу забаранілі і знішчылі бадай што ўвесь наклад, а ён быў немалы — тры тысячы асобнікаў.

Пяцігадовую высылку Лявон Савёнак адбываў спачатку ў Паўднёвай Сібіры, а потым у Алтайскім Краі. Працаваў на будоўлях, дзе цесна сышоўся з сіяністамі з Менска, якіх было даволі шмат, моцна згрупаваных, з добрымі

---

[1097] Савецкая Беларусь. 1928. 11, 13 лістапада.

[1098] Савецкая Беларусь. 1928. 4 снежня.

[1099] Платонаў, Расціслаў. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Грамадзянскія пазіцыі ва ўмовах нарастання ідэолага-палітычнага дыктату ў Беларусі 20–30х гадоў. Мінск, 1996. С. 268–269.

кантактамі, як казалі, ажно ў Швейцарыі. Яны добра паставіліся да беларускага нацыяналіста і прапанавалі нават сваю дапамогу, сувязі. Лявон Савёнак пачаў аб'ядноўваць вакол сябе беларусаў, але нехта данёс — і сяяністаў раскідалі па розных лагерах, а самога Савёнка перавялі ў штрафныя калоны.

Ужо на эміграцыі, у ЗША, ён будзе сведчыць перад Камісіяй Керстана аб Савецкіх канцлагерах.

У 1939 г., калі тэрмін пакарання скончыўся, Лявон Савёнак вярнуўся на Беларусь і настаўнічаў у вёсцы каля Крычава, а пасля ў ваколіцах Менска, бо ў самім горадзе жыць яму было забаронена.

Улетку 1941 г., пасля акупацыі Менска немцамі, Савёнак быў інтэрнаваны, як і ўсё мужчынскае насельніцтва горада, і некалькі тыдняў праседзеў на Камароўскіх балотах пад Менскам. А калі пачалася «другая беларусізацыя», працаваў журналістам у «Беларускай газеце». Антон Шукелойць успамінае:

*«Я пазнаёміўся з Лявонам Савёнкам, прыйшоўшы ў Менск і добра адпачыўшы пасьля пабояў у турме. Гэта быў 1941 год, думаю, кастрычнік месяц, хутка пасьля прыходу немцаў.*

*Я прыйшоў ва Ўправу гораду, каб сустрэцца зь Вітаўтам Тумашам, старшынём Управы. Тумаш — мой калега па ўнівэрсітэту, і я вырашыў у яго знайсьці эвэнтуальна нейкую параду. І вось я зайшоў да Тумаша, пагутарыў зь ім.*

*Тумаш быў вельмі заняты й адправіў мяне да Антона Адамовіча. Адамовіч кажа:*

*— Заставайся тут са мною, тут сягоньня будзе першая палітычная нелегальная нарада. Трэба разгледзець сытуацыю, якая да гэтага часу была, і што маем далей рабіць.*

*І вот я ў яго застаўся, ён канчаў сваю работу. Ягоная канцылярыя была даволі вялікая. Пачалі зьбірацца людзі на нараду. Прыйшоў Усевалад Родзька, які й быў ініцыятарам гэтае нарады, тады падышлі Савёнак, Алесь Матусэвіч, Сінькевіч, Гуцька. Словам, было там чалавек, можа, з дваццаць. Тумаша ня было. Але Тумаш аб гэтай нарадзе ведаў, таму што, калі нарада скончылася, ня помню хто, сказаў:*

*— Цяпер, хлопцы, ідзём да Тумаша на абед. Вы ўсе запрошаныя.*

*Ну вось, там я пазнаёміўся з Савёнкам. Як ён выглядаў? Моцна сіваваты, меў доўгія валасы, такія характэрныя, як казалі, даўней эсэры насілі. Такі бадзёры, вельмі бадзёры.*

*Аб гэтай нарадзе я ўжо многа разоў гаварыў. Нарада была ў справе разгляду сытуацыі. Ужо ішлі нямецкія пагромы. І мы прынялі некалькі пастаноў: беларусізацыю ўстаноў гораду, школьніцтва, тэатру, адміністрацыі, цэркваў. І галоўнае было пастаноўленьне — арганізаваць Беларускую Незалежніцкую Партыю. Так што гэтая нарада й была пачаткам Беларускай Незалежніцкай Партыі, тыя людзі яшчэ далей праводзілі такія апытаньні, і першы сход яе адбыўся ў канцы 1942 году ў памяшканьні Саковіча. Саковіч быў начальнікам паліцыі, але ў гэтым самым руху Беларускай Незалежніцкай*

*Партыі быў ад самага пачатку й зьяўляўся адным зь ініцыятараў. Таксама, як Вітушка і Касмовіч.*

*Пасьля мы пайшлі да Тумаша на абед. Тумаш, ягоны заступнік Вітушка й начальнік тады паліцыі Касмовіч жылі ў адным вельмі цікавым доме былшага генэрала Паўлава, камандуючага Беларускай ваеннай акругі, якога потым бальшавікі расстралялі за нядбаласьць: ён не дагледзеў напад немцаў на Савецкі Саюз. Быў расстраляны ён і ягоныя заступнікі, па-мойму, цэлы штаб.*

*Жылі яны ў гэтым доме, які вельмі добра ахоўваўся. Гэтая вуліца паралельная да галоўнай, ці цяперашняга прасьпекту Скарыны. Па-мойму, Кірава яна была. Гэты дом яны занялі таму, што ён вельмі добра ахоўваўся. Яны жылі на першым паверсе. Ды й сам дом, здаецца, быў аднапавярховы мураваны з моцнымі сталёвымі аканіцамі, што закрывалі вокны.*

*Вось пры абедзе я там найбліжэй пазнаў Савёнка. Пры абедзе нас было чалавек таксама, можа, дваццаць. Стаяў доўгі стол, і там Савёнак дэманстраваў гэтую кнігу, вынесеную з КГБ, тады НКВД, кнігу абвінавачваньняў, ці прысудаў Беларускаму Нацыянальнаму Цэнтру. Зьвярніце ўвагу, вельмі многа ёсьць памылак, што да гэтай кнігі, яе інакш называюць і розна гавораць, дзе яна падзелася. Артыкул Савёнка — найлепшы артыкул пра Беларускі Нацыянальны Цэнтар. І пра гэтую кнігу ён там успамінае. У кнізе гэтай сьпіс усіх, ці, можа, калі ня ўсіх, то бальшыні пакараных тады ў Менску дзеячаў Беларускага Нацыянальнага Цэнтру.*

*У асноўным гэта былі дзеячы Заходняй Беларусі: Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валынец, Дварчанін, Каханові і іншыя. Пасьля былі далучаныя й усходнебеларускія дзеячы. Дарэчы, Савёнак быў у ліку тых дзеячаў (іх было нямнога, некалькі чалавек, па-мойму, магчыма на пальцах адной рукі палічыць), што ня прызналіся да віны. А там усе прызналіся, хаця такога Беларускага Нацыянальнага Цэнтру ня было. Была гэта выдумка Масквы. Чарговая, як і той у часы нацдэмаўшчыны, у 1930 годзе, Саюз Вызваленьня Беларусі.*

*На абедзе гаворкі былі, у асноўным, пра палітыку. І Савёнак найбольш актыўны тады быў, расказваў пра гэты Беларускі Нацыянальны Цэнтр, пра гэтую кнігу, дэманстраваў яе. Гэта быў такі машынапіс, прыблізна фармату канцылярыйнай паперы й добра зложаны й добра апраўлены. КГБ, ці НКВД, стараліся трымаць архівы ў парадку.*

*Гаворак пра літаратуру было многа. Савёнак заўсёды вясёла расказваў свае фэльетоны. Ён быў адным з тых вязьняў, што цяжка сядзеў, таму што з гэтых сасланцаў усякія былі людзі, якіх пасьля турмы ссылалі на пасяленьне. Вось так, як Адамовіч, напрыклад. Праўда, ён ня з гэтага працэсу, а з 1930 году — працэсу Саюзу Вызваленьня Беларусі. Але ён быў сасланы й там, недалёка Вяткі, здаецца, у Мардовіі ці Ўдмурдзіі сядзеў сабе — быў настаўнікам. І Кіпелі там недалёка былі, і Ул.Жылка.*

*А Савёнак — Савёнак быў у лягерох! Спачатку ён, здаецца, быў у Комі на лясных работах, яго перавезьлі, ня знаю куды. У кожным разе, яго пера-*

везьлі ў такое месца, дзе ім было значна лепей. Ён казаў, што там ім давалі зацірку, жытнюю зацірку, і яны ад той заціркі пасьля такога голаду, які раней мелі, паразьядаліся, казаў, о-о-о!

У «Менскай газэце» Савёнак быў адным з супрацоўнікаў. Калі хто хоча ведаць яшчэ аб тых часох, газэце, то там фактычна гэтая група — Адамовіч, Савёнак, у меншай меры Арсеньнева — вызначала палітычны кірунак газэты. Вось калі трэба было пра нешта даведацца, ішлі ў газэту.

Набліжаліся Дзяды. Я за час, што жыў у Менску, аблазіў усе могілкі. Знайшоў і магілу Сьцяпана Булата. Потым гэтыя могілкі разбурылі. А цэркаўка там і цяпер стаіць. Маленькая.

На Вайсковых могілках пахаваны Эдуард Самуйлёнак. Ягоная магіла недалёка ад царквы. І яшчэ адна магіла была — ці не Чарвякова? На гэтых магілах ня было ніякіх знакаў. У мяне ўзьнікла думка паставіць крыжы на гэтыя магілы. Але-ж то ўсё былі камуністы. Савёнак кажа:

— Няважна, што камуністы. Па-першае, гэта хрышчоныя людзі, а па-другое, — беларускія патрыёты. У тых умовах, у якіх яны жылі, яны, магчыма, не маглі інакш сябе паказаць. Так што стаў крыжы.

І я паставіў крыжы.

Там, у Менску, мы некаторы час жылі з Савёнкам у адным раёне. І таму я зь ім часта ішоў дахаты, часта сустракаўся. Гэты раён недалёка ад Акадэміі навук. Там Дом друку. І ад Дому друку, каліісьці ў маскоўскім кірунку, то былі такія домікі для працаўнікоў друку. У адным з такіх домікаў я жыў з Алесем Матусэвічам, а ў другім такім-жа, толькі на іншай вуліцы, жылі Савёнкі. Так што я вельмі часта з Савёнкам сустракаўся, такія блізкія дачыненьні зь ім былі.

На эміграцыю мы ехалі разам, ці не ў адным вагоне. У Нямеччыну мы таксама паехалі разам, разам трапілі ў Бэрлін, там большая частка беларусаў засталася, а мы з Савёнкам паехалі ў Сілезію. А там уладкоўваліся па-рознаму. Жылі ў лягеры працаўнікоў, якія былі занятыя на розных фабрыках. Там мы зноў разлучыліся. Не знаю, як яны паехалі, а я паехаў праз Бэрлін зь Янкам Ліманоўскім.

Савёнак — вельмі сьціплы чалавек. Гэта адно. Па-другое, чалавек прасталінейны. Ня любіў улазіць у такія сытуацыі, дзе мог скампрамэнтаваць сябе. Таму аб ім так мала засталося зьвестак, нягледзячы на тое, што гэта такі моцны духовы чалавек, вельмі моцны. У яго няма такой багатай перапіскі, як, напрыклад, у Віцьбіча. Потым у Нью-Ёрку ён ня так доўга й быў. У хуткім часе яны выехалі зь Нью-Ёрку, купілі такую малую фармачку, курыную, і там ён ужо заставаўся. Аж да сьмерці. Зь людзьмі ён сустракаўся толькі ў сьвяты. Ці калі мы прыяжджалі да яго ў госьці. Раз на год я заўсёды езьдзіў да іх летам.

Як фэльетаніста Савёнка вельмі высока цанілі. Ягоны «Дзёньнік», што ішоў у падвалах «Беларускай газэты», цанілі вельмі высока. А на эміграцыі ён напісаў пару фэльетонаў, можа, пару артыкулаў у газэту. Дарэчы, і там, у

*Менску, ён ня толькі фэльетоны пісаў. І артыкулы таксама. Вельмі добрыя артыкулы ягоныя на эканамічныя тэмы. Ясна, пад рознымі псэўданімамі ўсе. Пра ягоную даваенную кнігу, думаю, ня было шырока ведама. Ён увогуле не належаў ні да «Маладняка», ні да «Ўзвышша». Ну а ў пісьменьніцкім гурце ён быў. Гэта група, у якой быў Чарот, ягоны зямляк, дарэчы. Яны разам вучыліся й былі ў вельмі блізкіх дачыненьнях. Савёнак часта расказваў пра Чарота.*

*На эміграцыі быў ня толькі «сум па радзіме». Я ня думаю, што так многа месца прысьвячалі суму, як пра эміграцыю пішуць. Была праца, я сказаў-бы, у заступніцтве незалежнай думкі й незалежнай ідэі, праца для незалежнасьці Беларусі. А вось суму там спэцыяльна я не заўважыў.*

*Мне цяжка сказаць, чаму Савёнак не надрукаваў тут кнігі, хаця так многа напісаў. Думаю, проста праз сваю сьціпласьць. Ён як журналіст вельмі моцны. Вось мне ведамы такі факт цікавы. Кабыш (Кандыбовіч) быў загадчыкам СТО, галоўнай гандлёвай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі. Адзін раз яму трэба быў такі моцны артыкул у газэце. Ён кажа: «Знаеце што, хлопцы, свіньню вам цэлую дам за добры артыкул» (гэта перад Калядамі было ці што?). Тады сабралася рэдакцыя: свіньня — гэта-ж вялікая справа ў час нямецкай акупацыі, і сталі рашаць, хто напіша артыкул. І даручылі Савёнку. У яго ёсьць такія на эканамічныя тэмы артыкулы на першай старонцы газэты. Думаю, што гэта, магчыма, было ў 1942 годзе. Так што Савёнак, як журналіст, у час нямецкай акупацыі ў гэтай беларускай газэце быў самы моцны. Ня толькі фэльетаніст. Фэльетоны — гэта між іншым, але калі гавораць пра Савёнка, то нібы гэта асноўны ягоны жанр. Але ён ня вельмі хацеў пісаць.*

*Савёнак, дарэчы, выратаваў Адамовіча ў час вайны. Там, у рэдакцыі, быў такі звычай: а 12-й недзе гадзіне ўсе ішлі на абед у сталоўку Самапомачы. Яна была на вуліцы, якая ў савецкія часы называлася Камсамольская (і цяпер, відаць, так), а ў часе вайны яе былі назвалі вуліцай Алеся Гаруна. Абед звычайна быў просты: зацірка, крупнік, яшчэ там нешта.*

*Я часта заходзіў туды да іх. Вярталіся ў рэдакцыю. Савёнак падышоў да Адамовічавага стала папрасіць пяро. Яму на нешта патрэбна было. Адамовіч адчыніў столік, глядзіць — там ляжыць бомба, міна. І па-расейску напісана: «Не трогать!» Адамовіч, як пабачыў, крыкнуў на ўсіх: «Уцякайце!» Мы ўсе павыходзілі, пазванілі ў паліцыю. Прыйшоў паліцыянт з нашай, мясцовай, паліцыі. Ён узяў гэтую міну выносіць, вынес яе з будынку, і перад будынкам яна разарвалася. У руках. І паліцыянта разарвала. Паліцыянт той быў фолькс-дойч, менскі немец. Пасьля гэтага немцы сказалі Адамовічу, каб ён неадкладна выехаў у Бэрлін. І ён пасьля гэтай бомбы на другі ці на трэці дзень выехаў. А Савёнак застаўся. І ўжо пасьля гэтага нейкі спалох наступіў у рэдакцыі. Дарэчы, тады сярод гасьцей быў зь Вільні прыехаўшы наш драматург Аляхновіч. Я там быў, але я раней выйшаў. А хто міну падлажыў? Нічога ня ведама. Ці гэта была бальшавіцкая работа, ці*

*нямецкая… Адамовіч ня быў карысны для немцаў. Таму яны маглі хацець яго пазбыцца»*[1100].

Напрыканцы сакавіка 1944 г. кіраўніком рэпертуарнай секцыі Беларускага культурнага згуртавання Янкам Ліманоўскім было прынятае рашэнне ажыццявіць пастаноўку камічнай оперы «Тарас на Парнасе», і ён запрасіў Лявона Савёнка напісаць лібрэта. Той ужо пачаў накідваць тэкст, характарыстыку сцэнічных вобразаў, але не хапіла часу. Апошні запіс у сшытку напрацовак — горкі: *«Калі на «Ўзвышша» ўсходзілі 5 месяцаў, дык на Парнас пры такіх тэмпах можна залезьці за тры гады»*[1101]. Сапраўды, часопіс «Узвышша», які меліся аднавіць, быў цалкам гатовы да друку, але свету не пабачыў, адбіты быў толькі няпоўны сігнальны экзэмпляр. Не ўбачыла свету і опера «Тарас на Парнасе».

Герой самага вялікага твора Савёнка, Іван Іванавіч Чужанінаў, піша дзённік на працягу года, а вось сам аўтар, на жаль, ніякіх запісаў не вёў — так, зрэдзьчасу пакідаў радок-другі ў сшытку, да якога потым ніколі не вяртаўся. І ўсё ж:

*«28.06. Ноч у БЦР. На Паўночным вакзале. Ноч на таварнай.*

*29.06. Бамбардавалі. Правадыры ў кусты. «Герой», які напачатку хадзіў з аўтаматам, паваліўся зь перапугу ў яму з глінай. Выйшаў пад раніцу, як зэбра.*

*— Навесілі!*

*— На нас?*

*— На нас.*

*30.06. Стоўбцы. Трывога. Паэта (або пісьменьнік) ліе горкія сьлёзы (ладна выпіўшы) — толькі паэта можа зразумець гэта. Можа глядзімо на гэта апошні раз»*[1102].

Развітанне сапраўды было назаўсёды. Пачалася эміграцыя, а з ёй — чарговы, «новы этап беларусізацыі», які, што праўда, у нашай гісторыі яшчэ не атрымаў свайго «парадкавага нумару».

У Нямеччыне Савёнак апынуўся спачатку ў беларускім лагеры *DP* у Міхельсдорфе, а потым у *DP* Остэргофен, заснаваным зімой 1947 г. Прытулак у ім знайшлі больш за 400 беларусаў. Дзякуючы Станіславу Станкевічу, Антону Адамовічу, Міколу Равенскаму ды Апалоніі і Лявону Савёнкам гэты лагер стаўся адным з цэнтраў беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Тут пачала выдавацца газета «Бацькаўшчына» (першы нумар выйшаў 31 кастрычніка 1947 г.), якая адыграла выключную ролю на эміграцыі: тут працавала драматычная студыя пад кіраўніцтвам Аўгена Кавалеўскага; тут выдаваўся часопіс «Рух», была сядзіба Беларускага нацыянальнага цэнтра (БНЦ).

У Статуце БНЦ мэты і заданні былі акрэслены наступным чынам: *«Беларускі Нацыянальны Цэнтар стаіць на грунце дзяржаўнай незалежнасьці*

[1100] Тэкст успамінаў захоўваецца ў архіве БІНІМа.

[1101] Рукапіс. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

[1102] Рукапіс. Захоўваецца ў архіве БІНІМа.

*Беларусі і вядзе сваю працу ў мэтах зрэалізаваньня дзяржаўна-незалежніцкіх ідэалаў, выражаных у акце 25 сакавіка 1918 г. У сваёй палітычнай дзейнасьці БНЦ будзе кіравацца прынцыпамі заходняй цывілізацыі й дэмакратызму, выступаючы супраць усялякіх відаў таталітарызму. БНЦ будзе імкнуцца да цеснага супрацоўніцтва зь іншымі народамі, першым чынам із суседнімі беларускаму, якія знаходзяцца сяньня ў падобным да яго палажэньні й змагаюцца за тыя самыя мэты. Гэтае супрацоўніцтва павінна апірацца на прызнаньне й пашану поўных сувэрэнных правоў кажнага народу й ні ў чым не павінна парушаць інтарэсаў беларускага народу й ягонай нацыянальнай годнасьці. БНЦ зьяўляецца арганізацыяй міжпартыйнай і згуртоўвае ў сабе на дэмакратычных асновах усе палітычна-грамадзкія кірункі беларускае эміграцыі й каардынуе іх дзейнасьць. БНЦ вядзе працу як палітычную, так і сацыяльна-харытатыўную, культурна-асьветную ды ўсялякую іншую, якая можа быць патрэбнай у абставінах эміграцыі».*

Сябрамі БНЦ былі, акрамя Лявона Савёнка, такія ведамыя дзеячы, як Антон Адамовіч, Алесь Вініцкі, Аўген Каханоўскі, Барыс Рагуля, Франц Кушаль, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Янка Сурвіла ды іншыя.

У 1947 г. у лагеры быў выдадзены першы нумар часопіса «Сакавік», не ў апошнюю чаргу дзякуючы Лявону Савёнку. Менавіта ў яго захоўваўся поўны варыянт (у адрозненне ад выдрукаванага Язэпам Лёсікам у 1920 г. у газеце «Беларусь») гістарычнай драмы Каруся Каганца «Сын Даніла». Антон Адамовіч, даведаўшыся, што ў Савёнка ёсць драма Каруся Каганца, загарэўся жаданнем яе выдрукаваць. Так паўстала ідэя новага часопіса. У ім, акрамя навэлы В. Бірыча (Антона Адамовіча) «Афрадыта-Ост», вершаў Рыгора Крушыны, Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, быў змешчаны і пачатак «Дзённіка Чужанінава», які атрымаў новую назву — «Запіскі эмігранта». Выглядае на тое, што аўтар збіраўся не толькі перадрукаваць «Дзённік» з «Беларускай газеты», але і працягнуць жыццяпіс героя ў лагерах *DP*. На вялікі жаль, публікацыя не была скончаная, і працяг «Дзённіка Чужанінава» не ажыццявіўся.

У лагеры Остэргофен Лявон Савёнак працаваў дырэктарам Беларускай гімназіі, якая адчынілася 24 лютага 1947 г. Разам з ім, выкладчыкам матэматыкі, настаўнічалі Антон Адамовіч (гісторыя), Мікола Кунцэвіч (лацінская і замежная мовы), Пётра Манькоўскі (англійская мова), Мікола Равенскі (спевы), Апалонія Савёнак (родная мова і літаратура), Зінаіда Станкевіч (прыродазнаўства і фізіка) ды іншыя. Лявон Савёнак выкладаў таксама на адукацыйных курсах для дарослых.

З лагеру Остэргофен Савёнкі пераехалі ў Розэнгайм, куды перавезлі беларускі лагер, дзе і ён, і ягоная жонка Апалонія прадаўжалі выкладаць у гімназіі. Савёнак часта ездзіў у Мюнхен, дзе інтэнсіфікавалася палітычнае жыццё антыкамуністычнае эміграцыі з СССР. Навязаў Савёнак цеснае супрацоўніцтва з украінскай газетай «Українські Вісті» і рэдактарам Іванам Багряным.

4–5 чэрвеня 1948 г. у горадзе Канстанцы (французская зона) адбыўся з’езд праваслаўных беларусаў, да правядзення якога прыклаў немалыя намаганні і Лявон Савёнак, і сам быў сярод ягоных удзельнікаў. Гэты з’езд стаўся вырашальным у адраджэнні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

У ЗША Лявон Савёнак пераехаў у 1950 г. Гэта быў час, калі ў Радзе БНР, сябрам якое ён быў ад 1947 г., адбыўся раскол (1952–1954 гг.). Прычынай расколу было стаўленне да палітыкі «Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму» (першапачатковая назва — «Камітэт вызвалення народаў Расіі»). Справа ў тым, што з пачаткам «халоднае вайны» ў Вашынгтоне паўсталі як бы дзве плыні — два погляды на дачыненні з СССР. Пентагон уважаў, што ў тагачасных умовах адзінай гарантыяй міру можа быць нарошчванне ўзбраення. Палітыкі з Кангрэса лічылі, што прапаганда, вывучэнне СССР маюць не меншае значэнне. У выніку іхнай актыўнай дзейнасці паўстаў Інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР, радыё «Вызваленне» (пазнейшая «Свабода»). Афіцыйна амерыканскі ўрад заявіў: ён змагаецца з камунізмам у СССР і ў гэтай барацьбе падтрымлівае ўсе народы — беларусаў, летувісаў, украінцаў. Але ён не вырашае далейшы лёс земляў, што знаходзяцца зараз пад расійскай акупацыяй. На бок гэтай афіцыйнай палітыкі, палітыкі так званага «непрадрашэнства», стала частка сяброў Рады БНР разам з Прэзідэнтам Міколам Абрамчыкам. Яны прытрымліваліся думкі, што сёння неабходна максімальна атрымаць дапамогу ад афіцыйнага Вашынгтона, а ўжо потым уздымаць пытанне пра незалежнасць Беларусі. Другая, даволі значная частка сяброў Рады БНР, не пагадзілася з гэтым і стварыла фракцыю «Асцярожнага супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам», у якую ўваходзіў і Лявон Савёнак. Гэтая фракцыя заявіла, што незалежнасць Беларусі была абвешчана яшчэ ў 1918 г. і на пазіцыях непрадрашэнства Рада БНР з Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму супрацоўнічаць не можа. Быў створаны механізм для перавыбараў Прэзідыума і Прэзідэнта. Старшынёй камісіі па падрыхтоўцы рэферэндуму быў абраны Лявон Савёнак.

У выніку перамагла група Міколы Абрамчыка. Тыя сябры Рады, што не пагадзіліся з палітыкай «непрадрашэнства», паступова адышлі ад актыўнай палітычнай дзейнасці ў Прэзідыуме, а Аўген Каханоўскі нават выйшаў з Рады.

Разам з тым, неабходна зазначыць, што палітыка «непрадрашэнства» засталася такой пераважна на афіцыйных паперах, бо і ў друку, і на радыё нацыянальная прапаганда вялася з адназначна дзяржаўніцкага пункту гледжання.

Палітычная і грамадска-культурніцкая дзейнасць Лявона Савёнка на эміграцыі — тэма асобнай, грунтоўнай размовы: адзін з ініцыятараў стварэння Камітэта незалежнай Беларусі (разам з Леанідам Галяком, Юрыем Сабалеўскім, Анатолем Плескачэўскім), сябра Цэнтральнага камітэта Аб’яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў (старшыня Аўген Каханоўскі), рэдагаваў газету «Беларус», уваходзіў у дарадную камісію па перакладзе Біблії, які

ажыццяўлялі Янка Станкевіч ды пастар Масей Гітлін. Як журналіст, што добра ведаў савецкую прэсу, апрацоўваў манаграфію аб прэсе БССР (на жаль, яна не захавалася), а таксама даваў шмат інфармацыі ў заходнія даведнікі аб падсавецкім друку ў Беларусі (*La Presse Derriurele Ridean de Fer. Paris, 1948; The Free Press of the Supressed Nations. Augusburg, 1950*).

Адным з яго блізкіх сяброў быў Мікола Равенскі, з якім лучыла спачатку частая рыбалка на Дунаі, а потым, калі Равенскі пераехаў у Бельгію, — ліставанне. У ЗША былі блізкія дачыненні з Міколам Паньковым, Аўгенам Кахановўскім, Антонам Шукелойцем, Антонам Адамовічам, Віталем Кажаном, Ізідарам Плашчынскім, Гіпалітам Паланевічам, сям'ёю Васіля Стомы (Сініцы), земляка з Глыбоччыны. Доўгагадовым і блізкім сябрам быў доктар Станіслаў Грынкевіч, сем'і Аляксея Грушы, Міколы Гарошкі, Івана ды Вольгі Канарчукоў.

Памёр Лявон Савёнак 21 лютага 1974 г. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку.

*Лявон Юрэвіч*

## ПАЛІТЫК І ГІСТОРЫК: АЎГЕН КАЛУБОВІЧ (КАХАНОЎСКІ)

Іна Рытар, другая жонка Аўгена Калубовіча, сталася ягоным першым біёграфам, калі ва ўспаміне «Сын верны Маці-Беларусі» пісала: *«Аўген — сын Тодара й Марыі Калубовічаў нарадзіўся 05.03.1910 г. у мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага раёну Гомельскай вобласьці. Ягоны бацька быў службоўцам. Сваё маленства Аўген заўсёды ўспамінаў зь пяшчотай і замілаваньнем. Гадаваўся ён у вялікай сям'і — меў брата й тры сястры. Бацькі любілі дзяцей, даглядалі добра. Насупраць м. Ціхінічаў, праз раку Дабрыцу, мясьцілася вёска Слапішча, дзе жылі дзед і баба Калубовічы. У іхным садзе расьлі салодкія сапяжанкі, духмяныя антонаўкі, а на пасецы стаялі вульлі з пчоламі. У дзедавай хаце для ўнука пастаянна меліся ласункі.*

*Аўген скончыў пачатковую школу ў сваім мястэчку, сямігодку ў Рэчыцы, а ў 1930 годзе Пэдагагічны тэхнікум у Бабчыне. 30-га траўня таго-ж году быў арыштаваны за прыналежнасьць да беларускай нацыяналістычнай арганізацыі Альтруістаў і прыгавораны на тры гады зьняволеньня. Пакараньне адбыў у канцэнтрацыйных лягерох на Далёкім Усходзе СССР.*

*Вясною 1933 году вярнуўся на бацькаўшчыну. Адразу яму нават пашанцавала ўладзіцца настаўнікам пачатковай школы. На жаль, шанц трываў коратка: у красавіку 1934 году звольнілі з пасады. Некалькі месяцаў стараўся, каб аднавілі на працы. Нічога не дапамагала. Хойніцкі Раённы аддзел народнае асьветы прапанаваў яму непасрэдна зьвярнуцца ў Наркамат асьветы БССР. Трэба было ехаць у Менск. Ехаць у Менск? Калі сядзіш бяз працы, калі ня маеш грошай? Што рабіць?*

*Зь бяды выручыў бацька, які ў той час працаваў у саўгасе на бровары бухгальтарам і быў у добрых адносінах з дырэктарам саўгаса Юрачкам.*

*Бацька расказаў Юрачку пра клопаты свайго сына. Дырэктар ня толькі паспачуваў, але ўзяўся дапамагчы.*

*Быў той Юрачка старым камуністам, сябрам Таварыства паліткатаржанаў. Ён напісаў ліст да старшыні ЦВК БССР — Аляксандра Чарвякова, якога добра ведаў з маладых год. У лісьце прасіў пасадзейнічаць юнаку. Даручыў Аўгену адвезьці ліст у Менск самому, а ня слаць па пошце.*

*Паездка зь лістом да А. Чарвякова завяршылася поўнай удачай: Наркамат асьветы аднавіў яго на пасадзе настаўніка, а Гарадзкі аддзел народнай асьветы прызначыў за настаўніка ў самым месьце.*

*Ад 1934/35 навучальнага году ён працаваў у Менску выкладчыкам беларускае мовы й літаратуры, а таксама вучыўся ў Менскім Пэдагагічным інстытуце. Па сканчэньні Інстытута ў 1939 годзе займаў пасаду кансультанта-мэтадыста ў Наркамасьвеце.*

*Адно ж, праз усе гады жыцьця ў Менску ягоная праца, вучоба, свабода заўжды ліпелі на валаску. Ён ніколі ня быў пэўны, што прынясе яму наступны дзень. Некалькі разоў на год адбіралі ў яго на праверку пашпарт, а Атэстацыйная камісія, якая ў 1936–1938 гадох праводзіла атэстацыю настаўнікаў, давала аб ім адмоўную характарыстыку.*

*У часе Другой сусьветнай вайны Аўген улучыўся ў рады змагароў беларускага нацыянальнага актыву, якія ў вельмі небясьпечных умовах мужна баранілі свой народ, сваю маці-Беларусь. Ён быў сябрам Беларускае Рады даверу (1943), сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады, старшынёй Беларускага культурнага згуртаваньня, кіраўніком Аддзелу культуры.*

*На Другім Усебеларускім кангрэсе (1944 год) зрабіў рэфэрат на тэму «Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах». У рэфэраце, з уласьцівай для яго дакладнасьцю, абаснаваў правы беларускага народу на вольную, незалежную Бацькаўшчыну»*[1103].

Літаральна адразу па завяршэнні працы Кангрэса цягнікам, разам з Урадам БЦР, з сем'ямі Кушалеў-Арсенневых, Куліковічаў, Кіпеляў ды шмат каго яшчэ выехаў у Нямеччыну. Тут ён, баючыся фатальнай рэпатрыяцыі, змяніў прозвішча на Каханоўскі.

Успамінае Яніна Каханоўская, першая жонка Калубовіча:

*«Я прыехала з маткай і дзьвюма дзеткамі. Мы з Каханоўскім былі блізкія ўжо ў Менску, але не жанатыя, нічога. У яго была матка й пляменьніца хворая. І тады ён сказаў, што мусіць апекавацца сям'ёй Луцкевічаў і запісаў нас як сваю сям'ю. Выратаваў проста нас тады.*

*А як мы прыехалі ў Рэгенсбург, ужо былі паўсюль савецкія ячэйкі — па вяртаньню. І тады Калубовіч зьмяніў прозьвішча на Каханоўскі. А чаму Каханоўскі?*

---

[1103] Калубовіч, Аўген. Крокі гісторыі: Даследаванні, артыкулы, успаміны. Беласток — Вільня — Менск, 1993. С. 279–280.

*Мы неяк ішлі, і былі вельмі худыя, і я, і ён. Голад-жа быў, не даядалі. Ён думаў [узяць прозьвішча] Тараноўскі. А потым кажа — возьмем Кахаhоўскія, ад каханьня. Ну й праўда было каханьне — вельмі вялікае. Адзінае маё каханьне. Яно й засталося, яно й цяпер ёсьць. Заўсёды яго ўспамінаю…*

*А тады паўсталі беларускія камітэты, якія выраблялі дакумэнты. І вось я ўжо з Варшавы, і мама з Варшавы. Усе варшавякі. А я-ж польскую ведаю, мне лёгка было. Пайшлі да ксянзда, сьведкі Кушалі падпісалі. І вось мы ўжо зрабіліся Кахаhоўскія, ужо ў лягеры Калубовіча ня было. А ў гэты час у Менску ягоную жонку ГПУ цягала на дапросы. Змусілі напісаць у УНРРА, і фатаграфію сына зрабіла, якому было нешта пяць год. Сына, пра якога ён паняцьця ня меў. І паслала ў гэтую УНРРА. Але-ж Калубовіча ня было! Быў варшавяк Кахаhоўскі»*[1104].

Калубовіч змяніў сваё прозвішча, але зацікаўленні засталіся тыя самыя — палітыка, гісторыя: ад 20 студзеня 1945 г. ён — загадчык аддзела прапаганды і культуры Калегіі (Урада) БЦР, ад 15 жніўня — намеснік кіраўніка Беларускага нацыянальнага цэнтра. 15 жніўня 1948 г. узначальвае Урад БНР. Адначасна займаецца адукацыйнай дзейнасцю: выкладае філалогію ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы (1945–1950), выдае тры сшыткі «Паэтычнай стылістыкі» (пад псеўданімам А. Верасень).

У ЗША эміграваў у 1950 г.: спачатку ў Нью-Ёрк, а праз год пераехаў у Кліўленд.

Згадвае Яніна Кахаhоўская:

*«Мы пражылі сем год. Сем год. Нешта ў 1953 я ўжо прыехала ў Нью Ёрк. Проста прычына была такая, што ён не хацеў, каб я прыехала адведаць маму. Бо мама з Юляй жылі ў Нью Ёрку, Юля не захацела ехаць у Кліўленд. Мы-ж прыехалі ўсё сюды, у Нью Ёрк. Тут Калубовіч паглядзеў і кажа, што гэта жывыя трупы, і яны нічога ня зробяць. Ён усё-ж быў у Цэнтральнай Радзе як міністар замежных справаў. Так зь ім лічыліся. Але мовы ён ня ведаў. А працаваць тут бяз мовы немагчыма. І трэба-ж зарабковую мець работу! І ён сказаў, калі мне дадуць перакладчыка — тут — то я буду працаваць, а калі не — то я паеду ў Кліўленд. Там Белямук прапанаваў. Там моладзі шмат было. Сказаў: там нешта можна зрабіць.*

*І ён сказаў мне: калі паедзеш — то назад не вяртайся. Я паехала й не вярнулася. Ну, я-б можа й не паехала, каб былі іншыя ўмовы жыцьця, але ў яго маці была вельмі дрэнная, мы жылі ўсе разам, немагчыма было. Я-ж чалавек несварлівы, знаеце, божая кароўка, як мяне называюць. Але там ужо немагчыма. Я працавала на ноч, удзень мусіла ўсё рабіць, абеды; яшчэ й Белямук у нас сталаваўся. Ад 10 да 5 працаваць уначы. Год прапрацавала — ужо была зусім.*

*А яшчэ ягоная цёця мне казала: чаго Вы тут сядзіце? Над Вамі-ж зьдзекваюцца. У Вас-жа сям'я ў Нью Ёрку, а Вы сядзіце тут».*

---

[1104] Запіс успамінаў зроблены ў 2001 г. Захоўваецца ў архіве Л. Юрэвіча.

Пачатак 1950-х быў ва ўсіх адносінах складаным перыядам у жыцці Каханоўскага. Якраз у гэты час Мікола Абрамчык ад імя Рады БНР разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў пагадзіўся на прапанову Амерыканскага камітэта за вызваленне ад бальшавізму стварэння адзінага палітычнага цэнтра. Каханоўскі рэзка пакрытыкаваў палітыку Прэзідэнта БНР. На думку прэм'ер-міністара, з Амерыканскім камітэтам, відавочна прарасійскім, русафільскім, немагчыма падпісваць аніякіх пагадненняў.

Каб займець нейкую альтэрнатыву палітыцы Абрамчыка, Каханоўскі спрабуе стварыць апазіцыю ў Радзе БНР, дзеля чаго вяртае да жыцця Беларускую нацыянал-дэмакратычную партыю, якая існавала з сярэдзіны 1940-х гг., і арганізоўвае Аб'яднанне БНДП.

21–22 лютага 1953 г. у Нью-Ёрку адбыўся Першы краёвы з'езд беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Натуральна, што цэнтральнае пытанне было павязана з Радаю БНР:

*«Слухалі: А. Каханоўскага аб патрэбе з боку БН-ДП заняць пэўнае становішча да Рады БНР і БНЦ, дзеля таго, што ні 1-я, ні 2-я Замежныя канфэрэнцыі БН-ДП гэтага не зрабілі. Зноў-жа, Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык 19.12.1951 г. зьвярнуўся ў ЦК БН-ДП з прапазыцыяй аб стварэньні ў Радзе БНР Фракцыі БН-ДП. А. Каханоўскі сфармуляваў свой пагляд у гэтым пытаньні ў форме праекту пастановы, які пасьля дыскусіі й быў прыняты зьездам.*

*Г. Паланевіч узьнімае ў сувязі з гэтым справу выхаду Старшыні ЦК БН-ДП А. Каханоўскага з Рады БНР і прапануе яму даць зьезду тлумачэньне ў гэтай справе.*

*А. Каханоўскі заяўляе, што ён як старшыня зьезду ня можа на ім дапусьціць абмеркаваньне нутраных справаў Рады БНР без яе на тое згоды. Ягоная пазыцыя да Рады БНР выказанае ў праекце пастановы, прапанаваным у гэтай справе зьезду. Прыналежнасьць-жа сябры БН-ДП да Рады БНР не вымагаецца Статутам БН-ДП.*

*Л. Савёнак, П. Кулеш, А. Савёнак і К. Семянчук просяць А. Каханоўскага дзеля карысьці партыі й Рады БНР адклікаць сваю заяву аб выхадзе з Рады БНР, хоць з фармальнага гледзішча факт выхаду сябры БН-ДП не пярэчыць Статуту БН-ДП.*

*А. Каханоўскі заяўляе, што свой выхад з Рады БНР ён абгрунтаваў паважнымі прычынамі, якіх тут ня можа падаць, БН-ДП фармальна ня можа яго змусіць адклікаць гэты выхад, які ён не ўважае за памылковы для сябе крок, але на настойлівую просьбу зьезду сваю заяву аб выхадзе з Рады БНР ён адкліча.*

*Пастанавілі: 1. Вызнаць Раду БНР за адзіны законны дзяржаўны цэнтар акупаванай савецкай Расеяй БНР; 2. Надалей падтрымліваць яе і актыўна супрацоўнічаць зь ёю; 3. Засьцерагаючы за сабою права займаць самастойную пазыцыю ў канкрэтных пытаньнях палітыкі Рады, стварыць у Радзе і ейных сэктарах свае фракцыі; 4. Замежны Сэктар БНЦ уважаць*

*за каардынацыйны палітычны цэнтар беларускіх незалежніцкіх партыяў і групаў, дзе БН-ДП мусіць мець сваіх прадстаўнікоў»*[1105].

А вось у лісце да Лявона Савёнка (ад 30 студзеня 1953 г.) Каханоўскі расказваў аб прычынах, не тоячыся:

*«А цяпер колькі словаў прыватна. Як Старшыня ЦК БН-ДП я ў сваім часе разаслаў лісты групам БН-ДП у справе пазыцыі ЦК да г. зв. Амэрыканскага Камітэту, ягонае акцыі тварэньня супольнага з расейцамі антыбальшавіцкага цэнтру й БАФу. У Нью Ёрк такога ліста не пасылаў, бо там ня было яшчэ групы БН-ДП, і з прыватных лістоў ведаў, што там сымпатыяў да гэтага няма. Выслаў я лісты ў Канаду (там выходзіць газэта «Беларускі Эмігрант»), у Нямеччыну («Бацькаўшчына»), Аўстралію й галоўна Бэльгію (там сябра БН-ДП быў заангажаваны сакратаром БАФ — У. Цьвірка). Усім я прапанаваў не кальпартаваць часапіс «Змаганьне»*[1106]*, ня друкавацца ў ім і ня браць ніякага ўдзелу ў працы БАФу. Цьвірку-ж я запрапанаваў зараз-жа выйсьці з БАФу. Дзеля таго, што ініцыятарам БАФу быў Сп. Прэзыдэнт, аб чым я яму таксама пісаў, і, відаць, некаторыя радныя зь Нямеччыны, у мяне пачалася даўжэзная перапіска із гэнымі двума групамі (Бэльгія й Нямеччына). Цьвірка, Карась, Запруднік, Кабыш і часткава др. С. Станкевіч баранілі гэтую штарнбэргскую тэхніку. Зь іхных лістоў відаць, што яны адказы мне давалі ў паразуменьні з Прэзыдэнтам. Гэтая перапіска ня скончаная й дагэтуль, а зь яе вынікае, што Прэзыдэнт, які заангажаваў іх у БАФ, фактычна заблякаваў гэтыя дзьве групы, наставіўшы іх супраць ЦК. Як Вам гэта падабаецца?*

*Пасьля мае заявы Прэзыдэнту аб выхадзе з Рады, Прэзыдэнт мне нічога ня піша, затое намаўляе радных-сяброў БН-ДП пагражаць мне выхадам з БН-ДП, калі я не адклічу свае заявы аб выхадзе з Рады. Такія пагрозы я атрымаў ад БАФаўцаў і іхных сымпатыкаў з Бэльгіі і Нямеччыны (Цьвірка, Карась, Запруднік, Вініцкі, Кабыш). Як Вам гэта падабаецца? Што гэта акцыя Сп. Прэзыдэнта, я ня маю найменшага сумніву: аб маім выхадзе з Рады паведаміў толькі Прэзыдэнта і Прэм'ера. Не жадаючы, каб на гэтым факце спэкулявалі розныя хмары, я нат Яні нічога не казаў. Прычым, змушаны да выясьненьняў майго далейшага становішча да Рады БНР радным-сябрам БН-ДП у Бэльгіі, згодна іхнае вымогі пасьля майго ліста да Цьвіркі аб выхадзе з БАФу й шырэйшага выясьненьня ўсёй групе аб пазыцыі ЦК да БАФу, іншых сяброў (Станкевіч, Кабыш, Вініцкі) хтосьці інфармуе аб маім выхадзе, дадаючы да гэтага, што я актывізую БН-ДП дзеля змаганьня з Радай. Што за мэтад! Зноў-жа, з Бэльгіі мне зрабілі закід, што мой выхад з Рады, асабліва цяпер, ёсьць непажаданым. Я ім адказаў, што я сам прыняў усе меры да таго, каб аб гэтым факце нікому ня было ведама, а ў самой Радзе — будзе залежаць ад Прэзыдэнта. Разам з тым, у той самой Бэльгіі аб гэтым даведаліся праз тыдзень пасьля візыта Прэзыдэнта ў*

[1105] Пратакол з'езду захоўваецца ў архіве БІНіМа.

[1106] Змаганьне. Орган Беларускага Антыбальшавіцкага Фронту. 1952.

*Нямеччыну, ужо стуль я меў аналёгічныя лісты. Таму я не дзіўлюся, што такія чуткі ўжо «цыркулююць у Нью-Ёрку», а заўтра аб іх будзе пісаць Хмара. Самы факт майго выхаду з Рады мо ня варты таго, каб аб гэтым столькі гаварыць ці пісаць, тымбалей, што ўсім, хто аб гэтым ужо ведае, я асьветчыў, што й надалей застаюся бэнээраўцам. Нязручна хіба для Рады ёсьць толькі тое, што я ў ёй займаў адказныя пазыцыі, што асабліва могуць падтыкаць нашыя ворагі ў сваёй прапагандзе. Але я не магу далей цярпець таго балагану, які ад даўжэйшага часу пануе ў Радзе. І што самае галоўнае: няма ніякага жаданьня гэты балаган зьліквідаваць, а ён-жа спаралізаваў уселякую пазытыўную працу ў ёй, а цяпер давёў да кампрамітацыі. Я гэта прадбачваў. Бясконца пісаў і Прэзыдэнту, і Сп. Махноўскаму. Ніякага рэагаваньня. У Радзе цяпер ня толькі пасыўнасьць, недысцыплінаванасьць, безадказнасьць, але поўная дэмаралізацыя, у ёй поўна шкоднікаў, якія адкрыта на вачох усіх вядуць шкодную працу, шпіёнаў, якія даюць супроць Рады інфармацыі розным хмарам, і г. д. Што-ж гэта робіцца? Як, урэшце, усё гэта можна талераваць? Вы запытаецеся, якое-ж з гэтага выйсьце. Я шмат праектаў у свой час падаваў у кірунку аздараўленьня Рады — вусных, пісьмовых, Прэзыдэнту, на сэсіях, у Нью-Ёрку на сходах Рады. Усе яны не знайшлі падтрыманьня, нат выклікалі супраць мяне незадаволеньне. А час ішоў. Цяпер ужо тыя рэцэпты нічога не дапамогуць. Раду можа выратаваць толькі поўная ў ёй рэвалюцыя й чыстка ад усяго шкоднага элемэнту. Іначай ёй пагражае поўны развал. Я маю такі праект яе рэарганізацыі, і, калі мы створым у Радзе сваю фракцыю БН-ДП, свой праект я прапаную фракцыі. Да гэтай рэарганізацыі Рады з намінацыі Прэзыдэнта ў Раду я не вярнуся»*[1107].

Жыццё — новае, як прыватнае, гэтак і палітычнае — быццам пачынала наладжвацца. Кахаоўскі ўзначаліў Кліўлендскі аддзел БАЗА, разам Міколам Куліковічам арганізоўваў канцэрты, святкаванні, выставы.

З ліста да спадарства Савёнкаў (11 лістапада 1953 г.): *«Ці змагу я прыехаць у Нью Ёрк на наступны сход сэсіі, цяпер не магу сказаць, бо сумняюся, ці звольняць мяне зноў з працы — гэта было-б ужо чацьвёрты раз у гэтым годзе, і як на ліха заўсёды трапляе тады, калі ў нас абавязковыя овэртаймы. Калі я не працую, нашая дырэкцыя мусіць з другога заводу нашае кампаніі зрываць формана, які колісь працаваў на маім варштаце, каб ён мяне замяніў, бо іначай яшчэ на нашым заводзе нашае кампаніі чатыры цэхі будуць бяз працы. (Тыя дэталі, што я паяю, ідуць на іншы завод, там іх нікілірують, шліфуюць, зьбіраюць і пакуюць). Бачыце, як цяжка адсюль выехаць, ня кажучы аб выдатках (за першыя два прыезды ў гэтым годзе я згубіў 48 дал. на заводзе й кошты білетаў). Цяпер другая навіна: я зьмяніў кватэру. Новы адрыс падаў др. В. Тумашу й прасіў яго перадаць Сп. Прэзыдэнту й Вам. Мая першая кватэра была добрая, але гэтая без параўнаньня лепшая. Яна*

[1107] Ліст А. Каханоўскага да Л. Савёнка ад 30.01.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*ў нашым-жа раёне, але ў найлепшай яе частцы. Я марыў перабрацца сюды, доўга чакаў на выпадак і ўрэшце дачакаўся. Прыгожая, залёная й ціхая вуліца, чыстае паветра. 5 добра ўмэбліяваных пакояў за 60 дал. Асобны ўваход з электрычным званком і рознымі іншымі выгодамі. Дрэвы ня толькі на вуліцы, але й на дварэ (цэлы садзік з кветнікам). Адзін блёк ад сп. Куліковіча. Тэлефон у кватэры ёсьць, але яшчэ ня ўлучаны: у сыботу ўжо будзе»*[1108].

Толькі вялікая палітыка гэтак проста не пакідала. Хтосьці з асабістых непрыяцеляў, а мо і былых паплечнікаў па Радзе напісаў на Каханоўскага данос, і па Кліўлендзе пачаў хадзіць па кватэрах беларусаў супрацоўнік *FBI*, распытваючы пра палітычныя сімпатыі былога прэм’ер-міністра Ураду БНР, пра магчымыя ягоныя сувязі з камуністамі. Пасля размоваў, пра недапушчальнасць агалошвання зместу якіх папярэджвалася адмыслова, з намёкамі на нью-ёркскія карані даносу, чалавек з *FBI* ішоў да наступнай кватэры.

Каханоўскага не выклікалі і не наведалі. Складана ўявіць, якія менавіта карцінкі з уласнага мінулага паўставалі перад ім; толькі вось палічыўшы сябе скампраметаваным, ён вырашыў, што не мае болей права ачольваць беларускую арганізацыю ў Кліўлендзе, і сышоў.

З ліста Іны Рытар да Вітаўта Тумаша (5 траўня 1957 г.): *«У нас у Cleveland’е як звычайна сярод суродзічаў: троху сварацца, дзеляцца, арганізуюцца і г. д. Я, як заўсёды, стаю ўбаку і наглядаю. Слава Богу, Аўген захапляецца сваёй працай па літаратуры і ўвесь вольны час аддае на апрацоўку яе, так што ня мае часу быць зацягнутым у гэтыя непатрэбныя нікому сваркі й плёткі. Мы цешымся сваім домам і садам. Дом утульны і мае досыць месца для ўсяго. Маем асобны пакой для бібліятэкі і пакой для гасьцей. Вось будзеце мець час на вакацыі, прыяжджайце пагасьціць і адпачыць»*[1109].

Да смерці 25 траўня 1987 г. заставалася трыццаць гадоў. Трыццаць гадоў на чытанне, абдумванне, пісанне — асабліва пасля 1972 г., пасля выхаду на пенсію — нямала. Да вялікай палітыкі Каханоўскі болей не вернецца. Будзе іншае: успаміны пра лагеры «На Крыжовай дарозе» (1986), класічныя сёння «Айцы» БССР і іхны лёс» (1982), праца «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства» (1974–1978), зборнік успамінаў пра Янку Купалу і Якуба Коласа.

*Лявон Юрэвіч*

---

[1108] Ліст А. Каханоўскага да Савёнкаў ад 11.11.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.
[1109] Ліст І. Рытар да В. Тумаша ад 05.05.1957. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

## З ІМЕМ СКАРЫНЫ: ВІТАЎТ ТУМАШ

Цалкам магчыма, што гэта толькі выпадковы недагляд укладальнікаў кнігі або нават нечая злая воля, але, тым не менш, вельмі характэрным для асобы Вітаўта Тумаша падаецца не-згадванне ягонага імя ў кнізе «25-лецьце Беларускае Гімназіі ў Вільні. 1919–1944» (Вільня: Выданьне Беларускае гімназіі ў Вільні, 1944): надта ж унікаў ён шырэйшага афішавання сваёй біяграфіі, палітычнай, а часта і грамадскай дзейнасці, калі толькі гэта не было павязана з Скарынавым імем.

Вітаўт Тумаш нарадзіўся 20 снежня 1910 г. у вёсцы Спягліца, Вялейскага павета Віленскай губерні (сёння в. Свяцілавічы Смаргонскага раёна Гарадзенскай вобласці) у сям'і Яна і Петранэлы з Канапелькаў. Недзе ў 1915 г. сям'я падалася на Захад, у бежанства, так што першую адукацыю Тумаш атрымаў на літоўскай мове, цікавасць да якой захаваў на ўсё жыццё. Пасля заканчэння пачатковай школы ад верасня 1924 г. да чэрвеня 1930 г. навучаўся ў Віленскай беларускай гімназіі.

У мурах гімназіі ён пазнаёміўся з шэрагам будучых калегаў па грамадскай і навуковай працы ў эміграцыі; у мурах жа закладаліся і падмуркі тых адносінаў. З Радаславам Астроўскім не было паразумення, бо Тумаш, блізкі да Максіма Танка, лічыўся там за чалавека левых поглядаў, а з Янкам Станкевічам, бадай, варагавалі на гістарычнай дзялянцы:

*«Станкевіч ня гісторык па сваіх студыях, ня стаўся ім, па-мойму, і сяньня, хоць ужо некалькі разоў прабуе пісаць гісторыю «Крывіч-Беларусі». Ягоная «гісторыя» ў вапошняй рэдакцыі, гэта насьпех робленая павярхоўная з некалькі пакладзеных перад сабою кніжак чужых аўтараў, кампіляцыя, без прадуманьня цэласьці й наагул бяз ніякіх сваіх арыгінальных гістарычных гарызонтаў. Іх ён ніколі й ня будзе мець, бо гэта ўжо рыса ягонага характару — ён працавіты, але нейкага навуковага «палёту» чакаць ад яго цяжка. Пішу гэта, бо ведаю яго бліжэй ад 25 гадоў, ад чвэрцьвечча. І ў апошняй ягонай «гісторыі» здараюцца выпадкі, што аўтар дзьве бачыны далей піша зусім адваротнае ці ў разрэз з раней сказаным (што я яму некалі заўважыў і на што ён толькі сказаў «нуу, нічога»*[1110].

Ад восені 1930 г. Тумаш вучыўся на медычным факультэце Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Дыплом аб заканчэнні навукі выпісаны 30 траўня 1939 г.

Ад ліпеня 1939 г. да пачатку Другой сусветнай вайны працаваў лекарам у шпіталі ў Беластоцкім *Choroszcz*, пасля, ад 1940 г., меў прыватную медыцынскую практыку ў Лодзі.

19 кастрычніка 1940 г. пабраўся шлюбам з Ксеніяй Грыгарчук, з якой меў траіх дзетак.

Дзейнасць у даваенным беларускім нацыянальным руху ўражвае нават адно пералікам пасадаў: адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага

---

[1110] Ліст В. Тумаша да А. Вярбіцкага ад 08.12.1952. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

саюза, старшыня Таварыства прыяцеляў беларусаведы, віцэ-старшыня Таварыства беларускай школы; ад верасня 1939 г. супрацоўнік Беларускага нацыянальнага камітэта ў Варшаве, у 1940–1941 гг. старшыня Беларускага камітэта ў Лодзі.

З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені–лістападзе 1941 г. Тумаш выконваў абавязкі бургамістра Менска. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, дапамагаў з рэдагаваннем газетаў «Раніца» і «Беларускі работнік», працаваў у берлінскім аддзеле Самапомачы.

У 1943–1945 гг. на пасадзе лекара ў Мекленбургу, ад 1945 — у Заходняй Нямеччыне, у шпіталі лагеру Люнэбург, ад 1946 г. — у лагеры Ватэнштэт, ад 1947 г. — у лагерах Гослар, Унтэрлюс, Зеедорф.

Заснаваў Згуртаванне беларускіх лекараў на чужыне, выдаваў часопіс «Мэдычная думка» (1946–1950), рабіў захады па перакладзе Біблії на беларускую мову, запрасіўшы ў адмыслова створаны ім Камітэт Леаніда Галяка, Яна Пятроўскага, Уладзіміра Тамашчыка ды іншых.

У ЗША прыехаў 25 лістапада 1950 г. Амерыканскае грамадзянства атрымаў 20 жніўня 1956 г. Жыў у Нью-Ёрку, працаваў у шпіталях (Фордхам, Бронкс, 1952–1976, у аддзяленні хуткай дапамогі, ад 1976 г. — у шпіталі Сэйдэнхам на Манхэтэне).

Кароткі час ачольваў Урад БНР, браў удзел у выданні газеты «Беларус» — зрабіў два нумары, быў старшынёй Фундацыі імя П. Крэчэўскага (1979–1982).

От жа калі чытаць Тумашава ліставанне, кідаецца ў вочы, што там бадай не закранаецца ніякая іншая дзейнасць акрамя Беларускага інстытута навукі і мастацтва, фактычным заснавальнікам якога ён стаўся і ўзначальваў ад 1955 г. да раптоўнай хваробы ў 1982 г. Справы Рады і пытанні, вынесеныя на абмеркаванні пасяджэнняў, закраналіся ў лістах — напрыклад, да Станіслава Станкевіча ў Нямеччыну — спаміж іншага, пастолькі-паколькі:

*«5. Што да Грышкевіча, дык відаць, у Мюнхэне паўторыцца ведамае правіла: пакуль чалавек адзін — адназгоднасьць; як толькі паявіцца больш — неляды. Што да Ліманоўскага, дык магу сказаць толькі тое, што ён за два гады ў Нью Ёрку выказаўся мінімальнай актыўнасьцяй. Праўда што, яго тут цкавалі, як сабаку, ды чалавек кажны мамэнт чакаў скрынінгу ды высылкі назад у Эўропу, але й гэта недастатковая прычына для бязьдзейнасьці, бо нічога не зрабіў ён, калі падумаць, і за ўвесь эміграцыйны час, ужо гадоў каля 10! Дык, баюся, каб і надалей ня жыў абломаўшчынай. Магчыма, аднак, разкратаецца ў Мюнхэне. Прычыны непрадуктыўнасьці — хіба ці не гады. Яму ўжо недзе 58 гадоў, дык мо гэта праявы старчыя. Другая рыса характару — гэта некаторая ўгадовасьць сучасным дужым. Ён выступіць вастрэй нідзе не патрапе, а лёгка пойдзе на ўгоду, калі толькі «ўлада» гэтага зажадае. Гэта тыповая рыса ўсіх нашых падсавецкіх інтэлігентаў, уключна з аўтарам «мыла Заблоцкіх»[1111]. Ты некалі пісаў, што ў уступе да*

[1111] Маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

*«Заблоцкіх»*[1112] *ёсьць нейкія «скрыўленьні». Гэта няпраўда. Сам па сабе, бяручы артыкул асобна, ён ніякіх скрыўленьняў ідэялягічных ня мае. Калі ён мае заганы, дык літаратурныя — размазанасьць — дзеля чаго рэдка знойдзеш чалавека, які дачытаў яго да канца. Ёсьць іншая справа: чалавек, які пісаў артыкул пра тое, як ня трэба ісьці на ніякія кампрамісы, ды выразна рабіў намёкі на іншых, што тыя, нягоднікі, гэта робяць (выразная алюзыя да Абрамчыка), у тым-жа часе сам для кар'еры ламаў супольны фронт байкоту мінулай (леташняй) канфэрэнцыі Амэрыканскага камітэту, на якую не пайшоў ніводзін украінец, ні беларус. У той-жа час Абрамчык мантаваў Парыскі Блёк, а гандляваў мылам акурат аўтар Заблоччыны. Дык у гэтым сук — крывадушнасьць пры слабасьці характару. Вось падобная слабасьць можа праявіцца і ў Ліманоўскага, і дзеля гэтага раджу, па меры магчымасьці, на адказныя становішчы, дзе з «босамі» трэба ня раз ня толькі таргавацца, але й сварыцца за сваю справу, яго не пратэгаваць. Ён, праўда, не крывадушны, але тым ня менш «сільнай» уладзе можа лёгка саступіць і ў прынцыповых справах. Пра ягоныя інтэлектуальныя гарызонты найлепш зарыентуешся, прачытаўшы ягоны артыкул пра Купалу, зь яго зарыентуешся, як ён патрапіць аформіць пастаўленую сабе задачу.* […]

*7. Што да Ураду БНР, дык яго не тварылі ані тут, ані маюць тварыць у Эўропе. Затое Абрамчык маецца стварыць пры сабе нейкі сакратарыят у Эўропе як эрзац ураду. Хто ў яго мае ўваходзіць — ня ведаю. Тут ня выбраны яшчэ й прэзыдыюм Рады БНР. Выбары, праўда, адбыліся, але пасьля іх Спадар*[1113] *(які атрымаў толькі адзін голас і не прайшоў) заявіў, што выбары няправільныя, бо ў Нью Ёрку было прысутных толькі каля 30 % радных, і ён іх зусім не прызнае. Хоць заява — лібэрум вэто — і была сказаная пасьля выбараў, а не перад імі, аднак пастанавілі правясьці рэфэрэндум у выбарчай справе й паміж усіх іншых сяброў Рады па іншых краінах. А як доўга гэтае рэфэрэндум не праведзенае, дык і прэзыдыюм фактычна неправамоцны, ды невядома, хто ў яго ўвойдзе. Дык фактычна ніякіх уладаў і няма. Забыўся падаць, што Спадар ня толькі заявіў аб «няважнасьці» выбараў, але аднначасна й зажадаў, каб увялі яго ў прэзыдыюм бяз выбараў (відаць, пасьля гэтага й выбары сталі-б важнымі, нягледзячы на «працэнты»). Паколькі гэтага не зрабілі, а пастанавілі правясьці рэфэрэндум, ня думаю, каб і пасьля выбары мелі нейкую важнасьць для Спадара»*[1114].

Прычыны свае адстаўкі з пасады кіраўніка Ураду БНР Тумаш выклаў — і як бачна з тэксту, зрабіў тое не першы раз — у лісце да Міколы Абрамчыка.

*«Дарагі Мікола! Мая дэмісія (фактычна гэта ніякая дэмісія, бо я ані ніколі не згадзіўся на кандыдаваньне, ані фармальна «рэфэрэндум» не закончаны, прынамся, неапублікаваны дагэтуль ягоны вынік) канчальная, нязьменная.*

---

1112 Калюга, Лукаш. Нядоля Заблоцкіх. Мюнхэн, 1954. — 127 с. Прадмову да кнігі пад псеўданімам Р. Склют напісаў Антон Адамовіч.

1113 Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

1114 Ліст В. Тумаша да С. Станкевіча ад 03.05.1954. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

*Хоць я пра гэта аднак гаварыў і ўвесь час тут, і яшчэ на Сэсіі падчас выбараў, што ня маю ніякіх практычных магчымасьцяў выконваць ускладаныя абавязкі, дык канкрэтна пра высылку фармальнага й пісьмовага зрачэньня (што раней думаў зрабіць пасьля заканчэньня рэфэрэндум, перадаючы абавязкі першаму па чарзе й ліку галасоў) да Цябе я нікому не казаў, ані Кушалю, ані іншым, і Твая справа, як Ты будзеш зь ім гаспадарыць, толькі што выражаная там мая пастанова ў лісьце астаецца нязьменнай. Пару тыдняў таму званіў да мяне інж. Гарошка й гаварыў пра тое, што Савёнак, пабачыўшы ад'емны для ягонай партыі вынік галасаваньня, рэфэрэндум зусім зрокся ад Камісіі і ўсе матэрыялы перадаў яму з Дарашэвічам. Ён іх парадкаваў і пытаўся, куды высылаць. Я яму сказаў, каб выслаў у першую чаргу Табе да зазнаямленьня, а Ты ўжо будзеш ведаць, што рабіць. Дапушчаю, што ён гэтак і зрабіў.*

*Няма што паўтараць, бо яшчэ зь вясны ведаеш, што паважна брацца за справы дзеля асабіста-сямейных прычынаў на пару гадоў бадай мне немагчыма. А трымацца толькі за тытул і нічога не рабіць, гэта вельмі несалідна. Зьвяртаю яшчэ раз пры тым увагу, што сучаснае выбранае прэзыдыюм пры сучасным складзе (быццам былі выбраныя ўсе тыя самыя, што на Сэсіі ў Нью Ёрку) непрацаздольнае. Табе добра ведама, што Орсу й Манькоўскага немагчыма наагул у месца сабраць, а калі-б і ўдалося, дык гэта ня была-б ніякая пазытыўная праца ці паседжаньне, а нейкі цырк. Адзін гістэрык, другога трэба было-б яшчэ пасылаць у школу звычайнага выхаваньня абыходу з няпрыемнымі сабе людзьмі, што Манькоўскаму няведама, а што ў палітычна-грамадзкім жыцьці неабходна. За летнія месяцы яны далі тут яшчэ пару публічных сэансаў сваіх «двубояў», і нейкія паседжаньні зь імі, гэта скарэй цыркавыя былі-б прадстаўленьні. […]*

*Наагул, неабходная нутраная арганізацыйная праца ў Радзе, што ад пару гадоў зусім ня робіцца, зь вялікаю шкодаю — што цяпер і праяўляецца. Узяцца за гэта, на жаль, я не магу»*[1115].

Асабіста сямейныя справы — гэта здаванне іспытаў на ліцэнзію медыцынскага доктара ды хвароба жонкі, а ўвесь вольны час меўсяісці на адну справу — на БІНіМ.

Зрэшты, навуковая інстытуцыя, створаная Тумашам, таксама не была «адной справаю»: гэта і літаратурна-мастацкі часопіс «Конадні», заснаваны ў 1954 г., і «Запісы», выдаваныя ад 1952 г., выставы ў Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы, збор беларусістыкі. Гэта ўласныя доследы — гісторыі кніжнай культуры, а насамперш — спадчыны Францішка Скарыны. З доследаў нямала карысталі скарыназнаўцы ў СССР, не спасылаючыся, натуральна, на першакрыніцу.

---

[1115] Ліст Вітаўта Тумаша да Міколы Абрамчыка ад 06.01.1955. Захоўваецца ў архіве БІНіМа.

Апошняя праца Вітаўта Тумаша, «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны», выйшла ў 1989 г., калі ўкладальнік ўжо быў прыкаваны да ложка. Памёр скарыназнаўца 27 красавіка 1998 г.

*Лявон Юрэвіч*

## НЯЗЛОМНАЯ: НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА[1116]

Сярод вядомых беларускіх эмігрантаў XX ст. жаночых постацяў небагата. Але ёсць адна, вартая многіх. Яе імя цягам апошняга дзесяцігоддзя старанна выкрэсліваецца з метрапольных падручнікаў і даведнікаў, нягледзячы на тое, што трапіла яно туды толькі на пачатку 1990-х гг., у часы нядоўгага нацыянальнага Адраджэння. Гэтая жанчына, здаецца, стала аб'ектам няспынных нападаў афіцыйнага Мінска, нібыта на ёй адказнасць за ўсю паваенную эміграцыю. Для саміх жа эмігрантаў яна, Наталля Арсеннева, была адна з многіх — выбітная паэтка з зусім незайздросным лёсам.

У асяроддзі беларускай эміграцыі нараджалася багата міфаў. Адзін з іх, створаны даўнім прыхільнікам творчасці паэткі Антонам Адамовічам, сцвярджае, што яна мела далёкае сваяцтва з класікам рускай літаратуры Міхаілам Лермантавым. Аднак сама Наталля Арсеннева нідзе ніколі пра гэта не згадвала і ніякіх пісьмовых пацверджанняў гэткага цікавага факта не знойдзена.

Будучая паэтка нарадзілася 20 верасня 1903 г. у Баку ў сям'і начальніка Бакінскай мытнай акругі. Аднак праз пару гадоў бацьку скіравалі на іншае месца службы — у Вільню. І менавіта гэты горад Наталля Арсеннева праз усё жыццё лічыла родным. Тут яна пачала вучыцца. Спачатку навучаннем дзяцей займалася маці, і рабіла гэта так паспяхова, што, не маючы яшчэ 10 гадоў, дзяўчынка (яна была найстарэйшай з чатырох дзяцей у сям'і) паступіла адразу ў другі клас Віленскай марыінскай гімназіі. Скончыўшы тры класы, Наталля Арсеннева была вымушана перарваць навучанне праз падзеі Першай сусветнай вайны. Сям'я Арсенневых апынулася «ў бежанстве» ў Яраслаўлі, дзе перачакала рэвалюцыйныя падзеі і адкуль па сканчэнні вайны вярнулася зноў у Вільню.

Жыццё ў горадзе было галоднае. Бацька не мог уладкавацца на працу, малодшыя брат і сёстры былі яшчэ замалыя, таму Наталля мусіла падпрацоўваць разам з маці: давала дадатковыя ўрокі гімназістам. Ва ўспамінах з таго часу можна прачытаць, што нярэдка сям'я не мела грошай на ежу. *«Жылі мы вельмі дрэнна,* — пісала Арсеннева. — *Памятаю, што ўсе мы чакалі з нецярплівасцяй, калі пад вечар да мяне прыходзіў на лекцыю адзін нейкі кавалер з нашае клясы, якога я падганяла з моваў, бо ён плаціў адразу*

[1116] Тэкст быў напісаны ў межах праекта «Пантэон Беларусі» і публікаваўся на сайце: http://naviny.by/rubrics/society/2013/01/31/ic_articles_116_180694.

*за кожную лекцыю, і мы тады за гэтыя грошы куплялі хлеб на вячэру. І памятаю, як адзін раз ён не прыйшоў, бо захварэў, і мы мусілі ісьці спаць галодныя»*[1117].

Менавіта ў галоднай Вільні Наталля Арсеннева пачала пісаць. Першыя вершы былі рускамоўныя, што вызначалася зусім не сваяцтвам з рускім класікам, а тым асяроддзем, у якім дзяўчынка жыла. Сама яна згадвала, што беларускай паэткай стала ў 1920 г., калі паступіла ў Віленскую беларускую гімназію. Сярод яе настаўнікаў былі Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч, Максім Гарэцкі. Менавіта адчуваючы адмысловую сімпатыю да апошняга, 17-гадовая Наталля Арсеннева паспрабавала ўпершыню пісаць вершы па-беларуску. І ў яе атрымалася: і вершы складаліся гладка, і ўлюбёны настаўнік звярнуў увагу на таленавітую вучаніцу, вылучыў з іншых, уважліва прачытваў і даваў заўвагі да яе вершаў. Гарэцкі заўважыў у дзяўчыне паэтку, большую *«і за Цётку, і за Канстанцыю Буйла»*. Адмыслова адзначыў творчасць Наталлі Арсенневай і Антон Луцкевіч, што звычайна пісаў пра ўжо сталых літаратараў.

Адной з найлепшых Наталля Арсеннева скончыла ў 1921 г. Віленскую беларускую гімназію. Браніслаў Тарашкевіч уладкаваў яе на працу настаўніцай у адну з беларускіх пачатковых школ у Вільні. Дзяўчына пачала крыху зарабляць, сям'я стала жыць лепей. Удзень вучыла ў школе, а па абедзе хадзіла на лекцыі ва ўніверсітэт.

Яшчэ будучы гімназісткаю, Наталля Арсеннева пазнаёмілася з на восем гадоў старэйшым за яе вайскоўцам Францам Кушалем. Супольнае з ім наведванне ўніверсітэцкіх лекцый часта заканчвалася ў Бернардынскім садзеці на Замкавай гары. Не дзіва, што ўжо праз год, у верасні 1922 г. Наталля Арсеннева стала жонкай Кушаля. Маладая пара з'ехала спачатку ў Слонім, а потым на польскае Памор'е, дзе і жыла амаль да пачатку Другой сусветнай вайны.

Ужо праз два гады Наталля Арсеннева — маці двух сыноў: Яраслава і Уладзіміра і ўзорная жонка вайскоўца, занятая штодзённымі жаночымі клопатамі. Пазней паэтка згадвала: *«Быць жонкай і маці — рэч зусім для паэзіі не спрыяючая. Я часам сама дзіўлюся, што я ўсё-ж ня кінула пісаць, што пішу й да сяньня. Сямейнае жыцьцё давала мне вельмі рэдка адрывацца, аддаваць час творчасьці. Штодзённыя жыцьцёвыя клопаты не даюць часу быць аднэй, мець супакой і спакойныя, нічым не занятыя думкі, каб магчы тварыць. За кожную часіну для пісаньня мне даводзілася ходацца, кожную вытаргоўваць, аплачваць прыкрасьцю й непаразуменьнем»*[1118].

Былі гады, калі яна не напісала і колькі вершаў. Але Наталля Арсеннева працягвала займацца творчасцю. У 1927 г. у Вільні пабачыў свет яе першы

---

[1117] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 217.

[1118] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс… С. 220.

зборнік «Пад небам сінім», у другой палове 1930-х гг. быў падрыхтаваны другі — «Жоўтая восень», які так і не пабачыў свет.

Становішча жонкі польскага афіцэра давала пэўныя перавагі. Даволі добра забяспечаная матэрыяльна, Арсеннева не павінна была працаваць. Аднак адарванасць ад беларускага асяроддзя зусім не спрыяла творчасці. З часам падрасталі дзеці і паэтка атрымлівала больш магчымасцяў, каб вырвацца ў родную Вільню, адведаць сваякоў ды пачытаць свае творы ўдзячнай публіцы. Тут яна пазнаёмілася з Максімам Танкам, што адыграў у яе далейшым жыцці не апошнюю ролю.

Пачатак Другой сусветнай вайны сям'я Кушаляў сустрэла ў розных месцах: вайсковец Франц у польскім Пултуску, дзеці ў сваякоў у Дорах на Валожыншчыне, а Наталля Арсеннева ў Вільні каля хворай маці. На той час сухоты ўжо істотна зменшылі бацькоўскую сям'ю: адышлі бацька і сястра, цяпер дагарала маці. Яе хавалі 15 верасня 1939 г. у Вільні падчас нямецкай бамбардзіроўкі. На наступны дзень у Доры прыйшла савецкая ўлада. Наталля Арсеннева, баючыся быць адрэзанай ад дзяцей, пешкі пайшла да іх з Вільні. Гэта было першае з шэрагу яе далёкіх падарожжаў часоў вайны.

У часе гэтага падарожжа Арсеннева ўпершыню трапіла ў рукі НКВД ды прасядзела пяць дзён у пастарунку ў Валожыне. Забраўшы дзяцей, яна вярнулася з імі да брата ў Вільню. Аднак галоднае існаванне без грошай і без вестак ад мужа змусілі паэтку прасіць дазволу на ўезд зноў на тэрыторыю савецкай Беларусі. 31 снежня 1939 г. яна выехала ў БССР. Тут, з дапамогай Максіма Танка, пасялілася ў Вялейцы і стала працаваць у рэдакцыі мясцовай «Сялянскай газеты». Здавалася, што жыццё наладзілася. Паэтку нават запрасілі прыехаць у Мінск, дзе яна пазнаёмілася з Янкам Купалам, Змітраком Бядулем і іншымі беларускімі літаратарамі. Адным з моцных уражанняў, што засталіся ў Арсенневай ад беларускай сталіцы, было тое, як на вуліцы Алесь Кучар перасцярог гаваркога Максіма Танка: *«Не гаварыце так голасна па-беларуску, у нас гэта не прынята!»*[1119]

Праз некалькі дзён пасля гэтае паездкі жонку польскага афіцэра Наталлю Арсенневу разам з дзецьмі ды дзясяткамі іншых «ненадзейных» супрацоўнікі НКВД пасадзілі на цягнік і адправілі на Усход. Пасля 20 дзён падарожжа арыштаваных выгрузілі ў Казахстане. *«Наш вагон, усе разам, трапіў у глухую калгасную вёску Дзьмітраўку, дзясяткі кілёмэтраў (больш за 70) ад чыгункі. Тут мы доўга сядзелі на вуліцы, у пяску, ня ведаючы, што рабіць і куды ісьці. Нас проста скінулі з машынаў сярод сяла і ўсё. Калі сьцямнела, мясцовыя калгасьнікі, украінцы, пераселеныя сюды яшчэ царскім урадам, якія дагэтуль маўклівым натоўпам прыглядаліся нам здалёк, пасьмялелі, падышлі бліжэй. Тыя, што мелі мягчэйшыя сэрцы, запрапанавалі начлег»*[1120].

Пацягнуліся месяцы паўгалоднага існавання ў высылцы, у невядомасці пра лёс мужа, што апынуўся ў савецкім палоне, з няпэўнасцю ва ўласнай

---

[1119] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс… С. 226.
[1120] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс… С. 230.

будучыні ды зноў удалечыні ад Беларусі. Адзіным з сяброў-літаратараў, хто наважыўся напісаць да яе ў Казахстан, быў той самы Максім Танк. Ён жа рабіў захады па вяртанні паэткі. Невядома, ці гэтыя намаганні спрацавалі, ці ва ўладаў былі іншыя матывы, але ў лютым 1941 г. Арсенневу выклікалі на размову на Лубянку ў Маскву. Там жа ў той час знаходзіўся і яе муж, аднак пра гэта паэтка не ведала.

Былі допыты. Магчыма менавіта тады жанчына была вымушана падпісаць дакументы пра супрацоўніцтва з НКВД пад мянушкай «Казбіч». Выкарыстанне гэтае мянушкі таксама згадваюць як доказ сваяцтва Арсенневай з Лермантавым, хоць у НКВД маглі проста зрэагаваць на само прозвішча.

Пасля допытаў, прапанаваў развесціся з мужам яе адправілі зноў у Казахстан з загадам чакаць рашэння справы. Недзе праз тры тыдні пасля вяртання прыйшла пастанова пра вызваленне Арсенневай з высылкі і магчымасць ехаць у Беларусь.

Застацца з дзецьмі ў Дорах не далі. Мусіла перабрацца ў Беласток, дзе ёй зноў Максім Танк дапамог уладкавацца на працу ў рэдакцыі газеты. Аднак працаваць давялося нядоўга, праз месяц пачалася нямецка-савецкая вайна. Калі першыя бомбы ўпалі на Беласток, Арсеннева вырашыла вяртацца ў Доры, дзе засталіся сыны і куды, як выявілася, незадоўга перад тым вярнуўся Франц Кушаль.

Праз колькі месяцаў Кушалі перабраліся ў Мінск. Тут Наталля Арсеннева ўладкавалася на працу ў рэдакцыю «Беларускай газеты». Для яе, пэўна, гэта была чарговая рэдактарская праца ў айчыннай газеце. Тое самае яна рабіла раней у Вялейцы ды Беластоку. Паэтка зноў была ў нацыянальным асяроддзі і зноў змагла займацца творчасцю. Наталля Арсеннева шмат пісала, перакладала, стварала лібрэта для опер, што ставіліся ў гарадскім тэатры.

Гады жыцця ў акупаваным Мінску прынеслі ў сям’ю Арсенневай новае гора. У 1942 г. у нямецкім Лейпцыгу памёр яе брат Сяргей — апошні з блізкіх сваякоў. А потым быў дзень 22 чэрвеня 1943 г. — *«найгоршы, найцяжэйшы дзень у маім жыцьці,* — пісала яна. — *Наш Ярак, якога я так любіла, быў разарваны мінаю, падложанаю ў тэатры. Разам зь ім загінула шмат, шмат іншых. Немагчыма было, здаецца, перажыць гэтыя дні, а трэба было. І я сапраўды ня ведаю, каму я павінна дзякаваць за тую сілу, той дзіўны гарт, які даў мне перагрываць гэты час спакойна, — лёсу, Богу? Пахаваньне ахвяраў бальшавіцкага тэрору было ўрачыстае, ды я мала што памятаю. Памятаю толькі, што трунаў было 14. Памятаю, што сьвяціла сонца і што я плакала і плакалі ўсе вакол»*[1121]…

Трагедыя не зламала жанчыну, а магчыма, творчасць і была паратункам. У 1944 г. пабачыў свет новы зборнік яе вершаў «Сягоння», куды ўвайшоў і той, што стаўся ці не найбольш вядомым, — «Малітва». Пакладзены пазней на музыку Міколам Равенскім, ён стаў своеасаблівым гімнам паваеннай эміграцыі. Словамі *«Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай краіну нашу і наш*

[1121] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс… С. 246.

*народ!»* заканчваліся дый сёння заканчваюцца не толькі багаслужбы, але і шмат якія грамадскія мерапрыемствы беларусаў на Захадзе.

Улетку 1944 г. Кушалі зноў пакідалі Беларусь, гэтым разам назаўсёды. У выніку ўцякацкіх бадзянняў Наталля Арсеннева апынулася ў Берліне. Тут пад рэгулярнымі саюзніцкімі авіяналётамі яна зноў… складае вершы. І назбіралася іх на цэлы зборнік, пад назвай «Не астыць нам», які таксама асобна не выйшаў.

Цікава, як у складаных абставінах праяўляліся чалавечыя якасці Арсеневай. У разбураным горадзе ды няпэўным стане, калі невядома чым карміць сябе ды ўласнага сына, яна ўзяла на сябе клопат пра мінскага падлетка Дзмітрыя Сямёнава, што апынуўся ў Нямеччыне адзін без бацькоў. Гэтым хлопцам паэтка апекавалася ў лагерах і па заканчэнні вайны[1122].

Пасля аднаго з найбольшых бамбардаванняў Берліна Арсеннева з дзецьмі, а таксама з сем'ямі дзеяча БЦР Аўгена Каханоўскага ды кампазітара Міколы Шчаглова, вырашылі шукаць прытулку па-за нямецкай сталіцай. Зноў былі доўгія бадзянні па гарадах і мястэчках у пошуках прытулку. Урэшце спыніліся ў гарадку Амберг каля чэшскай мяжы. *«Умовы, у якіх мы, уцекачы, апынуліся, былі вельмі цяжкія. Мы спалі на падлозе, на саломе ўсе разам. Ня мелі ніколі цёплай вады, ня мелі гарачае кавы ці проста звычайнага вару раніцамі. Ледзь не галадалі. Але гумару, як і заўсёды, ня трацілі й духам ня падалі»*[1123]... Тут заспеў выгнанцаў прыход амерыканцаў, і пачалося новае жыццё.

У лагерах для перамешчаных асобаў, створаных беларусамі ў паваеннай Нямеччыне, было багата грамадскай працы. Наталля Арсеннева выкладала ў гімназіі імя Янкі Купалы, дапамагала пры падрыхтоўцы святочных пастановак, удзельнічала ў заснаванні Літаратурна-грамадскага згуртавання «Шыпшына». Вершы паэткі ў гэты час з'яўляліся ў розных беларускіх перыёдыках, на іх выхоўвалася моладзь.

У 1950 г. Кушалі пераехалі ў ЗША. Пасяліліся ў Нью-Ёрку, дзе ўсім давялося шукаць працу. І былы вайсковец Франц Кушаль, і рэдактарка Наталля Арсеннева маглі разлічваць толькі на некваліфікаваную працу. Ён пайшоў працаваць ліфцёрам, яна — закрывала слоікі з агуркамі на фабрыцы кансерваў.

У Нью-Ёрку ў 1950-х Наталля Арсеннева была даволі актыўнай. У 1952–1954 гг. яна працавала ў рэдакцыі газеты «Беларус», пазней супрацоўнічала ў нью-ёркскім офісе радыё «Свабода». Паэтка стала адной з ініцыятараў заснавання Беларускага інстытута навукі і мастацтва, была сяброўкай БАЗА, сакратаркай Прэзідыума Рады БНР. У 1952 г. яна пісала сваёй сяброўцы Яніне Каханоўскай: *«Сьвяты так хутка праляцелі, што я й не пасьпела імі нацешыцца. Заўсёды, апрача працы й хатніх клопатаў, ёсьць аб чым думаць і што рабіць. Цяпер у нас заснавалася Акадэмія (Беларускі інстытут навукі*

---

[1122] Гл.: Сямёнаў, Дзмітры. Дзённік 1943–1947. Мінск, 2012. — 334 с.
[1123] Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс… С. 256.

*й мастацтва), і я выбраная ў Урад і мушу быць сакратаром, прыбавілася яшчэ новая праца. Заўсёды нешта, апрача таго, ладзіцца. Нашае Слуцкае паўстаньне выпала сёлета незвычайна добра. Цяпер трэба думаць аб 25 Сакавіка. Канцэрты ўжо сталіся звычайным зьявішчам, і таму я думаю спрабаваць паставіць «Кастуся Каліноўскага»…»*[1124]

Прыемныя грамадскія клопаты, разнастайная, у тым ліку і літаратурная дзейнасць, спыніліся ў 1967 г. У маладым веку памерла нявестка Наталля Кушаль, пакінуўшы двух малых дзяцей. Наталля Арсеннева, каб дапамагчы сыну гадаваць іх, разам з ужо хворым мужам мусіла перабрацца далей ад Нью-Ёрка ў правінцыйны Рочэстар. Тут у хуткім часе памёр Франц Кушаль, і паэтка засталася адна ў клопатах пра сына і ўнукаў. Усе наступныя дзесяцігоддзі яна прысвяціла сям'і. Яе лісты з гэтага часу ўжо не такія аптымістычныя, як раней, поўныя штодзённых клопатаў і адзіноты.

Час ад часу, асабліва калі дзеці сталі большымі, Арсеннева магла выбірацца на вялікія імпрэзы ў Нью-Ёрк ці Таронта, менш, але ўсё яшчэ пісала. У 1979 г. намаганнямі Беларускага інстытута навукі і мастацтва выйшаў вялікі збор яе твораў пад назвай «Між берагамі», куды ўвайшлі ўсе ранейшыя выдадзеныя ды нявыдадзеныя зборнікі, а таксама пасляваенныя ды «амерыканскія» вершы.

Наталля Арсеннева была шанаваная сярод суродзічаў-эмігрантаў. Вітаўт Тумаш называў яе ў ліку найбольш значных эміграцыйных творцаў, побач з Алесем Салаўём, Масеем Сяднёвым. Яе імя і творы з аднолькавым піетэтам згадвалася ў асяроддзі прыхільнікаў як Рады БНР, так і БЦР.

Дажыла Арсеннева і да вяртання сваёй творчасці і на бацькаўшчыну. У 1991 г. выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала факсімільна яе «Пад небам сінім», у 1996 г. у серыі «Галасы беларускага замежжа» выйшаў зборнік выбраных вершаў «Яшчэ адна вясна», а ў 2002 г. том яе твораў выдаў і «Беларускі кнігазбор».

Наталля Арсеннева памерла 25 ліпеня 1997 г. і пахавана побач з мужам на беларускім могільніку ў Інст-Брансвіку ў штаце Нью-Джэрсі.

*Наталля Гардзіенка*

---

[1124] Юрэвіч, Лявон. «Трэба жыць, як набяжыць»: праўдзівая біяграфія амерыканскіх гадоў Наталлі Арсенневай // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 382.

# *РАЗДЗЕЛ VI:*
# ХРОНІКА ДЗЕЙНАСЦІ РАДЫ БНР (1946–1970)

*За аснову хронікі была ўзятая вядомая «Хроніка беларускага жыцця на чужыне» Міколы Панькова*[1125]*, якая дапоўнілася звесткамі з пратаколаў і дакументаў Рады БНР. Нельга сцвярджаць, што хроніка вычарпальна адлюстроўвае ўсе падзеі. Тым не менш, яна дае магчымасць убачыць развіццё гісторыі Рады БНР на розных этапах Прэзідэнцтва Міколы Абрамчыка.*

## 1946

**25 сакавіка** — святкаванне ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР у Парыжы з прамовай Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка. Імшу служылі а. Ф. Чарняўскі і а. У. Фінькоўскі.

**29 ліпеня** — мемарыял Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) да Мірнай канферэнцыі ў Парыжы.

**22 верасня** — пачаліся курсы беларусаведы і французскай мовы, ладжаныя Арганізацыяй беларускіх работнікаў у Францыі (АБРФ) у Парыжы; лектары інж. М. Абрамчык і інж. Л. Рыдлеўскі.

1947

**15 чэрвеня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка «Жыцьцё і дзейнасьць беларусаў у БССР у 1918–1929 гг.» у Парыжы.

**10 ліпеня — 6 жніўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Лондане і перамовы з прадстаўнікамі польскага ўраду на эміграцыі.

**13 ліпеня** — канферэнцыя Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка з беларускім актывам у Лондане.

**20 ліпеня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка «Нашыя сілы і нашыя недахопы» грамадству ў Лондане.

**30 ліпеня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка «Эканамічныя багацці Беларусі» для грамадскасці ў ЗБВБ у Лондане.

**28 (да 31?) снежня** — аднаўленчая сесія Рады БНР у Остэргофене. Прысутнічалі 72 радныя. Прынятыя Статут і Дэкларацыя.

**30 снежня** — урачыстасць угодкаў 1-га Усебеларускага кангрэса з дакладам А. Адамовіча ў Остэргофене (Нямеччына).

---

[1125] Панькоў, Мікола. Хроніка беларускага жыцця на чужыне (1945–1984). Мінск, 2001. — 332 с.

## 1948

**22 лютага** — у газеце «Бацькаўшчына» апублікаваная Дэкларацыя Рады БНР, прынятая на сесіі Рады 29.XII.1947.

**7 сакавіка** — сход аддзела ЗБВБ у Ковентры (Англія), пастанаўляе падпарадкоўвацца Радзе БНР.

**25 сакавіка** — выдадзены Маніфест Рады БНР.

**4–5 чэрвеня** — Саборык у Канстанцы, французская зона Нямеччыны, аднаўляе Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву.

**20–21 чэрвеня** — Сесія Рады БНР у Нямеччыне прымае пастанову аб беларускай вонкавай палітыцы Ураду БНР.

**21 чэрвеня** — пасяджэнне Прэзідыума Рады БНР у Остэргофене Старшыня Рады БНР Прэзідэнт М. Абрамчык, др. І. Гагалінскі, пасол А. Стагановіч, др. С. Станкевіч, палкоўнік М. Дзямідаў, др. В. Войтанка, М. Рагажэцкі, М. Міцкевіч, М. Панькоў, В. Папуцэвіч, П. Манькоўскі, М. Кунцэвіч.

**21 ліпеня** — V з'езд сяброў СББ у Льежы, пачаты багаслужбай (а. Ф. Чарняўскі) у прысутнасці Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка.

**20 жніўня** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Міхельсдорфе. Прысутнічалі: І віцэ-прэм'ер і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, ІІ віцэ-прэм'ер і міністр народнае гаспадаркі інж. М. Гарошка, міністр вайсковых спраў палкоўнік Ф. Кушаль, міністр культуры і веравызнанняў др. А. Орса, міністр фінансаў С. Кабыш, Дзяржаўны сакратар Г. Паланевіч.

**13 лістапада** — спатканне прадстаўнікоў Рады БНР і УНРады ў Аўгсбургу. Удзельнічалі: міністр замежных справаў А. Каханоўскі, сябра Рады БНР сп. У. Бортнік, Старшыня Выканаўчага органа УНРады і міністр замежных справаў праф. І. Мазепа і міністр без партфелю праф. П. Федэнка.

**19 лістапада** — спатканне прадстаўнікоў Рады БНР і эміграцыйнага ўраду Літвы ў Мюнхене. У склад дэлегацый уваходзілі: міністр замежных спраў БНР А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў БНР Ф. Кушаль, і сябра Рады БНР сп. У. Бортнік, прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў Літвы В. Сідзікаўскас, міністр інфармацыі праф. Бразайціс і консул Кальвайціс.

**20 лістапада** — спатканне прадстаўнікоў Рады БНР і ўрадавых колаў Латвіі на выгнанні ў Эслінгене. Удзельнічалі: міністр замежных спраў БНР А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў БНР Ф. Кушаль, сябра Рады БНР А. Махноўскі, міністр замежных спраў латвійскага ўраду на выгнанні Лепінш і лідар найбольшае латышскае партыі (С.-Д.) і былы міністр у розных кабінетах латвійскага Ураду Басціяніс.

**27 лістапада** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Віндышбергердорфе. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр нутраных спраў др. С. Грынкевіч, міністр культуры і веравызнанняў др. А. Орса, міністр фінансаў С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар Г. Паланевіч.

**28 лістапада — 2 снежня** — з'езд беларускіх дэлегацыяў у Парыжы і закладзіны Сусветнага аб'яднання беларускай эміграцыі (САБЭ) з цэнтрам у Парыжы: Л. Рыдлеўскі, У. Шыманец, У. Тамашчык, В. Жук-Грышкевіч,

Я. Сурвіла, М. Нікан, П. Манькоўскі, еп. Сергій (Ахатэнка), а. Ф. Чарняўскі, а. Л. Гарошка; рэвізійная камісія: А. Каханоўскі (Калубовіч), Б. Рагуля, А. Лашук, Ч. Кукель, Ю. Мурашка; суд: Л. Галяк, Ф. Кушаль, М. Міцкевіч, М. Рагажэцкі.

**4 снежня** — другое спатканне Ураду БНР з Урадам Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Мюнхене. Удзельнічалі: міністр замежных спраў БНР А. Каханоўскі, міністр нутраных спраў БНР С. Грынкевіч, сябра Рады БНР сп. У. Бортнік; прэм'ер-міністр Літвы і міністр замежных спраў сп. В. Сідзікаўскас, віцэ-прэм'ер і міністр народнай гаспадаркі др. І. Камінскас і міністр фінансаў праф. П. Карвеліс.

**25 снежня** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Віндышбергердорфе. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр культуры і веравызнанняў др. А. Орса, міністр фінансаў С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар Г. Паланевіч.

**29 снежня** — прыняты Маніфест Рады БНР да беларускага народу.

## 1949

**15 студзеня** — спатканне прадстаўнікоў Ураду БНР з прадстаўнікамі Ураду Літвы ў Мюнхене. Прысутнічалі: міністр замежных справаў БНР А. Каханоўскі, сябра Рады БНР інж. Тамашчык, прэм'ер-міністр і міністр замежных справаў Літвы В. Сідзікаўскас і віцэ-прэм'ер і міністр народнае гаспадаркі др. Я. Камінскас.

**30 студзеня** — сустрэча Прэзідэнта БНР з беларускімі студэнтамі і работнікамі ў Лювене (Бельгія).

**1 лютага** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка «Мінулае і сучаснае Беларусі» на грамадскім сходзе ў Лювене (Бельгія).

**26 лютага** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Віндышбергердорфе. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А Каханоўскі, міністр вайсковых справаў палк. Ф. Кушаль, міністр культуры і веравызнанняў др. А. Орса, міністр фінансаў сп. С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар сп. Г. Паланевіч.

**27 лютага** — створаны Каардынацыйны камітэт беларускіх арганізацыяў у Парыжы ў складзе: М. Абрамчык, а. Л. Гарошка, Я. Філістовіч, М. Наўмовіч.

**9 сакавіка** — пастанова аб стварэнні Фонду 25 сакавіка для патрэбаў Рады БНР.

**14–15 сакавіка** — пасяджэнне Прэзідыума Рады БНР у Нямеччыне.

**17–18 сакавіка** — спатканне прадстаўнікоў Рады БНР і УНРады ў г. Аўгсбургу. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і міністр замежных спраў БНР, Старшыня Выканаўчага органа УНРады праф. І. Мазепа, ягоны заступнік праф. В. Мудры, сябры Выканаўчага органа праф. П. Федэнка і др. Л. Макарушка, а таксама заступнік Старшыні Прэзідыума УНРады др. С. Вітвіцкі.

**25 сакавіка** — зварот па радыё Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка да беларускага народу.

**9 красавіка** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Віндышбергердорфе. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр нутраных спраў др. С. Грынкевіч, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, міністр культуры і веравызнанняў др. А. Орса, міністр фінансаў С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар Г. Паланевіч.

**12 красавіка** — выслана ад імя Ураду БНР падзяка епіскапу Сергію за ягоную апеку над БАПЦ.

**15 красавіка** — прыезд Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Вялікабрытанію.

**1 траўня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Беларускім доме ў Лондане пра стан сучаснага беларускага вызвольнага руху.

**23 чэрвеня** — лекцыя Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка пра жыццё дзяржавы ў БНАМ у Парыжы.

**25 ліпеня** — другое спатканне прадстаўнікоў Рады БНР з прадстаўнікамі Латвійскага ўраду ў Эслінгене.

**11 верасня** — спатканне прадстаўнікоў Радаў БНР і Украінскай Народнай Рэспублікі ў Беларускім доме ў Лондане для ўзгаднення палітычнай дзейнасці.

**3 кастрычніка** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Розенгайме. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў — мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў — Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі — А. Адамовіч, міністр фінансаў — С. Кабыш і Дзяржаўны сакратар — Г. Паланевіч.

**9–10 кастрычніка** — Чацвёртая сесія Рады БНР у Нямеччыне.

**12 кастрычніка** — пасяджэнне Прызідыума Рады БНР.

**14–15 кастрычніка** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Розенгайме. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, віцэ-прэм'ер і міністр нутраных спраў мгр. М. Кунцэвіч, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, міністр культуры і веравызнанняў А. Вініцкі, міністр планавання С. Кабыш, выконваючы абавязкі міністра фінансаў В. Кажан, Дзяржаўны сакратар Г. Паланевіч.

**17 кастрычніка** — Мемарыял паняволеных народаў Еўропы ў ААН у Парыжы. Ад беларусаў падпісалі М. Абрамчык і Л. Рыдлеўскі.

**21 кастрычніка** — інтэрв'ю Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў газеце *«La libre belgique»*.

**12 лістапада** — Прэзідэнт БНР М. Абрамчык адбыў з Вялікабрытаніі ў ЗША.

**30 лістапада** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Розенгайме. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, віцэ-прэм'ер і міністр нутраных спраў мгр. М. Кунцэвіч, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, міністр культуры і веравызнанняў А. Вініцкі, міністр планавання С. Кабыш, заступнік міністра фінансаў В. Кажан, Дзяржаўны сакратар Г. Паланевіч, сябры Прэзідыума Рады БНР П. Манькоўскі, Ч. Ханяўка і М. Міцкевіч.

**19 снежня** — хіратонія іераманаха Васіля (Тамашчыка) у епіскапы з тытулам епіскапа Віленскага ў Розенгайме.

**20 снежня** — Першы Сабор епіскапаў і міранаў у Розенгайме.

**27 снежня** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Розенгайме. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, віцэ-прэм'ер і міністр нутраных спраў мгр. М. Кунцэвіч, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, міністр культуры і веравызнанняў А. Вініцкі, міністр планавання С. Кабыш, заступнік міністра фінансаў В. Кажан, Дзяржаўны сакратар Г. Паланевіч.

У **1949 г.** пабачыла свет першая серыя марак БНР. Маркі мелі тры наміналы: 50 грошаў (з выявай Дома Рады БНР зялёнага колеру), 1 талер (з выявай В. Захаркі чырвонага колеру), 3 талеры (з выявай П. Крэчэўскага фіялетавага колеру).

## 1950

**27 студзеня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Чыкага.

**5 лютага** — зварот Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка да беларускай эміграцыі ў ЗША праз радыёстанцыю ў Чыкага.

**12 лютага** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Кліўлендзе аб сучасным становішчы беларускага вызвольнага руху.

**21 чэрвеня — 1 жніўня** — побыт Прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка ў Таронта.

**23 верасня** — Пятая сесія Рады БНР у Нью-Ёрку.

**25–26 верасня** — візіт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Вашынгтон, спатканне з прадстаўнікамі Дзярждэпартамента ЗША па справе беларускіх праграмаў на радыё «Голас Амерыкі» і іншых справах.

**1 кастрычніка** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт БНР М. Абрамчык, прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, Дзяржаўны сакратар М. Тулейка.

**5 кастрычніка** — Мемарыял аб ахвярах беларускага народу пад акупацыяй Масквы падаў у ААН Прэзідэнт БНР М. Абрамчык і вечарам выехаў з ЗША.

**21 кастрычніка** — спатканне прэм'ер-міністра БНР з прадстаўніком Вярхоўнага казацкага прадстаўніцтва ў ЗША сп. Г. Яроменка з мэтаю інфармавання аб ратыфікацыі 5-ай сесіі Рады БНР дагавору аб узаемных дачыненнях між Урадам БНР і Вярхоўным казацкім прадстаўніцтвам.

**22 кастрычніка** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка пра жыццё беларусаў у Амерыцы ў Парыжы.

**22 кастрычніка** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, Дзяржаўны сакратар М. Тулейка.

У **кастрычніку** 1950 г. выйшла брашура М. Абрамчыка *I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military Prosecutors and N.K.V.D. of the U.S.S.R* (36 старонак) была выдадзена ў Таронта на сродкі Згуртавання беларусаў Канады

**3–8 лістапада** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Бельгіі.

**3 снежня** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, Дзяржаўны сакратар М. Тулейка.

У **1950 г.** былі выдадзеныя яшчэ 8 марак БНР: варыянты першых трох у іншых колерах, а таксама два новыя наміналы: 25 грошай (з выявай Пагоні) і 10 грошай (з выявай мапы Беларусі).

## 1951

**1 студзеня** — паседжанне Рады міністраў БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, Дзяржаўны сакратар мгр. П. Манькоўскі.

**1 студзеня** — выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня «Весткі БНР»; рэд. В. Пануцэвіч (Чыкага).

**7 студзеня** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, Дзяржаўны сакратар мгр. П. Манькоўскі.

**14 студзеня** — пасяджэнне Амерыканскага сектара Рады БНР у Нью-Ёрку.

**28 студзеня** — пасяджэнне Рады міністраў БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: прэм'ер-міністр і міністр замежных спраў мгр. А. Каханоўскі, міністр вайсковых спраў Ф. Кушаль, міністр прэсы і інфармацыі А. Адамовіч, Дзяржаўны сакратар мгр. П. Манькоўскі.

**8 красавіка** — пленум Нью-ёркскага сектара БНР, на якім большасцю галасоў была прынятая прапанова ў справе Вільні, што выклікала зацяжное апазіцыйнае змаганне да адмены прапановы.

**3–17 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Рыме.

**15 траўня** — аўдыенцыя Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Папы Пія XII.

**22 кастрычніка** — у Нью-Ёрк прыбыў Прэзідэнт БНР М. Абрамчык.

**28 кастрычніка** — адбылося першае пасяджэнне Шостай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 41 радных. Старшыня пасяджэння А. Махноўскі, заступнік Прэзідэнта БНР. Сакратары: В. Кендыш і А. Шукелойць.

**7 лістапада** — канферэнцыя Савету вызвалення народаў Расіі ў Вісбадэне, дзе была падпісана адмысловая дэкларацыя аб супрацоўніцтве паміж пяццю расійскімі арганізацыямі і некаторымі нацыянальнымі групамі паняволеных народаў. Ад імя беларусаў подпіс паставіў Б. Рагуля. Рада БНР афіцыйна адмежавалася ад гэтага дакумента.

**21 лістапада** — выдадзены Камунікат пра стварэнне Нацыянальнага блоку абароны незалежнасці і непадзельнасці і яго фракцыі ў Радзе БНР.

**11 лістапада** — Другое пасяджэнне Шостай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 35 радных.

**25 лістапада** — Трэцяе пасяджэнне Шостай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 36 радных.

**8–10 снежня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Канадзе.

**11 снежня** — Мемарыял ад імя Шостай сесіі Рады БНР прадстаўніцтвам некамуністычных краінаў у ААН у Нью-Ёрку, пададзены Прэзідэнтам БНР М. Абрамчыкам.

**Снежань** — спатканне і перамовы Прэзідэнта Рады БНР М. Абрамчыка з др. М. Шчорсам аб каардынацыі дзейнасці БНР і БЦР. Скончылася безвынікова.

## 1952

У **студзені** выйшаў № 1 інфармацыйнага бюлетэня «Бэянэравец»; рэд. К. Акула, выдавецтва «Авангард Беларусі» (Таронта).

**3 лютага** — Чацвёртае пасяджэнне Шостай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 35 радных.

**16 сакавіка** — Пятае пасяджэнне Шостай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 39 радных.

**24 сакавіка** — зварот Я. Варонкі і Я. Чарапука-Змагара (былых міністраў Ураду БНР) да беларусаў свету.

**25 сакавіка** — беларуская аўдыцыя са зваротам Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка «Да беларускага народу» праз іспанскую радыёстанцыю з Мадрыда.

**16–21 красавіка** — інфармацыйны даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Парыжы пра жыццё і дзейнасць беларусаў ЗША і Канады.

**18 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка з жонкаю (Н. Абрамчык) у гасцях у лювенскіх студэнтаў.

**31 траўня — 2 чэрвеня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**6 чэрвеня** — памёр у Чыкага былы прэм’ер ураду БНР Я. Варонка.

**19–21 чэрвеня** — удзел беларускай дэлегацыі ў Штэрнбэргскай канферэнцыі Амерыканскага камітэта: Б. Рагуля, Я. Жытка, С. Станкевіч, У. Цвірка.

**Чэрвень** створаны з ініцыятывы Прэзідэнта БНР штучны Беларускі антыбальшавіцкі фронт (БАФ) у Мюнхене: Я. Жытка і У. Цвірка;

**28 верасня** — камунікат Замежнага сектара БНЦ пра свае адносіны да Рады БНР.

**10–18 кастрычніка** — удзел БАФ у канферэнцыі (6 нерасейскіх і 4 расейскія) арганізацыяў, што прынялі Статут Каардынацыйнага цэнтра антыбальшавіцкай барацьбы (КЦАБ) у Мюнхене.

**26 кастрычніка** — пашыранае пасяджэнне Прэзідыума Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: А. Адамовіч, В. Кажан, Я. Станкевіч, В. Дубоўскі,

Л. Галяк, М. Гарошка, Г. Паланевіч, Л. Савёнак, А. Орса, М. Дарашэвіч, А. Шукелойць, А. Махноўскі, П. Манькоўскі і М. Панькоў.

**9–11 лістапада** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Лювене.

**8–17 снежня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Канадзе.

**10 снежня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Таронта пра прабег Шостай сесіі Рады БНР.

## 1953

**11–14 студзеня** — удзел беларусаў у канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, а. Л. Гарошка, С. Станкевіч, У. Сядура.

**14–16 лютага** — канферэнцыя прадстаўнікоў Рады БНР, Грузінскай Нацыянальнай Рады і Украінскай Нацыянальнай Рады ў справе супрацоўніцтва з антыбальшавіцкім цэнтрам і заснаванне Парыжскага блоку ў Карлсруэ.

**7–8 сакавіка** — надзвычайны з'езд дэлегатаў і ўпаўнаважаных БАФ у Лондане.

**20–22 сакавіка** — удзел у канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР і даклад А. Адамовіча ў Нью-Ёрку.

**22 сакавіка — 2 красавіка** — канферэнцыя дэлегатаў нацыянальных прадстаўніцтваў на эміграцыі Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Беларусі, Паўночнага Каўказа і Украіны ў Парыжы. Канферэнцыя выпрацавала супольны мемарандум да Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму, а таксама план супольных дзеянняў у змаганні за вызваленне народаў СССР.

**22 сакавіка** — дэлегацыя нацыянальных цэнтраў паняволеных народаў СССР у адмірала Стывэнса, кіраўніка Амерыканскага камітэта ў Мюнхене.

**10 траўня** — першае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: спадар Прэзідэнт М. Абрамчык і 36 радных.

**31 траўня — 1 чэрвеня** — канферэнцыя ўдзельнікаў папярэдняй Парыжскай канферэнцыі і КЦАБа, мэтай якой была выпрацоўка прынцыпаў стварэння новага супольнага цэнтра антыбальшавіцкай барацьбы. У выніку канферэнцыі ў КЦАБе адбыўся раскол, частка расійскіх групаў на чале з Керанскім выказала пратэст супраць паразумення з Парыжскай групай і заснавала КЦАБ-2.

**17 чэрвеня** — канферэнцыя ў Мюнхене, на якой паўстаў Міжнацыянальны антыбальшавіцкі каардынацыйны цэнтр (МАКЦ) у выніку пагаднення прадстаўнікоў экзільных урадаў Парыжскага пагаднення, нерасійскіх народаў КЦАБа, а таксама расійскіх Лігі змагання за народную свабоду Б. Нікалаеўскага і Саюза барацьбы за вызваленне народаў Расіі (СБОНР).

**17 ліпеня** — канферэнцыя прадстаўнікоў КЦАБ і МАКЦ у Мюнхене. Ад беларусаў: М. Абрамчык, Б. Рагуля, С. Станкевіч.

**15–17 жніўня** — удзел беларусаў у канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, С. Станкевіч, У. Сядура.

**18 верасня** — спатканне Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка і Прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага ў Мюнхене (без вынікаў).

**19 верасня** — спатканне Прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага і заступніка Прэзідэнта М. Абрамчыка Б. Рагулі ў Мюнхене (без вынікаў).

**14 кастрычніка** — прыбыў у Нью-Ёрк з Еўропы Прэзідэнт БНР М. Абрамчык.

**7 лістапада** — другое пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутныя: Прэзідэнт М. Абрамчык і 37 радных.

**8 лістапада** — трэцяе пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутныя: Прэзідэнт М. Абрамчык і 39 радных.

**28 лістапада** — чацвёртае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутныя: Прэзідэнт М. Абрамчык і 31 радны.

**29 лістапада** — пятае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутныя: Прэзідэнт М. Абрамчык і 31 радны.

**4–5 снежня** — беларуская дэлегацыя на канферэнцыі «Псіхалагічнай вайны» ў Вашынгтоне: Прэзідэнт М. Абрамчык, В. Жызнеўская-Рамук, П. Манькоўскі, А. Русак, др. М. Шчорс, В. Чабатарэвіч, а. М. Лапіцкі.

**20 снежня** — шостае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 33 радных.

## 1954

**10 студзеня** — сёмае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 34 радных.

**24 студзеня** — восьмае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 36 радных.

**31 студзеня** — дзявятае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 25 радных.

**14 лютага** — дзясятае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 27 радных.

**7 сакавіка** — адзінаццатае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 31 радны.

**14 сакавіка** — гадавіну існавання Парыжскага блоку адзначылі прыхільнікі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**23 сакавіка** — азербайджанцы, грузіны, татары, каўказцы і туркмены перадавалі праз радыёстанцыю «Вызваленне» з Мюнхена ў свае краіны інфармацыю аб святкаванні Акту незалежнасці БНР (рускія адмовіліся).

**26 сакавіка** — прамова паўнамоцнага міністра Славакіі, прысвечаная Акту 25 Сакавіка, перадавалася іспанскім радыё з Мадрыда.

**3–4 красавіка** — удзел беларускіх навукоўцаў у канферэнцыі «Акадэмічная свабода» ў Нью-Ёрку, ладжанай Інстытутам вывучэння СССР.

**4 красавіка** — дванаццатае пасяджэнне Сёмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт БНР М. Абрамчык і 29 радных.

**8 красавіка** — Прэзідэнт БНР М. Абрамчык выехаў з Нью-Ёрка ў Еўропу.

**30 красавіка** — зварот да ўдзельнікаў Жэнеўскай канферэнцыі прадстаўнікоў народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы, падпісаны таксама ад імя Рады БНР Прэзідэнтам М. Абрамчыкам.

**1–21 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**6 траўня** — канферэнцыя Парыжскага блоку ў Мюнхене. Абмяркоўвалася пытанне стаўлення да новай ініцыятывы Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму

**14 траўня** — сход радных Нямецкага сектара Рады БНР у Мюнхене апрабоўвае дзейнасць Прэзідэнта М. Абрамчыка.

**20 траўня** — пачатак штодзённых радыёперадачаў на Беларусь беларускай секцыяй радыё «Вызваленне» з Мюнхена.

**21 чэрвеня** — Мемарыял пра бальшавіцка-маскоўскі генацыд над беларускім народам складзены ў Камісію Керстана Амерыканскага Кангрэса ў Мюнхене.

**1 ліпеня** — сведчанні Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка, Я. Ліманоўскага, др. Я. Станкевіча і іншых у Камісіі Амерыканскага Кангрэса ў Мюнхене пра злачынствы бальшавікоў у Беларусі.

**5–7 ліпеня** — удзел беларускай дэлегацыі ў канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, а. Л. Гарошка, Прэзідэнт БНР М. Абрамчык, С. Станкевіч, А. Марговіч.

**1 жніўня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка аб прабегу Сёмай сесіі Рады БНР беларускаму грамадству ў Парыжы.

**1–2 верасня** — канферэнцыя Парыжскага блоку ў Парыжы: старшыня М. Абрамчык, С. Тэр-Тумасьян, С. Доўгаль.

**7 верасня** — загадкавая смерць маладога беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, супрацоўніка беларускай секцыі радыё «Вызваленне» Леаніда Карася ў Мюнхене.

**26 верасня — 4 кастрычніка** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**11–19 снежня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Вялікабрытаніі.

## 1955

**25–27 красавіка** — удзел беларускай групы ў канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, В. Жук-Грышкевіч, А. Яловіч, В. Кісель.

**16 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**Травень** — выйшаў № 1 «Беларускага зборніка» Інстытута вывучэння гісторыі і культуры СССР, рэд. С. Станкевіч (Мюнхен).

**15 ліпеня** — Мемарыял урадам ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі ў справе палітыкі суіснавання з СССР, падпісаны прадстаўнікамі Рады БНР і УНРады.

**28–30 ліпеня** — канферэнцыя Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, С. Станкевіч, П. Урбан.

**7–12 кастрычніка** — канферэнцыя Парыжскага блоку ў Мюнхене: М. Абрамчык, У. Бортнік.

## 1956

**15 студзеня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка аб сённяшнім жыцці ў БССР у сядзібе АБРФ у Парыжы.

**11–19 лютага** — канферэнцыя Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) у Мюнхене; удзельнікі: М. Абрамчык, С. Станкевіч, У. Бортнік, У. Цвірка.

**25 сакавіка** — прамова Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка на банкеце ў Англа-беларускім таварыстве ў Лондане.

**7 траўня** — спатканне Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка з дэпутатамі Брытанскага парламента ў Лондане.

**8 траўня** — даклад Прэзідэнта БНР у Беларускім доме ЗБВБ у Лондане аб сучасным стане вызвольнага змагання.

**28 ліпеня — 6 жніўня** — канферэнцыя Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) у Мюнхене.

**12 верасня** — пасяджэнне Канадскага сектара Рады БНР у Таронта.

**23 верасня** — першае пасяджэнне Восьмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**27 верасня** — прэсавая канферэнцыя Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў гатэлі «Камандор» у Нью-Ёрку.

**7 кастрычніка** — другое пасяджэнне Восьмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**14 кастрычніка** — трэцяе пасяджэнне Восьмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**21 кастрычніка** — чацвёртае пасяджэнне Восьмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**18 лістапада** — пятае пасяджэнне Восьмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**5 снежня** — Мемарыял Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) 45-й Канферэнцыі Міжпарламентарнай Уніі ў Бангкоку (Тайланд).

**8 снежня** — пасяджэнне Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Старшыня Рады БНР М. Абрамчык, першы заступнік А. Стагановіч, другі заступнік А. Адамовіч, сакратар нутраных спраў К. Мярляк, сакратар вонкавых сувязяў на ЗША М. Тулейка, сакратар інфармацыі А. Шукелойць, скарбнік В. Кажан і сакратар Н. Арсеннева (Кушаль).

**16 снежня** — шостае пасяджэнне Восьмай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**16 снежня** — пасяджэнне Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР у Нью-Ёрку.

## 1957

**12 студзеня** — пасяджэнне Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР у Нью-Ёрку.

**10 лютага** — сход прыхільнікаў БНР у Чыкага: М. Дзямідаў, М. Чыгрын, А. Лосіч, Ч. Будзька, В. Пануцэвіч і інш.

**24 лютага** — інтэрв’ю Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў «Бацькаўшчыне». Прэзідыум Рады БНР аб’яднаны з Урадам БНР: М. Абрамчык — Прэзідэнт і міністр вонкавых спраў, А. Адамовіч і А. Стагановіч — заступнікі Прэзі-

дэнта і адначасова кіраўнікі сектарамі і сакратарыятам, К. Мерляк — міністр нутраных спраў, кожнаразовы старшыня БАЗА, кіраўнік вонкавымі сувязямі ў ЗША, А. Шукелойць — міністр прэсы і інфармацыі, Н. Арсеннева — загадчыца Сакратарыята Рады.

**6 жніўня** — заканчэнне канферэнцыі па пытаннях падзеяў у Вугоршчыне, арганізаванай Парыжскім блокам у Мюнхене.

**7 лістапада** — прэс-канферэнцыя Міколы Абрамчыка, старшыні Парыжскага блоку ў гатэлі «Балтымар» у Нью-Ёрку.

**16 лістапада** — памёр у Чыкага вядомы беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, сябра даваеннай Рады БНР Я. Чарапук-Змагар.

## 1958

**7 студзеня** — беларуская дэлегацыя (К. Мерляк і Я. Запруднік) у Белым Доме ў Вашынгтоне (ЗША) з дамаганнямі беларускамоўных радыёперадачаў на Беларусь з радыёстанцыі «Голас Амерыкі».

**1 лютага** — з мэтай аб’езду беларускіх асяродкаў прыбыў у Нью-Ёрк Прэзідэнт БНР М. Абрамчык.

**24 сакавіка** — малітва за Беларусь і беларускі народ у Сенаце і Кангрэсе ЗША: яп. Васіля (Тамашчыка) і К. Мерляка ды а. Ф. Чарняўскага і Ф. Бартуля з прыняццем у Белым Доме віцэ-прэзідэнтам ЗША Р. Ніксанам.

**25 сакавіка** — Маніфест Рады БНР да беларускага народу на Бацькаўшчыне.

**30 сакавіка** — прамова Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка на сходзе грамады ў Нью-Ёрку.

**26–28 красавіка** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Кліўлендзе.

**27 красавіка** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Царкоўным доме ў Кліўлендзе аб сітуацыі ў БССР і дзейнасці Рады БНР у вольным свеце.

**16 траўня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка на пасяджэнні сектара Рады БНР у Грамадскім цэнтры ў Брукліне (прысутнічала 35 радных) аб стане вызвольнага змагання.

**21 траўня** — Прэзідэнт БНР М. Абрамчык выехаў у Еўропу.

**25–26 ліпеня** — беларускія вучоныя на канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, М. Абрамчык, а. Л. Гарошка, С. Кабыш (Кандыбовіч) і інш.

**27–31 ліпеня** — канферэнцыя Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) у Мюнхене; старшыня М. Абрамчык.

**19 кастрычніка** — справаздачна-выбарчы сход сяброў сектара Рады БНР у Нью-Ёрку. Кіраўніцтва: К. Мерляк, Ф. Родзька, У. Русак, А. Протас.

**1 лістапада** — справаздачна-выбарчы сход падсектара Рады БНР у Нью-Брансвіку: В. Стома, Я. Азарка.

**27 лістапада — 2 снежня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**8 снежня** — пачатак штодзённых беларускамоўных радыёперадачаў на Беларусь на іспанскім дзяржаўным радыё з Мадрыду, кіраўнік В. Сянкевіч.

## 1959

**14–23 студзеня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**17 траўня** — прамова Прэзідэнта БНР на з’ездзе ЗБВБ у Лондане.

**27–30 траўня** — IV Пленум Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) у Мюнхене; старшыня М. Абрамчык.

**24–25 ліпеня** — удзел беларусаў у навуковай канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, а. Ч. Сіповіч, А. Марговіч.

**29–30 ліпеня** — канферэнцыя Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) у Мюнхене; старшыня М. Абрамчык.

**3 жніўня** — дэлегацыя Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) у Вашынгтоне: д-р С. Вітвіцкі, К. Мярляк, В. Глазкоў.

**9–17 лістапада** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

## 1960

**9 траўня** — уручаныя мемарыялы Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) Прэзідэнтам ЗША, Францыі і прэм’ер-міністру Вялікабрытаніі.

**22 траўня** — дакладам Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка «Сучаснае палажэнне ў БССР» пачалася Дзявятая сесія Рады БНР у Беларускім грамадскім цэнтры ў Брукліне.

**26 траўня — 2 чэрвеня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Канадзе.

**2–6 чэрвеня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка (банкет, нарады, даклады) у Чыкага.

**12 чэрвеня** — другое пасяджэнне Дзявятай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутныя: Прэзідэнт М. Абрамчык і 29 радных.

**19 чэрвеня** — трэцяе пасяджэнне Дзявятай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку.

**26 чэрвеня** — заканчэнне Дзявятай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Урад: Прэзідэнт М. Абрамчык, намеснікі: А. Адамовіч, А. Стагановіч, міністр унутраных спраў К. Мерляк, інфармацыі і прэсы А. Шукелойць, скарбнік В. Кажан, суседскіх дачыненняў др. В. Тумаш, В. Кендыш, Я. Запруднік, сакратар Н. Арсеннева.

**28 ліпеня — 10 жніўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**15 верасня** — Мемарандум Ураду БНР дэлегацыям-удзельнікам сесіі ААН у Парыжы супраць бальшавіцкага паняволення і гвалту ў Беларусі.

**27–29 кастрычніка** — удзел беларускіх даследчыкаў у канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене.

27 кастрычніка — 2 лістапада — IX канферэнцыя Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) у Мюнхене.

## 1961

**21–31 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**25–28 ліпеня** — удзел беларускіх прадстаўнікоў у навуковай канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене.

**3 снежня** — пасяджэнне сектара Рады БНР у Брукліне.

## 1962

**10 студзеня** — прыбыў у ЗША Прэзідэнт БНР М. Абрамчык.

**15 лютага** — выбраны новы склад Ураду БНР: Ф. Кушаль, В. Кендыш, Я. Запруднік і В. Кажан.

**2–5 сакавіка** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Чыкага.

**8 красавіка** — вызначана кіраўніцтва Рады БНР у ЗША: др. У. Набагез, Я. Запруднік, А. Шукелойць (40 радных).

**30 красавіка** — Прэзідэнт БНР М. Абрамчык зацвердзіў Урад БНР на выгнанні ў складзе: Ф. Кушаль, В. Кендыш, Я. Запруднік, В. Кажан.

**3–13 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Нямеччыне.

**14–15 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Бельгіі.

**16–24 траўня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Вялікабрытаніі.

**19 траўня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Лондане па запрашэнні Польскай Нацыянальнай Рады «Беларускі вызвольны рух на сучасным этапе».

**7 ліпеня** — Х канферэнцыя Парыжскага блоку і Амерыканскага камітэта ў Мюнхене; кіраўніцтва: М. Абрамчык, А. Кантэмір, Н. Цынцадзэ. Беларускія ўдзельнікі: а. А. Смаршчок, У. Бортнік, Ю. Сянкоўскі, У. Цвірка).

**5–6 лістапада** — удзел беларускай дэлегацыі ў канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, а. Л. Гарошка, Ю. Сянкоўскі, У. Сядура.

**1–2 снежня** — удзел беларускіх прадстаўнікоў у працы канферэнцыі Міжнароднай вольнай акадэміі навук і літаратуры ў Парыжы.

**23 снежня** — злучанае пасяджэнне Сакратарыята Рады БНР і Прэзідыума сектара Рады БНР у ЗША. Прысутнічалі: Ф. Кушэль, А. Адамовіч, В. Кендыш, В. Кажан, А. Шукелойць, В. Русак.

## 1963

**16–19 ліпеня** — удзел беларускіх прадстаўнікоў у канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене: А. Адамовіч, еп. Ч. Сіповіч, У. Цвірка

**20 кастрычніка** — пашыранае пасяджэнне Прэзідыума і Ураду БНР. Прысутнічалі: Ф. Кушэль, А. Стагановіч, А. Адамовіч, В. Кендыш, В. Кажан, А. Шукелойць, М. Тулейка, В. Русак.

**7–8 снежня** — даклад Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка на канферэнцыі Міжнароднай вольнай акадэміі навук і літаратуры ў Парыжы.

## 1964

**1–15 лютага** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**1 сакавіка** — пашыранае пасяджэнне Прэзідыума і Ураду БНР. Прысутнічалі: Ф. Кушаль, А. Адамовіч, В. Кендыш, архіепіскап Васіль, др. С. Станкевіч, М. Кунцэвіч, др. У. Набагез, А. Шукелойць, В. Русак.

**13–14 ліпеня** — удзел беларускіх прадстаўнікоў у канферэнцыі Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене.

## 1965

**25 сакавіка** — зварот да беларускае эміграцыі Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка.

## 1966

**9 студзеня** — паседжанне Канадскага сектара Рады БНР: старшыня В. Жук-Грышкевіч.

**24 красавіка** — пасяджэнне Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР. Прысутныя: Ф. Кушаль, В. Кендыш, М. Кунцэвіч, А. Шукелойць, В. Русак, Уладыка Васіль.

**5–28 кастрычніка** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Мюнхене.

## 1967

**23 траўня** — памёр у Чыкага М. Дзямідаў, вайсковы і грамадскі дзеяч з часоў даваеннага Ураду БНР.

**3 снежня** — пасяджэнне Канадскага сектара Рады БНР у Таронта.

**30 снежня** — у Нью-Ёрк прыбыў Прэзідэнт БНР М. Абрамчык.

## 1968

**1 студзеня** — заклік-абежнік Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка «1968 год — юбілейны год БНР».

**23 студзеня** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Канадзе.

**4 лютага** — нарада Канадскага сектара Рады БНР пад кіраўніцтвам Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Таронта.

**24 лютага** — Прэзідэнт БНР М. Абрамчык выступае за стварэнне Лігі БНР у Лондане (Канада).

**1 сакавіка** — Дэкларацыя Рады БНР.

**2–5 сакавіка** — побыт Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Чыкага.

**31 сакавіка** — банкет у гонар Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка (25-годдзе прэзідэнцтва) ладзіў у Нью-Брансвіку арганізацыйны камітэт: Уладыка Васіль (Тамашчык), др. У. Набагез, А. Стагановіч, С. Станкевіч, С. Гутырчык.

**13 красавіка** — пасяджэнне Дзясятай сесіі Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутнічалі: Прэзідэнт М. Абрамчык і 30 радных з Нью-Ёрка, Нью-Брансвіка, Кліўленда, Дэтройта і Канады.

**12 траўня** — урачыстая багаслужба з нагоды фэсту царквы Св. Кірылы Тураўскага і банкет у сувязі з ад’ездам Прэзідэнта БНР М. Абрамчыка ў Еўропу ў прысутнасці Уладыкі Ч. Сіповіча.

## 1969

**30 сакавіка** — канферэнцыя Лігі вызвалення народаў СССР (Парыжскага блоку) пад старшынствам М. Абрамчыка ў Мюнхене.

**19 красавіка** — злучанае пасяджэнне Прэзідыума і Сакратарыята Рады БНР у Нью-Ёрку. Прысутныя: Др. В. Жук-Грышкевіч (першы заступнік Прэзідэнта БНР), А Адамовіч (сябра Прэзідыума), А Шукелойць (сябра Прэзідыуму), Я. Запруднік (сябра Сакратарыята), В. Кажан (сябра Сакратарыята), В. Русак (сакратар Прэзідыума).

**15 лістапада** — пасяджэнне Прэзідыума і Ураду БНР у Нью-Ёрку. Прысутныя: першы заступнік Старшыні Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч, А. Адамовіч, Др. Я. Запруднік, В. Русак і Др. Ст. Станкевіч — госць.

## 1970

**29 траўня** — памёр у Парыжы Прэзідэнт БНР М. Абрамчык.

# СЛОЎНІК СКАРОТАЎ

**АБН** — Антыбальшавіцкі блок народаў
**АБНД** — Аб’яднанне беларускіх нацыянал-дэмакратаў
**АБРФ** — Аб’яднанне беларускіх работнікаў у Францыі
**АК / АмКам / АмКамітэт** — Амерыканскі камітэт вызвалення народаў Расіі (пазней Амерыканскі камітэт вызвалення ад бальшавізму, Амерыканскі камітэт вызвалення)
**АЛАН** — Антыбальшавіцкая ліга аслабанення народаў
**АУН** (укр. ОУН) — Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў
**БАЗА** — Беларуска-амерыканскае задзіночанне
**БАКА «Рунь»** — Беларускае акадэмічнае каталіцкае аб’яднанне «Рунь»
**БАПЦ** — Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква
**БАФ** — Беларускі антыбальшавіцкі фронт
**БВФ** — Беларускі выдавецкі фонд
**БІНіМ** — Беларускі інстытут навукі і мастацтва
**БКА** — Беларуская краёвая абарона
**БККА** — Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі
**БНАМ** — Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі ў Парыжы
**БНК** — Беларускі нацыянальны камітэт
**БНП** — Беларуская незалежніцкая партыя
**БНС** — Беларуская народная самапомач
**БНЦ** — Беларускі нацыянальны цэнтр
**БСРГ** — Беларуская сялянска-работніцкая грамада
**БХАА «Жыццё»** — Беларускае хрысціянскае акадэмічнае аб’яднанне «Жыццё»
**БЦР** — Беларуская Цэнтральная Рада
**ЗБВ** — Задзіночанне беларускіх ветэранаў
**ЗБВБ** — Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі
**ЗГА / ЗГПА / ЗШПА** — Злучаныя Штаты Амерыкі (Злучаныя Гаспадарствы Амерыкі, Злучаныя Гаспадарствы Паўночнай Амерыкі, Злучаныя Штаты Паўночнай Амерыкі)
**ЗН / АЗН / ААН** — Арганізацыя Аб’яднаных Нацый (Злучаныя Нацыі, Арганізацыя Злучаных Нацый)
**ІС** — Інтэрнацыянал свабоды.
**КК** — Кантрольная камісія (Рады БНР)
**КНОД** — Казацкі нацыянальны вызваленчы рух
**КОНР** — Камітэт вызвалення народаў Расіі
**КЦАБ** — Каардынацыйны цэнтр антыбальшавіцкай барацьбы

**ЛЦР** — Латвійская Цэнтральная Рада
**МАКЦ** — Міжнацыянальны антыбальшавіцкі каардынацыйны цэнтр
**МВС** — Міністэрства вайсковых спраў (БНР)
**МЗС** — Міністэрства замежных спраў (БНР)
**МНС** — Міністэрства нутраных спраў (БНР)
**МПІ** — Міністэрства прэсы і інфармацыі (БНР)
**НБАНіНБ** — Нацыянальны блок абароны незалежнасці і непадзельнасці Беларусі
**НРС** — Новае рускае слова
**НТС** — Народна-працоўны саюз
**РЗПЦ** — Руская зарубежная праваслаўная царква
**РНД** — Расійскі народны рух
**САБЭ** — Сусветнае аб’яднанне беларускай эміграцыі
**СББ** — Саюз беларусаў Бельгіі
**СБМ** — Саюз беларускай моладзі
**СБОНР** — Саюз барацьбы за вызваленне народаў Расіі
**СБСР** — Саюз змагання за свабоду Расіі
**СОНР** — Савет вызвалення народаў Расіі
**УАПЦ** — Украінская аўтакефальная праваслаўная царква
**УВА** — Украінская вызвольная армія
**УВР** — Украінскі вызвольны рух
**УГВР** — Украінская галоўная вызвольная рада
**УКК** — Украінскі кангрэсавы камітэт Амерыкі
**УНР** — Украінская Народная Рэспубліка
**УНРада** — Украінская Нацыянальная Рада
**ФК** — Федэральны клуб
**ХАБР** — Хрысціянскае аб’яднанне беларускіх работнікаў
**ЦБСА** — Цэнтраля беларускіх студэнцкіх арганізацый на чужыне
***DP (Displaced person)*** — перамешчаная асоба
***IRO (International Refugee Organization)*** — Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў
***UNRRA (United Nations Relief and Rehabilitation Administration)*** — Адміністрацыя Арганізацыі Аб’яднаных Нацый па дапамозе і аднаўленні.

# ІМЕННЫ ПАКАЗНІК

# ЗМЕСТ

Навукова-папулярнае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 22

**Гардзіенка** Наталля, **Юрэвіч** Лявон

# Рада БНР (1947–1970):
*Падзеі. Дакументы. Асобы*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Наталля Гардзіенка
Вёрстка Ларысы Ваўчок
Дызайн вокладкі Анатоля Лазара
Карэктар Алена Лянкевіч

Падпісана да друку 30.10.2013. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 37,67. Ул.-выд. арк. 40,7.
Наклад 300 асоб. Замова 578.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33,
тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.